# АРХЕАЛОГІЯ БЕЛАРУСІ

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ Ў ДВУХ ТАМАХ



## 2
## ТОМ

## Л – Я

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2011

УДК 902/904(476)(031)
ББК 63.4(4Беи)я2
А87

Выданне выходзіць з 2009 года



**Навуковыя кансультанты:**
*Дз.У. Дук, Ю.А. Заяц, В.Л. Лакіза, А.М. Макушнікаў*

Складальнік *Ю.У. Каласоўскі*

У кнізе змешчаны фотаматэрыялы з архіва выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», фотаздымкі аўтараў артыкулаў

Выпуск ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**ISBN 978-985-11-0549-2 (т. 2)**
**ISBN 978-985-11-0353-5**



**ЛАБЭ́НШЧЫНА**, Лабеншчына, археалагічны помнік — гарадзішча культуры позняй штрыхаванай керамікі каля в. Лабэншчына Мінскага р-на. За 0,4 км на З ад вёскі, на левым беразе ручая Крыніца (левы прыток р. Свіслач), на стрэлцы доўгага мыса, утворанага 2 ярамі і поймай ручая. Пляцоўка — авальнай формы, памерамі 42 х 68 м, выш. 12—14 м. З усх. напольнага боку 3 дугападобныя валы і 2 равы, з паўн.-зах.— 2 валы і роў. Выш. знешніх валоў 0,5—0,7 м, унутранага ўсх.— 2,2 м. Адкрыў у 1926 А.Дз.Каваленя. У 1927 А.М.Ляўданскі заклаў траншэю 1 × 62 м, у якой выявіў рэшткі печы-домніцы, шматлікія абломкі штрыхаванай керамікі, жал. вырабы (шылы, нажы, сярпы, шпількі), гліняныя праслiцы. У 1950—52 А.Р.Мітрафанаў даследаваў 900 м². Вызначана, што на пачатковай стадыі існавання паселішча было слаба ўмацаваным, паўд. і ўсх. часткі пляцоўкі выкарыстоўваліся для пражывання. На рубяжы эр паселішча загінула ў пажары, пасля чаго было істотна перабудавана: пляцоўка пашырылася за кошт скідання культ. слоя на схілы, з'явіліся драўляна-земляныя ўмацаванні. Выяўлены рэшткі 5 наземных жытлаў слупавой канструкцыі. Два з іх, лепшай захаванасці, мелі памеры 4,5 × 9,5 м і 4 × 8,3 м. Ацяпляліся ачагамі круглай або авальнай формы, абкладзенымі па краях гліняным валікам ці камянямі. Памеры ачагоў 0,9 × 1,35—1,1 × 1,4 м. У ніжніх гарызонтах культ. слоя пераважаў гаршкападобны посуд з высокім прамым, адагнутым вонкі венчыкам, круглым ці плоскім дном. Яго паверхня цалкам пакрыта беспарадкавай штрыхоўкай, на шыйцы ў шэрагу выпадкаў маюцца ямкавыя ўцісканні. У верхніх адкладах культ. слоя дамінавалі рабрыстыя гаршкі, тыповыя для культуры позняй штрыхаванай керамікі. Для іх характэрна вертыкальная ці дыяганальная штрыхоўка ніжэй рабра пасудзіны, арнаментацыя ў выглядзе вертыкальных альбо гарызантальных зашчыпаў, ямкавых і пазногцевых уцісканняў на рабры, пракрэсленых ліній на венчыку. Выяўлены жал. нажы, шылы, сякеры і сякерападобныя прылады працы, наканечнікі кап'я і дроціка, шпора. Дэталі касцюма прадстаўлены спражкамі і посахападобнымі шпількамі. Сярод упрыгажэнняў — бронзавыя трапецa- і вочкападобныя падвескі, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, гліняныя пацеркі, амулеты з іклаў мядзведзя. Вырабы з косці сустракаюцца рэдка (сякерка з рога лася, шпількі, грэбень з цыркулярным арнаментам на спінцы). Прысутнічаюць шматлікія і разнастайныя гліняныя праслiцы, частка з якіх арнаментавана; грузікі дзякава тыпу з гліны i тыглі. Наканечнік пояса з бронзы адносіцца да сяр.— 2-й пал. 1-га тыс. Гарадзішча датуецца к. 1-га тыс. да н.э.—3 ст. н.э.

*Літ.*: Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII — VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978. *А.А.Егарэйчанка.*

**ЛАГО́ЙСК**, горад, цэнтр Лагойскага р-на Мінскай вобл., на р. Гайна. За 40 км на Пн ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, аўтадарогамі звязаны з Мінскам, Лепелем, Смалявічамі, Барысавам, Вілейкай.

У пісьмовых крыніцах Л. (летапісны Логожск, Логожеск) упершыню ўпамінаецца ў 1078 у «Павучанні» Уладзіміра Манамаха. У апошняй чв. 11 ст. горад-кр эпасць Полацкай зямлі. У час паходу вял. кн. кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча на Полацкую зямлю ў 1127 Л. быў разрабаваны, а жыхары захоплены ў палон, горад перайшоў да Ізяслава Мсціславіча. У 1132 вернуты дынастыі полацкіх князёў. З 1180 цэнтр Лагойскага княства Полацкай зямлі. З 1-й чв. 14 ст. ў складзе ВКЛ. Тут існаваў праваслаўны манастыр Іаана Прадцечы. У 1387 вял. кн. літ. Ягайла падараваў Л. свайму брату Скіргайлу. З 1392 уладанне вял. кн. літ. Вітаўта. З 1413 у складзе Віленскага ваяводства. Ядром стараж. Л. быў замак (у 1505 разрабаваны і спалены разам з горадам крымскімі татарамі; адноўлены ў 1531—32). З 1528 Л. — уладанне Тышкевічаў. З 1596 у складзе Мінскага ваяводства. У час Паўн. вайны 1700—21 замак спалены шведамі ў 1708 і больш не аднаўляўся. У 1765 на яго месцы пабудаваны манастыр базыльян. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Л. у складзе Расійскай імперыі.

Гарадзішча стараж. Л. — Замчышча размешчана на правым беразе р. Гайна (цяпер тут парк культуры і адпачынку). Пляцоўка пл. 1,5 га умацавана валам выш. 3 м і ровам. Даследаваў у 1966, 1968, 1971 Г.В.Штыхаў, раскапана 420 м². Культ. пласт 0,8—1,2 м, у паўн.-ўсх. частцы раскопу — да 1,7 м; мае 2 гарызонты з пясчанай праслойкай паміж імі. У ніжнім гарызонце знойдзены невял. гаршчок з лінейным арнаментам 2-й пал. 10 ст., некалькі абломкаў ляпнога посуду, шмат фр-таў кухонных гаршкоў, пашыраных у Полацкай зямлі ў 11—13 ст., жал. наканечнікі стрэл, шпоры, стрэмя, дэталі замкоў, спружынныя нажніцы, фігурны разец (лыжкар), ключы ад навясных замкоў, гіра ад вагаў, шыферныя праслiцы, фр-ты шкляных каляровых бранзалетаў, касцяныя трапецападобныя грабяні, абломкі амфар, керамічныя пліткі для падлогі (адна з іх квадратная, памерамі 8 × 8 см, таўшч. 2 см, пакрытая жоўтай палівай, у гліне шмат жарствы), вырабы з каляровых металаў (бронзавыя падвеска-канёк з цыркульным арнаментам, падкавападобная спражка). У верхнім гарызонце знойдзены абломкі пасудзін з зялёнай палівай і пячная кафля, непаліваныя гаршкі 14—17 ст., буд. матэрыялы 16—18 ст.— цэгла і зялёная паліваная кафля. Пры зачыстцы вала з унутранага боку на глыб. 1 м знойдзены фр-ты паліванай кафлі і посуду 16—18 ст. разам з абломкамі керамікі 12—13 ст. З Пд да замчышча прымыкаў пасад стараж. горада, культ. пласт якога моцна пашкоджаны перакопамі. Слав. паселішча на р. Гайна ўзнікла раней, чым звесткі пра Л.трапілі ў пісьмовыя крыніцы.

*Літ.*: Штыхов Г.В. Археологические рас-копки в Орше и Логойске // Докл. к XI конф. молодых ученых Белорусской ССР. Мінск, 1967; Его ж. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мінск, 1978; Акуліч С.А., Сасноўскі Б.У. Лагойск: гіст.-экан. нарыс. Мінск, 1979. *Г.В.Штыхаў.*

**ЛАГО́ЙСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧЫ**, археалагічныя помнікі *штрыхаванай керамікі культуры* каля г. Лагойск Мінскай вобл.

Гарадзішча-1 за 1 км на ПнЗ ад Лагойска, ва ўр. Замкавая Гара. Пляцоўка амаль круглая, пл. 0,3 га, на схілах прасочваюцца рэшткі вала. Даследаваў у 1915 М.В.Шавельскі, абследавалі ў 1966 Г.В.Штыхаў, у 1979 М.І.Лашанкоў. Культ. пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены невял. кавалкі ляпных пасудзін, рэшткі печаў-домніц, жал. шлак.

Гарадзішча-2 на паўд.-ўсх. ускраіне Лагойска каля дарогі ў в. Зембін, ва ўр. Паненская Гара. Займае высокі мыс на беразе р. Гайна. Пляцоўка памерамі 30×20 м, з У умацавана валам і ровам. Даследавалі ў 1965 К.П.Шут, у 1966 Г.В.Штыхаў, у 1979 М.І.Лашанкоў. Культ. пласт амаль адсутнічае. На схілах пляцоўкі знойдзены невял. кавалкі ляпных пасудзін.

*Літ.*: Штыхаў Г.В. Ажываюць сівыя стагоддзі. 2 выд. Мінск, 1982. *Г.В.Штыхаў.*

**ЛАЗАРЭ́ВІЧ-ШАПЯЛЕ́ВІЧ** (Шапялевіч) Леў Юльянавіч (13.10.1863, г. Віцебск — 10.2.1909), археолаг, філолаг, літаратуразнавец, гісторык літаратуры. Вучыўся ў Новарасійскім і Харкаўскім ун-тах (1882—87). Магістр усеагульнай літаратуры (1892), д-р філалогіі (1896). Дацэнт, праф. Харкаўскага ун-та. Пад уплывам М.Ф.Кусцінскага, А.П.Сапунова, Е.Р.Раманава вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру Беларусі. Займаўся праблемай крывічоў. З 1900 пастаянна выязджаў з экспедыцыямі ў Гарадоцкі, Невельскі і Себежскі паветы. Праводзіў раскопкі доўгіх, круглых (паўсферычных) курганоў, якія на думку Л.-Ш., знешне не адрозніваюцца ад сінхронных насыпаў інш. усх.-слав. тэр. Ім знойдзены багаты інвентар у жаночых пахаваннях. Каштоўныя знаходкі з крывіцкіх курганоў перадаваў у Эрмітаж, Маскоўскі і Харкаўскі гіст. музеі, музеі Віцебскага статыстычнага к-та.

*Тв.*: Извлечение из отчета о раскопках... Витебск, 1900; Извлечение из отчета...об экскурсиях и раскопках... Витебск, 1901; Извлечение из отчета об исследованиях и раскопках, произведенных в 1901г. в Витебской губернии // Известия Археологической комиссии. Санкт-Петербург, 1904. Вып. 6. *Г.А.Каханоўскі.*


*В.Л.Лакіза.*

**ЛАКІ́ЗА** Вадзім Леанідавіч (н. 28.7.1970, в. Явар Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2004). Скончыў Гродзенскі ун-т (1992). З 1994 у ІГ НАН Беларусі, з 2007 заг. аддзела. Займаецца вывучэннем старажытнасцей неаліту і бронзавага веку, матэрыяльнай і духоўнай культуры першабытнага насельніцтва Зах. Беларусі. Вылучыў у познім неаліце і раннім перыядзе бронзавага веку Бел. Панямоння групу помнікаў тыпу Бершты-Русакова і Падгорнаўскую групу помнікаў кола культур шнуравой керамікі, нёманскую і верхнянёманскую (русаковіцкую) групы помнікаў тшцінецкага культ. кола. Выявіў і абследаваў звыш 200 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў на тэр. Гродзенскай, Мінскай і Брэсцкай абласцей. Даследаваў раскопкамі шматкульт. паселішчы Пархуты-1, 2, Прырэчча-2, Падгорная-4 (р. Шчара), Мацеўчукі-1 (р. Лебяда), Бершты-2 (р. Котра), Дакудава-5 (р. Нёман), Вілы-1, 2, Каменюкі 6 (р. Лясная Правая), Жылічы-2 ГЭС, 3 ГЭС, 4 ГЭС, 5 ГЭС, Славічы-1 ГЭС, 2 ГЭС, Кавальцы-3 Турыст, Берагавы-1 ГЭС, 2 ГЭС, Сіўкава-1 ГЭС, Коматава-2 ГЭС, 4 ГЭС, 6 ГЭС, Пужычы ГЭС (р. Нёман). З 2007 арганізуе і праводзіць археал. даследаванні ў зонах новабудоўляў, у т.л. ў зонах будаўніцтва Гродзенскай гідраэлектрастанцыі (ГЭС), Астравецкай АЭС і інш.

*Тв.*: К проблеме позднего неолита и начала бронзового века Северо-Западной Беларуси // Человек, адаптация, культура: к юбилею С.В.Ошибкиной.

М., 2008; Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008; Археалагічныя помнікі беларускай часткі Аўгустоўскага канала // Августовский канал и современный экотуризм. Пултуск; Минск; Гродно, 2008; Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2009 (у сааўт.); Беларусь: Народ. Государство. Время. Минск, 2009 (у сааўт.); Институт истории Национальной академии наук Беларуси (1929—2009 гг.). Минск, 2009 (у сааўт.); Вывучэнне помнікаў каменнага і бронзавага вякоў на тэрыторыі Белавежскай пушчы ў 2007 годзе // МАБ. 2009. Вып. 17; Radiocarbon dating of the Corded Ware Culture from the Nieman river basin. A grave from Parkhuty, site 1, the Grodna region // Baltic-Pontic-Studies. 1999. Vol. 7; Topografia i stratygrafia stanowisk z epoki brązu w Pyółnocno-Zachodniej Białorusi // Pruthenia Antiqua. Studia do pradziеów i wczesniej historii ziem Pruskich. Olsztyn, 2004. Vol. 1; Typologia ceramiki sznurowej Białoruskiego Poniemnia // Pruthenia Antiqua. Studia do pradzieów i wczesniej historii ziem Pruskich. Olsztyn, 2005. Vol. 2; Cultural identification of the «corded materials» from Belorussian Neman river basin // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2007. T.31; Да праблемы ідэнтыфікацыі матэрыялаў тшцінецкага культурнага кола Беларускага Панямоння // Opera ex aere. Studia z epoki brązu i wczesnej epoki żelaza. Warszawa, 2008.

*А.Ю.Ткачоў.*

**ЛАКНО́**, археалагічныя помнікі — стаянкі эпохі неаліту каля в. Лакно Гродзенскага р-на Гродзенскай вобл. Выявілі і абследавалі ў 1996 В.Л.Лакіза і В.С.Абухоўскі.

Стаянка-1 за 0,5—0,6 км на ПдУ ад вёскі на мысе карэннага берага воз. Лакно. Мыс абмежаваны балотам і невял. ракой, якая выцякае з возера. Памеры 50 × 140 м. Знойдзены 2 крамянёвыя абломкі, 4 сколы, 4 пласціны, 7 адшчэпаў, 5 нуклеусаў, 3 рэтушаваныя адшчэпы, 2 скобелі і 4 скрабкі на адшчэпах, разец, нож на масіўным пласцінністым адшчэпе, лязовая частка крамянёвай шліфаванай сякеры прамавугольнага сячэння, фр-т ляпной керамікі. Матэрыялы адносяцца да эпохі неаліту — культур нёманскай, шарападобных амфар і кола культуры шнуравой керамікі.

Стаянка-2 за 0,4 км на ПдУ ад вёскі, 0,1—0,15 км ад стаянкі-1. Памеры 30 × 100 м. Знойдзены 20 крамянёвых адшчэпаў і пласцін, 4 нуклеусы, разец, 2 рэтушаваныя адшчэпы, 3 скрабкі, пласціна са скошаным рэтушшу канцом, фр-т ляпной керамікі з мінеральнымі дамешкамі ў цесце і штрыхаванай паверхняй. Матэрыялы адносяцца да эпохі неаліту— нёманскай культуры і кола культуры шнуравой керамікі.

*Літ.*: Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**ЛАНЦУ́Г**, прыстасаванне для злучэння асобных дэталяў ці прадметаў у адзіную канструкцыю. Складаецца з металічных звёнаў, злучаных паміж сабой. Паводле канструкцыі звёнаў Л.падзяляюцца на некалькі падтыпаў: 1) з лінейнымі звёнамі; 2) з лінейна-падзеленымі звёнамі; 3) з перавітымі звёнамі; 4) з дэкаратыўна трансфармаванымі звёнамі. У 9—13 ст. Л.ўжываліся ў гасп.-побытавай сферы, у ювелірных упрыгажэннях. Сфера гасп. выкарыстання Л.была больш шырокай, чым іх дэкаратыўная функцыя. Ланцужкі з каляровых металаў (медзь), напр., выступалі ў якасці канструктыўнага элемента складных шаляў; вял. Л.з чорнага металу ўжываліся разам са скабянымі вырабамі або для падвешвання да бэлькі рэчаў. Пры археал. раскопках найчасцей знаходзяць толькі асобныя элементы Л.— звёны. Поўнасцю захаваны Л. для падвешвання катла быў выяўлены пры раскопках у Полацку.

*М.В.Клімаў.*



*Ланцуг 11—13 ст. з Полацка.*

**ЛАПА́ЦІН** Мікалай Уладзіміравіч (н. 23.8.1961, Масква), расійскі археолаг. Канд. гіст. навук (2000). Скончыў Маскоўскі ун-т (1983). Працаваў у Дзярж. музеі мастацтва народаў Усходу. З 1989 у Ін-це археалогіі Расійскай АН (з 2004 заг. інфармацыйна-выдавецкай групы). Адначасова ў 1989—93 у час. «Советская (Российская) археология», з 1994 чл. рэдкалегіі штогодніка «Археологические открытия» (з 2005 адказны рэдактар). Вывучае старажытнасці 1-га тыс. ў Верхнім Падняпроўі і Падзвінні. Разам з А.Г.Фурасьевым распрацаваў канцэпцыю культ. групы кола Заазер'е—Узмень (заходнядзвінскі варыянт кіеўскай культ.-гіст. супольнасці 3—5 ст.) як сувязнога звяна паміж раннеслав. старажытнасцямі Падняпроўя і паўн. культурамі.



*М.У.Лапацін.*

*Тв.*: Тушемля, Демидовка, Колочин. О соотношении керамики верхних слоев // КСИА. 1989. Вып. 195; О роли памятников III—V вв. в формировании культур Псковских длинных курганов и Тушемли-Банцеровщины (разам з А.Г.Фурасьевым) // Петербургский археологический вестник. Санкт-Петербург, 1995. Вып. 9; Памятники верховьев Березины и Вилии в контексте культурогенеза середины I тысячелетия н.э. // ГАЗ. Мінск, 2002. №17; Новые результаты изучения раннеславянских древностей лесного Поднепровья и Верхнего Подвинья (тезисы к концепции славянского этногенеза) (разам з І.А.Гаўрытухіным і А.М.Абломскім) // Славянский мир Полесья в древности и средневековье (Материалы международной научной конференции 19—20 октября 2004 г.). Гомель, 2004; Группы древностей V—VIII вв. н.э. в Верхнем Поднепровье и на Северо-Западе России (по керамическим материалам) // Arheologia o początkach Słowian: Materiały z konferencji (Kraków, 19—21 listopada 2001). Kraków, 2005; Северные рубежи раннеславянского мира в III—V вв. н.э. (разам з А.Г.Фурасьевым). М., 2007.

**ЛАТГА́ЛЫ** (латышскае latgali; у стараж.-рус. летапісах лътьгола, лотыгола), адно з латышскіх плямён, якое ў к. 1-га — пач. 2-га тыс. жыло на тэр. сучаснай усх. Латвіі, на правым беразе р. Даўгава. Іх суседзямі былі на Пн эсты, на ПнЗ *лівы*, на Пд селы, на У *крывічы*. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Была развіта апрацоўка жалеза і каляровых металаў. Будавалі ўмацаваныя паселішчы: Кокнесе (Кукенойс), Ерсіке (Герцыке), Мукукалнс, Асатэ, Оліңькалнс, Пекаскалнс. Неўмацаваныя селішчы ў асн. размяшчаліся пры гарадзішчах. Вылучаюцца паселішчы на насцілах сярод азёр (9—10 ст., вядома каля 10). Зрубныя абарончыя пабудовы ўзводзілі з 2 паралельных сцен. На паселішчах, асабліва ў Кокнесе і Ерсіке, знойдзена шмат рэчаў з Русі (шкляныя пацеркі, бранзалеты, пярсцёнкі, шыферныя прасліцы, абразкі). Пахаванні ў бескурганных могільніках па абраду трупапалажэння: мужчын хавалі галавой на У, жанчын— на З. Магільныя ямы ў плане авальныя або прамавугольныя, глыб. 0,5—0,9 м. Нябожчыкаў клалі на дошкі, якія высцілалі шарсцяной ці льняной тканінай, лубам ці бяростай. На тэр. могільнікаў знойдзены рытуальныя вогнішчы, што тлумачыцца шлюбнымі сувязямі Л. з крывічамі або літвой. У жаночых пахаваннях знойдзены жал. сярпы, прасліцы, шыйныя грыўні, вайнагі, дугападобныя ланцугатрымальнікі, пярсцёнкі, пацеркі з ракавін кауры (часта ў спалучэнні са шклянымі), у мужчынскіх — наканечнікі коп'яў, спражкі, манжэтападобныя бранзалеты, арбалетападобныя фібулы. У мужчынскіх і жаночых пахаваннях сустракаюцца сякеры, бранзалеты, шпількі і падкавападобныя фібулы. У 10—13 ст. ва ўсх. частцы Латгаліі быў вядомы курганны абрад пахавання. Знешне курганы не адрозніваюцца ад стараж.-рус., але іх пахавальны інвентар ідэнтычны з рэчавым матэрыялам латгальскіх бескурганных могільнікаў. Палітычная структура Л. у 12 — пач. 13 ст. ўключала некалькі тэрытарыяльных аб'яднанняў з дзярж. кіраваннем, найб. значныя — Ерсіке, Кокнесе, залежныя ад Полацка. У 13 ст. Л. заваяваны крыжакамі. Л. далі этнічную назву латышскаму народу. Этнонім захаваўся ў назвах асобных вёсак на Віцебшчыне.

*Літ.*: Мугуревич Э.С. Восточная Латвия и соседние земли в X—XIII вв. Рига, 1965.

*Л.У.Дучыц.*

**ЛА́ТКА**, непаліванае, паліванае ці дымленае керамічнае начынне для пражання страў. У Беларусі вядомы 2 разнавіднасці Л.: глыбокія міскападобныя з загнутымі ўнутр краямі (Падняпроўе, Палессе) і плыткія, падобныя да патэльняў авальнай ці круглай формы (Панямонне, Цэнтр. Беларусь). У Беларусі самыя раннія Л. сустракаюцца ў пластах 12—13 ст. Да 16 ст. іх аздаблялі традыц. для пэўнага рэгіёна відам дэкору: пазногцевымі насечкамі па плечуку, часам у спалучэнні з паглыбленымі стужкамі (Мазыр), хвалістым арнаментам (Панямонне), а ў Падняпроўі да к. 17 ст. пальцавымі зашчыпамі. На сценках начынняў 18 ст. выразна прасочваюцца барозны — сляды пальцаў ганчара. Найб. пашыраны Л. былі ў 17—19 ст. у жыхароў усх. і паўн.-ўсх. Беларусі. У 16—18 ст. распаўсюджаны пераважна непаліваныя пасудзіны. Першыя паліваныя Л. зафіксаваны ў пластах 17 ст. (Магілёў). Масавы ўжытак іх прыпадае на 18—19 ст. Ва Усх. Беларусі для пражання прадуктаў у гэты час выкарыстоўвалі пакрытыя знутры бясколернай палівай Л. з адхіленым вонкі борцікам шыр. 2—2,5 см. Паліваныя Л.к. 18—19 ст. (Магілёў), як правіла, імітуюць форму непаліваных: маюць піялападобнае тулава, невялічкае, злёгку адхіленае венца або даволі шырокі (да 2 см), адагнуты вонкі борцік. Выш. звычайна не перавышае 10 см. Не выключана, што Л. маглі адначасова ўжывацца ў якасці місак. Выкарыстоўваліся да пач. 20 ст.

*Літ.*: Здановіч Н.І., Трусаў А.А.Беларуская паліваная кераміка XI—XVIII стст. Мінск, 1993; Здановіч Н.І. Посуд у побытавай культуры шляхты і мяшчан (паводле пісьмовых крыніц XVI—XVIII ст). // Мастацкая спадчына Нясвіжа: матэрыялы міжнар. навук. канф., Нясвіж, 14 мая 2005 г.: у рамках X Бел. фестывалю камернай музыкі. Нясвіж, 2005. *Н.І.Здановіч.*

**ЛАТЫ́ГАЎКА**, археалагічны помнік — курганны могільнік стараж.-рус. часу каля в. Латыгаўка Талачынскага р-на Віцебскай вобл. Размешчаны на тэр. сучасных могілак. 10 курганоў дыям. 15—20 м, выш. 0,5—0,6 м, падножжы абкладзены камянямі. Абследавалі ў 1959 Л.В.Аляксееў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў. У 1973 З.М.Сяргеева даследавала 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне

галавой на З. У адным пахаванні на поясе нябожчыка з левага боку знойдзена падковападобная спражка, на руцэ — драцяны пярсцёнак з заходзячымі канцамі, на чэрапе — бронзавая бляшка з рэшткамі эмалі. *В.М.Ляўко.*

**ЛАТЫШЫ́**, археалагічны помнік — стаянка бронзавага веку каля в. Латышы Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл. За 1,5 км на З ад вёскі, на валападобным павышэнні левабярэжнага поплаву р. Нёман. Выявіў у 1970 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт таўшч. да 0,3 м утрымлівае крамянёвы інвентар — трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, разнастайныя скрабкі, нуклеусы і інш., фр-ты гліняных ляпных пасудзін, у т.л. са штрыхоўкай паверхні. Частка матэрыялу адносіцца да познабронзавага часу і характарызуе пачатковы этап культуры штрыхаванай керамікі.

*Літ.*: Чернявский М.М. Исследование древних поселений Понеманья // АО 1970. М., 1971.

*М.М.Чарняўскі.*

**ЛАТЭ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура кельцкіх плямёнаў, распаўсюджаная ад Пірэнеяў на З да Карпацкай катлавіны на У, ад Вялікабрытаніі і Ірландыі на Пн да Міжземнага мора на Пд, у 2-й пал. 1-га тыс. да н.э. Атрымала сваю назву ад паселішча Ла Тэн на ўсх. беразе воз. Неўшатэльскае (Швейцарыя), якое было даследавана ў 1907—17. Л.к. развівалася на аснове гальштацкай культуры 1-й пал. 1-га тыс. да н.э. Для яе характэрны як умацаваныя, так і неўмацаваныя паселішчы, якія размяшчаліся ў цяжкадаступных месцах. Гарадзішчы былі ўмацаваны валамі, равамі і крапаснымі сценамі. З к. 2 ст. да н.э. распаўсюджваюцца апідумы — протагар. паселішчы, якія з'яўляліся буйнымі племяннымі, рамеснымі і гандл. цэнтрамі. Яны размяшчаліся на высокіх узгорках ці гарах і былі абаронены сцяной, якая складалася з драўляных клецей, што запаўняліся камянямі альбо зямлёй. Са знешняга боку сцяна абкладалася камянямі ці сырцовай цэглай. Буйнейшыя апідумы ў Зах. Еўропе — Манхінг (Германія), які быў акружаны сцяной працягласцю 7 км, і Бібрактэ (Францыя), які займаў 135 га, сцяна вакол яго цягнулася на 5,25 км; ва Усх. Еўропе — Галіш-Ловачка (Закарпацце, Украіна).

Кельты жылі ў наземных дамах з каменнымі фундаментамі і плятнёва-каркаснай канструкцыяй сцен. Жытлы абмазваліся глінай, дахі — з саломы. Вядома таксама паўзямлянкі плятнёва-каркаснай канструкцыі пл. да 20 м². Для Л.к. характэрны пераважна бескурганныя пахаванні з інгумацыяй і крэмацыяй. У ранніх курганах сустракаюцца пахаванні ў калясніцах. Нябожчыкаў хавалі са шматлікім інвентаром, некаторыя рэчы, пераважна зброю, наўмысна псавалі. Посуд кельтаў, як правіла ганчарны, упрыгожаны зонным распісным арнаментам. Шырокае распаўсюджванне атрымаў і чорнаглянцаваны посуд. Для Л.к. на ранняй стадыі былі характэрны кароткія мячы без крыжавіны, з 3 ст. да н.э.— доўгія рубячыя мячы з крыжавінай і багата арнаментаваныя похвы. У 2-й пал. 5 ст. да н.э. з'яўляюцца і атрымліваюць шырокае распаўсюджанне шыйныя грыўні (торквесы) з пячаткападобнымі канцамі, упрыгожаныя расліннымі і маскападобнымі выявамі; фібулы латэнскіх схем; бронзавыя пасудзіны. Для кельцкіх плямёнаў была характэрна наяўнасць буйных рамесных цэнтраў, звязаных







*Шыйныя грыўны (торквесы) і бранзалеты **латэнскай культуры.***





*Фібулы **латэнскай культуры.***



*М.І.Лашанкоў.*

з вытворчасцю і апрацоўкай жалеза, ювелірнай справай, ганчарствам. Л.к. аказала вял. ўплыў на суседнія плямёны і народы. На тэр. Беларусі да ліку латэнізаваных адносіцца *зарубінецкая культура*, у якой часта сустракаюцца фібулы сярэднелатэнскай і позналатэнскай схем, глянцаваная кераміка. Сярод знаходак папярэдняй *мілаградскай культуры* нярэдка сустракаюцца бранзалеты кельцкіх тыпаў 4—3 ст. да н.э.

*Літ.*: Монгайт А.Л. Археология Западной Европы. М., 1974; Брей У., Трамп Д. Археологический словарь. М., 1990. *А.А.Егарэйчанка.*

**ЛАЎРЫ́ШАЎСКІ МАНАСТЫ́Р**. Існаваў у 13—19 ст. у в. Лаўрышава Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. Засн. каля 1265 (1260?) кн. Войшалкам, сынам Міндоўга (у манастве Лаўрыш) «на реце на Немне межи Литвою и Новымь городком». Паводле царкоўнага падання, заснавальнікам лічыцца прападобны Елісей Лаўрышаўскі (у 1996 у вёсцы яму пастаўлены помнік). У 14 ст. тут было створана Лаўрышаўскае евангелле— рукапісны помнік кніжнага мастацтва. У 14—16 ст. манастыр пашыраўся дзякуючы дзярж. і прыватным ахвяраванням. З 2-й пал. 17 ст. пачаў занепадаць. Апошні раз манастырскі комплекс адбудаваны ў к. 18 ст., ад яго ацалела драўляная Успенская царква. Манастыр скасаваны ў 1834—36. Пошукі першапачатковага месцазнаходжання манастыра праводзілі М.А.Ткачоў (1971) і А.М.Кушнярэвіч (1988) у 4 км ад Лаўрышава, насупраць в. Гнесічы, на пясчанай дзюне, на правым беразе р. Нёман (ур. Нязвішча). Аднак слядоў манастыра там не выяўлена. Легенда аб яго першапачатковым знаходжанні тут, магчыма, звязана з выдатным рэльефным становішчам пагорка — найвышэйшага пункта ў ваколіцы, даволі прыкметнага на шырокім і нізкім поплаве р. Нёман (шыр. каля 1,5—2 км). Але існаванне тут буйнога манастыра уяўляецца немагчымым з-за рэгулярных паводак, падчас якіх пагорак з усіх бакоў абкружаецца вадой. У 1990 А.К.Краўцэвіч абследаваў 6 $м^2$ у в. Лаўрышава каля Успенскай царквы. Культ. пласт на краі пагорка каля 1,5 м, утрымліваў шматлікія фр-ты кафлі 17 ст. (развал печы), керамічнага посуду (самыя раннія з іх 14—15 ст.), шкляных квартаў. Сабрана больш за 500 фр-таў зялёнапаліванай кафлі, большасць з іх мае выявы дзярж. гербаў Польскага каралеўства, ВКЛ і нявызначанага геральдычнага знака, які нагадвае дзядоўнік.

*Літ.*: Краўцэвіч А.К. Археалагічныя даследаванні Лаўрышаўскага манастыра на Панямонні // З глыбі вякоў. Наш край. Мінск, 1996. Вып. 1.

*А.К.Краўцэвіч.*

**ЛАШАНКО́Ў** Міхаіл Іванавіч (н. 18.11.1951, в. Новае Хорабрава Аршанскага р-на Віцебскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1977). З 1978 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі. Вывучае этнакульт. працэсы ў эпоху жал. веку на Пд Беларусі, старажытнасці насельніцтва мілаградскай, зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур. Адкрыў звыш 20 помнікаў. Даследаваў гарадзішчы *Ліпнякі*, *Лiскі*, *Міхалёва*, *Паліцкае*, *Пятровічы*, *Рассвет*, *Сарачы*, *Старое Краснае*, *Чорнае*, *Эсьмоны*, *Ястрабка*. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» ў 3 тамах (т. 2, 1999), «Гісторыі Беларусі» ў 6 тамах (т. 1, 2000).

*Тв.*: Тыпалогія гліняных грузікаў з усходнепалескіх гарадзішчаў мілаградскай культуры // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. №5; Тэхналогія вытворчасці посуду насельніцтвам мілаградскай культуры гарадзішчаў Любны і Шапатовічы // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1993. №4; Аб часе з'яўлення «штрыхавікоў» у паўднёва-ўсходняй Беларусі // Працы VI Міжнар. кангр. славянскай археалогіі. М., 1997. Т. 3; Булавки населения милоградской культуры // ГАЗ. Мінск, 2003. №18; Археоботанические материалы с зарубинецкого селища Хотомель // Ботаника. Минск, 2008. Вып. 35.

*В.І.Шадыра.*

**ЛЕВАШЫ́**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Левашы Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. Размешчаны каля б. фальварка Брыгідава, налічваў 25 курганоў. У к. 19 ст. У.З.Завітневіч даследаваў 3 курганы выш. 0,8—1,6 м, дыям. 7—9 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (1), у яме глыб. да 0,7 м (2), галавой на З. У адным пахаванні знойдзены рэшткі дамавіны. Суправаджальны інвентар — сярэбраныя скроневыя кольцы, 3 вял. пацеркі (верагодна, дрыгавіцкія) і кольца, бронзавы медальён, сердалікавыя і хрустальная пацеркі.

*Літ.*: Завитневич В.З.Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1892.

*П.Ф.Лысенка.*

**ЛЕДАХО́ДНЫЯ ШЫПЫ́**, металічная прыстасаванні з адным або некалькімі шыпамі, якія павялічвалі сцапленне капыта каня ці абутку чалавека з лёдам. На тэр. Беларусі пранікл і с зах.-еўрап. краін, сустракаюцца ў культ. пласце 9—12 ст. вясковых і гар. паселішчаў. Найбольш распаўсюджаны ледаходныя аднашыпныя прыстасаванні, якія звязваюцца з конскім рыштункам. Магчыма, яны мацаваліся да драўлянай асновы.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX—XIII вв. // Свод археологических источников. Ленинград, 1973. Вып. Е1-36. *М.В.Клімаў.*



*Ледаходныя шыпы 11—12 ст.*

**ЛЕЙКАПАДО́БНЫХ КУ́БКАЎ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура неаліту (энеаліту), помнікі якой распаўсюджваліся ад Паўд. Скандынавіі да Зах. Валыні і Зах. Палесся ў 5—3-м тыс. да н.э. Вылучаюцца тэрытарыяльныя групы: паўн., зах., паўд., усх., паўд.-ўсх. Найб. характэрны тып гліпянага посуду — кубак з высокай шыйкай, форма якога нагадвае лейку. Адзначаюцца сталыя паселішчы вял. памераў на ўзвышаных і мысападобных участках берагоў каля шырокіх рачных далін, у т.л. ўмацаваныя валамі, равамі, драўлянымі агароджамі і інш., а таксама невял. часовыя стаянкі на пясчаных пагорках. Ужываліся наземныя будынкі (у т.л. даўж. да 80 м), паглыбленыя жытлы, гасп. ямы (з прамымі ці пашыранымі ўнізе сценкамі, часам абпаленымі). У жытлах знойдзены гліняныя печы на драўляным каркасе. Асн. пахавальны абрад — трупапалажэнне ў выпрастаным стане на спіне. Сустракаюцца пахаванні з крэмацыяй. Пахаванні здзяйсняліся ў грунтавых могільніках, таксама ў мегалітычных грабніцах, зрэдку пад курганнымі насыпамі. Асн. заняткі насельніцтва — земляробства (пшаніца, ячмень, радзей жыта, авёс, проса, гарох, чачавіца, лён і інш.) і жывёлагадоўля (буйная рагатая жывёла, свінні, козы і авечкі, вельмі рэдка коні). Глеба апрацоўвалася драўлянымі і рагавымі матыкамі, напэўна, раламі з выкарыстаннем валоў у якасці цяглавой сілы.

Сярод посуду — шматлікія тыпы амфар з вушкамі, кубкі, гаршкі, чарпакі з высокай фігурнай ручкай і інш., якія рабіліся з дамешкамі пяску і шамоту ў цесце, старанна загладжваліся і раўнамерна абпальваліся. Аздабленне складалася з адбіткаў лінейнага штампа, шнуравых арнаментаў, пракрэсленых ліній, пальцавых зашчыпаў, рэльефных выступаў і інш. На шыйках многіх пасудзін утвараўся «каўнерык». Рабіліся гліняныя прасліцы (канічнай і біканічнай форм, з ямкавым, шнуравым і інш. арнаментамі), грузікі цыліндрычнай формы, рытуальныя сякеркі. Для крамянёвай вытворчасці характэрны тэхніка зняцця доўгіх пласцін, выраб прышліфаваных сякер, долатаў, скрабкоў і сярпоў на пласцінах, нажоў, трохвугольных наканечнікаў стрэл і інш. Насельніцтва Л.к.к. асвоіла шахтавую здабычу высакаякаснай крамянёвай сыравіны, распаўсюджвала некаторыя катэгорыі вырабаў на вял. адлегласці. Ужывалі каменныя зерняцёркі, шліфавальныя пліткі, старанна зашліфаваныя каменныя свідраваныя сякеры (у т.л. з гузаватым абухом, патоўшчанай сярэдняй і шырокай лязовай часткамі), якія часта выкарыстоўваліся ў якасці прадуктаў абмену. Ва ўжытак уваходзілі вырабы з медзі (прылады працы і ўпрыгажэнні), у т.л. мясц. вытворчасці.

Л.к.к. ўзнікла на аснове сярэднееўрап. мезалітычных культур пры ўдзеле культур дунайскага кола. Вылучаюцца 4 асн. этапы развіцця: ранні, класічны, позні і пазнейшы. У сяр. 4-га тыс. да н.э. пачаўся перыяд дэзінтэграцыі і шматлінейнага развіцця культуры, які скончыўся знікненнем яе ў 2-й пал. 3-га тыс. да н.э. На позніх этапах развіцця Л.к.к. распаўсюджвалася ва ўсх., паўд.-ўсх. накірунках, дасягнуўшы Усх. Еўропы, дзе яна прысутнічала ў форме асобных паселішчаў, а таксама сінтэзаваных культ. элементаў у складзе мясц. неалітычных культур (нёманскай, нарвенскай, усвяцкай, днепра-данецкай і інш.). Паселішчы сустракаюцца паміж вярхоўямі Зах. Буга, Днястра і Прыпяці з цэнтрам на Валынскім узвышшы, элементы — у Палессі, Панямонні, усх. Прыбалтыцы і, напэўна, у Падзвінні. У Верхнім Панямонні ўплывы Л.к.к. выяўлены на лысагорскім этапе нёманскай культуры. Асобныя знаходкі з характэрнымі для Л.к.к. прыкметамі адзначаліся ў вярхоўях Прыпяці (паселішчы Хабарышча, Нявір), на Ясельдзе (Носкі, Моталь), у нізоўях Тур'і (Серахавічы, Грыдкі, Вулька Качынская), у вярхоўях Рыты (Цытылле) і інш.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979; Археология Прикарпатья, Волыни и Закарпатья (энеолит, бронза и раннее железо). Киев, 1990; Археалогія Беларусі. Т.1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Крывальцэвіч М. Беларускае Палессе ў перыяд пераходу ад неаліту да эпохі бронзы: праблемы і перспектывы археалагічнага вывучэння // Wspólrota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004; Obuchowski W.Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003; Kosko A., Szmyt M. Problem wschodniej rubieży kultur neolitycznych Niżu Środkowoeuropejskiego: VI—III tys. BC // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004. *М.М.Крывальцэвіч.*

**ЛЕМЯШЭ́ВІЧЫ**, археалагічны помнік — паселішча неаліту, бронзы і жал. веку каля в. Лемяшэвічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл. За 3 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Прыпяць, на пясчаным узвышшы (выш. 2—3,5 м) сярод забалочанай поймы. Адкрыла і даследавала 700 м² у 1980—81 В.С.Вяргей. У 1990 С.Я.Рассадзін даследаваў 108 м². Культ. пласт 0,3—0,4 м. У рэчавым комплексе вылучаны матэрыялы *нёманскай неалітычнай культуры* (тронкавыя наканечнікі стрэл, скрабкі, нажападобныя пласціны, праколкі, інш. вырабы і загатоўкі з крэменю, фр-ты ляпных пасудзін) і кола культур шнуравой керамікі (крамянёвы трохвугольны наканечнік стралы з выемкай у аснове, сярпы валынскага тыпу, наканечнік дроціка, рэшткі ляпных пасудзін са шнуравым і пракрэсленым арнаментам). Выяўлены рэшткі 2 заглыбленых у мацярык жытлаў пл. каля 9 м² з адкрытымі агнішчамі на падлозе, якія належалі

насельніцтву *мілаградскай культуры*, і каля 100 гасп. ям. Знойдзена каля 4 тыс. фр-таў ляпной керамікі, а таксама прылады працы, зброя, прадметы побыту і ўпрыгажэнні з жалеза, бронзы, шкла. Найб. поўна прадстаўлены рэчы мілаградскай культуры: плоскі жал. 2-шыпавы наканечнік стралы (7—6 ст. да н.э., аналагі ў ранніх пластах гарадзішчаў *дзякоўскай культуры*), маленькія шпількі са спіральным навершам (сустракаюцца на помніках позняга бронзавага веку), скіфская завушніца (6—5 ст. да н.э.), бронзавыя наканечнікі стрэл (4—3 ст. да н.э.), гліняныя крыжападобныя грузікі, таўстасценныя гаршкі, аздобленыя валікам, гаршкі з высокай адагнутай шыйкай і пукатым тулавам і інш. Знойдзены рэчы *зарубінецкай культуры* (2 ст. да н.э.— 1 ст. н.э.), у т.л. грубаляпныя гаршкі з шурпатай або бугрыстай паверхняй, глянцаваныя міскі, кубкі з вушкам, накрыўкі, фр-т сярпа, нажы. Да вельбарскай культуры 2—4 ст. належаць 14-гранныя фіялетавыя, шарападобныя зеленаватыя шкляныя, чорныя, белыя і чырвоныя паставыя пацеркі, бронзавая падвязная фібула, вядзёркападобныя падвескі і інш. Магчыма, на гэтым узвышшы размяшчаўся могільнік насельніцтва вельбарскай культуры.

*Літ.*: Вяргей В.С. Селище у дер. Леме-шевичи на Припяти // ГАЗ. Мінск, 1994. №5; Яе ж. Западный ареал милоградской культуры // Там жа. Мінск, 1995. №7.

*В.С.Вяргей.*

**ЛЕ́НІНА**, археалагічны помнік— гарадзішча *мілаградскай культуры* каля в. Леніна Добрушскага р-на Гомельскай вобл. За 3,5 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе ручая Гараджанка (прыток р. Вуць), ва ўр. Дубіно. Мясц. назва Гарадок. Пляцоўка чатырохвугольная, пл. 550 м², абкружана 2 валамі (выш. ўнутранага 2,5 м, знешняга — 1,5 м). У 1983 С.Я.Рассадзін даследаваў 100 м² у паўн.-зах. частцы пляцоўкі. Культ. пласт 0,4—1 м. Знойдзены рэшткі керамікі (рэканструяваны невял. гаршчок з яйкападобным тулавам), гліняныя посудападобныя грузікі, біканічныя прасліцы (адно ўпрыгожана арнаментам у выглядзе заштрыхаваных трохвугольнікаў), гліняная форма для адліўкі бронзавага бранзалета латэнскага тыпу. Датуецца 7—1 ст. да н.э. *С.Я.Рассадзін.*

**ЛЕ́НІНА**, археалагічны помнік — гарадзішча штрыхаванай керамікі культуры і стараж.-рус. часу каля в. Леніна Слуцкага р-на Мінскай вобл. За 0,2 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Морач. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі, памерамі 60 × 45 м. Умацавана валам выш. 5 м, шыр. 15 м і ровам. Абследаваў у 1973 А.А.Егарэйчанка, даследаваў 216 м² у 1980 М.Ф.Гурын. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Выяўлены 17 слупавых і гасп. ям, у прарэзцы вала на глыб. 2,5—3 м — рэшткі асмаленых драўляных канструкцый. Знойдзены фр-ты ляпной штрыхаванай і гладкасценнай керамікі, у т.л. кругавога посуду, гліняныя прасліцы (некаторыя арнаментаваны наколкамі), жал. нажы, наканечнік стралы, шпілька, шлакі, бронзавы крыжык 15 ст., вырабы з крэменю, косці дзікіх і свойскіх жывёл.

*Літ.*: Гурин М.Ф. Раскопки городища у д. Ленино //АО 1980. М., 1981. *М.Ф.Гурын.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧЫ І СЕ́ЛІШЧЫ**, археалагічныя помнікі ў ваколіцах г. Лепель Віцебскай вобл.

Гарадзішча-1 за 2,5 км на З ад горада каля б. в. Гарадок. Пляцоўка амаль круглай формы, памерамі 40 × 38 м, умацавана валам выш. 1,2—1,5 м, шыр. 7—10 м. У 1931 абследаваў А.М.Ляўданскі, у 1972 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт да 1 м. Знойдзены абломкі ляпной гладкасценнай і са штрыхаванай паверхняй керамікі, кавалкі жужалю, абломкі печаў-домніц, косткі свойскіх і дзікіх жывёл. Датуецца 3—4 ст.

Гарадзішча-2 на невял. востраве воз. Лепельскае. Пляцоўка круглай формы, дыям. 60 м, выш. да 1,5 м. Абследавалі ў 1931 А.М.Ляўданскі, у 1969 Г.В.Штыхаў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 Ю.А.Заяц. Знойдзена ляпная кераміка са штрыхаванай паверхняй.

Гарадзішча-3 на высокім (выш. 10—15 м) пагорку ў паўд. частцы вострава воз. Лепельскае. Пляцоўка авальная, памерамі 37 × 44 м, пашкоджана сярэдневяковымі і сучаснымі могілкамі. У цэнтры пляцоўкі захаваліся 2 каменныя крыжы. З паўд. боку, каля падэшвы, прасочваюцца рэшткі вала выш. да 1 м, шыр. да 3 м. У 2008 З.А.Харытановіч даследавала 48 м². Культ. пласт 0,5 м. Выяўлены 7 пахаванняў сярэдневяковага часу. Знойдзены фр-ты ляпной гладкасценнай і штрыхаванай керамікі *днепра-дзвінскай культуры*, развал гаршка з глянцаванай паверхняй, фр-ты гліняных грузікаў (адзін з кропкавым арнаментам), прасліцы (з лінейным і кропкавым арнаментам), жал. серп усх.-літ. тыпу, фр-т наканечніка двухшыпнага дроціка, абломак каменнай сякеры-кліна, бронзавыя скроневыя кольцы. Датуецца мяжой н.э.— 2-й чв. 1-га тыс.

Селішча 3-й чв. 1-га тыс. на востраве воз. Лепельскае з паўд. боку каля падэшвы гарадзішча-3. У 2008 З.А.Харытановіч даследавала 24 м². Культ. пласт 0,4—1,4 м. Знойдзены ляпная кераміка слоікавай ці слабапрафіляванай формы, кавалак донца глінянага тыгля, кавалкі шлакаў.

На паўвостраве таксама выяўлена селішча 14—16 ст. Знойдзены абломкі кругавой керамікі, медныя бранзалеты-змеегаловікі, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, жал. наканечнікі стрэл, шпоры, манеты. *З.А.Харытановіч.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі ў наваколлі воз. Лепельскае Лепельскага р-на Віцебскай вобл.






*Лепельскія гарадзішчы і селішчы. План размяшчэння помнікаў і матэрыялы раскопак.*

Курганны могільнік-1 каля в. Занькі. Мясц. назва Валатоўкі. Больш за 100 курганоў дыям. 5—20 м, выш. 0,7—4,5 м, вакол некаторых прасочваюцца раўкі. У 1853—90 М.Ф.Кусцінскі даследаваў 9 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, суправаджальны інвентар адсутнічаў. У 1981 могільнік абследаваў Ю.А.Заяц.

Курганны могільнік-2 на беразе канала паміж азёрамі Лепельскае і Проша. Было 3 курганы, цяпер не існуе. У 1887 М.Ф.Кусцінскі даследаваў 3 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У жаночым пахаванні знойдзены 2 драцяныя бронзавыя бранзалеты з нанізанымі пацеркамі, сярод якіх 2 шкляныя з пазалотай і 8 паставых рознакаляровых, бронзавы спіральны пярсцёнак, 7 сярэбраных скроневых пярсцёнкападобных кольцаў з разамкнутымі канцамі, 80 зялёных дробных пацерак. Датуецца 11—12 ст.

Курганны могільнік-3 паміж воз. Бароўна і р. Ула, непадалёку ад месца ўпадзення ў воз. Лепельскае. Было 7 насыпаў. У 1860 М.Ф.Кусцінскі даследаваў самы вялікі. Выяўлены трупапалажэнні мужчыны, жанчыны і дзіцяці, якія размяшчаліся на розных узроўнях насыпу. Пахавальны інвентар: бронзавыя спражка і пярсцёнкі, каралі з бісеру.

*Літ.*: Кустинский М.Ф. Из заметок о курганах Лепельского уезда // Полоцкие епархиальные ведомости. Полоцк, 1903. №7. *А.В.Вайцяховіч.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІЯ СТАЯ́НКІ**, археалагічныя помнікі эпохі мезаліту каля г. Лепель Віцебскай вобл.

Стаянка-1 *грэнскай культуры* на зах. беразе воз. Лепельскае, ва ўр. Пясчаніца, на левым беразе ручая, што злучае азёры Святое і Лепельскае. Выявіў у 1981, даследаваў 498 м² у 1989—90 У.П.Ксяндзоў. Памеры 150 × 30 м. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя разцы, скрабкі, наканечнікі стрэл, скоблі, выемчата-зубчастыя прылады, адбівальнік, рэтушоры, адшчэпы, пласціны, нуклеусы, фрты ляпной керамікі жал. веку. Датуецца 7—8-м тыс. да н.э., жал. векам.

Стаянка-2 на зах. беразе воз. Лепельскае, на правым беразе ручая, што злучае азёры Святое і Лепельскае. У літаратуры вядома пад назвамі Вусце Эсы, Жарцы. Выявіў у 1966 І.М.Ціханенкаў. Культ. пласт разбураны ў выніку гасп. работ. Знойдзены постсвідэрскія наканечнікі стрэл, вуглавы разец, мікраскрабок, прылады-ўкладышы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе.

*Літ.*: Тихоненков И.М. Новые данные по каменному веку Северной Белоруссии // АО 1969. М., 1970. *У.П.Ксяндзоў.*

**ЛЕ́ТА-ЛІТО́ЎСКІЯ ПЛЯМЁНЫ**, плямёны, якія былі прамымі продкамі сучасных латышоў і літоўцаў. Тэрмін з'яўляецца ўмоўным і не быў саманазвай. Паводле даных гіст. дыялекталогіі, прабалцкая супольнасць гаворак існавала ўжо ў 2-м тыс. да н.э., у канцы таго ж тысячагоддзя, як мяркуецца, яна падзялілася на 3 буйныя дыялектна-племянныя групоўкі: зах., сярэдзінную (усх.), дняпроўскую (гл. *Балты*).

У раннім сярэдневякоўі да зах. балтаў належалі плямёны прусаў, яцвягаў, галіндаў, скалваў, куршаў; з дняпроўскіх балтаў у пісьмовых дакументах зафіксавана толькі племя голядзь, якое жыло ў цяперашнім Падмаскоўі, на р. Протва. З племянных саюзаў сярэдзінных (усх.) балтаў у «Кведлінбургскіх аналах» пад 1009 і ўсх.-слав. летапісах 11 ст. ўпершыню згадваецца літва, у раннім сярэдневякоўі вядомы земгалы, жэмайты, латгалы, аўкштайты і селы. Літва і латгалы часткова засялялі таксама ўскраінныя землі Беларусі, і таму ў далейшым мелі дачыненне да этнагенезу беларусаў. Падчас барацьбы ў 13 ст. з Лівонскім (Інфлянцкім) ордэнам адбывалася кансалідацыя латгалаў, селаў, земгалаў у латышскую народнасць, у склад якой увайшлі таксама асіміляваныя куршы (зах. балты) і лівы (фінаугры). З 13 ст. ішла інтэграцыя племянных саюзаў літвы, аўкштайтаў і жэмайтаў, чаму спрыяла ўтварэнне ВКЛ, пры асіміляцыі ўскраінных земгалаў, куршаў, бежанцаў з прускіх і яцвяжскіх зямель адбывалася фарміраванне літ. народнасці.

Адначасова, пачынаючы з 11 ст. і да 19 ст., на тэр. летапіснай Літвы, у раннім сярэдневякоўі прадстаўленай у значнай меры культурай усх.-літ. курганоў, пранікала ўсх.-слав. насельніцтва (найперш крывічы), што вяло да славянізацыі (беларусізацыі) у моўнай сферы і да скарачэння этнічнай тэр. літоўцаў. Часам у літаратуры лета-літоўцамі памылкова называюць усіх стараж. балтаў.

*Літ.*: Финно-угры и балты в эпоху средневековья // Археология СССР. М., 1987; Гимбутас М. Балты. М., 2004. *Э.М.Зайкоўскі.*

**ЛЕ́ЦКАЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — селішча каля в. Лецкаўшчына Мінскага р-на. На паўд.-зах. ускраіне вёскі, на З і Пд ад яе на левым беразе р. Пціч, асобнымі месцамі ў яе лукавінах на правым беразе. Культ. пласт у месцах шурфовак 0,25—0,4 м, у абрывах берага да 0,5—0,6 м. Пл. 1,6 га. Адкрылі ў 1991 Ю.А.Заяц і У.М.Мілюцін. Раскопкі не праводзіліся. Знойдзены ф-ты глінянага посуду 2-й пал. 10 — пач. 13 ст. і 16—18 ст. У 1904 на тэр. селішча селянін знайшоў манетны скарб, які складаўся з 502 дырхемаў 816 і 911 гадоў, а таксама з 60 манет, прыналежнасць якіх не была вызначана па прычыне дрэннага іх стану.

*Літ.*: Заяц Ю.А. Археалагічныя помнікі в. Прылукі і наваколля; Марков А. Топография кладов восточных монет (сасанидских и куфи-ческих). Санкт-Петербург, 1910. *Ю.А.Заяц.*

**ЛЕ́ШНЯ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Лешня Мазырскага р-на Гомельскай вобл.

Курганны могільнік за 2 км ад вёскі, ва ўр. Перахрэсце, на полі. 9 курганоў. У 1889 У.З.Завітневіч даследаваў 8 насыпаў выш. 0,4—1,6 м, дыям. 7—15 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах глыб. 0,9 м. У 4 курганах — рэшткі дамавін. Нябожчыкі арыентаваны галавой на З. Суправаджальны інвентар — жал. нож, сярэбраны медальён, бронзавыя і алавяныя кольцы, бронзавая спражка, 3 сердалікавыя пацеркі, адна — з горнага хрусталю, 2 трохпрамянёвыя скроневыя кольцы.

Курганны могільнік ва ўр. Буклеўка, за 2 км ад вёскі па дарозе Скрыгалава—Казіміраўка, 43 курганы. У 1889 У.З.Завітневіч даследаваў 13 насыпаў выш. 0,7—1,15 м, дыям. 7—9 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (12) і ў яме глыб. 0,7 м (1). У 6 пахаваннях знойдзены рэшткі дамавін. Суправаджальны інвентар — жал. нажы, бронзавыя спражкі, кольцы, крэсіва з крэменем, сярэбранае кольца.

*Літ.*: Завитневич В.З. Из археологи-ческой экскурсии в Припятское Полесье. Кн. IV. Киев, 1890. *П.Ф.Лысенка.*

**ЛІ́ВЫ** (у старажытнарускіх летапісах либь), племя фіна-угорскага паходжання. Займалі землі, што прылягалі да Фінскага заліва, у басейнах рэк Даўгава і Гаўя, паўн. частку Курземскага паўвострава. Сярод помнікаў Л.10—12 ст. гарадзішча і селішча Кентэскалнс — паселішча на месцы Рыгі, гарадзішча Айзкраўкле, селішчы Кабелес, Саласпілс, Лаўкскола. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Жыло ў паўзямлянкавых і наземных (аднакамерных зрубных) жытлах з ачагамі, радзей з печамі-каменкамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў бескурганных (Айзкраўкле, Саласпілс, Лаўкскола, Вампеніешы, Ідзіпі) і курганных (Стэдэры, Чыекуры, Прыедэ) могільніках. Для даўгаўскіх Л. характэрны бескурганныя могільнікі і курганы, для Л., што жылі ў басейне Гаўі, толькі курганныя могільнікі. У склад пахавальнага інвентару абавязкова ўваходзілі гаршкі. У жаночых пахаваннях знойдзены авальныя (чарапахападобныя) фібулы, злучаныя нагруднымі ланцужкамі, шыйныя грыўні, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бронзавыя бранзалеты і пярсцёнкі, жал. нажы ў похвах, у мужчынскіх — прадметы ўзбраення і бытавыя рэчы. Сустракаецца і трупаспаленне. У 12—13 ст. Л. сталі напярэдадні стварэння сваёй дзяржаўнасці, але гэты працэс быў спынены агрэсіяй крыжакоў. У выніку крыжацкіх паходаў колькасць насельніцтва Л. змяншалася і сюды пачалася міграцыя латгалаў, а ў Курземе — куршаў, што прывяло Л. да асіміляцыі. З 13 ст. ад этноніма «лівы» частка краю атрымала назву Лівонія. Нашчадкамі Л. з'яўляецца невял. этнічная група ў Вентспілскім р-не Латвіі. На Пн Беларусі вядомы адзінкавыя знаходкі жаночых упрыгажэнняў Л.12—13 ст.: шкарлупкападобныя фібулы, бранзалеты, крыжападобныя шпількі і інш. (Браслаў, *Маскавічы*, Полацк і інш.). *Л.У.Дучыц.*

**ЛІ́ДА**, горад, цэнтр Лідскага р-на Гродзенскай вобл., на р. Лідзея. За 112 км на ПнУ ад Гродна. Вузел чыгунак і аўтадарог на Гродна, Вільнюс, Маладзечна, Баранавічы.

Паселішча Л. ўзнікла ў 14 ст. на плато паміж рэчышчамі Лідзеі і Каменкі непадалёку ад іх сутокаў. Развіццю горада паспрыяла будаўніцтва ў 1330-я г. *Лідскага замка*, каля якога фарміраваўся пасад. У пісьмовых крыніцах Л. ўпершыню ўпамінаецца паміж 1323 і 1328. З к. 14 ст. неаднаразова падвяргалася нападам крыжакоў, у 1406 — смаленскага кн. Юрыя Святаславіча. У 15—16 ст. рамесны і гандл. цэнтр ВКЛ. З 1560-х г. цэнтр павета ў Віленскім ваяводстве. У 1590 атрымала магдэбургскае права. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 горад разрабаваны і спустошаны рус. войскамі. У Паўн. вайну 1700—21 зруйнаваны (1702, 1706, 1708) і часткова спалены шведскімі войскамі. У 15—18 ст. горад складаўся з рыначнай плошчы з ратушай і 4 вуліц (Віленская, Замкавая, Каменская, Крывая), да яго прымыкала перадмесце Зарэчча. У Л. былі фарны касцёл (пабудаваны ў 1750—70-я г.), прыходская царква з 2 шпіталямі, кляштар піяраў, кляштар і касцёл кармелітаў, уніяцкая царква са шпіталем. У 2-й пал. 18 ст. 1,5 тыс. жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Л. ў складзе Расійскай імперыі.

Раскопкі на тэр. б. пасада на пл. каля 34 $м^2$ правялі ў 1980 А.А.Трусаў, у 1983 і 1987 А.К.Краўцэвіч. Культ. пласт (да 2,5 м) выяўлены паміж рэкамі Лідзея і Каменка. Самыя старaж. матэрыялы (кераміка 14 — пач. 15 ст.) знойдзены за 100 м на ПнЗ ад замка. Сярод знаходак керамічны посуд (гаршкі, макотры, накрыўкі, міскі, талеркі, збаны, рынкі), кафля (гаршковая з прамавугольным вусцем, каробчатая з раслінным і геам. арнаментам, выявай анёла), шкляныя вырабы (шкляніцы, стопкі, бутэлькі, кварты, чаркі). *А.К.Краўцэвіч.*

**ЛІ́ДСКІ ЗА́МАК**, помнік абарончага дойлідства 14—15 ст. у г. Ліда Гродзенскай вобл. Пабудаваны ў 1330-я г. з бутавага каменю і цэглы. Уваходзіў у лінію процікрыжацкай абароны Навагрудак—Крэва—Меднікі—Трокі. За аснову замка ўзяты тып абарончага збудавання, вядомага пад назвай кастэль. Пастаўлены на насыпным пясчаным узгорку (выш. 5—6 м), быў абкружаны балоцістымі берагамі рэк Лідзея і Каменка, з Пн— ровам шыр. каля 20 м, які злучаў рэкі і аддзяляў замак ад горада. Пазней (верагодна, у 16—17 ст.) у сістэму перадзамкавых умацаванняў з У уключана штучнае возера. Замак у плане — няправільны чатырохвугольнік (нагадвае трапецыю, 93,5 × 83,5 × 80 × 84 м) з 2 вуглавымі вежамі. Асн. абарончае значэнне мелі пастаўленыя на невысокім падмурку (70—80 см) сцены выш. 12 м, таўшч. 1,5—2 м. Уверсе яны пераходзілі ў баявую галерэю, сценка якой была складзена з цэглы (таўшч. 7 см), мела адзін рад байніц, размешчаных на адлегласці 2,4 м адна ад адной. Памост галерэі апіраўся на драўляныя бэлькі. На паўд. і ўсх. сценах замка на каменных фігурных кансолях стаялі 2 цагляныя прыбіральні — «каморкі патрэбныя». Ад паўд.-зах. вежы (пабудавана ў 1-й пал. 14 ст.) захаваліся толькі фр-ты падмуркаў, якія зроблены без перавязкі з замкавымі сценамі, але на адным узроўні з падмуркамі апошніх. Вежа была ў плане квадратная (11,3 × 11,3 м), падмуркі (шыр. каля 3 м, глыб. да 70 см) складзены з вял. і сярэдніх камянёў, ніжнія рады якіх перасыпаны чырванаватай глінай, верхнія — на вапнавай рошчыне. Паўн.-ўсх. вежа (узведзена ў к. 14 — пач. 15 ст.) мела выгляд крыху перакошанага рознабаковага чатырохвугольніка (12 × 12,5 × 12,3 × 12,15 м) і была прыбудавана да замкавых муроў без перавязкі. Таўшч. яе сцен з боку двара дасягала 3 м, дакладка да сцен замка — 83 см. Мела аздоблены фігурнай цэглай арачны ўваход з боку двара і лесвіцу ў тоўшчы зах. сцяны шыр. 1 м з драўлянымі прыступкамі на цаглянай аснове. У паўн., усх. і паўд. сценах захаваліся пячныя нішы. Першы паверх быў перакрыты крыжовым скляпеннем. Прасочаны рэшткі драўлянай падлогі. Абедзве вежы былі накрыты шатровымі дахамі і не выступалі за перыметр сцен. У замак вялі 3 уваходы, 2 з іх — ва ўсх. сцяне. Меншая брама шыр. 2,5 м і выш. 3 м завяршалася стральчатай аркай і служыла для штодзённага карыстання; большая шыр. каля 4,5 м і выш. да 6 м выконвала ролю параднай брамы. Над яе паўцыркульнай аркай размяшчаўся ляпны картуш з выявай дзярж. герба ВКЛ «Пагоня». Большы ўваход меў разгрузачную спічастую нішу, прарэзаную ўваходным праёмам меншых памераў. Магчыма, тут быў пад'ёмны мост. Паўд.



*Лідскі замак у 15 ст. (рэканструкцыя А.А.Трусава).*

сцяна замка прарэзана на выш. каля 2 м ад зямлі скразным праёмам з паўцыркульнай аркай — запасным ходам для раптоўных вылазак гарнізона або скрытага выхаду ў крытычныя моманты абароны. Замкавыя і вежавыя муры складзены ў асн. з палявых камянёў. Вонкавыя паверхі зроблены з вял. валуноў, пакладзеных гарызантальнымі радамі. Прамежкі паміж валунамі запоўнены каменнымі асколкамі на вапнавай рошчыне (цагляныя кліны сустракаюцца вельмі рэдка). У якасці арматуры выкарыстоўвалі драўляныя бэлькі. Цэглу ўжывалі толькі для асн. элементаў канструкцыі і архіт. дэталей. З яе выкладзены вуглы замкавых і вежавых муроў, дэкаратыўныя паясы на фасадах сцен, аркі, скляпенні, сценкі байніц. Цагляныя паясы на знешняй паверхні замкавых сцен выкананы ў тэхніцы балтыйскай, або вендскай, муроўкі (чаргаванне 2 лажкоў і тычка).

На тэр. замкавага двара размяшчаліся праваслаўная царква (у 1533 перанесена ў горад), жылыя і гасп. пабудовы, у т.л. дом каменданта замка, казармы, склады, калодзежы, з 1568 — суд, архіў, турма. Жылыя памяшканні былі на верхніх паверхах вежаў. Л.з. зведаў шмат аблог і штурмаў: у 1384, 1392, 1394, 1406, 1433, 1506, 1659. У час Паўн. вайны 1700—21 моцна пашкоджаны замак быў разбураны. Апошняя бітва адбылася тут у 1794 паміж паўстанцамі Т.Касцюшкі, што заселі ў руінах замка, і рус. арміяй.

Археал. даследаванні Л.з. праводзілі М.А.Ткачоў (1970), А.А.Трусаў (1977—78, 1980, 1985), А.К.Краўцэвіч (1986—87). Ускрыта каля 3260 м² пл. замкавага двара. Культ. пласт 0,4—0,8 м у цэнтры двара і каля 2 м паблізу паўн. сцяны. Знойдзены металічныя вырабы (салдацкія абцасныя і конскія падковы, нажы, крэсівы, нажніцы, ключы, замкі, наканечнікі стрэл і арбалетныя балты), шкляны, керамічны посуд (рынкі, гаршкі, збаны, глякі, куфлі, чаркі, кубкі, талеркі і інш.), пакрыты зялёнай палівай або тэракотавы; каменныя ядры ад камянямётаў, вырабы з косці. Трапляюцца зах.-еўрап. керамічныя вырабы. Сабрана вял. калекцыя гаршковай (14—16 ст.) і каробчатай кафлі (большасць пакрыта зялёнай палівай) з вонкавымі пласцінамі, аздобленымі раслінным, геам. і сюжэтным арнаментам. Знойдзены сярэбраныя і медныя манеты, у т.л. манеты 14 ст. кн. Кейстута і Вітаўта, грошы 14 ст., соліды 17 ст. і інш. У 1-й чв. 20 ст. зроблена частковая кансервацыя Л.з., у 1982 — поўная. Вядзецца работа па рэстаўрацыі сцен і вежаў замка.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII ст.ст. Мінск, 1978; Трусаў А.А. Архітэктурна-археалагічнае даследаванне Лідскага замка // ПГКБ. 1979. №4; Яго ж. Старадаўніх муроў адраджэнне: мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мінск, 1990; Багласов С.Г., Трусов О.А. Историко-архитектурные исследования и реставрация Лидского замка // Вопросы архитектуры Литовской ССР. 1981. Т.7, вып. 2.

*А.А.Трусаў.*

**ЛІНГБІ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура эпохі мезаліту. Вылучана Г.Экхалмам у 1920-я г. на падставе рагавых (матыкі тыпу Лінгбі) і крамянёвых (масіўныя наканечнікі стрэл) вырабаў, знойдзеных на кліфе Нёрэ-Лінгбі на ПнЗ Ютландыі ў паўн. Даніі. Тэрмін «культура Лінгбі» ў навуковы зварот увёў англійскі археолаг Дж.Кларк. Л.к. была аднесена да кола культур з чаранковымі наканечнікамі стрэл. Больш дакладная характарыстыка крамянёвага інвентару была распрацавана Т.Матыясенам на падставе даследаванняў стаянкі Броме (Bromme) на в-ве Зеландыя ў Даніі ў 1944—46. З гэтага моманту ўжываецца складаная назва культуры— Броме-Лінгбі ці Броме (Лінгбі). Даследаваннямі Л.к. займаліся: Г.Швабедысен, В.Таўтэ, Р.Рымантэне, Р.Шыльд, Я.К. і С.К.Казлоўскія, З.Сульгастоўская, Л.Л.Залізняк, К.Шымчак, Е.Лібера, Г.В.Сініцына, М.Кабусевіч і інш.

Крамянёвы інвентар класічных помнікаў Л.к. ўтрымлівае нуклеусы ад пласцін двухпляцовачныя монафрантальныя і аднапляцовачныя з дугападобнай або амаль акруглай пляцоўкай сколвання; пляцоўкі, як правіла, нерэтушаваныя. Сярод сколаў-нарыхтовак пераважаюць шырокія, масіўныя пласціны, адшчэпы, сярод скрабкоў сустракаюцца формы на адшчэпах, пласціністых адшчэпах, пласцінах з дугападобнай працоўнай часткай, на пласцінах і адшчэпах падвоеныя і з чаранком. Разцы (рэтушныя бакавыя і двухгранныя бакавыя, сярэдзінныя, зрэдку экзэмпляры з чаранком) у асн. зроблены на пласцінах. Наканечнікі стрэл даволі аднастайныя па форме, пераважаюць масіўныя тыпу Лінгбі, якія выраблялі з пласцін. Яны маюць неапрацаванае пяро, зрэдку скошанае крутой рэтушшу са спінкі, і добра вылучаны такой рэтушшу чарашок. Сустракаюцца наканечнікі з чарашком, сфарміраваным супрацьлеглай рэтушшу ці крутой, нанесенай па краі з брушка. Таксама на ўсх.-еўрап. стаянках знаходзяць сякеры з перахопам (стаянка Аносава-1) і цёслы падтрапецападобнай формы (стаянка Вышагара).

Паходжанне культуры Лінгбі Т.Матыясен звязвае з помнікамі тыпа Фон-Рабер, якія ўваходзяць у кола познамадленскіх на тэр. Францыі. Ёсць і гіпотэзы аб фарміраванні культуры Лінгбі на аснове культуры федэрмесер ці на аснове помнікаў мадлена тыпу Тает.

Бліжэйшыя да Беларусі помнікі Л.к. вядомы на тэр. Паўд. Літвы. Аб прысутнасці на тэр. зах. часткі Бел. Палесся элементаў лінгбійскай традыцыі згадваў У.Ф.Ісаенка. Носьбіты Л.к. пэўны час засялялі ПдЗ Беларусі. На тэр. Зах. Палесся асобныя элементы і комплексы Л.к. выяўлены на стаянках Адрыжын, Арэхава-1, Бабровічы-2, Моталь-1, 5, 17, Пагост-Загародскі, Глінна-1, 2 і інш. З-за адсутнасці дадзеных радыевуглярод-



*Крамянёвыя вырабы. Лінгбі культура.*

нага аналізу акрэсліць дакладны час іх існавання даволі складана. Хутчэй за ўсё, як і ў інш. рэгіёнах Еўропы, гэта быў перыяд аляродскага пацяплення і, магчыма, пачатак дрыясу III (9—8-е тыс. да н.э.). Працягам Л.к. лічыцца арэнсбургская культура. Л.Залізняк адзначае, што лінгбійскія і арэнсбургскія комплексы ўяўляюць сабой 2 стадыі развіцця тэхнакомплексу з чаранковымі наканечнікамі стрэл.

*Літ.*: Римантене Р.К. Палеолит и мезолит Литвы. Вильнюс, 1971; Синицына Г.В. Исследование финальнопалеолитических памят-ников в Тверской и Смоленской областях. Санкт-Петербург, 1996; Синицына Г.В., Синицын А.А. Локальные варианты технокомплекса Бромме // Верхний палеолит—верхний плейстоцен: динамика природных событий и периодизация археологических культур. Санкт-Петербург, 2002; Залізняк Л.Л. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України. Культурний поділ та періодизація // Кам'яна доба України. Київ, 2005. Вип. 8; Kozłowski J.K., Kozłowski S.K. Epoka kamienia na ziemiach polskich. Warszawa, 1977; Libera J.Późny paleolit i mezolit środkowo-wschodniej Polski. Cześć pierwsza. Analiza. Lublin, 1995

*А.Г.Калечыц.*

**ЛІ́ПЕНЬ**, археалагічны помнік — селішча каля в. Ліпень (б. мяст. Халуй) Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. За 1 км на У ад вёскі, справа ад дарогі на в. Знаменка, ва ўр. Стараселле, уздоўж берага р. Свіслач да сучасных вясковых могілак. Пл. каля 3,5 га. Абследавалі ў 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, у 1965 Л.Д.Побаль, у 1978 А.Р.Мітрафанаў. У 2001 А.У.Ільюцік даследавала 96 м ва ўсх. частцы помніка. Культ. пласт да 0,35 м. У 2009 абследаваў Ю.А.Заяц. Знойдзены грубаляпная кераміка жал. веку (гладкасценная, штрыхаваная і з расчосамі), фр-ты гаршкоў тэракотавага 12 — 1-й пал. 13 ст. і моранага 2-й пал. 16—17 ст., гліняная абмазка, фр-т прасліца і грузік, жал. каваныя цвікі і нож, донца прамавугольнай формы шклянога штофа, крамянёвы скрабок.

*Літ.*: Шутаў С.С., Улашчык М.М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г. // Працы. Т. 2.

*Ю.А.Заяц, А.У.Ільюцік.*

**ЛІПЛЯ́НЫ**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля в. Ліпляны Лельчыцкага р-на Гомельскай вобл. Адкрыты і абследаваліся ў 1989—90 В.С.Вяргей, М.М.Крывальцэвічам, В.Я.Кудрашовым, у 2004 М.М.Крывальцэвічам.

Паселішча-1 больш чым за 2,5 км на ПнУ ад вёскі, на пойме левабярэжжа р. Убарць, на узвышшы (выш. 1—2 м). Знойдзены кераміка і крамянёвыя вырабы днепра-данецкай культуры неаліту, абломкі ляпнога посуду кола культуры шнуравой керамікі, тшцінецкага культ. кола, ранняга жал. веку.

Паселішча-2 больш чым за 3 км на ПнУ ад вёскі, 0,4 км на ПнУ ад паселішча-1, на пойме левабярэжжа Убарці, на зах. ускраіне вял. ўзвышша, выцягнутага з Пд на Пн (выш. каля 4 м). Знойдзены крамянёвыя вырабы (мікрапласцінкі, разцы, пласцінкі і вастрыі з прытупленай спінкай) эпохі мезаліту, рэшткі ляпнога посуду і апрацаваныя крамянёвыя прылады днепра-данецкай культуры,

*Да арт. Ліпляны. Кераміка тшцінецкага культурнага кола з паселішчаў 2 (1) і 5 (2–8).*



*Да арт.* ***Ліпляны.*** *Раннеславянская ляпная кераміка пражскай культуры з жытла з паселішча-6.*




вырабы з крэменю і абломкі некалькіх пасудзін кола культуры шнуравой керамікі і тшцінецкага культ. кола. Сярод тшцінецкай керамікі — развал вял. таўстасценнага гаршка з моцна выступаючым пад краем венчыка наляпным валікам.

П а с е л і ш ч а - 3 за 0,4 км на ПнЗ ад паселішча-2, на левабярэжжы Убарці, на пясчанай выспе (выш. да 4 м). Знойдзены фр-ты ляпнога посуду і крамянёвых вырабаў днепра-данецкай культуры, апрацаваны крэмень і абломкі посуду кола культуры шнуравой керамікі і тшцінецкага культ. кола, фр-ты керамікі жал. веку.

П а с е л і ш ч а - 4 за 0,2 км на ПдЗ ад паселішча-3, на левым беразе Убарці, на пагорку. Знойдзены фр-ты керамікі тшцінецкага культ. кола, апрацаваны крэмень і абломак посуду перыяду неаліту.

П а с е л і ш ч а - 5 прыблізна за 0,1 км на Пд ад паселішча-4, на пойменным узвышшы (выш. больш за 1 м). Знойдзены абломкі посуду і крамянёвыя вырабы тшцінецкага культ. кола, фр-ты посуду і крамянёвыя вырабы днепра-данецкай культуры і кола культуры шнуравой керамікі. У 1990 у шурфе памерамі 1 × 1 м быў зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 0,2—0,3 м.

П а с е л і ш ч а - 6 каля 0,4 км на ПдУ ад паселішча-2, на беразе старычнага возера на разбураным узвышшы (выш. каля 2 м). Памеры 70 × 120 м. Знойдзены абломкі посуду і крамянёвыя вырабы днепра-данецкай культуры, рэшткі некалькіх пасудзін кола культуры шнуравой керамікі і тшцінецкага культ. кола. Выяўлена паўзямлянка са зрубнай канструкцыяй сцен раннеславянскай *пражскай культуры*. Аснова заглыблена ў мацярык на глыб. да 0,35 м. Паўн. і ўсх. сцены захаваліся на даўж. 2,6 і 3 м адпаведна, паўд. і зах. сцены былі знішчаны. Жытло арыентавана па баках свету, абагравалася глінабітнай купальнай печчу ў паўн.-зах. куце. Пад разваламі печы прасочвалася яе чарэнь дыям. каля 0,8 м, з пласта гліны таўшч. да 3 см. У развале печы было некалькі цэлых і фрагментаваных гліняных «хлябцоў» у форме плазаватага шара дыям. 7—8 см. У запаўненні катлавана і ў развале печы знойдзены абломкі прыкладна ад 10 грубаляпных гаршкоў пражскага тыпу. Дыям. іх вусцяў 12—35 см, таўшч. сценак 0,6—1,2 см. У гаршкоў розная даўжыня адхіленай вонкі шыйкі, коса зрэзанае венца, слаба выпуклыя акруглыя плечыкі, змешчаныя ў верхняй траціне вышыні пасудзіны. Посуд па марфалагічных параметрах адносіцца да 7 ст. На тэр. паселішча знойдзены фр-ты кругавога посуду з лінейным арнаментам 13—14 ст.

П а с е л і ш ч а - 7 за 1,5 км на Пн ад паселішча-6, ва ўр. Красная Горка, на рэштках узвышша, у левабярэжжы Убарці. Знойдзены крамянёвыя вырабы і фр-ты посуду неалітычнай днепра-данецкай культуры і кола культуры шнуравой керамікі. Сярод знаходак — развал неалітычнага гаршка з вузкім плоскім дном і накольчатым арнаментам.

*Літ.*: В я р г е й В.С. Раннеславянскае жытло з паселішча Ліпляны-6 на р. Убарць. // Восточная Европа в древности и средневековье. Мінск, 2004; К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Новыя помнікі бронзавага веку ў нізоўях Убарці // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1994. №1; К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Помнікі бронзавага веку ў нізоўях Убарці // Археалогія і старажытная гісторыя Магілёўшчыны і сумежных тэрыторый: (матэрыялы канф. 22 крас. 1993 г.). Магілёў, 1994; K r y v a l ' c e v i č M. Z badań nad kulturą trzciniecką na Polesiu Białoruskim w dorzeczu Prypeci // Folia Praehistorica Posnaniensia. 1997. T. 8.

*М.М.Крывальцэвіч, В.С.Вяргей.*

**ЛІПНІЦКАЯ** Вольга Львоўна (н. 7.8.1949, г. Мінск), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1988), дацэнт (2000). Скончыла Магілёўскі педагагічны ін-т (1973). У 1979—98 у ІГ НАН Беларусі, з 1996 на кафедры крыніцазнаўства гіст. ф-та БДУ. Даследавала шэраг помнікаў археал. комплексу Краснасельскія крэменездабыўныя шахты і крэменеапрацоўчыя майстэрні ў Ваўкавыскім р-не Гродзенскай вобл. Даследуе пытанні выкарыстоўвання

камп'ютэрных тэхналогій у адукацыі, крыніцазнаўстве, археалогіі.

*Тв.:* Некаторыя пытанні класіфікацыі крэменеапрацоўчых майстэрань // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1984. №4; Базы данных в исторических исследованиях Беларуси // Компьютер и историческое знание. Барнаул, 1994; Старажытныя шахцёры на р. Рось. Мінск, 1996 (у сааўт.); Историческая информатика: (информатика для ист. специальностей). Минск, 1998 (у сааўт.); Теория и история источниковедения: учебно-методический комплекс для студентов. Минск, 2001 (у сааўт.); Учебно-методич. комплекс по ист. информатике: базовый курс. Минск, 2002 (у сааўт.); Историческая информатика: учебно-методич. пособие для студентов. Могилев, 2002 (у сааўт.). *А.Г.Калечыц.*

**ЛІПНЯКІ́**, археалагічны помнік — гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур і ранняга сярэдневякоўя каля в. Ліпнякі Лоеўскага р-на. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на пагорку каля р. Брагінка. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі, памерамі 60 × 70 м, была ўмацавана валам выш. каля 2 м, шыр. да 15 м (разбураны ў 1973 пры правядзенні меліярацыйных работ). Выявіў у 1929 І.Х.Ючшанка, абследавалі ў 1955 В.М.Мельнікоўская, у 1957 Л.Д.Побаль, даследавалі ў 1976 М.Ф.Гурын (900 м²), у 1977 М.І.Лашанкоў (200 м²). Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлена 57 ям гасп. прызначэння, разнастайных форм і памераў, адна з іх нагадвае рэшткі паўзямлянкавага жытла памерамі 5 × 2,8 м, заглыбленага ў мацярык на 0,2—0,3 м. Знойдзены фр-т ляпной пасудзіны, частка якой арнаментавана па шыйцы, плечуку і тулаве ўціскannямі пазногця або пастаўленай пад вуглом палачкі. Сярод прылад працы крамянёвыя нажы, скобля, пракрутка, рэтушор, жал. наканечнік кап'я, фр-ты 2 нажоў, скоблі, спражка, бронзавыя фр-ты тыгля, бранзалета. Асобную групу знаходак складаюць гліняныя праслiцы біканічнай, шара- і посудападобнай формы, частка з іх арнаментавана кропкавымі ўціскannямі, рыскамі, лініямі. У паўзямлянцы выяўлены 2 ляпныя гаршкі, падпраўленыя на ганчарным крузе, якія адносяцца да сярэдневякоўя. Магчыма, гарадзішча выконвала функцыю сховішча.

*Літ.:* Гурын М.Ф., Лашанкоў М.І. Гарадзішча Ліпнякі // ВАНБ. 1984. №2. *М.Ф.Гурын.*

**ЛІПСК**, археалагічныя помнікі — курганны могільнік і камень з выявай каля в. Ліпск Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.

Курганны могільнік за 3 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўр. Масціца. Мясц. назва Французскія магілы. Вядомы з 1924. Абследаваў у 1971 А.Р.Мітрафанаў, у 1985 Э.М.Зайкоўскі, у 1989 Л.У.Дучыц (1 курган). 19 курганоў (дыям. 4—10 м, выш. 2—2,5 м) у 2—3 рады цягнуцца ўздоўж дарогі. Вакол большасці курганоў ёсць неглыбокія раўкі. Даследаваны курган насыпаны з чорнай зямлі з уключэннем дробных вугольчыкаў. У паўн. частцы насыпу выяўлены 4 камяні сяр. памераў, каля асновы, у невял. паглыбленні — каля 10 фр-таў кальцыніраваных костак нябожчыка.

Камень з выявай за 1 км на З ад вёскі. Выявіў у 1985 Э.М.Зайкоўскі. Мясц. жыхары лічаць, што выява нагадвае воіна на кані.

*Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі.*


*В.Л.Ліпніцкая.*

**ЛІПСК**, археалагічны помнік — стаянка фінальнага палеаліту і ранняга мезаліту каля в. Ліпск Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. За 2 км на Пд ад вёскі, на краі нізкай правабярэжнай тэрасы р. Шчара. Выявіў у 1986 М.М.Чарняўскі. Даўж. 500 м, шыр. каля 100 м. Знойдзены масіўны крамянёвы інвентар: высокія канцавыя скрабкі, рэтушныя разцы, рэжучыя прылады, аднапляцовачныя нуклеусы. *М.М.Чарняўскі.*

**ЛІ́ПСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура эпохі верхняга (позняга) палеаліту на Валыні. Датуецца познамадленскім перыядам (9—12-е тыс. да н.э.). Назва ад групы помнікаў на р. Ліпа каля аднайменнага сяла каля г. Дубна Ровенскай вобл. (Украіна). Першыя помнікі выяўлены ў 1908. Раскопкі ў 1926 праводзіў Л.Савіцкі. Найб. грунтоўна даследаваў В.П.Савіч у 1960—63 на стаянках паблізу с. Ліпа і ў 1968—79 на стаянцы Кулычоўка каля г. Крэменец Цярнопальскай вобл. (Украіна). Знойдзены рэшткі жытлаў, косткі мамантa, насарога, тура, зубра, паўн. аленя, каня, пясца і інш., праколка, косткі з насечкамі і з антрапаморфнай выявай. Плямёны Л.к. выраблялі крамянёвыя нажы, скрабкі, бакавыя разцы, мікравастрыі і граветы (вузкія пласціны з прытупленым краем), праколкі, масіўныя свердлы і наканечнікі дзід, нуклепадобныя сякеры і інш. Пласціны нарыхтоўваліся з чоўнападобных нуклеусаў своеасаблівай формы. Распрацаваная плямёнамі гэтай культуры крамянёвая вытворчасць існавала ў наступныя эпохі. Л.к. стала вытокам для развіцця больш позняй *свідэрскай культуры*, помнікі якой распаўсюджаны на Пн Валыні і З Беларусі, у басейнах Віслы і Нёмана.

*Літ.:* Островский М.И., Григорьев Г.П. Липская палеолитическая культура // СА. 1966. №4; Савич В.П. Пізньопалеолітичне населення Південно-Західної Волині. Київ, 1979. *У.Ф.Ісаенка.*

**ЛІ́СКІ**, група археалагічных помнікаў — гарадзішча і курганны могільнік каля в. Ліскі Рэчыцкага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры* за 3 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Гарадок (Зарэцк), на ўзвышшы правабярэжнай поймы р. Ведрыч. Пляцоўка трохвугольная, з закругленымі вугламі, умацавана валам выш. каля 2,5 м, шыр. 16—18 м, з У — дадатковым валам выш. каля 1 м, шыр. 6—8 м і ровам глыб. 0,5—0,75 м, шыр. 2—4 м. Выявіў у

1976 Г.В.Штыхаў, даследаваў 2620 м² у 1980—83 М.І.Лашанкоў. Першапачаткова вал быў насыпаны на выш. 1,5 м, шыр. 8 м і быў абкладзены бярвёнамі. У выніку рэканструкцыі яго выш. павялічылася да 2,2 м, шыр.— да 18 м. Апошняя падсыпка павялічыла вал да 3 м. Культ. пласт у цэнтры 0,3—0,4 м, каля вала 0,6—0,7 м. Выяўлена каля 15 ям гасп. прызначэння глыб. 0,2—0,55 м, дыям. 0,4—0,8 м або памерамі 1,25—1,95 × 0,45—0,75 м. Слупавыя ямы належалі наземным драўляным пабудовам, рэшткі якіх не захаваліся.

Знойдзена больш за 30 тыс. фр-таў гліняных ляпных гаршкоў 4 тыпаў: з яйкападобным тулавам, круглаватым дном і адагнутым вонкі венчыкам; з шарападобным тулавам і вертыкальным венчыкам; слабапрафіляваныя з круглаватым тулавам і дном, зрэзаным верхам і выразным венчыкам; прысадзістыя з круглавата-пляскатым тулавам, закругленым дном і загнутым у сярэдзіну краем без выразнай шыйкі. Частка керамікі па шыйцы арнаментавана скразнымі праколамі, ямкавымі ўціскannямі палачкай, пальцавымі і пазногцевымі ўціскannямі і інш. Сярод знаходак: крамянёвыя наканечнік стралы, сякера, вастрыі, праколка, пласціны, нож, укладышы, адшчэпы, рэтушоры; каменныя ступа, таўкачы, сякеры, зерняцёркі; 2 бронзавыя люстэркі; жал. сярпы, касар, абломкі сякер, нажы, іголка, шылы, утулкавы наканечнік стралы, шпількі (посаха-, цвікападобныя і з кальцавым навершам), гладкія і арнаментаваныя бранзалеты, пярсцёнкі, завушніцы, 3 пацеркі, падковападобная фібула балцкага тыпу, гліняныя прасліцы (ражковыя, круглаватыя, біканічныя, канічныя, посуда-, цыліндра-, шпулепадобныя і інш.), косткі свойскіх і дзікіх жывёл. Датуецца 7—3 ст. да н.э.

Курганны могільнік дрыгавічоў за 0,5 км на Пн ад вёскі, на ўскрайку лесу за чыг. пераездам. 27 курганоў выш. 0,4—1,5 м, дыям. 5—11 м. Выявіў і даследаваў 2 насыпы ў 1981 М.І.Лашанкоў. У адным кургане знойдзены фр-ты ганчарнай керамікі і попельна-вугальная праслойка, у другім — пахаванне па абраду трупапалажэння на падсыпцы галавой на З. Каля ног нябожчыка выяўлены цвікі, каля галавы— абломкі ганчарнага посуду і пояс, каля рук — 2 бронзавыя кольцы і прамавугольная спражка. Датуецца 11—12 ст.

У вёсцы на левым беразе р. Ведрыч існавала паселішча бронзавага і жал. вякоў і больш позняга часу.

*Літ.*: Лошенков М.И., Богомольников В.В. Раскопки городища у д. Лиски // АО 1980. М., 1981; Лошенков М.И. О хозяйственных занятиях населения болотных городищ Южной Белоруссии // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; Яго ж. Тыпалогія гліняных грузікаў з усходнепалескіх гарадзішчаў мілаградскай культуры // ВАНБ. 1989. №5. Яго ж. Курганны могільнік дрыгавічоў каля вёскі Ліскі Рэчыцкага раёна // ГАЗ. Мінск, 1996. № 9. *М.І.Лашанкоў.*

**ЛІ́СНА**, археалагічныя помнікі — паселішча і курганны могільнік каля в. Лісна Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл.

Паселішча ў паўд.-зах. частцы вёскі, уздоўж берагоў р. Свольна. Выявіў у 2005 і ў 2006—07 даследаваў 260 м² М.В.Клімаў. Пл. 3,2 га. Культ. пласт 0,3—1,2 м. Знойдзены фр-ты посуду — ляпнога 6—8 ст. і кругавога 10—18 ст., рыбалоўныя снасці (гліняныя грузілы, жал. кручкі і васці); патэльня, жал. вузкалязовая сякера, ледаходныя шыпы, цвікі і інш. Найб. колькасць знаходак адносіцца да 10—13 ст. Аб высокім сацыяльным статусе паселішча сведчаць шкляныя бранзалеты, шыферныя прасліцы, зброя, ключы, дружынная пасавая гарнітура. На адным з шыферных прасліц маюцца графіці, блізкія да скандынаўскіх рун. Магчыма, у 10—11 ст. паселішча выконвала функцыю пагоста. У пазнейшы перыяд звязваецца з цэнтрам воласці Лісна, вядомым па дакументах 16 ст.

У культ. пласце выяўлены матэрыялы неаліту і бронзавага веку: крамянёвыя пласціны, наканечнік стралы паўн.-бел. культуры, ляпны керамічны посуд нарвенскай культуры.

Курганны могільнік за 1,5 км на Пд ад вёскі. 35 паўсферычных насыпаў выш. 0,3—0,7 м, дыям. 5—6 м. Выявіў у 1930 В.Глацёнак, даследавала 6 курганоў у 1975 З.М.Сяргеева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах, пахаванні адзіночныя і парныя. Пахавальны інвентар: бронзавыя скроневыя бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі, гладкія, вітыя



*Знаходкі з паселішча Лісна.*

і пласціністыя бранзалеты са штампаваным арнаментам, бронзавы ланцужок, рэшткі шаўковага каўняра з залатым шыццём. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.*: Сергеева З.М. Курганы у озера Лисно // КСИА. 1983. Вып. 175; Клімаў М.В. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Віцебскай вобласці // ГАЗ. Мінск, 2007. №23; Яго ж. Аб фарміраванні Ліснянскай воласці ў Полацкім княстве // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы 5 Міжнар. навук. канф., 2007 г. Полацк, 2009.

*Л.У.Дучыц, М.В.Клімаў.*

**ЛІСО́ЎЧЫЦЫ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Лісоўчыцы Камянецкага р-на.

Могільнік-1 за 1,6 км на ПдУ ад вёскі, каля хутара, злева ад дарогі на в. Кашчэнікі. 10 насыпаў выш. 0,3—0,5 м, дыям. 4—6 м. Большая частка насыпаў на ўзвышшы, за 50 м на ПдУ ад адзінкавых курганоў каля хутара. Пашкоджаны ямамі. Некаторыя курганы па контуры абкладзены камянямі. Вядомы з 1895, абследавала ў 1980, 1985, даследавала ў 1981 два курганы Т.М.Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (у адным з частковым спаленнем) на гарызонце галавой на З, рукі ўздоўж тулава. Знойдзены абпалены жал. прадмет, падобны на вастрыё двухшыпнай стралы, каваныя цвікі (відавочна, ад труны). Датуецца 11 ст.

Могільнік-2 за 1,6 км ад вёскі, злева ад дарогі на в. Перкавічы. Захаваліся 2 курганы выш. 0,3—0,6 м, дыям. 4,3 і 5,9 м. Абкладзены камянямі. Даследаваў у 1960 І.В.Біруля. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Знойдзены 2 жал. прадметы дугападобнай формы.

Могільнік-3 за 1,1 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Пяцічна Гара 4 насыпы выш. 0,2—0,3 м, дыям. 4—6 м. Раней былі абкладзены камянямі, папсаваны землянымі работамі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Исследования курганов в бассейне Буга // АО 1981. М., 1983.

*Т.М.Каробушкіна.*

**ЛІТВА́**, 1) назва племяннога саюзу, пазней гісторыка-геаграфічнай і этнаграфічнай вобласці на ПнЗ сучаснай тэр. Беларусі і ПдУ сучаснай Літ. Рэспублікі. Упершыню згадваецца ў Кведлінбургскіх аналах пад 1009, ва ўсх.-слав. летапісах пад 1040. У «Аповесці мінулых гадоў» Л. называецца сярод тых плямёнаў і народаў, якія плацілі даніну Русі. Этымалогія тэрміна канчаткова не высветлена.

Паводле дакументаў 15—17 ст. прасочваюцца межы ўласна Л.з інш. гіст. абласцямі. Мяжа паміж Л.і Жамойцю (Жмуддзю) праходзіла па ніжнім і сярэднім цячэнні р. Нявежа (Нявежыс), а ўсх. і паўд. мяжа з гіст. вобласцю Русь (пазней Белая Русь) — па ўсх. частках Міёрскага, Глыбоцкага, цэнтр. частцы Докшыцкага, паўн.-ўсх. частцы Вілейскага і ўсх. — Лагойскага р-наў. Далей на Пд мяжа ішла па зах. частках Смалявіцкага, Чэрвеньскага і цэнтр. ці ўсх. частцы Пухавіцкага р-наў. У некаторых дакументах прасочваецца тэндэнцыя праводзіць усх. мяжу па сярэднім і часткова верхнім цячэнні р. Бярэзіна, што супадае з этнагр. мяжой Цэнтр. Беларусі і Паазер'я. Можна меркаваць, што паўд. мяжа Л.ў асн. супадала з этнагр. мяжой паміж Цэнтр. Беларуссю і Палессем (усх. і зах.) і з паўн. мяжой заходнепалескіх гаворак. Паводле этнагр. запісаў 19 ст. вядома, што насельніцтва на Пд ад Выганаўскіх балот (Выганаўскае воз. — у Івацэвіцкім р-не) лічыла тых, хто жыў на Пн ад іх, ліцвінамі, а сябе — палешукамі. У адным з дакументаў 1570 маёнтак Косава (зараз горад у Івацэвіцкім р-не) аднесены да ўласна Л. Не зусім вызначана зах. мяжа гіст. Л. і невядома, ці супадала яна з усх. мяжой *Падляшша*.

Акрэсленая тэр. ў асн. супадае з арэалам культуры штрыхаванай керамікі пач. н.э., а для 3-й чв. 1-га тыс. н.э. — з арэаламі культуры ўсходнеліт. курганоў і часткова — банцараўскай. Многія археолагі і гісторыкі (В.В.Сядоў, А.З.Таўтавічус і інш.) атаясамліваюць першапачатковую Л.з культурай усходнеліт. курганоў, арэал якой ахопліваў тэр. ад сярэдняга цячэння рэк Нёман і Швянтойі да р. Мяркіс і воз. Свір. Паводле археал. дадзеных вядома, што міжрэчча рэк Швянтойі і Нявежыс у раннім сярэдневякоўі займала насельніцтва, для якога былі характэрны грунтавыя пахаванні з трупаспаленнем і якое атаясамліваюць з аўкштайтамі. Хутчэй за ўсё, у далейшым аўкштайты былі падпарадкаваны Л. і зліліся з ёй.

Паводле гіпотэзы В.В.Сядова, Л., археал. эквівалентам якой ён лічыць культуру ўсходнеліт. курганоў, ад самага пачатку была не чыста балцкім, а балта-слав. племянным аб'яднаннем. Доказамі ранняга пранікнення слав. элементаў ён лічыў распаўсюджанне бранзалетападобных скроневых кольцаў з самкнутымі канцамі (к. 4—5 ст.) і серпападобных скроневых кольцаў (8—10 ст.), якія характэрны для некаторых тэр. са слав. насельніцтвам. Акрамя таго, В.В.Сядоў звяртаў увагу на тое, што, па дадзеных літ. даследчыка тапаніміі А.П.Ванагаса, у арэале культуры ўсходнеліт. курганоў распаўсюджаны слав. гідронімы.

Па матэрыялах археалогіі можна заўважыць, што ў 11—12 ст. паўд.-ўсх. частка арэала культуры ўсходнеліт. курганоў скарачаецца. Раскопкі ў Вільнюсе засведчылі, што ўжо ў 12 ст. ва ўсіх 3 частках пазнейшага горада — Верхнім замку (на гары Гедзіміна), Ніжнім замку (р-н сучаснай Кафедральнай пл.) і Крывым горадзе (знішчаны крыжакамі ў к. 14 ст. і больш не адрадзіўся) — існавалі паселішчы, на якіх знойдзены ўсходнеслав. рэчы, уключаючы кераміку і шкляныя бранзалеты. Шмат усходнеслав. рэчаў знойдзена і пры раскопках Кернаве.

*Тэрыторыя першапачатковай **Літвы**.*



Ням. храніст 14 ст. Віганд з Марбурга характарызаваў Вільню (Вільнюс) як «civitas Rutenica» — горад, што быў засн. русінамі. Пра тое, што славяне праніклі на Віленшчыну яшчэ ў часы існавання крывічоў (г.зн. раней к. 12 ст.), сведчыць тапонім Крывічы (Kriviciai) у Малетайскім р-не (на ПнУ ад Вільнюса). У «Жыцці трох віленскіх (літоўскіх) пакутнікаў», нібыта закатаваных у 1347 за пераход у праваслаўе, даюцца першапачатковыя язычніцкія імёны гэтых «ліцвінаў», слав. па характары, — Кумец, Круглец і Няжыла. Усё гэта сведчыць калі не пра першапачатковы балта-слав. характар, то пра дастаткова раннюю славянізацыю значнай часткі тэр. летапіснай Л. Пасля Люблінскай уніі 1569 Л. называлі тэр. Віленскага, Трокскага, Навагародскага, Берасцейскага і часткова Мінскага ваяводстваў (гэтыя землі часта называлі «літоўскімі ваяводствамі» і Палессем), з к. 18 ст. — Віленскую, Ковенскую, Гродзенскую і часткова Мінскую губ. У 19—20 ст. у сувязі з фарміраваннем нацый і ростам нац. самасвядомасці беларусаў і літоўцаў назва Л. замацавалася за тэр. сучаснай Літ. Рэспублікі, а на астатняю тэр. гіст. Л. пашырылася назва Беларусь.

2) Скарочаная назва ВКЛ (поўная афіцыйная назва — Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае, Новагародскае і Рускае; з 15 ст. — Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае).

*Літ.*: Ермалович Н.И. Где была летописная Литва? // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Минск, 1969; Непокупный А.П. Балто-северославянские языковые связи. Киев, 1976; Седов В.В. Литва и кривичи // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2001. Т. 21; Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ЛІЦЕ́ЙНЫЯ ФО́РМЫ**, прыстасаванні для адліўкі вырабаў з каляровых, пазней чорных металаў. Выкарыстоўваліся для адліўкі падвесак, скроневых кольцаў, пярсцёнкаў, бранзалетаў, крыжыкаў, гузікаў і інш. вырабаў *ліццём*.

У Беларусі знойдзены гліняныя Л.ф. на паселішчах *мілаградскай культуры* (*Гарошкаў*, *Мохаў*, *Падгор'е* і інш.). У сяр. 1-га тыс. н.э. карысталіся і каменнымі формамі (*Пруднікі*). У 9—11 ст. пераважаюць гліняныя формы, выкананыя па васковых мадэлях, з аднабаковай прафілёўкай. У 11 ст. ужывалі таксама пляскатыя двухбаковыя гліняныя формы. У познафеад. перыяд для атрымання арнаментаваных званоў, гармат выкарыстоўвалі формы складаных канструкцый. Выраблялі Л.ф.

з розных парод каменю, вогнетрывалай гліны, зрэдку з дрэва і бронзы. Высокага майстэрства рэзчыка патрабаваў выраб форм з каменю, асабліва дапасаванне плоскасцей двухбаковых форм. Для адлюкі вырабаў са складанай рэльефнай арнаментацыяй ужывалі 3- і 4-баковыя Л.ф. Для сумяшчэння частак у формах рабіліся адтуліны, у якія ўстаўлялі штыфты. Каменныя формы выкарыстоўвалі для ліцця тэхнікай «навыплеск» (незастылая маса лілася вонкі), што дазваляла атрымаць аблегчаныя пустацелыя выявы звяроў, птушак, імітацыі зерні, скані і інш. Л.ф. знойдзены пры раскопках у Ваўкавыску, Гродне, Мінску, Навагрудку, Полацку (больш за 20), Тураве і інш. гарадах.

*Літ.:* Рубцов Н.Н. История литейного производства в СССР. Ч. 1. 2 изд. М., 1962; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Древняя Русь: город, замок, село. М., 1985. *М.Ф.Гурын.*

**ЛІЦЦЁ**, працэс атрымання вырабаў (адлівак) шляхам залюкі расплаўленых матэрыялаў (металаў, горных парод, керамічных сумесей і інш.) у ліцейныя формы.

У Беларусі Л. вядома з часоў бронзавага веку (з сяр. 2-га тыс. да н.э.). З бронзы, пазней і жалеза, адлівалі ўпрыгажэнні (спражкі, фібулы), наканечнікі коп'яў, стрэл. У 12 ст. пашырыўся спосаб Л. ў каменныя ці гліняныя раздымныя формы, падрыхтаваныя на васковай мадэлі. З медзі, бронзы, срэбра, радзей з золата адлівалі ўпрыгажэнні (бранзалеты, пярсцёнкі, спражкі, амулеты, падвескі ў выглядзе каньжоў ці званочкаў), царкоўнае начынне (свяцільні, крыжы, энкалпіёны), дэталі адзення, конскай збруі; са свінцу выраблялі пячаткі і абразкі з гарэльефнымі сюжэтнымі выявамі. У познафеад. перыяд адлівалі гарматы, ядры да іх, званы і інш. вырабы. Выкарыстанне каляровых металаў і іх сплаваў, чыгуну, якія добра запаўняюць форму, спрыяла атрыманню высокамаст. вырабаў; гарматы аздаблялі рэльефнымі паяскамі, гербамі, выявамі жывёл, анёлаў і інш., званы — расліннымі гірляндамі, арнаментальнымі надпісамі. Прыкладам высакаякаснага Л. з'яўляюцца гарматы, адлітыя ў Нясвіжы, якія зберагаюцца ў Музеі Войска Польскага ў Варшаве і музеі артылерыі ў Стакгольме (Швецыя). *М.Ф.Гурын.*

**ЛІЧЫЦЫ**, археалагічны помнік — стаянка эпох мезаліту, позняга неаліту і бронзавага веку каля в. Лічыцы Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. На паўд. ускраіне вёскі, на невял. выступе правабярэжнай тэрасы р. Рось. Пл. 130 × 60 м, выш. 2 м. Выявіў і даследаваў 100 м² у 1984—85 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены трапецыі, ланцэтападобныя вастрыі, псеўдаразцы, скрабкі на пласцінах і адшчэпах, рэжучыя прылады, сякеры, аднапляцовачныя нуклеусы, у т.л. прызматычныя для вузкіх пласцін. Крамянёвы інвентар у большасці адносіцца да *янісла-віцкай культуры.* Выяўлены і познанеалітычныя комплексы, прадстаўленыя пераважна керамікай. Гэта фр-ты посуду *шарападобных амфар культуры* з адбіткамі лінейнага штампа, крамянёвыя вырабы і фр-ты керамікі з гафрыраваным каўнерыкам *шнуравой керамікі культуры.* Сустракаюцца адзінкавыя фр-ты ляпнога посуду сярэднябронзавай *тшцінецкай культуры.* У сярэдневякоўі стаянка была пашкоджана хрысціянскім могільнікам. Датуецца 8—6-м і 2-й пал. 3-га — сяр. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.:* Чарняўскі М.М., Кудрашоў В.Я., Ліпніцкая В.М. Старажытныя шахцёры на Росі. Мінск, 1996. *М.М.Чарняўскі.*

**ЛО́ЕЎ**, гарадскі пасёлак, цэнтр Лоеўскага р-на Гомельскай вобл., прыстань на правым беразе р. Дняпро ў вусці р. Сож. За 92 км на Пд ад Гомеля, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца на лініі Гомель—Калінкавічы. Аўтадарогамі звязаны з Брагінам і Рэчыцай.

На месцы сучаснага Л. існавалі старaж. паселішча плямён мілаградскай, зарубінецкай культуры 7—3 ст. да н.э., потым гарадзішча старaж.-рус. часу 11—13 ст. Пазней тут існаваў *Лоеўскі замак.* У пісьмовых крыніцах Л. упамінаецца ў 1505 у сувязі з разбурэннем крымскімі татарамі. З к. 16 ст. мястэчка, крэпасць і цэнтр староства. У 1646 далучаны да Старадубскага пав. Смаленскага ваяводства, у 1660-я г. ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. У час антыфеад. вайны 1648—51 каля Л. паміж войскамі казацка-сялянскім і ВКЛ адбыліся бітвы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 спустошаны. З 1676 ва ўладанні рэчыцкага войта М.С.Юдзіцкага і яго нашчадкаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) увайшоў у склад Расійскай імперыі.

Селішча (магчыма, пасад) каля вусця ручая Вітач у межах забудовы гар. пасёлка. Даследавана пл. да 3 га. Абследавалі ў 2004—05 А.Р.Цімафеенка і А.А.Макушнікаў. Датуецца 11—13 ст.

Курганны могільнік за 4 км на ПнЗ ад гар. пасёлка, у лесе, побач з ур. Грэгарава Поле. Налічваў больш за 70 курганоў (захаваліся 53, у т.л. паўразбураныя). Даследаваў 15 курганоў у 1890 У.З.Завітневіч. Пахаванне па абраду трупапалажэння. Датуецца 11—12 ст.

Селішча за 0,1 км на ПдУ ад курганоў ва ўр. Грэгарава Поле. Пл. каля 3,5 га. Абследавалі ў 1890 У.З.Завітневіч, у 2004 А.Р.Цімафеенка. Датуецца к. 10—12 ст.

Паводле звестак краязнаўцаў, за 0,5 км на Пн ад Лоеўскага гарадзішча выяўлены прыкметы старaж.-рус. паселішча.

*Літ.:* Завитневич В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1892.

Кн. VI; Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983.

*А.А.Макушнікаў, Г.В.Штыхаў.*

**ЛО́ЕЎСКІ ЗА́МАК**. Існаваў у 14—18 ст. на правым беразе Дняпра ў цэнтры сучаснага г.п. Лоеў Гомельскай вобл. Узведзены на месцы гарадзішча жал. веку і стараж.-рус. часу 11—13 ст. Меў форму паўкруга дыям. каля 125 м, абведзенага земляным валам і ровам, якія ўпіраліся ў стромкі бераг ракі. Сляды рова глыб. да 2 м, які заплыў, прасочваюцца пад сучаснай гар. забудовай. Л.з. быў абкружаны горадам, таксама ўмацаваным дугападобным валам. З усх. боку, дзе вал адсутнічаў, замак засцерагаўся высокім (каля 20 м) берагам Дняпра. Абследавалі ў 1980 М.А.Ткачоў, у 2004—05 А.Р.Цімафеенка і А.А.Макушнікаў. У 1956 тэр. Л.з. знівеліравана пры будаўніцтве Дома культуры. На ўсх. і паўд. схілах замка выяўлена ляпная кераміка *мілаградскай культуры*, кругавая кераміка 11—13 ст., у т.л. белагліняная кіеўскага тыпу, абломкі шкляных бранзалетаў, шыферныя прасліцы, абмазка з гліны, косткі свойскай жывёлы.

Знаходкі даюць падставу меркаваць, што паселішча Лоева Гара існавала ўжо ў 11—13 ст. У пісьмовых крыніцах яно ўпершыню згадваецца ў 1505, калі татарскія загоны перакопскага хана Менглі-Гірэя пераправіліся цераз Дняпро і дашчэнту спалілі Лоеў. Пад сценамі Л.з. знаходзілася найважнейшая пераправа, т.зв. «Татарскі брод», які адчыняў крымскім татарам шлях у глыб Беларусі. Дакументы адзначаюць іх разбуральны маршрут у 1536 і 1538 у напрамку на «Лоеву Гору, на Петриковичи и на Слуцко». Пасля аднаго з разбурэнняў Лоева і замка магнат ВКЛ Леў Сапега «властным накладом своим замок и место на Лоевой Горе на шляху татарском заложил». Фактычна гэта было аднаўленне горада і замка, якія існавалі раней. Апісанне ўмацаванняў Лоева не захавалася. Толькі на карце М.Струбіча за 1578 пазначана высокая абарончая вежа. Верагодна, тут былі традыц. для таго часу драўляныя вежы і сцены-гародні. Паводле карт 17—18 ст. умацаванні Л.з. існавалі да далучэння ўсх. Беларусі да Расійскай імперыі ў 1772.

*Літ.*: Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Минск, 1966; Ткачев М.А. Работы экспедиции Гродненского университета // АО 1981. М., 1983.

**ЛО́МЫШ**, археалагічныя помнікі — паселішчы ранняга і сярэдняга неаліту каля в. Ломыш Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на паўд.-зах. схіле вял. пясчанага ўзгорка. Выш. над поплавам р. Прыпяць 3—4 м. Выявілі ў 1960 У.Ф.Ісаенка і А.П.Гарчанка, даследаваў у 1961—63 і 1973 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,1—0,2 м, прасочаны на працягу каля 400 м. Знойдзены 42 крамянёвыя прылады працы, 220 апрацаваных крамянёў, 140 фр-таў 8—9 ляпных гаршкоў.

Паселішча-2 за 2 км на ПдУ ад вёскі, на пясчаным астанцы тэрасы, што з 3 абмежаваны поплавам р. Прыпяць. Выявіў у 1962 і даследаваў у 1963 і 1972 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт працягласцю 90 м. Знойдзена 49 крамянёвых прылад працы, 250 апрацаваных крамянёў, 110 абломкаў 7—8 неалітычных гаршкоў.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**ЛОСК**, археалагічны помнік — замчышча на паўд.-ўсх. ускраіне в. Лоск Валожынскага р-на Мінскай вобл., на прыродным узвышшы, паміж рэкамі Казлоўка і Верасоўка (прытокі Бярэзіны). Мясц. назва Замчышча, Замак. Пляцоўка авальная, памеры 75 × 160 м, выш. 12—15 м, схілы замкавай гары аплылі. Абследавалі ў 1956 Л.В.Аляксееў, у 1985 Я.Г.Звяруга, раскопкі праводзілі ў 1987 З.С.Пазняк і М.М.Чарняўскі, у 1988—89 З.С.Пазняк і Г.М.Сагановіч, у 1990 Г.М.Сагановіч. Даследавана каля 400 м². Культ. пласт 1—2 м. У перадмацерыковым пласце знойдзены фр-ты ляпнога посуду *штрыхаванай керамікі культуры*. Вышэй залягаюць раннесярэдневяковыя напластаванні. Знойдзены рэшткі гаршкоў (ёсць донцы са свастыкай), шматлікія жал. вырабы, асабліва цыліндрычныя замкі, кавалачкі керамічных плітак падлогі 11—13 ст.; больш за 100 фр-таў рознакаляровых шкляных бранзалетаў кіеўскай і візантыйскай вытворчасці (гладкіх, гранёных і вітых), шкляныя пярсцёнкі і пацеркі, блізкія да візантыйскіх тыпаў, нарыхтоўкі і пацеркі з бурштыну, самшытавыя грабеньчыкі, шмат шыферных прасліц, кавалкі амфар, сярэбраныя нацельныя крыжыкі, касцяныя вырабы. Нарыхтоўкі і абрэзкі костак і рагоў сведчаць пра наяўнасць касцярэзнай вытворчасці. У познасярэдневяковых пластах выяўлены кухонны і сталовы посуд 14—17 ст. (у асн. непаліваныя гаршкі, міскі, макотры, рынкі, збаны і інш.), фр-ты кафлі (з зялёнай палівай і паліхромныя), жал. вырабы (нажы, шпоры і інш. рыштунак конніка), рэшткі рэйнскай каменнай вазы, багаты астэалагічны матэрыял — рогі тураў, аленяў, ласёў, іклы дзікоў і інш. Бліжэй да вала выяўлены груды featureнапамерных камянёў. У пласце 12—13 ст. ускрыты рэшткі драўляных пабудоў— зрубаў хат.

*Г.М.Сагановіч.*

**ЛО́ША**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі ўсходнелітоўскага насельніцтва к. 1-га тыс. каля в. Лоша Астравецкага р-на Гродзенскай вобл.

Курганны могільнік-1 за 0,1 км на ПнУ ад вёскі і 0,3 км ад берага р. Лоша, на ўскрайку лесу. 74 курганы дыям. 5—16 м, выш. да 1,5 м. Вакол большасці насыпаў прасочваюцца кругавыя раўкі з пе-

рамычкамі, асобныя па краі абкладзены камянямі, многія пашкоджаны ямамі. У 1892 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 4 курганы, у 1933 Г.Цэгак-Галубовіч — 17. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце пад насыпам. Рэшткі крэмацыі і пахавальны інвентар змешчаны ў цэнтры насыпаў на вугальнай пляме. Пахавальны інвентар: вузкалязовая баявая сякера, наканечнікі коп'яў з пяром ланцэтападобнай формы, нажы, іголкі, гліняныя праслiцы, гліняныя пасудзіны, у т.л. слоікавай формы з валікам, бронзавыя шыйныя грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы і інш.

Курганны могільнік-2 за 1,5 км на З ад могільніка-1, на краі лесу. 21 курган дыям. 6—18 м, выш. 0,5—1,7 м (у к. 19 ст. было каля 30 насыпаў). У 1892 Ф.В.Пакроўскі даследаваў адзін курган дыям. 10 м, выш. 0,9 м. На ўзроўні стараж. гарызонту выяўлены пласт чорнай зямлі з вуголлем. Паблізу цэнтра кургана на глыб. 0,35 м знойдзены дробныя абломкі глінянага гаршка. У інш. насыпах мясц. жыхары знаходзілі сякеры, наканечнікі коп'яў, нажы.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Случайная археологическая экскурсия в верховья р. Вилейки // Тр. IX АС. Вильна, 1893; Holubowicz W. Pięć lat pracy terenowej Muzeum Archeologicznego Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie (1933—1937) // Rocznik Archeologiczny. Wilno, 1937. T. 1. *Я.Г.Звяруга.*

**ЛО́ШЫЦКІЯ КУРГА́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі ў ваколіцы б. в. Лошыца (Сухая), цяпер у межах Мінска (вул. Лошыца 2-я).

Могільнік-1 на Пд ад вёскі, на ўзгорку, ва ўр. Замчышча. 13 круглых кургаоў і адзін падоўжаны. У к. 1890-х г. Г.Х.Татур даследаваў 2 насыпы. Знойдзены 2 бронзавыя скроневыя пярсцёнкападобныя з заходзячымі канцамі кольцы, 2 бронзавыя лірападобныя спражкі, паясное кольца, жал. пласціна з кручкамі на канцах, фр-ты жал. нажа, золаташкляная цыліндрычная пацерка, кавалак лямцавага шнура. У 1930 абследаваў А.А.Рынейскі, у 2006 Ю.А.Заяц. Захаваўся адзін падоўжаны курган у завулку Каржанеўскага.

Могільнік-2 на Пд ад вёскі каля Стара-Койданаўскага шляху (цяпер мікрараён па вул. Ландара) на ПдЗ ад чыг. прыпынка Курасоўшчына. 3 курганы. У 1930 абследаваў А.Рынейскі, у 1980-я г. адзін курган раскапаў П.А.Русаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку, галавой на З. Знойдзены золаташкляныя бочкападобныя і цыліндрычныя пацеркі. Датуецца 11 ст. У 2008 абследаваў Ю.А.Заяц. Захаваўся адзін круглы курган дыям. 13,5 м, выш. каля 2 м.

Могільнік-3 на Пд ад былой вёскі, у садзе. 13 невял. насыпаў. У 1930 абследаваў А.А.Рынейскі, у 2008—09 Ю.А.Заяц. Захаваўся адзін напаўразбураны курган пры з'ездзе з МКАД на праспект Дзяржынскага.

*Літ.*: Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч // Працы. Т.3; Спицын А.А. Обозрение некоторых губерний и областей России в археологическом отношении//Зап.Рос.имп.археол.о-ва.Санкт-Петербург, 1889. Т. 11, вып. 1—2. *Ю.А.Заяц.*

**ЛО́ШЫЦКІЯ СЕ́ЛІШЧЫ**, археалагічныя помнікі — селішчы на тэр. Лошыцкага садова-паркавага комплексу ў Мінску.

Селішча-1 у лукавіне правага берага р. Свіслач. Пл. каля 2,5 га, культ. пласт 0,2—0,6 м. Адкрыў у 1990 і даследаваў 68 м² у 2005—06 Ю.А.Заяц. Выяўлены прыпечныя ямы наземных жытлаў, рэшткі майстэрні па апрацоўцы металаў. Знойдзены жал. нажы, сашнік, шыла, крэсіва, наканечнікі стрэл, бронзавыя спражкі, накладкі і наканечнікі паясоў, фібула, бразготка, крыжык, скроневае сяміпрамянёвае кольца, касцяны грэбень, керамічны посуд і тыгель. Датуецца 2-й пал. 10 — 1-й пал. 13 ст.

Селішча-2 на 2-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Лошыца пры ўпадзенні яе ў Свіслач. Часткова перакрывае ускраіну селішча-1. Пл. каля 2 га. Культ. пласт да 0,45 м. Адкрыў і абследаваў у 1992 і 2009 Ю.А.Заяц. Знойдзены свінцовая куля, жал. цвік, нож і фр-т шпоры 2-й пал. 16—18 ст.

*Літ.*: Заяц Ю.А. Новые памятники архео-логии в пределах городской черты Минска (правый берег Свислочи) // Древняя история Восточной Европы. Минск, 2009. *Ю.А.Заяц.*

**ЛУ́ДЧЫЦЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Лудчыцы Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка-1 ранняга этапу грэнскай культуры за 2 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе Дняпра, на мысе тэрасападобнай пляцоўкі, утворанай 2 ярамі, выш. 11—12 м над узроўнем р. Рдзіца (правы прыток Дняпра). Выявіў у 1972 і даследаваў 330 м² у 1972—73, 1988 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,3 м, залягаў пад пластом пяску на глыб. 0,5—0,8 м. Выяўлены рэшткі жытла авальнай формы дыям. да 2,5 м, паглыбленага ў мацярык на 0,1—0,2 м. У цэнтры пабудовы зафіксаваны вял. колькасць дробнага вугалля, попельныя плямы і прылады працы. За 2 м ад яго знойдзены рэшткі лінзападобнага ў сячэнні агнішча, дыям. да 0,6 м, таўшч. попельнага пласта да 0,1 м. Сярод знаходак крамянёвыя пласціны, адшчэпы, нуклеусы, дробныя асколкі і лускавінкі крэменю, тронкавыя наканечнікі стрэл з пяром, скошаным крутой рэтушшу, двухгранныя разцы, канцавыя скрабкі, вастрыі, пласціны са скошаным рэтушаваным канцом. Стаянка была сезонным паляўнічым лагерам з часовым жытлом драўлянай канструкцыі накшталт чума або ярангі.

Стаянка-2 эпохі мезаліту за 2 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Рдзіца. Выявіў і абследаваў у 1977

лаўскага летапісу», карціна «Бітва пад Оршай») сведчаць, што ў 15—16 ст. шырока выкарыстоўваліся складаныя Л. Часам крыніцы фіксуюць выкарыстанне Л., імпартаваных з Турцыі. З 16 ст. Л. з'яўляўся неад'емным атрыбутам татараў, якія жылі ў ВКЛ; у 2-й пал. 16 ст. стаў асновай комплексу зброі асобнай катэгорыі ваяроў, узброеных па-казацку. Паступова выходзіць з ужытку ў якасці зброі ў 18 ст.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008; Медведев А.Ф. Ручное метательное оружие. Лук и стрелы, самострел VIII—XIV вв. М., 1966.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі, Макс.М.Чарняўскі.*

**ЛУКА́-РАЙКАВЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён, якія ў 8—10 ст. жылі на тэр. Украіны, Малдовы, паўд. Беларусі, Балгарыі, Румыніі. Назва паходзіць ад селішча каля в. Райкі (ур. Лука) Бярдзічаўскага р-на Жытомірскай вобл., якое даследаваў у 1946—48 укр. археолаг В.К.Ганчароў. Найб. раннія матэрыялы выλучаны на паселішчах у нізоўях р. Рось (прыток Дняпра) каля в. Сахніўка ва Украіне (к. 7 — сяр. 8 ст.). Л.-р.к. склалася на аснове пражскай культуры, яе пакінулі ўсх. славяне на этапе фарміравання дзяржаўнасці ў раннім сярэдневякоўі. На тэр. Беларусі помнікі Л.-р.к. распаўсюджаны на тэр. *пражскай культуры*, выходзячы за яе межы на Пн (паселішча Радагошча Навагрудскага р-на).

Насельніцтва жыло па берагах рэк на селішчах і гарадзішчах. На фінальным этапе культуры назіраецца сацыяльная стратыфікацыя паселішчаў на племянныя цэнтры, адкрытыя гандл.-рамесніцкія паселішчы, або протагарады, і аграрныя паселішчы. Пахавальны абрад — трупапаленне, могільнікі грунтавыя і курганныя. Крэміраваныя рэшткі нябожчыка змяшчалі на рытуальных вогнішчах на гарызонце альбо ў насыпу курганоў. Зафіксаваны канаўкі ці агароджы з вертыкальных бярвён, якія абкружалі пахаванні. Жытлы даследаваліся на селішчах *Дружба*, *Хотамель*, *Гарадзішча*. Прадстаўлены паўзямлянкавымі і наземнымі пабудовамі са зрубавай, слупавой і плятнёва-каркаснай канструкцыяй сцен, пл. 12—30 м². Ацяпляліся глінабітна-каменнымі пячамі, збудаванымі на падлозе альбо над падпечнай ямай. Кераміка ляпная (таўстасценныя пасудзіны з адагнутымі шыйкамі, часам аздобленыя па ўсёй паверхні кругавым хвалістым арнаментам) і кругавая (таўстасценныя гаршкі з вертыкальнымі альбо адагнутымі вонкі шыйкамі, аздобленымі па ўсёй паверхні кругавым хвалістым і лінейным арнаментам). Рэчавы матэрыял прадстаўлены прыладамі працы, зброяй, даспехамі, рыштункам вершніка і баявога каня, дэталямі касцюма, упрыгажэннямі і побытавымі рэчамі.

*Літ.*: Славяне юго-восточной Европы в предгосударственный период. Киев, 1990; Вяргей В.С. Помнікі тыпу Лука-Райкавецкая на Беларусі // Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т.2. *В.С.Вяргей.*

**ЛУКО́МЛЬ**, вёска ў Чашніцкім р-не Віцебскай вобл. Узнікла ў 9 ст. як крэпасць крывічоў на р. Лукомка. У 10—13 ст. горад Полацкай зямлі. Згадваецца ў 1078 у «Павучанні» Уладзіміра Манамаха пры апісанні паходу на Усяслава Брачыславіча. З 12 ст. цэнтр удзельнага Лукомскага княства. З 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1386 узяты Андрэем Полацкім. У 1397 выхадцы з валыні заснавалі тут Мікалаеўскі манастыр. У Лівонскую вайну разбураны Іванам IV Грозным (1563). У 1658 сяло. У 18—19 ст. мястэчка. Каля Л. выяўлены археал. помнікі — гарадзішча, селішчы, курганны могільнік.

Гарадзішча ў вёсцы, на правым беразе р. Лукомка. Памеры 63 × 36 м, выш. 15 м. Мясц. назва Замак. Абследавалі ў 1930 А.Дз.Каваленя, у 1956 Л.В.Аляксееў. У 1966—74 Г.В.Штыхаў даследаваў 704 м². Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі каля 2 м, па баках 5 м. Знойдзены жал. наканечнікі стрэл, пік, пласцінкі панцыра, пінцэт, крэсівы, бронзавыя бранзалеты, скроневае кольца, касцяныя грабяні, праколкі, накладкі, шкляныя бранзалеты і пацеркі, гліняныя праслiцы, каменныя тачыльныя брускі. Да рэдкіх знаходак належаць касцяная шахматная фігурка ферзя, залатая ажурная пацерка, касцяная накладка з выявамі звяроў, фр-т фаянсавага блюда з люстранай размалёўкай. Гліняны посуд прадстаўлены ляпной (гладкасценнай і штрыхаванай), раннекругавой і кругавой керамікай. Матэрыялы адносяцца да жал. веку (*днепра-дзвінская культура*), 3-й чв. 1-га тыс. н.э. (*банцараўская культура*), 9 — пач. 10 ст. (*крывічы*), стараж.-рус. часу (11—13 ст.) і перыяду ВКЛ.

Селішча-1 на Пн ад гарадзішча, на правым беразе р. Лукомка. Пл. больш за 3 га. Даследаваў у 1969—70 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,6—1,5 м. Знойдзены бронзавыя трапецападобныя падвескі, жал. валютападобны нож 8—9 ст., тыглі для плаўкі каляровых металаў, абломкі ліцейных форм, зліткі свінцу, шлакі, нарыхтоўкі і рэчы з рога і косці, ляпны посуд *банцараўскай культуры* і *полацка-смаленскіх доўгіх курганоў культуры*, кругавая кераміка 10—16 ст.

Селішча-2 на левым беразе р. Лукомка, насупраць гарадзішча. У 1973—74 Г.В.Штыхаў даследаваў 244 м². Культ. пласт 0,5—1 м. Знойдзены шлакі і вырабы з жалеза, ключ ад накладнога замка (10—11 ст.), падкавападобная фібула, утулкавы наканечнік стралы, нажы, рэчы з косці (двухбаковы арнаментаваны грэбень, наканечнік стралы), каменю (праслiцы, створка ліцейнай формы), кругавы посуд 10—13 ст.

Курганны могільнік за 1 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Праклятае поле. 6 курганоў выш. 2 м, дыям. 8—10 м. Даследаваў у 1886 Е.Р.Раманаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены вядро, баявыя сякеры, нажы, наканечнікі коп'яў. Датуецца 11 ст. У 1966 Г.В.Штыхаў раскапаў пахаванне воіна разам з інвентаром (у т.л. нож, на касцяным дзяржанні якога выкаваны трызубец). Пахаванні сведчаць пра існаванне дружыннага некропаля.

Курган за 1 км на З ад вёскі, каля могілак. Выш. 4 м, дыям. 20 м. Мясц. назва Валатоўка. Вядомы з 1873. Абследаваў у 1966 Г.В.Штыхаў.

Да стараж. гісторыі Л. адносяцца *Стражавіцкія манетна-рэчавыя скарбы* 10—11 ст., схаваныя за 5 км ад Л., верагодна, мясц. гандляром ці рамеснікам.

*Літ.*: Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1975; Его ж. Раскопки в Лукомле в 1966—1968 годах // Древности Белоруссии. Минск, 1969. *Г.В.Штыхаў.*

**ЛУ́МНА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Лумна Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 0,3 км на ПнУ ад вёскі. Было 7 курганоў дыям. 4—12 м, выш. 0,6—1,2 м. Абследавалі ў 1965 Ю.У.Кухарэнка, у 1980 Т.М.Каробушкіна. У 1972 даследаваў 3 насыпы П.Ф.Лысенка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. У адным кургане адзіночнае пахаванне, у 2 — парныя. Знойдзены шыфернае прасліца, рэшткі вогнішча. Датуецца 11—12 ст. 4 курганы былі знішчаны ў 1976. *П.Ф.Лысенка.*

**ЛУ́ННІЦА**, металічнае ўпрыгажэнне ў выглядзе паўмесяца (завушніцы, нагрудныя падвескі, дэталі галаўнога ўбору). Вядомы многім народам Еўропы і Азіі з канца бронзавага веку. Лічыліся абярэгамі, адлюстроўвалі шанаванне Месяца, звязанае з культам урадлівасці. Ва ўсх. славян былі шырока распаўсюджаны ў эпоху Кіеўскай Русі, на тэр. Беларусі сустракаюцца пры раскопках большасці археал. помнікаў таго часу. Адлівалі Л. з бронзы ці свінцова-алавяністых сплаваў у каменных ліцейных формах. Паверхню вырабаў аздаблялі насечкамі ў выглядзе трохвугольнікаў ці палоскамі несапраўднай зерні. Даследчыкі падзяляюць Л. на малыя (да 2 см), сярэднія (2—4 см), вял. (больш за 4 см); па суадносінах паміж сярэдняй лініяй і «рожкамі» — на шыракарогія (к. 10 — пач. 11 ст.), крутарогія (11—12 ст.), замкнёныя (12—13 ст.) і крыжападобныя. Знойдзены пры раскопках у Гродне, Віцебску, Брэсце, Гомелі, Ваўкавыску, Друцку, Заслаўі, Копысі, Мінску і інш. Ліцейныя формы выяўлены ў Віцебску (8 ст.) і Гродне.

*Літ.*: Гольмстен В. Лунницы Российского исторического музея. М., 1914; Очерки по археологии Белоруссии. Ч.2. Минск, 1972. *Т.С.Бубенька.*

**ЛУЦКЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч (28.5.1881, Шаўляй, Літва — 20.8.1919), беларускі кнігавыдавец, археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Лібаўскай (Ліепайскай) і Мінскай гімназіях, Маскоўскім археал. ін-це, Пецярбургскім ун-це. Адзін са стваральнікаў «Круга беларускай народнай прасветы і культуры» (1902), партыі Бел. Сацыялістычная Грамада, Т-ва сяброў навук (1907), Бел. выдавецкага т-ва (1913), Навук. т-ва ў Вільні (1918). Адзін з арганізатараў выдання першых бел. легальных газет «Наша доля» і «Наша ніва».

Займацца археалогіяй пачаў пад час вучобы ў Лібаўскай гімназіі, калекцыяніраваў старыя манеты і інш. старадаўнія прадметы. У гады вучобы ў Мінскай гімназіі пазнаёміўся з археолагам Г.Х.*Татурам*. Пасля заканчэння Археал. ін-та камандзіраваны ў Венскі ун-т, дзе пад кіраўніцтвам праф. В.Ягіча займаўся на слав. семінары. Уваходзіў у склад рэдакцый газет, садзейнічаў публікацыі краязнаўчых і археал. матэрыялаў. У «Нашай ніве» публікаваў свае краязнаўчыя нарысы і фotaздымкі (пад псеўданімам Шчасны); некаторыя артыкулы, літаратурна апрацаваная яго братам А.Луцкевічам, надрукаваны пад псеўданімам Іван Мялешка. Праводзіў пошукі археал. аб'ектаў (напр., выявіў гарадзішча каля в. Краснае Маладзечанскага р-на), разам з В.Ю.Ластоўскім знайшоў у ваколіцах г. Дзісна пярсцёнкі з пячаткамі князёў Усяслава Полацкага і Барыса Усяславіча. Шукаў кітабы. Шырока вядомы як калекцыянер, ініцыятар стварэння Беларускага музея ў Вільні (адкрыўся ў 1921), аснову якога склалі ўласныя калекцыі Л. На свае сродкі набыў для музея археал. экспанаты, прадметы матэрыяльнай культуры, нар. мастацтва, старадаўнія кнігі і рукапісы. У 1918 быў адным з арганізатараў выставак бел. старасветчыны і нар. мастацтва ў Мінску і Вільні.

*Літ.*: Памяці Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі смерці яго (20.8.1919—20.8.1920). Вільня, 1920.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ЛУ́ЧНА**, археалагічныя помнікі — паселішчы і вясковы могільнік каля в. Лучна Завозерскага с/с Полацкага р-на Віцебскай вобл.

Паселішча-1 каля в. Лучна, на левым беразе р. Зах. Дзвіна. Адкрылі ў 1998 С.М.Глушкоў і М.В.Клімаў. Пл. 0,6 га. У 1998—2005 М.В.Клімаў даследаваў 2184 м². Культ. пласт 0,3—0,6 м. Вылучаюцца 2 перыяды існавання паселішча: 10 (11) — 1-я пал. 13 ст.; 14 — 1-я пал. 16 ст. Выяўлены рэшткі пабудоў, цагляных і кафляных печаў, скляпы. Знойдзены фр-ты глінянага посуду, цэглы, гаршковай кафлі, рэйнскі «каменны тавар», жал. нажы, замкі, ключы, лучнікі, цвікі, шпоры, страмёны і інш. Зброя прадстаўлена наканечнікамі стрэл, кісцянём, баявымі нажамі, утокамі для коп'яў. Знойдзены рэчы культавага прызначэння: бронзавыя крыжыкі, медальён-прывеска

*Да арт. **Лучна**. Ганчарныя вырабы з паселішча-1.*



*Да арт. **Лучна**. Рэшткі пабудовы з паселішча-1.*



з выявай Маці Божай Аранты, энкалпіёны 15—16 ст. Нумізматычны комплекс прадстаўлены ў асн. пражскімі грошамі і дынарыямі Аляксандра Ягелончыка. У 2002 былі знойдзены *лучнянскія манетныя скарбы.* Паселішча адносіцца да катэгорыі неўмацаваных феад. сядзіб.

Вясковы могільнік на тэр. паселішча-1. У 1999—2005 даследаваў разам з паселішчам М.В.Клімаў. Могільнік засн. пасля заняпаду паселішча ў 16 ст. Выяўлены 12 пахаванняў па абраду трупапалажэння ў ямах (11) і на гарызонце (1). Пахаванні безынвентарныя, частка з іх у трунах. Арыентаваны ў напрамках З—У (11) і Пн—Пд (1). Паводле полу і ўзросту ідэнтыфікаваны 10 — 5 мужчынскіх, 4 жаночых, 1 падлетка.

У ваколіцах вёсак Лучна Завозерскага с/с і Лучна Гаранскага с/с выяўлены яшчэ 4 вясковыя паселішчы 11—18 ст.

*Літ.:* Клімаў М.В. Зброя, ваенны рыштунак вершніка і каня з помніка Лучна-1 (па матэрыялах археалагічных раскопак 1999—2000 гг.) // МАБ. 2001. №1; Яго ж. Матэрыялы да рэканструкцыі печаў з посудападобнай кафляй // Там жа. 2003. №7; Яго ж. Лучна-1: Стратыграфія і храналогія феадальнай сядзібы // Матэрыялы IV Міжнар. канф. «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі». Полацк, 2002; Клімаў М.В., Бохан Ю. Унікальная знаходка познасярэдневяковага стрэмені на тэрыторыі Беларусі // БГЧ. 2004. № 5.

*М.В.Клімаў.*

**ЛУЧНЯ́НСКІЯ МАНЕ́ТНЫЯ СКА́РБЫ**. Выявіў у 2002 М.В.Клімаў на паселішчы-1 каля в. Лучна Завозерскага с/с Полацкага р-на Віцебскай вобл.

Скарб-1 (6 манет, загорнутых у тканіну) схаваны каля сяр. 16 ст., змяшчаўся ў частцы кафліны. Манеты чаканкі Аляксандра Ягелончыка, Жыгімонта І Старога і Жыгімонта II Аўгуста.

Скарб-2 (222 манеты, загорнутыя ў тканіну) схаваны не раней 1551, змешчаны ў гліняным гаршку. 221 манета з білону чаканкі ВКЛ, Польшчы і Прускага герцагства; адзіная сярэбраная манета — паўгрош Уладзіслава II (к. 14 ст.). 8 паўгрошаў Яна Ольбрахта; 54 — Аляксандра Ягелончыка; 99 — Жыгімонта І Старога. 39 манет Жыгімонта II Аўгуста прадстаўлены 2 грошамі і 37 паўгрошамі 1545—51. Грошы Прускага герцагства Альберта II Гогенцолерна (самы позні— 1550).

Скарб-3 быў выпадкова выяўлены насельніцтвам в. Лучна Гаранскага с/с і амаль цалкам разрабаваны. Захаваліся 12 манет: паўгрош Жыгімонта І Старога (Польшча, 1512); 2 паўгрошы Аляксандра Ягелончыка (ВКЛ); 7 паўгрошаў Жыгімонта II Аўгуста (ВКЛ, 1 экз. — 1547; 4 — 1561; 2 — 1562).

*Літ.:* Клімаў М.В. Манетныя скарбы XVI ст. з мікрарэгіёна Лучна // МАБ. 2006. №11.

*М.В.Клімаў.*

**ЛУЧЫ́Н**, археалагічныя помнікі — паселішчы, гарадзішчы, селішча і курганны могільнік каля в. Лучын Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 на паўд. ускраіне вёскі, ва ўсх. частцы пясчанага астанца ў пойме правага берага Дняпра, ва ўр. Барок. Выявіў у 1956 і даследаваў 60 м² у 1957 І.І.Арцёменка. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены скрабкі, праколкі, адходы крамянёвай вытворчасці, фр-ты познанеалітычнай




*Да арт. **Лучнянскія манетныя скарбы**. Манеты са скарба-1.*

керамікі і керамікі сярэднедняпроўскай культуры ранняга перыяду бронзавага веку. Датуецца 2-й пал. 3-га тыс. да н.э.

Паселішча-2 за 2,5 км на У ад вёскі на пясчаным узвышшы левага берага Дняпра, ва ўр. Барок Сямёнаўскі на ўзвышшы памерамі 200 × 50 м, выш. 3,1—4,2 м. З трох бакоў абмежавана пратокай, якая злучае воз. Добрае з Дняпром. Выявіў і даследаваў 103 м² у 1957—58 І.І.Арцёменка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы: скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл і дроцікаў, каля 2400 фр-таў ляпной керамікі. Большая частка керамікі адносіцца да неалітычнага часу, арнаментавана грабеньчатымі, лапчастымі і накольчатымі адбіткамі. Таксама знойдзены абломкі керамічнага посуду ранняга перыяду бронзавага веку, упрыгожанага вусеневымі, лінейнымі і шнуравымі штампамі. Датуецца к. 4-га — пач. 2-га тыс. да н.э.

Паселішча-3 позняга неаліту і сярэднедняпроўскай культуры ранняга перыяду бронзавага веку. За 0,6—0,7 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Завалле. Выявіў у 1928 А.Дз.Каваленя, даследавалі ў 1956—57 І.І.Арцёменка (310 м²), у 1994 І.М.Язэпенка (200 м²). Культ. пласт 0,2—0,5 м. Выяўлены рэшткі наземнага жытла памерамі 3,75 × 3 м з агнішчам у цэнтры. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, цёслы, сякеры, нажы, трохвугольныя наканечнікі стрэл, адходы крамянёвай вытворчасці. Абломкі ляпнога посуду эпохі неаліту ўпрыгожаны адбіткамі грэбеня, наколамі, лапчастым арнаментам; посуд сярэднедняпроўскай культуры аздабляўся лінейным штампам, шнурам, наразнымі лініямі. Датуецца 3-м — пач. 2-га тыс. да н.э.

Паселішча-4 за 2,5 км на Пн ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўр. Іванскае. Выявіў у 1928 А.Дз.Каваленя, даследаваў 124 м² у 1957 І.І.Арцёменка. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, адходы крамянёвай вытворчасці, абломкі ляпнога неалітычнага посуду і посуду сярэднедняпроўскай культуры ранняга перыяду бронзавага веку.

Паселішча-5 за 4 км на Пд ад вёскі, на беразе пратокі Дняпра, ва ўр. Сасонка. Выявіў у 1956 і даследаваў 295 м² у 1956—57 І.І.Арцёменка, у 1993 І.М.Язэпенка — 96 м². Культ. пласт. 0,35—0,4 м. І.І.Арцёменка выявіў рэшткі неалітычнага жытла памерамі 3,4 × 2,4 м, заглыбленага ў мацярык да 0,3 м з агнішчам у цэнтры і 6 слупавымі ямамі па перыметры. Знойдзены 2197 крамянёвых вырабаў, сярод якіх 211 прылад працы (скрабкі, разцы, нажы, сякеры і інш.). Неалітычная кераміка (3171 фр-таў) прадстаўлена пасудзінамі з вострым і акруглым дном, шыракагорлымі, з даволі высокай канічнай часткай. Арнаментацыя — грабеньчатыя адбіткі, неглыбокія падавальныя ўціскванні, лапчасты штамп і адступаючыя наколы. Кераміка ранняга перыяду бронзавага веку прадстаўлена разваламі 4 пасудзін, арнаментаваных спалучэннем лінейнага штампа і шнура ці наразнымі лініямі і шнурам. Датуецца 4-м — сяр. 2-га тыс. да н.э.

Гарадзішча-1 на паўн. ускраіне вёскі. Пляцоўка памерамі 120 × 50 м. З зах., паўд. і паўд.-ўсх. бакоў умацавана падковападобным валам выш. 3 м, шыр. ў аснове 19—20 м. Абследавалі ў пач. 1890-х г. Е.Р.Раманаў, у 1928 А.Дз.Каваленя, у 1960-я г. В.М.Мельнікоўская, Л.Д.Побаль і П.Ф.Лысенка, у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт 0,5—1,6 м. Знойдзены ляпная кераміка ранняга жал. веку, кругавая кераміка 11—13 ст., фр-ты шкляных бранзалетаў, вырабы з жалеза і бронзы.

Гарадзішча-2 за 50—70 м на ПнЗ ад вёскі, за глыбокім ярам. Пляцоўка памерамі 85 × 90 м, выш. каля 10 м, з З і Пн умацавана валамі і равамі. Выш. ўнутранага вала каля 4,5 м, шыр. каля асновы 16 м, выш. вонкавага вала 2,3 м, шыр. ў аснове каля 12 м. Паміж валамі роў глыб. 4,5 м, шыр. каля 17 м.

Селішча з зах. боку гарадзішча-1. Пл. каля 1 га. Знойдзены фр-ты ляпной і кругавой керамікі.

Курганны могільнік побач з гарадзішчам-2. 5 курганоў дыям. 8—10 м, выш. 1—2 м. Паводле звестак Е.Р.Раманава, у 1890 было 120 насыпаў, паводле звестак А.Дз.Кавалені ў 1928 — 50.

*Літ.:* Каваленя А.Дз. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах // Працы. Т.2; Артеменко И.И. Поселение бронзового века на Кузиной горе // СА. 1961. №2; Яго ж. Поселения среднеднепровской культуры на территории Верхнего Поднепровья // КСИА. 1962. Вып. 88; Яго ж. Неолитическое поселение в урочище Сосонка // Там жа. 1964. Вып. 101; Яго ж. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967 (МИА. №148); Язэпенка І.М. Матэрыялы паселішча ва ўрочышчы Сасонка і яго месца ў неаліце Верхняга Падняпроўя // ГАЗ. Мінск, 1995. №7.

*І.М.Язэпенка, А.Р.Мітрафанаў.*

**ЛЫЖКА**, сталовы прыбор для зачэрпвання рэдкай або рассыпчастай ежы. З'яўленне Л. адносяць да эпохі неаліту, калі быў вынайдзены керамічны посуд. Самыя стараж. Л. на тэр. Усх. Еўропы знойдзены пад час раскопак у Латвіі на тарфянікавай стаянцы Сарнатэ, за 30 км на Пд ад г. Вентспілс; датуюцца сяр. 3-га — 1-й пал. 2-га тыс. да н.э., выразаны з дрэва лісцевых парод, таўшч. сценак іх лопасцей не больш за 1 мм. Самая маленькая мае памеры лопасці 46 × 96 мм. Канцы ручак у выглядзе галовак вадаплаўных птушак. У Беларусі самыя раннія Л. знойдзены на паселішчах Крывінскага тарфяніку (*Галоўск*). Выяўлена 4 Л. з косці, памеры лопасцей каля 5 × 7,5 см. Датуюцца 1-й пал. 2-га тыс. да н.э. Прыкладна ў гэты ж час з'явіліся і першыя металічныя Л. з медзі і бронзы (знойдзены на паселішчах стараж. Асірыі). На антычных помніках ранняга жал. веку сустракаюцца

Л. з бронзы, срэбра, часам золата. Першапачаткова лопасць мела форму паўшара, пазней больш зручную авальную. На тэр. ўсх. славян Л., паводле пісьмовых і археал. крыніц, вядомы з 10 ст. Найб. шырока сустракаюцца ў напластаваннях 12—14 ст. Выяўлены драўляныя Л. ў Брэсце (12), *Віцебскім Верхнім замку* (10), Давыд-Гарадку (4, у т.л. ў фр-тах), Полацку, Мінску, Гродне. Большасць з іх простыя па выкананні — з плаўным пераходам ручкі ў лопасць, былі і больш складаныя — з крутым пераходам. Ручкі некаторых Л. аздоблены разьбой (Полацк). Паводле этнагр. звестак, выразаліся з дрэва лісцевых парод — ліпы, бярозы, клёна, грушы.

З прыняццем хрысціянства пры правядзенні рэлігійнага абраду прычасця пачалі выкарыстоўваць адмысловыя Л. — лжыцы (паводле візантыйскіх крыніц — з 2-й пал. 8 ст., паводле лацінскіх — з 11 ст.). У Беларусі для гэтых мэт прымянялі касцяныя Л. Яны знойдзены пры археал. раскопках у Ваўкавыску (2), Мінску, Полацку, на гарадзішчах каля в. Дрысвяты Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. і *Юравічы* (датуюцца 12—13 ст.), у Заслаўі (17—18 ст.). У Мінскім замку знойдзена Л. з рога лася — твор прыкладнога мастацтва 1-й пал.—сяр. 12 ст. (даследчык Э.М.Загарульскі). Захавалася толькі сярэдзіна даўж. 5,3 см, шыр. 1 см, таўшч. 0,5 см. Уяўляе сабой аб'ёмную выяву мужчыны ў падпяразанай вопратцы зах.-еўрап. ўзору і шырокіх штанах. Галава фігуркі адсутнічае, у правай руцэ вял. рог, левая закрыта падабенствам шчыта. Некаторыя даследчыкі лічаць гэту Л. французскім імпартам. Полацкая Л. (даследчык Г.В.Штыхаў) з адламанай ніжняй часткай; доўгі гладкі стрыжань даўж. 12 см і дыям. 0,7—1 см, тронка ўпрыгожана плеценым арнаментам у выглядзе касы; адносіцца да 13 ст. У Ваўкавыску Я.Г.Зверуга выявіў круглую Л. з аздобленай тронкай, даўж. 12 см, дыям. 1 см, упрыгожана тонкім узорам у выглядзе вінаграднай лазы, каляровымі шклянымі кропкамі; датуецца 13 ст. Другая Л. (12 ст.) добра адшліфаваная, неарнаментаваная. На гарадзішчы Замак каля воз. *Дрысвяты* М.А.Ткачоў выявіў мініяцюрную (даўж. 9,5 см) Л. 12—13 ст. Ручка з тонкай разьбою ў выглядзе пераплеценай касы, верх нагадвае галаву птушкі з кручкаватай дзюбай, падобнай на арла. На гарадзішчы Царкавішча каля в. Юравічы выяўлена Л. 12 ст. (даўж. 14,3 см, дыям. 0,7 см). Зверху ручкі стылізаваная выява жывёлы накшталт мядзведзя. На ўнутранай паверхні лапатачкі выграваваны знак Рурыкавічаў — двухзубец з крыжом унізе. Л. з Заслаўя без аздаблення, з неглыбокай лапатачкай (даследчык Ю.А.Заяц). Пра дачыненне гэтых Л. менавіта да царкоўнага ўжытку сведчаць іх невял. памеры, маленькая неглыбокая лапатачка, доўгая вузкая рукаяць і дасканалая арнаментацыя. Цэлая касцяная Л.14—16 ст. выяўлена ў Тураве. Даўж. больш за 17 см, памеры лапаткі прыкладна 5 × 7 см.



*Лыжка 12—13 ст. з гарадзішча Юравічы.*

У Віцебскім абл. краязнаўчым музеі захоўваюцца лыжачкі для прычасця — бронзавая 16 ст., 5 сярэбраных 17—18 ст. У скарбе, знойдзеным каля в. Страдзеч Брэсцкага р-на, выяўлена сярэбраная

Л. 17 ст. з пазалотай. Пры раскопках базыльянскага кляштара ў Мінску (І.У.Ганецкая)— бронзавая Л. 17 ст. з грушападобнай лопасцю. Металічныя Л. для бытавых патрэб сустракаюцца ў напластаваннях 19 ст. пры раскопках у Мінску і Віцебску.

*Л.У.Калядзінскі, В.У.Мядзведзева.*

**ЛЫ́ЖКІ-АМУЛЕ́ТЫ**, сакралізаваны прадмет ранняга сярэдневякоўя. Па форме былі падоўжаныя і круглыя (больш распаўсюджаны). Па памерах звычайна меншыя за сталовыя лыжкі, ручкі нярэдка імітуюць пляцёнку або псеўдавітыя, часам арнаментаваныя кружочкамі і маюць адтуліну для падвешвання. Выраблялiся з бронзы, зрэдку з нізкапробнага серабра або касцей. Л.-а. вядомы ў к. 10 ст. ў Ноўгарадзе, таксама знойдзены ў Навагрудку, Лукомлі, Кіеве, Яраполчах Залескіх, Старой Разані, Серанску ў культ. пластах 11—13 ст. Значная частка Л.-а. паходзіць з пахаванняў 11—12 ст., дзе яны часта трапляюцца ў камплекце з інш. амулетамі: зубамі жывёл, костачкамі пладовых дрэў, бразготкамі. У курганным пахаванні жанчыны каля в. Кветунь Бранскай вобл. знойдзена унікальная лыжка-падвеска, ручка якой зроблена ў выглядзе чалавечай фігуры ў плашчы. Часта Л.-а. насіліся разам з амулетамі-«конікамі». Паводле Я.А.Рабініна, вобласць распаўсюджання Л.-а. цалкам супадае з арэалам падвесак-«конікаў». Найб. колькасць Л.-а. знойдзена ў міжрэччы Дняпра, Зах. Дзвіны і Волгі на тэр. рассялення крывічоў. Верагодна, на Смаленшчыне быў цэнтр (ці цэнтры) вырабу стандартных лыжак. У Латвіі таксама выяўлены нешматлікія Л.-а. На гарадзішчы Асотэ лыжка-падвеска трапілася ў пласце 11 ст. Сустракаюцца Л.-а. і ў Карэліі — у кургане каля в. Чалмужы лыжка знойдзена з манетамі 11 ст. Няма асаблівых падстаў лічыць распаўсюджанне падвесак-лыжак па-за межамі арэала крывічоў вынікам гандл. сувязей, хутчэй гэта сведчанне інфільтрацыі насельніцтва.

Выкарыстанне Л.-а. як прыналежнасці пахавальнага інвентару абумоўлена не іх утылітарнай функцыяй, а семантыкай у традыцыйнай духоўнай культуры. Да нашага часу ў нар. культуры




*Знаходкі* ***лыжак-амулетаў*** *(I): 1 — Навагрудак, 2 — Некасецк (Мікасецк), 3 — Селішча, 4 — Ізбішча, 5 — Лукомль, 6 — Гразівец, 7 — Асотэ, 8, 9 — могільнікі ліваў, 10 — Астанец, 11 — Каліхноўшчына, 12 — Паўлаў Пагост, 13 — Гародня, 14 — Бяседа, 16 — Кузняцы-Чалых, 17 — Заазер'е, 18 — Овіна-Гарбінічы, 20 — Чалмужы, 21 — Нікольскае III, 22 — Вялікі Ноўгарад, 23 — Дзераваніца, 24 — Нярэдзіца, 25 — Кабожа, 26 — Сарагожскае, 27 — Барысаўскае, 28 — Вааздзвіжанскае, 29 — Ісакава, 30 — Яраполч Залескі, 31 — Уладзімірскія курганы, 32 — Старая Разань, 33 — Брашава, 34 — Жылыя Горы, 35 — Елізарава, 36 — Палашкіна, 37 — Шышыморава, 38 — Бісерава, 39 — Дудзенева, 40 — Нізінка, 42 — Угрумава, 43 — Сакі, 44 — Елісеевічы, 45 — Мазінава, 46 — Харлапава, 47 — Мутышына, 48 — Акулінін Бор, 49 — Хатнежац, 50 — Панова, 51 — Бачарова, 52 — Сукромля, 53 — Коханы, 54 — Навасёлкі, 55 — Субараўка, 56 — Колчына, 57 — Серэнск, 58 — Кветунь, 59 — Улазавічы, 60 — Цімошкін Перавоз, 61 — Кіеў; кошыкаў-амулетаў (II): 1 — Сарагожскае, 2 — Дудзенава, 3 — Хілова, 4 — Бачарова, 5 — Коханы, 6 — Навасёлкі, 7 — Сухая Гара.*




***Лыжкі-амулеты*** *(1, 2, 4–9) і кошыкі (3): 1 — Коханы, 2 — Сукромля, 3, 6, 8 — Сарагожскае, 4 — Мазінава, 5 — Гародня, 7 — Кветунь, 9 — Колчына.*



*П.Ф. Лысенка.*

слав. народаў лыжка звязваецца з жаночым пачаткам. Лічылася, што праз лыжку чалавек мог як далучыцца да жыватворных сіл прыроды, так і судакрануцца з негатыўнымі яе праявамі. Сімвалічнасць лыжкі як медыятара і рытуальнага замяшчальніка чалавека абумовіла яе выкарыстанне ў абрадавых кантактах з іншасветам.

Семантычна блізкія да лыжак падвескі ў выглядзе коўшыкаў у невял. колькасці былі распаўсюджаны ў 11—12 ст. у зах. частцы арэалу Л.-а.

*Літ.*: Успенская А.В. Нагрудные и поясные привески // Тр. Гос. ист. музея. М., 1967. Вып. 43. Очерки по истории русской деревни X—XIII вв.; Рябинин Е.А. Языческие привески-амулеты древней Руси // Древности славян и Руси. М., 1988; Голубева Л.А. Амулеты // Древняя Русь. Быт и культура. Археология. М., 1997; Топорков А.Л. Ложка // Славянские древности: этнолингвист. сл. М., 2004. Т.3.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ЛЫНТУ́ПЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. За 2,5 км на ПнЗ ад пасёлка, злева ад дарогі ў г. Швенчоніс (Літва). Уключае 74 насыпы, якія паласой цягнуцца з ПнУ на ПдЗ. Дыям. 5—17 м (19), 8—12 м (55), выш. 0,4—1,7 м. Найб. знаходзяцца ў цэнтр. і паўн.-зах. частках могільніка, найменшыя — у паўд.-ўсх. частцы. Каля 65 насыпаў ёсць кругавыя раўкі з перамычкамі (ад 2 да 8). У к. 19 ст. некалькі курганоў раскапаў мясц. памешчык Даўгяла. Сярод знойдзеных рэчаў: шыйная грыўня з пашыранымі канцамі, 4 бранзалеты (3 плоскія, 1 жалабаваты), шырокасярэдзінны спіральны пярсцёнак, 2 утулкавыя наканечнікі коп'яў, 2 вузкалязовыя сякеры, 3 нажы, шыла, чатырохвугольная спражка, 2 гліняныя праслiцы, 2 ляпныя гаршкі. У 1894 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 5 насыпаў, у 1977 Я.Г.Звяруга — 9. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі кургана з наступным змяшчэннем рэштках крэмацыі (ад 1 да 3 пахаванняў) на гарызонце, у насыпе ці непасрэдна пад дзірваном. Пахавальны інвентар: наканечнікі коп'яў, вузкалязовыя сякеры, нажы, шылы, гліняныя праслiцы, цэлыя і разбітыя гліняныя пасудзіны. У адным кургане з 3 пахаваннямі было больш за 60 прадметаў, у т.л. 6 шыйных грыўняў, 16 бранзалетаў, 12 пярсцёнкаў, 5 падвесак-ракавін, 3 арнаментаваныя бляшкі, 4 гліняныя праслiцы. Курганы належалі балцкаму насельніцтву, адносяцца да ўсх.-літ. тыпу, датуюцца 10—11 ст.

*Літ.*: Покровский Ф.В. К исследованию курганов и городищ на восточной окраине современной Литвы // Тр. IX АС. М., 1897. Т.2; Зверуго Я.Г. Работы в Понеманье // АО 1977. М., 1978. *Я.Г.Звяруга.*

**ЛЫСЕ́НКА** Пётр Фёдаравіч (н. 16.9.1931, в. Зарачаны Полацкага р-на Віцебскай вобл.), бел. археолаг, гісторык, д-р гіст. навук (1987), праф. (1993). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1953). З 1964 у АН Беларусі, заг. сектара (1973—80), заг. аддзела сярэдневяковай археалогіі (1980—2001). Вывучае сярэдневяковую гісторыю насельніцтва паўд. Беларусі, перыяд станаўлення і развіцця Тураўскага княства і стараж. гарадоў Тураўскай зямлі (Тураў, Бярэсце, Пінск, Давыд-Гарадок, Клецк, Слуцк, Мазыр, Рагачоў). Па выніках яго даследаванняў створаны 2 музеі сярэдневяковага горада — «Бярэсце» (1982) і «Старажытны Тураў» (2005). Лаўрэат Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь (2002). Ганаровы грамадзянін г. Тураў (2005). Адзін з аўтараў кніг «Нарысы па археалогіі Беларусі» ў 2 ч. (ч. 2, 1972), «Археалогія Беларусі» ў 3 т. (т. 2, 1999), «Гісторыя Беларусі» ў 6 т. (т. 1, 2000).

*Тв.*: Древнейшие города Белоруссии. Минск, 1966; Города Туровской земли. Минск, 1974; Берестье. Минск, 1985; Древний Пинск 11—13 вв. Минск, 1997; Открытие Берестья. 2 изд. Минск, 2007; Дреговичи. Минск, 1991; Туровская земля 11—13 вв. 2 изд. Минск, 2001; Древний Туров. Минск, 2004; Сказание о Турове. 2 изд. Минск, 2007. *Н.М.Дубіцкая.*

**ЛЫСУ́ХА**, археалагічныя помнікі— гарадзішча і селішча каля в. Прыбярэжная Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча ў цэнтры вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, на мысе, утвораным ракой і ручаём, ва ўр. Гарадок. Выш. 20 м. Пляцоўка памерамі 40 × 35 м, з зах. і паўн. бакоў умацавана валам выш. 5—6 м, шыр. 15—20 м і ровам. Таксама вал выш. да 0,5 м захаваўся ўздоўж усх. і паўд. бакоў. Адкрыў у 1928 А.Рынейскі, абследавалі ў 1929 Р.Калодкін і М.М.Канвісараў, у 1931 А.М.Ляўданскі, у 1979 Т.С.Бубенька. У 1963 Л.Д.Побаль заклаў шурф 2 × 2 м. Культ. пласт 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жал. веку, сярэбраная спражка і фр-т бронзавага бранзалета з арнаментаванымі пашыранымі канцамі 5—8 ст. У 1988—89 А.У.Ільюцік даследавала 96 м². Культ. пласт 0,5—0,8 м. Выяўлена больш за 70 слупавых і гасп. ям. Знойдзена ляпная гладкасценная, штрыхаваная і глянцаваная кераміка слоікападобнай, прафіляванай і рабрыстай формы, праслiцы, грузікі, у т.л. дзякоўскага тыпу, пацеркі, жал. нажы з прамой і гарбатай спінкай, сярпы, фр-ты ляза сякер, праколкі, цвікі, фр-т фібулы 1 ст. Посуд зрэдку арнаментаваны круглымі ямкамі па аснове шыйкі ці вертыкальнымі пальцавымі зашчыпамі па плечыку. Датуецца 1-й пал. — 3-й чв. 1-га тыс.

Селішча каля паўн.-зах. боку гарадзішча. Пл. каля 0,5 га. Адкрыў у 1928 А.Рынейскі. Абследавалі ў 1963 Л.Д.Побаль, у 1979 Т.С.Бубенька. Знойдзена ляпная кераміка жал. веку.

*Літ.*: Рынейскі А. Разведачная археалагічная экспедыцыя // Наш край. 1929. №8—9; Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т.3; Ильютик А.В. Лысуха— памятник железного века // ГАЗ. Минск, 1995. №7. *А.У.Ільюцік.*

**ЛЫСУ́ХА**, гл. *Прыбярэжная.*

**ЛЮ́БАНЬ**, горад, цэнтр раёна ў Мінскай вобл., на правым беразе р. Арэса. У ваколіцах горада археал. помнікі— паселішчы каменнага, бронзавага, жал. вякоў і сярэдневякоўя.

Мястэчка Л. упершыню згадваецца ў інвентары Слуцкага княства 1566 у складзе Ярэміцкай воласці пры кн. Юрыю Алелькавічу (1542—78). Належала Алелькавічам, Радзівілам (з 1612). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) увайшла ў склад Расійскай імперыі. У 1808 атрымала афіцыйны статус мястэчка ў Забалацкай воласці Бабруйскага пав. Мінскай губ.

У 2004 у час назірання за буд. работамі М.М.Крывальцэвіч праводзіў археал. даследаванне гіст. часткі мястэчка. Рэшткі культ. пласта 16—18 ст. выяўлены ў траншэях і на агародах уздоўж рачной тэрасы і на яе схіле ў завулку Рачны, на перакрыжаванні вуліц Савецкая і Першамайская, уздоўж вуліц Савецкая, Чырвонаармейская. Па высокім краі тэрасы Арэсы, на агародах вул. Чырвонаармейская адзначаліся фр-ты керамікі жал. веку.

Паселішча-1 позняга неаліту і эпохі бронзы на паўн. ускраіне горада, на правабярэжнай тэрасе р. Арэса. Даўж. каля 350 м, выш. 2—4 м. Адкрыта У.Ф.Ісаенкам у 1970, абследавалася М.М.Крывальцэвічам у 1992, 2004. У 1970 пры будаўніцтве вадасховішча на пл. 10,5 тыс. м² агаліўся культ. пласт, у межах якога У.Ф.Ісаенкам выяўлены згрувашчванні абпаленых камянёў (рэшткі агнішчаў), канцэнтрацыі абломкаў посуду, крамянёвых вырабаў. Сабрана больш за 600 крамянёў са слядамі апрацоўкі, 112 крамянёвых прылад, 320 абломкаў прыблізна 21—23 пасудзін позняга этапу *днепра-данецкай культуры*, кола культуры шнуравой керамікі.

Паселішча-2 неаліту і жал. веку за паўн.-ўсх. ускраінай горада, на левабярэжным надпоймавым узвышшы р. Арэса. Пл. 200 × 40—50 м, выш. каля 2 м. Адкрыта і абследавалася М.М.Крывальцэвічам у 1992, 2004. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду і крамянёвыя вырабы днепра-данецкай культуры, кераміка жал. веку са штрыхаванай паверхняй.

Паселішча-3 неаліту за 0,5 км на У ад горада, на левабярэжным надпоймавым узвышшы. Даўж. каля 0,4 км, выш. да 3 м. Адкрыта М.М.Крывальцэвічам у 1992. Знойдзена ляпная кераміка і крамянёвыя вырабы днепра-данецкай культуры.

Паселішча-4 неаліту на У ад горада, на паўд.-ўсх. ускраіне пасёлка льнозавода, на мысападобным выступе левабярэжнай тэрасы р. Арэса, выш. да 3,5 м. Адкрыта М.М.Крывальцэвічам у 1985, абследавалася ў 1985, 2004. Большая частка знішчана кар'ерам. Культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены абломкі ляпнога посуду і крамянёвыя вырабы днепра-данецкай культуры.

Паселішча-5 каменнага, бронзавага, жал. вякоў і сярэдневяковага перыяду за 0,4 км на ПдУ ад пасёлка льнозавода, на паніжаным мысападобным выступе левабярэжнай тэрасы р. Арэса. Памеры 30 × 60—70 м, выш. каля 2,5 м. Адкрыта М.М.Крывальцэвічам у 2004. Знойдзены крамянёвыя вырабы мезаліту і неаліту (зламаны чаранковы наканечнік стралы на пласціне, пласціны з рэтушшу, скрабок і інш.), кераміка тшцінецкага культ. кола, жал. веку і сярэдневякоўя.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Яго ж. Археологическая карта Белоруссии. Памятники бронзового века. Вып. 3. Минск, 1976; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987. *М.М.Крывальцэвіч.*

**ЛЮБА́СНА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Любасна Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Размешчаны на беразе воз. Белае. 14 паўсферычных у плане курганоў дыям. 7—13 м, выш. 0,6—1 м, адзін падоўжаны памерамі 11 × 16 × 0,8—1,3 м. Вакол насыпаў прасочваюцца раўкі. У 1974 З.М.Сяргеева даследавала 2 курганы. Выяўлены рэшткі спаленых драўляных слупавых канструкцый. Пахаванне па абраду трупаспалення па-за межамі могільніка выяўлена ў адным кургане. Перапаленыя косці чалавека і каровы былі змешчаны ў насыпе. Датуючыя матэрыялы адсутнічаюць. *А.В.Вайцяховіч.*

**ЛЮБА́ШКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Любашкі Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 0,8 км на ПдУ ад вёскі, 0,2 км ад дарогі на Ганцавічы, ва ўр. Курганы. Мясц. назва Шведскія магілы. 19 курганоў выш. 0,2—1 м, дыям. 3,8—6 м, падножжа абкладзена камянямі. У 1962 І.В.Біруля даследаваў 2 курганы, у 1988 Т.М.Каробушкіна даследавала 10 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў труне на гарызонце на пясчана-попельнай падсыпцы, у яме глыб. 0,25 м, галавой на З. У 8 курганах па адным пахаванні, у 3 — па 2, у 1 — 3 аднáчасовыя пахаванні. Знойдзены фр-ты гліняных гаршкоў (адзін цэлы з хвалістым арнаментам), каваныя цвікі, праслíцы з ружовага сланцу, жал. калачападобнае і авальнае крэсівы (адно з іх змяшчалася ў скураным чахле, ад якога захаваліся металічныя заклёпкі), бронзавая зярнёная бочкападобная пацерка, 6 свінцова-алавяных драцяных скроневых кольцаў. Датуецца 11—13 ст.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895; Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. М., 1961. Вып. Е1—57. *Т.М.Каробушкіна.*

**ЛЮБІ́ШЧЫЦЫ**, археалагічныя помнікі— стаянкі эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Любішчыцы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.

Стаянка-1 за 2 км на ПнУ ад будынка вясковай школы, ва ўр. Снежня, побач з фермамі, на правабярэжнай тэрасе р. Грыўда. Памеры 50×150 м. Выявіў і абследаваў у 1967 У.Ф.Ісаенка, у 1969 М.М.Чарняўскі правёў шурфоўку і збор пад'ём-нага матэрыялу, які ўключаў: неапрацаваны крамянёвы інвентар, прылады працы (лінзападобныя сякеры, скрабкі, разцы, нажы, праколкі), аднапляцовачныя нуклеусы, абломкі глінянага вастрадоннага посуду з дамешкамі жарствы і валакністай арганікі. Пад венчыкам пасудзіны ўпрыгожаны ямкамі, сценкі пакрыты накольчатым арнаментам. У 1999 абследавалі А.Г.Калечыц, М.М.Крывальцэвіч, В.Л.Лакіза. Культ. пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены 7 крамянёвых адшчэпаў, 5 пласцін, 4 краявыя сколы з участкамі крэйдавай скарынкі, дробныя фр-ты неалітычнай керамікі з мінеральнымі дамешкамі. У 2006 В.Л.Лакіза сабраў 27 крамянёвых артэфактаў (3 адшчэпы, 8 пласцін, 2 нажы, скрабок, фр-т наканечніка стралы, 2 пласціны з рэтушаванымі краямі, разец, 3 рубячыя прылады, 6 нуклеусаў) і 5 фр-таў керамікі. Матэрыялы адносяцца да прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай, нёманскай неалітычнай культуры і кола культур шнуравой керамікі. Датуецца к. 5-га — пач. 2-га тыс. да н.э.

Стаянка-2 за 2 км на ПнУ ад вёскі, 0,4 км на Пд ад фермы, на пясчаным узвышшы пасярод забалочанай правабярэжнай поймы р. Грыўда. Выцягнута з У на З на 100 м, шыр. да 80 м. Выявілі і абследавалі ў 1999 А.Г.Калечыц, М.М.Крывальцэвіч і В.Л.Лакіза. Знойдзены крамянёвыя вырабы (118 экз.) і фр-ты керамікі (103 экз.). Сярод крамянёвых артэфактаў 20 прылад (разцы, скоблі, скрабкі, нажы), 2 сякеры, цясла, трохвугольны чаранковы наканечнік стралы, 2 сколы са шліфаванай сякеры, 15 нуклеусаў. Ляпная кераміка з арганічнымі, мінеральнымі (пясок, жарства, шамот) дамешкамі, гладкай ці штрыхаванай паверхняй. Частка яе арнаментавана пракрэсленымі лініямі, зубчатымі і лінейнымі штампамі. У 2001 В.Л.Лакіза правёў абследаванне і шурфоўку на пл. 3 м². Знойдзены 19 крамянёвых вырабаў, у т.л. нуклеус і скрабок, 18 фр-таў ляпной керамікі. Культ. пласт 0,35 м, слаба насычаны артэфактамі (выяўлена 14 знаходак, сярод якіх фр-ты ляпной неалітычнай керамікі дубічайскага, дабраборскага тыпаў). Вылучаецца некалькі этапаў засялення стаянкі: 1) ранненеалітычны (прыпяцка-нёманская культура), 2) неалітычны (лысагорскі і дабраборскі этапы нёманскай культуры), 3) познанеалітычны (кола культур шнуравой керамікі), 4) раннебронзавы (тшцінецкай культ. кола), 5) раннежал. (культура штрыхаванай керамікі). Датуецца к. 5-га — 2-й пал. 1-га тыс. да н.э.



*Да арт. Любішчыцы. Крамянёвыя вырабы са стаянкі-1.*

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 1. Памятники каменного века. Минск, 1968; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.*

**ЛЮ́БНЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча *мілаградскай культуры* каля г. Гомель. За 0,5 км на ПдЗ ад горада, на правым беразе р. Сож, ва ўр. Шведская гара. Назву атрымала ад б. в. Любны. Пляцоўка трохвугольная, памерамі 102 × 108 м, умацавана 2 валамі выш. 1,1—1,8 м, шыр. 12,5 м і 3 равамі. Вядома з к. 19 ст., абследавалі ў 1927 К.М.Палікарповіч, у 1936 А.М.Ляўданскі і А.Дз.Каваленя, у 1974 Л.Д.Побаль, даследавалі 289,5 м² у 1925—26, 1929 І.Х.Юшчанка, у 1976—78 У.І.Сычоў. Культ. пласт 0,5—0,7 м. Выяўлены рэшткі 2 паўзямлянкавых жытлаў: адно круглае ў плане, другое прамавугольнай формы памерамі 1,5 × 3 м, глыб. 0,7 м; 3 адкрытыя каменныя агнішчы, гасп. ямы круглай, авальнай і прамавугольнай формы глыб. 0,3—0,8 м. Сярод знаходак: ніжні камень зерняцёркі, крамянёвыя лістападобны наканечнік стралы, канцавыя і бакавыя скрабкі на адшчэпах, пласціна з рэтушшу, долатападобныя прылады, адшчэпы, двухпляцовачныя нуклеусы, жал. посахападобныя шпількі, стрыжні ад шпілек, абломкі ляза нажа і кальца, пласціністая страла з лістападобнай галоўкай і тронкамі ў выглядзе ластаўчынага хваста, касцяныя праколка і дзяржанне нажа, аздобленае цыркульным арнаментам, бронзавыя пласціністае

паўтараабаротнае кольца, шылы, шчыток завушніцы, больш за 50 гліняных грузікаў і прасліцаў (посудападобныя, біканічныя, шарападобныя, цыліндрычныя, дзякоўскага тыпу, эліпса- і шулападобныя, усечана-канічнай формы). Ляпны посуд адносіцца да *сярэднедняпроўскай культуры* бронзавага веку і да жал. веку. Гарадзішча ўзнікла на месцы паселішча эпохі бронзы, датуецца 4—2 ст. да н.э.

*Літ.:* Ю щ е н к о И. Археологические раскопки в Гомельщине // В помощь просвещенцу. Гомель, 1926. Вып. 14; Д а ў г я л а З.І. Новыя раскопкі каля Гомеля // ГАЗ. Мінск, 1927. №1; Ю ш ч а н к а І. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе // Працы. Т.2; Л а ш а н к о ў М.І., С ы ч о ў В.І. Раскопкі гарадзішча Любны // ГАЗ. Мінск, 1993. Ч. 2. *М.І.Лашанкоў.*

**ЛЮБÓНІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Любонічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. За 5 км ад левага берага р. Бярэзіна, ва ўр. Свінарня. У 1888 М.Н.Мышанкоў даследаваў 10 курганоў выш. 0,4—2 м, дыям. 5—11 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе (4), на гарызонце (4). Нябожчыкі арыентаваны галавой на З, ПдЗ, У (1), ПнУ (1). У 2 курганах знойдзены рэшткі драўляных цэрамкоў. Пахавальны інвентар — буйназярнёныя бочачкападобныя дрыгавіцкія пацеркі, нажы, скроневыя кольцы, бронзавы ланцужок, пацеркі сердалікавыя біпірамідальныя і прызматычныя, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя, пазалочаны медальён, сетка з дробнымі жамчужынамі, гаршкі. У 1892 У.З.Завітневіч даследаваў 17 курганоў выш. 1—2,5 м, дыям. 7—11 м. У адным кургане выяўлена трупаспаленне, у астатніх — трупапалажэнне на гарызонце. Тры пахаванні арыентаваны галавой на У, астатнія — на З. У 8 курганах выяўлены рэшткі дамавін, у адным — цэрамка. Пахавальны інвентар — гліняныя гаршкі, жал. нажы, абручы ад драўляных вёдзер, сярэбраны пярсцёнак, шкляныя і сердалікавыя пацеркі.

*Літ.:* З а в и т н е в и ч В.З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины // Отчет Археологической комиссии за 1892 г. Санкт-Петербург, 1894; М ы ш е н к о в Н. Курганы Бобруйского уезда Минской губернии: (исслед. 1888 г.) // Вестник археологии и истории. Санкт-Петербург, 1892. Вып. 9. *П.Ф.Лысенка.*

**ЛЮ́БЧА**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля г.п. Любча Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.

У 1938 студэнтка Віленскага ун-та Б.Алендская сабрала першыя археал. матэрыялы за 2 км на Пн ад г.п. Любча на беразе старыцы р. Нёман. Паводле публікацый У.Галубовіч і Ф.Д.Гурэвіч, гэта была калекцыя неалітычнай керамікі з арганічнымі, мінеральнымі дамешкамі, упрыгожанай ямкавым, грабеньчатым арнаментам, вертыкальнымі і косымі насечкамі. Адносіцца да прыпяцка-нёманскай, нёманскай культур і кола культуры шнуравой керамікі. У 1983 М.М.Чарняўскі лакалізаваў 3 стаянкі, у 2002 В.С.Абухоўскі яшчэ адну.

С т а я н к а - 1 на ўсх. ускраіне гар. пасёлка, за 0,3 км на ПдУ ад завода, насупраць Любчанскага замка. Займае край нізкай левабярэжнай тэрасы р. Нёман, выш. 1,5—2 м. Знойдзены крамянёвыя артэфакты першаснай і другаснай апрацовак, рэтушны разец.

С т а я н к а - 2 каменнага і бронзавага вякоў на паўразвеянай дзюне правабярэжнага поплаву р. Нёман, за 1,5 км на ПнУ ад моста, 0,1 км на ПнЗ ад дарогі на Купіск. Памеры 80 × 150 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы, трохвугольныя і з выемкай чаранковыя наканечнікі стрэл, характэрныя для мезаліту, неаліту і бронзавага веку, ляпная кераміка ранняга і позняга неаліту і познабронзавага часу, невял. колькасць кругавой керамікі. Матэрыялы належаць да яніславіцкай культуры эпохі мезаліту, прыпяцка-нёманскай і нёманскай культур эпохі неаліту, кола культуры шнуравой керамікі, познабронзавай культуры са штрыхаванай керамікай, маюцца рэшткі сярэдневяковага селішча.

С т а я н к а - 3 каменнага і бронзавага вякоў за 0,3 км на ПнЗ ад дарогі на Купіск, на паўразвеянай дзюне пл. 50 × 100 м. Знойдзеныя матэрыялы аналагічныя выяўленым на стаянцы-2.

С т а я н к а - 4 фінальнага палеаліту і мезаліту на паўн.-зах. ускраіне гар. пасёлка на краі высокай левабярэжнай тэрасы р. Нёман. Сярод крамянёвых артэфактаў фр-т пласціны, адбітай з двухпляцовачнага нуклеуса з сустрэчным сколваннем нарыхтовак (фінальны палеаліт), і цясла (мезаліт).

*Літ.:* Ч е р н я в с к и й М.М. Исследования на Немане, Вилии и Двине // АО 1983. М., 1985; А б у х о ў с к і В.С., Л а к і з а В.Л. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Беларускага Панямоння ў 2002 г. // ГАЗ. Мінск, 2003. №18; Л а к і з а В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*М.М.Чарняўскі, В.Л.Лакіза.*

**ЛЮДВІШЧА́НСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ**. Знойдзены на былым хутары Людвішча Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл. ў 1934. Складаўся з 649 зах.-еўрап. манет, 1 куфічнага дырхема і манетападобнай пласцінкі (усяго 651 экз.). Манеты былі вывезены ў Германію, дзе вызначылі 601 экз.

Англія (7 экз.): Этэльрэд ІІ [979—1016]: манетны двор Герфард (?) — 1, нявызначаны — 1; Канут [1016—35]: манетны двор Стамфард — 1, нявызначаны — 1; Гаральд І [1035—40]: манетныя двары Лінкальн — 1, Солсберы — 1; Эдуард [1042—66]: манетны двор Гертфард — 1.

Германская імперыя (583 экз.): манетны двор Вердэн: Генрых ІІ [1002—24] — 1; манетны двор Трыр: арцыбіскуп Попа [1016—47] — 5, перайманне трырскіх манет Эбергарда [1047—66] — 4; манетны двор Льеж: Конрад ІІ [1024—39] — 1,

біскуп Рэйнгард [1025—38] — 1; манетны двор Гюі: Генрых II [1002—24] — 2; манетны двор Маастрыхт: Конрад II [1024—39] — 1; манетны двор Цюэн: ананімная чаканка 1020 — 1, біскуп Дытвін [1048—75] — 1; манетны двор Візэ: біскуп Рэйнгард [1025—38] — 1; манетны двор Сент-Амер: перайманне дэнарыя графа Балдуіна IV [989—1036] — 1; нявызначаны манетны двор Фландрыі: граф Балдуін IV [989—1036] — 1; манетны двор Брусель: граф Ламберт [994—1015] — 1; манетны двор Намюр: Генрых II [1002—24] — 1, Альберт II [1018—64] — 7; манетны двор Дынан: Альберт II [1018—64] — 9; манетны двор Сель: Генрых III [1039—56] — 1; нявызначаны манетны двор Ніжняй Латарынгіі: герцаг Готфрыд I [1012—23] — 1, Гацэла I [1023—24] — 1; нявызначаны манетны двор зах. часткі Ніжняй Латарынгіі: невядомай чаканкі перад 1040 — 1; манетны двор Кёльн: Атон I [936—973] — 2 , Генрых II [1002—24] — 1, Конрад II [1024—39] — 1, арцыбіскуп Пілігрым [1021—36] — 6, арцыбіскуп Ана [1056—75] — 1; манетны двор Ксантэн; перайманне сяр. 11 ст. — 1; манетны двор Аахен: Генрых III [1039—56] — 1; манетны двор Дуйсбург: Конрад II [1024—39] — 1, Генрых III [1039—56] — 1; манетны двор Рэмаген: Генрых II [1002—24] — 1; манетны двор Андэрнах: Атон III [983—996] — 3, Генрых II [1002—24] — 1, Конрад II [1024—39] — 1, арцыбіскуп Пілігрым [1021—36] — 6; манетны двор Утрэхт: Генрых II [1002—24] — 1, біскуп Бернольд [1027—54] — 4, біскуп Вільгельм [1054—76] — 34, перайманне утрэхцкіх дэнарыяў — 1; манетны двор Давентар: Генрых II [1002—24] — 4, біскуп Бернольд [1027—54] — 19, перайманне — 1; манетны двор Гронінген: біскуп Бернольд [1027—54] — 26; біскуп Вільгельм [1054—76] — 1; манетны двор Тыль: Генрых II [1002—24] — 12, Конрад II [1024—39] — 17, перайманні манет Тыля — 15; граф Бруна III [1038—57]: манетныя двары Болсвард — 7, Докюм — 47, Леэвардэн — 63, Ставарэн — 1; манетны двор Лейдэн [?]: граф Дзірк V [1061—90] — 1; манетны двор Явер: герцаг Бернгард II [1011—59] — 3 экз., граф Герман [?—1086] — 2; манетны двор Эмдэн: граф Герман [каля 1020—51] — 10; манетны двор Лер: герцаг Готфрыд II [1044—70] — 3, арцыбіскуп Адальберт [1043—66] — 2; манеты Атона і Адэльгейда — 25; манетны двор Магдэбург: ананімная чаканка — 3; манетны двор Гітэльдэ: ананімная чаканка сяр. 11 ст. — 14; манетны двор Кведлінбург: Адэльгейда I [999—1044] — 1; манетны двор Бардовік: герцаг Бернгард II [1011—59] — 5; манетны двор Люнебург: герцаг Бернгард II [1011—59] — 1; манетны двор Штадэ: арцыбіскуп Гендэліна [1035—45] — 1, граф Уда II [1057—82] — 9; манетны двор Хільдэсгайм: арцыбіскуп Готгард [1022—38] — 3; нявызначаны манетны двор Ніжняй Эльбы: ананімная чаканка каля 1060—65 — 2; нявызначаны манетны двор Ніжняй Саксоніі — 1; манетны двор Дортмунд: Атон III [983—1002] — 1; манетны двор Аснабрук: Атон III [983—1002] — 1; манетны двор Міндэн: Атон III [983—1002] — 1; манетны двор Корвей — 2; манетны двор Зеест: Атон III [983—1002] — 4; манетны двор Урэдэн: граф Віхман III [967—1014] — 1; нявызначаны манетны двор у Вестфаліі: перайманні кельцкіх дэнарыяў — 9; манетны двор Эрфурт: арцыбіскуп Бардо [1031—51] — 3, ананімная чаканка — 1; манетны двор Фульда: ананімная чаканка — 2; манетны двор Вільдунген: Генрых II [1002—24] — 1; манетны двор Вюрцбург: ананімная чаканка — 2, біскуп Бруна [1034—45] — 2; манетны двор Майнц: Генрых II [1002—24] — 1, Конрад II [1024—39] — 6, Генрых III [1039—56] — 8, Бардо [1031—51] — 3, арцыбіскуп Лупальд [1051—59] — 8, ананімная чаканка — 1; манетны двор Вормс: Атон II [973—983] альбо Атон III [983—1002] — 1, Генрых II [1002—24] — 16, Конрад II [1024—39] — 1, кароль Генрых III [1039—46] — 4, імператар Генрых III [1046—56] — 10, біскуп Арнольд [1044—65] — 1; манетны двор Лорш: ананімная чаканка 1-й пал. 11 ст. — 1; манетны двор Шпеер: Атон III [983—1002] альбо Генрых II [1002—24] — 5; «марыенпфенігі» Конрада II [1024—39] — 4, з выявамі і імёнамі Конрада II і Генрыха III [1039—56] — 6, Генрых III [1039—56] — 13, біскуп Конрад II [1056—60]— 3; манетны двор Страсбург: Конград II [1024—39] — 6; манетны двор Эслінген: Конрад II [1024—39] — 2, Генрых III [1039—56] — 1; манетны двор Цюрых: Генрых IV [1056—1106] — 1; Канстанц: Атон III [983—1002] — 2, Генрых III [1039—56] — 1, біскуп Румбальд [1051—69] — 1; манетны двор Аугсбург: ананімная чаканка 1; манетны двор Рэгенсбург: герцаг Генрых VI [1026—40] — 4, герцаг Генрых VII [1053—56] — 3. Нявызначаныя манетныя двары і перайманні — 21.

Венгрыя: Стэфан [1000—38] — 1, Андрэй [1047—61] — 1.

Данія (12 экз.): Канут [1016—35] — 3: манетныя двары Лунд — 1, Раскіле — 1, Хелэбю — 1; Гартэкнут [1035—42]: манетныя двары Лунд — 1, Раскіле — 1, Хедэбю — 2, нявызначаны — 1; Свен Эстрыдсен [1047—75]: манетны двор Лунд — 4 .

Ірландыя: Сітрык III [989—1029] — 1.

Італія: манетны двор Верона, ананімная чаканка 1024—26 — 1, Генрых II [1039—56] — 1.

Чэхія: Спітыгне [1055—61] — 2.

Вендкі — 3.

Зах.-еўрап. манеты дрэннай захаванасці — 36.

Зах.-еўрап. перайманне куфічнага дырхема (?) — 1.

Манетападобная пласцінка, адпаведная дэнарыю, — 1.

Скарб, схаваны ў 1060—65.

Зберагаецца ў г. Гале (Германія) і бібліятэцы Ватыкана (каля 50 экз.).

*Літ.*: Потин В.М. Причины прекращения притока западноевропейских монет на Русь в XII в. // Между-

народные связи России до XVII в. М., 1961; Я г о ж. Находки западноевропейских монет на территории Древней Руси и древнерусские поселения. М., 1962. Т. 3; Я г о ж. Французские и итальянские монеты из кладов X—XI вв. на территории СССР // СА. 1963; Я г о ж. Топография находок западноевропейских монет X—XIII вв. на территории древней Руси // Труды Гос. Эрмитажа. Нумизматика. Ленинград, 1967; № 3. Я г о ж. Древняя Русь и европейские государства X—XIII вв.: Историко-нумизматический очерк. Ленинград, 1968; Ш т ы х а ў Г.В. Манетныя і манетна-рэчавыя скарбы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 3: сярэдневяковы перыяд (IX—XIII стст.). *Ш.І.Бекцінееў.*

**ЛЮ́ЛЬКА**, выраб дробнай пластыкі 17—18 ст., прызначаны для курэння тытуню. Вядомы керамічныя (непаліваныя, дымленыя і паліваныя) і драўляныя Л. Большасць паліваных вырабаў 1-й пал. 17 ст. зроблена з чырвонай гліны і пакрыта зялёнай палівай; яны або не маюць дэкору, або ён вельмі сціплы — у выглядзе ялінак, галінак, кольцаў ці кропак. Для ўпрыгожвання Л. ўжываліся штампы адмысловай формы. На вырабах 18 ст. паліва рудая ці карычневая, частка іх пакрыта эмаллю. Л. таксама рабілі з светлай гліны ці фаянсу. Прывазнымі лічацца белагліняныя галандскія Л., выявы якіх часта сустракаюцца на палотнах галандскіх і фландарскіх мастакоў 17 ст.

*Літ.:* У г р ы н о в і ч У., С о б а л ь В.Е. Сувеніры стагоддзяў // Мастацтва Беларусі. 1984. № 10; Ш а б л ю к В. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV—XVIII стст. Мінск, 1996. *Н.І.Здановіч.*

**ЛЮСТЭ́РКА**, прыналежнасць жаночага туалету. У Беларусі выяўлены 2 Л. 7— 6 ст. да н.э. сярод унікальных археал. знаходак з гарадзішча *Ліскі*. Знойдзены М.І.Лашанковым у перадмацерыковым гарызонце культ. пласта на глыб. 60 —75 см. Адліты з алавяна-свінцовай бронзы з высокім утрыманнем вісмуту. Маюць форму дыскаў дыям. адпаведна 8,3 і 10,5 см, таўшч. у цэнтры 0,2 і 0,25 см, па краях 0,08 і 0,1 см. Адносяцца да рэдкага ўсх. тыпу люстэркаў-дыскаў з ручкай-пяцелькай у цэнтры адваротнага боку. Спектральны аналіз бронзы дае падставу меркаваць, што гэтыя Л. зроблены скіфамі.

*Літ.:* Л а ш а н к о ў М.І. Бронзавыя люстэркі // ПГКБ. 1982. №2.

**ЛЮ́ЦІНКАЎСКАЯ СЯДЗІ́БА В.І.ДУ́НІНА-МАРЦІНКЕ́ВІЧА**, помнік гісторыі і культуры ў в. Малая Люцінка Валожынскага р-на Мінскай вобл. Належала Марцінкевічам з 1840-х г. Найб. ранняе ўпамінанне аб маёнтку Люцінка, якім валодалі род Забускіх і мінскія езуіты, адносіцца да 1679. Дакумент 1776 сведчыць, што фальварак ужо належаў Ф.Багдановічу, які на р. Люцінка пабудаваў млын. З к. 18 ст. да 1815 яго гаспадарамі быў род Шклёнікаў. Пад 1827 уладальнікам фальварка значыцца межавы суддзя А.Сялява, у якога ў 1840 В.І.Дунін-Марцінкевіч набыў маёнтак Люцінка; па апісанні пісьменніка (1846), уключаў жылы дом, хлеў са стайняй, свіран, лядоўню, што месціліся на пляцы пл. каля 3,5 га. Далей стаялі вадзяны млын і карчма. Маёнтку Марцінкевічаў належала таксама 198 дзесяцін зямлі. Сядзібны дом, крыты гонтай, быў пабудаваны з сасны. Пасля пажару ў к. 19 ст. яго аднавілі. Зрублены ў просты зрэзаны вугал, меў 8 акон на 6 шыб кожнае. Канчаткова разабраны ў 1947. Астатнія пабудовы таксама не захаваліся. Археолага-архіт. даследаванні былі праведзены ў 1990 і 1992. Памеры дома 18 × 9,5 м. Яго падмурак выш. 0,3—0,6 м і таўшч. 0,6 м, складзены з камянёў 10—70 см у дыяметры без рошчыны. У асобных месцах паміж камянямі выяўлена цэментная з пяском рошчына. Да падмурка прылягала адбрукоўка з дробных камянёў шыр. 0,95 м. Каля гал. фасада дома, павернутага на Пд, знойдзены рэшткі каменна-цаглянага ганка. З паўн. боку захаваўся ганак 20 ст. даўж. 4,2 м і шыр. 4,65 м, з цэментнымі прыступкамі. Да паўд.-ўсх. вугла дома прылягала прыбудова з каменным падмуркам выш. 0,3 м. Дом меў 2 ярусы драўлянай падлогі. Верхні насціл, які ўяўляў сабой абгарэлыя прыбітыя да лаг цвікамі дошкі шыр. 20—25 см, зафіксаваны ў цэнтр. частцы дома. На мяжы 2 пакояў расчышчаны рэшткі кафельнай 2-яруснай печы к. 19 — пач. 20 ст. Ніжні ярус шыр. 1,17 м, складзены з цэглы памерамі 26 ×13 × 6,5 см, меў выш. 35 см. Верх печы памерам 84 × 76 см, змураваны з цэглы і каменю, захаваўся на выш. 45 см. Абодва ярусы печы абкладзены жоўтапаліванай кафляй з рэльефнымі ўзорамі. Ніжні насціл драўлянай падлогі адносіцца да 19 ст., калі дом належаў В.І.Дуніну-Марцінкевічу. На ім выяўлены каменны апечак кафлянай печы выш. 40 см. Адзін з яе бакоў меў памер 2,2 м, а другі прасочваўся на 1,3 м. Печ была абкладзена спяннай кафляй з гладкай вонкавай пласцінай памерамі 20,5 × 20,5 см. Гзымсавая кафля (21 × 10 см) падзяляла печ на ярусы. Уся кафля была пакрыта палівай салатнага колеру і не мела ўзораў.

Высветлілася, што на месцы сядзібы Марцінкевічаў у 17 ст. стаялі жылыя пабудовы з кафлянымі печамі. У культ. пласце 17—18 ст. знойдзены фр-ты гліняных гаршкоў, макотраў, пячной тэракотавай і зялёнапаліванай кафлі з раслыннымі і геральдычнымі ўзорамі, кавалкі цэглы-пальчаткі. Цікавай знаходкай з'яўляецца фр-т кубка з т.зв. каменнай керамікі, упрыгожаны рэльефным узорам і пакрыты шэра-блакітнай палівай. Такі посуд вырабляўся ў 17 ст. ў прырэйнскіх гарадах Германіі.

На З ад помніка В.І.Дуніну-Марцінкевічу выяўлены рэшткі агароджы, якой была абнесена сядзіба. Яе аснаванне таўшч. 65 см, складзенае з камянёў без рошчыны, захавалася на выш. да 40 см. Над камянямі ў пач. 20 ст. стаяў плот. На месцы гумна 19 ст. выяўлены падмурак жылой

пабудовы з рэшткамі цаглянай кафлянай печы і фр-тамі гліняных гаршкоў 17—18 ст. На ПнУ ад сядзібнага дома, на суседнім пагорку расчышчаны каменны падмурак дома парабка. Драўляная пабудова памерамі 7,6 × 6,5 м мела земляную падлогу ў пакоях і брукаваную ў сенцах. Ацяпляўся ў 19 — пач. 20 ст. кафлянымі печамі. Фр-ты кафлі і цэглы знойдзены тут разам з керамікай 17—18 ст.

Калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры 17 — пач. 20 ст. налічвае 447 адзінак (больш за ўсё керамікі). Яна ўключае фр-ты кухонных пукатых гаршкоў з валікападобным венцам, слоікавай формы макотраў, паліваных місак, гліняных і фаянсавых талерак, глякаў, збаноў, рынак, спадачкаў, гаршкоў пад вазоны. Знойдзена гліняная цацка-свістулька 19 ст. ў выглядзе птушкі. Збор пячной кафлі ўтрымлівае вырабы 17 — пач. 20 ст. з арнаментаванай і гладкай вонкавай пласцінай. Вырабы са шкла прадстаўлены аконнымі шыбамі, у т.л. 17 ст. з загладжанымі краямі, бутэлечным шклом, фр-тамі шклянак і келіхаў. Жал. прадметы 19 — пач. 20 ст.: дзвярныя крук і замок, фр-т матыкі, конскія падковы і каваныя цвікі.

*В.Е.Собаль.*

**ЛЯ́ЛЕЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі — гарадзішчы днепра-дзвінскай культуры каля в. Лялеўшчына Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча-1 за 2 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Ловаць, каля воз. Сясіта. Мясц. назвы Карлаўка, Лізавеціна гара. Памеры 130 × 100 м, выш. 25 м. Выявіў у 1934 А.М.Ляўданскі. У 1963 К.П.Шут даследаваў 32 м². Абследаваў у 1972 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,4 — 0,6 м. Выяўлены агнішчы ў авальных ямах з каменнай выбрукоўкай. Знойдзена гладкасценная слабапрафіляваная кераміка, прасліцы, шлакі і інш.

Гарадзішча-2 за 3 км на ПдУ ад вёскі, на зах. беразе воз. Чарняста, ва ўр. Батаў Рог. Памеры 35 × 30 м, выш. 10 м. Выявіў у 1934 А.М.Ляўданскі, абследавалі у 1963 К.П.Шут, у 1972 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,3 — 0,6 м.

Гарадзішча-3 за 3,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Ловаць. Мясц. назва Чорная гара. Пляцоўка авальная, выцягнутая з Пд на Пн, памерамі 40 × 31 м, выш. 10—12 м. З напольнага боку захаваліся рэшткі вала. Выявіў у 1934 А.М.Ляўданскі, у 1951 Л.В.Аляксееў даследаваў 25 м². У 1972 абследаваў Г.В.Штыхаў. Знойдзена ляпная гладкасценная, штрыхаваная і тэкстыльная кераміка.

*Літ.:* Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении западной Двины: материалы к археологической карте Витебской обл. БССР // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.

*Г.В.Штыхаў.*

**ЛЯМНІ́ЦА**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Лямніца Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. На паўд.-зах. ускраіне вёскі, на мысе левага берага р. Лямнічанка за 2 км вышэй упадзення ў р. Вабіч (прыток Друці). Пляцоўка трапецападобнай формы памерамі 34 × 20 × 30 м, умацаваная валам выш. да 5 м, шыр. 10 —13 м і ровам глыб. да 2 м, шыр. 13 м. Уваход на пляцоўку з паўн. боку. Абследавалі ў 1958 В.Ф.Капыцін, у 1975 Я.Р.Рыер. У 1993 А.М.Мядзведзеў даследаваў 120 м² у паўд.-зах. частцы пляцоўкі. Культ. пласт 0,6 — 1,5 м. Выяўлены рэшткі слупавых пабудоў з каменнымі агнішчамі, якія характэрны для днепра-дзвінскай культуры. Знойдзены 2 шкляныя пацеркі 2—3 ст.,



*Да арт. **Лямніца**. План гарадзішча і знаходкі з культурнага пласта.*

жалезныя В-падобная рыфленая спражка 1-й пал. 5 ст., чаранковы наканечнік стралы з пяром у форме вярбовага ліста 3—4 ст., чаранковы серп, 2 нажы з гарбатай спінкай, гліняная пацерка, 2 гліняныя біканічныя прасліцы, катушкападобны і авальны грузікі дзякоўскага тыпу, кавалак тачыльнага каменю. Кераміка пераважна ляпная гладкасценная, на другім месцы — штрыхаваная з тонкай невыразнай штрыхоўкай, на трэцім — глянцаваная кераміка добрай якасці, шурпатая прадстаўлена нязначна. Па форме венцаў адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, адзначаецца нязначны ўплыў з боку кіеўскай культуры. Датуецца 1-й пал. 1-га тыс.

*Літ.:* Медведев А.М. Раскопки городища в Белыничском районе // Гістарычныя лёсы Верх-няга Падняпроўя. Магілёў, 1995. Ч.1.

*А.М.Мядзведзеў, З.А.Харытановіч.*

**ЛЯСНА́Я**, археалагічныя помнікі — стаянкі і селішчы каля в. Лясная Гродзенскага р-на. Выяўлены ў 2005 у час абследавання зоны рэканструкцыі Аўгустоўскага канала сумеснай экспедыцыяй (В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі).

Стаянка-1 за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Чорная Ганча. Памеры 120 × 50 м, выш. 6—8 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы фінальнага палеаліту.

Стаянка-2 каменнага і бронзавага вякоў, селішча эпохі сярэдневякоўя размяшчаецца насупраць зах. канца вёскі, на дзюне левабярэжнага поплаву р. Чорная Ганча. Памеры 100 × 40 м, выш. 1 м. У час разведак знойдзены крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі і фр-ты кругавой керамікі. У 2005 даследавана 24 м². Знойдзены 161 артэфакт. Матэрыял рознačасовы і рознакультурны, сведчыць аб існаванні помніка ў каменным і бронзавым вяках і ў сярэдневякоўі. Найбольш архаічныя знаходкі датуюцца мезалітам (*яніславіцкая культура*). Матэрыялы позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку маюць аналогіі сярод помнікаў кола культуры шнуравой керамікі.

Стаянка-3 каменнага веку, селішча эпохі сярэдневякоўя эпохі сярэдневякоўя за 0,13 км ад стаянкі-2, на тэрасе левага берага р. Чорная Ганча. Памеры 50 × 40 м, выш. 0,5 м. У час разведак знойдзены фр-ты кругавой керамікі. У 2005 даследаваны 18 м². Выяўлены 75 артэфактаў: апрацаваныя крамяні каменнага веку, фр-ты кругавога посуду 11—13 ст., металічны выраб.

Стаянка-4 каменнага веку і селішча эпохі сярэдневякоўя на ўсх. ускраіне вёскі, на тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала. Памеры 150 × 70 м, выш. 5—7 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і сколы-нарыхтоўкі, фр-ты кругавой керамікі. Сярод крамянёвых вырабаў маюцца артэфакты фінальнага палеаліту.



*Крамянёвыя вырабы і фрагменты ганчарнай керамікі з помнікаў **Лясная**-2 і 3.*

Стаянка-5 з матэрыяламі фінальнага палеаліту размяшчаецца праз 0,15 км на У ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Чорная Ганча. Памеры 100 × 30 м, выш. 3 — 4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, сколы-нарыхтоўкі.

Стаянка-6 каменнага і бронзавага вякоў, селішча эпохі сярэдневякоўя за 0,15—0,2 км на У ад вёскі насупраць стаянкі-5, на правабярэжнай тэрасе р. Чорная Ганча. Памеры 60 × 30 м, выш. 2—4 м. Знойдзены крамянёвыя сколы-нарыхтоўкі і фр-ты кругавой керамікі.

Стаянка-7 каменнага веку за 0,35 км на Пд ад вёскі, на тэрасе правага берага р. Чорная Ганча. Памеры 120 × 80 м, выш. да 10 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі без культуравызначальных артэфактаў.

*Літ.:* Абухоўскі В.С., Лакіза В.Л. Археалагічныя помнікі беларускай часткі Аўгустоўскага канала // Августовский канал и современный экотуризм. Пултуск; Минск; Гродно, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**ЛЯСНА́Я**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Лясная Міёрскага р-на Віцебскай вобл. За 2 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, на беразе воз. Важа, за 0,5 км ад хутара Важа. Мясц. назва Французскія магілы, Валатоўкі. Абследавалі ў 1930-я г. У.Галубовіч і Г.Цэгак-Галубовіч, у 1973 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 А.У.Ільюцік, у 1979—80 Л.У.Дучыц (20 курганоў). Захавалася 32 насыпы круглай і авальнай формы, дыям. 5—14 м. Авальныя курганы выш. 0,5—1 м, памерамі 4 × 5 м, 7 × 9 м і інш., размешчаны па лініях З—У і


*А.М.Ляўданскі.*

Пн—У. Частка насыпаў мела каменныя абкладкі ці выбрукоўкі на мацерыку. Частка курганоў разбурана пры распрацоўцы кар'ера. У 10 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце, у адным (двайным) — на грунце і ў насыпе. Пахавальны інвентар: нажы, серп, крэсіва, бранзалеты (вітыя з 2 драцінак з завязанымі канцамі, з заморфнымі выявамі), падкавападобныя фібулы са спіралепадобнымі канцамі, спіральныя пранізкі, лунніцападобнае скроневае кольца, шкляныя і бурштынавыя пацеркі, ляпная і ганчарная кераміка. У 3 курганах сляды пахаванняў адсутнічаюць, але знойдзены рэчы. У 6 курганах не выяўлена ні пахаванняў, ні інвентару.

*Літ.:* Дучиц Л.В. Курганный могильник у д. Лесная Миорского района // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. *Л.У.Дучыц.*

**ЛЯТО́ХІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Лятохі Віцебскага р-на. За 1 км ад р. Лучоса, у лесе, уздоўж дарогі; 14 курганоў (3 доўгія, астатнія ў плане круглыя) выш. 1,5—2,5 м, дыям. 12—14 м. У 1923 А.К.Супінскі даследаваў 2 авальныя курганы. Адзін курган валападобны, даўж. 70 м, шыр. 1 м, выш. 1,5 м. Каля асновы насыпу глыбокія раўкі. Выяўлены рэшткі напалавіну спаленага нябожчыка, які ляжаў галавой на ПнУ. У 1965 і 1972 Г.В.Штыхаў раскапаў 3 курганы. Адзін з іх быў пусты, у другім пад насыпам знойдзена пахаванне па абраду трупаспалення. У трэцім, доўгім кургане (даўж. 18 м) пахавання няма, пад насыпам выяўлены сляды вогнішча і ляпны гаршчок банцараўскай культуры. Вакол кургана даследаваны раўкі, у якіх зафіксавана рытуальнае вогнішча. Датуецца 3-й чв. 1-га тыс. н.э.

*Літ.:* Супінскі А.К. Могільнік каля вёскі Лятох Віцебскага раёна і акругі // Віцебшчына. Віцебск, 1925. Т.1. *Г.В.Штыхаў.*

**ЛЯЎСІК** (Кізюкевіч) Наталля Аляксандраўна (н. 16.3.1979, Гродна), беларускі археолаг. Скончыла гіст. ф-т Гродзенскага дзярж. ун-та імя Я.Купалы (2001). З 2000 у Гродзенскім дзярж. гісторыка-археал. музеі. Вывучае матэрыяльную культуру помнікаў эпохі сярэдневякоўя Верхняга Панямоння. Праводзіла археал. разведкі і абследаванні на тэр. Гродзенскай вобласці, раскопкі ў Гродне.

*Тв.:* Цiснёныя колты са збораў ГДГАМ // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 2003. Вып. 6; Ювелірныя ўпрыгажэнні з пахаванняў на тэрыторыі Гродзенскага раёна // Stan badań archeologicznych na pograniczu polsko-białoruskim od okresu wczesnego średniowiecza po czasy nowożytne. Białystok, 2006; Пытанні вывучэння ювелірнага рамяства Беларускага Панямоння: археал. дасled. на Беларусі ў 2007 г. // МАБ. 2009. Вып. 17. *В.Л.Лакіза.*

**ЛЯЎДА́НСКІ** Аляксандр Мікалаевіч (29.8.1893, в. Юр'ева Барысаўскага павета Мінскай губ., цяпер Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. — 27.8.1937), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1934). Скончыў нар. вучылішча, служыў у паштовым ведамстве. У гады 1-й сусветнай вайны — у дзеючай арміі. Пасля дэмабілізацыі (1918) вучыўся ў Смаленскім аддз. Маскоўскага археал. ін-та. Скончыў Смаленскі дзярж. ун-т (1925), у якім працаваў асістэнтам археал. кабінета і адначасова супрацоўнікам краязнаўчага музея. З 1927 у Інбелкульце, адначасова заг. аддз. археалогіі Бел. дзярж. музея. З 1931 вучоны сакратар, заг. секцыі археалогіі ІГ АН БССР, дацэнт гіст. ф-та БДУ. Пад час працы на Смаленшчыне адкрыў і апісаў некалькі соцень гарадзішчаў жал. веку, стварыў першую навук. класіфікацыю ўмацаваных паселішчаў. У к. 1920-х— пач. 1930-х г. праводзіў разведкі і раскопкі гарадзішчаў жал. веку ў Бел. Падзвінні, Верхнім Падняпроўі і басейне Прыпяці. Вылучыў 3 лакальныя групы ўмацаваных паселішчаў: гарадзішчы з ляпной гладкасценнай керамікай Падзвіння і Верхняга Падняпроўя; гарадзішчы са штрыхаванай керамікай цэнтр. Беларусі; гарадзішчы з керамікай пауд. тыпу. Вызначыў іх арэалы, ахарактарызаваў матэрыяльную культуру і гасп. дзейнасць насельніцтва, прапанаваў храналогію паселішчаў і стадыяльнасць іх развіцця. У адносінах першых 2 груп гарадзішчаў услед за А.А.Спіцыным выказаў меркаванне аб іх балцкай прыналежнасці. У 1925 Л.прыступіў да вывучэння сярэдневяковых помнікаў Беларусі. Даследаваў курганы ў Заслаўі, дзе ўпершыню выкарыстаў методыку раскопак курганоў пад знос. Усяго ім вывучана звыш 300 курганных насыпаў у Падзвінні, Верхнім Падняпроўі і Палессі. Першым прыступіў да сістэматычнага даследавання гарадоў Полацк, Віцебск, Орша, Заслаўе, Барысаў. У 1937 рэпрэсіраваны, рэабілітаваны ў 1958.

*Тв.:* Некоторые данные о городищах Смоленской губернии // Научные известия Смоленского гос. университета. Смоленск, 1926. Т. 3, вып. 3; Археалагічныя раскопкі ў Заслаў'і Менскай акругі // Працы. Т.1; Археалагічныя досьледы ў вадазборах рр. Сажа, Дняпра і Каспլі ў Смаленскай губ. // Там жа; Археалагічныя досьледы ў Полацкай акрузе // Там жа. Т.2; Археалагічныя досьледы ў Віцебскай акрузе // Там жа; Археалагічныя досьледы ў Барысаве // Там жа; Археологические исследования в БССР после Октябрьской революции // Сообщения Гос. академии истории материальной культуры. Ленинград, 1932. №7/8; Археалагічная праца ў БССР за 1930—1931гг. // Працы. Т.3.

*Літ.:* Вяргей В.С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР. 1919—1941. Мінск, 1992; Егорейченко А.А. Железный век в исследованиях А.Н.Лявданского // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрэсаваных археолагаў. Мінск, 1993; Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси. XVI в.— 30-е годы XXв. Мінск, 1996. *А.А.Егарэйчанка.*

**ЛЯЎКІ́**, археалагічныя помнікі— гарадзішча, селішчы і курганны могільнік каля в. Ляўкі Аршанскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі. Пляцоўка чатырохвугольная, памерамі 40 × 30 м, выш. 20 м. З трох бакоў пляцоўку абкружае вал выш. да 1 м, на Пд размешчаны роў глыб. да 1 м. У 1969 Г.В.Штыхаў даследаваў 12 м². Культ. пласт 0,4 м. Знойдзены ляпны посуд 3-й чв. 1-га тыс. і кругавая кераміка 13—14 ст.

Селішча-1 стараж.-рус. часу за 0,1 км на Пд ад вёскі. Пл. каля 0,6 га. Выявіў у 1985 А.М.Шынкевіч. Знойдзена кругавая кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

Селішча-2 стараж.-рус. часу на паўн.-зах. ускраіне вёскі, каля дарогі на Копысь. Выявіў у 1985 А.М.Шынкевіч. Часткова разбурана кар'ерам. Культ. пласт у агаленні кар'ера 0,4 м, насычаны вугалем. Знойдзена кругавая кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік за 1,2 км на Пд ад вёскі, у лесе. Выявіў у 1988 Э.Э.Навагонскі. 6 насыпаў паўсферычнай формы дыям. 6—8 м, выш. 1,5—3 м. Адзін курган аддалены ад астатніх на 0,2 км на З. Раскопкі не праводзіліся.

*В.М.Ляўко.*

**ЛЯЎКО́** Вольга Мікалаеўна (н. 21.5.1947, в. Астравок Капыльскага р-на Мінскай вобл.), бел. археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (2000), праф. (2010). Скончыла БДУ (1972). З 1970 у ІГ НАН Беларусі, з 2006 — заг. цэнтра. Нам. старшыні экспертнага савета Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь. Даследуе сярэдневяковую гісторыю і археалогію, этна- і культурагенез славян, фарміраванне і развіццё раннедзярж. структур, тэр.-адміністрацыйных утварэнняў на тэр. Беларусі 9—18 ст. Заснавальнік новага навук. напрамку ў археалогіі Беларусі— вывучэння культ. пласта помнікаў 14—18 ст. Аўтар канцэпцыі і кіраўнік стварэння археал. навук.-музейнай экспазіцыі ІГ НАН Беларусі (2007). Даследавала гарады Віцебск (звыш 7000 м²), Орша (звыш 3000 м²), Друцк (звыш 480 м²). Адкрыла месцазнаходжанне стараж. Шклова 16—18 ст. на тэр. в. Рыжкавічы. Вывучае помнікі эпохі жалеза і сярэдневякоўя паўн.-ўсх. Беларусі: гарады, феад. сядзібы, мястэчкі, гарадзішчы-крэпасці, селішчы (Друцк, Копысь, Стары Шклоў, Езярышча, Гарадок, Смальяны, Сураж, Дуброўна, Талачын, Кісялі, Стражава, Багрынава, Новы Болецк, Чаркасава); гар. і сельскія грунтавыя, курганныя, каменныя могільнікі 10—17 ст. (Віцебск, Орша, Шклоў, Галошава, Гарадок, Друцк, Дроздава, Крапіўна, Новы Болецк, Навінкі, Арэхаўск, Смалькі); культавыя пабудовы Віцебска (Святадухаўскі манастыр, Успенскі сабор, Васкрасенская царква, езуіцкі калегіум), Оршы (Куцеінскі Богаяўленскі манастыр, езуіцкі калегіум, базыльянскі і дамініканскі кляштары, царква Раства Багародзіцы), Шклова (Васкрасенская царква) і інш. Распрацавала курсы па ўводзінах у археалогію, гісторыі развіцця археал. навукі, практычнай археалогіі, слав. этнагенезу па спецыяльнасці «археалогія». Удзельнік бел.-рас. н.-д. праекта «Ранніе славяне лясного Падняпроўя і Падзвіння». Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларусі» ў 6 т. (т. 1, 2000), «Археалогія Беларусі» ў 4 т. (т. 1, 2001), «Раннія славяне Беларускага Падняпроўя і Падзвіння» (2003), даведніка «Археалагічная навукова-музейная экспазіцыя НАН Беларусі», кн. «Беларусь: народ, дзяржава, час», «Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» (усе 2009),



*В.М.Ляўко.*

*Тв.:* Витебские изразцы XIV—XVIII вв. Минск, 1981; Витебск XIV—XVIII вв. (Страти-графия, хронология, социально-историческая топография и технология производств). Минск, 1984; Экскурсия по древнему Витебску. Минск, 1984; Торговые связи Витебска в X-XVIII вв. Минск, 1989; Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии. Минск, 1992; Средневековая Орша и ее округа. Орша, 1993; Культовые памятники Орши конца XVI—XVIII вв. Орша, 1996; Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие. Минск, 2004; Практическая археология: учеб. пособие для вузов. Могилев, 2006; Институт истории Национальной академии наук Беларуси. Минск, 2009 (у сааўт.); Введение в археологию. Могилев, 2009; Города и замки древней Витебской земли: справ.-информ. изд. Витебск, 2009; Витебск. Минск, 2010.

*А.В.Пашык.*



*Э.А.Ляшкевіч.*

**ЛЯШКЕ́ВІЧ** Элона Аляксандраўна (12.4.1967, Мінск), беларускі археолаг, археаіхтыёлаг. Скончыла БДУ (1990). З 1986 у ІГ НАН Беларусі. Вывучае астэалагічныя рэшткі іхтыяфауны з археал. помнікаў, матэрыяльную культуру старажытнага рыбалоўнага промыслу. Праводзіла раскопкі стаянак каменнага веку ў Бабровічах Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.

*Тв.:* Рэшткі рыб з раннеславянскага паселішча Сырдзін-2 // ГАЗ. 1999. №14; Рыболовство в средневековом Гродно (по материалам раскопок Старого замка) // ГАЗ. Мінск, 2004. №19; Крыніцы да вывучэння старажытнага рыбалоўства на тэрыторыі Беларусі // МАБ. 2010. Вып. 18; The ancient fishing of Belarusian Polessye // Fish— Culture — Environment through Archaeoichthyology, Ethnography and History. 15 Meeting of the ICAZ Fish Remain Working Group. Poznań; Toruń, 2009.

*В.У.Мядзведзева.*



**МАГІЛЁЎ**, горад, цэнтр Магілёўскай вобл. За 201 км на У ад Мінска. Чыг. вузел (лініі на Оршу, Асіповічы, Жлобін, Крычаў), аўтадарогі на Мінск, Гомель, Віцебск, Бабруйск і інш.; на р. Дняпро, якая дзеліць горад на 2 часткі. Праз М. працякае р. Дубравенка (правы прыток Дняпра).

Існуе шмат легенд і паданняў пра ўзнікненне назвы горада. Адна з іх звязана з імем кн. Льва Данілавіча Могія (Магутны Леў), які нібыта пабудаваў у 1267 замак у сутоках рэк Дубравенка і Дняпро. Нар. паданне звязвае назву М. з імем асілка Машэкі, над магілай якога быў насыпаны вял. курган, названы Магілай Льва, захавалася ўр. Машакоўка. Паводле « Запісак ігумена Арэста», у старажытнасці на месцы Магілёва быў стан разбойнікаў на чале з атаманам Магілай, і каля шматлікіх магіл забітых імі людзей узнікла вёска Магілка. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з к. 14 ст. М. у складзе ВКЛ. У к. 14 — пач. 15 ст. ва ўладанні каралевы Ядзвігі, жонкі польскага караля і вял. кн. літ. Ягайлы; з 1503 у пажыццёвым уладанні Алены Іванаўны, жонкі польскага караля і вял. кн. літ. Аляксандра. У 1514 ва ўладанні Ю.Зяновіча. У 1561 атрымаў права на войтаўства (гар. кіраванне), у 1577 — поўнае магдэбургскае права і герб (у 1661 з'явіўся новы). У час Паўн. вайны 1700—21 у 1708 быў заняты і разрабаваны шведскімі войскамі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі.

Археал. вывучэнне Магілёва пачалося ў 19 ст. Асн. даследчыкі горада — Е.Р.Раманаў, А.М.Ляўданскі, В.Р.Тарасенка, Ю.В.Кухарэнка, І.Г.Ієнэ, Я.Р.Рыер, А.А.Трусаў, І.М.Чарняўскі, В.Ф.Капыцін, І.І.Сінчук, Дз.Л.Яцкевіч, Д.Ю.Марухіна, І.А.Марзалюк. У ваколіцах М., па берагах Дняпра, даследчыкамі зафіксаваны сляды знаходжання чалавека з эпохі мезаліту (каля 10—7 тыс. гадоў да н.э.) і наступнага часу — неаліту і бронзавага веку. У эпоху ранняга жал. веку на тэр. будучага гіст. цэнтра Магілёва існавалі 2 неўмацаваныя паселішчы кіеўскай культуры 3—5 ст.: адно на месцы будучага *Магілёўскага замка* (Гара Магіла), другое — на тэр. *Магілёўскага гарадзішча Змяёўка*. У 2009 І.А.Марзалюк выявіў у вярхоўях р. Дубравенка, побач з в. Старое Пашкава, селішча з аналагічным керамічным матэрыялам (грубая ляпная кераміка з расчосамі і падштрыхоўкай). У 5—7 ст. жыццё працягвалася на тэр. гарадзішча Змяёўка: зафіксаваны старажытнасці насельніцтва калочынскай культуры, якое ўзвяло тут магутныя ўмацаванні. У размыве правага берага р. Дубравенка, пад падэшвай Магілёўскага замка, Е.Р.Раманавым была знойдзена ляпная кераміка, аналагічная знаходкам з гарадзішча Змяёўка. Побач з замкам, у міжрэччы Дняпра і Дубравенкі, знаходзілася група курганоў 9 —11 ст. (развораны ў 1880-я г.). У іх былі знойдзены сярэбраныя пярсцёнкі, шкляныя залачоныя пацеркі, кераміка. У некалькіх насыпах былі адшуканы арабскія дырхемы пач. 8—9 ст. Адна манета амеядская (704), 5 — абасідскія, выбітыя ў Басры (752), Балсе (803), Аране, Багдадзе (807), Маадэне-Баджынесе (810).

У выніку археал. даследаванняў І.А.Марзалюка на тэр. Магілёўскага замка даказаны факт існавання тут умацаванага стараж.-рус. паселішча з к. 10—11 ст., росквіт якога прыпадае на 12— сяр. 13 ст. Гэтым часам датуецца багаты культ. пласт (рэшткі зброі, ювелірных і шкляных упрыгажэнняў, апрацаваных костак, керамікі). Культ. слой 12— 1-й пал. 13 ст. насычаны шклянымі бранзалетамі, зброяй, кавалачкамі шлакаў, медзі, срэбра, бронзы; знойдзены бранзалет з кірылічным надпісам «ЖООД», кавалкі плінфы. Самым стараж. рамяством у М.з'яўлялася ганчарства (12—13 ст.). У гэты ж час на тэр. замчышча жылі кавалі, ювеліры, гарбары, кастарэзы.

Паводле археал. даных, у сяр. 13 ст. М. быў знішчаны мангола-татарамі. Пра гэта сведчыць наяўнасць у культ. пласце таго часу слядоў моцнага пажару, знаходкі мангольскіх наканечнікаў стрэл (зрэзняў), пасечаных рубячай зброяй чалавечых касцей. У 14 ст. жыццё ў М. пачало аднаўляцца. У к. 14 ст. М. згадваецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» як «горад кіеўскі». З 2-й пал. 15 ст. пачаўся рост гар. тэр., склалася тапаструктура,

характэрная для тагачаснага гар. комплексу: замак — гандл. плошча — пасады. Пераважная большасць знаходак прадстаўлена фр-тамі керамікі, знойдзены адзінкавыя маскоўскія, цвярскія і наўгародскія манеты-пулы, касцяная капавушка. У 1526 на месцы старога гарадзішча быў пабудаваны новы замак з магутнай сістэмай умацаванняў. Ён ахапіў значна большую тэр. (пл. каля 2 га) за кошт прырашчэння напольнай часткі ва ўсх. напрамку і стаў гал. цэнтрам планіровачнай структуры М. Да яго сыходзіліся астатнія гар. вуліцы, што абумовіла радыяльна-кальцавую сістэму планіроўкі.

На працягу 16 ст. горад і ваколіцы неаднаразова разбураліся пад час войн Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ. Але з 2-й пал. 16 ст. горад пачаў інтэнсіўна развівацца і ў пач. 17 ст. стаў адным з буйнейшых гар. цэнтраў ВКЛ. У гэты час М. актыўна гандляваў з гарадамі Расіі, Польшчы, Прыбалтыкі, Чэхіі. У сяр. 17 ст. горад меў самае шматлікае, багатае і ўплывовае купецтва ў ВКЛ. Гандлем у прылеглых да М. гарадах, мястэчках і вёсках займаліся дробныя гандляры — прасолы (накшталт рус. карабейнікаў). З буйнымі гарадамі Беларусі (Брэст, Гродна, Мінск, Полацк, Віцебск) вялі гандаль заможныя купцы. У 1577 у М.было 137 крам, у 1604 — 240, у 1609 — 361. У 1-й пал. 17 ст. ў горадзе было больш за 80 відаў рамёстваў, рамеснікі складалі 43—45% ад агульнай колькасці ўсяго насельніцтва; існавала 17 цэхаў. У сяр. 17 ст. плошча М. склала 385 га.

Сістэма асн. вуліц М. сфарміравалася пад уплывам гандл. шляхоў, якія падыходзілі да горада: з ПнУ са Шклова, з ПнЗ — з Вільні, з З — з Быхава, з Пд — з Мсціслава. Гэтыя радыяльныя напрамкі сыходзіліся ў адным пункце — на Гандлёвай пл. У 1604 яна займала тэр. больш за 2 га; мела форму няправільнага шматвугольніка. На ёй размяшчалася 26 радоў крам. З пабудовай у 1681 *Магілёўскай ратушы* плошча стала асн. адміністрацыйным і грамадскім цэнтрам М. У структуры горада вылучаліся 2 гал. вуліцы — Шклоўская (сучасная Першамайская) і Ветраная (сучасная Ленінская), якія перасякалі тэр. горада з Пн на Пд. У сістэме вулічнай сеткі пасадаў прасочваецца спалучэнне руху да ядра замка з накірункамі найб. выгадных выйсцяў да водных артэрый горада. Рост гар. пасадаў абумовіў стварэнне новых умацаванняў вакол іх. На працягу 1601—33 былі скончаны работы па будаўніцтве развітай абарончай сістэмы ўмацаванняў з 3 паясоў ліній абароны (існавалі да пач. 19 ст.). Першую лінію складаў замак (працягласць умацаванняў 613 м). Другая лінія — Кругавы (Бліжні) вал (1449 м) ахоплівала Стары горад і мела 4 брамы. Трэцяя лінія — Палявы (Дальні) вал — у розныя часы мела розныя памеры, у к. 17 ст. — 13 брам, у адрозненне ад 2 папярэдніх паясоў не з'яўлялася замкнёным ланцугом, а перарывалася ярамі і рэкамі.

На аблічча М. значны ўплыў аказаў рэльеф тэр.: 2 глыбокія яры — Дубравенкі і Дзебры— перасякалі горад з Пд на Пн і разбівалі яго на часткі. Цэнтр. ядро горада размяшчалася на высокім плато паміж імі і ўключала ў сябе замак, Гандлёвую пл. і Стары горад, абкружаны Кругавым валам. Да яго прылягалі пасады: з Пн — Шклоўскі, з ПнЗ — Віленскі, з З — Задубровенскі, з У — Пакроўскі. За Дняпром размяшчаўся Задняпроўскі пасад. Усе яны (акрамя Задняпроўскага і Пакроўскага) былі абкружаны Палявым валам. У 1692—1703 земляныя ўмацаванні былі насыпаны і вакол апошніх двух пасадаў. Пад час Паўн. вайны 1700—21 яны вельмі пацярпелі ад войск Пятра I і не аднаўляліся.

Найб. магутны культ. пласт — к. 16 — 17 ст.; адрозніваецца высокай ступенню насычанасці рэчавым матэрыялам і распаўсюджаны па ўсёй гіст. зоне горада, добра захоўвае арганіку. У межах Старога горада і Пакроўскага пасада зафіксаваны рэшткі драўляных маставых, жылых і гасп. пабудоў, падмуркі камяніц.

*Літ.:* Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI—XVII вв.). Минск, 1966; Его ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Минск, 1975; Чарняўская Т.І. Архітэктура Магілёва. Мінск, 1973; Трусаў А.А., Чарняўскі І.М., Кукуня В.Р. Архітэктурна-археалагічныя даследаванні гістарычнага цэнтра Магілёва // Весці АН БССР. Сер. гуманіт. навук. 1983. № 5; Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. Минск, 1985; Мелешко В.И. Могилев в XVI — середине XVII в. Минск, 1988; Марзалюк І.А. Магілёў у XII—XVIII стагоддзях: людзі і рэчы. Мінск, 1998; Яго ж. Вынікі археалагічных даследаванняў у гістарычным цэнтры і ваколіцах Магілёва // ГАЗ. Мінск, 2007. №23. *І.А.Марзалюк.*

**МАГІЛЁЎСКАЕ ГАРАДЗІШЧА ЗМЯЁЎКА**, Пелагееўскае, археалагічны помнік у г. Магілёў, на правым беразе р. Дубравенка за 2,5 км вышэй упадзення яе ў р. Дняпро, на Пд ад праспекта Міру.

У апісаннях археал. помнікаў вядома з 1873. Абследаваў і правёў разведачную шурфоўку ў 1905 Е.Р.Раманаў. У пач. 20 ст. гарадзішча мела 2 валы і 2 равы, але вонкавыя роў і вал былі заараны яшчэ да 1905. Знойдзена ляпная кераміка. У 1928 і 1930 гарадзішча аглядалі А.М.Ляўданскі і В.Р.Тарасенка, у 1951 — Ю.У.Кухарэнка. У пач. 1960-х г. помнік разбураўся пры пракладцы праспекта Міру, у 1969 — пры будаўніцтве Палаца піянераў. У 1969 пляцоўка гарадзішча, якая захавалася, займала 255 м$^2$, у 1973 — 96,25 м$^2$. У 1973 Я.Р.Рыер даследаваў 22 м$^2$. Да раскопак гарадзішча ўяўляла трохвугольную пляцоўку, якая ўзвышалася над летнім узроўнем вады ў Дубравенцы на 15—16 м. Рэшткі вала выш. 2 м прымыкалі да зах. часткі пляцоўкі. Роў перад унутраным валам быў засыпаны. Частка вала, якая захавалася, падсту-

пае з З да гарадзішча і ўзвышаецца над пляцоўкай амаль на 2 м. З астатніх бакоў пляцоўка гарадзішча была абмежавана абрывамі, што спрыяла яе інтэнсіўнаму разбурэнню. Зафіксавана кераміка верхнедняпроўскага варыянта кіеўскай культуры са штрыхоўкай і расчосамі; матэрыялы калочынскай культуры 3-й чв. 1-га тыс., нешматлікія фр-ты ганчарнага посуду 11—12 ст. Выяўлены паўзямлянка каркасна-слупавой канструкцыі; кавалак шлаку — след бронзаліцейнай вытворчасці, нож і 2 бронзавыя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі і геам. арнаментам.

У 2008 даследаванне помніка прадоўжыў І.А.Марзалюк: здзейсніў прарэзку вала і вывучыў культ. пласт пл. 48 м². Выяўлены 2 паўзямлянкі каркасна-слупавой канструкцыі памерамі 2,6 × 4 м і 3,3 × 4 м, з печкамі-каменкамі ў кожнай; 2 гасп. ямы. Сценкі жытлаў з глінянай абмазкай, якую таксама выкарастоўвалі для выраўноўвання падлогі. Культ. пласт насычаны вугалем, керамікай 5—7 ст.

Выяўлены пад час даследаванняў гарадзішча керамічны посуд падзяляецца на некалькі храналагічных груп: вырабы 3—4 ст., 5—7 ст., 2-й пал. 9—13 ст., 17—18 ст. Найб. каштоўныя знаходкі з чорных металаў— крэсіва-шыла і нож, знойдзеныя ў праслойцы вугалю, разам з керамічным матэрыялам 5—7 ст. Вырабы з чорных металаў 17—18 ст. — паясная спражка, абутковая пляскатая падкоўка, цвічокухналь). Вырабы з каляровых металаў прадстаўлены бронзавымі і сярэбранымі рэчамі. Сярод іх 4 бронзавыя масіўныя, акруглыя ў сячэнні бранзалеты 5—7 ст. з патоўшчанымі і сашчэпленымі паміж сабой канцамі і геам. арнаментам; бронзавы рыбацкі кручок 5—7 ст., сярэбраная манета-«лускавінка» маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча.

Гарадзішча з'яўляецца трохслойным помнікам. Найб. стараж. знаходкі (невял. колькасць) — керамічны матэрыял верхнедняпроўскага варыянта кіеўскай культуры. Культ. пласт у даследаванай частцы не захаваўся. Росквіт жыцця на гарадзішчы звязаны са знаходжаннем тут умацаванага паселішча калочынскай культуры (каркасна-слупавыя паўзямлянкі з печкамі-каменкамі). Попельны пласт на мацерыку і праслойкі ў рэштках жытлаў з'яўляюцца слядамі пажару 7 ст. Кругавая кераміка 10—12 ст. сведчыць пра засяленне гарадзішча ў раннім сярэдневякоўі.

*Літ.:* Копытин В.Ф. Археологические памятники Могилева и окрестностей. Могилев, 1993; Марзалюк І.А. Гарадзішча Змяёўка (Пелагееўскае гарадзішча) у Магілёве: археал. даслед. Магілёў, 2010.

*І.А.Марзалюк.*

**«МАГІЛЁЎСКАЯ ДАЎНІНÁ»** («Могилевская старина»), зборнік дакументаў і артыкулаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Магілёўшчыны, перадрукаваных з неафіцыйнай часткі «Могилёвских губернских ведомостей» за 1898—1903. Выдадзены ў 3 выпусках (1900—03) пад рэдакцыяй Е.Р.*Раманава.*

У зборніку змешчаны Баркулабаўскі летапіс (вып. 1), «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года» А.Меера (вып. 2), карта Магілёўскага намесніцтва 1786, дакументы і артыкулы па гісторыі Магілёва, Оршы, Быхава, Крычава і інш. населеных пунктаў, агляды архіўных фондаў па гісторыі Магілёўшчыны, каштоўны этнагр. матэрыял. Змешчаны паказальнік прац і асобныя працы Е.Р.Раманава: «Раскопка ў маёнтку Чырчына», «Археалагічныя знаходкі», «Манетны скарб 1648...» (вып. 1), «Пробная раскопка ў Брусневічах Магілёўскага павета 15—16 ліпеня 1900 г.» (вып. 2), «Дзве археалагічныя разведкі» (вып. 3) і інш.

*Літ.:* Савіцкая Л.А. Материалы по истории Белоруссии на страницах «Могилевской старины»: (ист.-библиогр. обзор) // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Минск, 1983. Вып. 4.

*У.У.Багамольнікаў.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ РÁТУША.** Пабудавана ў 1679—81 у г. Магілёў пад кіраўніцтвам мясц. майстра Фескі. У 1692—98 дойлід Ігнат з арцеллю ўзвёў новую 38-метровую вежу на месцы былой, дабудаванай у 1682 (выш. 26 м, неўзабаве абвалілася). Будынак прамавугольны ў плане памерамі 28 × 10,5 м. У к. 17 ст. ратуша ўяўляла сабой 2-павярховы мураваны атынкаваны будынак з высокай 8-граннай вежай пасярэдзіне фасада. Мела 2 уваходы з ганкамі (нізкім і высокім). Стромкі дах быў накрыты чырвонай дахоўкай і аздоблены пазалочанымі флюгерамі. На 1-м паверсе знаходзіліся вял. «ізба», дзе адбываўся войтаўскі суд, канцылярыя і памяшканне «ратушная святліца» для захавання бягучых спраў магістрата. На 2-м паверсе — судовая «ізба», вял. зала для пасяджэнняў магістрата, дапаможныя памяшканні. У цокальным паверсе былі скарбніца, склады і турма. Ацяплялася печамі, аздобленымі тэракотавай зялёнай паліванай кафляй. Пасля ўваходжання Магілёва ў склад Расійскай імперыі ў 1773 ратушу перабудавалі ў стылі, характэрным для архітэктуры 18 ст. У 1957 будынак быў знесены, у 2008 адноўлены. Раскопкі праводзілі ў 1979 А.А.Трусаў, у 1984 І.М.Чарняўскі. Выяўлены падмуркі і рэшткі сцен з тонкай цэглы-пальчаткі ў тэхніцы муроўкі (рад лажкоў, рад тычкоў). Падмуркі складзены з вял. камянёў і цэглы на вапнавай рошчыне. Каля гал. фасада прасочваюцца рэшткі параднага цаглянага ганка. Знойдзена кафля з раслінным і геам. арнаментам, паліваныя куфлі з выявай стараж. герба Магілёва, фр-ты шкла 16—19 ст.

*Літ.:* Трусаў А.А. Старонкі мураванай кнігі. Мінск, 1990.

*А.А.Трусаў.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ СТАЯНКА,** археалагічны помнік грэнскай культуры на ўсх. ускраіне г. Магілёў. За 1 км на У ад чыг. моста, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Дняпро. Памеры 30 × 170 м. Выявіў у 1897 Е.Р.Раманаў, абследавалі ў

1925 і 1927 К.М.Палікарповіч, у 1975, 1985—86 В.Ф.Капыцін (180 м²). Культ. пласт 0,1 м залягаў у пясчаных адкладах на глыб. 0,2—0,6 м. Знойдзены крамянёвыя кавалкі, лускавінкі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы, прылады працы для апрацоўкі скуры, костак і дрэва (канцавыя, паўкруглыя, двайныя, нуклеусападобныя скрабкі, рэтушаваныя, двухгранныя і на зломе нарыхтовак разцы, праколкі, вырабы з выемкай, сякеры і інш.), прылады палявання (тронкавы наканечнік стралы, вастрыі, нажы), пласцінкі з прытупленым краем. Вышэй па цячэнні Дняпра ва ўр. Гарадшчызна Е.Р.Раманаў выявіў стаянку эпохі неаліту, селішча жал. веку і ранняга сярэдневякоўя, якія знішчаны ў выніку распрацоўкі кар'ера.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Изучение мезолита в Верхнем Поднепровье // АО 1985. М., 1987; Яго ж. Раскопки памятников мезолита в Верхнем По-днепровье // АО 1986. М., 1988. *В.Ф.Капыцін.*

**МАГІЛЁЎСКІ ЗА́МАК**, Гара «Магіла», Замчышча, помнік археалогіі. Існаваў у 16—19 ст. у г. Магілёў (зараз на яго тэр. парк імя М.Горкага). Размяшчаўся на мысе высокага правага берага р. Дняпро, паблізу р. Дубравенка. З зах. боку пляцоўка дзяцінца ўзвышалася на 20 м над далінай Дубравенкі, з паўд.— на 25 м над далінай Дняпра, з У выш. схілу дасягала 14 м, з Пн была ўмацавана шырокім і глыбокім ровам. У 1526 на месцы стараж. дзяцінца Магілёва быў пабудаваны новы замак, умацаванні якога знаходзіліся на высокім земляным вале. Замак быў аддзелены ад горада абарончым ровам, які ішоў ад Дубравенкі да Дняпра. Праз яго быў перакінуты мост на палях, падведзены да ўязной замкавай 5-яруснай («Горнай») брамы. Па перыметры абарончага вала стаялі яшчэ 6 веж у 3—5 ярусаў, якія злучаліся сценамі-гароднямі. Усе вежы былі зрублены камбінавана: павернутыя ў бок «поля» — у 2—3 бервяны; тыя, што выходзілі ў замкавы двор, — у адно. Ад замка да ракі вёў патаемны падземны ход. Абарончыя сцены замка мелі выгляд вельмі высокіх гародняў. Амаль усе яны былі 3-ярусныя. Верхні ўзровень меў галерэю з парапетам таўшч. у 2 бервяны. На прыступнай сцяне замка ў 1604 знаходзілася 9 гармат рознага калібру. Замак звонку быў абмазаны глінай, у верхняй частцы замкавага вала слоем таўшч. ад 60 см да 1,5 м. Перад будаўніцтвам замкавых сцен яна была абпалена і набыла «цэглападобны» выгляд.

У 1972 студэнт Магілёўскага педагагічнага ін-та І.Г.Іонэ пад час археал. разведкі знайшоў жал. сякеру, нож, касу-гарбушу, біканічныя шыферныя праслíцы, фр-ты гаршкоў (усё 11—12 ст.), бронзавы лентачны бранзалет са спіралепадобнымі канцамі 10—11 ст., кераміку 13—15 ст. У 1983 М.з. упершыню даследаваў М.А.Ткачоў (пл. 48 м²). Зафіксаваны 2 жаночыя пахаванні 12—13 ст. У 1993—2007 даследаваў І.А.Марзалюк (626 м²). Устаноўлена, што ў к. 10—11 ст. на гары Магіла былі ўзведзены першыя ўмацаванні. Перад іх будаўніцтвам было распалена рытуальнае вогнішча, вугальная праслойка ад якога выразна прасочвалася ў перадмацерыковым пласце. З напольнага боку паўн. частка гарадзішча першапачаткова была ўмацавана 2 радамі драўляных гародняў. З Пд у гэты ж час быў насыпаны вал з чырвонай гліны; у 12 — пач. 13 ст. яго падсыпалі (выкарыстаны культ. слой гарадзішча). У сяр. 13 ст. ўмацаванні спалены. У зах. частцы помніка, у межах вала, зафіксаваны рэшткі драўлянай вежы, якая, верагодна, згарэла тады ж. Сярод каштоўных знаходкак — фр-ты металічнага бранзалета з кірылічным надпісам-кляймом майстра на ўнутраным баку, кручанага шклянога бранзалета чырвонага колеру візантыйскай вытворчасці і свінцовай «рыбкі»-амулета. Зафіксаваны вял. кавалак плінфы (10 × 10 см; таўшч. 3,2 см). Сабрана калекцыя керамікі 12—13 ст., больш за 200 фр-таў шкляных бранзалетаў гэтага часу (маюцца філігранныя экзэмпляры). У гасп. ямах к. 12—13 ст. знойдзены перапаленае зерне гароху, рэшткі стручкоў, каменны асялок, нож, ключ, зламанае цясла; тагачасны музычны інструмент — варган. Найб. раннія матэрыялы — кераміка к. 10—11 ст. з адагнутымі вонкі венцамі, некалькі ляпных керамічных сценак. Выяўлены посуд з клеймамі ў выглядзе княжацкага знака — трызубца (найб. раннія знакі суадносяцца з сімволікай Уладзіміра Святаслававіча).

Большая частка культ. пласта познасярэднявяковага М.з. знішчана буд. работамі 20 ст. Найб. добра ацалела стратыграфія замка ў зах. частцы раскопу, дзе выразна прасочваліся рэшткі замкавага вала 16 ст. з чырвонай гліны. Пры зачыстцы мацерыка былі зафіксаваны самыя раннія матэрыялы — ляпная гладкасценная з расчосамі і падштрыхоўкай кераміка кіеўскай культуры 3—5 ст.

*Літ.*: Ионе И.Г. К вопросу о первоначальной дате г. Могилева (по материалам археологических разведок) // Материалы пятой региональной археологической студенческой конференции вузов Северо-Запада и центральных областей СССР. Могилев, 1975; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987; Марзалюк І.А. Магілёў у XII—XVIII стагоддзях: людзі і рэчы. Мінск, 1998; Яго ж. Вынікі археалагічных даследаванняў у гістарычным цэнтры і ваколіцах Магілёва // ГАЗ. Мінск, 2007. №23. *І.А.Марзалюк.*

**МАГІЛЁЎСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Існаваў у 1897—1918 у г. Магілёў. Засн. Е.Р.Раманавым, пасля яго (з 1906) музей узначальваў П.Я.Строганаў, выкладчык царкоўнай гісторыі Магілёўскай духоўнай семінарыі. З 1904 музей размяшчаўся ў будынку б. бернардзінскага кляштара. Пл. экспазіцыі 140 м². Захоўвалася больш за 6 тыс. экспанатаў, атрыманых у асн. з

рызніц, царкоўных кладовак, з археал. раскопак, у т.л. праведзеных Е.Р.Раманавым (каменныя і жал. прылады працы, фр-ты ганчарнага посуду, упрыгажэнні, манеты і інш.). Сярод экспанатаў: абразы 16 —18 ст. маскоўскага, смаленскага, стараабрадніцкага, магілёўскага пісьма (на палатне, дошках, выразаныя з дрэва, медзі, свінцу), некаторыя з іх у абкладах работы магілёўскіх майстроў А.Воўчака і П.Сліжыка; калекцыя крыжоў (у асн. 18 ст.); шытая шоўкам і золатам плашчаніца (1566), сярэбраная мітра магілёўскага архіепіскапа Г.Каніскага (1758), часткі іканастасаў, царскія вароты, скульпт. выявы святых і інш. У бібліятэчным аддзеле захоўваліся мінея, выдадзеная ў Кракаве ў 1490-я г., шматлікія богаслужэбныя кнігі 16—18 ст. У архіве музея было больш за 4 тыс. дакументаў пераважна 17 ст., у т.л. грамата на магдэбургскае права Магілёву (1577), інвентары горада, замка, валасці (1604) і інш. Пры ўдзеле гал. захавальніка музея, сапраўднага чл. імператарскага археал. ін-та В.В.Дабраслаўскага ў музеі праходзілі чытанні па археалогіі. У 1918 М.ц.-а.м. аб'яднаны з Магілёўскім музеем, створаным у 1867 пры губернскім статыстычным к-це. З 1919 экспанаты захоўваліся ў Магілёўскім абл. краязнаўчым музеі, які быў разрабаваны ням.-фаш. захопнікамі ў гады Вял. Айч. вайны. *А.А.Седзін.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ГРАМАДЗЯ́НСКІЯ БУДЫ́НКІ.** У г. Магілёў на пл. Савецкая і ў Падміколлі (мясц. назва стараж. часткі горада, б. Пакроўскі пасад) захаваліся рэшткі помнікаў Магілёўскай архіт. школы 17 ст. У 1981 іх даследавала экспедыцыя Спец. навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Мін-ва культуры Беларусі (кіраўнік І.М.Чарняўскі). На пл. Савецкая (б. Гандлёвая) выяўлены цэйхгауз, важніца, купецкія камяніцы, пра якія згадваюць магілёўскія хронікі позняга сярэдневякоўя. Захаваліся ніжнія часткі сцен, падвал аднаго з будынкаў з фр-там брукаванай падлогі, а таксама ўчастак драўлянага машчэння б. вул. Шклоўская (цяпер Першамайская), пад якім знаходзіцца культ. пласт 15—16 ст. Пабудова, выяўленая ў Падміколлі, была, відавочна, домам гандляра. Захаваўся перакрыты паўцыліндрычнымі скляпеннямі 2-камерны падвал на ўзроўні 1-га паверха— рэшткі падлогі з прамавугольных непаліваных керамічных плітак, таксама зялёнапаліваная і паліхромная з белай і ультрамарынавай палівай, пячная кафля 17—18 ст., аздобленая раслінным арнаментам. Будынкі ўзведзены з цэглы пальчаткі (29—30 × 14—15 × 4—5 см), падмуркі цагляныя з рэдкімі дабаўкамі камянёў.

*Літ.*: Трусаў А.А., Чарняўскі І.М., Кукуня В.Р. Архітэктурна-археалагічныя даследаванні гістарычнага цэнтра Магілёва // ВАНБ. 1983. №5.

*І.М.Чарняўскі.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ПАСА́ДЫ**, археалагічныя помнікі ў гістарычных частках г. Магілёў.

Стары горад (Нагорскі пасад) размяшчаўся ў межах ад сучаснай Савецкай пл. да Тэатральнага сквера, дзе ў 17—18 ст. праходзіў Кругавы вал, які аддзяляў Стары горад ад Новага. У 15 ст. пачалася складвацца планіроўка пасада, была пабудавана драўляная Спаская царква (1478). Верагодна, яна размяшчалася на тэр. квартала, абмежаванага з Пн вул. Архірэйскі Вал, з Пд вул. Ветраная, з З Спаскім, з У — Фарным (да сяр. 17 ст. вул. Няхвёдаўская) завулкамі, дзе ў 16—18 ст. сфарміраваўся комплекс Спаскага манастыра. Ускосна гэта пацвярджаецца знойдзенымі ў 1994 рэшткамі могілак 15 ст. Найб. магутны культ. пласт 17 ст., добра насычаны знаходкамі (кафля, скураныя, металічныя і шкляныя вырабы), што сведчыць пра высокую шчыльнасць забудовы. Стары горад з'яўляўся найб. прэстыжнай часткай Магілёва. Тут размяшчаліся гал. культавыя збудаванні, ратуша, дом войта, сядзібы магілёўскага купецтва, магістрацкай і цэхавай вярхушкі. У 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. канчаткова сфарміраваліся вуліцы Вялікая Шклоўская (зараз Першамайская), Ветраная (Ленінская), Няхвёдаўская, Спаская, Мікольская (не захаваліся). За будынкам *Магілёўскай ратушы*, на месцы мураваных гандл. радоў 18 ст., побач з домам № 9 па вул. Ленінская І.А.Марзалюк у 2009 выявіў рэшткі багатага сядзібнага комплексу к. 16 — сяр. 17 ст. Зафіксаваны зялёнапаліваная і паліхромная кафля з геральдычнымі сюжэтамі, калекцыя скураных вырабаў (шырокі пояс з бронзавай спражкай, шматслойны гуж ад павозкі, плётка-карбач і інш.), фр-ты похваў шпагі з раслінна-геам. арнаментам і кінжала 2-й пал. 16 — 1-й пал. 17 ст. На тэр. квартала, абмежаванага з З вул. Няхвёдаўская, з Пн — Вялікая Шклоўская, з Пд — Ветраная, размяшчаліся майстэрні ювеліраў і гарбароў. У 1989—90 Дз.Л.Яцкевіч разам з рэшткамі пабудоў 17—18 ст. выявіў 214 тыгляў, сотні фр-таў скураных вырабаў, абрэзкаў, нарыхтовак, некалькі цэлых форм абутку, збаны і глякі з-пад дзёгця. На прылеглым з З квартале размяшчаўся комплекс будынкаў Богаяўленскага манастыра. Забудова па вул. Шклоўская бліжэй да гандл. плошчы была пераважна купецкай. На гэтай частцы пасада з 16 ст. існавала драўляная Мікольская царква. Дамы заможных гараджан знаходзіліся і побач са Спаскім манастырскім комплексам, у паўн.-ўсх. частцы вул. Ветраная. Пры ахоўных археал. раскопках 1989 у двары дома № 15 па вул. Ленінская Дз.Л.Яцкевічам знойдзены завал кафлі сяр. 17 ст. пл. каля 4 м², сабраны 2 тыс. фр-таў пераважна паліхромнай і зялёнапаліванай кафлі, каля 100 цэлых вырабаў. Сярод іх унікальныя медальёны з выявамі «Пагоні», двухгаловага арла на геральдычным шчыце. У 17 ст. на тэр. пасада пабудаваны мураваныя храмы: Фарны

касцёл (1624), Богаяўленская царква (1633—34). На працягу 1686—1725 склаўся архіт. ансамбль езуіцкага касцёла з калегіумам па вул. Ветраная, побач з Каралеўскай брамай. На месцы спаленай у пач. 18 ст. войскамі Пятра I драўлянай Спаскай царквы ў 1740—62 была ўзведзена мураваная (да 1802 кафедральны сабор Магілёва), побач з ёй у 1762—85 — архірэйскі палац. Фарны і езуіцкі касцёлы фланкіравалі гал. брамы Старога горада. У сяр. 17 ст. ва ўмацаваннях Старога горада меліся 4 брамы — Алейная (на спуску з гандл. плошчы да берага Дняпра), Ветраная і Каралеўская (у паўн. частцы ўмацаванняў), Дубравенская (Малая, у зах. лініі абароны горада, кантралявала спуск да Дубравенкі).

Шклоўскі пасад сфарміраваўся ў 2-й пал. 16—17 ст. ў паўн.-ўсх. накірунку ад Старога горада, з'яўляўся састаўной часткай Новага горада. Межы пасада даходзілі да Палявога вала (на левабярэжжы Дубравенкі, паміж сучаснымі вуліцамі Лазарэнкі і Яцыно), вуліц Вялікая і Малая Грамадзянская, Камсамольская, Лепяшынскага, яра р. Дзебра і Машакоўскай гары. На тэр. пасада знаходзіліся 2 прыходскія царквы: Васкрасенская дальняя (драўляная 1552, мураваная 1684) і Васкрасенская бліжняя (драўляная; пасля 1672). У 1738—52 пабудаваны мураваны кармеліцкі касцёл на месцы драўлянага (1636, згарэў у 1708). Культ. пласт 16—18 ст. каля 0,4 м, менш насычаны знаходкамі ў параўнанні са Старым горадам. У 2007 І.А.Марзалюк даследаваў тэр. б. юрыдыкі касцёла кармелітаў (побач з сучасным будынкам па вул. Ленінская). Былі знойдзены 2 унікальныя экзэмпляры паліхромнай каронкавай кафлі з вывамі фігурак ксяндзоў, якія трымаюць у руках келіх для сакраманта (прычасця), тэракотавы кубачак для грунтоўкі палатна і шкляніца 17 — пач. 18 ст. зялёнага колеру з рэшткамі зялёнай акварэльнай фарбы; фр-ты зялёнапаліванай і паліхромнай, аздобленай кобальтавай палівай, рэльефнай кафлі к. 17 — пач. 18 ст.

Пакроўскі пасад развіваўся ў 16—17 ст. У 17 ст. ён заняў тэр. паміж правабярэжжам Дняпра і Дзебрай у межах сучасных вуліц Вялікая і Малая Грамадзянская, 2-й Свабоды, Ламаносава, часткі Падгорнай, санітарнай і зялёнай зоны гарвадаканала. Культ. пласт 16 — 18 ст. ад 0,5 да 2 м, багаты знаходкамі. Сярод іх паліхромная і паліваная дахоўка, рэшткі мураваных камяніц. Частка плошчы пасада за Алейнай брамай (2 бліжэйшыя да Дняпра кварталы) была заселена яўрэямі, тут знаходзіліся сінагога і школа. Баркулабаўскі летапіс паведамляе аб засяленні Слабадской сотні гэтага пасада ў пач. 16 ст. смаленскімі гараджанамі. У пісьмовых крыніцах 2-й пал. 16 ст. на тэр. пасада згадваецца Курдзенеўскі канец, Курдзенеўская і Слабадская вуліцы. Вызначалі плапіроўку пасада яго гал. вуліцы: Падвальная, Вялікая Мяшчанская, Пакроўская, Мікольская. На іх знаходзілася шмат купецкіх дамоў. На тэр. пасада размяшчаліся Пакроўская прыходская царква, комплекс праваслаўнага жаночага Мікольскага манастыра з Мікольскай царквой (1669—72); пры Алейнай браме — бернардзінскі касцёл св. Антонія (драўляны 1687, мураваны 1720).

Віленскі пасад прымыкаў з паўн.-зах. боку да Шклоўскага пасада. Слаба вывучаны ў археал. плане. Культ. пласт ад 0,4—0,6 да 1,2 м. Найб. раннія знаходкі — кераміка 2-й пал. 16 ст., цэгла-пальчатка, фр-ты зялёнапаліванай каробчатай кафлі 17 ст. Назвы вуліц Віленскага пасада — 1-я і 2-я Кавальскія, Пушкарэвічаўскі завулак, якія захаваліся да к. 19 ст. нязменнымі, дазваляюць выказаць меркаванне, што яго паўн. частка была заселена кавалямі і гарматнікамі.

Задубравенскі пасад займаў тэр. правабярэжжа Дубравенкі ад яе вусця да Горнага завулка. Культ. пласт 16—18 ст. ад 0,4—0,6 да 1,2 м. Найб. раннія матэрыялы адносяцца да 2-й пал. 16 ст. (кераміка, абутковыя падкоўкі, кафля). У гэты час тут існавалі Баярская, Ільінская, Каскоўская, Прачысценская, Трыснінская і Камлёўская вуліцы, з 17 ст. — Быхаўская, Успенская і т.зв. «улица до рову Струшинского». Назва «Баярская», верагодна, сведчыць пра заселенасць вуліцы ваеннаслужылым людам — казакамі і баярамі, аб існаванні якіх у Магілёве згадваюць пісьмовыя крыніцы таго часу. На тэр. пасада таксама жылі бондары.

Размяшчаліся прыходскія цэрквы: Успенская (драўляная 1552, мураваная 1684), драўляныя Ільінская і Барысаглебская.

Заднепроўскі пасад быў адным з буйнейшых у горадзе, складаўся з Троіцкай і Лупалаўскай сотняў (асобныя даследчыкі лічаць іх самастойнымі пасадамі, аднак пісьмовымі крыніцамі 17 ст. гэта не пацверджана). Даследаваны слаба. Большая частка тэр. на сённяшні дзень знішчана буд. кар'ерамі 1970—80-х г. Культ. пласт 16—18 ст. ад 0,5да 1,2 м. На мацерыку зафіксавана кераміка 15 ст. Тут існавалі Ганчарныя, Алейніцкая і Рэзніцкая вуліцы, што дазваляе меркаваць пра размяшчэнне карпарацый майстроў вышэйзгаданых спецыяльнасцей у гэтай частцы горада. Прыходскія цэрквы: драўляная Троіцкая (засн. ў 16 ст.) і Петрапаўлаўская (драўляная 1663, мураваная каля 1769).

*Літ.:* Чарняўская Т.І. Архітэктура Магілёва. Мінск, 1973; Чернявский И.М. Архитектурно-археологические исследования в Гродно и Могилеве // АО 1980. М., 1981; Трусаў А.А., Чарняўскі І.М., Кукуня В.Р. Архітэктурна-археалагічныя даследаванні гістарычнага цэнтра Магілёва // Весці АН БССР. Сер. гуманіт. навук. 1983. №5; Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т.1. Минск, 1985; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987; Мелешко

В.И. Могилев в XVI — середине XVII в. Минск, 1988; Марзалюк І.А. Магілёў у XII—XVIII стагоддзях: людзі і рэчы. Мінск, 1998. *І.А.Марзалюк.*

**МАГІЛЁЎЦЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік 11 ст. каля в. Магілёўцы Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. Размешчаны за 1,5 км на З ад вёскі, на зах. ускраіне в. Асошнікі. 7 курганоў выш. 0,3 — 0,85 м, дыям. 7,2 — 9,2 м. Частка насыпаў у аснове абкладзена камянямі. Выявіў ў 1968 В.Р.Супрун. У 1983 Т.М.Каробушкіна даследавала адзін курган. Пахаванне па абраду трупапалажэння на гарызонце, галавой на З. Пахавальны інвентар — фр-ты глінянай пасуды. У паўн.-ўсх. сектары насыпу расчышчана выбрукоўка з 7 камянёў. На адным з курганоў пастаўлены помнік, прысвечаны паўстанню 1863—64.

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Курганы Белорусского Побужья X—XIII вв. Минск, 1993.

*Т.М.Каробушкіна, А.В.Іоў.*

**«МАГІЛЁЎШЧЫНА»**, гісторыка-краязнаўчы зборнік. У 1927 выйшла першае выданне зборніка — неперыядычнага друкаванага органа Акруговага т-ва краязнаўства. Змяшчаў матэрыялы па гісторыі, эканоміцы, этнаграфіі, асвеце, краязнаўстве і інш. У 1990-я г. выданне адноўлена Магілёўскім абл. краязнаўчым музеем. Выдадзена 9 зборнікаў, у т.л. частка з іх сумесна з абл. дзярж. ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі (бібліятэкай, краязнаўчым т-вам, аддз. фонду культуры, т-вам аховы помнікаў гісторыі і культуры). Друкуе матэрыялы па археалогіі, гісторыі, этнаграфіі і краязнаўстве Магілёўшчыны, музейнай справе. У 2-м выпуску (1991) змешчаны матэрыялы, прысвечаныя археал. помнікам Магілёўшчыны ад мезалітычнай эпохі да сярэдневякоўя (А.Амбражэйчык, У.У.Багамольнікаў, Н.М.Дубіцкая, В.Я.Зайцава, А.У.Ільюцік, В.Ф.Капыцін, У.П.Ксяндзоў, В.Я.Кудрашоў, М.І.Лашанкоў, В.Л.Ліпніцкая, А.А.Мяцельскі, Л.Д.Побаль, Я.Р.Рыер, А.А.Седзін, І.М.Язэпенка). Артыкулы 3-га выпуску (1992) прысвечаны помніку грэнскай культуры — стаянцы Чыгірынка (В.Ф.Капыцін), стараж. гісторыі Клічаўскага р-на (В.Я.Кудрашоў), вынікам даследавання гарадзішча Пятровічы (М.І.Лашанкоў), курганам каля г. Чавусы (Я.Р.Рыер), раней невядомым гарадзішчам усх. Беларусі (А.А.Седзін). У 4-м выпуску (1993) матэрыялы пра помнікі в. Дудаковічы Круглянскага р-на (А.І.Дзярновіч, Ю.Бабіцкі), фінальны палеаліт Верхняга Падняпроўя (В.Ф.Капыцін), магілёўскую металапластыку 16 ст. (І.А.Марзалюк), гарадзішчы ў наваколлі г. Горкі (А.А.Седзін), археал. даследаванні дома ў б. Макавецкім завулку ў г. Магілёў (У.Ратомскі, З.Л.Яцкевіч). У 5-м выпуску (1994) матэрыялы аб засяленні Верхняга Падняпроўя ў позналедавіковы час (В.Ф.Капыцін), умацаваннях Магілёўскага замка (І.А.Марзалюк), скарбе з гарадзішча Нікадзімава 3-й чв. 1-га тыс. н.э. (А.А.Седзін), кручаных ручках збаноў (І.І.Сінчук). Артыкулы 6-га выпуску (1995) прысвечаны гісторыі археал. вывучэння Магілёўшчыны ў дарэвалюцыйны час (В.Ф.Капыцін), даследаванню гарадзішчаў рэгіёна з пач. 19 ст. да 1937 (П.М.Падгурскі), знаходкам з курганоў каля пас. Усход пад Магілёвам (Я.Р.Рыер), помнікам сяр. — 3-й чв. 1-га тыс. н.э. ў басейне р. Арціслаўка (А.А.Седзін). У 7-м выпуску (1997) змешчаны новыя звесткі аб Крывельскім гарадзішчы (П.М.Падгурскі) і параўнальны аналіз умоў сялянскага жыцця сярэдневяковай вёскі Усх. і Цэнтр. Еўропы (Я.Р.Рыер); у 8-м (1998) — артыкулы пра помнікі археалогіі Магілёўшчыны на старонках кнігі М.В.Без-Карніловіча «Гістарычныя звесткі аб вартых увагі мясцінах Беларусі» (В.Ф.Капыцін). У 9-м выпуску (2007) пададзены матэрыялы па музейнай справе ў наступных аспектах: выкарыстанне прадметаў археал. калекцый у навук.-асветнай дзейнасці (І.В.Аўсейчык); ахова гісторыка-культ. спадчыны Шклоўшчыны (І.У.Гапеева); фарміраванне археал. калекцыі Касцюковіцкага краязнаўчага музея (В.М.Канапелька), мсціслаўская кераміка 15—19 ст. (А.М.Калмыкова, В.Г.Цімашкова); навук. канцэпцыя экспазіцыі «Археалогія і старажытная гісторыя Магілёўшчыны» Магілёўскага абл. краязнаўчага музея (А.А.Седзін); новыя матэрыялы з раскопак гарадзішча Нікадзімава (А.А.Седзін). У 10-м выпуску (2009) артыкулы па стараж. гісторыі, адлюстраванай у археал. экспазіцыі Магілёўскага абл. краязнаўчага музея (А.А.Седзін). Зборнікі ілюстраваны малюнкамі, планамі, табліцамі і фотаздымкамі. *А.А.Седзін.*

**МАГІЛЬНЯ́НСКІ ЗА́МАК** — археалагічны помнік. На правым беразе р. Нёман, насупраць в. Магільна Уздзенскага р-на Мінскай вобл. У 1951 абследаваў А.Р.Мітрафанаў. З штучных умацаванняў замка захаваліся 2 дугападобныя валы выш. 1—1,5 і роў глыб. 1,5 м. На пляцоўцы замчышча (60 × 110 м), у яе паўд. частцы быў чатырохвугольны выступ, магчыма, рэшткі вежы. Уваход у замак быў, верагодна, з усх. боку: сюды вяла грэбля (захавалася да нашага часу). У 1975 замчышча амаль цалкам знішчана дарожнабуд. работамі. У час гэтых работ Г.В.Штыхаў сабраў на замчышчы кафлю. У 1977—79 помнік абследаваў Л.У.Калядзінскі. Месцамі захаваўся культ. пласт таўшч. 0,15—0,2 м. Знойдзены рэшткі посуду, гаршковая і каробчатая кафля, цэгла, жал. вырабы. На адным экзэмпляры кафлі — выява анёла, ёсць фр-ты з раслінным і геам. арнаментам. Знаходкі датуюцца 16—17 ст. На Пн ад замчышча размяшчаўся могільнік, які ў 1979 даследаваў М.М.Чарняўскі. У пахаваннях знойдзены жал. нажы з меднымі накладкамі і штыфтамі для ма-

цавання драўляных ручак. У пісьмовых крыніцах М.з. згадваецца ў інвентары замка 1536, які дае пералік замкавай зброі і даспехаў (шлемы, зярцалы, панцыры, плашчы чырвонага колеру, шчыты, гакаўніцы, рукавіцы і інш.), змяшчаюцца звесткі пра ваенна-служылае насельніцтва. У інвентары замка 1592 гаворыцца пра двор і мяст. Магільнае, што знаходзілася непадалёку ад замка. На гэтым месцы ў 1986—87 В.У.Шаблюк правёў абследаванне. Зафіксаваны культ. пласт 16—17 ст.

*Л.У.Калядзінскі.*

**МАДО́РА**, археалагічны помнік — курганны могільнік 11—12 ст. за 0,5 км на ПнУ ад в. Мадора Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. Размешчаны ва ўр. Шылаў, каля дарогі на в. Кісцяні. Захавалася 25 насыпаў выш. 0,5 — 2 м, дыям. 10 — 16 м (5 знаходзяцца наводдаль ад асн. групы). Вядомы з 1873. Абследавалі Л.Д.Побаль у 1962 і А.Р.Мітрафанаў у 1976. Даследавалі ў 1967 Г.Ф.Салаўёва (6 насыпаў), у 1977—79 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч (7 насыпаў). Пахавальны абрад — інгумацыя на мацерыку (у 8 курганах), на пясчанай падсыпцы (у 2 курганах), у падкурганнай яме (1 курган). Жаночыя пахаванні арыентаваны галовамі на З, мужчынскія — на У. Мужчынскія пахаванні без інвентару. У жаночых знойдзены ў асн. упрыгажэнні: пацеркі (жоўты бісер, срэбра- і золаташкляныя, сердалікавыя прызматычныя), сярэбраны бранзалет з S-падобнымі канцамі, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, лунніцы, паясныя кольцы, ліраподобная спражка, аздобленая па краі рэльефнай лініяй з востраканечным выпуклым выступам у сярэдняй частцы, упрыгожаным разеткападобным 4-пялёсткавым арнаментам; таксама выяўлены рэшткі кругавога посуду. Матэрыялы раскопак Г.Ф.Салаўёвай захоўваюцца ў Ін-це археалогіі РАН, А.М.Плавінскага і В.Н.Рабцэвіча — у вучэбнай лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та БДУ.

*Літ.*: Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия Императорской археологической комиссии. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1903; Соловьева Г.Ф. Славянские курганы близ п. Рогачева Гомельской обл. // КСИА. 1972. Вып. 129; Плавінскі А.М. Курганная група // ПГКБ. 1983. №4; Яго ж. Раскопки курганов в Рогачевском районе археологической экспедицией Белгосуниверситета // Старажытнасці Рагачоўшчыны. Мінск; Рагачоў, 2000. *А.М.Плавінскі.*

**МАЁЛІКА**, від ганчарнай керамікі з паверхняй, пакрытай свінцова-алавянай палівай (эмаллю). Паліва з павышаным утрыманнем волава, у адрозненне ад чыста свінцовай, утварае непразрыстае пакрыццё, якое з'яўляецца выдатным грунтам для роспісу; таксама алавяныя палівы менш схільныя да расцякання і змешвання адна з адной. Гэта спрыяла шырокаму выкарыстанню тэхналогіі М. ў вытворчасці маст. керамікі. Упершыню свінцова-алавяныя палівы як пакрыццё для керамічных вырабаў 3000 гадоў назад прымянілі асірыйцы. У 8—12 ст. эмалі выкарыстоўвалі персідскія і егіпецкія керамісты, майстры Візантыі, суседніх з ёй Балканскіх краін (Балгарыі і інш.) і ўсх.-слав. зямель (у т.л. стараж. гарадоў на тэр. Беларусі — Полацка, Віцебска, Гродна, Пінска, Мінска, Друцка, Лагойска і інш.). З паўн. Афрыкі тэхналогія была перанесена ў Іспанію (іспана-маўрытанская кераміка), адкуль праз в-аў Мальёрка трапіла ў Італію, дзе і атрымала назву— «маёліка» (паводле вострава). Дасягнула свайго росквіту ў перыяд Адраджэння. У ВКЛ вытворчасць М. звязана з уплывам італьянскай рэнесанснай культуры і, у прыватнасці, з асобай каралевы Боны Сфорца. У пач. 16 ст. для рэканструкцыі Вавельскага замка ў Кракаве з Італіі былі запрошаны майстры, у т.л. керамісты, якія павінны былі вырабіць паліхромную кафлю для печаў каралеўскага палаца. Тады ж адбылася рэканструкцыя велікакняжацкага палаца ў Вільні: пач. 16 ст. датуюцца знаходкі маёлікавай паліхромнай кафлі палацавага комплексу Ніжняга замка. Ідэнтычны па асартыменце, тэхналогіі і арнаментыцы матэрыял выяўлены пры археал. даследаванні замка ў в. Гарадок Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.

Археал. знаходкі замкаў у Лідзе, Іказні, Міры, Віцебску сведчаць аб тым, што ва ўжытку арыстакратыі ВКЛ у 16—17 ст. былі маёлікавыя рэчы як з вядомых італьянскіх цэнтраў, у т.л. майстроў Фаэнцы, Дэрута, Н.Пеліпарыо, так і распаўсюджаныя ў Еўропе вырабы турэцкіх керамічных цэнтраў (Ізнік).

Аснову асартыменту маёлікавай прадукцыі ў 16 — сяр. 17 ст. складала пячная кафля. Яна характарызуецца выразным пластычным арнаментам, размешчаным па ўсёй паверхні вонкавай пласціны. Тэматыка кампазіцый адрозніваецца разнастайнасцю сюжэтаў, прасочваецца значны ўплыў зах.-еўрап. мастацтва. У пач. 17 ст. з'яўляюцца прыкметы барочнага стылю, які да сяр. стагоддзя становіцца пануючым. З 2-й пал. 16 ст. паступова шырокі размах набывае вытворчасць маёлікавага посуду, які ў 17 ст. стаў надзвычай папулярным элементам у аздабленні жылых інтэр'ераў. У дэкоры талерак, куфляў, збаноў, як і ў тэхналогіі нанясення эмаляў, заўважаецца моцны ўплыў турэцкай М. Паступова запазычаныя арнаментальныя матывы адаптуюцца ў адпаведнасці з традыцыямі мясц. эстэтыкі. Палітра жывапісных кампазіцый М. ВКЛ 16 — сяр. 17 ст. вызначаецца кантраснымі спалучэннямі інтэнсіўных сіняга, жоўтага, фіялетавага, белага і бірузовага колераў, прычым у размалёўцы аднаго вырабу прысутнічаюць не менш 3, а часцей 4 колеры.

Перыяд 2-й пал. 17—18 ст. адзначаны ўсталяваннем новай эстэтыкі і новай тэхналогіі ў вытворчасці М.з мэтай імітацыі фаянсу. Актыўная паліхромія саступае месца рэдкаму арнаменту,

спакойнаму па каларыце. Фарбы набываюць светлыя адценні, з'яўляецца шмат белай прасторы. Тыповымі былі кампазіцыі, выпісаныя кобальтам па белай эмалі. Тэматыка арнаментацыі посуду і кафлі прыкметна звужаецца і абмяжоўваецца ў асн. раслліннымі і геральдычнымі кампазіцыямі, шырока выкарыстоўваюцца тыповыя для эстэтыкі барока картушы, стылізаваныя гірлянды і завіткі.

У сяр. 18 ст. ў сувязі з распаўсюджаннем моды на фаянс і арганізацыяй у ВКЛ уласнай фаянсавай вытворчасці попыт на М. ў асяроддзі арыстакратыі змяншаецца, яна становіцца значна больш дэмакратычным таварам. Асабліва гэта адбілася на вытворчасці дэкаратыўнага посуду: у 2-й пал. 18 ст. маст. ўзровень і якасць яго відавочна зніжаюцца, вытворчасць паступова дэградуе.

*Літ.*: Ганецкая І.У. Маёліка на Беларусі XI—XVIII стст. Мінск, 1995. *І.У.Ганецкая.*

**МАЗА́ІКА** (франц. mosaïque, італьян. mossaico ад лац. musivum, літар. прысвечанае музам), выява, арнамент, складзены з асобных каменных, керамічных, шкляных элементаў розных колераў, замацаваных у слоі вапны, воску і інш. Найчасцей выкарыстоўвалася ў аздабленні інтэр'ераў і размяшчалася на скляпеннях, сценах, падлозе. Найб. ранінімі лічацца каменныя арнаментальныя М. падлог у Малой Азіі (8 ст. да н.э.).

На тэр. Беларусі тэхніка М. не атрымала шырокага распаўсюджання. Вядома з сяр. 11 ст. (керамічная падлога Сафійскага сабора ў Полацку). Мазаічныя пліткі падлогі разнастайных форм знойдзены пры даследаванні помнікаў стараж. дойлідства і гар. культ. адкладаў 12 ст. ў Полацку, Віцебску, Гродне, Друцку, Лагойску, Мінску, Навагрудку, Пінску, Тураве. Набор плітак з раскопак Пінска адрозніваецца асаблівым багаццем форм (34 фасоны). Фр-ты арнаментальных мазаічных падлог выяўлены ў Гродне ў Ніжняй, Барысаглебскай і Прачысценскай цэрквах, сярод якіх асаблівай прыгажосцю вызначаецца падлога ў падкупальнай прасторы Ніжняй царквы. Элементы М.12 ст. з глушанага шкла вядомы ў Полацку: смальтавымі М. былі ўпрыгожаны сцены над саркафагам у храме-пахавальні Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.

У 12 ст. для падлог у храмах на тэр. Беларусі характэрны М. з манахромных керамічных плітак 3 асн. колераў: жоўтага, зялёнага, карычневага. Разнастайнасць форм і памераў плітак (квадратныя, круглыя, трох- і шматвугольныя, кропле-, дуга-, сэрцападобныя, у форме трапецыі, паралелаграма і інш.) дазваляла пазбягаць манатоннасці малюнка і ствараць багатыя арнаментальныя кампазіцыі. *І.У.Ганецкая.*

**МАЗУ́РЫНА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і стаянка каля в. Мазурына Міёрскага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 1,5 км на У ад вёскі, на мысе стромкага берага Зах. Дзвіны. Мясц. назва Белая Горка. Пляцоўка памерамі 26 × 5 м, захаваўся вал даўж. 50 м, шыр. 20 м. Згадваецца Ф.В.Пакроўскім у 1893. Абследавалі ў 1956 Я.Г.Краскоўская, Э.М.Загарульскі, Л.Д.Побаль, у 1969 — К.П.Шут. У 1974 А.Р.Мітрафанаў і В.І.Шадыра даследавалі 80 м², у 1984 Э.М.Зайкоўскі — 24 м². Культ. пласт да 1 м. Выяўлены рэшткі абгарэлых плах ад абарончай сцяны па вяршыні вала. Знойдзены жал. серп, рыбалоўны кручок, бронзавы пласціністы пярсцёнак, арнаментаваны насечкамі «ў елачку», рэшткі ляпнога посуду днепра-дзвінскай культуры.

С т а я н к а эпохі мезаліту за 50—70 м на ПдУ ад гарадзішча, на спадзістым узвышшы карэннага берага р. Зах. Дзвіна. Мясц. назва Гарадзішча. Памеры 140 × 50 м. Даследавалі ў 1974 А.Р.Мітрафанаў і В.І.Шадыра, у 1984 — Э.М.Зайкоўскі. Выяўлены ямы з чорным гумусам, вуголлем, крамянёвымі вырабамі эпохі мезаліту (адшчэпы і скрабкі), кругавая кераміка 15—17 ст., солід Жыгімонта III Вазы (1587—1632).

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985. *В.І.Шадыра.*

**МАЗЫ́Р**, горад, цэнтр Мазырскага р-на. За 133 км на ПдЗ ад Гомеля, 7 км ад чыг. ст. Мазыр на лініі Калінкавічы—Оўруч, на аўтадарозе Бабруйск—Оўруч. Порт на р. Прыпяць.

Упершыню згадваецца ў летапісе ў 1155, калі вял. кн. кіеўскі Юрый Далгарукі перадаў горад чарнігаўскаму кн. Святаславу Ольгавічу. У 12—13 ст. адзін з самых паўд. гарадоў Кіеўскага княства, буйны пункт транзітнага гандлю. З 14 ст. ўвайшоў у склад ВКЛ, захаваў ранейшую адм.-тэр. прыналежнасць да Кіеўскага княства. У ВКЛ меў статус «гаспадарскага горада», г.зн. з'яўляўся ўласнасцю дзяржавы. У 1577 атрымаў магдэбургскае права. Да сяр. 18 ст. канчаткова сфарміравалася планіровачная структура гіст. цэнтра горада, якая ў асн.



*Да арт. **Мазыр**. Знаходкі з гарадзішча на Гары Камунараў. Амфара (1), шкляныя бранзалеты (2–12) 12–13 ст., гліняная люлька (13) 17 ст., жалезная спражка (14) і наканечнік стралы (15).*

захавалася да цяперашняга часу. Ядро горада — Замкавая гара (цяпер Гара Камунараў) — знаходзілася каля скрыжавання Кіеўскай і Свідаўскай вуліц, побач размяшчалася гандл. плошча, прычалы якой былі прычалы на беразе Прыпяці. З ПдУ Замкавую гару абкружала вул. Замкавая. Гэтыя вуліцы і каля дзесятка завулкаў складалі аснову М. ў 2-й пал. 18 — пач. 19 ст., як гэта зафіксавана на планах горада. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі.

Дзяцінец М. 12—13 ст. знаходзіўся на Гары Камунараў (б. Замкавая, або Спасаўская), на мысе карэннага берага р. Прыпяць, паміж 2 ярамі. Пляцоўка ромбападобнай формы памерамі 12—140 × 100 м, выш. 15—20 м. Абследавалі у 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1978 — П.Ф.Лысенка і Т.М.Каробушкіна. Даследавалі ў 1981—84 А.А.Трусаў (у 1982—84 сумесна з экспедыцыяй Ленінградскага ун-та пад кіраўніцтвам Вас.А.Булкіна; 770 м²), у 1985 А.М.Кушнярэвіч (56 м²), у 1988 І.І.Сінчук (42 м²), у 1989 Т.С.Бубенька, у 2003—04 Ю.У.Каласоўскі (216 м²).

Культ. пласт ад 0,6—0,8 м у цэнтры да 2—2,2 м уздоўж зах. краю пляцоўкі. Да стараж.-рус. часу 12—13 ст. адносяцца рэшткі *Мазырскай каменярэзнай майстэрні.* Побач з пабудовай знойдзена вял. карчага, укапаная ў мацярык па самае вусце. Яе выш. і найб. дыям. тулава роўныя 50 см. На баках карчагі захаваліся кропкі зялёнай палівы. У культ. пласце выяўлена каля 900 шкляных бранзалетаў зялёнага, блакітнага, карычневага і салатавага колеру 12 — 1-й пал. 13 ст. Значная іх частка — кручаныя з шаблонным рыфленнем (ад 4 да 12 зубцоў, з шагам 14—23 мм), трапляюцца інкруставаныя кантрастным (звычайна жоўтым) шкляным жгутом кручаныя, гладкія і рыфлёныя. Пераважная большасць керамічнага посуду прадстаўлена гаршкамі 12—15 ст. з дыям. вусця 11—29 см. Амаль усе яны арнаментаваны, частка посуду мае свідраваныя шыйкі. Металічныя вырабы 12—15 ст. прадстаўлены шырокалязовымі сякерамі (дзве 12—13 ст., адна 15—16 ст.), наканечнікамі стрэл, кордам (к. 15 — 16 ст.), рыбалоўнымі кручкамі, ключамі цыліндрычных замкоў (12—15 ст.), нажамі. Знойдзена каля 100 прасліц з прафілітавага сланцу і вапняку, бардовы сланцавы крыжык, больш за 100 кавалкаў і нарыхтовак сланцу.

У 17 ст. на Гары Камунараў была ўзведзена драўляная Спасаўская царква (дзейнічала да сяр. 19 ст.). Побач з ёю знаходзіўся прыходскі могільнік. Рэшткі храма ў выглядзе паўкруглай каменнай выбрукоўкі шыр. 1 м выяўлены ў паўн.-зах. частцы пляцоўкі ў 2004. Са знешняга боку падмуркаў знойдзены 3 пахаванні. У 2003—04 на могільніку выяўлены 17 пахаванняў па абраду трупапалажэння ў труне ў ямах, галавой на З. Адно з іх дзіцячае, у ім знойдзена бронзавае кольца, астатнія — безынвентарныя. У сяр. 19 ст. Гара Камунараў шчыльна забудоўваецца драўлянымі і каменнымі жылымі і гасп. будынкамі. У 2004 была ўскрыта частка пабудовы 2-й пал. 19 ст. са склепам, памерамі 3,6 — 4,2 × 2,8 м. У яе запаўненні знойдзены ганчарны і шкляны посуд, касцяныя гузікі.

Рэчавы комплекс 17—19 ст. прадстаўлены гаршковай і каробчатай кафляй, у т.л. з зялёнай палівай, белагліянымі і дымленымі пасудзінамі, паліванай кухоннай і сталовай керамікай з геам. і раслінным арнаментам, шклянымі пасудзінамі, жал. навяснымі замкамі і ключамі, нажамі, цвікамі, дробнымі манетамі ВКЛ і Расійскай імперыі і інш.

Па-за межамі дзяцінца праводзіліся назіранні за землянымі работамі, абследаванні тэр. ў рэчышчы Прыпяці, вывучаны культ. пласт на зах. і паўд. схілах Гары Камунараў (І.І.Сінчук 1988; 66 м²). Культ. пласт 18 — 1-й пал. 19 ст. ўздоўж зах. схілу дасягае 2 м. Каля падножжа гары на ПдЗ ад яе выяўлены рэшткі пабудовы 16—17 ст. з цэглы-пальчаткі, знойдзена гаршковая і каробчатая кафля. На тэр. цыстэрцыянскага кляштара ў 1983 І.М.Чарняўскі (16 м²) знайшоў фр-ты керамікі ранняга жал. веку і кругавога посуду 18—19 ст. За 1,5 км уверх па цячэнні Прыпяці, на левым беразе выяўлена лакальная канцэнтрацыя матэрыялаў сяр. — 2-й пал. 17 ст. (магчыма, рэшткі сядзібы).

*Літ.:* Крукоўскі А. Горад Мазыр і яго ваколіцы // Наш край. 1927. №3; Трусаў А.А., Здановіч Н.І. Новае пра старажытны Мазыр // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мінск, 1993; Синчук И. Стеклянные браслеты из Мозырской коллекции 1988 г. // ГАЗ. Мінск, 2003. №18; Колосовский Ю.В. Средневековый город // Мазыр: гісторыя і сучаснасць. Гомель, 2005. Т.1.

*А.А.Трусаў, Ю.У.Каласоўскі.*

**МАЗЫ́РСКАЯ КАМЕНЯРЭ́ЗНАЯ МАЙСТЭ́РНЯ**, археалагічны помнік у г. Мазыр Гомельскай вобл. Выяўлена ў 1981—82 экспедыцыяй спец. навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Мін-ва культуры Беларусі ў час раскопак замчышча. Знойдзена паўзямлянка 2-й пал. 12 — пач. 13 ст., непадалёку ад якой выбрукоўка з камянёў і дробных кавалкаў шыферу. Тут сабрана больш за 100 малых і сярэдніх па памерах кавалкаў бардовага шыферу (пірафілітавага сланцу), 15 фр-таў вял. шыферных дыскаў, падобных да жорнаў. Добра захаваліся 2 нарыхтоўкі дыскаў дыям. 48,5 і 14,5 см, таўшч. 8,5 і 7,3—9 см з адтулінамі дыям. 3 і 5 см, вял. колькасць шыферных прасліц і дробных кавалкаў шыферу, якія ішлі на выбрукоўку. Відавочна, Мазыр быў прамежкавым пунктам перавозкі шыферных нарыхтовак з Оўруча ў інш. цэнтры апрацоўкі шыферу (вядомы па раскопках у Кіеве, Суздалі, гарадзішча на р. Менка). Структурная адпаведнасць шыферных вырабаў і адходаў пацвярджаюць, што прасліцы выраблялiся мазырскімі майстрамі.

*А.А.Трусаў.*

*Да арт.* ***Мазырскія гарадзішча і селішча****. Рэшткі пабудовы і знаходкі з культурнага пласта гарадзішча.*



**МАЗЫ́РСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧА І СЕ́ЛІШЧА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча ў г. Мазыр Гомельскай вобл.

Гарадзішча на ўскраіне горада, каля мэблевай фабрыкі, ва ўр. Кімбараўка, на мысе паміж двума ярамі правага берага р. Прыпяць. Пляцоўка няправільнай трохвугольнай формы, памерамі 130 × 80 м, выш. 10—15 м. З напольнага зах. боку ўмацавана валам падкowападобнай формы выш. 4—4,5 м, шыр. да 20 м каля падножжа і ровам глыб. 2,5—3 м, шыр. 3,5—5 м. Выявіў у 1926 Б.І.Федарака, абследавалі ў 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1976 У.Ф.Ісаенка. Даследавалі 470 м$^2$ у 1982—83 Г.М.Залашка і Вас.А.Булкін (сумесная экспедыцыя ІГ АН Беларусі і Ленінградскага ун-та), у 2000—02 Ю.У.Каласоўскі. Культ. пласт 0,2—0,8 м. Найб. раннія матэрыялы (ляпная кераміка, арнаментаваная грабеньчатым штампам, з раслліннымі дамешкамі ў цесце) адносяцца да культуры шматвалікавай керамікі бронзавага веку. Таксама знойдзены адзінкавыя фр-ты ляпнога посуду *зарубінецкай культуры* жал. веку. У стараж.-рус. час гарадзішча было ўмацавана ровам і валам, які складаўся з чырвонай гліны і пяску. З унутранага боку выяўлены рэшткі драўлянага памоста абарончай сцяны. Побач з ім знойдзены 3 пабудовы прамавугольнай формы памерамі 3 × 1,7; 2 × 2,8; 6,4 × 3,2—3,5 м, глыб. 0,35—0,6; 0,2—0,26; 0,12—0,25 м, рэшткі каменных агнішчаў. Ва ўсх. частцы гарадзішча, на краі пляцоўкі выяўлены слупавыя ямы ад частакола, які кальцом агароджваў пляцоўку і 2 паўзямлянкі памерамі 5,2—5,4 × 2,1—2,4 м, глыб. 0,6 м. Побач з жытламі знаходзіліся гасп. ямы. У запаўненні пабудоў і ям знойдзены фр-ты ляпной і раннекругавой керамікі *роменска-боршаўскай культуры*, гліняныя і шыферныя праслíцы, бронзавыя накладкі, падкowападобная фібула, кольцы, бразготка, сердалікавая пацерка, палова сярэбранага дырхема (Аль-Мухамедзі, 798—799), жал. наканечнікі стрэл, нажніцы, сярпы, наральнік, гліняны тыгель і інш. Датуецца 10 ст.

Селішча прылягае да гарадзішча з зах. боку. Культ. пласт 0,4—0,8 м прасочваецца ўздоўж правага карэннага берага Прыпяці на 300 м. Абследавалі ў 1982—83 Г.М.Залашка і Вас.А.Булкін. Знойдзены фр-ты ляпной і раннекрутавой керамікі роменска-боршаўскай культуры.

*Літ.*: Залашка Г.М. Кімбараўскае гарадзішча // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 4; Колосовский Ю.В. Средневековый город // Мазыр: гісторыя і сучаснасць. Гомель, 2005. Т. 1.

*Ю.У.Каласоўскі, Г.М.Залашка.*

**МАЙШУ́ЛІ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча-сховішча і курганны могільнік каля в. Майшулі Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча-сховішча «Салдатава гара» позняй штрыхаванай керамікі культуры за 0,3 км на У ад вёскі. Пляцоўка авальнай формы памерамі 52 × 40 м, умацавана 3 радамі валоў і раўоў. З Пн і У схілы гарадзішча стромкія, з З і Пд маюць плаўны ўхіл. Шыр. вала каля падэшвы 4 м, па грэбені 2 м, шыр. рова 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1892 Ф.В.Пакроўскі, абследавалі ў 1977 Л.У.Дучыц і В.І.Шадыра. У 2003 С.Дз.Дзярновіч і М.А.Плавінскі даследавалі 12 м$^2$. Культ. пласт 0,24—0,63 м. Выяўлены фр-ты жал. сярпа і ляпная штрыхаваная кераміка.




*Пахавальны інвентар курганнага могільніка **Майшулі** («Рацкі Бор»): А – пахаванні па абраду крэмацыі (курган № 7, раскопкі 1983), Б – пахаванне па абраду інгумацыі (курган № 1, раскопкі 1990).*



*Матэрыялы раскопак гарадзішча **Майшулі**.*

Курганны могільнік за 0,5 км на Пд ад гарадзішча, у лесе Рацкі Бор. У к. 19 ст. складаўся з 3 курганных груп, 113 круглых і авальных насыпаў дыям. да 11,4 м і выш. да 1,5 м. Вакол некаторых курганоў прасочваліся раўкі. Адкрыў і даследаваў 20 курганоў у 1892 Ф.В.Пакроўскі. У 1983 Л.У.Дучыц і В.І.Шадыра даследавалі 3 курганы, у 1990 Л.У.Дучыц — 3 курганы. У аснаванні курганоў попельныя праслойкі. Пахавальны абрад — крэмацыя па-за межамі курганоў (16 насыпаў), інгумацыя (2). Рэшткі крэмацый змешчаны ў мацерыковых ямках (2), на гарызонце (10), у насыпе (2), на вяршыні (2). Адзін з курганоў (раскопкі Ф.В.Пакроўскага) належаў да культуры пскоўскіх (ранніх) доўгіх курганоў, датуецца па знойдзенай В-падобнай спражцы 5—6 ст. Астатнія пахаванні па абраду крэмацыі належаць да культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў 9 — пач. 11 ст. Пры пахаваннях знойдзены: бронзавыя бранзалет, падкованадобная фібула, спіральныя пранізкі, трапецападобныя падвескі, абойміца, бі-S-падобны ланцугатрымальнік, ланцужкі; сярэбраныя пярсцёнак і крыжападобныя бразготкі; жал. спражкі, фібула, нож, гліняныя праслiцы, ляпныя гаршкі. Пры пахаваннях па абраду інгумацыі (арыентаваны галовамі на З і У) к. 10 — пач. 11 ст. знойдзены сякера, коп'і, нож, фр-т крэсіва, бронзавыя падкowападобныя фібулы, ляпны гаршчок. Матэрыялы раскопак гарадзішча захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі, курганнага могільніка — у Нац. музеі Літвы (раскопкі Ф.В.Пакроўскага), ІГ НАН Беларусі і Браслаўскім раённым аб'яднанні музеяў (раскопкі Л.У.Дучыц і В.І.Шадыры).

*Літ.*: Покровский Ф.В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1; Дучыц Л.У. Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIII стст. Мінск, 1991; Дучыц Л., Шадыра В. Раскопкі курганоў ва урочышчы «Рацкі Бор» каля г. Браслава Віцебскай вобласці // ГАЗ. Мінск, 2004. №19; Плавінскі М.А. Ланцэтападобныя наканечнікі коп'яў на тэрыторыі Беларусі: храналогія і тапаграфія знаходак // МАБ. 2007. №14; Плавінскі М.А., Харытановіч З.А., Дзярновіч С.Дз. Новыя археалагічныя помнікі жалезнага веку ў Браслаўскім Паазер'і (па выніках даследаванняў 2003—2005 гг.) // МАБ. 2008. Вып. 15.

*Л.У.Дучыц, С.Дз.Дзярновіч, М.А.Плавінскі, В.І.Шадыра.*

**МАКА́РАВІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Макаравічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. За 0,4 км на З ад вёскі, ва ўр. Старыя Кладкі, у лесе. Налічваў 31 курган. У 1888 М.Н.Мышанкоў даследаваў 14 насыпаў выш. 0,5—1,7 м, дыям. 6—12 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе, на гарызонце, у ямс глыб. да 1 м, у сядзячым стане (1), галавой на З, Пд, ПдЗ. У 5 курганах выяўлены рэшткі цёрамкоў. Пахавальны інвентар — 13 дрыгавіцкіх пацерак, скроневыя паўтараабаротныя кольцы, бронзавыя вітыя пярсцёнкі, пацеркі шкляныя


*А.А.Макушнікаў.*

пазалочаныя і пасярэбраныя, фр-ты глінянага посуду.

*Літ.*: Мышенков Н. Курганы Бобруйского уезда Минской губернии: (исслед. 1888 г.) // Вестн. археологии и истории. Санкт-Петербург, 1892. Вып. 9.

*П.Ф.Лысенка.*

**МАКЕ́ЕЎКА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Новая Буда Гомельскага р-на. За 2 км на У ад вёскі, 2 км на Пн ад былой в. Макееўка, ва ўр. Кардон, на правым беразе р. Уза. У к. 19 ст. даследаваў М.М.Філонаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены бронзавы пляскаты бранзалет з кропкавым арнаментам. У 1981 абследаваў А.А.Макушнікаў. Захавалася каля 30 насыпаў выш. 0,5—2,5 м, дыям. да 9 м. Датуецца к. 10 — пач. 12 ст.

*Літ.*: Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910.

**МАКО́ТРА**, макацёр, ганчарны посуд у выглядзе перавернутага ўсечанага конуса, прызначаны для расцірання маку, гатавання ежы ў печы. Выраблялі з шэрай або чырвонай гліны з дамешкам пяску і жарствы. Вядомы па раскопках Віцебска, Мінска, Мсціслава, Ракава, паселішча *Сямёнавічы* Уздзенскага р-на Мінскай вобл. і інш. Цэлыя М. пач. 17 ст. выяўлены на *Віцебскім Верхнім замку* (выш. 16 см, дыям. донца 17 см, вусця 21 см, таўшч. сценак 1 см, аб'ём 4 л) і ў Крычаве (выш. 8,5 см, дыям. донца 11,5 см, вусця 13,5 см, аб'ём 1,5 л). Вядомы паліваныя М. 17 ст., якія выкарыстоўваліся для заквашвання цеста і інш. У рус. пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. пад назвай «маковницы», упамінаюцца ў бел. крыніцах пач. 17 ст. У традыц. побыце беларусаў захоўваліся да пач. 20 ст.

*Літ.*: Янушкевіч Ф.І. Фарміраванне традыцый ракаўска-івянецкай керамікі (па матэрыялах позняга сярэдневякоўя) // ВАНБ. 1982. №4; Здановіч Н.І., Трусаў А.А. Мсціслаўскі посуд XV—XIX стст. // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Соболь В.Е. Основные виды и формы бытовой керамики Минска XIV—XVIII вв. // К 1125-летию Полоцка: конф. «История и археология Полоцка и Полоцкой земли»: докл. на юбил. чтениях. Полоцк, 1987.

*Л.У.Калядзінскі.*

**МАКУ́ШНІКАЎ** Алег Анатолевіч (н. 15.7.1960, г. Гомель), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1987). Скончыў Гомельскі ун-т (1982). З 1987 заг. сектара, аддзела археалогіі Гомельскага абл. краязнаўчага музея, з 1990 дырэктар Гомельскага абл. археал. цэнтра, з 1995 выкладчык Гомельскага ун-та імя Ф.Скарыны. Вывучае сярэдневяковую археалогію Гомельскага Падняпроўя. Даследаваў помнікі калочынскай культуры, гарадоў Гомель, Рэчыца, сярэдневяковых паселішчаў і могільнікаў Абакумы, Мохаў, Насовічы, Нісімкавічы, Шарпілаўка і інш. У Гомелі ў 1986—2010 ускрыў пл. больш за 5 тыс. м², вывучаў абарончыя збудаванні, тапаграфію і планіроўку горада, раскрыў характар масавай забудовы. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 2, 1999), кніг серыі «Памяць» (Буда-Кашалёўскі, Веткаўскі, Гомельскі, Добрушскі, Чачэрскі р-ны, г. Гомель) і інш.

*Тв.*: Паходжанне Гомеля: (па матэрыялах археал. даслед.) // ВАНБ. 1989. №6; Стратиграфия раскопа 1988 г. на Гомельском детинце и некоторые вопросы истории летописного Гомеля // ГАЗ. Мінск, 1994. Вып. 3; Поселение второй половины I тыс. н.э. близ д. Носовичи в Нижнем Посожье // Там жа. Вып. 5; В поисках древнего Гомия. Гомель, 1994; Гомель: праблемы ранняй гісторыі (VI—XIII стст.) // БГЧ. 1995. №1; Гомельское Поднепровье в V — середине XIII вв.: социально-эконом. и этнокультур. развитие. Гомель, 2009.

**МАЛАДЗЕ́ЧАНСКІ ЗА́МАК**, помнік археалогіі і фартыфікацыі. Размешчаны на правым беразе р. Уша на паўн. ускраіне г. Маладзечна. Узведзены паміж 1511 і 1519 кн. М.І.Мсціслаўскім (Заслаўскім). Археал. даследаванні праводзілі М.А.Ткачоў, А.М.Кушнярэвіч, І.У.Ганецкая. Мае форму няправільнага прамавугольніка памерамі 129 × 80 м, выцягнутага ўздоўж берага. Уяўляе сабой узвышша сярод балота, абнесенае абарончым валам (месцамі пашкоджаны) з 2 бастыёнамі. Пад насып выш. 4 м і пад грэблю пакладзены бярвёны (былі расчышчаны М.А.Ткачовым у час археал. даследаванняў). З боку ракі прасочаны рад паляў, пастаўленых для прадухілення размывання і апаўзання зямлі. Першапачаткова М. з. быў умацаваны гароднямі, меў браму з зах. боку. У 2-й пал. 16 ст. на тэр. замка князямі Збаражскімі быў збудаваны драўляны палац. У час раскопак выяўлены падмуркі мураванага будынка 16 ст. памерамі 11 × 24 м, мураваныя сцены якога ўпрыгожвалі фрэскі. Культ. пласт 16—17 ст. захаваўся фрагментарна, на большай частцы замка адсутнічае. Прасочаны сляды некалькіх пажараў, знойдзены фр-ты керамічнага і шклянога посуду, керамічныя люлькі, пячная кафля, ключ ад замка, шпора з кольцам, нажы, цвікі і інш. Прыкладна ў 2-й пал. 17 ст. гародні былі заменены земляным валам (выш. 3,5 м, шыр. 11 м) і 2 бастыёнамі. Насупраць замка на процілеглым беразе р. Уша знаходзіўся замкавы двор з жылымі і гасп. пабудовамі. На працягу 2-й пал. 16—17 ст. замкам валодалі князі Збаражскія, Л.І.Сапега, Шэметы, А.Гасеўскі і яго нашчадкі. У пач. 18 ст. мястэчка разам з замкам перайшло ў рукі князёў Агінскіх. Замест старога драўлянага яны ўзвялі каменны палац, падмуркі якога захаваліся да цяперашняга часу (месцамі выходзяць на паверхню). Вал папсаваны шматлікімі несанкцыянаванымі шурфамі.

*І.У.Ганецкая.*

**МАЛАТО́ЎКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі каля в. Малатоўкі Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. За 0,2 км на

З ад вёскі, у полі; 34 насыпы выш. 0,5—2 м, дыям. 5—15 м. У 1975 Я.Р.Рыер раскапаў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе галавой на З. Пахавальны інвентар: жал. нож і гліняныя ганчарныя гаршкі. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: Риер Я.Г. Исследования в Могилевской области // АО 1975. М., 1976. *Я.Р.Рыер.*

**МАЛЕ́ЙКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Малейкі Брагінскага р-на Гомельскай вобл. За 1,2 км ад вёскі, ва ўр. Курганне, на левым беразе р. Брагінка. Налічваў 30 курганоў; многія насыпы разбураны ў 19 ст. Даследаваў у 1890 У.З.Завітневіч (6 курганоў). Пахавальны абрад — трупаспаленне на мацерыку; перапаленыя косткі сабраны ў насыпе. Выяўлены рэшткі вертыкальных слупоў, фр-ты гаршкоў.

*Літ.*: Русанова И.П. Курганы полян X—XII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1—24. *Г.В.Штыхаў.*

**МАЛЕ́ЎСКАЯ** (Малеўская-Малевіч) Мар'яна Уладзіміраўна (н. 27.5.1918, Санкт-Пецярбург), рускі археолаг. Скончыла Ін-т імя І.Рэпіна Усерасійскай акадэміі мастацтваў (1946). У 1952—86 навук. супрацоўнік Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН СССР. Асн. кірунак даследаванняў — археалогія стараж. горада, у т.л. архітэктура Беларусі і Украіны 12—15 ст., бытавая і архіт.-дэкаратыўная кераміка. У 1940—57 удзельнічала ў экспедыцыях пад кіраўніцтвам М.К.Каргера, у 1949 — у раскопках на тэр. *Гродзенскага Старога замка* пад кіраўніцтвам М.М.Вароніна, у 1966 па матэрыялах гэтых даследаванняў выканала рэканструкцыю падлогі *Гродзенскай Ніжняй царквы*. У 1958—77 даследавала стараж. Навагрудак: правяла раскопкі *Навагрудскай царквы*, грамадзянскай пабудовы 14 ст. на тэр. Навагрудскага замка. У 1970—80 кіраўнік архіт.-археал. даследаванняў на тэр. Украіны.

*Тв.*: К реконструкции майоликового пола Нижней церкви в Гродно // Культура Древней Руси. М., 1966; Поливная керамика древнего Новогрудка // СА. 1969. №3; Применение брускового кирпича в архитектуре Западной Руси второй половины XIII—XIV в. // Там жа. 1989. №4; Архитектурный комплекс новогрудского детинца XIII—XIV вв. // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Гражданская постройка Новогрудского замка XIV в. // Памятники старины. Концепции. Открытия. Версии. Памяти В.Д.Белецкого (1919—1997). Санкт-Петербург; Псков, 1998. Т. 2.

*А.А.Трусаў.*

**МАЛМЫ́ГІ**, археалагічны помнік— стаянка неаліту і бронзавага веку каля былой в. Малмыгі Вілейскага р-на Мінскай вобл. За 0,5 км на ПдУ ад вёскі. Тэр. стаянкі затоплена Вілейскім вадасховішчам. Выявіў у 1966, даследаваў 240 м² у 1972 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены рэшткі адкрытых і выкладзеных камянямі агнішчаў, вохрыстыя плямы, заглыбленні з гумусаванай глебай у мацерыку. Знойдзены матэрыялы ранняга і позняга этапаў *нарвенскай культуры*, адзінкавыя фр-ты *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*. Трапляюцца знаходкі *шнуравой керамікі культуры* ранняга бронзавага веку і фр-ты керамікі познабронзавага часу з заштрыхаванай паверхняй. *М.М.Чарняўскі.*

**МАЛО́Е ЗАРЭ́ЧЧА**, археалагічны помнік — стаянка ранняга этапу *грэнскай культуры* позняга палеаліту каля в. Малое Зарэчча Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе Дняпра. Выявіў у 1975 і даследаваў 83 м² у 1980 і 1982 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,2—0,4 м. Зафіксаваны 2 скопішчы крамянёў дыям. каля 5 м, знойдзены крамянёвыя тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, у т.л. двайныя, рэтушаваныя і двухгранныя разцы, камбінаваныя прылады (скрабкі-разцы), вастрыі, праколкі, шматлікія прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы і іх сколы, пласціны, адшчэпы, луска). Матэрыялы маюць аналагі ў комплексах крамянёвага інвентару са стаянак *Бароўка*, *Грэнск*, *Дальняе Ляда*, *Лудчыцы*, *Хвойная*.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Работы по изучению мезолита в Белорусском Поднепровье // АО 1980. М., 1981; Яго ж. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992.

*В.Ф.Капыцін.*

**МАЛЫ́ АЗЯРЭ́ЦК**, археалагічны помнік — курганны могільнік *крывічоў* каля в. Малы Азярэцк Сенненскага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Камуна, на ўсх. беразе воз. Маеўскае. У літаратуры вядомы пад назвай былой в. Вядзец. Больш за 50 насыпаў выш. 2—3 м, дыям. 5—15 м. У 1893 Е.Р.Раманаў даследаваў 5 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены ляпныя і кругавыя гаршкі, у адным насыпе (з трупаспаленнем) — дырхем дынастыі Саманідаў 914, паясны набор і гаршчок. Датуецца 10—13 ст.

*Літ.*: Аникиевич К.Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев, 1907; Штыхаў Г.В.Крывічы. Мінск, 1992.

**МАЛЫ́ СТА́ХАЎ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Малы Стахаў Барысаўскага р-на Мінскай вобл.

Могільнік-1 за 3 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, побач з сучаснымі могілкамі. Захавалася 40 курганоў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 4—10 м. У 1931 А.М.Ляўданскі даследаваў 3 курганы. У верхняй частцы насыпу знойдзены перапаленыя косці, рэшткі бронзавых упрыгажэнняў, шкляныя пацеркі і ляпны посуд, частка якога арнаментавана расчосамі. Курганы насыпаны на месцы селішча банцараўскай культуры. У 1971 Г.В.Штыхаў раскапаў 1 курган. Пахаванне не выяўлена. Знойдзены ляпная і кругавая кераміка, кавалак патэльні.

Могільнік-2 за 0,5 км на У ад могільніка-1, каля лясной дарогі. Захавалася 19 курганоў, з іх 2 авальныя, выш. 0,9 м, даўж. 6—8 м, астатнія круглыя, выш. 0,5—1,5 м, дыям. 4—7 м. Абследаваў у 1979 Г.В.Штыхаў.

*Літ.:* Штыхаў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*Г.В.Штыхаў.*

**МАЛЫ́ШКІ**, археалагічны помнік — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі каля в. Малышкі Вілейскага р-на Мінскай вобл. За 0,1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Сэрвач. Пляцоўка авальная памерамі 52 × 45,5 м, выш. да 9 м. З трох бакоў умацавана падкowападобным валам з боку поля выш. 5 м, з боку пляцоўкі — каля 4 м. Выявілі ў 1938 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч. Даследавалі ў 1955—57, 1969, 1977—78 А.Р.Мітрафанаў (930 м²), у 1990—94 — Э.М.Загарульскі (325 м²). Выяўлены рэшткі жытлаў, якія размяшчаліся ў 2 рады (у кожным па 3 жытлы) з боку ракі. Жытлы мелі зрубавую канструкцыю, будаваліся з бярвён дыям. 0,2—0,3 м, пазы паміж імі абмазваліся глінай, сцены падтрымліваліся слупамі. Жытло складалася з 4 памяшканняў, мела 2-схільнае пакрыццё. У 1-м радзе (па краі берага) жытлы памерамі 13,7—14 × 8 м, памяшканні 4,5—7 × 4 м, у 2-м — памерамі 16,8—17,8 × 7,3—8,2 м, памяшканні 8—8,4 × 3,3—3,7 м. У памяшканнях знаходзіліся адкрытыя авальныя ці круглыя (дыям. 1,6—1,8 м) агнішчы на пясчанай падлозе, абкладзеныя валікамі гліны. Агнішчы былі размешчаны адно над адным (ад 2 да 5), што сведчыць пра паўторную забудову жытлаў на месцы. Знойдзены абломкі ляпных рабрыстых, слоікавых і слабапрафіляваных штрыхаваных гаршкоў, падглянцаваныя і глянцаваныя пасудзіны, больш за 200 прасліц, у т.л. арнаментаваных, грузікі, гліняныя тыглі, молат для апрацоўкі крыц, жал. наканечнікі дзід і дроцікаў, сякеры, сярпы, нажы, спражкі, посахападобныя шпількі, бронзавыя шылы, познелатэнская і падкowападобная з чырвонай эмаллю фібулы, трапецападобная падвеска. Датуецца 1—4 ст.

*Літ.:* Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э.— VIII в. н.э.). Минск, 1978.

*В.І.Шадыра.*

**МАЛЫ́Я ЁДКАВІЧЫ**, археалагічны помнік — могільнік культуры шарападобных амфар (2-я пал. 3-га тыс. да н.э.) каля в. Малыя Ёдкавічы Бераставіцкага р-на Гродзенскай вобл. Быў размешчаны на паўд.-зах. ускраіне вёскі. У час распрацоўкі пясчанага кар'ера знойдзены косці, гліняны посуд, каменныя і касцяныя вырабы. У 1971 К.Т.Кавальская даследавала рэшткі пахавання ў каменнай скрыні і сабрала артэфакты пад сценкай кар'ера. Знойдзены вузкае шліфаванае долата з крэменю, касцяное долата, 2 іклы дзіка, цэлая і фр-ты 2 амфар, шыракагорлая амфара, арнаментаваная па шыйцы авальнымі ямкавымі наколамі і адбіткамі лінейнага штампа.

*Літ.:* Кавальская К., Чарняўскі М. Старажытнае пахаванне // ПГКБ. 1988. №4.

*М.М.Чарняўскі.*

**МАЛЫ́Я ЗВО́ДЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік 12—13 ст. каля в. Малыя Зводы Брэсцкага р-на. Размешчаны за 2,5 км на ПнУ ад вёскі ў лесе, ва ўр. Ворахава. 19 курганоў выш. 0,25—0,6 м, дыям. 3,5—5 м. Амаль усе насыпы ў падножжа абкладзены камянямі. Адкрыў у 1978 Ю.У.Кухарэнка. У 1981—83 Т.М.Каробушкіна даследавала 10 курганоў. У 2 з іх выяўлены парныя пахаванні (двое дарослых, дарослы і 6-гадовае дзіця). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у прамавугольных падкурганных ямах глыб. 0,32—1,1 м. Пахавальны інвентар — гліняныя гаршкі і іх фр-ты, бронзавыя паўтараабаротныя скроневыя кольцы і інш.

*Літ.:* Коробушкина Т.Н. Курганы Белорусского Побужья X—XIII вв. Минск, 1993.

*Т.М.Каробушкіна, А.В.Іоў.*

**МАЛЫ́Я КЕРАМІ́ЧНЫЯ ФО́РМЫ** 16 — пач. 19 ст., невялікія керамічныя вырабы, аб'яднаныя ў групы адпаведна іх прызначэнню, знойдзеныя ў час археал. даследаванняў.

Курыльныя люлькі — вельмі частая знаходка ў культ. пласце к. 16—18 ст. гарадоў Беларусі і інш. тэр. (большасць 18 — пач. 19 ст., у т.л. турэцкія чырвонаглянцавыя). Падзяляюцца на чырвона-, белагліняныя, чорнаглянцаваныя, паліўныя. Найб. раннія экзэмпляры керамічных люлек, вядомых па матэрыялах еўрап. археал. раскопак, — белагліняныя галандскія 16—17 ст. Да найб. ранніх люлек рубяжа 17—18 ст. адносяцца паліваныя мясц. паходжання. У вытворчасці люлек прымянялася, як правіла, т.зв. аднаўленчае абпальванне, якое давала рознакаляровую гаму ад бела-шэрых да чырвона-чорных колераў. Нярэдка вытворчы працэс завяршаўся глянцаваннем паверхні вырабу і нанясеннем складанага арнаменту. Зрэдку паверхню пакрывалі каляровай палівай. Люлькі выраблялі з тлустай гліны з мінімальным утрыманнем пяску, у раз'ёмных 2-састаўных арнаментаваных формах. Частка люлек мае на паверхні сляды закопчанасці, большасць вырабаў у выкарыстанні не была.

Падсвечнікі падзяляюцца на 3 тыпы. Першы — невысокія (да 4,5 см), дыям. чашачкі 3 см, паддона — 9 см; пакрыты зялёнай палівай. Другі — выш. 14 см, складанапрафіляваны; дыям. тулава 3—4,5 см, паддона — 8 см, выш. чашачкі ў верхняй частцы — 4 см; пакрыты палівай знутры і вонкі. Трэці — выш. 10 см, дыям. чашачкі — 7 см, глыб. — 1,5 см; маюць ножку з пукатым паддонам выш. 6 см; чырвонагліняныя, знутры пакрыты карычневай палівай.

Лампадкі (свяцільнікі) — чырвонагліняныя невял. піялы з заглянцаванай паверхняй — сустракаюцца пры пахаваннях на хрысціянскіх могілках і ў месцах размяшчэння культавых збудаванняў. У іх злівалі масла (міра), якое заставалася ад абраду сабаравання памерлых. У Беларусі лампадкі знойдзены пад час раскопак культавых помнікаў Оршы, Віцебска і інш. Датуюцца к. 17 — пач. 18 ст.

Прасліцы і грузікі — керамічныя вырабы побытавага прызначэння. Гліняныя прасліцы 2 тыпаў: першы — сплюшчаныя па вертыкалі (1,5—2 см), дыям. 3,5—4 см; другі — выш. 2,5—3 см, дыям. 2—2,5 см. Грузікі большыя па памерах за прасліцы; 2 тыпаў: першы — нагадваюць прасліцы (дыям. 4,5 см, выш. 3,5 см); другі — цыліндрычныя (выш. 4 см, дыям. 3,5 см).

«Касметычныя» («памадныя») слоікі — частая знаходка ў позніх (18 ст.) гарызонтах культ. пласта. Выраблялі спачатку накшталт стопачак, якія ў 17 ст. пастаўляліся з зах.-еўрап. краін (знойдзены ў Оршы, Віцебску, у пластах 17—18 ст. Вільнюскага, Тракайскага замкаў і Каўнаса). У Маскве зафіксаваны рэшткі майстэрань па вытворчасці такіх слоікаў, распаўсюджаных у 18 ст. Назва «касметычныя» — умоўная. Вырабы знаходзілі разам з аптэчным посудам, пры хімічных лабараторыях, што дало падставу аднесці іх да парфюмернага начыння. На тэр. Беларусі паступалі з Рус. дзяржавы. У пластах рубяжа 18 — пач. 19 ст. трапляюцца блізкія па форме слоікі белаватага колеру, пакрытыя празрыстай палівай.

Цацкі, чарніліцы, касцяшкі лічыльнікаў выяўлены ў культ. пласце 17—18 ст., выкананы з гліны, пакрыты зялёнай (часцей за ўсё), жоўтай, карычневай палівай. Цацкі — з чырвонай гліны, мелі адтуліны (свісткі). Чарніліцы перанасныя выш. 3,5 см, дыям. 4,5 см; у верхняй частцы 3 невял. адтуліны для шнурка. Касцяшкі лічыльнікаў выраблялі ў 2-састаўных формах невял. памераў (да 1—2 см), дыям. адтуліны — 0,5 см.

Малыя араматычныя пасудзінкі ў выглядзе гаршчочка ці гарлачыка, пакрытыя зялёнай палівай з адтулінамі для падвешвання на шнурку. Іх насілі на шыі жанчыны.

*Літ.*: Левко О.Н. Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии. Минск, 1992; Я е ж. Витебск. Минск, 2010. *В.М.Ляўко.*

**МАЛЫ́Я КРУГО́ВІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* 11—13 ст. каля в. Малыя Круговічы Ганцавіцкага р-на Брэсцкай вобл. За 1 км на З ад вёскі, ва ўр. Баркі. Мясц. назва Шведскія капцы. 18 курганоў выш. да 1,3 м, дыям. да 12 м. У 1929 выявіў С.Пшэворскі, у 1965 і 1985 абследавалі П.Ф.Лысенка, у 1970 В.Б.Караткевіч, у 1971 М.Ф.Гурын. У 1955 Ю.У.Кухарэнка і Б.В.Міралюбаў раскапалі 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены гліняныя ганчарныя гаршкі, жал. абручы і дужка ад драўлянага вядра. За 0,5 км на З ад вёскі размешчаны могільнік (20 курганоў выш. 0,8—1,5 м, дыям. 8—12 м). Другі могільнік (11 курганоў выш. 0,7—2 м, дыям. 8—14 м) за 0,5 км на ПнУ ад вёскі.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. 1961. Вып. Е1—57. *П.Ф.Лысенка.*

**МАЛЫ́Я РАГІ́**, археалагічны помнік — паселішча неаліту і бронзавага веку каля в. Малыя Рагі Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. На У ад вёскі на мысе, утвораным паваротам р. Добасна пры ўпадзенні яе ў Дняпро, выш. над поймай 1,5—1,7 м. Выявілі ў 1927 К.М.Палікарповіч і С.С.Шутаў. У 1958 І.І.Арцёменка даследаваў 36 м² ва ўсх. частцы мыса. Культ. пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі на адшчэпах — 9, нажападобныя пласціны — 3, адшчэпы), 30 фр-таў ляпной керамікі, 16 з іх належалі неарнаментаванай пасудзіне слоікавай формы сярэднедняпроўскай культуры ранняга перыяду бронзавага веку. Астатняя частка керамікі — неалітычная, арнаментавана грабеньчатым і наразным элементамі.

*Літ.*: Артеменко И.И. Из археологических работ в Верхнем Поднепровье в 1958 г. // КСИА. 1961. Вып. 84. *І.І.Язэпенка.*

**МАЛЯВІ́ЧЫ**, археалагічны помнік — курганна-жальнічны могільнік каля в. Малявічы Вілейскага р-на Мінскай вобл. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, побач з сучасным могілкамі. 36 насыпаў выш. 0,4—0,6 м, дыям. 3—5 м. Насыпы круглыя і прамавугольнай формы (2 × 3 м) складзены з камянёў, паверхня некаторых пакрыта камянямі, частка абкладзена валунамі па перыметры. Помнік згадвае Ф.В.Пакроўскі ў 1893. Абследавалі ў 1980 А.Р.Мітрафанаў, у 1985 Я.Г.Звярута, у 1990 Л.У.Дучыц і А.В.Квяткоўская. У 2004—05 Л.У.Дучыц, А.В.Вайцяховіч і П.М.Кенька да-



*Да арт. **Малявічы**. Скроневыя кольцы.*

*Да арт.* ***Малявічы.*** *Пахавальны інвентар.*



следавалі 7 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,7—1 м, пахаванні адзіночныя (6) і парнае (жанчына і мужчына), галовамі на З ці ПдЗ. У 3 курганах знойдзены рэчы. Пахавальны інвентар: рэшткі галаўнога венчыка (медныя бляшкі з ціснёным арнаментам і 2 завушніцы), пярсцёнкі, білонныя паясныя кольцы з рэшткамі скуранога рэменя, скроневыя кольцы. У адным жаночым пахаванні знойдзены рэшткі галаўнога ўбору, упрыгожанага некалькімі радамі разнастайных бляшак (у т.л. пазалочаных) з ціснёным арнаментам. На кожнай скроні было па 2 трохпацеркавыя кольцы (бронзавыя і сярэбраныя). Нагруднае ўпрыгажэнне складалася з некалькіх радоў караляў, у якіх чаргаваліся шкляныя пацеркі, спіральныя металічныя пранізкі, бразготкі, манета- і ромбападобныя падвескі, ракавіны-каўры. На правай руцэ былі 2 бронзавыя бранзалеты з петлепадобнымі канцамі, на левай — адзін такі ж самы і пласціністы жал. бранзалет. На правай руцэ на кожным пальцы па адным пярсцёнку з вітай сярэдзінай і заходзячымі пласціністымі завужанымі канцамі, на левай руцэ шчытковы пярсцёнак. На поясе 2 жал. нажы ў скураных футаралах на скураных раменьчыках з бразготкамі на канцах і 2 падвескі-«конікі», 3 ключыкі, вял. трапецападобная падвеска з кропкавым арнаментам і з 5 мініяцюрнымі падвескамі. Датуецца 13—14 ст.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. М.,1893; Дучыц Л., Вайцяховіч А., Кенька П. Курганна-жальнічны могільнік каля в. Малявічы Вілейскага р-на // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып 23. *Л.В.Дучыц, А.В.Вайцяховіч, П.М.Кенька.*

**МАНГО́ЛА-ТАТА́РЫ**, агульнапрынятая назва розных плямён і народаў, сярод якіх вядучую ваенную і палітычную ролю адыгрывалі мангольскія плямёны джалаіраў, кераітаў, тайчжуітаў, найманаў, татараў, меркітаў і інш. Сфарміраваліся на мяжы 1-га і 2-га тыс. н.э. ў Цэнтр. Азіі і пачалі актыўна рассяляцца з усх. раёнаў цэнтральнаазіяцкіх стэпаў на З, паступова выцясняючы і асімілюючы цюркамоўныя плямёны. У пач. 13 ст. канчаткова фарміруецца Мангольская дзяржава. У 1206 на агульнамангольскім курултаі ханам быў абвешчаны Чынгісхан. Менавіта пры ім значна ўзрастаюць маштабы войнаў, а стратэгічныя мэты заваяванняў набываюць транскантынентальны характар. Мангола-татарскія войскі падпарадкоўваюць народы сучасных Кітая, Карэі, Афганістана, Ірана, Закаўказзя і інш.

У 1222 М.-т. разбілі палавецкія орды ў бітве на Доне, а ў маі 1223 на р. Калка адбываецца іх першае ваеннае сутыкненне з кааліцыяй стараж.-рус. князёў і полаўцаў, у якім рус.-палавецкае войска было разгромлена. У 1236—39 заваявалі Волжскую Булгарыю. Зімой 1237 унук Чынгісхана Бату (Батый) ажыццявіў першы маштабны паход супраць стараж.-рус. княстваў. У 1237—38 былі захоплены Разань, Каломна, Масква, Уладзімір-на-Клязьме, Растоў, Яраслаўль, Пераяслаў-Залескі, Цвер, Таржок. Спроба ўладзімірскага кн. Юрыя і яго саюзнікаў даць гал. бітву манголам на р. Сіць скончылася поўным разгромам. У 1239—40 М.-т. ажыццявілі паход супраць паўд.-рус. княстваў. Былі захоплены Кіеў, Чарнігаў, Уладзімір-Валынскі, Галіч і інш. З Валыні мангольскія войскі 2 групоўкамі рушылі ў Цэнтр. Еўропу. Моцна пацярпелі Польшча, Маравія, левабярэжная Венгрыя, Букавіна, Малдова, Румынія, Харватыя, Боснія, Сербія, Балгарыя. Наступленне М.-т. прыпынілася толькі каля межаў Італіі, у 1242 яны адышлі назад і ўстанавілі ва Усх. Еўропе адмысловую сістэму кіравання з выплатай даніны (ясак), зборам якой займаліся баскакі. Мясц. князі пазбаўляліся спадчыннага права на свае ўладанні і мусілі атрымліваць наданні («ярлыкі») на княжанне.

Доўгі час лічылася, што землі Беларусі не зведалі ў 1238—41 мангола-татарскай навалы. Маецца толькі адно паведамленне Іпацьеўскага летапісу, якое звязваюць з невядомай бітвай вясной 1241 каля Бярэсця, калі немагчыма было «ити в поле смрада ради и множьства избиеных». Археал. даследаванні апошняга часу ўнеслі значныя карэктывы ў карціну падзей. Адкрыты шэраг бел. паселішчаў, якія былі знішчаны ў выніку мангольскіх нападаў. Пры раскопках Гомеля і Магілёва зафіксаваны слой пажарышча з наборам характэрных для манголаў наканечнікаў стрэл. Даследчыкі схільны датаваць разбурэнні 1239, калі мангола-татарскія атрады пасля паходу на Чарнігаў маглі

адправіць асобныя загоны ўверх па Дняпры. Набор наступальнага ўзбраення, тыповага для качэўнікаў Вялікага Стэпу часоў мангольскай экспансіі, выяўлены ў слоі пажарышча сяр. 13 ст. на гарадзішчы Свіслач (Асіповіцкі р-н). Калекцыя зброі далёкага бою і рыштунку М.-т. (наканечнікі стрэл, кручок калчана, наверша «бунчука») не саступае зборам падобных знаходак з Кіева, Чарнігава і інш. гарадоў Старраж. Русі, якія моцна пацярпелі ад навалы. Разбурэнне гарадзішча магло быць звязана як з працягам мангольскага паходу 1239 уверх па цячэнні р. Бярэзіна, так і з паходам хана Бурундая 1258, загоны якога маглі пакараць свіслацкага князя — саюзніка Данілы Галіцкага. Наступствы ваеннай катастрофы з удзелам манголаў фіксуюцца і на гарадзішчы Клецка, дзе ў слоі пажарышча знойдзены тыповыя для іх наканечнікі стрэл, у т.л. са знакам на пяры.

Бел. землі неаднаразова падвяргаліся мангола-татарскім набегам, якія былі складовай часткай палітычнай і ваеннай барацьбы паміж Галіцка-Валынскім княствам, ВКЛ і Залатой Ардой у 1250—70-я г. Зімой 1274—75 цемнік Ягурчын з войскамі Галіцка-Валынскага княства прымаў удзел у сумесным паходзе супраць Навагрудка. Мангола-татарскае войска прайшло ўверх па Дняпры і злучылася з саюзнікамі каля Слуцка, адкуль яны рушылі на Навагрудак, вакольны горад якога быў узяты. Зімой 1277—78 цемнік Нагай зноў захапіў Навагрудак. Пры раскопках вакольнага горада знойдзены прадметы ўзбраення мангола-татарскага кола. Мяркуецца, што гэтыя паходы сталі крыніцай легенд пра бітвы пад Крутагор'ем і Магільнам у 1284, якія згадваюцца ў бел.-літ. летапісах 15—16 ст.

З-за адсутнасці пісьмовых звестак і археал. матэрыялаў немагчыма гаварыць пра мангола-татарскія напады на бел. землі ў 14 ст. Вядома, што з сяр. 13 ст. да пач. 16 ст. з бел. зямель Пабужжа і на Пд ад Прыпяці збіраўся адмысловы падатак — татаршчына. Важным крокам для прыпынення набегаў М.-т. стала перамога Альгерда ў бітве каля Сініх Вод 1363. У 1360—70-я г. Залатая Арда перажывала крызіс, які выявіўся ў дынастычнай барацьбе ханаў за ўладу і адасабленне Ордаў. У к. 14 — пач. 15 ст. Вітаўт спрабаваў выкарыстаць у сваіх мэтах канфлікт у Ардзе і падпарадкаваць яе праз узвядзенне на ханства сваіх стаўленікаў. З гэтага часу адзначаецца рассяленне татараў на тэр. ВКЛ, у т.л. і Беларусі (Лідскі, Ашмянскі, Навагрудскі, Берасцейскі і інш. паветы). Лічыцца, што менавіта дзякуючы актыўнай усх. палітыцы Альгерда і Вітаўта ардынская дзяржава з сяр. 1420-х г. распалася на некалькі варагуючых частак. У 1502 Крымскае ханства канчаткова разбіла рэшткі Залатой Арды — т.зв. Вялікую Арду – і пачало ажыццяўляць набегі на землі ВКЛ, Маскоўскай дзяржавы і Польскага каралеўства.

*Літ.*: Толочко П.П. Кочевые народы степей и Киевская Русь. Киев, 1999; Кошман В.І., Плавінскі М.А. Прадметы ўзбраення з гарадзішча Свіслач (па матэрыялах раскопак 2000, 2005—2007 гг.): да пытання аб мангольскіх нападах на тэрыторыю Беларусі ў сярэдзіне XIII ст. // ААА. 2008. Vol. 4; Świętosławski W. Archeologiczne slady najazdów tatarskich na Europę Środkową w XIII w. Łódź, 1997.

*В.І.Кошман, М.А.Плавінскі.*


*І.А.Марзалюк.*

**МАРЗАЛЮ́К** Ігар Аляксандравіч (н. 11.9.1968, г.п. Краснаполле Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (2003), праф. (2010). Скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т імя А.А.Куляшова (1992). Працаваў у магілёўскай архіт.-рэстаўрацыйнай фірме «АРТ-М». З 1996 у Магілёўскім ун-це імя А.А.Куляшова, у т.л. з 2004 заг. кафедры. Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру насельніцтва Беларусі эпохі жал. веку і сярэдневякоўя, ментальнасць насельніцтва Беларусі ў эпоху сярэдневякоўя і ранняга Новага часу, гістарыяграфію Беларусі эпохі Кіеўскай Русі і ВКЛ. Праводзіць археал. даследаванні Магілёва, Старога Шклова, Радамлі, Баркалабава, курганных могільнікаў «Усход» (Магілёўскі р-н) і курганнага могільніка каля г. Чэрыкаў Магілёўскай вобл.

*Літ.*: Магілёў у XII—XVIII стст.: людзі і рэчы. Мінск, 1998; Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах. Магілёў, 1998 (разам з А.Р.Агеевым, І.А.Пушкіным); Невядомая спадчына Е.Раманава. Магілёў, 2002; Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X—XVII стст.). Магілёў, 2003; Е.Р.Раманаў: з гісторыка-археал. спадчыны (выбр. творы). Магілёў, 2006; Этнічны і канфесійны свет беларускага горада XVI—XVIII ст. (этнаканфесійны склад насельніцтва, этнічныя і канфесійныя стэрэатыпы беларускіх гараджан). Магілёў, 2007; Адраджэнскія міфы беларускай гістарыяграфіі. Магілёў, 2009; Гарадзішча Змяёўка (Пелагееўскае гарадзішча) у Магілёве. Магілёў, 2010 (разам з Я.Р.Рыерам).

**МАРУЛІ́НЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* каля былой в. Маруліны Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. Цяпер не існуе. У к. 19 ст. налічваў некалькі соцень (па некаторых звестках каля 500) насыпаў выш. да 2 м, дыям. да 8—9 м, месцамі прасочваліся сляды раўкоў. Размяшчаўся ў лесе, частка насыпаў была пашкоджана. У 1890 М.П.Авенарыус даследаваў 3 курганы. Пахавальны абрад — трупалажэнне на гарызонце. У 2 пахаваннях нябожчыкі (мужчына і жанчына) арыентаваны галовамі на З. На скроневай косці мужчыны меліся сляды ўдару вострым прадметам. Інвентар мужчынскага пахавання: жал. нож, абломак крэсіва з крэменем, бронзавая спражка, кольца, дрот. Інвентар жаночага пахавання: бронзавыя скроневыя кольцы, бранзалет, шкляныя пазалочаныя пацеркі. Каля ног нябожчыкаў ляжалі фр-ты жал. абручоў і дужак ад драўляных вядзёр. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: Авенариус Н.П. Заметки о раскопках в Минской губернии в 1889 и 1890 годах // Тр. Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно девятого археологического съезда. Вильна, 1893; Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962. *Я.Г.Зверуга.*

**МАРФАЛО́ГІЯ** (грэч. morphē форма, від + logos навука) у археалогіі, раздзел навукі, у якім вывучаюцца форма і будова рэчаў, іх паходжанне, вытокі асобных элементаў, дэталей і інш. Высвятляе гісторыю ўзнікнення, развіцця, пераўтварэння і знікнення тыповых для пэўнай культуры рэчаў, пераход аднаго тыпу ў другі. М. як частка тыпалогіі займаецца вывучэннем і апісаннем (па загадзя распрацаванай схеме і ў пэўных тэрмінах) старажытнасцей з мэтай вызначэння генетычных сувязей паміж імі, атрымання аб'ектыўных крытэрыяў для параўнання археал. рэчаў, комплексаў і культур, выяўлення пераймальнасці, вырыянтаў у іх развіцці. Марфалагічныя прыкметы з'яўляюцца падставай для вызначэння тыпаў і ў гэтым сэнсе адсоўваюць на другі план функцыянальнае, вытворчае прызначэнне прылад, якое ўстанаўліваецца па слядах зношанасці іх рабочых частак метадам трасалагічнага аналізу. У М. важная роля належыць выяўленню відаў нарыхтовак, прыёмаў апрацоўкі і наогул тэхналогіі вытворчасці рэчаў пэўнага тыпу. Вынікі марфалагічных даследаванняў дапамагаюць у складанні тыпалагічна-вытворчых і храналагічных радоў рэчаў, якія адлюстроўваюць пераход ад нарыхтоўкі да гатовай прылады або ад прататыпа цераз прамежкавую форму да больш позняга вырабу. *У.Ф.Ісаенка.*

**МАРЭ́НЫ** (франц. moraines), матэрыял разбурэння горных парод, несарціраваны ці слабасарціраваны, перанесены і адкладзены ледавіком. Адзін з найб. характэрных генетычных ледавіковых тыпаў адкладаў, распаўсюджаных на тэр. Беларусі, які з'яўляецца часткай марэннага рэльефу. М. фарміраваліся з матэрыялу, які трапляў у лёд пры разбурэнні ледавіком парод ложа. Адклады фарміраваліся гал. чынам за кошт пераносу на адлегласць некалькіх дзесяткаў кіламетраў мясц. парод, але часам у іх фарміраванні прымалі ўдзел і грубаабломкавыя матэрыялы, перанесеныя са Скандынавіі. Па ўмовах утварэння М. падзяляюцца на донныя, абляцыйныя і канцавыя. Магутнасць першых можа дасягаць некалькіх дзесяткаў метраў. Паколькі Беларусь зведала пяціразовае наступленне ледавікоў, якія дасягалі розных межаў, марэнныя адклады пашыраны амаль на ўсёй яе тэр., дзе ўтвараюць розныя формы рэльефу.

*Літ.*: Лаврушин Ю.А. Строение и формирование основных морен материковых оледенений. М., 1976; Матвеев А.В. Ледниковая формация антропогена Белоруссии. Минск, 1976. *А.Г.Калечыц.*

**МА́СКАВІЧЫ**, Маскаўцы, археалагічны помнік — гарадзішча днепра-дзвінскай культуры, штрыхаванай керамікі культуры і 11—13 ст. каля в Маскавічы Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 0,3 км на Пд ад вёскі, на ўзгорку ўсх. берага воз. Дзерба. Пляцоўка пл. 1 га, няправільнай формы, на З прылягае да возера, на Пн і У — да балоцістай нізіны. На рубяжы нашай эры гарадзішча было ўмацавана драўляным частаколам, у 11—12 ст. зроблены сцены з тоўстых гарызантальна пакладзеных бярвён. У 12—13 ст. з'яўлялася парубежнай крэпасцю на паўн.-зах. ускраіне Полацкага княства, магчыма, было сядзібай-замкам ці гандл. факторыяй. Выявіў у к. 19 ст. Ф.В.Пакроўскі (як Рацішскае гарадзішча), абследавалі ў 1955 Л.В.Аляксееў, у 1972 М.М.Чарняўскі, даследавала 2600 м² у 1976—88 Л.У.Дучыц. Культ. пласт 0,2—0,3 м, на зах. тэрасе да 1,2 м. Знойдзены нажы, замкі, ключы, крэсівы, нажніцы, інш. прылады працы, зброя, конская збруя і рыштунак конніка, рыбалоўныя снасці, вырабы з косці (грабяні, праколкі, гузікі, тронкі нажоў), керамічныя і шыферныя праслíцы, бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі, фібулы, пацеркі. Знойдзены 4 энкалпіёны, больш за 100 абломкаў костак жывёл з надпісамі і малюнкамі (гл. ў арт. *Косці з надпісамі і малюнкамі*), фр-ты ляпной і ганчарнай керамікі. Рэшткаў пабудоў не выяўлена, але аэрафотаздымка гарадзішча сведчыць пра комплексную забудову. Ёсць падставы меркаваць, што жытлы былі наземныя, зрубавыя, па форме блізкія да квадрата, памерамі ад 16 да 25 м². Пад ніжнімі вуглямі зафіксаваны мураваныя і драўляныя падкладкі. Сцены рабілі з круглых абчасаных бярвён дыям. 0,15—0,2 м, пазы абмазвалі глінай. Пад-



*Малюнкі і надпісы на касцях з гарадзішча* ***Маскавічы.***

лога была драўляная і глінабітная з пясчанай або глініста-земляной падсыпкай. Печы глінабітныя на слупавых апечках. Адна печ (даўж. 1 м, шыр. 0,6 м, выш. скляпення 0,4 м) з падпечнай ямай захавалася вельмі добра, у ёй знойдзены вуголле, фр-ты керамікі і шырокапласціністы бронзавы арнаментаваны бранзалет. Гасп. ямы памерамі ад 0,5 × 0,5 м да 1 × 1,5 м былі заглыблены ў мацярык ад 0,1 да 1,2 м, сценкі некаторых абмазаны глінай, верагодна, што ў іх захоўваліся харчовыя прыпасы. У 1982, 1983, 1985, 1988 праводзіліся гідраархеал. разведкі і падводныя раскопкі ў воз. Дзерба, якое прымыкае да гарадзішча. Культ. пласт 0,2—0,3 м. Знойдзены цыліндрычны замок, шыфернае прасліца, фр-т сіняга шклянога пярсцёнка, медная блешня, кераміка і інш. Мяркуецца, што тут існаваў пасад, які з цягам часу апынуўся пад вадой.

*Літ.:* Дучыц Л.У. Маскавіцкае гарадзішча (XI—XIII стст.) // ВАНБ. 1980. № 4. *Л.У.Дучыц.*

**МАСКО́ЎСКАЕ АРХЕАЛАГІ́ЧНАЕ ТАВАРЫ́СТВА**. Існавала ў Маскве ў 1864—1922. Першы кіраўнік А.С.Увараў, з 1884 — яго жонка П.С.Уварава. Вывучала старажытнасці Расіі, займалася аховай помнікаў, арганізоўвала навук. археал. раскопкі. Выдавала шматтомны зб. «Старажытнасці», у якім друкавалі свае творы А.Г.К.Кіркор, М.Ф.Кусцінскі, Е.Р.Раманаў, К.П. і Я.П. Тышкевічы, М.А.Янчук і інш. Пры т-ве існавалі камісіі: па захаванні помнікаў, усх., слав., археал., па вывучэнні старой Масквы. Т-ва спрыяла арганізацыі і дзейнасці музеяў. Па яго ініцыятыве з 1869 скліканіся археал. з'езды, арганізоўваліся выстаўкі. Сярод членаў т-ва з Беларусі былі А.С.Будзіловіч, К.А.Гаворскі, М.В.Доўнар-Запольскі, У.З.Завітневіч, Я.Завіша, Р.Г.Ігнацьеў, А.Г.К.Кіркор, І.І.Казлоўскі, Ю.Ф.Крачкоўскі, С.А.Круповіч, М.Ф.Кусцінскі, М.К.Любаўскі, Ф.В.Пакроўскі, А.П.Сапуноў, А.М.Семянтоўскі, І.Я.Спрогіс, М.М.Турбін, К.П. і Я.П.Тышкевічы, М.В.Фурсаў, А.К.Храптовіч-Бутэнеў, І.Д.Чэрскі, Ю.Ядкоўскі, М.А.Янчук і інш. Найб. дзейсныя сувязі М.а.т. з Беларуссю былі ў час падрыхтоўкі да *Археалагічнага з'езда дзевятага* (Вільна, 1893). *Г.А.Каханоўскі.*

**МАСЦЯ́НЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі каля в. Масцяны Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. За 0,1—0,2 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Струна, у лесе. Пляцоўка авальнай формы памерамі 72 × 56 м, выцягнута з Пн на Пд. З паўн. і ўсх. бакоў па краі пляцоўкі прасочваецца вал выш. 1,5—2 м і роў, якім гарадзішча аддзелена ад суседняга ўзгорка. Выш. пляцоўкі з зах. боку каля 15 м, з усх. — 5—7 м. Культ. пласт 1,1 м. Выявіў у 2001 Э. М.Зайкоўскі. Знойдзены абломкі ляпнога штрыхаванага і глянцаванага посуду, косткі свойскіх і дзікіх жывёл (свінні, казы ці авечкі, буйной рагатай жывёлы, высакароднага аленя, зубра), касцяная прылада долатападобнай формы, жал. абцугі. Раскопкі не праводзіліся.
*Э.М.Зайкоўскі.*

**«МАТЕРИА́ЛЫ И ИССЛЕ́ДОВАНИЯ ПО АРХЕОЛО́ГИИ СССР»**, М И А, серыйнае выданне Ін-та археалогіі АН СССР, выходзіла ў 1940—72 (187 выпускаў) у Маскве на рус. мове. Змяшчала тэматычныя артыкулы і манаграфіі па праблемах археалогіі (археал. культуры, стараж. вытворчасць, археалогія архітэктуры і інш.), а таксама рэгіянальныя зборы старажытнасцей розных эпох, матэрыялы найб. вывучаных археал. помнікаў. Значнае месца ў публікацыях адведзена археал. даследаванням на тэр. Беларусі. Сярод іх артыкулы «Старажытнае Гродна» М.М.Вароніна (№ 41, 1954), «Помнікі зарубінецкай культуры» (№ 70, 1959), «Славяне напярэдадні ўтварэння Кіеўскай Русі» Э.А.Сымановіча (№ 108, 1963), «Новыя даныя пра каменны век паўночна-заходняй Беларусі» Н.М.Гурынай (№ 131, 1965), «Плямёны Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя ў эпоху бронзы» І.І.Арцёменкі (№ 148, 1967), зборнік «Новыя дадзеныя пра зарубінецкую культуру ў Падняпроўі» (№ 160, 1969, артыкулы П.М.Траццякова, Л.Д.Побаля, К.В.Каспаравай), манаграфія «Славяне Верхняга Падняпроўя і Падзвіння» В.В.Сядова (№ 163, 1970), зборнік «Старажытныя славяне і іх суседзі» (№ 176, 1970, артыкулы І.В.Бірулі, Г.Ф.Салаўёвай, Ф.Д.Гурэвіч) і інш. *А.У.Ільюцік.*

**МАТЫ́КА**, ручная прылада для апрацоўкі глебы. Уяўляла сабой насаджаны на доўгае драўлянае дзяржанне апрацаваны плоскі кавалак рога, камень або металічную пласціну з адтулінай. Развілася, верагодна, з капалак эпохі палеаліту — кіркападобных капаніц, якія выраблялі з рагоў паўн. і высакароднага аленя (адзін адростак рога пакарочвалі, каб утварыць вузкае лязо). Падобныя прылады знойдзены ў Краснасельскіх шахтах. Сякерападобныя М. з рога высакароднага аленя з адтулінай для замацавання дзяржання выяўлены ў кар'еры каля Смаргоні і на стаянцы *Камень*. Некаторыя даследчыкі адносяць да М. грубаапрацаваныя трапецападобныя прылады працы. Да М. належаць, верагодна, прылады з трубчастых конскіх костак з падоўжнай адтулінай. Такія вырабы знойдзены на стаянцы Камень Пінскага р-на. Бронзавыя і жал. кельты, замацаваныя на канцах палак або каленчатых дзяржанняў, таксама маглі выкарыстоўвацца як М. Вядомы драўляныя М. (стаянка Сарнатэ, Латвія). На тэр. Беларусі выяўлена каля 70 каменных і рагавых М. Эпоха неаліту прадстаўлена М. з рога лася — авальнымі (Зацэнне Лагойскага р-на), прамавугольнымі (Лясная Слаўгарадскага і Ваўкі Брэсцкага р-наў) і інш. Большасць каменных свідраваных М. ад-

носіцца да бронзавага веку. Сярод іх трапляюцца сякерападобныя (Мазырскі р-н), вузкаабушковыя (Здзітаў Бярозаўскі р-н), з плечукамі, т.зв. «беларуска-літоўскага тыпу» (Камень, Хорава Пружанскага р-на), прамавугольныя (Давыд-Гарадок Столінскага р-на) і інш. Трапецападобная каменная М. з бакавымі насечкамі знойдзена ў наваколлі г. Быхаў. З дапамогай М. апрацоўвалі зямлю на палях пры падсечным (агнявым, лядным), на прыжытлавых агародах — пры матычным (поймавым) земляробстве. Кароткае шырокае лязо звычайна забяспечвала рыхленне глебы на глыб. 8—12 см. М. ранняга жал. веку невядомы. Верагодна, зямлю апрацоўвалі раламі (часам з жал. наральнікамі) і баронамі-сукаваткамі (вершалінамі). Жал. М. агароднага тыпу знойдзены ў пластах 12—13 ст. у Мінску, Лагойску, Лукомлі. У больш позпія часы амаль на ўсёй тэр. Беларусі пашырыліся трапецападобныя і трохвугольныя М., на Пд — таксама і авальныя. Зубчатыя (2—4 зубцы) і камбінаваныя М. з'явіліся пазней, выкарыстоўваюцца і ў наш час.

*Літ.:* Кларк Дж.Г.Д. Доисторическая Европа: экон. очерк // М., 1953; Краснов Ю.А. Раннее земледелие и животноводство в лесной полосе Восточной Европы // МИА. 1971. №174; Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белорусского Побужья. Минск, 1979. *У.Ф.Ісаенка.*

**«МАТЭРЫЯ́ЛЫ ПА АРХЕАЛО́ГІІ БЕЛАРУ́СІ»**, зборнік, які выдае ІГ НАН Беларусі з перыядычнасцю 2—3 выпускі ў год. У 1867—1918 выходзілі «Материалы по археологии России», у 1940—72 *«Материалы и исследования по археологии СССР»*, якія ўтрымлівалі асобныя артыкулы па археалогіі Беларусі. У 1957 у Беларусі выйшаў першы выпуск пад назвай «Матэрыялы па археалогіі БССР». У ім былі размешчаны вынікі найноўшых на той час даследаванняў у рэспубліцы разнастайнай тэматыкі (ад першапачатковага засялення тэр. Беларусі да раскопак сярэдневяковых гарадоў Мінск і Ваўкавыск) у пасляваенны перыяд. Выданне аднаўлена ў 1999 пад сучаснай назвай. Гал. рэдактар В.М.Ляўко, адказны сакратар А.М.Мядзведзеў. Да 2010 выйшла 18 выпускаў. Друкуе манаграфіі і артыкулы па выніках археал. даследаванняў вучоных Беларусі, а таксама Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы; на бел. і рус. мовах. Асобныя выпускі тэматычныя (матэрыялы канферэнцый, юбілейныя, прысвечаныя вывучэнню розных эпох археалогіі і гісторыі Беларусі і сумежных тэрыторый).

*А.М.Мядзведзеў.*

**МАЦЕЎЧУКІ́**, археалагічны помнік — паселішча каля в. Мацеўчукі Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл.

За 0,4 км на ПнПнУ ад ускраіны вёскі, 0,6—0,7 км на ПдУ ад в. Ашмянцы на правабярэжнай тэрасе р. Лебяла (выш. 5 м). Выявіў М.М.Чарняўскі. У абрыве берага ён знайшоў развал пласкадоннай прафіляванай пасудзіны, верагодна, з разбуранага пахавання. У верхняй частцы пасудзіна арнаментавана пракрэслены-



*Выгляд паселішча* ***Мацеўчукі*** *на р. Лебяда.*



*Ляпны гаршчок нёманскай групы тшцінецкага культурнага кола з паселішча **Мацеўчукі**.*

мі гарызантальнымі лініямі-баразёнкамі, якія ўтваралі паралельныя пасы. Па тэхналогіі і форме маюцца аналогіі сярод матэрыялаў тшцінецкай культуры.

У 1996 у цэнтр. частцы паселішча па краі абрыву В.Л.Лакіза даследаваў 41 м². Культ. пласт цёмнага (цёмна-шэрага) колеру таўшч. да 0,2 м быў пахаваны пад напластаваннямі светла-шэрага з жаўтаватым адценнем пяску таўшч. 0,26—1,2 м, нанесенага вадой па схіле тэрасы. Выяўлены 4 насычаныя дробнымі вугольчыкамі попельныя ямы без знаходак, а ў пахаваным пласце, амаль цалкам знішчаным ракой, — скопішча камянёў. Знойдзена 427 дробных расшчапаных крамянёў, 35 фр-таў ляпной і кругавой керамікі, 1 фр-т косткі. Сярод крамянёвых знаходак пераважная большасць прадстаўлена прадуктамі першаснага расшчаплення; выяўлены 6 невял., моцна спрацаваных нуклеусаў, для нарыхтоўкі адшчэпаў і пласцінак. Два з іх аднапляцовачныя, астатнія аморфныя. Да прылад працы адносяцца 2 разцы на пласцінах (адзін на вугле зломанай пласціны, другі рэтушны), скобля на адшчэпе, 2 невял. пласцінкі з участкамі рэтушы на спінцы, скоблецёслападобная прылада, 3 скрабкі (на пласціне, канцавы, з рэтушшу па перыметры; на адшчэпе; канцавы на адшчэпе, з акруглым рабочым краем). У засяленні паселішча вылучаюцца некалькі этапаў: неалітычны (нёманская культура), ранняебронзавы (тшцінецкае культ. кола) і эпохі сярэдневякоўя. Менавіта да другога этапу адносіцца выяўлены М.М.Чарняўскім гаршчок.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Чернявский М.М. Новые данные по спорным вопросам бронзового века Белоруссии // Белорусские древности. Минск, 1967; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л. Лакіза.*

**МАЯ́К**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Маяк Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. Па абодва бакі дарогі з в. Маяк у в. Сычкава, каля перакрыжавання шашы Бабруйск—Глуск і кальцавой дарогі вакол Бабруйска. Выявіў Л.Д.Побаль у 1964, абследавалі у 1978 П.Ф.Лысенка, у 1990 М.І.Лашанкоў. Захавалася 56 курганоў (было 130), выш. 0,5—2 м, дыям. 4—5 м. Вакол насыпаў прасочваюцца раўкі. У 1996—98 даследавала Л.У.Дучыц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах глыб. 0,3—1,2 м, галавой на З. Знойдзены пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, алавяныя падвескі-лунніцы, лірападобная спражка, бронзавы пярсцёнак, ажурныя металічныя зярнёныя, сердалікавыя і шкляныя пацеркі, рэшткі шаўковага каўняра, жал. нажы і крэсіва, фр-ты кругавога посуду. На вяршыні аднаго з курганоў пад дзірваном выяўлены сляды трызны (вуголле і амаль цэлы гаршчок 16 ст.). Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: Дучыц Л.У. Курганы Бабруйшчыны // Старажытнасці Бабруйшчыны. Бабруйск, 1998.

*Л.У.Дучыц.*

**МЕГАЛІТЫ́ЧНЫЯ ЗБУДАВА́ННІ**, мегаліты (ад грэч. megas вялікі + lithos камень), старажытныя збудаванні з вял. неапрацаваных або груба апрацаваных камянёў. Да такіх збудаванняў належаць дальмены, кромлехі, менгіры, пахавальныя і крапасныя цыклапічныя пабудовы. Распаўсюджаны па ўсім свеце (за выключэннем Аўстраліі), пераважна ў прыморскіх рэгіёнах. На тэр. Еўропы найб. старaж. М.з. вядомы з эпохі энеаліту, значна пашырыліся ў бронзавым веку. Часцей за ўсё М.з. сустракаюцца на атлантычным узбярэжжы Зах. Еўропы, у Міжземнамор'і, на Каўказе. Сусветна вядомы Стоўнхендж у Англіі, які, на думку многіх даследчыкаў, уяўляў сабой старaж. астранамічную абсерваторыю. У Беларусі да М.з. можна аднесці нагрувашчванне вялізных каменных глыб на ўзгорку каля в. Горка Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл., дзе з даўніх часоў рабілі ахвяраванні мясц. жыхары. Помнікамі рытуальна-астранамічнага прызначэння, верагодна, можна лічыць вял. валуны на беразе воз. Янова каля в. Бікульнічы Полацкага р-на Віцебскай вобл., складзеныя ў выглядзе квадрата 15 × 15 м, адкрытага з аднаго боку. Захаваліся таксама даволі няпэўныя звесткі пра М.з. каля в. Скрыгалаў Мазырскага р-на Гомельскай вобл. *Э.М.Зайкоўскі.*

**МЕЗАЛІ́Т** (ад грэч. mesos сярэдні + lithos камень), сярэдні каменны век, наступная


*В.М.Мельнікоўская.*

за палеалітам эпоха *каменнага веку.* Тэрмін «М.» быў прапанаваны ў 1874 шведскім вучоным О.М.Торэлем. Храналагічна М. адпавядае ранняму галацэну і абмежаваны перыядам ад заканчэння апошняй ледавіковай эпохі да з'яўлення вытворчай гаспадаркі і керамічнага посуду. Найб. раннія культуры М. склаліся на Блізкім Усходзе (10—8-е тыс. да н.э.), на тэр. Еўропы (9—6-е тыс. да н.э.). Асн. частка мезалітычных культур у Беларусі развівалася на працягу 8—5-га тыс. да н.э.

М. — час росквіту прысвойваючых форм гаспадаркі, аснову якіх складалі *паляванне*, збіральніцтва і *рыбалоўства.* У М. найб. пашырэнне атрымалі дыстанцыйныя спосабы палявання з дапамогай лука і стрэл, што вяло да індывідуалізацыі працэсу здабычы дзікіх жывёл і рабіла яго больш эфектыўным. На тэр. Еўропы асн. аб'ектамі палявання былі высакародны алень, лось, дзікі бык, мядзведзь, дзік, бабёр, заяц і інш. Рацыён харчавання мезалітычнага чалавека дапаўняўся прадуктамі збіральніцтва (арэхі, жалуды, карэнні, малюскі і інш.). Значную ролю ў гаспадарцы М. адыгрывала рыбалоўства, аб чым сведчаць знаходкі на стаянках костак рачных і марскіх рыб, *гарпуноў, кручкоў рыбалоўных, восцяў, паплаўкоў*, рэшткаў сетак, лодак, вёслаў і інш.

На працягу М. вядомы ўсе тыпы прылад працы (*скрабкі, разцы, праколкі, вастры*, вырабы з выемкай і інш.), характэрныя для папярэдняга палеалітычнага часу. Шырокае распаўсюджанне атрымала ўкладышавая тэхніка, якая была засн. на вырабе прылад невял. памераў — *мікралітаў.* Пласціны-ўкладышы, асобным з якіх надавалі правільную геам. форму (трапецыі, трохвугольнікі, сегменты і інш.), мацаваліся з дапамогай клейкага рэчыва на драўляную ці рагавую аснову, ператвараючы яе ў састаўныя гарпуны, стругі, пілы, нажы. Такія ўкладышы можна было лёгка замяніць. Чалавек эпохі М. звычайна сяліўся на берагавых тэрасах, астанцах або на інш. павышэннях мясцовасці каля вады. Асобныя паселішчы размяшчаліся каля выхадаў крамянёвай сыравіны і адносяцца да стаянак-майстэрань. Пацяпленне клімату выклікала з'яўленне новага тыпу жытлаў — невял. па памерах (да 10—20 м$^2$) пабудоў простай канструкцыі (зямлянкі, паўзямлянкі, наземныя жытлы акруглай, авальнай ці чатырохвугольнай формы). Аснову каркаса мезалітычных жытлаў складалі галіны дрэў, жэрдкі, слупы, якія ўцяпляліся скурамі жывёл, дзёрнам, бяростай. У сярэдзіне жытлаў ці побач з імі фіксуюцца рэшткі вогнішча. Акрамя жытлаў на стаянках М. знаходзяць ямы гасп. прызначэння, месцы апрацоўкі каменнай сыравіны, крамянёвыя скарбы, кухонныя адходы і інш. Вядомы ў М. таксама пахаванні [Тэўек (Францыя), Аленявостраўскі могільнік (Расія), Звейнiекі (Латвія) і інш.]. Характэрны тып пахавання — у грунтавых ямах па абраду інгумацыі. Пахавальны інвентар прадстаўлены прыладамі працы, прадметамі ўзбраення, упрыгажэннямі, косткамі жывёл, асобныя з якіх маюць гравіроўку на паверхні ці ўяўляюць скульпт. выявы. Касцякі афарбаваны чырвонай вохрай.

На тэр. Беларусі стаянкі М. сталі вядомы ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Адным з першых тэрмін «М.» ужыў у сваіх працах К.М.Палікарповіч, але да сяр. 1960-х г. для абазначэння мезалітычных помнікаў выкарыстоўвалася паняцце «эпіпалеаліт». У Беларусі вядома каля 300 месцазнаходжанняў эпохі М. Сярод іх вылучаюцца стаянкі *пясочнароўскай культуры, кундскай культуры, бутаўскай культуры, кудлаеўскай культуры, яніславіцкай культуры.* У асобную групу вылучаны помнікі нарачанскага тыпу. На некаторых стаянках захаваліся рэшткі жытлаў і гасп. ям (Аўрамаў Бугор Веткаўскага р-на Гомельскай вобл., Берагавая Слабада, Дзедня і інш.)

*Літ.:* Монгайт А.Л. Археология Западной Европы. Каменный век. М., 1973; Мезолит СССР // Археология СССР с древнейших времен до средневековья. М., 1989; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997. *А.У.Коласаў.*

**МЕЛЬНІКО́ЎСКАЯ** Вольга Мікалаеўна (14.9. 1921, г. Сасава Разанскай вобл. — 15.4.2008), расійскі археолаг. Канд. гіст. навук (1965). Скончыла Маскоўскі ун-т (1946). Працавала ў Ін-це археалогіі АН СССР да 1988. У 1951—61 вывучала помнікі арехалогіі паўд.-ўсх. Беларусі: праводзіла раскопкі гарадзішчаў, селішчаў, могільнікаў (*Борхаў, Гарошкаў, Глыбаў, Калочын, Мілаград, Мохаў* і інш.). Абследавала каля 200 археал. помнікаў, даследаваная пл. складае каля 10 тыс. м$^2$. Вял. матэрыял раскопак абагульніла ў *мілаградскую культуру.* Выявіла і даследавала абарончыя ўмацаванні, жытлы і гасп. пабудовы плямён гэтай культуры, шматлікія вырабы прыкладнога мастацтва, у т.л. 2 скарбы жаночых упрыгажэнняў латэнскага часу (сярэбраныя і бронзавыя бранзалеты, паставыя пацеркі 5—6 ст. да н.э.), скарб с.-г. прылад, каля 100 гліняных культавых фігурак жывёл (у асн. каня) і інш. Вызначыла культ.-гандл. сувязі плямён мілаградскай культуры з інш. плямёнамі; распрацавала пытанні абсалютнай і адноснай храналогіі гэтай культуры, звязвала яе насельніцтва з *неўрамі*, якіх лічыла славянамі.

*Тв.:* Памятники раннего железного века Верхнего Поднепровья // Краткие сообщения Ин-та археологии АН УССР. Киев, 1957. Вып. 7; Древнейшие городища Южной Белоруссии // КСИИМК. М.; Ленинград, 1957. Вып. 70; Клад латенского времени из юго-восточной Белоруссии // Материалы по археологии БССР. Минск, 1957. Т. 1; Могильник милоградской культуры в дер. Горошков в Южной Белоруссии // СА. 1962. № 1; О взаимосвязи милоградской и зарубинецкой культур в Южной Белоруссии // Там жа. 1963. № 1; Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.

*Т.М.Каробушкіна.*

**МЕ́ТАД АСТЭАЛАГІ́ЧНАГА АНА́ЛІЗУ** ў археалогіі, праводзіцца пры вывучэнні касцявых і рагавых рэштках прадстаўнікоў жывёльнага свету, якія знойдзены ў час археал. раскопак помніка, асобнага аб'екта ці комплексу. Вывучэнне і ацэнка ступені прэзентацыйнасці калекцыі залежаць ад методыкі збору матэрыялу. Вызначэнне касцявых рэштках робіцца на ўзроўні відаў, сямействаў і атрадаў, па памерных класах. Статыстычныя даныя атрымліваюць згодна з прамерамі касцявых рэштках (біяметрычны, ці вымяральны, метад даследавання), ступені сцірання зубоў і стану эпіфізаў (суставных частак), па паталогіях, слядах захворванняў і загойвання пашкоджанняў, ран ад паляўнічай зброі, па пагрызах, слядах першаснай і кухоннай разборкі туш, уздзеяння агню, майстравання, утылізацыі костак з мэтай выцягвання каштоўнага тлушчу. Размежаванне астэалагічных матэрыялаў праводзіцца па наступных катэгорыях: кухонныя рэшткі, рытуальныя комплексы, сыравінныя комплексы (выбракоўкі і адходы косцеапрацоўкі, нарыхтоўкі, паўфабрыкаты), сінхронныя археал. комплексам рэшткі грызуноў, птушак, паўзуноў («сужыцеляў» і «сатрапезнікаў»), позняя ўключэнні костак норных відаў жывёл. Колькасны аналіз праводзіцца ў адпаведнасці з катэгорыямі: для кухонных рэштках гэта абсалютная колькасць вызначальных рэштках, для рытуальных комплексаў — рэальная колькасць асобін. Інтэрпрэтацыя вынікаў даследаванняў дасягаецца на базе біялагічнай інфармацыі з улікам археал. кантэксту і даных інш. археабіялагічных даследаванняў помніка. Пры публікацыі вынікаў даследаванняў указваюцца



*Да арт. **Метад астэалагічнага аналізу**. Сцегнавая косць аленя з адтулінай ад наканечніка.*



*Да арт. **Метад астэалагічнага аналізу**. Сцегнавая косць са слядамі першаснай разборкі (суставная частка адрэзана ад трубчастай).*

зыходныя даныя па рэштках усіх груп з мэтай атрымання вычарпальнай інфармацыі і магчымасцей для дакладных рэканструкцый.

*Літ.*: Антипина Е.Е. Археозоологические исследования: задачи, потенциальные возмож-ности и реальные результаты // Новейшие археозоологические исследования в России: к столетию В.И.Цалкина. М., 2003. *А.А.Разлуцкая.*

**МЕ́ТАД МАГНІТАРАЗВЕ́ДАЧНЫ**, адзін з *метадаў палявой археалагічнай геафізікі.* Пачаў ужывацца ў 1950—60-я г. ў зах.-еўрап. і сав. археалогіі для даследавання стараж. помнікаў. Высокая эфектыўнасць метаду была прадэманстравана пры аналізе дэтальных планаў паселішчаў трыпольскай культуры. Фізічнай асновай магнітаразведкі з'яўляецца наяўнасць у асобных аб'ектах археал. доследаў астаткавай намагнічанасці, якая звязана з захаваннем у прадметах вокіслаў жалеза. Заўважная доля намагнічанасці прысутнічае таксама ў абпаленай гліне і нават у абпаленым дрэве. Гэта дае магчымасць выяўляць з дапамогай М.м. стараж. печы і агнішчы, рэшткі кладкі з абпаленай цэглы, у асобных выпадках і з каменю. Магнітаразведачныя працы складаюцца з 2 этапаў: палявых доследаў і камеральнай апрацоўкі. Вымярэнні магнітнага поля ажыццяўляюцца пры дапамозе спец. геафізічных прыбораў — магнітаметраў. У працэсе палявых доследаў спачатку выконваюць разбіўку даследуемага ўчастка паралельнымі адрэзкамі — «профілямі», уздоўж якіх вымяраюць магнітнае поле. Адлегласці паміж «профілямі» і шаг вымярэнняў выбіраюць у залежнасці ад чакаемых памераў аб'екта, які перасякаецца «профілямі» не меней, чым у двух месцах. У выпадку фіксацыі аб'екта для ўдакладнення яго памераў сетку назірання над ім павялічваюць. Вынікі вымярэнняў на кожным пункце фіксуюць у палявым журнале. Пасля завяршэння палявога этапу праводзяць камеральную апрацоўку вынікаў. Паводле лічбавых значэнняў будуюць карты графікаў магнітнага поля і карты анамалій магнітнага поля. Звычайна аб'екты вылучаюць на аснове аналізу анамалій. Інтэрпрэтацыю атрыма-

ных матэрыялаў абавязкова ажыццяўляюць сумесна археолагі і геафізікі. У 2008—09 у Беларусі для правядзення «хуткай» магнітаразведкі сканструяваны малагабарытны магнітаметр «Магнум». Актыўныя магнітаразведачныя працы былі праведзены ў пач. 2000-х г. на помніках *Лучна 1*, *Лісна*, *Княжыцы*, *Глуск*. Найб. эфектыўна метад праявіў сябе на вясковых паселішчах, дзе былі выяўлены рэшткі печаў, спаленых пабудоў.

*Літ.*: Мельникова А.В., Смекалова Т.Н. Археолого-геофизическое исследование памятников Причерноморья, Подвинья, Армении // Методы естественных наук в археологии. М., 1987. *М.В.Клімаў, С.Г.Сядоў.*

**МЕ́ТАДЫ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫХ ДАСЛЕ́ДАВАННЯЎ** падраздзяляюцца на: 1) методыку пошуку; 2) даследаванні археал. помнікаў.

**Методыка пошуку**. Першапачаткова атрымліваецца папярэдняя інфармацыя ў выніку азнаямлення з калекцыямі, архіўнымі звесткамі і літаратурай, выкарыстоўваюцца старыя карты, малюнкі, фотаздымкі, даныя геалогіі, гідралогіі, звесткі мясц. жыхароў. Другім этапам з'яўляецца археал. абследаванне тэр. ў мэтах адкрыцця і вывучэння помнікаў, якія прасочваюцца на паверхні, без ажыццяўлення раскопак. Некаторыя з іх выяўляюцца лёгка (курганы, валы крэпасцяў, гарадзішчы), інш. не могуць быць знойдзены без пільнага абследавання тэр. ці праяўляюцца выпадкова (напр., пры разворванні глебы). Стараж. могільнікі, як грунтавыя, так і разараныя курганы, выяўляюцца па рэштках костак і агнішчаў, цёмных плямах на паверхні палёў. Такім жа чынам знаходзяць і стараж. паселішчы, асн. прыкметай наяўнасці якіх з'яўляецца кераміка. Трэці этап — збор паверхневага матэрыялу з разараных палёў, ям і равоў на гарадзішчах, у пашкоджаных курганах. Калі помнік абследуецца ўпершыню, праводзіцца інструментальная здымка яго плана. У шэрагу выпадкаў выкарыстоўваецца *аэрафатаграфічны метад разведкі*. Аэрафотаздымкі могуць даць новае значэнне вядомым аб'ектам, аблегчыць тлумачэнне прыкмет відавочных, але незразумелых з зямлі, выявіць рысы вельмі буйных аб'ектаў.

**Даследаванні археалагічных помнікаў**. У залежнасці ад віду помніка прымяняюць розныя метады яго даследавання.

1) Раскопкі могуць ажыццяўляцца наступнымі спосабамі.

Шурф разведачны служыць для папярэдняй характарыстыкі магутнасці культ. пласта і стратыграфіі помніка, культ. прыналежнасці археал. матэрыялаў. Мае абмежаваную пл. (1 × 1 ці 2 × 2 м) і глыб. ад дзённай паверхні да ўзроўню мацерыка. Пазней для больш поўнага даследавання культ. пластоў ці буд. гарызонтаў шурф можа быць пашыраны да памераў раскопу.

Раскоп мае пл. ад 24 м$^2$ і больш. Арыентаваны па баках свету. Разбіваецца на ўмоўныя квадраты пл. 1 × 1 альбо 2 × 2 м. Раскопваецца пластамі таўшч. ад 5—10 да 20 см, максімальная глыб. даходзіць да ўзроўню мацерыка. Часам, калі штосьці перашкаджае [значны прыток грунтавых вод, зададзеная (праектная) глыб. ўскрыцця культ. пласта і інш.], раскоп застаецца незавершаным.

*Мацярык* — гэта паверхня геалагічных адкладаў, на якой утвараецца культ. пласт у выніку жыццядзейнасці людзей. Пры зачыстцы яго паверхні ў раскопе ці шурфе могуць быць выяўлены заглыбленыя рэшткі пабудоў, пахаванні і інш.

*Стрып-метад* — спосаб раскопак вял. плошчы пры абмежаваных магчымасцях. Помнік капаецца траншэямі. Пасля таго як першая траншэя завершана, у яе скідваюць грунт з наступнай, якая прымыкае паралельна, і г.д. Недахоп метаду ў тым, што пры яго выкарыстанні для вывучэння даступны суцэльны разрэз толькі па адной восі і стратыграфія помніка не можа адначасова быць вывучана ва ўсёй паўнаце.

*Сектарны метад* — спосаб разбіўкі пры раскопках акруглых збудаванняў, курганоў, ям ці жытлаў на 2 ці 4 сектары. Выбарка 2 супрацьлеглых сектараў агаляе папярочны разрэз уздоўж кожнай асн. восі і дазваляе ўявіць стратыграфію помніка.

2) Вывучэнне культурнага пласта. Раскопкі павінны аднаўляць карціну стварэння помнікаў археалогіі. Дзеля гэтага патрэбна вывучыць інфармацыю, якая закладзена ў культ. пласце шурфа, раскопу ці траншэі, у выпучаных на іх сценках і паверхні мацерыка стратыграфічных слаях.

*Зачыстка* — тэхніка асцярожнага загладжвання паверхні зямлі з мэтай выяўлення колеравых адрозненняў. Прымяняецца пры падрыхтоўцы да замалёўкі сценак раскопу ці шурфа, для вывучэння мацерыка. З дапамогай зачысткі выяўляюцца дэталі канструкцый пабудоў, ямы і сляды слупоў, рэшткі пахаванняў, агнішчы і інш.

*Стратыграфічныя слаі* ўтвараюцца ў адпаведнасці з геалагічным законам: адклад, размешчаны вышэй другога, павінен сфарміравацца пазней, чым ніжэйляжачы. У археал. навуцы гэты прынцып дзейнічае з некаторымі агаворкамі (магчыма спаўзанне пласта, перамешванне ў выніку перакопаў і інш.). Закон дзейнічае і ў тым выпадку, калі адзін адклад праразае другі, а не толькі перакрывае яго. Стратыграфія дазваляе адрозніваць адзін пласт ад другога паводле колеру, складу ці зместу, тлумачыць паходжанне напластаванняў (прыроднае ці штучнае, у выніку зруйнавання вышэйляжачай пабудовы і г.д.). На чарцяжах адклады нумаруюцца па парадку, пачынаючы з найб. стараж., што адпавядае парадку іх фарміравання (вертыкальная стратыграфія).

На аб'ектах, якія знаходзяцца на адной плоскасці, даследуецца гарызантальная стратыграфія. У шэрагу выпадкаў удаецца прасачыць, якая частка аднаслойнага паселішча больш старажытная. Гарызантальная стратыграфія аказваецца карыснай пры вывучэнні стараж. могільнікаў: найб. раннія пахаванні менш аддалены ад паселішчаў. Метад гарызантальнай стратыграфіі трэба прымяняць з асцярожнасцю, таму што ён менш дакладны і дапускае выключэнні.

*Літ.*: Авдусин Д.А. Полевая археология СССР. 2 изд. М., 1980; Мартынов А.И. Археология. М., 2002. Левко О.Н. Введение в археологию. Могилев, 2009.

*В.М.Ляўко.*

**МЕ́ТАДЫ ДАТАВА́ННЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ**, спалучэнне метадаў адноснага датавання, накіраваных на вызначэнне ўзросту археал. знаходак і ўстанаўленне даты археал. аб'ектаў. Найб. дакладнымі і пашыранымі ў выкарыстанні з'яўляюцца наступныя метады.

**Стратыграфічны метад**. Пры пабудове адносных храналогій і перыядызацый, засн. на стратыграфічных назіраннях, выкарыстоўваюцца паняцці «стратыграфічная калонка» (паслядоўнасць пластоў), «ніжняя дата» (найб. стараж. ў пэўнай калонцы) і «верхняя дата» (найб. позняя). Да праблем стратыграфічнага датавання адносяцца: сярэдняя працягласць функцыянавання пабудоў з недаўгавечных матэрыялаў і магчымасць абсалютных храналагічных адзнак; размяшчэнне знаходак у пласце і нявырашаная (без прыцягнення комплексаў аднакратнага фарміравання) дылема паміж выпадковымі раннімі (познімі) знаходкамі і рэальным бытаваннем першых (апошніх) рэчаў.

**Тыпалагічны метад** дазваляе супаставіць кожную знойдзеную рэч з ужо вядомымі і вызначыць час яе адноснага датавання. Паслядоўная дацыроўка вывучае тыпалогію зменлівых форм артэфактаў. Напр., любая група магіл можа быць тыпалагічна прыроўнена да аднаго з варыянтаў і змешчана ў паслядоўнасці на шкале адносных дат. Аднак сістэма патрабуе вял. колькасці закрытых комплексаў, якія ўтрымліваюць узоры некалькіх тыпалагічных калонак. Храналагічныя серыяцыі — паштэмпельная сістэматызацыя манет, сістэматызацыя фарматаў стараж.-рус. плінфы і інш. Працэдура сінхранізацыі на падставе індывідуальных знаходак з улікам спецыфікі вылучэння датуючых тыпаў, вызначэнне храналогіі культ. пласта. Праверка карэктнасці храналагічнай сістэмы (адсутнасць супярэчлівасці) па матэрыялах комплексаў розных тыпаў. Працэдура сінхранізацыі на падставе статыстыкі масавых знаходак (статыстыка масавых знаходак у стратыфікаваных пластах). Існуе праблема супастаўлення стратыграфічных калонак на розных участках аднаго помніка і на розных помніках з улікам вузкай лакальнасці большасці керамічных шкал.

Магчыма выкарыстанне інш. відаў адноснага датавання ў археалогіі.

**Перакрыжаванае датаванне**. Пры адсутнасці геахраналагічных даных магчыма ўстанавіць адначасовасць 2 культ. груп па сувязях паміж імі. Калі ў культуры А знойдзены прадмет, зроблены ў культуры В, то А павінна быць адначасовай ці больш позняй у адносінах да В. Тэрмін «перакрыжаваная дацыроўка» павінен ужывацца, калі прадмет культуры А таксама сустракаецца ў комплексе з культурай В. Тады час бытавання абедзвюх культур супадае хаця б часткова.

**Датаванне комплексаў**: аднаразовага фарміравання (устанаўленне інтэрвальных і верагодных дат), непарыўнага фарміравання (вызначэнне мінімальнай даты функцыянавання комплексу, з магчымасцю ўдакладнення з улікам дат стратыграфічна звязаных комплексаў, перспектывай удакладнення храналогіі па меры дэталізацыі храналагічнай сістэмы), шматразовага фарміравання (уключае карэкцыроўку набору тыпаў і іх дат, улічваецца нераўнамернасць працэсу абнаўлення набору тыпаў, унутраныя абмежаванні дакладнасці рэчавай храналогіі, лакальнасць храналагічных сістэм).

**Дацыроўка на падставе** клеймаў. У аснове — стараж. традыцыя кляймення вырабаў. Сляды аднаго кляйма служаць сродкам сінхранізацыі дат вырабу і бытавання для вырабаў з керамікі ці шкла. Улічваюцца эпіграфічныя і гіст. магчымасці дацыроўкі клеймаў эпохі развітога сярэдневякоўя і Новага часу.

*Літ.*: Авдусин Д.А. Полевая археология СССР. 2 изд. М., 1980; Мартынов А.И. Археология. М., 2002; Левко О.Н. Введение в археологию. Могилев, 2009.

*В.М.Ляўко.*

**МЕ́ТАДЫ ПАЛЯВО́Й АРХЕАЛАГІ́ЧНАЙ ГЕАФІ́ЗІКІ**, сукупнасць прыродазнаўча-навуковых метадаў для вывучэння археал. аб'ектаў і комплексаў, якія скрыты ў культ. напластаваннях, страцілі знешнія адметныя прыкметы (грунтавыя могільнікі, падмуркі разбураных архіт. збудаванняў), наўмысна схаваных (скарбы і да т.п.), помнікаў гідраархеалогіі і аб'ектаў, якія затанулі. Дазваляюць атрымаць living разнабаковыя характарыстыкі элементаў культ. пласта, істотна ўдакладняюць атрыманую ў выніку раскопак інфармацыю. Прымяняюцца для пабудовы дэталёвых планаў пахавальных аб'ектаў, пошукаў скопішчаў керамічнага матэрыялу, ачагоў, вывучэння равоў і валоў, ганчарных і металургічных печаў, пахаванняў і інш.

У адрозненне ад археал., геафізічныя метады даследаванняў з'яўляюцца неразбуральнымі,

спрыяюць стварэнню кадастраў археал. помнікаў і карт ахоўных гісторыка-археал. зон, кансервацыі перспектыўных участкаў культ. пласта. Геафізічная разведка асабліва актуальная пры экстраных даследаваннях вял. тэрыторый перад забудовай, пры адсутнасці вонкавых прыкмет археал. аб'ектаў, а таксама пры пагрозе знішчэння апошніх. Выкарыстанне геафізічных метадаў дазваляе замяніць суцэльныя раскопкі выбарачнымі ці знізіць іх працаёмістасць.

Гал. метады дыстанцыйных даследаванняў для вывучэння археал. аб'ектаў: электра-, магніта-, сейсма-, гравіразведка, эхалакацыя, індыкацыя металаў (металашукальнікі).

Электраразведка засн. на ўласцівасці ўсіх фіз. асяроддзяў (горныя пароды, гліна, пясок, глеба) праводзіць электрычны ток па-рознаму. Пры выяўленні рэштак каменнай ці цэглавай муроўкі, рыхлых запаўненняў (магіл) і г.д. мяняецца супраціўленне. Адзін з асн. метадаў электраразведкі ў археалогіі — сіметрычнае электрапрафіліраванне, засн. на вывучэнні кампанента прыроднага ці штучнага поля ўздоўж профілю пры абмежаванай ці фіксіраванай глыбіні пранікнення тока. Найлепшыя вынікі дае пры складанні карт пахаваных архіт. рэштак, трасіраванні заплыўшых равоў і г.д. Метад вертыкальнага электрычнага зандзіравання (ВЭЗ) — прасвечванне слаістай тоўшчы зямлі пастаянным ці пераменным электрычным токам. Прымяняецца пры вывучэнні пахаванага рэльефу карэнных парод, унутранай структуры зямельных абарончых збудаванняў, помнікаў з вертыкальна неаднароднымі культ. напластаваннямі і г.д.

Магнітаразведка выкарыстоўваецца для пошуку і даследавання археал. аб'ектаў, у т.л. падводных, якія валодаюць астаткавай ці індукцыйнай намагнічанасцю. Пры даследаванні метадам планшэтаў плошча папярэдне разбіваецца на квадратныя ці прамавугольныя ўчасткі (планшэты) памерамі 10 × 10 м, 20 × 20 м ці 25 × 25 м. На кожным з іх выконваецца мікрамагнітная здымка маштаба 1:100, 1:200 ці 1:250 (для вельмі буйных аб'ектаў дапушчальны маштаб 1:400, 1:500). У выніку складаецца карта прырашчэнняў модуля вектара геамагнітнай індукцыі ў ізадынамах, як правіла, практычна эквівалентная археал. плану аб'екта. Аднак для лясістых участкаў мясцовасці, у хмызняку, на балотах і г.д. больш эфектыўным з'яўляецца метад свабоднага пошуку па адвольным маршруце без папярэдне размечанай сеткі. Маршрут і адлегласць паміж замерамі выбіраюць такім чынам, каб увесь участак у канчатковым выніку аказаўся перакрытым сеткай вымярэнняў не радзей 1 × 1 м ці 2 × 2 м; пры гэтым выяўляюць кропкі — экстрэмумы анамалій. Пасля іх маркіроўкі выконваюць профільную здымку. Па яе выніках будуюць графікі анамалій і робяць іх папярэднюю інтэрпрэтацыю. Перавагі метаду: прастата, высокая прадукцыйнасць і надзейнасць выяўлення. Гл. таксама *Метад магнітаразведачны.*

Сейсмаразведка — метад вывучэння геалагічных аб'ектаў з дапамогай пругкіх ваганняў — сейсмічных хваляў. Засн. на залежнасці хуткасці іх распаўсюджвання ад уласцівасцей геалагічнага асяроддзя. Метад найб. эфектыўны пры вывучэнні грунтоў, якія падсцілаюць археал. помнікі, унутранай пабудовы земляных абарончых збудаванняў, для лакалізацыі падземных пустот і пахаваных архіт. аб'ектаў. Найлепшыя вынікі атрымліваюцца ў комплексе з ВЭЗ, а таксама кантрольным бурэннем.

Гравіразведка (гравітацыйнае зандзіраванне) засн. на вымярэнні поля сілы цяжару. У археалогіі метад прымяняецца рэдка; найб. мэтазгодна прымяняць у комплексе з электра- ці сейсмаразведкай для ўзаемнай верыфікацыі вынікаў.

Пры эхалакацыі становішча аб'екта вызначаецца па часе затрымкі вяртання адбітай хвалі. Прымяняецца для пошуку аб'ектаў, якія затанулі, знаходзяцца на дне ці ў рыхлых донных адкладах вадаёмаў.

Індыкацыя металаў — выкарыстанне металашукальнікаў для выяўлення ў разараным пласце (збор паверхневага матэрыялу) металічных рэчаў, шлакаў, якія ўказваюць на былыя месцы выплаўкі металу. Усе знаходкі абавязкова павінны адзначацца на плане помніка. Выкарыстанне металашукальніка на помніку з некранутым культ. пластом абмяжоўваецца фіксацыяй на плане сігналаў без выбірання з грунту прадметаў, якія іх выклікалі.

*Літ.*: Левко О.Н. Естественно-научные методы в полевой археологии. Вып. 1. М., 1997; Яе ж. Введение в археологию. Могилев, 2010. *В.М.Ляўко.*

**МЕ́ТАДЫ ПРЫРОДАЗНА́ЎЧЫХ НАВУ́К** у археалогіі. Выкарыстоўваюцца пры правядзенні даследаванняў археал. помнікаў і аб'ектаў з пункту гледжання іх фізічных, біялагічных, хімічных і інш. уласцівасцей. Першыя спробы выкарыстоўваць прыродазнаўчыя навукі (геаграфія, біялогія, геалогія, хімія, астраномія і інш.) у археалогіі былі яшчэ ў 2-й пал. 19 ст. Аднак сістэмнае і комплекснае значэнне для археал. даследаванняў яны набылі толькі з 1940—60-х г. Асобныя прыродазнаўчыя метады прыстасоўваліся пад патрэбы ўласна археал. навукі, паступова ствараліся памежныя даследчыя накірункі. Некаторыя сучасныя традыц. для археалогіі метады даследавання (стратыграфія, картаграфія, тыпалогія і інш.) вылучыліся ў свой час як самастойныя з прыродазнаўчых навук.

Для павышэння эфектыўнасці археал. разведак і раскопак выкарыстоўваюць *метады палявой*

*археалагічнай геафізікі* (у т.л. *метад магнітаразведачны*), геахіміі і геабатанікі. Многія з іх праводзяць у комплексе з тапаграфічнымі даследаваннямі і аэрафотаздымкай мясцовасці. Вызначэнне адноснай і абсалютнай храналогіі археал. помнікаў (перш за ўсё найб. стараж. дапісьмовых перыядаў) здзяйсняюць з дапамогай геалагічнага датавання, радыеізатопных метадаў, археамагнетызму, тэрмалюмінесцэнцыі, дэндрахраналогіі, радыевугляроднага метаду. У некаторых выпадках для датавання костак выкарыстоўваюць ультрагукавы метад. Для вывучэння тэхналогій мінулага (стараж. металургіі і металаапрацоўкі і інш.) праводзяць хімічны, металаграфічны, спектральны аналіз. Для ідэнтыфікацыі складу сыравіны, матэрыялаў і карысных выкапняў ужываюць мінералагічныя метады. Канцэнтрацыі хімічных элементаў у археал. артэфактах без разбурэння ўзору ўстанаўліваюць па выніках нейтроннаактывацыйнага аналізу, па мікрадолях. Каменныя вырабы, кераміку даследуюць петраграфічным метадам. Комплекснае вывучэнне стараж. керамічных вырабаў праводзяць на падставе керамалагічных аналізаў, сляды ўжывання каменных, крамянёвых, касцяных і інш. рэчаў — трасалагічным метадам. З апошняй чв. 20 ст. актыўна праводзяць археолага-экалагічныя, археолагагеаграфічныя даследаванні, якія накіраваны не толькі на вывучэнне прыроднага асяроддзя стараж. чалавека, але і на раскрыццё праблем антрапагеннага ўздзеяння на прыроду, у т.л. ў выніку гасп. і інш. дзейнасці. Для гэтых мэт выкарыстоўваюць паліналагічныя (спора-пылковыя) аналізы і інш. метады палеабатанікі (археабатанікі), палеазаалогіі (археазаалогіі), метады палеагеаграфіі (кліматалогіі, геамарфалогіі, глебазнаўства, седыменталогіі) і інш. Прастору стараж. паселішча, інтэнсіўнасць асваення тэр. вакол яго вызначаюць фасфатнымі аналізамі. Віды арганічных субстанцый, якія захаваліся на артэфактах (напр., на посудзе) устанаўліваюць з дапамогай храматаграфіі. Выкарыстанне Геаграфічных Інфармацыйных Сістэм (Geographic Information Systems, GIS) дазваляе аўтаматычна злучаць археал. даныя з камп'ютэрнымі геаграфічнымі інфармацыйнымі базамі (напр., карт рознага тыпу). Вызначэнне фізічных характарыстык людзей мінулага (узрост, пол, паталогіі, прычыны траўм і смерці, этапы эвалюцыі, спосабы харчавання і лекавання, расавыя адзнакі, рэканструкцыя аблічча і інш.), дэмаграфічныя даследаванні стараж. папуляцый, аналіз вынікаў генетычнага вывучэння людзей мінулых эпох атрымліваюць з дапамогай метадаў біялагічнай (фізічнай) антрапалогіі. Некаторыя М.п.н. актыўна выкарыстоўваюць для захавання, кансервацыі, рэстаўрацыі, музеефікацыі помнікаў і асобных знаходак. У Беларусі дасягнуты пэўныя поспехі ў металаграфічных, археазаалагічных, антрапалагічных, керамалагічных даследаваннях, а таксама ў выкарыстанні метадаў геаграфіі, радыевугляроднага аналізу, археабатанікі, петраграфіі і некаторых інш. прыродазнаўчых навук.

*Літ.*: Использование методов естественных наук в археологии. Киев, 1978; Естественные науки и археология в изучении древних производств. М., 1982; Скрыпчанка Т.С. Аб крыніцах і метадах вывучэння старажытнарускага шкла // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1983. № 1; Ваганов П.А. Физики дописывают историю. Ленинград, 1984; Щапова Ю.А. Естественнонаучные методы в археологии. М., 1988; Зерницкая В.П., Симакова Г.И., Павлова И.Д. Признаки хозяйственной деятельности человека в пыльцевых спектрах голоцена Беларуси // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002; Калечиц Е.Г. Человек и среда обитания. Восточная Беларусь. Минск, 2003; Кривальцевич Н.Н., Разлуцкая А.А., Бахарев В.А. Некоторые результаты археозоологических исследований на неолитическом поселении Кузьмичи 1 (Предполесье Беларуси) // Человек, адаптация, культура. М., 2008.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**МЕТАЛАГРА́ФІЯ**, навука пра структуру (будову) металаў і сплаваў, састаўная частка металазнаўства. Вывучае заканамернасці ўтварэння структуры, даследуе макра- і мікраструктуру металаў, а таксама змены механічных, электрычных, магнітных, цеплавых і інш. фізічных уласцівасцей металу ў залежнасці ад змены яго структуры. Мае важнае значэнне для даследавання металічных прадметаў, знойдзеных у час археал. раскопак. Дазваляе ўстанавіць, з якога металу зроблены прадмет, якія віды апрацоўкі (зварка, цэментацыя, загартоўка і інш.) выкарыстоўвалі пры яго вырабе, ацаніць ступень якасці прылад працы, зброі, гасп. прадметаў. Вынікі металаграфічных даследаванняў даюць магчымасць прасачыць развіццё металургіі і тэхналогіі металаапрацоўкі ў розныя гіст. перыяды.

*Літ.*: Металлография железа: пер. с англ. М., 1972. Т. 1—3; Беккерт М. Мир металла: пер. с нем. М., 1980.

*М.Ф.Гурын.*

**МЕТАЛУРГІ́Я** (ад грэч. metallurgeo здабываю руду, апрацоўваю металы), у першапачатковым значэнні працэс атрымання металаў і сплаваў з іх прыродных злучэнняў ці інш. сыравіны, а таксама працэсы, якія надаюць металічным сплавам новыя ўласцівасці шляхам змянення іх хімічнага саставу і структуры (будовы). Да М. адносяцца: працэсы апрацоўкі руд і атрымання металаў, іх рафінаванне, вытворчасць сплаваў, хімічная, хімічна-тэрмічная і тэрмамеханічная апрацоўка металаў. У Беларусі М. жалеза ўзнікла ў сярэдзіне 1-га тыс. да н.э. Сыравінай служылі балотныя і лугавыя руды (бурыя жалезнякі). Плаўка праводзілася ў домніцах, у якасці паліва выкарыстоўваўся

драўняны вугаль. Маса металургічнай прадукцыі вагалася ад некалькіх дзесяткаў да соцень грамаў. Паступова аб'ём вытворчасці жалеза павялічваўся, у часы Кіеўскай Русі ён дасягаў 3—6 кг за адзін цыкл. З 14 ст. жалеза выплаўлялі на руднях. Спачатку ўсе работы вяліся ўручную, пазней з'явіўся вадзяны прывод. На працягу многіх стагоддзяў М. жалеза ажыццяўлялася прамым аднаўленнем з руды. З узнікненнем металургічных заводаў у к. 18 ст. ў маёнтку Руда пад Брэстам (Маларыцкі р-н) і ў Вішневе (Валожынскі р-н) Ашмянскага пав. стаў шырока практыкавацца двухстадыйны спосаб: выплаўка чыгуну ў доменнай печы, а затым перапрацоўка яго ў пудлінгавых печах (фрышэрках) у жалеза і сталь.

*Літ.:* Гурин М.Ф. Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тысячелетие н.э.). Минск, 1982; Kula W. Szkice o manufakturach w Polsce XVIII wieku. T. 1—2. Warszawa, 1956; Osiński J. Opisanie polskich żelaza fabryk. Warszawa, 1782. *М.Ф.Гурын.*



***Мячы** эпохі вікінгаў: 1 — з Брылёўскага грашова-рэчавага скарбу; 2 — з Віцебска; 3 — з ваколіц Віцебска.*

**МЕЧ**, зброя з прамым клінком і адкрытым дзяржаннем. Найб. стараж. (5 ст. да н.э.) М. на тэр. Беларусі — акінак — знойдзены каля в. *Асарэвічы*, фр-т М. 6 ст. н.э. знойдзены на гарадзішчы *Нікадзімава.* На тэр. Беларусі М. распаўсюджваюцца з к. 9 ст. Звычайны сярэдневяковы еўрап. М. быў двухлязовым, зрэдку выкарыстоўваліся аднлязовыя. У залежнасці ад формы і сячэння клінка сярэдневяковыя М. падзяляюцца на сякучыя, сякуча-колючыя, колюча-сякучыя і колючыя. М. эпохі вікінгаў (к. 9 — 1-я пал. 11 ст.) належаць да каралінгскага тыпу. Яны мелі шырокія прамыя, пераважна сякучыя клінкі. Знойдзены ў Віцебску, Полацку, Гродне, Ваўкавыску, курганных могільніках *Гарадзілава і Гурковічы*, на гарадзішчы *Франопаль*, у складзе *брылёўскага грашова-рэчавага скарбу.* На клінках М. з Полацка і ваколіц Віцебска нанесена кляймо ULFBERHT, што сведчыць аб іх паходжанні з франкскіх майстэрняў на сярэднім Рэйне. У 11—13 ст. на тэр. Беларусі выкарыстоўваліся М. паўд.-ўсх. прыбалтыйскіх і агульнаеўрап. раманскіх тыпаў, якія адрозніваліся больш вузкім сякуча-колючым клінком. Цэлыя М. паўд.-ўсх. прыбалтыйскіх тыпаў і іх фр-ты знойдзены ў Гродне, Друцку, Мінску, Наваградку, Гальшанах, ваколіцах Віцебска, на гарадзішчах *Вішчын*, *Вусце*, *Свіслач*, курганных могільніках *Ашмянец*, Гурковічы. Раманскія М. і іх фр-ты знойдзены ў Брэсце, Гомелі, Мінску, Оршы, Слуцку, на гарадзішчы *Маскавічы*, курганным могільніку Гурковічы. Знаходкі нарыхтовак крыжавін М. з ювелірнай майстэрні ў Наваградку і *гомельскай збраевай майстэрні* сведчаць, што ў 12—13 ст. на тэр. Беларусі выраблялiся дэталі крыжавін М. паўд.-ўсх. прыбалтыйскіх і агульнаеўрап. раманскіх тыпаў, якія затым манціраваліся да прывазных клінкоў. М. насіўся ў похвах, якія ў 10—13 ст. часта аздабляліся наканечнікамі з бронзы, зрэдку з жалеза. З 14 ст. найб. папулярнасцю карысталіся вял. М. з паўтара- ці двухручным дзяржаннем. Яны былі характэрны для цэнтр.-еўрап. рэгіёна, у адрозненне ад паўд.-зах. краін, дзе аддавалі перавагу «малому» аднаручнаму М. Вял. колюча-сякучыя М. знойдзены каля Гродна і ў Крычаве. Пераважна для колючых удараў прызначаліся паўтараручныя М., знойдзеныя ў Старых Дарогах, каля Полацка, Ліды. Варыянтам М. з доўгім колючым клінком з'яўляўся канчар, які ўжываўся кавалерыстамі. Пехацінцы ВКЛ маглі выкарыстоўваць спецыяльныя кароткія ці, наадварот, вельмі доўгія (звыш 1,5 м) двухручныя М. Акрамя баявых, М. мелі і рэпрэзентацыйныя функцыі, таму яны часам багата аздабляліся. На клінках маглі змяшчацца клеймы вядомых майстроў ці вытворчых цэнтраў, напр., т.зв. «пасаўскі

воўк», таксама сімвалічныя надпісы. Выкарыстоўваліся М. і ў катаўскай справе (М. віленскага ката 16 ст.). Яны вызначаліся масіўным клінком з абсечаным штыхом, што тлумачыцца іх спецыфічнымі функцыямі. У ВКЛ М. выраблялiся мясц. майстрамі ці завозіліся з-за мяжы, ужываліся М. састарэлых тыпаў. У 17 ст. М. выходзяць з баявога ўжытку.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 1. Мечи и сабли IX—XIII вв. М.; Ленинград, 1966; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008; Плавінскі М.А. Нарысы гісторыі клінковай зброі X—XIII стагоддзяў на Беларусі. Мінск, 2009; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. Warszawa, 1982; Głosek M. Miecze środkowoeuropejskie z X—XV w. Warszawa, 1984; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989; Kazakevičius V. IX—XIII a. baltų kalavijai. Vilnius, 1996.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**МІГÓВА**, археалагічныя помнікі — стаянка каменнага веку і сярэдневяковы могільнік каля в. Мігова Гродзенскага р-на Гродзенскай вобл.

Стаянка за 1,2 км на ПнЗ ад вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Выяўлена ў 2003 у час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС (В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі). Памеры 180 × 30—40 м. У 2010 В.Л.Лакіза даследаваў 113 м² у паўд., цэнтр. і паўн. частках стаянкі. Культ. пласт паўд. часткі помніка знішчаны. Ва ўсх. і цэнтр частках яго таўшч. 0,3—0,5 м. Знойдзены каля 250 крамянёвых артэфактаў — фр-т нуклеуса, адшчэпы, пласціны, скрабкі, нажы на пласцінах (укладышы), камбінаваныя прылады, фр-ты кругавой неарнаментаванай керамікі. Культуравызначальныя рэчы адсутнічаюць.

Могільнік сярэдневяковага часу ў ваколіцах вёскі на правым беразе р. Нёман, не захаваўся. У 1935 даследаваў дырэктар Гродзенскага музея Ю.Ядкоўскі. Палявая дакументацыя і археал. матэрыялы з раскопак могільніка, якія захоўваюцца ў Гродзенскім гісторыка-археал. музеі, уведзены ў навук. зварот Н.А.Кізюкевіч і Ю.В.Юркавец. У мужчынскіх і жаночых пахаваннях з каменнымі абставамі і канструкцыямі ўтрымлівалася вял. колькасць разнастайных артэфактаў: кругавыя гаршкі і іх фр-ты, прасліцы, упрыгажэнні (скроневыя кольцы, пацеркі, пярсцёнкі), спражкі, наканечнік стралы. Могільнік адносіцца да т.зв. каменных курганоў ці помнікаў пераходнага да каменных магіл тыпу з трупапалажэннем. Мае блізкія аналогіі з пахаваннямі каля вёсак Каўпакі Гродзенскага і Падрось Ваўкавыскага р-наў і магіламі ў каменных абставах на тэр. Мазовіі і Падляшша (Польшча). Датуецца 10—13 ст.

*Літ.*: Кізюкевіч Н., Юркавец Ю. Матэрыялы могільніка каля в. Мігова (з даследаванняў Ю.Ядкоўскага) // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22.

*В.Л.Лакіза.*

**МІЖЛЕДАВІКÓЎІ** (інтэргляцыялы), эпохі працяглых пацяпленняў паміж зледзяненнямі ў *антрапагене*. Ад інтэрстадыяльных пацяпленняў (час пацяплення клімату і значнага скарачэння плошчы ледавіка паміж 2 стадыямі аднаго зледзянення) адрозніваюцца поўным знікненнем ледавіковага покрыва. У час М. пачыналіся працэсы згладжвання ледавіковых форм рэльефу, ішло паглыбленне рачных далін, назапашванне алювіяльных, азёрных і балотных адкладаў, утварэнне глеб. Для эпох М., якіх на тэр. Беларусі па розных ацэнках налічвалася ад 2 да 7, устаноўлена адпаведная перыядычнасць у фарміраванні і распаўсюджанні расліннага покрыва. На пач. і ў канцы М. ўся тэр. краіны была пакрыта бярозавымі і хваёвымі лясамі. Паступова яны змяняліся мяшанымі, а ў оптымум М. да іх далучаліся шыракалістыя пароды і пачынаўся адваротны працэс.

Упершыню на тэр. Беларусі міжледавіковыя адклады вылучыў М.І.Крыштафовіч. У наш час яны вывучаюцца з дапамогай геалагічных, палеанталагічных і археал. метадаў, што дае падставы для стратыграфічных пабудоў антрапагену. Сучасны геалагічны перыяд — галацэн з'яўляецца незакончаным міжледавікоўем.

*Літ.*: Геология СССР. Белорусская ССР. М., 1971. Т. 3; Марков К.К. О содержании понятий «ледниковая эпоха» и «межледниковая эпоха» // Изв. Гос. Геогр. о-ва. 1939. Т. 71, вып. 7; Геология Беларуси. Минск, 2001.

*А.Г.Калечыц.*

**МІКАЛÁЕЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі — стаянкі эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.

Стаянка-1 на паўд. ускраіне вёскі, на краі дугападобнага выступу правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Выявіў у 1976 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і кераміка прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай, нёманскай неалітычнай культур, кола культуры шнуравой керамікі.

Стаянка-2 за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на дзюнападобным павышэнні левабярэжжа р. Нёман, у вусці р. Гавязнянка. Выявіў у 2009 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт 0,6 м. Знойдзены артэфакты *нёманскай неалітычнай культуры* і сярэдневяковага часу.

Стаянка-3 за 2 км на ПнЗ ад вёскі, за 0,5 км на ПдУ ад музея Якуба Коласа. Стаянка займае парослую лесам дзюну памерамі 80 × 30 м, выш. 2—3 на правабярэжжы р. Нёман. Выявіў у 2004 В.С.Абухоўскі. У цэнтр. частцы прасочваецца культ. пласт да 0,4 м, інтэнсіўна насычаны артэфактамі. Сярод знаходак крамянёвых вырабаў і фр-таў ляпной керамікі, вылучаюцца некалькі




*Да арт. **Мікалаеўшчына**. Крамянёвыя вырабы і кераміка верхнянёманскай (русаковіцкай) групы тшцінецкага культурнага кола.*

абломкаў ад арнаментаванага гаршка ранняга перыяду бронзавага веку. Датуецца 2-й пал. 2-га тыс. да н.э., адносіцца да верхнянёманскай (русаковіцкай) групы помнікаў тшшінецкага культ. кола.

*Літ.*: Лакіза В.Л., Абухоўскі В.С. Археалагічныя разведкі на Беларускім Панямонні // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20. *В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.*

**МІКЛЯ́ЕЎ** Аляксандр Міхайлавіч (9.9.1934, г. Санкт-Пецярбург — 29.1.1993), расійскі археолаг, доктар гіст. навук (1993). З 1960 працаваў у Эрмітажы. Вывучаў помнікі каменнага і жал. вякоў у басейнах рэк Зах. Дзвіна і Ловаць, у Смаленскай вобл. (у асн. у Веліжскім р-не) у 1968 і з 1972. Адкрыў і даследаваў свайныя неалітычныя паселішчы каля вёсак Ястраб і Сярцея, рэшткі самай стараж. на Смаленшчыне вытворчасці жалеза, помнікі ранняга неаліту ў в. Рудня і інш. Распрацаваў і першым выкарыстаў метады падводнай археалогіі пры даследаванні шэрага неалітычных паселішчаў, помнікаў культуры доўгіх курганоў. Абгрунтаваў новы накірунак у навуцы — археал. геаграфію.

*Тв.*: Работы в Псковской и Смоленской областях // АО 1980. М., 1981; О разведках свайных поселений III—II тыс. до н.э. в Псковской и Смоленской областях // Древние памятники культуры на территории СССР. Ленинград, 1982; Каменный — железный век в междуречье Западной Двины и Ловати. Санкт-Петербург, 1992.

**МІКО́ЛЬЦЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Мікольцы Мядзельскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча за 1,5 км на ПнУ ад вёскі. Займае ізаляваны ўзгорак. З паўн. боку да яго прымыкае забалочаная катлавіна, з астатніх бакоў — ворнае поле. Пляцоўка амаль круглая, памерамі 40 × 35 м. Земляныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Выявілі ў 1934 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, абследавалі ў 1956 Л.В.Аляксееў, у 1979 Я.Г.Звяруга. Культ. пласт у цэнтры 0,2 м, па краях да 0,4—0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

Селішча прымыкае да гарадзішча з З, Пд і У. Даследаваў 392 м² у 1981—83 Я.Г.Звяруга. Культ. пласт да 1,9 м. Выяўлены рэшткі наземных (слупавой канструкцыі) і паўзямлянкавых жытлаў, печаў-каменак і печаў-домніц. Знойдзены тыгель для плаўкі каляровых металаў, жал. сашнікі, сярпы, рыбалоўныя кручкі, шлак, бронзавыя пярсцёнкі, трапецападобныя падвескі, гліняныя біканічныя прасліцы, грузілы для сетак, касцяныя шпількі, кераміка банцараўскага тыпу і штрыхаваная. Сярод рэдкіх на тэр. Беларусі знаходак — бронзавая пальчатая фібула. Помнік датуецца 6—9 ст.

*Літ.*: Зверуго Я.Г. Работы на правобережье Вилии // АО 1981. М., 1983; Его ж. Работы в бассейне Вилии // АО 1982. М., 1984. *Я.Г.Звяруга.*

**МІКРАЛІ́ТЫ** (ад грэч. mikros малы, маленькі + lithos камень), вырабы з крэменю невялікіх форм і памераў (да 1—3 см), якія выкарыстоўваліся пераважна ў якасці ўкладышаў для састаўных прылад працы. Да М. таксама адносяць асобныя тыпы вастрый і наканечнікаў стрэл. Вядомы з позняга палеаліту, найбол. пашырэнне атрымалі ў мезаліце. Сярод М. вылучаюць вырабы простых і геам. форм. Простыя М. ўяўляюць фр-ты невял. па памерах пласцінак, якія мацаваліся ў спецыяльна зробленыя разцом пазы драўляных, касцяных ці рагавых прылад. Такім чынам майстраваліся састаўныя *стрэлы*, *гарпуны*, пілы, стругі, нажы і інш. Бакі простых М. маглі падпраўляцца рэтушшу. Сярод геам. М. вылучаюцца трапецыі, ромбы, трохвугольнікі, сегменты, прамавугольнікі. На тэр. Беларусі М. найб. распаўсюджаны ў мезалітычных комплексах. *А.У.Коласаў.*

**МІКУ́ЛІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Мікулічы Брагінскага р-на Гомельскай вобл. 62 курганы ва ўр. Горкі. У 1890 У.З.Завітневіч даследаваў 13 насыпаў выш. 0,5—2,7 м, дыям. 5—15 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (3), у ямах глыб. 0,4—1,5 м (10). Сценкі ям абмазаны вапнай. У 2 курганах — двайныя пахаванні. Арыентаваны галавой на З. У 11 пахаваннях — рэшткі дамавін. Суправаджальны інвентар — цуглі, вагі, нажы, крэсівы, сякеры, кінжал, шыла, сярэбраныя і бронзавыя кольцы, спражкі, гузік, акоўкі вёдраў, фр-т манеты, разбіты гаршчок, каменны брусок.

*Літ.:* Завитневич В.З. Вторая археологическая экспедиция в Припятское Полесье // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1892. Кн. 6. *П.Ф.Лысенка.*

**МІЛАГРА́Д**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Мілаград Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур. За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Калееўка,



*Да арт.* ***Мілаград.*** *Шкляныя пацеркі.*

на мысе, утвораным правым берагам Дняпра і вял. ярам. Пляцоўка трохвугольнай формы, пл. 1 га, умацавана 2 валамі. Унутраны вал выш. 2 м мае П-падобную форму, аддзяляе жылую пляцоўку (пл. 0,4 га) ад знешняй гасп. (пл. 0,6 га), пазбаўленай культ. пласта. Выявіў у 1935 А. Дз.Каваленя, даследавалі ў 1952 Ю.У.Кухарэнка, у 1955, 1957—58, 1961 В.М.Мельнікоўская, абследавалі ў 1964 Л.Д.Побаль, у 1976 Г.В.Штыхаў. В.М.Мельнікоўская раскапала 800 м$^2$ пляцоўкі гарадзішча. Культ. пласт 0,4—0,6 м. У час раскопак у 1957 выяўлены рэшткі жытла дыям. 6 м, заглыбленага ў мацярык на 0,1—0,35 м. Па перыметры паглыблення прасочаны слупавыя ямы. У цэнтры пабудовы расчышчаны ящчэ 2 ямы ад слупоў, якія падтрымлівалі дах. Жытло мела шатровае перакрыцце і прамавугольны выступ з зах. боку, дзе быў уваход. Ва ўсх. частцы, недалёка ад сцяны, размяшчалася яма ад агнішча дыям. 1 м, глыб. 0,4—0,5 м. У запаўненні жытла знойдзены 360 фр-таў мілаградскага і зарубінецкага посуду, 2 бронзавыя трохвугольныя падвескі, зробленыя з 3 васьмёркападобных спіралей, 6 бранзалетападобных кольцаў, бронзавая і жал. позналатэнскія фібулы, 2 бронзавыя званочкі. На інш. участках пляцоўкі выяўлены рэшткі яшчэ некалькіх жытлаў слупавай канструкцыі і вял. колькасць слупавых і гасп. ям. На гарадзішчы знойдзены мілаградскія гаршкі з высокім адагнутым вонкі венчыкам і яйкападобным тулавам і паўсферычныя пасудзіны. Некаторыя фр-ты арнаментаваны ямкавымі або пальцавымі ўціскannямі па шыйцы. Зарубінецкая кераміка прадстаўлена грубаляпнымі гаршкамі, частка якіх упрыгожана зашчыпамі і насечкамі па краі венчыка, і глянцаванымі рабрыстымі міскамі. Сярод інш. знаходак — каменная зерняцёрка, жал. сярпы, тыглі, льячкі, гліняныя праслицы і грузікі, бронзавая трапецападобная падвеска, арнаментаваная пунсонам, і інш. Датуецца 4 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. Ад гарадзішча атрымала назву мілаградская культура.

**Селішча** мілаградскай і зарубінецкай культур. Прымыкае да гарадзішча з паўн. боку. У 1955 В.М.Мельнікоўская даследавала 300 м$^2$. Культ. пласт слаба выражаны. Выяўлены рэшткі мілаградскага жытла прамавугольнай формы, заглыбленага ў мацярык на 0,1—0,2 м. У адным з вуглоў быў выступ. Знойдзены фр-ты позняй мілаградскай керамікі і адзінкавыя абломкі зарубінецкага посуду.

*Літ.*: Мельниковская О.Н. О взаимодействии милоградской и зарубинецкой культур в Южной Белоруссии // Советская археология. 1963. № 1; Я е ж. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.

*А.А.Егарэйчанка.*

**МІЛАГРА́ДСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён, якія ў 7—3 ст. да н.э. насялялі басейн Дняпра ад сярэдняга цячэння р. Бярэзіна на Пн да р. Рось (Украіна) на Пд, ад р. Зах. Буг на З да р. Іпуць на У (тэр. сучасных Гомельскай, Брэсцкай, паўд. часткі Магілёўскай і Мінскай абласцей, паўн. Украіны). Назву атрымала ад гарадзішча Мілаград Рэчыцкага р-на. Для носьбітаў М.к. былі характэрны 2 тыпы паселішчаў: умацаваныя (гарадзішчы) і адкрытыя (селішчы). Ва ўсх. частцы арэала, у басейнах Дняпра і Сажа пераважалі гарадзішчы, якія размяшчаліся на мысах. Яны мелі земляныя ўмацаванні ў выглядзе валоў і равоў з напольнага боку. У Прыпяцкім Палессі гарадзішчы размяшчаліся часцей за ўсё ў забалочаных мясцінах, а таксама ў поймах рэк на невял. узвышшах і ўмацоўваліся валамі і равамі з усіх бакоў. Нярэдка гарадзішча складалася з 2 і больш пляцовак, аддзеленых адна ад адной валамі (Гарошкаў, Мілаград і інш.). Неўмацаваныя паселішчы (селішчы) вядомы на ўсёй тэр. культуры. У Падняпроўі яны нярэдка прымыкалі да



Аўтар А.А. Егарэйчанка

гарадзішчаў, на Палессі існавалі незалежна ад іх. Асн. тыпам жытла былі паўзямлянкі і наземныя пабудовы пл. 12—16 м2, разлічаныя на адну сям'ю. Жытлы мелі прамавугольную або блізкую да яе форму, слупавую канструкцыю сцен і выступ у адным з вуглоў, што з'яўляецца характэрнай асаблівасцю мілаградскіх жылых пабудоў. У цэнтры іх прасочваюцца ямы ад слупоў, якія служылі адной з апор даху. Адкрытыя агнішчы ў круглых і авальных ямах размяшчаліся паміж апорным слупам і сцяной. Для гасп. мэт выкарыстоўваліся пабудовы тыпу хлявоў і ям-скляпоў. Пахавальныя помнікі — курганныя і грунтавыя могільнікі. Курганы — невысокія паўсферычныя насыпы дыям. 2—22 м. Распаўсюджаны гал. чынам ў басейне р. Гарынь (Дубай) і належаць да ранняга этапу культуры (7—6 ст. да н.э.). Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, часам на спец. пясчанай падсыпцы або ў драўляных скрынях, а таксама ў неглыбокіх ямах, выкапаных у мацерыку. Пахавальны інвентар складаўся з аднаго або некалькіх гаршкоў, радзей зброі (дзіды), упрыгажэнняў. Грунтавыя могільнікі займалі прыродныя ўзвышшы недалёка ад паселішчаў або прымыкалі да валоў гарадзішчаў. Вельмі рэдка грунтавыя пахаванні трапляюцца на жылых пляцоўках гарадзішчаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка. Ачышчаныя ад попелу кальцыніраваныя косці ссыпалі на дно круглых або авальных ям глыб. 0,5—1 м. Пахавальны інвентар больш бедны, чым у курганах. Ён складаўся з некалькіх кавалкаў гліняных пасудзін і зубоў свойскіх жывел. Значна радзей трапляюцца зброя, упрыгажэнні, прылады працы. Насельніцтва вырабляла гаршкі з прамым адагнутым вонкі венчыкам і яйкападобным тулавам, а таксама паўсферычныя пасудзіны без пазначанага венчыка. Выш. і дыям. па зрэзе венчыка 10—30 см. Трапляюцца таксама мініяцюрныя пасудзіны выш. 3—5 см. Часта кераміка арнаментавана па венчыку, шыйцы або па плечуку ўціскannямі канцом круглай палачкі, насечкамі, пазногцевымі або пальцавымі ўцісканнямі, «жамчужынамі» і інш. Часам асобныя элементы арнаменту аб'яднаны ў групы (па 2—3 у кожнай) або складаюць трохвугольныя кампазіцыі. Рэчавы комплекс М.к. вельмі разнастайны: жал. сярпы скіфскага тыпу, матыкі, сякеры, кельты, нажы з гарбатай спінкай, шылы, наканечнікі дзід, скіфскія ўтулкавыя бронзавыя і мясц. тронкавыя жал. наканечнікі стрэл, каменныя зерняцёркі, таўкачы, бронзавыя і жал. бранзалеты, грыўні, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, завушніцы, падвескі, фібулы, посаха- і цвікападобныя шпількі, бляшкі, шкляныя, халцэдонавыя, бурштынавыя, бронзавыя пацеркі. Разнастайныя вырабы з гліны. Гэта посудападобныя, шпулепадобныя, біканічныя, шарападобныя і інш. грузікі, часам арнаментаваныя ў выглядзе заштрыхаваных трохвугольнікаў, зорак, крыжоў, кружкоў і інш., гліняныя фігуркі жывёл. Асн. формамі гаспадаркі носьбітаў М.к. былі земляробства і жывёлагадоўля; паляванне і рыбная лоўля мелі дапаможны характар. Былі развіты хатнія рамёствы: здабыча і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная вытворчасць, прадзенне, ткацтва, ганчарства і інш. Плямёны М.к. знаходзіліся на стадыі развітога першабытнаабшчыннага ладу, не выключана існаванне патрыярхальнага рабства. Рэлігійныя ўяўленні базіраваліся на абагаўленні сіл прыроды, цэнтр. месца займаў культ сонца. Былі таксама культы каня, каровы, мядзведзя, ваўка і інш. Этнічная прыналежнасць носьбітаў М.к. застаецца спрэчнай. В.М.Мельнікоўская, Л.Д.Побаль і некаторыя інш. даследчыкі адносяць іх да славян, П.М.Траццякоў, В.В.Сядоў, А.Р.Мітрафанаў, Э.М.Загарульскі і інш. — да балтаў.

*Літ.*: Третьяков П.Н. Финно-угры. Балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Ленинград, 1966; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970; Загорульский Э.М. Древняя история Белоруссии: очерки этнич. истории и материал. культуры (до IX в.). Минск, 1977; Археалогія Беларусі. Т. 2. Мінск, 1999; Рассадин С.Е. Милоградская культура, ареал, хронология, этнос. Минск, 2005. *А.А.Егарэйчанка.*

**МІЛТЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *смаленска-полацкіх доўгіх курганоў культуры* 10 — пач. 11 ст. каля в. Мілты Мядзельскага р-на Мінскай вобл. Складаецца з 2 курганных груп.

Група-1 размяшчаецца ў лесе каля аўтадарогі Нагаўкі—Дзягілі, за 1,5 км на Пд ад в. Нагаўкі, 0,3 км на ПнЗ ад в. Мілты. 36 насыпаў, з іх 9 — авальныя, 27 — круглыя. Круглыя курганы дыям. 5—10 м, выш. да 1,5 м. Авальныя арыентаваны па лініях Пн—Пд, радзей — З—У, выш.



*Інвентар курганнага могільніка* ***Мілты****: 1 — абойміца, 2 — прасліца, 3 — падкованападобная фібула.*

2,5 м. Адкрыў Я.Г.Звяруга. У 1992 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч даследавалі 5 курганоў. Пахавальны абрад адрозніваецца разнастайнасцю — крэмацыі па-за межамі насыпу, у мацерыковых ямках (2), ля вяршыні (1); на гарызонце (1); інгумацыя на гарызонце, галавой на ПдУ (1). У аснаванні насыпаў — попельныя праслойкі. Пры пахаваннях знойдзены: жал. нажы, глінянае прасліца, ляпныя і кругавыя гаршкі, шкляныя пацеркі (зонныя, лімонкі, вочкавыя), касцяная 14-гранная пацерка, фр-ты бронзавых спіральных пранізак, вітай 3-дротавай грыўні з конусападобнымі канцамі, пласцiністы шырокасярэдзінны пярсцёнак з незамкнёнымі канцамі.

Г р у п а - 2 знаходзіцца на 2-м кіламетры аўтадарогі Нагаўкі—Мілты. 28 насыпаў. Большасць з іх круглыя, некаторыя выцягнуты па лініі Пн—Пд з невял. адхіленнямі. Круглыя курганы выш. 0,5—1,5 м, дыям. 5—8 м, авальныя — выш. 2 м. У 1993 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч адкрылі і даследавалі 2 курганы. Пахавальны абрад — крэмацыя на падсыпцы ў насыпе. Кальцыніраваныя косткі таксама знойдзены ў мацерыковых ямках (магчыма гэта асобныя безынвентарныя пахаванні). Пры пахаваннях знойдзены: ляпныя гаршкі, бронзавыя падкованападобныя фібулы, шарападобныя гузікі, арнаментаваная абойміца, жал. чатырохвугольная спражка.

*Літ.*: П л а в і н с к і М., П л а в і н с к і А. Раскопкі курганнага могільніка Мілты // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20.

*М.А.Плавінскі, А.М.Плавінскі.*

**МІНЕ́ЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — каменны могільнік канца 16 — 17 ст. каля в. Мінеўшчына Ваўкавыскага р-на Гродзенскай. За 350 м на Пн ад вёскі, на невял. пагорку каля лесу. Выявіў у 1980 М.У.Вераціла, даследавала ў 1981—82 А.В.Квяткоўская (26 пахаванняў з трупапалажэннем). Сістэма размяшчэння магіл радковая, з Пд на Пн. Каменныя выбрукоўкі прамавугольнай формы, у 1 слой з 2—4 паралельных радкоў. У галавах пахаванняў пастаўлены вял. камяні з выбітымі крыжамі і крыжападобнымі знакамі (у адным выпадку крыжы спалучаліся з салярнымі знакамі), каменны ідал, у нагах — меншыя камяні. Пад выбрукоўкамі ў слоі гумусу выяўлены вугаль і фр-ты ганчарнага посуду (кераміка непаліваная і мораная, з шчыльнага цеста з дамешкамі дробнага пяску, зрэдку жарствы), 2 бронзавыя пярсцёнкі. У запаўненні магіл (ямы чатырохвугольныя, з закругленымі вугламі) знойдзены вугаль, рэшткі дамавін, дошкі якіх мацаваліся цвікамі. Нябожчыкі ляжалі на спіне, галавой на ПнЗ. Пахавальны інвентар адсутнічае.

*А.В.Квяткоўская.*

**МІНСК**, горад, сталіца Рэспублікі Беларусь, цэнтр Мінскай вобл., на р. Свіслач. Вузел чыгунак на Брэст, Маскву, Вільнюс, Гомель, аўтадарог на Оршу, Віцебск, Лагойск, Маладзечна, Ашмяны, Брэст, Слуцк, Магілёў і інш.

Упершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 (М е н ь с к, М е н е с к). У к. 11 — пач. 12 ст. цэнтр Мінскага княства. З 1-й чв. 14 ст. ў складзе ВКЛ, пасля 1413 у Віленскім ваяводстве. У 1505 горад узяты і спалены крымскімі татарамі, ацалеў толькі замак; пазней да 1519 неаднаразова спусташаўся маскоўскімі войскамі. Пад час пажараў 1547, 1552, 1569 знішчана амаль уся драўляная забудова. Моцна пацярпеў у вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 (пасля яе ў горадзе засталося не больш за 2 тыс. жыхароў, каля 300 дамоў) і Паўн. вайну 1700—21. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі.

На думку некаторых гісторыкаў, М. узнік за 16 км на З ад цэнтра сучаснага горада, на беразе цяпер амаль высахлай р. Менка (адсюль назва «Менск» ), дзе захаваўся комплекс археал. помнікаў (*Гарадзішча* Мінскага р-на). У к. 11 ст. перанесены да сутокаў Свіслачы і Нямігі. Даследаванні тут у розны час праводзілі (пераважна ва ўсх. частцы замчышча) В.Р.Тарасенка, Э.М.Загарульскі, Г.В.Штыхаў, Ю.А.Заяц, А.М.Мядзведзеў і інш. Э.М.Загарульскі вылучыў 13 буд. гарызонтаў 11—14 ст. (драўляная забудова сядзібнага тыпу са зрубнымі забудовамі, мошчанымі вуліцамі і завулкамі).

С т а р а ж ы т н ы д з я ц і н е ц (пазней *Мінскі замак*) пабудаваны ў 2-й пал. 11 ст. на правым беразе р. Свіслач, пры ўпадзенні ў яе р. Няміга, для абароны паўд. межаў Полацкага княства. У паўд.-ўсх. частцы замчышча меўся ўезд (*Мінская брама*), ад якога вялі 2 вуліцы — Замкавая (на ПнЗ) і Вялікая (пазней Вял. Мясніцкая, на ПнУ). Да



*Да арт.* **Мінск.** *Л.Д.Побаль, Т.М.Каробушкіна і Г.В.Штыхаў на раскопках мінскага замчышча ў 1984.*

пач. 12 ст. ў паўн.-ўсх. частцы замчышча пабудавана мураваная *Мінская Замкавая царква.* Верхняя частка культ. пласта замчышча знішчана пад час буд. работ у раёне сучаснага праспекта Пераможцаў.

У 12—13 ст. на Пд, ПдЗ, ПдУ ад замчышча ўзнік р а м е с н ы  п а с а д з гандл. плошчай — Нямігскі рынак (з 16 ст. *Мінскі ніжні рынак*). Яго вуліцы былі шчыльна забудаваны, вымашчаны драўлянымі насцiламі. Уздоўж р. Няміга ішла аднайменная цэнтр. вуліца пасада, якая падыходзіла з ПдЗ да Нямігскага рынку і далей да моста цераз р. Свіслач. З 12 ст. пачаў фарміравацца пасад у Верхнім горадзе. Пабудаваны *Мінскі бернардзінскі кляштар.* З'явіліся паселішчы на левым беразе Свіслачы, каля Траецкай гары і на ПдЗ ад замчышча — Пятніцкі канец (тут былі аднайменныя вуліца і царква; цяпер раён праспекта Пераможцаў). У час веснавых паводак нізкія месцы затапляліся, таму жыхары перасяляліся далей ад берага ракі, дзе пазней узнікла Татарская слабада (з 16 ст. Татарскі канец). Пазней тут была пабудавана мячэць. Пасля даследавання ў 1983 В.Е.Собаль устанавіў, што Татарская слабада была заселена ў 2-й пал. 15 ст. На Пн ад замчышча (каля сучаснага Палаца спорту) размяшчаліся Татарскія агароды. З 15 ст. засялялася Ракаўскае прадмесце (вуліцы Астроўскага, Віцебская, Замкавая і Дзімітрава). Культ. пласт дасягае 4,5 м, насычаны рэшткамі драўлянай забудовы і матэрыяламі 16—19 ст. У 16 ст. забудова развівалася на Пд ад замка.

На ўзвышшы В е р х н я г а  г о р а д а фарміравалася прамавугольная сістэма вуліц з новым гандл. цэнтрам — Верхнім рынкам (сучасная пл. Свабоды). Тут былі ўзведзены *Мінская ратуша* і інш. пабудовы, у т.л. мураваныя. Паступова складваўся *Мінскі Верхні горад* — новы цэнтр М. пасля атрымання ім магдэбургскага права (1499). У 17 ст. пабудаваны манументальныя культавыя пабудовы — *Мінскі дамініканскі касцёл,* касцёлы і кляштары бернардзінак (цяпер Мінскі кафедральны сабор) і бернардзінцаў, бенедыкцінак, францысканцаў, *Мінская Святадухаўская царква* (спачатку уніяцкая), мінскія базыльянскія кляштары, на Ніжнім рынку — Петрапаўлаўскія царква і кляштар, на Траецкай гары — царква Узнясення. У 17 ст. горад значна павялічыўся ў паўд. і зах. напрамках, быў абведзены ўмацаваннямі — ровам і земляным валам з бастыёнамі (сучасныя вуліцы Гарадскі Вал і Леніна). У 18 ст. на Верхнім рынку ўзведзены касцёл і кляштар езуітаў, на Траецкай гары — манастыры Узнясення і Троіцкі, кляштары баніфратаў (1700), кармелітаў (1703), бенедыкцінцаў (1764), марыявітак (1771).

У сучасным М. вылучаны гісторыка-архіт. ахоўныя зоны: Верхні горад (пл. Свабоды, кварталы паміж вул. Гандлёвая, Інтэрнацыянальная, Няміга), Траецкае і Ракаўскае прадмесці, замчышча, дзе захавалася планіроўка 16—19 ст. У межах горада курганныя могільнікі *Азярцо, Пятроўшчына, Сеніца; Мінскае капішча.*

*Літ.:* З а г о р у л ь с к и й Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; С о б а л ь В. Культурны пласт Мінска // ПГКБ. 1982. № 4; Гісторыя Мінска. Мінск, 2006.

*А.М.Мядзведзеў.*




*Да арт.* **Мінск.** *План размяшчэння ў гістарычнай зоне Мінска археалагічных раскопаў, шурфоў, будаўнічых катлаванаў і траншэй да 1984 з указаннем гадоў, калі гэтыя даследаванні праводзіліся (В.Е.Собаль).*

**МІНСКАЕ КА́ПІШЧА,** помнік культавага дойлідства, былое язычніцкае свяцілішча ў Мінску, у б. ур. Свіслачча на правым беразе р. Свіслач, паміж сучаснымі вуліцамі Леніна, Ульянаўская і Чырвонаармейская, насупраць дома № 8 па вул.

Ульянаўская. Нар. назва «малельня ля каменя». Існавала да 1920-х г.

На прамавугольнай пляцоўцы 20 × 10 м, вымашчанай драўлянымі плашкамі, якія з аднаго боку апіраліся на пáлі і навісалі над вадой, размяшчаліся свяшчэнныя камень («Дзед», «Стары», захоўваецца ў Музеі валуноў; помнік рэспубліканскага значэння), дуб («Волат», знішчаны ў к. 1880-х г., напярэдадні святкавання 900-годдзя хрысціянства), агнішча (Агонь, ці Жыжа) і калодзеж са «святой» вадой. Жалуды з дуба таксама лічыліся лекавымі. З трох бакоў пляцоўку абкружаў тын з яловых галін выш. 1,7—1,8 м з 2 уваходамі. Асн. аб'ектам пакланення быў камень — валун чырвонага граніту памерамі 1—1,3 м у аснове, вышынёй 1 м. Яму прыносілі ў ахвяру малако, віно, мёд, тканіну. На ніжнія галіны дуба вешалі ручнікі, стужкі. Агнішча было авальнай формы, больш за 1 м у папярочніку, выкладзена камянямі. Агню ў ахвяру прыносілі жывёлу (пеўняў, коз, свіней, авечак). Побач з капішчам стаяла хата святара (двух апошніх, бацьку і сына, звалі Севасцеямі). Жыхары наваколля хадзілі да малельні з просьбамі пазбавіць ад хваробы, дапамагчы адшукаць украдзенае, прывабіць жаніха ці нявесту і інш.

*Л.У.Дучыц, Э.А.Ляўкоў.*

**МІНСКАЯ БРÁМА**, помнік драўлянага абарончага дойлідства 12—13 ст. на стараж. дзяцінцы Мінска — Мінскім замчышчы. Рэшткі брамы выявілі ў 1984—85 Г.В.Штыхаў і Ю.А.Заяц, даследаваў Ю.А.Заяц. Пабудавана з дубовага дрэва ў пач. 12 ст. на месцы больш ранняй брамы ў час перабудовы валоў дзяцінца. Агульныя памеры брамы — 17,1 × 7,4 м, выш. усёй канструкцыі 12,5—13,5 м, шыр. праёму-праезду 3,4 м. Яе аснову складалі 8 пустацелых клецяў-зрубаў памерамі 2,8 × 1,34 × 1,7 м, якія размяшчаліся ўздоўж праезду па 4 з кожнага боку. Выкананы ў тэхніцы «ў чашку з астаткам». Непаралельнае размяшчэнне процілеглых клецяў сведчыць пра існаванне верхняга яруса, які звязваў клеці. Для павелічэння трываласці канструкцыі і эфектыўнасці абароны праезду брама складалася з 2 аб'ёмаў — вял. і малога. Вял., ці асн., аб'ём абапіраўся на 3 пары клецяў, над імі па перыметры брамы быў зроблены баявы насціл, які стыкаваўся з забараламі абарончых сцен, што стаялі на вале дзяцінца. На гэтым жа ўзроўні ў вял. аб'ёме над праездам маглі быць пляцоўкі для абароны ўнутранай прасторы, а вышэй іх 2 памяшканні: адно — для варты і боепрыпасаў, другое служыла надбрамнай царквой. Праход паміж гэтымі памяшканнямі дазваляў абаронцам бесперашкодна перамяшчацца па сценах над разрывам вала, які ўтвараўся праездам на дзяцінец. Малы аб'ём выш. 6 м абапіраўся на першую з боку поля пару клецяў. Ён таксама меў баявыя насцілы. Двухаб'ёмная канструкцыя брамы дазваляла надзейна фланкіраваць знешні схіл вала, змяншала «мёртвую прастору» перад уездам, умацняла дзейснасць абстрэлу падыходаў да яго. Двухсхільны дах гал. аб'ёму і асабліва пакрыццё надбрамнага храма ўзвышаліся над перакрыццем абарончых сцен, што рабіла браму архіт. дамінантай дзяцінца. Было трое варот з пад'ёмнымі кратамі. У к. 12—1-й пал. 13 ст. М.б. была разбурана.

*Літ.:* Заяц Ю.А. Оборонительные сооружения Менска XI—XIII вв. Минск, 1996.

*Ю.А.Заяц.*

**«МІНСКАЯ ДАЎНІНÁ»** («Минская старина»), зборнік дакументаў, артыкулаў і дакладаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі. Выдадзены ў 1909—13 у Мінску (4 выпускі, на рус. мове) Мінскім гісторыка-археал. к-там. У 1-м выпуску змешчаны арт. А.П.Смародскага пра помнікі крывічоў у Мінскай губ., лекцыя Масальскай-Сурынай, прысвечаная курганам і старым дарогам у Ігуменскім і Барысаўскім паветах, драўляным пáлям сярод балот і гарадзішчам у Рэчыцкім пав., Лагойску і мяст. Скрыгалава, паведамленне пра знойдзены ў Пінскім пав. каля р. Турыя жал. інкруставаны серабром наканечнік кап'я з 8 рунічнымі знакамі, якія, па вызначэнні спецыялістаў, уяўляюць сабой адзін з найб. стараж. рунічных надпісаў. Паведамляецца пра знойдзеную каля мяст. Сыч (Ігуменскі пав.) урну з пахаваннем, капішчы каля Койданаўскага замка, сляды магілы Рагнеды ў Заслаўі. Змешчаны інвентарны вопіс рэчаў, якія паступілі ў музей к-та, у ліку якіх археал. знаходкі: змеявік, выяўлены ў Барысаўскім пав. (раскопкі Г.Х.Татура), 21 каменная сякера, 13 пячатак і крыжоў. У выпусках 2—4 большасць матэрыялаў прысвечана гісторыі праваслаўнай царквы і яе духавенству, а таксама змешчаны звесткі пра сацыяльна-эканам. развіццё Мінскай губ., песні, казкі, паданні бел. народа, апісанне кнігі дакументаў Слуцкага Троіцкага (Трайчанскага) манастыра за 1517—47, у якой ёсць звесткі пра побыт насельніцтва, слуцкія праваслаўныя брацтвы і інш.

*Г.В.Штыхаў.*

**МІНСКАЯ ЗÁМКАВАЯ ЦАРКВÁ**. Узводзілася паміж 1069 і 1073 (на думку інш. даследчыкаў, у пач. 12 ст.) на тэр. ўсх. часткі *Мінскага замка*. Былі зроблены падмуркі, ніжнія часткі апсід, паўд. і зах. сцен. Рэшткі храма выявіў і даследаваў у 1949—51 В.Р.Тарасенка, паўторна вывучаў ў пач. 1970-х г. Э.М.Загарульскі, часткова ў 2009 А.М.Мядзведзеў. У 1950-я г. верхняя частка культ. пласта 14—18 ст. больш за 2,5 м была знята пры будаўніцтве Дома фізкультурніка. Падмурак знаходзіўся на глыб. каля 4,5 м ад паверхні, быў заглыблены ў мацярык да 1,4 м. Захаваліся сляды ад апалубкі. Паводле плана падмурка меркавалася пабудаваць невял. крыжова-купальны храм, з квадратным у плане (12 × 12 м) асн. аб'ёмам і 3 паўавальнымі апсідамі (алтарная выступала на

4,2 м за межы квадрата). Сцены з абчасаных камянёў на вапнавай рошчыне, таўшч. да 1,5 м, былі ўзведзены на выш. больш за 1 м. Вакол царквы знойдзена не менш 4 майстэрань, дзе абпальвалі вапнавую рошчыну, захоўвалі буд. камяні. Пры ўзвядзенні М.з.ц. не выкарыстоўвалі плінфу, у адрозненне ад інш. тагачасных стараж.-рус. манументальных збудаванняў. Унутры храма на сценах захаваліся ўчасткі, абліцаваныя пліткамі. У навук. літаратуры да гэтай пары вядуцца дыскусіі наконт пытання, ці было завершана будаўніцтва храма. У 1-й пал. 13 ст. на месцы царквы ўзніклі могілкі, дзе выяўлена 21 пахаванне (без рэчаў) у дамавінах скрынкавага тыпу з дошак на шыпах без жал. цвікоў. Захаваліся рэшткі шарсцяного адзення, скуранога абутку, дэталі галаўнога ўбору. Каля дзіцячага пахавання знойдзены залаты бранзалет масай 75,5 г. Пазней тэр. храма і могілак была забудавана (вывучаны рэшткі маставой). У 1970-я г. за межамі Мінскага замка, за 40 м на Пн ад месцазнаходжання стараж. храма, на беразе р. Свіслач былі выкладзены з каменю контуры падмуркаў. У 1990-я г. на самім замчышчы, дзе знаходзілася М.з.ц., быў узведзены памятны знак у выглядзе контураў падмуркаў. Над усх. часткай храма ўстаноўлены валун з надпісам.

*Літ.*: Тарасенко В.Р. Древний Минск // Материалы по археологии БССР. Минск, 1957. Т. 1; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988. *А.М.Мядзведзеў.*

**МІ́НСКАЯ МЕЗАЛІТЫ́ЧНАЯ СТАЯ́НКА**. Размешчана на левым беразе р. Свіслач, злева ад драўлянага моста, насупраць гасцініцы «Юбілейная» (праспект Пераможцаў, 19). Пл. каля 450 м². Выявіў А.В.Жураўскі ў 2005, абследавалі П.М.Кенька і В.С.Абухоўскі ў 2006—07. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, у т.л. з другаснай апрацоўкай. *П.М. Кенька.*

**МІ́НСКАЯ ПЯЧА́ТКА**, археалагічная знаходка ў г. Мінск. Выяўлена ў час археал. раскопак у 1994 у двары будынка кляштара базыльянак (вул. Энгельса, 1). Адліта са сплаву каляровых металаў светла-жоўтага колеру, магчыма бронзы. Пячатка васьмівугольнай формы, матрыца памерамі 17 × 14 мм, таўшч. 2,5 мм. Да тыльнага боку штэмпеля пячаткі прымыкае дзяржальца са скразной алтулінай (дыям. 4 мм) для шнурка. Выш. пячаткі з дзяржальцам 2,9 см. Датуецца к. 16 ст.

На матрыцы змешчана выява геральдычнага шчыта: падкова канцамі ўніз, на ёй крыж, на якім сядзіць воран, павернуты ўправа, у дзюбе пярсцёнак. Яшчэ адна выява ворана з пярсцёнкам змешчана на каралеўскай кароне, што ўпрыгожвае рыцарскі шлем у верхняй частцы шчыта. Вакол ворана дугой размешчаны лацінскія літары K, F, I — ініцыялы ўладальніка пячаткі. Хто гэта, пакуль невядома. Паводле А.К.Цітова, у к. 16 ст. буйныя князі і магнаты карысталіся лацінскай мовай у легендах. Сярод уладальнікаў герба «Слепаўрон» былі, напр., вял. падскарбій каронны Ян Казімір Красінскі, вял. падскарбій літоўскі Вінцэнт Гансеўскі. Маёмасцю ў Мінску ў 16—17 ст. валодалі прадстаўнікі княжацкага роду Крошынскіх і шляхецкага роду Корсакаў.

Пячатка знаходзіцца ў фондах Музея гісторыі Мінска. *В.Е.Собаль.*

**МІ́НСКАЯ РА́ТУША**, помнік гісторыі і археалогіі ў г. Мінск. Першыя звесткі аб М.р. змяшчаюцца ў вялікакняжацкім прывілеі ад 14.3.1499 аб наданні гораду права на самакіраванне: «мяняне маюць магчымасць на зручным месцы паставіць ратушу». Дакумент 1582 узгадвае яе ўжо як існуючую, а ў крыніцы 1591 гаворыцца пра будаўніцтва, відавочна, каменнай ратушы. Мураваны будынак М.р. ўпамінаецца ў актавых матэрыялах пад 1617. На працягу 17—18 ст. ратуша неаднаразова рамантавалася і перараблялася. У к. 18 ст. помнік істотна зменены пад кіраўніцтвам губернскага архітэктара Ф.Крамера. Ратуша была



*Мінская пячатка.*

перароблена ў стылі класіцызму, яе гал. і бакавыя фасады былі ўпрыгожаны 4-калоннымі порцікамі іанічнага ордэра. У 1857 па загадзе імператара Мікалая I будынак ратушы разабраны з мэтай упарадкавання забудовы Саборнай пл.

У 1978 В.Е.Собаль і З.С.Пазняк у скверы на пл. Свабоды дакладна вызначылі месцазнаходжанне помніка. У 1988 В.Е.Собаль даследаваў рэшткі падмуркаў ратушы. Вывучана 940 м² на паўн. ускраіне сквера. Фр-ты падмуркаў выяўлены на глыб. 1,8—2 м. Захаваліся кавалкі падлогі і сцен цокальнага паверха. Падмуркі помніка былі моцна пашкоджаны ў 1939 пры будаўніцтве ў скверы фантана. Культ. пласт каля помніка пачаў фарміравацца адначасова з будаўніцтвам ратушы ў к. 16 ст. Будынак быў складзены з чырвонай цэглы-пальчаткі памерамі 26—28 × 12—14,5 × 5—8 см з дадаткам у муроўку камянёў. Рошчына вапнавая з дамешкам пяску. Падмуркі захаваліся на выш. да 0,4 м. Таўшч. сцен, атынкаваных з унутранага боку, 0,5 м. Адно з памяшканняў цокальнага паверха ў цэнтр. частцы будынка мела брукаваную падлогу, астатнія — цагляную. Вядома, што ў ратушы праводзіў пасяджэнні магістрат. Тут знаходзіўся архіў, гаўптвахта, працаваў суд, месціліся паліцыя і гарадавы. Памяшканне з каменнай падлогай, верагодна, і было гаўптвахтай. У суседнім пакоі размяшчалася варта. На яго падлозе знойдзена 5 медных гузікаў вайсковага ўзору 19 ст. У пакоях на верхніх паверхах ратушы падлога была выкладзена керамічнай пліткай прамавугольнай формы таўшч. 2,5—3,5 см. Памяшканні ў 17—19 ст. ацяпляліся кафельнымі печамі. Аснаванне адной з іх было расчышчана ў цэнтр. частцы будынка на 1-м паверсе. Печ 17 ст. была выкладзена з зялёнапаліванай кафлі, упрыгожанай расліннымі стылізаванымі ўзорамі.

Ад гал. і правага порцікаў ратушы захаваліся толькі рэшткі муроўкі пліт і круглых калон, выкладзеных з цэглы з дадаткам у муроўку валуноў. У к. 16 — пач. 17 ст. будынак быў пакрыты керамічнай пляскатай дахоўкай з падоўжанымі баразнамі на адным з бакоў. У к. 18 ст. яе замянілі т.зв. хвалістай керамічнай дахоўкай.

Побач з ратушай утварыўся культ. пласт таўшч. 0,5—1,2 м, пры даследаванні якога знойдзены артэфакты 16—19 ст. Пласт датуецца знаходкамі 13 манет 17—19 ст. Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Сабрана 2,2 тыс. фр-таў вырабаў з гліны. Сярод іх кухонны посуд, прадстаўлены гаршкамі са слядамі копаці і нагару, макотрамі, рынкамі. Сталовыя талеркі, міскі, сподачкі, кубкі 17—18 ст. звычайна пакрыты палівай зялёнага ці карычневага колеру. Некаторыя з іх пад празрыстай палівай маюць ангобны роспіс у выглядзе спіралей, зігзагаў, вертыкальных стужак. Выяўлены курыльныя люлькі 17—19 ст. Для захоўвання грошай выкарыстоўваліся гліняныя скарбонкі паўсферычнай формы, якія былі пакрыты зялёнай палівай і мелі ўверсе скразную дзірку. З гліны былі зроблены таксама падсвечнік і цыліндрычнай формы касметычныя слоікі. Цікавай знаходкай з'яўляецца кавалак настольнага званочка са сплаву каляровых металаў. Сярод інш. металічных рэчаў — дзвярныя і аконныя петлі, завесы, каваныя скобы, акоўка драўлянай лапаты і сякеры. Звычайныя знаходкі — каваныя цвікі, абутковыя падкоўкі і паясныя спражкі. Калекцыя шкляных вырабаў налічвае 1038 адзінак. Аконнае шкло 17 ст. прадстаўлена тоўстымі круглымі шыбамі зялёнага колеру, якія ўстаўляліся ў спецыяльныя металічныя пераплёты. У 18 ст. іх змяніла празрыстае шкло ў прамавугольных драўляных рамах. Посуд для захоўвання вадкасцей уключае фр-ты бутэлек, кварт, слоікаў і фляг. Напоі ў 17—19 ст. пілі з чарак, шкляніц, келіхаў і кубкаў. У напластаваннях 18—19 ст. знойдзены аптэчныя флаконы і шклянкі.

У 2003 па праекце архітэктара С.Г.Багласава будынак ратушы быў адноўлены. *В.Е.Собаль.*

**МІ́НСКАЯ СВЯТАДУ́ХАЎСКАЯ ЦАРКВА́**, археалагічны помнік у Мінску. З'яўлялася часткай комплексу будынкаў базыльянскіх кляштараў 1-й пал. 17 ст., знаходзілася ў Верхнім горадзе на Высокім рынку. Пабудавана паміж 1636 і 1641. Неаднаразова перабудавана, знесена ў 1936. Археал. даследаванні праводзілі З.С.Пазняк і В.Е.Собаль (1988—89), І.У.Ганецкая (2009—10). У 1988—89 былі ўскрыты падмуркі царквы, выяўлены падмуркі корпуса мужчынскага кляштара, які прымыкаў да царквы, часткова адкрыта апсіда праваслаўнага сабора і печ 19 ст. з разгалінаванай сістэмай цеплавых каналаў. Знойдзены фр-ты тынкоўкі з фрэскавым жывапісам, што пацвердзіла выснову А.Д.Квітніцкай пра існаванне фрэсак на фасадах царквы. Даследаванні паказалі, што ў аснову плана пакладзены прамавугольнік памерамі 16,7 × 27,2 м па знешнім абрысе, 14 × 23 м знутры. Апсіда вынесена на 7,5 м.



*Падмурак Мінскай Святадухаўскай царквы.*

У працэсе археал. нагляду ў сувязі з аднаўленнем царквы (2009—10) была вывучана стратыграфія культ. пласта, удакладнены контур першапачатковых падмуркаў царквы. Культ. пласт вакол помніка магутнасцю 1—1,1 м, утвораны адкладамі 16 — пач. 17 ст. (0,25—0,3 м), з якімі звязаны рэшткі драўлянага будынка 16 ст. (загінуў у пажары), пластом буд. друзу часоў узвядзення базыльянскага комплексу, пластом разбурэння царквы. Знойдзены фр-ты керамічнага і шклянога посуду, пячной кафлі, керамічнай дахоўкі, пліткі падлогі, каменныя ядры, мушкетныя кулі 16—19 ст.

Дэмантаж некаторых канструкцый 19 ст. дазволіў адкрыць новыя фр-ты першапачатковага будынка. Аўтэнтычныя буд. канструкцыі царк-вы прадстаўлены падмуркамі сцен амаль па ўсім контуры (страчаны паўд. кут пры апсідзе) і пілястраў, ніжнім узроўнем сцен, якія захаваліся ў сярэднім на выш. 0,5 м, таксама фр-там падлогі ў зах. куце. Тэхніка стварэння падмуркаў была тыповая для 16 — 1-й пал. 17 ст.: у траншэі па чарзе закладваліся рады валуноў, залітых вапнавай рошчынай, і 2—3 рады цэглы на рошчыне. Прастору паміж валунамі запаўнялі бітай цэглай ці дробнымі камянямі. Глыб. і шыр. падмуркаў пад гал. фасадам складала 1,4—1,8 м, шыр. 2,9 м і 2,5 м у апсідзе. Падмурак у зах. частцы мае выгляд суцэльнай платформы, якая займае ўсю прастору паміж пілястрамі паўд.-зах. і паўн.-зах. сцен. Таўшч. падмурка па лініі ПнЗ—ПдУ — 5 м, па лініі ПдЗ—ПнУ — 8,7 м. Выступ падмурка ўтвараў адзіную канструкцыю з падмуркамі сцен, на што указвае ідэнтычнасць буд. матэрыялаў і тэхнікі, наяўнасць перавязкі ва ўсіх кутах. Сцены мураваліся па рэнесансавай сістэме: рад тычкоў — рад лажкоў. Таўшч. сцен 1,5 м, гал. фасада — 1,8 м. Уздоўж сцен былі раўнамерна размеркаваны пілястры (па 3 з кожнага боку і 2, меншага памеру, пры паўд.-зах. сцяне).

Першапачатковая апсіда была строга паўцыркульнай, гранёная форма ёй была нададзена ў 19 ст., на што паказвае абмуроўка ў адну цагліну з вонкавага боку, якая не звязана з асн. сцяной апсіды, таму месцамі адслаілася.

У паўн. частцы выяўлены фр-т сцяны, які прымыкаў без перавязкі да царквы з боку апсіды і працягваў лінію паўн.-зах. фасада. Сцяна засталася ад 2-яруснай галерэі, якая злучала з царквой корпус жаночага кляштара, збудавана ў 2-й пал. 17 ст. Слядоў капліцы, вядомай па пісьмовых крыніцах і планах к. 18—19 ст., не выяўлена.

У паўд.-зах. частцы царквы расчышчаны 2 крыпты 2-й пал. 17 ст. Крыпта 1 — прамавугольнае збудаванне памерамі 2,58 × 1,25 м, выш. 0,98 м, была перакрыта паўцыркульным скляпеннем. Сценкі знутры былі атынкаваны, пакрыты слоем апілак і саломы на клейкай аснове і пафарбаваны ў белы колер. У крыпце было змешчана пахаванне мужчыны ў святарскім убранні, труна абабіта вуглавымі фігурнымі жал. накладкамі. Крыпта 2 зроблена пазней на ўступе паміж крыптай 1 і паўн.-зах. падмуркам. Памеры пахавальнай камеры 2,06 × 0,74 м. Скляпення не мела. Дно было заліта вапнавай рошчынай. Рэшткі пахавання адсутнічалі. *І.У.Ганецкая.*

**МІНСКІ БЕРНАРДЗІНСКІ КЛЯ́ШТАР**, помнік гісторыі і культуры ў г. Мінск. Комплекс б. кляштара (касцёл, жылы будынак, гасп. пабудовы) размешчаны паміж вуліцамі Герцэна, Кірылы і Мяфодзія, Гандлёвая на тэр. Верхняга горада. Засн. ў 1624 краснасельскім старастай А.Кенсоўскім, які перадаў бернардзінцам жылое памяшканне на Высокім рынку. У 1638 пабудаваны драўляны кляштар, у 1640-я г. — каменны. У к. 18 ст. ў склад кляштара ўваходзілі: касцёл з прылеглымі да яго могілкамі, жылы будынак, стайня, вазоўня і піваварня. Пасля паўстання 1864 кляштар з гасп. пабудавамі былі перададзены ваеннаму ведамству і пажарнай часці.

У 1978 А.А.Трусаў праводзіў архіт.-археал. даследаванні каменных падмуркаў касцёла. Храм узведзены ў стылі бел. барока. Падмуркі складзены з камянёў і дадаткова ўзмоцнены контрфорсамі.

Даследаванні на тэр. двара і каля б. пажарнай часці (па вул. Кірылы і Мяфодзія, 6а, 8) праводзілі ў 2007 Ю.У.Каласоўскі (534 м$^2$), у 2008, 2010 А.М.Мядзведзеў (892 м$^2$). Культ. пласт да 3,4 м. Стратыграфічна зафіксаваны 3 гарызонты культ. напластаванняў. У 2007 у раннім гарызонце 12—13 ст. магутнасцю да 1 м выяўлены рэшткі паўзямлянкі памерамі 2 × 2,5 м, глыб. 1,2—1,6 м. Знойдзены фр-ты кругавога посуду, бронзавыя гузікі і фр-т крыжа, паясныя накладкі, касцяныя грабяні, шыферныя прасліцы, пломбы-пячаткі са свінцова-алавяных сплаваў, у т.л. з выявай мінскага кн. Глеба і ягонага бацькі Усяслава, візантыйская, рыжская, а таксама з



*Да арт. **Мінскі бернардзінскі кляштар**. Знаходкі 12—13 ст.: касцяны грэбень (1), шыферныя прасліцы (2—3), бронзавыя фібулы (4—5).*


*Да арт. **Мінскі бернардзінскі кляштар**. Рэшткі печы і каменных падмуркаў будынка 17 ст. (на ўрэзцы — фрагмент цаглянай муроўкі).*

надпісам арабскім шрыфтам. У раскопах 2008, 2010 былі выяўлены рэшткі забудовы вуліцы пасада на Верхнім горадзе стараж.-рус. часу (ямы ад агароджаў слупавой канструкцыі, водаадліўнае прыстасаванне, падмуркі печаў ад 6 дамоў, гасп. ямы).

У другім гарызонце (16 — сяр. 17 ст., таўшч. да 1,4 м) у раскопе 2007 выяўлены сядзібны комплекс з 2 наземных пабудоў памерамі 6 × 8 і 4 × 4 м, ад якіх захаваліся каменныя падмуркі, выбрукоўка пола з керамічнай пліткі, аснова печы. На працягу гэтай вуліцы ў падмурках печаў выяўлена гаршковая, паліўная, гербавая кафля 16 — сяр. 17 ст., у т.л. Рэчы Паспалітай, роду Сапегаў, а таксама з гербам ордэна бернардзінцаў (овен з крыжом паміж рагоў); знойдзены соліды ВКЛ, Лівонскай Прыбалтыкі, шведскага караля Густава-Адольфа II, бытавы керамічны і шкляны посуд, гліняныя люлькі, дэталі шаблі, паясныя накладкі, нацельныя крыжы, ладанка са свінцова-алавянага сплаву, шкляная чарнільніца. У 2-й пал. 17 — пач. 18 ст., калі ўвесь участак апынуўся ва ўладаннях кляштара, вуліца была перапланавана.


*Да арт. **Мінскі бернардзінскі кляштар**. Посуд 17 ст.*

Верхні гарызонт (18 — сяр. 19 ст., таўшч. 0,8—1 м) прадстаўлены падмуркамі муравананага будынка Г-падобнай формы памерамі 8,5 × 14 м. Падмуркі складзены ў выглядзе арак, апорныя слупы з каменю і цэглы былі ўпушчаны ў культ. слой 17 ст. Да гэтага часу належыць флігель кляштара, ад якога захаваліся драўляныя падлогі, аснова печы. Ён быў пабудаваны на месцы наземнага жытла 2-й пал. 17 ст. Знойдзены фр-ты глінянага і шклянога посуду, люлькі, фр-т французскай какарды, гузікі ад гусарскага мундзіра, накладкі на ківер. У пач. 19 ст. пабудаваны каменны будынак кляштарнай гасцініцы для пілігрымаў (вул. Кірылы і Мяфодзія, 8). На плане 1809 на ўчастку, прылеглым да вул. Зазыбіцкай (вул. Гандлёвая), размяшчаўся агарод.

Да буд. гарызонту 2-й пал. 19—20 ст. (таўшч. да 1,2 м) адносяцца каменная маставая двара, каменныя падмуркі жылога будынка і рэшткі гаража. *Ю.У.Каласоўскі, А.М.Мядзведзеў.*

**МІНСКІ ДАМІНІКА́НСКІ КАСЦЁЛ**, помнік археалогіі на Кастрычніцкай пл. ў Мінску. Дамініканскі касцёл св. Тамаша Аквінскага і кляштар засн. ў пач. 17 ст. на фундуш Сафіі Слушкі. Мураваны касцёл закладзены каля 1622 на пляцы, перададзеным мінскім ваяводам Пятром Тышкевічам ордэну дамініканцаў. Пабудаваны ў стылі ранняга барока. Уяўляў сабой прамавугольную ў плане 3-нефавую 6-слупавую базіліку з бязвежавым гал. фасадам і 2 капліцамі ў бакавых нефах. Месціўся на паўд.-ўсх. баку пл. Высокага рынка, абмежаваны вуліцамі Валоцкая (Інтэрнацыянальная), Дамініканская (Энгельса) і Юр'еўская (не захавалася). На працягу 18 ст. двойчы быў рэканструяваны. У Вял. Айч. вайну спалены акупантамі. У 1950 храм быў разабраны. Цяпер на яго месцы стаіць Палац Рэспублікі.

У 1978, 1985—86 В.Е.Собаль і З.С.Пазняк амаль поўнасцю даследавалі цэнтр. і паўд.-ўсх. нефы сабора на пл. 1064 м². Участкі сцен (таўшч. 3,4 м) захаваліся на выш. да 2 м ад узроўню падлогі. Знойдзены базы апорных слупоў, расчышчаны гарматныя нішы падэшвеннага бою. Храм меў культавае і абарочнае значэнне. Падлога ў будынках касцёла і кляштара была першапачаткова выкладзена чырвонаглінянай пліткай шасцівугольнай, квадратнай і прамавугольнай форм таўшч. 3,5—4 см. Пад падлогай знаходзілася разбураная крыпта з 10 пахавальнямі. Храм складзены з чырвонай цэглы-пальчаткі памерамі 27—28 × 13—14 × 6,5—8 см на вапне. Цэгла ў муроўцы пакладзена па сістэме «рад тычкоў — рад лажкоў». Падмурак выш. да 1,5 м выкладзены з камянёў рознай велічыні і заглыблены ў грунт на 0,9—1 м. З камянёў таксама зроблена забутоўка ўнутры сцен, змацаваная вапнавай рошчынай. Дах касцёла ў 17 ст. быў пакрыты пляскатай керамічнай дахоўкай. У к. 18 ст. дах рамантаваўся і перакладваўся т.зв. галандскай, хвалістай у профілі дахоўкай. Перад гал. і паўд. фасадамі храма выяўлены рэшткі каменнай выбрукоўкі на шыр. 1,2—1,8 м. Тут таксама зафіксаваны 2 брацкія магілы памерамі 2 × 3 м часоў вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.

Да падмуркаў касцёла прылягаў культ. пласт таўшч. 0,6—2 м. Наслаенні верхняга пласта ўтрымліваюць вял. колькасць бітай цэглы, рошчыны, аконнага шкла, вугалю, кавалкаў гарэлага дрэва і тынкоўкі, лепкі ад унутранага аздаблення сабора. Гэты слой сфарміраваўся ў выніку разбурэнняў і рамонтаў сабора на працягу 17—20 ст. Культ. пласт цёмна-шэрага, месцамі чорнага колеру, які сфарміраваўся ў выніку жыццядзейнасці гар. насельніцтва на працягу 16—19 ст., мае таўш. 0,2—1,0 м. Пад падлогай цэнтр. нефа ў цёмна-шэрым слоі таўшч. 0,2—0,4 м знойдзены сярэбраны шэлег 1602, выбіты на рыжскім манетным двары, двайны дэнарый 1621 і сярэбраны шэлег 1625 часоў Жыгімонта III Вазы. Тут жа сабраны кавалкі зялёнапаліванай пячной кафлі і глінянага посуду 16 —17 ст. У культ. пласце вакол касцёла знойдзены вырабы з чорнага і каляровага металу, калачападобнае жал. крэсіва (не пазней сяр. 13 ст.), прылады працы (правушныя сякеры, фр-ты нажоў, шавецкі малаток, свердлы), скабяныя вырабы 17—18 ст. (каваныя кастылі, скобы, цвікі, дзвярныя і аконныя петлі, засаўкі, крукі, ручкі, клямкі), конская збруя (падковы 18—19 ст., цуглі), абутковыя падкоўкі, фр-ты навясных замкоў з ключамі, нацельныя чатырохканцовыя крыжыкі, дэкаратыўныя цвікі, кніжныя засцежкі, адзежныя гаплікі і петлі, дэталі арнаментаваных кансоляў і жырандолі, медны кубак ручной работы, больш за 40 медных і сярэбраных манет 17 – пач. 20 ст. пераважна Расійскай імперыі і Рэчы Паспалітай, гліняны і шкляны посуд 17—18 ст., пячная кафля 17 ст. з геральдычнымі матывамі з манаграмамі, надпісамі на лаціне, стылізаванымі раслiннымі ўзорамі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі. *В.Е.Собаль.*

**МІНСКІ ЗА́МАК**, Стары горад, Старое места, Стары замак, Замкавая гара, Замчышча, умацаваны цэнтр, дзяцінец старажытнага Мінска, на аснове якога ўзнік горад і вакол якога ён рос і развіваўся. У стараж.-рус. летапісах вядомы пад назвай «град», «горад», у актах 15—17 ст. замак. Пабудаваны ў 2-й пал. 11 ст. на 2-метровым узвышшы сярод нізкай мясцовасці правабярэжнай поймы р. Свіслач і вусця р. Няміга. Быў абнесены пясчана-гравійным валам выш. каля 8 м, на грэбені якога ўзведзены драўляныя сцены, з паўд. боку была *Мінская брама*. Меў






*Да арт.* ***Мінскі замак****. Рэканструкцыя забудовы старажытнарускага часу.*



*Да арт.* ***Мінскі замак****. Унутрывальныя канструкцыі абарончага вала (раскоп 1984).*

форму няправільнага авала (даўж. ад Свіслачы да процілеглага зах. краю 300 м, шыр. 120—150 м, пл. 3 га). Абкружаны з усіх бакоў вадой, выглядаў умацаваным востравам. Даследавалі ў 1945—51, 1957 В.Р.Тарасенка, у 1958—61 Э.М.Загарульскі, у 1976 і 1983—87 Г.В.Штыхаў, у 1981—82 В.Е.Собаль, Г.В.Штыхаў. Выяўлена планіроўка ўсх. часткі дзядзінца, якая прымыкае да правага берага Свіслачы, раскапаны драўляныя канструкцыі ў насыпе вала, грэбля і мост цераз Нямігу, рэшткі некалькіх вуліц і завулкаў. Гал. вуліца шыр. 4 м перасякала дзяцінец з У на З, ад яе адыходзілі вузкія завулкі. Шыр. астатніх вуліц — 3 м, праезная іх частка абавязкова з драўляным насцілам. Паміж вуліцамі размяшчаліся двары (пл. 220—250 м²) гараджан. Яны ўключалі 1—2 жылыя пабудовы, хлявы, клеці, майстэрні. Двор агароджваўся парканам з бярвён, свабодная ад забудовы плошча масцілася насцілам. У 12—13 ст. у замку было 80—82 двары і 400—500 жыхароў. Раскапаны рэшткі больш за 150 пабудоў. Жытлы аднакамерныя, часам 5-сценныя, зрубнай канструкцыі, пл. 9—25 м², з дашчанай падлогай, мелі 2-схільныя дахі без столі, дзверы выш. не больш за 1,6 м, зрэдку ганак. Гліняныя печы ў выглядзе невял. скляпення на невысокай драўлянай аснове — падпечны — размяшчаліся ў куце і паліліся па-чорнаму. Выяўлены фундамент мураванага храма пач. 12 ст. (*Мінская замкавая царква*). Насельніцтва ў 11—13 ст. займалася рамяством, гандлем, сельскай гаспадаркай. У культ. пласце знойдзены інструменты рамеснікаў (кавальскія абцугі, тачыльныя брускі, сякеры, шылы, драўляныя капылы для вырабу абутку), шматлікія жал. рэчы (нажы, нажніцы, замкі, ключы, крэсівы), вырабы з каляровых металаў (бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі), дрэва (бочкі, вёдры, рыдлёўкі, вілы), косці і рога (грабяні, дзяржанні нажоў), скуры (абутак, паясы, ножны), а таксама прадметы ўзбраення воіна і рыштунку конніка (наканечнікі коп'яў і стрэл, рэшткі кальчуг, цуглі, шпоры, страмёны). Выяўлены унікальныя ўзоры каменнай дробнай пластыкі: двухбаковы абразок 1-й пал. 13 ст. з выявамі Маці Божай Агіясарытысы на адным баку, апостала Пятра — на адваротным. На другім абразку таго ж часу выявы св. Міколы і архідыякана Стафана.

Умацаванні М.з. паспяхова вытрымалі аблогу магутнага войска паўд.-рус. князёў і іх саюзнікаў у 1104 і 1116; полацкага кн. Рагвалода Барысавіча ў 1159, 1160—61. Доўгі час замак быў палітычным, ваенным і культ. цэнтрам, рэзідэнцыяй князёў, пазней велікакняжацкіх і каралеўскіх намеснікаў. У 1506 войскі крымскага хана Махмет-Гірэя захапілі горад, але не здолелі авалодаць крэпасцю. У замку былі ваенны гарнізон (залога), правіянцкія крамы, дом кіеўскага мітрапаліта, уладанні кн. Астрожскага; знаходзіліся цэрквы Мікалаеўская і Раства Багародзіцы. У вежы каля замкавай брамы размяшчалася турма. Умацаванні замка будавалі жыхары горада і навакольных вёсак, на яго карысць ішлі судовыя пошліны і спец. падаткі, прыбыткі ад млына, што стаяў на левым беразе

Свіслачы. З к. 17 ст. замак стаў паступова занепадаць, да к. 18 ст. засталіся земляныя валы, зафіксаваныя на планах Мінска к. 18—пач. 19 ст.

*Літ.:* Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982. *Г.В.Штыхаў.*

**МІНСКІ КАСЦЁЛ БЕНЕДЫКЦІ́НАК**, археалагічны помнік у г. Мінск. Кляштар бенедыкцінак засн. ў 1633 віленскім канонікам Войцехам Сялявай на вул. Зборавая (Інтэрнацыянальная). Мураваны будынак касцёла св. Войцеха пачаў будавацца ў 1647 пры грашовай дапамозе віленскага ваяводы Крыштофа Хадкевіча і яго жонкі Соф'і Друцкай-Горскай. Узведзены ў стылі барока, уяўляў сабой 1-нефавую 2-вежавую базіліку з 5-граннай апсідай. Гал. фасад упрыгожвалі дзве 3-ярусныя вежы-званіцы. Паміж імі знаходзіўся крывалінейны шчыт. З будынкам быў злучаны мураваны 2-павярховы корпус кляштара, які прымыкаў да паўд. вежы касцёла. Будынкі храма і кляштара былі рэканструяваны ў 1780-я г., у 1872 былі перабудаваны ў праваслаўны Праабражэнскі манастыр. У 1960-я г. храм быў разабраны.

У 1978 В.Е.Собаль і З.С.Пазняк праводзілі архіт.-археал. абследаванні на пл. 40 м². Культ. пласт 16—18 ст. таўшч. 1—3,6 м цёмна-шэрага, месцамі бурага колеру з дамешкам патрушчанай цэглы, вапны, камянёў і рошчыны.

Была адкрыта частка падмуркаў касцёла 2-й пал. 17 ст., упушчаных у грунт. Касцёл меў падвал і крыпту. Храм быў змураваны з чырвонай цэглы-пальчаткі на вапнавай рошчыне з дадаткам у муроўку камянёў. На паверхні цэглы меліся прадольныя і дыяганальныя барозны ад пальцаў майстра. Для сцен выкарыстоўваліся цагліны памерамі 27—29 × 13—15 × 6—8,5 см. У муроўцы рад лажкоў змяняе рад тычкоў. Падлога выкладзена з чырвонай цэглы памерамі 24,5—25,5 × 11—12 × 5—5,5 см і керамічнай пліткі памерамі 24,5—25,5 × 17—18 × 3,5—4,5 см і 22 × 22 × 4,5 см. Першапачаткова касцёл быў пакрыты чырвонай керамічнай дахоўкай. У падвале касцёла ўздоўж бакавых сцен знаходзіліся выкладзеныя з цэглы каналы, па якіх цёплае паветра ад печы паступала з-пад падлогі ў памяшканне храма.

У культ. пласце знойдзены прадметы матэрыяльнай культуры 16—19 ст.: скабяныя вырабы (каваныя цвікі, кастыль, дзвярныя і аконныя завесы, жал. прабой), кавалкі аконнага шкла, донцы бутэлек, фр-т шкляніцы 17 ст., абломкі гліняных гаршкоў, накрывак, зялёнапаліваных місак, паліваных і непаліваных збаноў, тэракотавыя і зялёнапаліваная пячная кафля са стылізаванымі раслiннымі ўзорамі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі. *В.Е.Собаль.*

**МІНСКІ КУЛЬТУ́РНЫ ПЛАСТ ВЕ́РХНЯГА ГО́РАДА**, культурныя наслаенні 12—19 ст. на тэр. адміністрацыйнага, гандл. і культ. цэнтра Мінска. Верхні горад ахоплівае тэр. пл. Свабоды, вуліц Герцэна, Кірылы і Мяфодзія, Гандлёвая, Музычнага завулка і частку вуліц Энгельса, Інтэрнацыянальная, Леніна, Камсамольская і Няміга. На плошчы, названай у 18 ст. Высокім рынкам, і вакол яе ў 16—18 ст. пабудаваны ратуша, гандл. рады, гасціны двор. Тут з к. 16 ст. ўзводзіліся камяніцы заможных феадалаў, дамы купцоў і рамесных цэхмістраў. З пач. 17 ст. плошча пачала забудоўвацца каталіцкімі і уніяцкімі касцёламі і кляштарамі.

Даследаванне культ. наслаенняў Верхняга горада вялося комплексна: разам са стацыянарнымі раскопамі і шурфоўкай ажыццяўляўся нагляд за землянымі работамі, звязанымі з рэстаўрацыяй помнікаў і будаўніцтвам, таксама выкарыстоўваліся даныя геалагічнага свідравання тэрыторыі.

Раскопкі на тэр. Верхняга горада пачаліся ў 1978 і з невял. перапынкамі вядуцца па сённяшні дзень. У даследаваннях прымалі ўдзел І.У.Ганецкая, Н.І.Здановіч, З.С.Пазняк, В.Е.Собаль, А.А.Трусаў, П.А.Русаў, І.М.Чарняўскі і інш. Культ. пласт фарміраваўся на працягу 12—19 ст. Ён прадстаўлены пераважна шэрымі і цёмна-шэрымі рыхлымі наслаеннямі з дамешкам пяску, гліны, драўніннага вугалю, вапны. У раскопах каля пл. Свабоды ў пласце трапляецца шмат кавалкаў буд. керамікі: цэглы, дахоўкі, пліткі-падлогі 17—19 ст., сустракаюцца падмуркі каменных культавых і грамадзянскіх пабудоў. Бліжэй да плошчы культ. пласт мае таўшч. 0,5—3 м. На вуліцах Кірылы і Мяфодзія, Герцэна, у Музычным завулку і ва ўсх. частцы пл. Свабоды выяўлены культ. пласт 12—15 ст. Знойдзены кавалкі гліняных гаршкоў з клеймамі на донцах, шыфернае прасліца, жал. нож з патоўшчанай спінкай, касцяная ручка з цыркульным узорам. Гэта частка горада была заселена ў 12—13 ст., калі Мінск стаў цэнтрам удзельнага княства. Тут знаходзіўся адзін з пасадаў стараж. горада.

Археал. даследаванні паказалі, што з паніжэннем рэльефа ў бок Свіслачы і Нямігі таўшч. культ. пласта ўзрастае да 4,5—5 м. У ім захоўваюцца рэшткі драўлянай забудовы 16—18 ст., драўляныя вырабы і посуд, фр-ты вопраткі, скуранога абутку, вязаных рукавіц, вяровак, рэшткі лямцавых капялюшаў, вырабы з косці. Асаблівасцю культ. наслаенняў уздоўж вуліц Няміга і Гандлёвая з'яўляецца наяўнасць магутнага слоя баласту, які ўтварыўся пасля заканчэння Вял. Айч. вайны. У пасляваенны час пры адбудове горада забалочаныя месцы з паніжаным рэльефам засыпаліся цагляным друзам ад разбураных будынкаў.

Культ. пласт 16—18 ст. прасочаны на ўсёй тэр. Верхняга горада. У ім раскапаны рэшткі падмур-

каў гар. ратушы (В.Е.Собаль, З.С.Пазняк, 1978, 1988). У 1979, 1990, 1993 І.У.Ганецкая, В.Е.Собаль, А.А.Трусаў даследавалі гандл. рады. Архіт.-археал. даследаванні праводзіліся таксама на комплексе будынкаў гасцінага двара (А.М.Ліпніцкая, В.Е.Собаль, І.М.Чарняўскі), бернардзінскагамужчынскага кляштара (Ю.У.Каласоўскі, А.М.Мядзведзеў). Пасля раскопак адноўлены гар. ратуша, гандл. рады, таксама будынкі жаночых базыльянскага і бернардзінскага кляштараў 17 ст., сядзібны дом В.Ваньковіча і дом масонаў.

У выніку шматгадовых раскопак сабрана значная калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры горада розных часоў. Керамічны кухонны посуд 16—19 ст. прадстаўлены гаршкамі, макотрамі, рынкамі. Сталовы посуд пакрыты зялёнай, карычневай, жоўтай палівамі, упрыгожаны ўзорамі, нанесенымі ангобам, фарбамі, штампікам, пуансонам ці накладнымі стужкамі, каймой і разеткамі. Сустракаюцца таксама чорнаглянцаваныя кубкі, гаршкі і збаны. Дробныя керамічныя вырабы прадстаўлены скарбонкамі, сальніцамі, глінянымі цацкамі-свістулькамі і курыльнымі люлькамі. На рагу вуліц Няміга і Камсамольская, у катлаване пад будынак паркінга, у 2002 знойдзена шмат гліняных ювелірных тыгляў 18 ст. з рэшткамі металічных сплаваў. Жал. вырабы ўключаюць прылады працы: нажы, сякеры, фр-ты рыдлёвак, сашнікоў. Скабяныя знаходкі прадстаўлены каванымі цвікамі, крукамі, скобамі. Разнастайную форму і канструкцыю мелі замкі, ключы. Для асвятлення пакояў выкарыстоўваліся каганцы. Знойдзены шкляны посуд для захоўвання і падачы на стол напояў: графіны, кварты, збаны, флеты, бутэлькі, бутлі, у 16—18 ст. выкарыстоўваліся шкляніцы, стопкі, бакалы, келішкі. Абутак прадстаўлены фр-тамі чаравікаў, ботаў, пантофляў, зробленых са скур буйной рагатай жывёлы. Сабрана таксама калекцыя манет 16—19 ст., пераважна Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі. *В.Е.Собаль.*

**МІНСКІ КУЛЬТУ́РНЫ ПЛАСТ РА́КАЎСКАГА ПРАДМЕ́СЦЯ**. Выяўлены паміж вуліцамі Ракаўская, Няміга, Віцебская і Вызвалення. Даследаваўся археал. метадамі — раскопамі, разведачнымі шурфамі, наглядам за землянымі работамі ў час пракладкі інжынерных сетак. Таўшч. культ. пласта таксама вызначалася паводле даных геалагічнага бурэння. Пласт шэрага, цёмна-шэрага колеру, насычаны рэшткамі драўлянай забудовы 16—19 ст. і прадметамі матэрыяльнай культуры. Даследаваў у 1970—80-я г. В.Е.Собаль.

Найб. магутнасць пласта зафіксавана ўздоўж вул. Няміга. Каля помніка архітэктуры пач. 17 ст. — Петрапаўлаўскай царквы яна дасягае 4,5 м, паступова памяншаецца да 1—1,5 м у раёне Раманаўскай слабады, складае 0,5—2 м па вуліцах Віцебская, Ракаўскай, Вызвалення.

Тэр. Ракаўскага прадмесця, паводле археал. даследаванняў, была заселена ў 15 ст. У 1980 на вул. Ракаўская была выяўлена жылая драўляная пабудова 2-й пал. 18 ст. з 2 памяшканнямі і печчу, абкладзенай кафляй. Пакой з печчу аддзяляўся перагародкай ад сенцаў, у якія ўваходзілі па драўлянай ганкавай лесвіцы. У час назірання за буд. работамі ўздоўж вул. Няміга на глыб. 2,7 м быў знойдзены ганчарны горан 2-й пал. 16 ст., сабрана пячная кафля з раслпіннымі і геам. арнаментамі. Тут жа знойдзены кавалкі гліняных прэсформ для выціскання ўзора на вонкавай пласціне кафлі.

У прадмесці сабрана значная калекцыя бытавой керамікі: гаршкі, макотры, збаны, кубкі, талеркі, міскі 15—19 ст. Значная частка вырабаў пакрыта палівай зялёнага альбо карычневага колеру, трапляюцца таксама чорнаглянцаваныя міскі, талеркі, збаны, посуд, упрыгожаны ангобнай размалёўкай пад празрыстую зялёную паліву. Знойдзены фр-ты скуранога абутку 17—18 ст.: боты, чаравікі, туфлі, скураныя лапці (поршні, хадакі). Большасць абутку мела цвёрдую падэшву і абцас, набраны са скураных пласцін альбо драўляны, на некаторых прысутнічалі жал. падкоўкі з шыпамі ці дзіркамі для цвікоў. Жал. прылады працы прадстаўлены нажніцамі, сцізорыкамі, сякерай. Таксама знойдзены жал. замкі, ключы, конскія падковы 16—18 ст. Для захоўвання і падачы на стол напояў у 17—18 ст. шырока выкарыстоўваліся зробленыя з зялёнага шкла кварты, збаны, бутэлькі. Для піцця гараджане ўжывалі стопкі, шкляніцы, бакалы. У слоі 17—18 ст. сабраны манеты часоў Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі — соліды, капейкі, дзянгі і інш. грашовыя адзінкі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі. *В.Е.Собаль.*

**МІНСКІ КУЛЬТУ́РНЫ ПЛАСТ ТАТА́РСКАГА КАНЦА́**, тэрыторыя паўн.-зах. ускраіны Мінска (р-н праспекта Пераможцаў, вуліц Дзімітрава і Шпалерная). Мясц. назвы: Татарскае прадмесце, Татарская слабада, Пятніцкі канец. Утварыўся ў пач. 16 ст. як пасяленне палонных крымскіх татараў. Пазней тут узніклі 2 вуліцы — Вялікая і Малая Татарская. На плане Мінска 1801 вуліцы Татарскага канца маюць аднабаковую забудову, на другім іх баку пазначаны агароды.

За 0,25 км на Пн ад Мінскага замчышча ва ўр. Міколка ў 1946 В.Р.Тарасенка даследаваў 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне без рэчаў. Пад курганамі зафіксаваны культ. пласт (таўшч. 1 м) 12—13 ст. Выяўлены рэшткі заглыбленай пабудовы. Знойдзены жал. ключ і фр-ты

глінянага посуду. Больш за 900 кавалкаў керамікі былі выяўлены каля глінянай печы для яе абпальвання. Матэрыялы сведчаць аб тым, што ў 12—13 ст. тут знаходзілася адно са стараж. паселішчаў Мінска (Менска). На яго месцы пачаў фарміравацца Пятніцкі канец, пазней — Пятніцкая вул., якія атрымалі назву ад аднайменнай царквы. У час паводак тэр. пастаянна затаплялася вадой, паколькі знаходзілася ў пойме Свіслачы. Яе насельніцтва паступова перамясцілася вышэй у Татарскі канец. Пакінутае месца з цягам часу пачало выкарыстоўвацца жыхарамі Татарскага канца пад агароды.

У 1983 В.Е.Собаль даследаваў тэр. па вул. Дзімітрава, Замкавая і Вызвалення. Вызначана, што Татарская слабада была заселена ў 2-й пал. 15 ст. Знойдзены разнастайны гліняны посуд: размаляваныя ангобам, паліваныя талеркі 17 ст., міскі, макотры, збаны 15—18 ст. На месцы драўлянага дома 17 ст. выяўлены рэшткі кафлянай печы, гаршковая і каробчатая кафля. Апошняя была ўпрыгожана раслліннымі, зааморфнымі і геам. ўзорамі. Таксама знойдзены керамічная шашка, гліняная свістулька ў выглядзе лебедзя, шкляны аптэчны посуд, кварты і шкляніцы. Рэдкай знаходкай з'яўляецца ганчарнае лашчыла. Вырабы з жалеза прадстаўлены кухоннымі нажамі, ключом, трохшыпнымі падкоўкамі для абутку.

У 1987 у час буд. работ паміж Палацам спорту і берагам Свіслачы Г.В.Штыхаў прасачыў культ. пласт таўшч. 0,5—1,5 м. Знойдзены фр-ты гліняных гаршкоў 12—13 ст., бытавога посуду 16—19 ст., кафля з зялёнай палівай і стылізаванымі расліннымі ўзорамі.

Матэрыялы раскопак 1983 і 1987 захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі. *В.Е.Собаль, Г.В.Штыхаў.*

**МІНСКІ КУЛЬТУ́РНЫ ПЛАСТ ТРАЕ́ЦКАГА ПРАДМЕ́СЦЯ**. Вызначаны ў час археал. работ 1976—77, 1979, 1982 на вуліцах Камунальная набярэжная, Старавіленская, М.Багдановіча і Я.Купалы. У даследаваннях удзельнічалі супрацоўнікі ІГ АН Беларусі З.С.Пазняк, В.Е.Собаль, П.А.Русаў. Культ. пласт шэрага, цёмна-шэрага, месцамі цёмна-карычневага колеру з рэшткамі драўлянай забудовы каля берага р. Свіслач. На беразе ракі культ. напластаванні моцна пашкоджаны перакопамі. Пасля пажару 1809 у Траецкім прадмесці была зроблена перапланіроўка, быў падвышаны левы бераг Свіслачы за кошт культ. пласта з суседніх больш высокіх участкаў.

Таўшч. культ. пласта на вул. Камунальная набярэжная, побач з р. Свіслач складае 4—4,5 м, паступова памяншаецца да 1,5—2 м у напрамку тэатра Оперы і балета, вагаецца ад 0,6 да 2 м на тэр. 2-й Клінічнай бальніцы, на вул. Старaслабодская і Чычэрына. У 1976—77 на вуліцах Камунальная набярэжная, Старавіленская і М.Багдановіча (тэр. бальніцы) знойдзены фр-ты посуду 12—13 ст. Тут на левым беразе Свіслачы ўздоўж Барысаўскага тракта, які адыходзіў ад пл. Ніжняга рынку на правым беразе, фарміраваўся адзін з пасадаў стараж. Менска. Калекцыя рэчаў 14—18 ст. сведчыць, што жыццё не перапынялася і ў інш. часы. У 16—18 ст. у дамах жыхароў прадмесця стаялі кафляныя печы. Некаторыя з іх былі абкладзены пліткамі з геральдычным арнаментам, пакрытымі палівай зялёнага колеру. Да 16 ст. адносяцца знаходкі міскападобнай кафлі з круглым вусцем. Сярод знаходак каробчатай кафлі ёсць бракаваныя экзэмпляры, што сведчыць аб яе вытворчасці ў 16—17 ст. на тэр. Траецкага прадмесця. Керамічны посуд прадстаўлены сталовымі талеркамі, міскамі, кубкамі, сальніцамі. Кухонныя начынні ўключаюць рознага аб'ёму гаршкі, макотры, збаны. У 17—18 ст. выкарыстоўваліся гліняныя паўсферычныя скарбонкі, падсвечнікі. У пласце 17 ст. з'яўляюцца тытунёвыя люлькі. Аб гандл. сувязях з прырэйнскімі гарадамі Германіі сведчаць знаходкі фр-таў піўных куфляў і збаноў каменнай рэйнскай керамікі. Жаночы скураны абутак у 17—18 ст. меў драўляны абцас, абцягнуты скурай, мужчынскія боты і пантофлі — набраны са скураных пласцін абцас, які мацаваўся да падэшвы трохшыпнымі жал. падкоўкамі. Шкляны посуд 16—18 ст. прадстаўлены квартамі, стопкамі, шкляніцамі, выраблены шляхам адвольнага дуцця. Сценкі і паддоны цыліндрычных шкляніц упрыгожаны накладнымі стужкамі, плечыкі квартаў — накладнымі клеймамі з лацінскімі манаграмамі. Цікавай знаходкай з'яўляюцца шкляныя манocclі.

Матэрыялы археал. даследаванняў захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі. *В.Е.Собаль.*

**МІНСКІ НІ́ЖНІ РЫ́НАК 15—19 ст**. Размяшчаўся ў міжрэччы правых берагоў рэк Свіслач і Няміга, на Пд ад умацаванага *Мінскага замка.* Упершыню ўпамінаецца ў дакументах 15 ст. Сфарміраваўся, верагодна, на месцы гандл. часткі стараж. пасада (пісьмовых сведчанняў пра існаванне тут апошняга няма). Да рынку вялі вуліцы з Верхняга і Рыбнага рынкаў, з замка. Мост цераз р. Свіслач злучаў М.Н.р. са шляхам на Лагойск і Барысаў. Плошча была забудавана сядзібамі заможных гараджан, якія займаліся вытворчасцю і збытам сваіх вырабаў, продажам і абменам прывазных тавараў. Раскопкі каля тэр. рынку праводзілі ў 1974 і 1987—88 супрацоўнікі ІГ АН Беларусі. Выяўлены рэчавы матэрыял 16—17 ст. (асобныя прадметы 11—13 ст.). На адной з сядзіб знойдзены мясц. вырабы са шкла (у т.л. бракаваныя шкляныя гузікі, магчыма, вучнёўскай работы) і імпартныя тавары. На другой выяўлены арнаментаваныя касцяныя накладкі і сыравіна для іх (пілаваныя косткі жывёл). У будынках зафіксаваны печы,

абліцаваныя зялёнай або паліхромнай кафляй. Тагачасныя дамы будавалі з дрэва ў 1—2 паверхі; на сядзібе — не менш 3 дамоў жылога і гасп. прызначэння. На месцы былых будынкаў, якія згарэлі ці састарэлі, ставілі новыя адпаведна размяшчэнню і арыентацыі папярэдніх.

*Літ.*: Беларускі архіў. Т. 3. Мінск, 1930.

*П.А.Русаў.*

**МІНСКІ ПАЛА́Ц ВАНЬКО́ВІЧАЎ У СЛЯПЯ́НЦЫ**. Сельская сядзіба Ваньковічаў пабудавана ў прыгарадзе Мінска Вял. Сляпянка ў пач. 19 ст. У яе склад уваходзіў мураваны дом-палац, бакавыя флігелі і парк. Ад былога маёнтка захаваўся толькі дом, які знаходзіцца на сучаснай вул. Філімонава. У 2005 В.Е.Собаль праводзіў археолага-архіт. даследаванні помніка. Вакол дома захаваўся шэры культ. пласт таўшч. 0,4—1,9 м. Мураваны палац Ваньковічаў быў пабудаваны на заселеным у 17—18 ст. месцы, аб чым сведчаць знаходкі пячной тэракотавай кафлі (упрыгожана стылізаванымі парасткамі, узятымі ў рамку) і фр-таў гліняных кухонных гаршкоў. Верагодна, тут стаяў драўляны жылы дом. Сам 2-павярховы будынак палаца быў узведзены ў пач. 19 ст. Сцены складзены з чырвонай цэглы памерамі 28—28,5 × 13,5—14 × 6,5—7 см, якая замацавана вапнавай рошчынай. Меўся падвал. Падмуркі палаца складзены з камянёў на вапнавай рошчыне, шчыліны паміж якімі закладзены кавалкамі цэглы і цэлымі цаглінамі. Да падмуркаў першапачаткова прылягала адбрукоўка шыр. да 1 м з дробных камянёў памерам 10—12 см.

Памяшканні палаца ацяпляліся кафельнымі печамі, якія стаялі на мяжы пакояў і былі абкладзены кафляй з гладкай вонкавай пласцінай, пакрытай палівай зялёнага і карычневага колераў. У некаторых пакоях палаца падлога была выкладзена з чырвонагліністай пліткі квадратнай формы памерамі 19 × 19 см і таўшч. 2 см. Дах пабудовы быў накрыты, верагодна, гонтай. Кавалкаў кровельнай бляхі і дахоўкі 19 ст. не знойдзена.

У культ. пласце вакол помніка сабрана 255 знаходак 17—20 ст. Сярод іх фр-ты гліняных гаршкоў, місак, талерак, кубкаў, шмат пячной кафлі і керамічнай пліткі падлогі. Шкло прадстаўлена фр-тамі аконных шыб, бутэлек, аптэчных флаконаў. Сярод металічных знаходак пераважаюць каваныя цвікі. У калекцыі ёсць таксама жал. скобы, кастыль, дзвярная пятля, латунная спражка, лязо кухоннага нажа. *В.Е.Собаль.*

**МІНСКІ ЦАРКО́ЎНЫ ГІСТО́РЫКА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т**. Існаваў у 1908—14 у Мінску. Быў створаны пры Мінскай епархіі з мэтай збору, захавання, вывучэння, папулярызацыі помнікаў археалогіі, гісторыі і культуры на тэр. Мінскай губ. Першым старшынёй к-та быў дырэктар нар. вучылішча М.М.Былоў, з 1909 — А.К.Снітка. Пры к-це ў 1908 адкрыты царкоўна-археал. музей (першы наглядчык Дз.В.Скрынчанка). У 1910 фонд налічваў 1363 экспанаты, у т.л. рэчы царкоўнай даўніны, рэлігійнага культу, матэрыялы этнагр. экспедыцый, нумізматычную калекцыю і археал. знаходкі з раскопак пад Пінскам, Радашковічамі, Слуцкам і Туравам; частка экспанатаў перададзена з музея бел. археолага Г.Х.Татура. Аснову экспазіцыі стваралі 4 антымінсы 18 ст., 9 воздухаў, 2 плашчаніцы, скуфейка, епітрахіль, еўхарыстычны посуд, 15 абразоў, 21 крыж, 14 медалёў; археал. знаходкі: 21 каменная сякера, пацеркі, пячаткі, манеты і інш. З Турава у музей быў прывезены стараж. язычніцкі саркафаг з чырвонага шыферу з рэшткамі костак і залатых ніцяў. Музей меў багаты кніжны фонд (каля 1900 тамоў кніг, дакументы 16—18 ст., у т.л. рукапісы кніг «Тыпікон» 16 ст., «Апостал» 16 ст., «Мінея агульная» к. 17 ст., «Сінопсіс» 18 ст., архіў Слуцкага Троіцкага манастыра). Сабраная членамі к-та гіст. і крыніцазнаўчая база садзейнічала з'яўленню шэрага прац па гісторыі Мінскай губ. У 1909—13 пад рэдакцыяй Дз.В.Скрынчанкі к-т выдаў 4 выпускі сваіх прац (*«Мінская даўніна»*); пад рэдакцыяй А.К.Сніткі выйшаў каталог найб. каштоўных калекцый музея з алфавітным паказальнікам асабістых імёнаў, месцаў і прадметаў. К-т і музей спынілі дзейнасць з пачаткам 1-й сусветнай вайны.

*Літ.*: Минские Епархиальные Ведомости. Минск, 1908. № 6; Тое ж. № 7; Тое ж. 1909. № 24; Тое ж. 1913. № 20; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984.

*А.В.Пашык.*

**«МИ́НСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, афіцыйная газета, якая выдавалася ў 1838—1917 Мінскім губернскім праўленнем. Выходзіла 1—2 разы на тыдзень на рус. мове. Мела часткі: афіцыйную (змяшчала інфармацыю па матэрыялах «Правительственного вестника» і мясц. улад) і неафіцыйную (выходзіла ў 1838—92 і 1911).

У неафіцыйнай частцы змяшчаліся гіст., археал. і этнагр. звесткі, літаратурныя публікацыі, карэспандэнцыі з гарадоў і вёсак. Значнае месца займалі артыкулы, якія ў папулярнай форме знаёмілі чытача з вынікамі археал. даследаванняў, найб. важнымі старонкамі стараж. гісторыі роднага краю. Вял. ролю ў гэтым адыграў Р.Г.*Ігнацьеў* — рэдактар неафіцыйнай часткі ў 1877—80. У працы «Раскопкі курганоў у Заслаўі Мінскага павета» (1877, № 49—51; 1878, № 24—27) падвёў вынікі сваіх даследаванняў у Заслаўі, даў апісанне знойдзеных рэчаў. У шэрагу нумароў за 1878—79 друкавалася археал. карта Мінскага пав. і тапаграфічныя прывязкі да яе, апісанне гарадзішчаў і курганоў, датаванне і вывады аб этнічнай прыналежнасці гэтых помнікаў. У арт. «Мястэчка Заслаўль ці Ізяслаў, горад нашчадкаў Рагнеды» (1878, № 1, 2) Р.Г.Ігнацьеў

прыводзіць летапісныя звесткі пра заснаванне Заслаўя, падмацоўвае іх апісаннем замчышча, гарадзішча, курганнага некропаля. У арт. «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, былой сталіцы Тураўскага княства» (1877, № 2—4) і «Тураў і Тураўшчына» (1877, № 4—9) у папулярнай форме дадзена гісторыя стараж. Турава, апісаны гарадзішча, курганныя могільнікі Тураўшчыны. У 1879 (№ 18—25, 38) газета змясціла падрабязнае апісанне археал. экспанатаў, прадстаўленых Мінскім стараж. к-там на Маскоўскай антрапалагічнай выстаўцы (1880). У арт. «Мінская хроніка» (1879, № 34, 40) змешчана характарыстыка скарбаў польскіх манет 17 ст., манет Рэчы Паспалітай, ВКЛ і шведскіх з Навагрудскага і Барысаўскага пав. У шэрагу нумароў за 1891—92 друкавалася праца Г.Х.Татура «Нарыс археалагічных помнікаў на прасторы Мінскай губерні», якая фактычна з'явілася першай археал. картай Мінскай губ., дзе змешчаны вядомыя на той час помнікі каменнага і бронзавага вякоў. Друкаваліся агляды археал. даследаванняў У.З.Завітневіча ў Рэчыцкім і Мазырскім пав. Вынікі яго археал. даследаванняў у Мінскай губ. падвёў М.В.Доўнар-Запольскі (1892, № 36), які падтрымаў вывад У.З.Завітневіча пра тое, што курганныя могільнікі пакінуты дрыгавічамі, паказаў межы іх рассялення. Газета падтрымлівала сувязі з археолагамі краіны, садзейнічала арганізацыі *Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта* і музея пры ім. *У.Дз.Будзько.*

**МІНСКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ**, помнік архітэктуры эпохі класіцызму ў г. Мінск. Знаходзіцца на пл. Свабоды, тарцы будынка выходзяць на вуліцы Герцэна і Кірылы і Мяфодзія. Пабудаваны ў 1809—17.

Даследавалі ў 1979 В.Е.Собаль і А.А.Трусаў, у 1990 В.Е.Собаль, у 1993 А.А.Трусаў і І.У.Ганецкая, ў 1999 В.Е.Собаль. Вывучана 174 м². Даследавана 12 з 20 памяшканняў гандл. радоў. Падмуркі помніка залягаюць у культ. пласце на глыб. 0,4—0,6 м, захаваліся на выш. 1,2—2,1 м. Памяшканні крам пл. 13—15 м² маюць у плане квадратную або трапецападобную форму. Падмуркі радоў выш. 0,6—0,7 м зроблены з цэглы і камянёў. Сцены таўшч. 0,9—1 м складзены з чырвонай цэглы 19 ст. памерамі 25,5—27 × 12—14 × 5,5—7 см, замацаванай вапнавай рошчынай. У сценах-перагародках паміж памяшканнямі былі зроблены арачныя праёмы, праз якія можна было пераходзіць з крамы ў краму. Пазней праёмы былі закладзены цэглай, а ўваход у крамы зрабілі з боку касцёла ў зах. сцяне гандл. радоў.

Вызначана, што М.г.р. былі пабудаваны на абжытым месцы. Пад іх падмуркамі захаваўся культ. пласт таўшч. 0,3—0,55 м, які датуецца 16—18 ст. Асобныя фр-ты гліняных гаршкоў 12—15 ст., шыферныя праслііцы, фр-ты касцяных вырабаў з цыркульным узорам сведчаць аб тым, што гэта тэр. была заселена яшчэ на раннім этапе гісторыі горада. Вакол помніка захаваўся культ. пласт 1,8—3,2 м, у якім у 1999 знойдзены 1684 артэфакты 12—19 ст. У асн. гэта бытавы гліняны посуд, сярод якога пераважаюць кавалкі гліняных кухонных гаршкоў з пукатым тулавам і валікападобным венцам 16—18 ст. Знойдзены таксама



*Да арт. **Мінскія гандлёвыя рады**. Памяшканне крамы (раскопкі В.Е.Собаля).*

фр-ты гліняных місак, талерак, крынак, збаноў, макотраў, кубкаў, чайнікаў, сподачкаў і салонак. Сабрана калекцыя пячной кафлі. Асобнымі кавалкамі прадстаўлена гаршковая кафля 16 ст. На каробчатай неглазураванай і пакрытай зялёнай палівай кафлі пераважаюць рэльефныя геам. і стылізаваныя раслінныя ўзоры. Сярод вырабаў са шкла — фр-ты квартаў, бутэлек, шклянак, стопак, аптэчных флаконаў 17—19 ст. Металічныя вырабы прадстаўлены акоўкай драўлянай лапаты, конскімі падковамі 17—19 ст., падкоўкамі абцасаў, каванымі цвікамі. У культ. пласце знойдзены медныя манеты 18—19 ст. Расійскай імперыі. У пач. 21 ст. М.г.р. адрэстаўраваны.

*В.Е.Собаль.*

**МІНСКІЯ ГАНЧА́РНЫЯ ГО́РНЫ**, археалагічныя аб'екты, знойдзеныя ў г. Мінск падчас раскопак. Уяўляюць сабой спец. збудаванні, прызначаныя для абпалу ганчарных вырабаў і кафлі.

Першы горан знайшоў В.Е.Собаль у 1980 пры наглядзе за землянымі работамі на глыб. 2,7 м уздоўж вул. Няміга, побач з Петрапаўлаўскай царквой 17 ст. Збудаванне амаль цалкам захавалася ў профілі траншэі. Горан уяўляў сабой круглую ў плане канструкцыю выш. 1 м. Зроблены з чырвонай, добра ачышчанай і абпаленай з унутранага боку гліны, таўшч. сценак 10—12 см. Складаўся з 2 камер — верхняй і ніжняй, якія раздзяляліся дугападобнай перагародкай з 14 прадухамі (спец. адтуліны дыям. 8—15 см). З ніжняй камеры (топка) полымя і гарачае паветра праходзілі праз прадухі ў верхнюю камеру, дзе адбываўся абпал керамічнай прадукцыі. Верхняя камера выш. 50 см, ніжняя — 54 см, унутраны дыям. 0,9 м. Арачны праём для загрузкі дроў меў выш. 35 см, на момант расчысткі быў закладзены камянямі, абмазанымі глінай. Горан быў заглыблены ў грунт, побач з ім ляжалі нарыхтаваныя дровы. У верхняй камеры знаходзілася партыя кафлі, у час абпалу якой корпус горна трэснуў (аб гэтым сведчыць вертыкальная расколіна). Майстар не стаў яго аднаўляць, пакінуўшы назаўсёды разам з абпальваемай прадукцыяй. Яна ўключала розныя



*Да арт. **Мінскія ганчарныя горны**. Горан 17 ст. з раскопак на пл. Свабоды.*

тыпы каробчатай кафлі — сцянную, гзымсавую, паясковую, каронку, а таксама перамычкі для закладкі швоў паміж радамі кафлі. Адначасова абпальваліся паліваныя і непаліваныя вырабы. Кафля арнаментавана геам.-расліннымі ўзорамі ў рэнесансавым стылі. Тут жа быў знойдзены кавалак глінянай формы для выціскання ўзору на вонкавай пласціне кафлі. Горан датуецца 2-й пал. 16 ст. Пасля раскопак быў перавезены ў Заслаўскі філіял Нац. музея гісторыі і культуры Беларусі.

Другі горан знойдзены ў 1999 на пл. Свабоды ў час археал. раскопак гандл. радоў, у куце аднаго з памяшканняў, побач з агароджай бернардзінскага касцёла 17 ст. Горан быў заглыблены на 0,7 м у яму дыям. 2,4 м. Складзены з чырвонай цэглы-пальчаткі, абмазаны глінай, мае круглую форму, дыям. 1,6 м, выш. 0,5 м. Складаецца з 2 частак: ніжняя цыліндрычнай формы выш. 0,25 м, верхняя ў форме конуса. Круглае вусце дыям. 0,8 м. Пасярэдзіне камеры зроблены з цэглы круглы подыум дыям. 0,6 м, выш. 0,2 м. На яго ставілі начынні, у якіх гатавалі паліву для пакрыцця бытавога посуду і пячной кафлі. Побач з горнам у культ. пласце сабраны фр-ты зялёнапаліванага глінянага посуду і кафлі 17 ст. Пасля рэстаўрацыі гандл. радоў горан знаходзіцца ў інтэр'еры рэстарана.

*В.Е.Собаль.*

**МІНТУРО́ВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішчы, паселішча, курганная група каля в. Мінтурова Полацкага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча-1 за 2 км на Пн ад вёскі, на правым беразе воз. Стаўпецкае. Мясц. назва Чорная Гара. Даследаваў у 1965 і 1973 Г.В.Штыхаў, у 1988 Г.М.Семянчук. Пляцоўка авальная памерамі 60 × 40 м. З Пн, З, ПнУ і ПдЗ умацавана валам выш. 3—4 м і ровам, з астатніх бакоў — балота. Культ. пласт 0,4—1 м. Знойдзены ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, жал. шпілька посахападобнай формы з навершам. Адносіцца да ранняга жал. веку.

Гарадзішча-2 за 0,2 км на Пн ад гарадзішча-1. Пляцоўка памерамі 50 × 25—30 м. Захаваліся вал. выш. да 3 м і роў шыр. 2—6 м. Культ. пласт не выяўлены; магчыма, гэта гарадзішча-сховішча.

Паселішча на паўн. баку воз. Мінтурова. Памеры 400 × 70 м. Сабрана кераміка 12—17 ст.

Курганная група ў цэнтры вёскі, каля сучасных могілак, на ўзгорку. Мясц. назвы Валатоўкі, Французскія магілы. У 1873 было 173 насыпы, захавалася каля 25, астатнія знішчаны ў 1960-я г. пры распрацоўцы кар'ера. Курганы ў плане круглыя, дыям. 5—12 м, выш. да 2 м. Адзін курган раскапаў у 1965 Г.В.Штыхаў, яшчэ адзін — у 1988 Г.М.Семянчук. Абодва насыпаны з жоўтага пяску, каля асновы попельна-вугальная праслой-

ка. Першы курган пусты. У другім выяўлены 3 пахаванні па абраду трупапалажэння на мацерыку. Усе касцякі арыентаваны галавой на З; адзін быў у драўлянай труне. Знойдзена ганчарная кераміка 11—12 ст.

*Літ.:* Штыхов Г.В Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971. *Г.М.Семянчук.*

**МІР**, гарадскі пасёлак у Карэліцкім р-не, на р. Міранка. За 26 км ад г.п. Карэлічы, 17 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск—Баранавічы, на аўтадарозе Навагрудак—Мінск.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1395 у сувязі з нападам крыжакоў. У 1434 вял. кн. ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч падараваў М. віленскаму кашталяну Сенку Гедыголдавічу. У 15 ст. М. — горад, быў абнесены лініяй умацаванняў. З 1486 уладанне роду Іллінічаў. У к. 15 — пач. 16 ст. Юрый Іллініч збудаваў на ўсх. ускраіне 5-вежавы *Мірскі замак.* З 1555 цэнтр Мірскага графства, з 1568 уладанне Радзівілаў. З 1579 горад карыстаўся няпоўным магдэбургскім правам, з 1589 у складзе Нясвіжскай ардынацыі. У сяр. 16 ст. складаўся са Старога і Новага (за Слонімскай і Мінскай брамамі) местаў. У 1-й пал. 17 ст. 477 двароў. У 1533—50 збудавана Троіцкая царква, у 1587 — драўляны касцёл (з 1605 мураваны). Існавалі мураваная ратуша і шпіталь. У к. 16 — пач. 17 ст. вакол горада ўзведзены новыя ўмацаванні — земляны вал са сцяной і роў. Меліся 4 мураваныя брамы: Віленская, Мінская, Нясвіжская, Слонімская. У 17 ст. М. стаў буйным цэнтрам рамяства і гандлю. У архіўных матэрыялах 1600—20 згадваюцца 18 рамесных спецыяльнасцей, у т.л. па апрацоўцы металу, вырабе зброі, гарбарская, кушнерская, ткацкая, ганчарская і інш. У 1620-я г. горад перажыў мор, у памяць пра яго ахвяры на рыначнай плошчы была збудавана капліца. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 часткова спалены, у вер. 1655 узяты рус. войскамі, потым шведамі. У 1667 у горадзе 2295 двароў. Пасля вайны адноўлены; у 2-й пал. 17 ст. 478 двароў, 49 рамесных спецыяльнасцей, у т.л. звязаных з абслугай замка (кафляры, шпалернікі, механікі і інш.). Цэнтрам горада была плошча, да якой вялі гал. вуліцы Віленская, Слонімская, Мінская. У 1705 пры Троіцкай царкве засн. базыльянскі кляштар. У час Паўн. вайны 1700—21 горад і замак захоплены шведамі (1706), прадмесці спалены. У 1-й пал. 18 ст. ў М. 364 двары, 57 рамесных спецыяльнасцей. У 2-й пал. 18 ст. тут пасяліліся цыганы, размясцілася рэзідэнцыя цыганскага старшыні (караля) ВКЛ, якому Караль Радзівіл (Пане Каханку) даў у 1787 прывілей на вядзенне цыганскіх спраў і суд над імі. У к. 18 ст. ў горадзе 418 двароў. У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Расійскай імперыі.

На тэр. пасёлка археал. раскопкі праводзіў у 1982—84 і 1988—89 А.К.Краўцэвіч. Даследавана 345 м². Культ. пласт часоў сярэдневякоўя 1—3,5 м. Складаецца з 3 асн. напластаванняў: к. 14—16 ст. — магутнасцю 0,4—0,9 м; 16—17 ст. — 0,2—1 м; 17—20 ст. — 0,6—1,5 м, са шматлікімі праслойкамі гліны, пяску, бітай цэглы. Найб. магутны пласт у цэнтры пасёлка, вакол плошчы. Культ. пласт таксама прасочаны на ўчастках шыр. 15—20 м, якія прылягаюць да вуліц, дзе размяшчаліся двары, жылыя і гасп. пабудовы. У глыбіні сядзіб, дзе былі агароды, амаль адсутнічае.

У ліку знаходак: керамічны посуд (гаршкі, міскі, талеркі, збаны, крынкі, латкі, макотры, біклагі, глякі, чаркі); кафля (гаршковая 14—16 ст. і каробчатая з раслінным, геаметрычным, зааморфным і геральдычным арнаментам, у т.л. спецыфічным — выявай радзівілаўскага арла і мясц. варыянтамі выяў міфічных жывёл); шкляны посуд (шкляніцы, бутэлькі, бутлікі, кварты, келіхі, чаркі, стопкі); аконнае шкло 17—18 ст., дахоўка, падсвечнікі, люлькі, цвікі, сякеры, скабянка, падковы, вырабы з косці і каменю. Знойдзены 21 манетны скарб 17 ст.: 93 медныя соліды Яна ІІ Казіміра, 4 білонныя манеты — 2 талеры антверпенскай чаканкі і 2 шасціграшовікі (Рэчы Паспалітай і прускі).

У цэнтры пасёлка каля плошчы выяўлены рэшткі вял. мураванага будынка 17 ст., магчыма, ратушы. На паўд. ускраіне раскапаны падмурак будынка з ніжняй часткай кафлянай печы 2-й пал. 17 ст., побач — напаўразбураны горан 18 ст. Даследаванні сведчаць, што ў 17 ст. асн. тэр. паселішча размяшчалася ў прамавугольніку, абмежаваным сучаснымі вуліцамі Танкістаў, Ленінградскай, завулкам Першамайскім, р. Міранка.

*Літ.:* Кравцевич А.К. Исследование поздне-средневековых поселений городского типа // АО 1982. М., 1984. *А.К.Краўцэвіч.*

**МІРАЛЮ́БАЎ** Баян Васілевіч (10.11.1908, ст. Ахтырка Тамбоўскай губ. — 30.11.1989), беларускі археолаг і краязнавец. Скончыў гімназію ў Пінску і 3 курсы Варшаўскага ун-та. У 1939—40 на прафсаюзнай і сав. рабоце ў Пінску; з 1949 інспектар па ахове помнікаў культуры. У 1954—78 у Пінскім краязнаўчым музеі: навук. супрацоўнік, дырэктар. У 1954—64 удзельнічаў у археал. раскопках могільнікаў, селішчаў, гарадзішчаў на Піншчыне, кіраваў раскопкамі дзяцінца і вакольнага горада Пінска.

*Тв.:* Пинск: ист.-экон. очерк. Минск, 1977 (разам з А.П.Дунцом).

**МІ́РСКІ ЗА́МАК**, помнік архітэктуры 16—18 ст. ў г.п. Мір Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. Пабудаваны ў пач. 16 ст. магнацкім родам Іллінічаў; пазней належаў Радзівілам, Вітгенштэйнам, Святаполк-Мірскім. Замак у плане блізкі

да квадрата са стараной каля 75 м, па вуглах мае 5-павярховыя вежы выш. 25—27 м, якія выходзяць за межы сцен. Пятая вежа — 6-павярховая з уязной брамай, перад якой былі пад'ёмны мост і герса (каваныя краты, што дадаткова зачынялі браму, нечакана апускаліся перад атакуючым ворагам), знаходзілася пасярэдзіне зах. сцяны. Усе вежы маюць аднолькавыя абрысы (да паловы трэці вышыні — чатырохграннае сячэнне, вышэй — васьміграннае), прарэзаны 2 радамі байніц і амбразурамі для вядзення агню з ручной агнястрэльнай зброі і гармат. Архіт. апрацоўка фасадаў кожнай вежы грунтуецца на розных па форме і велічыні дэкаратыўных нішах і арнаментальных паясах. Арнаментальна аздоблены і замкавыя муры. Па ўсім перыметры замка праходзіць цагляны дэкаратыўны пояс. Некаторыя цагліны маюць клеймы цагельнікаў. Атынкаваныя ў беларужовы колер нішы, цягі, паясы вежаў і сцен прыгожа спалучаліся з цёмна-чырвонай фактурай цаглянай паверхні сцен, ствараючы цэласную архіт. кампазіцыю. У некаторых атынкаваных нішах на фасадах замкавых вежаў пад час рэстаўрацыі знойдзены фрэскавы роспіс.

У пластычным афармленні замка выкарыстаны характэрныя для бел. готыкі выяўленчыя сродкі: гатычная муроўка (чаргаванне тычка і лажка) з умураванымі камянямі і выкарыстаннем клінкернай цэглы, падзел сцен разнастайнымі па форме атынкаванымі нішамі, арнаментальныя цагляныя паясы. Замак быў абкружаны земляннымі валамі выш. каля 10 м і ровам з вадою. У сярэдзіне 16 ст. ў двары да паўд. і ўсх. сцен быў прыбудаваны аднапавярховы палац са скляпеністымі памяшканнямі і сутарэннямі, да 1616 да яго прыбудаваны яшчэ 2 паверхі. Палац меў каля 40 пакояў, аздобленых лепкай. З 1969 знаходзіцца ў стадыі кансервацыі і рэстаўрацыі.

Археал. даследаванні замка праводзілі ў 1912 Ю.Ядкоўскі, у 1972 М.А.Ткачоў, у 1980—84, 1989—91 А.А.Трусаў (у 1982 разам з І.М.Чарняўскім). У час раскопак 1972 вывучаны рэшткі мураванага ўмацавання к. 16 — пач. 17 ст., якое знаходзілася перад гал. брамай. У плане — падковападобная цагляная сцяна таўшч. 1,25 м. У выніку далейшых раскопак ускрыта каля 4000 м² пл. Культ. пласт таўшч. ад 0,2—0,3 м каля валоў да 1,8 м каля замкавых муроў і ў паўд.-зах. частцы двара. Высветлена, што на месцы мураванага замка ў 2-й пал. 15 ст. існавала паселішча, якое знішчана ў выніку пажару, пра што сведчыць вугальная праслойка. Знойдзены развал глінабітнай печы, складзенай з гаршкавой кафлі, шмат непаліванай керамікі 15 — пач. 16 ст. На месцы паселішча ў пач. 16 ст. будаўнікі зрабілі насып з пяску і гліны таўшч. ад 0,2 да 1 м і на ім збудавалі замак, падмуркі якога заглыблены на 4—5 м. Земляны вал і бастыёны вакол замка былі насыпаны ў больш позні часы з гліны, пяску і культ. пласта 16 ст. У 1981—84 адкрыты падмуркі і рэшткі сцен 1-павярховых прыбудоў к. 16 — пач. 17 ст. каля паўд. і зах. замкавых муроў. На Пн ад замка прасочаны рэшткі цагляных слупоў 17 ст., размешчаных парамі, якія былі апорамі для мастка, што вёў з парадных дзвярэй 2-га паверха паўд. корпуса ў парк, што размяшчаўся за валамі бастыёнаў. На З ад замка выяўлены развал печы, у якой у 16 ст. абпальвалі цэглу.

Знойдзены керамічныя люлькі, гаршкі, макотры, міскі, талеркі, рынкі, збаны, кубкі, буйнапамерная цэгла, дахоўка (з дэкаратыўным шыпам, у т.л. зялёнапаліваная, плоская і хвалістая), шкляныя кварты, пляшкі, келіхі, чаркі, металічныя нажы, падковы, спражкі, шпоры, відэльцы, ключы, замкі, манеты, гарматныя ядры, вял. колькасць кафлі (тэракотавая, зялёная паліваная, паліхромная, а таксама сцянная, вуглавая, гзымсавая, пясковая, кафля-дахоўка, кафля-медальён і інш.). Знаходкі маюць вял. значэнне для распрацоўкі праекта рэстаўрацыі замка.

Частка знаходак змешчана ў музейнай экспазіцыі Мірскага замка, а таксама Гродзенскага гісторыка-археал. музея і музея стараж.-бел. культуры НАН Беларусі.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.) Мінск, 1977; Чантурия В.И. История архитектуры Белоруссии. 2 изд. Минск, 1977; Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области // СА. 1986. № 4; Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области // Там жа; Трусаў А.А., Здановіч Н.І., Краўцэвіч А.К. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка. Мінск, 1995; Калнін В.В. Мірскі замак. Мінск, 2002.

*А.А.Трусаў.*

**МІРЧЫНК** Георгій Фёдаравіч (25.4.1889, Масква — 10.4.1942) беларускі геолаг. Акадэмік АН БССР (1940), праф. (1918). Скончыў Маскоўскі ун-т (1912). З 1930 заг. кафедрамі Маскоўскага геолага-разведачнага ін-та, адначасова з 1934 заг. аддзела Ін-та геалагічных навук СССР. Прафесійная дзейнасць звязана з вывучэннем стратыграфіі і палеагеаграфіі розных раёнаў СССР, апісаннем фарміравання і выяўленнем узросту тэрасавых адкладаў, лёсаў, пахаваных міжледавіковых адкладаў, палеалітычных стаянак, у т.л. Юравічы і Бердыж на тэр. Беларусі. У 1923 ён першым склаў карту чацвярцічных адкладаў на тэр. еўрап. часткі СССР. Займаўся праблемай водазабеспячэння Мінска, пошукам радовішчаў буд. матэрыялаў на тэр. ўсх. Беларусі, геолагаразведкай. У 1941 рэпрэсіраваны, рэабілітаваны ў 1990.

*Тв.*: О соотношении речных террас и стоянок палеолитического человека в бассейнах рек Десны и Сожа // Бюл. Московского о-ва испытателей природы. Отд. геолог. М., 1929. Вып. 1—2; Геалагіч-


*А.Г.Мітрафанаў.*

ныя ўмовы знаходжання палеалітычнай стаянкі каля в. Бердыж на р. Сажы (Гомельшчына) // Працы. Т. 2; Геологические условия нахождения палеолитических стоянок в СССР и их значение для восстановления четвертичной истории // Тр. II Междунар. конф. ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. М.; Ленинград, 1934. Вып. 5.

*Літ.:* Гербова В.Г. Четвертичная геология в трудах Г.Ф. Мирчинка // Тр. Геологического ин-та АН СССР. М., 1973. Вып. 239; Академик Г.Ф.Мирчик: знаток истории Земли. Минск, 1999. *А.Г.Калечыц.*

**МІ́СКА**, від сталовага посуду; паліваныя, размаляваныя ангобам, дымленыя, глянцаваныя, маёлікавыя і фаянсавыя начынні піялападобнай ці ўсечана-канічнай формы, якія рабіліся без борціка ці з гарызантальна адхіленым борцікам шыр. да 2,5 см. З 18 ст. найб. пашыраны М. з вертыкальным борцікам. Самыя раннія М., што ўяўлялі сабой фактычна абрэзаны гаршчок, знойдзены на стаянцы-2 *Асавец* плямёнаў *паўночнабеларускай культуры* (мяжа неаліту і бронзавага веку), а таксама на помніках *сярэдненяпроўскай культуры* бронзавага веку. Развітая складана-прафіляваная форма М. ўпершыню з'яўляецца ў зарубінецкіх плямёнаў на Палессі. Некаторыя з пасудзін мелі высокі кальцавы паддон, афармленне венца фактычна паўтарала венца гаршкоў. Такая форма начыння ва Усх. Палессі і Падняпроўі праіснавала да сяр. 20 ст. Непаліваныя М. да 16 ст. спалучалі функцыі кухоннага і сталовага посуду. Толькі з 16 ст. (найб. распаўсюджанымі сталі ў 17 ст.) паліваныя М. становяцца выключна сталовым посудам, што пацвярджаецца адсутнасцю нагару на знешняй паверхні сценак. У 18 ст. ў шырокім карыстанні з'яўляюцца маёлікавыя і фаянсавыя, а ў 19 ст. і фарфоравыя вырабы. У 18 ст. побач з неглыбокімі (да 6 см) місачкамі з вузкім (да 2 см), амаль гарызантальна адагнутым венцам з'яўляюцца і займаюць вядучую ролю ў сталовай кераміцы М. з вертыкальным борцікам выш. 2,5—3,5 см (Мірскі замак і Гродна). Большасць начынняў мае дыям. венца 23—26 і нават 30 см, каленападобны ўступ пры пераходзе да прыдоннай часткі. Сярод М. гэтага тыпу шмат дымленых з глянцаваным сеткавым ці петлепадобным арнаментам на ўнутранай паверхні (Мірскі, Гальшанскі замкі, Слонім). Магчыма, генетычна М. з вертыкальным борцікам звязаны з паўміскамі, што пацвярджаецца наяўнасцю каленападобнага ўступа ў месцы пераходу да прыдоннай часткі. Паліваныя М. з вертыкальным борцікам працягвалі ўжывацца ў 19 ст. (без каленчатага ўступа, цыліндраканічнай формы). Побач з М. з карычневай палівай ёсць начынні, пакрытыя эмаллю. Сярод пасудзін названага тыпу сустракаюцца вельмі вял. экзэмпляры: дыям. венца 40—50 см, выш. 16—18 см. У якасці сталовага посуду ў гэты час ужываліся М. з нешырокім амаль гарызантальна адхіленым венцам з плямамі кантрастных паліў па зялёным ці (найчасцей) карычневым фоне (Полацк). На тэр. Магілёўшчыны ў 17 ст. найб. распаўсюджанымі былі М. з гарызантальна адагнутым нешырокім борцікам, часам таўсцейшым за сценкі начыння (Магілёў, Мсціслаў). Маглі ўпрыгожвацца хвалістым, у выглядзе канцэнтрычных кругоў ці кветкі арнаментам; выш. М. 10—12 см, дыям. венца да 25 см і 30—40 см. У Магілёве ў 17 ст., а магчыма, і пазней, выраблялíся невялічкія місачкі ўсечана-канічнай формы, пакрытыя знутры зялёнай ці карычневай палівай. Частка начынняў мела рыфленне звонку пасярэдзіне тулава. Невял. памеры гэтых вырабаў (дыям. венца 6,5—8 см, донца 4—5 см і выш. да 7 см) даюць падставу адносіць іх як да сталовага, так і да цацачнага посуду.

*Літ.:* Здановіч Н.І., Трусаў А.А. Беларуская паліваная кераміка XI—XVIII стст. Мінск, 1993; Здановіч Н.І. Посуд у побытавай культуры шляхты і мяшчан (паводле пісьмовых крыніц XVI—XVIII ст.) // Мастацкая спадчына Нясвіжа: матэрыялы міжнар. навук. канф., Нясвіж, 14 мая 2005 г.: у рамках X Бел. фестывалю камернай музыкі. Нясвіж, 2005.

*Н.І.Здановіч.*

**МІТРАФА́НАЎ** Аляксей Рыгоравіч (18.10.1912, в. Асташкава Цвярской вобл., Расія — 18.4.1988), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1956). Скончыў Ленінградскі ін-т гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі (1936), дзе і працаваў. Удзельнік Вял. Айч. вайны. У 1950—82 у ІГ АН Беларусі, потым у БДУ. Навук. дзейнасць прысвечана вывучэнню жал. веку на тэр. цэнтр. Беларусі. З 1950-х г. даследаваў гарадзішчы Міншчыны (Малышкі, Навасёлкі, Вязынка, Лабеншчына, Збаравічы і інш.). Сістэматызаваў старажытнасці культуры штрыхаванай керамікі: асаблівасці матэрыяльнай культуры, грамадскі лад, гасп. дзейнасць, паходжанне і этнічную прыналежнасць, сцвярджаў яе балтамоўны характар. Вывучэнне гарадзішчаў ранняга жал. веку паўн. Беларусі і ідэнтыфікацыя іх са старажытнасцямі Смаленшчыны дазволілі М. выказаць думку пра адзіны этнакульт. масіў — днепра-дзвінскую культуру. Вывучаў старажытнасці 3-й чв. 1-га тыс. банцараўскай культуры. У 1960-я г. ў паўн.-зах. рэгіёне дняпроўскага басейна і ў Панямонні выявіў некалькі дзесяткаў адкрытых паселішчаў 5—8 ст. і даследаваў некаторыя з іх (Гарадзішча, Гуры, Дзедзілавічы, Равячка). Аналіз сацыяльна-эканам. развіцця банцараўскага насельніцтва, пытанняў яго этнічнай прыналежнасці і арэала распаўсюджання пацвярджае, што тэр. сярэдняй і паўн. Беларусі разам са Смаленшчынай складаюць адзіны культурна-археал. масіў (банцараўска-тушамлінская культура), які належаў усх.-балцкай супольнасці. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыі Беларускай ССР» у 5 тамах (т. 1, 1972).

*Тв.*: Городище в Вязынке // Материалы по археологии БССР. Минск, 1957. Т. 1; Новые данные о памятниках VI—VIII вв. средней и северной Белоруссии // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Археология Белоруссии за советский период (разам з У.Дз.Будзько) // СА. 1967. № 4; Банцеровское городище // Белорусские древности. Минск, 1967; Территория распространения и проблема происхождения культуры штрихованной керамики // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Минск, 1969; О происхождении культуры типа верхнего слоя Банцеровщины (V—VIII вв.) // Беларускія старажытнасці: матэрыялы канф. па археалогіі БССР і сумежных тэрыторый. Мінск, 1972; Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978; Археологические памятники восточных балтов на территории Белоруссии в эпоху железа (VIII в. до н.э. — IX в. н.э.) // Из древнейшей истории балтских народов: (по данным археологии и антропологии). Рига, 1980.

*В.І.Шадыра.*

**МІХА́ЙЛАЎКА**, археалагічны помнік — стаянка эпохі мезаліту каля в. Міхайлаўка Светлагорскага р-на Гомельскай вобл. За 0,25 км на ПдУ ад вёскі, на мысе 2-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Бярэзіна. Выявіў і даследаваў 200 м² у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,25—0,35 м. Знойдзены вырабы з «сожскага» мелавога крэменю: постсвідэрскія і сіметрычныя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, разцы, ланцэтападобныя вастрыі, праколкі, скоблі, пласціны-ўкладышы, трапецыі, долатападобныя прылады, нуклеусы, рэтушоры, адшчэпы з рэтушшу і пласціны. Адносіцца да днепра-дзяснінскай культуры.

*Літ.*: Ксензов В.П. Раннемезолитические поселения Михайловка и Королева Слобода на р. Березине // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; Яго ж. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988. *У.П.Ксяндзоў.*

**МІХАЛЁВА 2**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча у Бабруйскім р-не Магілёўскай вобл.

Гарадзішча на паўд.-зах. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Ала, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка памерамі 66 × 50 м, выш. над поймай 1,5—2,3 м. З напольнага боку ўмацавана валам выш. да 1,7 м і ровам глыб. 1—3 м.

Адкрыў у 1964 Л.Д.Побаль, у 1978 абследаваў П.Ф.Лысенка. У 1996—98 М.І.Лашанкоў даследаваў 260 м². Культ. пласт 0,7—1 м. Ніжні гарызонт утрымліваў матэрыялы позняга неаліту (*днепра-данецкая культура*) і эпохі бронзы (*сярэднедняпроўская культура*), сярэдні —жал. веку 1 тыс. н.э., верхні — стараж.-рус. часу. Знойдзены кругавы посуд 11—13 ст., жал. нажы, ключы, замкі, прабоі, спражкі, ажурныя «дрыгавіцкія» пацеркі, манетападобныя падвескі, крыжык-цельнік з выемчатай эмаллю.

Селішча прымыкае да гарадзішча. Пл. 2—2,5 га. Культ. пласт 0,5—1,0 м. Пад'ёмны матэрыял прадстаўлены кругавой керамікай 11—13 ст., бронзавай бразготкай і шыферным прасліцам.

*Літ.*: Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии. Минск, 1974; Лашанкоў М.І. Культурная прыналежнасць гарадзішча Міхалёва Бабруйскага раёна // Гісторыя Беларусі: жалезны век і сярэднявечча: (тэз. дакл. навук. канф. прысвеч. 70-годдзю з дня нарадж. Г.В.Штыхава). Мінск, 1997; Яго ж. Михалевское городище // Старажытнасці Бабруйшчыны. Бабруйск, 1998. *М.І.Лашанкоў, В.І.Кошман.*

**МІХА́ЛКАЎСКІ СКАРБ ПРА́ЖСКІХ ГРО́ШАЎ**. Знойдзены каля в. Міхалкі Мазырскага р-на Гомельскай вобл. Складаўся з 280 манет: кароль Чэхіі Вацлаў IV [1378—1419] — 247 экз., нявызначаныя з-за дрэннай захаванасці — 33 экз. Датуецца 1-й чв. 15 ст. (вызначэнне В.Н.Рабцэвіча). Зберагасцца ў Мазырскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі (279 экз.), Ін-це археалогіі Расійскай АН (1 экз.).

*Літ.*: Колабава І.Н. Скарбы і адзінкавыя знаходкі манет XIV—XV стст. на тэрыторыі Беларускага Палесся (матэрыялы) // Славянский мир Полесья в древности и средневековье: материалы Междунар. историко-археол. конф. (19—20 окт. 2004 г.). Гомель, 2004; Мец Н.Д., Мельникова А.С. Клады монет (зарегистрированные Государственным музеем в 1955—1958 гг.) // Ежегодник Государственного Историч. музея за 1958 г. М., 1960; Рябцевич В.Н. К вопросу о денежном обращении западнорусских земель в XIV—XV вв. // Нумизматика и сфрагистика. Киев, 1965. Т. 2; Яго ж. Находки кладов и единичных монет XIV—XV вв. на территории Беларуси // Восточная Европа в древности и средневековье: докл. междунар. науч. конф., посвящ. 75-летию проф. Э.М.Загорульского и 30-летию кафедры арехологии и специальных истор. дисциплин БГУ, Минск, 16 янв. 2004 г. Минск, 2004. *Ш.І.Бекцінееў.*

**МІЦУ́РЫ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Міцуры Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. (зараз не існуюць).

Курганны могільнік-1 за 1,5 км ад вёскі, на правым беразе р. Бобрык. Было 15 курганоў. У 1889 У.З.Завітневіч даследаваў 10 курганоў. У 2 з іх пахаванне па абраду трупапалажэння ў ямах глыб. 0,2 м, у астатніх — трупапалажэнне на гарызонце, зрэдку ў сядзячым стане. Знойдзены бронзавыя кольцы, шкляныя і паставыя пацеркі, гаршкі.

Курганны могільнік-2 за 1 км ад вёскі, на левым беразе р. Бобрык, ва ўр. Высокая Магіла. Было 15 насыпаў дыям. 4,7—10 м, выш. 0,5—1,4 м. У 1889 У.З.Завітневіч даследаваў 9 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку галавой на З, у 2 курганах — у магільнай яме. У 4 выпадках нябожчыкі знаходзіліся ў сядзячым стане, у 2 — ляжалі ў драўляных дамавінах, 2 насыпы пустыя. Большасць пахаванняў без інвентару. Знойдзены шкляныя пацеркі, фр-ты ганчарнага керамічнага посуду. Датуецца 10—12 ст.

Курганны могільнік-3 за 2 км ад вёскі, на беразе возера, ва ўр. Зялёнка. Было 2 насыпы. У 1889 даследаваў У.З.Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане дзіцячае пахаванне і 8 дзіцячых чарапоў, у другім 2 дзіцячыя чарапы. Знойдзены ляпны гаршчок, керамічныя шарыкі і прадметы, якія па форме нагадвалі косці для гульні. На думку У.З.Завітневіча, могільнік узнік у час эпідэміі. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.:* Русанова И.П. Курганы полян X—XII // САИ. 1966. Вып. Е1—24. *Ю.А.Заяц, Г.В.Штыхаў.*

**«МОГИЛЁВСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, афіцыйная газета, якая выдавалася Магілёўскім губернскім праўленнем у 1838—1917 на рус. мове. Мела 2 часткі — афіцыйную і неафіцыйную (з 14.7.1839), якая ў 1904—05 выходзіла як самастойная грамадская і літаратурная газета. Да 1849 выходзіла нерэгулярна, да 1858, у 1864—69 і з 1916 — штотыднёва, у 1859—63, 1870—1903 і з 1906 — 2 разы, у 1904—05 — 3 разы на тыдзень.

У афіцыйнай частцы друкаваліся дакументы і распараджэнні ўрадавай і губернскай адміністрацыі, аб'явы, у неафіцыйнай — гіст., археал., этнагр. звесткі. Найб. грунтоўнымі былі публікацыі 1897—1903, калі рэдактарам неафіцыйнай часткі быў бел. археолаг і этнограф Е.Р.*Раманаў*. У сваім арт. «Да пытання пра час утварэння Магілёва» (1897, № 93, 99, 102, 105) на падставе даследаванняў магілёўскіх гарадзішчаў Е.Р.Раманаў зрабіў вывад пра тое, што ўжо ў каменным веку на месцы Магілёва былі паселішчы. У 1898 (№ 15, 16, 21, 22, 35) надрукавана праца Е.Р.Раманава (пад псеўданімам Е.Радзіміч) «Што зроблена па вывучэнню Магілёўскай губерніі і што яшчэ неабходна зрабіць», у якой прааналізаваны археал. даследаванні на Магілёўшчыне, пастаўлены задачы на будучае. Газета змяшчала артыкулы пра даследаванні курганных могільнікаў, гарадзішчаў *Лукомль*, *Юркавічы*, *Новы Быхаў*, каля в. Радамля, Аляксандраўка, Чырчына і інш. Падрабязнае апісанне пахавальнага абраду і рэчаў, знойдзеных А.С.Уваравым пры даследаванні курганоў у маёнтку Вотня, прыведзена ў арт. Я.Галавацкага (1880, № 95); зроблены вывад пра тое, што пахаванні належалі *радзімічам*. Надрукаваны справаздачы М.В.Фурсава і С.Ю.Чалоўскага пра даследаванні курганных могільнікаў у 5 паветах Магілёўскай губ. (1892, № 91—92), звесткі пра знаходкі манетных скарбаў у *Горах* і Стражавічах (гл. *Стражавіцкія манетна-рэчавыя скарбы*, 1898, № 38), каля Лукомля (1903, № 44). У рабоце С.Сакалова «Дарога з Магілёва цераз Стары і Новы Быхаў да Гомеля» (1850, № 49; 1851, № 2, 3, 5, 6, 9, 12, 17) падрабязна апісаны курганныя могільнікі і знаходкі манетных скарбаў у Гомелі. У шэрагу нумароў за 1899—1900 друкаваліся артыкулы з апісаннем кладаў польскіх, зах.-еўрап. і рус. манет 17—18 ст., знойдзеных на Магілёўшчыне. Падрабязна апісаны помнікі побыту, манетныя скарбы, знойдзеныя ў Магілёве, у арт. «З Магілёўскай даўніны» (1902, № 70). Навук.-папулярныя публікацыі, артыкулы пра краязнаўчы рух і музейную справу аб'ядноўвалі вакол газеты значныя сілы краязнаўцаў, спрыялі стварэнню ў Магілёве царкоўна-археал. і гісторыка-этнагр. музеяў. Шэраг артыкулаў па археалогіі, гісторыі і этнаграфіі, змешчаных у «М.г.в.», надрукаваны ў зб. «*Магілёўская даўніна*». *У.Дз.Будзько.*

**МО́ГІЛЬНІК**, месца старажытнага групавога пахавання людзей. Падзяляюцца на курганныя (абазначаны земляным ці каменным насыпам) і бескурганныя (грунтавыя; звычайна без прыкмет на паверхні). Паводле пахавальнага абраду вылучаюцца М. з трупаспаленнем, трупапалажэннем, змешаныя (бірытуальныя). Гар. М. звычайна называюць некропалем.

На тэр. Беларусі найб. стараж. з'яўляюцца курганныя і грунтавыя М. бронзавага веку (*Ходасавічы*, *Стрэліца*, *Сяброўвічы*, *Прорва*). У жал. веку вядомы грунтавыя М., якія ўяўляюць сабой палі пахаванняў, дзе крэміраваныя астанкі змешчаны ў ямы (*Асарэвічы*, *Чаплін*, *Тайманава*, *Брэсцкі бескурганны могільнік*). У нязначнай колькасці вядомы курганныя могільнікі з трупапалажэннем (*Дубай*). У раннім сярэдневякоўі на Пн Беларусі з'явіліся М. ў выглядзе доўгіх курганоў даўж. да 110 м (*Янкавічы*), а на ПнЗ — курганоў з каменнымі венцамі (*Засвір*). Да 13 ст. курганныя М. заставаліся дамінуючай формай месц пахаванняў. Звычайна яны складаліся з земляных насыпаў паўсферычнай формы (*Заслаўскія курганныя могільнікі*, *Ізбішча*). Існавалі М., у якіх насыпы цалкам былі складзены з каменю (*Сухая Гара*). З 13 ст. пачалі шырока распаўсюджвацца грунтавыя могільнікі (могілкі), дзе месца пахавання абазначалася каменем альбо каменным крыжам. У гэты ж час узніклі жальнічныя М. ў выглядзе невял. круглага ці авальнага насыпу, абкладзенага па перыметры камянямі (*Малявічы*). Даследаванне М. дае каштоўны матэрыял для вызначэння арэала этнічных груп, археал. культур, храналогіі, палеантрапалогіі, сацыяльных адносін.

*А.В.Вайцяховіч.*

**МО́ЛЬНІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Мольнічы Навагрудскага р-на. На зах. ускраіне вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Валоўка. Выявіла і даследавала ў 1956 Ф.Д.Гурэвіч. 19 курганоў дыям. 5—10 м, вакол якіх месцамі прасочваліся раўкі, адзін курган дыям. 17 м, выш. каля 4 м. У 1971 К.В.Паўлава раскапала 8 курганоў дыям. 5—7 м, выш. 0,6—1 м. Захаваўся курган дыям. 17 м.

У 7 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупапалажэння ў аснове насыпаў, у адным пахаванне не выяўлена. Нябожчыкі ляжалі на спіне галовамі на ПдЗ (6 выпадкаў) або на ПнЗ (1 выпадак). У 3 курганах над нябожчыкамі выяўлена падсыпка з пяску, у 3 — з попелу. У 4 курганах попельна-вугальныя праслойкі былі ў насыпах. Гэта, відавочна, рэшткі памінальных вогнішчаў. Выяўлены рэшткі складзенай з бярвён дамавіны памерамі 2,8 × 1 м, выш. каля 0,6 м. Пахавальны інвентар прадстаўлены выключна жаночымі ўпрыгажэннямі (сярэбраныя і алавяныя скроневыя кольцы, сярэбраны пярсцёнак, шкляныя, хрустальныя і сердалікавыя пацеркі, абломак сярэбранай зярнёнай пацеркі).

*Літ.*: Павлова К.В. Могильники у деревень Мольничи и Сулятичи // КСИА. 1974. Вып. 139.

*Я.Г.Звяруга.*

**МÓНЕЎКА**, археалагічны помнік — стаянка каменнага веку каля в Монеўка Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл.

За 0,7 км на Пн ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памеры 30 × 90 м. Выявіў у 1980, даследаваў у 1985 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,1—0,2 м. Знойдзены крамянёвыя вастрыі, нажы, адшчэпы, пласціны, абломкі нуклеусаў. Па ўсёй пляцоўцы трапляліся фр-ты гладкасценнай неарнаментаванай керамікі, венчыкі якой уплошчаны, маюць Т-падобную форму або злёгку адагнуты вонкі. На падставе знаходак можна сцвярджаць, што на месцы стаянкі пазней размяшчалася селішча жал. веку.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Работы по изучению мезолита в белорусском Поднепровье // АО 1980. М., 1981.

*В.Ф.Капыцін.*

**МÓТАЛЬ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Моталь Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл. Размешчаны па берагах воз. Мотальскае, б. воз. Джыдзінне, на правым беразе р. Ясельда і на ўзвышшах поплаву паміж вёскай і ракой. У пач. 1960-х г. 12 з іх былі адкрыты і неаднаразова абследаваліся У.Ф.Ісаенкам. У выніку будаўніцтва дамбы вакол воз. Джыдзінне затоплены помнік Моталь-2, рэшткі помнікаў Моталь-3 і Моталь-4 апынуліся на астравах утворанага вадасховішча. У 1988—2005 А.Г.Калечыц знайшла і даследавала яшчэ 18 помнікаў.

Стаянка-1 за 3 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Гара. Даўжыня 0,5 км, выш. да 4—5 м над поплавам правага берага р. Ясельда, паміж вадасховішчам Джыдзінне і в. Тышкавічы. У.Ф.Ісаенка абследаваў зах. ўскраіну ўрочышча, А.Г.Калечыц даследавала 837 м² (знойдзены 13 286 артэфактаў). За 0,2 км на З ад гэтага месца, амаль у цэнтры ўрочышча, яна даследавала яшчэ 1934 м² (знойдзены 18 831 артэфакт). Сярод знаходак больш за 15 тыс. нарыхтовак і адыходаў крамянёвай вытворчасці (нуклеусы, адшчэпы, пласціны, кавалкі канкрэцый, запасы сыравіны), прылад працы (скрабкі, разцы, сякеры, цёслы, долаты, нажы, скрэблы, скоблі, серпападобныя прылады, праколкі, свярдзёлкі, наканечнікі стрэл, вастрыі тыпаў яніславіцкага і Ставінога, мікрапласціны з рэтушаванай спінкай, ланцэты, пласціны са скошаным рэтушшу канцом і інш.). Выяўлены рэшткі гасп. пабудоў. Знаходкі адносяцца да шэрага культур каменнага, бронзавага і жал. вякоў. Фінальны палеаліт прадстаўлены матэрыяламі лінгбійскай, валкушанскай і свідэрскай культур, мезаліт — яніслаўіцкай і кудлаеўскай культур. Большасць знаходак датуецца ўсімі перыядамі неаліту. Асн. частка ляпнога посуду аздоблена арнаментамі, тыповымі для *нёманскай культуры.* Частка рэчаў па знешнім выглядзе і апрацоўцы струменістай рэтушшу адносіцца да бронзавага веку. Астэалагічныя рэшткі, паводле Н.П.Александровіч, належаць дзікім жывёлам (конь, зубр, алень, лось і інш.).

Стаянка-2 за 3 км на Пн ад вёскі, на паўд. схіле марэннага ўзгорка паміж вадасховішчам Джыдзінне і р. Ясельда, каля старога рэчышча. Даўж. 200 м, выш. 3 м. Выявіў і даследаваў у 1971, абследаваў у 1986 У.Ф.Ісаенка. Сярод 600 знойдзеных апрацаваных крамянёў разцы, сякеры, скрэблы, нуклеусы, вербалістыя наканечнікі стрэл, скрабкі, сколы-нарыхтоўкі. Адносіцца да свідэрскай культуры фінальнага палеаліту.

Стаянка-3 за 3,5 км на ПнЗ ад вёскі, 0,5 км на З ад ур. Гара, на высокім (4 м) і доўгім (каля 100 м) паўн.-ўсх. беразе б. воз. Джыдзінне (цяпер востраў на вадасховішчы). Выявіў у 1962 і правёў паверхневыя зборы ў 1986 У.Ф.Ісаенка. Сабраны тэхнакомплекс з крамянёвымі лістападобнымі і чаранковымі наканечнікамі стрэл фінальнага палеаліту.

Стаянка-4 за 3,5 км на ПнЗ ад вёскі, на пясчаным узгорку, на паўд.-ўсх. беразе б. воз. Джыдзінне (цяпер востраў на вадасховішчы). Даўж. 150 м, выш. 2—3 м. Выявіў і даследаваў у 1962, абследаваў у 1986 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены вербалісты наканечнік стралы, разец, сколы нарыхтоўкі свідэрскай культуры фінальнага палеаліту і больш позняга часу, абломкі посуду і прылады працы нёманскай і лейкападобных кубкаў культур, фр-ты ляпнога посуду жал. веку.

Стаянка-5 за 2 км на Пн ад вёскі, на пясчаным узвышшы сярод поплаву р. Ясельда. Даўж. 250 м, выш. 1—5 м. Выявіў у 1980, абследаваў у 1987 У.Ф.Ісаенка. У 1987 А.Г.Калечыц даследавала 52 м². Знойдзена каля 4 тыс. артэфактаў: нуклеусы, чаранковыя і вербалістыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, праколкі, пласціны са скошаным рэтушшу канцом, рубячыя прылады, тэхнічныя сколы, сколы нарыхтоўкі фінальнага палеаліту (лінгбійская, валкушанская і свідэрская культуры), мезаліту, неаліту і бронзавага веку. Вылуча-

юцца разцы, скрабкі, праколкі, скоблі, сякеры і цёслы, наканечнікі стрэл, абломкі гліняных пасудзін нёманскай і шнуравой керамікі культур.

С т а я н к а - 1 1 за 0,3 км на Пн ад ур. Гара, на узвышшы паміж вадасховішчам Джыдзінне і правым берагам р. Ясельда. Выш. каля 1 м. У 1978 абследаваў У.Ф.Ісаенка. У 1988, 1990—91 А.Г.Калечыц даследавала 460 м². Знойдзены некалькі тысяч прылад з крэменю (скрабкі, разцы, сякеры, цёслы, скрэблы, праколкі, свярдзёлкі, скоблі, пласціністыя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы і інш.), адыходы вытворчасці, абломкі посуду, рэшткі касцей. Вылучаюцца нуклеусы, пласціны, разцы свідэрскай культуры фінальнага палеаліту. Ляпны посуд аздоблены адбіткамі шнура, дробнымі наколамі тыпу адступаючай лапаткі, тарцовымі адбіткамі пласцінкі, зрэдку грэбеня.

С т а я н к а - 1 2 эпохі неаліту і бронзавага веку за 4 км на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Ясельда, за 0,3 км на З ад дамбы на полі і ў лесапасадках. Выявіў у 1978 У.Ф.Ісаенка. У 1978 А.Г.Калечыц даследавала 56 м². Знойдзены скрабкі, разцы, сякеры, цёслы, наканечнікі стрэл, нажы, праколкі і інш. вырабы, адходы крамянёвай вытворчасці, фр-ты ляпных пасудзін. Адзінкавыя нуклеусы, пласціны, разцы і наканечнікі стрэл адносяцца да свідэрскай культуры фінальнага палеаліту.

С т а я н к а - 1 3 каменнага і бронзавага вякоў на паўн.-зах. беразе воз. Мотальскае, ва ўр. Качатнік. Адкрыла і абследавала ў 1990 А.Г.Калечыц. У 1992—94, 1998—99 яна даследавала 500 м². Знойдзена больш за 2 тыс. артэфактаў, у т.л. касцяных рэштак жывёл. Аб існаванні тут майстэрні па апрацоўцы крэменю сведчаць знаходкі крамянёвых канкрэцый. Частка матэрыялаў (нуклеусы, пласціны, скрабкі) адносяцца да свідэрскай культуры фінальнага палеаліту.

С т а я н к а - 1 7 эпохі фінальнага палеаліту, мезаліту і бронзавага веку ва ўр. Задні Груд, за 0,27 км на Пн ад месца ўпадзення Ясельды ў воз. Мотальскае. Выш. да 0,3 м. У 1993 А.Г.Калечыц даследавала 560 м². Знойдзена больш за 8 тыс. апрацаваных крамянёў і адходаў крамянёвай вытворчасці. Валкушанскі тэхнакомплекс складаецца з нуклеусаў 3 тыпаў, пласцін і пласціністых адшчэпаў з добра выражанымі ўдарнымі бугаркамі. Наканечнікі стрэл прадстаўлены вербалістымі і чаранковымі формамі. Да гэтага ж комплексу адносіцца наканечнік кап'я ці кінжала, зробленага з масіўнай рабрыстай пласціны, 2 масіўныя сегменты, апрацаваныя крутой высокай рэтушшу. Такія знаходкі сустракаюцца на помніках ніжняй Прыпяці і сярэдняга Дняпра. Свідэрскі тэхнакомплекс прадстаўлены асн. характэрнымі формамі, такімі як двухпляцовачныя з сустрэчным сколваннем ад пласцін і пласціністых адшчэпаў нуклеусы, вербалістыя і чаранковыя наканечнікі стрэл. У якасці нарыхтовак для іх вырабу выкарыстоўваліся пласціны, знятыя з двухпляцовачных нуклеусаў з сустрэчным сколваннем. Форма скошаных канцоў увагнутая, што характэрна для свідэрскіх комплексаў Укр. і Бел. Палесся. Мезалітычныя знаходкі адносяцца да яніславіцкай культуры.

С т а я н к а - 1 8 каменнага і бронзавага вякоў за 0,3 км на Пн ад усх. ускраіны в. Моталь, на пясчаным узгорку левага берага Ясельды, ва ўр. Малінаўка. У 1995 А.Г.Калечыц даследавала каля 600 м². Знойдзена некалькі тысяч артэфактаў, сярод якіх прылады працы, адходы вытворчасці і абломкі ляпнога посуду. Вылучаюцца нуклеусы, пласціны, разцы і наканечнікі стрэл свідэрскай культуры фінальнага палеаліту, яніславіцкай культуры мезаліту і нёманскай неалітычнай культуры.

С т а я н к а - 2 0 за 0,3 км на Пд ад стаянкі-14, на тэрасе правага берага Ясельды, ва ўр. Балячына Ніва. Адкрыла і даследавала 124 м² у 1995 А.Г.Калечыц. Знойдзены крамянёвыя вырабы фінальнага палеаліту (двухпляцовачны нуклеус з негатывамі пласцін і сустрэчным сколваннем нарыхтовак, пласціны з такіх нуклеусаў, пласціна са скошаным рэтушшу канцом і інш.) і яніславіцкай культуры мезаліту.

С т а я н к а - 2 4 за 0,3 км на ПнЗ ад стаянкі-18, на пясчаным астанцы на левабярэжжы Ясельды, ва ўр. Астравіца (Ніва Стасевічаў). Адкрыла ў 1995 і даследавала 274 м² у 1996—98 А.Г.Калечыц. Знойдзены тыповыя для фінальнапалеалітычнай валкушанскай культуры крамянёвыя адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны і пласціністыя адшчэпы; чаранковы наканечнік стралы з адламанай праксімальнай часткай і інш., блізкія да знойдзеных на стаянцы-17. Мезаліт прадстаўлены вырабамі яніславіцкай культуры.

*Літ.:* И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *А.Г.Калечыц.*

**МО́ХАЎ**, археалагічныя помнікі — паселішчы, гарадзішчы, бескурганны і курганныя могільнікі каля в. Мохаў Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 за 0,4 км на ПнУ ад вёскі і за 0,15 км ад зах. берага воз. Мохава, на ўзвышшы на поплаве Дняпра. Выцягнута амаль на 100 м з ПнЗ на ПдУ, выш. каля 2 м. Адкрыў М.М.Крывальцэвіч у 2004. Знойдзены крамянёвыя вырабы і фр-т керамікі позняга неаліту.

П а с е л і ш ч а - 2 за 0,25 км на ПнУ паселішча-1, на ўзвышаным участку (даўж. каля 300 м, выш. да 3 м) уздоўж зах. берага воз. Мохава. Адкрыў М.М.Крывальцэвіч у 2004. Знойдзены абломкі познанеалітычнага посуду з лапчастым арнаментам і наколамі, крамянёвыя адшчэпы.



*Да арт.* ***Мохаў.*** *Бронзавыя бранзалетападобныя скроневыя кольцы крывічскага тыпу з кургана № 97 курганнага могільніка ва ўр. Курганне.*

Паселішча-3 за 0,6 км на ПнУ ад вёскі, на ўскраіне мысападобнага выступу карэннага берага Дняпра (выш. каля 13—14 м). У 2004, 2008 абследаваў М.М.Крывальцэвіч. Культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены кераміка і крамянёвыя вырабы *днепра-данецкай культуры* і *сярэднедняпроўскай культуры*, фр-ты посуду жал. веку.

Паселішча-3А за 0,65 м на ПнУ ад вёскі, на мысападобным уступе-паніжэнні, ніжэй ускраіны карэннага берага Дняпра, на якім знаходзіцца паселішча-3. Памеры 180 × 80 м, выш. 2—4 м. Адкрыў і даследаваў 55 м² у 2004, 2008, 2009 М.М.Крывальцэвіч. Культ. пласт 0,7 м. Знойдзены абломкі ляпнога посуду (больш за 1800 фр-таў), вырабы з крэменю (больш за 500). Вылучаюцца комплексы днепра-данецкай і сярэднедняпроўскай культур, культурнага кола Бабіна (культура шматвалікавай керамікі), сосніцкага тыпу, жал. веку (кераміка *мілаградскай культуры*) і 2-й пал. 1-га тыс. н.э.

Паселішча-4 за 0,75—0,9 км на ПнУ ад вёскі на адасобленым участку карэннага берага Дняпра, ва ўр. Шолахава Гара (Бугор, Кут). Памеры 100 × 65 м, выш. больш за 14 м. З паўн. боку падмываецца старыцай, за ўсх. схіламі распасціраецца пойма, з паўд. і зах. бакоў аддзелена ад карэннага берага глыбокімі ярамі. Адкрыў у 1956 і абследваў у 1975 Л.Д.Победь. У 2004—06, 2008 даследаваў 360 м² М.М.Крывальцэвіч. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Знойдзена больш за 3060 фр-таў ад высакагорлых і выпуклабокіх гаршкоў вял. памераў з вузкімі плоскімі доннымі часткамі сярэднедняпроўскай культуры. Частка пасудзін рабілася з т.зв. «каўнерыкамі». Кераміка арнаментавана пераважна шнуравымі, радзей вусеневымі адбіткамі, у асобных выпадках наколамі. Сярод крамянёвых артэфактаў (каля 540) невял. колькасць вырабаў з другаснай апрацоўкай (скрабкі, скоблі, нажы, праколкі і інш.). Комплекс датуецца сяр. — 2-й пал. 3-га тыс. да н.э. Выяўлены рэшткі агнішчаў, згрувашчванні камянёў, ямы, у т.л. гасп. мілаградскай культуры. У аб'ектах і побач з імі знойдзены фр-ты і развалы гаршкоў (2720), гліняныя біканічныя, акруглыя, шпулепадобныя грузікі (11), камяні са слядамі апрацоўкі. Выяўлены 4 пахаванні па абраду крэмацыі ў ямах. У пахавальных ямах змяшчаліся фр-ты посуду, вугольчыкі, расколатыя камяні, касцявыя рэшткі буйной рагатай жывёлы.

Паселішча ўзнікла на ўзвышшы, якое займала выгаднае стратэгічнае становішча. Паводле ландшафтных асаблівасцей яно было прыстасавана для абароны і магло выконваць функцыі гарадзішча.

Гарадзішча-1 мілаградскай культуры за 2 км на Пн ад вёскі на мысе правага берага Дняпра. Пляцоўка памерамі 200 × 140 м, з напольнага боку ўмацавана валам выш. 3—4 м, даўж. каля 140 м. Абследаваў у 1935 А.Дз.Каваленя, у 1955—56 і 1961 В.М.Мельнікоўская даследавала 820 м². Культ. пласт 0,3—0,4 м. Выяўлена паўзямлянкавае жытло шматграннай формы з закругленымі вугламі, памерамі 6,5 × 8,5 м, глыб. 1 м. У цэнтры знаходзіўся слуп, па перыметры — нахіленыя




*Да арт.* ***Мохаў.*** *Зброя і рыштунак з курганнага могільніка ва ўр. Курганне (1 — наканечнік кап'я, 2 — шпора, 3—5 — спражкі, 6 — пярсцёнак, 7—9 — фрагменты грыўняў і бранзалетаў).*



*Да арт. **Мохаў**. Рэчы з пахавання з трупаспаленнем з кургана № 77 курганнага могільніка ва ўр. Курганне (1—4, 6—30 — бронза, 5 — косць, 31 — шкло).*

калы, што дае падставу рэканструяваць жытло як буданападобнае. Унутры выяўлены рэшткі адкрытага агнішча, вял. колькасць керамікі і жал. цясла. На гарадзішчы зафіксаваны слупавыя і гасп. ямы, знойдзены жал. матыка, ляпныя гаршкі і паўсферычныя пасудзіны. Датуецца 5—3 ст. да н. э.

Гарадзішча-2 мілаградскай і зарубінецкай культур за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра, утвораным 2 ярамі. Пляцоўка, блізкая да прамавугольнай, памерам 60 × 65 м. З боку поля ўмацавана валам выш. да 5 м. Даследаваў у 1952—53 П.М.Траццякоў. Культ. пласт 0,4—0,6 м. Выяўлены рэшткі 2 мілаградскіх і зарубінецкага жытлаў. Адно з іх слупавой канструкцыі, памерамі 3,1 × 3,4 м, заглыблена ў мацярык на 0,3 м. З усх. боку знаходзіўся выступ круглаватай формы, у якім размяшчалася адкрытае агнішча. На падлозе знойдзены абпаленыя камяні, косткі жывёл, вял. колькасць керамікі, фр-т бронзавага бранзалета, гліняная прасліца, 2 жал. стрыжні. Другая пабудова памерамі 3,5 × 3,5 м была паглыблена ў мацярык на 0,2 м. У цэнтры размяшчалася агнішча. У адным з вуглоў быў прамавугольны выступ. Знойдзены абпаленыя камяні, фр-ты мілаградскай керамікі. Зарубінецкае жытло — наземнае, прамавугольнай формы, памерамі 4 × 6 м. Аснову сцен складалі вертыкальна ўкапаныя слупы, у цэнтры знаходзілася агнішча. Выяўлены 2 скляпы: адзін (памерамі 1,1 × 1,3 м, глыб. 0,6 м) меў грушападобную форму і плоскае дно, другі — званападобную форму. Знойдзены фр-ты ляпных гаршкоў з адагнутым вонкі венчыкам і яйкападобным тулавам, паўсферычныя пасудзіны, гліняныя прасліцы і грузікі, ліцейныя формы, фігурка жывёліны, амулет з ікла мядзведзя. Частка грубаляпных зарубінецкіх гаршкоў мела па краі венчыка зашчыпы або насечкі. Знойдзены таксама міскі, кубкі, мініяцюрныя пасудзіны і накрыўкі, біканічныя прасліцы, арнаментаваныя наразным узорам, жал. серп і інш. Датуецца 6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.

Бескурганны могільнік мілаградскай культуры побач з паўзямлянкай і валам на гарадзішчы-2. Выявіла ў 1961 В.М.Мельнікоўская. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка. Ачышчаныя ад вугалю кальцыніраваныя косці змяшчаліся на дно круглых альбо авальных ям. У некаторых выпадках у магілах трапляліся камяні. Пахавальны інвентар — абломкі ляпной керамікі.

Курганны могільнік-1 10—11 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі каля воз. Махоўскае, ва ўр. Курганне, на схіле яра. У к. 19 ст. было не менш за 600 насыпаў, захавалася больш за 300. У 1890 В.З.Завітневіч даследаваў 26 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне (9), трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (15), у яме галавой на Пн (1), кенатаф — 1. У 3 курганах з трупапалажэннем на гарызонце выяўлены рэшткі драўляных наземных камерных скляпенняў прамавугольнай формы слупавой канструкцыі. Адна з іх, памерамі 3,38 × 2,83 м, выш. 0,8 м, мела прыкметы даху з бярвення. Знойдзены кераміка, жал. нажы, нажніцы, шкляныя пацеркі, бронзавыя спражка, бранзалеты, шыйныя грыўні, 3 жал.



*Да арт. **Мохаў**. Жалезная спражка з пахавання курганнага могільніка ва ўр. Магільцы.*

сякеры, кап'ё і інш. У 2003—07 В.А.Макушнікаў даследаваў 25 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне (8 і адно няпоўнае), трупапалажэнне на гарызонце і падсыпцы (21), у ямах (2). 15 трупапалажэнняў арыентаваны на З, ПнЗ (4), па адным на ПдЗ, У, Пн і Пд. Пахаванне з няпоўнай крэмацыяй арыентавана на З. У адным з курганоў «сядзячае» пахаванне, характэрнае для абраднасці Скандынавіі і славяна-фінскіх могільнікаў Паўн. Русі. Незвычайным для нізоўяў верхняга Дняпра з'яўляецца выкарыстанне камянёў для ўладкавання магільнай прасторы (5 курганоў), элементы выбрукоўкі (1) і каменнага россыпу ў форме квадрата 4 × 4 м (1). У інвентары тыпова ўсх.-слав. гаршкі (цэлыя і разбітыя), часта з клеймамі. У жаночых пахаваннях знойдзены шкляныя і каменныя пацеркі, бронзавыя грыўня, бранзалеты, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, жал. нажы і інш.; у мужчынскіх — бронзавыя паясныя спражкі і кольцаразмеркавальнікі. Рэчы крывіцкага, балцкага, прыбалтыйска-фінскага паходжання на фоне адсутнасці этнавызначальных упрыгажэнняў мясц. насельніцтва (буйназярнёных пацерак, сяміпрамянёвых кольцаў і інш.). Набор жаночых упрыгажэнняў з аднаго пахавання па абраду трупаспалення ўключаў буйныя арнаментаваныя падвескі трапецападобнай формы, літыя петлявідныя трымальнікі, «ромбападобныя» падвескі, драцяныя спіралькі і ланцужкі, характэрныя для ранніх крывічоў. «Паўночныя» элементы культуры прадстаўлены крывіцкімі завязанымі браслетападобнымі скроневымі кольцамі (11 экз. у 3 інгумацыях), драцянымі спіралькамі, рэшткамі накідкі-вілайне, расшытай пацеркамі (пахаванне з трупапалажэннем). Апошняя звязана з латгальска-земгальскім колам старажытнасцей. У шэрагу курганоў знойдзена зброя і воінскія прыналежнасці (сякеры, наканечнікі дзіды, суліцы, дэталі воінскіх паясоў, фр-ты тардзіраваных жал. грыўняў і інш.). Нетыповымі (для радавых могільнікаў) знаходкамі з'яўляюцца драўлянае вядро, каромысла кішэнных вагаў, «шышачныя» пустацелыя пацеркі з зерню і інш. У 3 курганах выяўлены манеты: 2 абломкі срэбранікаў вял. кіеўскага кн. Уладзіміра Святаслававіча, дэнарый чэшскага караля Баляслава II (972/3—999) і бракгэат (вызначэнне В.Н.Рабцэвіча).

Курганны могільнік-2 за 1 км на У ад вёскі на правабярэжным поплаве Дняпра, ва ўр. Могільцы. 15 курганоў. У 2005 А.А.Макушнікаў даследаваў курган з трупаспаленнем (інвентар — жал. спражка 5—6 ст.) і пазнейшае ўпускное трупапалажэнне.

Гарадзішча-3 на Пд ад могільніка на мысавым выступе карэннай надпоймавай тэрасы Дняпра, ва ўр. Прычалак. Пл. 150 × 150—200 м (2,3—3,0 га). Прасочваюцца рэшткі дугападобных валоў, якія аддзяляюць мыс ад напольнага боку. У агаленні культ. пласт 0,4—0,5 м, змяшчае кругавы посуд 10—11 ст., кераміку 12—13 ст., абломкі керамічных соплаў і інш. У шурфе на стрэлцы мыса магутная глінабітныя падушка (верагодна, аснова вала) з керамікай 10—11 ст.

Паселішча-5 10—11 ст. на месцы стаянак каменнага, бронзавага вякоў, селішчаў позназарубінецкай і пражскай культур на высокім поплаве правага берага Дняпра, а таксама на 2 мысавых пляцоўках карэннай тэрасы (урочышчы Высокае Поле і Вялікае Поле, Падгор'е, Багданава Прыстань). Пл. каля 20 га, выш. 15—20 м. Прымыкае да гарадзішча і могільніка. А.А.Макушнікаў даследаваў 2 траншэі і шурф (41 м²). Выяўлена паглыбленая ў мацярык аснова жытла пражскай культуры з развалам печы-каменкі ў куце і керамікай 5—6 ст. Аб'екты 10—11 ст. прадстаўлены рэшткамі глінабітнага ганчарнага горна і паглыбленых у мацярык збудаванняў. Рэчавы матэрыял — кругавая кераміка (пераважна 2-й пал. 10—11 ст.), абломкі жоўтай і чырвонай плінфы, інкруставаная белым металам жал. шпора 12—13 ст. і інш. Кераміка 12—13 ст. сустракаецца рэдка. На селішчы існавала вытворчасць цэглы — «плінфатварэнне». Па асн. прыкметах (тапаграфія і планіроўка помніка, наяўнасць могільніка, характар масавых і індывідуальных знаходак, прысутнасць «іншаэтнічных» элементаў, спецыфіка пахавальнага абраду і інш.) Мохаў 10—11 ст. адносіцца да т.зв. «адкрытых гандлёва-рамесных паселішчаў».

*Літ.*: Завитневич В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1892; Третьяков П.Н. Моховское второе городище // КСИА. 1960. Вып. 81; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии: железный век. Минск, 1983; Крывальцэвіч М.М. Адкрыццё новых помнікаў III—II тысячагоддзяў да н.э. ва Усходнім Палессі // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23; Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V — середине XIII вв.: социально-экон. и этнокультурное развитие. Гомель, 2009.

*А.А.Егарэйчанка, О.А.Макушнікаў, М.М.Крывальцэвіч.*

**МО́ЦЯ** Аляксандр Пятровіч (н. 30.5.1950, с. Літкі Кіеўскай вобл.), украінскі археолаг. Д-р гіст. навук (1991). Чл.-кор. АН Украіны (2007). Скончыў Кіеўскі дзярж. ун-т імя Т.Р.Шаўчэнкі (1972). З 1976 у Ін-це археалогіі НАН Украіны, у т.л. з 1996 заг. аддзела старраж.-рус. і сярэдневяковай археалогіі. Даследаваў археал. помнікі на тэр. Чарнігаўшчыны, Сумшчыны, Чаркасчыны і інш. Удзельнічае ў падрыхтоўцы бел. спецыялістаў.


*А.П.Моця.*

*Тв.*: Погребальные памятники южнорусских земель IX—XIII вв. Киев, 1990; Населення південноруських земель IX—XIII ст. (за матеріалами некрополів). Київ, 1993; Булгар—Киев. Пути-связи-судьбы. Киев, 1997

(у сааўт.); Южная «Русская земля». Київ; Суми, 2008; «Русь», «Мала Русь», «Україна» в після монгольські та козацькі часи. Київ, 2009.

**МСЦІБАВА**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Мсцібава Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,5 км на З ад вёскі, на правым беразе р. Альшанка, у нізіннай забалочанай мясцовасці. Абследавалі ў 1951 С.А.Тараканава, у 1959 П.А.Рапапорт, даследавалі ў 1975 Я.Г.Зверуга, у 1988—89 С.А.Піваварчык. Пляцоўка круглая, дыям. 30 м, выш. 1 м. Па ўсім перыметры ўмацавана магутным (выш. каля 5 м) валам са стромкімі схіламі. Дыям. гарадзішча па грэбені вала 56 м. З усх. боку вал да асновы прарэзаны ўездам. За 120—150 м на Пд і ПдЗ ад пляцоўкі, дзе мясцовасць паступова павышаецца, ёсць другі невысокі (1—1,5 м) доўгі (больш за 0,2 км) вал, які абодвума канцамі ўпіраецца ў балота. Перад валам прасочваюцца сляды рова, які заплыў. Культ. пласт таўшч. 0,2—0,8 м ускрыты на пл. 268 м². Знойдзена кругавая кераміка 12—13 ст. і больш позняга часу (керамічныя матэрыялы 16—17 ст. складаюць каля 90%). У раёне знешняга вала і на Пд ад яго выяўлены абломкі керамікі эпохі Кіеўскай Русі. П.А.Рапапорт выказаў меркаванне, што гарадзішча — рэшткі замка валынскага баярына Мсцібога, які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1202 (мяст. Мсцібава да 16 ст. называлася Мсцібогаў Гарадок). Умацаванні гарадзішча выкарыстоўваліся ў 17—18 ст.

*Літ.*: Тараканова С.А. Археологическая разведка по Неману // КСИА. 1955. Вып. 57; Раппопорт П.А. Мстибогов городок // КСИА. 1962. Вып. 87; Зверуго Я.Г. Исследования в Верхнем Понеманье // АО 1974. М., 1975. *С.А.Піваварчык.*

**МСЦІСЛА́Ў**, горад, цэнтр Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл., на р. Віхра. За 95 км на У ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Крычаў. Вузел аўтадарог на Магілёў, Горкі, Крычаў, Чавусы, Хіславічы (Расія).

Упершыню ўпамінаецца ў грамаце 1136—50 смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча, які пабудаваў «град Мстиславъль» у 1135 на месцы паселішча 10—11 ст. У Іпацьеўскім летапісе пад 1156 названы горадам Смаленскага княства. З 1180 цэнтр удзельнага княства, з сяр. 14 ст. ў складзе ВКЛ. З 1528 уладанне вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, цэнтр староства. З 2-й пал. 16 ст. цэнтр ваяводства. У 1634 атрымаў магдэбургскае права. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і ў Паўн. вайну 1700—21 зруйнаваны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі.

Археал. помнікі стараж. М. — гарадзішчы Дзявочая гара, Замкавая гара і пасад.

Гарадзішча Дзявочая гара сяр. 1-га тыс. да н.э. — 1 ст. н.э. размешчана ў паўн. частцы горада на мысе высокага (больш за 10 м над узроўнем вады) правага берага р. Віхра. Пляцоўка памерамі 108 × 48 м умацавана па краі валам выш. каля 2,5 м. Паводле падання, гара на мысе нібыта насыпана дзяўчатамі. Адкрыў у 1893 Е.Р.Раманаў, абследавалі ў 1926 А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі, у 1978 М.А.Ткачоў, даследаваў у 1959—60 Л.В.Аляксееў (ускрыў 192 м² у паўд. частцы пляцоўкі і зрабіў прарэзку вала). Культ. пласт 0,4—0,6 м. Знойдзена невял. колькасць керамікі ранняга бронзавага веку, шмат керамікі *днепра-дзвінскай культуры* і ранняга этапу *зарубінецкай культуры*; сярэднелатэнская фібула, 2 грузікі дзякоўскага тыпу, абломак касцяной восці, серп, серпападобны нож, касцяныя пацеркі, шкляныя бранзалеты (12—13 ст.), жал. наканечнікі стрэл (17 ст.) і інш. У мацерыку выяўлены ямы — прамавугольная і мелкая бясформенная, у якой знойдзена некалькі чарапных костак дзіцяці (верагодна, рэшткі ахвярапрынашэння). Верхняя частка культ. пласта ў старажытнасці і ў пач. н.э. выкарыстоўвалася для падсыпкі вала. Паверхня вала для трываласці была абкладзена жэрдкамі.



*Да арт. **Мсціслаў**. Графічная рэканструкцыя печы 17—18 ст. з вакольнага горада.*

Гарадзішча Замкавая гара (дзяцінец) — першапачатковы цэнтр стараж. М., на высокім правым беразе р. Віхра, узвышаецца на 20 м над узроўнем вады. Пляцоўка пл. каля 2 га па перыметры была ўмацавана кальцавым валам (захаваўся паўд.-ўсх. ўчастак). Абследавалі ў 1893 Е.Р.Раманаў, у 1925 А.М.Ляўданскі, у

1928 С.А.Дубінскі, у 1978 М.А.Ткачоў. Раскопкі праводзіў у 1956—85 Л.В.Аляксееў (ускрыта больш за 1200 м²). Культ. пласт (3,3 м) з 3 гарызонтаў. Ніжні (0,8—0,9 м над мацерыкам) склаўся з часоў існавання першапачатковага пасялення да ўзнікнення вулічных драўляных маставых. Знойдзены падвескі ў выглядзе абраза, сегнерава кола з выявай крыжа і інш., рэшткі драўляных пабудоў (самая ранняя датуецца 1204). У паўн. частцы дзяцінца ў мацерыку выяўлены могільнік першых жыхароў М., а таксама рэшткі знішчаных пажарам пабудоў. У сярэднім пласце па драўляных насцілах вуліц вылучаюцца адначасовыя напластаванні помніка. Выяўлены рэшткі 2 вымашчаных бярвёнамі перакрыжаваных вуліц. Стараж. маставая была пракладзена ў 1230—40-я г. У верхнім пласце з-за ўмоў залягання драўляныя рэшткі не захаваліся. Зах. бок вуліцы, што ішла ў напрамку Пн—Пд, быў шчыльна забудаваны клецямі, сярод якіх вылучаўся дом з падлогай і глінабітнай печчу. На ўсх. баку вуліцы стаяла чатырохвугольная ў плане капліца з алтаром і пахаваннямі ўнутры. Паводле раскопак найб. інтэнсіўнае будаўніцтва ў М. прыпадае на 1260-я г. Прасочваюцца межы двароў, абнесеных вастраколам. Выяўлены рэшткі абарончай вежы-данжона, у якой, верагодна, размяшчалася і царква. У пач. 14 ст. пажар знішчыў большасць пабудоў у М. Пасля аднаўлення горада змянілася яго планіроўка. Сярод знаходак — бронзавы крыж-энкалпіён (к. 12 ст.) з надпісам «Богородица помогай», фр-т берасцяной граматы, пісалы з надрапанымі літарамі НТА, Ж, РВ, шахматныя фігуры з дрэва і косці (пешка і ладдзя), асколкі шклянога келіха з арабскім надпісам, рэшткі разбітых званоў, сагнуты наканечнік вял. рагаціны 12—13 ст. У культ. пласце



*Да арт. **Мсціслаў**. 1 — берасцяная грамата; 2 — сланцавы круг з надпісам; 3 — сядзіба 13 ст.*

14—17 ст. знойдзена шмат фр-таў чорнаглянцаванага паліванага і шклянога посуду, тэракотавая і паліхромная паліваная кафля, гліняныя пісанкі, вырабы з жалеза і косці, дэталі арбалетаў, тыглі і ліцейныя формы, асколкі гарматных ядраў, 6 наканечнікаў стрэл 1-й пал. — сяр. 17 ст. Выяўлены сляды гарбарнай майстэрні з кавалкамі скур і касцянымі пласцінкамі-накладкамі на калчан з заамарфным і геам. арнаментам. Мясц. жыхары займаліся ў асн. ганчарным, гарбарным, ювелірным і інш. рамёствамі, гандлявалі з Кіевам, Валынню, Каўказам, апасродкавана — з арабскім Усходам. Паводле пісьмовых крыніц, на дзяцінцы існавалі 2 царквы — Багародзіцы і св. Мікалая. Ад першай захаваліся фр-ты плінфы рубяжа 12—13 ст., рэшткамі другой з'яўляецца, відаць, выяўленая абарончая вежа-данжон. Канструкцыя апошняй дае падставу меркаваць, што цэрквы абарончага тыпу існавалі ў Беларусі раней за 15—16 ст. (тады іх узводзілі з дрэва). Дзяцінец знішчаны ў 1654 у час штурму М. рус. ваяводам А.М.Трубяцкім.

П а с а д 12—13 ст. складаўся з некалькіх частак. Першая (пл. каля 5—5,5 га) размяшчалася на У і ПдЗ ад Замкавай гары, на месцы паселішча 10—11 ст., на берагавым плато, з У і Пн абмежаваным ярамі. Другая — на Падоле, уздоўж р. Віхра і ручая Здаравец (вядомы з сяр. 13 ст.), які цячэ паміж Замкавай, Троіцкай і Панівойскай гарамі; пл. каля 2,5—3 га. Даследавалі ў 1957 Л.В.Аляксееў, у 1981—87 А.А.Трусаў, у 1987 і 2008 А.А.Мяцельскі. Найб. магутны культ. пласт 1-й часткі пасада — да 3 м на падыходах да Замкавай гары (у раёне касцёла кармелітаў); на асобных участках — да 0,8 м (адклады эпохі Кіеўскай Русі). У ім знойдзены керамічны посуд, шкляныя бранзалеты, сланцавыя праслiцы, ключы ад замкоў, крыж-энкалпіён, бронзавы абразок. Культ. пласт 2-й часткі пасада з матэрыяламі 13 ст. прасочваецца на працягу 200—250 м уніз па р. Віхра ад Замкавай гары і каля 100 м уверх ад яе. Уздоўж ракі, за 200 м вышэй і ніжэй ад упадзення ў яе ручая Здаравец, на схіле Троіцкай і Панівойскай гор знойдзена кераміка 12—13 ст., што сведчыць пра існаванне часткі пасада пл. каля 2 га уздоўж Троіцкай гары. У 12—13 ст. паселішча існавала і на Панівойскай гары (пл. каля 1,5—2 га), насупраць Замкавай. Тут пад час шурфоўкі быў выяўлены культ. пласт 0,3 м, у якім была знойдзена кераміка гэтага часу і матэрыялы 16—18 ст. Агульная пл. М. ў 12—13 ст. складала каля 12—15 га.

У сяр. 14 ст. вакол пасада на ПдЗ ад Замкавай гары былі ўзведзены штучныя глінянадраўляныя ўмацаванні ў выглядзе вала выш. 1,5 м і шыр. у падэшвы 4—10 м, што ператварыла пасад у вакольны горад (пл. каля 5,5—6 га). У крыніцах 16—18 ст. адзначаны як «баркан», «паркан», «астрог» . Сярод вытворчых комплексаў выяўлена *Мсціслаўская касцярэзная майстэрня* 15—16 ст.

З вакольнага горада выводзілі брамы-вежы Троіцкая, Спаская, Афанасьеўская (Шляхецкая), Папоўская (Васкрасенская), Хіславіцкая (з 17 ст.). Планіровачным цэнтрам горада, акрамя замка, з'яўляўся рынак пад замкам, які пазней быў перанесены ў цэнтр вакольнага горада, дзе існаваў да к. 18 ст. У 14—15 ст. тэр. Падола пачала пашырацца (кераміка гэтага часу сустракаецца ўздоўж ручая Здаравец і р. Віхра). Насельніцтва асвойвала схіл Пятніцкай гары з боку р. Віхра, шыр. да 100 м ад рэчышча, паміж сучаснымі вуліцамі Пушкіна і Рэспубліканская. Была актыўна заселена і тэр. на ўсх. схіле Троіцкай гары вышэй вусця ручая Здаравец. Агульная пл. пасада на Падоле ў гэты час дасягала не меней за 7—8 га. Верагодна, ужо з к. 15 ст. пачало засяляцца і ўзвышша на левым беразе р. Віхра насупраць горада. Пазней за межамі гар. вала пачалі развівацца слабоды — Яўрэйская, Казіміроўская, Пячкоўская, Здаровец-Падол; фарміраваліся Зарэчча, паселішча вакол *Мсціслаўскага Тупічэўскага манастыра.* Да сяр. 17 ст. горад значна павялічыў свае памеры (агульная пл. складала не меней за 45—50 га); з'яўляўся буйным цэнтрам кафлярства і шкларобства.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Городище Девичья гора в г. Мстиславле // КСИА. 1963. Вып. 94; Яго ж. Смоленская земля в IX—XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980; Яго ж. Древний Мстиславль в свете археологии // ГАЗ. Мінск, 1995. № 6; Яго ж. Мстиславский детинец в XII—XIV веках // РА. 1995. № 3; Яго ж. Детинец Мстиславля в XIV—XVII вв. // Там жа. 2000. № 2; Яго ж. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры. Кн. 1—2. М., 2006; Трусаў А.А, Баравы Р.В. Помнікі старажытнасці Мсціслава: да 850-годдзя горада. Мінск, 1985; Трусов О.А. Мстиславльские изразцы // Памятники культуры. Новые открытия: ежегодник, 1989. М., 1990; Яго ж. Некаторыя вынікі археалагічнага вывучэння акольнага горада Мсціслава XII—XVIII стст. (разам з М.А.Ткачовым, А.А.Мяцельскім) // ВАНБ. 1990. № 2. *Л.В.Аляксееў, А.А.Мяцельскі, А.А.Трусаў.*

**МСЦІСЛА́ЎСКАЯ КАСЦЯРЭ́ЗНАЯ МАЙСТЭ́РНЯ**, археалагічны помнік у г. Мсціслаў. Выявіў у 1986 А.А.Трусаў (на вул. Першамайская) у час раскопак вакольнага горада. Уяўляла сабой паўзямлянку, заглыбленую ў мацярык на 1,5 м. У яе запаўненні сабрана вял. колькасць костак, нарыхтовак, 62 абрэзкі рагоў лася, кавалкі бракаваных касцяных накладак у выглядзе пласцін з адтулінамі, у некаторых выпадках — з шыпамі-цвічкамі для мацавання (адна пласціна аздоблена геам. арнаментам і расфарбавана вохрай), раструшачны гаршчок з пілавіннем ад рагоў лася, недароблены грабеньчык, рыштунак касцярэза — насаджаны на касцяную ручку разец у выглядзе трохграннага стальнога стрыжня, выгнутага пад вуглом 90°, нажніцы, каменнае лашчыла; вял. колькасць фр-таў непаліваных гаршкоў 15—16 ст. Майстэрня існавала ў к. 14—15 ст., знішчана пажарам (мяркуючы па знойдзеных венчыках гаршкоў) у 1-й пал. 16 ст.

*Літ.*: Трусаў А. Мсціслаўская кастарэзная майстэрня // ПГКБ. 1989. № 1. *А.А.Трусаў.*

**МСЦІСЛА́ЎСКІ ТУПІЧЭ́ЎСКІ МАНАСТЫ́Р**, помнік архітэктуры і археалогіі. Існаваў у сярэдзіне 17 ст. — 1950-я г. на ўсх. ускраіне г. Мсціслаў Магілёўскай вобл., паблізу р. Віхра, у б. ур. Тупічэўшчына. Засн. памешчыкам К.Маскевічам як мужчынскі (з 1886 жаночы) манастыр. Складаўся з Святадухаўскай, Увядзенскай, Мікалаеўскай, Успенскай цэркваў, манастырскіх і гасп. пабудоў. Быў абнесены спачатку драўлянай, з к. 19 ст. — мураванай агароджай; захаваліся фр-ты мураванай агароджы, брамы і капліц к. 19 ст. Спалены ў Вял. Айчынную вайну. Канчаткова зруйнаваны ў к. 1950-х г.

Святадухаўская царква (пабудавана ў 1641) — драўляны крыжова-купальны храм (25 × 25 м) на каменным падмурку, абнесены паўзакрытай галерэяй на каменных слупах, завершаны 5 купаламі з галоўкамі. Дах спачатку гонтавы, з к. 19 ст. — бляшаны. Сцены ў інтэр'еры ў 2-й пал. 17 ст. былі размаляваны на біблейскія сюжэты. Уздоўж сцен праходзілі хоры. Гал. 5-ярусны і бакавы іканастас былі аздоблены разьбой і пазалотай. Аналаг — царква *Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра.*

Увядзенская царква (пабудавана ў 1771) — драўляны 1-купальны храм, прамавугольны ў плане (каля 12 × 7 м), на каменным падмурку. У к. 19 ст. зруб падоўжаны, абкладзены цэглай і накрыты бляшаным дахам. У інтэр'еры сцены былі атынкаваны і ўпрыгожаны арнаментам і размалёўкай на рэлігійныя сюжэты. Іканастас 1-ярусны.









*Да арт.* ***Мсціслаўская касцярэзная майстэрня.*** *Вырабы з косці 15—17 ст.*

Мікалаеўская царква — драўлянае збудаванне (9 × 8 м), размяшчалася на 2-м ярусе драўлянай надбрамнай званіцы. Завяршалася купалам з галоўкай. Дах гонтавы. У інтэр'еры 2-ярусны іканастас. Разбурана ў 1832 (па інш. звестках у 1839).

Успенская царква (пабудавана ў 1891—95 у рэтраспектыўна-рус. стылі) — мураваны крыжова-купальны храм. Гал. аб'ём (29 × 18 м) завершаны купалам, над прытворам — званіца. У інтэр'еры 3- і 4-ярусны іканастасы.

У к. 19 — пач. 20 ст. на манастырскім двары былі кухня, дом ігуменні, некалькі дамоў для манашак, свіран, вазоўня, стайні, па-за манастырскай агароджай — дом для святара, вучылішча, амбулаторыя з аптэкай. Археал. даследаванні на тэр. манастыра правёў у 1982 А.А.Трусаў. У культ. пласце 16—18 ст. знойдзена непаліваная кафля 17 ст. з выявай св. Георгія на кані, паліхромная кафля 18 ст. з царкоўнай геральдыкай і паліваная і непаліваная кафля 17 ст., аздобленая раслінным і геам. арнаментам.

*Літ.*: Пятницкий И. Тупичевский монастырь Могилевской епархии: ист. очерк. Могилев, 1907; Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы Беларусі. Мінск, 2007. *А.А.Трусаў, Л.Л.Чарняўская.*

**МСЦІСЛА́ЎСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Існаваў у 1915—41 у г. Мсціслаў Магілёўскай вобл. Быў адкрыты пры духоўным вучылішчы. Меў аддзелы: археал., нумізматычны, этнагр., царкоўных старажытнасцей і аддзел 100-годдзя Мсціслаўскага духоўнага вучылішча. У 1923 налічваў 1157 экспанатаў. Сярод іх косткі мамантa з кар'ера мясц. цагельні, каменныя сякеры, кераміка з Замкавай гары, манеты ВКЛ 16—17 ст. і Рус. дзяржавы 17—18 ст., узоры нар. вопраткі, с.-г. прылады працы, вырабы з лазы, лыка, дрэва, старадрукі і рукапісныя царкоўныя кнігі. З 1924 краязнаўчы, пераведзены ў будынак Мсціслаўскага белпедтэхнікума, створаны новыя аддзелы: прыродна-гіст., маст.-прамысловы і бібліяграфічны. Пры музеі дзейнічалі гурткі аматараў вывучэння краю і аховы гіст. помнікаў, быў выпрацаваны статут музея. Экспанаты загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**МУГУРЭ́ВІЧ** Эвалд Станіслававіч (н. 6.4.1931, в. Баркава Рэзекненскага р-на, Латвія), латышскі археолаг. Чл.-кар. Латвійскай АН (1989). Д-р гіст. навук (1984), праф. (1991), акадэмік Латвійскай АН (1992). Скончыў Латвійскі ун-т (1956). З 1956 навук. супрацоўнік гіст. музея ў Рызе. З 1958 навук. супрацоўнік, у 1971—95 заг. аддзела археалогіі ІГ Латвійскай АН. Асн. напрамкі навук. даследаванняў — жал. век, сярэдневяковая археалогія, гіст. геаграфія, культ. сувязі Латвіі з суседнімі землямі, у т.л. з Беларуссю. Лічыў стараж. гарады на Зах. Дзвіне Герцыке і Кукенойс цэнтрамі праваслаўя ў 11—13 ст. Разглядаў Зах. Дзвіну (Даўгаву) з 10 ст. як важную магістраль у сувязях з усх. славянамі, уключаючы полацкіх крывічоў. Высветліў, што каваныя сярэбраныя злiткі ў выглядзе кручанай стужкі, распаўсюджаныя на Готландзе, у 2-й пал. 11 ст. часта сустракаюцца ў Літве і Беларусі. Выказаў думку, што бронзавыя бранзалеты з завязанымі канцамі прывозіліся ў Латвію ў 11—12 ст. з зямель крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў, а зоркападобныя фібулы адліваліся ў Латвіі на ўзор фібул радзімічаў.

*Тв.*: Восточная Латвия и соседние земли в X—XIII вв. Рига, 1965; Состояние и задачи археологического изучения этногенеза балтских народов (разам з А.З.Таўтавічусам) // Из древнейшей истории балтских народов: (по данным археологии и антропологии). Рига, 1980; Находки железных частей пахотных орудий 10—17 вв. в Восточной Прибалтике // Новое в археологии Прибалтики и соседних территорий: сб. ст. Таллинн, 1985. *Г.В.Штыхаў.*

**МУЗЕЕФІКА́ЦЫЯ** археалагічных аб'ектаў, комплекс мер, накіраваных на захаванне і экспанаванне археал. аб'ектаў з мэтай прапаганды гіст. ведаў. М. папярэднічаюць археал. раскопкі, кансервацыя ўскрытых аб'ектаў і ўзвядзенне над імі стацыянарнага павільёна. Прадугледжваецца адпаведны догляд і ўтрыманне аб'ектаў у належным стане. Апрабаваны 3 метады музейна-кансервацыйнай дзейнасці на помніку археалогіі.

Метад «каўпака» — музейнае экспанаванне археал. аб'екта ў закрытым памяшканні, якое ўзводзіцца над раскапаным аб'ектам (Тураўскі храм 12 ст.), у рэдкіх выпадках — над перанесеным і зноў змантіраваным у зручным месцы помнікам. Да пераваг дадзенага метаду адносяцца традыцыйнасць і распрацаванасць рэстаўрацыйнай і кансервацыйнай методык, якія прымяняюцца да асобных дэталей аб'екта, магчымасць доступу да помніка ў любы час года. Блізкі да метаду размяшчэння асобных (часам дастаткова вял.) дэталей аб'екта ў дэманстрацыйнай зале музея (фр-т печы 10 ст. ў Брэсцкім музеі).

Метад кансервацыі, пры якім аб'ект падвяргаецца фіксацыі фізіка-хімічнымі ці буд. кансервацыйнымі спосабамі на магчыма працяглы тэрмін дэманстрацыі. Пры гэтым змяненні ў адкрытай пры раскопках археал., стратыграфічнай, архіт. сітуацыі мінімальныя (музей «Бярэсце»). Найб. падыходзіць да дэманстрацыі аб'ектаў, якія ўяўляюць гісторыка-архіт. ці маст. цікавасць. Значэнне маюць памеры ўскрытага аб'екта і захаванасць яго асобных частак. Негатыўным бокам метаду з'яўляецца недасканаласць кансервантаў. Паўторныя прамочванні, перакладкі на розных рошчынах праз кожныя 10—15 гадоў паступова вядуць да знішчэння архіт.-археал. аб'екта.

Метад рэканструкцыйна-археалагічнага макетавання прымяняецца, калі страчаны аб'ект, рэканструяваны па захаваных дэталях, узнаўляецца на сваім месцы (цэрквы Раства Багародзіцы ў Оршы, Дабравешчанская, Васкрасенская рынкавая і Успенская ў Віцебску). Аднаўленне ажыццяўляецца з таго ж матэрыялу з выкарыстаннем элементаў, якія збераглíся, і розных крыніц інфармацыі (апісанне, чарцяжы, аналагі і г.д.). Альтэрнатывай рэканструкцыі можа быць спроба змадэліраваць сітуацыю археал. даследавання, паказаць адзін з момантаў раскопак, спалучэнне збудаванняў розных буд. перыядаў, розныя ўзроўні дзённых паверхняў ці, наадварот, розначасовыя збудаванні на блізкай па адзнацы паверхні. Пры гэтым выяўленыя пры раскопках больш стараж. часткі помнікаў кансервуюцца і экспануюцца ў перакрытых траншэях, сутарэннях (Полацкі Сафійскі сабор). У музеях-заказніках пад адкрытым небам прадугледжваецца комплекснае здзяйсненне шэрага арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў: вычляненне музея-заказніка са сферы гар. забудовы; вызначэнне ахоўнай зоны вакол заказніка, зоны рэгулявання забудовы і зоны ландшафту, які ахоўваецца; стварэнне ахоўных збудаванняў, правядзенне кансервацыйна-рэстаўрацыйных работ, будаўніцтва ці прыстасаванне існуючых памяшканняў для арганізацыі музейнай экспазіцыі і размяшчэння фондаў. Гэтыя мерапрыемствы дапускаюць і вядзенне на тэр. заказніка сістэматычных археал. раскопак з мэтай іх наступнага выкарыстання.

Для прадухілення страты помнікаў археалогіі неабходна своечасова здзяйсняць комплекс засцерагальных і ахоўных водаадводных мерапрыемстваў (ліквідаванне падтаплення з боку вадаёмаў, дрэнажныя работы, гідраізаляцыйныя пакрыцці, умацаванне грунтоў, наладжванне процізрухавых збудаванняў). Выбар мерапрыемстваў здзяйсняецца на падставе гідраметэаралагічных і інжынерна-геалагічных даследаванняў і выпрацаваных з іх улікам тэхніка-эканамічных абгрунтаванняў.

Для музея пад адкрытым небам распрацоўваецца комплекс мер аховы ад разбурэння і падрыхтоўка турыстычнага маршруту. Матэрыял, з якім даводзіцца працаваць (культ. пласт, канструкцыі), патрабуе неадкладнай кансервацыі. Спосаб экспанавання археал. аб'екта павінен прадугледжваць далікатныя адносіны да помніка гісторыі і культуры. Нельга падмяняць гіст. дакладнасць рэзкай, даступнай па сродках, але скажаючай сутнасць помніка падробкай. Гэта перашкаджае захаванасці яго аўтэнтычнасці, суправаджаецца знішчэннем культ. пласта і адметных якасцей помніка. Трэба здзяйсняць падсыпку валоў у месцах парушэнняў, ачыстку абарончых равоў ад смецця і хмызняку, упарадкаванне навакольнага асяроддзя. Раскапаныя збудаванні патрабуюць апаратыўнага замацавання, пэўнай методыкі кансервацыі.

Побач з аб'ектам (калі паблізу няма музея) у спецыяльным павільёне могуць размяшчацца карты, схемы, рэканструкцыі, кароткія гіст. даведкі і інш.

*Літ.*: Лысенко П.Ф. Опыт музеефикации археологических памятников в Белорусской ССР // Методические основы охраны и использования памятников археологии. М., 1987; Левко О.Н. Практическая археология. Могилев, 2006. *В.М.Ляўко.*

**МУЗЫ́ЧНЫЯ ІНСТРУМЕ́НТЫ**, прылады, з дапамогай якіх атрымліваюцца рытмічна арганізаваныя і фіксаваныя па вышыні гукі і шумы альбо дакладна рэгуляваныя рытмы. Ва Усх. Еўропе найб. стараж. лічацца рытмічна-ўдарныя прылады, выробленыя з косці мамантa. Такія М.і. знойдзены на палеалітычных паселішчах Мезіна Чарнігаўскай, Гарадок Ровенскай і Касцёнкі Варонежскай абласцей.

Да эпохі ранняга неаліту адносяцца 2 касцяныя флейты, выяўленыя ў воз. Сенніца на мяжы Віцебскай і Пскоўскай абласцей. На неалітычным паселішчы каля в. Асавец Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл. знойдзены фр-т жалейкі (дудкі), зроблены з косткі птушкі. Даўж. фр-таў 5 см, сячэнне 10 × 7 мм, дыям. кожнай з 3 ігравых адтулін 3 мм; адлегласць паміж адтулінамі 1,7 і 2,1 см. Галоўка інструмента са свістковым прыстасаваннем адсутнічала ці не захавалася. Пры раскопках паселішчаў позняга неаліту—ранняй бронзы каля в. Камень Пінскага р-на Брэсцкай вобл. знойдзены 2 танкасценныя касцяныя трубачкі (магчыма, музычныя ражкі) і свісцёлкі. У перыяд позняй бронзы і ранняга жалеза на ПнЗ Беларусі праніклі плямёны лужыцкай культуры, з якой звязаны знойдзеныя на тэр. Польшчы разнастайныя М.і.: гліняны свісток, які формай нагадвае рог тура, грашчоткі, састаўны інструмент з косці тыпу т.зв. флейты Пана. На гарадзішчы ранняга жал. веку каля в. Гарані Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. выяўлена дудка-свісцёлка даўж. 71 мм, зробленая з косткі птушкі. Верагодна, што паходжанне некаторых М.і., якімі карысталіся пастухі, адносіцца да глыбокай старажытнасці. Прамыя і доўгія драўляныя пастухоўскія трубы здаўна пашыраны ў Беларусі, Прыбалтыцы, Карпатах, Польшчы, Швецыі. Арэал распаўсюджання казіных ражкоў з ігравымі адтулінамі абмежаваны тэр. Беларусі, усх. Прыбалтыкі, Фінляндыі і Швецыі. Музычныя трубы з бяросты ці альховай кары вядомы на тэр. Беларусі, Польшчы, у эстонцаў, латышоў, фінаў, карэлаў. Лічыцца, што гэтыя прымітыўныя М.і. ўзніклі ў першабытныя часы, магчыма, у час існавання *шнуравой керамікі культуры.* Мяркуец-

ца, што знойдзеная ў культ. пласце стараж. Ваўкавыска касцяная трубачка дыям. 11 мм з'яўляецца М.і. накшталт жалейкі. Дэталі стараж. струннага інструмента і некалькі фр-таў званоў выяўлены ў Гродне пры даследаванні рэштказ Ніжняй царквы 12 ст. Пры раскопках у Навагрудку знойдзена капавушка з выявай музыкі, што грае на трохструнным М.і., які нагадвае вертыкальна пастаўленыя гуслі. У Ваўкавыску выяўлена шахматная фігурка пешкі з барабанам.

*Літ.*: Зайкоўскі Э.М. Музычная культура першабытнага часу на тэрыторыі Беларусі // Из истории науки и техники Белоруссии: тез. докл. конф. Минск, 1988. *Э.М.Зайкоўскі.*

**МУ́РАВА**, група археалагічных помнікаў — гарадзішча і курганныя могільнікі каля в. Мурава Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча каля вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўр. Замак (Пагулянка). Пляцоўка памерамі 47 × 50 м, выш. над поплавам больш за 25 м. З боку поля ўмацавана валам шыр. 15 м, выш. 5 м і ровам глыб. 5 м. Пашкоджана траншэямі і бліндажамі часоў Вял. Айч. вайны, зарасло хмызняком і дрэвамі. Абследаваў у 1928 А.Рынейскі. У 1963 даследаваў Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Знойдзена ляпная штрыхаваная і гладкасценная кераміка мілаградскай, ранняга этапа зарубінецкай, быхаўска-калочынскай культур, гліняныя прасліцы, шлакі, абпаленае каменне.

Курганны могільнік за 2,5 км на З ад вёскі, каля лесу. Вядомы з к. 19 ст. Даследавалі ў 1929 І.Р.Калодкін і М.М.Канвісараў, у 1930 А.М.Ляўданскі (12 насыпаў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунце, у асобных выпадках на папялішчы, галавой на З. Знойдзены бронзавыя жаночыя скроневыя кольцы, шкляныя і філіграннная пацеркі, абломкі ганчарнага посуду. Захаваўся 21 насып выш. 1,3—1,5 м, дыям. 8—12 м. Могільнік належаў крывічам. Датуецца 10—12 ст.

Курган за 1 км на Пд ад вёскі, за 0,2 км злева ад дарогі ў в. Уша Бярэзінскага р-на, у лесе. Выш. 1,7 м, дыям. 5—6 м. Выявіла і абследавала ў 1983 Т.С.Бубенька.

*Літ.*: Дубінскі С.А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г. // Працы. Т. 2; Рынейскі А. Разведачная археалагічная экспедыцыя // Наш край. 1929. № 8—9; Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3; Ляўданскі А.М., Палікарповіч К.М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па даных археалогіі // Сав. краіна. 1932. № 5. *Т.С.Бубенька, Л.Д.Побаль.*

**МУРАВА́НКАЎСКАЯ ЦАРКВА́** помнік архітэктуры. Узведзена ў 1524 у в. Мураванка Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. Вядома як царква Раства Багародзіцы. Помнік абарончага культавага дойлідства готыка-рэнесанснага стылю. Выканана ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы-пальчаткі на вапнава-пясчанай рошчыне. У 1656 пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай была моцна пашкоджана, аднаўлена праз некалькі гадоў. У 1706 трапіла пад гарматны абстрэл войска шведскага караля Карла XII. Знаходзілася ў занядбаным стане да 19 ст. Адноўлена прыблізна ў 1817—22. Выгляд храма значна зменены ў час капітальнага рамонту 1871—72: зах. вежы надбудаваны на сажань, паўн.-зах. прыстасавана пад званіцу, да гал. фасада прыбудаваны прытвор, ва ўсх. вежах зніклі драўляныя ўсходы, замуравана частка байніц; у перадалтарнай частцы пабудавана мураваная сцяна, якую знеслі ў 1920—30-я г. У 1920 царква прыстасавана пад касцёл, які дзейнічаў да 1939. Адкрыта зноў як царква ў 1990.

Уяўляе сабою 4-слупавую залавую пабудову. З яе ўсх. боку выступае алтарная апсіда паўкруглай у плане формы. Па вуглах фланкіравана вежамі (першапачаткова аднолькавай вышыні), вітыя ўсходы якіх вялі да байніц абарончага пояса ў паддашшы. Тарцовыя сцены першапачаткова завяршаліся, напэўна, франтонамі фігурнай формы. Асн. аб'ём накрыты 2-схільным дахам, вежы — шатрамі. Фасады, вежы, франтоны ўпрыгожаны яруснай кампазіцыяй у выглядзе плоскіх атынкаваных арачных ніш. Маляўнічасць фасадаў узмацняе дэкаратыўны пояс з перапаленай цэглы, пакладзенай над парэбрыкам у шахматным парадку. Храм мае адзін уваход, які завяршаецца аркай паўцыркульнай формы. Акцэнтаваны нішай спічастай формы і валікавай цягай, што ахоплівае яго суцэльнай стужкай. Да пач. 19 ст. над уваходам былі апускныя дзверы-герсы. Зах. частку храма на шырыню гал. нефа займаюць мураваныя хоры. Унутраная прастора перакрыта зорчатымі і сотавымі скляпеннямі. Асвятляецца праз вокны, першапачаткова стральчатай формы, зробленыя ў кожнай травеі бакавых нефаў. Звонку адхоны вокнаў былі аформлены 3 радамі прафіляванай цэглы-выкружка. Інтэр'ер царквы быў пазбаўлены аздаблення фрэскамі і пакрыты таніраванай тынкоўкай. У апсідзе былі 3 байніцы. Падлога ў царкве зроблена з паліваных плітак квадратнай формы. Пад ею размяшчаецца скляпеністае сутарэнне. Храм узняты на магутны падмурак (выш. 2,8—3 м), складзены з неапрацаваных валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне з запаўненнем вялікіх пустот бітай цэглай і дробным каменнем.

*Літ.*: Иодковский И.И. Церкви, при-способленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности. М., 1915. Т. 6; Шчакаціхін М.М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Менск, 1928; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларус-

кага барока. Мінск, 2001; Кушнеревич А.Н. Церковь в д. Мурованка: архитектурно-археол. исслед. // Строительство и архитектура Белоруссии. 1987. № 1; Яго ж. Архітэктурна-археалагічнае даследаванне Муранкаўскай царквы // ВАНБ. 1990. № 5; Яго ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст.: гіст. і архітэктурна-археал. даслед. Мінск, 1993; Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы Беларусі. Мінск, 2007.

*А.М.Кушнярэвіч.*

**МУ́РМЕЛЬШПІЛЬ** (ням. Murmelspiel), гліняныя або каменныя шарыкі для гульні ў каменьчыкі. Трапляюцца пры раскопках замкаў і гарадоў у пластах 16—17 ст. На Віцебскім Верхнім замку і ў Слуцку іх знойдзена больш за 20. Віцебскія М. выраблялiся з тлустай гліны або вапняку (дыям. 9—30 мм, вага 0,7—26,5 г), слуцкія — з чырвонай і шэрай гліны (дыям. 1,9—2,6 мм, вага 4,7—13,75 г). М. знойдзены пры раскопках у Мінску, Дзісне, Дрысвятах, Крычаве, Чачэрску і шэрага інш. бел. гарадоў; вядомы па раскопках Рыгі і замкаў Прыбалтыкі. *Л.У.Калядзінскі.*

**МУРО́ЎКА**, размяшчэнне камянёў, блокаў, цэглы паводле пэўнай сістэмы, што выяўляецца малюнкам швоў на паверхні сцяны. Удасканаленне тэхнікі М., выкарыстанне розных тыпаў цэглы, сістэма перавязкі цаглін паміж сабой адлюстроўваюць узровень развіцця будаўніцтва і даюць магчымасць стварыць дакладную шкалу для датавання помніка архітэктуры. Малюнак М. нетынкаваных фасадаў з'яўляецца асн. фактарам паліхроміі ў мануметальным дойлідстве. Для архіт.-буд. практыкі пэўнай эпохі і рэгіёна ўласцівы асобыя сістэмы М.



*«Разынкавая»* ***муроўка.***




*Да арт.* ***Муроўка****: opus mixtum (1); opus incertum (2); са «схаваным радам» (3); дэкаратыўная – мяшаная (4); раўнарадавая (5); раўнарадавая (6); лусковая (7); балтыйская (8); grand appareil (9); мяшаныя (10, 11); гатычная (12); рэнесансавая (13); крыжовая (14); галандская (15); старчаковая (16); дэкаратыўная гатычная (17); «разынкавая» (18).*

На тэр. Беларусі існавалі 3 асн. групы М.: мяшаная (з камянёў і цэглы), цагляная, каменная (з валуноў ці абчасаных блокаў). Першае ў Беларусі збудаванне ў тэхніцы мяшанай М. (opus mixtum) — *Полацкі Сафійскі сабор* (11 ст.). Пластыку фасадаў узбагачала чаргаванне радоў палявых камянёў са слаямі *плінфы*, якая звязвала канструкцыю (М. са «схаваным радам»). Была характэрна для *полацкай архітэктурнай школы.* У 12 ст. плінфа набыла прамавугольную форму, патрэба заглыбляць яе рады знікла. Захавалася толькі дэкаратыўная функцыя такой М. У тэхніцы каменнай М. (opus incertum) будаваўся Мінскі храм (12 ст.). У тэхніцы дэкаратыўнай мяшанай М. пабудавана *Віцебская царква Звеставання* (12 ст.). Яе сцены мелі радавую М.: 1 рад абчасанага вапняку, 2 рады плінфы і г.д. Знадворку сцены былі апрацаваны тонкім слоем тынкоўкі і падзелены белымі вапнавымі палоскамі (шыр. каля 1,5 см) на русты адпаведна памерам вапняку. Для *гродзенскай архітэктурнай школы* (12 ст.) характэрна дэкаратыўная раўнарадавая М.; акрамя плінфы вонкавую паверхню сцен аздаблялі рознакаляровыя шліфаваныя камяні, паліваныя місы (*Гродзенская Ніжняя царква*) і пліткі, з якіх выкладваліся розныя крыжападобныя фігуры. У інтэр'еры сцены мелі роўную паверхню з плінфы, на фоне якой вылучаліся круглыя гарлавіны галаснікоў. *Тураўская царква* (12 ст.) пабудавана ў тэхніцы раўнарадавай М. (у літаратуры наз. кіеўскай). У 13—16 ст. (у абарончым дойлідстве да сяр.

17 ст.) для ўзвядзення асп. муроў выкарыстоўвалася лускавая (двухпанцырная) М., калі з цэглы ці спецыяльна падабраных камянёў выкладалі вонкавыя паверхні сцен, а прамежкі паміж імі забутоўвалі кавалкамі цэглы і дробным каменнем (*Камянецкая вежа, Гальшанскі замак*). Для 2-й пал. 13 — сяр. 14 ст. характэрна цагляная балтыйская (вендская) М. з чаргаваннем 2—3 лажкоў і тычка (*Крэўскі замак*). У 1-й пал. 14 ст. існавала каменная М. grand appareil (*Лідскі замак*). У 16—17 ст. выкарыстоўвалі 2 тыпы мяшанай М.: чаргаванне суцэльных радоў камянёў і цэглы і валуны, хаатычна раскіданыя па цаглянай паверхні (*Гродзенскі Стары замак, Мірскі замак*). З сяр. 14 ст. да сяр. 16 ст. пераважала цагляная гатычная М. з чаргаваннем у радзе тычка і лажка (*Сынкавіцкая Міхайлаўская царква*). З 15 ст. пашырылася дэкаратыўная гатычная М., у якой выкарыстоўвалася перапаленая цэгла-клінкер (цёмна-сіняга, амаль чорнага колеру), з якой выкладваліся розныя ўзоры, найчасцей у выглядзе рамбічнай сеткі (Троіцкі касцёл у в. Ішкалдзь Баранавіцкага р-на, Дабравешчанская царква ў г. Супрасль Падляскага ваяводства, Польшча). У 2-й пал. 16 ст. з'явілася рэнесансавая М. — чаргаванне радоў цэглы з тычкоў і лажкоў. У 16—17 ст. выкарыстоўваўся крыжовы варыянт рэнесансавай М., калі швы стыкаў лажкоў знаходзіліся адзін над адным у кожным 5-м радзе цэглы (Спаса-Праабражэнская царква ў г. Заслаўе). У 17—18 ст. вядома таксама галандская М., у якой рады з тычкоў перамяжоўваюцца радамі, дзе тычок чаргуецца з лажком (*Смалянскі замак*, Міхайлаўскі касцёл і калегіум езуітаў у г. Мсціслаў). У фартыфікацыйным будаўніцтве 16—18 ст. выкарыстоўвалася тычковая М. (*Мураванкаўская царква*). З 2-й пал. 16 ст. фасады будынкаў атынкоўвалі, што прывяло ў 17 ст. да адраджэння раўнарадавай М., дзе няма ніякай паслядоўнасці ў чаргаванні тычкоў і лажкоў. Усе помнікі магілёўскай архіт. школы 2-й пал. 17 ст. маюць такую М. Узнаўленне розных тыпаў М. назіраецца ў 19 — пач. 20 ст, асабліва ў архітэктуры рамантызму, псеўда- і неаготыкі, мадэрна. У гэты час найб. пашырана гатычная М. Яе рабілі на цэментнай рошчыне з фугоўкай швоў. Для архітэктуры невял. капліц, касцёлаў, цэркваў, мураваных агароджаў, гасп. пабудоў характэрна т.зв. «разынкавая» М., калі вял. камяні абмазвалі вапнай і ў яе ўтыкалі дробныя каменьчыкі, здалёк падобныя на разынкі; часам з іх выкладвалі розныя ўзоры.

*Літ.*: Трусов О.А. Основные типы кладки XI—XII вв. на территории Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983. *А.А.Трусаў.*

**МУСЦЬЕ́**, археалагічная эпоха каменнага веку, якую даследчыкі адносяць да сярэдняга, або ранняга палеаліту, датуюць 100—40 (33) тыс. гадоў назад. Мусцьерскія прылады сустракаюцца і ў больш позні час сумесна з познапалеалітычнымі. Атрымала назву па стаянцы Ле-Мусцье ў паўн.-зах. Францыі. Носьбітамі мусцьерскай культуры былі неандэртальцы. Для М. характэрны прылады працы, зробленыя з каменю. Тэхніка апрацоўкі засн. на атрыманні шырокіх адшчэпаў, якія здымалі з дыскападобных нуклеусаў. З гэтых нарыхтовак выраблялі рубілы, скрэблы, востраканечнікі і інш. Насельніцтва займалася паляваннем і збіральніцтвам. Неандэртальцы засялялі прыродныя пячоры, пазней навучыліся будаваць жытлы і авалодалі агнём. У іх асяроддзі склаліся вераванні, зарадзілася першабытнае мастацтва.

На тэр. Беларусі тыпалагічна мусцьероіднымі прыладамі можна лічыць 3 артэфакты, якія былі выяўлены ў басейне р. Сож у розныя гады: скрэбла-нож з ур. Калодзежкі каля в. *Падлужжа* Чачэрскага р-на, знойдзенае ў 1928 К.М.Палікарповічам у пясках, якія падсцілалі магутны пласт костак мамантa з арыньякскімі знаходкамі; востраканечнік з ур. Каменная Гара каля в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на, знойдзены ў 1929 П.Чайкоўскім на правым беразе р. Беседзь; скрэбла, якое было знойдзена ў 1960 Л.Д.Побалем ва ўр. Чырвоная Горка каля в. Абідавічы Быхаўскага р-на, на левым беразе Дняпра. Знаходкі не маюць дакладнай геалагічнай прывязкі і суправаджальнай арганікі. Праведзеныя стратыграфічныя назіранні ў месцах іх выяўлення паказалі, што геамарфалагічная сітуацыя не пярэчыць прапанаванай археалагамі дацiроўцы прылад эпохай М., але больш вузкія часовыя рамкі вызначыць немагчыма. Адсутнасць устойлівых серый знаходак мусцьерскага аблічча і адзначаныя вышэй абставіны дазваляюць толькі гіпатэтычна меркаваць аб пранікненні першых людзей на тэр. ўсх. Беларусі ў прамежку часу 100—40 (33) тыс. гадоў назад. Бліжэйшыя да Беларусі помнікі мусцьерскага часу знойдзены паблізу в. Хатылёва, каля Жытоміра, Чулатава 3 і Бетава ў Падзясенні. Адначасовыя знаходкі паходзяць з вярхоў'яў Акі каля в. Бялёва, знойдзены на водмелях Волгі паміж Казанню і Самарай, сярод матэрыялаў пячоры Вільётне (Польшча), Кенінгсаўе (Германія) і інш. месцах.

*Літ.*: Иванова И.К. Геологический возраст ископаемого человека. М., 1965; Калечиц Е.Г. Первоначальное заселение территории Белоруссии. Минск, 1984. *А.Г.Калечыц.*

**МЫ́СЛІ**, археалагічны помнік — гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Мыслі Капыльскага р-на Мінскай вобл. За 0,8 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Выня, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка прамавугольная, памерамі 60 × 40 м, з трох бакоў умацавана валам выш. да 3 м і ровам. У цэнтр. частцы пляцоўкі паўсферычны насып выш. да 0,6 м. З паўн. боку пляцоўка абмежавана абрывам да б. рэчышча Выні, якая

*Да арт.* ***Мыслі.*** *Вырабы з бронзы.*



цяпер каналізавана. У час правядзення меліярацыі ў 1970-я г. пляцоўка пашкоджана глыбокай траншэяй. У 1979, 1986—89 М.Ф.Гурын даследаваў 891 м². Выяўлена 8 паўзямлянак, размешчаных пераважна на паўн. ускрайку гарадзішча, 20 слупавых ям дыям. 0,5—0,95 м, глыб. да 1,2 м. У куце адной з зямлянак выяўлены развал ачага з каменю. Даследаванне паўзямлянкавых пабудоў дае падставу меркаваць пра ўплыў плямён кіеўскай культуры.

Знойдзены фр-ты ляпной гладкасценнай і штрыхаванай керамікі: пасудзіны розных памераў і форм (ад вял. гаршкоў да мініяцюрных «шклянак»), чарапкі глянцаванага посуду, гліняныя прасліцы (437 экз.), грузікі дзякоўскага тыпу, фігурка сабакі. Знойдзены вырабы з жалеза (нажы, сярпы, абломкі ляза сякер, спружынныя нажніцы, прабойнік, позналатэнская фібула, іголка, кіяпадобныя шпількі, стрыжні і фр-ты розных прылад працы, бытавых і гасп. прадметаў, кавалкі металургічнага шлаку), з бронзы (акуляра- і трапецападобныя падвескі, кольцы, спіралі, бляшкі, трохабаротныя бранзалеты, фр-ты рэчаў, паўфабрыкатаў у выглядзе дроту, абломкі тыгляў), з крэменю (пласціны, адшчэпы, двухшыпны наканечнік стралы), з косці (фр-т іголкі з вушкам і інш.), са шкла (імпартныя пацеркі), а таксама каменныя зерняцёркі, гарэлае зерне проса. Астэалагічны матэрыял, даследаваны В.В.Шчагловай, сведчыць, што жыхары гарадзішча займаліся развядзеннем коней, буйной і дробнай рагатай жывёлы, свіней, сабак, палявалі на дзікоў, касуль, ласёў, баброў. Датуецца 1—4 ст. н.э.

*Літ.:* Гурин М.Ф. Раскопки городища у д. Мысли // АО 1979. М., 1980; Его ж. Работы на городище у д. Мысли Копыльского района // АО 1986. М., 1988. *М.Ф.Гурын.*



*В.У.Мядзведзева.*

**МЯДЗВЕ́ДЗЕВА** Вольга Уладзіміраўна (н. 3.9.1962, в. Асінаўка Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2009). Скончыла БДУ (1991). З 1986 працуе ў ІГ НАН Беларусі. Займаецца вывучэннем касцярэзнага рамяства на тэр. Беларусі ў сярэдневяковы перыяд (9—18 ст.), пытаннямі гістарыяграфіі бел. археалогіі, захавання і выкарыстання археал. спадчыны. Складальнік кн. «Археалогія Беларусі: каталог архіўных навуковых матэрыялаў (1924—2007). Ч. 1. Каменны і бронзавы вякі» (2009).

*Тв.:* Бібліяграфія вучоных Беларусі. Г.В.Штыхаў (да 75-годдзя з дня нараджэння). Мінск, 2002 (разам з Л.У.Калядзінскім); Касцяныя вырабы з сярэднявечных гарадоў // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Рамесныя касцярэзныя майстэрні XII—XVIII стст. // Романовские чтения. Могилев, 2005; Сярэдневяковыя шахматы Беларусі: (гіст.-археал. даслед.). Мінск, 2005; Вытворчасць касцяных прадметаў Полацкай зямлі // МАБ. 2005. № 9; Заамορфныя вастрыі-амулеты // Там жа. 2008. Вып. 15; Касцярэзнае рамяство Магілёўшчыны XII—XVIII стст. // Романовские чтения-2. Могилев, 2006; Сярэдневяковыя шашкі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22; Капавушкі X—XV стст. з тэрыторыі Беларусі // Там жа. 2007. Вып. 23; Прыкладное мастацтва сярэдневяковага Мінска // Мінск і мінчане: дзесяць стагоддзяў гісторыі. Мінск, 2008. *Дз.У.Дук.*



*А.М.Мядзведзеў.*

**МЯДЗВЕ́ДЗЕЎ** Аляксандр Міхайлавіч (н. 7.2.1960, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991), дацэнт (2001). Скончыў БДУ (1984). З 1980 у ІГ НАН Беларусі, з 2006 заг. аддзела. Даследуе праблемы паходжання бел. этнасу, этнакульт. працэсы ў жал. веку і раннім сярэдневякоўі на тэр. Беларусі. Праводзіў археал. даследаванні на гарадзішчах Кашчэлічы Валожынскага, Гарадзішча Баранавіцкага, Васькаўцы і Краснае Маладзечанскага, Глыбокае і Запруддзе Глыбоцкага, Равячка Мядзельскага, Рацюнкі Браслаўскага р-наў. З 2006 даследуе гіст. цэнтры стараж. гарадоў Беларусі (Гродна, Мінск). Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» ў 3 т. (т. 2, 1999), «Гісторыі Беларусі» ў 6 т. (т. 1, 2000).

*Тв.:* О хронологии памятников штрихованной керамики в I—V вв. // Barbaricum, Warszawa, 1994. Т. 3; К вопросу о северной границе позднезарубинецкой и киевской культур в Верхнем Поднепровье // ГАЗ. Мінск, 1995. № 7; Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н.э. — 5 в. н.э.). Минск, 1996; Насельніцтва лясной паласы Усходняй Еўропы і падзеі Вялікага перасялення народаў (да пастаноўкі праблемы) // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10; Да пытання аб паходжанні Беларусаў (па дадзеных археалогіі і мовазнаўства) // Там жа. Мінск, 1998. № 13; Да пытання аб паўночнай мяжы днепра-дзвінскай культуры (па вы-

ніках даследаванняў апошніх гадоў) // Там жа. Мінск, 2005. № 19; О времени прихода славян на территорию Белоруссии (характеристика источников) // Труды IV Международного Конгресса славянской археологии. М., 1997. Т. 1; Население Центральной и Восточной Беларуси в эпоху Великого переселения народов // Восточная Европа в древности и средневековье. Минск, 2004; К вопросу о происхождении и хронологии украшений эпохи Великого переселения народов (фибулы типа Вильканцы) // МАБ. 2009. Вып. 17.

*З.А.Харытановіч.*

**МЯ́ДЗЕЛ**, горад, цэнтр Мядзельскага р-на Мінскай вобл., паміж азёрамі Мястра і Баторына. За 140 км на ПнЗ ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Княгініна на лініі Маладзечна—Полацк, на дарозе Мінск—Нарач.

Стараж. М. (Мядзела, Мядзюль, Мядзкол) узнік у 10 ст. як парубежнае ўмацаванне Полацкай зямлі. Размяшчаўся на цяжкадаступным в-ве Замак воз. Мядзел. Першапачатковае гарадзішча М. мела авальную форму (70 × 52 м), усх. край яго пляцоўкі ўзвышаўся над возерам на 10 м. Падковападобны гліняны вал на У дасягае выш. 5 м і адсутнічае з З. Яго ўнутраны і знешні схілы абкладзены валунамі. У 1970 і 1981 даследаваў 20 м² М.А.Ткачоў. Культ. пласт 0,6—2,43 м, складаецца з некалькіх гарызонтаў. Верхні гарызонт шараватага колеру, насычаны дробнымі каменьчыкамі, кавалкамі абмазкі, вуголлем, косткамі дзікай і свойскай жывёлы, луской рыбы. Сярэдні пласт з белаватай, чырвонай, нікэй з гумусавай шэрай гліны. Самы нізкі гарызонт інтэнсіўна-чорнага колеру, утрымлівае матэрыялы 10—13 ст. Нягледзячы на значную таўшчыню, культ. пласт слаба насычаны знаходкамі.

Выяўлены фр-ты керамікі 10 ст., абломкі пасудзін 11 ст. са слабаакрэсленым карнізікам, дробным і частым рыфленнем. Кераміка 12—13 ст. слабапрафіляваная, у арнаменце пераважаюць рыфленыя шматразовыя хвалі; ёсць арнамент, зроблены грабянцом, узоры-штампы, пазногцевыя ўціскані, нажавыя насечкі пад шыйкай і над венчыкам. Сярод інш. матэрыялаў: шыферныя прасліцы, тачыльныя брускі, жал. нажы, касцяная пласцінка з цыркульным арнаментам, абломкі каменных жорнаў, кавалкі жал. шлаку, косткі жывёл, птушак, рыб.

Невял. колькасць керамікі 14—15 ст. пацвярджае меркаванне даследчыкаў, што жыццё на гарадзішчы спынілася менавіта ў гэты час. У выніку шурфоўкі на вяршыні вала на глыб. 0,5 м выяўлены рэшткі абпаленых драўляных канструкцый. У насыпе вала зафіксаваны сляды 3 пажараў, якія на працягу 12 — пач. 15 ст. знішчалі драўляныя ўмацаванні паселішча. Вал пашкоджаны таксама акопамі 1-й сусветнай вайны. Стромкія схілы паселішча надзейна засцерагалі жыхароў ад раптоўных нападаў. Драўляныя абарончыя канструкцыі на вяршыні вала закрывалі пляцоўку ад прамога пападання стрэл праціўніка.

Першая пісьмовая згадка пра М. зафіксавана 22.9.1324 у пасланні вял. кн. Гедзіміна епіскапам дэрпцкаму, эзельскаму, дацкаму, намесніку Рэвельскай зямлі і радзе г. Рыга. Пад сценамі ўмацавання, каля падножжа Замкавай гары размяшчалася селішча 11—13 ст. пл. больш за 1,5 га. У 1981 выявіў і даследаваў 20 м² М.А.Ткачоў. Культ. пласт каля 0,5 м. Знойдзена невял. колькасць фр-таў гаршкоў 11—12 ст., шмат керамікі 13 ст., тачыльны брусок, бронзавая спражка з язычком 13 ст. і інш. У 1-й пал. 15 ст. паселішча перанесена з в-ава Замак воз. Мядзел на паўн. бераг воз. Мястра. Гэты М. вядомы па пісьмовых крыніцах з 1454 як населены пункт Віленскага ваяводства. У 1982 яго даследавалі М.М.Чарняўскі і З.С.Пазняк. Ускрыта 18 м² пл. каля царквы сярэдзіны 18 ст. Выяўлена кераміка 15—16 ст., а таксама масіўны каменны падмурак і фр-т муроўкі з цэглы-пальчаткі, якія, відаць, з'яўляюцца рэшткамі касцёла, вядомага па дакументах 1457.

У сувязі з закладкай на востраве воз. Мястра *Мядзельскага замка* адм. цэнтр М. перамясціўся ў 17 ст. на ўсх. бераг возера. Тут узнік Новы М., умацаваны абарончым валам і ровам. У час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1512—22 М. быў разбураны ў 1519. Ранейшае паселішча працягвала існаваць, за ім замацавалася назва Стары М. Тэр. Новага М. ў 1982 даследавалі М.М.Чарняўскі і З.С.Пазняк. Шурфоўкай у раёне старога цэнтра выяўлены культ. пласт 0,3—0,8 м, моцна перамяшаны і насычаны бітай цэглай. Знойдзена кераміка 16—18 ст., манеты 17—18 ст. Прарэзка вала паказала, што ён насыпаны з суглінку, шыр. да 8 м у аснове і выш. каля 1—1,5 м. З 1736 М. — мястэчка.

*Літ.:* Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. М., 1915; Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М, 1966; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх земляў Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Яго ж. Работы экспедиции Гродненского университета // АО 1981. М., 1983; Чернявский М.М. Раскопки в бассейнах Немана и Вилии // АО 1982. М., 1984.

*М.А.Ткачоў.*

**МЯ́ДЗЕЛЬСКАЕ СЕ́ЛІШЧА**, археалагічны помнік 10—17 ст. ва ўсх. частцы в-ва Замак воз. Мястра ў Мядзельскім р-не. Пл. больш за 2 га. Выявіў у 1979 М.М.Чарняўскі, даследавалі ў 1981 М.А.Ткачоў, у 1985 Я.Г.Зверуга. Ускрыта 88 м². Культ. пласт 0,4—0,6 м. Выяўлены рэшткі печаў-каменак, на мацерыку — сляды неалітычнай стаянкі (агнішчы, крамянёвыя ножападобныя пласціны і наканечнікі стрэл, ляпная кераміка, косткі жывёл). Сярод знаходак 10—13 ст. ганчарная кераміка, жал. нажы, дужка ад вядра, кавалкі жал. шлаку, косткі жывёл; 14—17 ст. — посуд, гаршковая кафля, цвікі, інш. жал. вырабы.

*Літ.*: Ткачев М.А. Работы экспедиции Гродненского университета // АО 1981. М., 1983.

**МЯ́ДЗЕЛЬСКІ ЗА́МАК**, помнік археалогіі і фартыфікацыі. Існаваў у 15 — пач. 18 ст. Размяшчаўся на в-аве Замак воз. Мястра. Займаў пляцоўку гарадзішча. Складаўся з мураваных вежы і палаца, а таксама знешняга абарончага комплексу (захаваліся руіны). Круглая ў плане в е ж а - д а н ж о н адкрыта ў 1981 археал. экспедыцыяй Гродзенскага ун-та. Яе знешні дыям. 17,5 м, унутраны — 10 м, таўшч. сцен каля 3,5 м. Падмурак вежы (адначасова цокальны паверх) заглыблены ў зямлю на 3,75 м, складзены ў тэхніцы паласатай муроўкі з радоў валуноў і буйнапамернай цэглы на вапнавай рошчыне. Забутоўка сцен з бітай цэглы. Падмурак вежы пакладзены на вапнавую падушку таўшч. 10—14 см. На выш. 15 м ад падушкі падмурак мае цокаль-прыступку шыр. 0,3 м, на якім знойдзена кельма 15 ст. Ва ўсх. частцы вежы размешчаны праём светлавога люка (1,23 × 1,75 м), перакрыты аркай. Ён меў ступеньчаты ўхіл унутр вежы. У зах. частцы расчышчаны праход (1,5 × 2 м) з 5 сходамі ў падвальнае памяшканне. Верагодна, у 2-й пал. 16 ст. ён быў замураваны. Ад дзвярэй ацалелі толькі крукі, на якія на завесах мацавалася дзвярное палотнішча. Сценкі праходу складзены з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Падвал вежы, магчыма, меў перакрыцце на бэльках. Асн. масіў вежавай сцяны, ад якой захаваліся фр-ты выш. каля 1,5 м, быў узведзены на вапне ў тэхніцы лускаватай муроўкі з буйнапамернай цэглы (29,8—31,7 × 11—19,3 × 6,7—10,1 см). Паводле малюнка з карты ВКЛ (1613) Т.Макоўскага, вежа мела некалькі (верагодна, 5) ярусаў і дасягала выш. 30 м. Па сваіх параметрах яна была блізкая да Камянецкай вежы. Пры расчыстцы падвала знойдзена кераміка 15—17 ст., у т.л. белагліняная (польскі імпарт), паліхромная кафля з разнастайнымі сюжэтнымі малюнкамі, грош 1535, трохшыпавыя салдацкія падкоўкі пад абцасы, фр-т жал. завесы ад аканіцы, цвікі, шылы, дзвярныя кручкі і інш. Вежа М.з. была накрыта, верагодна, гонтай ці бляхай.

У 1-й пал. 16 ст. да вежы з З прыбудаваны прамавугольны ў плане п а л а ц , руіны якога ўскрыты часткова. Ён быў узведзены з цэглы (27,4—30,6 × 11,5—15,5 × 7,1—9,4 см), меў сцены таўшч. каля 2 м і шыр. 10 м, падвалы глыб. 3 м, перакрытыя скляпеннем. Даўжыня палаца канчаткова не вызначана. На Пд ад вежы ўскрыта 120 м². Культ. пласт 0,2—0,7 м, шэрага колеру з украпінамі гліны, месцамі перамяшаны разворваннем. Выяўлены матэрыялы часоў Кіеўскай Русі (ганчарная кераміка 11—13 ст., нажы, косткі дзікай і свойскай жывёлы, луска і косткі рыбы) і ВКЛ (кераміка 14—17 ст., у т.л. белагліняная паліваная і паліхромная кафля з раслліннымі, геам. і сюжэтнымі малюнкамі, жал. вырабы, манеты 16—17 ст.). Пляцоўка М.з. абведзена традыцыйным для сярэдневяковай Беларусі мурам з валуноў на вапне. Ніжняя зона падмурка складзена на гліне, самы ніжні рад камянёў — на дубовых плахах. З усх. боку поля таўшч. замкавых муроў 2 м, з інш. бакоў, прыкрытых возерам, — 1,5—1,7 м. Асн. націск у абароне замка рабіўся на 5 мураваных паўкруглых бастэй, разлічаных, відаць, для размяшчэння тут гармат для стральбы ўздоўж сцен. Бастэі М.з. лічацца самымі раннімі ў Беларусі і папярэднічаюць бастыёнам. У паўд.-ўсх. куце замка выяўлены падмурак цыліндрычнай вежы дыям. 10 м і сцены 2-метровай таўшчыні. Паводле малюнка Т.Макоўскага, усяго ў М.з. было 3 вежы. На замкавым дзяцінцы стаялі гасп. пабудовы, жылыя дамы служак з кафлянымі печамі. У 17 ст. М.з. дадаткова ўмацаваны ніжнім поясам абароны — земляным валам з бастыёнамі і ровам, які запаўняўся вадой з возера. Бастыёны і вал адсутнічалі толькі з усх. боку, дзе да замка блізка падступала воз. Мястра. Сувязь з берагам ажыццяўлялася па драўляным мосце на па́лях даўж. каля 400 м. Паводле гіст. крыніц, у 1564 у арсенале М.з., акрамя ручной агнястрэльнай зброі, былі 2 сярэднія фальканеты і 2 серпанціны. М.з. — прыклад спалучэння асаблівасцей зах.-еўрап. фартыфікацыі з мясц. абарончымі элементамі. У час ваеннай небяспекі замак служыў надзейным сховішчам для жыхароў Мядзела і ваколіц. Разбураны ў час Паўн. вайны 1700—21.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Яго ж. Работы экспедиции Гродненского университета // АО 1981. М., 1983.

**МЯЖА́**, археалагічныя помнікі — паселішча і курганныя могільнікі каля в. Мяжа Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

П а с е л і ш ч а на мысе, утвораным р. Ловаць, што выцякае з воз. Мяжа. Выш. над узроўнем вады 6—9 м. Выявіў і даследаваў 126 м² у 1969 І.М.Ціханенка. Культ. пласт да 0,2 м. Знойдзены скрабкі, скрэблы, адшчэпы з рэтушшу, 20 ножападобных пласцін і іх фр-ты, больш за 20 разцоў (з іх большасць вуглавыя: 2 двайныя, 3 сярэдзінна-вуглавыя, 1 бакавы), рэтушаваны абломак наканечніка стралы, 80 фр-таў гладкасценнай керамікі з арганічным дамешкам у цесце, прамымі або злёгку адагнутымі вонкі венчыкамі (у аднаго коса зрэзаны ўнутраны край). Большасць фр-таў без арнаменту, частка ўпрыгожана тычковымі і пазногцепадобнымі паглыбленнямі, ямкамі, насечкамі, адбіткамі палачкі, лапаткі, грабеньчатага штампа, шнура, прачэрчанымі лініямі. Большасць фр-таў керамікі адносіцца да 3-й групы керамікі *бабінавіцкага тыпу помнікаў*, фр-т з жарствой у цесце і прачэрчанымі лініямі на паверхні — да 1-й групы, фр-т са шнуравым

арнаментам — да позняга неаліту. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

Курганны могільнік-1 за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, каля дарогі ў в. Лялеўшчына. 5 курганоў дыям. 6—8 м, выш. 1—2 м. У 1963 К.П.Шут даследаваў 1 курган. Выяўлена попельна-вугальная праслойка, знойдзены жал. нож. У 1972 абследаваў Г.В.Штыхаў.

Курганны могільнік-2 за 0,9 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Ловаць. 5 курганоў выш. каля 4 м, дыям. 14 м. Выявіў у 1963 К.П.Шут, абследаваў у 1972 Г.В.Штыхаў.

*Э.М.Зайкоўскі, Г.В.Штыхаў.*

**МЯЦЕ́ЛЬСКІ** Андрэй Анатолевіч (н. 16.9.1960, г. Котбус, Германія), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1992). Скончыў Гродзенскі ун-т (1984). З 1989 у ІГ НАН Беларусі. Займаецца археалогіяй і гісторыяй сярэдневяковага перыяду ўсх. Беларусі, пытаннямі гіст. геаграфіі. Праводзіў раскопкі ў гарадах Бабруйск, Крычаў, Мсціслаў, Слаўгарад, Нясвіж, на гарадзішчах каля вёсак Горы і Шаўнева Горацкага р-на, Фёдараўка Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл., Карабанавічы Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. і інш. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларусі» ў 6 т (т. 1, 2000), аўтар-складальнік кн. «Метрыка Вялікага княства Літоўскага: кніга запісаў № 70 (1582—1585)» (2008).

*Тв.*: Некаторыя пытанні гістарычнай геаграфіі Смаленскай зямлі XII—XIII стст. // ГАЗ. Мінск, 1993. Ч. 2; Орша ў XII—XIII стст.: паміж Полацкам і Смаленскам // ГАЗ. Мінск, 1995. № 6; Шляхі зносін на тэрыторыі Мсціслаўскага княства і ваяводства ў XII—XVIII стст. // Там жа. Мінск, 2005. № 20; Гарадзішчы жалезнага веку ў міжрэччы Сожа і Іпуці (па матэрыялах Магілёўшчыны) // Там жа. Мінск, 2006. № 21; Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Там жа. Мінск, 2007. № 23. Старадаўні Крычаў: гіст.-археал. нарыс гісторыі горада ад старажытнасці да канца XVIII ст. Мінск, 2003; Да пытання пра лакалізацыю Нясвіжа XI — пачатку XVI ст. Беларус. гіст. часоп. № 1. Мінск, 2006; Князі мсціслаўскія на маскоўскай службе // БГЧ. 2006. № 4;

*В.У.Мядзведзева.*



*А.А.Мяцельскі.*

**МЯЦЯ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі і паселішчы каля в. Мяцявічы Салігорскага р-на Мінскай вобл.

Адкрыты і даследаваліся раскопкамі ў 1929 экспедыцыяй пад кіраўніцтвам А.М.Ляўданскага і С.А.Дубінскага (пры ўдзеле І.Р.Калодкіна, М.М.Канвісарава і А.А.Рынейскага). Паводле С.А.Дубінскага, на левым беразе р. Случ, насупраць Мяцявічаў знаходзіліся вял. курганныя могільнікі. Было раскапана 27 курганоў (насыпаліся на тэр. селішча і «на рэштках поля урнаў». Выяўлены пахаванні на гарызонце, у дамавінах, адно пахаванне ў яме. Пахавальныя гаршкі сталі каля ног, зрэдку каля галавы. Сярод знаходак шкляныя пацеркі, скроневыя кольцы, «бранзалет з канцамі ў выглядзе галовак змяі». Сустракаліся таксама «рознай арнаментацыі кераміка часоў поля урнаў, крамянёвыя прылады са стаянкі», рэчы з «селішча славянскай пары».

У 1954 Ю.У.Кухарэнка вылучыў 2 курганныя групы, не ўдакладняючы іх месцазнаходжанне. У



*Адзін з курганоў могільніка-1* **Мяцявічы.**



*Да арт.* ***Мяцявічы****. Фібула з меднага сплаву, тыпу Almgren-61, фаза* $B_2$ *раннярымскага часу.*

насыпах разбураных курганоў была знойдзена кераміка эпохі бронзы, у т.л. тшцінецкай культуры. У 1979 У.Ф.Ісаенка абследаваў 3 курганныя групы і сляды паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў.

Курганны могільнік-1, паселішчы неаліту і бронзавага веку за 1 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Случ (цяпер усх. бераг Салігорскага вадасховішча). У 1979, паводле У.Ф.Ісаенкі, налічвалася 9 выразных, 3—4 верагодныя і сляды 6—7 знесеных насыпаў. Дыям. большасці іх да 10 м, выш. каля 1,5—2 м. Адзін курган выш. 2,5 м, дыям. 12 м, другі адпаведна — 5 і 30 м, трэці — 3 і 20 м. Каля насыпаў прасочваліся раўкі. Верагодна, у гэтай групе праводзіліся раскопкі у 1929. Курганы датуюцца 11—12 ст.

У 2008 М.М.Крывальцэвіч і А.В.Іоў пры правядзенні выратавальных раскопак (пл. раскопаў 429 м²) у паўд. частцы могільніка знайшлі сляды 2 разбураных курганоў, кераміку і крамянёвыя вырабы ўсх.-палескага варыянту *днепра-данецкай культуры*, кола культуры шнуравой керамікі і тшцінецкага культ. кола. Ад аднаго з курганоў захаваліся сляды раўка дыям. 9,5 м, шыр. 1,0—1,3 м і глыб. 0,2—1 м. Сабраны косткі і фр-ты пахавальнага посуду к. 11 — пач. 12 ст. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. На месцы могільніка існавалі паселішчы неаліту і эпохі бронзы. З перыядам насельніцтва тшцінецкага культ. кола звязана некалькі ям з рэшткамі вугалю і слядамі ад слупоў. Знойдзена таксама фібула тыпу Almgren-61 (вачкаватая, прускай серыі), датуецца ў межах 70—160.

Курганны могільнік-2 за 0,15 м на Пд ад могільніка-1. Уздоўж левага берага Случы, на пл. 120 × 80 м у 1979 былі 18—21 насыпы дыям. 8—9 м, выш. 1,5 м. У паўд. частцы могільніка вылучаліся 2 курганы дыям. 15 і 20 м, выш. 3 і 4 м. У некаторыя насыпы ўрэзаны сучасныя магілы. Напэўна, частка курганоў гэтай групы была раскапана экспедыцыяй А.М.Ляўданскага і С.А.Дубінскага ў 1929. Датуюцца 12—13 ст.

Курганны могільнік-3, паводле У.Ф.Ісаенкі, знаходзіўся на левым беразе Случы, побач з дарогай у в. Зажэвічы, у паўн. накірунку ад могільніка-1. Знішчаны ў к. 1970-х г. пад час буд. работ на Салігорскім вадасховішчы. Напэўна, у гэтай групе Ю.У.Кухарэнка вылучаў курганныя насыпы, у рэштках якіх сустракалася кераміка эпохі бронзы.

*Літ.*: Дубінскі С.А. Досьледы культур жалезнага пэрыяду на БССР у 1929 г. // Працы. Т. 2; Кухаренко Ю.В. Первобытные памятники Полесья // САИ. 1962. Вып. Б1-18; Исаенко В.Ф. Археологическая карта Беларуси. Вып. 1. Памятники каменного века. Минск, 1968; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Памятники железного века и эпохи феодализма. Вып. 2. Минск, 1971; Исаенко В.Ф. То же. Вып. 3. Памятники бронзового века. Минск, 1976; Лысенко П.Ф. Дреговичи. Минск, 1991.

*М.М.Крывальцэвіч.*



**НАВАГРУ́ДАК**, горад, цэнтр Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. За 162 км на У ад Гродна, 22 км ад чыг. ст. Наваельня на лініі Ліда—Баранавічы, аўтадарогамі звязаны з Баранавічамі, Дзятлавам, Стоўбцамі.

Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 (летапісны Новогород, Новогородок) у сувязі з паходам галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васілька Раманавічаў у панёманскія землі. Некаторыя даследчыкі звязваюць з Н. летапісныя падзеі 1119, 116 і нават 1044 (паход кн. Яраслава Мудрага на Літву). Першае ўскоснае ўпамінанне Н. адносіцца да 1235 і звязана з імем кн. Ізяслава «Новогородьского». У 12—13 ст. Н. — развіты ўсх.-слав. горад з багатай і арыгінальнай культурай; у сяр. 13 ст. ён даў пачатак утварэнню ВКЛ. З сяр. 1240-х г. па запрашэнні мясц. баяр тут стаў княжыць Міндоўг, у 1253 ён каранаваўся ў Н. як кароль літ., што дае падставу шэрагу гісторыкаў лічыць з гэтага часу Н. сталіцай ВКЛ. У 13—14 ст. на горад неаднаразова нападалі татары і іх саюзнікі — галіцка-валынскія князі, потым крыжакі. Пасля 1394 Навагрудскае княства перайшло да велікакняжацкага дамена. У пач. 15 ст. закладзены фарны касцёл. У 1507 утворана Навагародскае ваяводства. У 1511 Н. атрымаў магдэбургскае права. У 1517—19 на месцы Барысаглебскай царквы пабудаваны новы храм у гатычным стылі. У 1567 тут 10 праваслаўных храмаў. У познім сярэдневякоўі гал. гар. артэрыяй быў гандл. шлях з Вільні. Ён уваходзіў у горад з Пн і каля замка разгаліноўваўся на 2: адзін ішоў праз Карэлічы, Мір на Мінск і Нясвіж, другі вёў на Палессе. На гэтым разгалінаванні знаходзілася рыначная плошча, якая ў плане мела форму няправільнага трохвугольніка. У 16 ст. вядомы вуліцы Віленская, Падляшская, Кавальская, Дубатоўская, Бельчыцкая. У 16—18 ст. горад некалькі разоў моцна цярпеў ад войнаў: у 1506 і 1507 ад крымскіх татараў, якія, аднак, не змаглі ўзяць яго; у 1518 і 1534 ад войск Маскоўскай дзяржавы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у верасні 1655 Н. прыступам узяты рус. войскам і спалены. У Паўн. вайну 1700—21 захоплены шведамі (1706). Ваенныя падзеі, пажары, эпідэміі прывялі Н. да палітычнага і эканамічнага заняпаду. У к. 18 ст. тут каля 3 тыс. жыхароў, 3 уніяцкія царквы, 5 касцёлаў, 6 кляштараў, сінагога, мячэць. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

Археал. вывучэнне Н. ажыццяўлялі ў 1950—80-я г. Ф.Д.Гурэвіч, М.К.Каргер, П.А.Рапапорт, М.А.Ткачоў, М.У.Малеўская-Малевіч, К.В.Паўлава, А.К.Краўцэвіч.

Дзяцінец Н. размешчаны на т.зв. Замкавай гары на паўн. ускраіне сучаснага горада. Мае форму, блізкую да трапецыі. Памеры з Пн на Пд 75 м, з У на З — 100 м. Абкружаны валам выш. каля 6 м, шыр. каля асновы 25—27 м, на грэбені 4—5 м, які з тыльнага боку і часткова звонку абкладзены камянямі, і ровам глыб. 10 м, шыр. 10—12 м. У 1924 пад час земляных работ было знята каля 2 м верхняй часткі культ. пласта. Архітэктары Р.Гюртлер, Ю.Рэмер, А.Шышка-Богуш у час работ вывучалі і кансервавалі рэшткі замка. Адкрыты руіны 3 вежаў, расчышчана каменная абкладка вала. Было



*Да арт.* ***Навагрудак****. Прылады працы ювеліраў: 1, 2 – напільнікі; 3–11 – пінцэты; 4, 7, 12 – матрыцы; 8, 9, 15 – тыглі; 10, 17 – малаточкі; 13, 14, 16 – ліцейныя формы; 18 – кавадла; 19 – тачыльны брусок; 20 – нажніцы.*



*Да арт.* ***Навагрудак.*** *Касцяныя вырабы. 1 – шахматная фігура; 2 – пласціна-накладка; 3 – гузік; 4, 5 – накладкі; 6 – капавушка.*

закладзена 6 раскопаў і траншэй, некаторыя глыб. да 3,2 м. Знойдзены 24 манеты 14—17 ст., 24 каменныя ядры розных памераў, прафіляваная цэгла. Экспедыцыяй ленінградскага аддзялення ІГ АН СССР пад кіраўніцтвам Ф.Д.Гурэвіч у 1957—77 ускрыта каля 1000 м2. М.У.Малеўская-Малевіч даследавала помнікі мураванага дойлідства 14 ст.: Навагрудскую царкву і Навагрудскі палац. У 1969—70 замкавыя ўмацаванні вывучаў М.А.Ткачоў. Культ. пласт на дзяцінцы да 5 м. Верхні гарызонт складаецца з камення, друзу, цэглы і інш. буд. смецця з развалу познасярэдневяковага замка. У ім знойдзена вял. колькасць керамікі 14—16 ст. (гаршкі, міскі і інш.), кафля, каменныя ядры, цвікі. На глыб. каля 1,5 м ускрыты рэшткі наземных жылых пабудоў 12—13 ст. Яны ляжаць на слаі пяску таўшч. 1 м. Пад пяском прасочаны культ. пласт да 0,6 м з матэрыяламі к. 10—11 ст.

Устаноўлена, што першае паселішча на Замкавай гары ўзнікла на мяжы 10—11 ст. (пазней, чым у вакольным горадзе). Засн. ўсх. славянамі, напачатку было неўмацаванае. У 2-й пал. 11 ст. паселішча было ўмацавана і стала дзяцінцам. Да сяр. 13 ст. на валах былі драўляныя сцены. У 2-й пал. 13 ст. замест вастраколу пастаўлены зрубы-гародні. У к. 12 — пач. 13 ст. каля падножжа пагоркаў насыпаны ніжні вал выш. 6 м, які ахоўваў спачатку дзяцінец, а потым і вакольны горад. На працягу 13—16 ст. у некалькі этапаў збудаваны мураваныя сцены 7 вежаў (гл. Навагрудскі замак). Найб. даследаваны першы этап існавання дзяцінца — 1—13 ст. Яго паўн. частка каля вала была адведзена пад гасп. пабудовы. Самыя раннія з іх пл. да 20 м² адносяцца да 1-й пал. 12 ст. Пабудовы наземныя, зрубныя, часам 2-ярусныя, падлога з дошак. Знойдзены запасы збожжа, рэшткі бочак і кашоў, фр-ты амфар, парадны сталовы посуд, вагавыя гіркі і інш. рэчы. У паўд. частцы дзяцінца адкрыты рэшткі жылых наземных зрубных пабудоў з глінабітнымі печамі і падлогай з дошак, а таксама невял. хлявы. Інвентар жылых пабудоў паказвае, што яны належалі, магчыма, княжацкай чэлядзі. У адным з такіх дамоў займаліся шавецтвам. Выяўлена таксама майстэрня ювеліра 12 ст. Знойдзена зброя, наканечнікі стрэл, бронзавы наканечнік похваў мяча, касцяныя стрэлы (для палявання на пушнога звера). У паўн. частцы дзяцінца даследавана Навагрудская царква: квадратная ў плане (12,2 × 13 м), з адной апсідай, невял. бабінцам і 4 падкупальнымі слупамі. На падмурку гэтага храма ўзведзены барочны касцёл 17 ст. (34 × 13,5 м). Навагрудскі палац — жыллё феадала; тут знойдзены кафля, керамічны і шкляны посуд, каменныя ядры і інш. Перыяд 14—18 ст. менш даследаваны.

Вакольны горад размешчаны на З ад дзяцінца на ўзвышшы Малы замак. Займае пл. каля 2,5 га. Яго пляцоўка мае ў плане форму няправільнага трохвугольніка, звернутага асновай у бок Замкавай гары. Паўд. частка забудавана. З зах. боку па краі пляцоўкі праходзіць вал, з паўд.-зах. боку — вал і глыбокі роў. Другі дугападобны роў аддзяляе Малы замак ад Замкавай гары. Раскопкі ў паўн.-ўсх. частцы праводзіла ў 1957—77 Ф.Д.Гурэвіч. Ускрыта каля 200 м². У 1965—67 даследавалася паўд. частка паселішча. Выяўлены хрысціянскі могільнік 11 ст. Культ. пласт залягае нераўнамерна (ад 1—1,2 м у цэнтры пляцоўкі да 3 м і больш па краях). Вылучаюцца 3 асн. гарызонты: верхні — да 1 м (14—17 ст.); сярэдні — 0,3—0,8 м, у асобных месцах даходзіць да мацерыка (мяжа 11—12 ст. — 1270-я г.); ніжні — 0,2—0,6 м (к. 10 — мяжа 11—12 ст.).

У выніку раскопак устаноўлена, што першае неўмацаванае паселішча на Малым замку ўзнікла ў к. 10 ст. Вал узведзены ў пач. 12 ст. Спачатку забудова складалася пераважна з наземных зрубных жылых дамоў пл. да 30 м² з каменнымі або глінабітнымі печамі, а таксама з невял. колькасці паўзямлянак. Жыхары займаліся апрацоўкай жалеза (у 10—11 ст. у паўн. і паўд. частках вакольнага горада працавала не менш як 2 кузні) і каляровых металаў. З 12 ст. ў цэнтр. і паўн. частках вакольнага горада пачалі будаваць вял. наземныя драўляна-глінабітныя дамы пл. 70—100 м². Пры іх узвядзенні выкарыстоўвалі камень-вапняк і цэглу. Вял. дамы былі 2-камерныя з печамі ў кутах ці каля сцен. Асаблівасць вял. дамоў — зашклёныя вокны (дыскі шкла дыям. 20—22 см). Сцены адной з пабудоў 12 ст. атынкаваны і пакрыты фрэскавай размалёўкай. У вял. дамах жыла гар. знаць, пра што сведчаць знаходкі — шмат амфарнай керамікі, мясц. і прывазнога посуду з палівай, шкляных пасудзін кіеўскай вытворчасці і прывезеных з Усходу. Знойдзена фаянсавая кераміка з

люстранай размалёўкай, зробленая ў майстэрнях Ірана. Побач з унікальнымі вырабамі ў багатых дамах знойдзены ювелірныя прылады і інструменты. Ф.Д.Гурэвіч выказала меркаванне, што тут працавалі залежныя ад уладальнікаў ювеліры. У вакольным горадзе жылі і працавалі таксама рамеснікі па апрацоўцы дрэва (у т.л. на такарным станку), каменю, бурштыну (з 12 ст.), косці (мяжа 11—12 ст.). У 12 ст. ў сувязі з будаўніцтвам багатых дамоў і храма з'явіліся майстры па вырабе сценавой фасоннай цэглы. У гаспадарцы жыхароў вял. ролю адыгрывала паляванне: знойдзена шмат паляўнічых прылад, костак дзікіх жывёл (высакароднага аленя, лася, зубра і інш.). Сярод знаходак прадметы ўзбраення і рыштунку воіна (у т.л. шпоры, інкруставаныя каляровым металам або пакрытыя ліставым серабром), каля 10 разнастайных наканечнікаў стрэл. У матэрыялах раскопак багата прадстаўлены прадметы імпарту: прывезеныя з Кіеўшчыны і Валыні шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі, шкляны посуд і аконнае шкло, паліваная кераміка, металічныя ўпрыгажэнні, прадметы рэлігійнага культу; амфары з гарадоў Прычарнамор'я, шаўковыя тканіны з Візантыі, шкляны посуд з краін Міжземнамор'я, бурштын з Прыбалтыкі, ювелірныя вырабы з краін Зах. Еўропы, каляровыя і высакародныя металы з Цэнтр. Еўропы і інш. Па колькасці прывазных рэчаў вакольны горад Н. не мае сабе роўных сярод аналагічных помнікаў Беларусі і займае адно з першых месцаў сярод гарадоў Стараж. Русі. Пра пашырэнне пісьменства сведчаць знаходкі больш 10 пісал, надпісы, кніжныя зашпількі. У сяр. 11 ст. ў выніку невядомай катастрофы, хутчэй за ўсё ваеннага характару, жыццё ў вакольным горадзе перапынілася прыкладна на паўстагоддзя. Тут, відавочна, сталі хаваць гараджан, што загінулі ў час аблог. Ускрыты 103 пахаванні па абраду трупапалажэння ў неглыбокіх ямах. Нябожчыкі ляжалі ў дамавінах або былі толькі пакрыты дошкамі, на спіне, галавой на З. Пахавальны інвентар вельмі бедны. У другі раз жыццё ў вакольным горадзе моцна заняпала ў к. 13 ст., што, верагодна, звязана з паходам на Н. у 1274 валынскага кн. Льва Данілавіча. Пасля ўваходжання горада ў склад ВКЛ заняпад спыніўся. На зах. краі пляцоўкі ў 13 — 1-й пал. 14 ст. збудавана з палявога каменю і цэглы баявая вежа. Яна ахоўвала ўезд у Малы замак. На мяжы 15—16 ст. яе перабудавалі. У сяр. 17 ст. вежа разбурана, з таго ж матэрыялу ўзведзены вятрак. Матэрыялы 14—17 ст. вывучаны значна слабей. Знойдзена шмат цэглы, кафля, керамічны посуд, жал., бронзавыя, шкляныя рэчы, манеты 16—17 ст. (гл. таксама *Навагрудскі Малы замак*).

П а с а д размяшчаўся вакол гіст. цэнтра і каля падножжа Замкавай гары. Раскопкі паблізу *Навагрудскай Барысаглебскай царквы* праводзіла ў 1961, 1962 і 1965 экспедыцыя пад кіраўніцтвам М.К.Каргера. Былі адкрыты рэшткі храма 16 ст. Культ. пласт каля царквы 1 м. Самы ранні керамічны матэрыял датуецца 12—13 ст. У 1988 раскопкі каля Барысаглебскай царквы ўзнавіў А.А.Трусаў. Знойдзены керамічны посуд 11—13 і 15—17 ст., гаршковая і каробчатая кафля з раслінным, геральдычным арнаментам, выявай грыфона, вазы з кветкамі. Сабрана вял. колькасць шклянога посуду 16—18 ст.: кварты, бутэлькі, аптэчнае начынне, аконнае шкло, а таксама квадратныя і трохвугольныя пліткі падлогі, цэгла-плінфа, цэгла-пальчатка, дахоўка 17 ст., галаснікі, сярэбраныя бляшкі з пахаванняў, цвікі, дзвярныя завесы. У выніку разведачных раскопак 1987—88 і вывучэння матэрыялаў геалагічнага свідравання А.К.Краўцэвіч акрэсліў прыблізныя межы сярэдневяковага неўмацаванага пасада. Матэрыялы 12—13 ст. знойдзены на ўзгорку каля Замкавай гары (керамічны посуд), каля б. касцёла дамініканцаў (кераміка, фр-т шклянога бранзалета, шыфернае прасліца), каля б. францысканскага касцёла (керамічны посуд). У 14—15 ст. тэр. пасада паменшылася, у 16—17 ст. дасягнула ранейшых памераў. У нізіне на З ад Малога замка знойдзены матэрыялы 16 ст. Сярод рэчаў 16—18 ст. вял. колькасць керамічнага посуду (гаршкі, макотры, рынкі, кубкі, міскі, талеркі), падсвечнікі, гаршковая кафля, вял. колькасць каробчатай кафлі 16—17 ст. (тэракотавая, паліваная, некалькі фр-таў паліхромнай). Арнаментыка кафлі традыцыйная: раслінная, геам., выключаюцца экзэмпляры з геральдычным арнаментам і сцэнай палявання на аленя. Сярод шклянога посуду збаны, бутэлькі, шкляніцы, кварты, чаркі і інш. Знойдзена пячатка ад шклянога начыння. Металічныя вырабы прадстаўлены побытавымі рэчамі (цвікі, нажы, падкоўкі на абутак).

На зах. ускраіне Н. захаваўся *Навагрудскі курганны могільнік.*

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956—1977 гг. // СА. 1980. № 4; Я е ж. Древний Новогрудок: посад — окольный город. Ленинград, 1981; Я е ж. Древние города Белорусского Понеманья. Минск, 1982; Павлова К.В. Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // КСИА. 1981. Вып. 166; Малевская М.В. Архитектурный комплекс Новогрудского детинца XIII—XIV вв. // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989.

*Я.Г.Зверуга, А.К.Краўцэвіч.*

**НАВАГРУ́ДСКАЯ БАРЫСАГЛЕ́БСКАЯ ЦАРКВА́**, помнік архітэктуры 12 — пач. 16 ст. Узведзена ў 2-й пал. 12 ст. Цалкам перабудавана ў стылі позняй готыкі ў 1517 (паводле інш. звестак, у 1519). Даследавалі ў 1961—62, 1965 П.А.Рапапорт, М.К.Каргер, у 1987 А.М.Кушнярэвіч, у 1988 А.А.Трусаў.

Сцены царквы 12 ст. былі складзены з вапняковых туфавых блокаў з нязначнымі ўстаўкамі плінфы, вонкавая галерэя, якая з трох бакоў абкружала 3-апсідны храм, — толькі з плінфы ў тэхніцы муроўкі са «схаваным радам», характэрнай для *полацкай архітэктурнай школы* 12 ст. Храм быў размаляваны фрэскамі, меў умураваныя галаснікі, керамічную падлогу з рознакаляровых маёлікавых плітак квадратнай, прамавугольнай і трохвугольнай формы. Фр-т сцяны стараж. храма стаў часткай фундамента царквы 16 ст. — 3-нефавай 4-слупавой зальнай пабудовы з пяціграннай апсідай, перакрытай зорчатымі нервюрнымі скляпеннямі. Фасады падзелены тонкімі вертыкальнымі лапаткамі, якія ў верхняй частцы пераходзілі ў пояс спічастых арак. Вуглы царквы ўмацаваны шасціграннымі контрфорсамі. Падлога выкладзена з тоўстых (4—5 см) паліваных і непаліваных керамічных плітак. У 17 ст. царква была пакрыта паліванай зялёнай і светла-карычневай дахоўкай, разбураны гал. фасад і ўзведзены новы з 2 вежамі. У 19 ст. прыбудаваны прытвор, зменены завяршэнні вежаў, пасля чаго гал. фасад набыў рысы рэтраспектыўна-рус. стылю. У 1920-я г. зноў рэканструяваны: замест драўлянага барабана з галоўкай адноўлена першапачатковае скляпенне, умацаваны падмурак.

*Літ.*: Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988. *А.А.Трусаў.*

**НАВАГРУ́ДСКАЯ ЦАРКВА́**, Багародзіцкая царква, помнік археалогіі і архітэктуры. Існавала ў 14—16 ст. у г. Навагрудак на тэр. дзяцінца. Падмурак, рэшткі сцен і апорных слупоў выяўлены ў час раскопак 1924. У 1973—74 помнік дэталёва вывучала ленінградская даследчыца М.У.Малеўская. Храм узведзены ў 1-й пал. 14 ст. Першапачаткова бесслупавая, амаль квадратная (12,3 × 13 м) пабудова з бабінцам. З усх. боку царква мела невял. закругленую апсіду, з заходняга — прытвор. Падмуркі глыб. да 2 м складзены з валуноў, якія зверху змацаваны вапнай з дамешкам дробнай галькі. Муры таўшч. 1,1—1,2 м з буйнапамернай цэглы складзены ў тэхніцы балтыйскай (вендскай) муроўкі. Вуглы прытвора і выступы, якія адпавядаюць паўн. і паўд. фасадам царквы, змураваны з блокаў жоўта-зялёнага туфу. Па перыметры храма ў сцены былі закладзены драўляныя брусы. У сяр. — 2-й пал. 14 ст. рэканструявана: з цэглы ўзведзены 4 крыжападобныя ў плане слупы. Набрана новая цагляная падлога, пад якой былі 2 сутарэнні. У такім выглядзе помнік уяўляў сабой сінтэз стараж.-рус., раманскага і гатычнага дойлідства. У 2-й пал. 17 ст. царква перабудавана пад касцёл у стылі барока. Асн. аб'ём падоўжаны на З, павялічана апсіда, пакрыта паўцыркульнай дахоўкай. Да паўд. фасада прыбудавана вежа складанай канфігурацыі, фасады дэкарываваны фігурнымі атынкаванымі карнізамі, цягамі, нішамі і інш. Да 1775 у будынку касцёла адбываліся сесіі Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда ВКЛ. Разбурана ў 1850.

*Літ.*: Малевская М.В. Монументальные сооружения Новогрудского детинца XIV—XVI вв. // КСИА. 1973. Вып. 135; Я е ж. Архитектурный комплекс Новогрудского детинца XIII—XIV вв. // Древнерусское государство и славяне: материалы симпозиума, посвящ. 1500-летию Киева. Минск, 1983; Малевская М.В., Шолохова Е.Д. Раскопки церковных построек на детинце Новогрудка // АО 1973. М., 1974; Іх жа. Раскопки культовых сооружений Новогрудского детинца XIV—XVII вв. // АО 1974. М., 1975.

*А.М.Кушнярэвіч, А.А.Трусаў.*

**НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ**, помнік археалогіі і архітэктуры. Існаваў у 17 — сяр. 20 ст. Разбураны ў 1950—60-я г. Захаваўся Міхайлаўскі касцёл 1-й пал. 18 ст. Археал. даследаванні праводзілі ў 1987 А.М.Кушнярэвіч, у 1988 А.К.Краўцэвіч. Раскапана 180 м². Шурфоўкай акрэслены контуры будынка кляштара, расчышчаны ўваход у сутарэнні, вызначана глыбіня залягання падмуркаў (да 4,75 м) ад дзённай паверхні. Сярод знаходак невял. колькасць рэчаў 12—13 ст. (фр-ты непаліваных гаршкоў, шкляны бранзалет, шыферпае прасліца). Асноўная маса знаходак адносіцца да 17 — 1-й пал. 18 ст.: буд. матэрыялы (хвалістая дахоўка, цэгла, кафля з геам., раслінным арнаментам, кафля-каронка з рэлігійным сюжэтам), шмат керамічнага (гаршкі, міскі, макотры, збаны, рынкі, кубкі, талеркі, накрыўкі), шклянога (бутэлькі, кварты, біклагі, чаркі, келіхі, аптэчнае начынне) посуду, аконнае шкло.

Міхайлаўскі касцёл пабудаваны ў стылі сталага барока, адноўлены пасля пажараў 1751 і 1831. У 1829 побач з храмам пабудавана 2-ярусная мураваная званіца (не захавалася). Касцёл — мураваная 3-нефавая базіліка з плоскім бязвежавым гал. фасадам і паўцыркульнай апсідай. Гал. фасад падзелены развітымі карнізамі на 2 ярусы і завершаны трохвугольным франтонам з вежачкай над ім. Тарцы дахаў бакавых нефаў закрыты ступеньчатымі атыкамі. Сцены аздоблены пілястрамі. Праёмы з лучковымі і арачнымі завяршэннямі. Унутры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, упрыгожаным ляпным геам. арнаментам. Бакавыя нефы маюць крыжовыя скляпенні. Інтэр'ер багата аздоблены лепкай.

*Т.В.Габрусь, А.К.Краўцэвіч.*

**НАВАГРУ́ДСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК** дрыгавічоў, археалагічны помнік. За 1,5 км на У ад г. Навагрудак, 1 км на З ад в. Брацянка Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. Складаецца з 2 груп курганоў, аддзеленых паласой ворыва шыр. 200—250 м. 52 насыпы (у пач. 1960 іх было 160) выш. да 1,5 м, дыям. 5—10 м, многія курганы разараны. Даследавалі ў 1956 Ф.Д.Гурэвіч (4 курганы), у 1963, 1965, 1968 К.В.Паўлава (26 курганоў), аб-

следаваў у 1975 М.А.Ткачоў. У 6 насыпах пахавальны абрад — трупаспаленне на месцы пахавання, у 2 — трупаспаленне па-за межамі могільніка, у 22 — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, ПдЗ і ПнЗ. У 10 курганах пад пахаваннямі былі праслойкі попелу, у 5 яны былі і над пахаваннямі. У некаторых насыпах побач з пахаваннямі трапляліся камяні, што, верагодна, звязана з частковым захаваннем абраду каменных курганоў. У насыпах з трупаспаленнем знойдзены фр-ты жал. і бронзавых вырабаў, абломкі ганчарных пасудзін, у насыпах з трупаспаленнем — жал. нажы, крэсівы, сякеры, спражка, пярсцёнкі, скроневыя кольцы трохпацеркавыя і са спіралепадобным завітком, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, цэлыя і фрагментаваныя гаршкі.

Могільнік з'яўляўся некропалем стараж. Навагрудка. Датуецца к. 10—11 ст.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М., Ленинград, 1962; Павлова К.В. Раскопки могильника близ Новогрудка//КСИА. 1965. Вып. 104; Я е ж. Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // Там жа. 1981. Вып. 139. *Я.Г.Зверуга.*

**НАВАГРУ́ДСКІ ПАЛА́Ц** (Дом феадала), помнік археалогіі і архітэктуры. Існаваў у сяр. 14—17 ст. на тэр. Навагрудскага дзяцінца і *Навагрудскага замка*. Адкрыты і даследаваны ў 1970 М.У.Малеўскай-Малевіч. Амаль квадратны ў плане (9,5 × 10 м) 2-павярховы мураваны будынак з цэнтр. слупам і перагародкай, якія дзялілі яго на 3 памяшканні. Захаваліся муры на выш. 4 м, таўшч. 1—1,2 м, складзены з камянёў, знутры абкладзены буйнапамернай цэглай (29—30 × 13—14 × 8—9,5 см) без пэўнай сістэмы перавязкі. Падземная частка падвальнага памяшкання праразае паўн. схіл вала і культ. пласт 12—13 ст. Быў і 2-і паверх, аб чым сведчаць рэшткі аконных шыбаў са свінцовым абрамленнем. Захаваліся рэшткі крыжовых і нервюрных скляпенняў. Рэбры нер-вюр выкананы з фігурнай стрэлападобнай цэглы (падобна на цэглу паўн.-зах. вежы Лідскага замка). Знойдзена кафля 14—17 ст., шматлікі шкляны посуд, жалабаватая дахоўка. Пэўныя аналагі Н.п. прасочваюцца ў Гродзенскім княжацкім палацы 12 ст., мураваных дамах Рыгі 13—14 ст.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок: посад — окольный город. Ленинград, 1981; Малевская М.В. Архитектурный комплекс Новогрудского детинца XIII—XIV вв. // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983. *А.А.Трусаў, І.М.Чарняўскі.*

**НАВАДВО́РСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Новы Двор Мінскага р-на ў 1871. Вядома 366 манет: 92 куфіцкія дырхемы і іх перайманні, 272 заходнееўрап. дэнарыі і іх перайманні, 1 візантыйскі міліярысій, 1 дацкі паўбрактэят.

Арабскі Халіфат: дынастыя Абасідаў (2 экз.): ал-Мутадыд білах [892—902] — манетны двор Тусцер мін ал-Ахваз, ал-Муці лілах [946—974] — манетны двор Тыфліс; эміры Саманіды (66 экз.): Ахмад ібн Ісмаіл [907—914], Наср ібн Ахмад [914—943], Нух ібн Наср [942—954], абд аль-Малік [954—961], Мансур ібн Нух [961—976], Нух ібн Мансур [976—997] — манетныя двары Амоль, Андараба, Балх, ал-Біяр, Бухара, Пенджхір, Рашт, Самарканд, аш-Шаш; эміры Буіды (10 экз.): Адуд ал-Даула [949—982] — манетныя двары Араджан, Джурджан, Медынат ас-Салам, ал-Мухамедыя і нявызначаныя; эміры Зіярыды — (8 экз.): Бісутун ібн Вашмгір [967—976], Кабус ібн Бісутун [976—1012] — манетныя двары Амоль, Джурджан і нявызначаныя; эміры Іхшыдзіды (1 экз.); нявыяўлены эмітэнт (1 экз.) — манетны двор Табарыя; эміры Хамданіды (2 экз.): Сайф ад-Дауля [944—967] — манетны двор Масул, нявызначаны; перайманні дырхемаў Іхшыдзідаў (2 экз).

Германская імперыя (263 экз.): манетны двор Вердэн: Генрых I [919—936] – 1; манетны двор Мец: чаканка 10 ст., перайманні манет Карла Тоўстага [876—887] – 11; манетны двор Льеж: Атон III [983—996] – 1; манетны двор Маастрыхт: Атон II [973—983] – 1; манетны двор Кёльн: Атон I [936—962] – 1, Атон I з братам Бруна [953—965] – 1, Атон II [973—983] альбо Атон III [983—1002] – 4, Атон III [983—996] – 15; нявызначаныя манетныя двары ў Рэйнскай вобл.: перайманне кёльнскай чаканкі Атонаў [936—1002], манеты Атона і Адэльгейды – 47; манетны двор Гандэрсгайм: ананімная чаканка. 10 – пач. 11 ст. – 21; манетны двор Майнц: Атон II [973—983] альбо Атон III [983—1002] – 118, Атон III [983—1002] – 1; манетны двор Страсбург: Атон III [983—1002] – 7, біскуп Эркамбальд [965—991] – 3; манетны двор Брэйзах: герцаг Ота [973—982] – 1; манетны двор Базель: герцаг Конрад [937—993] – 3; манетны двор Цюрых: герцаг Буркгарт [954—973] – 3; манетны двор Канстанц: Атон II [973—983] – 1; манетны двор Аўгсбург: біскуп Удальрых [923—973] – 1, біскуп Генрых [973—982] – 1; манетны двор Рэгенсбург: герцаг Ота [976—982] – 2, герцаг Генрых III [982—985] – 3, герцаг Генрых II [другое праўленне, 985—995] – 1, перайманне рэгенсбургскіх манет.

Францыя (8 экз.) – манетны двор Лан: Роберт [996—1031] і біскуп Адальбера [995—1031].

Данія (1 экз.) – паўбрактэат чаканкі 940—960.

Чэхія (1 экз.) – Баляслаў II [967—999].

Візантыя (1 экз.) – Іаан Цымісхій [969—976].

Германія (1 экз.) – нявызначаны манетны двор.

Вендкі – 3 экз.

Скарб схаваны каля 1000. Зберагаецца ў аддзеле нумізматыкі Дзярж. Эрмітажа Расійскай Федэрацыі (Санкт-Пецярбург) 34 дырхемы Арабскага халіфата, лёс астатніх невядомы.

*Літ.*: Марков А. Топография кладов восточных монет (сасанидских и куфических). Санкт-Петербург, 1910; Кропоткин В.В. Клады византийских монет на территории СССР // Свод археологических источников. М., 1962; Потин В.М. Находки западноевропейских монет на территории Древней Руси и древнерусские поселения. М., 1962. Т. 3; Яго ж. Топография находок западноевропейских монет X–XIII вв. на территории Древней Руси // Тр. Гос. Эрмитажа. Нумизматика. Ленинград, 1967. №3; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Минск, 1971; Яго ж. Манетныя і манетна-рэчавыя скарбы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII стст.); Рябцевич В.Н. Денежные депозиты Полоцкой земли конца X – начала XIV вв. Минск, 2000.

*Ш.І.Бекціпееў.*

**НАВЕ́ЛЬНЯ**, археалагічныя помнікі – месцазнаходжанні, стаянкі і паселішчы каменнага і бронзавага вякоў, сярэдневяковае селішча каля г.п. Навельня Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.

У 1957 экспедыцыя Ленінградскага аддз. Ін-та археалогіі пад кіраўніцтвам Н.М.Гурынай выявіла на рэках Моўчадзь і Ятранка ў ваколіцах гар. пасёлка, вёсак Коцькі і Таўкуны 19 пунктаў (стаянак і месцазнаходжанняў) з матэрыяламі каменнага і бронзавага вякоў. У 1995–96 В.Л.Лакіза абследаваў тэр. ў зоне Новаяльнянскага вадасховішча. Дакладна лакалізаваць помнікі, выяўленыя Н.М.Гурынай, аказалася немагчыма.

Месцазнаходжанне-1 каменнага веку за 1,5 км на ПнЗ ад гар. пасёлка, 0,2–0,3 км на ПдЗ ад моста і дамбы гідраэлектрастанцыі на высокай (4–5 м) левабярэжнай тэрасе р. Моўчадзь. Знойдзена сячэнне крамянёвай пласціны.

Месцазнаходжанне-2 каменнага веку за 1,6 км на ПнЗ ад гар. пасёлка, 0,1–0,15 км ад месцазнаходжання-1, на высокай (5–6 м) левабярэжнай тэрасе р. Моўчадзь. Сярод крамянёвых знаходак скобель на адшчэпе.

Стаянка-3 каменнага веку і сярэдневяковае селішча за 1 км на З ад пасёлка, 0,15–0,2 км на ПдУ ад месцазнаходжання-2, на левабярэжнай тэрасе р. Моўчадзь. На пл. памерамі 15 × 30 м знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, 3 нуклеусы, кругавая кераміка (датуецца 10–13 ст.).

Паселішча-4 за 0,6–0,9 км на ПдУ ад моста і дамбы гідраэлектрастанцыі, 15 м ад левага берага р. Моўчадзь на ніжняй тэрасе (цяпер дно вадасховішча). Памеры 140 × 40 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы, фр-ты ляпной керамікі позняга неаліту і бронзавага веку нёманскай неалітычнай культуры, кола культуры шнуравой керамікі, тшцінецкай культуры.

*Літ.*: Гурина Н.Н. Новые данные по каменному веку северо-западной Белоруссии // МИА. 1965. № 131; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*В.Л.Лакіза.*

**НАВАСА́ДЫ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішчы і курганныя могільнікі каля в. Навасады Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча *культуры штрыхаванай керамікі* і перыяду Кіеўскай Русі за 0,4–0,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Слаўка (прыток р. Уса). Мясц. назва Замак. Займае мыс, утвораны берагам ракі і глыбокім ярам. Пляцоўка амаль авальнай формы памерамі 125 × 53 м, з напольнага боку ўмацавана дугападобным валам выш. 23,5 м і ровам. Даследаваў у 1928 М.М.Канвісараў. Культ. пласт 0,2–0,4 м. Знойдзена ляпная штрыхаваная жал. веку і кругавая кераміка 10–11 ст.

Селішча-1 на У ад гарадзішча за валам. Пл. 1,5 га. Абследавалі ў 1928 А.М. Ляўданскі, у 1977 і 1979 Ю.А. Заяц, даследаваў у 1960 Э.М.Загарульскі. Знойдзена кругавая кераміка 2-й пал. 10–11 ст.

Селішча-2 на правым беразе р. Слаўка, насупраць селішча-1. Пл. каля 2,5 га. Абследавалі ў 1928 А.М.Ляўданскі, у 1979 Ю.А.Заяц. Знойдзены фр-ты кругавой керамікі 2-й пал. 10–12 ст.

Магчыма, селішчы з'яўляюцца рэшткамі вял. неўмацаванага пасялення, якое размяшчалася па берагах ракі.

Могільнік-1 за 0,3 км на У ад гарадзішча, з правага боку дарогі на в. Крыштафова. 156 насыпаў выш. 0,5–2,5, дыям. 4–19 м, размешчаных дзвюма групамі. Даследавалі ў 1928 А.М.Ляўданскі, у 1987 Ю.А.Заяц. Раскапаны 9 насыпаў. Пахавальны абрад – трупаспаленне на месцы пахавання і па-за яго межамі са змяшчэннем рэштказ крэмацыі ў аснаванні насыпу ці на падсыпцы. Знойдзены жал. нож і фр-ты металічных вырабаў, крэмень для высякання агню, фр-ты кругавога посуду. Датуюцца 10 – 1-й пал. 11 ст.

Могільнік-2 за 0,7 км на ПнЗ ад гарадзішча, направа ад дарогі на в. Піяніна, ва ўр. Кернаж. 20 насыпаў выш. 1,8–2, дыям. 8–9 м. У 1928 А.М.Ляўданскі даследаваў 3 курганы, у 1961 Э.М.Загарульскі – 1 курган. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены кругавы посуд, жал. серп. Датуецца 2-й пал. 10 – пач. 12 ст.

*Літ.*: Дубінскі С.А. Археалагічная праца на Беларусі за 1919–1928 гг. // Працы. Т. 1.

*Ю.А.Заяц.*

**НАВАСВЕ́РЖАНСКАЯ УСПЕ́НСКАЯ ЦАРКВА́.** Засн. ў в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на ў 1590 Мікалаем Крыштофам Радзівілам Сіроткай. У пач. 17 ст. перайшла да уніятаў. У сяр. 18 ст. на месцы драўлянай царквы ўзведзены мураваны касцёл пры засн. у 1743 кн. Міхаілам Радзівілам базыльянскім кляштары. Пасля скасавання ордэна ў 1833 пераасвячона ў праваслаўны храм. Арыентавана алтаром на Пд і павернута да гал. плошчы мястэчка бакавым зах. фасадам. Уяўляе сабой мураваны 1-нефавы 1-вежавы храм з пра-

мавугольнай алтарнай апсідай (першапачатковая не захавалася) і 2 рызніцамі, пабудаваны ў 2-й пал. 18 – пач. 19 ст. Інтэр'ер перакрыты драўлянай столлю на бэльках. У кампазіцыі дамінуе высокая чацверыковая вежа, узведзеная над вузкім прамавугольным нартэксам, які мае 2 бакавыя ўваходы ў храм. Гал. ўваход зроблены з боку плошчы, акцэнтаваны рэнесансавым парталам з ордэрнымі элементамі. Вежа аздоблена вертыкальна выцягнутымі плоскімі паўцыркульнымі нішамі. Яе вянчае фігурная барочная главка. Сцены царквы пабудаваны ў тэхніцы мяшанай муроўкі з цэглы-пальчаткі і валуноў сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне. Сцены апсіды і прытвораў выкананы ў тэхніцы «лажок-тычок» з гладкай з усіх бакоў цэглы. Падмурак сцен бабінца і асн. аб'ёму (глыб. залягання 1,7 м) зроблены ў тэхніцы бутавай муроўкі ў апалубцы, падмурак апсіды і рызніц магутнасцю 2 м – бутавай муроўкі. Паміж падмуркамі асн. аб'ёму храма і алтарнай часткі адсутнічае перавязка, што сведчыць пра розны час іх будаўніцтва.

*Літ.*: Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII – XVI стст. Мінск, 1993; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001. *А.М.Кушнярэвіч.*

**НАВАСВЕ́РЖАНСКІ ПЕТРАПА́ЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ**. Засн. ў в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на ў 1588 Мікалаем Крыштофам Радзівілам Сіроткай. Доўгі час памылкова лічылася, што ён пабудаваны як кальвінскі збор. У к. 16 – пач.17 ст. да гал. фасада прыбудавана шмат'ярусная вежа ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі. На працягу існавання помнік неаднойчы быў пашкоджаны. У 1818 ураганам знесены дах і часткова разбураны верх вежы. Пасля рамонту яе вышыня паменшылася. Тады ж побач з касцёлам была пабудавана драўляная званіца (у час пажару 1890 згарэла з інш. пабудовамі плябаніі). Першапачаткова храм быў накрыты пляскатай дахоўкай. У апошняй чв. 18 ст. гонт замянілі на хвалістую дахоўку. У пач. 20 ст. з'явіліся металічнае пакрыццё даху, мураваная агароджа вакол касцёла. У Вял. Айч. вайну былі часткова пашкоджаны вежа і алтарная частка. Пасля вайны не дзейнічаў і не рамантаваўся. У 1988 вернуты католікам.

Узведзены на перакрыжаванні асн. шляхоў зносін і павернуты гал. фасадам да гандл. плошчы. Храм мае характэрную для касцёлаў готыка-рэнесансавую кампазіцыю і складаецца з прамавугольнага асн. аб'ёму са слаба акрэсленым трансептам, паўкруглай апсіды і магутнай шмат'яруснай чацверыковай вежы-званіцы на гал. фасадзе. Прэсбітэрый зроблены больш нізкім за малітоўную залу. Інтэр'ер перакрываюць цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. Вокны завяршаюцца перамычкамі паўцыркульнай формы. Першапачаткова (да 1818) фасады не былі атынкаваны. Да гал. фасада прымыкае 3-ярусная квадратная ў плане вежа, накрытая 4-гранным шатром з кароткім шпілем. Ніжняя частка ўмацавана контрфорсамі, верхнія ярусы аздоблены плоскімі арачнымі нішамі. Сярэдні ярус вылучаецца рэнесансавым дэкорам у выглядзе трайчастай паўцыркульнай аркады, рытмічна падзеленай пілястрамі на фоне глухіх сцен. У ніжнім ярусе вежы вылучаецца бабінец з размешчанымі над ім харамі, адкрытымі ўнутр храма невял. арачным праёмам. Гэты ярус перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, у астатніх ужыта драўлянае перакрыцце на бэльках. Усходы на хоры – у тоўшчы зах. сцяны; наступныя ярусы злучаны драўлянымі лесвіцамі. Сцены храма пабудаваны з цэглы ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі. Падмуркі з глыб. залягання 2,6 м выкананы з валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне ў апалубцы.

*Літ.*: Кушнярэвіч А., Адамовіч С. Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержані // Мастацтва Беларусі. 1990. № 4; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. Мінск, 1993; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001. *А.М.Кушнярэвіч.*

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічны помнік – гарадзішча каля в. Навасёлкі Барысаўскага р-на Мінскай вобл. За 0,1 км на Пн ад вёскі, на мысе правага берага р. Бярэзіна, паміж ракой і ярам глыб. 8–9 м. Каля палавіны пляцоўкі знішчана ў выніку паводкавых падтапленняў, ацалелая частка авальнай формы памерамі 16 × 45 м, выш. 15–16 м, пашкоджана акопамі і сучаснымі пабудовамі. З усх. напольнага боку паселішча было ўмацавана валамі. Адкрыў і правёў раскопкі ў 1931 А.М.Ляўданскі, дакументацыя і матэрыялы не захаваліся. У 1950 А.Р.Мітрафанаў даследаваў 51 м². Абследавалі ў 1982 Г.В.Штыхаў, у 1985 А.А.Егарэйчанка. Культ. пласт у раскопе А.Р.Мітрафанава складаў 1,2–1,4 м. Знойдзены фр-ты ляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду мілаградскіх форм, рабрыстых гаршкоў позняй *штрыхаванай керамікі культуры*, жал. сярпы, шылы, іголкі, посахападобныя шпількі, фібула позналатэнскай схемы, касцяныя шпількі, бронзавы паўтараабаротны пярсцёнак, гліняныя пацеркі, праслiцы, грузікі дзякава тыпу, косткі хатніх і дзікіх жывёл, жал. шлакі. Датуецца к. 1-га тыс. да н.э. – сяр. 1 ст. н.э.

*Літ.*: Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII–VI вв. до н.э. – VIII в. н.э.). Минск, 1978. *А.А.Егарэйчанка, А.Р.Мітрафанаў.*

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічныя помнікі – каменны могільнік і селішча каля в. Навасёлкі Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.

Каменны могільнік за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на пагорку і яго схілах, у лесе. Даследавала ў 1981 А.В.Квяткоўская. Магілы згрупаваны па 2–3 і больш, размешчаны няроўнымі радамі. Каменныя выбрукоўкі падоўжна-авальнай формы.

У галавах пахаванняў вял. камяні (на некаторых з іх выбіты крыжы), у нагах – камяні меншых памераў. Магільныя ямы чатырохвугольныя з закругленымі вугламі, глыб. 1–1,5 м. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на спіне галавой на З з нязначным адхіленнем на Пд. Захаваліся рэшткі дамавін, дошкі якіх мацаваліся цвікамі. Пахавальны інвентар адсутнічае. Могільнік датуецца 17–18 ст.

Селішча за 200 м на У ад паўн. ускраіны вёскі, каля развілкі дарог на вёскі Басалыкі і Карпаўцы. Выявіў у 1981 і даследаваў 64 м² В.У.Шаблюк. Культ. пласт 0,6 м. Выяўлены рэшткі 2 пабудоў 17–18 ст. з кафлянай і цаглянай печамі, больш за 6 тыс. фр-таў бытавой керамікі, больш за 1 тыс. фр-таў тэракотавай кафлі з раслінным і геам. арнаментам, рэшткі шкляных вырабаў. Сярод знаходак – замок, падкова, спражкі, пярсцёнак, іголкі, 3 манеты (грош і паўгрош Рэчы Паспалітай 2-й пал. 18 ст.). На карце 1797 на месцы селішча адзначана карчма.

*А.В.Квяткоўская, В.У.Шаблюк.*

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы, паселішча і курганны могільнік каля в. Навасёлкі Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча ранняга жал. веку на ўскраіне вёскі ў напрамку в. Радуга, на астанцы правабярэжнай тэрасы р. Сож, каля ручая. Пляцоўка разарана і часткова забудавана. Сляды абарончых збудаванняў не захаваліся. Абследавалі ў к. 19 ст. Е.Р.Раманаў, у 1936 А.М.Ляўданскі, А.Дз.Каваленя, у 1975 С.М.Васільева і інш. Сабрана кераміка бронзавага веку, мілаградскай і зарубінецкай культур.

Гарадзішча-свяцілішча эпохі ранняга сярэднявякоўя ў напрамку да в. Юркавічы, на правабярэжнай тэрасе р. Сож. Вядома па апісанням к. 19 – пач. 20 ст. Абследавалі ў 1936 А.М.Ляўданскі, А.Дз.Каваленя. Мела круглую пляцоўку дыям. 10 сажняў ці крыху авальную (10×15 м). Разарана. Знойдзена ляпная кераміка.

Паселішча на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўр. Селішча, на пляцоўцы памерамі 500 × 30–50 м правабярэжнай тэрасы р. Сож. Разворваецца. Абследавалі ў 1975 С.М.Васільева, у 1977, 1980, 1984, 2010 А.А.Макушнікаў і інш. Культ. пласт 0,3–0,6 м. Знойдзена ляпная кераміка 1-га тыс., раннекругавы і кругавы посуд 10–17 ст., гліняныя грузілы, бронзавы крыж-энкалпіён 12–13 ст.

Курганны могільнік (не захаваўся). Па апытаннях 1873 налічваў 81 насып у чвэрці вярсты ад вёскі. Паводле Е.Р.Раманава, у 1888 каля вёскі было да 200 курганоў. Даследаваў у 1893 У.Б.Антановіч. Выяўлены пахаванні па абраду трупапалажэння з радзіміцкім інвентаром (металічныя ўпрыгажэнні, у т.л. 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, пацеркі і інш.).

*Літ.:* Антонович В.Б. О раскопках в бывшей земле радимичей // Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1894. Кн. 8; Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда Могилевской губернии. Вильна, 1910; Лявданский А.Н., Ковеленя А.Д. Материалы по обследованию р. Сож в 1936 г.: дневник // Архив ИИ НАН Беларуси. Д. 457; Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: социально-эконом. и этнокульт. развитие. Гомель, 2009.

*А.А.Макушнікаў.*

**НАВАСЁЛКІ**, помнікі археалогіі – стаянкі і каменны могільнік 1-й пал. 16 – пач. 17 ст. каля в. Навасёлкі Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл.

Стаянка-1 за 0,4 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Зальвянка, на выступе тэрасы выш. 2 м. Выявіў у 1968 М.М.Чарняўскі. Памеры 50 × 300 м. Культ. пласт у значнай ступені разбураны. Знойдзены матэрыялы мезалітычнага і ранненеалітычнага (прыпяцка-нёманская культура) часу.

Стаянка-2 за 0,7 км на Пн ад вёскі, на выступе высокага берага правабярэжнай поймы р. Пераездка (правы прыток Зальвянкі). Адкрыў і даследаваў 120 м² у 1980 М.М.Чарняўскі. Памеры 130 × 50 м. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены пераважна крамянёвыя вырабы і кераміка неалітычных *прыпяцка-нёманскай культуры* (большасць) і *нёманскай культуры*, *тшцінецкай культуры* бронзавага веку. Стаянка была заселена ў 4-м – пач. 2-га і ў 2-й пал. 2-га тыс. да н.э. Выяўлены развал печы-каменкі і кругавая кераміка сярэднявякоўя.

Стаянка-3 за 1 км на Пн ад вёскі і р. Пераездка, на мысе правабярэжнай тэрасы р. Зальвянка, выш. 4 м. Выявіў у 1968 і даследаваў 72 м² у 1980 М.М.Чарняўскі. Памеры 50 × 100 м. Культ. пласт да 0,7 м. Выяўлены адкрытыя агнішчы-кастрышчы, крамянёвы і керамічны матэрыял. Мыс быў заселены ў фінальным палеаліце, раннім мезаліце і неаліце. Акрамя тыповых для нёманскага неаліту крамянёвых прылад знойдзены абломкі ляпнога посуду прыпяцка-нёманскай і нёманскай культур. Стаянка з перарывамі засялялася ад 10-га да 2-га тыс. да н.э.

Каменны могільнік за 0,1 км на ПнУ ад вёскі, на невял. пагорку. У 1981 А.В.Квяткоўская даследавала 16 пахаванняў. У паўд. частцы могільніка знаходзіліся стараж. магілы (сярод іх курган, перакапаны пазнейшымі пахаваннямі), у паўн. – пахаванні 19–20 ст. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. Магілы размяшчаліся няроўнымі радамі, групамі па 2–3, кожная мела каменныя выбрукоўкі прамавугольнай, зрэдку авальнай формы. У галаве пахаванняў стаялі вял., у нагах – меншыя камяні. Пад выбрукоўкай у слаі гумусу выяўлены вуголле і фр-ты керамічнага посуду, у адным з пахаванняў – агнішча, кальцыніраваныя косткі, абломкі ляпной керамікі 3-й чв. 9 ст. і бронзавая бразготка. Знойдзена кругавая кераміка 16 – пач. 17 ст. Магільныя ямы чатырохвугольнай формы

глыб. 0,85–1,1 м. У іх запаўненні выяўлены вуглі, кавалкі дошак ад дамавін, жал. цвікі. Нябожчыкі ляжалі на спіне (у адным выпадку – на правым баку), галавой на З, зрэдку на Пд, ПдЗ. Пахавальны інвентар: жал. нажы і дэнарый Жыгімонта І Старога (1530–47). Большасць пахаванняў без інвентару. Могільнік знішчаны ў час буд. работ.

*Літ.:* Чарняўскі М.М. Старажытныя помнікі ў зоне Зэльвенскага вадасховішча // Матэрыялы навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі «Старонкі гісторыі Зэльвеншчыны». Ліда, 2004.

*А.В.Кваткоўская, М.М.Чарняўскі.*

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічны помнік – стаянка эпохі мезаліту каля в. Навасёлкі Магілёўскага р-на. За 0,5 км на Пн ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў у 1974 і даследаваў 18 м² у 1989 В.Ф.Капыцін. Верхняя частка культ. пласта разбурана ворывам. Выяўлены 3 скопішчы расшчэпленага крэменю: нуклеусы, пласціны, адшчэпы, дробныя асколкі. Сярод знаходак: тронкавы наканечнік стралы, рэтушныя разцы, канцавыя скрабкі, у т.л. двайныя, пласціны і адшчэпы з рэтушшу з цёмна-шэрага крэменю, выхады якога знойдзены каля стаянкі. Стаянка была сезонным паселішчам стараж. паляўнічых.

*Літ.:* Копытин В.Ф. Работы в Могилевской области // АО 1977. М., 1978.

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, селішча эпохі сярэдневякоўя і ранняга Новага часу каля в. Навасёлкі Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл.

Стаянка-1 за 0,1 км ад паўн. ускраіны вёскі на валападобным павышэнні левабярэжнай тэрасы р. Нёман (выш. да 10–13 м). Абследаваў у 1976 і 1986 М.М.Чарняўскі. Знойдзены разнастайныя крамянёвыя вырабы, у т.л. прызматычныя нуклеусы фінальнага палеаліту. Адносіцца да *свідэрскай культуры.*

Стаянка-2 і селішча (Навасёлкі-ГЭС) за 0,1 км на Пд і ПдЗ ад паўд. ускраіны вёскі на краі левабярэжнай тэрасы р. Нёман (выш. да 4–6 м). Цягнуцца ўздоўж ракі ў бок в. Падбараны. Абследавалі ў 1976 і 1986 М.М.Чарняўскі, у 2003 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза. Даследавалі ў 2010 В.Л.Лакіза і М.А.Плавінскі. Памеры 220 × 90 м. Культ. пласт 0,3–1,5 м. На помніку выяўлены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, нуклеусы, скрабкі, ляпная штрыхаваная і арнаментаваная кераміка, фр-ты кругавога, у т.л. паліванага посуду (міскі, гаршкі, рынкі), жал. замок, бронзавая канцавая накладка на тронкі нажа і інш. Датуецца мезалітам–познім сярэдневякоўем і раннім Новым часам.

*Літ.:* Археалагічныя разведкі ў басейне Нёмана // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Археалагічнае абследаванне ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС // Там жа.

*В.Л.Лакіза, М.А.Плавінскі.*

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў 2-й пал. 10–12 ст. за 1 км на ПдУ ад г.п. Мядзел Мінскай вобл., каля былой в. Навасёлкі, ва ўр. Французскія магілы. 169 круглых насыпаў з пяску дыям. 4–12 м і выш. 0,5–2,3 м, большасць пашкоджана. Вакол многіх курганоў прасочваюцца раўкі з перамычкамі. Найб. насыпы ў паўн.-ўсх. і паўн.-зах. частках могільніка. Вядомы з к. 19 ст. У 1925 калекцыя знаходак з курганоў паступіла ў Дзярж. археал. музей у Варшаве. Даследавалі ў 1961 Ю.І.Драгун (4 насыпы), у 1962 І.М.Цюрына (8), у 1988–90 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч (23). Абследаваў у 1979, 1985 і 1995 Я.Г.Звяруга. Пераважная большасць пахаванняў па абраду трупапалажэння на мацерыку, галавой на З (у 3 курганах выяўлены парныя інгумацыі), у 2 курганах пахаванні на падсыпцы ў насыпе, у 2 – у падкурганных ямах. У 3 насыпах выяўлены трупаспаленні. Знойдзены ляпны і кругавы посуд, сякеры, наканечнікі коп'яў, серп, нажы, фр-т футарала ад касцянога грабеньчыка, упрыгажэнні – бронзавыя пярсцёнкі, бранзалеты, падвескі, у т.л. падвеска-дырхем (Саманіды, Наср ібн Ахмад, 922–923), груша- і шарападобныя бразготкі, скроневыя кольцы, шкляныя, сердалікавыя і бурштынавыя пацеркі, амулеты з костак і іклоў жывёл, бронзавыя падкова- і зоркападобная фібулы, паясныя лірападобныя спражкі, і інш.

*Літ.:* Поболь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Минск, 1979; Плавінскі А.М., Плавінскі М.А. Кераміка курганнага могільніка Навасёлкі // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы IV Міжнар. навук. канф. Полацк, 2002; Іх жа. Курганны могільнік Навасёлкі Мядзельскага раёна (1. Даследаванні 1961, 1962 гг.) // МАБ. 2002. № 5; Zabytki z okresu wpływów rzymskich, średniowiecza i czasów nowożytnych z Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawe. Warszawa, 2005.

*М.А.Плавінскі, А.М.Плавінскі.*

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічныя помнікі – паселішчы 3-га тыс. да н.э. каля в. Навасёлкі Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 за 1 км на У ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе р. Прыпяць. Цягнецца ўздоўж ракі больш як на 150 м. Адкрыў і абследаваў у 1961 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фр-ты неалітычнага глінянага посуду.

Паселішча-2 за 2,5 км на У ад вёскі, ва ўр. Ключыха, на 1-й надпоймавай тэрасе р. Прыпяць, выш. 6–7 м над узроўнем вады. Даўж. больш за 200 м. Выявіў і даследаваў у 1961 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,3 м, зверху перакрыты пяском. Выяўлены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрэблы, скрабкі, пласціны, рэшткі посуду. У цэнтр. часткі паселішча ў яме глыб. 0,3 м знойдзены скарб: 11 падрыхтаваных для апрацоўкі жаўлакоў крэменю, 1 ядрышча, 1 дыскападобная прылада. Ад-

носіцца да палескага варыянта днепра-данецкай культуры.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**НАВАСЁЛКІ**, археалагічны помнік – паселішча позняга неаліту каля в. Навасёлкі Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.

За 0,5–0,8 км на Пд ад вёскі, 0,7–0,9 км на ПнУ ад кампрэсарнай станцыі «Слонімская», на пясчаным узвышшы р. Бабачка (левы прыток р. Шчара). Выявіў і даследаваў 163 м² у 2004–05 В.Л.Лакіза. Культ. пласт 0,3–0,4 м. Выяўлены 2 агнішчы і, верагодна, рэшткі жылой ці гасп. пабудовы. Агнішча-1 падпрамавугольна-акруглай формы памерамі 1,6 × 2,42 м, глыб. 0,4–0,45 м было выцягнута з ПнУ на ПдЗ. У паўд.-зах. частцы ляжаў вял. камень. У запаўненні знойдзены 23 крамянёвыя вырабы і 3 фр-ты ляпной керамікі позняга неаліту. Агнішча-2 каменнай канструкцыі, памерамі 2,3 × 1 м, глыб. да 0,38 м было выцягнута з З на У. У запаўненні знойдзены 34 крамянёвыя вырабы і 3 фр-ты ляпной керамікі позняга неаліту. Паўзямлянка мела амаль правільную акруглую форму, памеры 3,2 × 3,4 м. З зах. боку прымыкае пляма падпрамавугольнай формы на месцы калідора – увахода ў жытло. Паўзямлянка па перыметры вылучаецца больш цёмна-шэрым запаўненнем, асабліва выразным у паўн-зах. частцы. Цэнтр значна святлейшы, на паўд. участку заўважаны выкіды светла-шэрага, амаль белага глеяватага пяску. Па перыметры ў цёмным запаўненні выяўлена некалькі вял. камянёў. Знойдзена 9 крамянёвых вырабаў і фр-т ляпной керамікі позняга неаліту.

У раскопе знойдзена 611 разнастайных артэфактаў: крамянёвыя і каменныя вырабы, фр-ты ляпной і кругавой керамікі, косткі. Найбольш паказальныя рэчы, якія выкарыстоўваліся насельніцтвам позняга неаліту ў к. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э.: фр-т каменнай свідраванай сякеры і крамянёвы трохвугольны наканечнік стралы. Каменная сякера клінападобнай формы добра зашліфавана па ўсёй паверхні, мае шырокае лязо, звужаную абушковую частку, уверсе прасвідраваную адтуліну дыям. 1,7–2 см. Пераважная большасць артэфактаў – апрацаваны крэмень (576 экз.). Сярод нуклеусаў дамінуюць шматпляцовачныя ад адшчэпаў і пласцін. Асн. масу тэхнічных сколаў і сколаў-нарыхтовак складаюць адшчэпы, атрыманыя з дапамогай цвёрдага адбойніка. Крамянёвыя прылады прадстаўлены наканечнікамі стрэл трохвугольнай формы, ножападобнымі ўкладышамі для сярпоў, скрабкамі, адшчэпамі са скоблепадобнымі выемкамі, рэтушаванымі адшчэпамі і пласцінамі. Кераміка (22 фр-ты) мае аналагі сярод старажытнасцей тыпу Бершты–Русакова з мінеральнымі дамешкамі, штрыхоўкай на абодвух (радзей на адной) паверхнях, таўшч. 0,5–1 см.

Матэрыялы паселішча адносяцца да кола культуры шнуравой керамікі, датуюцца к. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э. *В.Л.Лакіза.*



*Паселішча-1 каля в. **Навасёлкі** Слонімскага раёна. Крамянёвыя (1–8) і каменны (9) вырабы.*

**НАВІ́НКА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі крывічоў у Талачынскім р-не Віцебскай вобл.

Могільнік-1 за 2 км ад вёскі, у лесе. 20 курганоў дыям. 3,5–10 м, выш. 0,5–1,5 м, 10 з іх абкладзены камянямі. Абследавалі ў 1949 Л.В.Аляксееў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў. У 1973 З.М.Сяргеева даследавала 3 насыпы. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў яме (1), на гарызонце галавой на З (1), кенатаф (1). У пахаванні на гарызонце з правага боку нябожчыка, каля пояса, былі знойдзены падкοвападобная спражка, бронзавыя фібула з агранёнымі канцамі, колца з дроту і з замкнёнымі канцамі, на галаве бляшка з рэшткамі эмалі. Датуецца 12–13 ст.

Могільнік-2 паміж вёскамі Навінка і Ельнік, у лесе. 50 насыпаў дыям. 3–7 м, выш. 0,3–1 м. Асобныя курганы ў аснове абкладзены камянямі і абкружаны раўкамі. Адкрыла і даследавала 12 курганоў у 1972 З.М.Сяргеева. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце (6), пад насыпам у ямах (3), у насыпе (3); арыентаваны галавой на З (5), на У (4), на Пд і ПдУ (2) і на ПнУ (1). У 2 жаночых і 1 дзіцячым пахаваннях знойдзены бронзавае скроневае колца, дротавыя кольцы з замкнёнымі канцамі ў выглядзе спіралі ў 4–5 абаротаў, віты бранзалет з завязанымі канцамі, грыўня, бубенчыкі з крыжападобнымі надрэзамі, падкοвападобныя спражкі, крыжападобная падвеска з эмаллю, рэшткі галаўнога венчыка, спіралькі,

шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя пацеркі, жал. нажы і наканечнік кап'я, шыфернае прасліца, ракавіна кауры, асілак. Датуецца 11–12 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі.

У 2002 В.М.Ляўко даследавала 1 курган памерамі 6 × 7 м, выш. 1 м, выцягнуты з У на З. На глыб. 0,6–0,95 м прасочана скопішча вугалля і попелу, якое павялічвалася да краёў насыпу. Пахавальны абрад у цэнтры кургана – трупапалажэнне з частковай крэмацыяй (абгарэлыя чэрап, косці рук і рэбры), галавой на У. Суправаджальны інвентар – жал. баявы тапор, нож, бронзавая фібула і дротавы пярсцёнак. У мацерыку пад курганом выяўлены размешчаныя парамі 4 ямы ад слупоў глыб. 0,25–0,6 м, дыям. 0,2–0,35 м з вугаллем і попелам. Рэшткі агнішча зафіксаваны таксама ў раўку, які абкружаў курган. Датуецца пач. 11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Талачынскім краязнаўчым музеі.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины // Вопросы этнической истории народов Прибалтики: (тр. Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции). М., 1959. Т. 1; Яго ж. Полоцкая земля в IX–XIII вв.: (очерки истории северной Белоруссии). М., 1966. *В.М.Ляўко.*

**НАГА́ЎКІ**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў 2-й пал. 10 – 12 ст. каля в. Нагаўкі Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі ў лесе, ва ўр. Валатоўкі. 156 паўсферычных насыпаў дыям. 4–11 м, выш. 0,5–1,8 м. Большасць насыпаў мае дыяметр 5–7 м. Вакол часткі курганоў прасочваюцца раўкі з перамычкамі. Вядомы з 1930-х г. У 1979 і 1985 абследаваў Я.Г.Звяруга. У 1991 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч даследавалі 10 курганоў. У аснаванні насыпаў – попельна-вугальныя праслойкі. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце, галовамі на У (з адхіленнямі), адзін – на ПдЗ. Адзін курган – кенатаф. Пахавальны інвентар: бронзавыя вітыя трохдротавыя бранзалеты з завязанымі канцамі, шыракасярэдзінны, пласціністы і дротавы пярсцёнкі, пярсцёнкападобнае скроневае кольца



*Пахавальны інвентар кургана № 10 могільніка **Нагаўкі**.*

з заходзячымі канцамі, шкляныя пацеркі, жал. нажы, гаршкі (2 кругавыя і ляпны). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў вучэбнай лабараторыі музеязнаўства гіст. ф-та БДУ.

*Літ.*: Плавінскі А.М., Плавінскі М.А. Курганны могільнік Нагаўкі // МАБ. 2003. № 6.

*М.А.Плавінскі, А.М.Плавінскі.*

**НАЛУ́ЧЧА**, футарал для нашэння лука, захавання яго ад вільгаці, спёкі, марозу, механічных пашкоджанняў і г.д. Паводле канструкцыі і прызначэння вылучаюцца 2 тыпы Н.: мяккія і жорсткія. Мяккія Н. ўяўлялі сабой доўгія футаралы з мяккага матэрыялу (тканіны ці скуры). Лукі змяшчаліся ў іх са знятай цецівой. На канцах мяккіх Н. часам мацаваліся касцяныя накладкі, якія служылі для больш зручнай фіксацыі адтуліны футарала. Жорсткія Н. маглі складацца з драўлянага каркаса, абцягнутага скурай ці шчыльнай тканінай. У жорсткіх Н. лукі захоўваліся ў нацягнутым (гатовым да выкарыстання) становішчы, таму звычайна жорсткія Н. былі плоскімі і мелі форму, якая паўтарала абрысы лука. Яны падвешваліся да пояса пры дапамозе металічных падвясных блях ці касцяных петляў і маглі ўпрыгожвацца металічнымі ці касцянымі накладкамі. На тэр. Беларусі Н., верагодна, з'явіліся не раней 10 ст. разам са складанымі лукамі. Петлі для падвешвання і накладкі для ўпрыгожвання жорсткіх Н. знойдзены ў Ваўкавыску, Друцку, Лукомлі і інш.

*Літ.*: Медведев А.Ф. Ручное метательное оружие (лук и стрелы, самострел) VIII–XIV вв. М., 1966; Каинов С.Ю., Михайлов К.А. Находки деталей сложносоставного лука на территории Древней Руси и их культурная атрибуция // Краеугольный камень. Археология, история, искусство, культура России и сопредельных стран. М., 2010. Т. 1. *М.А.Плавінскі.*

**НА́РБУТ** (Осцік-Нарбут) Тэадор (Фёдар Яўхімавіч; 8.11.1784, б. маёнтак Шаўры Лідскага пав., цяпер вёска, Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл. – 26.11.1864), гісторык, археолаг, інжынер. Скончыў Віленскі ун-т (1803). Служыў ваенным інжынерам у Пецярбургу. У 1804 удзельнічаў у рабоце камісіі па распрацоўцы праекта рэгуляцыі Нёмана. Удзельнік рус.-пруска-французскай (1806–07) і руска-шведскай (1808–09) войнаў. Аўтар праекта Бабруйскай крэпасці. З 1812 жыў у сваім маёнтку, даследаваў гісторыю ВКЛ. Першым у Беларусі даў вызначэнне курганам як месцам стараж. пахавання. Вёў раскопкі ў Падняпроўі, пазней – на радзіме. У 1820 адкрыў ямнае пахаванне недалёка ад в. Шаўры Лідскага пав. Апісаў руіны крэпасці на Нёмане каля в. Лыскава Гродзенскага пав. Даследаваў Лідскі замак і выказаў меркаванні наконт прызначэння кожнага яго пакоя. Збіраў і вывучаў помнікі археаграфіі. Адшукаў у Старым Быхаве адну з першых хронік 16 ст. і зрабіў з яе выпіскі пра пахавальны абрад. На думку Н., багатым насыпалі больш высокія

курганы, а бедным і, паводле хронікі, злым і скупым – меншыя. Аўтар працы «Гісторыя літоўскага народа» (на польскай мове, т. 1–9, 1835–41; ахоплівае час да Люблінскай уніі 1569), у 1-м томе якой змясціў табліцу сваіх знаходак. Увёў у навук. ўжытак шэраг крыніц, у т.л. «Хроніку Быхаўца» (1846). Меў багатую калекцыю археал. матэрыялаў. Апублікаваў шэраг артыкулаў (пераважна ў «Гродненских губернских ведомостях») пра Ліду, Навагрудак, Індуру і інш. Займаўся пытаннямі стараж. міфалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі.

*Тв.*: O kurhanach. Badanie starożytności Litewskich // Tygodnik Wileński. 1818. T. 7, № 123; Pomniki do dziejów litewskich... Wilno, 1846; Pomniejsze pisma historyczne: szczególnie do historyi Litwy odnoszace sie. Wilno, 1856.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мінск, 1978; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984; Яго ж. Прадвесне навукі. Мінск, 1990; Ненадавец А.М. Тэадор Нарбут. Мінск, 1996.

**НА́РВЕНСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура ранненеалітычных плямён, якія ў 5–4-м тыс. да н.э. жылі на тэр. паўд. Прыладажжа, паўд.-ўсх. Прыбалтыкі і паўн. Беларусі. Назву атрымала паводле першых даследаваных помнікаў на р. Нарва ў паўн.-ўсх. Эстоніі. Вылучана ў 1950-х г. Н.М.Гурынай і Л.Янітсам.

На тэр. Беларусі помнікі Н.к. распаўсюджаны ў Падзвінні, за выключэннем яго паўд.-ўсх. часткі, верхнім Павіллі і верхнім цячэнні р. Бярэзіна (басейн Дняпра). Важнейшыя стаянкі: *Асавец 4*, *Зацэнне*, *Сосенка 3*. Паселішчы размяшчаліся на ўзбярэжжах вадаёмаў, пераважна азёрных. Некаторыя з азёр затарфаваліся, а прыбярэжныя стаянкі ператварыліся ў тарфянікавыя (Зацэнне), што спрыяла захаванню вырабаў з арганічных матэрыялаў. Выяўлены рэшткі наземных жытлаў з адкрытымі наземнымі агнішчамі, разнастайныя прылады працы і зброя з крэменю, рога і косці, гліняны ляпны посуд, касцяныя ўпрыгажэнні. З-за беднасці мясц. запасаў сыравіны крамянёвыя вырабы нешматлікія: лістападобныя чаранковыя наканечнікі стрэл, коп'яў, разцы, скрабкі, нажы, рубячыя інструменты. Касцяныя і рагавыя вырабы прадстаўлены верацёнападобнымі і біканічнымі наканечнікамі стрэл, гарпунамі, кінжаламі, праколкамі, долатамі, цясламі і сякерамі, матыкамі з прасвідраванымі адтулінамі. Упрыгажэннямі, а таксама амулетамі-абярэгамі найчасцей служылі прасвідраваныя або наразныя зубы жывёл. Ва ўжытку насельніцтва былі шырока адкрытыя прысадзістыя вастрадонныя гаршкі з грабеньчатымі расчосамі на паверхні сценак, з дамешкамі тоўчаных ракавін і валакністых рэштак раслін у цесце, таксама акругладонныя міскі, у т.л. авальныя. Некаторыя пасудзіны пад краем венчыкаў мелі пояс глыбокіх круглых ямак. Знешнія паверхні сценак звычайна аздоблены разрэджанымі паясамі адбіткаў тонкага грэбеня, насечак, наколаў, пракрэсленымі лініямі. Насельніцтва займалася рыбалоўствам, паляваннем, збіральніцтвам. Н.к., асабліва на паўд. і паўд.-зах. перыферыі, адчувала моцныя ўплывы іншакультурных плямён Панямоння і Падняпроўя. У 2-й пал. 4-га тыс. да н.э. ў паўд.-ўсх. Прыбалтыку пачалася актыўная экспансія з усх. Прыбалтыкі плямён культуры грабеньчата-ямкавай керамікі. На Пн Беларусі пад іх уздзеяннем Н.к. змянілася і паступова трансфармавалася ва *ўсвяцкую культуру* сярэдняга неаліту.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Нарвенская культура // Археалогія Беларусі. Мінск, 1997. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. *М.М.Чарняўскі.*

**НАСА́ТКА**, посуд у выглядзе чашы з 2 ручкамі па баках і злівам у форме носа. Выкарыстоўвалі як рукамыйнік, падвешваючы да столі. Вядомыя як тэракотавыя і паліваныя. Знойдзены пры раскопках Мсціслава і Віцебска. Віцебская Н. выш. 11,5 см, дыям. 19 см, звонку і ў сярэдзіне пакрыта зялёнай палівай. У крыніцах 17 ст. ўпамінаецца пад назвай «насадка», пад ёй вядома ў лексіцы ўсх. Беларусі да пач. 20 ст.

*Літ.*: Здановіч Н.І., Трусаў А.А. Мсціслаўскі посуд XV–XIX стст. // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985. *Л.У.Калядзінскі.*

**«НАСЛЕ́ДИЕ ПО́ЛОЦКОЙ ЗЕМЛИ́»**, серыя выданняў, мэтай якой з'яўляецца публікацыя і перадрукоўка гіст., археал. і крыніцазнаўчых твораў, прысвечаных мінуламу Полацка і Полацкай зямлі. Выходзіць з 2004 у Полацку. Да 2010 выдадзена 9 выпускаў: «Путеводитель по г. Полоцку 1910 года», «Иезуиты в Полоцке 1580–1820 гг.», «Полоцкая земля», «Полоцкая княжна Мария Васильковна – автор «Слова о полку Игореве»: исследования тайнописи» і інш.

*Л.Ф.Данько, Ю.А.Заяц.*

**НАСО́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – курганны могільнік і селішча каля в. Насовічы Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

Курганны могільнік. Пры разбурэнні курганоў у к. 19 ст. знойдзена металічная лунніца. Да пач. 1980-х налічваў 10 пашкоджаных насыпаў каля вясковых могілак. Абследаваў у 1983 А.А.Макушнікаў.

Селішча за 2 км на З ад вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Уць. Памеры каля 100–125 × 40–50 м. Разворваецца. Адкрыў у 1981 і даследаваў у 1982 А.А.Макушнікаў (244 м²). Выяўлены матэрыялы бронзавага веку, кіеўскай, калочынскай, роменскай і раннестараж.-рус. культур. Адкрыты падмуркі заглыбленых збудаванняў 5–9 ст. Сабрана кераміка, гліняныя прасліцы, шкляныя







*Вокладкі выданняў серыі **«Наследие Полоцкой земли»**.*

пацеркі, жал. наканечнік стралы, металургічны шлак і інш.

*Літ.*: Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда Могилевской губернии. Вильна, 1910; Макушников О.А. Поселение второй половины I тысячелетия н.э. близ д. Носовичи в Нижнем Посожье // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5. *А.А.Макушнікаў.*

**НА́ЎРЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў к. 10 – 12 ст. За 1 км на Пд ад в. Наўры Мядзельскага р-на Мінскай вобл. Вядомы з к. 19 ст. У 1934 налічвалася каля 100 курганоў. У к. 1980-х г. складаўся з 2 груп: першая (10 насыпаў) на ўскрайку лесу ў полі, другая (89 насыпаў) – за 0,2 км на ПдУ ад першай, у лесе. Выш. курганоў 0,4–2 м, дыям. 4–12 (найчасцей 6–8) м. У 1934 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч даследавалі 29, у 1987 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч – 9 курганоў. Абследаваў у 1975 і 1985 Я.Г.Звяруга. У аснаванні большасці насыпаў прасочваюцца попельна-вугальныя праслойкі. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце, галовамі на З з сезоннымі адхіленнямі. У адным кургане – трупаспаленне. Пахавальны інвентар: ляпныя і пераважна кругавы посуд, фр-т драўлянай пасудзіны з меднай рамонтнай акоўкай; жал. сякеры, нажы; бронзавыя скроневыя колцы (пярсцёнка- і бранзалетападобныя з завязанымі канцамі), вітая шыйная грыўня, манетападобная падвеска, залачоныя пласцінкі-драбніцы з чырвонай эмаллю, нацельны крыжык з шарападобнымі канцамі, бразготкі (грушападобная крыжапраразная і двухстворкавыя шарападобныя), фібулы (падкowападобныя і зоркападобная), бранзалет з зааморфнымі канцамі, пярсцёнкі, паясное кольца; сярэбраная падвеска з выявай звера; пацеркі (шкляныя, бурштынавая, з горнага хрусталю); шыфернае праслііца. Матэрыялы раскопак А.М.Плавінскага і В.Н.Рабцэвіча захоўваюцца ў вучэбнай лабараторыі гіст. ф-та БДУ.

*Літ.*: Плавінскі М., Плавінскі А. Аб адной катэгорыі пахавальнага посуду ў курганах канца I – пачатку II тыс. н.э. на захадзе Полацкай зямлі // ААА. 2007. Vol. 1; Cehak-Hołubowiczowa H. Materiał i zagadnienia cmentarzyska kurhanowego koło wsi Nawry w powiecie Postawskim // Rocznik archeologiczny. Wilno, 1937, T. 1.; Hołubowicz W. Ceramika siowiańska XI–XII wieku cmentarzhyska koło wsi Nawry // Там жа; Wrzosek A. Szkielety z kurhanów w Nawrach w pow. Postawskim // Там жа. *М.А.Плавінскі, А.М.Плавінскі.*

**НАЦЫЯНА́ЛЬНЫ ГІСТАРЫ́ЧНЫ МУЗЕ́Й РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ** (НГМ РБ). Засн. ў 1956 у Мінску як Бел. дзярж. гісторыка-краязнаўчы музей. З 1964 Дзярж. музей БССР, з 1992 Нац. музей гісторыі і культуры Беларусі, з 2009 сучасная назва. У 2009 у музеі ўтвораны аддзел археалогіі, нумізматыкі і зброі (загадчык М.А.Плавінскі). Археал. калекцыя (на к. 2009) налічвае 56 688 адзінак асноўнага і 16 360 адзінак навук.-дапаможнага фонду. У музеі захоўваюцца матэрыялы раскопак познапалеалітычных паселішчаў *Бердыж, Юравічы, Елісеевічы, Юдзінава;* паселішчаў каменнага–бронзавага вякоў *Асавец-2, Бабровічы, Беліца, Грыўковічы, Грэнск, Дакудава-5,*

*Добры Бор*, *Журавель*, *Збляны*, *Камарын-2*, *Камень*, *Канкаловічы*, *Каромка*, *Крывіна*, *Моталь*, *Новы Быхаў*, *Опаль*, *Панямонь*, *Русакова*, *Русаковічы*, *Скема*, *Страліца*, *Юравічы; Краснасельскага археалагічнага комплексу;* курганнага могільніка *Ходасавічы*, кургана Камарын-2, грунтавога могільніка Страліца бронзавага веку. Матэрыялы жал. веку прадстаўлены калекцыямі з гарадзішчаў *Абрамава*, *Аздзяцічы*, *Барсукі*, *Вязынка*, *Гарошкаў*, *Зазоны*, *Замошша*, *Заронава*, *Збаравічы*, *Васількоўка*, *Вялікія Споры*, *Кастрыца*, *Кімія*, *Клішына*, *Княгініна*, *Кублічы*, *Лабеншчына*, *Малышкі*, *Міладрад*, *Навасёлкі*, *Новы Болецк*, *Паддубнікі*, *Старая Рудзіца*, *Урагава*, *Чаплін*, *Язна;* селішчаў *Адаменка*, *Атвержычы;* грунтавых могільнікаў Атвержычы, *Пятровічы*, *Сямурадцы*, *Трасцяніца*, *Чаплін*. Раннесярэдневяковы перыяд адлюстроўваюць калекцыі з гарадзішчаў *Банцараўшчына*, *Свіла-1*, селішчаў *Варганы*, *Хотамель*, *Снядзін-2*, *Чырвоная Зорка*, курганных могільнікаў *Гуры*, *Рудня*, *Янкавічы*; стараж.-рус. і познасярэдневяковы перыяды – калекцыі з Гродна, Дзісны, Друі, Друцка, Ваўкавыска, Віцебска, Заслаўя, Крэва, Лагойска, Лукомля, Мінска, Мсціслава, Навагрудка, Новага Свержаня, Пінска, Полацка, Слоніма, Турава; гарадзішчаў *Гарадзішча* (Мінскага р-на), *Лоск*, *Маскавічы*, *Навасады*, *Пруднікі*, *Снядзін*; курганных могільнікаў Бердыж, *Кастыкі*, *Навасёлкі*, *Пагошча*, *Свішчова*, *Сухая Гара*, *Заслаўскіх курганных могільнікаў*; каменных могільнікаў Вензаўшчына, Куклі. Захоўвае матэрыялы дарэвалюцыйных раскопак у Пскоўскай і Віцебскай губернях, разведак і раскопак бел. археолагаў у 1920–30-я г., раскопак масавых пахаванняў ахвяр палітычных рэпрэсій у Курапатах. У зборы музея скарбы: з-пад в. Малеч Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл. (3 ст.), *Брылёўскі грашова-рэчавы скарб*, адзін з *Гараўлянскіх манетна-рэчавых скарбаў* (2-і), *Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб*, рэчавы скарб з гарадзішча *Клішына*. У 1999–2004 археал. экспедыцыі музея праводзілі раскопкі паселішчаў неаліту–ранняга бронзавага веку *Грыўковічы-2* і Дакудава-5 (Віт.М.Сідаровіч), гарадзішчаў жал. веку Дубровы Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. і *Вялікія Споры* (Вол.М.Сідаровіч), селішча эпохі сярэдневякоўя Струста (М.А.Плавінскі). У 2005–09 даследаваны курганны могільнік *Пагошча* (М.А.Плавінскі). Сярод выставак музея: «Ля вытокаў беларускай археалогіі» (1997), «Шляхамі ў вечнасць» (2000), «Вікінгі на Усходзе» – супольны праект НГМ РБ, Дзярж. гіст. музея Швецыі (Стакгольм) і музеяў Беларусі (2002), «Пошукі і здабыткі. Дзесяць год археалагічных даследаванняў Нацыянальнага музея» (2003), «Касцярэзнае рамяство Беларусі» (2008). У НГМ РБ адбыліся міжнар. навук. археал. канферэнцыі «Археалагічны прадмет у музейным зборы: тыпалогія, храналогія, атрыбуцыя» (2006), «Матэрыяльная культура насельніцтва Беларусі і сумежных рэгіёнаў у дагістарычную эпоху і сярэднявеччы» (2007). У 2006 выдадзены «Археалагічны зборнік», вып. 1 (укладальнікі М.А.Плавінскі, Віт.М.Сідаровіч).

*Літ.*: Археалагічная калекцыі. Жалезны век: музейны кат. / склад. Віт.М.Сідаровіч, Вол.М.Сідаровіч. Мінск, 1999; Вікінгі на Усходзе: кат. / склад. С.Дз.Дзярновіч, М.В.Казанцава. Мінск, 2002; Сідаровіч В. Справаздача аб дзейнасці археалагічнай групы НМГ І КБ за 1994–2003 гг. // Музейны весн. Мінск, 2005. Вып. 2; Археалагічны зборнік. Вып. 1. Мінск, 2006; Чарняўскі М. Чарговая археалагічная канферэнцыя ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі // БГЧ. 2008. № 2.
*М.А.Плавінскі.*

**НА́ЧА**, археалагічныя помнікі – стаянкі, паселішчы, могільнікі каля в. Нача Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл.

Пачатак археал. даследаванняў у ваколіцах в. Нача адносіцца да 1820, калі ў час земляных работ каля вёскі было разбурана стараж. пахаванне, у якім знайшлі каменную свідраваную сякеру. У 1880–1920-я г. В.Шукевіч выявіў 8 помнікаў у ваколіцах вёскі. З яго публікацый вядома пра каменныя сякеры, трохвугольныя наканечнікі стрэл, ляпную кераміку са шнуравымі адбіткамі, нарэзкамі і лінейным штампам. Ваколіцы вёскі абследавалі ў 1960-я г. М.М.Чарняўскі, у 1974 А.Р.Мітрафанаў, у 1997–98 В.Л. Лакіза.

Могільнік за 1–1,2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Ланкішкі. Выявіў і даследаваў 3600 м² (81 пахаванне і 7 агнішчаў для крэмацыі памерлых) В.Шукевіч. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Вылучаюцца 4 групы пахаванняў: безынвентарныя, пахаванне адбывалася адразу на месцы спалення альбо старанна ачышчаныя косткі засыпаліся воддаль ад агнішча ў невял. ямы глыб. 0,3–0,5 м (55 магіл); у ямах з крамянёвымі і каменнымі вырабамі, кавалкамі крэменю, абломкамі керамікі (15); у ямах, якія прыкрываліся камянямі ці каменнымі плітамі (5); у ямах, якія прыкрываліся буйнымі каменнымі выбрукоўкамі (6).

В.Шукевіч адзначыў, што «...у 40 раскапаных мною магілах не знойдзена нават слядоў металу, між тым каменныя вырабы сустракаюцца часта». Ён аднёс могільнік у Ланкішках да неаліту, разам з тым падкрэсліў, што яго нельга звязваць з неалітам у агульнаеўрап. разуменні, паколькі ён з'яўляецца больш маладым і ўзнік хутчэй за ўсё ў эпоху бронзы, а некаторыя пахаванні – у раннім жал. веку.

Большасць матэрыялаў з раскопак В.Шукевіча і яго справаздачы не захаваліся, што стала прычынай розных навук. меркаванняў і гіпотэз адносна датавання і культ. прыналежнасці могільніка. А.Р.Мітрафанаў зрабіў выснову, што «ў сучасны момант ніякіх слядоў ад могільнікаў ні ва ўр. Ланкішкі, ні ва ўр. Плітніца не захавалася». У 1998 В.Л.Лакіза сумесна з археолагамі Гродзенскага ун-

*Да арт.* ***Нача****. План раскопу 1998 ва ўр. Ланкішкі (А), каменная свідраваная сякера (1), крамянёвыя адшчэпы (2, 3) з пахавання № 3, археал. знаходкі з раскопак 1998 ва ўр. Плітніца.*

та лакалізаваў могільнік, які даследаваў В.Шукевіч. Ва ўр. Ланкішкі побач з хутарам В.Клімашэўскага былі праведзены раскопкі на пл. 51 м². Выяўлены 3 пахаванні па абраду трупаспалення. Пахаванне-1 (безынвентарнае) выяўлена на глыб. 0,2 м ад дзённай паверхні. Ачышчаныя ад агню косткі былі ссыпаны ў акруглую яму глыб. да 0,37 м. Побач знаходзіўся буйных памераў камень, вакол якога таксама былі рассыпаны кальцынiраваныя косткі і дробныя вугольчыкі. Пахаванне-2 (безынвентарнае) было выяўлена на глыб. 0,2 м. Яно было змешчана ў акруглай формы яме глыб. да 0,18 м. Пахаванне-3 размяшчалася ў больш буйной і глыбокай яме, дакладныя памеры якой з-за частковай пашкоджанасці не ўстаноўлены. Выразна прасочваецца шэра-папялісты прапластак з дробнымі вугольчыкамі і невял. колькасцю перапаленых костак, сляды драўлянага перакрыцця магільнай ямы і рэшткі каменнай выбрукоўкі над ёй. Знойдзены 2 крамянёвыя адшчэпы і свідраваныя сяке-

ры. Адносіцца да позняга перыяду бронзавага веку і пач. жал. веку.

Паселішча і могільнік ва ўр. Плітніца за 0,2–0,4 км на ПнЗ ад б. маёнтка, на дзюне пасярод шырокай затарфаванай поймы р. Нача. Выявіў і даследаваў В.Шукевіч. У 1903 было знойдзена пахаванне ў каменнай скрыні, якое можна датаваць пач. н.э. Абследаваў у 1967 М.М.Чарняўскі. Сярод знаходак крамянёвыя вырабы і фр-ты прафіляваных ляпных пасудзін з заштрыхаванымі паверхнямі позняга перыяду бронзавага веку. У 1998 В.Л.Лакіза даследаваў 18 м² (3 шурфы). Культ. пласт 0,4–0,5 м. Выяўлены 4 ямы, запоўненыя чорным гумусаваным пяском з вугольчыкамі, перапаленымі косткамі, абломкамі керамікі. Верагодна, гэта рэшткі як гасп. ям, так і пахаванняў па абраду крэмацыі. У культ. пласце знойдзены расшчэпленыя крамяні і крамянёвыя прылады працы, нуклеусы, ляпная кераміка позняга неаліту і бронзавага веку, фр-ты кругавога посуду і жал. вырабаў.

Помнік датуецца к. 3-га тыс. да н.э. – пач. 1-га тыс. н.э., адносіцца да позняга неаліту (кола культуры шнуравой керамікі), позняга бронзавага веку і ранняга перыяду жал. веку. Могільнік магчыма датаваць 1-м тыс. да н.э. і аднесці да культуры зах.-балтыйскіх курганоў (група тыпу Нача). Ва ўрочышчы жыццё працягвалася і ў эпоху сярэдневякоўя.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М., Ленинград, 1962; Медведев А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (1 тысячелетие до н.э. – 5 в. н.э). Минск, 1996; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008; Szukiewicz W. Cmentarzysko neolityczne w Łankiszkach pod Naczą, w pow. Lidzkim, gub. Wileńskiej // Pamiętnik fizjograficzny. Warszawa, 1916. T. 23.

*В.Л.Лакіза, А.М.Мядзведзеў.*

**«НАШ КРАЙ»**, часопіс Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкультце (з 1929 пры Бел. АН). Выдаваўся ў 1925–32 (з 1930 пад назвай «Савецкая краіна») на бел. мове. Мэта выдання – азнаямленне шырокіх колаў грамадскасці з метадамі, формамі і задачамі краязнаўчай работы. Друкаваліся інструкцыі, метадычныя дапаможнікі, навук. праграмы па вывучэнні Беларусі ў гіст., этнагр., прыродазнаўчым і інш. аспектах, змяшчаліся артыкулы бел. краязнаўцаў, у т.л. матэрыялы па археалогіі, апытальныя лісты па збору звестак пра «святыя камяні», каменныя статуі і інш. помнікі старажытнасці, бібліяграфічныя звесткі. У часопісе было надрукавана каля 20 артыкулаў і нататак па археал. тэматыцы. Іх дасылалі з розных куткоў рэспублікі краязнаўцы М.Адзярыха, Д.Васілеўскі, М.Ламака, У.Мікіцінскі, М.Мялешка, С.Мялешка, А.Немцаў, А.Рынейскі, А.Супінскі, Б.Федарака і інш. «Н.к.» адыграў вял. ролю ў развіцці краязнаўства ў Беларусі. Закрыты ў сувязі са згортваннем працэсу беларусізацыі.

*Літ.*: Варгей В.С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919–1941 гг. Мінск, 1992.

*В.С.Варгей.*

**НЕАЛІТ** (грэч. neos новы + lithos камень), новы каменны век, апошні перыяд *каменнага веку.* У Паўд. і Цэнтр. Еўропе (6–3-е тыс. да н.э.) вызначаецца пашырэннем вытворчых форм гаспадарання – *земляробства і жывёлагадоўлі*, якія дапаўнялі прысвойваючыя формы – *паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва.* У Н. з'яўляюцца гліняны посуд – кераміка, каменныя шліфаваныя і свідраваныя сякеры, матыкі і булавы, крамянёвыя сярпы. Істотнае павелічэнне крыніц харчавання і яго большая разнастайнасць, удасканаленне прылад працы і паляўнічай зброі прывялі да значнага прыросту насельніцтва і яго экспансіі на менш абжытыя тэр. У гэты час узнікаюць доўгатэрміновыя паселішчы з пастаяннай забудовай, умацоўваюцца міжплемянныя сувязі, развіваюцца і ўскладняюцца сац. адносіны, штодзённы побыт і хатнія заняткі, формы і праявы духоўнай культуры.

У Еўропе неалітызацыя пачалася з пранікненнем каля 8 тысячагоддзяў таму назад на Пд Балканскага паўвострава груп земляробаў і жывёлаводаў з Блізкага Усходу. У ранненеалітычны час у Еўропе сфарміраваліся 2 правінцыі культур – міжземнаморская і балканска-дунайская. З апошняй правінцыяй у значнай ступені звязана неалітызацыя Цэнтр. Еўропы і паўн. Прычарнамор'я. Шляхам як непасрэдных міграцый, так і акультурацыі мезалітычных аўтахтонаў у Сярэднім і Ніжнім Падунаўі фарміруецца некалькі археал. культур з маляванай керамікай. У сяр. 5-га тыс. да н.э. на іх паўн. перыферыі ў выніку адаптацыі да мясц. асяроддзя складваецца культура лінейна-стужкавай керамікі, носьбіты якой, пранікаючы праз Карпаты на Пн і ПнУ, прынеслі неалітычную культ.-гасп. мадэль у Цэнтр. і часткова Усх. Еўропу. Распаўсюджванне неалітычных форм гаспадаркі ва Усх. Еўропу адбывалася праз Ніжняе Падунаўе (на тэр. Украіны), Каўказ і Сярэднюю Азію. Насельніцтва Усх. Еўропы, асабліва яе лясной зоны, доўга захоўвала мясц. гасп.-культ. асаблівасці, засн. на паляванні, рыбалоўстве і збіральніцтве. Керамічная вытворчасць носьбітаў большасці неалітычных культур лясной зоны з'яўляецца ўласным вынаходніцтвам. Выкарыстоўваўся вастрадонны і, радзей, акругладонны посуд, аздоблены штампаваным арнаментам з грабеньчатых адбіткаў, наколаў, ямак. Такім чынам, у Н. на тэр. Еўропы існавалі 2 гасп.-культ. зоны – паўд.-зах. з неалітычнымі культурамі, у якіх дамінавала вытворчая гаспадарка, і паўн.-ўсх. з перавагай прысвойваючай гаспадаркі. Па-

між імі ад паўд. Прыбалтыкі, праз цэнтр. Украіну і да паўн. Прыкаспія пралягала шырокая паласа кантактаў і ўплываў.

Н. Беларусі (5-е – пач. 2-га тыс. да н.э.), тэр. якой знаходзілася на памежжы паўн.-ўсх. мегазоны, меў свае асаблівасці. Ва ўмовах максімальна спрыяльнага клімату ранненеалітычнае насельніцтва цалкам задавальняла свае запатрабаванні з дапамогай традыцыйных палявання, рыбалоўства і збіральніцтва. У зачаткавым стане вытвараючыя формы гаспадарання з'яўляюцца толькі на ПдЗ. У сярэднім Н. земляробства і жывёлагадоўля распаўсюджваюцца на ўсю тэр. Беларусі. Але толькі для прышлага насельніцтва цэнтральнаеўрап. культур, якое з'явілася ў Беларусі ў познім Н., земляробства і жывёлагадоўля былі асн. крыніцамі харчавання. У познім Н. пачынаюць распаўсюджвацца тэхнікі шліфоўкі і свідравання. Пачатак Н. на тэр. Беларусі характарызуецца найперш з'яўленнем глінянага абпаленага посуду – керамікі, тыпы якой сталі асн. падставай для вылзялення шэрагу неалітычных археал. культур. У раннім Н. З Беларусі займалі плямёны *прыпяцка-нёманскай культуры*, ПдУ і У – усходнепалескай і *верхнедняпроўскай культуры*, Пн – *нарвенскай культуры*. У сярэднім Н. на Пн Беларусі пранікаюць носьбіты культуры грабеньчата-ямкавай керамікі, у выніку чаго сфарміравалася *ўсвяцкая культура*. На З Беларусі пад уплывамі з Пабужжа склаліся супольнасці *нёманскай культуры*, якія існавалі тут да канца Н. У басейнах ніжняй Прыпяці і Дняпра ў сярэднім і познім Н. працягвалі развівацца ўсходнепалеская і верхнедняпроўская культуры. На Пн Беларусі ў канцы Н. зарадзілася *паўночнабеларуская культура*, асн. развіццё якой прыпадае на *бронзавы век*. У познім Н. на ўсю тэр. краіны распаўсюджваюцца групы носьбітаў энеалітычных *шарападобных амфар культуры і шнуравой керамікі культуры*.

*Літ.*: Монгайт А.Л. Археология Западной Европы. Каменный век. М., 1973; Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Неолит Северной Евразии. М., 1996; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997.

*М.М.Чарняўскі.*

**НЕАНДЭРТА́ЛЬЦЫ** (Homo neandertalensis), палеантрапы, старажытныя людзі, якія жылі ў эпоху сярэдняга і позняга плейстацэна (300–25 тыс. гадоў таму назад). Назву атрымалі ад месца адной з першых знаходак астанкаў выкапнёвага чалавека ў даліне р. Неандэр у Германіі (1856). Насялялі Еўропу, Пярэднюю, Сярэднюю, Усх., Паўд.-Усх. Азію, Афрыку. Н. падзяляюцца на класічных, пярэднеазіяцкіх і атыпічных. Найб. шматлікая група – класічныя Н.; жылі ў Еўропе ў перыяд рыс-вюрмскага міжледавікоўя (187–70 тыс. гадоў таму назад) і вюрмскага зледзянення (70–35 тыс. гадоў таму назад). Вядомы стаянкі ў Францыі (Ле-Мусцье, Ла-Шапэль, Ла-Ферасі і інш.), Германіі, Італіі, Іспаніі, Англіі, Славакіі, Чэхіі, Харватыі, Паўн. Каўказе, Крыме. Аб'ём мозга класічных Н. 1600–1900 см³; для іх характэрны архаічныя прыкметы ў будове чэрапа (выступаючы аддзел твару, магутнае надброўе, шыньёнападобная патыліца, вял. вачніцы, шырокая насавая адтуліна), масіўны склад цела, невял. рост (160 см), вага 80–90 кг. Пярэднеазіяцкія Н. вядомы па знаходках з пячор Шанідар (Ірак), Табун, Амуд, Кебара (Ізраіль). Мелі прагрэсіўныя марфалагічныя прыкметы – высокі чарапны звод, амаль прамы лоб, выразна акрэслены падбародачны выступ, паменшаныя надброўныя дугі і інш. Атыпічныя Н. (150–70 тыс. гадоў таму назад) жылі ў Германіі (Эрынгсдорф), Італіі (Сакапасторэ), Славакіі (Ганаўцэ) і інш. Адрозніваюцца спалучэннем прагрэсіўных і архаічных марфалагічных прыкмет. Некаторыя вядомыя знаходкі [напр., пахаванне хлопчыка ў Тэшык-Ташы (Узбекістан), астанкі дзіцяці са Стараселля (Крым)] не ўпісваюцца ў агульную класіфікацыю. Знаходкі апошніх гадоў у Харватыі (Віндзжы), Партугаліі (Лапідо), Іспаніі (Лагар-Вельо) маюць узрост 28–24,5 тыс. гадоў, г.зн. належаць да перыяду, калі асн. насельніцтвам Еўропы ўжо былі краманьёнцы. Н. звязаны з позНаашэльскай і мусцьерскай археал. культурамі. Вядома больш за 90 тыпаў прылад працы. У Маладаве на Днястры знойдзены рэшткі жытла Н. з 15 ачагамі і агароджай з касцей мамана. Загоннае паляванне вялося з дапамогай агню і мела пастаянны характар. З Н. звязаны першыя пахаванні памерлых са слядамі рытуальнай абраднасці. На тэр. Еўразіі вядома каля 60 пахаванняў. Археал. прасочваецца існаванне паляўнічых культаў (пячорнага мядзведзя – Драхенлох і Петэрсхеле ў Швейцарыі), зачаткаў мастацтва (арнаментаванне касцей, упрыгажэнні з ракавін). Уяўленне пра Н. як пра абавязковую фазу антрапагенезу, распаўсюджанае да 1990-х г., амаль зжыло сябе. У сучаснай навуцы Н. разглядаюцца як інш. від чалавека. Маглі існаваць розныя групы Н., якія генетычна адрозніваліся, некаторыя з іх маглі ўдзельнічаць у антрапагенезе.

*Літ.*: Бахолдина В.Ю. Происхождение человека: находки, термины, гипотезы. М., 2004; Зубов А.А. Палеоантропологическая родословная человека. М., 2004; Васильев С., Зубов А., Герасимова М. Доисторический человек. Биологические и социальные аспекты. М., 2006; Тегако Л.И., Марфина О.В. Основы антропологии. Минск, 2008.

*А.М.Ваганава.*

**НЕКАСЕ́ЦК**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і селішча каля в. Некасецк Мядзельскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча штрыхаванай керамікі культуры, банцараўскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі за 1,5 км на З ад вёскі, на мысе са стромкімі схіламі выш. 7–9 м ад падэшвы. У 1937 алкрылі Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1953 даследаваў А.Р.Мітрафанаў. Пляцоўка авальная, памерамі 47 × 39 м, паўд. схіл размыты, у агаленнях на краях прасочаны культ. пласт. Выяўлены 3 культ. гарызонты: у ніжнім знойдзена праколка, абломкі штрыхаваных рабрыстых слоікападобных гаршкоў, у сярэднім – фр-ты гладкасценных слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў; у верхнім – ганчарная кераміка. Гарадзішча датуецца 1–4, 6–8 і 10–11 ст.

Селішча банцараўскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі побач з гарадзішчам, узлоўж яго асновы на працягу 50–70 м. Пл. 1,3 га. У 1953 адкрыў, у 1965 даследаваў 65 м² А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт 0,5–0,7 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла памерамі 3,4 × 3,85 м, печы-каменкі, абломкі слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў, бронзавы пярсцёнак, посахападобная шпілька, льячка з рэшткамі свінцу, гліняныя прасліцы, тыглі. Вышэй на схіле знойдзены абломкі ганчарнай керамікі, жал. гарпун, бронзавая бразготка. Датуецца 6–8 і 9–11 ст.

*Літ.*: Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Виленском округе БССР//КСИИМК. 1945. Вып. 11; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970.

*А.Р.Мітрафанаў.*

**НЁМАНСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён сярэдняга і позняга неаліту, якія ў 4-м – пач. 2-га тыс. да н.э. жылі на З Беларусі, у сярэдняй і ўсх. Польшчы, на ПдЗ Літвы. Уплывы культуры пранікалі на Пн Валыні, у цэнтр. Беларусь, на З – да нізоўяў Одэра. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, земляробствам і жывёлагадоўляй, на мелавых пакладах метадам адкрытых выпрацовак здабывала крэмень. Мела наземныя жытлы на берагах вадаёмаў. Культура першапачаткова сфарміравалася на Павісленні на мясц. мезалітычнай аснове. У пач. 3-га тыс. да н.э. частка плямён Н.к. перасяляецца на З Беларусі, на крайні ПдЗ Літвы і Пн Валыні, дзе змешваецца з носьбітамі прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры.

На тэр. Беларусі Н.к. ў сваім развіцці прайшла 2 этапы. Ранні (лысагорскі) этап культуры сфарміраваўся пад уплывам *лейкападобных кубкаў культуры*. Сярод крамянёвых вырабаў шмат рубячых прылад. Выкарыстоўваецца гладкасценны вастрадонны посуд са звужанай шыйкай, у цесце якога прысутнічаюць дамешкі валакністай арганікі і жарствы. Краі венцаў аздабляліся глыбокімі наколамі, корпус – адбіткамі грэбеня, лінейнага штампа, наколамі, пракрэсленымі лініямі. На лысагорскім этапе на паўн.-ўсх. перыферыі Н.к. адчуваюцца ўплывы неалітычных культур Ніжняй Прыпяці і Падняпроўя, а таксама *ўсвяцкай культуры*.

Позні (дабраборскі) этап звязаны з уплывам *шарападобных амфар культуры*, пазней – *шнуравой керамікі культуры*. Назіраецца росквіт крамянёвай індустрыі, шырока распаўсюджваюцца рэтушаваныя трохвугольныя наканечнікі стрэл і ліставападобныя дзід, сярпы, з'яўляюцца сякеры са звужанымі абушкамі і прышліфоўкай на лязе. Форма посуду ў большасці захоўваецца ранейшая, на яе паверхні з'яўляецца заштрыхоўка, а ў цесце знікаюць арганічныя дамешкі. Краі венцаў пасудзін упрыгожваюцца поясам глыбокіх круглых ямак, корпус – пераважна рознымі адступаючымі наколамі, адбіткамі лінейнага штампа, пракрэсленымі лініямі, з'яўляюцца шнуравыя ўзоры, грабеньчатыя арнаменты выкарыстоўваюцца значна менш.

Асобныя групы нашчадкаў познанеалітычнага насельніцтва на З Беларусі пратрымаліся да сярэднебронзавага часу, дзе ўступілі ў кантакт з носьбітамі *тшцінецкай культуры*. Найб. вядомыя помнікі Н.к. на тэр. Беларусі: *Кругліца*, *Камень*, *Ніз*, *Добры Бор*, *Русакова*, *Ярэмічы*, Русаковічы, Сверынава.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997.

*М.М.Чарняўскі.*

**НІ́ЖНЯЯ ТО́ШЧЫЦА**, археалагічныя помнікі – селішча і грунтавы могільнік каля в. Ніжняя Тошчыца Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

Селішча за 2 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Падлужжа, на левым беразе р. Ташчанка пры ўпадзенні яе ў р. Дняпро. Пл. 400 × 200 м. Выявіў і даследаваў 108 м² у 1962 Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,3–0,4 м. Знойдзены абломкі ляпнога посуду, у т.л. фр-ты глянцаваных і арнаментаваных расчосамі пасудзін 2-й чв.–сяр. 1-га тыс., кругавы посуд стараж.-рус. часу, а таксама біканічнае прасліца, жал. нож, сярэбраны пярсцёнак.

Грунтавы могільнік за 2 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Падлужжа, злева ад вусця р. Ташчанка. На пл. каля 2 га прасочваюцца знаходкі кальцыніраваных костак. Выявіў і даследаваў 2040 м² у 1962–63 Л.Д.Побаль. Пахавальны абрад – трупаспаленне, пахаванні ямныя (4), урнавыя (4), змешаныя (4). Формы пахавальных ям круглая (9) і авальная (3). У 3 пахаваннях косткі былі перамешаны з попелам і вуголлем, у адным – ачышчаны ад слядоў вогнішча. У змешаных пахаваннях ва урнах косткі ачышчаны ад рэшткаў пахавальнага вогнішча, каля урнаў – перамешаны. У адным пахаванні косткі ва урне, накрытай другой пасудзінай, і ў яме былі ачышчаны. У 3 урнавых пахаваннях косткі таксама ачышчаны; у адным – перамешаны з вуголлем і попелам, урна перавернута. У адным урнавым пахаванні знойдзе-

на глінянае прасліца, у двух змешаных і адным ямным – адзінкавыя абломкі пасудзін.

На тэр. могільніка даследавана паўзямлянка памерамі 3,2 × 2,8 м, зрубавай канструкцыі з рэшткамі печы-каменкі ў паўн. частцы. Выяўлены 2 гасп. ямы.

Селішча і могільнік адносяцца да 2-й чв.– сяр. 1-га тыс. н.э. Знойдзеныя матэрыялы маюць аналогіі з паселішчамі і могільнікамі *Адаменка* (Абідня) і *Тайманава*.

*Літ.*: Поболь Л.Д. Древности середины и третьей четверти I тыс. н.э. в Белорусском Поднепровье // Раннесредневековые восточнославянские древности. Ленинград, 1974. *Л.Д.Побаль, Н.М.Дубіцкая.*

**НІЗ**, археалагічны помнік – стаянка каля в. Ніз Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,6 км на ПнЗ ад вёскі, на пляцоўцы левабярэжнай тэрасы р. Шчара выш. 4,5 м, абмежаванай з двух бакоў ярамі. Памеры 30 × 32 м. Выявілі ў 1963 В.Р.Супрун і М.М.Чарняўскі, у 1965 М.М.Чарняўскі даследаваў 104 м². Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены агнішчы, крамянёвыя прылады працы, абломкі вастрадоннага танкасценнага посуду з ќрыху заштрыхаванай паверхняй, арнаментаванага пераважна наколамі і адбіткамі лінейнага штампа, таксама матэрыялы бронзавага веку. Выяўлена пахаванне ў яме па абраду трупаспалення. Пахавальны інвентар складаўся з крамянёвай прышліфаванай сякеры з пашкоджаным лязом і пласкадоннай біканічнай пасудзіны, арнаментаванай адбіткамі лінейнага штампа. Паселішча датуецца 3-м – 1-й пал. 2-га тыс. да н.э. Большасць матэрыялаў адносіцца да позняга этапу *нёманскай культуры*. Пахаванне мае рысы *шарападобных амфар культуры*.

На краі тэрасы паміж вёскай і б. хутарам Янава знойдзены рэшткі іншых стаянак каменнага веку.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**НІКАДЗІМАВА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і селішча каля в. Нікадзімава Горацкага р-на Магілёўскай вобл.

Гарадзішча 3-й чв. 1-га тыс. за 0,6 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Быстрая (правы прыток р. Проня), на мысе паміж 2 ярамі. Мае складаную сістэму ўмацаванняў і 3 раздзеленыя валамі пляцоўкі памерамі 48 × 36 м (з боку поля), 48 × 48 м (сярэдняя) і 7 × 7 м (мысавая); 2 першыя ўзвышаюцца над поймай на 12–18 м. З боку поля ўмацавана валам выш. 4,5 м, шыр. да 20 м, з боку мыса – 2 валамі. Вядома з 1903. Абследавалі ў 1936 А.Дз.Каваленя, у 1978 В.І.Шадыра, у 1985 А.А.Седзін. Даследаваў у 1986–92, 1995, 2003, 2004 А.А.Седзін (пл. 1058 м²). Палеабатанічны матэрыял даследавалі Н.А.Кір'янава і Дз.І.Траццякоў, астэалагічны – В.В.Шчаглова і А.А.Разлуцкая. Культ. пласт ад 1 м, на мысавай пляцоўцы да 3,2 м. На сярэдняй пляцоўцы выяўлены рэшткі замкнёнай пабудовы авальнай формы (43 × 18 м) слупавай канструкцыі, з унутраным дваром, жылым і гасп. памяшканнямі. Падобныя збудаванні вядомы ў тушамлінскіх старажытнасцях Смаленшчыны (Дзямідаўка, Тушамля, Слабада-Глушыца). Другая пляцоўка магла выкарыстоўвацца ў абарончых і гасп. мэтах. На мысавай пляцоўцы праводзіліся крэмацыя і пахаванне памерлых. Знойдзены жал. прадметы ўзбраення, рыштунак каня і вершніка: наканечнікі коп'яў і кідальных дроцікаў утулкавыя (лісце-, ланцэта-, ромба-, полымяпадобныя, двухшыпныя), наканечнікі стрэл тронкавыя (трохлопасцевыя, ромбападобны, бранябойны), фр-т кальчугі, шпоры, цуглі, збруйныя спражкі, фр-т двухлязовага мяча (шыр. клінка 5,5 см); жал. нажы, шылы, крэсівы,



*Макет гарадзішча* ***Нікадзімава.***

*Пацеркі з гарадзішча **Нікадзімава**.*



пінцэты, долаты, кнотавыя трубачкі, рыбалоўны кручок, спружынныя нажніцы, сякеры, малаток, дробныя кавальскія інструменты, каса-гарбуша, сярпы, бронзавыя фібулы (пальчатыя, антрапазаморфная, двухпласцiністая), бранзалеты, прывескі ў выглядзе званочкаў, пранізкі, кольцы, бляшкі, накладкі, бурштынавыя пацеркі, вырабы са срэбра (бранзалет, кольца, падвеска), шкляныя, з гліны і каменю (біканічныя прасліцы, льячкі, ліцейныя формачкі, тачыльныя бруські). Керамічны посуд слабапрафіляваны, таўстасценны, многія пасудзіны глянцаваныя. Знойдзены скарб, у якім быў скураны пояс, упрыгожаны бляшкамі, з прымацаванымі бронзавай спражкай, нажом і крэсівам; злiткі і звыш 1000 дробных бляшак-упрыгажэнняў з алавяніста-свінцовага сплаву. Выяўлены косткі жывёл свойскіх (буйная і дробная рагатая жывёла, свінні, конь, сабака) і дзікіх (лісіца, вадзяная палёўка). Знаходкі шматлікіх прадметаў узбраення, рыштунку каня

*Фібулы з гарадзішча **Нікадзімава**.*



і вершніка, упрыгажэнняў, скарбу, вял. колькасці зерня культ. раслін (ячмень, проса, пшаніца, гарох, боб кармавы, авёс, жыта, каноплі) пры адносна малой колькасці земляробчых прылад дазваляюць меркаваць аб тым, што гарадзішча з'яўлялася адміністрацыйна-тэрытарыяльным цэнтрам значнай акругі. Тут знаходзілася сядзіба правадыра і яго дружыны. Гарадзішча загінула ў выніку пажару, аб чым сведчаць фр-ты абпаленых бярвён, знаходкі чалавечых астанкаў унутры памяшканняў. Узрост помніка пацвярджаецца датамі паводле радыевугляроднага аналізу (1390 ± 35; 1495 ± 35; 1495 ± 35; 1615 ± 40 гадоў таму назад), атрыманымі ў лабараторыі фірмы «Санарэ» (г. Талін). У экспазіцыі «Археалогія і старажытная гісторыя Магілёўшчыны» Магілёўскага абл. краязнаўчага музея створана і экспануецца аб'ёмная рэканструкцыя гарадзішча, а таксама матэрыялы даследавання.

С е л і ш ч а 3-й чв. 1-га тыс. і эпохі Стараж. Русі за 0,2 км на З ад гарадзішча, на процілеглым баку яра. Выявіў і абследаваў у 1936 А.Дз.Каваленя, абследаваў у 1980—90-я г. і ў 2003 А.А.Седзін. Знойдзены гліняныя біканічныя прасліцы, фр-ты ляпнога і ганчарнага посуду, крамянёвы наканечнік стралы часоў неаліту—бронзы.

*Літ.:* С е д и н А.А. Работы в Восточной Белоруссии // АО 1986. М., 1988; Я г о ж. Оружие из городища Никодимово // V абласныя Магілёўскія краязнаўчыя чытанні. Магілёў, 1994; Я г о ж. Древнее земледелие и скотоводство по материалам раскопок городища Никодимово // Археалогія і старажытная гісторыя Магілёўшчыны і сумежных тэрыторый. Магілёў, 1994; Я г о ж. Никодимовское городище раннего средневековья в Восточной Белоруссии // Этногенез и этнокультурные контакты славян: тр. VI Междунар. Конгресса славян. археологии. М., 1997. Т. 3; Я г о ж. Никодимово — городище третьей четверти I-го тысячелетия н.э. в Восточной Беларуси // Край. Дыялог па сумежжы культур. Магілёўская даўніна. Магілёў, 2000.

*А.А.Седзін.*

**НІСІ́МКАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — селішчы, гарадзішча, курганныя могільнікі каля в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на Гомельскай вобл.

С е л і ш ч а - 1 і г р у н т а в ы м о г і л ь н і к за 0,35 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Покаць, ва ўр. Лысая (Белая) Гара. Даследаваў у 1982—83 А.А.Макушнікаў (298 м²). Выяўлены матэрыялы неаліту, бронзавага веку і сярэдневякоўя. У селішчы калочынскай культуры (памеры 140 × 50 м) прасочаны ніжнія часткі заглыбленых у мацярык пабудоў. У могільніку пахаванні 10 ст. па абраду трупаспалення (знойдзена раннекругавая кераміка, бронзавая паясная накладка, гліняные прасліца і інш.) і 12—13 ст. па абраду трупапалажэння (у пахавальным інвентары шыферныя прасліцы і драцяныя скроневыя кольцы).

С е л і ш ч а - 2 за 0,25—0,35 км на ПдУ ад вёскі на астанцавым участку тэрасы правага берага р.



*Да арт.* ***Нісімкавічы****. Жытло 3-й чвэрці 1 тыс. з селішча-2.*

Покаць. Пл. каля 3 га. Даследаваў у 1982, 1984—85 А.А.Макушнікаў (1208 м²). Сярэдневяковы пласт утрымлівае матэрыялы і заглыбленыя ў мацярык аб'екты 3-й чв. 1 тыс., роменскай культуры, сараж.-рус. 10 ст. Даследаваны рэшткі 2 жытлаў сяр. — 3-й чв. 1 тыс., металургічнага горана 10 ст. і інш. У к. 10 — пач. 11 ст. пляцоўка селішча перакрыта курганным могільнікам. Сабраны абломкі ляпнога і раннекругавога посуду, шкляныя пацеркі, жал. нажы, медарэзкі, цвікі, бронзавыя падвескі, глінянае і шыфернае прасліцы, касцяныя вырабы і інш.

Селішча-3 за 0,7—0,8 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Белая Круча на левабярэжнай тэрасе р. Покаць. Памеры каля 110 × 50 м. Даследаваў у 1985 А.А.Макушнікаў (94 м²). Вывучаны рэшткі паўзямлянкі і гасп. аб'ектаў 3-й чв. 1-га тыс. і 10 — пач. 11 ст. Знойдзены ляпная і кругавая кераміка, бронзавыя падвескі, металічная фібула, каменныя зерняцёркі, глінянае прасліца, шкляныя пацеркі і інш.

Селішча-4 у паўд.-ўсх. частцы вёскі. У пач. 1980-х г. выпадкова выяўлена кераміка 11—13 ст. і абломак бронзавай 2-скатна-пласціністай шыйнай грыўні к. 10 — пач. 12 ст.

Селішча-5 эпохі бронзы, 1-й пал. — сяр. 1-га тыс. за 0,4—0,5 км на ПдУ ад вёскі, на левабярэжнай тэрасе р. Покаць. Памеры каля 220 × 110 м. Даследавалі ў 1985 А.А.Макушнікаў і А.І.Драбушэўскі. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду, прасліца, жал. нож і інш.

Гарадзішча ранняга жал. веку з матэрыяламі мілаградскай і зарубінецкай культур за 0,4—0,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Курган, на мысе карэннай левабярэжнай тэрасы р. Покаць. Пляцоўка авальная памерамі 62 × 52 м, з напольнага боку ўмацавана валам выш. да 1,5 м. Вядома з 1873. Абследаваў у 1976 М.А.Ткачоў, даследаваў у 1982 С.Я.Рассадзін (96 м²). Культ. пласт да 1 м. Выяўлены рэшткі наземных пабудоў, ляпная кераміка, вырабы з жалеза, бронзавае скроневае кольца радзіміцкага тыпу.

Курганныя могільнікі (2) у к. 19 ст. налічвалі 225 насыпаў. Першы (к. 10 — пач. 12 ст.) за 0,2—0,35 на ПдУ ад вёскі, па абодва берагі р. Покаць. Да пач. 1980-х г. захоўваліся 53 курганы ў лева- і 23 — у правабярэжнай групах. Раскопкі праводзілі ў 1880-я г. Е.Р.Раманаў (7), у 1981 У.У.Багамольнікаў (17), у 1984—85 У.У.Багамольнікаў і А.А.Макушнікаў (4). Трупапалажэнні на гарызонце і на падсыпцы. Інвентар радзімічаў: бронзавыя 7-промневыя і драцяныя скроневыя кольцы, язычковыя і круглыя падвескі, бранзалеты, шкляныя і каменныя пацеркі, жал. крэсала і нажы і інш. Другі могільнік у лесапаласе па дарозе Гаёк—Нісімкавічы. Абследаваў у 1982 А.А.Макушнікаў. Многія курганы разбураны пры дарожным будаўніцтве і скарбашукальнікамі.

Селішча каля другога могільніка, на правабярэжнай тэрасе р. Покаць. Адкрыў і абследаваў у 1982 А.А.Макушнікаў. Знойдзена ляпная і кругавая кераміка.

*Літ.:* Богомольников В.В., Макушнікаў А.А. Археологические памятники Гомельщины (по материалам раскопок близ д. Нисимковичи) / Минск, 1988; Яго ж. Радимичи (по материалам курганов X—XII вв.). Гомель, 2004; Макушнікаў А.А. Могільнік Нісімкавічы I каля Чачэрска (Археалагічны

*Да арт.* ***Нісімкавічы****. Курганны могільнік (2): планы пахаванняў (1, 2). Інвентар пахавання-1 (3—8, 10—12): 3—6 — бронзавыя скроневыя кольцы; 7 — жал. іголка; 8 — структуры тканіны; 10—11 — шыферныя прасліцы; 12 — жал. кальцо. Пласт: 9 — бронзавы пярсцёнак. Рэшткі галаўнога ўбору: 13 — схема размяшчэння луба і кольцаў; 14 — галаўная павязка (рэканструкцыя); 15 — галаўны ўбор (рэканструкцыя).*



каментарый да летапісных звестак пра пахавальныя абрады радзімічаў) // З глыбі вякоў. Наш край : гістарычна-культуралаг. зб. Мінск, 1996. Вып. 1; Я г о ж. Средневековое поселение и могильник Нисимковичи I в Посожье // ГАЗ. Мінск, 1999. Вып. 14; Я г о ж. Восточнославянский горизонт селища Нисимковичи II в Посожье // Там жа. Мінск, 2002. Вып. 17.

*А.А.Макушнікаў.*

**НО́ВАЕ СЯЛО́**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Новае Сяло Сенненскага р-на Віцебскай вобл. За 1,1 км на З ад вёскі, 0,7 км на У ад в. Запруддзе Чашніцкага р-на, на правым беразе р. Свяча, у лесе. Пляцоўка авальнай формы (90 × 42 м), выцягнута па лініі ПнЗ—ПдУ, з нахілам у паўд.-зах. накірунку (перапад вышынь больш за 1 м). Выш. пляцоўкі ад падэшвы марэннага астанца — 9 м. Паўн.-ўсх. схіл стромкі, паўд.-зах. — палогі, абкружаны забалочаным берагам р. Свяча. З ПнЗ і з ПдУ умацавана 2 серпавіднымі валамі (выш. 0,5—1 м) і ровам паміж імі. Уздоўж паўн.-ўсх. схілу праходзіць дарога паміж вёскамі Новае Сяло і Запруддзе.



*Ляпны керамічны посуд з гарадзішча **Новае Сяло**.*



*Рэчы гарадзішча **Новае Сяло**.*

Г а р а д з і ш ч а ўзнікла як паселішча днепра-дзвінскай культуры ў пач. н.э. Упершыню помнік згадвае Е.Р. Раманаў у матэрыялах да археал. карты Магілёўскай губ. Абследаваў у 1972 П.Ф.Лысенка. У 2002—07 даследаваў П.М.Падгурскі (662 м$^2$). Выяўлены рэшткі слупавай пабудовы, якая стаяла ўздоўж паўд.-зах. схілу. Насельніцтва займалася гал. чынам земляробствам. Знойдзена абпаленае зерне пшаніцы, ячменя, лебяды, казяльца. Адбіткі пшаніцы, ячменя і проса зафіксаваны на рэштках посуду і праслiцах. Знойдзены абломак паральніка, шмат сярпоў розных тыпаў, жал. рыбалоўныя кручкі, нажы з прамой спінкай, шылы; жал. падкавападобныя і з падвязной ножкай фібулы, посаха- і спіралепадобныя шпількі, бронзавы бранзалет з разамкнёнымі канцамі, бабровы зуб з адтулінай; апрацаваныя косткі; гліняныя праслiцы (часта арнаментаваныя), грузік дзьякава тыпу. Керамічны посуд слоіка- і слабапрафіляванай формы, пераважна з гладкай (88,6%), частка са штрыхаванай (3,3%) і сеткаваты (5,5%) паверхняй. Вянцы гаршкоў зрэдку арнаментаваліся ўцісканнямі ці скразнымі адтулінамі. Наступны перыяд жыцця на гарадзішчы датуецца 3—4 ст. (стратыграфічна не выдзяляецца). Зафіксаваны абгарэлыя рэшткі бярвён, вуголле, развалы вогнішчаў ад пабудоў, магчыма, зрубнай канструкцыі. Знойдзена кераміка з расчосамі (1,2% ад колькасці ўсяго посуду; па прафіліроўцы адпавядае кераміцы днепра-дзвінскай культуры), 2 фр-ты глянцаваных рабрыстых місак; бітрапецавідныя праслiцы з глянцаванай паверхняй, спіралепадобная чарняхоўская пацерка з празрыстага зялёнага шкла. Магчыма, да гэтага часу адносяцца двухшыпныя плоскія трохкутныя бронзавы і жал. наканечнікі стрэл. Пасля 4 ст. жыццё на паселішчы спынілася. Апошні перыяд існавання паселішча звязаны з носьбітамі культуры доўгіх курганоў полацка-смаленскіх крывічоў, якія не жылі на гарадзішчы пастаянна, але, магчыма, выкарыстоўвалі ў рытуальных мэтах (выяўлены гаршчок у мацерыковай яме, які стаяў донцам уверх). Знойдзены біэсавідная падвеска і 2 ланцэтападобныя наканечнікі стрэл з загнутым ад удару пяром. У наваколлі гарадзішча зафіксаваны 3 курганныя могільнікі, у т.л. і доўгія насыпы.

*П.М.Падгурскі.*

**НО́ВАЯ КА́МЕНКА**, археалагічны помнік — курганны могільнік радзімічаў паміж вёскамі Новая Каменка і Старая Каменка Жлобінскага р-на. Захаваліся 32 насыпы выш. 0,2—2,5 м, дыям. 8—18

м. Вядомы з 1873. У 1905 Е.Р.Раманаў раскапаў 8 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З, некаторыя галавой на У. Пад галаву адной з пахаваных жанчын была пакладзена дошка.

4 насыпы былі без інвентару, у астатніх знойдзены сяміпрамянёвыя і сямілапчастае скроневыя кольцы, гладкія і арнаментаваныя лунніцы, пятлістыя падвескі, кручаная шыйная грыўня з гранёнымі галоўкамі на канцах, розныя тыпы пярсцёнкаў, 2 гладкія і кручаны бранзалеты, скроневыя кольцы з завітком на адным канцы, разнастайныя пацеркі (дробны бісер, сінія шкляныя і інш.), тачыльны камень, ліраападобная спражка і жал. паясное кольца, разбіты гаршчок. Абследаваў у 1975 У.У.Багамольнікаў. Могільнік датуецца 11–12 ст.

*Літ.:* Романов Е.Р. Археологические разведки в Могилевской губернии. Вильна, [1912]; Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Изв. имп. археол. комиссии. Санкт-Петербург, 1903. Вып. 5.

*У.У.Багамольнікаў.*

**НО́ВЫ БО́ЛЕЦК**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы і селішча жал. веку і раннефеад. часу каля в. Новы Болецк Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча-1 *днепра-дзвінскай культуры* за 3 км на ПнЗ ад вёскі, каля былой в. Буракова, з правага боку ад дарогі на г.п. Гарадок. Размешчана на ўзвышшы сярод лясістай забалочанай мясцовасці. Памеры 45 × 30 м, выш. да 20 м, з Пн умацавана валам і равамі. Выявілі ў 1934 К.М.Палікарповіч і А.М.Ляўданскі. У 1964–66 К.П.Шут даследаваў 240 м², у 1988 В.І.Шадыра – 92 м². Культ. пласт 1,5–2,5 м. Выяўлены рэшткі жылых пабудоў слупавой канструкцыі, жалезаапрацоўчай майстэрні, гасп. ямы. Знойдзены жал. сякеры (клінападобныя і накшталт кельта), сярпы, нож, іголка, наканечнікі стрэл, посахападобныя шпількі, касцяныя долаты і рукаяткі, гліняныя прасліцы, бронзавыя ўпрыгажэнні, фр-ты ляпнога гладкасценнага посуду міскападобнай і прафіляванай форм з адбіткамі тканіны, ямкамі і пракрэсленымі лініямі ў верхняй частцы пасудзін.

Гарадзішча-2 на ўсх. ускраіне вёскі, на мысе, утвораным 2 забалочанымі ярамі каля воз. Болецкае. Складаецца з 2 пляцовак, падзеленых ровам. Паўд. пляцоўка памерамі 45 × 30 м пашкоджана варонкападобнымі ўпадзінамі, паўн. круглаватая памерамі 36 × 25 м, па краі ўмацавана валам выш. 1,5–4 м. З напольнага боку помніка вал выш. 4 м, на ім – валуны са знакамі ў выглядзе свастыкі. Каля падножжа гарадзішча пляскаты камень трохвугольнай формы з прамавугольным паглыбленнем у цэнтры. Адкрылі ў 1934 А.М.Ляўданскі і К.М.Палікарповіч, у 1965 К.П.Шут заклаў шурфы ў цэнтр. частках абедзвюх пляцовак, у 1972 абследаваў Г.В.Штыхаў.



*Гарадзішча Новы Болецк.*

Культ. пласт паўд. пляцоўкі больш за 1 м, у перадмацерыковай частцы знойдзены косткі чалавека, фр-ты кругавой керамікі. На паўн. пляцоўцы культ. пласт у цэнтры 0,4 м, знаходак не ўтрымлівае. У 1988–89 В.М.Ляўко даследавала 116 м² на зах. ўскраіне паўд. пляцоўцы. Культ. пласт больш за 1 м. Выяўлена прамавугольная вымастка са шчыльна складзеных камянёў памерамі 2 × 2,3 м, каменныя колападобныя абкладкі круглай ці падоўжанай формы. У раскопе знойдзены каменны крыж памерамі 40 × 30 см і таўшч. 4–6 см. Пры расчыстцы вымасткі выяўлены кальцыніраваныя косткі жывёл. Пад каменнымі абкладкамі на глыб. 0,2–0,4 м знойдзены рэшткі пахаванняў у магілах-жальніках: спарахнелае дрэва, перамешаныя чалавечыя косткі, цвікі са слядамі дрэва ад трун. У раскопе знойдзены валун, які ўтрымліваў выяву чалавечага аблічча. У культ. пласце выяўлены вырабы стараж.-рус. часу і 14–15 ст.: ключы, фр-ты замкоў, нажы, прасліцы, шкляныя бранзалеты, пацерка, фр-ты керамічнага посуду, бронзавыя званочак, пярсцёнак з рубленага шматраднага дроту, фр-т літага бранзалета, падвеска, завушніца.

Верагодна, у жал. веку гарадзішча было схованішчам, у 10–12 ст. – паселішча, пазней тут былі могілкі.

Селішча 3-й чв. 1-га тыс. прымыкала з паўд. боку да гарадзішча-1. Знішчана ў 1987 пад час будаўнічых работ.

*Літ.:* Шут К.П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Яго ж. Беларускае Падзвінне (I тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006; Левко О.Н. Племенные структуры, погосты и волости Витебского Подвинья в конце I – начале II тысячелетия // Ученые записки. Витебск, 2003. Т. 2.

*В.М.Ляўко.*

**НО́ВЫ БЫ́ХАЎ**, археалагічныя помнікі – стаянкі, гарадзішча, селішча, бескурганны і курганны могільнікі каля в. Новы Быхаў Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка-1 свідэрскай культуры фінальнага палеаліту за 1,5 км на Пн ад вёскі на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памеры 40 × 150 м. Адкрыў у 1980 і даследаваў 142 м²



*Да арт.* ***Новы Быхаў****. Наканечнік стралы (1), вастрыё (2), скрабкі (3–7), разцы (8–12), укладыш (13), сякучая прылада (14), нуклеусы (15–16) са стаянкі-1.*

у 1982–83 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,1–0,4 м. Знойдзены 484 адз. крамянёвых вырабаў – адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, свідэрападобны наканечнік стрэлы, канцавыя скрабкі, рэтушныя, двугранныя і на вугле зламанай нарыхтоўкі разцы, вастрыі і праколкі, вырабы з выемкай, пласціны-ўкладышы, сякучыя прылады і інш.

Стаянка-2 эпохі неаліту на паўн. ускраіне вёскі, каля могілак, за 0,1 км ад дарогі на Быхаў, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў у 1903 Е.Р.Раманаў, абследавалі ў 1924–28 С.С.Шутаў, у 1926 І.А.Сербаў, у 1980–83 В.Ф.Капыцін. Знойдзены нуклеусы, пласціны, адшчэпы, канцавыя скрабкі, разцы на рагу пласціны, нажы, фр-ты ямкава-грабеньчатай керамікі.

Асобныя рэчы эпохі неаліту выяўлены на Пн ад моста, на правым беразе р. Адаменка каля яе вусця ва ўр. Папова Грыва; на берагах азёр Радашова і Чыстая Лужа; неаліту і бронзавага веку – на Пд ад вёскі па дарозе на в. Лазаравічы.

Гарадзішча ў цэнтры вёскі. Захаваўся земляны вал 14–17 ст. Верагодна, тут Е.Р.Раманаў знайшоў кераміку мілаградскай культуры.

Селішча-1 за 1 км на ПнУ ад вёскі, уздоўж высокага старога рэчышча Дняпра, ва ўр. Радашава гара. Памеры 400 × 100 м. Адкрыў у 1964 і даследаваў 16 м² у 1965 Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,5–0,7 м. Выяўлены 10 розначасовых ям глыб. 0,4 м і адна гасп. яма дыям. 1,4 м, глыб. 0,4 м. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду бронзавага і ранняга жал. вякоў (у т.л. з расчосамі і глянцаванага), кругавая кераміка стараж.-рус. часу.

Бескурганны могільнік позняга этапу 3-й чв. 1 тыс. За 0,2 км на З ад селішча. Памеры 400 × 200 м. Выявіў і даследаваў 6 пахаванняў у 1904 Е.Р.Раманаў, у 1927 І.А.Сербаў і С.С.Шутаў (1900 м², 72 пахаванні), у 1952 Ю.У.Кухарэнка (240 м², 8 пахаванняў), у 1960, 1965–67 Л.Д.Побаль (3550 м², 33 пахаванні). Пахавальны абрад – трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі змяшчаліся ў круглых і авальных ямах розных памераў і арыенціроўкі, трапляюцца адзінкавыя урнавыя пахаванні, зрэдку бронзавыя і жал. рэчы, абломкі крэменю.

Курганны могільнік стараж.-рус. часу размешчаны каля вёскі на месцы бескурганнага могільніка. У 1905 Я.Р.Раманаў даследаваў 4 курганы выш. 1,9–2,8 м. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на ПдУ (1), у сядзячым становішчы (2). Знойдзены сердалікавыя, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя, дрыгавіцкія буйназярнёныя пацеркі, лунніца, серп, нажы, бронзавыя завушніцы, пярсцёнкі, спражкі, бразготкі, спіралі, пацеркі, рэшткі шаўковай тканіны, каменны брусок, пояс з вял. спражкай і трыма кольцамі. У 1925 І.А.Сербаў даследаваў 5 курганоў з трупапалажэннямі на грунце.

*Літ.*: Романов Е.Р. Археологические разведки в Могилевской губернии // Зап. Северо-Западного отдела Русского Географического об-ва. Вильно, 1912; Побаль Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983; Копытин В.Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Його ж. Археологические памятники Быховского района Могилевской области. Могилев, 1995.

*В.Ф.Капыцін, Л.Д.Побаль, П.Ф.Лысенка, А.У.Коласаў.*

**НО́ВЫ КРЫЎСК**, археалагічны помнік – курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Новы Крыўск Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. За 1,5 км на У ад вёскі. 44 насыпы выш. 0,5–3 м, дыям. 5–20 м. Абследавалі ў 1910 Е.Р.Раманаў, у 1976 А.Р.Мітрафанаў. У 1968 Г.Ф.Салаўёва раскапала 22 курганы. У 18 пахавальны абрад – трупапалажэнне, у 2 – трупаспаленне, у адным кургане ў магільнай яме знаходзіліся 2 гаршкі, адзін курган быў пусты.

У 15 насыпах знойдзены сярэбраныя і бронзавыя 7-прамянёвыя, бронзавыя драцяныя, бранза-

летападобныя скроневыя кольцы, шкляны бісер (бочкападобны з пазалотай, зонны, шарападобны), шкляныя пацеркі, віты бронзавы бранзалет, цэлы гаршчок і абломкі глінянага посуду, жал. нож, шыферныя прасліцы, лунніцы і інш. Могільнік датуецца 11–12 ст.

*Літ.*: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра // САИ. 1962. Вып. Д 1–12; Соловьева Г.Ф. Раскопки славянских памятников XI–XII вв. в Гомельской области//АО 1968. М., 1969.

*А.Р.Мітрафанаў.*

**НÓВЫЯ ВАЛÓСАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, курганныя і курганна-жальнічны могільнікі каля в. Новыя Валосавічы Лепельскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча за 3 км на ПдЗ ад вёскі паміж вёскамі Весялова і Красналучка ў лесе, на марэнным выступе. Пляцоўка памерамі па лініі Пн–Пд 37 м, У–З – 43–45 м, выш. 5–7 м. З Пн, З і Пд умацавана падковападобным ровам (шыр. 1,5–2 м, глыб. да 0,5 м) і валам (шыр. да 2 м, выш. 0,5–0,7 м), размешчанымі на сярэдзіне схілу. З усх. боку прасочваецца неглыбокая западзіна шыр. да 5 м, глыб. да 1 м (магчыма, роў, які заплыў), за якой невял. вал (выш. 0,5 м, шыр. 3,5–5 м па краі пляцоўкі). Абследавалі ў 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 2006 П.М.Кенька. У 2007 З.А.Харытановіч даследавала 8 м² ва ўсх. частцы пляцоўкі на месцы западзіны і 32 м² у цэнтры. Культ. пласт 0,6–1,1 м.

Знойдзены фр-ты ляпной гладкасценнай і са штрыхоўкай керамікі *днепра-дзвінскай культуры*, гліняныя грузікі, у т.л. дзякава тыпу, прасліцы, у т.л. з лінейным ці кропкавым арнаментам, жал. лістападобны наканечнік стралы, абломак сярпа, кіепадобныя шпількі, шыла, лязовыя часткі сякер, тачыльныя бруські. Датуецца мяжой – першымі стагоддзямі 1-га тыс. н.э.



*Да арт. **Новыя Валосавічы**. Шкляныя пацеркі з курганнага могільніка-1.*

Курганны могільнік-1 за 3 км на З ад вёскі. 22 паўсферычныя насыпы дыям. 3–8 м, выш. 0,5–1,5 м. У 2002–03 выявіў і даследаваў 2 курганы А.В.Вайцяховіч. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі змешчаны ў верхняй частцы насыпу. Інвентар – фр-ты ляпнога посуду, бронзавая трапецападобная падвеска. Датуецца 9–10 ст.

Курганны могільнік-2 за 0,5 км на З ад вёскі. 36 паўсферычных насыпаў, дыям. 5–15 м, выш. 1–3 м. Выявіў у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 абследаваў Ю.А.Заяц. У 2002–04 А.В.Вайцяховіч даследаваў 10 курганоў. Пахавальны абрад – трупаспаленне і трупапалажэнне ў насыпе, на падсыпцы, на гарызонце. Пахавальны інвентар – кругавыя гаршкі, бронзавыя бранзалета- і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з завітком, пярсцёнкі, падковападобная фібула, ліраподобная спражка, гузікі, жал. сякера, нажы, фр-т сярпа, вастрыё з рухомым кальцом, шкляныя пацеркі, касцяныя вырабы – арнаментаваная галоўка горнага казла і рукаяць. Датуецца 2-й пал. 10 – 1-й пал. 11 ст.

Курганна-жальнічны могільнік у цэнтры вёскі. 10 насыпаў, аснаванні абкладзены камянямі. Выявіў А.Р.Мітрафанаў у 1972. А.В.Вайцяховіч даследаваў адзін курган. У магільнай яме пад насыпам слядоў пахавання не зафіксавана.

*Літ.*: Вайцяховіч А.В. Курганны могільнік каля вёскі Новыя Валосавічы Лепельскага раёна Віцебскай вобл. // МАБ. 2006. № 11; Яго ж. Пахавальныя помнікі каля вёскі Новыя Валосавічы Лепельскага раёна Віцебскай вобл. // Там жа. 2006. № 12.

*А.В.Вайцяховіч, П.М.Кенька, З.А.Харытановіч.*



*Да арт. **Новыя Валосавічы**. Касцяныя накладкі з курганнага могільніка-2.*

**НО́ВЫЯ ГРАМЫ́КІ**, археалагічны помнік – шматслойнае паселішча каля в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. За 0,2 км ПдУ ад вёскі на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Беседзь, ва ўр. Аўрамаў Бугор. Адкрыла і даследавала 775 м² у 1977–81 А.Г.Калечыц. Выяўлены рэшткі 2 акруглых паўзямлянкавых мезалітычных жытлаў дыям. 2–2,5 м, паглыбленых на 0,5 м, з агнішчамі адкрытага тыпу; рэшткі паўзямлянкавага жытла 5–6 ст. н.э., наземнай гасп. пабудовы эпохі феадалізму; 24 гасп. аб'екты, у т.л. рэшткі розначасовых агнішчаў.

Знойдзены 32 631 артэфакт, на паверхні сабрана больш за 8 тыс. крамянёвых вырабаў. Каля 1 тыс. знаходак – прылады працы. Паводле А.У.Коласава, большасць крамянёвых рэчаў належыць да *кудлаеўскай культуры.* Крэменеапрацоўка трымаецца на утылізацыі адна- і двухпляцовачных нуклеусаў. Колькасна пераважаюць адшчэпы, з якіх выраблялася большая частка прылад. Большая частка скрабкоў зроблена на канцах нарыхтовак, ёсць таксама адзінкавыя, двайныя і акруглыя формы. Знойдзены скрэблападобныя вырабы, скробачы, скоблі, праколкі, рэтушныя, на зломе нарыхтоўкі і двухгранныя разцы, камбінаваныя вырабы, рубячыя прылады, частка з якіх належала неалітычнаму насельніцтву. Культуравызначальнымі індыкатарамі з'яўляюцца мікраліты (кудлаеўскія вастрыі, пласцінкі з прытупленым краем, каморніцкі трохвугольнік і высокія трапецыі) і наканечнікі стрэл з насадам, апрацаваным крутой ці паўкрутой рэтушшу са спінкі. Зрэдку прысутнічае плоская рэтуш з брушка.

Месца паселішча шматразова засялялася на працягу каменнага, бронзавага і жал. вякоў. Аб гэтым сведчыць прысутнасць розначасовых матэрыялаў, апрацоўка якіх вялася з дапамогай розных тэхналагічных прыёмаў.

*Літ.:* Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**НУ́КЛЕУС** (лац. *nucleus ядро*), характэрная для каменнага веку канкрэцыя сыравіны, прызначаная для атрымання сколаў-нарыхтовак.

На паверхні Н. вылучаюцца: а) ударная пляцоўка – плоскасць прыкладання сілы з дапамогай удару ці націску; б) плоскасць сколвання (фронт, адшчэпня) – паверхня з негатывамі сколаў-нарыхтовак, знятых з адной альбо некалькіх пляцовак; в) працоўны вугал – вугал, утвораны пляцоўкай і плоскасцю сколвання; г) бакі (латэралі) – плоскасці, якія абмяжоўваюць фронт; д) контрфронт – плоскасць, супрацьлеглая плоскасці сколвання.

Этапу сколвання нарыхтовак з Н. папярэднічала пачатковая апрацоўка канкрэцыі, падчас якой




*Нуклеус.*

маглі падрыхтоўвацца некаторыя (напр., пляцоўка) ці ўсе элементы будучага Н. Канкрэцыя з падрыхтаванай пляцоўкай, фронтам і контрфронтам называецца прануклеусам. З моманту аддзялення першага скола-нарыхтоўкі прануклеус пераходзіў на стадыю Н. У працэсе эксплуатацыі пляцоўка і фронт Н. маглі неаднаразова падпраўляцца спецыяльнымі сколамі ці пераафармляцца.

Пры апісанні і класіфікацыі Н. улічваюцца колькасць пляцовак і плоскасцяў сколвання (аднапляцовачныя, двухпляцовачныя, шматпляцовачныя, монафрантальныя, з раздзельнымі плоскасцямі сколвання), від нарыхтовак, для атрымання якіх служыў Н. (ад адшчэпаў, ад пласцін, ад пласцін і адшчэпаў), форма Н. і плоскасці сколвання, наяўнасць і асаблівасці ўступнай апрацоўкі.

*Літ.:* Ginter B., Kozłowski J.K. Technika obróbki i typologia wyrobów kamiennych paleolitu i mezolitu. Warszawa, 1975; Inizan M.-L., Reduron-Ballinger M., Roche H., Tixier J. Technology and Terminology of Knapped Stone. Nanterre, 1999.

*В.У.Ашэйчык, А.М.Вашанаў.*

**НЯБЫ́ШЫНА**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Нябышына Докшыцкага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на З ад вёскі. Складаецца з 2 груп. У першай налічваецца 13 паўсферычных (дыям. 6–10 м, выш. 0,5–1,8 м) і падоўжаных насыпаў (8 × 6–12 × 6 м, выш. 1–2 м). У 2006–09 выявіў і даследаваў 2 курганы А.В.Вайцяховіч. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў магільнай яме. Інвентар – ляпныя гаршкі, жал. сякера, бронзавая падковападобная фібула. Датуецца к. 10 – пач. 11 ст. Другая група складаецца з 48 паўсферычных курганоў дыям. 4–12 м, выш. 0,5–2 м. Выявіў у 1971 А.Р.Мітрафанаў. А.В.Вайцяховіч даследаваў 4 насыпы. Пахавальны абрад – трупаспаленне і трупапалажэнне на гарызонце і трупапалажэнне ў яме. Інвентар – бронзавыя пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, дэталі галаўнога венчыка, пярсцёнкі, паясное кольца, жал. нож, зярнёная авальная і шкляныя пацеркі. Датуецца 10 – 1-й пал. 12 ст. *А.В.Вайцяховіч.*



*Да арт.* ***Нябышына****. Пахавальны інвентар з курганнага могільніка* ***Нябышына****.*

**НЯМНÓВА**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Нямнова Гродзенскага р-на. Выявілі ў 2004 і даследавалі ў 2005 В.Л.Лакіза, В.С.Абухоўскі, М.М.Чарняўскі.

С т а я н к а - 1 каменнага веку за 1,2–1,3 км на ПдЗ ад вёскі, 50 м на У ад моста цераз Аўгустоўскі канал, побач з дарогай Асташа–Дзмісевічы. Памеры 140 × 30–40 м. Даследавана 245 м² (4 раскопы і 2 шурфы). Культ. пласт 0,3–0,5 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла акруглай формы з бакавым выступам, памерамі 3 × 3 м, глыб. 0,52 м. У запаўненні знойдзены (262 адз.) крамянёвыя адшчэпы, пласціны, нуклеусы, прылады працы (скрабкі, скрэблы, пласціна са скошаным рэтушшу краем), фр-ты кальцыніраваных костак, каменныя адбойнікі.

У культ. пласце знойдзены 3384 разнастайныя артэфакты, у т.л. апрацаваныя крамяні, нуклеусы і іх фр-ты, сколы афармлення пляцоўкі нуклеусаў, тэхнічныя сколы, сколы-нарыхтоўкі, адшчэпы, пласціны, скрабкі, скрабачы, разцы, праколкі, трапецыі, наканечнікі стрэл, пласціны-ўкладышы, пласціны са скошаным рэтушшу краем і са скоблепадобнымі выемкамі, рубячыя прылады і іх нарыхтоўкі, пласціны і адшчэпы з участкамі рэтушы познемезалітычнага часу (6–5-е тыс. да н.э). Таксама маюцца адзінкавыя вырабы фінальнапалеалітычнай свідэрскай культуры (8600–7800 да н.э.), якія трапілі сюды, верагодна, са стаянкі-2.

С т а я н к а - 2 на З ад стаянкі-1, амаль насупраць моста цераз Аўгустоўскі канал, на высокай тэрасе левага берага канала. Памеры 160 × 50 м, выш. 9–10 м. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, прылады працы і сколы-нарыхтоўкі свідэрскай культуры фінальнапалеалітычнага часу.

С т а я н к а - 3 на З ад стаянкі-1, за 150 м на З ад моста праз Аўгустоўскі канал, на дарозе Асташа–Дзмісевічы, на дзюнападобным павышэнні левабярэжнай поймы канала. Памеры 100 × 30 м, выш. 0,5 м. Даследавана 16 м². Культ.



*Да арт.* ***Нямнова****. Агульны выгляд раскопу на стаянцы-1.*

пласт 0,5 м, слаба насычаны знаходкамі. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, адшчэп з рэтушшу, фр-ты кругавой керамікі. Датуецца эпохай мезаліту 8–6-га тыс. да н.э (культура Кунда), выкарыстоўвалася і ў эпоху позняга сярэдневякоўя.

Стаянка-4 (крэменеапрацоўчая майстэрня) на З ад стаянкі-1, за 0,5 км на З ад моста цераз Аўгустоўскі канал, на дарозе Асташа – Дзмісевічы, на дзюнападобным павышэнні левабярэжнай поймы канала. Памеры 80 × 50 м, выш. 0,5 м. Даследавана 24 м². На глыб. 0,3 м ад сучаснай дзённай паверхні былі выяўлены рэшткі крэменеапрацоўчай майстэрні: акруглая ў плане яма дыям. каля 0,7 м, запоўненая шэражоўтым пяском з вял. колькасцю крамянёвых артэфактаў (152 адз.): канкрэцыі, нуклеусы, адшчэпы, пласціны, каменныя адбойнікі (2 цэлыя і 1 пашкоджаны).

У культ. пласце знойдзены 1763 артэфактаў: адшчэпы, пласціны, лускі, абломкі, адна-, двухпляцовачныя і аморфныя нуклеусы (46), укладыш да сярпа і цясла. Матэрыялы датуюцца познім неалітам – раннім перыядам бронзавага веку (магчыма, кола культуры шнуравой керамікі 2-й пал. 3-га – 1-й чв. 2-га тыс. да н.э.). Крамянёвая сыравіна здабывалася ў мелавых выхадах на супрацьлеглым беразе Аўгустоўскага канала каля помнікаў Асташа 2 і 3. *В.Л.Лакіза.*

**НЯМЦÓЎ** Аляксандр Гаўрылавіч (29.8.1898, Гомель – 1942), беларускі краязнавец. Скончыў настаўніцкую семінарыю (1917), Маскоўскі педагагічны ун-т (1933). Працаваў настаўнікам у школе ў г. Асіповічы Магілёўскай вобл. Абследаваў археал. помнікі каля вёсак Зборск, Жужлянка, Араны, Азярышча, Паплавы і інш. Асіповіцкага р-на, збіраў фальклорна-этнагр. матэрыялы па гісторыі свайго раёна. У 1938 рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957.

*Тв.*: 1. Экскурсія вучняў Асіповіцкай сямігодкі // Наш край. 1925. №2. С. 21–25. 2. Праца па абследаванні Асіповіцкага раёну ў летні перыяд 1926 году // Наш край. 1926. №12. С. 69–71. 3. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне // Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Краязнаўчае апісанне. Мінск, 1928. Выпуск 2. С. 79–88.

*Літ.*: Качановіч П. Аляксандр Нямцоў: да 100-годдзя з дня нараджэння) // Падарожнік. 1998. №6.

*Л.Г.Марковіч.*

**НЯРÁЖ**, археалагічны помнік – стаянка *свідэрскай культуры* фінальнага палеаліту каля в. Нярраж Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл. За 1,5 км на У ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Рдзіца, пры выхадзе яе на пойму Дняпра, у лесе. Адкрыў у 1977 і даследаваў 67 м² у 1980–83 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт залягае ў светла-жоўтым пяску на глыб. 0,2–0,5 м. Інвентар прадстаўлены 1086 адз. з крэйдавага цёмна-шэрага



*Да арт.* ***Нярраж****. Наканечнікі стрэл (1–2), вастрыі і праколка (3–5), скрабкі (6–9), разцы (10–12), нуклеусы (13–14).*

крэменю (адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, лускавінкі); 143 прыладамі працы (вербалісты і чаранковы наканечнікі стрэл, канцавыя і з «шыпам» скрабкі, рэтушныя, двухгранныя і на вугле зламанай нарыхтоўкі разцы, праколкі, вастрыі, вырабы з выемкай і сякучыя прылады). Стаянка была сезонным лагерам стараж. паляўнічых і рыбаловаў. Бліжэйшымі аналагамі з'яўляюцца археал. комплекс Новага Быхава і стаянка Горкі Чэрыкаўскага р-на.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Его ж. Археологические памятники Быховского района Могилевской области. Могилев, 1995; Его ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998.

*В.Ф.Капыцін, А.У.Коласаў.*

**НЯСВÍЖ**, горад, цэнтр Нясвіжскага р-на, на р. Уша (прыток Нёмана). За 112 км на ПдЗ ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск–Баранавічы. Аўтадарогамі звязаны з Баранавічамі, Клецкам, Навагрудкам, Стоўбцамі і аўтамагістраллю Мінск–Слуцк.

У пісьмовых крыніцах Н. упершыню згадваецца ў 1446, калі вял. кн. літ. Казімір IV Ягелончык перадаў яго М.Неміровічу, а да таго «Сляўка трымаў». З 1492 «двор Нясвіж» уласнасць мар-

шалка ВКЛ П.Я.Мантыгірдавіча. У пач. 16 ст. перайшоў да Кішкаў, з 1523 – да Радзівілаў. У 1547 з атрыманнем М.Я.Радзівілам Чорным княжацкага тытула Н. стаў цэнтрам Нясвіжскага княства. У 1586 па ініцыятыве М.К.Радзівіла Сіроткі атрымаў магдэбургскае права; была ўтворана т.зв. нясвіжская ардынацыя. Падчас Паўн. вайны 1700–21 у 1706 шведы спалілі горад і разбурылі замкавыя ўмацаванні. Адраджэнне Н. пачалося з 1720-х г. пры М.К.Радзівілу Рыбаньку. У 17–18 ст. Н. – значны эканам. і культ. цэнтр ВКЛ. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі.

Ранняя гісторыя Нясвіжа адлюстравана слаба. Асн. археал. матэрыялы на яго тэр. адносяцца да 16–18 ст. Аднак у 4 км на З ад горада паміж вёскамі Качановічы і Слаўкава знаходзіцца гарадзішча Замкавішча 12 – пач. 16 ст., памерамі 40 × 70 м, на якім у 1953 праводзіў даследаванні А.Р.Мітрафанаў (36 м$^2$). Побач селішча 12 – пач. 16 ст., пл. 4 га, раней існаваў і курганны могільнік. Мяркуецца, што на гарадзішчы размяшчаўся «двор Нясвіж», вядомы па пісьмовых крыніцах з 15 ст. У пач. 16 ст. ён быў перанесены ў раён сучаснага Старога парку ў Н., на пагорак на мысе (утвораны р. Уша і дрыгвяным масівам з правага боку), дзе пабудавалі *Нясвіжскі драўляны замак*. Адначасова пачалося фарміраванне паселішча крыху ніжэй гэтага замка на правым беразе Ушы, на перакрыжаванні шляхоў з Навагрудка ў Слуцк і з Мінска ў Клецк, якое паступова пераўтварылася ў горад Н. З 2-й пал. 1580-х г. пачалася яго перабудова ў адпаведнасці з распрацаваным рэгулярным планам, што да 1616 пераўтварыла яго ў горад-крэпасць. На левым беразе Ушы ў к. 16 ст. стала фарміравацца Новае месца. Горад атрымаў



*Да арт.* ***Нясвіж.*** *Посуд 17—18 ст.: фаянсавая талерка (1), фляга (2), шкляніца (3), гліняная макотра (4) (з раскопак Дз.А.Каваленкі, 2003).*

прамавугольную сістэму планіроўкі з невял. кварталамі. Планіроўка цэнтр. часткі Н. захавалася да сённяшніх дзён. Археал. даследаванні на тэр. Н. праводзіліся на былой Гандл. плошчы, каля т.зв. «дома на рынку», ратушы, касцёла, Слуцкай брамы і мелі гал. чынам архіт. кірунак (вывучаліся канструкцыйныя асаблівасці будынкаў, былі выяўлены падмуркі крам, калодзеж на рынку). Даследаванні праводзілі І.М.Чарняўскі (1984–85), А.К.Краўцэвіч, І.І.Сінчук (1988–89), І.У.Ганецкая (1996), В.Е.Собаль (1997–98), А.В.Іоў (2001), Дз.А.Каваленка (2003–04), А.А.Мяцельскі (2005). Культ. слой у цэнтры горада дасягае 3 м і ўтрымлівае матэрыялы 16–18 ст. – ганчарны посуд, кафлю, металічныя прадметы. Унікальнай знаходкай з'яўляецца грашовы клад з 1882 манет (барацінкі, рускія капейкі), зарыты падчас разбурэння горада шведамі ў 1706. З фартыфікацыйных збудаванняў горада 16–18 ст. захаваліся мурававая вежа 16 ст. каля былога езуіцкага касцёла і Слуцкая брама; бастыён выш. каля 5–5,5 м і шыр. каля падэшвы 17 м каля бенедыкцінскага кляштара на беразе Дзявочага става. Другі бастыён (размешчаны побач) захаваўся часткова, а бастыён каля бернардзінскага кляштара моцна пашкоджаны сучаснай забудовай. Каля былога Бернардзінскага става прасочваюцца абрысы сажалак, што выкарыстоўваліся для напаўнення вадой рова вакол горада.

*Літ.*: Чарняўская Л., Чарняўскі І. Нясвіж // ПГКБ. 1987. №2; Коваленко Д.А. Историко-топографическое развитие городов Радзивиллов Копыси и Несвижа // МАБ. 2003. № 9; Иов О.В. Несвижский монетный клад 2002 года // Восточная Европа в древности и средневековье: докл. междунар. конф., посвящ. 75-летию профессора Э.М.Загорульского и 30-летию кафедры археологии и специальных исторических дисциплин БГУ. Минск, 16 января 2004 г. Минск, 2004; Мяцельскі А. Да пытання пра лакалізацыю Нясвіжа XI – пачатку XVI ст. // БГЧ. 2006. №1; Соболь В.Е. Археалагічныя даследаванні ў Нясвіжы ў 1997–1998 гг. // Мастацкая спадчына Нясвіжа: матэрыялы міжнар. навук. канф. Нясвіж, 2006.

*А.А.Мяцельскі.*

**НЯСВІ́ЖСКІ БАСТЫЁННЫ ЗА́МАК**. Пабудаваны ў апошняй чв. 16 – пач. 17 ст. пры кн. М.К.Радзівілу Сіротку на ПнУ ад г. Нясвіж, на мысе, утвораным берагам р. Уша і дрыгвяным масівам. Першапачатковы варыянт замка адлюстраваны на гравюры Т.Макоўскага.

Археал. даследаванні праводзілі І.М.Чарняўскі (1984–85), В.Е.Собаль (1998), А.А.Мяцельскі (2001–10). Замак у плане меў чатырохвугольную форму, памерамі 170 × 120 м, быў акружаны гліняным валам з бастыёнамі па вуглах, сухім абарончым ровам, гласісам (умацаванай дарогай) па знешнім перыметры рова і равелінам перад уваходам на замкавы мост. Культ. пласт захаваўся толькі на фартыфікацыйных збудаваннях, на замкавым падворку – адсутнічае. Перад уваходам

на замкавы мост існаваў зямляны рэдут, аддзелены ад астатняй тэр. ровам шыр. да 8 м і глыб. 2 м. Сухі роў вакол замка быў абмураваны з абодвух бакоў цаглянай сцяной выш. да 4 м і таўшч. да 2 м. Шыр. рова каля бастыёнаў дасягала 22 м. Перад валам знаходзілася баявая пляцоўка шыр. да 4,5 м, прыкрытая мураваным брустверам з байніцамі. Ніжэй знаходзіліся арэльёны паўкруглай формы дыям. да 4 м з байніцамі для гармат. Выход на баявую пляцоўку перад валам ажыццяўляўся праз вароты ва ўязной браме і праз брамы каля ўсх. бастыёна замка. Туды ж вёў падземны ход (даўж. каля 25 м, шыр. 1,3 м, выш. 2,3 м) з «дома пушкара», што быў у зах. куце замкавага падворка. У цэнтр. частцы падземнага хода існуе шахта памерамі 1,3 × 1,3 м, якая вядзе да зах. бастыёна замка. Вал узвышаўся над узроўнем баявой пляцоўкі на 7 м і меў шыр. каля падэшвы да 20 м. На яго можна было трапіць па пандусах, якія выводзілі з замкавага падворку на ўсх., паўд. і зах. бастыёны. Да паўн. бастыёну вёў спец. праход у будынку гараднічага. Пандус з замкавага двара каля ўязной брамы меў шыр. каля 3 м. На бастыёнах замка знаходзіліся пабудовы для варты. У сістэме абароны замка існаваў падземны ход (даўж. 42 м, шырыня 1,3 м, выш. 1,6–2,3 м) з замкавага двара ў абарончы роў. Адначасова ў гэты падземны ход з замкавага двара вёў мураваны канал шыр. 0,9 м і выш. 0,6 м ліўневай каналізацыі. Яшчэ адзін такі канал памерамі 0,4 × 0,6 м вёў з замкавага падворку ў роў пад паўн.-ўсх. галерэяй 18 ст.

Замак вытрымаў аблогі рус. войск у 1655 і 1660, пры гэтым моцна пацярпеў. Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 фартыфікацыйныя збудаванні замка былі значна ўзмоцнены, бастыёны прыпадняты на 1,5 м і падоўжаны на 7 м. Адначасова ў 2-й пал. 17 ст. ў дадатак да рэдута каля ўвахода ў замак, перад замкавым ровам былі насыпаны 3 новыя трохвугольныя бастыёны, якія спалучаліся з рэдутам перад уваходам і стваралі другую 8-вугольную лінію бастыённых умацаванняў. На супрацьлеглым баку р. Уша быў узведзены так званы тэт-дэ-пон, які прыкрываў падыходы да Слаўкаўскай грэблі. Тады ж пачалі напаўняць замкавы роў вадой. Магчыма, аўтарам ідэі і праекта па ўзмацненні Н.б.з. ў 2-й пал. 17 ст. быў архітэктар і фартыфікатар Т.Спіноўскі.

Падчас падзей Паўн. вайны 1700–21 у 1706 гарнізон замка, не чакаючы штурму, адчыніў вароты шведскім войскам. На працягу 2 тыдняў апошнія знішчалі мураваную фартыфікацыю замка, ад чаго асабліва пацярпела абкладка рова каля бастыёнаў, быў цалкам знішчаны арсенал. Пасля 1726 адноўлены і перабудаваны, мураваныя бастыёны заменены землянымі ўмацаваннямі. Як фартыфікацыйнае збудаванне замак больш не выкарыстоўваўся. У 1767 складаўся з палаца і дапаможных карпусоў абапал уязной брамы. Злева і справа ад замкавай брамы па-за межамі ўмацаванняў каля ставоў былі 2 комплексы жылых, гасп., і вытворчых пабудоў. З 2001 вядзецца рэстаўрацыя замка.

*Літ.*: Markowski F. Zamek Mikołaja Krzysztofa Radziwiła Sierotki w Nieświeżu // Kwartalnik architektury i urbanistyki. 1964. №9, żesz. 2; Gruszecki A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu // Там жа. 1965. №10, żesz. 2.

*А.А.Мяцельскі.*

**НЯСВІ́ЖСКІ ДРАЎЛЯ́НЫ ЗА́МАК**. Існаваў у 1-й пал. – 3-й чв. 16 ст. Пабудаваны пры ўладальніках Кішках, перабудаваны пры Радзівілах. Археал. не даследаваны і вядомы толькі дзякуючы гравюры Т.Макоўскага з выявай Нясвіжа, дзе паказаны пад назвай «Domus capitanei» – «Дом старасты». Размяшчаўся на ўзгорку на тэр. сучаснага Старога парку Нясвіжа.

Меў чатырохвугольную форму з 4 3-яруснымі вежамі па вуглах і ўязной брамай з паўн.-ўсх. боку. Тэр. замка была занята будынкамі: каля паўд.-зах. сцяны стаяў 2-павярховы княжацкі палац з 2 рызалітамі і ганкам з 1-скатным дахам паміж імі. Каля ўсх. сцяны замкавага падворку быў 2-павярховы будынак, а ў цэнтры – базіліка. Уздоўж зах. сцяны замка стаялі яшчэ некалькі 1-павярховых будынкаў. У інвентары Нясвіжскага княства 1628–29 «Domus capitanei» ўжо не згадваецца, верагодна, да гэтага часу яго будынкі былі разабраны. Пагорак, на якім стаяў замак, існаваў яшчэ ў к. 18 ст. *А.А.Мяцельскі.*

**НЯСІ́ЛАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў у ваколіцах в. Нясілавічы Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.

Першыя археал. матэрыялы ў ваколіцах вёскі выявіла ў 1959 Н.М.Гурына. Каля 10 помнікаў з рознакультурным матэрыялам каменнага і бронзавага вякоў былі лакалізаваны на левабярэжжы Нёмана і ў вусці Моўчадзі. У 1980-я г. помнікі абследавалі М.М.Чарняўскі, у 1990-я г. В.Л.Лакіза. У гэтай мясцовасці вядомы каля 12 стаянак, у т.л. стаянка-11 з матэрыяламі свідэрскай фінальнапалеалітычнай культуры. Сярод астатніх найважнейшымі з'яўляюцца Нясілавічы-1, 2, 6, 12.

С т а я н к а - 1 мезаліту і бронзавага веку на паўн. ускраіне вёскі, на высокай дзюне каля левага берага р. Моўчадзь, у месцы яе выхаду на левабярэжны поплаў Нёмана. Выявіла ў 1959 Н.М.Гурына, даследаваў (100 м²) у 1982 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,3 м, месцамі перакрыты навеяным пяском. Знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы каменнага веку, у т.л. ланцэтападобныя вастрыі яніславіцкага тыпу, пласціны, разцы, рэжучыя прылады на пласцінах, аднапляцовачныя нуклеусы. Датуецца 6–5-м тыс. да н.э. Абследаваў у 1997 і 1999 В.Л.Лакіза. Знойдзены крамянёвыя прылады і ляпная арна-

ментаваная кераміка ранняга перыяду бронзавага веку. Помнік датуецца 6–2 тыс. да н.э., адносіцца да яніславіцкай культуры і тшцінецкага культурнага кола.

С т а я н к а - 2 неаліту за 0,5–0,7 км амаль на З ад вёскі і шашы Дзятлава–Ліда, 0,1–0,15 км на З ад гасп. пабудоў, пад высакавольтнай лініяй электраперадач, на дзюне левабярэжнай поймы р. Нёман. Выявіла Н.М.Гурына, абследавалі М.М.Чарняўскі, В.Л.Лакіза. Знойдзены крамянёвыя вырабы і фр-ты ляпной керамікі нёманскай культуры, кола культуры шнуравой керамікі.

С т а я н к а - 6 эпохі неаліту за 1,5 км на З ад вёскі і за 0,2 км на Пд ад стаянкі-2, на мысе тэрасы, над зараслай даўняй старыцай Нёмана. Памеры 300 × 50 м. Выявіла і абследавала ў 1959 Н.М.Гурына. У 1977 і 1982 М.М.Чарняўскі ўскрыў 100 м². Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены агнішчы з невял. колькасцю камянёў, крамянёвыя прылады працы, фр-ты керамікі прыпяцка-нёманскай культуры, сярэдневяковыя ямы-дзягцярні. Датуецца 4-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 1 2 канца мезаліту, неаліту і бронзавага веку за 1,3–1,5 км на З ад вёскі, на паўд.-зах. краі дзюны левабярэжнага поплаву Нёмана. Пл. каля 2 га. Выявіла ў 1959 Н.М.Гурына, даследаваў у 1982 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,5 м. На пл. 900 м² выяўлены рэшткі агнішчаў-кастрышчаў і агнішчаў, выкладзеных камянямі, гумусаваныя паглыбленні, шматлікі і разнастайны крамянёвы інвентар, ляпная арнаментаваная кераміка прыпяцка-нёманскай, нёманскай, кола культуры шнуравой керамікі і тшцінецкага культурнага кола, ранняга перыяду жал. веку. Датуецца 6–1-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Г у р и н а Н.Н. Новые данные о каменном веке северо-западной Белоруссии // Палеолит и неолит СССР. М.; Ленинград, 1965. Т. 5; Ч а р н я ў с к і М.М. Яніславіцкая культура // Археалогія Беларусі. Мінск, 1997. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі; Л а к і з а В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.*

**НЯСЯ́ТА**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Нясята Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл. За 0,5 км на У ад вёскі. Захавалася 20 насыпаў (было 40), з іх 2 насыпы выш. каля 2 м, дыям. каля 15 м, астатнія – выш. каля 1 м, дыям. 6–7 м, вакол некаторых прасочваюцца раўкі. Выявіў і даследаваў 5 курганоў у 1892 У.З.Завітневіч. пахавальны абрад – трупапалажэнне, галавой на З і ПнЗ. Знойдзены пярсцёнак. У 1978 абследаваў П.Ф.Лысенка. У 1997 Л.У.Дучыц даследавала 4 курганы. Пахаванні на гарызонце, арыентаваны галовамі на З. У адным з курганоў выяўлены жаночае і дзіцячае пахаванні. Сярод знаходак дротавыя скроневыя кольцы, шкляныя цыліндрычныя ажурныя з белага металу і зярнёныя з каляровага металу пацеркі. Датуецца 11–12 ст.

*Літ.*: З а в и т н е в и ч В.З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины // Отчет Археологической комиссии за 1892 год. Санкт-Петербург, 1894; Д у ч ы ц Л.У., Д з я р н о в і ч С.Д., К о ш м а н В.І. Раскопкі курганных могільнікаў каля вёсак Патока і Нясята Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці // МАБ. 2001. Вып. 3.

*Л.У.Дучыц.*



**ÓПАЛЬ**, археалагічныя помнікі – стаянкі і крамянёвая майстэрня каменнага веку каля в. Опаль Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.

Стаянка-1 за 2,5 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Ясельда. Даўж. каля 400 м, выш. над поймай ракі 2–3 м. Выявіў і даследаваў у 1971, абследаваў у 1986 У.Ф.Ісаенка. Знойдзена 800 вырабаў з крэменю, у т.л. 160 пласціністых наканечнікаў стрэл, разцоў, скрэблаў, нажоў. Стаянка адносіцца да *свідэрскай культуры* і датуецца 9–5-м тыс. да н.э. У зах. частцы стаянкі знойдзены абломкі неалітычных гаршкоў, зерняцёрка, абломкі ляпной керамікі, а таксама рэшткі могільніка з абрадам трупаспалення ранняга жал. веку.



*Крамянёвыя вырабы з паселішча-7* ***Опаль.***

Стаянка-2 і крамянёвая майстэрня за 1,5 км на У ад вёскі, на паўн. схіле і ў верхняй частцы лагчыны, якая ўтварылася на паверхні марэннага ўзвышша. Даўж. стаянкі каля 400 м, выш. над поймай ракі 4–6 м. Выявіў і даследаваў у 1963, абследаваў у 1986 і 1990 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены рэшткі агнішчаў, абкладзеных камянямі, 1400 апрацаваных крамянёў, сярод іх макраліты – буйныя трапецападобныя і авальныя сякеры, 3-гранныя пікі, свідэрскія і тыпу Лінгбі наканечнікі, грубыя разцы, скрэблы, скоблі і інш. Нагрувашчванні крамянёвых адшчэпаў і нуклеусаў сведчаць пра існаванне тут майстэрні па апрацоўцы крэменю. Стаянка і майстэрня адносяцца да эпохі мезаліту, шэраг знаходак – да *Лінгбі культуры.*

Стаянка-3 за 1 км на У ад вёскі, на зах. краі лагчыны. Даўж. каля 150 м. Выявіў у 1963, абследаваў у 1986 У.Ф.Ісаенка. Адносіцца да *нёманскай культуры.*

Стаянкі 5–11 знойдзены ў 2001 А.Г.Калечыц, В.Л.Лакізам і В.С.Абухоўскім ў час разведак на тэр. Зах. Палесся.

Стаянка-5 перыяду фінальнага палеаліту за вёскай, з правага боку дарогі з вёскі да фермы. Займае паўн. схіл лагчыны. Памеры 40 × 100 м. Паўн.-ўсх. частка знішчана кар'ерам. У 2001 знойдзены пласціны, адшчэпы, рэтушны разец на пласціне, фр-т двухпляцовачнага нуклеуса, фр-ты пласцінак, знятых з такіх нуклеусаў, і інш. У 2002 А.Г. Калечыц і В.С. Абухоўскім сабрана 1318 артэфактаў: 1189 расшчапаных крамянёў і 129 фр-таў керамікі. Да *валкушанскай культуры* адносяцца двухпляцовачныя монафранталь-

ныя нуклеусы без дадатковай апрацоўкі бакоў і контрфронту, аднапляцовачныя нуклеусы ад пласцін і адшчэпаў, частка разцоў і скрабкоў, тронкавы наканечнік стралы без плоскай падцёскі чарашка з брушка; да свідэрскай культуры – двухпляцовачныя з дадатковай апрацоўкай бакоў і контрфронту нуклеусы, вербалісты наканечнік стралы з плоскай падцёскай з брушка, пласціна са скошаным рэтушшу канцом, скрабкі, разцы і некаторыя рубячыя прылады. Прысутнічаюць матэрыялы бронзавага веку: шматпляцовачныя нуклеусы ад пласцін і адшчэпаў, лушчні і ўкладышы, выкананыя з нерэгулярных пласцін і пласціністых адшчэпаў. У далейшым на помніку пакінула свае сляды насельніцтва вёскі, якое жыло тут ад позняга сярэдневякоўя да сучаснасці.

Стаянка-6 перыяду фінальнага палеаліту на беразе былога ручая. Амаль поўнасцю знішчана ў час будаўніцтва жывёлагадоўчай фермы.

Стаянка-7 за 1,5 км на ПдУ ад фермы, на беразе невял. рэліктавага возера. Памеры 30 × 150 м. У 2001 сабраны фінальнапалеалітычныя вырабы: рэтушны разец, канцавыя скрабкі, адшчэпы, пласцінкі, у т.л. знятыя з двухпляцовачных нуклеусаў і інш. У 2002 А.Г. Калечыц і В.С. Абухоўскім сабрана 2297 артэфактаў: 1995 расшчапаных крамянёў, 290 фр-таў керамікі, 8 камянёў і 4 вырабы з жалеза. Здабытыя матэрыялы адносяць да 2 рознaчасовых комплексаў: фінальнапалеалітычнага і бронзавага веку. Першы прадстаўлены знаходкамі, тыповымі для свідэрскай культуры: двухпляцовачнымі монафрантальнымі нуклеусамі сустрэчнага сколвання з дадатковай апрацоўкай бакоў і контрфронту, скрабкамі і разцамі, сколамі-нарыхтоўкамі. Другі комплекс прадстаўлены сэрцападобным наканечнікам стралы і 2 фр-тамі нарыхтовак сярпоў. Сярод рэштка ў посуду 19–20 ст. толькі 3 невыразныя кавалачкі сценак ляпнога посуду.

Стаянка-8 часу фінальнага палеаліту на мысе, утвораным левым берагам ручая і тэрасай паўн. берага возера. На дзюне рэшткі традыц. купальскага вогнішча. Памеры 30 × 40 м.

Стаянка-9 часу фінальнага палеаліту на мысападобным выступе схілу правабярэжнай тэрасы ручая, за 100–150 м ад месца вытоку ручая з возера. На памеры 50 × 80 м знойдзена некалькі двух- і аднапляцовачных нуклеусаў, абпаленыя прылады, адходы вытворчасці. Помнік разворваецца.

Стаянка-10 на мысе, які ўтвораны правым берагам ручая і паўн.-ўсх. тэрасай возера. На памеры 50 × 60 м сабраны матэрыялы фінальнага палеаліту і жал. веку: прануклеусы, монафрантальныя нуклеусы, цясла і нарыхтоўка рубячай прылады, адшчэпы, пласцінкі і інш. артэфакты, фр-ты сценкі пасудзіны жал. веку. Помнік разворваецца.

Стаянка-11 часу фінальнага палеаліту за 50 м на У ад стаянкі-10. Знойдзены нарыхтоўка нуклеуса, рэтушны разец, скобля на пласціне, пласціны, у т.л. рэтушаваныя, адшчэпы і інш. артэфакты.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Мезолит и неолит Припятского Полесья // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Яго ж. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка, А.Г.Калечыц.*

**ÓПСА**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў 9 – 1-й пал. 11 ст. каля в. Опса Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 3 км на Пд ад вёскі ў лесе, злева ад шашы Браслаў–Відзы. Каля 80 паўсферычных, круглых у плане насыпаў дыям. 5–10 м, выш. 0,8–2 м. Вакол многіх насыпаў бачны раўкі. Найб. высокія курганы сканцэнтраваны ў паўн. частцы могільніка. Вядомы з к. 19 ст. У 1893 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 11 курганоў. Абследавалі ў 1972 М.М.Чарняўскі, у 1980 Л.У.Дучыц, у 2009 М.А.Плавінскі. У 1996 Л.У.Дучыц даследавала 1 курган, у 1996 В.Н.Рабцэвіч і А.М.Плавінскі – 5. У аснаванні насыпаў попельныя праслойкі. Пахавальны абрад – трупаспаленне (12), трупапалажэнне (3). Рэшткі здзейсненых па-за межамі курганоў крэмацый змешчаны ў мацерыковых ямках (1), на гарызонце (6), у насыпе (3), на вяршыні (2). Знойдзены: ляпныя і раннекругавыя гаршкі; бронзавыя ўпрыгажэнні, пашкоджаныя агнём (фр-ты бранзалета, шыйных грыўняў, бранзалетападобных скроневых кольцаў, ланцужкоў, спіральных пранізак, трохдзіркавыя ланцугатрымальнікі, трапецападобныя падвескі, гузікі); аплаўленыя шкляныя пацеркі жоўтага і блакітнага колеру; жал. нажы, спражка, ігла, крэсіва. Пахаванні па абрадзе трупапалажэння змешчаны на гарызонце, галовамі на У, ПдУ і З. Пахавальны інвентар – ляпны і кругавы гаршкі, сякера. Матэрыялы раскопак Ф.В.Пакроўскага захоўваюцца ў Нац. музеі Літвы, Л.У.Дучыц, В.Н.Рабцэвіча і А.М.Плавінскага – у Браслаўскім раённым аб'яднанні краязнаўчых музеяў.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1; Плавінскі А.М., Плавінскі М.А. Раскопкі курганнага могільніка Опса // МАБ. 2005. № 9.

*М.А.Плавінскі, А.М.Плавінскі.*

**ÓРЛАВІЧЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля б. в. Орлавічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,9 км на ПдУ ад вёскі, на могілках. 52 насыпы (некалькі спараных) выш. 0,8–1,6 м, дыям. 4–8 м. Даследавалі ў 1930-я г. польскі археолаг Р.Якімовіч і заснавальнік Слонімскта краязнаўчага музея І.І.Стаброўскі (некалькі курганоў), у 1965 П.Ф.Лысенка і В.Р.Супрун (3 курганы ва ўсх. частцы могільпіка). Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З у ямах глыб. 0,3 м або ў насыпах на выш. 0,2–0,4 м. У адным кургане былі 4 рознaчасовыя пахаван-

ні: 2 мужчынскія, жаночае і дзіцячае, магчыма, з адной сям'і.

Пры самым раннім (мужчынскім) пахаванні выяўлены рэшткі дашчанай труны. Знойдзены маленькія ганчарныя гаршчочкі з лінейным арнаментам, бронзавыя абцужкі, плеценыя каралі дрыгавіцкага тыпу і шкляныя бочкападобныя пазалочаныя знутры пацеркі; у адным кургане – рэшткі жал. абруча з драўлянага вядра і фр-ты ганчарнага посуду, наверсе насыпу былі камяні. У жаночым пахаванні знойдзена лівонская манета 16 ст. з сярэбранага сплаву. Могільнік датуецца 11–17 ст.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971; Stabrowski J. Notatki archeologiczne z powiatu Słonimskiego // Wiadomości Archeologiczne. Warszawa, 1937. T. 13.

*В.Р.Супрун.*



*Да арт. **Орша**. Старажытнае гарадзішча. Сучасны выгляд.*

**ÓРША**, горад, цэнтр Аршанскага р-на Віцебскай вобл., на р. Дняпро пры ўпадзенні ў яго р. Аршыца, за 93 км на Пд ад Віцебска. Вузел чыгунак і аўтадарог на Мінск, Магілёў, Крычаў, Смаленск, Віцебск, Лепель.

Упершыню пад назвай «Рша» згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 у сувязі з захопам у палон полацкага князя Усяслава Брачыславіча і яго сыноў кіеўскімі князямі «на Ршы у Смалінська». Умацаванні першапачатковага гарадзішча О. адносяцца да пач. 12 ст. (гл. *Аршанскія гарадзішча і замак*). Горад (крэпасць) Полацкай зямлі на правым беразе р. Дняпро быў збудаваны амаль адначасова з пабудовай насупраць яго на левым беразе ракі смаленскімі князямі памежнай крэпасці Копысь. З падзелам Полацкай зямлі на княствы-ўдзелы О. з воласцю ўвайшла ў склад Віцебскага княства. З пачатку княжання ў Віцебску Альгерда Гедзімінавіча (1320) О. ў складзе Віцебскай зямлі далучана да ВКЛ. У к. 14 – пач. 15 ст. тут быў узведзены замак. У 16–17 ст. пад час ваенных дзеянняў горад неаднаразова разбураўся. З 1560-х г. О. – дзярж. ўладанне, цэнтр павета. Значнае развіццё атрымалі рамяство і гандаль. Паводле няпоўных даных, у 16 ст. тут існавалі 23 віды рамёстваў, у 17 ст. – 26, у пач. 18 ст. – 49, у 2-й пал. 18 ст. – 52. У сяр. 17 ст. каля 5 тыс. жыхароў. Горад займаў выгоднае становішча на водным шляху па Дняпры. Меў гандл. сувязі з Расіяй, Польшчай, Прыбалтыкай, Украінай, з'яўляўся транзітным цэнтрам, пачатковым пунктам вял. гандл. шляху – «гостинца купеческого», які праходзіў па тэр. Беларусі з Рус. дзяржавы ў Польшчу і Прыбалтыку. У 1620 О. атрымала магдэбургскае права. У 1623 засн. *Аршанскі Куцеінскі Богаяўленскі манастыр*, у 1631 – жаночы Успенскі манастыр, у 1661 – *Аршанская царква Раства Багародзіцы* і інш. У 17 ст. О. была адным з буйных мастацкіх цэнтраў Беларусі. У сяр. 17–18 ст. горад моцна пацярпеў у войны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67, Паўн. 1700–21, паступова прыйшоў у заняпад. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) О. далучана да Расійскай імперыі.




***Орша** 17 ст. 1, 2 – замак, 3 – пасад Зааршынны, 4 – пасад Наднятроўскі, («земляны горад»), 5 – слабада Ільінская, 6 – слабада Куцеінская і Куцеінскі манастыр (рэканструкцыя В.М.Ляўко).*

Археал. даследаванне аршанскага гарадзішча ў 1928 праводзіў А.М.Ляўданскі, у 1965–67 Ю.І.Драгун. З 1988 археал. помнікі О. вывучае В.М.Ляўко. Яна даследавала звыш 3000 м² на тэр. гарадзішча, замчышча, *Аршанскіх пасадаў і слабод*; вывучала помнікі культавай архітэктуры: Куцеінскі Богаяўленскі манастыр, *Аршанскі ка-*



*Да арт.* ***Орша****.*
*1 — талерка, 2 — паліваная кафля з гербам горада, 3 — тэракотавая кафля (усе 17 ст.).*

*легіум езуітаў, Аршанскі базыльянскі манастыр, Аршанскі кляштар дамініканцаў,* царкву Раства Багародзіцы, гар. могілкі 12—18 ст.; адкрыла частку рэштак пабудовы каралеўскага палаца на тэр. замка. Выяўлена значная колькасць прадметаў матэрыяльнай культуры 12—18 ст. Сярод іх калекцыі бытавой і архіт.-дэкаратыўнай керамікі, ганчарны горан 17 ст., вырабы з жалеза (гасп., ваеннага, бытавога прызначэння), шкла (мясц. і імпартныя упрыгажэнні), каляровых металаў, косці, скуры і інш.

*Літ.*: Левко О.Н. Средневековая Орша и ее округа: (историко-археол. очерк). Орша, 1993; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие. Минск, 2004.

*В.М.Ляўко.*



**ПАВЕ́ЗА**, прамавугольны шчыт з вертыкальным жолабам пасярэдзіне. Назва паходзіць ад італьянскага г. Павія. Працэс фарміравання П. як тыпу шчыта пачаўся ў к. 12 ст. ва ўсх. і паўд. Прыбалтыцы і суседніх тэр., у т.л. ў Беларусі. Прататыпамі П. сталі мадыфікацыі міндалепадобных шчытоў. На мяжы 13–14 ст. яны распаўсюдзіліся ў Мазовіі, на землях Тэўтонскага ордэна, у зах. і паўн.-зах. землях Русі, верагодна, у Польшчы. Канчатковае афармленне класічнай пяхотнай П. адносіцца да часу Гусіцкіх войнаў 1419–37. На тэр. Беларусі выява ранняй мадыфікацыі П. (без жолаба) сярод графіці з гарадзішча Маскавічы. У к. 14–16 ст. П. была адным з самых папулярных відаў шчытоў. Паводле Статутаў ВКЛ 1529 і 1566, з'яўлялася абавязковым элементам вайсковага рыштунку вершнікаў. Акрамя кавалерыйскіх экзэмпляраў, шырока ўжываліся і вял. пяхотныя П.і т.зв. «тарасы» – П. вышынёй у рост чалавека, забяспечаныя абсервацыйнымі адтулінамі. У к. 16 ст. выйшлі з баявога ўжытку.

*Літ.*: Плавинский Н.А. Из истории восточноевропейских щитов XII–XIV вв. (о времени возникновения и путях развития повезы) // Археология и история Пскова и Псковской земли: материалы 50 науч. семинара. Псков, 2004; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008; Denkstein V. Pavises of the Bohemian Type. II. The Origin and Development of Pavises in pre-Hussite Europe // Acta Musei Nationalis Pragae. 1964. Seria A. Historia. Vol. 18, № 3–4; Nowakowski A. Przyczynki do poznania tak zwanej zbroi mazowieckiej // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1973. R. 21, № 2.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*



*Выявы **павезы** на пячатцы Кейстута. 1379.*

**ПАВЕ́РХНЕВЫЯ ЗБО́РЫ**, спосаб правядзення археалагічнай разведкі, пры якім з паверхні зямлі (у асн. на месцах пашкоджання альбо разбурэння культ. пласта) збіраюць артэфакты, вызначаюць межы іх максімальнага і занальнага распаўсюджання, характар размяшчэння, у т.л. ў асобных аб'ектах. Часцей за ўсё для сістэматызацыі і дакладнай фіксацыі знаходак і аб'ектаў тэр. помніка разбіваюць на квадраты (паквадратныя П.з.). Сабраны матэрыял дазваляе скласці першаснае ўяўленне пра помнік, вызначыць перспектывы і мэтазгоднасць яго раскопак. У асобных выпадках, калі культ. пласт поўнасцю разбураны, а ўсе артэфакты знаходзяцца на паверхні зямлі (напр., на некаторых пясчаных раздувах Палесся), матэрыялы П.з. служаць практычна адзінай крыніцай інфармацыі пра археал. помнік.

*Літ.*: Методика полевых археологических исследований. М., 1983; Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**ПАГАРЭ́ЛЬШЧЫНСКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ**. Знойдзены на левым беразе р. Бярэзіна каля в. Пагарэльшчына Валожынскага р-на Мінскай вобл. ў 1955 (маса 4850,663 г). Рэчавая частка складалася з металічнай пасудзіны (бронзавы корпус з накладным верхнім медным абадком і жал. вушкамі для падвешвання); палавіннага фр-та сярэбранай *грыўні шыйнай*, звітай з 3 дроцікаў з конусападобнымі канцамі; сярэбраных фр-та і загатоўкі для бранзалета з 2 скаваных палос, чатырохграннай у сячэнні, скручанай у 2,2 вітка. Манетная частка складаецца з 1904 цэлых і фрагментаваных куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата.

Умаяды (15 экз.): Сулейман [715–717], Язід II [720–724], Хішам [724–743], Валід II [743–744], Мерван II [744–750] – манетны двор Васіт. Абасіды (902 экз.): ас-Сафах [750–754], ал-Мансур

[754–775], ал-Махдзі [775–785], ал-Хадзі [785–786], ар-Рашыд [786–809], ал-Амін [809–813], ал-Мамун [813–833], ал-Мутасім [833–842], ал-Васік [842–847], ал-Мутавакіль [847–861], ал-Мустансір [861–862], ал-Мустаін [862–866], ал-Мутаз [866–869], ал-Мутамід [870–892], ал-Мутадзід [892–902] – манетныя двары ал-Абасія, Андэраба, Армінія, Араджан, Аран, ал-Ахваз, ал-Басра, Бердаа, Васіт, Дзімешк, Іфрыкія. Ісбахан, Керман, ал-Куфа, Мах ал-Куфа, Маадэн, Баджунейс, Маадэн аш-Шаш, аш-Шаш, Мадынат Абрашэхр, Мадынат Балх, Мадынат Бухара, Мадынат Зерэндж, Мадынат Ісбахан, Мадынат Нісабур, Мадынат ас-Салам, Мадынат Самарканд, Мадынат Херат, Мерв, Міср, ал-Мубарака, ал-Мухамадыя, ар-Рафіка, Седжэстан, Сураман-Раа, Тыфліс, Фарыс. Саманіды (500 экз.): Ісмаіл ібн Ахмад (892–907) – манетныя двары Андараба, Бухара, Мерв, Самарканд, аш-Шаш. Абасіды або Саманіды (41 экз.): дырхемы дакладна не вызначаны з-за дрэннай захаванасці.

Абу-Давудзіды (5 экз.): Ахмад ібн Мухамад [892–923] – манетныя двары Балх, Пенджхір. Аглабіды (1 экз.): Зіядат-Алах I [817–838] – манетны двор Іфрыкія. Зайдзіды (1 экз.): Хасан ібн Зейд [864–884] – манетны двор Мадынат Джурджан. Сафарыды (29 экз.): Якуб ібн Лайс [879–900], Тахір ібн Мухамад [901–908] – манетныя двары Араджан, Нісабур, Пенджхір, Фарыс, Шыраз.

Перайманні куфіцкіх дырхемаў (351 экз.), дырхемы, нявызначаныя з-за дрэннай захаванасці (47 экз.), манеты фальшывыя пад абасідскі 2 экз., дырхем, неадчаканеныя манетападобныя пласцінкі [ал-Мансур, Мадынат ас-Салам, 771–772] дырхем, (10 экз.).

Скарб ухаваны ў 910-я г. (не раней 903). Захоўваецца ў Нумізматычным кабінеце гіст. ф-та БДУ (Мінск).

*Літ.*: Алексеев Л.В. Полоцкая земля: (очерки истории Северной Белоруссии IX–XIII вв. М., 1966; Кропоткин В.В. Новые находки сасанидских и куфических монет в Восточной Европе // Нумизматика и эпиграфика. М., 1971; Рабцэвіч В.Н., Стуканаў А.А. Манеты арабскага халіфата на тэрыторыі Беларусі // ПГКБ. 1973. № 4; Рябцевич В.Н. Дирхемы Арабского халифата в денежном хозяйстве Полоцкой земли (IX–X вв.) // Славяне и их соседи (Археология, нумизматика, этнология). Минск, 1998; Штыхаў Г.В. Манетныя і манетна-рэчавыя скарбы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII стст.). *В.Н.Рабцэвіч.*

**ПАГО́СТ ЗАГАРО́ДСКІ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага веку каля в. Пагост Загародскі Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

Стаянка-1 эпохі мезаліту за 2 км на З ад вёскі, на ўсх. беразе воз. Пагосцкае. Даўж. 80 м. Выявіў у 1967 У.Ф.Ісаенка. Знойдзена каля 50 мікралітычных вырабаў. У 1978 засыпана дамбай.

Стаянка-2 нёманскай культуры за 1 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бобрык. Даўж. 300 м. Выявіў у 1967 і даследаваў у 1967, 1987 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, абломкі ляпнога посуду.

Стаянка-3 за 2 км на ПнУ ад вёскі, за могілкамі, сярод хвойніку над поймай р. Бобрык. Даўж. 200 м, паверхня пашкоджана эрозіяй. Выявіў у 1966 і даследаваў у 1987 У.Ф.Ісаенка. Большасць знойдзеных на стаянцы крамянёвых прылад працы адносіцца да эпохі мезаліту.

Стаянка-4 нёманскай культуры за 3 км ад вёскі, на паўд. беразе воз. Пагосцкае. Даўж. 300 м. Даследаваў у 1967–70 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2 м. Выяўлены рэшткі жытла, больш за 110 прылад працы, у т.л. шліфаваныя каменныя сякеры, 800 апрацаваных крамянёў, фр-ты гаршкоў.

Стаянка-5 нёманскай культуры за 1,5 км на Пд ад вёскі, на паўд. беразе воз. Пагосцкае, на ўзгорку і надпоймавай тэрасе. Даўж. 350 м, выш. над узроўнем вады 5–7 м. Даследаваў у 1970–80 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2–0,5 м. Знойдзена 300 крамянёвых прылад працы, рэшткі ранненеалітычнага посуду і інш.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**ПАГО́ШЧА**, археалагічны помнік – курганны могільнік 7 – 1-й пал. 11 ст. каля в. Пагошча Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на ўсх. беразе воз. Бяржонка, у лесе. 15 паўсферычных курганоў дыям. 6–14 м, выш. 0,5–1,55 м. Выявіў у 1996 краязнавец В.Е.Бунта. У 2005–09 цалкам даследаваў М.А.Плавінскі (вывучана 1604 м² пл. могільніка). У структуры могільніка вылучаюцца 2 культ.-храналагічныя гарызонты.

Да 1-га гарызонту належыць курган № 9, у якім выяўлены рэшткі не менш 4 чалавечых крэмацый і рэшткі спаленых жывёл, якія змя-



*Кераміка з 2-га культурна-храналагічнага гарызонту курганнага могільніка **Пагошча**.*

ная падвеска, рэшткі галаўнога венчыка-вайнагі са свінцова-алавяністага сплаву, бронзавая і жал. шыйныя грыўні, шкляныя пацеркі, нажы, драўляны грабеньчык. Пры пахаваннях па абрадзе крэмацыі (3) знойдзены ляпныя гаршкі, бронзавыя трапецападобная падвеска, ланцугатрымальнік, бранзалет, скроневыя кольцы, глінянае праслiца, шкляныя, фаянсавыя і гліняныя пацеркі. Гэты гарызонт датуецца 2-й пал. 10 – 1-й пал. 11 ст. (найб. верагодна – апошнімі дзесяцігоддзямі 10 – першымі дзесяцігоддзямі 11 ст.) і звязаны з працэсам уваходжання зах. часткі Браслаўскага Паазер'я ў сферу ўплыву Полацкага княства і фарміраваннем цэнтра новай адміністрацыі. Могільнік належаў супольнасці, якая ўключала розных па паходжанні і этнакультурнай прыналежнасці членаў, дамінуючае становішча сярод іх займалі прадстаўнікі полацкай княжацкай адміністрацыі.

*Літ.*: Плавинский Н.А. Курганный могильник Погоща: результаты раскопок 2005–2006 годов // Lietuvos archeologija. Vilnius. 2008. T. 34; Яго ж. Курганны могільнік Пагошча: асноўныя вынікі раскопак 2005–2008 гадоў // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даслед. Наваполацк, 2009.

*М.А.Плавінскі.*



*Зброя з пахаванняў 2-га культурна-храналагічнага гарызонту курганнага могільніка* ***Пагошча.***

шчаліся ў драўлянай канструкцыі на вяршыні насыпу. Пры пахаваннях знойдзены фр-ты аплаўленых бронзавых упрыгажэнняў (бранзалетаў, спіральных пранізак) і слабапрафіляваны ляпны гаршчок. Належыць да культуры пскоўскіх (ранніх) доўгіх курганоў, датуецца 3-й чв. 1-га тыс. (верагодна – 7 ст.).

Да 2-га гарызонту адносяцца 15 пахаванняў у 10 курганах. Пахавальныя абрады – трупапалажэнне ў падкурганных ямах (7), на попельна-вугальным слаі на гарызонце (4), трупаспаленне (3). Пры мужчынскіх інгумацыях (7) знойдзены ляпны і кругавы посуд, драўляная чаша, коп'і, сякеры, нажы, калачападобныя крэсівы, ключы, замок, жал. і бронзавыя падковападобныя фібулы, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, гузікі, паясное кольца, вагі для ўзважвання серабра, набор гіракразнаваг, арабскія дырхемы і зах.-еўрап. дэнарыі, шыфернае праслiца. Пры жаночых і дзіцячых інгумацыях (5) знойдзены ляпны і кругавы посуд, бронзавыя скроневыя кольцы, ланцугатрымальнікі, бразготкі, спіральныя пранізкі, бранзалеты, пярсцёнкі, лірападобная спражка, трапецападоб-

**ПАДБЕ́ЛАЕ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Падбелае Гродзенскага р-на.

Стаянка-1 на паўд. і паўд.-ўсх. берагах воз. Малое Белае, недалёка ад упадзення ў яго р. Хамутоўка. Выявіў у 2002 В.С.Абухоўскі. Памеры 200 × 50 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы і пласціны, іх фр-ты, сколы, лускавіны, адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, нарыхтоўка рэтушнага разца, разцы, скрабкі, фр-ты тронкавых наканечнікаў стрэл эпохі фінальнага палеаліту, яніславіцкае вастрыё, ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі фінальнага палеаліту і мезаліту.

Стаянка-2 за 150 м на ПдЗ ад стаянкі-1. Памеры 50 × 20 м. Выявіў у 2002 В.С.Абухоўскі. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны і іх фр-ты, разец, цясла, шматпляцовачныя нуклеусы. Датуецца эпохай мезаліту.

Стаянка-3 за 300 м на ПдЗ ад стаянкі-2, на тэрасе выш. 8 – 10 м у месцы ўпадзення пратокі ў воз. Белае. Памеры 200 × 40 м. Выявіў у 2002 В.С.Абухоўскі. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы і пласціны, іх фр-ты, сколы, лускавіны, разцы, яніславіцкі трохвугольнік, укладыш тыпу Боркі, нуклеусы (шматпляцовачныя) і іх фр-ты. Датуецца эпохай фінальнага палеаліту і мезаліту.

*В.С.Абухоўскі, А.Ю.Ткачоў.*

**ПАДВАРЫ́НКА**, археалагічны помнік – гарадзішча культур штрыхаванай керамікі каля в. Падварынка Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

За 0,2 км на Пд ад вёскі, на паўд. канцы высокай грады, якая цягнецца з Пн на Пд уздоўж зах. берага Відзскага воз. Зах. частка пашкоджана дотамі і траншэямі часоў 1-й сусветнай

вайны. Памеры прыкладна 80 × 50 м. Штучныя ўмацаванні на паверхні адсутнічаюць. Помнік адкрыты ў 2009 В.П.Ходзюшам, у гэтым жа годзе А.А.Егарэйчанка даследаваў 100 м² у паўд. часткі грады. Культ. пласт 0,3–1,2 м. У ім сустракаюцца разрозненыя, зрэдку абпаленыя камяні даўж. 0,05–0,3 м у папярочніку. У паўн. частцы раскопу на глыб. 0,4 м выяўлена адкрытае вогнішча няправільнай авальнай формы памерамі 1,05 × 1,4 м, з таўшч. попельна-вугальнага слоя 0,05–0,15 м. Абломкі гліністага посуду належаць гал. чынам культурам штрыхаванай керамікі. Да *ранняй штрыхаванай керамікі культуры* адносяцца баначныя і слабапрафіляваныя пасудзіны з хаатычнай штрыхоўкай тулава, да *позняй штрыхаванай керамікі культуры* – рабрыстыя гаршкі, якія складалі асн. частку керамічнага комплексу. У нязначнай колькасці прадстаўлены баначныя гладкасценныя пасудзіны сяр. – 3-й чв. 1-га тыс. н.э. і кругавыя стараж.-рус. часу. На гарадзішчы знойдзены каменныя клінападобныя сякеры, абломкі свідраваных сякер і адтуліны, песты, долаты, касцяныя праколкі, шпілька, іголка, бронзавая спіральная пранізка, жал. нажы, рыбалоўны кручок, шылы, гліняныя прасліцы і грузікі, шкляная трайная пацерка-лімонка і інш. Датуецца к. 1-га тыс. да н.э. – пач. 1-га тыс. н.э. Перыядычна выкарыстоўвалася ў 2-й пал. 1-га – пач. 2-га тыс. н.э. *А.А.Егарэйчанка.*

**ПАДВЕ́СКІ**, від старажытных падвесных упрыгажэнняў да адзення (часцей жаночага), збруі і іншага начынання. З'яўляліся таксама амулетамі. П. найчасцей насілі разам з каралямі і пацеркамі, на ланцужках, шнурках, прышывалі на адзенне і інш.

У Беларусі найб. стараж. П. адносяцца да палеаліту (з зубоў лісіцы, ваўка і інш. жывёл). У бронзавым веку ўжываліся бурштынавыя П. з вял. адтулінай пасярэдзіне, а таксама медныя акулярападобныя П. *сярэднедняпроўскай культуры.* У жалезным веку пашыраны металічныя, каменныя, касцяныя і гліняныя П. круглай, трохвугольнай і трапецападобнай формы *мілаградскай культуры*; бронзавыя і жалезныя пласцінчастыя і трапецападобныя П. *зарубінецкай культуры*, упрыгожаныя спіралямі і паглыбленнямі, пласцінчастыя трапецападобныя і драцяныя акулярападобныя П. *штрыхаванай керамікі культуры.* У 10 –13 ст. з каляровых і каштоўных металаў выраблялі П. ў выглядзе плоскіх сімвалаў нябесных свяцілаў (манетападобныя, лунніцы), жывёл, птушак, бытавых рэчаў (ключы, лыжкі), крыжыкаў, званочкаў. П. знаходзяць на паселішчах, у пахаваннях. Найбольш цікавыя з іх полыя П.-конікі з білону (Барысаў, Віцебск, гарадзішча *Маскавічы*), скандынаўскія П. ў выглядзе фігурак вікінгаў (*Лудчыцы*, *Калодзецкая*, Касцюковіцкі р-н).



*Да арт.* ***Падвескі.*** *Формачкі для адліўкі падвесак з выявай галавы быка. 1 – Марыні, 2 – Даўгмане, 3–4 – Улазавічы, 5– Борга, 6 – Нікольскае-3, 7 – Няфедзьева, 8 – Палоскі, 9, 10 – Чадзілавічы, 11 – Шчэрбінскае.*

П. з выявай галавы быка – прадмет сакральнакультавага і эстэтычнага прызначэння. Уяўлялі сабой літыя з бронзы круглыя ўпрыгажэнні дыям. каля 2,5 см з выявай на пярэднім баку галавы буйной рагатай жывёлы, 7 фігурак па баках і паміж рагамі, па краі – 52 выпуклыя кропкі. Мяркуецца, што выявы на П. адлюстроўваюць іерархічную будову гадавога календара, які быў сонечным і складаўся з 52 сямідзённых тыдняў. Усяго такія падвескі вядомыя на 22 археал. помніках. Агульная колькасць выяўленых П. склала не менш за 32 (з іх 7 «нестандартныя», са спрошчанымі выявамі), і 2 формачкі для адліўкі П. Знаходкі П. найбольш канцэнтруюцца ў арэале *радзімічаў*, але вядомыя таксама ў Цэнтр. Беларусі, у нізоўях Зах. Дзвіны, на Смаленшчыне, у былых Пскоўскай і Наўгародскай землях. У адрыве ад гэтых тэр. самыя аддаленыя знаходкі формачкі і адліўкі з яе вядомыя ў Хедэбю (Шлезвіг-Гальштэйн, Германія). П. датуюцца 11 ст. (магчыма з'явіліся у 2-й пал. 10 ст.), а найб. познія адносяцца да 12 ст. Большасць П. знойдзены ў жаночых пахаваннях, вельмі рэдка – на паселішчах; гэта сведчыць хутчэй за ўсё пра тое, што яны звязаны з уяўленнямі пра замагільнае жыццё. П. з выявай галавы буйной рагатай жывёлы сустракаюцца выключна на помніках, якія характарызуюцца змешанымі славяна-балцкімі рысамі. У асяроддзі прыбалтыйска-фінскіх плямёнаў пахаванні з П. таксама маюць сляды прысутнасці славянскіх і балцкіх элементаў. Агульная невял. колькасць знойдзеных П. дае падставы

меркаваць, што яны прызначаліся не для масавага распаўсюджання, а хутчэй належалі абмежаванай, колькасна невял. групе насельніцтва, хутчэй за ўсё язычніцкім жрыцам.

*Літ.:* Успенская А.В. Нагрудные и поясные привески // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. М., 1967 (Тр. ГИМ. Вып. 43); Рябинин Е.А. Зооморфные украшения Древней Руси X–XIV вв. Ленинград, 1981 (САИ. Вып. Е1–60); Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.). М., 1981; Хвощинская Н.В. Об этнической атрибуции подвесок с изображением головы быка // Славяне, финно-угры, скандинавы, волжские булгары. Санкт-Петербург, 2000; Гурьянов В.Н. К вопросу о подвесках с изображением головы быка // Деснинские древности. Брянск, 2004. Вып. 3; Зайкоўскі Э.М. Яшчэ раз да пытання пра падвескі з выявай галавы буйной рагатай жывёлы // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23.

*Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі.*

**ПАДВО́ДНАЯ АРХЕАЛО́ГІЯ**, гідраархеалогія, галіна археалогіі, якая займаецца вывучэннем стараж. аб'ектаў, артэфактаў і ландшафтаў, якія знаходзяцца пад вадой. Аб'ектам даследаванняў з'яўляюцца: затопленыя свайныя пасяленні, помнікі язычніцкіх культаў і пахаванні ў вадзе, рэшткі мастоў, прычалаў, дарогі, выбрукоўкі, скарбы, помнікі эпіграфікі, сляды бітваў і інш.

Першыя падводныя археал. даследаванні ў Расіі праведзены ў 1905 па прапанове рус. інжынера Л.П.Колі ў бухце г. Феадосія на Чорным моры. У 1930 пад кіраўніцтвам праф. К.Э.Грыневіча вадалазы даследавалі рэшткі пабудоў грэчаскай калоніі Херсанес. З 1937 пад кіраўніцтвам акадэміка Р.А.Арбелі праводзіліся даследаванні антычнага г. Ольвія. Ён ініцыяваў стварэнне музея падводных даследаванняў, а ў далейшым Ін-та падводнай археалогіі. Далейшае развіццё П.а. звязана з вынаходніцтвам у 1943 франц. даследчыкам Ж.І.Кусто і Э.Ганьякам акваланга, што дало магчымасць свабодна працаваць на глыб. да 50 м.

На тэр. Беларусі пошукі старажытнасцей пад вадой праводзіліся ў 19 ст. ў рэках Бярэзіна і Зах. Дзвіна. У 1907 у р. Ясельда каля в. Жабер Драгічынскага р-на вёўся пошук гармат, затопленых у 17 ст. У 1909–11 памешчык І.Х.Каладзееў праводзіў раскопкі каля в. Студзёнка Барысаўскага р-на і абследаванні дна р. Бярэзіна на месцы пераправы войск Напалеона. У 1940-я г. М.М.Алексяюк упершыню ў Беларусі адзначыў сляды свайных пасяленняў на азёрах Ула ў Вілейскім і Вейна ў Бялыніцкім р-нах. У 1952 свайныя пабудовы абследаваў К.М.Палікарповіч. Планавыя падводныя даследаванні археал. помнікаў у Беларусі пачаліся ў 1979. У 1982 пры Дзярж. музеі БССР быў створаны клуб падводных гісторыка-археал. даследаванняў (кіраўнік С.М.Сіманюкоў). У 1987 група «Акванаўты» пры Мінскім педагагічным ін-це імя М.Горкага (кіраўнік С.В.Каблоў) разам з супрацоўнікамі музеяў і ІГ Акадэміі навук пачала праводзіць сістэматычныя падводныя даследаванні. У выніку раскопак 1979–88 на ўчастку воз. Дзерба каля гарадзішча *Маскавічы* быў выяўлены культ. пласт таўшч. 0,2–0,3 м на пл. 1 га, знойдзены гліняны посуд, косткі свойскіх і дзікіх жывёл, рэчы 12–14 ст. У рэчышчы Зах. Дзвіны на месцы знаходжання *Барысавых камянёў* была зроблена шурфоўка дна. Знойдзены абломкі камянёў, фр-ты керамікі 12–15 ст., косткі жывёл і асобныя рэчы. З 1986 праводзіліся даследаванні на воз. Сенніца Гарадоцкага р-на, дзе ў 1989 былі знойдзены 4 свайныя пасяленні 3–2-га тыс. да н.э. У гэтыя ж гады гідраархеал. даследаванні вяліся на рэках Свіслач у Мінску, Лукомка каля в. Лукомль Чашніцкага р-на, на азёрах Нарач і Мядзел, каля Манастырскага в-ва на воз. Неспіш, на Богінскім воз. ў Браслаўскім р-не. У 1989–97 даследаваліся выспы на воз. Іказнь Браслаўскага р-на. У 1991 быў падняты са дна возера стараж. човен, знойдзена кафля 15–17 ст., баявая сякера з драўлянай ручкай і разнастайныя артэфакты 18–19 ст. Члены клуба «Марскі Пегас» (кіраўнік А.С.Ліхачоў) правялі даследаванні гідраархеал. аб'ектаў на рэках Зах. Дзвіна, Дзісна, воз. Сялява. На воз. Луконец былі падняты 2 чаўны. Цяпер агульная колькасць помнікаў перавышае 100 і кожны год выяўляюцца новыя аб'екты П.а.

*Літ.:* Блаватский В.Д. Техника подводных археологических работ // Археология и естественные науки. М., 1965; Музеи и подводная археология // Museum.1983. Т. 35, № 1.

*В.І.Шадыра, С.В.Каблоў.*

**ПАДВЯЛІ́КАЕ**, археалагічныя помнікі – паселішчы і месцазнаходжанні неаліту і бронзавага веку каля в. Падвялікае Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.

Першыя археал. матэрыялы былі знойдзены ў ваколіцах вёскі ў к. 19 ст. У фондах Дзярж. археал. музея ў Варшаве (Польшча) захоўваецца крамянёвая шліфаваная сякера чатырохвугольнага сячэння (тып 1), аналогіі якой сустракаюцца сярод старажытнасцей культуры шарападобных амфар і кола культуры шнуравой керамікі. У 2-й пал. 20 ст. мясц. жыхар М.А.Яраш сабраў каля вёскі 4 крамянёвыя шліфаваныя сякеры (тыпы 1, 2 і 3), у 1978 – знайшоў медную сякеру ва ўр. Схеды за 0,6 км на ПнЗ ад вёскі. У 0,1 км ад месца знаходкі працякала невял. рэчка (цяпер меліяраацыйны канал), прыток р. Шчара. Медная сякера даўж. 12,5 см з моцна закругленым «веерападобным» лязом шыр. 6,5 см. Дакладныя аналогіі не вядомы, бліжэйшыя сустракаюцца ў паўн. Літве, у суседніх раёнах Латвіі і на тэр. Польшчы. Сякеру можна аднесці як да тыпу сякер з закраінамі ўсходнебалт. тыпу, так і да тыпу сякер з пяткай (уступчатых). Датуецца каля апошняй чвэрці 2-га тыс. да н.э.



*Да арт.* ***Падвялікае****. Крамянёвыя шліфаваныя (1, 2) і медная (3) сякеры.*

У 1995 і 1996 В.Л.Лакіза абследаваў ваколіцы в. Падвялікае, у т.л. ўр. Схеды. Аднак рэшткі паселішчаў у месцы мяркуемых знаходак крамянёвых і меднай сякеры не былі выяўлены. У 1995 В.Л.Лакіза выявіў 2 новыя помнікі.

Паселішча-1 на ўскраіне вёскі за 0,05 км на У ад маста на шашы Казлоўшчына–Трахімавічы, за гасп. пабудовамі вул. Школьная, на невысокім правым беразе р. Ваўчанка (правы прыток р. Шчара). Разворваецца. На плошчы каля 50 × 60 м знойдзены крамянёвыя вырабы і фр-ты ляпной керамікі, у т.л. посуду з жарствой у цесце і выразнай гарызантальна-вертыкальнай штрыхоўкай знешняй паверхні; адносіцца, верагодна, да позняга перыяду бронзавага веку. Помнік датуецца неалітам і бронзавым векам.

Паселішча-2 за 0,1–0,2 км на ПнУ ад паселішча-1, за 10–20 м ад правага берага р. Ваўчанка, насупраць вясковага драўлянага касцёла. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, фр-т нарыхтоўкі сякеры, скрабок на масіўным скарыністым адшчэпе. Датуецца каменным векам.

*Літ.*: Лакіза В.Л. Металічная сякера бронзавага веку з Дзятлаўшчыны // ГАЗ. Мінск, 1999. № 5; Яго ж. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*В.Л.Лакіза.*

**ПАДГО́Р'Е**, археалагічны помнік – гарадзішча каля былой в. Падгор'е Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Касабукі. Займае трохвугольны мыс правабярэжнай тэрасы р. Іпуць. Пляцоўка (пл. 1 га) умацавана дугападобным валам выш. 2,5–3 м. У 1982–84 даследавана больш за пал. плошчы. Культ. пласт таўшч. ад 0,5 да 1,5 м.

Выяўлена ляпная кераміка мілаградскай і юхнаўскай культур, мініяцюрная гліняная пасудзіна, прасліцы і грузікі, жал. іголкі, нож з гарбатай спінкай, шпілька з S-падобным завіткам, каменны таўкач. Знойдзены рэшткі некалькіх заглыбленых у мацярык жылых і гасп. пабудоў, а таксама развал домніцы. У адным з жытлаў выяўлены абмазаны глінай выступ, на якім размяшчаліся, верагодна, звязаныя з культам гліняная фігурка бабра, мініяцюрныя гаршчочкі, выявы печанага хлеба, у другім – раструшчаныя гаршкі мілаградскай, у трэцім – юхнаўскай культур, а таксама ворваркі скіфскага тыпу. *С.Я.Рассадзін.*

**ПАДГО́РНАЎСКАГА ТЫ́ПУ ПО́МНІКІ**, гістарычная агульнасць археалагічных помнікаў кола *шнуравой керамікі культуры*, позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Бел. Панямоння. Вылучыў В.Л.Лакіза. У 2010 у групу ўваходзіла 15 помнікаў, на якіх выяўлена кераміка падгорнаўскага тыпу. Найб. паказальным з'яўляецца пасе-



*Ляпная кераміка* ***падгорнаўскага тыпу помнікаў.***

лішча *Падгорная-4* на р. Шчара, якое дало назву ўсёй групе. Заўважана выразная канцэнтрацыя помнікаў на тэр. паўд.-ўсх. Панямоння: у вярхоўі р. Нёман (*Русаковічы*-1, 7, 9, *Куцец*) ад вытокаў да вусця р. Уша (*Ярэмічы*-3) і ў верхнім цячэнні р. Шчара (*Добры Бор*-1, *Падгорная*-4, *Русакова*-2). Характэрная кераміка адсутнічае на З ад р. Шчара, на р. Зальвянка, р. Рось, р. Свіслач і на Пн ад в. Русакова (ніжняе цячэнне р. Шчара), на паселішчах *Пархуты*-2, *Прырэчча*-2, *Янава*-2 – помніках на лева- і правабярэжжы р. Шчара паміж вёскамі Русакова і Пархуты, а таксама на тэр. паўн.-зах. Панямоння на р. Дзітва, р. Лебяда, р. Котра.

Гал. тэхналагічная асаблівасць керамікі падгорнаўскага тыпу – наяўнасць дамешкаў шамоту, вельмі рэдка да яго дабаўлялася невял. колькасць пяску ці дробнай жарствы. У некаторых выпадках атлушчальнікі зусім не прасочваюцца. Паверхні посуду звычайна гладкія, часам са слядамі лёгкага загладжвання знешняй і ўнутранай паверхняў. На невял. колькасці гаршкоў з Пд Бел. Панямоння (*Добры Бор*-1, *Русакова*-2 на р. Шчара) назіраецца выразная падгарызантальная штрыхоўка. Выяўлены посуд: з S-падобнай прафіліроўкай; з патоўшчанымі адагнутымі вонкі венчыкамі, кароткімі шыйкамі, якія плаўна пераходзяць ў раздутае бочкападобнае тулава; цюльпанападобны. Шмат буйных гаршкоў. Таўшч. сценак 6 –10 мм, дыям. венчыкаў 13–36 см. Краі венчыкаў звычайна закругленыя, радзей сплошчаны ці злёгку завостраны, сустракаюцца і венчыкі з «каўнерыкамі». Частка пасудзін, у цесце якіх акрамя шамоту маюцца дамешкі жарствы, вылучаюцца патоўшчанымі, закругленымі венчыкамі. Дны плоскія, тоўстыя, звычайна без закраін, некаторыя з вылучанай падставай. Кераміка падгорнаўскага тыпу упрыгожвалася разнастайнымі лінейнымі і шнуравымі адбіткамі, зубчастымі і «вусеневымі» штампамі. Пераважае лінейны арнамент. Посуд аздабляўся ў большасці па ўсёй паверхні – ад венчыка да самага дна. Арнаментаваўся край венчыка, у т.л. і пальцавымі зашчыпамі, а таксама ўнутраная паверхня. Адбіткі з лінейнага штампа ўтваралі матывы з гарызантальнай «ялінкі», спалучэння «ялінкі» і зігзага з пасоў вертыкальных ці косых адбіткаў. Дны арнаментаваліся пераважна матывамі з канцэнтрычных кругоў, кругоў і паралельных ліній, утвораных лінейнымі штампамі. Шнуравы арнамент рэдкі: матывы з паралельных гарызантальных пасоў, шнуравыя ўзоры з хвалістых, кароткіх адбіткаў, камбінаванні тонкага і тоўстага шнура, які наносіўся ў верхняй частцы посуду, а часам і на ўнутранай паверхні. Вядома арнаментацыя зубчастымі штампамі, якімі ўпрыгожвалася ўся паверхня. Асн. матывы – «ялінка» і пасы косых адбіткаў.

Фарміраванне падгорнаўскай групы помнікаў адбывалася на аснове мясц. традыцый нёманскай неалітычнай культуры, пад пэўным уплывам групы помнікаў тыпу Бершты-Русакова (і, верагодна, традыцый *шарападобных амфар культуры*), пры ўдзеле старажытнасцей культуры палескай шнуравой керамікі і найб. моцным уздзеянні прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры (датуецца перыядам ад мяжы 3–2-га тыс. да н.э. да сяр. 2-й чв. 2-га тыс. да н.э. і адносіцца да позняга неаліту).

*Літ.:* Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**ПАДГО́РНАЯ**, археалагічныя помнікі – паселішчы неаліту і бронзавага веку каля в. Падгорная Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.

Паселішча-1 за 1,5 км на Пд ад вёскі на невял. пясчаным узвышшы паміж правым берагам р. Шчара і левым берагам р. Лахазва, ва ўр. Крамполе. Выявіў В.Р.Супрун. Даследаваў 192 м² І.І.Падгарадзецкі. Культ. пласт 0,4–0,6 м. Знойдзены фр-ты посуду кола культуры шнуравой керамікі з наразным арнаментам і фр-ты друшлага (сітападобнага посуду) тшцінецкага культурнага кола.

Паселішча-2 за 0,9–1,1 км на ПдЗ ад вёскі, за 1 км на ПнУ ад паселішча Добры Бор 1 на дзюне правабярэжнага поплава р. Шчара. Выявіў у 1996 В.Л.Лакіза. Цэнтр. частка пашкоджана меліярацыйным каналам шыр. да 8 м. Разворваецца. Культ. пласт да 0,3–0,4 м. Знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі, керамічныя матэрыялы нёманскай неалітычнай культуры і кола культуры шнуравой керамікі.

Паселішча-3 за 1,2–1,4 км на ПдЗ ад вёскі, 0,8 км на У ад паселішча Добры Бор 1, за 0,3 км на Пд ад паселішча-2 на дзюне правабярэжнага поплава р. Шчара. Выявіў у 1996 В.Л.Лакіза. Часткова пашкоджана меліярацыйным каналам. Культ. пласт да 0,4 м. Разворваецца. Выяўлены матэрыялы нёманскай неалітычнай культуры і кола культуры шнуравой керамікі. Сярод іх крамянёвыя нуклеус, скрабок, цяслападобная прылада са слядамі прышліфоўкі, шліфаваная сякера з лінзападобным сячэннем.

Паселішча-3а за 1,3–1,5 км на ПдЗ ад вёскі, 0,15 км на ПдЗ ад паселішча-3, на моцна знівеліраванай дзюне правабярэжнага поплава р. Шчара, паміж меліярацыйнымі каналамі. Выявіў у 1996 В.Л.Лакіза. Культ. пласт да 0,4 м. Разворваецца. Знойдзены крамянёвыя вырабы і кераміка нёманскай неалітычнай культуры, кола культуры шнуравой керамікі.

Паселішча-4 за 2,6–3 км на ПдЗ ад вёскі («Рыбгас»), за 1,1 км на ПдУ ад паселішча Добры Бор 1, на дзюне правабярэжнага поплава р. Шчара. Пл. каля 3600 м², выш. да 2,5–3 м над узроўнем поплава. Часткова пашкоджана дамбай. Выявіў і даследаваў у 1996, 2000 В.Л.Лакіза (149 м²). Культ. пласт да 0,3–0,7 м. Зафіксаваны




*Да арт.* ***Падгорная****. Агнішча на стаянцы-4.*

і даследаваны 13 аб'ектаў: агнішчы, попельныя плямы і западзіны, ямы. Звыш 9 тыс. знаходак (крамянёвых і каменных, кераміка, косткі). Калекцыя керамікі складаецца з 4554 фр-таў ляпнога посуду прыпяцка-нёманскай, нёманскай культур (у т.л. вастрадонны посуд лысагорскага і дабраборскага тыпаў), культуры шарападобных амфар, кола культуры шнуравой керамікі, тшцінецкага культурнага кола. Крамянёвыя вырабы прадстаўлены 4386 экзэмплярамі ад ранняга неаліту (прыпяцка-нёманская культура) да ранняга перыяду бронзавага веку (тшцінецкае культурнае кола). Большасць з іх – прадукты першаснай апрацоўкі крэменю: дробныя лускавінкі, сколы, абломкі, пласціны і адшчэпы. Выяўлены аднапляцовачныя нуклеусы і іх фр-ты; вастрыі і пласціны са скошаным рэтушшу краем, трапецыі, разцы, праколкі, скоблі, наканечнікі дзіды і стрэл, рубячыя прылады, скрабковыя і нажападобныя прылады. Выяўлены 10 каменных знаходак (адбойнікі, шліфавальныя пліткі, нарыхтоўка сякеры, абломак свідраванай сякеры).

*Літ.:* Лакіза В.Л. Падгорная 4 – новы шматкультурны помнік неаліту і бронзавага веку на р. Шчары // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18; Яго ж. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**ПАДГУ́РСКІ** Пётр Мікалаевіч (н. 13.7.1971, в. Рэкта Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2010). Скончыў Магілёўскі педагагічны ун-т імя А.А.Куляшова (1994). З 2002 выкладчык у Віцебскім ун-це імя П.М.Машэрава. З 2007 у аддзеле культуры Віцебскага гарвыканкома. Даследуе помнікі жал. веку і ранняга сярэдневякоўя ў паўн.-ўсх. Беларусі. Праводзіў раскопкі на гарадзішчах *Старое Сяло*, *Новае Сяло*, *Замошша*, *Крывель*, археал. разведкі ў Гарадоцкім, Шклоўскім, Віцебскім р-нах.

*З.А.Харытановіч.*

**ПАДДУ́БНІКІ**, археалагічны помнік – гарадзішча каля б. в. Паддубнікі Міёрскага р-на Віцебскай вобл. За 0,7 км на ПнЗ ад вёскі, за 0,4 км на У ад в. Спігальшчына, на мысе правага берага р. Авута (левы прыток Зах. Дзвіны). Пляцоўка авальнай формы памерамі 58 × 28 м, выш. да 10 м у месцы зліцця р. Авута і ручая Сквірэя. Умацавана 5 валамі выш. да 2,5 м і 4 равамі глыб. да 2 м. Даследавалі ў 1938 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1949, 1956, 1962 А.Р.Мітрафанаў. Раскапана 528 м². Культ. пласт 0,2–1,5 м. Першапачатковы вал праходзіў з паўд. і зах. бакоў. У 2–1 ст. да н.э. былі ўзведзены дадатковы вал і роў з боку р. Авута, сістэма валоў і равоў з паўд. боку. Выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі, некалькі гасп. ям і рэшткі агнішчаў. Стратыграфічна выдзяляюцца 2 гарызонты слоя. Ніжні (таўшч. 1,16 м) фіксуецца ўздоўж края пляцоўкі. Знойдзены касцяныя наканечнікі стрэл, дроцікаў, дзід, долаты, шпількі і праколкі, каменныя свідраваныя і клінападобныя сякеры, цёрачнікі, муфта для сякеры. Яны вядомы на ранніх гарадзішчах днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, датуюцца рубяжом 2–1-га – к. 1-га тыс. да н.э. У

*Да арт.* ***Паддубнікі.*** *План гарадзішча, вырабы з каменю, косці, гліны і жалеза.*





верхнім гарызонце (таўшч. 0,2–0,64 м) насычанасць знаходкамі вельмі слабая, выяўлены ўсе вырабы з жалеза: серп, шыла, вузкалязовая сякера паўд.-прыбалтыйскага тыпу. Серп і сякера датуюцца к. 1-га тыс. да н.э. – першымі стагоддзямі н.э. Аснову керамічнага комплексу складае ляпны посуд з гладкасценнай і бугрыстай паверхняй, на другім месцы па колькасці знаходак – кераміка з невыразнай штрыхоўкай; шурпатая, сеткавая і аблітая прадстаўлена адзінкавымі экзэмплярамі. Па форме венцаў адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.

*Літ.:* Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Яго ж. Беларускае Падзвінне (І тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006.

*В.І.Шадыра, З.А.Харытановіч.*

**ПАДКЛЕ́ЦЦЕ**, ніжні паверх дома, які знаходзіўся пад святліцай. На тэр. Беларусі зрубныя дамы на П. вядомы з 13 ст. ў Полацку, больш за 10 такіх дамоў 14–18 ст. выяўлена ў Віцебску. У залежнасці ад прызначэння П. мелі розную вышыню (ад некалькіх вянкоў да 1,5–1,6 м) і канструкцыю. Нізкія П. часцей выкарыстоўваліся ў якасці сховішча для прадуктаў і маёмасці, высокія – выконвалі функцыю вытворчых або жылых памяшканняў (жылыя П. найб. характэрны для мяшчан 16–17 ст.). Паводле канструкцыі прасочваюцца П. з надворным уваходам і глухія; у апошнія звычайна спускаліся са святліцы па прыстаўной лесвіцы. Будаваліся наземныя П., якія маглі мець фундаменты, і заглыбленыя ў зямлю на 0,8–1,3 м. Перад уваходам у заглыбленае П. рабілі прыступкі. У адпаведнасці з прызначэннем высокія П. маглі мець печ і валаковыя або зашклёныя вокны.

*Літ.:* Краснянскі В. «Чарцёж» места Віцебску 1664 г. як дакументальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва. Мінск, 1928; Рабинович М.Г. Русское жилище в XIII–XVII вв. // Древнее жилище народов Восточной Европы. М., 1975; Раппопорт П.А. Древнерусское жилище. Ленинград, 1975 (САИ; Вып. Е1–32); Штыхов Г.В. Древний Полоцк, IX–XIII вв. Минск, 1975.

*Т.С.Бубенька.*

**ПАДКО́ВА**, прыстасаванне для захавання рогавых частак капытоў коней ад сцірання і траўміруючых удараў аб цвёрды грунт. П. згадваюцца ў рымскіх пісьмовых крыніцах з 1 ст. да н.э. Да гэтага часу адносяцца археал. знаходкі П. у Брытаніі, Галіі і Германіі. Магчыма, рымляне падкоўвалі пераважна цяглавых жывёлін, але не баявых коней. Ва Усх. Еўропе, у т.л. на тэр. Беларусі, П. з'явіліся ў 11 ст. На працягу 11–13/14 ст. падкоўвалася найперш цяглавая жывёла, хаця не выключана і выкарыстанне П. у цяжкой кавалерыі. У 11–14 ст. выкарыстоўваліся 2 разнавіднасці П.: першая ў выглядзе паўкруга з адным пярэднім шыпам і 4–6 прамавугольнымі адтулінамі для цвікоў (Віцебск, в. Лукомль Чашніцкага р-на); другая ў выглядзе авала з 2 шыпамі на канцах і 6–8 адтулінамі для цвікоў (Брэст, Ваўкавыск, На-




*Падковы 16—18 ст. з сельскіх паселішчаў Верхняга Панямоння.*

вагрудак, Пінск, Слуцк). У познім сярэдневякоўі працягвалі выкарыстоўвацца П. другой разнавіднасці, у якіх колькасць адтулін для цвікоў павялічылася да 8—10, з'явілася спецыяльная канаўка для цвіковых плешак і адгортка, якая накладалася на насок капыта. У пач. 18 ст. з'яўляюцца П. з вінтавымі шыпамі, якія можна было здымаць (у шырокі ўжытак увайшлі пазней і працягвалі выкарыстоўвацца да к. 19 — пач. 20 ст.).

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX–XIII вв. / САИ. 1973. Вып. Е1–36; Археалогія Беларусі. Т.4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мінск, 2001; Зварыга Я.Г., Віцязь С.П. Рыштунак вершніка і верхавога каня з раскопак старажытных гарадоў Верхняга Панямоння // МАБ. 2006. Вып. 12.

*М.А.Плавінскі.*

**ПАДКО́ЎКА АБУТКО́ВАЯ**, прыстасаванне для абароны абцаса абутку ад сцірання ў выглядзе дугападобнай металічнай пласціны, якая мацавалася пры дапамозе шыпоў ці цвікоў. П.а. вядомы ў Беларусі з 14 ст., шырокае распаўсюджанне атрымалі з к. 15 ст. П.а. класіфікуюцца па спосабу мацавання да абцаса (уразныя, набіўныя і камбінаваныя), па форме аснавання (з пласцінай, пашыранай у вертыкальнай і гарызантальнай плоскасці). П.а. 15—16 ст. уяўлялі сабой высокія (1—3 см) пласціны, якія мацаваліся да абцаса пры дапамозе 3 шыпоў. Для к. 16—18 ст. характэрны вырабы са сплошчанай у гарызантальнай плоскасці асновай прамавугольнага ці квадратнага сячэння. Яны замацоўваліся пры дапамозе шыпоў ці цвікоў. Разам з імі ў 18 ст. распаўсюджваюцца П.а. з асновай у выглядзе пашыранай у гарызантальнай плоскасці пласціны, якая мацавалася цвікамі.

*Літ.*: Векслер А.Г., Лихтер Ю.А., Осипов Д.О. Обувные подковки XV–XVIII вв. (по материалам раскопок в г. Москве) // РА. 1997. № 3; Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мінск, 2001; Магалінскі І.У. Абутковыя падкоўкі XIV–XVIII стагоддзяў (па матэрыялах археалагічных даследаванняў у г. Полацку 2000–2008 гадоў) // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў: (да 80-годдзя пачатку археал. раскопак у г. Полацку). Наваполацк, 2009.

*І.У.Магалінскі.*

**ПАДЛО́ГА КЕРАМІ́ЧНАЯ**. У Беларусі вядома з 11 ст. Характэрна для мураваных будынкаў. У 11—12 ст. падлогу масцілі паліванымі пліткамі розных колераў (карычневы, зялёны, жоўты, салатны, чорны) і форм, таўшч. 1,8—2,5 см. У час раскопак *Полацкага Верхняга замка* знойдзены керамічныя пліткі, пакрытыя шэрай палівай з каляровымі кружочкамі. Пліткі выкладвалі ў выглядзе арнаментальнага малюнка, мацуючы іх на вапнавай рошчыне (*Полацкі Сафійскі сабор*, Полацкія храмы 12 ст. і інш.). Падлога Полацкага храма-пахавальні 12 ст. выкладзена керамічнымі пліткамі і тоўстай (0,6—0,8 см) *смальтай.* У Гродзенскіх храмах 12 ст. (Каложская царква, Ніжняя царква, Прачысценская царква) выяўлены ўчасткі падлогі з маёлікавых плітак, якія мацаваліся на гліня-най падсыпцы вапнавай рошчынай. Фр-ты П.к. захаваліся ў *Навагрудскай Барысаглебскай царкве*, пліткі 12 ст. знойдзены пры раскопках у Віцебску, Друцку, Лагойску, Пінску. Падлога Гродзенскай Барысаглебскай царквы ў 13 ст. была вымашчана тоўстымі непаліванымі пліткамі з рэльефным арнаментам. Часам керамічныя падлогі былі і ў драўляных храмах. Тады яны клаліся на гліне.

У 14—16 ст. падлогу мураваных будынкаў рабілі з цэглы прамавугольнай ці квадратнай формы, звычайна пэўных памераў (14 × 13 × 8—7 см). Яна знойдзена пры раскопках Мураванкаўскай царквы (Шчучынскі р-н). У 2-й пал. 16 — канцы 18 ст. выкарыстоўвалі непаліваныя пліткі (4—5, 6—7 см). Падлогі Гродзенскага Старога замка ў к.



*Падлога керамічная 16 ст.*

16 ст. вымашчаны прамавугольнымі (16 × 15,5 × 8–3,5 см) зялёнымі і карычневымі пліткамі. У 1-й пал. 17 ст. выкарыстоўвалі фігурныя паліваныя і тэракотавыя пліткі (Гальшанскі, Любчанскі, Мірскі замкі, Навагрудская Барысаглебская царква, Мінскі дамініканскі касцёл, Лагойск, Мсціслаў, Пінск). У 19 ст. П.к. не рабілі. З к. 19 – пач. 20 ст. выкарыстоўвалі керамічныя пліткі накшталт метлахскіх, у т.л. замежнай вытворчасці, тэракотавыя і паліваныя пліткі мясц. прадпрыемстваў (Мінскі завод Авербуха і інш.).

*Літ.*: Манументальнае дойлідства Беларусі XI–XVIII стагоддзяў. Гісторыя будаўнічай тэхнікі. Мінск, 2001.

*А.А.Трусаў.*

**ПАДЛУ́ЖЖА**, археалагічныя помнікі – паселішчы каменнага і бронзавага вякоў каля в. Падлужжа Чачэрскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 эпохі верхняга палеаліту. Гл. *Бердыж.*

Паселішча-2 эпохі палеаліту за 400 м на Пд ад вёскі, за паўд. ярам. Памеры 200×160 м уздоўж яра, 80 × 100 м упоперак. Адкрыў і даследаваў у 1953–54 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1959–60 і 1969 У.Дз.Будзько, у 1971 А.Г.Калечыц. Знойдзены наканечнікі коп'яў або нажы з бакавой выемкай і лістападобныя, разцы, нажападобныя пласціны, скрэблы, а таксама нуклеусы і адшчэпы больш архаічнага выгляду (да 1000 рэчаў). Наяўнасць прылад мусцьерскага тыпу ставіцца пад сумненне, аднак можа сведчыць пра сярэднепалеалітычны ўзрост помніка, пра перажытачныя з'явы ў культуры верхняга палеаліту.

Паселішча-3 *верхнедняпроўскай культуры і сосніцкай культуры.* За 300 м на ПдУ ад вёскі, на паўн.-ўсх. ускраіне паўн. яра, на тэрасе правага берага р. Сож, ва ўр. Летнік. Даследавала ў 1974 А.Г.Калечыц. Сабраны нуклеусы, пласціны, адшчэпы і інш. адходы крамянёвай вытворчасці, а таксама рубячыя прылады, скрабкі, разцы і фр-ты ляпнога посуду.

Паводле думкі некаторых даследчыкаў, існаваў ніжні культ. пласт познапалеалітычнага ўзросту з самымі раннімі знаходкамі *грэнскай культуры.*

*Літ.*: Будько В.Д., Познячук Л.Н. Палеолит Белоруссии и смежных территорий // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Калечиц Е.Г. Первоначальное заселение территории Белоруссии. Минск, 1984.

*А.Г.Калечыц.*

**ПАДЛЯ́ШША** (польск. Podlasie), гісторыка-геаграфічная вобласць на У Польшчы і З Беларусі. Назва паходзіць ад абазначэння тэр. «пад ляхамі» (г.зн. па суседству з палякамі) ці «пад лесам» (што менш верагодна). У сярэдневякоўі П. на З межавала з Мазовіяй, на Пд яго мяжа праходзіла па р. Уладаўка, на У дасягала гарадоў Кобрын, Камянец і Ваўкавыск, на Пн яго мяжой была р. Бебжа (Бобр). Назва П. вядома з к. 15 ст., распаўсюдзілася ў 16 ст. У сяр. 1-га тыс. н.э. на тэр. П. пранікае насельніцтва пражскай культуры (матэрыялы сустракаюцца на гарадзішчах Гачкі і Бельск-Падляскі), а ў 8–10 ст. на У вядомы нешматлікія помнікі культуры тыпу Лукі-Райкавецкай (адзін з іх каля Кузніцы, паблізу сучаснай польска-бел. мяжы). Слав. курганы з трупаспаленнямі з'явіліся ў 8–9 ст., былі распаўсюджаны да 11 ст. У 11–12 ст. асн. формай пахавання былі курганы з трупапалажэннямі, сустракаюцца грунтавыя пахаванні. Курганы 11–12 ст. належалі дрыгавічам. Цераспалосна з імі размяшчаліся грунтавыя магілы з каменнымі агародкамі прамавугольнай ці авальнай формы, якія з'яўляюцца помнікамі мазаўшан. На Пн П. доўгі час жылі яцвягі. Мяркуецца, што П. было далучана да Кіеўскай Русі не пазней сяр. 11 ст. Пад 1142 у летапісах згадваецца першы вядомы горад Падляшша – Дарагічын (на р. Зах. Буг), пазней упамінаюцца такія гарады, як Бельск, Браньск, Сураж, Мельнік. Археал. даследаванні Дарагічына паказалі, што ніжні пласт дзяцінца і часткі пасада датуецца 11 ст., а ў 12–14 ст. горад дасягнуў значнага развіцця. Асн. частку яго насельніцтва складалі ўсх. славяне, хаця прысутнічаў і мазавецкі элемент. Адметнасцю Дарагічына з'яўляецца знаходка ў ім некалькіх тысяч свінцовых пломбаў са знакамі на іх: эмблемамі Рурыкавічаў, кірылічнымі літарамі, геам. і раслiннымі арнаментамі, выявамі звяроў і людзей і інш. Мяркуецца, што гэта сляды дзейнасці буйной мытні. У 1154 у выніку феад. драблення вылучылася Берасцейска-Дарагічынскае княства, на чале якога стаяла адно з адгалінаванняў валынскіх князёў – нашчадкі Ізяслава Мсціславіча. У 1192 горадам на некаторы час авалодаў кракаўскі кн. Казімір Справядлівы. У к. 12 – 1-й чв. 14 ст. П. ўваходзіла ў склад Галіцка-Валынскага княства. У 1238 галіцка-валынскі кн. Даніла Раманавіч разбіў каля Дарагічына рыцараў Добжыньскага ордэна, якія перад гэтым захапілі частку П. У 1254 у Дарагічыне Даніла Раманавіч быў каранаваны каралеўскай каронай, якую яму прыслаў Папа рымскі. Прынята лічыць (меркаванне польскага гісторыка С.Заянчкоўскага), што да ВКЛ П. далучана каля 1325 у выніку дамовы вял. кн. Гедзіміна з польскім каралём Уладзіславам Лакеткам. Пазней П. складала частку ўдзела кн. Кейстута, у к. 14 – сяр. 15 ст. яго неаднаразова спрабавалі захапіць князі Мазовіі. Да Польшчы далучана ў 1569, напярэдадні Люблінскай уніі. У вер. 1939 – чэрв. 1941 усх. частка П. (Беластоцкая вобл.) была ў складзе БССР.

*Літ.*: Bieńkowska K. Wczesnośredniowieczne kurhany Podlasia // Труды VI Международного Конгресса славянской археологии. Минск, 1998. Т. 4. Общество, экономика, культура и искусство славян; Zajączkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. // Kwartalnik historyczny. Lwów, 1926. Rocznik XL, zeszyt 4; Musianowicz K. Granica mazowiecko-drehowicka na Podlasiu we wczesnym średniowieczu // Materiały

wczesnośredniowieczne. Warszawa, 1960. T. 5; Я г о ж. Drohiczyn we wczesnym średniowieczu // Materiały wczesnośredniowieczne. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1969. T. 4; Kamiński A. Pogranicze polsko-rusko-jaćwieskie między Biebrzą i Narwią // Rocznik Białostocki. Białystok, 1963. T. 4; Caban W. Polityka północno-wschodnia Kazimierza Sprawiedliwego w latach 1177–1192 // Rocznik Białystocki. Warszawa, 1974. T. 12.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ПАДМУ́РАК**, складзеная з камянёў або цэглы на рошчыне або без яе («насуха») канструкцыя, на якой узводзіўся будынак. У залежнасці ад аб'ёму збудавання, наяўнасці падвалаў рабіліся П. рознай глыбіні і канструкцыі. П. з камянёў «насуха» выкарыстоўваліся пры будаўніцтве некаторых цэркваў 12 ст. ў Полацку (на дзяцінцы, на Ніжнім замку, Спаская царква, храм-пахавальня ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры). Неглыбокія П. з невял. камянёў, пакладзеныя «насуха», былі пад гродзенскімі храмамі 12 ст. У аснове некаторых П. 1–2 рады цэглы заліты рошчынай без цэменту (полацкі храм 12 ст.). Пад П. некаторых полацкіх будынкаў 12 ст. клалі драўляныя канструкцыі. З 13 ст. пашыраюцца П. з неапрацаваных камянёў. У балоцістай мясцовасці глыб. залягання П. будынкаў 3–5 м (Крэўскі замак). У сухіх грунтах закладаліся звычайна неглыбокія П. (каля 1 м). У 16 ст. з пашырэннем вытворчасці буд. керамікі П. рабілі таксама з цэглы (Нясвіжскі замак) або з выкарыстаннем мяшанай (цагляна-каменнай) муроўкі (Мірскі замак). З 17 ст. акрамя суцэльных выкарыстоўваюцца арачныя канструкцыі П. (калегіум езуітаў у Пінску, гандл. рады ў Шклове).

*І.М.Чарняўскі.*

**ПАДРО́СЬ**, археалагічны помнік – каменны могільнік 11–12 ст. каля в. Падрось Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. Размешчаны на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Ваўкавыя, на ўзвышшы Піскаж. У 1936 даследаваў Я.Фіцтке (8 магіл). Могільнік складаецца з курганоў і грунтавых магіл, шчыльна (у 1–2 рады) абкладзены вял. камянямі. Каменныя выбрукоўкі прамавугольнай формы (даўж. 5,3 м, шыр. 1,7 м) размяшчаліся ўздоўж восі У–З. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З. Паміж каменнымі выбрукоўкамі знойдзены фр-ты ганчарнага посуду, аздобленага лінейным або хвалістым арнаментам, з дамешкам жарствы. Адзін гаршчок пакрыты рыфленнем. Пахавальны інвентар: жал. нажы, калачападобныя крэсівы, пярсцёнкі з бронзавага дроту, пацеркі з каляровага шкла і з залатымі ўстаўкамі.

*Літ.:* Jaskanis D. Materiały z badań wczesnośredniowiecznego cmentarzyska w miejscowości Podroś koło Wołkowyska w BSSR// Rocznik Białostocki. Białystok, 1962. T. 3. *А.В.Квяткоўская.*

**ПАДСЁЛЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Падсёлы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 эпохі неаліту за 0,5 км на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць і правага берага яе прытока р. Белая. Памеры 50 × 100 м. Адкрыў у 1980 і абследаваў у 1987 В.Ф.Капыцін. Сабраны крамянёвыя канцавыя і паўзакругленыя скрабкі, нажы, нуклеусы, адшчэпы.

С т а я н к а - 2 позняга неаліту за 1 км на Пд ад вёскі, 100 м на У ад дарогі за в. Рэкта, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памеры 60 × 100 м. Адкрыў у 1981 і даследаваў 6 м² у 1982 В.Ф.Капыцін.

Упершыню ў басейне Друці былі знойдзены крамянёвыя мікраліты (сегмент з рэтушаванай спінкай, вастры трохвугольнага абрысу), таксама шматлікія наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі з адшчэпаў, вастры, праколкі, нажы, адшчэпы з рэтушшу. Аб мясц. апрацоўцы крэменю сведчаць дробныя асколкі, лускавінкі, пласціны, адшчэпы, нуклеусы і іх абломкі. Сярод керамічных знаходак – фр-ты пласкадоннага ляпнога посуду, арнаментаванага ямачкамі і адбіткамі дробназубчастага грэбеня і расчосамі на ўнутранай паверхні, з дамешкам буйназярністага кварцавага пяску і жарствы ў цесце. Венчыкі посуду прамыя, аддзелены гарызантальным радам ямачак. Сустракаюцца фр-ты ангабаванага посуду.

*Літ.:* К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Кировского района Могилевской области. Могилев, 2002. *В.Ф.Капыцін.*



*В.С.Пазднякоў.*

**ПАЗДНЯКО́Ў** Валерый Сямёнавіч (н. 6.2.1963, г. Вілейка Мінскай вобл.), гісторык, археограф, археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1985). З 1985 у ІГ НАН Беларусі. У 1986–90 праводзіў археал. раскопкі феад. Клецка, абследаванні помнікаў археалогіі Клецкага (1986, 1991) і Нясвіжскага (1991–92) р-наў, абследаванні і нагляд за землянымі работамі ў Пінску (1992–93). Удзельнічаў у раскопках Мінска, Віцебска, Турава, Навагрудка і інш. З 1994 навук. рэдактар у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя». Прымаў удзел у падрыхтоўцы выданняў: «Беларусь. Энцыклапедычны даведнік» (1995), «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (1993–2003), «Беларуская энцыклапедыя» (1996–2004), «Рес-публика Беларусь. Энциклопедия» (2005–06, т. 1–3), «Гарады і вёскі Беларусі. Энцыклапедыя» (2004–06, т. 1–3), «Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 46. 1562–1565. Кніга запісаў 46. (Копія канца XVI ст.)» (2006) і інш. Складальнік і адзін з аўтараў энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» (2005–10). З 2007 працуе у БелНДІДАС. Адказны сакратар «Беларускага археаграфічнага штогодніка» (з 2007). Намеснік старшыні Археаграфічнай камісіі Дэпартамента па архівах і справаводстве Мін-ва юстыцыі Рэспублікі Беларусь (з 2008). Чл. навук. рады «Гістарычнага атласа Беларусі»

(2008, т. 1), навук. рэдакцыйнага савета «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі» (2009, т. 1). Аўтар прац па гісторыі і археалогіі феад. Беларусі, археаграфіі, генеалогіі, картаграфіі, баністыцы.

*Тв.*: Умацаванні Клецка XI–XVIII стст. // ГАЗ. Мінск, 1993. Ч. 2; Паўднёвая Беларусь у складзе ВКЛ // БГУ. 1993. № 3; Хрысціянскія святыні Клецка XV–XIX стст. // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10; Радзівіл Сіротка і ўстанаўленне сувязей з Мальтыйскім ордэнам // Беларусіка=Albaruthenica. На шляхах да ўзаемаразумення. Мінск, 2000. № 15; Пачатак гісторыі Мальтыйскага закона ў Беларусі // МАБ. 2006. № 12; Сталавічы – маёнтак Мальтыйскага ордэна ў Беларусі ў XVII–XIX стст. // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны: зб. навук. прац у гонар 70-годдзя М.Ф.Спірыдонава. Мінск, 2007; Клецк X–XVIII стст. Матэрыяльная і духоўная культура беларускага феадальнага горада. Мінск, 2008; Założenia urbanistyczne miast Białorusi Południowej w XVI–XVIII wieku // Archaeologia Historica Polona. Toruń, 1996. Т. 3.

*В.В.Грынявецкі.*



*Да арт.* ***Паклады****. Наканечнікі стрэл (1–4), скрабкі (5–6), праколкі (7–8), разцы (9–14), сякучая прылада (15).*

**ПАКЛАДЫ́**, археалагічныя помнікі – стаянкі, паселішчы і курганныя могільнікі каля в. Паклады Крычаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, паміж сельскімі могілкамі і дачным пасёлкам. Адкрыў у 1931 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1969 У.Дз.Будзько, у 1998 В.Ф.Капыцін, у 2004 А.У.Коласаў. У агаленнях берага сабраны крамянёвыя адшчэпы, пласціны, нуклеусы, скрабкі, разцы, вастрыі, тронкавы наканечнік стралы.

С т а я н к а - 2 грэнскай культуры фінальнага палеаліту за 1,3 км на ПдЗ ад вёскі, на ПнУ ад сельскіх могілак, на лукавіне правага берага старыцы р. Сож. Адкрыў у 1998 В.Ф.Капыцін, у 2004 А.У.Коласаў даследаваў 90 м$^2$. Культ. пласт 0,2–0,5 м парушаны паселішчам-1 позняга неаліту – бронзавага веку, ранняга жал. веку, стараж.-рус. часу і позняга сярэдневякоўя. Выяўлены рэшткі акруглага слупа (0,26 × 0,35 × 0,12 м) і 2 агнішчаў памерамі 0,45 × 0,50 × 0,08 м і 1,06 × 0,62 × 0,10–0,20 м. Атрымана калекцыя крамянёвага інвентару (874 адз.), у т.л. 53 вырабы з другаснай апрацоўкай. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся шэры крэмень, які сустракаецца ў мелавых адкладах на працягу 300 м уздоўж русла старыцы. Расшчапленне крэменю адбывалася на стаянцы, аб чым сведчыць вял. колькасць адшчэпаў, пласцін, нуклеусаў, канкрэцый і іх абломкаў, мелкіх лускавінак, знаходкі крамянёвага адбойніка і 2 рэтушораў. Сярод прылад працы – скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, праколкі, сякучыя прылады, пласціны са скошаным рэтушшу канцом, пласціны з рэтушаваным дыстальным канцом, скрэблападобны выраб, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, 2 асіметрычнай формы наканечнікі стрэл з бакавой выемкай (грэнскі тып) і фр-т чаранковага з абламаным пяром.

С т а я н к а - 3 фінальнага палеаліту і мезаліту, п а с е л і ш ч а - 2 эпохі феадалізму на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 0,25 км на ПдЗ ад вусця ручая, які ўпадае ў раку каля вёскі. Уздоўж дарогі сабраны прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы, адшчэпы, пласціны), канцавыя скрабкі, долатападобны выраб, фр-ты кругавога посуду, абломак кафлі з зялёнай палівай.

С т а я н к а - 4 каменнага веку і п а с е л і ш ч а - 3 ранняга жал. веку і стараж.-рус. часу на правым беразе р. Сож, за 0,7 на ПнУ ад вусця ручая, ва ўр. Белая Гара. Стаянку адкрыў у 1931 К.М.Палікарповіч, паселішча ў 1936 А.М.Ляўданскі і А.Дз.Каваленя, абследавалі ў 1978 М.А.Ткачоў, у 1998 В.Ф.Капыцін. Знойдзены прадукты расшчаплення крэменю, фр-ты ляпнога і кругавога посуду. Помнік знішчаны пры будаўніцтве нафтаправоду.

Стаянка-5 фінальнага палеаліту і мезаліту за 2 км на ПнУ ад вёскі, на лукавіне правага высокага берага р. Сож. У агаленнях тэрасы і па дарозе ў вёску сабраны адшчэпы, пласціны і рэтушор.

Стаянка-6 эпохі мезаліту і неаліту і паселішча-4 стараж.-рус. часу за 2,5 на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож. Паўн. частка помніка парушана пясчаным кар'ерам. У сценках кар'ера і агаленнях тэрасы знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, зубчата-выемчатая прылада, фр-ты ляпной керамікі, упрыгожанай адступаючымі адбіткамі краем лапаткі, абломкі кругавога посуду.

Курганны могільнік-1 стараж.-рус. часу за 1,2 км на ПдЗ ад в. Паклады, на ПнУ ад сельскіх могілак, на правым беразе старыцы р. Сож. Адкрыў у 1998 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2004 А.У.Коласаў. 6 насыпаў выш. 0,4–0,6 м, дыям. 5–10 м.

Курганны могільнік-2 стараж.-рус. часу на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе старыцы р. Сож. Вядомы з 1873, абследавалі ў 1978 М.А.Ткачоў, у 1998 В.Ф.Капыцін, у 2004 А.У.Коласаў. 10 насыпаў выш. 0,8–2,5 м, дыям. 6–14 м.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930 –1931 гг. // Працы. Т. 3; Копытин В.Ф. Археологические памятники Кричевского района Могилевской области. Могилев, 1999; Колосов А.В. Мезолитическая стоянка Поклады-2 в Кричевском Посожье // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; Яго ж. Археологические древности Могилевского Посожья (по материалам экспедиций 2002–2008 гг.). Могилев, 2009. *А.У.Коласаў.*

**ПАКРО́ЎСКІ** Фёдар Васілевіч (1855, с. Падольскае Кастрамской вобл., Расія – 13.8.1903), археолаг, чл.-кар. Маскоўскага археал. т-ва (1893). Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1879). Выкладчык Мінскага (1879), Віленскага жаночага (з 1880) духоўных вучылішчаў. Захавальнік Віленскага музея старажытнасцей (1884–1902). Склаў і выдаў каталогі збораў музея з фотаздымкамі і разгорнутымі апісаннямі артэфактаў. Даследаваў археал. помнікі на тэр. Кастрамской губ. З мэтай вызначэння межаў рассялення балтаў і славян у старажытнасці і сярэдневякоўі праводзіў даследаванні ў паўд.-ўсх. Літве і паўн.-зах. Беларусі (курганныя могільнікі Ахрэмаўцы (Бяльмонты), Будраны, Вусце (Богіна), Гускі, Жэлядзь, Засвір, Лынтупы, Майшулі (Рацкі Бор), Опса, Укля, Чорная Лужа і інш.). Дэталёва апісваў структуру даследаваных кургаnоў, пахавальны абрад і інвентар. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні 9-га археал. з'езда ў Вільні. Склаў археал. карты Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губерняў. У картах улічваў інфармацыю аб курганных і грунтавых могільніках, гарадзішчах, паселішчах і выпадковых знаходках першабытнай эпохі, скарбах і асобных знаходках манет, культавых камянях, стараж. дарогах.

*Тв.*: Виленский музей древностей. Вильна, 1892; Вторая археологическая экскурсия в бассейн реки Лоша // Тр. IX АС. Вильна, 1893; Случайная археологическая экскурсия в верховьях р. Вилейки // Там жа; Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895; Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1; К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении // Тр. X археол. съезда в Риге. М., 1899. Т. 1; Археологическая карта Ковенской губернии. Вильна, 1899.

*М.А.Плавінскі.*

**ПАЛА́Ц**, манументальны, парадна аформлены будынак з вял. колькасцю разнастайных памяшканняў. У старажытнасці П. – прадстаўнічая рэзідэнцыя князя, феад. знаці, месцазнаходжанне органаў улады. П. перыяду ранняга сярэдневякоўя ўключаліся ў абарончыя збудаванні і складалі з імі адзіны кампазіцыйны аб'ём.

Мураваныя П. ў Беларусі бяруць пачатак з будаўніцтва княжацкіх хорамаў 12 ст. ў Полацку і Гродне, якія разам з драўлянымі пабудовамі жылога і гасп. прызначэння, мураванай царквой утваралі адзіны архіт. комплекс на дзяцінцы. Яны выкарыстоўваліся таксама для ўрачыстых прыёмаў. У 2-й пал. 13 ст. мураваны П. прамавугольнай формы ўзведзены побач з *Камянецкай вежай*. Спалучэнні жылога будынка і абарончай вежы, якая ў выпадку нападу ворага станавілася непрыступным фартыфікацыйным цэнтрам, вядомы ў гарадах Зах. Еўропы з 9 ст. Будынкі з палявога каменю, па агульных прынцыпах аб'ёмна-планіровачнай пабудовы падобныя да хорамаў 12 ст., выяўлены на дзяцінцы ў Навагрудку і ў *Крэўскім замку*. Яны датуюцца адпаведна сяр. – 2-й пал. і 1-й пал. 14 ст. Для ўзвядзення наземных частак будынкаў, а таксама пры вымуроўцы архіт. дэталей у іх выкарыстоўвалася буйнапамерная цэгла. Неўзабаве пасля завяршэння будаўніцтва абарончых муроў у Крэўскім замку была ўзведзена вуглавая княжацкая вежа, 3-і і 4-ы паверхі якой выкарыстоўваліся для жылля. У к. 14 ст. аналагічная па функцыянальным прызначэнні вежа была збудавана ў паўн.-ўсх. куце *Лідскага замка*. У 14 ст. мураваныя будынкі грамадзянскага, як і выключна абарончага, прызначэння накрываліся жалабаватай дахоўкай, якая мела на пукатай паверхні рогападобны шып. З будаўніцтвам замкавых вежаў з жылымі функцыямі ў Крэве і Лідзе пачалося развіццё палацава-замкавых комплексаў, у якіх жылыя і гасп. будынкі ўключаліся ў шэраг пабудоў абарончага характару і выконвалі звычайна функцыі абароны. У к. 14–15 ст. на *Гродзенскім Старым замку* разам з абарончымі пабудовамі быў узведзены 2-павярховы палац. Характэрнай асаблівасцю Гродзенскага гатычнага замка з'яўлялася наяўнасць побач з палацам абарончай вежы-«стаўпа».

Падобнае спалучэнне вежы і палаца (адпаведна 15 і 16 ст.) выяўлена пры раскопках у *Мядзельскім замку*. З к. 15 – пач. 16 ст. пашыраецца будаўніцтва прыватнаўласніцкіх мураваных замкаў, чатырохвугольных у плане, з 4 вежамі па вуглах і 5-й надбрамнай вежай (Іказнь, Мір, Любча). П. выконвалі таксама і фартыфікацыйную функцыю. Асаблівай адметнасцю вызначаўся *Мірскі замак*, які з'яўляўся магутным абарончым збудаваннем і адначасова меў выгляд рэспектабельнай магнацкай рэзідэнцыі. У 2-й пал. 16 ст. пры будаўніцтве замка ў Заслаўі абарончыя збудаванні былі аддзелены ад жылых і культавых. З узвядзеннем бастыённага замка ў Нясвіжы (1583) зроблены істотны крок у развіцці палацава-замкавых ансамбляў. У межах штучных земляных умацаванняў тут створана сіметрычная забудова, якая ўключала гал. корпус з багата аздобленым гал. фасадам і 2 трохпавярховыя будынкі, размешчаныя абапал двара. На апошнюю чв. 16 – пач. 17 ст. прыпадае будаўніцтва *Гальшанскага замка*, які складаўся з размешчанага чатырохвугольнікам П. з унутраным дваром, 4 вуглавых і надбрамнай вежаў.

У развіцці палацавага будаўніцтва ў Беларусі прасочваюцца 3 перыяды. Першы прыпадае на 12–13 ст., калі П. займаў на дзяцінцы дастаткова самастойнае месца. З 14 ст., калі ўзводзяцца мураваныя замкі з жылымі вежамі ў шэрагу іх абарончых муроў, пачынаецца перыяд станаўлення палацава-замкавых ансамбляў. З сяр. 16 ст., калі былі пабудаваны *Заслаўскі замак*, функцыі абароны бяруць на сябе насыпныя бастыёны і курціны, якія абкружаюць пабудовы грамадзянскага і культавага прызначэння. У 18 ст. завяршаецца фарміраванне П. як манументальных, парадна аформленых будынкаў, якія канчаткова страчваюць абарончыя функцыі і цалкам аддзяляюцца ад фартыфікацыйных збудаванняў.

*І.М.Чарняўскі.*

**ПАЛАЧА́НЕ**, частка ўсходнеславянскай групы *крывічоў*, якія ў 9 ст. насялялі тэр. сучаснай Віцебскай і Пн Мінскай абласцей. На Пд межавалі з *дрыгавічамі*, на ПдУ са смаленскімі крывічамі, на Пн і У з ізборскімі крывічамі і наўгародскімі *славенамі*, на З і ПнЗ з *лета-літоўскімі плямёнамі*. Паводле «Аповесці мінулых гадоў», П. – славяне, якія атрымалі назву ад р. Палата (прыток Зах. Дзвіны). На думку некаторых даследчыкаў, П. – саюз плямён, што вылучыліся з крывіцкага аб'яднання плямён з цэнтрам у Полацку, ад якога і атрымалі сваю назву. Стварылі адно з ранніх тэрытарыяльна-палітычных аб'яднанняў – племяннное «княжэнне», якое дало пачатак Полацкаму княству. Самыя стараж. помнікі – могільнікі з доўгімі курганамі крывічоў, паселішчы ў Полацку, Віцебску, Лукомлі, Свіла-1, *Дзіўная* і інш.

*Г.В.Штыхаў.*

**ПАЛЕААНТРАПАЛО́ГІЯ** (ад грэч. palaios старажытны + *антрапалогія*), раздзел антрапалогіі, які вывучае змены фізічнага тыпу чалавека ад першапачатковых стадый яго існавання (архантрапы) да канчатковага фарміравання вял. рас сучаснага чалавецтва (неаантрапы). Некаторыя даследчыкі лічаць, што аб'ектам вывучэння П. з'яўляюцца ўсе выкапнёвыя рэшткі чалавека да 19 ст. П. цесна звязана з *палеаанталогіяй*, палеабатанікай, археалогіяй, геалогіяй *антрапагенy*, у пач. якога чалавек вылучыўся з жывёльнага свету. Данымі П. карыстаюцца пры вывучэнні суадносін антрапа- і сацыягенезу, гісторыі фарміравання, рассялення, узаемадзеяння і ўзаемаўплыву расавых тыпаў і ў сувязі з некаторымі пытаннямі антрапа- і этнагенезу.

*Літ.*: Алексеев В.П. Палеоантропология земного шара и формирование человеческих рас: палеолит. М., 1978; Его ж. Становление человечества. М., 1984.

*І.І.Салівон.*

**ПАЛЕАГЕАМАРФАЛО́ГІЯ** (ад грэч. palaios старажытны + gē Зямля + logos навука), вывучэнне і рэканструкцыя стараж. рэльефу шляхам назіранняў за яго рэліктавымі формамі, вызначэнне берагавых ліній стараж. вадаёмаў паводле складу і біястратыграфіі адпаведных адкладаў. Даныя палеагеамарфалагічных назіранняў выкарыстоўваюцца для вызначэння шляхоў першаснага пранікнення, рассялення, месцаў жыхарства стараж. насельніцтва. Заўважана непасрэдная сувязь паміж формамі рэльефу (элементамі стараж. далін) і ўзростам звязаных з імі рэшткаў стараж. паселішчаў. Гэта дазваляе выкарыстоўваць археал. даныя пры геалагічных даследаваннях і стварэнні геахраналагічнай шкалы. На Падняпроўі, напр., палеалітычныя і мезалітычныя паселішчы, як правіла, звязаны з 2-й надпоймавай тэрасай. Дзякуючы магчымасці датаваць радыевугляродным метадам ($^{14}C$) арганічныя рэшткі з паселішчаў (напр., *Бердыж, Юравічы*) можна вызначыць узрост адкладаў, у якіх яны знойдзены, і час утварэння тэрасы. Неалітычныя паселішчы найчасцей сустракаюцца на астанцах першых надпоймавых тэрас, пясчаных пагорках рознага генезісу на поплаве. Насельніцтва, якое жыло ў далінах рэк Балтыйскага басейна, звычайна займала больш высокія тэрасы. Усе археал. пошукі абавязкова вядуцца з улікам даных П.

*А.Г.Калечыц.*

**ПАЛЕАДЭМАГРА́ФІЯ** (ад грэч. palaios старажытны + dēmos народ + graphō пішу), галіна грамадскіх навук на стыку дэмаграфіі, археалогіі, антрапалогіі і гісторыі, якая вывучае і рэканструюе дэмаграфічныя паказчыкі і працэсы ў старажытнасці: колькасць насельніцтва, яго міграцыі, шчыльнасць і характар рассялення, узроставаполавую структуру, працягласць жыцця, узро-

вень смяротнасці і інш. Грунтуецца пераважна на археал. і антрапалагічных матэрыялах, сярэдневяковых і больш позніх падатковых перапісах насельніцтва. Першыя спробы палеадэмаграфічных даследаванняў у Беларусі былі зроблены ў дарэвалюцыйны час, калі на падставе падліку курганных могільнікаў і шчыльнасці іх размяшчэння на пэўнай тэр. даследчыкі (у прыватнасці У.З.Завітневіч) меркавалі пра агульную колькасць насельніцтва пэўных рэгіёнаў або плямён. Пазней па меры назапашвання палеаантрапалагічных матэрыялаў, развіцця і ўдасканалення антрапалагічных (краніяметрычных) метадаў даследчыкі (Г.Ф.Дэбец, В.П.Аляксееў, Т.І.Аляксеева і інш.) змаглі даць асн. дэмаграфічныя характарыстыкі асобных стараж. папуляцый усх. славян, у т.л. пэўных тэрытарыяльных груп *крывічоў*, *дрыгавічоў*, *радзімічаў*, *валынян*, северян, вяцічаў і інш. У значнай ступені былі вырашаны пытанні колькасці насельніцтва ў 9—13 ст., розніцы ў працягласці жыцця мужчын і жанчын, гар. і сельскіх жыхароў, дзіцячай смяротнасці і інш. У апошнія гады П. ўзбагацілася сучаснымі статыстычнымі метадамі даследавання, пашырaліся яе храналагічныя рамкі, павялічылася колькасць выкарыстанага матэрыялу. Розныя пытанні П. насельніцтва Беларусі 10—18 ст. разглядаюцца ў працах Т.І.Аляксеевай, І.І.Салівон, Г.Чэсніса, І.У.Чаквіна і інш.

*Літ.*: Завитневич В.З. Область дреговичей как предмет археологического исследования // Тр. Киевской духовной академии. 1886. Кн. 8; Дебец Г.Ф. Палеоантропология СССР. М.; Ленинград, 1948; Яго ж. Чарапы Люцынскага могільніка і старажытных славян Беларусі і месца апошніх у палеаантрапалогіі Усходняй Еўропы // Працы. Т. 3; Алексеев В.П. Происхождение народов Восточной Европы: (краниол. исслед.). М., 1969; Яго ж. Палеодемография СССР // СА. 1972. № 1; Алексеева Т.И. Этногенез восточных славян по данным антропологии. М., 1973; Саливон И.И., Тегако Л.И., Микулич А.И. Очерки по антропологии Белоруссии. Минск, 1976; Чеснис Г., Чаквин И. Использование неметрических краниологических признаков в этногенетических исследованиях (по палеоантропологическим данным X–XVI вв. с территории БССР) // Glasnik antropologic društva Jugoslavic. Beograd, 1986. № 23; Aleksejwa T.I. Wschodniosłowiańskie czaszki z kurganów plemennych. Wrócław, 1966. *І.У.Чаквін.*

**ПАЛЕАЛІ́Т** (ад грэч. palaios старажытны + lithōs камень), старажытнакаменны век, першая з трох асн. эпох *каменнага веку*. Пач. П. супадае з паяўленнем найстаражытнейшых малпападобных людзей — архантрапаў (больш за 2 млн. гадоў таму назад, верхні пліяцэн), а канец (у Еўропе) адпавядае часу заканчэння плейстацэну (10,5 —10 тыс. гадоў назад). П. падзяляецца на ніжні (ранні), сярэдні (*мусцье*) і верхні (позні). Частка даследчыкаў не вылучае сярэдні П., мусцьерскую культуру яны адносяць да ранняга П. У эпоху ніжняга і сярэдняга П. жылі архантрапы і палеаантрапы, верхняга — неаантрапы.

У Беларусі найб. старaж. (мусцьерскага часу) палеалітычныя адзінкавыя крамянёвыя прылады працы, якія не маюць дакладнай стратыграфічнай прывязкі, знойдзены каля в. Абідавічы Быхаўскага і пас. Чамярня Веткаўскага р-наў. Выяўлены доўгачасовыя верхнепалеалітычныя паселішчы (26—24 тыс. гадоў таму назад) *Юравічы* і *Бердыж*. У фінальным П. (12—11-е тыс. да н.э.) на Дняпры і Сажы пачала складвацца *грэнская культура*, у 10-м тыс. да н.э. на тэр. Валыні, Зах. Палесся, у басейне Нёмана і Віслы — *свідэрская культура*. Асновай гасп. дзейнасці на працягу ўсяго П. было паляванне, якое дапаўнялася збіральніцтвам. У *неандэртальцаў* (першых людзей, што з'явіліся на тэр. Беларусі) было некалькі дзесяткаў форм прылад працы, рэшткі слядоў выкарыстання якіх сведчаць пра шматфункцыянальнае іх прымяненне для рэзання, стругання, свідравання, апрацоўкі дрэва, косці і скур. Неандэртальцы будавалі жытлы, карысталіся агнём. Да гэтага часу адносяцца праявы першабытнага мастацтва і першых рэлігійных вераванняў, найстаражытнейшыя пахаванні, упершыню вылучаюцца *археалагічныя культуры*, у якія даследчыкі аб'ядноўваюць групы падобных па складу прылад працы мусцьерскіх помнікаў. Да пач. верхняга П. адносіцца ўзнікненне чал. сучаснага фізічнага тыпу (Homo sapiens). На працягу гэтай эпохі чалавецтва значна пашырыла арэал рассялення, чалавек навучыўся жыць у прыледавіковай (перыгляцыяльнай) зоне, асвоіў амаль усе прыродныя зоны. Большая разнастайнасць асартыменту прылад працы і ўдасканаленне спосабаў іх вырабу спрыялі ўзнікненню шматлікіх верхнепалеалітычных культур. Сістэматычна ўдасканальваліся прылады працы, спосабы палявання, домабудаўніцтва, выраб вопраткі і інш. Чалавечыя калектывы, якія засн. Юравіцкую і Бердыжскую стаянкі, жылі ў вельмі суровых умовах перыгляцыяльнага клімату напярэдадні найб. халоднага ў гісторыі Зямлі валдайскага зледзянення. Гал. аб'ектамі палявання першабытных абшчын былі буйныя жывёлы (мамант, шарсцісты насарог, алень, конь, першабытны бык, мядзведзь і інш.). На верхнепалеалітычных стаянках Беларусі знойдзены наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, прымітыўныя рубячыя прылады, разцы і інш. Заключная частка П. — фінальны П. (прыкладна 12—10-е тыс. да н.э.). Адыход паазерскага ледавіка, знікненне вечнай мерзлаты, велізарных прыледавіковых вадаёмаў прывялі да шырокага распаўсюджання статкаў паўн. аленя, які стаў асн. аб'ектам палявання насельніцтва прыледавіковых тэр. Еўропы і экалогія якога была прычынай пераходу да сезонна-рухомага ладу жыцця тагачаснага насельніцтва. У межах перамяшчэння звыклай экалагічнай нішы, якой для аленя па-ранейшаму

заставаліся прасторы тундры і лесатундры, пачаліся актыўныя міграцыі жывёл, а следам за імі чалавека. У час фінальнага палеаліту, што храналагічна амаль супадае з позналедавіковым перыядам, на тэр-ю Беларусі прыйшло насельніцтва некалькіх археал. культур: гамбургскай, культуры Лінгбі, валкушанскай і свідэрскай. Адзінай культурай, якая сфарміравалася на тэр. Беларусі ў гэты прамежак часу, можна лічыць грэнскую культуру. На змену П. прыйшоў *мезаліт*.

*Літ.*: Калечиц Е.Г. Первоначальное заселение территории Белоруссии. Минск, 1984.

*А.Г.Калечыц.*

**ПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ** [ад грэч. palaios старажытны + on (ontos) існае + logos вучэнне], навука, якая вывучае ўсе праяўленні жыцця ў геалагічным мінулым Зямлі на розных узроўнях (экасістэм, папуляцый, арганізмаў, субклетак). Як самастойная навука ўзнікла на мяжы 18 і 19 ст. Яе заснавальнікамі лічацца французскія вучоныя Ж.Кюўе, Ж.Б.Ламарк і А.Т.Браньяр. Тэрмін «П.» ўвёў французскі заолаг А.Бленвіль (1825). Па метадалогіі, аб'ектах і метадах даследаванняў П. – біялагічная навука, асн. крыніцай якой з'яўляюцца выкапнёвыя арганізмы, сляды іх жыццядзейнасці. Мае 2 асн. аддзелы – *палеабатаніку* і палеазаалогію; асобна вылучаюць *палеаэкалогію*, мікрапалеанталогію, палеабіягеаграфію. Заканамернасці пахавання і распаўсюджвання выкапнёвых рэштак у асадачных пародах вывучаюць тафаналогія і біястратаномія, сляды жыццядзейнасці – палеаіхеналогія. П. як адна з крыніц інфармацыі аб асяроддзі пражывання чалавека на старaж. этапах яго развіцця цесна звязана з гісторыяй, *антрапалогіяй*. Палеанталагічныя даследаванні вядуцца ў Ін-це геахіміі і геафізікі НАН Беларусі.

*Літ.*: Палеонтология и стратиграфия БССР: сб. 1–5. Минск, 1955–66; Стратиграфические и палеонтологические исследования в Белоруссии. Минск, 1978.

*Н.П.Александровіч.*

**ПАЛЕАПАТАЛО́ГІЯ** (ад грэч. palaios старажытны + pathos хвароба + logos вучэнне), навука пра хваравітыя змяненні ў арганізме чалавека, жывёл і раслін, што існавалі на Зямлі ў далёкія часы. Вывучае прычыны і механізмы развіцця хвароб і паталагічных працэсаў шляхам даследавання марфалагічных змен органаў і тканак. Пры палеапаталітычных даследаваннях выкарыстоўваюць паталагаанатамічны, гісталагічны рэтгенаструктурны і інш. метады. Тэрмін П. ўведзены англійскім вучоным М.Раферам у 1913. П. цесна звязана з *палеанталогіяй*, археалогіяй і медыцынай. У археал. даследаваннях П. выкарыстоўваецца для вывучэння паталогій касцей чалавека і жывёл, выкліканых прыжыццёвымі зменамі касцявых тканак у выніку захворванняў (астэапароз, астэома, астэадыстрафія, карыес і інш.) і ўздзеянняў знешняга асяроддзя (пасля траўмы, голаду, нагрузак, аказання медыцынскай дапамогі і інш.). Палеапаталагічныя даследаванні дазваляюць вызначыць старажытнасць і распаўсюджванне многіх хвароб у розныя гіст. часы. У Беларусі пытанні П. чалавека вывучае з 1970 Л.М.Казей.

*Літ.*: Казей Л.Н. Палеопатологические находки из курганов XI столетия на территории Белоруссии // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972.

*Н.П.Александровіч.*

**ПАЛЕАЭКАЛО́ГІЯ** (ад грэч. palaios старажытны + oikos дом, жыллё + logos навука), раздзел палеанталогіі, палеабатанікі, экалогіі, які вывучае спосабы жыцця і ўмовы пражывання арганізмаў у геалагічным мінулым, устанаўлівае ўзаемаадносіны паміж імі і асяроддзем (экасістэмы) і іх змены на працягу развіцця жыцця на Зямлі. Адна з задач П. – рэканструкцыя гісторыі сацыяльнай і біялагічнай адаптацыі чалавечага грамадства да змен навакольнага асяроддзя (экасацыягенез). Метады П. выкарыстоўваюцца ў археалогіі. У сваю чаргу даныя археалогіі неабходны для палеаэкалагічных высноў. У археалогіі Беларусі спробы палеаэкалагічных распрацовак пачаліся ў канцы 20 ст.

*А.Г.Калечыц.*

**ПАЛІ́ВА**, глазура, шклопадобнае дэкаратыўна-засцерагальнае пакрыццё таўшч. 0,1–0,3 мм, якое наносіцца на паверхню керамічных вырабаў і замацоўваецца абпалам пры высокіх тэмпературах. Асн. кампаненты П. – кварцавы пясок, гліна і вокіслы металаў (медзі, жалеза, марганцу і інш.) у якасці фарбавальнікаў.

Падзяляецца паводле спосабу прыгатавання – на П. сырую (не утрымлівае растваральных у вадзе кампанентаў) і фрытаваную (атрымліваецца шляхам спякання або сплаўлення часткі ці ўсёй глазурнай шыхты; пасля чаго растваральныя ў вадзе кампаненты пераходзяць у нерастваральныя сілікаты і інш. злучэнні); паводле складу – на палёвашпатавыя, свінцовыя, борнасвінцовыя, стронцыевыя і інш.; паводле тэмпературы абпалу – на легкаплаўкія (ніжэй за 1200 °С) і тугаплаўкія (вышэй за 1200 °С); па знешнім выглядзе і структуры паверхні – на празрыстыя і глухія (у т.л. апакавыя), крышталічныя (цынкавыя), дробна-крышталічныя (тыпу авантурынавых), бліскучыя, матавыя, з сеткай трэшчын (кракле), пузыраватай паверхняй і інш. Да характарыстык П. часам дадаюць вызначэнне, звязанае з падабенствам колеру да прыроднага (напр. карал).

На тэр. Беларусі з 12 ст. выкарыстоўвалі дэкаратыўныя пліткі і бытавую кераміку з глухой каляровай П. (Віцебск, Гродна, Пінск, Полацк, Тураў). Наносілі яе на папярэдне абпаленыя або прасушаныя керамічныя вырабы (кафлю, посуд, цацкі, люлькі) сухім напыленнем на апрацаваную ліпкім саставам паверхню праз густое сітца-

пытлік (чэшск. pytlik мяшэчак) або паліваннем (адсюль назва). Пры нанясенні сухой П. посуд абмазвалі дзёгцем (усх. раёны), пры вадкім спосабе выкарыстоўвалі ваду або рэдкі мучны клейстар (зах. раёны). У 2-й пал. 13 – 1-й пал. 15 ст. П. не выкарыстоўвалася. З к. 15 ст. посуд і кафлю пакрывалі легкаплаўкай свінцовай П. зялёнага і карычневага колераў розных адценняў. З 2-й пал. 16 ст. пашыраны паліхромная П. і тэхніка пакрыцця кафлі і посуду глухой каляровай П. (эмаллю); шырока выкарыстоўвалі таксама празрыстую П. для пасудзін, размаляваных *ангобам* ці керамічнымі фарбамі. У 16 ст. П. наносілі тоўстым слоем пераважна на ўнутраную паверхню посуду, толькі кубкі і кафлю палівалі з абодвух бакоў. На Беларусі вядома П. на свінцовай аснове з дадаткам злучэнняў волава, медзі і жалеза. Пашыраны зялёны, карычневы, блакітны, сіні, жоўты, белы колеры П. З 18 ст. кераміку размалёўвалі вокісламі металаў па эмалі, у якасці фарбавальніка сіняга колеру выкарыстоўвалі вокісел кобальту. Па асн. і дадатковых кампанентах П. нязначна адрознівалася ад керамічнай масы, што дазваляла пазбегнуць трэшчын пры абпале. Наносілася яна звычайна без папярэдняга абпалу пасудзін з наступнай тэрмічнай апрацоўкай пры тэмпературы не вышэй за 800 °С. *Н.І.Здановіч.*

**ПАЛІКАРПО́ВІЧ** Канстанцін Міхайлавіч (18.3. 1889, в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. – 20.2.1963), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1951). Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1909). Настаўнічаў у школах Чэрыкаўскага пав. З 1926 чл. гіст.-археал. камісіі Інбелкульта. З 1929 у ІГ АН БССР (у т.л. з 1944 заг. сектара). У 1941–42 у эвакуацыі ў Казахстане, у час геалагічных экспедыцый даследаваў і археал. помнікі. У Беларусі і ў Бранскай вобл. адкрыў і вывучаў палеалітычныя (*Бердыж*, *Елісеевічы*, *Падлужжа*, *Юдзінава*, *Юравічы*) і мезалітычныя (*Журавель*, *Крыжы*) стаянкі, помнікі неаліту і бронзы (*Крывіна*, *Стрэліца*). Вёў разведвальныя работы з мэтай выяўлення новых помнікаў на рэках Беседзь, Дняпро, Іпуць, Сож, Случ і інш. Першым выказаў думку пра засяленне тэр. Беларусі першабытным чалавекам у стараж.-каменным веку. Вывучаў касцярэзнае мастацтва першабытных людзей.

*Тв.*: Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т. 1; Дагістарычныя стаянкі сярэдняга Сажа // Працы. Т. 2; Знаходкі рэштак чацвярцёвай фауны на тэрыторыі БССР // Працы. Т. 3; Палеолит и мезолит БССР и некоторых соседних территорий Верхнего Приднепровья // Тр. II Междунар. конф. ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. Л.; М.; Новосибирск, 1934. Вып. 5; К вопросу о мустьерской культуре в Верхнем Поднепровье // Материалы по археологии БССР. Минск, 1957. Т. 1; Поликарпович К.М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Минск, 1968.

*Т.М.Каробушкіна.*

**ПАЛІ́ЦКАЕ**, археалагічны помнік – гарадзішча жалезнага веку і сярэднявякоўя каля в. Паліцкае Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. За 1,5 км на У ад вёскі ва ўр. Гарадок, на высокім астанцы правага берага р. Бярэзіна. У літаратуры гарадзішча часам прывязвалася да в. Навасёлкі. Пляцоўка няправільнай прамавугольнай формы памерамі 61 × 46 м, часткова захаваліся валы і равы. Вядома з 1882. Абследавалі ў 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, у 1963 Л.Д.Побаль. У 1970 Л.В.Жыхарава даследавала 48 м², у 1995–97 М.І.Лашанкоў – 200 м² на паўн.-ўсх. ускраіне помніка. Атрыманыя матэрыялы (керамічны матэрыял, шпількі, бранзалет, гліняныя праслíцы і інш.) сведчаць аб прыналежнасці гарадзішча ў 2 ст. да н.э. – 1 ст. н.э. насельніцтву культуры штрыхаванай керамікі. У 12–13 ст. на гарадзішчы размяшчаўся вартавы пункт, аб чым сведчаць знаходкі кругавой керамікі, шпоры, бразготкі.

*Літ.*: Шутаў С.С., Улашчык М.М. Археалагічныя разьведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г. // Працы. Менск, 1930. Т. 2; Жихарева Л. Городище Городок // Тезисы III региональной студенческой археолого-этнографической конференции вузов Северо-Запада СССР. Рига, 1971; Лошенков М.И. Городище Палицкое // Is baltu rulturos istorijos. Vilnius, 2000.

*М.І.Лашанкоў, В.І.Кошман.*


*К.М.Палікарповіч.*

**ПАЛО́СКІ**, археалагічныя помнікі – стаянка і курганны могільнік каля в. Палоскі Дрыбінскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка верхнедняпроўскай культуры позняга неаліту за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, 2 км на Пд ад Дрыбіна, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня. Адкрыў у 1985 і даследаваў 64 м² у 1989 В.Ф.Капыцін. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (канцавыя скрабкі, вастрыі, вырабы з выемкай, разцы, наканечнікі стрэл), прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы, пласціны, адшчэпы, сколы, лускавінкі), фр-ты ляпной керамікі. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся цёмнашэры мелавы крэмень, выхады якога вядомы па берагах Проні каля г.п. Дрыбін.

Курганны могільнік на паўд. ускраіне стаянкі. 4 насыпы выш. 0,5–0,7 м, дыям. 10–12 м. Адзін разбураны кар'ерам. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Археологические памятники Дрибинского района Могилевской области. Могилев, 1994. *В.Ф.Капыцін.*

**ПАЛЫ́КАВІЧЫ 1**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы каля в. Палыкавічы 1 Магілёўскага р-на.

Гарадзішча-1 за 0,2 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Дняпро, за 0,3 км ад яго рэчышча, на мысе, утвораным 2 ярамі, ва ўр. Барсукова Горка. Арыентавана з Пд на Пн, займае 2 пляцоўкі агульнай даўж. 108 м, шыр. 31–52 м. Мела складаную сістэму абарончых ўмацаванняў: з боку поля вал выш. да 5,5 м і роў, з 3 бакоў паўн. пляцоўкі вал

выш. да 1,5 м. У мысавай частцы дадатковы вал, які аплыў. Помнік пашкоджаны ямамі і траншэямі часоў Вял. Айч. вайны. Вядома з пач. 20 ст. Даследаваў у 1937 В.Р.Тарасенка, абследаваў у 1987 і 1992 і даследаваў у 1995 А.А.Седзін. Уздоўж усх. і зах. бакоў пайд. пляцоўкі В.Р.Тарасенка выявіў рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі, 7 каменных агнішчаў дыям. 1–1,5 і 3 м, кавалкі абпаленай гліны. Культ. пласт 1,3–2,2 м. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду, у т.л. глянцаванага, а таксама з бугрыстай паверхняй і пакрытага штрыхоўкай, жал. наканечнікі стрэл (трохлопасцевы тронкавы і лістападобны), лязо сякеры, рыбалоўны кручок, нажы з прамой спінкай, брытва з увагнутай спінкай, фр-ты жал. вырабаў, касцяныя шылы і іголкі, прасліцы, тачыльныя бруські, верхні камень ад зернецёркі, косткі буйной рагатай жывёлы.

Гарадзішча-2 ранняга жал. веку, за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Дняпро, за 0,2 км ад яго рэчышча, на мысе, утвораным 2 ярамі, выш. над тальвегам яра 22 м. Пляцоўка авальная, памерамі 32 × 23 м. З боку поля ўмацавана валам выш. 2,5–3 м, шыр. 15–18 м і ровам. У мысавай частцы прасочваецца вал, які аплыў. Пляцоўка моцна пашкоджана траншэямі і ямай ад бліндажа часоў Вял. Айч. вайны, ямамі скарбашукальнікаў. Абследавалі ў 1936 В.Р.Тарасенка, у 1987 А.А.Седзін. Знойдзены фр-ты ляпнога керамічнага посуду, пакрытага штрыхоўкай, расколатыя і абпаленыя камяні.

*Літ.*: Тарасенко В.Р. Раскопки на городище Барсучья Горка // КСИИМК. М.; Ленинград, 1949. Вып. 15; Седин А.А. Городище Барсучья Горка под Могилевом // Шляхі Магілёўскай гісторыі. Магілёў, 2005.

*А.А.Седзін.*

**ПАЛЬШТА́Б** (англ. palstave), тып ранніх бронзавых сякер з бакавымі закраінамі і пяткай, зрэдку з адным альбо дзвюма бакавымі вушкамі. У адрозненне ад больш ранніх сякер з закраінамі, П. рабілі з пяткай – папярэчным уступам, які дазваляў больш надзейна мацаваць дзяржанне ў верхняй частцы выраба і перашкаджаў яму спаўзаць на лязо. Былі шырока распаўсюджаны ў эпоху бронзы на тэр. Зах., Паўн. і Паўд. Еўропы. У межах Беларусі знойдзены ва Усх. Палессі (*Прыбар*, Гомель) і Панямонні (*Падвялікае*). Яны маюць аналогіі з вырабамі 3–4 перыядаў паўн.-еўрап. эпохі бронзы (каля 14 – 10 ст. да н.э.).

*Літ.*: Крывальцэвіч М. Новыя знаходкі металічных сякер эпохі бронзы // Археалагічны зборнік. Мінск, 2006. Вып. 1; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008; Лебедзь В.А. Сякеры з закраінамі на тэрыторыі Беларусі // МАБ. 2010. Вып. 18.

*М.М.Крывальцэвіч.*



*Бронзавы **пальштаб** з закраінамі і пяткай (паселішча Прыбар Гомельскага раёна).*

**ПАЛЯВА́ННЕ**, здабыча дзікіх звяроў і птушак з мэтай іх выкарыстання ў гаспадарцы, для забеспячэння свайго існавання; адна з самых стараж. форм гасп. дзейнасці чалавека. У каменным веку П. – асн. занятак першабытнага чалавека, які забяспечваў яго ежай (мяса, тлушч), адзеннем (скура, воўна, футра, пух), сыравінай для вытворчасці прылад працы, зброі, амулетаў, чурынгаў, упрыгажэнняў (іклы, біўні, косці, сухажыллі, скура), буд. матэрыялам і палівам (чарапы, косці, рогі, скура, тлушч). Аб'екты і спосабы П. вызначаліся ўзроўнем развіцця вытворчасці і відамі паляўнічай зброі, якая ўдасканальвалася ад эпохі да эпохі. У самым пачатку гісторыі чалавецтва людзі палявалі на жывёлін, якія траплялся, пры дапамозе выпадкова знойдзеных палак і камянёў. У сярэднім палеаліце (эпоха мусцье) выкарыстоўваліся не толькі рубілы і вострананечнікі, але і коп'і з масіўнымі наканечнікамі, людзі маглі здабываць мамантаў, шарсцістых насарогаў, пячорных мядзведзяў. У верхнім палеаліце з крамянёвых пласцін выраблялі разнастайныя наканечнікі дроцікаў, пазней і стрэл, выкарыстоўваліся коп'екідальнікі, рагаціны, дубіны. У канцы *палеаліту* палявалі на паўн. аленя. Паводле наскальных малюнкаў і выяў на сценах пячор, у час П. на дзікіх жывёл выкарыстоўвалі загоны да абрываў, яроў са стромкімі схіламі і ў дрыгву; аблавы з нагонкай; падыход або скрадванне, часам з маскіроўкай пад скурай жывёлы; лоўчыя ямы. Пасля апошняга зледзянення і ўстанаўлення сучаснай геалагічнай эпохі – галацэну – узнавіліся лясы і значна ўзбагаціўся жывёльны свет. Мамант і шарсцісты насарог зніклі, а статкі паўн. аленяў адышлі далёка на Пн. Быў прыручаны сабака, вынайдзены лук і стрэлы, магчыма, прашча, больш разнастайнымі сталі спосабы П. Акрамя калектыўных пачалі выкарыстоўваць групавыя і індывідуальныя віды П., засн. на добрым веданні нораву, звычак і паводзін звяроў навакольных лясоў. Прадукцыйным было П. метадам аблавы з нагонкай жывёл на лінію па-

ляўнічых, ажыццяўляліся трапленне (выяўленне здабычы па следзе), подпуск (звера забівалі з засады). У новых экалагічных умовах развіліся неактыўныя спосабы П., пры якіх выкарыстоўваліся самалоўныя прылады і прыстасаванні: лоўчыя ямы, пасткі, петлі, самастрэлы, сеткі, сілы. Асн. аб'ектамі П. былі высакародны алень, бабёр, дзік, зубр, касуля, лань, лось, мядзведзь, тур, тарпан, дробныя пушныя звяры і інш.

Рэшткі плейстацэнавай фауны знойдзены на тэр. Беларусі амаль у 300 месцах. Стаянкі стараж. краманьёнцаў – паляўнічых на мамантаў выяўлены каля вёсак Бердыж і Юравічы. На першай знойдзена 1800 касцей мамантаў і рэшткі жывёл 19 відаў (паўн. алень, шарсцісты насарог, зубр, конь, мядзведзь, пясец, воўк, заяц і інш.), на другой – косці 15–20 мамантаў, пераважна маладога ўзросту, першабытнага быка, дзікага каня і пясца. У раннім неаліце палявалі на дзіка, лася і высакароднага аленя, таксама на тарпана, бабра, зубра або тура, мядзведзя і касулю. У познім неаліце сталі больш здабываць дзіка і лася, меней – тарпана, бабра, аленя, палявалі таксама на дробнага звера і вадаплаўную птушку. На тэр. паўн. Беларусі, як сведчаць фауністычныя рэшткі са стаянак *Асавец і Галоўск*, палявалі пераважна на дзіка, мядзведзя, лася. У бронзавым веку ў сувязі з пераходам да вытвараючай гаспадаркі П. адышло на другі план. Аналіз касцявых рэштак з раскопак гарадзішчаў жал. веку Пн Беларусі (*Дворышча*, *Кастрыца*, *Кублічы*, *Новы Болецк*, *Урагава* і інш.) паказвае перавагу свойскай жывёлы над дзікай. Тут у 6 ст. да н.э. – 8 ст. н.э. найб. часта палявалі на буйных капытных (лася, зубра і інш.), шмат здабывалі баброў і лісіц, меней мядзведзеў, куніц і рысяў. У касцявых рэштках з раскопак гарадзішча *Чаплін*, што на Пд Беларусі, пераважаюць дзікія жывёлы (51%): капытныя (высакародны алень, лось, касуля, зубр, дзік), шмат баброў. Рэшткі дзікіх жывёл на ўсіх даследаваных помніках сярэдневякоўя, акрамя Гродна (57%) і Ваўкавыска (55%), па колькасці саступаюць рэшткам свойскіх жывёл, асабліва гэта характэрна для стараж. Полацка, Віцебска, Мінска (13–22%). Амаль роўная колькасць рэштак свойскіх і дзікіх асобін выяўлена ў Лукомлі, Клецку, Давыд-Гарадку. Асн. аб'ектам паляўнічага промыслу былі лось, зубр, высакародны алень, касуля, дзік, на якіх палявалі дзеля мяса і якія складалі больш за 75% усёй паляўнічай здабычы, а таксама мядзведзь, воўк, выдра, бабёр і заяц. На Пд Беларусі П. ў насельніцтва гарадоў адыгрывала большую ролю, чым на Пн (Давыд-Гарадок 41%, Клецк 46%). Пінск – адзіны помнік, дзе выяўлены рэшткі тура (пласт 14 – 16 ст., апошняя асобіна была забіта ў 1627). Да 17 ст. асн. паляўнічай зброяй быў лук. Для П. на птушак і пушных звяроў выкарыстоўвалі касцяныя наканечнікі з тупым суцэльным канцом, якія не псавалі футра. Для лоўлі куніц, собаляў, вавёрак, гарнастаяў, выдраў, лісіц прымянялі самалоўныя прыстасаванні. У раннім сярэдневякоўі быў удасканалены лук, а з 12 ст. пашырылася куша (арбалет) з кольбай, ложам і механічным нацяганнем цецівы. У к. 15 – 16 ст. спачатку знаць, пазней сяляне палявалі пры дапамозе спец. стрэльбаў – пташын. З 18 ст. вядомы пасткі (капканы). Удасканаленне паляўнічай зброі, выкарыстанне ў П. сабак спецыялізаваных парод і сабачых зграй прывялі да знішчэння ў сяр. 18 ст. тарпанаў, у пач. 19 ст. – высакародных аленяў, у 20 ст. – зуброў, звяліся собалі, расамахі, бабры, чорныя зайцы, пад пагрозай знішчэння апынуліся касулі, ласі, мядзведзі.

*Літ.*: Кларк Дж.Г.Д. Доисторическая Европа: экон. очерк: пер. с англ. М., 1953; Цалкин В.И. Материалы для истории скотоводства и охоты в Древней Руси. М., 1956 (МИА. №51); Будько В.Д. Юревичская верхнепалеолитическая стоянка // Белорусские древности. Минск, 1967; Поликарпович К.М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Минск, 1968; Щеглова В.В. К вопросу о животноводстве и охоте в Белоруссии в средние века // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Я е ж. О видовом составе и соотношении между домашними и дикими животными на городищах эпохи раннего железа севера Белоруссии // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Минск, 1969; Я е ж. Фауна поселения Камень. // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Верещагин Н.К. Охота первобытного человека и вымирание плейстоценовых млекопитающих в СССР // Материалы по фаунам антропогена СССР. Ленинград, 1971 (Тр. Зоол. Ин-та АН СССР. Вып. 49).

*Н.П.Александровіч, У.Ф.Ісаенка.*

**ПАЛЯВА́Я АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ ДАКУМЕНТА́ЦЫЯ**, пакет дакументаў, які складаецца пры правядзенні археал. раскопак (палявыя вопісы знаходак, дзённік, тапаграфічныя планы, стратыграфічныя разрэзы і планы пабудоў, пахаванняў і г.д.).

Дакументацыя археалагічнага абследавання складаецца са спісу абследаваных помнікаў археалогіі з назвамі, нумерацыяй згодна карце маршруту разведкі і ўказаннем, якія з аб'ектаў новыя (адкрытыя); падрабязнага апісання кожнага помніка і канкрэтнай прывязкі да мясцовасці (урочышча, рака, адлегласць ад населенага пункта, лініі электраперадач, дарогі і г.д.). Апісанне аб'екта ўключае звесткі пра захаванасць, стан паверхні, тапаграфічныя асаблівасці, форму і памеры аб'екта (для селішчаў прыводзяцца межы распаўсюджання знаходак), характарыстыку культ. пласта пры шурфоўцы ці зачыстцы яго агаленняў, а таксама сабранага матэрыялу; тапаграфічныя планы адкрытых або вядомых аб'ектаў ва ўстаноўленым маштабе з адлюстраваннем асаблівасцей рэльефу (у т.л. прылеглай мясцовасці). Для гарадзішчаў і інш. помнікаў са складаным рэльефам прыкладаюцца разрэзы ў тым жа машта-

бе, што і план помніка. Усе віды прац на помніку (закладка шурфоў, траншэй, зачыстка парушанага слоя і г.д.) павінны быць адлюстраваны на плане. Фіксуюць стратыграфічныя профілі шурфоў, траншэй, зачыстак з іх дакладнымі памерамі, незалежна ад наяўнасці культ. пласта; праводзяць фотаздымкі палявых прац, рэчаў з указаннем, з якога напрамку свету рабіўся здымак.

Дакументацыя матэрыялаў раскопак паселішчаў уключае: поўнае апісанне помніка з указаннем яго назвы, геаграфічнага размяшчэння, формы, памераў, тапаграфічных асаблівасцей, магутнасці і складу культ. пласта і інш.; план помніка з нанесенымі ў маштабе ўсімі раскопамі, шурфамі і траншэямі; профілі і планы раскопаў, шурфоў, траншэй, зробленыя ў адным маштабе і іх поўнае апісанне па пластах, буд. гарызонтах; планы і профілі збудаванняў, ям і іх поўнае апісанне; апісанне рэчавага матэрыялу па пластах, катэгорыях з унутранай класіфікацыяй і вызначэннем храналогіі; фотаздымкі палявых прац, выяўленых канструкцый, рэчаў з указаннем асаблівасцей канструкцыі, а таксама напрамкаў свету, адкуль вялася здымка.

Дакументацыя матэрыялаў раскопак могільнікаў уключае: апісанне іх размяшчэння на мясцовасці (характарыстыка знешніх прыкмет, захаванасці, колькасці насыпаў, іх памераў і г.д.); план помніка з дакладным указаннем дыяметра, вышыні кургана, наяўнасці і формы раўкоў, інш. адметных рыс; планы і профілі кожнага кургана ці грунтавой магілы з размеркаваннем у іх пахаванняў і рэчавага матэрыялу, указаннем месцазнаходжання надмагілляў, каменных абкладак, слупавых ям і г.д.; поўную характарыстыку кожнага магільнага збудавання (памеры кургана, магільнай ямы, форма, наяўнасць падсыпак, каменных выбрукоўак, напечанай паверхні, попельных прапласткаў, слядоў пабудоў і дамавін, рытуальных раўкоў і інш.); апісанне пахаванняў (характарыстыка трупаспаленняў, трупапалажэнняў, іх арыенціроўкі, размяшчэння суправаджальнага інвентару); фотаздымкі раскопак, выяўленых пахаванняў і інш.

Калекцыйны вопіс матэрыялаў уключае парадкавы нумар і назву знаходкі, год, месца і ўмовы выяўлення, канспектыўнае апісанне знаходкі з яе кароткай характарыстыкай, інтэрпрэтацыяй, дацiроўкай; указанне на выяўленыя рэчы ў закрытым комплексе (зямлянцы, яме, пахаванні).

*Літ.:* Левко О.Н. Практическая археология. Могилев, 2006. *В.М.Ляўко.*

**ПАЛЯВА́Я АРХЕАЛО́ГІЯ**, дзейнасць па выяўленні і вывучэнні *археалагічных помнікаў*, у т.л. з мэтай выкарыстання іх як гіст. крыніц. Даследуе заканамернасці стварэння археал. крыніц, прынцыпы іх сістэматызацыі і класіфікацыі, ступень адлюстравання крыніцамі гіст. працэсу. Парадак дзеянняў і методыка даследавання помнікаў залежыць ад мэты палявых работ. Існуюць інструкцыі па палявой методыцы, у якіх указаны асобныя элементы раскопак і фіксацыі. Аднак унікальнасць кожнага археал. помніка не дазваляе стандартызаваць працэдуру раскопак. Універсальнай і гал. задачай даследаванняў з'яўляецца выяўленне і фіксацыя слядоў археалагізацыі помніка, аднаў-ленне яго першапачатковай канструкцыі і працэсу яе функцыянавання. Методыка П.а. можа мяняцца ў працэсе раскопак у залежнасці ад матэрыялаў, якія выяўляюцца пад час ускрыцця, і ад іх інтэрпрэтацыі на розных участках аб'екта. Гл. таксама *Методыка археалагічных даследаванняў.*

*Літ.:* Левко О.Н. Введение в археологию. Могилев, 2009. *В.М.Ляўко.*

**ПАМО́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА** (вейхяроўска-краташынская, усходнепаморская, паморска-падклёшавая, падклёшавых пахаванняў культура), археалагічная культура ранняга жал. веку плямёнаў, якія ў 7–3 ст. да н.э. (фазы D–Lt C1) насялялі большую частку Польшчы, зах. Палессе і зах. Валынь. Вядома больш за 3000 помнікаў і месцазнаходжанняў. На тэр. Беларусі вядомы толькі помнікі позняга этапу, якія належалі да ўсх. перыферыйнай групы. Яна разглядаецца як варыянт паморскай альбо асобная культура – падклошавых пахаванняў; помнікі распаўсюджаны ў Мазовіі, Малой Польшчы, зах. Валыні. Вывучэнне П.к. на тэр. Польшчы пачалося ў к. 19 ст. У Беларусі помнікі П.к. былі ўпершыню апісаны К.Салевічам у 1930-я г., вывучаліся ў 1960-я г. Ю.У.Кухарэнкам і В.Б.Нікіцінай-Караткевіч. У 1970–2000-я г. да матэрыялаў з тэр. Беларусі звярталіся польскія даследчыкі Т.Венгжыновіч, С.Чопек, З.Возняк, М.Анджаёўская і інш.



Аўтар В.Г. Белявец

П.к. генетычна звязана з *лужыцкай культурай* позняга бронзавага і ранняга жал. вякоў. Яе фарміраванне было абумоўлена пачаткам на рубяжы 8–7 ст. да н.э. больш халоднага і вільготнага субатлантычнага перыяду. У новых кліматычных умовах склалася культ.-гасп. мадэль, якая грунтавалася на невял., мабільных групах насельніцтва, здольных прыстасавацца да розных глебава-ландшафтных умоў. Фарміраванне П.к. адбывалася каля 650–550 да н.э. (фазы C/D і D1 гальштацкага перыяду) ва ўсх. Памор'і на базе веляйвейскай групы, якая знаходзілася пад уплывам насельніцтва культуры хаткавых урнаў з тэр. цэнтр. Германіі. Асаблівасці пахавальнага абраду і матэрыяльнай культуры розных рэгіёнаў і этапаў развіцця П.к. абумоўлены паступовым далучэннем новых груп насельніцтва лужыцкай культуры, а таксама ўплывамі з боку суседніх культур (латэнскай, ясторфскай, заходнебалтыйскіх курганоў, тыпу Векерцунг, куштанавіцкай).

П.к. характарызуецца адносна нізкім узроўнем развіцця чорнай металургіі з выкарыстаннем мясц. залежаў дзярновых і балотных руд. Разам з жал. прыладамі (нажы, сякеры-кельты, цяслы, долаты, сярпы, матыкі, шылы, іголкі) выкарыстоўваліся бронзавыя і касцяныя. Носьбіты П.к. жылі ў невял. селішчах, размешчаных на пясчаных узвышшах і тэрасах рэк і ручаёў. Асн. тып жытла – наземныя, паўзямлянкавыя 1–2-камерныя дамы пл. 10–30 м² з каркасна-слупавой канструкцыяй сцен і 2-схільнымі дахамі; абаграваліся агнішчамі. Вядомы таксама малыя жытлы часовага характару. Гасп. лад грунтаваўся на жывёлагадоўлі і земляробстве. Асн. агракультурамі былі пшаніца, проса, ячмень, жыта. Вырошчваліся бабовыя культуры (гарох, фасоля), лён і каноплі. Зерне захоўвалася ў ямах-сховішчах, апрацоўвалася ў ступах і з дапамогай каменных зерняцёрак. У якасці цяглавой сілы выкарыстоўваліся быкі (валы), коні – пераважна для верхавой язды. Важную ролю адыгрывалі збіральніцтва, паляванне і рыбалоўства. Насельніцтва П.к. не арыентавалася на выкарыстанне пэўных тыпаў глебаў і дэманстравала высокую здатнасць прыстасавання да змен прыроднага асяроддзя. Інтэнсіўнае падсечнае земляробства, нарыхтоўка лісця і пабегаў лісцевых дрэў для стойлавага ўтрымання хатняй жывёлы ў зімовы час вялі да абязлесення наваколля, што выклікала неабходнасць адносна частага пераносу селішчаў і абумовіла разрэджанасць пасяленняў.

Былі распаўсюджаны хатнія рамёствы, звязаныя з апрацоўкай дрэва, скур, косці і рога, ткацтва. Праслiцы мелі цыліндрычную, біканічную і крыжападобную форму. Вырабляўся як кухонны (гаршкі, сырніцы), так і сталовы (вазы з накрыўкамі, збаны, кубкі, міскі, талеркі-дыскі, чаркі) ляпны посуд. Гаршкі мелі загладжаную ўнутраную і храпаватую знешнюю паверхню. Сталовы посуд пераважна чорнаглянцаваны, упрыгожваўся рытым арнаментам (часам запоўнены белай пастай) з раслiннымі матывамі. Насельніцтва П.к. ўдзельнічала ў сістэме менавога гандлю, які ахопліваў землі ад Скандынавіі да паўн. Міжземнамор'я. Імпартаваліся бронзавыя, жал. прылады працы, зброя, упрыгажэнні, шкляныя пацеркі і інш.

Для П.к. характэрны грунтавыя могільнікі з пахаваннямі па абраду крэмацыі. Частка з іх абазначалася на паверхні слупамі альбо мела надмагільныя драўляныя канструкцыі. Пахаванні ўтвараюць невял. групы, размешчаныя на адлегласці да некалькіх дзесяткаў метраў адна ад другой. На ранніх этапах пашыраны калектыўныя пахаванні ў скрынях з каменных пліт і валуноў, якія ўтрымліваюць да 25–30 урнаў. На антрапаморфных




*Матэрыялы* ***паморскай культуры*** *з помнікаў Беларусі (паводле В.С.Вяргей): 1–14 – гліна; 15, 16 – жалеза, 17 – бронза. 1, 4, 9, 14, 15 – Драгічын; 16 – Аздамічы, астатнія – Трасцяніца.*



*Л.Р.Панічава.*

урнах з пластычнымі выявамі чалавечых твараў і накрыўкамі ў форме шапак размяшчаліся металічныя ўпрыгажэнні. Урны аздабляліся рытым раслінным арнаментам, схематычнымі выявамі жывёл і чалавечых постацей (у т.л. вершнікаў), якія утвараюць складаныя кампазіцыі. Вядомы выявы зброі (мячоў, шчытоў, коп'яў), упрыгажэнняў і бытавых рэчаў. Пахавальны інвентар складаўся з пасудзін-прыставак, металічных упрыгажэнняў (завушніцы, грыўні, бранзалеты, кольцы, шпількі, фібулы, пацеркі са шкла, бурштыну, каменю), бытавых рэчаў (брытвы, пінцэты, іголкі), выключна рэдка – з узбраення і конскай вупражы. Рэчы пераважна пашкоджаны пахавальнымі вогнішчамі. Ва урнах знаходзяцца таксама перапаленыя косткі жывёл і птушак. На позніх этапах (у 5–3 ст. да н.э.) распаўсюджваюцца індывідуальныя, у т.л. ямныя пахаванні; спрашчаецца альбо цалкам знікае арнаментацыя урнаў, пахавальны інвентар выразна бяднейшы. Для ўсх. рэгіёнаў распаўсюджання П.к. характэрны ямныя і урнавыя пахаванні, накрытыя вял. храпаватымі гаршкамі-клошамі. Адзначаецца беднасць арнаментацыі посуду. У параўнанні з класічнымі помнікамі П.к. пахавальны інвентар складаецца, перадусім, з посуду і выключна рэдка ўтрымлівае інш. рэчы. Гэтыя рысы сведчаць аб фарміраванні масіву падклошавапаморскіх помнікаў у сярэднім цячэнні Віслы і ва ўсх. перыферыі П.к. на адносна позніх этапах яе развіцця – у сяр. 6 – пач. 4 ст. да н.э. (фазы D2 і D3).

У Беларусі помнікі П.к. распаўсюдзіліся з З у 4 ст. да н.э. і існавалі ў 3 ст. да н.э. Арэал ахоплівае землі ад Зах. Буга да тураўскага Палесся, на У мяжуе з сінхроннымі помнікамі *мілаградскай культуры.* Вядомы 8 могільнікаў (11 пахаванняў), 5 селішчаў і шэраг месцазнаходжанняў. Пераважаюць урнавыя і ямныя, двойчы выяўлены падклошавыя пахаванні. На селішчы Кусічы выяўлена жытло пл. каля 18 м² падпрамавугольнай формы з 2 агнішчамі. Па перыметры яно было абкладзена камянямі.

На рубяжы 3–2 ст. да н.э. насельніцтва П.к. прыняло ўдзел у фарміраванні латэнізаваных культур (пшэворскай і аксыўскай) у асн. арэале яе распаўсюджання і палескага варыянту зарубінецкай культуры ў цэнтр. Палессі.

*Літ.:* Кухаренко Ю.В. Памятники железного века на территории Полесья // САИ. 1961. Вып. Д1–29; Никитина В.Б. Памятники поморской культуры в Белоруссии и на Украине // СА. 1965. № 1; Вяргей В.С. Помнікі паморскай культуры на тэрыторыі Беларусі // Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т. 2; Luka K.J. Kultura wiejherowsko-krotaszyńska // Prahistoria ziem Polskich. T. 4. Wrocław, 1979; Węgrzynowicz T. Kultura grobów kloszowych // Там жа; Czopek S. Południowo-wschodnia strefa kultury pomorskiej. Rzeszów, 1992; Kultura pomorska i kultura grobów kloszowych – razem czy osobno? Warszawa, 1995; Kaczanowski P., Kozlowski J.K. Wielka historia Polski. T 1. Najdawniejsze dzieje ziem polskich (do VIII w.). Kraków, 1998.

*В.Г.Белявец.*

**ПАНІЗО́ЎЕ**, археалагічны помнік – гарадзішча ў цэнтры в. Панізоўе Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. Размешчана на мысе левага берага безназоўнага левага прытока р. Мярэя. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 24 × 32 м, з паўд. і ўсх. бакоў выш. 8 м над поймай ракі. З паўн. боку каля падножжа гарадзішча ўмацавана падкаваападобным валам даўж. 45 м, выш. 1,5–2 м; раней вал знаходзіўся і з зах. боку. Рэшткі вала прасочваюцца па краі пляцоўкі гарадзішча. У 1998 Ю.У.Каласоўскі даследаваў 122 м². Культ. пласт 0,75–3,64 м. Ядро вала складалася з чырвонай гліны. Выяўлены абпаленыя рэшткі драўляных канструкцый і 2 рады слупавых ям ад падоўжанай наземнай пабудовы слупавай канструкцыі, нагрувашчванні камянёў. Знойдзены фр-ты ляпной неарнаментаванай керамікі, развалы 6 гаршкоў калачынскай культуры, жал. кольчатыя цуглі і шпора з кручкамі на канцах. Датуецца 3-й чв. 1-га тыс. н.э.

*Ю.У.Каласоўскі.*



*Агульны выгляд раскопу на гарадзішчы **Панізоўе**.*

**ПА́НІЧАВА** Людміла Рыгораўна (н. 15.1.1953, г. Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. н. (1980), дацэнт (1989). Скончыла БДУ (1976). У 1981–84 у ІГ АН БССР, з 1984 выкладчык БДУ і Бел. дзярж. пед. ун-та імя М.Танка. Даследуе архіт.-дэкаратыўную кераміку Беларусі 14–17 ст., распрацавала тыпалагічную і храналагічную класіфікацыю бел. кафлі 14–17 ст.

*Тв.:* Дэкаратыўная кераміка Копысі // ПГКБ. 1974. № 3; Навагрудская кафля // Там жа. 1980. № 2; Изразцы и изразцовые печи позднесредневекового Полоцка // СА. 1981. № 3; Хронология белорусских изразцов XIV–XVII вв. // КСИА. 1984. Вып. 179; Белорусские изразцы XIV–XVII вв. // Тр. V Междунар. конгресса слав. археологии. М., 1987. Т. 3.

*В.У.Мядзведзева.*

**ПАНЯМО́НЬ**, археалагічныя помнікі – стаянкі эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Панямонь Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.

С т а я н к а - 1 за 0,5 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Сэрвач, ва ўр. Трахімавы Кусты. Выявіў у 1951 А.Р.Мітрафанаў, у 1963 І.М.Цюрына даследавала 184 м². Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены шматлікі крамянёвы інвентар і фр-ты арнаментаванай керамікі. Большасць матэрыялу адносіцца да нёманскай культуры. Помнік датуецца 4-м і 2-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 2 за 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Сэрвач, ва ўр. Бабінка. Выявіў у 1951 А.Р.Мітрафанаў, у 1965 М.М.Чарняўскі даследаваў 68 м². Выяўлены матэрыял пераважна ранняга і позняга этапу нёманскай культуры, ёсць знаходкі бронзавага веку.

*Літ.*: Ч а р н я ў с к і М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**ПАПЛАВО́К**, частка рыбацкай сеткі, вуды. У Еўропе вядомы з мезаліту. Трапляюцца толькі на помніках з арганікай – на тарфянікавых стаянках, у вільготных пластах раннесярэдневяковых гарадоў (каля 200 знаходак). Выраблялíся з бярості, сасновай кары і дрэва. У неаліце і бронзавым веку на тэр. Беларусі карысталіся пераважна берасцянымі доўгімі П.-рулонамі (*Асавец*). У сярэдневякоўі паўсюдна ўжываліся круглыя, выраблeныя з драўніны ці сасновай кары П. дыям. 4–15 см (Брэст, Заслаўе, Мінск, Полацк, Слонім, Слуцк). Рэдкай формай з'яўляліся прамавугольныя (трапецападобныя) П. (Гродна, Полацк), характэрныя для ўзбярэжжа Балтыкі, таксама бочка- і конусападобныя (Брэст). На многіх драўляных П. наносіліся знакі ці арнамент, якія пазначалі ўладальніка прылады. Гэтая традыцыя асабліва была пашырана на Палессі (Брэст, Давыд-Гарадок). Невял. круглыя П. маглі ўваходзіць у аснастку вуды. Берасцяныя П. – больш простыя ў вырабе, аднак у археал. матэрыяле гарадоў яны адзначаюцца рэдка, прымеркаваны ў асн. да позніх пластоў (Віцебск). Найчасцей берасцяныя П. існавалі ў выглядзе рулонаў, радзей – як скруткі пасаў, пляскатыя кружкі. У этнагр. матэрыяле Беларусі, у адрозненне ад археал., пераважаюць «берасцянкі», драўляныя круглыя П. амаль не сустракаюцца. *Э.А.Ляшкевіч.*

**ПАРХЛІ́ЦА**, металічнае або драўлянае прыстасаванне для рэгулявання шырыні зазору паміж жорнавымі камянямі для атрымання мукі рознага памолу. На гарадзішчы Свіслач знойдзена рамбічная П. памерамі 7,7 × 2,4 см. На адным з бакоў маецца канічная адтуліна дыям. 1,9 см, на другім – медная заклёпка. Падобныя вырабы знаходзілі пры раскопках Полацка, Мінска, Бярэсця, Дрысвят і інш. *В.І.Кошман.*

**ПАРХУ́ТЫ**, археалагічныя помнікі – паселішчы каменнага і бронзавага вякоў каля в. Пархуты Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 за 1 км на Пд ад вёскі на правабярэжнай дзюне р. Шчара. Памеры 50 × 60 м, выш. да 3 м. Выявіў у 1994 і даследаваў 86 м² у 1995–96 В.Л.Лакіза. Культ. пласт 0,4–1 м. Выяўлены 19 аб'ектаў: ямы, агнішчы, у т.л. з каменнай выбрукоўкай, адзіночнае пахаванне. Пахаванне зафіксавана на глыб. 0,5–0,6 м ад сучаснай паверхні як акруглая ў плане цёмна-шэрая гумусаваная пляма памерамі 1,54 × 1,7 м. Яма паступова звужалася і набывала падпрамавугольныя з закругленымі вугламі абрысы памерамі 0,4–0,5 × 1,3 м, глыб. 1,62 м, арыентавана па лініі ПдУ–ПнЗ.




*Агульны выгляд паселішчаў* ***Пархуты*** *1 і 2.*

*Да арт.* ***Пархуты.*** *Інвентар з пахавання паселішча-1.*



У верхняй частцы знойдзены 111 расшчэпленых крамянёў, 7 прылад працы і 44 фр-ты ляпной керамікі неаліту – бронзавага веку, якія трапілі ў яму пры засыпцы пахавання. У ніжнім пласце знойдзены крамянёвы адшчэп, 2 фр-ты керамікі нёманскай неалітычнай культуры, вугольчыкі і пахавальны інвентар. Па лініі Пд–Пн на адлегласці каля 0,5–0,6 м адзін ад аднаго знойдзены каменная свідраваная сякера і ляпны гаршчок кола культуры шнуравой керамікі, які ляжаў на баку гарлавінай на Пн. Паміж імі знаходзілася крамянёвая пласціна. Касцяк не захаваўся.

На паселішчы выяўлены 4166 знаходак: абломкі ляпнога і кругавога посуду, расшчэпленыя крамяні, нуклеусы і прылады працы, камяні, кальцыніраваныя косткі. Матэрыял стратыграфічна не падзяляўся. Кераміка прадстаўлена 1246 абломкамі ляпнога і 4 фр-тамі кругавога посуду, у т.л. нёманскай неалітычнай культуры (409), кола культуры шнуравой керамікі і тшцінецкага культ. кола (101), прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры (239), а таксама яе лысагорскага і дабраборскага этапаў (170).

Крамянёвых знаходак – 2875 экз., у т.л. нуклеусы (48), скрабкі (31), нажы (30), разцы (7), рубячыя прылады (7), наканечнікі стрэл (9), мікраліты (2), вастрыі (5), наканечнікі дзід (2), праколкі (3) і пракруткі (2), камбінаваныя прылады працы (8), адбойнік, скоблі (2).

Датуецца к. 5-га – 2-й пал. 2-га тыс. да н.э, адносіцца да прыпяцка-нёманскай, нёманскай культур, кола культуры шнуравой керамікі (група Бершты–Русакова) і тшцінецкага культ. кола (нёманская група).

Паселішча-2 за 0,9 км на Пд ад вёскі, 0,1 км на ПнЗ ад паселішча-1 на мысе правага берага р. Шчара. Выявіў у 1994 і даследаваў 89 м² у 1996, 2003, 2006 В.Л.Лакіза. Культ. пласт 0,4–0,7 м, у аб'ектах да 1,2 м. Зафіксаваны звыш 10 разнастайных па памерах і глыбіні ям, западзін, агнішча і некалькі нагрувашчванняў керамікі. У агнішчы выяўлена каменная зерняцёрка. Верагодна, яна выкарыстоўвалася ў якасці патэльні.

Знойдзена каля 3 тыс. артэфактаў: фр-ты керамікі, расшчэпленыя крамяні, крамянёвыя прылады працы і зброя. Ляпная кераміка адносіцца да прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры (з арганічнымі дамешкамі, грабеньчатымі адбіткамі, глыбокімі нерэгулярнымі ямкамі, скразнымі адтулінамі, пальцавымі ўціскannямі), дабраборскага тыпу нёманскай неалітычнай культуры (з добра загладжанымі сценкамі, дамешкамі жарствы, арнаментам з пракрэсленых ліній, адбіткаў, наколаў, глыбокіх круглых ямак), А-гарызонту кола культур шнуравой керамікі (з гладкімі паверхнямі, з пальцавымі адбіткамі-ўціскannямі), тыпу Бершты–Русакова кола культур шнуравой керамікі (танкасценныя, пласкадонныя, з дамешкамі пяску і дробнай жарствы ў цесце, з загладжанымі паверхнямі, з адбіткамі лінейнага штампа, кароткімі насечкамі, шнуравым арнаментам), нёманскай групы тшцінецкага культ. кола (венчыкі патоўшчаныя, з дамешкамі буйназярністай жарствы, гладкімі паверхнямі, з гарызантальнымі пракрэсленымі лініямі), жал. веку пач. 1-га тыс. н.э.

Большасць крамянёвых знаходак – прадукты першаснага расшчаплення: дробныя лускавінкі, сколы, пласціны і адшчэпы; таксама знойдзены звыш 70 нуклеусаў, адбойнікі і рэтушоры, прылады працы і вырабы са слядамі другаснай апрацоўкі – разцы, вастрыі, праколкі, пракруткі, скрабкі, скрэблы, скоблі, цёслы, нажы, сярпы і серпападобныя прылады, наканечнікі стрэл. Крамянёвы інвентар адносіцца пераважна да эпохі неаліту, аднак некаторыя прылады выкарыстоўваліся ў раннім перыядзе бронзавага веку (трохвугольныя з увагнутай асновай і чаранковыя наканечнікі стрэл, некаторыя тыпы скрабкоў, крамянёвыя нажы на пласцінах, апрацаваныя струменістай плоскай рэтушшу).

Датуецца к. 5-га – 2-й пал. 2-га тыс. да н.э, адносіцца да прыпяцка-нёманскай, нёманскай (дабраборскі этап) культур, кола культуры шнуравой керамікі (група Бершты–Русакова) і тшцінецкага культ. кола (нёманская група). Кароткачасовае засяленне адбывалася ў жал. веку.

Паселішча-3 за 0,3 км на ПнЗ ад вёскі па дарозе да в. Чарлёнка, на выступе правабярэжнай тэрасы р. Шчара. Выявіў М.М.Чарняўскі, абследаваў В.Л.Лакіза. Памеры 160 × 40 м. Культ. пласт 0,2–0,3 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і ляпная кераміка нёманскай культуры, кола культуры шнуравой керамікі.

Паселішча-5 за 0,7 км на ПнЗ ад вёскі, за 0,3–0,4 км на ПнЗ ад паселішча-3 на пясчаным выступе правабярэжнай тэрасы р. Шчара,

выш. да 4 м. Выявіў М.М.Чарняўскі, абследаваў В.Л.Лакіза. Знойдзены крамянёвыя вырабы і ф-ты ляпной керамікі нёманскай культуры, кола культуры шнуравой керамікі.

*Літ.*: Лакіза В.Л. Пархуты 1 – новы помнік неаліту і бронзавага веку на Шчары // ГАЗ. Мінск, 1999. № 14; Яго ж. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**ПАРЭ́ЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ**. Знойдзены ў 1886 каля в. Парэчча Талачынскага р-на Віцебскай вобл., на тэр. б. маёнтка Хамянтоўскага. Складаўся з 561 цэлай і фрагментаванай манеты: 289 куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата [старэйшы 717–718, малодшы 1014–15], 270 дэнарыяў дзяржаў Зах. Еўропы, 1 мілiярысія Візантыі і 1 срэбраніка Старажытнай Русі.

Арабскі халіфат: дынастыя Умаядаў (2 экз.) – манетны двор Васіт і нявызначаны. Дынастыя Абасідаў (11 экз.) – манетны двор Мадынат ас-Салам (7) і нявызначаны (4); эміры Саманіды (83 экз.) – манетныя двары Амоль (1), Балх (1), Бухара (2), Нісабу (3), Самарканд (12), аш-Шаш (6), нявызначаны (54); эміры Буіды (10 экз.) – манетныя двары Амоль (1), Барканд (1), ал-Басра (1), Фес (2), нявызначаны (5); эміры Ілекі (4) – манетны двор Бухара (1), нявызначаны (3); эміры Зінайрыды (5 экз.) – манетны двор Амоль (1), нявызначаны (4); эміры Мерваніды (11 экз.) – манетны двор Міяфарэкін (1), нявызначаны (10); эміры Хамданіды (4 экз.) – манетныя двары Мадынат ас-Салам (1), Масул (1), нявызначаныя (2). Не вызначаны 154 дырхемы, у т.л. 3 брактэаты.

Англія (74 экз.): Этэльрэд II [976–1016] – 73; Канут (1016–35) –1.

Германская імперыя (195 экз.): манетны двор Льеж (1-я чв. 11 ст.) – 1; манетны двор Кёльн: Атоны I, II, III [936–1002] – 58; з імёнамі Атона і Адэльгейды – 129; манетны двор Гальберштат: біскуп Арнульф [996–1023] – 1; манетны двор Дортмунд: Атон III [983–1002] – 1; манетны двор Майнц: Генрых II [1002–24] – 1; манетны двор Страсбург: Генрых – 2; манетны двор Аўгсбург: Генрых II – 1, біскуп Ліўтольф [987–996] – 1; нявызначаны манетны двор: Генрых II – 1.

Візантыя (1 экз.): Васіль II [976–1025] і Канстанцін VIII [1025–28] – міліярысій.

Старажытная Русь (1 экз.) Уладзімір Святаславіч [980–1015], палавінка срэбраніка 3-га тыпу.

Скарб схаваны каля 1035. Частка манет захоўваецца ў Нумізматычным кабінеце гіст. ф-та БДУ (45 экз.), Полацкім археал. музеі-запаведніку (1 экз.).

*Літ.*: Толстой И.И. Клад куфических и западноевропейских монет, заключавших в себе обломок монеты Владимира Святого // Зап. Имп. русского археол. об-ва. Санкт-Петербург, 1888. Т. 3; Ильин А.А. Топография кладов древних русских монет X и XI в. и монет удельного периода. Ленинград, 1924; Потин В.М. Находки западноевропейских монет на территории Древней Руси и древнерусские поселения // Нумизматика и эпиграфика. М., 1962. Т. 3; Его ж. Топография находок западноевропейских монет X–XIII вв. на территории древней Руси // Тр. Гос. Эрмитажа. Нумизматика. Ленинград, 1967. Т. 9. № 3; Сотникова М.П., Спасский И.Г. Тысячелетие древнейших монет России: сводный кат. рус. монет X–XI в. Ленинград, 1983; Рябцевич В.Н. Денежные депозиты Полоцкой земли конца X – начала XIV вв. // ГАЗ. Мінск, 2000. № 15; Штыхаў Г.В. Манетныя і манетна-рэчавыя скарбы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 4. Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII стст.). *В.Н.Рабцэвіч.*

**ПАСА́Д**, прадграддзе, прадмесце, гандлёва-рамесніцкая частка феад. горада 10–18 ст., жыхары якой аб'ядноўваліся ў абшчыну з самакіраваннем. Назва «П.» узнікла прыкладна ў 13 ст. Меліся ва ўсіх гарадах Беларусі. Звычайна размяшчаўся вакол дзяцінца або на нізкім беразе ракі (т.зв. «падол»). На П. жылі пераважна рамеснікі і купцы. У некаторых буйных гарадах П. складаліся з некалькіх раёнаў – канцоў [напр., Пятніцкі (пазней Татарскі) канец у Мінску]. У Полацку ў 16 ст. было 6 П., кожны з якіх меў сваю назву. Значныя археал. даследаванні праводзіліся на *Віцебскім пасадзе*, Гомельскіх пасадах, *Клецкім вакольным пасадзе*, *Магілёўскіх пасадах*, *Полацкім Вялікім пасадзе* і інш. Умацаваная частка П. – *вакольны горад*.

*Літ.*: Тихомиров М.Н. Древнерусские города. 2 изд. М., 1956; Штыхов Г.В. Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX–XIII вв.). Минск, 1975.

**ПАСТА́ЎСКІ ПАЛА́Ц А.ТЫЗЕНГА́ЎЗА**, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Будаўніцтва мураванага палаца было распачата ў 1760-я г. па ініцыятыве і на сродкі падскарбія надворнага ВКЛ А.Тызенгаўза паводле праекта архітэктара Дж.Сака. Канчаткова палацавы комплекс быў дабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. К.Тызенгаўзам – пляменнікам А.Тызенгаўза. Палац неаднаразова рамантаваўся і перарабляўся. У 2-й пал. 19 ст. ў палацавым комплексе размяшчалася вайсковая кавалерыйская часць, затым шпіталь. Цяпер тут месціцца Пастаўская раённая бальніца.

У сувязі з правядзеннем рамонтна-рэстаўрацыйных работ будынка палаца (архітэктар У.Д.Старасцін) у ліп. 2004 помнік даследаваў В.Е.Собаль. Пры добраўпарадкаванні ўнутранага дворыка палаца ў зямлі была выяўлена цагляная мурoўка. З мэтай яе даследавання была зроблена траншэя даўж. 22 м, шыр. 1,8 м. У выніку работ было вызначана, што паўн. і паўд. крылы П-падобнага ў плане палаца былі злучаны паміж сабой глухой сцяной-агароджай. Паміж карпусамі быў утульны ўнутраны дворык. Агароджа захавалася ў зямлі на выш. да 1,45 м.

Даўж. сцяны 22,3 м, таўшч. 0,9–1 м. Яна складзена з буйнапамернай чырвонай цэглы памерамі 32–35 × 15,5–17 × 6,5–8,5 см, змацаванай вапнавай рошчынай, па сістэме «рад лажкоў – рад тычкоў». У агароджы на працягу 22 м зроблена 6 паўкруглых скразных арак, дугі якіх выкладзены на адну цагліну (33–35 см), выш. арак каля да 1 м, даўж. пралётаў 2,4–2,5 м; адлегласць паміж аркамі ў сярэднім складае 1 м. Агароджа праз 14,5 м ад паўн. крыла палаца мае адгалінаванне сцяны перпендыкулярна ў бок двара. Сцяна-адгалінаванне мае перавязку з муроўкай агароджы, аднолькавай з ёй таўшчыні і ўпрыгожана аналагічнай аркай. Паколькі яе муроўка да канца не прасочана, то і прызначэнне сцяны застаецца незразумелым.

Каля агароджы зафіксаваны культ. пласт таўшч. да 0,7 м са знаходкамі 18–19 ст. Аналіз яго стратыграфіі і знойдзеных рэчаў дазваляе казаць, што агароджа была змуравана ў пач. 19 ст., калі ў палацы жыў К.Тызенгаўз, і часткова разабрана ў к. 19 ст. Праіснавала каля 70–80 гадоў. Высветлілася таксама, што ў муроўцы палаца выкарыстоўвалася цэгла-пальчатка з прадольнымі баразнамі на адной з пастэляў. У 19 ст. дах палаца быў накрыты хвалістай (галандскай) дахоўкай. Яе кавалкі знойдзены ў траншэі. У к. 19 – пач. 20 ст. печы ў памяшканнях былі абкладзены кафляй з гладкай паверхняй, пакрытай белай эмаллю. У культ. пласце знойдзены таксама кавалкі глінянага збана, фарфоравы посуд, фр-ты шкляных бутэлек і аптэчнага начыння 18–19 ст., аконнае шкло і каваныя цвікі. *В.Е.Собаль.*

**ПАТО́КА**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Патока Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчаны каля вёскі, на правым беразе р. Ольса. Захавалася 73 курганы выш. 0,6–1,5 м, дыям. 5–8 м, адзін выш. 2,5 м і дыям. 20 м (мясц. назва Княжая Магіла). Вакол насыпаў прасочваюцца раўкі. Вядомы з 1924. Абследавалі ў 1978 П.Ф.Лысенка, у 1983 Ш.І.Бекцінееў. У 1998–99 Л.У.Дучыц., С.Д.Дзярновіч і В.І Кошман даследавалі 8 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах глыб. 0,6–1,1 м, галавой на З. Знойдзены бронзавы пярсцёнак з патоўшчанай сярэдзінай, падвеска-крыжык, 2 манетападобныя падвескі, алавяныя скроневыя кольцы, шкляныя і металічныя пацеркі, косткі дзікай жывёлы. Датуецца 11–12 ст.

*Літ.*: Дучыц Л.У., Дзярновіч С.Д., Кошман В.І. Раскопкі курганнага могільніка каля вёсак Патока і Нясята Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці // МАБ. 2001. Вып. 3.

*Л.У.Дучыц, С.Д.Дзярновіч, В.І.Кошман.*

**ПАТЭ́ЛЬНЯ**, кухонны посуд з гліны ці металу, прызначаны для прыгатавання смажаных страў. Гліняныя П. вядомы з антычнасці.

На тэр. Беларусі яны знойдзены пры раскопках на Чачэрскім гарадзішчы, селішчах *Чаплін* (дыям. 16,5 см, глыб. 2,7 см) і *Тайманава*, паселішчы на Менцы, *Віцебскага Верхняга замка* (дыям. 16 см, глыб. 5,8 см). Жал. П. 12–13 ст. выяўлены ў Віцебску (дыям. 18 см, глыб. 1,7 см), Лукомлі (дыям. 22 см, глыб. 3 см), Слуцку (паўсферычнай формы). Медная П. (таўшч. 2–3 мм, дыям. 32 см, глыб. 6,6–7 см, аб'ём 4,5 л) выяўлена на Віцебскім Верхнім замку. Да яе мацавалася жал. чапяла з полай ручкай. Аналагічная чапяла знойдзена пры раскопках Слуцкага дзяцінца. Гліняныя П. на 3 ножках (дыям. 18–22, выш. ножак 3–5 см, даўж. ручкі 5, дыям. адтуліны для драўлянай чапялы 2 см), якія датуюцца 15 ст., выяўлены ў *Гродзенскім Старым замку* і *Лідскім замку*. Да 16 ст. такія П. рабілі непаліванымі, з 17 ст. пакрывалі зялёнай палівай. У бел. пісьмовых крыніцах 15–16 ст. П. ўпамінаецца пад назвамі «скаврада», «сковрада». П. на ножках мела назву «рынка».

*Літ.*: Воронин Н.Н. Древнее Гродно: (по материалам археол. раскопок 1932–1949 гг.). М., 1954 (МИА. №41); Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Минск, 1973; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.). Минск, 1978; Здановіч Н.І., Трусаў А.А. Мсціслаўскі посуд XV–XIX стст. // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Макушнікаў А.А., Здановіч Н.І. Бытавая кераміка Чачэрска // ВАНБ. 1985. №1. *Л.У.Калядзінскі.*

**ПА́ЎЛАВА** Клаўдзія Васілеўна (30.6.1922, в. Падхабіна Смаленскай вобл., Расія – 30.1.2010), рускі археолаг. Скончыла Ленінградскі ун-т (1951). У 1951–87 навук. супрацоўнік Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН СССР. Даследавала пахавальныя помнікі ў наваколлі Навагрудка: раскапала каля 80 курганоў, у т.л. могільнікі каля вёсак Батароўка, Брацянка, *Гарадзілаўка*, *Мольнічы*, *Суляцічы*, *Сялец*. Вызначыла этнічны склад насельніцтва, якое пакінула гэтыя могільнікі і непасрэдна ўдзельнічала ў фарміраванні бел. народнасці.

*Тв.*: Раскопки могильника близ Новогрудка // КСИА. М., 1965. Вып. 104; Могильник на территории окольного города древнего Новогрудка // Там жа. 1967. Вып. 110; Хозяйственные постройки XII–XIII вв. на детинце древнего Новогрудка // Там жа. 1972. Вып. 129; Раскопки курганов у дер. Городиловка // Там жа. 1973. Вып. 135; Могильники у деревень Мольничи и Сулятичи // Там жа. 1974. Вып. 139; Раскопки курганов у деревень Селец и Ботаревка в Понеманье // Там жа. 1977. Вып. 148; Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // Там жа. 1981. Вып. 166; Некоторые итоги исследования курганных могильников в окрестностях Новогрудка // Этногенез белорусов. Минск, 1973.

*М.У.Малеўская.*

**ПАЎНОЧНАБЕЛАРУ́СКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура позняга неаліту–ранняга бронзавага веку, помнікі якой былі распаўсюджаны на

тэр. Віцебскай і Пн Мінскай абласцей Беларусі, Пд Пскоўскай і ПнЗ Смаленскай абласцей Расіі, паўд.-ўсх. Латвіі ў сяр. 3-га – сяр. 2-га тыс. да н.э. Сфарміравалася на аснове *ўсвяцкай культуры* сярэдняга неаліту пад уплывам носьбітаў *верхнедняпроўскай культуры*, таксама *культур шнуравой керамікі* з тэр. Прыбалтыкі і Падняпроўя (*сярэднедняпроўская культура*). Часткай даследчыкаў адносіцца да культур шнуравой керамікі.

Носьбіты П.к. займаліся паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, земляробствам і жывёлагадоўляй. Паселішчы размяшчаліся пераважна ў месцах вытокаў або ўпадзення невял. рэк у азёры, зрэдку – на абсохлых затарфаваных берагах азёр. Жытлы выцягнутыя, з 2-схільным дахам, ёсць звесткі пра існаванне заглыбленых на 0,5 м пабудоў. Для П.к. характэрны вастрадонны на раннім і пласкадонны на пазнейшых этапах развіцця ляпны посуд з дамешкамі ў цесце тоўчаных ракавін, арганікі, на пазнейшых этапах – пяску, жарствы, шамоту. Паверхня заштрыхоўвалася з абодвух бакоў пераважна ў падгарызантальным кірунку. Гаршкі шчыльна арнаментаваны па ўсёй паверхні (у т.л. донца, венчык, яго зрэз і ўнутраная частка). На пазнейшых этапах арнамент больш разрэджаны. Частка посуду паўтарае формы гаршкоў культур шнуравой керамікі. Асноўнымі элементамі дэкору з'яўляюцца насечкі, разнастайныя адбіткі гладкага і зубчатага штампаў, ямкавыя ўціскання і наколы, сустракаюцца адбіткі шнура.

Прылады працы і побыту выраблялі з крэменю, косткі, рога, дрэва (наканечнікі стрэл, гарпуноў і дзід, праколкі, кінжалы, рыбацкія кручкі, сякеры, цёслы, долаты, дзяржанні, вырабы са шчапанага ікла дзіка і г.д.). З каменю вырабляліся шліфавальныя пліты, цёрачнікі, матыкі і сякеры. Пад канец існавання культуры з'яўляюцца вырабы з бронзы і медзі – сякеры і шылы (*Кастыкі*, *Асавец*-2, 7). З зубоў, косці, рога і бурштыну вырабляліся разнастайныя ўпрыгажэнні і амулеты. Знойдзены творы першабытнага мастацтва: статуэткі людзей, звяроў, птушак, арнаментаваныя бытавыя рэчы і зброя, музычныя інструменты (флейты).

На тэр. Беларусі найб. вядомыя і даследаваныя помнікі: Асавец-2, 7, *Крывіна*-1, 2, *Крывіна*-3, Кастыкі.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Ч а р н я ў с к і М. Касцяныя і рагавыя вырабы на паселішчах Крывінскага тарфяніку. Неаліт – бронзавы век. Мінск, 2007.

*Макс.М.Чарняўскі, М.М.Чарняўскі.*

**ПАХАВА́ЛЬНЫ АБРА́Д**, сістэма строга акрэсленых рытуальных (сімвалічных) і практычных (матэрыяльных) дзеянняў у адносінах да цела памерлага. Вывучэнне П.а. дае ўяўленне аб дэмаграфічнай і этнічнай сітуацыі, сацыяльна-эканамічных і ідэалагічных працэсах у стараж. грамадстве. Узнікненне і існаванне П.а. было звязана не толькі з санітарнымі мэтамі (неабходнасць выдалення цела памерлага), але і з мэтай забеспячэння нябожчыку «існавання ў пазасмяротным жыцці», а таксама захавання ў памяці нашчадкаў у выглядзе мемарыяльнага збудавання. Вынікам П.а. з'яўляецца стварэнне пахавальнага комплексу, які ўключае: пахавальнае збудаванне (грунтавая магіла, курганны насып, храмавае пахаванне і г.д.), астанкі памерлага (крэміраваныя альбо інгуміраваныя), пахавальны інвентар (дэталі адзення, посуд, прылады, зброя і г.д.), дадатковыя структуры (каменныя і драўляныя элементы, труны, вогнішчы і г.д.). Сукупнасць пахавальных комплексаў фарміруе пахавальны помнік (гл. *Могільнік*).

На тэр. Беларусі вылучаюцца 2 стараж. спосабы пахаванняў: з папярэднім спальваннем на пахавальным вогнішчы (трупаспаленне, ці крэмацыя) і без спальвання (трупапалажэнне, ці інгумацыя). Трупаспаленне ў большасці выпадкаў адбывалася па-за межамі месца будучага пахавання. Пахавальнае вогнішча ўяўляла сабой стос дроў у выглядзе кратаў, перакладзеных галлём. Пасля астывання вогнішча перапаленыя косці збіраліся і змяшчаліся ў пахавальнае збудаванне ва урне ці без яе. Вывучэнне трупапалажэння дае магчымасць прасачыць арыентацыю астанкаў адносна бакоў свету, іх становішча ў пахавальным збудаванні (на спіне ў выцягнутым стане, на баку ў скурчаным, сядзячае), палажэнне рук нябожчыка (выцягнуты ўздоўж тулава, перакрыжаваны на грудзях і г.д.), дапамагае рэканструяваць пахавальнае адзенне.

У жал. веку дамінаваў абрад трупаспалення. Астанкі звычайна змяшчаліся ў грунтавыя ямы, якія ўтваралі т.зв. палі пахаванняў (*Асарэвічы*, *Гарошкаў*, *Чаплін*, *Абідня*, *Тайманава*, *Брэст–Трышын*). Побач з гэтым у плямён *мілаградскай культуры* існавалі і курганныя могільнікі з трупаспаленнем і трупапалажэннем (*Дубай*). П.а. розных археал. культур меў пэўныя асаблівасці. Напр., у пахаваннях мілаградскай культуры разам з астанкамі ніколі не змяшчалі цэлыя сасуды. На могільніках *зарубінецкай культуры* сустракаюцца цэлыя формы глінянага начыння, некаторыя з якіх выконвалі функцыю урны, падобная сітуацыя характэрна і для пахаванняў *кіеўскай культуры* і *вельбарскай культуры*. Традыцыя змяшчаць крэміраваныя астанкі ў грунтавыя ямы працягвалася і ў раннім сярэдневякоўі. Грунтавыя пахаванні вядомы на могільніках *пражскай культуры* (*Снядзін*), *калочынскай культуры* (*Новы Быхаў*), *банцараўскай культуры* (*Равячка*). Курганны абрад на тэр. Беларусі зноў пашырыўся з сяр. 2-га тыс. Да найб. ранніх курганоў гэтага часу адносяцца доўгія валападобныя насыпы на

Пн Беларусі (урочышчы Атокі і Павалішына каля в. *Янкавічы*) і ўсх.-літ. курганы з каменнымі абкладкамі (*Чорная Лужа*). У к. 8–10 ст. курганы з трупаспаленнем распаўсюдзіліся па ўсёй тэр. краіны (*Баркі*, *Бірулі*, в. Глінішча Полацкага р-на, *Курганне*, *Радасць*). Нябожчыкаў спальвалі па-за месцам пахавання, потым косці збіралі і змяшчалі на пахавальную пляцоўку, затым насыпалі курган (звычайна паўсферычнай формы, сустракаюцца падоўжаныя і авальныя). Астанкі разам з пахавальным інвентаром маглі размяшчацца ў мацерыковай ямцы, на ўзроўні гарызонту альбо ў насыпу на падсыпцы. Вельмі часта пры будаўніцтве курганоў у рытуальных мэтах выкарыстоўваўся агонь. У пахаваннях разам з астанкамі чалавека знаходзяць шматлікія косткі спаленых ахвярных жывёл. У гэты час даволі рэдка ўжывалі глінянае начынне ў якасці урны. У к. 10 ст пачалі з'яўляцца нешматлікія трупаспаленні, якія праводзілі на месцы ўзвядзення кургана, што можа тлумачыцца спыненнем функцыянавання пастаянных месцаў спалення.

У 2-й пал. 10 ст. пачаўся паступовы пераход ад абраду трупаспалення да трупапалажэння. У пач. 11 ст. абрад крэмацыі цалкам знік, за выключэннем арэала распаўсюджання ўсх.-літ. курганоў. Верагодна, гэты працэс звязаны з прыняццем хрысціянства і прымусовай адмовай насельніцтва ад абраду крэмацыі. Абрад у курганах з інгумацыяй адпавядаў асн. язычніцкім некралагічным традыцыям, агонь шырока выкарыстоўваўся для ачышчэння месца пахавання. Акрамя дэталей касцюма ў пахаваннях прысутнічалі прылады працы, зброя і гліняннае начынне. Пэўны час захоўваўся рытуал спалення жывёлы. Астанкі размяшчаліся ў падкурганных магільных ямах, на дзённай паверхні альбо на падсыпцы. Нябожчыка звычайна хавалі галавой на З, што характэрна для ўсіх слав. плямён, радзей сустракаецца ўсх. і мерыдыянальная арыентацыя. Вакол пахавання знаходзяць сляды драўляных канструкцый – падсцілкі пад нябожчыкам, абкладкі цела дошкамі альбо бяростай, трун з цвікамі, калод з суцэльнага дрэва, зрубных хатак-церамкоў. Звычайна ў кургане адначасова пахаваны 1 ці 2 нябожчыкі. Сустракаюцца т.зв. ўпускныя пахаванні, калі памерлага падзахоўвалі ў існуючы насып. Трапляюцца і «пустыя курганы» – *кенатафы*, у якіх ёсць усе элементы пахавання, але няма нябожчыка. Магчыма, іх насыпалі ў памяць пра тых, хто загінуў на чужыне або прапаў без вестак. Ёсць прыклады шматлікіх масавых пахаванняў у курганах ахвяр войнаў (*Друцк*). З 12 ст. пачала павялічвацца колькасць пахаванняў у падкурганных ямах. У 13 ст. курганы саступілі месца грунтавым могільнікам.

З пашырэннем хрысціянства ў гарадах з'явіліся пахавальныя комплексы, звязаныя з культавымі будынкамі (*Полацкі Сафійскі сабор*, храм-пахавальня Ефрасіннеўскага манастыра, Тураўскі храм). Пахаванні размяшчалі ў саркафагах з шыферных пліт альбо з плінфы. П.а. рэгламентаваўся хрысціянскімі некралагічнымі канонамі. Паводле Номаканона («Кормчая кніга») – зборніка правоў, які ўтрымліваў царкоўныя каноны і імператарскія канстытуцыі, у храмах было дазволена хаваць толькі святароў, альбо (з дазволу архірэяў) стваральнікаў храмаў і інш. асоб, якія мелі асабістыя заслугі перад царквою. *А.В.Вайцяховіч.*

**ПА́ЦАВА СЛАБАДА́**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Пацава Слабада Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчаны за 1 км на ПнУ ад вёскі. 40 курганоў выш. да 2 м. У 1888 М.Мышанкоў даследаваў 4 насыпы дыям. 11–14 м, выш. 0,35–2,5 м. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў насыпе (2), на гарызонце (1), галавой на З і У (парнае пахаванне), на ПнУ (адзінкавае пахаванне). Пахавальны інвентар – кругавы гаршчок з кляймом, скроневае драцяное кольца, шкляныя і бурштынавая прызматычныя пацеркі. У 1892 У.З.Завітневіч даследаваў 6 курганоў дыям. 8–9 м, выш. 1,4 м. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце, арыентацыя розная. У адным кургане – парнае пахаванне. Пахавальны інвентар – кругавыя гаршкі, жал. нож, сярэбраныя пацеркі, сярэбраныя і бронзавыя кольцы, сердалікавыя і шкляныя пасярэбраныя пацеркі.

*Літ.*: М ы ш е н к о в Н. Курганы Бобруйского уезда Минскай губернии: исслед. 1888 г. // Вестн. археологии и истории. Санкт-Петербург, 1892. Вып. 9.

*П.Ф.Лысенка.*

**ПА́ЦЕРКІ**, дробныя ўпрыгажэнні са скразнымі адтулінамі, нанізаныя на нітку або шнурок, якія ўтваралі каралі, што ўпрыгожвалі шыю і грудзі. Паасобныя П. выкарыстоўвалі для ўпрыгожвання вопраткі, галаўных убораў, абутку; П. маглі выконваць ролю гузікаў. У старажытнасці П. надавалі магічныя ўласцівасці. Яны вядомы ў многіх народаў з каменнага веку. Выраблялі П. з зерня раслін, пладовых костачак, ракавін малюскаў, вапняковых трубачак і інш. У эпоху бронзы былі распаўсюджаны спіралепадобныя бронзавыя, сякерападобныя бурштынавыя, цыліндрычныя касцяныя, медныя П. У раннім жал. веку на Пд і ПдУ Беларусі пашырыліся шкляныя П. Паступалі таксама П. з грэчаскіх і рымскіх гарадоў-калоній Прычарнамор'я. Для плямён *мілаградскай культуры* характэрны П. мона- і паліхромныя з глухога і паўпразрыстага шкла (сіняга, блакітнага, зялёнага, жоўтага), асобныя П. – шарападобныя, зонныя (баранкападобныя), канічныя і біканічныя, прамавугольныя, рабрыстыя; у дэкоры паліхромных П. – хвалістыя і прамыя лініі, «вачкаваты» арнамент (кругавыя абводкі кантрастнай па колеры шкляной ніццю). Некаторыя нізкі П. уключалі бронзавыя прывескі-амулеты. У плямён

*зарубінецкай культуры* пашыраны П. з празрыстага і глухога шкла (фіялетавага, сіняга, блакітнага, зялёнага, жоўтага), малочна-белыя, з пракладкай з залатой фольгі, празрыстыя светла-карычневыя, чырвоныя, фіялетавыя, чорныя; паводле формы – зонныя, цыліндрычныя, шарападобныя, эліпсападобныя, дыска- і ромбападобныя, т.зв. рублены бісер, шарападобныя спараныя; дэкор аналагічны П. мілаградскай культуры. Вядомы таксама сердалікавыя і гліняныя П.; нізкі часта ўключалі металічныя ланцужкі і спіралькі. Значнае пашырэнне набылі П. ў 10–13 ст. Імі аздаблялі адзенне, *скроневыя кольцы*, *завушніцы*, *грыўні*, *бранзалеты*. Некаторыя нізкі налічвалі да 150–400 і болей П. Яны былі разнастайныя па форме і колеры (з глухога, празрыстага і паўпразрыстага шкла; мона- і паліхромныя). Пашыраны былі шматчасткавыя шкляныя нізкі, рублены бісер, П. з пракладкай з залатой альбо сярэбранай фольгі, сердалікавыя, хрустальныя, бурштынавыя, каменныя, з каляровых і паўкаштоўных металаў. Шырока выкарыстоўваліся сярэбраныя і бронзавыя П., нанізаныя на дрот (у *дрыгавічоў*), шкляныя бочкападобныя, цыліндрычная, залачоныя (у *крывічоў*), сердалікавыя, шкляныя, бурштынавыя, паставыя (у *радзімічаў*). У дрыгавічоў у нізках былі распаўсюджаны ружовыя ці чырвоныя сердалікавыя П. ў спалучэнні з белымі (хрустальнымі) і чырвонымі (меднымі) альбо залацістымі (бронзавымі) несапраўдназярнёнымі П. Часта ў нізкі П. уключалі прывескі (лунніцы, крыжыкі і інш.), амулеты, металічныя спіралькі. У пустацелыя П. (сярэбраныя альбо з каляровых металаў) маглі змяшчацца духмяныя рэчывы альбо металічныя шарыкі, якія рабілі П. шумячым упрыгажэннем. Лічыцца, што ў сярэднія вякі шкляныя П. выраблялiся ў Гродне, Навагрудку і Полацку, у 18 ст. – на Гродзенскай мануфактуры шкляных П., а таксама мясц. ювелірамі і шкларобамі бел. гарадоў і мястэчак (Урэчча і інш.). П. з металічнымі падвескамі аздаблялі бел. народнае адзенне.

*Літ.*: Победь Л.Д. Антычныя шкляныя пацеркі з раскопак у Чапліне // ВАНБ. 1966. № 4; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Яніцкая М.М. Вытокі шкларобства Беларусі. Мінск, 1980; Лысенка П.Ф. Гандаль і прывазныя вырабы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII стст.).

*Ю.А.Заяц.*

**ПА́ШАВІЧЫ**, археалагічны помнік – бескурганны могільнік 11–13 ст. каля в. Пашавічы Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на мысе воз. Дрысвяты. У 1991 даследаваў Г.М.Семянчук. Выяўлена 7 пахаванняў па абрадзе трупапалажэння: 5 шкілетаў ляжалі на спіне ў выцягнутым становішчы, галавой на З; адно пахаванне дзіцячае, у адным – напаўспаленыя косці, сабраныя ў кучу. Адзін шкілет быў у драўлянай труне памерам 2,1 × 0,6 м. У 4 раскапаных рытуальных ямах авальнай формы дыям. 0,6–2,6 м выяўлены рэшткі вогнішчаў, косткі жывёл, фр-ты ганчарнай керамікі.

Сярод знаходак 2 ганчарныя гаршкі, 5 жал. нажоў, 5 бронзавых і 1 сярэбранае паўтараабаротныя кольцы, мініяцюрны бранзалет з зааморфнымі галоўкамі, 2 хрустальныя, сердалікавая і шкляная пазалочаная пацеркі, 2 грабеньчыкі, 2 спражкі і 2 паясныя кольцы з бронзы, крэсіва, ключ, вастрыё з рухомым кольцам, брусок. Могільнікам, відавочна, карысталіся жыхары населенага пункта, які размяшчаўся на востраве воз. Дрысвяты.

*Г.М.Семянчук.*

**ПА́ШКАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – селішча, курганныя могільнікі дрыгавічоў каля в. Пашкавічы Мінскага р-на.

С е л і ш ч а на паўн. і паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на агародах, уздоўж правага берага р. Сеніца. Пл. каля 2 га. Культ. пласт да 0,4 м. Адкрыў і абследаваў у 1997 Ю.А.Заяц. Знойдзена кругавая кераміка 10 – сяр. 13 ст. і 16–18 ст.

М о г і л ь н і к - 1 на ўсх. ускраіне вёскі, ва ўр. Царкавішча, побач з могілкамі. Захаваліся 11 курганоў, было 32 насыпы дыям. 5–10 м, выш. 1–2,2 м (адзін дыям. 18,5, выш. 3 м), 1 падоўжаны памерамі 13,6 × 1,2 м. Вядомы з 1924. Абследавалі ў 1930 А.А.Рынейскі, у 1979 В.Е.Собаль. У 1986 Ю.А.Заяц даследаваў 4 насыпы. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце (3) і ў насыпе (1). Пахаванні адзіночныя і парныя ў межах попельнай плямы ад рытуальнага вогнішча, арыентаваны галавой на З. Суправаджальны інвентар: хрустальныя, сердалікавыя і металічныя псеўдазярнёныя пацеркі, манета- і умбонападобныя сярэбраныя падвескі, пярсцёнка-, S-падобныя і пацеркавыя скроневыя кольцы, жал. абручы і дужка ад драўлянага вядра, гаршчок. Датуецца 2-й пал. 10 – 1-й пал. 11 ст.

М о г і л ь н і к - 2 за 0,5 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Ляшчо. Было 14 насыпаў, з іх два выш. 2,53 м. Абследаваў у 1930 А.А.Рынейскі, які адзначаў, што курганоў было больш. У 1979 В.Е.Собаль абследаваў апошні курган выш. каля 2 м, дыям. 25 м. Знойдзены косці і вуглі ад разбураных курганоў. Могільнік не захаваўся.

М о г і л ь н і к - 3 непадалёку ад вёскі, каля дарогі на в. Клімавічы. Было 2 курганы, якія не захаваліся.

*Літ.*: Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч // Працы. Т. 3; Заяц Ю.А. Археологические памятники Менской земли (курганные могильники и селища) в верхнем течении рек Птичь и Свислочь // МАБ. 2006. Вып. 11.

*Ю.А.Заяц.*

**ПЕРАВО́З**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі, курганы, гарадзішча-сховішча каля в. Перавоз Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. У 1893 выявіў Ф.В.Пакроўскі, у 1938–39 абсле-

давалі Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1972 М.А.Ткачоў, у 1981 Л.У.Дучыц.

Курганны могільнік-1 за 2 км на У ад вёскі, у лесе, на левым беразе р. Шоша, ва ўр. Пчальнік (Валатоўкі). 172 насыпы выш. 0,4–3 м, дыям. 4–12 м. У 1998 Л.У.Дучыц даследавала 4 курганы. Пахавальны абрад – трупаспаленне; рэшткі крэмацыі пакрыты гаршкамі.

Курганны могільнік-2 за 1,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Шоша, за 0,5 км на Пн ад курганнага могільніка-1, ва ўр. Каменнае (Каменка). 10 насыпаў выш. 0,7–1 м, дыям. 7–9 м. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-3 за 200 м налева ад дарогі ў в. Маргі. 46 курганоў. У 1989 Л.У.Дучыц раскапала 3 курганы. У 2 курганах выяўлены рэшткі трупаспаленняў, пакрытых гаршкамі; у адным з іх сярод касцей былі аднazвенныя маленькія цуглі і гаршчок. За 0,2 км на Пн ад могільніка выяўлены познасярэдневяковы могільнік з каменнымі крыжамі.

Курганны могільнік-4 за 0,5 км ад дарогі Перадолы–Перавоз. 45 курганных насыпаў і каменныя магілы. У 1989 Л.У.Дучыц даследавала 9 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З у ямах глыб. да 1 м. Пахавальны інвентар: гліняны посуд, шкляныя зялёныя і пазалочаныя пацеркі, бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, бранзалет з імітацыяй пляцення, бронзавыя пазалочаныя гузікі.

Курганны могільнік-5 на правым беразе р. Шоша. 20 насыпаў выш. 0,7–1,2 м, дыям. 6–10 м. Раскопкі не праводзіліся.

Курган-1 за 0,25 км ад дарогі Перадолы–Перавоз. Выш. 1,5 м, дыям. 5 м.

Курган-2 на правым беразе р. Шоша, каля дарогі ў в. Бабруйшчына. Выш. 5 м, дыям. 15 м.

Гарадзішча-сховішча за 0,5 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Шоша.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. 1945. Вып. 11; Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893. *Л.У.Дучыц.*



*Да арт.* ***Першакрычаўскі.*** *Наканечнікі стрэл (1–3), разцы (4, 17–20), пласціны з рэтушаваным канцом (5–8), праколкі (9, 10), вастрыі (11, 12), скрабкі (13–16).*

**ПЕРВАКРЫ́ЧАЎСКІ**, археалагічныя помнікі – стаянкі, селішча і курганныя могільнікі каля пас. Першакрычаўскі Крычаўскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка-1 за 1 км на Пд ад пасёлка, на правым беразе р. Сож, 0,2 км на У ад безназоўнага ручая, на Пн ад ур. Гуляй-Поле. На ворыве сустракаюцца крамянёвыя канкрэцыі, адшчэпы і пласціны. Раскопкі не праводзіліся.

Стаянка-2 на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 0,1 км на Пн ад дачнага пасёлка. Адкрыў у 1931 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1998 В.Ф.Капыцін, у 2004 А.У.Коласаў. На ворыве сабраны крамянёвыя адшчэпы і пласціны.

Стаянка-3 фінальнага палеаліту (культуры з чаранковымі наканечнікамі і свідэрскай культуры), мезаліту, тшцінецкага кола культур бронзавага веку, селішча эпохі феадалізму за 0,7 км на У ад пасёлка, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, ва ўр. Іспуды. Адкрыў у 1931 К.М.Палікарповіч, абследаваў у 1998 В.Ф.Капыцін. Абследаваў у 2004 і даследаваў 220 м² А.У.Коласаў. Культ. пласт 0,1–0,3 м. Калекцыя ўтрымлівае 2391 артэфакт, у т.л. 157 вырабаў з другаснай апрацоўкай. Сярод прылад працы пераважаюць скрабкі і вырабы з выемкай, у невял. колькасці сустракаюцца разцы, вастрыі і праколкі, пласцінкі з прытупленым краем і ўкладышы, трапецыі, чаранковыя наканечнікі стрэл, сякучыя прылады. Таксама знойдзены канкрэцыі, нуклеусы, адшчэпы, пласціны, рэтушор, што сведчыць аб мясц. вытворчасці крамянёвых вырабаў.

Могільнік-1 за 0,6 км на У ад пасёлка, на правым беразе р. Сож, ва ўр. Іспуды. 4 насыпы выш. 1,3–1,7 м, дыям. 8–17 м. Раскопкі не праводзіліся.

Могільнік-2 за 0,5 км на У ад пасёлка, на правым беразе р. Сож, за 0,2 км на Пн ад стаянкі-3. 24 насыпы выш. 0,5–2,5 м, дыям. 6–11 м, адзін разбураны кар'ерам. Раскопкі не праводзіліся.

Могільнікі вядомы з 1873, абследавалі ў 1978 М.А.Ткачоў, у 1970 і 1998 В.Ф.Капыцін, у 2004 А.У.Коласаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Сведения 1873 года о городищах и курганах // Известия археологической комиссии. Санкт-Петербург, 1903. Вып. 5; Палікарповіч К.М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930–1931 гг. // Працы. Т. 3; Копытин В.Ф. Археологические памятники Кричевского района Могилевской области. Могилев, 1999; Колосов А.В. Археологические древности Могилевского Посожья (по материалам экспедиций 2002–2008 гг.). Могилев, 2009.

*А.У.Коласаў.*

**ПЕ́РХАЎКА** Валерый Барысавіч (н. 4.12.1952, в. Такушы Паўночна-Казахстанскай вобл., Казахстан), расійскі археолаг. Канд. гіст. навук (1978). Скончыў Маскоўскі дзярж. ун-т (1975). З 1978 у Ін-це рас. гісторыі Расійскай АН. У 1992–2005 вучоны сакратар секцыі «Гуманітарныя навукі» Камісіі пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі па Дзярж. прэміях у галіне навукі і тэхнікі. Адначасова з 2000 нам. гал. рэдактара, з 2006 старшыня рэдакцыйнага савета часопіса «Преподавание истории в школе». Вывучаў раннесярэдневяковыя старажытнасці міжрэчча Дняпра і Нёмана. Адкрыў і даследаваў шэраг помнікаў калочынскай культуры на левым беразе Прыпяці (Доўгае, Пагост, Слабодка, Шарэйкі і інш.). Сістэматызаваў рэчавы матэрыял помнікаў 3-й чв. 1-га тыс. на тэр. Беларусі і абгрунтаваў іх датаванне. Прытрымліваецца думкі пра балцкую прыналежнасць усіх варыянтаў *банцараўскай культуры*. Вывучае сувязі стараж. насельніцтва Беларусі з зах. і паўд. славянамі, сярэдневяковыя гандл. шляхі на тэр. Беларусі. Выявіў шэраг зах.-слав. элементаў у раннесярэдневяковых помніках Беларусі, абагульніў матэрыялы па знаходках пломбаў драгічынскага тыпу. Паводле пісьмовых і рэчавых крыніц рэканструяваў біяграфію Ефрасінні Полацкай.

*Тв.*: З гісторыі Слуцка // ПГКБ. 1973. № 4; Украшения из раннесредневековых памятников междуречья Днепра и Немана // Вести МГУ. Сер. 8. История. 1978. № 2; Классификация орудий труда и предметов вооружения из раннесредневековых памятников междуречья Днепра и Немана // СА. 1979. № 4; Западнославянские элементы в раннесредневековой культуре междуречья Днепра и Немана // КСИА. 1986. Вып. 187; Распространение пломб дрогичинского типа // Древнейшие государства Восточной Европы: материалы и исслед. 1994 г. // Новое в нумизматике. М., 1996.

*В.І.Шадыра.*



Да арт. **Першабытнае мастацтва**. *Драўляныя скульптура і касцяная качачка са стаянкі-2 Асавец.*

**ПЕРШАБЫ́ТНАЕ МАСТА́ЦТВА**. Пачало зараджацца ў сярэднім палеаліце (каля 100–40 тыс. гадоў таму назад). На тэр. Беларусі найстаражытнейшыя мастацкія вырабы вядомы з позняга палеаліту (арнаментаваны абломак біўня маманта са стаянкі *Юравічы*). На блізкіх па культуры помніках суседніх тэр. сярэдняга Падняпроўя вядомы статуэткі жанчын і птушак, пласціны, аздобленыя геам. арнаментам, з біўняў маманта (стаянкі *Юдзінава* і *Елісеевічы* Бранскай вобл.). На познапалеалітычных стаянках знойдзены ўпрыгажэнні, у т.л. падвескі з ракавінак і зубоў жывёл, пацеркі з трубчастых костак жывёл. Большасць палеалітычных знаходак дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва звязана з першабытным культам плоднасці і паляўнічай магіяй.

Да арт. **Першабытнае мастацтва**. *Вырабы з бурштыну са стаянкі-2 Асавец.*



*Да арт.* ***Першабытнае мастацтва****. Касцяныя падвеска, наканечнік стралы і амулет са стаянкі-7 Асавец.*



З эпохі мезаліту (10–7 тыс. гадоў таму назад), калі пасля адступлення ледавіка інтэнсіўна засяляліся вял. тэрыторыі, засталося мала сведчанняў існавання мастацтва, гал. чынам з-за дрэннай захаванасці касцяных і рагавых вырабаў у пясчанай глебе. На тэр. Беларусі найб. вядома рагавая сякерападобная прылада, багата аздобленая наразным арнаментам, запоўненым белай пастай (Смаргонь).

У неаліце (6–4 тыс. гадоў таму назад) з далейшым развіццём збіральніцтва, палявання і рыбалоўства, з зараджэннем земляробства і жывёлагадоўлі духоўнае і сацыяльнае жыццё стараж. чалавека ўскладнялася, што знайшло адлюстраванне і ў мастацтве. Дасягнулі росквіту шматлікія галіны першабытнага дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва – арнаментаванне, гравіроўка па косці, рогу і абпаленай гліне, аб'ёмная скульптура. Больш разнастайнымі па матэрыяле і форме сталі ўпрыгажэнні і вопратка (стаянка Крывінскага тарфяніку, гл. *Галоўск*). Пачалі знікаць характэрныя для палеаліту ўпрыгажэнні з ракавінак. Паранейшаму шырока выкарыстоўвалі падвескі з зубоў звяроў з прасвідраванымі адтулінамі, пацеркі і пранізкі з распілаваных трубчастых птушыных костак. Каралі з зубоў жывёл дапаўнялі касцянымі, часам арнаментаванымі падвескамі складанай формы. Як аздабленне выкарыстоўвалі касцяныя кольцы, фігурныя і з расшчапаных бабровых іклоў пласцінкі, якія нашывалі на вопратку і галаўныя ўборы, рабілі з іх бранзалеты. У неаліце на тэр. Беларусі ўпершыню паявіліся бурштынавыя ўпрыгажэнні – падвескі разнастайнай формы з прасвідраванымі адтулінамі (Крывіна, *Асавец*), пацеркі, а таксама гузікі. Значнае месца ў П.м. эпохі неаліту займаюць зааморфныя і *ан-трапаморфныя выявы*, прадстаўленыя гравіроўкай і дробнай пластыкай. Сярод іх утвораныя нарэзкамі і дробнымі наколамі-ямкамі схематычныя малюнкі людзей на косці (*Старыя Юрковічы*) і качкі на абломку гаршка (Крывіна); фігуркі чалавека і качкі на гаршку (Юравічы); істоты, што нагадваюць змей, на кераміцы Бел. Паазер'я. Гравіраваныя выявы гэтай эпохі характарызуюцца значным схематызмам і стылізацыяй, а ўзоры дробнай пластыкі – рэалістычнай дакладнасцю (напр., галоўка вадаплаўнай птушкі і падвеска-амулет са стаянкі Асавец). Драўляныя і рагавыя скульпт. выявы галоў барадатых мужчын перадаюць выразнае еўрапеоіднае аблічча познанеалітычных жыхароў Беларусі. У палеалітычны час, ва ўмовах матрыярхату, у выяўленчым мастацтве дамінавалі жаночыя вобразы. У неаліце, з паступовым складваннем патрыярхальных адносін у грамадстве, іх выцясняюць вобразы мужчын. На познанеалітычнай стаянцы Асавец знойдзены найстаражытнейшыя на тэр. Беларусі музычныя інструменты – абломкі птушыных трубчастых костак з прасвідраванымі адтулінамі.

Значнай асаблівасцю неаліту з'яўляецца вынаходніцтва глінянага посуду. У раннім неаліце асн. керамічнымі формамі былі вастра- або кругладонныя яйкападобныя вял. гаршкі з пукатымі сценкамі, часам з адзнакамі рабрыстасці. У познім неаліце посуд стаў больш разнастайным. Паявіліся гаршкі з выражанай шыйкай і лейкападобным венчыкам, паўсферычныя невял. міскі, вастра- і пласкадонныя кубачкі, на З Беларусі – шарападобныя пласкадонныя амфары з вушкамі. Арнамент прасочваецца ўжо на самых ранніх неалітычных пасудзінах: спачатку ў выглядзе глыбокіх круглых ямак пад краем венчыка ў спалучэнні з

гарызантальнымі паскамі грабеньчатых адбіткаў, насечак або наколаў. Пазней аздабленне ўскладнялася, яго элементы ўтваралі кампазіцыі — зігзагі, ромбы. У канцы неаліту з'явіліся шнуравыя адбіткі, якія ўтваралі хвалістыя або фестончатыя ўзоры. Часам арнаменты дапаўняліся схематычнымі выявамі дрэў і паўзуноў. У канцы неаліту і ў бронзавым веку (4—2,5 тыс. гадоў таму назад) з паўсюдным пашырэннем земляробства і жывёлагадоўлі ўзніклі культы, звязаныя з плоднасцю зямлі. У гэты час самымі распаўсюджанымі былі гравіраваныя ўзоры на кераміцы ў выглядзе трохвугольнікаў, ялінак, дуг, ромбаў, салярных знакаў, якія сімвалізавалі нябесныя свяцілы і з'явы прыроды. Дамінуючымі элементамі арнаментаў сталі адбіткі шнура і насечкі, а ў сярэдзіне бронзавага веку — ружанцовыя адбіткі, наляпныя валікі, баразёнкі. Пераважала пласкадонная кераміка.

З авалоданнем майстэрства выплаўкі і апрацоўкі медзі і бронзы паявіліся разнастайныя металічныя ўпрыгажэнні: дыядэмы, грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, падвескі і інш. Асобныя металічныя прылады і зброю аздаблялі рэльефным арнаментам — валікамі, кольцамі, зігзагамі. У бронзавым веку ў Беларусі ўпершыню паявіліся ва ўжытку шкляныя пацеркі і бісер.

Для эпохі жал. веку (7—6 ст. да н.э. — 8—9 ст. н.э.) асаблівай адметнасцю стала з'яўленне слабаабо неарнаментаванай керамікі. Аб'ектам арнаментальнай творчасці стала вопратка з тканіны, якую расфарбоўвалі, вышывалі. Частая знаходка на селішчах жал. веку — гліняныя праслíцы. Многія з іх упрыгожаны наколамі, насечкамі, нарэзкамі, круглыя — акружнасцямі, салярнымі і каляндарнымі сімваламі. Часам наносілі трохвугольныя ўзоры, ромбы, стылізаваныя выявы жывёл, сцэны апрацоўкі зямлі. Вял. індывідуалізацыя ўзораў сведчыць, што яны, верагодна, былі знакамі прыналежнасці пэўным людзям. Жал. век стаў часам росквіту вытворчасці ўпрыгажэнняў з металу — медзі, бронзы, жалеза, зрэдку — з каштоўных металаў. Былі распаўсюджаны бранзалеты і грыўні (з гладкімі, вітымі і рэльефнымі стрыжнямі), скроневыя кольцы і пярсцёнкі (з дроту і пласціністыя), завушніцы, шпількі і фібулы. Каля 2 ст. н.э. паявіліся вырабы з каляровымі эмалямі — спражкі, зашпількі, падвескі і інш. (*Тайманава*, *Малышкі*, *Красны Бор*). Твораў, якія цалкам можна аднесці да выяўленчага мастацтва, на помніках жал. веку знойдзена мала. Сярод іх найб. характэрны гліняныя фігуркі жывёл (пераважна коней) з гарадзішчаў *мілаградскай культуры* на Пд Беларусі. *М.М.Чарняўскі.*

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД ДАСЛЕ́ДЧЫКАЎ БЕЛАРУ́СКАЙ АРХЕАЛО́ГІІ І АРХЕАГРА́ФІІ.** Адбыўся ў Мінску 17—18.1.1926 па ініцыятыве гісторыкаархеал. камісіі *Інстытута беларускай культуры.* Прысутнічалі 36 дэлегатаў і 21 госць. З'езд заслухаў шэраг дакладаў па гіст. спадчыне бел. народа, у т.л. па археалогіі: пра гарадзішчы на тэр. Беларусі (А.М.Ляўданскі), даследаванні стаянак каменнага і бронзавага вякоў у ніжнім цячэнні р. Сож (К.М.Палікарповіч), раскопкі 1925 у Навабыхаўскім р-не і на сярэднім Сажы (І.А.Сербаў), вынікі археал. даследаванняў на тэр. Беларусі. Падведзены вынікі гіст. і археал. даследаванняў. Вызначаны асн. кірункі развіцця гіст. навукі, выказаны прапановы па ўдасканаленні заканадаўства аб ахове помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Выдадзены «Працы Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі» (1926).

*Літ.:* Вяргей В.С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919—1941 гг. Мінск, 1992.

*В.С.Вяргей.*

**ПЕ́РШЫ ЎСЕБЕЛАРУ́СКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ З'ЕЗД.** Адбыўся 7—11.2.1926 у Мінску па ініцыятыве Цэнтр. бюро краязнаўства (ЦБК). Прысутнічалі 146 дэлегатаў, якія прадстаўлялі Інбелкульт, ЦБК, музеі і 87 краязнаўчых суполак, што аб'ядноўвалі каля 5 тыс. чал. З'езд падвёў вынікі краязнаўчага руху ў рэспубліцы, паставіў задачу стварэння краязнаўчага апісання Беларусі шляхам усебаковага абследавання і вывучэння асобных раёнаў. Даклад аб краязнаўчай працы ў галіне гісторыі і археалогіі зрабіў М.В.Доўнар-Запольскі, аб ахове помнікаў даўніны — М.Мароз. Удзельнікі з'езда пастанавілі даручыць мясц. краязнаўчым т-вам зарэгістраваць і абследаваць археал. помнікі, звесткі дасылаць у Інбелкульт; збіраць у насельніцтва старадаўнія рэчы (прылады працы, упрыгажэнні, манеты) і на аснове сабраных калекцый ствараць мясц. краязнаўчыя музеі; наладзіць ахову помнікаў, у прыватнасці гарадзішчаў і курганоў. З'езд прыняў рашэнне звярнуцца да адпаведных дзярж. органаў наконт выдання закона аб ахове помнікаў гісторыі і культуры. Выдадзены «Працы Першага Ўсебеларускага краязнаўчага з'езда» (1926).

*Літ.:* Гл. да арт. *Першы з'езд даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі.* *В.С.Вяргей.*

**ПЕРЫГЛЯЦЫЯ́ЛЬНАЯ ЗО́НА**, тэрыторыя вакол ці непасрэдна каля краю ледавіка, усе прыродныя працэсы на якой фарміраваліся пад яго ўздзеяннем. Шырыня П.з. дасягала соцень кіламетраў. Для яе характэрны замерзлы падглебавы слой (вечная мерзлата), травяністая, тундрастэпавая раслíннасць і холадаўстойлівая (мамантавая) фауна. Велізарныя паўнаводныя «прарэкі» пракладалі сабе рэчышчы скрозь нагрувашчванні марэн — жарствы, валуноў, пяску, гліны — і ўтваралі надпоплаўныя тэрасы. Клімат быў халодны, ветраны, вільготны на пачатку і сухі ў канцы ледавіковых эпох. Спецыфічныя мярзлотныя парушэнні (крыятурбацыі, марозныя кліны і інш.) шырока распаўсюджаны і зафікса-

ваны археолагамі на палеалітычных стаянках *Бердыж, Юравічы*. Працэсы, што адбываліся пад уздзеяннем ледавіка, вывучае палеагеаграфія шляхам аналізу даных перыгляцыяльнай геамарфалогіі, вывучэння страраж. ландшафтаў, фауны і флоры. У час апошняга (паазерскага) зледзянення тройчы адкладаліся лёсападобныя суглінкі, якія перакрылі страраж. стаянкі, з імі звязаны найб. урадлівыя лёсападобныя глебы Беларусі. Тэр. Беларусі ўваходзіла ў П. з. 70—12 тыс. гадоў таму назад.

*Літ.*: Калечиц Е.Г. Первоначальное заселение территории Белоруссии. Минск, 1984.

*У.Ф.Ісаенка, А.Г.Калечыц.*

**ПЕСКАЎЦЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі эпох неаліту, мезаліту і бронзавага веку каля в. Пескаўцы Лідскага р-на Гродзенскай вобл.

Стаянка-1 за 0,4 км ад вёскі, на краі высокай правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Выявіў у 1966 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт месцамі да 0,5 м. Знойдзены лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, укладышы, скрабкі, рубячыя прылады, кераміка з наразным і шнуравым арнаментам. Адносіцца да эпохі мезаліту, бронзавага веку.

Стаянка-2 каля ўсх. ускраіны вёскі, на выступе правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Выявіў у 1973 А.І.Зімянкоў, даследаваў 40 м² у 1983 М.М.Чарняўскі. Памеры 120 × 40 м. Выяўлены агнішча-кастрышча, крамянёвыя вырабы, кераміка ранняга этапу нёманскай культуры.

*М.М.Чарняўскі.*

**ПЕСКІ**, археалагічныя помнікі – стаянкі і селішчы каля в. Пескі Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл.

Стаянка-1 за 1 км на ПнЗ ад вёскі, за 0,3 км ад упадзення р. Матвіца ў р. Зальвянка, на пясчанай дзюне. Выявіў і даследаваў у 1965 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт 0,1 м. Сабраны крамянёвыя прылады працы.

Стаянка-2 за 3 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Гай. Выявіў і даследаваў у 1969 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, разцы, рэжучыя прылады працы, фр-ты ляпной керамікі. Адносіцца да нёманскай культуры. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

Стаянка-3 за 3,5 км на ПнУ ад вёскі, каля старыцы р. Зальвянка. Выявіў і даследаваў у 1969 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, фр-ты керамікі нёманскай культуры. Датуецца 4—3-м тыс. да н.э.

Стаянка-4 за 0,3 км на ПдУ ад вёскі, узвышаецца над старыцай р. Зальвянка на выш. да 3 м, памеры 120 × 40 м. Выявіў М.М.Чарняўскі, даследавала ў 1987—88 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт да 0,25 м. Знойдзены масіўныя скрабкі, двухпляцовачныя нуклеусы, скоблі, праколкі, нажы, укладышы, трапецыя. Адносіцца, верагодна, да эпохі позняга мезаліту; датуецца 6—5-м тыс. да н.э.

Стаянка-5 за 0,8 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Зальвянка. Выш. над узроўнем вады 4—6 м. Памеры 120 × 40 м. Выявіў у 1985 В.У.Шаблюк, даследавалі ў 1986—89 В.У.Шаблюк і Н.В.Шаблюк. Культ. пласт да 0,35 м. Знойдзены наканечнік стралы, двух- і аднапляцовачныя нуклеусы, праколкі, пракруткі, канцавыя скрабкі, рубячыя і ўкладышавага тыпу прылады. Адносіцца да свідэрскай культуры; датуецца 7—5-м тыс. да н.э.

Стаянка-6 за 0,4 км на У ад вёскі, у лесе, на 1-й надпоймавай тэрасе. Выявіў у 1986 В.У.Шаблюк, даследавала ў 1987 і 1989 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт да 0,35 м. Знойдзены матэрыялы эпохі мезаліту: двухпляцовачныя нуклеусы са скошанымі пляцоўкамі свідэрскага тыпу, высокія канцавыя скрабкі, абломак рубячай прылады, фігурны прамень-скобля, праколкі, вял. колькасць адшчэпаў і пласцінак.

Стаянка-7 за 1,2 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Зальвянка. Выш. над узроўнем вады 1—1,5 м. Выявіла ў 1987, даследавала ў 1987—88 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт да 0,25 м. Знойдзены матэрыялы эпохі мезаліту: канцавыя скрабкі з пласцінак, рэтушаваныя мікрапласцінкі, бакавыя разцы, двухпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы і пласціны.

Селішча-1 за 1 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Зальвянка. Выявіў у 1976 М.М.Чарняўскі, абследаваў у 1978 Я.Г.Звяруга. Культ. пласт 0,3—0,65 м. Знойдзены фр-ты ганчарных гаршкоў, косці свойскіх і дзікіх жывёл.

Селішча-2 за 0,2 км ад моста (уверх па рацэ), на правым беразе р. Зальвянка. Выявіла і абследавала ў 1958 Ф.Д.Гурэвіч, абследавалі ў 1973 П.Ф.Лысенка, у 1984 Я.Г.Звяруга. Культ. пласт 0,2—0,6 м, прасочваецца ўздоўж ракі на адлегласці 150 м. Знойдзены фр-ты ляпных і ганчарных пасудзін з дамешкам жарствы ў гліне.

Селішча-3 за 0,8 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Зальвянка. Пл. каля 3000 м². Адкрыў у 1984 і даследаваў 2000 м² у 1985—88 В.У.Шаблюк. Культ. пласт 0,3—0,5 м. Выяўлены гасп. ямы, запоўненыя фр-тамі кухоннага посуду і косткамі жывёл. Знойдзены нажы, спражкі, глінянае грузіла, тачыльны брусок. Датуецца 15—17 ст.

Селішча-4 за 0,4 км на У ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Зальвянка, на ўзлеску. Выявіў і даследаваў 24 м² у 1985 В.У.Шаблюк. Культ. пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены фр-ты бытавой керамікі 16—18 ст., косткі жывёл, бронзавая накладка ад пояса.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Зверуго Я.Г. Исследования в Понеманье // АО 1978. М., 1979.

*М.М.Чарняўскі, Я.Г.Звяруга, В.У.Шаблюк, Н.В.Шаблюк.*

**ПЕТРАГРАФІ́ЧНЫ АНА́ЛІЗ**, мінералага-петраграфічны аналіз, адзін з метадаў петраграфіі (навукі аб горных пародах), які даследуе рэчыўны склад, будову і фізічныя ўласцівасці горных і асадачных парод з мэтай іх дыягностыкі, высвятлення ўмоў фарміравання і наступнага выкарыстання.

Петраграфія як самастойная навука вылучылася ў сяр. 19 ст., калі англічанінам Г.К.Сорбі ў 1858 упершыню была прапанавана методыка вывучэння горных парод пры дапамозе палярызацыйнага мікраскопа. Петраграфія асадачных парод (гліна, пясок і інш.) адасобілася ад агульнай у 1-й чв. 20 ст. Апрабаваны геалагічнай навукай на масавым матэрыяле, П.а. пачаў выкарыстоўвацца ў замежнай археалогіі пры вывучэнні стараж. керамікі ў 1930-я г. У сав. археалогіі метад пачаў прымяняцца з 1957 (Э.В.Сайко), з 1961 быў асвоены ў Ін-це археалогіі СССР (В.Ю.Круг). У Беларусі мэтанакіраванае вывучэнне стараж. керамікі з дапамогай метадаў прыродазнаўчых навук (мінералага-петраграфічны і інш.) пачалі праводзіць з к. 1980-х г.

Вывучэнне ўзораў стараж. керамікі ў празрыстым шліфе пры павялічэнні ад 100 да 1000 разоў дае значныя звесткі аб характары гліністай сыравіны, кампанентнага і мінеральнага складу, штучных дамешкаў, фіксуе прысутнасць тонказдробненых дамешкаў (менш за 1 мм), што дазваляе больш дакладна меркаваць аб складзе і ўдзельнай вазе розных кампанентаў фармовачных мас. Пры даследаванні каменных прылад метад дапамагае вызначыць асаблівасці горнай пароды, месца здабычы сыравіны, тэхналогію яе перапрацоўкі; пры вывучэнні керамікі дазваляе выявіць рэжым і сярэднюю тэмпературу абпалу вырабаў, удакладніць узровень развіцця стараж. вытворчасці керамічнага посуду. *Н.М.Дубіцкая.*

**ПЕТРАПО́ЛЛЕ**, археалагічны помнік – паселішча эпохі неаліту (*верхнедняпроўская культура*) і бронзавага веку (*сярэднедняпроўская культура*) каля в. Петраполле Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. За 2 км на З ад вёскі, на левабярэжжы р. Сож, за 2–3 км на Пд ад вусця р. Покаць і воз. Крысы, ва ўр. Негацень. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1954 К.М.Палікарповіч і Я.Г.Краскоўская, у 1978 А.Г.Калечыц і І.М.Цюрына. Вывучана 50 м². Культ. пласт каля 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, рубячыя прылады, нажы, скоблі, праколкі, свярдзёлкі, адходы крамянёвай вытворчасці і інш., а таксама рэшткі ляпнога посуду, упрыгожанага грабеньчата-ямкавым і лапчастым арнаментам, нарэзкамі, лінейным штампам.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т.1. *А.Г.Калечыц.*

**ПЕ́ТРЫКАЎ**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля г. Петрыкаў Гомельскай вобл.

Паселішча-1 на зах. ускраіне горада, на левым беразе р. Прыпяць, ва ўр. Крутуха. Адкрыў і даследаваў у 1932 А.Дз.Каваленя. Выяўлены 3 паўзямлянкавыя жытлы, якія ацяпляліся агнішчамі, складзенымі з камянёў і кавалкаў балотнай руды. Ю.У.Кухарэнка аднёс матэрыялы помніка да *пражскай культуры*, І.А.Гаўрытухін датаваў керамічны комплекс паселішча-1 5 – 1-й пал. 6 ст.

Паселішча-2 за 0,3 км на ПдЗ ад паселішча-1, на левым беразе р. Прыпяць. На ПнЗ помнік абмяжоўвае аўтадарога Петрыкаў–Жыткавічы. Пл. каля 1 га. Выявіла ў 1999 і даследавала звыш 700 м² у 1999–2004 В.С.Вяргей. Культ. пласт 0,6–0,75 м. Выяўлены жытлы (5), каменныя брукоўкі (4), гасп. і слупавыя ямы. Жытлы ўяўляюць сабой зрубавыя паўзямлянкі прамавугольнай, у плане блізкай да квадрата формы, паглыбленыя ў грунт на 0,6–1,1 м і арыентаваныя вугламі па баках свету. Даўж. сценак 3,5–5,3 м. Ацяпляліся агнішчамі, складзенымі з камянёў, камянёў і кавалкаў балотнай руды, камянёў, замацаваных глінай. Адна пабудова абагравалася купальнай печчу, збудаванай з гліны з дамешкам дробных камянёў. 2 жытлы маюць сляды рэканструкцыі. Каменныя брукоўкі шыр. 0,5–0,6 м і даўж. 1–1,6 м размяшчаліся парамі і знаходзіліся на мацерыку, арыентаваны з ПнЗ на ПдУ. Мелі выцягнутую ў плане форму. Складаліся з 3–4 вял. камянёў дыям. да 0,35 м, прастора паміж якімі запаўнялася дробнымі камянямі ў адзін рад. Рэчавы матэрыял (каля 14 000 адзінак) складаецца з фр-таў ляпной, ранніекругавой і познакругавой керамікі, невял. колькасці апрацаванага крэменю (у т.л. абломак свідэрскага наканечніка стралы),



Да арт. **Петрыкаў**. Ляпныя гаршкі з селішча-2.

костак жывёл, металічных, шкляных і каменных вырабаў. У керамічным комплексе паселішча дамінуе кераміка тыпу Прага-Карчак, прадстаўленая фр-тамі ляпных гаршкоў з шурпатай або бугрыстай паверхняй, з дамешкамі жарствы ў ганчарнай масе. Зрэдку сустракаюцца абломкі місак. Пераважаюць слабапрафіляваныя гаршкі з вертыкальнай або крыху адхіленай вонкі шыйкай і найб. пашырэннем у верхняй частцы пасудзіны. Арнаментацыя адсутнічае, толькі ў адным жытле выяўлены гаршкі, упрыгожаныя пластычным валікам пад венчыкам. У керамічным комплексе паселішча прысутнічаюць адзінкавыя фр-ты пасудзін эпохі неаліту і бронзавага веку, *мілаградскай культуры* ранняга жал. веку. Сустракаецца таксама кераміка *зарубінецкай культуры* і *кіеўскай культуры.* Раннекругавы або падпраўлены на ганчарным крузе посуд прадстаўлены гаршкамі з прамой або адхіленай вонкі шыйкай і выразна прафіляваным плечуком, які ўпрыгожаны лінейным і хвалістым прутавым арнаментам. Гэта кераміка найб. блізкая да валынцаўскай культуры (на правабярэжжы Дняпра – 8 ст.). Выяўлены прасліцы пераважна біканічнай формы, абломкі хлебцаў. Знойдзены фр-ты каменных тачыльных брускоў, жал. нажоў з прамой спінкай, цвік ад конскай падковы, утулкавы наканечнік стралы з пяром рамбічнай формы, падпрамавугольнай формы спражка, шпілька даўж. 11,4 см, абламаны рыбалоўны кручок і інш. Бронзавыя вырабы прадстаўлены колцамі, бруском-нарыхтоўкай. На падлозе аднаго з жытлаў знойдзена сярэбраная завушніца ў выглядзе пустацелага шарападобнага гузіка, замацаванага на дужцы. У інш. жытле выяўлена золаташкляная 2-часткавая пацерка. Паселішча-2 датуецца 1 ст. да н.э. – рубяжом 7–8 ст. н.э.

Паселішча-3 (Петрыкаў-Белка) за 0,5 км на У ад Петрыкава, на левабярэжжы р. Прыпяць. Памеры 240 × 500 м. Адкрыў у 1961 У.Ф.Ісаенка. Абследавала ў 2004 і даследавала 1400 м² у 2008 В.С.Вяргей. Культ. пласт 0,4–0,9 м. Знойдзена звыш 3000 артэфактаў. Керамічны комплекс прадстаўлены ляпной і кругавой керамікай. Сярод ляпной керамікі вылучаюцца абломкі пасудзін *днепра-данецкай культуры*, кола культур шнуравой керамікі і *тшцінецкай культуры.* Посуд днепра-данецкай культуры вастрадонны, са злёгку выгнутымі альбо прамымі шыйкамі. У ганчарнай масе прысутнічаюць жарства і раслінныя дамешкі, альбо шамот. Пасудзіны кола культур шнуравой керамікі пласкадонныя. Сустракаецца посуд з патаўшчэннем пад краем венчыка (каўнерыкі), з прамой адхіленай вонкі шыйкай і патоўшчаным закругленым абрэзам венчыка. Паверхня пасудзін аздаблялася лінейным штампам, шнуравым і вусеневым арнаментам. Упрыгожвалася верхняя частка посуду, зрэз венчыка альбо паверхня пад яго ўнутраным краем. У якасці збядняючых дамешкаў ужываліся шамот і жарства. Керамічны набор тшцінецкай культуры адпавядае яе позняму этапу. На паселішчы таксама выяўлены фр-ты ляпнога посуду *мілаградскай культуры,* які выраблялі з ганчарнай масы з дамешкамі жарствы і зрэдку шамоту. Колер пасудзін пераважна карычневы альбо шэра-карычневы. Знешняя паверхня посуду часта была добра загладжанай, у некаторых выпадках падглянцаванай. Частка гаршкоў упрыгожана ў ніжняй частцы шыйкі, альбо на пераходзе ад шыйкі да плечука ямкавымі наколамі са знешняга боку. Радзей сустракаецца традыцыйны для мілаградскай культуры жамчужны арнамент у выглядзе паўсферычных выпуклін на шыйцы гаршка. Па тэхналагічных параметрах (склад ганчарнай масы, апрацоўка паверхні і інш.) мілаградскі керамічны комплекс паселішча належыць да заходняга варыянту культуры. Сярод кругавой керамікі вылучаецца посуд перыяду Тураўскага княства к. 10 – пач. 13 ст. Сценкі пасудзін упрыгожаны хвалістым, а часцей лінейным рыфлёным арнаментам. Керамічны комплекс эпохі ВКЛ прадстаўлены абломкамі гаршкоў, місак, талерак, глечыкаў, макотраў, паліванай кафлі і інш. Сярод крамянёвых артэфактаў прысутнічаюць наканечнік стралы эпохі ранняга бронзавага веку, адшчэпы, сколы, пласціны нажападобныя і з рэтушшу, нажы на масіўных адшчэпах, скрабкі і інш. Выяўлены таксама тачыльныя камяні, жал. нажы, цвікі, круглая спражка, фр-ты падковы і рыбалоўнага кручка, маленькае кавадла. Цалкам захаваўся гліняны мілаградскі грузік у форме пасудзіны. Знойдзены ажурная металічная накладка, якая, хутчэй за ўсё, упрыгожвала куфар, медная рас. капейка 1897, фр-ты шклянога посуду, касметычная альбо аптэчная бутэлечка, пярсцёнак з каляровага металу, упрыгожаны гербавай пячаткай з сіняга шкла 17–18 ст. Першае насельніцтва паселішча – плямёны днепра-данецкай познанеалітычнай культуры (3-е тыс. да н.э.). Наступны этап функцыянавання помніка звязаны з насельніцтвам кола культур шнуравой керамікі, пазней тут фіксуюцца матэрыялы, якія сведчаць аб прысутнасці тшцінецкага насельніцтва эпохі бронзавага веку. Найб. колькасць аб'ектаў і матэрыялаў на паселішчы звязана з гасп. дзейнасцю насельніцтва мілаградскай культуры эпохі ранняга жал. веку. Пасля перапынку помнік зноў быў заселены ў 8–9 ст. н.э. і функцыяніраваў да пач. 20 ст.

*Літ.:* Ляўданскі А.М. Папярэднія вынікі работы археалагічнай брыгады Палескай экспедыцыі // Савецкая краіна. 1932. №9; Я г о ж. Да гісторыі жалезнага промыслу на Палессі. Мінск, 1933; Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. М., 1961. Вып. Е1–5; Гавритухин И.О. Хронология пражской культуры // Тр. VI Междунар. конгресса слав. археологии. М., 1997. Т. 3; Вяргей В., Трымер В.

Раннеславянскае паселішча Петрыкаў-2 на р. Прыпяць // ГАЗ. 2003. №18; І х ж а. Раскопкі Паселішча Петрыкаў-2 на р. Прыпяць // Там жа. 2004. №19; І х ж а. Археалагічныя даследаванні ў Петрыкаўскім р-не Гомельскай вобл. // Там жа. 2005. № 20.

*В.С.Вяргей.*

**ПЕХ** Георгій Іосіфавіч (17.12.1897, г. Луга Ленінградскай вобл.– 19.5.1969), беларускі краязнавец і археолаг. Вучыўся ў Свянцянскай гімназіі (1912–15). Працаваў на чыгунцы ў Зах. Беларусі, дырэктарам Ваўкавыскага краязнаўчага музея (1940, 1948–66), базай для стварэння якога з'явіліся сабраныя ім гісторыка-археал. матэрыялы. У 1940 і 1946–48 заг. гіст. аддзела Гродзенскага гісторыка-археал. музея. Удзельнічаў у археал. раскопках Ваўкавыска (1925, 1954–56), Мінска (1946), Турыйска (1961–62). Правёў самастойныя раскопкі ў Ваўкавыску (1948, 1958) і Слоніме (1959). Абследаваў археал. помнікі ў ваколіцах Ваўкавыска (Аменічы, Зубаўшчына, Лазы, Мітрані, Мсцібава і інш.). Сабраў нумізматычную калекцыю.

*Тв.*: Тайна Турейского городища // Сов. Белоруссия. 1962. 23 сент.; Па слядах мінулага (разам з К.Кавальскай) // Гродзенская праўда. 1962. 16 кастр.; Раскопки в Волковыске в 1958 г. // СА. 1963. № 1; Раскопки древнего Слонима // Древности Белоруссии. Минск, 1966.

*Я.Г.Звяруга.*

**ПЕЧ**, глінабітнае або мураванае збудаванне для ацяплення хаты, гатавання ежы, выпечкі хлеба і інш. Адзін з асн. элементаў інтэр'ера нар. жылля. Археалагічна прасочана ў пабудовах пражскай культуры (5–7 ст.). У міжрэччы Дняпра і Віслы у большасці выпадкаў жытлы (паўзямлянкі пл. 5–20 м²) абаграваліся печкамі-каменкамі. На Палессі і Валыні сустракаюцца глінабітныя П., на паўн. беразе Прыпяці – адкрытыя агнішчы, выкладзеныя камянямі, часам з кавалкамі балотнай руды (Петрыкаў, Кажан-Гарадок, Камень). П. шырока выкарыстоўваліся таксама ў жылых і гасп. пабудовах перыяду Кіеўскай Русі. Звычайна ставіліся ў адным з кутоў. У Беларусі выяўлены разнастайныя па канструкцыі каменныя і глінабітныя П. Падножжа іх рабілася на грунце або на невял. узвышшы – апечку. Да к. 13 ст. склаўся знешні выгляд П. з ляжанкай. Зроблена спроба рэканструкцыі 2 глінабітных П. Мінская П. 12 ст. ўяўляла сабой топачную камеру, пастаўленую на невял. падножжа з гліны і каменю. Размяшчалася ў правым бліжнім куце ад дзвярэй. Да яе быў прыбудаваны драўляны ляжак. Мінская П. 2-й пал. 13 ст. больш дасканалая па канструкцыі. Топачная камера размяшчалася на невял. апечку слупавой канструкцыі. Пад П. ўяўляў сабой гліняную пляцоўку. Пад ім у апечку быў свабодны прамежак для захоўвання посуду. У вуглавым слупе апечка зафіксаваны 2 урубленыя жэрдкі, прызначаныя для гарызантальнага памоста ляжанкі. Под і ляжанкі знаходзіліся на адным узроўні над падлогай (55–60 см). П. падобнай канструкцыі ставіліся ў Полацку ў 2-й пал. 13 ст.

*Літ.*: Загорульский Э.М. Древний Минск. Минск, 1963; Я г о ж. Возникновение Минска. Минск, 1982; Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Зверуго Я.Г. Древний Волковыск X–XIV. Минск, 1975; Штыхов Г.В. Древний Полоцк, IX–XIII вв. Минск, 1975; Я г о ж. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.). Минск, 1978; Русаў П.А. Унутраны выгляд мінскай хаты другой палавіны XIII ст. // ВАНБ. 1987. № 6.

*П.А.Русаў.*

**ПІВАВА́РЧЫК** Сяргей Аркадзьевіч (н. 12.8.1962, г. Барысаў Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (2009). Скончыў Гродзенскі дзярж. ун-т імя Я.Купалы (1987). У 1990–94 працаваў у Брэсцкім дзярж. педагагічным ін-це імя А.Пушкіна. З верасня 1994 – у Гродзенскім дзярж. ун-це імя Я.Купалы, са студз. 2002 – дацэнт, са студз. 2008 – загадчык кафедры археалогіі і этналогіі. Адначасова ў 1991–94 навук. супрацоўнік археал. музея «Бярэсце», у 1995–2003 – Бел. дзярж. музея гісторыі рэлігіі ў Гродне. З 2002 навук. кіраўнік Т-ва вайсковай археалогіі і гісторыі. Удзельнічаў у археал. экспедыцыях у Віцебску, Гродне, Клецку, Навагрудку, Міры, Гальшанах. Праводзіў даследаванні гарадзішчаў Мсцібава (Ваўкавыскі раён), Кульбачына, Касцянева, Турэйск (Шчучынскі раён), Мерачоўшчына (Івацэвіцкі раён), Збочна, «Касаўскі тракт» у Слоніме. Прымаў удзел у Падляшскай экспедыцыі. Асноўныя накірункі гіст. даследаванняў – археалогія Усх. Еўропы, вайсковая гісторыя і археалогія Беларусі, гісторыя фартыфікацыі Беларусі новага і навейшага часу, гісторыя нацыянальных меншасцяў Беларусі (яўрэяў і татар) і музеязнаўства.

*Тв.*: Да этнічных працэсаў на Панямонні ў раннім сярэднявеччы. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1999. № 11; Городища X–XIII вв. Белорусского Понеманья (социально-историческая типология) // История и культура древних и средневековых славян. Тр. VI Междунар. конгресса слав. археологии. М, 1999. Т. 5; Невядомыя раскопкі Брэста ў 1938 годзе // ГАЗ. Мінск, 1999. № 14; Военная археология в Беларуси: комплексное исследование памятников долговременной фортификации // МАБ. 2003. № 7; Эвалюцыя гродзенскай фартыфікацыі (XI – XX ст.) // 60-летие образования Гродненской области. Материалы Международной научной конференции. Гродно, 2004; Белорусские земли в системе фортификационного строительства Российской империи и СССР (1772–1941). Гродно, 2006.

*А.А.Мяцельскі.*

**ПІКА**, дрэўкавая зброя (разнавіднасць *кап'я*) з наканечнікам, які мае вузкае доўгае гранёнае пяро з канічнай утулкай і прызначаны для нанясення колючых удараў і прабівання даспехаў праціўніка. П. выкарыстоўваліся ў першую чаргу вершнікамі. На тэр. Беларусі з'яўляюцца ў 2-й пал. 10–11 ст. (курганныя могільнікі *Дзянісенкі*, Заслаўе). Актыўнае выкарыстанне такой зброі пачалося ў сяр. 12–13 ст. (Ваўкавыск, Лукомль,

*Пікі: 1 – Ваўкавыск, 2 – гарадзішча Вішчын, 3 – Лукомль (сярэдзіна 12–13 ст.), 4 – Віцебск, 5–6 – Мінск (пачатак 17 ст.).*




Мінск, Навагрудак, гарадзішча *Вішчын*), калі распаўсюдзіліся П., якія мелі доўгае квадратнае альбо рамбічнае ў сячэнні пяро з практычна паралельнымі гранямі і ўтулкі ў форме выцягнутага конуса. У шэрагу наканечнікаў пераход ад пяра да ўтулкі аформлены ў выглядзе невял. патаўшчэння. Стараж.-рус. П. прызначаліся для нанясення разнастайных колючых удараў, здольных прабіць адносна гнуткія кольчатыя альбо пласцiністыя даспехі. У 15–17 ст. на тэр. Беларусі выкарыстоўваліся 2 тыпы наканечнікаў П.: з доўгім пяром і адносна кароткай утулкай (Віцебск); з адносна кароткім пяром квадратнага, прамавугольнага ці рамбічнага сячэння і масіўнай утулкай (Мінск, Мсціслаў, Тураў). Фактычна, П. 2-га тыпу ўяўляюць сабой конусы, дзе пяро з'яўляецца прамым працягам утулкі. Верагодна, наканечнікі 2-га тыпу належалі «коп'ям», ці «дрэвам», – П. з доўгім (да 4 м) і тоўстым дрэўкам, што прызначаліся выключна для тараннага ўдару з мэтай прабіць пласцiністыя даспехі. Таксама выкарыстоўваліся доўгія пяхотныя П. – «шпісы». На ўзбраенні ў кавалерыі П. былі да 1-й пал. 20 ст.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX–XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1–36; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008.; Плавинский Н.А. Пики XI–XVI вв. с территории Беларуси // Археология и история Пскова и Псковской земли. материалы 53 заседания. Псков, 2008.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**ПІЛІПАВІЧЫ**, археалагічны помнік – гарадзішча-сховішча каля в. Піліпавічы Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл. За 1 км на У ад вёскі, 0,25 км на З ад санаторыя «Буг», на мысападобным выступе тэрасы пры ўпадзенні р. Трасцяніца ў р. Мухавец, ва ўр. Кут. Пляцоўка круглай формы дыям. каля 70 м, умацавана кальцавым валам выш. да 1,5 м. З паўд.-ўсх. і паўн.-зах. бакоў умацаванні дапоўнены дугападобнымі валамі. Адкрыў у 1978 Ю.У.Кухарэнка. У 1992 А.В.Іоў даследаваў 96 м², культ. пласт 0,26–0,47 м. Знойдзена больш за 1300 фр-таў кругавой і 3 ляпной керамікі, жал. ланцэтападобны бранябойны наканечнік стралы, тачыльны камень, косткі жывёл і інш. Рэшткаў пабудоў не выяўлена. Датуецца 10 ст.

*А.В.Іоў.*

**ПІЛЬВІНЫ́**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Пільвіны Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. За 1,3 км на Пд ад вёскі, за 700 м на Пн ад правага берага р. Вілія, у лесе. Захаваліся 22 насыпы дыям. 6–12 м, выш. да 1,6 м, якія цягнуцца з ПнЗ на ПдУ на 280 м. Найб. буйныя насыпы знаходзяцца ва ўсх. частцы могільніка. Вакол некаторых курганоў ёсць раўкі, па краях – каменныя вянкі. У к. 19 ст. тут было 36 насыпаў. У 1895 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 14 курганоў і 3 курганападобныя насыпы без слядоў пахаванняў. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Рэшткі спаленняў змешчаны на гарызонце або ў насыпе, у адным выпадку на вяршыні. У большасці курганоў выяўлены па 2–3 пахаванні. Побач з чалавечымі знойдзены конскія косці. Пахавальны інвентар: жал. нажы і сярпы, шылы, наканечнік кап'я, страмёны, цуглі, спражкі, фібула, гліняныя прасліцы, бронзавыя бранзалеты. Могільнік належаў балцкаму (усходнеліт.) насельніцтву, датуецца 2-й пал. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: Покровский Ф.В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении. М., 1899.

*Я.Г.Звяруга.*

**ПІНСК**, горад, цэнтр Пінскага р-на, у сутоках рэк Піна і Прыпяць, за 175 км на У ад Брэста. Чыг. станцыя на лініі Брэст–Лунінец, вузел аўтадарог на Іванава, Івацэвічы, Лунінец, Столін. Рачны порт.

П. (летапісны Пинеск, Пиньск) упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1097, калі ўладзімірскі кн. Давыд Ігаравіч папярэджваў вял. кн. кіеўскага пра захоп тураўскіх уладанняў: «Увидишь, займет города твои Туров и Пинск и другие, тогда помянеш меня». Назву атрымаў ад р. Піна. Да сяр. 12 ст. горад Тураўскага княства, з 2-й пал. 12 ст. цэнтр удзельнага Пінскага княства. З пач. 14 ст. ў складзе ВКЛ, гандл. горад Трокскага ваяводства. У 1539 цэнтр староства, з 1566 цэнтр павета ў Брэсцкім ваяводстве. У 1581 П. атрымаў магдэбургскае права і герб – на чырвоным полі шчыта залаты лук са стралой і нацягнутай цецівой. Пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 у П. ўзнікла праваслаўнае брацтва, якое ў 1633 адкрыла школу. У час антыфеад. вайны 1648–51 увосень 1648 жыхары П., якія далучыліся да паўстанцаў, разам з казацкім атрадам аказалі ўпартае супраціўленне войску карнай экспедыцыі Я.Радзівіла. Горад быў спалены поўнасцю, а насельніцтва перабіта. У час Паўн. вайны 1700–21 войскі шведскага караля Карла XII захапілі

і разрабавалі П., спалілі яго прадмесце Каралін і ўзарвалі замак старосты кн. М.Вішнявецкага. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) П. у складзе Расійскай імперыі.

Гарадзішча стараж. П. размяшчалася на левым узвышаным беразе Піны пры ўпадзенні яе ў Прыпяць, складалася з дзяцінца і вакольнага горада. Паводле плана горада 1794, дзяцінец пл. каля 1,75 га меў авальную форму, па перыметры быў умацаваны абарончымі валамі, у паўн. яго частцы размяшчалася, відаць, абарончая вежа якая прыкрывала ўезд. З паўд. боку лінія валоў перарывалася; магчыма, схілы дзяцінца, што спускаліся да ракі, былі дастаткова абаронены прыроднымі перашкодамі. Дзяцінец быў абкружаны дугападобным шырокім ровам, які ўпіраўся абодвума канцамі ў раку. У 1926—28 у рове размяшчаўся гар. рынак, для расшырэння рыначнай плошчы ўсх. і паўн. схілы дзяцінца былі зрэзаны. На ўсх. і паўн. участках рова схілы былі тэрасаваны, дно прысыпана і знівеліравана. Зах. і частка паўн. ўчасткаў рова забудаваны, разараны і сёння ўяўляюць сабой шырокую нізіну глыб. да 4—6 м, па дне якой пракладзена вуліца. Пры расшырэнні гар. плошчы паўн. участак рова быў засыпаны, усх. схіл пашкоджаны, на дзяцінцы пабудаваны шматпавярховы дом. Абарончы вал у 1962 прарэзаны раскопам (даследаваў Б.В.Міралюбаў). Яго шыр. ў аснове перавышае 20 м, выш. часткі, што захавалася, 2,5 м. Са знешняга боку вала прасочана некалькі паслядоўных падсыпак, каля ўнутранага боку на пляцоўцы гарадзішча ёсць паглыбленне шыр. каля 10 м, глыб. да 1 м. На мацерыку сабраны фр-ты керамікі 11 ст. У 1954 у час земляных работ ускрыты канструкцыі з паралельных драўляных сцен, злучаных папярочнымі перамычкамі так, што ўтвараліся квадратныя клеткі памерам 1,5 × 1,5 або 2 × 2 м. Верагодна, яны прызначаліся для ўмацавання землянога вала ад апаўзання. Глыб. рова ў паўн. частцы дзяцінца дасягала 9 м (на такую глыбіню ў 1962 быў закладзены фундамент дома на месцы рова). У 1961 Я.І.Бібікаў і Б.В.Міралюбаў праводзілі раскопкі дзяцінца. Сярод знаходак — шмат фр-таў шкляных бранзалетаў, амфар, шыферных прасліц, тачыльных брускоў, а таксама жал. нажы, замкі, сярпы, шпоры, крэсіва, пісала, цёслы, дужкі ад вядра, драўляныя днішчы і клёпкі ад бочак, дзвярныя засаўкі, рыдлёўкі, фр-т ільнамялкі, матыка, малаток, кавалкі скуранога абутку і інш. У 14—18 ст. на тэр. гарадзішча існаваў замак.

Вакольны горад прымыкаў да дзяцінца паўкальцом шыр. больш за 100 м з усх., паўн. і зах. бакоў, з Пд упіраўся ў р. Піна. Яго межы прасочаны паводле плана 1794, рэльефу мясцовасці, пашырэння культ. пласта і інш. Даследавалі у 1955 і 1957 Т.У.Раўдзіна, у 1960—64 Я.І.Бібікаў і Б.В.Міралюбаў, ў 1963—64 П.Ф.Лысенка. Абарончыя збудаванні прасочаны ў археал. раскопках 1955, пры буд. работах у 1958, 1961, 1963. Яны складаліся з вала і рова, найб. поўна захаваліся з паўн. боку вакольнага горада. За нешырокім (6—7 м), але глыбокім (да 4 м) ровам на выкідзе з яго зямлі былі пабудаваны драўляныя сцены зрубнай канструкцыі (прасочаны бярвёны 10 вянкоў пярэдняй і 5 вянкоў задняй сценкі), што ішлі ўздоўж вала. Пазней тройчы рабілі падсыпку пласта гліны, пасля гэтага насыпалі магутны земляны вал шыр. у аснове да 30 м, выш. 7—8 м, пярэдні схіл якога быў абліцаваны сырой глінай. Блізкія да яго памеры меў вал і з зах. боку. Спераду вала быў роў, які ў катлавіне 1963 меў шыр. да 35 м і глыб. да 7 м (рэканструкцыя па профілі). Планіроўка забудовы прасочана раскопкамі 1963 і назіраннямі за буд. работамі 1963—64. На тэр. вакольнага горада прасочаны 2 вуліцы, якія ішлі ў радыяльным напрамку, і 2 кальцавыя вуліцы, паралельныя валу. Вулічныя маставыя, дваровыя комплексы і пабудовы звычайна размяшчаліся на адным і тым жа месцы на працягу 6—7 буд. ярусаў (трапляюцца да 9 ярусаў). Пабудовы размяшчаліся рэдка, двары даволі вялікія па памерах. У агароджаны парканам двор уваходзілі жылыя і гасп. пабудовы, двор часткова вымошчвалі насцілам з дошак або тонкіх бярвён. Характэрным тыпам жытла былі наземныя аднакамерныя пабудовы зрубнай канструкцыі пл. каля 16 $м^2$. Іх рубілі ў просты вугал, злучальныя чашкі і пазы паміж вянкамі высякалі ў верхняй частцы бярвён. Дашчаную падлогу клалі на 2—3 лагі, усечаныя паміж 2-м і 3-м вянкамі. Падмуркамі часта служылі ніжнія вянкі папярэдніх пабудоў, у некаторых жытлах выяўлены развалы глінабітных печаў. У час раскопак знойдзены прылады працы (зубіла, прабойнікі, долаты, свярдзёлак, верацёны, прасліцы, абломак касы, акоўка рыдлёўкі, сашнік, сярпы), узбраенне і рыштунак конніка (наканечнікі стрэл, шпоры), прадметы ўжытку (ключы, замкі, нажы, дужкі ад вёдзер, спражкі, падкоўкі, цвікі і інш.), упрыгажэнні (фр-т бронзавага абразка-складня, бронзавыя, сярэбраныя і шкляныя бранзалеты, фібула, кольца з заходзячымі канцамі, абломак нацельнага крыжа), касцяныя вырабы (дзяржанні, накладкі, утулкі, граблі, гузікі, наканечнікі, розныя загатоўкі і паўфабрыкаты), рэшткі скураных вырабаў (абутак, похвы, футаралы, кашалькі), вырабы з дрэва (рыдлёўкі, вёслы, лыжкі, грабяні, бандарнае начынне), фр-ты ганчарнай керамікі і інш. Знаходкі сведчаць пра тое, што гараджане займаліся жалезаапрацоўчым, ювелірным, касцярэзным, гарбарным, ганчарным, дрэваапрацоўчым і інш. рамёствамі, гандлем, а таксама земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, хатнімі промысламі (прадзенне, ткацтва). Знаходкі з ранніх пластоў вакольнага горада сведчаць пра ўзнікненне яго ў 11 ст.

*Літ.*: Грушевский А.С. Пинское Полесье: ист. очерки. Ч. 1–2. Киев, 1901–03; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Дунец А.П., Миролюбов Б.В. Пинск: ист.-экон. очерк. Минск, 1977. *П.Ф.Лысенка.*

**ПІНСКІ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічны помнік *паморскай культуры* ў паўн.-ўсх. частцы Пінска, вядомай пад назвай Альбрэхтава, на невял. узвышшы левага берага Піны. Выявіў у 1963 У.П.Пасавец. На глыб. 1 м знойдзена пахаванне па абраду трупаспалення ва урне, якая ўяўляе сабой ляпны збан з невял. плоскім вушкам, а таксама абломкі ляпнога посуду, у т.л. міскі. Побач з гэтым пахаваннем Ю.У.Кухарэнка даследаваў 20 м². Культ. пласт 1,2 м. Знойдзены 2 фр-ты посуду паморскай культуры. Могільнік датуецца 3–2 ст. да н.э., вызначае ўсх. мяжу арэала паморскай культуры. Відаць, могільнік разбураны паселішчам 11–12 ст.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Из разведок в Полесье // КСИА. 1966. Вып. 107. *В.С.Вяргей.*

**ПІНСКІЯ КУРГАНЫ́**, помнік археалогіі ў г. Пінск. Размяшчаўся на ўсх. ускраіне горада, у Лешчы – прадмесці на левым беразе р. Піна. Адзін курган у 1871 раскапаны дырэктарам мясц. вучылішчаў С.Ф.Кукліінскім. У кургане знойдзены саманідскі дырхем, чаканены ў Самаркандзе ў 952–963. Другі курган, большы па памерах, абследаваў у 1952 Ю.У.Кухарэнка. Насып меў форму ўсечанага конуса выш. 5,5 м з боку поля і 7,5 м з боку ракі, дыям. асновы з Пн на Пд 31 м, з З на У каля 35 м. У літаратуры курган вядомы пад назвай Міндоўгава магіла, мясц. назва Магіла Войшалка. У 1955 курган разбураны пры будаўніцтве стадыёна. На думку Ю.У.Кухарэнкі, у насыпе былі 2 попельныя праслойкі таўшч. 0,1 м на глыб. 1 м ад вяршыні і 0,4 на глыб. 3 м. Паводле звестак будаўнікоў, на гарызонце ў цэнтры кургана знаходзілася шмат буйных абгарэлых бярвён і попелу. Супрацоўнік музея Б.В.Міралюбаў знайшоў рэшткі вогнішча з перапаленымі косткамі жывёл і птушак, а таксама жал. цвік, пласцінку ад панцыра і абломкі жал. рэчаў. Можна меркаваць, што пахаванне было зроблена на гарызонце пад цэнтр. часткай насыпу па абраду трупаспалення. Не выключана, што астанкі нябожчыка былі змешчаны ў драўляным збудаванні. Зверху над пахаваннем быў насыпаны курган выш. каля 3 м, на вяршыні яго складзена памінальнае вогнішча. Пасля гэтага курган падсыпалі яшчэ двойчы і зноў рабілі памінальнае вогнішча. П.к. адносяцца да надзвычай рэдкіх вял. пахавальных помнікаў к. 10 – пач. 11 ст. тыпу вял. чарнігаўскіх курганоў (Чорная магіла, Княжая магіла). Яны былі, хутчэй за ўсё, пахавальнымі збудаваннямі мясц. князёў або ваенных правадыроў.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Пинские курганы // Славяне и Русь. М., 1968. *П.Ф.Лысенка.*

**ПІНЦЭ́Т** ювелірны, прыстасаванне для заціску і ўтрымання ювелірных вырабаў падчас іх апрацоўкі. Выраблялiся П. з жалеза ці бронзы. Паводле функцыянальных і марфалагічных прыкмет вылучаюць: 1) пінцэты-шчыпцы (ужываліся для захопу камянёў і дробных прадметаў, для выгінання дроту і інш.); 2) пінцэты-ціскі (ужываліся для нерухомага заціску нарыхтовак). На тэр. Беларусі П. з'яўляюцца ў жал. веку і ўжываюцца на працягу ўсяго сярэдневякоўя. Часта П. знаходзяць у комплексах ювелірных майстэрняў.

*Літ.*: Рыбаков Б.А. Ремесло древней Руси. М., 1948; Рындина Н.В. Технология производства новгородских ювелиров X–XV вв. // Материалы и исследования по археологии СССР. М., 1963. № 117. *І.В.Магалінскі.*

**ПІСА́ЛА**, стыло (грэч. stylos), прыстасаванне для пісьма ў выглядзе стрыжня даўж. 8–13 см, завостранага на адным канцы і з лапатачкай на другім. Вострым канцом пісалі на бяросце або на спец. дошчачцы – *цэры*. Лапатачкай разгладжвалі воск і сціралі напісанае. На Русі вядомы з 10 ст. касцяныя, з 11 ст. і металічныя П. (з жалеза, бронзы). Насіліся ў вузкіх скураных футаралах, падвешаных да пояса. Жал. П. пакрывалі (лудзілі) цынкам або меддзю. Стрыжні бронзавых П. амаль па ўсёй даўжыні перакручаны. Лапаткі маглі мець форму кубачка (раннія), пяцівугольніка ці авала са зрэзаным верхам, перавернутага трохвугольніка (пазнейшыя). У аснове лапатачкі жал. П. было шарападобнае патаўшчэнне («яблык») або 2–3 валікі. Зрэдку лапатачка мела дэкор у выглядзе зубцоў па баках, інкрустацыі або крыжападобнай проразі пасярэдзіне. Верхнюю частку П. з косці часам аздаблялі выявай жывёлы або фантастычнай істоты (цмока). На Беларусі П. знойдзены ў Навагрудку (14), Ваўкавыску (12), Мінску (7), Брэсце (5), у Полацку, Браславе



*Жалезныя* ***пісалы*** *11–13 ст. са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.*

і Слуцку (па 2), Тураве, Пінску, Копысі і Друцку (па 1). Ужываліся да 15 ст.

*Літ.:* Медведев А.Ф. Древнерусские писала X–XV вв. // СА. 1960. № 2; Зверуго Я.Г. Писала древнего Волковыска // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Минск, 1969; Гуревич Ф.Д. Грамотность горожан древнерусского Понеманья // КСИА. 1973. Вып. 135. *Л.У.Калядзінскі.*

**ПІСА́НКІ**, гліняныя паліваныя яйкі-бразготкі, аздобленыя геаметрычным узорам жоўтага, зялёнага, радзей карычневага колеру на бура-чорным, бура-карычневым і цёмна-зялёным фоне. У 11–12 ст. пашыраны ў Кіеве, Ноўгарадзе і інш. стараж.-рус. гарадах. На тэр. Беларусі знойдзена 5 П. кіеўскага (Брэст, Гродна, Ваўкавыск, Лукомль, Мсціслаў) і 1 наўгародскага паходжання (Навагрудак).

*Літ.:* Макарова Т.И. О производстве писанок на Руси // Культура Древней Руси. М., 1966.

*В.Б.Перхаўка.*

**ПІСЬМО́**, сістэма графічнай фіксацыі і перадачы вуснай мовы на адлегласці і замацаванне яе ў часе. Узнікла на базе вуснай мовы, з'яўляецца дадатковым да яе сродкам зносін паміж людзьмі. Звычайна вылучаюць 4 асн. тыпы П.: піктаграфічнае, ідэаграфічнае, складовае, літарна-гукавое (фанемаграфічнае ці алфавітнае). Існуюць і інш. класіфікацыі тыпаў П.

Першапачатковым этапам развіцця П. з'яўляецца піктаграфія – малюнкі, якія наносіліся на камень, гліну, дрэва з мэтай перадачы інфармацыі. Піктаграмы, высечаныя ці намаляваныя на скалах, называюць петрогліфамі або пісаніцамі. На аснове піктаграфіі ўзнікла ідэаграфічнае П., у якім графічныя знакі перадаюць паняцці. Вышэйшы этап развіцця ідэаграфіі – іерогліфічнае П. Складовым называецца П., у якім кожны графічны знак абазначае асобны склад. У літарна-гукавым П. знак суадносіцца з гукам. Найб. стараж. з вядомых сістэм П. з'яўляюцца шумерская, протаэламская і протаіндыйская, егіпецкая, крыцкая, якія ўзніклі ў 3–2-м тыс. да н.э. На паселішчы Тэртэрыя ў Румыніі знойдзены гліняныя таблічкі з надпісамі, якія нагадваюць шумерскае П., але старэйшыя за яго на тысячу гадоў. Да літарна-гукавога тыпу адносілася фінікійскае П., якое існавала на ўсх. узбярэжжы Міжземнага мора. На яго аснове ў 9–8 ст. да н.э. ўзнік грэчаскі алфавіт, які ў сваю чаргу паслужыў асновай для лацінскага алфавіта і кірыліцы.

Першапачатковыя звесткі пра слав. азбуку адносяцца да 2-й пал. 9 ст. Яе ўзнікненне звязваецца з імёнамі асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Прыкладна ў гэты час узнік і другі слав. алфавіт – глаголіца, які атрымаў значна меншае за кірыліцу распаўсюджанне. Існуе гіпотэза пра тое, што П. існавала ў славян і да Кірылы і Мяфодзія. Пра існаванне самабытнай пісьменнасці ў славян паведамляюць раннесярэдневяковыя арабскія і нямецкія падарожнікі. Лінгвістычныя данныя таксама сведчаць пра існаванне лексікі, звязанай з П. і кнігамі, яшчэ ў праслав. часы. Шэраг помнікаў невядомай пісьменнасці выяўлены археолагамі на ўсх.-слав. тэр. (надпісы на глінянай пасудзіне 10–11 ст., знойдзенай у в. Аляканава б. Разанскай губ., на гаршках з б. Цвярскога музея і 2 брактэатах з курганоў каля в. Корчава на Волзе). Ёсць звесткі пра незразумелыя надпісы на камені ў б. Бежыцкім пав. Цвярской губ. і на костцы барана з чарнігаўскіх курганоў.

Некалькі таямнічых надпісаў знойдзена і ў Беларусі. Г.Х.Татур паведамляў пра знаходку ў мяст. Пагост (цяпер Бярэзінскі р-н) каменнай пліты з нерасшыфраванымі знакамі, «падобнымі на адбіткі птушыных лапак». Камяні з надпісамі, зробленымі знакамі невядомага П., выяўлены каля вёсак Пнеўшчына Горацкага і Сынкавічы Зэльвенскага р-наў. Багаты матэрыял далі раскопкі ў Драгічыне-Надбужскім. У 10–14 ст. тут знаходзілася вял. мытніца, свайго роду «вароты» з Захаду ва Усх. Еўропу. Знойдзеныя шматлікія свінцовыя пломбы служылі таварнымі знакамі ўсх.-слав. князёў. На адным баку некаторых пломбаў змешчана літара кірылічнага алфавіту, на другім – таямнічы знак. Даследчыкі мяркуюць, што гэта літара невядомага стараж.-слав. П. На некаторых пячатках-пломбах, знойдзеных у Віцебску, таксама ёсць нерасшыфраваныя знакі, падобныя на літары. На гарадзішчы Маскавічы выяўлены косці 12–13 ст. з малюнкамі і надпісамі, частка знакаў якіх адпавядае скандынаўскім рунам, частка не расшыфравана. Знакі ў надпісах час ад часу паўтараюцца і групуюцца ў 43 разнавіднасці, якія могуць адпавядаць пэўнаму алфавіту. Аналогіі маскавіцкіх знакаў ёсць на знаходках у Мінску. На медальёне-змеевіку з Ваўкавыска з абодвух бакоў нанесены пакуль не расшыфраваныя літарападобныя знакі.

Адзін з самых ранніх кірылічных надпісаў нанесены на гліняную пасудзіну, знойдзеную недалёка ад Смаленска, дат. пачаткам 10 ст. На пячатцы полацкага кн. Ізяслава (памёр у 1001), якая выяўлена пры раскопках у Ноўгарадзе, таксама ёсць надпіс. У Беларусі кірылічнае П. адносна шырока ўжывалася з 11–12 ст. Да 16 ст. адносяцца першыя тэксты на бел. мове, запісаныя лацінскім алфавітам. Бел. татары карысталіся арабскім П. для стварэння кніг на старабел. мове.

*Літ.:* Истрин В.А. Возникновение и развитие письма. М., 1965; Гельб И.Е. Опыт изучения письма: пер. с англ. М., 1982; Павленко Н.А. История письма. 2 изд. Минск, 1987. *Э.М.Зайкоўскі.*



*А.М.Плавінскі.*

**ПЛАВІ́НСКІ** Аляксандр Мікалаевіч (н. 9.1.1952, Мінск), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1976), працуе ў ім з 1975. У 1987–93 дырэктар музея гі-



*М.А.Плавінскі.*

сторыі ун-та, у 1993–2001 – заг. вучэбнай лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та БДУ. Прымаў удзел у раскопках Мінска, Рагачова, гарадзішча Вішчын, археал. помнікаў каля в. Кавальцы. Сумесна з В.Н.Рабцэвічам праводзіў раскопкі курганных могільнікаў Ветачка, Гадзілавічы, Каласы, Мадора, Цагельня, Юдзічы Гомельскай, Гаравец, Навасёлкі, Наўры, Мілты, Таўкачэвічы-1, Харчычы Мінскай, Ахрэмаўцы, Опса, Укля Віцебскай абласцей. Вывучае пахавальныя помнікі 9–13 ст., раннекругавую кераміку, займасцца кансервацыяй і рэстаўрацыяй археал. знаходак. Адзін з аўтараў навучальнага дапаможніка «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980).

*Тв.*: Раскопки курганов у д. Юдичи // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Курганный могильник у д. Колосы // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; К вопросу о гончарных клеймах // Славяне и их соседи (археология, нумизматика, этнография). Минск, 1998; Погребальные памятники у деревни Харчичи // ГАЗ. 2002. № 17.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ПЛАВІ́НСКІ** Мікалай Аляксандравіч (н. 30.7. 1981, г. Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2010). Скончыў БДУ (2003). З 1999 у Нац. гіст. музеі Рэспублікі Беларусь, з 2009 заг. аддзела археалогіі, нумізматыкі і зброі. Адзін з арганізатараў і аўтараў канцэпцыі выставак «Вікінгі на Усходзе», «Касцярэзнае рамяство Беларусі». Укладальнік і гал. рэдактар навук. выдання «Acta archeologica Albaruthenica». Вывучае гісторыю зброі 10–13 ст. на тэр. Беларусі, пытанні археалогіі раннесярэдневяковага Полацка і зах. рэгіёнаў Полацкай зямлі. З 2003 праводзіць даследаванні ў Браслаўскім р-не, цалкам раскапаў курганны могільнік Пагошча.

*Тв.*: Засцерагальнае ўзбраенне IX–XIII стст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Полацк да Рагвалода (пытанні тапаграфіі і храналогіі культурнага слоя) // ААА. Мінск, 2007. № 2; Курганный могильник Погоща: результаты раскопок 2005–2006 годов // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2008. Т. 34; Нарысы гісторыі клінковай зброі X–XIII стагоддзяў на Беларусі. Мінск, 2009.

*З.А.Харытановіч.*

**ПЛАНІГРА́ФІЯ** (лац. planum паверхня, плошча + грэч. graphō пішу) у археалогіі, апісанне паверхні зямельнага ўчастка, археал. помніка і інш. Праводзіцца з мэтай вызначэння адначасова існаваўшых западзін, штучных насыпаў, рэштак пабудоў, месцаў рознага функцыянальнага прызначэння (жытлаў, майстэрняў, магіл, ям для адходаў, культавых месцаў і інш.) і збору матэрыялу на аб'ектах. Вывучаецца асобна на кожным гарызонце або пласце. Часам у ходзе П. выяўляюцца ўчасткі з рознічасовымі матэрыяламі. Прычыны такой анамаліі высвятляюцца шляхам падзелу матэрыяльных рэштак па ўмоўных храналагічных пластах, праводзіцца гарызантальная *стратыграфія*.

*У.Ф.Ісаенка.*




***Пласціна** крамянёвая: а – дарсальны бок (спінка); б – профіль; в – вентральны бок (брушка).*

**ПЛАСЦІ́НА**, скол, даўжыня якога ў два ці болей разоў перавышае шырыню. Для атрымання пласцін служылі падрыхтаваныя нуклеусы, выкарыстанне якіх вялося тэхнікамі прамога ўдару (палеаліт–мезаліт), удару праз пасрэднік (мезаліт–бронзавы век), націску (мезаліт–неаліт). На тэр. Беларусі развітая пласцiністая індустрыя характэрна для археал. культур ад палеаліту да ранняй эпохі бронзы (свідэрскай, кундскай, яніславіцкай, кола культур шнуравой керамікі і інш.). П. выкарыстоўваліся для вырабу разнастайных прылад працы: наканечнікаў стрэл у фінальным палеаліце, у мезаліце – наканечнікаў стрэл і мікралітаў і інш.

*Літ.*: Ginter B., Kozłowski J.K. Technika obróbki i typologia wyrobów kamiennych paleolitu i mezolitu. Warszawa, 1975. Inizan M.-L., Reduron-Ballinger M., Roche H., Tixier J. Technology and Terminology of Knapped Stone. Nanterre, 1999.

*В.У.Ашэйчык, А.М.Вашанаў.*

**ПЛА́ЎКА**, працэс перапрацоўкі матэрыялаў, пераважна металаў, з атрыманнем канчатковага прадукту ў вадкім стане. У Беларусі першыя П. рабілі пры адліўцы вырабаў з бронзы, у тыглях. Для разліўкі металу ў формы выкарыстоўваліся *льячкі*. Металургія жалеза доўгі час праводзілася без плаўкі, у *домніцах*. У познім сярэдневякоўі пачалі выплаўляць чыгун з руды у доменных печах, потым у пудлінгавых печах (фрышэрках) перараблялі яго ў жал. крыцы. Гэты працэс называўся крычнай перапрацоўкай. Значная частка атрыманага чыгуну ішла на адліўку гармат і ядраў для іх, гасп. прадметаў. П. чыгуну праводзілася ў ваграках.

**ПЛЕЙСТАЦЭ́Н** (грэч. pleiston найбольшы + kaina новы), першая, найбольш старажытная і працяглая частка сучаснага геалагічнага перыяду (гл. *Антрапаген*), якая адпавядае эпосе кайназойскага зледзянення. Напачатку П. адбылося агульнапланетарнае пахаладанне клімату, з'явілася адпаведная фауна малюскаў і буйных жывёл. Перыядычна ўзнікалі покрыўныя зледзяненні (у т.л. на тэр. Беларусі), якія змяняліся міжледавіковымі эпохамі. Дата пач. П., паводле даных розных геахраналагічных метадаў даследавання (перш за ўсё калійаргонавага), знаходзіцца паміж 3,5 і 1,3 млн. гадоў таму назад. Канцом П. лічыцца час скарачэння апошняга (паазерскага) ледавіка да першапачатковага становішча, што адбылося прыкладна за 8300 гадоў да н.э. Колькасць (3–6) і датаванне зледзяненняў і міжледавіковых эпох у П. ацэньваюцца па-рознаму. Адным з найб. дакладных лічыцца вызначэнне, засн. на астранамічнай тэорыі ледавіковых эпох, паводле якой кожнаму буйному мінімуму сонечнай радыяцыі адпавядае асобная ледавіковая эпоха. Паводле уніфікаванай стратыграфічнай схемы, зацверджанай у 1981, у Беларусі вылучаюцца ледавіковыя адклады беларускага, бярэзінскага, дняпроўскага, сожскага і паазерскага зледзяненняў і адпаведных белавежскага, александрыйскага, шклоўскага і муравінскага міжледавікоўяў.

*Літ.*: Геология СССР. Т. 3. Белорусская ССР. М., 1971; Решения межведомственного стратиграфического совещания по разработке унифицированных стратиграфических схем Белоруссии, 1981. Ленинград, 1983.

*А.Г.Калечыц.*

**ПЛЕ́МЯ**, тып этнічнай і сацыяльнай арганізацыі людзей, уласцівы для першабытнаабшчыннага ладу і пераходнага перыяду да класавага грамадства. Племянныя супольнасці ўзніклі ў эпоху развітага родавага ладу ў выніку аб'яднання некалькіх экзагамных родаў, звязаных агульнасцю этнагенетычнага паходжання, асн. элементаў гаспадаркі, звычаяў і абрадаў, міфалогіі і культаў, адзінствам дыялекту і племянной саманазвы, якія грунтаваліся на агульнай самасвядомасці. У археалогіі П. і яго тэр. вызначаюцца на падставе распаўсюджання агульных элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія характарызуюць асаблівасці племяннога рассялення, гасп. дзейнасці, звычаяў і абрадаў. З часоў мезаліту на тэр. Беларусі жылі П. *грэнскай культуры*, *нёманскай культуры*, *сожскай культуры* і інш.; у неаліце — *верхнедняпроўскай культуры*, *дзясінінскай культуры*, *днепра-данецкай культуры*, *лейкападобных кубкаў культуры*, *нарвенскай культуры*, *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*, *шарападобных амфар культуры* і інш.; у бронзавым веку — *лужыцкай культуры*, *паўночнабеларускай культуры*, *сосніцкай культуры*, *сярэднедняпроўскай культуры*, *тшцінецкай культуры*, *шнуравой керамікі культуры* і інш.; у жал. веку — *вельбарскай культуры*, *днепра-дзвінскай культуры*, *зарубінецкай культуры*, *мілаградскай культуры*, *штрыхаванай керамікі культуры* і інш.; у сяр. — 3-й чв. 1-га тыс. н.э. — *банцараўскай культуры*, *кіеўскай культуры*, *калочынскай культуры* і інш. На позніх этапах развіцця першабытнаабшчыннага ладу і пераходу да класавага грамадства (у эпоху т.зв. ваеннай дэмакратыі) П. аб'ядноўваліся ў буйныя сацыяльна-палітычныя супольнасці — саюзы П., якія характарызаваліся адзінай уладай, агульнасцю гасп.-культ. комплексу, тэр. і інш. Саюзы П. мелі своеасаблівую сістэму самакіравання (нарады родавых старэйшын, агульныя сходы, ваенныя і грамадскія правадыры), адзіны рэлігійны культ; у дачыненні да суседзяў часта выступалі пад адзінай назвай. У межах саюзаў П. узмацняліся моцныя і культ. сувязі паміж асобнымі, часам няроднаснымі, рознаэтнічнымі П., ішлі працэсы іх змешвання і трансфармацыі ў новыя, адпаведныя класаваму грамадству, этнасацыяльныя супольнасці — народнасці. У раннім сярэдневякоўі на тэр. Беларусі існавалі слав. племянныя аб'яднанні *дрыгавічоў*, *радзімічаў*, мяшаны славяна-балцкі саюз крывічоў, на аснове якіх пазней пачала складвацца бел. народнасць. На З Беларусі (Пабужжа і Панямонне) у той час жылі балцкія П., аб'яднаныя са славянамі ў саюзы *яцвягаў* і літвы, якія таксама прынялі ўдзел у этнагенезе і этнічнай гісторыі беларусаў, часткова літоўцаў і палякаў. Рэшткі б. саюзаплемянных, племянных, родава-абшчынных адносін і арганізацый, паводле даных археалогіі і этнаграфіі, захоўваліся ў побыце, культуры, міфалогіі, культах, звычаях і абрадах насельніцтва Беларусі ў час развіцця феад. адносін і панавання хрысціянства.

*Літ.*: Насонов А.Н. «Русская земля» и образование территории древнерусского государства: ист.-геогр. исслед. М., 1951; Третьяков П.Н. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Ленинград, 1966; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Фроянов И.Я. Киевская Русь: очерки соц.-экон. истории. Ленинград, 1974; Формирование раннефеодальных славянских народностей. М., 1981; Этнос в доклассовом и раннеклассовом обществе. М., 1982; Рыбаков Б.А. Киевская Русь и русские княжества XII–XIII вв. М., 1982; Седов В.В. Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982; Бромлей Ю.В. Очерки теории этноса. М., 1983.

*І.У.Чаквін.*

**ПЛІ́НФА** (ад грэч. plinthos цагліна), шырокая і плоская абпаленая *цэгла*. Для яе ўласціва квадратная (пазней прамавугольная) форма і невял. (да 4–5 см) таўшчыня. У Кіеўскую Русь П. пачалі завозіць у 10 ст. візантыйскія дойліды. У Беларусі П. ўпершыню выкарыстана ў мурoўцы *Полацкага Сафійскага сабора* (11 ст.). Пазней П. выраблялі непасрэдна ў месцах будоўляў. Мураваныя пабудовы з выкарыстаннем П. ўзводзіліся ў Полацку, Віцебску, Гродне, Тураве, Навагрудку і інш. старaж. гарадах. У 12 ст.

пamі, якія пакідалі паглыбленыя адбіткі – клеймы, альбо меткамі, зробленымі трэскай ці інш. вострым прадметам. Знакі на П. мелі выгляд літар, крыжыкаў, трызубцаў, стрэлак і інш. Часам на П. сустракаюцца малюнкі, надпісы. Абпальвалі П. ў спец. цагляных печах (напольных ці ў схіле пагорка).

У 2-й пал. 13 ст. П. ў бел. дойлідстве змяніла буйнапамерная брусковая цэгла.

*Літ.*: Трусаў А.А. Старонкі мураванай кнігі. Мінск, 1990. *А.А.Трусаў.*



**Плінфа** *з кляймом з Полацка.*

адначасова ўжывалася П. 2 і болей памераў. Адзін памер П. быў у муроўцы асн., а інш. складалі 20–30%. Для архіт. дэталей (пілястры, лапаткі і інш.) выкарыстоўвалі трапецападобную і паўкруглую П.

Выраблялі П. ў спец. формах з драўляным дном. Пра гэта сведчаць адбіткі дошак на гліне. Каб пазначыць сваю прадукцыю, цагельнікі выразалі ў бакавых сценках і на дне драўляных форм знакі. Полацкая і віцебская П. мела знакі на тычках і адным з шырокіх бакоў, гродзенская – толькі на тарцах. Полацкія і віцебскія цагельнікі пазначалі сваю прадукцыю таксама спец. штам-

**ПЛІ́ТКА ДЭКАРАТЫ́ЎНАЯ**, керамічны выраб для аздаблення інтэр'ераў і экстэр'ераў будынкаў. Выраблялі ў драўляных формах, пасля сушкі і абпалу маглі пакрываць эмалямі (11–12 ст.) або празрыстай палівай (16–18 ст.). У 13–18 ст. шырока ўжывалася непаліваная плітка. На тэр. Беларусі з 11 ст. вядома маёлікавая П.д. для насцілання падлог. Асабліва пашырылася ў 12 ст. Мела надзвычай разнастайныя формы: квадратная, трохвугольная, трапецa- і пялёсткападобная, круглая, кольца- і дугападобная, складанапрафіляваная. Выяўлена пры раскопках у Полацку, Віцебску, Друцку, Мінску, Лагойску, Тураве, Навагрудку. Пры аздабленні Барысаглебскай (Каложскай) царквы ў Гродне выкарыстана не менш як 17 варыянтаў форм пліткі; паліхромныя ўстаўкі асобных керамічных плітак былі гал. маст. сродкам у дэкаратыўным вырашэнні яе фасадаў. Знойдзена П.д. 13 ст. з рэльефным малюнкам (Гродна). У Пінску сабрана калекцыя, якая ўключае 17 форм П.д. Гл. *Маёліка*, *Мазаіка*. *І.У.Ганецкая.*

**ПЛО́МБА** (ням. Plombe ад лац. plumbum свінец), невялікі акруглы кавалачак свінцу з адбіткам пячаткі, якім апламбоўвалі які-небудзь прадмет. Стараж. П. 11–13 ст. адрозніваюцца невял. памерамі (1–1,5 см). Найб. распаўсюджаны П. т.зв. «драгічынскага тыпу» (выяўлены ў Драгічыне-Надбужскім, цяпер Польшча). З абодвух бакоў П. адціскаліся выявы (князёў і святых, княжацкія знакі, літары, хрысціянская сімволіка). Існуе некалькі меркаванняў



**Плінфа** *са знакамі з Полацкага Бельчыцкага храма.*



*Пломбы 16–17 ст. з Мінска.*

накont прызначэння П.: іх маглі прывешваць для гарантавання захаванасці да цюкоў з таварамі, што вывозілі на знешні рынак; выкарыстоўвалі ў якасці «футравых» грошай (замацоўвалі на вязцы футраў); П. самі па сабе маглі адыгрываць ролю грошай. Найб. колькасць П. (каля 50) выяўлена ў Мінску на Верхнім горадзе пад час раскопак тэр. стараж. пасада, знойдзены таксама ў Брэсце, Віцебску, Полацку, Тураве. П. 14–18 ст. звычайна большыя па памерах (дыям. да 5 см), маюць выгляд 2 акружнасцей з выступам і адтулінай, аб'яднаных перамычкай, з дапамогаю якіх адбывалася пламбаванне (верагодна, тавара, напр., тканіны). Такія П. з зах.-еўрап. і ўсх. краін былі знойдзены пры раскопках Мінска.

*Літ.:* Е р ш е в с к и й Б.Д. Дрогичинские пломбы: классификация, типология, хронология // Вспомогательные исторические дисциплины. Ленинград, 1985. Т. 17. *А.В.Вайцяховіч, Г.В.Штыхаў.*



*Пломбы 12–13 ст. з Мінска.*

**ПЛУ́СЫ**, археалагічныя помнікі – селішча і курганны могільнік крывічоў каля в. Плусы Полацкага р-на Віцебскай вобл.

С е л і ш ч а на паўн.-зах. ускраіне вёскі, на зах. беразе воз. Суя. Памеры 150 × 190 м. У 1965 абследаваў Г.В.Штыхаў. Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі, бронзавы злітак у выглядзе палачкі даўж. 7 см і крыжык з патоўшчанымі канцамі. Датуецца 11–13 ст.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к за 150 м на ПдЗ ад вёскі, на зах. беразе воз. Суя, ва ўр. Барок. 38 насыпаў выш. 0,7–2 м, дыям. 6–10 м. Насыпы на месцы паселішча 5–7 ст. У 1965, 1967 Г.В.Штыхаў даследаваў 14 курганоў. У адным пахавальны абрад – трупаспаленне, у астатніх – трупапалажэнне галавой на З у дамавіне ў прамавугольных ямах глыб. 0,3 м. Знойдзены бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, шкляныя пацеркі, нажы, гаршкі і інш. У 3 курганах пахаванні не выяўлены. Датуецца 10 – пач. 12 ст.

*Літ.:* Ш т ы х а ў Г.В. Ажываюць сівыя стагоддзі. 2 выд. Мінск, 1982; Я г о   ж . Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X – пач. XII ст.) // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972. *Г.В.Штыхаў.*

**ПЛЯ́ТЭР** (Б р о э л ь - П л я т э р) Адам Аўгусціна віч (15.6.1790, г. Краслава, Латвія – 13.1.1862), археолаг, краязнавец, калекцыянер. Скончыў Віленскі ун-т (1817). Чл. Кракаўскага навук. т-ва (1821), Віленскай археал. камісіі (1856). Куратар школ Дынабургскага пав. Віцебскай губ. Падарожнічаў па Зах. Дзвіне. Апісваў помнікі археалогіі, стараж. архітэктуры, гіст. мясціны, *Барысавы камяні.* Пры абследаванні стараж. паселішчаў Падзвіння знайшоў самы доўгі сашнік з выяўленых на той час у Еўропе (в. Канецполе Люцынскага пав.), каля в. Франопаль Люцынскага пав. – стараж. меч. Вывучаў пахаванні ў курганах на славяна-балцкім сумежжы, для чаго выкарыстоўваў запісы фальклору (легенды, паданні, памінкі, галашэнні, абрады, звычаі і інш.). У сваім доме ў Краславе стварыў музей, б-ку, архіў. Сабраў шмат матэрыялаў з Падзвіння, частку якіх перадаў Віленскаму музею старажытнасцей (у 1919–20 антыкварыят перавезены ў Коўна). Друкаваўся ў час. «Rubon» («Рубон»), «Athenaeum» («Атэнэум»), «Przyjaciel Ludu» («Сябар народу») і інш.

*Тв.:* O Dynaburskim starym zamku // Rubon. 1843. T. 3; O dawnych grobach i starożytnościach odkrytych w Inflantach Polskich // Там жа. 1845. T. 5.


*Л.Д.Побаль.*

*Літ.*: Каханоўскі Г.А. Адам Плятар // Бел. мова і літ. ў школе. 1990. № 6; Яго ж. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984.
*Г.А.Каханоўскі.*

**ПЛЯЦЕ́ННЕ**, спосаб вырабу рэчаў злучэннем палос эластычнага матэрыялу пад прамым ці косым вуглом; від рамяства. Вядома з неаліту, папярэднічала *ткацтву* і вязанню. У 12–14 ст. існавала тэхніка *іголкавага пляцення.* Матэрыялы для П. – лаза, салома, чарот, мачала, карані дрэў, лыка, бяроста, скура, лучыны, ніткі, конскія валасы, дубцы арэшніку, ядлоўцу і інш. Для П. выкарыстоўвалі драўляныя, касцяныя і жал. прыстасаванні. Стараж. ўзоры П. дрэнна захаваліся. Выяўлены рэшткі сплеценых з лыка сетак, адбіткі плеценых вырабаў на гліне. Вядома, што з бяросты і лыка плялі лапці і рыбалоўныя снасці, з ільняных нітак – рыбалоўныя сеткі, са скуры – абутак, паясы, шнуркі, з шарсцяных і льняных нітак – паясы і бранзалеты.

*Літ.*: Левашева В.П. Изделия из дерева, луба и бересты // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. М., 1959; Лось-Залужная А. Старажытнае рукадзелле // Беларусь. 1984. № 12.
*Л.У.Дучыц.*

**ПО́БАЛЬ** Леанід Давыдавіч (28.5.1924, в. Мікалаева Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл. – 28.1.2004), беларускі археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1978), праф. (1990). Скончыў Ін-т фізічнай культуры (1950), БДУ (1951). У 1950–55 працаваў ва ўстановах нар. асветы. З 1958 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі: з 1970 заг. сектара, з 1980 – аддзела археалогіі, у 1990–91 вядучы навук. супрацоўнік. У 1993–97 гал. захавальнік фондаў Музея гісторыі НАН Беларусі. Да 1996 прадстаўляў Беларусь у Міжнар. уніі слав. археалогіі. Вывучаў раннюю гісторыю славян у Беларусі і ва ўсх. Еўропе. Даследаваў археал. помнікі каля в. Чаплін (гарадзішча, селішча, могільнік) Гомельскай вобл., Адаменка (селішча, могільнік), Тайманава (селішча, могільнік), Шчаткава (гарадзішча, селішча) Магілёўскай вобл., Чырвоная Зорка (селішча), Дзмітравічы (гарадзішча) Мінскай вобл. і інш. На бел. матэрыялах вылучыў 2 рэгіёны зарубінецкай культуры: верхнедняпроўскі і палескі. Даследаваў больш за 100 фібул 3–1 ст. да н.э. (эпоха латэн) і бронзавых лунніц з каляровымі эмалямі, знойдзеных на селішчах Абідня і Тайманава; скарб упрыгажэнняў 2–4 ст. з серабра і бронзы, аздобленых каляровымі выемчатымі эмалямі, знойдзены ў 19 ст. на селішчы Красны Бор. Прыхільнік гіпотэзы эвалюцыйнага развіцця матэрыяльнай культуры насельніцтва ў 1-м тыс. н.э., захавання шматлікіх зарубінецкіх традыцый і ў цэлым зарубінецкай асновы ў працэсе развіцця культур Верхняга Падняпроўя пасля «зарубінцаў». Увёў у навук. ўжытак значную колькасць археал. крыніц у 3-томнай працы «Славянскія старажытнасці Беларусі», абагульніў і апублікаваў звесткі аб помніках жал. веку на тэр. Беларусі, матэрыялы бел. помнікаў, якія захоўваюцца ў музеях Польшчы. Знаходкі з раскопак П. прадстаўлены ў экспазіцыях шэрага музеяў Беларусі.

*Тв.*: Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры). Минск, 1971; Славянские древности Белоруссии: (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Минск, 1973; Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974; Древности Белоруссии в музеях Польши. Минск, 1979; Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983.

*Літ.*: Ранние славяне Белорусского Поднепровья и Подвинья // МАБ. 2003. № 8.
*В.М.Ляўко.*

**ПОЗНАЛЕДАВІКО́ЎЕ**, адрэзак чацвярцічнага перыяду (гл. *Антрапаген*) у гісторыі Зямлі ад моманту, калі ледавік апошняга, паазерскага (вал-дайскага), зледзянення пачаў адступаць, утварыўшы шэраг канцавых марэн (на тэр. Беларусі атрымалі назву браслаўскіх), да пач. галацэну. Датуецца прыкладна 14–10 тыс. гадоў таму назад. Пачаўся з нязначнага па памерах раўніскага пацяплення (13 700–13 200 гадоў таму назад). На працягу наступнага, больш значнага белінгскага пацяплення (13 000–12 200 гадоў таму назад), ад ледавіка вызвалілася паўд. частка Балтыйскага мора. На тэр. сучаснай Беларусі шырока распаўсюдзіліся бярозава-хваёвыя (на Пн і ў цэнтр. частцы) і хваёвыя (на Пд) лясы, але клімат заставаўся даволі халодным. У наступным, яшчэ больш цёплым прамежку часу – аляродзе (12 000–10 800 гадоў таму назад) знікла вечная мерзлата, ледавік адступіў за межы паўд. Фінляндыі. На ўсёй тэр. Беларусі шырока распаўсюдзіліся бярозава-хваёвыя і яловыя лясы (з дамешкам на Пд шыракалістых парод). На думку вучоных, тэмпература паветра ў ліпені ў гэты час была толькі на 2 °C ніжэй за сучасную. Прамежкавыя пахаладанні атрымалі адпаведна назвы дрыяс I, II, III. На працягу апошняга ў позналедавіковым перыядзе пахаладання дрыяс III (10 800–10 300 гадоў таму назад) на тэр. Беларусі існавалі даволі халодныя ўмовы, раслі лясы паўночнатаежнага тыпу, а ўчасткі паміж імі былі заняты тундравастэпавымі ландшафтамі. Не адбылося значных змен толькі на Палессі. Сярэдняя тэмпература лета была да +10 °C, зімы -25 °C. На працягу П. на тэр. Беларусі адбываліся працэсы тэрмакарсту, узніклі тысячы азёр, сфарміраваліся ўступы 4-й, 3-й (у басейнах рэк Паазер'я) і 1-й (у басейнах рэк Дняпра) надпоймавых тэрас, пачалося ўтварэнне шматлікіх мацерыковых дзюн. З часоў аляррода ўся тэр. Беларусі стала прыдатнай для жыцця чалавека, і, з'явіўшыся тут, ён ужо ніколі яе не пакідаў. Археал. рэшткі гэтага часу належаць фінальнапалеалітычным плямёнам – носьбітам *арэнсбургскай культуры, свідэрскай*

*культуры* і *грэнскай культуры.* З к. П. звязана не толькі шырокае рассяленне першабытных плямён па ўсёй тэр. Беларусі, але і пранікненне іх далёка на Пн.

*Літ.*: Проблемы палеогеографии антропогена Белоруссии. Минск, 1973. *А.Г.Калечыц.*

**ПОЗНАСЯРЭДНЕВЯКО́ВАЯ МАТЭРЫЯ́ЛЬНАЯ КУЛЬТУ́РА** Беларусі ахоплівае перыяд 14—18 ст. Вывучаецца з сяр. 1970-х г., калі ўпершыню быў вылучаны гар. культ. пласт гэтага перыяду ў Віцебску. Маштабныя раскопкі і дэталёвае вывучэнне культ. пласта позняга сярэдневякоўя праводзяцца ў апошняй чв. 20 ст. — 1-м дзесяцігоддзі 21 ст. ў Віцебску, Мінску, Полацку, Магілёве. Акрамя таго, культ. пласт гэтага перыяду вывучаецца ў замках, мястэчках, сельскіх паселішчах розных рэгіёнаў Беларусі.

Вылучаны асн. катэгорыі, распрацавана класіфікацыя матэрыялу, які з'яўляецца базавым для датавання культ. пласта 14—18 ст. Гэта тыя групы прадметаў, якія не характэрныя для помнікаў папярэдняга часу. Да іх адносяцца дэкаратыўная кераміка (кафля), дахоўка, цэгла, плітка падлогі, асобныя вырабы бытавой керамікі (некаторыя віды посуду, малыя керамічныя формы, курыльныя люлькі і інш.), вырабы са шкла (аконнае шкло, ёмістасці для вадкасці і піцця), вырабы з жалеза (абцасы, падковы, ключы, замкі), скуры (абутак), косці (грабяні, накладкі, гузікі) і інш.

Аснову матэрыяльнай культуры познасярэдневяковага перыяду складаюць элементы драўлянай забудовы, якая адрозніваецца ад збудаванняў папярэдняга часу ўскладненнем тэхнікі выканання, планіроўкай будынкаў і сядзіб, канструкцыяй печаў і інш. прыкметамі. Вырабы з гліны, скуры, чорных і каляровых металаў, шкла таксама набываюць новую тэхналогію выканання, пашыраны асартымент, формы і сферы ўжытку. Гэта звязана з развіццём гандл. сувязей, рамяства, гасп. і культ. сферы.

Манументальная архітэктура і фартыфікацыя 14—18 ст. таксама істотна адрозніваюцца ад папярэдніх форм. Культавыя збудаванні, палацы маюць рысы, характэрныя для розных канфесій і культ. плыней гэтага часу. Прыёмы ўзвядзення і віды абарончых збудаванняў напрамую звязаны з развіццём ваеннай справы. Таму замкі і фартэцыі позняга сярэдневякоўя, як мураваныя, так і дрэва-земляныя, маюць зусім іншы знешні выгляд і ўнутраную планіроўку ў параўнанні з помнікамі стараж.-рус. часу.

П.м.к. насельніцтва з тэр. Беларусі ўвасобіла спалучэнне традыцый, сфарміраваных у папярэдні час, з зах.-еўрап. уплывам на ўсе сферы жыцця, як у гарадах, так і ў сельскай мясцовасці.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV—XVIII стст. Мінск, 2001. *Ляўко В.М.*

**ПО́ЗНЯЙ ШТРЫХАВА́НАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура ўсходніх балтаў, распаўсюджаная ў паўн.-зах. і цэнтр. Беларусі, усх. Літве і паўд.-ўсх. Латвіі ў сяр. 1 ст. да н.э. — сяр. 5 ст. н.э. Дамінуючым тыпам паселішчаў носьбітаў культуры былі гарадзішчы розных тыпаў. У паўн.-зах. Беларусі панавалі паселішчы ўзгоркавага тыпу, у цэнтр. Беларусі разам з імі сустракаюцца мысавыя гарадзішчы. У Перадпалессі ўмацаваныя паселішчы з-за рэльефу мясцовасці размяшчаліся на прыўзнятых участках сярод забалочаных абшараў. У невял. колькасці вядомы таксама гарадзішчы на высокіх рачных плато. Абарончыя збудаванні характарызуюцца складанай і магутнай сістэмай умацаванняў. На ўзгоркавых гарадзішчах узводзіліся 2—3 лініі валоў і равоў, узмоцненых драўлянымі сценамі. Для большасці мысавых паселішчаў характэрна наяўнасць як мінімум аднаго дугападобнага вала і рова, які абараняў пляцоўку з напольнага боку. Гарадзішчы на рачных плато мелі драўляна-земляныя ўмацаванні ў выглядзе дугі ці




*Гаршкі з помнікаў* ***позняй штрыхаванай керамікі культуры.*** *1 — Гарані; 2 — Равячка; 3 — Лабеншчына; 4 — Гарадзішча Мядзельскага раёна; 5, 6 — Івань.*

*Фібулы з помнікаў **позняй штрыхаванай керамікі культуры**. 1, 5 – Пятровічы; 2, 8 – Мыслі; 3 – Банцараўшчына; 4 – Навасёлкі; 5 – Малышкі; 6 – Кашчэлічы; 7 – Івань.*





*Падвескі з помнікаў **позняй штрыхаванай керамікі культуры**. 1, 4–7, 18, 21–23 – Мыслі; 2, 12, 16 – Лабеншчына; 3, 8–10, 13–15, 17–20 – Івань; 11 – Рацюнкі; 24 – Тарылава; 25 – Малышкі.*

скабы, якія адсякалі пляцоўку ад астатняй часткі плато. Выш. вала на гарадзішчах магла дасягаць 4–5 м. Знешнія схілы валоў нярэдка мелі абкладку з шчыльнай гліны (*Івань*, *Малышкі*) ці буйных валуноў (Аўкштадварыс, Літва). Сустракаюцца таксама вельмі простыя ўнутрывальныя канструкцыі ў выглядзе гарызантальна ўкладзеных бярвён (Івань). Неўмацаваныя паселішчы – адзінкавыя. Яны звычайна займаюць краі рачных тэрас ці ўзвышэнні паблізу крыніц вады. Для ўмацаваных паселішчаў П.ш.к.к. была характэрна выключна рэгулярная планіроўка з кальцавым альбо шматрадным размяшчэннем пабудоў. Дамы часцей за ўсё размяшчаліся па перыметры пляцоўкі. На гарадзішчы Малышкі выяўлена двухрадная забудова. Дамінуючым тыпам жытла быў наземны шматкамерны дом слупавой канструкцыі, у якім жылыя і гасп. памяшканні размяшчаліся ў лінію і раздзяляліся сцяной-перагародкай. На гарадзішчы Малышкі выяўлены 4-секцыйныя жылыя дамы. Разам са слупавой канструкцыяй сцен існавала зрубная. На гарадзішчы *Вязынка* быў адкрыты наземны дом, падзелены на 3 жылыя памяшканні. У паўд. частцы арэала П.ш.к.к. існавалі паўзямлянкі; 8 такіх пабудоў зрубавай канструкцыі выяўлена на гарадзішчы *Мыслі*. Для ацяплення памяшканняў прымяняліся ачагі 3 тыпаў: з каменнай абкладкай; з глінабітным борцікам; ачагі ў выглядзе каменнай выбрукоўкі. Пахавальныя помнікі, як і ў культуры ранняй штрыхаванай керамікі, не вядомы.



*Зброя з помнікаў **позняй штрыхаванай керамікі культуры**. 1, 3, 7 – Малышкі; 2, 4 – Лабеншчына; 5 – Банцараўшчына; 6 – Кашчэлічы; 8 – Івань; 9 – Аздзяцічы.*

Для керамічнага комплексу П.ш.к.к. былі характэрны гаршкі выключна рабрыстай формы. Рабро ў верхняй трэці пасудзіны можа быць вострым ці згладжаным. Вертыкальная альбо дыяганальная штрыхоўка пакрывае тулава ад рабра да днішча. Венчык звычайна застаецца гладкім. Для керамікі характэрны зашчыпны, ямкавы, пазногцевы, наразны дэкор, пальцавыя ўціскання. Арнамент часцей за ўсё наносіўся на рабро. Жал. прылады працы прадстаўлены правушнымі сякерамі і кельтамі, нажамі, шыламі, сярпамі і жатнымі нажамі. Зброя сустракаецца рэдка, гэта выключна наканечнікі коп'яў і двухшыпных дроцікаў. Маюцца таксама шпоры. Сярод рэдкіх прадметаў адзначаны адзінкавыя ў арэале П.ш.к.к. нажніцы і бронзавы пінцэт. Дэталі касцюма прадстаўлены позналатэнскімі і правінцыйнарымскімі фібуламі, спражкамі, наканечнікам пояса і падковападобнай фібулай, упрыгожанай выемчатымі эмалямі, посахападобнымі шпількамі і заколкамі з шпулепадобным навершам. Сярод упрыгажэнняў бронзавыя завушніцы, скроневыя кольцы, падвескі, бранзалеты, шкляныя і паставыя пацеркі. Сярод вырабаў з гліны праслiцы, часта арнаментаваныя, грузікі, рыбалоўныя грузілы, тыглі, льячкі, ліцейныя формы.

Дамінуючай формай гаспадаркі носьбітаў П.ш.к.к. было падсечна-агнявое земляробства. Вырошчвалі пшаніцу, жыта, ячмень, проса, гарох, конскі боб, віку. Жывёлагадоўля базіравалася на развядзенні буйной рагатай жывёлы. Разводзілі таксама свіней, коней і дробную рагатую жывёлу. Паляванне вялося пераважна на кабана і лася. Здабывалі акрамя таго такіх жывёл, як зубр, мядзведзь, высакародны алень, касуля і інш. Сярод пушных звяроў прыярытэт на паляванні аддаваўся бабру. Разам з ім здабывалі зайца-русака, выдру, куніцу, тхара і лісіцу.

Жалеза атрымлівалі ў адкрытых печах (*Кашчэлічы*, *Кімія*), у печах-домніцах [Аўкштадварыс, *Лабеншчына*, Немянчыне (Літва)]. Мясц. кавалі пры вырабе жал. рэчаў прымянялі свабоднае каванне, цэментацыю, наклёп, пакетаванне. З бронзы выраблялі ў асн. упрыгажэнні. Пры іх вытворчасці выкарыстоўвалася каванне, чаканка, ліццё, магчыма, і валачэнне. Плямёны П.ш.к.к. займаліся ганчарствам, прадзеннем, ткацтвам, кастарэзным рамяством, апрацоўкай дрэва і г.д. На раннім этапе існавання П.ш.к.к. (да сяр. 1 ст. н.э.) пераважнае значэнне мелі кантакты з *зарубінецкай культурай*, адкуль паступалі рэчы зарубінецкага і больш далёкага паходжання. Пасля распаду зарубінецкай супольнасці на першы план выйшлі сувязі з правінцыйнарымскімі культурамі Еўропы. Плямёны П.ш.к.к. знаходзіліся на стадыі развітога патрыярхату. У 3 ст. н.э. большасць паселішчаў знікла. Адзінкавыя гарадзішчы П.ш.к.к. працягвалі існаваць толькі на паўн.-зах. Беларусі.

*Літ.*: Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII – VI вв. до н.э.–VIII в. н.э.). Минск, 1978; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006. *А.А.Егарэйчанка.*

**ПО́КРЫ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і могільнікі каля в. Покры Брэсцкага р-на.

Гарадзішча 10–14 ст. за 1 км на ПдУ ад вёскі на ўзвышшы вострава паміж р. Лясная і яе старыцай. Даўж. ўзвышша 264 м, выш. да 4 м, шыр. ў паўд.-зах. частцы 65 м, у паўд.-ўсх. – 35 м, з Пн на Пд падзяляецца запалзінай (шыр. 6 м) на 2 часткі. Адкрыў у 1955 І.А.Іофе. У 1966 Ю.У.Кухарэнка даследаваў 26 м². Культ. пласт 0,4–1,2 м, насычаны кругавой керамікай. Выяўлены рэшткі абарончага вала і бескурганнага могільніка.

Бескурганны могільнік 11–12 ст. размешчаны ў паўд.-ўсх. частцы вострава. У 1966 Ю.У.Кухарэнка даследаваў 11 пахаванняў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў вузкіх прамавугольных ямах глыб. 0,6–0,7 м, галавой на З. Амаль у цэнтры раскопа стаяў кругавы гаршчок, вакол якога было 5 пахаванняў. У адным пахаванні каля ног нябожчыка знаходзіўся чэрап сталага чалавека, таксама знойдзены 4 жал. цвікі, верагодна, ад труны.

Курганны могільнік 10–11 ст. размяшчаўся ў паўд.-зах. частцы вострава. Налічваў

2 насыпы з каменнай выбрукоўкай выш. 0,5 м, дыям. 3–4 м. У 1959 І.В.Біруля даследаваў адзін курган. Знойдзена пахаванне па абраду трупаспалення, без інвентару.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Древньоруське городище Покри // Слов'яно-руські старожитності. Київ, 1969.

*А.В.Іоў.*

**ПО́ЛАЦК**, горад, цэнтр Полацкага р-на, на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Палата. За 100 км ад Віцебска, вузел чыгунак і аўтадарог.

П. (летапісны Полотеск, Полотьск, Полтеск, паводле скандынаўскіх саг Palltesjuborg) – адзін з самых стараж. гарадоў усх. славян. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862. Засн. крывічамі. Хуткаму развіццю горада спрыяла размяшчэнне яго на гандл. шляху з Рыжскага заліва да Кіева і Чорнага мора, праз вярхоўі Зах. Дзвіны і Волгі да краін Усходу. Значэнне П. як цэнтра транзітнага гандлю ў 9–11 ст. пацвярджаюць знаходкі скарбаў арабскіх (у 1973 каля в. Казьянкі знойдзена каля 8 тыс. сярэбраных дырхемаў) і зах.-еўрап. манет (*Полацкі манетна-рэчавы скарб*). У 10–13 ст. цэнтр буйнога княства, што належала прадстаўнікам самастойнай дынастыі Рагвалодавічаў. Каля 980 у П. княжыў Рагвалод (забіты кіеўскім кн. Уладзімірам Святаславічам, які сілай узяў у жонкі яго дачку Рагнеду), з 988 – Ізяслаў Уладзіміравіч, з 1003 – Брачыслаў Ізяславіч. Пры Усяславу Брачыславічу (1044–1101) П. дасягнуў найвышэйшага росквіту, стаў гандл. канкурэнтам Кіева. Былі развіты кавальскае, ювелірнае (*Полацкі рэчавы скарб*, *Полацкая ювелірная вытворчасць*), кастарэзнае, гарбарнае, ша-




*Тапаграфія Полацка 9–18 ст.*

вецкае і інш. рамёствы. У 12 ст. ў П. працавалі майстар-ювелір Лазар Богша і дойлід Іаан, сфарміравалася самабытная *Полацкая архітэктурная школа*, шэдэўрам якой з'яўляецца *Полацкая Спаса-Праабражэнская царква*. З 992 існавала самастойная епіскапская кафедра. У 12–13 ст. актыўна дзейнічала полацкае веча, якое абапіралася на апалчэнне гараджан. У пач. 13 ст. жыхары П. разам з лівамі, эстамі, латгаламі змагаліся супраць нямецкіх крыжакоў, якія ўварваліся ў Прыбалтыку і захапілі гарады Полацкай зямлі Герцыке і Кукенойс. Дружыны полацкага кн. Уладзіміра неаднаразова выступалі супраць нямецкіх рыцараў (1203, 1206, 1216). З 1307 П. у складзе ВКЛ. У 14–16 ст. самы вял. горад на тэр. Беларусі, меў асобыя прывілеі, гандляваў з Рыгай, Лівонскім ордэнам, Ноўгарадам, Псковам, Масквой і інш. гарадамі. У 1-й пал. 14 ст. ў П. княжыў Воін, потым Нарымонт (у хрышчэнні Глеб), у 2-й пал. 14 ст. – апошні полацкі кн. Андрэй Полацкі (сын вял. кн. ВКЛ Альгерда). З 1382 горадам кіравалі намеснікі. У 1498 П. атрымаў магдэбургскае права, пасля 1509 пабудавана *Полацкая ратуша*. З пач. 16 ст. – цэнтр ваяводства. З 16 ст. вядомы герб П.: у блакітным полі трохмачтавы карабель з паднятымі ветразямі (стараж. хрысціянскі сімвал). У час Інфлянцкай вайны (1558–82) П. у 1563–79 займалі маскоўскія войскі. У ходзе вайны большасць мураваных цэркваў 12 ст. была зруйнавана. З помнікаў Полацкай архіт. школы працягвалі існаваць *Полацкі Сафійскі сабор*, *Полацкая царква Раства Хрыстова*. У 1581 Стэфан Баторый перадае ўсе праваслаўныя храмы і манастыры *Полацкаму езуіцкаму калегіуму*. Сафійскі сабор уваходзіць у склад *Полацкага базыльянскага кляштара*. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 П. заняты рус. войскамі, але паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 вернуты Рэчы Паспалітай. У 1772 да Расіі адышла правабярэжная, а ў 1793 – левабярэжная частка П. З 1776 – цэнтр губерні, у 1778–96 – намесніцтва, з 1796 – павета Бел., з 1802 – Віцебскай губерняў.

Гісторыя археал. вывучэння П. пачынаецца ў 1928 (экспедыцыя Інбелкульта пад кіраўніцтвам А.М.Ляўданскага). Горад даследавалі ў 1957, 1966–67 М.К.Каргер, у 1959–60 А.Р.Мітрафанаў, у 1961–62 В.Р.Тарасенка, у 1961–64, 1967–68, 1979–80 Г.В.Штыхаў, у 1975–79 Вал.А.Булкін, у 1976–77 П.А.Рапапорт, у 1986–93, 1995 С.В.Тарасаў. У 1986, 1989–92, 1996–97 археолага-архіт. даследаванні на тэр. Вял. пасада здзейснялі Н.І.Здановіч, П.А.Русаў, Г.М.Сагановіч. З 1995 археал. вывучэнне горада праводзіцца на базе Полацкага дзярж. ун-та (з 2000 раскопкі ўзначальвае Дз.У.Дук). У 1995–96 Верхні замак і Востраў даследаваў М.В.Клімаў. З 2008 пачала дзейнічаць комплексная археал. экспедыцыя ІГ НАН Беларусі, Полацкага дзярж. ун-та і Нац.

Полацкага гісторыка-культ. музея-запаведніка. Археал. нагляд ажыццяўляўся С.В.Тарасавым, Дз.У.Дукам, М.В.Клімавым, С.Дз.Дзярновічам і А.А.Салаўёвым.

Найб. стараж. пасяленні П. – *Полацкае гарадзішча* (дзяцінец), *Полацкія паселішчы* на правым і левым берагах Палаты. На аснове пачатковых паселішчаў у 11 ст. фарміруецца *Полацкі вакольны горад* («малы пасад»), пляцоўка *Полацкага Верхняга замка* пры вусці Палаты становіцца адміністрацыйна-цырыманіяльным цэнтрам горада, будуецца Полацкі Сафійскі сабор, у 12–14 ст. – *Полацкі княжацкі храм* і *Полацкі княжацкі церам*. У 14 ст. дзяцінец перанесены на Верхні замак, які атрымаў назву ў 16 ст., калі быў пабудаваны *Полацкі Ніжні замак*. З Пн і У горад быў абкружаны *Полацкім курганным некропалем 9–10 ст.* Мураваныя храмы і *Полацкія манастыры* ахоўвалі горад з Пн, Пд і З. Каля манастыроў і цэркваў знаходзіліся *Полацкія могілкі 12–18 ст.* З к. 10 ст. засяляецца тэр. *Полацкіх Задзвінскіх пасадаў* (Старая Слабада і Востраў), у к. 15 ст. – задзвінскіх Крыўцовага і Экіманскага пасадаў. У 16 ст. акрамя Верхняга і Ніжняга замкаў планіровачную структуру горада вызначалі правабярэжныя пасады ўздоўж берагоў Дзвіны і Палаты: *Полацкі Вялікі пасад*, *Полацкі Запалоцкі пасад*. У ваколіцах размяшчаліся неўмацаваныя *Полацкія сельскагаспадарчыя прадмесці*. Меў развітую сістэму ўмацаванняў. У 16 ст. пабудаваны драўляныя будынкі Полацкага езуіцкага калегіума (пазней мураваныя). У 18 ст. ў П. існавала мноства мураваных манастыроў, кляштараў і касцёлаў: Богаяўленскі манастыр (у 17 ст. пры ім дзейнічала брацтва і школа), касцёлы і кляштары бернардзінцаў, дамініканцаў, францысканцаў, базыльян. У 9–18 ст. адбывалася станаўленне полацкіх гіст. помнікаў, закладаліся асновы сучаснай гіст. тапаграфіі горада.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX–XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Штыхов Г.В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.). Минск, 1975; Тарасаў С.В. Полацк IX–XVII стст.: гісторыя і тапаграфія. Мінск, 1998; Дук Дз.У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада. Наваполацк, 2007; Яго ж. А.М.Ляўданскі – пачынальнік полацкай археалогіі // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара, Полацк, 20–21 лістап. 2008 г. Наваполацк, 2009; Яго ж. Гісторыя археалагічнага вывучэння полацкіх пасадаў // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. 2009. № 2.

*Дз.У.Дук, С.В.Тарасаў, Г.В.Штыхаў.*

**ПО́ЛАЦКАЕ ГАРАДЗІ́ШЧА**, археалагічны помнік – гарадзішча мысавага тыпу пл. каля 1 га. Да 1563 размяшчалася на левым беразе р. Палата, у 1563–64 пад час узвядзення *Полацкага Ніжняга замка* аддзелена ад паўд. паселішча. З паўн. боку захаваліся сляды абарончых умацаванняў (кальцавыя валы). Упершыню даследаваў А.М.Ляўданскі ў 1928. Раскопкі і назіранні праводзілі: у 1959 Л.Д.Побаль, у 1960, 1962 Г.В.Штыхаў, у 1978 Вал.А.Булкін, у 1987 С.В.Тарасаў, у 2007 Дз.У.Дук, у 2009 М.В.Клімаў. Даследавана 100 м². Выяўлены культ. пласт *днепра-дзвінскай культуры* 7 ст. да н.э. – 4 ст. н.э., пласт 10 ст. з ляпной керамікай *банцараўскай культуры* (5–7 ст.) і *полацка-смаленскіх доўгіх курганоў культуры* (8–10 ст.). Сярэдняя магутнасць культ. пласта 1,8 м, у паўн. частцы – 4 м. Асн. культ. напластаванні датуюцца 11–14 ст. і ўтрымліваюць сведчанні размяшчэння на гарадзішчы княжацкага двара. Атрыманы доказы існавання мураванага храма. У 14 ст. ўвайшло ў склад *Полацкага Вялікага пасада*, на гарадзішчы размяшчаліся сядзібы і агароды, у 17–18 ст. яго тэр. занята гар. могілкамі каталіцкага насельніцтва.

На П.г. знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, шкляныя бранзалеты 12 – 1-й трэці 13 ст. і пацеркі 10–13 ст., бытавыя металічныя вырабы, прадметы ўзбраення, упрыгажэнні і дэталі вопраткі з каляровых металаў, царкоўнае начынне, вырабы з косці, бурштыну і каменю 10–13 ст. Лакалізаваны сляды ювелірнай майстэрні (кавалкі тыгляў, прылады ювеліра, запас сыравіны), а таксама зброевая майстэрня 12–13 ст. (выраб пласцiністых наборных даспехаў). Знойдзена адваротная створка меднага крыжа-энкалпіёна (машчавіка) з выявай кн. Глеба, які трымае ў руцэ Сафійскі сабор.

Аб пражыванні на гарадзішчы гар. вярхушкі – князя і баяраў – сведчаць рарытэтныя артэфакты: бронзавыя літая накладка, адліваныя фігуркі Багародзіцы і апостала Іаана, якія аплакваюць распятага Хрыста, дэталь хораса з двухбаковым плеценым арнаментам памерамі 10 × 3,5 см; і капійнае наверша даўж. 8,2 см, верагодна, ад гарызантальнай планкі харугвы. Знойдзена бронзавая фібула візантыйскага паходжання, праслiца з шыфернага сланцу з кірылічнымі літарамі «Н», «А», «Г». У стратыграфічным пласце 11–13 ст. выяўлены фр-ты плінфы з рошчынай, смальты, кавалкі свінца, а таксама рошчыны-цамянкі, што разам са знаходкамі прадметаў царкоўнага прызначэння (бронзавыя донца лампадкі, фігуркі святых з ківатнага крыжа, дэталь пэндзля для размалёўкі ікон і інш.) сведчыць аб існаванні на гарадзішчы яшчэ аднаго храма *Полацкай архітэктурнай школы* 12 ст. Даныя радыевугляроднага аналізу дазваляюць меркаваць аб пражыванні на гарадзішчы насельніцтва *полацка-смаленскіх доўгіх курганоў культуры* ў 780, значна раней даты першай летапіснай згадкі Полацка (862).

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе // Працы. Т. 2; Штыхов Г.В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.). Мінск, 1975; Дук Д.

Древо жизни Полоцкого городища // Родина. 2007. № 10; Я г о ж. Станаўленне Полацка ў IX–XIII стст. // БГЧ. 2007. № 11; Я г о ж. Старажытныя славяне полацкага гарадзішча (780–1310 гг.) // Там жа. 2008. № 7.

*Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКАЕ ПЕРАДГРА́ДДЗЕ**, археалагічны помнік – селішча ў г. Полацк, на мысе правага берага р. Палата ў раёне Чырвонага моста, на ПдУ ад гарадзішча 9–10 ст. Пл. 0,25–0,3 га. Выявіў і даследаваў 444 м² у 1962, 1967, 1979–80 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,4–1,3 м пашкоджаны розначасовымі перакопамі і падмуркамі пабудоў. Сярэдневяковы пласт і мацерыковыя ямы захаваліся на асобных участках раскопаў. Выяўлены матэрыялы 9/10–16 ст. Артэфакты 9/10 ст. прадстаўлены ляпной і раннекругавой керамікай. Знойдзены ляпны посуд «з плечукамі», характэрны для смаленска-полацкіх доўгіх курганоў і раннегар. цэнтраў Падзвіння і Верхняга Падняпроўя. Некалькі фр-таў пакрыты арнаментам з пальцавых ўціскванняў, адбіткаў трэсачкі, у т.л. абматанай вяроўкай. Венцы кругавой керамікі 2-й пал. 10–11 ст. складаюць 6% ад агульнай колькасці венцаў кругавога посуду. Індывідуальныя знаходкі 9/10–1-й пал. 11 ст. прадстаўлены ромбападобным і 2 ланцэтападобнымі наканечнікамі стрэл, фр-там бронзавага драцянога бранзалета, біканічным гліняным праслiцам, 14 фр-тамі тыгляў для плаўкі каляровых металаў. Да 2-й пал. 10 ст. належаць рэшткі вытворчай пабудовы са слядамі печы, дзе было знойдзена каля 20 кг металургічных шлакаў, 7 фр-таў тыгляў, льячка, абрубак злітка каляровага металу, абрэзак дзірхама (Саманіды, Наср ібн Ахмад, 933–941) і раннекругавая кераміка. Артэфакты 12–13 і 14–16 ст. прадстаўлены керамікай (16 і 78% адпаведна). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Нац. Полацкім гісторыка-культ. музеі-запаведніку і ІГ НАН Беларусі.



*Размяшчэнне раскопаў на **Полацкім перадграддзі** (1) і выяўленыя на ім матэрыялы: 2 – фрагмент бранзалета, 3 – праслiца, 4–6 – наканечнікі стрэл, 7–12 – ляпная кераміка, 13–15 – кругавая кераміка.*

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Новыя раскопкі ў Полацку // Помнікі старажытнабеларускай культуры: нов. адкрыцці. Мінск, 1984; П л а в і н с к і М., Ш т ы х а ў Г. Ляпная кераміка Полацкага селішча // ГАЗ. 2006. № 21.

*Г.В.Штыхаў, М.А.Плавінскі.*

**ПО́ЛАЦКА-СМАЛЕ́НСКІХ ДО́ЎГІХ КУРГАНО́Ў КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура сяр. 8–10 ст. н.э. ў Смаленскім Падняпроўі, Бел. Падзвінні і Дзвінска-Нёманскім міжрэччы, дзе яна працягвала існаваць да пач. 11 ст. Межы арэалу П.-с.д.к.к. на Пн дасягаюць вярхоўя рэк Вялікая і Ловаць, на У праходзяць па Вопі (правы прыток Дняпра), на Пд пралягаюць ад вярхоўяў Сажа праз басейн Бярэзіны да вярхоўяў Віліі, на З даходзяць да азёр Нарач і Дрысвяты. Назва П.-с. д.к.к. паходзіць ад формы невысокіх доўгіх валападобных курганоў. Доўгімі лічацца насыпы, даўж. якіх перавышае шыр. ў 2 і больш разоў. Даследаванне пахаванняў П.-с.д.к.к. ў паўн. Беларусі пачалося ў сяр. 19 ст. (К.А.Гаворскі, М.Ф.Кусцінскі, К.П.Тышкевіч, А.М.Семянтоўскі), у к. 19 – пач. 21 ст. курганы вывучалі Ф.В.Пакроўскі, Л.Ю.Лазарэвіч-Шапялевіч, І.А.Сербаў, А.К.Супінскі, А.М.Ляўданскі, Г.Цэгак-Галубовіч, У.Галубовіч, А.Р.Мітрафанаў, Г.В.Штыхаў, Л.У.Дучыц, В.І.Шадыра, А.М.Плавінскі, В.Н.Рабцэвіч, А.В.Вайцяховіч. Раскопкі на Смаленшчыне праводзілі А.М.Семянтоўскі, У.І.Сізоў, І.С.Абрамаў, В.Н.Глазаў, А.М.Ляўданскі, Я.А. Шміт, С.С.Шырынскі, У.В.Енукоў. Тэрмін «доўгія курганы» распаўсюдзіўся ў сяр. 19 ст. Пачатак навук. вывучэнню доўгіх курганоў паклаў І.У.Сізоў. Як самастойная археал. культура П.-с.д.к.к. была вылучана Я.А.Шмітам. У бел. частцы арэалу даследаваліся курганныя могільнікі *Ахрэмаўцы* (Бяльмонты), *Баркі*, *Варганы*, *Вусце* (Богіна), *Вышадкі*, *Дарахі*, *Браслаўскі курганны могільнік*, *Бяскатава*, *Майшулі* (Рацкі Бор), *Мілты*, *Новыя Валосавічы*, *Опса*, *Рудня*, *Смалькі*, *Сосенка*, *Старое Сяло*, *Чарневічы* і інш. Могільнік П.-с.д.к.к. звычайна складаюцца з доўгіх, падоўжаных і паўсферычных насыпаў. У Бел. Падзвінні і Дзвінска-Нёманскім міжрэччы доўгія курганы сустракаюцца значна радзей, чым на Смаленшчыне. Некаторыя могільнікі складаюцца толькі з паўсферычных насыпаў. Акрамя таго, на гарадзішчы *Свіла*-1, у Акатаве і Заазер'і (на Смаленшчыне) выяўлены асобныя грунтавыя пахаванні. Пахавальны абрад – трупаспаленне, звычайна па-за межамі кургана. Рэшткі крэмацыі маглі змяшчацца ў ямках (у мацерыку ці ў насыпе), на пляцоўцы (на мацерыку ці ў насыпе), на паверхні насыпаў. У кургане магло быць як адно, так і некалькі пахаванняў. Разам з крэміраванымі астанкамі чалавека часам змяшчалі рэшткі каня, буйной і дробнай свойскай жывёлы, птушак і інш. жывёл. Сярод курганоў сустракаюцца кенатафы. Пахавальны інвентар адносна бедны: ляпныя прыземістыя гаршкі з прафіляваным венчы-



Аўтар М.А. Плавінскі

кам (т.зв. посуд «з плечукамі»), зрэдку прысутнічае раннекругавы посуд. Да ліку ўпрыгажэнняў, знойдзеных у пахаваннях, належаць: шыйныя грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, ланцужкі, «калпачкападобныя» і ромбападобныя падвескі, бразготкі, пацеркі (шкляныя лімонападобныя, 14-гранныя, вочкавыя, рабрыстыя, зонныя ці, зрэдку, каменныя з сердаліку і горнага крышталю, бронзавыя і нават касцяныя), спражкі, падкովападобныя фібулы. Тыповымі для П.-с.д.к.к. жаночымі ўпрыгажэннямі з'яўляюцца скроневыя кольцы з серпападобнымі канцамі, галаўныя венчыкі-вайнагі з бляшак-абоймiц і спіральных пранізак, бі-S-падобныя і «трохдзіркавыя» ланцугатрымальнікі, трапецападобныя падвескі. Прылады працы і побыту ў пахаваннях прадстаўлены нажамі, сярпамі, футараламі для трута, крэсівамі, баталамі, іглaмі, шыламі, пінцэтамі, асялкамі, грабянямі, праслiцамі. Выяўлены асобныя наканечнікі стрэл, коп'яў, сякера, шпоры, цуглі і інш. Тыповая для П.-с.д.к.к. кераміка «з плечукамі» і інш. матэрыялы выяўлены ў культ. пласце раннегар. паселішчаў Смаленшчыны і паўн. Беларусі (Гнёздава, Віцебск, Полацк, Лукомль), селішчаў і гарадзішчаў Бел. Падзвіння і Дзвінска-Нёманскага міжрэчча. Помнікі П.-с.д.к.к. ў Смаленскім Падняпроўі датуюцца сяр. 8–10 ст. У паўн. Беларусі могільнікі культуры працягвалі існаваць да пач. – 1-й пал. 11 ст. Кераміка «з плечукамі» ў паўн. Беларусі выкарыстоўвалася да сяр. 11 ст. П.-с.д.к.к. атаясамліваецца сучаснымі даследчыкамі з *крывічамі*. Пры гэтым этнічная прыналежнасць насельніцтва культуры выклікае дыскусіі. Даследчыкі прызнаюць наяўнасць слав. элементаў у П.-с.д.к.к., але па-рознаму ацэньваюць іх ролю ў фарміраванні і эвалюцыі культуры. Адны разглядаюць П.-с.д.к.к. як балцкую культуру (Я.А.Шміт, І.І.Ляпушкін, Э.М.Загарульскі), другія – як балта-слав. (Г.В.Штыхаў, Л.У.Дучыц, У.В.Енукоў, В.І.Шадыра), трэція – як славянскую (В.В.Сядоў, В.М.Ляўко).


*Літ.*: Шмидт Е.А. О смоленских длинных курганах // Славяне и Русь. М., 1968; Седов В.В. Длинные курганы кривичей. САИ. М., 1974 (Вып. Е1–8); Его ж. Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982; Енуков В.В. Ранние этапы формирования смоленско-полоцких кривичей (по археологическим материалам). М., 1990; Дучыц Л.У. Браслаўскае Паазер'е ў IX–XIV стст.: гіст.-археал. нарыс. Мінск, 1991; Штыхаў Г.В. Крывічы: па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мінск, 1992; Левко О.Н. Население Днепро-Двинского междуречья в VI–XI вв. (этнический состав, социальная и территориальная структура) // Труды VI международного конгресса славянской археологии. М., 1997. Т. 3. Этногенез и этнокультурные контакты славян. Нефедов В.С. О времени возникновения культуры смоленско-полоцких длинных курганов // Археология и история Пскова и Псковской земли: материалы науч. семинара, 1996–1999. Псков, 2000; Его ж. Салтовские древности в смоленских длинных курганах // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17; Смоленские древности. Вып. 4. Смоленск, 2005.


*М.А.Плавінскі.*

**ПО́ЛАЦКАЯ АРХІТЭКТУ́РНАЯ ШКО́ЛА**, накірунак мураванага храмавага дойлідства, які склаўся ў Полацку ў 12 ст. Першая пабудова П.а.ш. – *Полацкі Сафійскі сабор*. Характэрнай рысай П.а.ш. быў адыход ад візантыйскіх крыжова-купальных шматнефавых структур з паўкруглымі апсідамі. Уяўляюць выцягнутасць пабудоў у плане па лініі З–У, мадыфікацыя і спрашчэнне алтарнай часткі, дадатковае чляненне нефавай прасторы ў выглядзе вімы (бемы), вузкія бакавыя нефы і замена бакавых апсід на паўкруглыя нішы-паглыбленні ў алтарных сценах, дамінаванне цэнтр. апсіды, часам моцна высунутай наперад. Для некаторых храмаў П.а.ш. характэрна размяшчэнне купала не на ўсх., а на зах. парах слупоў, што надавала ўсёй кампазіцыі форму роўнаканцовага крыжа. Непаўторная рыса П.а.ш. – з'яўленне храмаў «вежападобнай» канструкцыі з выразнай вертыкальнай дамінантай (*Полацкая Спаская царква* дойліда Іаана). Да-

лейшае развіццё гэтыя архіт. прыёмы атрымалі ў *Полацкім княжацкім храме* на Верхнім замку. Асн. тыпы культавых збудаванняў П.а.ш.: 1-нефавыя бесслупавыя з 1 апсідай і бабінцам (Пятніцкая царква Бельчыцкага манастыра); 3-нефавыя 6-слупавыя з 3 выступаючымі вонкі апсідамі (Вял. сабор Бельчыцкага манастыра); 3-нефавыя, 4- або 6-слупавыя са схаванымі бакавымі апсідамі (Спаская царква, Барысаглебская царква Бельчыцкага манастыра, Княжацкі храм на Верхнім замку). Рысы П.а.ш. праявіліся ў царкве Дабравешчання ў Віцебску, недабудаваным храме на Мінскім замчышчы, Навагрудскай Барысаглебскай царкве, храмах Гродна, Смаленска, Ноўгарада Вялікага. Яшчэ адной асаблівасцю П.а.ш. было традыц. з часоў будаўніцтва Сафійскага сабора выкарыстанне кладкі з цэглы-плінфы ў тэхніцы «схаванага раду». Кожны другі рад заглыбляўся ў муроўку, а атрыманая такім чынам пустата затынкоўвалася цамяначнай рошчынай, што надавала ўсёй сцяне ружовую пярэстасць. На цагліны наносіліся знакі і клеймы.

Вытокі П.а.ш. ідуць з творчага пераасэнсавання традыцый візантыйскіх правінцый. Прасочваюцца архіт. сувязі П.а.ш. з дойлідствам балканскіх краін (Маравія, Сербія, Балгарыя), Малой Азіі і Каўказа. П.а.ш. аказала вял. ўплыў на далейшае развіццё храмавай архітэктуры Беларусі, Украіны і Расіі. *С.В.Тарасаў, Г.В.Штыхаў.*

**ПО́ЛАЦКАЯ РА́ТУША**, помнік археалогіі ў г. Полацк. Паводле прывілея 1498 гораду на магдэбургскае права палачанам было загадана пабудаваць ратушу «на местцы годном». П.р. была ўзведзена пасля 1509. Праіснавала да 2-й пал. 18 ст. У 1780 на яе месцы ўзведзены дом генерал-губернатара. У 1996, пад час археал. нагляду за будаўніцтвам на яго тэр., П.А.Русаў зафіксаваў падмуркі 3 розначасовых мураваных будынкаў, зробленых ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі. На Пд ад П.р. размяшчаўся гар. рынак, на Пн – вул. Вознясенская, з У пралягала вул. Прабойная. Каля П.р. быў гасціны двор. Крыніцай для рэканструкцыі знешняга выгляду ратушы з'яўляецца абраз св. Мікалая з фондаў Нац. Полацкага гісторыка-культ. музея-запаведніка. Выява святога змешчана на фоне горада з выразнай барочнай забудовай 18 ст. Злева ад фігуры – высокая шмат'ярусная званіца, за фігурай святога – грамадзянская забудова, справа – будынак, які нагадвае ратушу. Гэтыя пабудовы могуць быць суаднесены з Полацкім *Сафійскім саборам*, *Полацкім езуіцкім калегіумам* і П.р. На малюнку ратуша размешчана за сцяной рынку.

*Літ.*: Дук Дз.У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада. Наваполацк, 2007; Яго ж. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.). Наваполацк, 2010. *Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКАЯ СПА́СА-ПРААБРАЖЭ́НСКАЯ ЦАРКВА́**, помнік архітэктуры, адна з першых пабудоў Полацкай архіт. школы. Пабудавана дойлідам Іаанам паводле заказу Ефрасінні Полацкай паміж 1152–61 на тэр. Полацкага Спаса-Праабражэнскага (Ефрасіннеўскага) манастыра, у мясцовасці пад назваю Сяльцо, што належала полацкаму епіскапу. Знаходзіцца за 2,5 км на Пн ад Верхняга замка на правым беразе р. Палата. Адносіцца да 6-слупавых 3-нефавых крыжова-купальных храмаў з адной выступаючай вонкі апсідай. Памеры (з улікам апсіды) 18,3 × 10 м. Выш. храма да вяршыні цаглянага купала 20,37 м, таўшч. сцен 1,2–1,3 м. Цэнтр. неф завяршаецца масіўнай выступаючай апсідай, бакавыя, вельмі завужаныя нефы – схаванымі ва ўсх. сцяне паўцыркульнымі нішамі. Царква мела пазакамарнае перакрыцце асн. аб'ёму. Барабан купала абапіраецца на масіўны квадратны пастамент, грані якога аздоблены 3-лопасцевымі какошнікамі кілепадобнай формы. Для мацавання іх быў зроблены спец. каркас з пастаўленых на рабро цаглін. Закамары і какошнікі разам з высокім (6,4 м) барабанам стваралі выцягнуты ўверх вежападобны сілуэт храма. Звонку сцены царквы былі аздоблены паўкруглымі пілястрамі. Унутры зах. сцяны – лесвіца



*Полацкая Спаса-Праабражэнская царква* (рэканструкцыя У.Ракіцкага).

на хоры, паабапал хораў – 2 невял. келлі. Падлога была выкладзена керамічнымі пліткамі, пад ёй знаходзілася крыпта. Храм пабудаваны з плінфы ў тэхніцы «схаванага рада», што надавала яго знешняму выгляду бела-ружовую пярэстасць. Памеры цаглін 4 × 23 × 24–30 см, некаторыя шыр. 17–20 см. На шэрагу з іх маюцца знакі і клеймы. Унутраныя сцены і слупы сабора захавалі арыгінальны фрэскавы роспіс, нягледзячы на алейны запіс 19 ст. У фрэсках назіраецца аўтарская перапрацоўка класічных візантыйскіх сюжэтаў, якія размешчаны адпаведна канону. Выявы маюць надзвычайную экспрэсію і ўнутраную дынаміку.

У 19 ст. храм быў накрыты 2-схільным дахам і часткова перабудаваны. Апошняе не пашкодзіла захаванасці яго першапачатковай архітэктуры. Даследавалі помнік Дз.Струкаў (1884), М.Брунаў (1923), І.Хозераў (1926 і 1946), Я.Ашчэпкаў (1946–47), П.Рапапорт і Г.Штэндар (1976). У 2005 Дз.У.Дукам праведзены археал. раскопкі культ. пласта ў крыпце царквы, дзе размешчана 8 цагляных склепаў, зробленых з вялікафарматнай цэглы ў 2-й пал. 18 ст. Склепы былі пашкоджаны скарбашукальнікамі: з 8 некранутым застаўся толькі адзін. Знойдзены астанкі 32 чал. У некранутым склепе знойдзены перапахаваныя астанкі 6 мужчын сталага ўзросту. Косці былі абгорнуты дарагой тканінай з сярэбранай ніткай і пакладзены ў драўляную скрыню. Пахаванне належала людзям каталіцкага веравызнання (высветлена па наяўнасці адпаведнага пахавальнага інвентару) і адносіцца да часу, калі царква ўваходзіла ў склад езуіцкага фальварка ў мясц. Спас.

*Літ.*: Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Менск, 1928; Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX–XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Раппопорт П.А. Полоцкое зодчество 12 в. // СА. 1980. №3; Дук Дз.У. Гісторыя Полацка: па матэрыялах археал. даслед. Наваполацк, 2006. *С.В.Тарасаў, Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКАЯ ЦАРКВА́ РАСТВА́ ХРЫСТО́ВА**, царква на Ірву, археалагічны помнік у г. Полацк, які размяшчаўся на знешнім краі абарончага рова *Полацкага Верхняга замка.* У 1962 і 1967 М.К.Каргер выявіў развал плінф і стараж. буд. рошчыны ў раёне сучаснага Замкавага праезда, каля рова (Чорны ручай) былі адкрыты 2 цагляныя грабніцы. У 1976–77 П.А.Рапапорт ускрыў тут рэшткі невядомага раней храма. Пад час раскопак была даследавана ўсх. частка царквы, ад якой захаваліся каменны падмурак шыр. 1,4–1,6 м і падмуркавыя равы. П.ц.Р.Х. мела адну апсіду даўж. 7,5 м, шыр. 7,1 м, якая моцна выступала за межы асн. аб'ёму. Шыр. сярэдняга нефа 4,45 м. Знойдзены пліткі падлогі таўшч. 1,8–3 см з палівай зялёнага, жоўтага і карычневага колеру. Верагоднае датаванне храма – 3-я чв. 12 ст. Размяшчэнне царквы тлумачыцца тым, што П.ц.Р.Х. абслугоўвала патрэбы гандл. люду і размяшчалася каля гандлёва-вечавай пл. *Полацкага Вялікага пасада* на месцы падвозу грузаў з Дзвіны па Чорным ручаі. П.ц.Р.Х. існавала да 3-й чв. 17 ст.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX–XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Раппопорт П.А. Полоцкое зодчество XII века // СА. 1980. № 3; Тарасаў С.В. Полацк IX–XVII стст.: гісторыя і тапаграфія. Мінск, 1998; Варонін В.А. Праваслаўныя цэрквы і манастыры горада Полацка (да 1582 года) // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. Минск, 2009. Вып. 2. *Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКАЯ ЮВЕЛІ́РНАЯ ВЫТВО́РЧАСЦЬ**, залатарства, адзін з самых распаўсюджаных відаў рамяства ў *Полацку* 10–17 ст. У 1959–68 на *Полацкім Верхнім замку* пад час раскопак (кіраўнікі А.Р.Мітрафанаў, Г.В.Штыхаў) выяўлены сляды ювелірнай вытворчасці 12–13 ст.: ліцейныя формы для пацерак, падвесак, крыжыкаў, гузікаў, пярсцёнкаў, бранзалетаў і інш., неапрацаваныя формы і тыглі. На тэр. *Полацкага Ніжняга замка* ў 1986–90 (кіраўнік раскопак С.В.Тарасаў) выяўлены рэшткі 2 ювелірных майстэрань 10–12 ст. У адной з іх выраблялі шкляныя пацеркі і бранзалеты, у другой – рэчы з каляровых металаў. Выяўлены развал печы, у якім знаходзіліся фр-ты тыгляў і ліцейная форма – імітацыя арабскай манеты. У 1987–88 С.В.Тарасаў даследаваў на пл. Свабоды (б. пл. Леніна) сядзібны комплекс 12–13 ст., што належаў ювелірам. Сядзіба складалася з 7 пабудоў, 2 з якіх былі жылымі. Агульная пл. больш за 1500 м². Знойдзены прылады працы: шалі-плечыкі, вагі, пінцэты, кавадлы, тыглі і ліцейныя формачкі; вырабы са шкла, у т. л. падвеска-медальён зялёнага колеру з выявай герба Рурыкавічаў 11 – пач. 12 ст.; бурштын у выглядзе сыравіны, нарыхтовак і вырабаў (пярсцёнкі, пацеркі). Прадметы з косці прадстаўлены грабеньчыкамі і 25 пласцінаминарыхтоўкамі. Выраблялісяі рэчы і з каляровых металаў, аб чым сведчаць рэшткі на тыглях, а так-



***Полацкая** ювелірная вытворчасць. 1 – адваротная створка крыжа-энкалпіёна з выявай князя Глеба; 2 – пярэдняя створка крыжа-энкалпіёна з выявай Укрыжавання; 3 – крыж-энкалпіён 12 ст. з Экімані; 4 – нацельны крыж; 5 – накладка з выявай грыфона; 6 – віслая пячатка 11 ст.*

сама звыш 40 вырабаў і нарыхтовак з бронзы. У 2005–06 (кіраўнік раскопак Дз.У.Дук) у непасрэднай блізкасці ад названай сядзібы знойдзены сляды ювелірнай вытворчасці 11–12 ст. і ювелірная майстэрня 17 ст. Большасць ювелірных вырабаў прадстаўлена рэчамі з бронзы: шпількі, засцежкі, бранзалеты, загатоўкі металу. Знойдзены гіркі-разнавагі і інш. прылады працы. У 2007 (кіраўнік раскопак Дз.У.Дук) на тэр. *Полацкага гарадзішча* ў напластаваннях 12–13 ст. выяўлены: тыглі, нарыхтоўкі і ювелірныя вырабы. П.ю.в. абслугоўвала самыя шырокія катэгорыі насельніцтва.

*Літ.*: Ш т ы х о в Г.В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.). Минск, 1975; Т а р а с а ў С.В. Полацк IX–XVII стст.: гісторыя і тапаграфія. Мінск, 1998; Д у к Дз.У. Выратавальныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка ў 2005 г. // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. Полоцк, 2007. №1.

*С.В.Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКІ БАЗЫЛЬЯ́НСКІ КЛЯ́ШТАР**, помнік археалогіі ў г. Полацк. Быў засн. на *Полацкім Верхнім замку* пры *Полацкім Сафійскім саборы* архіепіскапам Іасафатам Кунцэвічам у 1-й пал. 17 ст. У 1668 з дрэва, а ў 1768 з цэглы былі пабудаваны карпусы кляштара на З ад Сафійскага сабора. Жылы 3-павярховы корпус меў форму літары «Н», накіраванай ніжняй часткай у бок Сафійскага сабора. Побач знаходзіліся гасп. пабудовы. Тэр. кляштара займала практычна ўсю паўд.-зах. частку Верхняга замка, была абнесена плотам. Муры знішчаны ў пач. 20 ст. Даследаваў у 1992–94 С.В.Тарасаў. У 1992 закладзены 2 шурфы і траншэя. На глыб. 1,4 м знойдзены падмурак, складзены з плінфы (захавалася 6 радоў, памеры плінфы: шыр. – 18; 21; 22,5; 24 см, таўшч. – 3,5; 3,8; 5 см). У 1993 быў закладзены раскоп 14 × 12 м за 41 м ад зах. апсіды Сафійскага сабора (культ. пласт да 2,6 м), што дазволіла выявіць зах. вонкавую сцяну цэнтр. (папярочнага) будынка кляштара. Сцяна шыр. 1,8 м была арыентавана па лініі Пн–Пд, даследавана на даўж. 14 м, захавалася на выш. да 2,6 м. Падмурак часткова складаўся з цэглы-плінфы. У самым нізе падмурка, у выкапаным раўчуку – 4 рады плінфы, потым праз 2 бутавыя праслойкі яшчэ 4 і 7 радоў. Па версе апошняга раду ідзе забутоўка, зверху – буйнапамерная цэгла (27×14×7 см) у рэнесансавай муроўцы. З гэтага ўзроўню пачыналася сцяна будынка кляштара над дзённай паверхняй 18 ст. Пры пабудове ніжніх радоў выкарыстоўвалася плінфа зруйнаванага Сафійскага сабора. Даўж. плінфы ў падмурку – 27; 36 см, шыр. 19,5–24 см, таўшч. пераважна 4 см. Плінфа часткова замацавана цамяначнай рошчынай (што сведчыць аб тым, што яе клалі ў сцяну блокамі), часткова – крохкай вапнавай рошчынай шэрага колеру 18 ст. У 1994 знойдзены рэшткі сцяны кляштара з буйнапамернай цэглы, камянёў на вапнавай рошчыне. *С.В.Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКІ ВАКО́ЛЬНЫ ГО́РАД**, М а л ы п а с а д. Існаваў у 11 ст. на месцы стараж. паселішча 9–10 ст. і ўсх. часткі *Полацкага Верхняга замка.* Пл. каля 12,5 га. У пач. 12 ст. ўвайшоў у склад пасадскай тэр. Абарончыя ўмацаванні вакольнага горада згадваюцца ў скандынаўскіх сагах «Дзеянні датчан» (мяжа 12–13 ст.) і «Сазе аб Тыдрыку Бернскім» (каля 1250). Крапасныя сцены даследаваў у 1987–88 С.В.Тарасаў. Раскапаны фр-т сцяны даўж. 22 м. Яе аснова – выкладзены з каменю падмурак шыр. 0,6–0,7 м і выш. да 0,4 м. Мураваная выбрукоўка была аднačасова і фундаментам, які трымаўся дзякуючы асаблівасцям канструкцыі на масе саміх камянёў, і невял. валам, што прыўзнімаў гародні над тагачаснай дзённай паверхняй. Гародні выконвалі абарончую і гасп. функцыі. Пад падлогай адной з іх знойдзена закапаная дзежка з арганічнымі рэшткамі і кухонным посудам. Гэта абарончая лінія не мела рова. Працяг сцяны выяўлены ў 2002 Дз.У.Дукам. Захаваліся драўляныя ўмацаванні вала. Непасрэдна на мацерыку былі даследаваны гародні, перакрытыя насыпам вала. Такім чынам, у раскопе 1987–88 сцяна была зроблена ў перакладной (руставай) тэхніцы (спалучэнне драўляных і каменных канструкцый), у раскопе 2002 – выключна з дрэва.

*Літ.*: Д у к Дз., Т а р а с а ў С. Да пытання тапаграфічнага развіцця Вялікага пасада Полацка ў XI ст. // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; Д у к Дз. Полацк у сістэме станаўлення і развіцця сацыятапаграфічнай структуры старажытнарускіх гарадоў IX–XIII стст. // ГАЗ. Мінск, 2008. Вып. 24; Я г о ж. Полацкі пасад IX–XVII стагоддзяў: гісторыка-параўнаўчая характарыстыка // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. 2009. № 1.

*Дз.У.Дук, С.В.Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКІ ВЕ́РХНІ ЗА́МАК**, археалагічны помнік на правым беразе р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Палата. Займаў узвышша пл. 9,44 га. З У быў абкружаны валам, па краі пляцоўкі ўмацаваны драўлянымі сценамі-гароднямі з вежамі. Схілы неаднаразова ўмацоўваліся – «тамаваліся» (паводле археал. даных, упершыню каля 1363). Даследавалі ў 1928 А.М.Ляўданскі, у 1957 М.К.Каргер, у 1959–60 А.Р.Мітрафанаў, у 1961–62 В.Р.Тарасенка, у 1967 і 1980 Г.В.Штыхаў, у 1966–67 М.К.Каргер, у 1975–79 Вал.А.Булкін, у 1989 і 1993 С.В.Тарасаў. Археал. нагляд у 2002, 2007 ажыццяўляў Дз.У.Дук, у 2009 – А.А.Салаўёў. Даследавана больш за 2000 $м^2$. У 11–17 ст. Верхні замак – умацаваны цэнтр Полацка. Да ўзвядзення драўлянай царквы (1-я пал. 11 ст.) і Сафійскага сабора (каля 1044–66) тут размяшчалася язычніцкае свяцілішча. Пашырэнне Верхняга замка адбылося ў 14–15 ст. за кошт пасадскай тэр. на месцы т.зв. усходніх раскопаў 1950–60-х г. У пач. 14 ст. пасля пераносу сюды княжацкай рэзідэнцыі з *Полацкага гарадзішча* набыў статус дзяцін-

ца. З'яўляўся месцам палітычнай дзейнасці князя (11–14 ст.) і яго пражывання (пасля 1326). На Верхнім замку жылі княжацкі намеснік (з 1392), ваявода (з 1504), полацкі епіскап, баяры і мяшчане. Абарончыя сцены 14 ст. ўяўлялі сабой прыстаўленыя адзін да аднаго драўляныя зрубы-гародні. Схіл натуральнага пагорка, на якім размяшчаўся замак, быў умацаваны адмысловымі драўлянымі ступенямі-накатамі, адлегласці паміж імі засыпаліся глінай. На Верхнім замку будаваліся цэрквы і манастыры.

*Літ.*: Дук Д. Святая София о седми версех // Родина. 2007. № 6; Лобач У.А. Да пытання аб сакральнай тапаграфіі старажытнага Полацка // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы V Міжнар. навук. канф. (24–25 кастр. 2007 г.). Полацк, 2009.

*Дз.У.Дук, С.В.Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКІ ВЯЛІ́КІ ПАСА́Д**, археалагічны помнік у г. Полацк на У ад *Полацкага Верхняга замка*, уздоўж р. Зах. Дзвіна. Пл. пасада ў 11 ст. каля 50 га. Забудова пачыналася з З ад сцяны *Полацкага вакольнага горада*, з Пн абмежавана рэчышчам Палаты, з Пд – Зах. Дзвіны. Натуральнай мяжой на У з'яўляўся роў. У 11–12 ст. пасад дасягаў лініі паркана 1501 (сучасная вул. Свярдлова), з 12 ст. уключаў у сябе вакольны горад, у пач. 14 ст. – *Полацкае гарадзішча*. На частцы тэр. ў 1563 пабудаваны *Полацкі Ніжні замак*. У 1563–79 не заселены. Адноўлены ў межах паркана пасля 1580.

Даследавалі ў 1959 В.Е.Шламкоў, у 1962–64, 1968 Г.В.Штыхаў, у 1986 Г.М.Сагановіч, у 1987–92, 2000 С.В.Тарасаў, у 1989–92 Н.І.Здановіч, у 2000, 2004, 2007 А.А.Салаўёў, у 2009 М.В.Клімаў і С.Дз.Дзярновіч, у 2000–05, 2007–09 Дз.У.Дук. Культ. пласт 1,5–3 м. Даследавана 5044 м². Найб. значныя раскопкі праведзены на пл. Свабоды: у 1987–88 ускрыта 1100 м², у 2005 – 180 м², у 2009 – 100 м².

На пасадзе пражывала гандл.-рамеснае насельніцтва. Лакалізаваны ювелірныя майстэрні 12 і 17 ст. з багатым асартыментам прылад працы, паўфабрыкатаў і нарыхтовак. Знойдзены вырабы з косці, бронзы і срэбра. У 2000–03 у двары былога езуіцкага калегіума даследаваны рэшткі 2 кастарэзных майстэрань 13 і 16 ст., у 2007 па вул. Войкава выяўлены рэшткі печы для абпалу плінфы 12 ст. Адкрыты комплексы кавальскіх, каменясечных, гарбарных майстэрань. На Вял. пасадзе ў 14 ст. згадваецца вул. Багародзіцкая, у 16–18 ст. існавалі вуліцы Падольная, Прабойная (захавалася яе паўн. частка ў межах сучаснай вул. Талстога), Вазнясенская, Вялікая (сучасная Ніжнепакроўская), Невельская (сучасная Войкава), Спаская (сучасны Замкавы праезд), Азарава (сучасная Камуністычная), Ільінская (паўд. частка сучаснага праспекта Ф.Скарыны), Баравая, Бацечкава, (паўн. частка сучаснага праспекта Ф.Скарыны) Сцяпанава (мелі гасцінцы), Вазнічная, Сабачына, Савіна, Зборавая, Змітрова, Раждзественская і Андронаў завулак. Найб. шчыльная вулічная сетка зафіксавана па накірунку З–У (ад Верхняга і Ніжняга замкаў у бок паркана). Прастора паміж гэтымі вуліцамі была роўная 2 гар. сядзібам. Вызначана, што пл. гар. сядзібы ва ўсх. частцы Верхняга замка ў 16–18 ст. складала 100–160 м². Такія ж памеры мелі сядзібы 12 ст., калі тэр. была пасадскай. У 16 ст. пл. некаторых з сядзіб на вул. Вялікая дасягала 300 м². На пасадскай тэр. Полацка ў 1553 згадваюцца невял. сядзібы ў 1 прут (прэнт – 4,87 м²) з агародам пры ім у 2 пруты. Сумарная пл. такой сядзібы 58,44 м². На Вял. пасадзе размяшчаліся гар. рынак (з 12 ст. па 1563 у зах. частцы каля Чорнага ручая, з 1579 – у раёне сучаснай пл. Свабоды) і ратуша (каля 1509–1780). Дзейнічалі праваслаўныя, уніяцкія і каталіцкія храмы, шэраг манастыроў і кляштараў.

Паркан (вастракол з бярвён) узведзены ў 1501, неаднаразова перараблялася ў 1-й пал. 16 ст. З напольнага боку быў выкапаны роў. Паміж 1552–63 замест вастракола пабудаваны зрубавыя гародні. Пасля Інфлянцкай вайны 1558–82 новы паркан зроблены толькі ў 1638, уяўляў сабой драўляныя клеці каркаснага тыпу. У пач. 18 ст. захаваўся толькі роў былой крапасной сцяны, да 1812 умацаванні не аднаўляліся. Існавалі 4 перавозы цераз Зах. Дзвіну, у т.л. мост на драўляных пантонах.

*Літ.*: Тарасаў С.В. Полацк IX–XVII стст.: гісторыя і тапаграфія. Мінск, 1998; Яго ж. Сядзіба полацкіх ювеліраў XII–XIII стст. // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы IV Міжнар. навук. канф. Полацк, 2003; Дук Дз.У. Выратавальныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка ў 2005 годзе // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. 2007. № 1; Яго ж. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада. Наваполацк, 2007; Яго ж. Полацкая касцярэзная майстэрня XV – першай паловы XVI стст. // ААА. 2007. Вып. 2; Яго ж. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.). Наваполацк, 2010. *Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ**, помнік гісторыі і культуры ў г. Полацк. Засн. ў 1581, першапачаткова размяшчаўся на *Полацкім Верхнім замку* ў ацалелых пабудовах б. праваслаўнага манастыра Пятра і Паўла. У 1598 перанесены на сучаснае месца на тэр. *Полацкага Вялікага пасада*. Археал. даследаванні П.е.к. праводзілі ў 1992–94 Н.І.Здановіч, у 1996 П.А.Русаў, у 1999–2000, С.В.Тарасаў і Дз.У.Дук, у 2004–10 А.А.Салаўёў, у 2010 Дз.У.Дук. Спачатку калегіум уяўляў сабой драўляную ўмацаваную сядзібу. Размяшчэнне на месцы злучэння Верхняга і Ніжняга замкаў і непасрэдная блізкасць замкавай брамы (Каралеўская вежа) ператварала яго ў важнае звяно

абароны полацкіх замкаў. Пачынаючы з 2-й чв. 17 ст. ў складзе комплексу з'яўляюцца камбінаваныя пабудовы (драўляныя будынкі з каменнымі падмуркамі і падваламі). Першым вядомым і дакладна датаваным камбінаваным будынкам гэтага часу лічыцца касцёл на каменных крыптах, узведзены ў 1636 архітэктарам-езуітам В.Будакам. Сяр. 17 ст. датуецца з'яўленнем кафлі з езуіцкай сімволікай. Пасля пажару 1643 некаторыя пабудовы калегіума таксама набылі цагляныя скляпы і падмуркі. Іх сцены выконваліся ў тэхніцы «лусковай» двухпанцырнай муроўкі. Паміж знешнімі цаглянымі праслямі сцен разам з вапнавай рошчынай у якасці напаўняльніка выкарыстоўваліся камяні, цагляны друз і кавалкі «дывановай» кафлі. Таўшч. цэглы 4,5–6 см, мела 3–4 штампаваныя падоўжныя баразны. Пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 П.е.к. быў цалкам знішчаны. Пасля 1667 яго карпусы былі адбудаваны («сціплы калегіум»). Для ўзвядзення новага комплексу былі выкарыстаны ацалелыя цагляныя падмуркі і падвалы ранейшых пабудоў. «Сціплы калегіум» быў пераважна драўляным. Выявы П.е.к. захаваліся на планах Полацка 1707 і 1720-х г. Архіт. ансамбль калегіума на гэтых планах аб'ядноўвала наяўнасць высокай вежы. Вял. 1-павярховы будынак каля вежы з'яўляўся адзінай цаглянай пабудовай П.е.к. Будынак меў 6–7 памяшканняў, выш. каля 3,8 м. Сцены і скляпенні бяліліся мелам. Падлогі былі выкладзены квадратнымі тэракотавымі пліткамі, печы зроблены з кафлі другаснага выкарыстання, якая мела рэнесансавыя і маньерыстычныя матывы аздаблення («ваза з кветкамі», «кованы метал», разеткі). На некаторых пласцінах былі выявы евангельскіх сцэн альбо мужчын у ренесансавых строях. Мураваны корпус меў рысы абарончага збудавання і з'яўляўся важным элементам лініі ўмацаванняў перад Верхнім замкам і *Полацкім Ніжнім замкам*. Да 1726–45 адносіцца чарговы этап будаўніцтва калегіума пад кіраўніцтвам Е.Шыла. Вял. пажар 1749 (1750?) знішчыў драўляны калегіум. Пасля гэтага пачалося ўзвядзенне сучасных карпусоў у стылі барока. На месцы знішчаных пабудоў была закладзена вял. Е-падобная ў плане 3-павярховая камяніца. Пачалося ўзвядзенне гал. будынкаў П.е.к. – сучасных карпусоў А, Б, В, Г. Асн. фармат цэглы, ужытай пры будаўніцтве, 2,8–30×14–15×6,5–7,5 см. Гал. Е-падобны гмах прызначаўся для жылля і вучобы манахаў і шкаляроў. Там жа знаходзіліся кухня, трапезная, бібліятэка, скляпы для захавання кніг, харчавання, напояў і інш. Фасады карпусоў А, Б, Г былі падзелены плоскімі пілястрамі. Сцены завяршаліся прафіляванымі карнізамі. Аконныя і дзвярныя праёмы мелі масіўныя абрамленні з замка́мі. Тарцы будынкаў завяршаліся высокімі франтонамі, падзеленымі падвоенымі пілястрамі на 3 часткі. Меншая частка (корпус В) мела назву «стары калегіум». Тут былі праезд ва ўнутраны дворык, келля брамніка, пякарня, квасная, скляпы для запасаў харчавання, келлі пекараў, музыкаў. Першы паверх будынка не меў дэкору, акрамя руставаных пілястраў і завяршальнага карніза. Паўнавартаснага другога паверха не было, ва ўнутраны дворык выходзілі 2 мансарды. Зах. мансарда мела багаты дэкор – прафіляваны карніз, падвоеныя пілястры паміж вокнамі. Аконныя праёмы мелі масіўныя абрамленні з замкамі. Усх. мансарда мела больш сціплае аздабленне: 2 акны і 3 нішы аднолькавых памераў з аналагічнымі абрамленнямі. Пасля 1773 П.е.к. перайшоў пад апеку расійскай імператрыцы Кацярыны II, пры якой пачалася мадэрнізацыя яго будынкаў. З 1773 адбывалася будаўніцтва каменных флігеляў, майстэрань, скляпоў, стайняў, якія кальцом абкружылі калегіум з З і Пн. Фасады кожнай майстэрні і флігеля мелі свой дэкор, элементы якога спалучалі рысы барока і класіцызму (пілястры, трохвугольныя франтоны, масіўныя абрамленні вокнаў). У 1786 пад кіраўніцтвам Г.Грубера быў узведзены яшчэ адзін корпус (злучаў будынак тэатра і корпуса А), з'яўленне якога прывяло да кардынальных змен у функцыянальнай і планіровачнай структуры ўсяго ансамбля калегіума. Гал. ўваход перамясціўся ва ўсх. тарэц корпуса А. Тады ж зніклі стараж. вуліцы Ільінская (Маставая) і Чыстая. У 1773–96 адбылася мадэрнізацыя падземных камунікацый. У час знаходжання калегіума ва ўласнасці піяраў (1820–30) пачаўся занепад комплексу. У 1831 будынкі калегіума былі перададзены кадэцкаму корпусу. У 2000 пачалася рэканструкцыя і рэстаўрацыя былых карпусоў калегіума. Сёння ў іх размешчаны Полацкі дзярж. ун-т і Полацкая маст. галерэя.

*Літ.*: Салаўёў А.А. Натурныя даследаванні падвалаў карпусоў Полацкага езуіцкага калегіума // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. F. 2009. № 6; Яго ж. Вынікі натурных даследаванняў на першым паверсе корпусаў А і Г Полацкага езуіцкага калегіума падчас рамонтна-рэстаўрацыйных работ // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы V міжнар. навук. канф. (24–25 кастр. 2007 г.). Полацк, 2009; Яго ж. Каменныя будынкі Полацкага езуіцкага калегіума падчас яго мадэрнізацыі // Беларускае Падзвінне, методыка, вопыт і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у Полацку): зб. навук. прац рэсп. практ. семінара, Полацк: 20–21 лістап., 2008 г. Наваполацк, 2009; Paszenda J. Połock (Polocia), kollegium 1580–1820 // Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy 1564–1995. Kraków, 1996.

*А.А.Салаўёў.*

**ПО́ЛАЦКІ ЗАПАЛО́ЦКІ ПАСА́Д**, археалагічны помнік на З ад Полацкага Верхняга замка ўздоўж р. Зах. Дзвіна. Узнік на мяжы 10–11 ст. (пл. каля 40 га, у пач. 13 ст. – 17 га). Згадваецца ў 14 ст. пад назвай «Стары горад». У 11 ст. меў сістэму крапас-

ных умацаванняў (вастракол). Даследавалі ў 1959 Л.Д.Побаль, у 1961, 1963, 1980 Г.В.Штыхаў, у 1986 С.В.Тарасаў, у 2003, 2004, 2006 і 2010 Дз.У.Дук, у 2008 М.В.Клімаў. Культ. пласт 0,5–3 м. Даследавана 772 м². Вывучаны рэшткі жылых пабудоў, у т.л. сядзібы 15 ст. з кафлянай печчу. Знаходкі прадстаўлены шматлікімі вырабамі 11–18 ст., ювелірнымі рэчамі.

У 16–18 ст. на Запалоцкім пасадзе згадваюцца вуліцы Вялікая (сучасная Краснова), Еглявінская, Зарэчная, Выгонная, Бастыёнauthor, Цыкуноў і Ярмолаў завулкі. Былі размешчаны ў межах паркана 16–18 ст. (упершыню згадваецца ў пач. 16 ст., на працягу 1-й пал. 16 ст. неаднаразова падпраўляўся). У гэты час быў выкапаны роў («перакоп») і пастаўлены вастракол. У 1654 зроблены новы роў, які ўзмацняўся шчыльна ўкапанымі бярвёнамі. За парканам знаходзіліся мясцовасці Селяўшчызна і Глупчыца. У 1498–1563 існаваў Бернардзінскі кляштар (лакалізаваны ў 2010), у 16–18 ст. – праваслаўныя і уніяцкія цэрквы. На Запалоцкім пасадзе пражывала гандл.-рамеснае насельніцтва.

*Літ.:* Ш т ы х о в Г.В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.). Минск, 1975; Т а р а с а ў С.В. Полацк IX–XVII стст.: гісторыя і тапаграфія. Мінск, 1998; Д у к Дз.У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада. Наваполацк, 2007; Я г о ж. Рэчавы комплекс з раскопак на Запалоцкім пасадзе старажытнага Полацка ў 2004 і 2006 гг. // ААА. 2009. Вып. 5; Я г о ж. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.). Наваполацк, 2010; Д у к Дз.У., С а л а ў ё ў А.А. Новыя знаходкі рэнесанснай кафлі ў Полацку (да пытання аб сацыятапаграфічнай структуры Запалоцкага пасада ў першай палове XVI ст.) // МАБ. 2007. № 14.

*Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКІ КНЯ́ЖАЦКІ ХРАМ**, П о л а ц к а я ц а р к в а А р х а н г е л а М і х а і л а, археалагічны помнік у г. Полацк Віцебскай вобл. Пабудаваны ў сяр. 12 ст. на Полацкім Верхнім замку, за 50 м на Пн ад Сафійскага сабора. Рэшткі храма выяўлены ў час буд. работ. У 1966–67 даследаваўся археал. экспедыцыяй Ленінградскага ун-та пад кіраўніцтвам М.К.Каргера. Храм быў 3-нефавы, 6-слупавы, 3-апсідны, памерамі 24 × 16 м. Мураваны з плінфы і каменю ў тэхніцы са «схаваным радам». Памеры плінфы пераважна 3,5–4,5 × 18–21,5 × 30–31 см; на паверхні і тарцовых баках сустракаюцца знакі і клеймы. Былі даследаваны паўн. і паўд. прамавугольныя звонку і паўцыркульныя знутры апсіды і паўн.-ўсх. слуп крыжовай формы. М.К.Каргер прапанаваў рэканструкцыю царквы, адпаведна якой падкупальная прастора храма перанесена на адно чляненне на З. Цэнтр. неф завяршаўся паўкруглай апсідай, бакавыя нефы – паўкруглымі нішамі ў сценах, якія не былі абазначаны звонку. З паўд. і паўн. бакоў да асн. аб'ёму далучаліся прытворы з апсідамі. Магчыма, прытвор меўся і ў зах. частцы храма. Сваю рэканструкцыю знешняга выгляду храма прапанаваў таксама Г.В.Штыхаў. Згодна з ёй, фасады аздабляліся лапаткамі складанага профілю, закамарамі, аркатурнымі паясамі. Інтэр'ер размаляваны фрэскамі, падлога выкладзена маёлікавымі пліткамі.

Аналагам полацкага храма з'яўляецца пабудаваны ў апошняй чв. 12 ст. сабор Архангела Міхаіла ў Смаленску, для якога полацкі храм быў прататыпам. Выходзячы з блізкага размяшчэння полацкага храма да княжацкага палаца 12 ст. выказана меркаванне, што храм быў «княжацкім» ці знаходзіўся на княжацкім двары.

Матэрыялы раскопак знаходзяцца ў архіўным фондзе М.К.Каргера ў Ін-це матэрыяльнай культуры Расійскай АН у Санкт-Пецярбургу. Цяпер на месцы храма размешчаны адзін з будынкаў Полацкай бальніцы.

*Літ.:* К а р г е р М.К. К истории полоцкого зодчества XII в.: (руины вновь открытого храма на Верхнем замке) // Новое в археологии. М., 1972; Ш т ы х о в Г.В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.). Минск, 1975; Р а п п о п о р т П.А. Русская архитектура X–XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982 (САИ. Вып. Е1–47).

*С.В.Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКІ КНЯ́ЖАЦКІ ЦЕ́РАМ**, археалагічны помнік, які размяшчаўся на паўн.-зах. ускраіне *Полацкага Верхняга замка.* У 1976–77 даследаваў П.А.Рапапорт. П.к.ц. уяўляў невял., амаль квадратны ў плане цагляны будынак памерамі 4,7×4,2 м. На З да яго прымыкала меншае па плошчы цаглянае памяшканне памерамі 2,5×2,4 м і зрубавая прыбудова памерамі 5,3×5,4 м. Падмурак складзены з камянёў на вапнавай рошчыне. Аснова падлогі выкладзена камянямі на вапнавай рошчыне, зверху на тонкім пласце гліны быў насціл з дошак. Пытанне аб датаванні церама з'яўляецца дыскусійным. Паводле П.А.Рапапорта, ён быў узведзены ў 3-й чв. 12 ст. разам з царквой Архангела Міхаіла. Аднак гэтаму супярэчыць наяўны археал. матэрыял. Так, спосаб уладкавання падмурка церама сведчыць пра яго будаўніцтва ў 14 ст. Рэшткі самай ранняй з 5 печаў, раскапаных у драўлянай прыбудове, паводле даных дэндра-храналогіі датуюцца 1304. Такім чынам, церам з цэглы і драўляную прыбудову каля яго магчыма датаваць не раней за 14 ст. Можна пагадзіцца з думкай аб прыналежнасці П.к.ц. ў 14–16 ст. да комплексу княжацкага двара. Магчыма, што ў гэты час на Верхнім замку існавала гар. сядзіба князя накшталт Дворышча Яраслава ў Ноўгарадзе. Аднак не выключана прыналежнасць церама да епіскапскага двара.

*Літ.:* Р а п п о п о р т П.А. Полоцкое зодчество XII в. // СА. 1980. № 3; З а я ц Ю.А. О постройке с

изразцовыми печами возле княжеского терема в Полоцке // ГАЗ. 1997. № 12; Д у к Дз. Ад Рагвалода да Івана Грознага: Верхні Замак у сацыяльнай тапаграфіі Полацка // БГЧ. 2010. № 5. *Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКІ КУРГА́ННЫ НЕКРО́ПАЛЬ 9–10 ст.** «Паўночны курганны могільнік» размяшчаўся на правабярэжжы р. Палата, цягнуўся з ПнУ уздоўж правага берага Палаты ад *Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра* на ПдЗ і набліжаўся да выгіну старога рэчышча. Адзіная крыніца, якая пацвярджае яго існаванне, – план С.Пахалавіцкага 1579. Канчаткова разбураны ў 1916 пад час будаўніцтва ваеннага аэрадрома.

«Усходні курганны могільнік» размяшчаўся ўздоўж правага берага р. Зах. Дзвіна. Акрамя плана Пахалавіцкага звесткі аб існаванні тут «курганоў» змяшчаюць Лебедзеўскі летапіс, рэвізія Полацкага пав. 1563 і магістрацкія кнігі 17–18 ст., дзе помнікі згадваюцца пад назвай «валатоўкі». Адзначаны на планах 1707 і 1720-х г. Паступовае разбурэнне засведчана ў актавых кнігах полацкага магістрата пад 1739 (упамінаецца «капаная» валатоўка). Праіснавалі да к. 18 ст. Рэшткі пахавальнага інвентару даследавалі ў 1959 Л.Д.Побаль (жал. меч), у 2005 А.А.Салаўёў (пахавальны керамічны посуд). Насыпы «ўсходняга курганнага могільніка» пачыналіся ў раёне паркана 16 ст. і цягнуліся не менш як на 1500 м на У ад Верхняга замка. На сучаснай карце Полацка гэта адпавядае прасторы паміж вуліцамі Свярдлова, Ніжнепакроўская, Камуністычная і Юбілейная. Пахаванні належаць крывіцка-скандынаўскаму (дружыннаму) насельніцтву.

*Дз.У.Дук, М.А.Плавінскі.*

**ПО́ЛАЦКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены на тэр. Полацкага Верхняга замка ў 1910. Рэчавая частка складалася з 5 цэлых палачкападобных сярэбраных зліткаў (19,4 г; 24,43 г; 93,85 г; 173,75 і 190,65 г) і 39 іх фр-таў, 3 абрубкаў буйных аладкападобных сярэбраных зліткаў, некалькіх нарыхтовак з волава. Манетная частка ўключала 141 (у т.л. 13 фр-таў) зах.-еўрап. дэнарый, 8 перайманняў і некалькі фр-таў куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата.

А н г л і я (17 экз., у т.л. 3 фр-ты): Этэльрэд II [979–1016] – манетныя двары Лінкальн (1), Тэтфард (1), Уолінгфард (1); Канут [1016–35] – манетныя двары Гантынгдан (1), Кембрыдж (1), Кентэрберы (1), Лондан (2), Малмсберы (1); Гаральд I [1035–40] – манетны двор Лондан (1); Гартэкнут [1040–42] – манетныя двары Брысталь (1) і нявызначаны (1); Эдуард [1042–66] – манетныя двары Йорк (1) і нявызначаны (1); пераймanні манет Этэльрэда II (3).

Г е р м а н с к а я  і м п е р ы я (115 экз., у т.л. 8 фр-таў): біскуп Тэадарых [1005–46] – манетныя двары Мец (1), Марсаль (1); нявызначаны эмітэнт часоў арцыбіскупа Попа [1016–47] – манетны двор Трыр (1); нявызначаны эмітэнт (да 1040) – манетны двор Льеж (1); граф Альберт II [1018–64] – манетныя двары Намюр (3), Дынан (3); Генрых III [1039–56] – манетны двор Сель (1); нявызначаныя эмітэнт і манетны двор у зах. частцы Ніжняй Латарынгіі (1); Атон I [936–973] – манетны двор Кёльн (1); Атон III [983–996] – манетны двор Кёльн (3); нявызначаны эмітэнт – манетны двор Кёльн (4); Генрых III [1039–56] – манетны двор Аахен (1); арцыбіскуп Пілігрым [1021–36] – манетны двор Андэрнах (2); нявызначаны эмітэнт часоў арцыбіскупа Германа II [1039–56] – манетны двор Андэрнах(?) (1); біскуп Вільгельм [1054–76] – манетны двор Утрэхт (1); біскуп Бервальд [1027–54] – манетныя двары Давентэр (4), Гронінген (1); Генрых II [1002–24] – манетны двор Тыль (1); Генрых II або Конрад II [1024–39] – манетны двор Тыль (1); граф Бруна III [1038–57] – манетныя двары Болсвард (2), Дакюм (3), Леэвардэн (4); нявызначаныя эмітэнт і манетны двор у Фрысландыі (1); Атон і Адэльгейда (17); нявызначаны эмітэнт – манетны двор Магдэбург (1); нявызначаны эмітэнт сяр. 11 ст. – манетны двор Гітэльдэ (3); біскуп Бруна [1020–36] – манетны двор Мерзебург (1); нявызначаны эмітэнт сяр. 11 ст. – манетны двор Бардовік (1); герцаг Бернгард I [973–1011] – манетны двор Люнебург (1); граф Уда II [1057–82?] – манетны двор Штадэ (2); нявызначаны эмітэнт часоў біскупа Готхарда [1022–38] – манетны двор Гільдэсгайм (3); нявызначаныя эмітэнт (каля 1060–65) і манетны двор на ніжняй Эльбе (1); Генрых II – манетны двор Дортмунд (2); арцыбіскуп Лупольд [1051–59] – манетны двор Эрфурт (1); нявызначаны эмітэнт (каля 1010) – манетны двор Фульда (1); Генрых III [1039–56] – манетныя двары Майнц (3 – чаканка 1039–46, 2 – чаканка 1046–56), Шпеер (4 – чаканка 1039–46); Конрад II – манетны двор Шпеер (3); біскуп Конрад [1056–60] – манетны двор Шпеер (1); герцаг Генрых VI [1028–40] – манетны двор Рэгенсбург (2); нявызначаныя эмітэнты і манетныя двары (15 цэлых і 6 фр-таў дэнарыяў); перайманне трырскай манеты арцыбіскупа Эбергарда [1047–66]; перайманне сяр. 11 ст. манетнага двара Тыль, пераймaнні 11 ст. манетнага двара Шпеер (3).

В е н г р ы я (2 экз.): Стэфан [997–1038], Андрэй [1046–61] – нявызначаныя манетныя двары.

Ч э х і я (1 экз.): Бржэтыслаў I [1034–55] – нявызначаны манетны двор.

Манетападобныя пласцінкі, метралагічна блізкія да дэнарыя (? экз.).

Скарб схаваны ў 1070-я г. Частка захоўваецца ў Дзярж. гіст. музеі Расійскай Федэрацыі (Масква).

*Літ.:* Р о м а н о в Е.Р. Еще два клада близ древнего Лукомля // Изв. имп. археол. комиссии. Санкт-Петербург, 1904. № 6; П о т и н В.М. Причины прекращения притока западноевропейских монет на

Русь в XII в. // Международные связи России до XVII в. М., 1961; Яго ж. Находки западноевропейских монет на территории Древней Руси и древнерусские поселения // Нумизматика и эпиграфика. М., 1962. Т. 3; Яго ж. Топография находок западноевропейских монет X–XIII вв. на территории древней Руси // Тр. Гос. Эрмитажа. Нумизматика. Ленинград, 1967. Т. 9, № 3; Штыхаў Г.В. Полацкі скарб 1910 года // ВАНБ. 1962. № 3; Яго ж. Клады Полоцкой земли IX–XIII вв. (топография и общая характеристика) // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі: новыя матэрыялы і даслед. Мінск, 1991; Яго ж. Манетныя і манетна-рэчавыя скарбы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 4. Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII стст.); Рябцевич В.Н. Денежные депозиты Полоцкой земли конца X – начала XIV вв. // ГАЗ. Мінск, 2000. № 15. *Ш.І.Бекціневў.*

**ПО́ЛАЦКІ НІ́ЖНІ ЗА́МАК**, Стралецкі замак, помнік археалогіі і фартыфікацыі. Пабudаваны па загаду Івана IV Грознага ў 1563 пасля ўзяцця Полацка рус. войскамі. Пл. 6 га. Прымыкаў да *Полацкага Верхняга замка* і злучаўся з ім форткай. З Пн і З абмяжоўваўся рэчышчам Палаты, з У аддзяляўся ад тэр. Вял. пасада валам даўж. каля 600 м, выш. да 10 м, шыр. у аснове каля 30 м і ровам, па дне якога працякаў ручай. Першыя звесткі пра Ніжні замак і вал сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах 2-й пал. 16 ст. (Маскоўскі летапісны звод), калі пад кіраўніцтвам баярына П.І.Шуйскага ваяводы П.Зайцаў і Б.Шчокін узводзілі ўмацаванні горада. Пры насыпе вала было выкарыстана каля 230 тыс. м³ грунту, пераважная частка якога была ўзята з месца, дзе капалася новае рэчышча Палаты (паміж стараж. *Полацкім гарадзішчам* і *Полацкім перадграддзем*). Паводле плана 1579 С.Пахалавіцкага, на вале было 8 вежаў. У цэнтры замка стаяла вежа-данжон. Свайго баявога прызначэння П.Н.з. не выканаў, бо ў 1579 войскі Стэфана Баторыя штурмавалі полацкія ўмацаванні з зах. боку Верхняга замка. У сяр. – 2-й пал. 17 ст. вежы і сцены замка былі заменены «тынам стаячым». У пач. 17 ст. тэр. Ніжняга замка была ўключана ў *Полацкі Вялікі пасад.*

Даследавалі ў 1959 Л.Д.Побаль, у 1962 і 1964 Г.В.Штыхаў, у 1986, 1989, 1990 С.В.Тарасаў, у 2008 Дз.У.Дук. Культ. пласт 1,5–3 м перамешаны ў выніку шматлікіх перапланіровак замка. Некранутымі засталіся толькі напластаванні раннефеад. часу, якія аддзяляюцца ад пластоў 12–17 ст. глінянай падсыпкай з дамешкамі суглінку таўшч. 0,1–0,4 м, што ўзнікла пад час нівеліроўкі тэр. і будаўніцтва замка пасля 1563.

У 1984 на тэр. замка, дзе сёння размешчаны стадыён «Спартак», знойдзены скарб залатых рэчаў 9–10 ст. *С.В.Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКІ РЭ́ЧАВЫ СКАРБ**. Знойдзены ў 1984 на тэр. *Полацкага Ніжняга замка.* Складаецца з 6 залатых (проба 958) рэчаў 9–10 ст., магчыма, выраблених у Полацку: бранзалет 9 ст. з 4-граннага дроту (маса 78,41 г); бранзалет з круглага тоўстага дроту з завязанымі канцамі, разламаны альбо рассечаны на 2 часткі (48,64 і 41,77 г); бранзалет з круглага дроту (29,68 г); бранзалет (альбо частка грыўні) 10 ст., скручаны з 4 дратоў (54,07 г); фр-т грыўні 10 ст., сплецены з 4 дратоў, з часткай яе замка (41,56 г). Скарб схаваны ў 2-й пал. 10 ст. Зберагаецца ў Нац. Полацкім гісторыка-культ. запаведніку.

*Літ.*: Корзухина Г.Ф. Русские клады IX–XIII вв. Ленинград, 1954; Штыхаў Г.В. З часоў Рагнеды // Беларусь. 1985. № 2. *У.М.Мілюцін.*

**ПО́ЛАЦКІ САФІ́ЙСКІ САБО́Р**, помнік архітэктуры 11–18 ст. Першы мураваны хрысціянскі храм на тэр. Беларусі. Узведзены пры Усяславу Брачыславічу ў 1044–66 (паводле інш. звестак у 1050–55). Не выключана магчымасць пачатку будаўніцтва сабора ў часы Брачыслава Ізяславіча (каля 1003–44). Размяшчаецца на правым беразе р. Зах. Дзвіна на тэр. Верхняга замка. Неаднаразова гарэў (1607 і 1643), быў амаль цалкам знішчаны ў выніку выбуху пораху ў 1710. Сучаснае аблічча набыў у 18 ст.

Даследавалі ў 19 ст. А.М.Паўлінаў, у 1909 і 1913 П.П.Пакрышкін. У 1926 сабор вывучалі М.М.Шчакаціхін і І.М.Хозераў (апошні паўторна ў 1946), якія рабілі абмеры і прапанавалі першыя варыянты рэканструкцыі храма. У 1929 А.І.Някрасаў даследаваў рэшткі фрэскавых роспісаў. У 1967 невял. раскопкі правёў М.К.Каргер. У 1975–80 даследаванні праводзіла экспедыцыя Ленінградскага дзярж. ун-та пад кіраўніцтвам

*Полацкі Сафійскі сабор 12 ст. (рэканструкцыя Г.В.Штыхава).*



Вал.А. і Вас.А. Булкіных. Былі выяўлены рэшткі дзвярнога праёма, прытвора, прыбудоў да ўсх. частак храма. Вал.А.Булкіным прапанавана рэканструкцыя знешняга аб'ёму сабора з паўн.-ўсх. вежай, праз якую ажыццяўлялася выхад на хоры.

Першапачатковая Сафія – 5-нефавы крыжова-купальны храм, у плане блізкі да квадрата (26,5×25,5 м). Паводле летапісных звестак меў 7 купалоў (некаторыя даследчыкі налічваюць 5). Ва ўсх. частцы 3 гранёныя апсіды. Сцены складзены з тонкай цэглы-плінфы і прыроднага каменю ў тэхніцы «візантыйскай муроўкі» з т.зв. «схаваным радам» (прамежак паміж 2–3 выступаючымі цаглінамі на вонкавых сценах запаўняўся вапнай з тоўчанай цэглай – «цамянкай»), што надавала храму шматколернасць у ружова-чырвоных танах. Асн. памеры цэглы 3,5×23–24,5×33,5–35 см. На некаторых цаглінах выпуклыя і прарэзаныя знакі. Унутраная прастора сабора дзялілася на падоўжаныя нефы 16 крыжовымі ў плане слупамі і 3 круглымі, якія падтрымлівалі хоры. Асаблівасцю ўнутранай планава-прасторавай кампазіцыі П.С.с. з'яўляюцца вузкія бакавыя нефы (надаюць выцягнутасць кампазіцыі) і наяўнасць т.зв. «вімы» – прасторы, што аддзяляла алтар ад астатняга аб'ёму. У 12–13 ст. з паўд., паўд.-ўсх. і паўд.-зах. бакоў да сабора былі прыбудаваны памяшканні, якія ахоплівалі і ўключалі ва ўнутраную прастору пачатковыя апсіды. Тут знаходзіліся пахавальні-крыпты, капліца з прамавугольнай у плане апсідай. Пасля апошняга разбурэння сабор быў адбудаваны ў 1738–50 па праекце архітэктара І.К.Глаўбіца і каменшчыка Б.Касінскага ў стылі позняга барока. Алтарная апсіда была перанесена на Пн. П.С.с. прыняў выгляд 3-нефавай базілікі з 2 шмат'яруснымі вежамі на паўд. фасадзе. Сучасная рэстаўрацыя па праекце В.Р.Слюнчанкі была скончана ў 1985. У храме створана канцэртная зала з арганам, а таксама музейная экспазіцыя з кансервацыяй падмуркаў 11 ст.

*Літ.*: Хозераў І. Полацкае будаўніцтва старадаўняга перыяду // Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мінск, 1928. Кн. 6. Працы гісторыі мастацтва. Т. 1; Раппопорт П.А. Русская архитектура X–XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982 (САИ. Вып. Е1–47); Булкин В.А. Софийский собор в Полоцке: (к вопросу о зап. апсидах) // Древнерусское искусство: худож. культура 10 – первой половины 13 вв. М., 1988; Слюнченко В.Г. Полоцкий Софийский собор. Минск, 1987. *С.В.Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКІЯ ЗАДЗВІ́НСКІЯ ПАСА́ДЫ**, археалагічныя помнікі ў г. Полацк, на левым беразе р. Зах. Дзвіна. У 1552 згадваюцца Слабадскі, Востраўскі, Крыўцоў і Экіманскі пасады. У 1632–33 Слабадскі і Востраўскі пасады ўвайшлі ў склад Крыўцовага. Тэр. Старой Слабады (правы бераг пры вусці р. Бельчыца) і Вострава (у рукаве р. Зах. Дзвіна) заселены з к. 10–11 ст. Крыўцоў і Экіманскі пасады заселены на мяжы 15–16 ст.

Даследавалі ў 1959 Л.Д.Побаль, у 1976 П.А.Рапапорт, у 1987–88 С.В.Тарасаў, у 1996 М.В.Клімаў, у 2005 А.А.Салаўёў, у 2000, 2009 Дз.У.Дук.

Пл. Крыўцовага пасада (разам з Вострavам і Слабадой) у 16 ст. каля 22 га, Экіманскага – каля 7 га. На тэр. Крыўцовага пасада ў 17 ст. сялілася гандл.-рамеснае насельніцтва. Вядомы вуліцы Чортава (Крыўцоў), Прабойная (Слабада), Праезжая (Востраў). Крыўцоў пасад фарміраваўся на працягу 2-й пал. 15–17 ст. У 1552 буйнейшымі тэрытарыяльнымі адзінкамі на левабярэжжы р. Зах. Дзвіна з'яўляліся «пасады» Востраўскі, Слабадскі і Крыўцоў. Сумарная колькасць іх двароў складала 284 (103 двары на Слабадскім пасадзе, 30 – на Крыўцовым, 151 – на Востраўскім). Слабая заселенасць Крыўцовага пасада ў сяр. 16 ст. сведчыць пра адсутнасць разгалінаванай інфраструктуры. Людзі сяліліся на беразе Зах. Дзвіны, на ўзвышшы надпоймавай тэрасы. Насельніцтва Слабадскога пасада паводле рэвізіі 1552 складала 103 мешчаніны. Культ. пласт цягнецца ўздоўж р. Зах. Дзвіна паласой шыр. каля 150 м, магутнасцю 0,5–1,5 м. Слабада і Востраў у 17–18 ст. з'яўляліся часткамі Крыўцовага пасада. На Востраве ў 11–16 ст. існаваў манастыр Іаана Прадцечы, які апошні раз упамінаецца ў рэвізіі 1618. У 17 ст. на Крыўцовым пасадзе вылучаліся Востраў, Кабак, Старая і Новая Слабоды. Найб. ранняя па храналогіі група артэфактаў выяўлена ў 2009 у Старой Слабадзе на правым беразе р. Бельчыца. Знойдзены венца ляпнога, загладжанага на ганчарным крузе гаршка, якое датуецца 10 – пач. 11 ст., чорная шкляная пацерка з 14-граннымі зрэзанымі вугламі 10–11 ст. Гэта сведчыць пра магчымасць засялення Старой Слабады ў 10 ст. Кераміка 11–13 ст. прадстаўлена пераважна выразнымі S-падобнымі па профілі венцамі гаршкоў. Кераміка 14–15 ст. нешматлікая, сярод керамікі 16–18 ст. вылучаюцца фр-ты місак, венцы гаршкоў. На тэр. Крыўцовага пасада па-за межамі Старой Слабады знойдзена кераміка, тыповая для 16–18 ст., у т.л. кафля. Старая Слабада размешчана пры ўпадзенні р. Бельчыца ў Зах. Дзвіну, праз яе праходзіў шлях на Мінск і Кіеў. Каля яе ў 12 ст. быў засн. Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр. Поўная аўтаномія дадзенай тэр. засведчана ў рэвізіі 1552, якая вызначае пасяленне ўжо як полацкі пасад. У 17–18 ст. тапонімы «Старая Слабада» і «Новая Слабада» азначаюць толькі тэрытарыяльныя часткі Крыўцовага пасада.

У 16–18 ст. Экіманскі пасад з'яўляўся юрыдыкай Полацкага езуіцкага калегіума. На пасадзе вядомы вуліцы Баярская, Віленская, Езеньская, а таксама мясцовасць Баяршчына з вул. Вялікая. Экіманскі пасад меў уласны рынак. З 18 ст. вядомы як цэнтр ганчарнай вытворчасці. Даследаваны ў 2009. Культ. пласт 0,3–1,5 м, утварыўся ў 2-й пал. 15–19 ст. Артэфактаў, ранейшых за 15 ст., не

выяўлена, за выключэннем крыжа-энкалпіёна 12 ст., знойдзенага Н.С.Баравік на агародзе побач з б. Георгіеўскай царквой. Назва «Экімань» паходзіць ад назвы храма Іаакіма і Ганны (1552). У рэвізіі 1552 Экімань згадваецца як паселенне з развітай тапаграфічнай структурай. На тэр. пасада было 269 двароў. Экімань з'яўлялася другім па значнасці паселенням у тапаграфічнай структуры горада, саступаючы толькі *Полацкаму Вялікаму пасаду* (769 двароў). Пасад быў заселены залежнымі ад баяр і духавенства людзьмі. Многія жыхары Экіманскага і Крыўцовага пасадаў займаліся агародніцтвам. Згодна з данымі пісьмовых крыніц 17–18 ст. на тэр. Экіманскага пасада размяшчаліся касцёл і царква. У 2000 і 2009 выяўлены падмуркі і цвінтар царквы. Падмуркі складаліся з цэглы на вапнавай рошчыне, памеры цагліны набліжаны да памеру плінфы (31×15×4,5 см). Падмуркі і цвінтар належалі драўлянай уніяцкай царкве св. Мікалая, якая была разбурана ў сяр. 19 ст. Час яе будаўніцтва застаецца нявысветленым. Царква св. Георгія, згаданая ў пісьмовых крыніцах сяр. 17 ст., перабудаваная ў 1736 у касцёл, а ў 1863 у праваслаўную царкву, праіснавала да 1944.

*Літ.*: Дук Дз.У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада. Наваполацк, 2007. *Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКІЯ МАНАСТЫРЫ́**, помнікі археалогіі і архітэктуры ў г. Полацк.

Барысаглебскі (Бельчыцкі) манастыр быў размешчаны на левым беразе Зах. Дзвіны пры вусці р. Бельчыца. Засн. ў 12 ст. На яго тэр. знаходзіліся 4 царквы 12 ст.: Вял. сабор, Пятніцкая і Барысаглебскія цэрквы, храм-трыконх. Культ. пласт даследаваны ў 2003 і 2007 пад час археал. нагляду за пракладаннем траншэй. У 2003 траншэя цеплатрасы шыр. 1,5 м на глыб. 1–1,5 м перасякала былую манастырскую тэр. з ПдУ на ПнЗ. Траса закранула рэшткі Барысаглебскай царквы. Высветлена, што ў 18 ст. царкву значна перабудавалі, з У была зроблена прамавугольная апсіда з брусковай буйнафарматнай цэглы. Зах. частка храма знішчана пры ўзвядзенні жылога дома ў 1960-я г. У 2007 на адлегласці каля 35–100 м на З ад траншэі 2003 была паралельна пракладзена другая траншэя. Культ. пласт каля 1 м, які яна закранала, утварыўся ў 14–19 ст. Асн. культ. напластаванні датуюцца 15–16 ст. У гэтым пласце знойдзены адзінкавыя фр-ты керамікі і плінфа 12 ст. Папулярная ў гістарыяграфіі думка пра размяшчэнне княжацкай рэзідэнцыі і княжацкага двара з 12 ст. па-за межамі горада не атрымала археал. пацвярджэння. Слядоў крапасных сцен не выяўлена. Культ. пласт 12–14 ст. адсутнічае. Стратыграфія культ. напластаванняў адрозніваецца ад вядомай княжацкай рэзідэнцыі на *Полацкім гарадзішчы*. Паведамленне летапісу 1159 пра размяшчэнне дружыны кн. Расціслава ў Бельчыцы, якое і стала асновай для лакалізацыі княжацкай рэзідэнцыі 12 ст., падкрэслівае значнасць фартыфікацыйнай функцыі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра, што знаходзіўся ў зручным месцы на шляху ў Мінск.

Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі (Спаса-Праабражэнскі) манастыр. Размешчаны за 2,5 км на Пн ад *Полацкага Верхняга замка* ў мясцовасці, якая звалася Сяльцо і належала полацкаму епіскапу. Сёння раён вул. Ефрасінні Полацкай на правым беразе Палаты. У 1-й пал. 12 ст. па просьбе Ефрасінні быў закладзены жаночы манастыр, дзе яна стала ігуменняй. На тэр. манастыра ў 12 ст. існавалі 2 храмы, у т.л. Полацкая Спаса-Праабражэнская царква. Другі храм (умоўная назва – Царква-пахавальня полацкіх епіскапаў) знаходзіўся на ПдУ ад Спаскай царквы. Часткова захаваліся падмуркі і сцены. Гэта быў 3-нефавы, 4-слупавы, 1-апсідны (2 бакавыя апсіды схаваны ва ўсх. сцяне) крыжова-купальны храм. Памеры 14,85×17,2 м (даўжыня без апсіды, якая была знішчана ў 19 ст. манахамі пад час капання сховішча для гародніны). З трох бакоў да храма прымыкалі прытворы-галерэі (шыр. 4,1 м), дзе размяшчаліся выкладзеныя з цэглы пахавальні і меліся самастойныя невял. капліцы-апсіды. Лесвіца на хоры была зроблена ўнутры зах. храмавай сцяны, аналагічна Спаскай царкве. Партал аздабляла паўкалонка, фасады – лапаткі ступеньчатага профілю, інтэр'ер храма – фрэскавы роспіс, мазаіка і маёлікавая падлога. Сцены храма складзены з цэглы-плінфы ў тэхніцы муроўкі са «схаваным радам». У цагляных камерах знойдзены рэшткі мужчынскіх пахаванняў. Храм загінуў у пажары, аб чым сведчыць наяўнасць плаўленага свінца дахавага пакрыцця ў пахавальных крыптах. Даследаваўся ў 1947, 1961–62, 1964 археал. экспедыцыяй Ленінградскага ун-та (кіраўнік М.К.Каргер). З'яўляецца ўзорам *Полацкай архітэктурнай школы.* Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Ін-це матэрыяльнай культуры Расійскай АН (г. Санкт-Пецярбург). Тэр. манастыра даследавалася ў 1986, 1992 С.В.Тарасавым. Культ. пласт 1,5 м, моцна пашкоджаны перакопамі і перапланіроўкамі. Знойдзены посуд і бытавыя рэчы 12 ст., амфары, свінцовая віслая пячатка 12 ст. з выявай Спаса і надпісам «госпадзі памазі рабе...». Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Нац. Полацкім гісторыка-культ. музеі-запаведніку.

Манастыр Іаана Прадцечы. На Вострраўскім пасадзе, на левым беразе р. Зах. Дзвіна насупраць Верхняга замка. Упершыню згадваецца ў скандынаўскай сазе пра Торвальда Вандроўніка. У айчынных пісьмовых крыніцах, граматах вядомы з 14 ст. Рэштках мураваных пабудоў не выяўлена. Тэр. манастыра даследавалі ў 1959

Л.Д.Побаль, у 1987 С.В.Тарасаў. Культ. пласт у зах. частцы пасада да 0,5 м, ва ўсх. 1–1,5 м. Значна пашкоджаны пахаваннямі больш позняга часу. Знойдзены фр-ты плінфы і посуду 11–13 ст., керамічны матэрыял 14–17 ст.

*Літ.*: Д у к Д. Величие и безвестие: храмы Бельчицкого Борисоглебского монастыря в Полоцке // Родина. 2008. № 8; Я г о ж. От вассалитета до равноправия: социальные элиты Новгорода и Полоцка в IX–XIII вв. // Там жа. 2009. № 9; Я г о ж. К итогам археологического надзора за строительными работами на территории Бельчицкого Борисоглебского монастыря в городе Полоцке в 2003 г. // Труды Государственного Эрмитажа. Санкт-Петербург, 2009; [Т.] 46. Архитектура и археология Древней Руси: материалы науч. конф., посвящ. 100-летию со дня рождения М.К.Каргера (1903–1976).

*Дз.У.Дук, С.В.Тарасаў, Г.В.Штыхаў.*

**ПО́ЛАЦКІЯ МО́ГІЛКІ 12–18 ст.**, археалагічныя помнікі ў г. Полацк. Адзінкавае пахаванне 12–14 ст. выявіў на *Полацкім гарадзішчы* ў 1987 Я.І.Лешчык. Пры касцяку знойдзена 35 ракавін кауры, 2 шкляныя зонныя пацеркі 12–13 ст., якія былі пакрыты белай пацінай, бронзавыя віты двухдротавы пярсцёнак і бранзалет са змеепадобнымі галоўкамі 11–14 ст. Пахаванні 12 ст. ўнутры цэркваў у цагляных саркафагах выяўлены ў прыбудовах да *Полацкага Сафійскага сабора*, храме-пахавальні полацкіх епіскапаў у *Полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры*, каля цэркваў на стрэлцы *Полацкага Ніжняга замка* і на рове (*Полацкая царква Раства Хрыстова*). Баяры маглі быць пахаваны пры царкве Багародзіцы, якая згадваецца пад 1159. Цагляныя склепы (крыпты) адкрыты ў непасрэднай блізкасці ад т.зв. царквы на рове. Могілкі 15–16 ст. існавалі ва ўсх. частцы Вострава на месцы размяшчэння манастыра Іаана Прадцечы (раскопкі Л.Д.Побаля ў 1959), на стрэлцы Ніжняга замка (раскопкі П.А.Рапапорта ў 1976–77, Дз.У.Дука ў 2008). У 2007 Дз.У.Дук і ў 2009 М.В.Клімаў даследавалі каталіцкія могілкі 17–18 ст. на гарадзішчы. У 2003 Дз.У.Дук вывучаў пахаванні на тэр. б. *Полацкага езуіцкага калегіума*, у 2009 – на Экіманскім пасадзе каля уніяцкай царквы св. Мікалая. Характэрная прыкмета пахаванняў 17–18 ст. – вельмі бедны пахавальны інвентар, які ў асн. прадстаўлены алавянымі крыжыкамі на грудзях памерлага (большасць з іх не захавалася з-за карозіі). Пра адзенне нябожчыкаў даных практычна няма. Часам у верхняй частцы шкілетаў сустракаюцца бронзавыя зашпількі і шкляныя ґузікі. Верагодна, некаторых нябожчыкаў апраналі ў лёгкую кашулю на зашпільках і ґузіках, большасць памерлых – у кашулю без зашпілек. Пахавальнага абутку не выяўлена. Большасць пахаванняў арыентаваны галавой на З, меншая частка – на ПнЗ, некаторыя здзейснены на месцы старых: касцякі памерлых перакрываюць адзін аднаго. Кляштарныя пахаванні дамініканцаў 18 ст. выяўлены С.В.Тарасавым у 1987. У 2003 Дз.У.Дукам былі адкрыты могілкі ў Запалоцці, у 2005 праведзены археал. даследаванні на цвінтары Богаяўленскага манастыра 16–18 ст., у 2005 – у крыптах *Полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы* Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Выяўлены перапахаванні 2-й пал. 18 ст. Паводле пісьмовых крыніц вядомы яўрэйскія могілкі на У ад цвінтара Пакроўскай царквы (1781). Яшчэ адзін яўрэйскі могільнік існаваў у Задзвінні (б. Крыўцоў пасад) на тэр. Старой Слабады. Трэці (самы вялікі, пл. 6,72 га) трапіў у зону новабудоўляў і ліквідаваны ў 1950-я г. Размяшчаўся па вул. Ленінградская. Паводле плана *Полацка* 1707 на тэр. Крыўцовага пасада існавалі вял. могілкі з капліцай. У 16–18 ст. могільнікі працягвалі існаваць і каля ўсіх буйных манастыроў – Спаса-Ефрасіннеўскага, Барысаглебскага, Богаяўленскага. Праваслаўныя могілкі размяшчаліся і каля згаданага ў полацкай рэвізіі манастыра св. Міхаіла на Ґарадку («Ґарадцы»). Каталіцкі могільнік «Ксаверыя» быў закладзены езуітамі ў к. 16 ст. Могільнік «Фатынаўка» ўзнік не раней сяр. 18 ст. Таксама гар. могілкамі з'яўляліся староверскія каля вёсак Грамы і Граменкі (сяр. 18 ст.) і Чырвоныя (к. 18 ст.).




*Тапаграфія* ***Полацкіх могілак*** *12–18 ст.*

*Літ.*: П а с а д с к а я Ж. Гістарычныя могільнікі Полацка. Да праблемы іх вывучэння і аховы // Гісторыя

і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы III міжнар. навук. канф. Полацк, 1998; Дук Дз.У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада. Наваполацк, 2007; Дэйніс І.П. Полацкая даўніна. Мінск, 2007; Емяльянчык В.А. Вынікі антрапалагічных даследаванняў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў 1998–2008 гг. // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў: (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара, Полацк, 20–21 лістап. 2008 г. Наваполацк, 2009; Яе ж. Население Полоцка XVII–XVIII веков по данным антропологии (по материалам раскопок на полоцком городище) // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. 2009. № 1.

*Дз.У.Дук.*

**ПО́ЛАЦКІЯ СЕЛЬСКАГАСПАДА́РЧЫЯ ПРАДМЕ́СЦІ**. Вядомы з пісьмовых крыніц 14–18 ст. Асн. з іх – «сяльцо» Прасмужкі на У ад *Полацкага Вялікага пасада* за валатоўкамі (згадваецца ў 14–18 ст.), манастыр св. Мікалая на Лучне на месцы сучаснай в. Ропна за 5 км уніз па р. Зах. Дзвіна, каля якога, верагодна, існавала слабада (манастыр згадваецца ў акце аб продажы зямлі полацкаму архіепіскапу Іоне пад 1487 як размешчаны ў Полацку), фальваркі 17–18 ст. размяшчаліся на тэр. сучаснага мікрараёна Аэрадром (на ПнУ ад *Полацкага Запалоцкага пасада*). *Дз.У.Дук.*

**«ПО́ЛОЦКИЙ ЛЕТОПИ́СЕЦ»**, гістарычна-літаратурны часопіс, прысвечаны гісторыі Полацка і Полацкай зямлі. Засн. ў 1992. Выдадзена 2 нумары (у 1992 і 1993). У «П.л.» друкаваліся працы У.А.Арлова, Л.Ф.Данько, Л.У.Дучыц, Ю.А.Зайца, Г.В.Ласкавага, У.М.Мілюціна, А.П.Сапунова, А.М.Семянтоўскага, С.В.Тарасава і інш.

*Літ.*: Полоцкий летописец. Полоцк, 1992. № 1; Тое ж. 1993. № 1. *Л.Ф.Данько, Ю.А.Заяц.*

**«ПО́МНІКІ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ БЕЛАРУ́СІ»**, інфармацыйны навукова-метадычны бюлетэнь Бел. добраахвотнага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры. Выдаваўся ў 1970–89 на бел. мове ў Мінску. Сістэматычна змяшчаў справаздачы пра з'езды т-ва, пленумы яго Рэспубліканскага савета, матэрыялы пра работу абл. і раённых аддзяленняў. Друкаваліся і агульныя артыкулы па археалогіі, публікацыі пра асобныя помнікі, рэгулярна змяшчаліся справаздачы археал. экспедыцый. Шмат артыкулаў прысвечана аналізу археал. знаходак. Закраналіся пытанні пошуку і аховы археал. помнікаў. *У.Дз.Будзько.*

**«ПО́МНІКІ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУ́СКАЙ КУЛЬТУ́РЫ: НО́ВЫЯ АДКРЫ́ЦЦІ»**, выданне Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Прысвечана знаходкам і даследаванням у галіне стараж.-бел. культуры па выяўленчым мастацтве, архітэктуры, гісторыі




*Вокладка зборніка «Полоцкий летописец».*

культуры, археалогіі і інш. Выйшлі 3 зборнікі. У першым (выйшаў у 1984) змешчаны артыкулы па археалогіі Л.Д.Побаля «Сярэдневяковыя славянскія старажытнасці Беларускага Падняпроўя: (па матэрыялах археалагічных доследаў у в. Тайманава Магілёўскай вобласці, II–IX стст. н.э.)», Г.В.Штыхава «Новыя раскопкі ў Полацку», А.А.Трусава «Кафля Мірскага замка», В.Е.Собаля і У.В.Угрыновіча «Кафля Мінска XV–XVIII стст.», В.М.Ляўко «Абутак з культурнага слоя Віцебска XIV–XVIII стст.». Другі зборнік пад назвай «Помнікі культуры: новыя адкрыцці» выйшаў у 1985. Артыкулы па археалогіі: У.П.Ксяндзова «Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна», М.М.Чарняўскага «Старажытны бурштын Паўночнай Беларусі», Г.М.Залашкі «Скіфскія помнікі на поўдні Беларусі», Л.У.Дучыц «Культура паўночна-заходняй ускраіны Полацкага княства: (па матэрыялах гарадзішча Маскавічы)», Г.В.Штыхава «Гарадзішча Гарадзец на рацэ Мнюта», Л.У.Калядзінскага і М.А.Ткачова «Драўляныя вырабы і дрэваапрацоўка ў сярэдневяковым Віцебску», Ю.А.Зайца «Зброя бліжняга бою, рыштунак конніка і верхавога каня з раскопак Заслаўя», А.А.Трусава і І.М.Чарняўскага «Керамічныя падлогі ў інтэр'ерах помнікаў дойлідства беларускага сярэдневякоўя», Н.І.Здановіч і А.А.Трусава «Мсціслаўскі посуд XV–XIX стст.». Трэці зборнік пад назвай «Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даследаванні» выйшаў

*Наканечнікі* ***похваў*** *мячоў, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі: 1 – месца не вызначана; 2 – у в. Сцяпуры; 3 – у Полацку.*




у 1989. Артыкулы па археалогіі: М.М.Чарняўскага і Я.Г.Звяругі «Каменная выява з-пад Даўгінава», Л.У.Дучыц «Культавыя камяні Беларусі», Г.В.Штыхава «Выраб старабеларускай дробнай пластыкі», Ю.А.Зайца «Мінская брама XII ст.», В.М.Ляўко «Замак Езярышча», Г.М.Сагановіча «Кавальскія вырабы сярэдневяковага Мсціслава», М.І.Лашанкова «Грузікі мілаградскай культуры з усходнепалескіх гарадзішчаў», А.А.Трусава і У.В.Угрыновіча «Тыпалогія і храналогія лідскай кафлі». *Г.В.Штыхаў.*

**ПО́ХВЫ**, чахол для захавання і нашэння клінковых прылад працы і зброі. Выкарыстоўваліся з глыбокай старажытнасці. Археал. знаходкі П. нажоў і іх накладак паходзяць з культ. пластоў сярэдневяковых бел. гарадоў, сельскіх паселішчаў і пахавальных помнікаў. П. звычайна рабіліся з аднаго кавалка скуры, хаця сустракаюцца і састаўныя, якія прызначаліся для нажоў вял. памераў; маглі ўпрыгожвацца цісненым ці праразным узорам, металічнымі акоўкамі і накладкамі. Асобную групу складаюць П. клінковай зброі – мячоў і шабляў. Выконваючы утылітарную функцыю, яны дадаткова з'яўляліся сімвалам маёмаснага і сацыяльнага статуса іх уладальнікаў. П. мячоў мелі драўляную аснову з 2 дошчачак, якая магла абклейвацца тканінай. На такую аснову нацягвалася «панчоха» са скуры. П. маглі багата ўпрыгожвацца металічнымі заклёпкамі, накладкамі і наканечнікамі. Фр-ты П. мячоў знойдзены на Старым замку ў Гродне (сяр. 12 ст.) і ў *Гомельскай зброевай майстэрні* (сяр. 13 ст.). Наканечнікі П. мячоў 10–13 ст. знойдзены на гарадзішчах Гарадзішча Мінскага р-на, *Маскавічы, Франопаль, Юравічы*, у курганных могільніках *Ашмянец, Гурковічы*, у Ваўкавыску, Гальшанах, Гомелі, Друцку, Капылі, Літвінавічах Кармянскага р-на, *Мсціславе*, Навагрудку, Оршы, Полацку, в. Сцяпуры Капыльскага р-на. П. шабляў, як і мячоў, складаліся з драўлянай асновы, абцягнутай скурай. Дэталі П. шабляў на тэр. Беларусі нешматлікія: абойма з гарадзішча Вішчын, наканечнік з Гомельскай зброевай майстэрні (сяр. 13 ст.) і познасярэдневяковы наканечнік з гарадзішча Гарадзішча.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мінск, 2001; Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – кан-



*Да арт.* ***Пояс.*** *Паясныя накладкі з могільніка Замошша Талачынскага раёна (з фондаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея).*

цы XVI ст. Мінск, 2008; Плавінскі М.А. Нарысы гісторыі клінковай зброі X–XIII стагоддзяў на Беларусі. Мінск, 2009. *М.А.Плавінскі.*

**ПО́ЯС** (пас), доўгая паласа суцэльнай або вязанай (плеценай) тканіны альбо скуры, якой падпяразваюцца. Да П. мацаваліся спражкі, наканечнікі, накладкі, абойміцы, кольцы, кручкі. Гарнітура выраблялася з бронзы і медзі, радзей з жалеза. На П. насілі зброю, амулеты, кашалькі і інш. Вядомы з бронзавага веку (могільнік Страліца сярэднедняпроўскай культуры). У жал. веку П. траплялі на тэр. Беларусі ў якасці прадметаў імпарту. П. ясторфскай культуры (могільнік *Атвержычы* Столінскага р-на, 1 ст. да н.э.) быў скураны з бронзавымі пласцінамі і бляшкамі, завяршаўся жал. пласцінай, пакрытай бонзавым арнаментаваным лістом, і кручком для мацавання. У 2–4 ст. асобныя дэталі П. правінцыйна-рымскага паходжання сустракаюцца на могільніках *Велямічы*, *Брэст-Трышын*, *Пятровічы* і інш. Да 3-й чв. 1-га тыс. адносіцца скураны П. з бронзавымі дэталямі, знойдзены ў рэчавым скарбе на гарадзішчы *Нікадзімава*. У к. 9–10 ст. складваецца стараж.-рус. «дружынная культура». Адным з найб. яскравых элементаў яе быў наборны П., які стаў своеасаблівым сімвалам воіна. Дружынныя П. з бронзавымі бляшкамі знойдзены на курганных могільніках *Вітунічы* (10 ст.), *Заслаўе* (10–11 ст.), *Замошша* (10 ст.), *Шо* (11 ст.). У час феад. раздробленасці ў к. 12 – пач. 13 ст. роля наборнага П. паступова страчваецца. Канчаткова ён выходзіць з ужытку пасля мангольскага нашэсця, калі былі знішчаны цэнтры вытворчасці раменнай гарнітуры.

*Літ.*: Ковалевская В.Б. Поясные наборы Евразии IV–XII вв. Пряжки. М., 1979 (САИ. Вып. Е1–2); Мурашева В.В. Древнерусские ременные наборные украшения (X–XIII вв.). М., 2000.

*Л.У.Дучыц, П.М.Кенька.*



*Да арт. **Пояс**. 1 — наборны пояс з могільніка Вітунічы (рэканструкцыя П.М.Енькі); 2 — наборны пояс з заслаўскага могільніка (рэканструкцыя Ю.А.Зайца); 3 — пояс з могільніка Атвержычы.*

**ПРА́ЖСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, культура пражскага тыпу, помнікі пражскага тыпу, помнікі тыпу Карчак, пражска-карчакская культура, археалагічная культура 4–7 ст. на тэр. ад Эльбы да правабярэжжа Сярэдняга Падняпроўя і паўн. часткі басейна Паўд. Буга, ад польскага Памор'я да Падунаўя і ўсх. адгор'яў Альп. Помнікі на ПнЗ асн. арэала культуры (тыпу Сукаў–Дзедзіцы) адны даследчыкі вылучаюць як лакальны варыянт П.к., іншыя лічаць асобнай мясц. культурай. Кампаненты П.к. сустракаюцца ў межах груп Іпа-цешць–Кындзешць–Чурэл (левабярэжжа Ніжняга Дуная), Медыаш і Гымбаш (Трансільванія), сярод помнікаў Аварскага каганата (у асн. на правабярэжжы Сярэдняга Дуная да басейна воз. Балатан) і інш. П.к. вылучана чэшскім археолагам І.Баркоўскім у к. 1930-х г. На сучасным этапе вывучэнне культуры базіруецца на працах рас. археолага І.П.*Русанавай*. Асн. помнікі П.к. – селішчы, якія размяшчаліся «гнёздамі». У паўн. частцы арэала (ад Ніжняй Эльбы да Палесся) вядомы гарадзішчы. Для П.к. характэрны пераважна невял., блізкія па форме да квадрата паўзямлянкі з печчу (каменкай, у шэрагу рэгіёнаў – глінабітнай) у паўн. куце, у асн. справа ад увахода, які часцей быў на Пд, насупраць печы. Вядомы злёгку паглыбленыя ў зямлю дамы з глінабітнымі ачагамі (напр. Бел. Палессе), на ПнЗ дамінуюць пабудовы, сляды якіх – паглыбленні аморфных абрысаў. У шэрагу выпадкаў прасочваюцца зрубавыя канструкцыі; даволі распаўсюджаны слупавыя ямы каля сцен і вуглоў катлавана. На некаторых помніках выяўлены сляды рамонту глінабітных печаў, у т.л. рэшткі печы пад падлогай жытла. Да гасп. пабудоў адносяцца ямы-зернясховішчы (часцей у паўд. раёнах), наземныя і паглыбленыя ў зямлю збудаванні, агароджы і інш. Сустракаюцца печы (магчыма, хлебныя), урэзаныя ў сценку паглыбленых пабудоў. На некаторых гарадзішчах прасочваюцца сляды драўляных канструкцый з унутранага боку абводных сцен. Могільнікі грунтавыя, зрэдку курганныя; вядомы магілы на тэр. паселішчаў (напр., Цецераўка 1, Украіна). Пахавальны абрад – трупаспаленне па-за межамі могільніка са змяшчэннем астанкаў у ямку ці керамічную урну. Пахавальны інвентар бедны. Найб. характэрная прыкмета П.к. – ляпны керамічны посуд. Пераважалі гаршкі з павышэннем у верхняй трэці пасудзіны. Раннія формы прадстаўлены ў асн. слабапрафіляваным посудам, нярэдка з унутраным зрэзам венца. Пазней сталі пераважаць больш адагнутыя S-падобныя венцы, распаўсюдзіліся венцы з выступамі вонкі і ўніз. Зрэдку сустракаюцца насечкі па венцы посуду (у асн. на позніх помніках), наляпныя валікі на шыйцы, штампы (у асн. у зах. рэгіёнах), расчосы шчэпкай (у асн.



Аўтар І.А. Гаўрытухін

на ранніх помніках усх. груп). У шэрагу ўсх. рэгіёнаў П.к. вядомы гліняныя «хлябцы». Праслiцы ў асн. біканічныя, гліняныя, у т.л. арнаментаваныя, вядомы мергелевыя. Сустракаюцца жал. нажы, сярпы і інш. прылады. Зброя (наканечнікі стрэл, коп'яў, спражкі), рыштунак вершніка і каня (шпоры, цуглі), упрыгажэнні, дэталі адзення знаходзяць рэдка (часцей у паўд. рэгіёнах). Яны прадстаўлены пераважна тыпамі, распаўсюджанымі ў суседніх культурах; для позніх помнікаў П.к. ва Усх. Прыкарпацці вылучаюць лакальныя варыяцыі фібул. Знойдзена даволі шмат каменных ліцейных форм, льячак і інш. слядоў работы з каляровымі металамі. Існавала металургія жалеза. Аснова гаспадаркі – земляробства і жывёлагадоўля.

Існуюць 3 гал. гіпотэзы аб паходжанні П.к.: 1) сфарміравалася на аснове пшэворскай культуры (ці аднаго з яе кампанентаў) у Вісла-Одэрскім рэгіёне (шэраг польскіх даследчыкаў, І.П.Русанава, часткова В.В.Сядоў); 2) склалася на аснове традыцый зубрэцкай культуры, якія знайшлі працяг у межах лакальнага варыянта чарняхоўскай культуры ў Верхнім і Сярэднім Падністроўі (большасць

укр. даследчыкаў, часткова В.В.Сядоў); 3) узнікла ў ходзе рассялення шэрага груп насельніцтва лясной зоны Усх. Еўропы на З і Пд (Дз.А.Мачынскі, М.Б.Шчукін, К.Гадлоўскі і інш.) ці ўзаемадзеяння традыцый нашчадкаў носьбітаў палескага варыянта *зарубінецкай культуры* з паўн. суседзямі пераважна на Палессі з далучэннем у далейшым рассяленні роднасных груп (І.А.Гаўрытухін, шэраг бел. даследчыкаў). Лакальныя варыянты П.к. слаба даследаваны. У эвалюцыі культуры вылучаюць перыяды (фазы): 0 – час афармлення ядра П.к. (4 ці сяр. 4 – пач. 5 ст.) і пераходны 0/I – перыяд першых міграцый (1-я пал. 5 ст.); I – ранні перыяд, калі П.к. распаўсюджваецца ад Палесся, Сярэдняга Падняпроўя, вярхоўяў Паўд. Буга да ўсх. Прыкарпацця, басейна Сярэдняй і Верхняй Віслы, у Ніжняй Сілезіі, з'яўляецца на ПнУ Карпацкага басейна і на Ніжнім Дунаі (5 ці сяр. 5 – 1-я пал. 6 ст.); II – перыяд класічнай П.к., калі арэал культуры пашыраецца за кошт шэрага рэгіёнаў Падунаўя і Эльбы (6 ці сяр. 6 – пач. 7 ст.); III – позні перыяд, калі ў нетрах культуры пачалі складвацца асновы лакальных варыянтаў (7 ст., у некаторых рэгіёнах да сяр. 7 ст.). П.к. лічыцца адлюстраваннем традыцыйнай культуры народа, які меў саманазву *славяне.* На аснове П.к. і пры яе ўдзеле склаліся многія слав. культуры 4-й чв. 1-га тыс.

На тэр. Беларусі выяўлена каля 50 помнікаў П.к., якія размяшчаюцца на Пд і выцягнуты даволі вузкай паласой з З на У ад Брэста і Камянца амаль да Мазыра. Найб. паўн. пункты зафіксаваны на р. Ясельда каля в. Спорава Бярозаўскага р-на, р. Бобрык каля в. Камень Пінскага р-на Брэсцкай вобл., на р. Арэса каля в. Старыя Юркавічы Акцябрскага




*Металічныя (1–18) і шкляныя (19–28) вырабы з помнікаў **пражскай культуры** з тэрыторыі Беларусі. Вострaў (1, 10, 19); Петрыкаў-2 (2, 12); Струга-1 (4, 21, 24–28); Камень-6 (5); Снедзін-2 (6, 7, 9, 13, 15–16, 18, 20, 22–23, 25–26); Бухліцкі Хутар (8); Хорск (14); Блювінічы (17).*




*Ляпная кераміка **пражскай культуры** з тэрыторыі Беларусі: 1–2 – Востраў; 3–9, 13–15 – Петрыкаў-2; 10–11 – Ліпляны; 12 – Снядзін.*

р-на Гомельскай вобл. Раннія помнікі П.к. на У вядомы каля *Мохава* ў арэале *калочынскай культуры.* Ю.У.Кухарэнка даў атрыбуцыю помнікаў П.к. на тэр. Беларусі, уключыўшы іх у шырокі цэнтральна- і ўсх.-еўрапейскі кантэкст. Асн. тып паселішчаў П.к. ў Беларусі, як і на астатняй тэр., – селішчы пл. 0,5—1,5 га. Ляпная кераміка культуры выяўлена ў пласце 3 гарадзішчаў: *Хотамель*, Харомск у нізоўях Гарыні (Столінскі р-н Брэсцкай вобл.), *Хільчыцы.* У Беларусі даследавана каля 20 жытлаў П.к. Гэта блізкія па форме да квадрата пабудовы зрубавай канструкцыі з пясчанай падлогай, размешчанай на мацерыку або заглыбленай у яго да 0,4 м, арыентаваныя сценамі альбо вугламі па баках свету. Абаграваліся агнішчамі, складзенымі з камянёў і кавалкаў балотнай руды (Петрыкаў), кавалкаў металургічнага жужалю, у т.л. ў спалучэнні з керамікай (*Востраў*), камянёў, замацаваных глінай (Петрыкаў). Некаторыя жытлы ацяпляліся печамі, збудаванымі з гліны і дробных камянёў на драўляным каркасе (*Струга, Ліпляны, Петрыкаў*). Печ-каменка на Бел. Палессі выяўлена толькі ў адным выпадку – на селішчы *Блювінічы.* Асн. катэгорыя рэчавага комплексу – ляпны посуд, які прадстаўлены пераважна гаршкамі, значна радзей сустракаюцца патэльні, міскі, мініяцюрныя пасудзіны. У якасці збядняючых дамешкаў выкарыстоўвалася жарства. Знойдзена каля 70 праслиц біканічнай, сферычнай і цыліндрычнай формы. Бытавы гасп. інвентар небагаты: нажы з прамой спінкай і чаранком, аддзеленым ад ляза невял. ўступамі, фрагментаваныя сякеры, піла, акоўка лапаты, серп, шылы, пласцініcтыя трапецападобныя крэсівы. Зброя прадстаўлена нешматлікімі экзэмпляра-

мі двухшыпных утулкавых і чарашковых наканечнікаў стрэл. У ніжнім пласце гарадзішча Хотамель зафіксаваны панцырная пласціна і трохлопасцевы наканечнік стралы. У Петрыкаве выяўлены ўтулкавы наканечнік стралы з пяром рамбічнай формы, на селішчы Востраў – наканечнік дроціка, блізкі па форме да познапшэворскіх экзэмпляраў. Упрыгажэнні і дэталі касцюма прадстаўлены як імпартнымі (у т.л. з тэр. Візантыі), так і мясц. вытворчасці (часам імітацыі правінцыйнарымскіх вырабаў) фібуламі, спражкамі, накладкамі на рэмень, кольцамі, пацеркамі, завушніцай. Матэрыялы для характарыстыкі пахавальнага абраду ў насельніцтва П.к. на тэр. Беларусі нешматлікія. Адзінкавыя грунтавыя пахаванні даследаваліся каля вёсак Хорск Столінскага р-на Брэсцкай вобл., Хотамель, Снядзін і *Бухліцкага хутара*. Кераміка пражскага тыпу зафіксавана ў кургане каля в. Семурадцы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл., на правабярэжжы Прыпяці. Грунтавыя і падкурганныя пахаванні выкананы па абраду трупаспалення. Перыяд бытавання П.к. на тэр. Беларусі – 4–7 ст. Наяўнасць ранніх комплексаў на Бел. Палессі, якія датуюцца 4—5 ст., дазваляе звязваць з рэгіёнам важную частку зоны фарміравання П.к.

*Літ.*: Русанова И.П. Славянские древности VI–VII вв. Культура пражского типа. М., 1976; Русанова И.П., Тимощук Б.А. Кодын – славянские поселения V–VIII вв. на р. Прут. М., 1984; Баран В.Д. Пражская культура Поднестровья (по материалам поселения у с. Рашков). Киев, 1988; Вяргей В. Археалогія ранніх славян. Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004; Гавритухин И.О. Понятие пражской культуры // Сложение русской государственности в контексте раннесредневековой культуры старого света (Труды Государственного Эрмитажа. XLIX). Санкт-Петербург, 2009; Parczewski M. Początki kultury wczesnosłowiańskiej w Polsce. Krytyka i datowanie źródeł archeologicznych. Wrocław, 1988; Archaeoslavica. 1. Kraków, 1991; Там жа. 2. Kraków, 1993; Fusek G. Slovensko vo včasnoslovanskom období. Nitra, 1994; Archaeoslavica. 3. Kraków, 1998; Dulinicz M. Kształowanie się Słowiańszczyzny Północno-Zachodniej. Studium archeologiczne. Warszawa, 2001; Archeologia o początkach Słowian. Kraków, 2005; Kuna M., Profantova N. Počátky raného středověku v Čecháh. Archeolgický výzkum sídelní aglomerace kultury pražského typu v Roztokách. Praha, 2005.

*В.С.Вяргей, І.А.Гаўрытухін.*

**ПРАКО́ЛКА**, універсальная прылада, якая выкарыстоўвалася для пракolвання адтулін у скуры жывёл з мэтай пашыву адзення і абутку, для нанясення арнаменту на керамічны посуд і інш. Прымянялася ад каменнага веку да сярэдневяковага перыяду. П. рабіліся з метакарпальных, пясных, бярцовых костак дробных жывёл, а таксама з грыфельных костак буйных жывёл, напр., каня, лася. У якасці П. маглі выкарыстоўвацца косткі без апрацоўкі, але часцей прымяняліся старанна апрацаваныя, запаліраваныя




*Касцяныя **праколкі** 10–13 ст.: 1, 4, 6 – Мінск; 2, 5 – Полацк; 3 – Віцебск.*

вырабы з ідэальна круглымі адтулінамі. Падзяляюцца на 2 тыпы: з адтулінай і без адтуліны. Абодва тыпы П. маюць гладкую паверхню і адзін завостраны канец. Даўж. 6–20 см. Пад час археал. даследаванняў, напр., у Полацку выяўлена 137 П., у Віцебску і Маскавічах – па 40, Лукомлі – каля 30 і г.д.

*В.У.Мядзведзева.*

**ПРАЛЕТА́РСКІ**, археалагічныя помнікі – паселішчы і могільнік каля пас. Пралетарскі Веткаўскага р-на Гомельскай обл.

Паселішча-1 эпохі неаліту і бронзавага веку за 3,2 км на ПнЗ ад пасёлка, на левым беразе р. Сож, за 200 м на ПдУ ад рачнога паста Снядзін. Памеры 150×25 м. Адкрыла ў 1976 і абследавала ў 1980 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,2–0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (разцы, скрабкі, нажападобныя пласціны, нуклеусы і інш.), ляпная кераміка.

Паселішча-2 *верхнедняпроўскай культуры* за 300 м на Пд ад пасёлка, ва ўр. Папова, на высокіх пясчаных дзюнах. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1965 І.І.Арцёменка, у 1976 А.Г.Калечыц, у 1980 А.Г.Ка-лечыц і М.У.Бычкоў. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, долата- і сякерападобныя прылады, нуклеусы), кераміка, упрыгожаная грабеньчатым, ямкавым і лінейным арнаментам. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

Паселішча-3 верхнедняпроўскай культуры за 1 км на З ад пасёлка, ва ўр. Курган, на задзернаваных дзюнах. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1965 І.І.Арцёменка, у 1976 А.Г.Калечыц. Культ. пласт да 0,4 м. Знойдзена кераміка з грабеньчатым, ямкавым, лапчастым і лінейным арнаментам. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

Бескурганны могільнік *сярэднедняпроўскай культуры* на паселішчы-2. Адкрыў і даследаваў 3 магілы ў 1965 І.І.Арцёменка, у 1980 абследавалі А.Г.Калечыц і М.У.Бычкоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне, нябожчыкі густа пасыпаны вохрай. У адной з магіл знойдзены ляпная пасудзіна, 9 бурштынавых падвесак і меднае скроневае кольца. Сярод знаходак наканечнікі стрэл, сякеры, нажы, скрабкі. Ёсць звесткі пра знаходку бронзавага кельта. На паверхні сабрана шмат чалавечых касцей. Л.І.Цягака і І.І.Салівон даследавалі добра захаваны чэрап, які належаў чалавеку невысокага росту са слаба выражанымі манголоіднымі рысамі, характэрнымі для сучаснага фіна-угорскага насельніцтва. Могільнік датуецца 2-м тыс. да н.э.

*Літ.:* Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т. 1; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Тегако Л.И., Саливон И.И. Основы современной антропологии. Минск, 1989. *А.Г.Калечыц.*

**ПРАНІЗКІ**, бронзавыя спіралькі, якімі ўпрыгожвалі адзенне (дыям. 3—12 мм). П. распаўсюдзіліся ў лясной зоне Усх. Еўропы ў жал. веку (*днепра-дзвінская культура*, *зарубінецкая культура*, культура штрыхаванай керамікі і інш.). Сустракаюцца таксама ў сяр. — 3-й чв. 1-га тыс. н.э. (*кіеўская культура*, *банцараўская культура*, *калочынская культура* і інш.). Найб. пашырэнне П. атрымалі ў 9—13 ст. у дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў, а таксама латгалаў, земгалаў, ліваў, селаў. П. рабілі з дроту круглага, плоскага, плоскапукатага ці трохвугольнага сячэння. Даўж. П. 3—50 мм. Іх ушывалі ці ўплялі ў жаночае і мужчынскае адзенне. З П. рабілі вяночкі на галаву (вайнагі), шыйныя каралі, спалучаныя са званочкамі, бразготкамі ці шклянымі пацеркамі. Вядомы таксама суцэльналітыя шкляныя пацеркі-П., знешне падобныя да бронзавых П.

*Літ.:* Археалогія Беларусі. Т. 2. Мінск, 1999.

**ПРАСКУРНІ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, паселішча і курганны могільнік каля в. Праскурні Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча за 2 км на Пн ад вёскі. Умацавана 2 валамі. Даследавалі ў 1900 Е.Р.Раманаў, у 1957 В.М.Мельнікоўская. Знойдзены ляпная кераміка жал. веку, кавальскія прылады (кавадлы, малаткі, абцугі) сярэдневяковага перыяду.

Паселішча за 1 км ад вёскі. У 1957 абследавала В.М.Мельнікоўская. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, наканечнікі стрэл, шліхтаваныя каменныя прылады працы, ляпны посуд.

Курганны могільнік побач з гарадзішчам. У 1905 Е.Р.Раманаў даследаваў 6 курганоў выш. 1,4—2,8 м, дыям. 7—20 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, галавой на З. У адным кургане выяўлены рэшткі труны. Суправаджальны інвентар: буйназярнёныя пацеркі ад завушніцы, жал. паясное кольца, гліняны гаршчок. У другім кургане выш. 3,5 м, дыям. 20 м выяўлены адно пахаванне ў насыпе і двайное на гарызонце ў труне, галавой на З. Знойдзены сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, жал. і бронзавыя грыўні, бранзалеты, завушніцы, пярсцёнкі, спражкі, паясныя кольцы.

*Літ.:* Романов Е.Р. Археологические разведки в Могилевской губернии // Зап. северо-зап. отд. Рус. геогр. о-ва. Вильна, 1912. Кн. 3.

*П.Ф.Лысенка, Г.В.Штыхаў.*

**ПРА́СЛІЦА**, праселка, праселька, гліняны або каменны грузік з круглай адтулінай у цэнтры, які надзяваўся на верацяно, каб павялічыць інерцыю і хуткасць яго вярчэння. З'явіліся ў познім неаліце з узнікненнем прадзення і ткацтва. Першапачаткова П. выраблялі з гліны. Мелі біканічную, цыліндрычную, гаршка-, груша-, шпуле-, шарападобную і інш. форму, упрыгожваліся разнастайным арнаментам. У Беларусі самае стараж. П. (к. 3-га тыс. да н.э.) знойдзена на гарадзішчы *Юравічы*. Мела арнамент у выглядзе наколаў. У жал. веку на П. наносілі геам. арнамент (наразным і накольчатым спосабам) у выглядзе трохвугольнікаў, размешчаных у шахматным парадку, ромбаў, канцэнтрычных кругоў, адна- і двухбаковай ялінкі і інш. (напр., П. з гарадзішча *Чаплін*). У раннім сярэдневякоўі выраблялі з ружовага і шэрага сланцу, прыродныя паклады якога існуюць ва Украіне (гл. *Шыфер оўруцкі*), радзей з гліны. На некаторых былі меткі ў выглядзе літар, крыжыкаў і інш. Сустракаюцца П. з надпісамі, напр.: «Бабино праслен» (Віцебск, 11—12 ст.), «Настасино праслънъ» (Пінск, 11—12 ст.), «Г[осподи] помози рабе своей» (Гродна, 13 ст.), «Ника» (12 ст.), «Княжинъ» (Друцк, 12—13 ст.).

*Літ.:* Алексеев Л.В. Три пряслица с надписями из Белоруссии // КСИИМК. 1955. Вып. 57; Яго ж. Еще три шиферных пряслица с надписями // СА. 1959. № 2; Лысенко П.Ф. Шиферное пряслице с надписью из Пинска // СА. 1966. № 3; Калядзінскі Л. Мар'іна праселка // Беларусь. 1986. № 8.

*Т.М.Каробушкіна.*

**«ПРА́ЦЫ АРХЕАЛАГІ́ЧНАЙ КАМІ́СІІ»**, зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі (т. 2, 1930) серыйнага выдання *«Запіскі аддзела гуманітарных навук»* (кн. 11), які выйшаў у Мінску. Змяшчае матэрыялы пра асн. напрамкі археал. даследаванняў.

Вывучэнню помнікаў палеаліту прысвечаны артыкулы Г.Ф.Мірчынка «Геалагічныя ўмовы

знаходжання палеалітычнай стаянкі каля в. Бердыж на р. Сажы (Гомельшчына)», В.І.Громава «Фауна Бердыжскай палеалітычнай стаянкі (па раскопках 1926–1927 гг.)», С.М.Замятніна «Раскопкі Бердыжскай палеалітычнай стаянкі ў 1927 г.», К.М.Палікарповіча «Нова-Бабовіцкая палеалітычная стаянка», «Раскопкі Юравіцкай палеалітычнай стаянкі ў 1929 г. Папярэдняе паведамленне». Значны паводле аб'ёму і канкрэтны паводле зместу матэрыял пра помнікі розных эпох ёсць у артыкулах К.М.Палікарповіча «Дагістарычныя стаянкі сярэдняга Сажа. Матэрыялы абследавання 1927 г.», А.Дз.Кавалені і С.С.Шутава «Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны» (пра гарадзішча ў Тураве, абследаванне помнікаў Казаргаць, *Пагост*, *Рычоў*, *Сямурадцы*, *Хільчыцы*). Звесткі пра помнікі жал. веку і перыяду феадалізму – у артыкулах С.А.Дубінскага «Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай», «Гарадзішча каля в. Германоў Аршанскай акругі», Дз.І.Даўгялы «Аршанскі замак (экскурс у гісторыю ўзнікнення яго ўмацаванняў)», А.М.Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў Аршанскай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Барысаве» (вынікі даследаванняў гарадзішчаў у Полацку, Віцебску, Оршы, курганных могільнікаў у Чаркасове, *Старым Сяле*, *Бельчыцах*, *Гаравых*, *Рудні*, *Барысаве* і інш.), І.А.Сербава «Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі» і інш. Змешчаны нататкі С.А.Дубінскага пра археал. раскопкі 1928–29, І.Х.Юшчанкі – пра даследаванні ў Гомельскай акрузе. *Г.В.Штыхаў.*

**«ПРА́ЦЫ КА́ФЕДРЫ АРХЕАЛО́ГІІ»**, зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі (т. 1, 1928), змешчаны ў серыйным выданні *«Запіскі аддзела гуманітарных навук»* (кн. 5), які выйшаў на бел. мове ў Мінску.

У арт. А.М.Ляўданскага «Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі Мінскай акругі» пададзена методыка раскопак гарадзішча і курганных могільнікаў, падрабязна апісаны абрад і пахавальны інвентар. Аўтар датаваў помнікі каля Заслаўя 11 – пач. 12 ст., сцвярджаў, што яны пакінуты мяшаным крывіцка-дрыгавіцкім насельніцтвам і што тут праходзіла кантактная мяжа паміж *крывічамі* і *дрыгавічамі*. Гарадзішча лічыў невял. умацаваным пунктам (крамлём), які з'яўляўся цэнтрам грамадскага і рэлігійнага жыцця, а ў выпадку небяспекі служыў сховішчам для навакольнага насельніцтва. У арт. А.А.Смірнова «Асноўныя дыяметры і тып серый чарапоў курганнага перыяду (раскопкі ў Заслаўскім, Ухлясцкім і Мінскім раёнах)» на падставе значных фактычных матэрыялаў абгрунтоўваецца думка, што курганы належалі славянам (дрыгавічам і крывічам) і датуюцца 10–12 ст. У арт. Дз.Даўгялы «Заслаўе на Міншчыне» зроблены гістарыяграфічны агляд літаратуры пра Заслаўе, сцвярджаецца, што горад засн. ў пач. 12 ст., а першыя звесткі пра яго адносяцца да 2-й чв. 12 ст. (не старэйшы за Барысаў, Лагойск, Стрэжаў і інш.). Тэматычна да папярэдніх прымыкае арт. С.А.Дубінскага «Дадатковыя раскопкі курганоў у Заслаўі». Важнае значэнне мае праца К.М.Палікарповіча «Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа (па доследах 1926 г.)», якая фактычна з'яўлялася археал. картай помнікаў каменнага і бронзавага вякоў вызначанага рэгіёна Беларусі. Аўтарам паказана месцазнаходжанне стаянак (з прывязкай да ўрочышчаў і населеных пунктаў), апісаны крамянёвыя прылады працы і кераміка, зроблена іх класіфікацыя. Артыкул багата ілюстраваны фатаграфіямі і малюнкамі. Адкрыццё бердыжскай палеалітычнай стаянкі дазволіла зрабіць вывад пра засяленне тэр. Беларусі з эпохі верхняга палеаліту. У раздзеле «Археалагічныя працы на Беларусі за 1919–1928 гг.» надрукаваны артыкулы С.А.Дубінскага «Дзейнасць арганізацый...» і «Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне», К.М.Палікарповіча «Доследы культур каменнага і бронзавага перыяду ва Усходняй Беларусі», А.М.Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў Смаленскай губерні за 1918–1928 гг.». У іх выкладзены справаздачы краязнаўчых і навук. арганізацый, падкрэслена, што вылучэнне са складу гісторыка-археал. камісіі ў 1927 археал. камісіі, большая самастойнасць яе работы, павелічэнне сродкаў, стварэнне кабінета па апрацоўцы археал. матэрыялаў і фоталабараторыі далі магчымасць ахапіць археал. даследаваннямі помнікі ўсіх перыядаў стараж. гісторыі Беларусі, а паспяховыя вынікі гэтых даследаванняў надрукаваць у гэтым зборніку. У канцы тома змешчаны геаграфічны паказальнік.

*У.Дз.Будзько.*

**«ПРА́ЦЫ СЕ́КЦЫІ АРХЕАЛО́ГІІ»**, зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі (т. 3, 1932), выдадзены на бе л. мове ў Мінску.

Адкрываецца нарысам А.М.Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў Смаленшчыне», прысвечаным навук. аналізу археал. абследаванняў С.М.Сакалоўскага ў Рослаўскім пав. ў 1902–27. У нарысе падрабязна апісаны знаходкі з курганных могільнікаў і гарадзішчаў, асобныя каменныя прылады працы; курганныя старажытнасці аднесены да 11 ст., іх этнічная прыналежнасць вызначана як крывіцкая. У арт. Г.Ф.Дэбеца «Чарапы Люцынскага могільніка старажытных славян Беларусі і месца апошніх у палеаантрапалогіі Усходняй Еўропы» на падставе шматлікіх матэрыялаў сцвярджасцца думка, што ўключэнне тэр. Бела-

русі ў кола слав. культур не суправаджалася якімі-небудзь значнымі перасяленнямі, а адбывалася шляхам акультурацыі. У нарысе Б.А.Рыбакова «Радзімічы» акрэслены племянная тэр. радзімічаў, час пражывання, апісаны абрады і тыпы пахаванняў, этнавызначальныя прыкметы, узаемаадносіны з суседнімі плямёнамі, выкарыстаны летапісныя і інш. звесткі. Аўтар лічыў, што землі радзімічаў знаходзіліся ў межах сучаснай Беларусі, а мяжа паміж беларусамі і ўкраінцамі праходзіць там, дзе тысячу гадоў таму назад канчаліся радзіміцкія паселішчы і пачыналіся севяранскія. Праца Б.А.Рыбакова, засн. на грунтоўным гіст., археал. і этнагр. матэрыяле, не страціла свайго навук. значэння. Арт. К.Флаксбергера «Зёрны з Банцараўскага гарадзішча пад Мінскам» прысвечаны аналізу знаходак збожжа на помніку *Банцараўшчына.* У артыкулах К.М.Палікарповіча «Палеаліт на р. Судасці (вадазбор р. Дзясны)» і «Знаходкі рэштак чацвярцёвай фауны на тэрыторыі БССР» расказваецца пра адкрыццё верхнепалеалітычнай стаянкі *Елісеевічы* (Бранскі р-н), археал. разведкі ў басейне Судасці, Іпуці, Дзясны, дадзена карта знаходак чацвярцічнай фауны на тэр. Беларусі, якая была пазней выкарыстана для пошуку палеалітычных стаянак. У артыкулах А.Дз.Кавалені «Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі» і А.Рынейскага «Археалагічныя разведкі на р. Пціч» надрукаваны матэрыялы для археал. карты Беларусі. У раздзеле «Тэзісы дакладаў да I Усесаюзнага з'езда археолагаў і этнографаў у Ленінградзе» змешчаны матэрыялы А.М.Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў БССР пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі» і К.М.Палікарповіча «Палеаліт і мезаліт БССР і некаторых суседніх краін Верхняга Падняпроўя». А.М.Ляўданскі разглядаў помнікі ранняга жал. веку з пункта гледжання іх стадыяльнага развіцця. Ён вылучаў селішчы і бескурганныя (грунтавыя) могільнікі латэнскай эпохі, гарадзішчы са штрыхаванай керамікай пераходнага характару – ад неўмацаваных селішчаў да ўмацаваных паселішчаў без валоў і равоў (рубеж і першыя стагоддзі н.э.), гарадзішчы з земляныміваламі і равамі і позняй гладкасценнай керамікай (6–7 ст.), гарадзішчы з вял. пляцоўкамі і селішчамі каля іх (8–10 ст., з 10 ст. з'яўляецца ганчарная кераміка) і гарадзішчы раннефеад. пары (11–13 ст.). К.М.Палікарповіч на базе адкрыцця стаянкі *Юравічы* і *Бердыжскай* стаянкі зрабіў заключэнне аб засяленні Беларусі ў верхнепалеалітычную эпоху, вылучаў эпохі мезаліту (свідэрскую і хвалібагавіцкую стадыі), выказаў думку пра наяўнасць на тэр. Беларусі макралітычных культур кампіньі і маглемазэ, даў характарыстыку культур эпох неаліту і бронзы. У гэтым жа раздзеле змешчаны тэзісы дакладаў М.М.Нікольскага «Этнаграфія ў БССР пасля Кастрычніка» і «Пытанне аб вывучэнні матываў класавай барацьбы ў фальклоры», М.Я.Грынблата «Вывучэнне раёнаў малога рыбалоўства і рыбацкіх арцеляў». У раздзеле «Хроніка» надрукаваны справаздачы аб археал. даследаваннях, знаходках і археал. нататкі А.М.Ляўданскага «Археалагічная праца ў БССР за 1930–1931 гг.», «Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930–31 гг.», «Розныя знаходкі»; К.М.Палікарповіча «Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у Заходняй вобласці ў 1930–31 гг.», «Археалагічныя нататкі»; В.Ф.Дружчыца «Комплексная экспедыцыя БАН у чэрвені–жніўні 1931 г. (Лепель, р. Бярэзіна, Бабруйск)»; В.Р.Тарасенкі «Археалагічныя працы на Магілёўшчыне ў 1930 г.»; І.А.Сербава «Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні–Ухлясці ў былой Магілёўшчыне»; І.Х.Юшчанкі «Археалагічнае абследаванне р. Брагінкі (вадазбор ніжняй Прыпяці)». У канцы тома змешчаны геаграфічны паказальнік.

*У.Дз.Будзько.*

**ПРÓБА**, узор, невялікая частка археал. артэфакта, аб'екта, субстанцыі для правядзення спец. аналізаў, параўнання, ідэнтыфікацыі, вызначэння якасці, складу і інш. З дапамогай П. праводзяць спец. лабараторныя даследаванні (радыевугляроднае датаванне, паліналагічны, метаграфічны, петраграфічны, спектральны, дэндрахраналагічны і інш. аналізы), якія дазваляюць атрымаць найб. поўныя даныя пра археал. артэфакт, аб'ект, помнік. Узяцце П. праводзяць у адпаведнасці з патрабаваннямі і распрацаванымі метадычнымі прыёмамі (колькасць рэчыва, від і якасць запакавання, тэмпературны рэжым і інш.). Пры гэтым улічваюць археал. кантэкст і асаблівасці аб'екта, з якога паходзіць П.

*Літ.*: Методика полевых археологических исследований. М., 1983; Щапова Ю.А. Естественнонаучные методы в археологии. М., 1988; Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002. *М.М.Крывальцэвіч.*

**ПРÓРВА 1**, археалагічныя помнікі – грунтавы могільнік сярэднедняпроўскай культуры, паселішчы неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку побач з паўд. берагам возера-старыцы Прорва, за 2,5 км на Пд ад Замкавай гары г. Рагачоў Гомельскай вобл., на поймавым узвышшы левабярэжжа р. Дняпро. Могільнік у 1993 выявіў мясц. жыхар І.Маспанаў, абследавалі І.М.Язэпенка і А.М.Рыкуноў. Раскопкі праводзілі ў 1994–97 М.М.Крывальцэвіч і І.М.Язэпенка. Даследаваны 22 пахаванні ў 2 асн. зонах узвышша. Пахаванні па абраду трупаспалення па-за межамі могільніка, некаторыя па абраду трупапалажэння. У асобных выпадках разам з няспаленымі нябожчыкамі ў пахавальнай камеры знаходзіліся і крэміраваа-



*Агульны выгляд могільніка **Прорва 1** (фота М.М. Крывальцэвіча).*

ныя астанкі, а таксама рэшткі жывёл (у адной яме трапіліся фр-ты панцыра балотнай чарапахі). Адзначаны сляды драўляных збудаванняў слупавой канструкцыі. Выяўлены пахавальны інвентар: керамічны посуд, каменныя свідраваныя і крамянёвыя шліфаваныя сякеры, наканечнікі стрэл, шырокія і пласцiністыя сколы. Адна з асаблівасцей некаторых пахаванняў – звычай ставіць гаршкі перавернутымі ўверх дном. Некаторыя крамянёвыя вырабы былі знойдзены ўнутры пасудзін. Па-за межамі ўласна пахавання ў межах пахавальнага збудавання знойдзена кераміка, абушковая частка каменнай свідраванай сякеры, каменная выкрутка з сякеры, крамянёвы наканечнік стралы. Адзначаны сляды комплексаў мемарыяльнага характару: кругавы равок дыям. каля 7 м у адным пахаванні, «памінальныя ямы».

Вылучаны 3 стылістычна-храналагічныя групы пахаванняў. Яны развіваліся ў фазах А (каля 2500–1900 да н.э.; асн. колькасць пахаванняў) і Б (каля 1800–1700 да н.э.). Выяўленыя знаходкі характэрны для могільнікаў *сярэднеднепроўскай культуры*, сфарміраванай на аснове традыцый *шнуравой керамікі культуры*; сустракаецца матэрыял з рысамі *шарападобных амфар культуры*.

Паселішча-2 за 1,9–2 км на Пд ад г. Рагачоў, 1,7 км на ПдУ ад Задруцця – прыгарада Рагачова, у пойме левабярэжжа р. Дняпро. Пл. каля 2400 м². Адкрылі ў 1994 І.М.Язэпенка, М.М.Крывальцэвіч, А.М.Рыкуноў. Даследаваў у 1994–96, 1998 І.М.Язэпенка (341 м²). Знойдзены 2203 крамянёвыя вырабы (з іх 45 – з другаснай апрацоўкай), 8424 абломкі неалітычнай керамікі і 2054 абломкі керамікі ранняга перыяду бронзавага веку. У цэнтр., самай узвышанай частцы помніка, выяўлена пахаванне сярэднеднепроўскай культуры (пач. 2-га тыс. да н.э.). Помнік датуецца 2-й пал. 4-га – сяр. 2-га тыс. да н.э.

Паселішча-4 за 0,8 км на ПдУ ад паселішча-2, на зах. ускраіне ўзвышша ся-







*Да арт. **Прорва 1**. Марфалагічная класіфікацыя суправаджальнай (А) і спадарожнай (Б) пахавальнай керамікі (паводле М.М.Крывальцэвіча).*



*Адно з пахаванняў могільніка* ***Прорва 1***.

род левабярэжнай поймы р. Дняпро. Адкрылі ў 1996 І.М.Язэпенка, М.М.Крывальцэвіч, А.М.Рыкуноў. Даследаваў у 1996, 1999 І.М.Язэпенка (172 м²). выяўлены акруглы зольнік у цэнтр. частцы гасп. ямы памерамі 1,8 × 1,6 м. Сабраны крамянёвы інвентар – 1449 адзінак, з іх 244 – наканечнікі стрэл, скрабкі, нажы, рубячыя прылады, скобелі, пласціны з рэтушшу; 3857 абломкаў неалітычнай керамікі, арнаментаванай грабеньчатымі адбіткамі, наколамі і ўцісканнямі рознай формы, лапчастым і лінейным штампамі, насечкамі, шнурам. У 1996 знойдзены пласкадонны гаршчочак сярэднедняпроўскай культуры, арнаментаваны лінейным штампам. Датуецца к. 4-га – пач. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: Рыкуноў А.М., Язэпенка І.М. Новыя матэрыялы па ранняму бронзаваму веку і неаліту Рагачоўскага Падняпроўя // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя. Магілёў, 1995. Ч. 1. Археалогія.; Крывальцэвіч М.М. Старажытнейшыя пахавальныя звычаі на Рагачоўшчыне // Старажытнасці Рагачоўшчыны. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. Мінск; Рагачоў, 2000; Яго ж. Могільнік сярэдзіны III – пачатку II тысячагоддзяў да н.э. на Верхнім Дняпры – Прорва 1. Мінск, 2006; Язэпенка І.М. Позненеалітычныя матэрыялы з паселішча Прова 4 у ваколіцах Рагачова // МАБ. 2002. № 5.

*М.М.Крывальцэвіч, І.М.Язэпенка.*

**ПРО́ШЧА**, месца (крыніца, возера, камень, узгорак і г.д.), надзеленае, паводле ўяўленняў вернікаў, незвычайнымі надпрыроднымі сіламі і ўласцівасцямі. У навук. ўжытак гэты тэрмін увёў у пач. 20 ст. М.А.Янчук. П. называлі таксама маленне аб дараванні грахоў з ахвярапрынашэннямі ў якім-небудзь «святым» ці «цудадзейным» месцы. Вера ў П. генетычна звязана з культам прыроды. Некаторыя П. ўзніклі з язычніцкіх *свяцілішчаў*. Аднак этнографамі зафіксавана ўзнікненне П. і ў 19–20 ст., калі з пэўным месцам звязвалася якая-небудзь падзея, што лічылася цудам (напр., хуткае пазбаўленне ад хваробы). П. пакланяліся, іх наведвалі, каб пазбавіцца ад хвароб, прыносілі ахвяраванні (палатно, ручнікі, кветкі, ежу, грошы і інш.). Значная частка П. была прызнана хрысціянскім духавенствам і знаходзілася пад яго апекай. Каля такіх П. нярэдка будаваліся капліцы, цэрквы, касцёлы, у дні рэлігійных свят ладзіліся хрэсныя хады і богаслужэнні. Часта П. лічыліся камяні-*следавікі*, некаторыя камяні з надпісамі (асабліва з незразумелымі), крыніцы і калодзежы, вада з якіх нібыта вылечвала ад пэўных хвароб (пераважна вачэй), азёры (напр., Свіцязь, а таксама з пашыранай назвай Святое), некаторыя *ўзгоркі культавыя* (пераважна самыя высокія ў пэўнай мясцовасці), дрэвы. Найб. вядомымі П. былі Сіняя крыніца каля Слаўгарада, Святая горка каля Смілавіч (гл. *Гудавіцкае свяцілішча*), Мар'іна Горка ў Пухавіцкім р-не Мінскай вобл., нагрувашчванне вялізных камянёў на ўзгорку каля в. Горка Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл., камяні-следавікі пад Навагрудкам, каля в. Мейры Лідскага р-на Гродзенскай вобл., на Троіцкай гары ў Мінску, на дарозе са Слуцка ў в. Грозава і інш. Да П. прымыкаюць *камяні «чортавы»*, камяні змеевы, *камяні-краўцы* і інш. Каля іх не маліліся, да іх не прыносілі ахвяраванняў, але яны карысталіся ў насельніцтва пэўнай пашанай. У Беларусі П. даследавалі М.В.Доўнар-Запольскі, М.В.Мялешка, Ф.В.Пакроўскі, Е.Р.Раманаў, М.А. Янчук, А.Я.Багдановіч.

*Літ.*: Янчук Н. По Минской губернии: (заметки из поездки в 1886 году). М., 1889; Романов Е.Р. Белорусский сборник. Вып. 4. Сказки космогонические и культурные. Витебск, 1891; Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса. Мінск, 1929.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ПРУ́ДЗІШЧА**, археалагічны помнік – курганнажальнічны могільнік каля в. Прудзішча Лагойскага р-на Мінскай вобл. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Рудзькаўшчына, па абодва бакі дарогі ў в. Дзяніскі, у лесе. Захавалася 57 насыпаў выш. 0,3–1,8 м, дыям. 2–6 м, у т.л. 3 падоўжаныя, памерамі 5 × 11 м. Выявіў М.І.Лашанкоў у 1979. У 1998–99 Л.У.Дучыц, І.У.Ганецкая, А.В. Іоў і М.І.Лашанкоў даследавалі 9 насыпаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах глыб. да 1 м, галавой на З. Большасць курганоў складзена з валуноў. Валуны выяўлены ў пахавальных ямах. У 3 пахаваннях знойдзены рэчы: ромбашчытковыя скроневыя кольцы, пярсцёнак, жал. нож. Датуецца 11–12 ст.

*Літ.*: Дучыц Л., Ганецкая І., Іоў А., Лашанкоў М. Прудзішчанскі могільнік // ГАЗ. Мінск, 2002. Вып. 17.

*Л.У.Дучыц.*

**ПРУ́ДНІКІ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішча каля в. Пруднікі Міёрскага р-на, Віцебскай вобл.



*Да арт.* ***Пруднікі.*** *План гарадзішча і селішча з раскопамі, вырабы з каменю, косці, бронзы і жалеза.*

Гарадзішча за 0,3 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Вята (левы прыток Зах. Дзвіны). Пляцоўка няправільнай авальнай формы памерамі 118 × 65 м. На Пн захаваўся вал выш. 4,2 м, шыр. 20 м, на У – выш. 0,5 м, шыр. 10 м. Вядома з к. 19 ст. У 1936 абследавалі Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1956 Я.Г.Краскоўская, у 1974 шурфоўку праводзілі А.Р.Мітрафанаў, В.І.Шадыра, у 1977, 1983–99 В.І.Шадыра даследаваў 950 м². У паўн.-ўсх. частцы гарадзішча зроблена прарэзка вала. Вызначаны характар абарончых збудаванняў, зафіксаваны рэшткі крэпасці, пабудаванай у 16 ст. Львом Сапегам (фартэцыя Вята). Культ. пласт 0,3–3,5 м. Выяўлены рэшткі жытлаў зрубнай канструкцыі з каменнымі агнішчамі і печамі-каменкамі. Знойдзены вырабы з жалеза (сякеры, сярпы, нажы, наканечнікі стрэл, дроцікаў, дзід, спражкі, крэсіва), бронзы і медзі (падкowападобныя фібулы з фігурнымі канцамі, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, розныя падвескі, бразготкі, званочкі і інш.), шкла (пацеркі), косці (шпількі, амулеты, грабяні, пацеркі і інш.). Вырабы з гліны і каменю прадстаўлены ляпным і кругавым посудам, большую частку якога складаюць гаршкі з гладкасценнай і аблітай (шурпатай) паверхняй; праслiцы, тыглі, льячкі, ліцейныя формачкі, зерняцёркі, песты-цёрачнікі, тачыльныя брускі і інш. Да 14–16 ст. адносяцца знаходкі плінфы, кафля, шарнірныя нажніцы, нажы; культавыя прадметы: крыжыкі, манетападобная падвеска-медальён з выявай Маці Божай, крыж-складзень (энкалпіён) з іканаграфіяй, амулеты. Зброя прадстаўлена наканечнікамі стрэл і дзід, баявымі нажамі, рэшткамі даспехаў, наверша булавы, лука, арбалета і інш. Матэрыялы 5–11 ст. маюць падабенства з балцкай матэрыяльнай культурай, 11–17 ст. – са славяна-ўсходнебалцкай. У 5–10 ст. тут было ўмацаванае паселішча патрыярхальнай абшчыны, у 11–13 ст. – парубежны пункт (астрог) Полацкага княства, у 14–17 ст. – феад. сядзіба-замак.

Селішча на левым беразе Вяты, каля паўд.-ўсх. падножжа гарадзішча, на невял. узвышшы. Памеры 70 × 40 м. Выявіў у 1974 і даследаваў 200 м² у 1978–80 А.Р.Мітрафанаў, у 1984–99 В.І.Шадыра даследаваў 1300 м². Культ. пласт 0,8–2 м. Выяўлены рэшткі жытлаў зрубнай канструкцыі з печамі-каменкамі, вырабы з косці, гліны, каменю, бронзы, жалеза. Сярод знаходак шпілька-амулет з галавой сабакі ці ваўка, падвеска-амулет у выглядзе стылізаванай фігуркі качкі, бронзавыя ўпрыгажэнні (кольцы, падвескі, шпількі, бранзалеты і інш.), жал. нажы, сярпы, наканечнікі стрэл, дзід, шылы з касцянымі ручкамі, упрыгажэнні і інш.; ляпныя гладкасценныя і шурпатыя (аблітыя) гаршкі слоікападобнай формы са скразнымі дзіркамі на гарлавіне. Матэрыялы адносяцца да 4–10 ст., належалі балтам, хутчэй за ўсё продкам латгалаў.

*Літ.*: Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. 1945. Вып. 11; Шадыра В.І. Селішча Пруднікі на беларуска-латышскім парубежжы (матэрыяльная культура, датыроўка) // ГАЗ. Мінск, 1993. № 2; Яго ж. Средневековые материалы из городища Прудники // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі (новыя матэрыялы і даследаванні). Мінск, 1993; Яго ж. Городище и селище Прудники. Lietuvos archeologija. Vilnius, 2001. № 21; Яго ж. Беларускае Падзвіннe (I тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006. *В.І.Шадыра.*

**ПРУДÓК**, археалагічныя помнікі – паселішча і курганны могільнік каля в. Прудок Светлагорскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча за 1–1,2 км на У ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе р. Бярэзіна, на ПдУ ад упадзення ў яе ручая. Выяўлена У.П.Ксяндзовым у 1976. У 1982, 1987 Н.М.Дубіцкая даследавала

302 $м^2$. Культ. пласт 0,2–1,3 м. Вылучаецца некалькі перыядаў існавання паселішча. Найб. стараж. матэрыялы (кераміка, крамянёвы інвентар) адносяцца да неаліту і бронзавага веку. Наступны этап датуецца 2-й чв. – сяр. 1-га тыс. Выяўлены рэшткі паўзямлянкі з печчу-каменкай у паўн. частцы. Печ складзена на мацерыку з буйных камянёў без сувязнога матэрыялу, падлога пясчаная. Знойдзены фр-ты ляпных пасудзін, у т.л. з глянцаваннем і расчосамі грэбенем, гліняныя праслiцы, жал. долатападобнае крэсіва і інш. У стараж.-рус. час (10–13 ст.) пл. паселішча значна павялічылася. Знойдзены кругавыя гаршкі і міскі з хвалістым і лінейным арнаментам, сланцавыя праслiцы, металічныя прылады працы. Сярод упрыгажэнняў бронзавы літы нацельны крыж, арнаментаваны складаным рэльефным узорам (апошняя чв. 11 – 1-я чв. 12 ст.), лжэвітае скроневае кольца 12–13 ст., шкляныя пацеркі (залачоная к. 1 – пач. 12 ст. і двайная з глухога жоўтага шкла 10–11 ст.). Да 17 ст. адносіцца абломак белагліняпай люлькі.

Курганны могільнік 10–13 ст. за 1 км на З ад паселішча, на ўскраіне сучасных могілак. Некалькі курганоў захаваліся ў лесе, за 0,6 км на У ад паселішча. *Н.М.Дубіцкая.*

**ПРУДЫ́**, археалагічныя помнікі – селішча і курганны могільнік каля в. Пруды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.

Селішча 2-й – 3-й чв. 1-га тыс. н.э. і больш позняга часу за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе Дняпра, на Пн ад вусця р. Арціслаўка. Выявіла і абследавала ў 1964–65 Г.Ф.Салаўёва. Даследаваў звыш 230 $м^2$ А.А.Седзін. Знойдзены дыскападобнае праслiца, тачыльны брусок, ляпны керамічны посуд (з грубай і гладкай паверхняй, з расчосамі), кругавая кераміка.

Курганны могільнік за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на месцы селішча. Вядомы з 1873. 9 насыпаў выш. 0,7–1 м. Даследавалі ў 1963 І.І.Арцёменка (1 насып), 1964–65 Г.Ф.Салаўёва (7 насыпаў). Выяўлены пахаванні па абрадах трупаспалення і трупапалажэння. Знойдзена жал. правушная сякера, нажы, паясное кольца, скроневае драцяное кольца з напускной пацеркай, арбалетападобная і бронзавая падковападобная фібулы, пярсцёнкі, бранзалеты, званочак, бісер, белыя паставыя і шкляныя пацеркі, фр-ты ляпнога посуду, кругавая пасудзіна. Курганы насыпаны з культ. пласта селішча. Раннія пахаванні датуюцца 7–8 ст., познія 11 – 1-й пал. 12 ст. Захаваўся 1 курган выш. 0,6 м, дыям. 12 м.

*Літ.*: Соловьева Г.Ф. Памятники конца I тысячелетия н.э. в Верхнем Поднепровье // Древние славяне и их соседи. М., 1970 (МИА; № 176); Седин А.А. Памятники середины – третьей четверти I тысячелетия н.э. в бассейне р. Артиславки // Магілёўшчына. Вып. 4. Магілёў, 1995. *А.А.Седзін.*

**ПРУ́СІНАВА**, археалагічны помнік – стаянка каля в. Прусінава Уздзенскага р-на Мінскай вобл. За 250 м на Пд ад вёскі, на невял. павышэнні правабярэжнага поплаву Нёмана, каля паўд. берага старыцы. Выявіў у 1976 М.М.Чарняўскі (ускрыта 32 $м^2$). Культ. пласт да 0,6 м. Знойдзены крамянёвы і керамічны матэрыял *нёманскай культуры* (пераважна яе лысагорскага этапу), у якім адчуваюцца ўплывы *верхнедняпроўскай культуры.* Пазней на гэтым месцы размяшчалася слав. паселішча часоў Полацкага княства. Матэрыял паселішча ў асн. прадстаўлены ганчарнай керамікай.

*М.М.Чарняўскі.*

**ПРУ́СІНЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ**. Знойдзены каля в. Прусінічы Талачынскага р-на Віцебскай вобл. ў 1961. Скарб складаўся з куфічных дырхемаў і невялікай колькасці зах.-еўрап. манет. Вядомы 104 цэлых і 57 фр-таў дырхемаў, 6 цэлых і 3 фр-ты зах.-еўрап. дэнарыяў: Англія (1 экз.) – скандынаўскае (?) перайманне манет Этэльрэда II [979–1016]. Германія (7 экз.): манетны двор Кёльн, Атон III [983–1002] – 1; Атон і Адэльгейда – 4; манетны двор Майнц, Атон II [973–983] альбо Атон III [983–1002] – 2 (1 цэлая і 2 фр-ты адной манеты).

Схаваны каля 1005. Зберагаецца ў Віцебскім гісторыка-краязнаўчым музеі (38 цэлых і 57 фр-таў дырхемаў, 2 цэлыя і 3 фр-ты дэнарыяў), Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі (4 дырхемы), Дзярж. гіст. музей Расійскай Федэрацыі (62 дырхемы і 4 дэнары).

*Літ.*: Потин В.М. Топография находок западноевропейских монет X–XIII вв. на территории древней Руси // Труды Гос. Эрмитажа. Нумизматика. Ленинград, 1967. Т.9, № 3.; Яго ж. Древняя Русь и европейские государства X–XIII вв.: ист.-нумизмат. очерк. Ленинград, 1968; Рабцэвіч В.Н., Стуканаў А.А. Манеты арабскага халіфата на тэрыторыі Беларусі // ПГКБ. Мінск, 1973. № 4; Рабцевич В.Н. Денежные депозиты Полоцкой земли конца X – начала XIV вв. // ГАЗ. Мінск, 2000. № 15; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Минск, 1971. Кропоткин В.В. Новые находки сасанидских и куфических монет в Восточной Европе // Нумизматика и эпиграфика. М, 1971. Т. 9.

*Ш.І.Бекцінееў.*

**ПРУ́СЫ**, племя, група плямён, народ заходнябалцкай моўнай групы. Археал. спадчыну П. вывучалі даследчыкі Германіі (І.Гізэ, О.Тышлер, Г.Кемке, Х.Эгтерс, А.Беццэнбергер, Э.Холак, В. ла Бом, Х.Янкун, К. Энгель, В. Гертэ, Г. Кромэ, Т. Ібсэн), Польшчы (Я.Ясканіс, Е.Акуліч, Л.Акуліч-Казарын, Р.Валангевіч, Р.Адой, М.Хафтка, М.Ягаджыньскі, В.Навакоўскі), Расіі (Ф.Д.Гурэвіч, У.І.Кулакоў, А.Валуеў, М.Смірнова, В.Сувораў), Літвы (В.Шыменас), Беларусі (А.М.Мядз-ведзеў, С.П.Віцязь) і інш. Зыходны арэал фарміравання П. – Пн Мазурскага Паазер'я (прота-прусы). У 3 ст. прота-прусы ўспрынялі абрад пахавання каня

Да арт. **Прусы**. *Тыпалогія пахавальнага абраду (паводле У.І.Кулакова): I – падтып 1.1 (рэшткі крэмацыі ва урне), II – падтып 1.2 (рэшткі крэмацыі кампактна, з захаду конь цалкам), III – падтып 1.2 (крэмацыя, побач частка касцяка каня), IV – падтып 1.2 (крэмацыя, побач рэшткі скуры каня), V – падтып 2.1 (крэмацыя, у ніжнім ярусе рэшткі скуры каня), VI – падтып 2.1 (з рэшткамі насілак), VII – падтып 2.2, VIII – інгумацыя.*






Аўтар С.П. Віцязь

побач з нябожчыкам, што пазней стала характэрнай рысай П. У 2-й чвэрці 5 ст. прота-прусы перамясціліся на п-аў Самбія і прылеглае з З узбярэжжа Віслінскага заліва, у арэал поліэтнічных эсціяў, дзе ў сяр. 5 ст. склалася пруская культура. У 2-й пал 1-га – пач. 2-га тыс. П. засвоілі наваколле Самбіі, на З – да вусця Нёмана, у т.л. ў кан. 1-га тыс. П. рушылі ў Верхняе Панямонне на тэр. Беларусі (пазней вядомы як *яцвягі*). Развіццё прускай культуры ўключае 3 этапы: 1) сяр. 5 – пач. 8 ст.; 2) 9–11 ст.; 3) 12–13 ст. Змены з 1-га на 2-гі этап былі выкліканы распадам родавага ўкладу прускага грамадства; з 2-га на 3-ці этап – рэлігійным уплывам хрысціянства. Пахавальны абрад першых двух этапаў – крэмацыя ў баку, пахаванне пад каменнай муроўкай; 3-га – інгумацыя. Сярод рэшткаў пахавальнага вогнішча меўся інвентар, абпалены ў рытуальнай урне альбо неабпалены сярод рэшткаў «часовай» урны. У некаторых пахаваннях абпалены інвентар спалучаўся з неабпаленымі рэчамі, якія меліся ў верхняй частцы ямы альбо над каменнай кладкай. Пахаванні коней звычайна няпоўныя (скура, чэрап, асобныя косткі), нярэдка з элементамі рыштунку. Арыентацыя ям крэмацыі: ПнЗ – ПдУ, каня на Пд, нябожчыка на ПнЗ ці Пн. Знешні воблік П. уключаў тыповыя элементы: 1-ы этап – грыўна, скроневае кольца, фібула (арбалетападобныя ці круглыя), спіральныя пярсцёнкі, нажы з прывескамі (буйныя пацеркі з шкла ці бурштыну), паясы, мячы аднялязовыя ў похвах з упрыгажэннем; 2-гі этап – галаўны венчык з металічнымі накладкамі, каралі, шматдротавая грыўна, пласцінкавыя бранзалеты, пярспёнкі, падковападобныя фібулы, паясы са спражкамі (часта з металічнымі накладкамі), мячы двухлязовыя ў похвах, кап'ё, сякера, драўляныя шчыты (да 10




Да арт. **Прусы**. *Храналагічныя індыкатары культуры прусаў (паводле У.І.Кулакова).*

ст. круглыя, пазней міндалепадобныя), канічныя шлемы, рыштунак вершніка, каня. У пазнейшыя часы пруская культура дэградзіравала. З 13 ст., пасля падпарадкавання П. зямель Тэўтонскаму ордэну, тэрмін «прусакі» суадносіўся не толькі з П., але і інш. насельнікамі рэгіёна Усх. Прусіі – немцамі і палякамі. З пач. 16 ст., пасля ўтварэння герцагства Прусія, на былых землях П. істотна павялічылася доля нямецкага насельніцтва, якое стала асн. носьбітам этноніма.

*Літ.*: Кулаков В.И. Древности пруссов VI–XIII вв. М., 1990; Его ж. Пруссы (V–XIII вв.). М., 1994; Его ж. История Пруссии до 1283 г. М., 2003; Его ж. Долькайм–Коврово: исслед. 1992–2002 гг. Минск, 2007; Витязь С.П., Кулаков В.И., Медведев А.М. Эталонные археологические памятники и проблемы хронологии европейских древностей (I тысячелетие н.э.) // Вестник Фонда фундаментальных исследований. Минск, 2000. *С.П.Віцязь.*

**ПРЫ́БАР**, археалагічныя помнікі – стаянкі і курганны могільнік каля в. Прыбар Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка-1 позняга неаліту за 0,4 км на У ад вёскі, 1 км на ПнЗ ад вусця р. Вабіч (левы прыток р. Друць), на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Друці, выш. 2–3 м. Адкрыў у 1980 і даследаваў 130 м$^2$ у 1981–82 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,1–0,2 м. Знойдзены крамянёвыя тронкавыя і ромбападобныя наканечнікі стрэл і дроцікаў, вастрыі, праколкі, рэтушны разец, нажападобныя пласціны з рэтушшу, скрабкі канцавыя, закругленыя, са скошаным рабочым канцом, у спалучэнні з праколкай або з выемкай, нуклеусы, сколы ўдарных пляцовак, адшчэпы, пласціны, лускавінкі, таксама ляпны вастрадонны посуд з прамымі ці злёгку адагнутымі венчыкамі, арнаментаванымі ямкамі круглай і прамавугольнай формы, адбіткамі дробназубчастага грэбеня.

Стаянка-2 позняга неаліту, за 0,7 км на ПдУ ад вёскі, 0,5 км на Пд ад стаянкі-1, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Друці. Адкрыў у 1980 і даследаваў 35 м$^2$ у 1982 В.Ф.Капыцін. Памеры 170 × 30 м. Культ. пласт 0,1–0,2 м. Знойдзены крамянёвыя вастрыі, разцы, праколкі, нажы, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкамі, канцавыя скрабкі з пласцін і адшчэпаў, клінападобныя сякеркі з крэменю і дыярыту з шліфаваным лязом, нуклеусы і іх абломкі, пласціны, адшчэпы, лускавінкі. Выяўлены фр-ты ляпнога посуду з прамымі і закругленымі венчыкамі, арнаментаванага ямкамі, адбіткамі дробназубчастага штампа.

Курганны могільнік за 0,5 км на З ад вёскі, на правым беразе Друці побач з дарогай на в. Калінаўка. Размешчаны на месцы селішча ранняга жал. веку. Захавалася 12 насыпаў выш. 0,5–2 м, дыям. 3–8 м. Выявіў у 1930 А.Дз.Каваленя. Абследавалі ў 1975 Я.Р.Рыер, у 1982 В.Ф.Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Каваленя А.Дз. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы. Т. 3; Копытин В.Ф. Археологические памятники Белыничского района Могилевской области. Могилев, 1992. *В.Ф.Капыцін.*

**ПРЫ́БАР**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі і паселішчы каменнага і бронзавага вякоў каля в. Прыбар Гомельскага р-на.

Курганны могільнік-1 позняга перыяду бронзавага веку і ранняга этапу мілаградскай культуры, паселішча каменнага і бронзавага вякоў ва ўр. Міліцкае, за 1,5 км на Пн–ПнУ ад вёскі, на левай тэрасе р. Уза. Адкрыў і абследаваў у 1970-я г. А.А.Макушнікаў. У 1983, 1988–90 М.В.Бычкоў правёў раскопкі 8 курганоў, у 2002–04 М.М.Крывальцэвіч зняў план могільніка, даследаваў 3 курганы, паселішча на месцы курганнага могільніка. Курганная група ўздоўж краю тэрасы, на працягу больш за 0,5 км, у лесе налічвала каля 80–90 насыпаў (цяпер 58). Дыям. насыпаў ад 5–7 да 10–20 м, выш. ад 0,15–0,3 да 1–1,2 м. Курганы 2 тыпаў: позняга перыяду бронзавага веку і ранняга этапу мілаградскай культуры. У ямах курганоў 1-га тыпу і побач на ўзроўні стараж. паверхні знойдзены фр-ты спаленых костак, абломкі посуду, развалы невял. кубкаў і гаршкоў лебядоўскага тыпу, крамянёвыя і каменныя вырабы, у т.л. 3 каменныя зерняцёркі. У адной з ям курганоў 2-га тыпу захаваліся сляды слупоў, фр-ты спаленых костак, 2 гаршкі мілаградскай культуры. У 2003–04 М.М.Крывальцэвіч даследаваў шурфамі (10 × 1 і 3 × 1 м) прастору паміж курганамі бліжэй да краю тэрасы. На паселішчы культ. пласт каля 0,2 м. Выяўлены крамянёвыя і каменныя вырабы, кераміка неалітычнага перыяду, абломкі посуду сярэднедняпроўскай культуры, сосніцкага і лебядоўскага тыпаў.

Курганны могільнік-2 позняга перыяду бронзавага веку за 0,5 км на Пн ад вёскі, на левабярэжжы р. Уза, на ўзлеску і на полі. Адкрыў у 1978 У.А.Літвінаў. У 1983, 1988, 1989 М.У.Бычкоў адзначыў тут 4 курганныя насыпы і сляды разбураных курганоў, на месцы якіх ён сабраў рэшткі посуду (сярод іх фр-ты гаршка позняга перыяду бронзавага веку), крамянёвыя вырабы і фр-ты спаленых костак. У 1989 М.У.Бычкоў раскапаў адзін з пашкоджаных курганоў (дыям. каля 12 м, выш. 0,4 м) у паўн. частцы могільніка. На ўзроўні стараж. паверхні знойдзена вял. колькасць фр-таў керамікі позняга перыяду бронзавага веку, сустракаліся пласціністыя адшчэпы, 2 фр-ты спаленых костак.

Паселішча-1 позняга неаліту на Пн ад вёскі, на ўскраіне левабярэжнай тэрасы р. Уза, на мысападобным выступе памерамі 40 × 50 м (выш. да 2,5 м), за 0,3 км на ПнЗ ад курганнага могільніка ва ўр. Міліцкае. Адкрыў у 2002

М.М.Крывальцэвіч. Культ. пласт каля 0,2 м. Знойдзены крамянёвы адшчэп, фр-ты посуду позняга неаліту.

Паселішча-2 неалітычнага перыяду на Пн ад вёскі, на ўзвышанай (выш. каля 3,5 м) ускраіне левабярэжнай тэрасы р. Уза, за 0,4 км на ПнЗ ад курганнага могільніка ва ўр. Міліцкае. Адкрыў у 2002 М.М.Крывальцэвіч. Знойдзены кераміка неаліту, апрацаваны крэмень, фр-ты костак.

Паселішча-3 неалітычнага перыяду за 2,5 км на ПнЗ ад вёскі, у лесе, на высокай (выш. да 7 м) ускраіне правай тэрасы р. Уза. Адкрыў у 2003 М.М.Крывальцэвіч. На схіле тэрасы на працягу каля 40 м сабраны абломкі неалітычнага посуду, крамянёвыя вырабы, кальцыніраваныя косткі.

Паселішча-4 каменнага веку за 2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Шотава, на пагоркавым выступе правай тэрасы р. Уза. Адкрыў у 2003 М.М.Крывальцэвіч. На разбураных участках помніка на працягу 40—50 м сабраны крамянёвыя вырабы.

Паселішча-5 каменнага веку, за 250 м на Пн ад вёскі і моста цераз р. Уза, на ўскраіне яе левабярэжнай тэрасы. Адкрыў у 2003 М.М.Крывальцэвіч. На месцы разбуранага кар'ерам пагорка сабраны крамянёвыя вырабы.

*Літ.*: Крывальцэвіч М.М., Бычкоў М.У. Прыбарскія курганныя могільнікі эпохі бронзы // ГАЗ. Мінск, 1996. № 9; Крывальцэвіч М.М. Даследаванне помнікаў неаліту і эпохі бронзы на Палессі // Там жа. Мінск, 2003. № 18. *М.М.Крывальцэвіч.*

**ПРЫБАР**, археалагічныя помнікі — стаянка і курганны могільнік каля в. Прыбар Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка эпохі мезаліту на паўд. ускраіне вёскі, за 0,1 км на У ад дарогі на в. Шмакі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памеры 150 × 25 м. Адкрыў у 1982 і даследаваў 16 м² у 1987 В.Ф.Капыцін. Знойдзены канцавыя скрабкі, рэтушныя разцы, вырабы з выемкай, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, прадукты расшчаплення крэменю. Значная колькасць крамянёвых знаходак абпаленая.

Курганны могільнік за 1 км на Пд ад вёскі, у лесе, каля дарогі Прыбар—Шмакі. 5 насыпаў выш. 1—1,2 м, дыям. 13—15 м. Адкрыў у 1982 і абследаваў у 1987 В.Ф.Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Археологические памятники Кировского района Могилевской области. Могилев, 2002. *В.Ф.Капыцін.*

**ПРЫБЫТКІН** Пётр Аўрамавіч (2.10.1927, в. Кавалёўка Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл. — 30.3.2006), беларускі археолаг і краязнавец. Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1950), працаваў настаўнікам. У 1959—62 удзельнічаў у даследаванні стаянак каменнага і бронзавага вякоў Крывіна 1, 2 каля в. Галоўск Сенненскага р-на Віцебскай вобл., у 1964—65 — у раскопках гарадзішча Багушэвічы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. Даследаваў стараж. гісторыю Бярэзінскага р-на, склаў яго археал. карту. Стваральнік гіст.-краязнаўчага музея ў Багушэвіцкай сярэдняй школе. Сярод яго экспанатаў — матэрыялы збораў на тэр. раёна (каменныя сякеры, кераміка жал. веку і сярэдневякоўя, нумізматычны матэрыял і інш.). Публікаваў артыкулы па прапагандзе аховы і ўважлівых адносін да гісторыка-культ. спадчыны. Адзін з аўтараў кн. «Памяць: Бярэзінскі раён. (2004).

*В.І.Кошман.*

**ПРЫБЯРЭ́ЖНАЯ**, Лысуха, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Прыбярэжная (б. Лысуха) Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* ў цэнтры вёскі, на правым высокім беразе р. Бярэзіна, на мысе, утвораным ручаём пры ўпадзенні яго ў раку, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка памерамі 40 × 35 м, з зах. і паўн. бакоў умацавана валам выш. 5—6 м, шыр. 15—20 м і ровам, які аплыў. Невял. вал выш. каля 0,5 м захаваўся ўздоўж усх. і паўд. краёў. Частка пляцоўкі і вал пашкоджаны траншэямі і бліндажамі ў Вял. Айч. вайну. Адкрыў і абследаваў у 1928 А.Рынейскі, абследавалі ў 1929 І.Р.Калодкін і М.М.Канвісараў, у 1931 А.М.Ляўданскі, у 1979 Т.С.Бубенька. У 1963 Л.Д.Победь заклаў шурф 2 × 2 м (культ. пласт 0,3 м). Знойдзена ляпная кераміка ранняга жал. веку, сярэбраная спражка, фр-т бронзавага бранзалета з арнаментаванымі пашыранымі канцамі 5—8 ст., шлак, абпаленае каменне, вугаль. У 1988—89 А.У.Ільюцік даследавала 96 м². Культ. пласт 0,5—0,8 м. У мацерыку зафіксавана больш за 70 слупавых і гасп. ям. Знойдзены грубаляпная кераміка (гладкасценная, штрыхаваная і глянцаваная), посуд слоікавы, прафіляваны і рабрысты, арнаментаваны круглымі ямкамі па аснаванні шыйкі ці вертыкальнымі пальцавымі зашчыпамі па плечыку; гліняныя прасліцы, грузікі і пацеркі; жал. вырабы (нажы з прамой і гарбатай спінкай, сярпы, праколкі, цвікі, фр-ты ляза сякер; абломак фібулы). Датуецца 1-й пал. 1-га тыс.

Селішча каля паўн.-зах. боку гарадзішча. Пл. каля 0,5 га. Адкрыў у 1928 А.Рынейскі. Абследавалі ў 1963 Л.Д.Побаль, у 1979 Т.С.Бубенька. На паверхні сабрана ляпная кераміка ранняга жал. веку.

*Літ.*: Рынейскі А. Разведачная археалагічная экспедыцыя // Наш край. 1929. № 8–9; Дубінскі С.А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г. // Працы. Т. 2; Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930–1931 гг. // Там жа. Т. 3; Побаль Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974; Ильютик А.В. Лысуха — памятник железного века // ГАЗ. Минск, 1995. № 7. *А.У.Ільюцік.*

**ПРЫЛЕ́ПЫ**, археалагічны помнік – гарадзішча каля в. Прылепы Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. Размешчана на ўзгорку выш. да 40 м на правым беразе р. Усяжа (правы прыток р. Гайна). Пляцоўка авальнай формы памерамі 60 × 25 м, па схілах умацавана 2 кольцападобнымі валамі і равамі, на паўд. краі – падкowападобным валам выш. 3,5 м і шыр. 20 м. Выяўлены ў 1925 А.М.Ляўданскім. Абследавалі ў 1964 Ю.І.Драгун, 1979 М.А.Ткачоў. У 1997, 2003, 2005 А.У.Ільюцік даследавала 144 м². Культ. пласт 0,4–0,9 м. Выяўлены слупавыя і гасп. ямы, на краі пляцоўкі зафіксаваны 2 аб'екты з абмазаных глінай камянёў у выглядзе авала з разамкнутымі канцамі памерамі 1,15 × 1 м і 0,8 × 1 м. У запаўненні зафіксаваны цёмна-шэры гумус з кавалкамі грубаляпнога посуду, косці жывёл, шлак, некалькі вугалькоў. У культ. пласце знойдзены ляпны гладкасценны, штрыхаваны і глянцаваны посуд слоікападобнай, прафіляванай і рабрыстай формы, гліняныя прасліцы біканічнай і акруглабокай формы з вял. адтулінамі, грузікі дзякоўскага тыпу, жал. фібула сярэднелатэнскай схемы, авальная спражка, серп, нажы, цвік, вастрыё. Частка керамікі арнаментавана ямкамі па аснаванні шыйкі, пальцавымі зашчыпамі ці насечкамі па рабры, тычкамі палачкай, наляпным валікам. Датуецца 2 ст. да н.э. – 4 ст. н.э.

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Раскопкі і археалагічныя разведкі ў Барысаўскім павеце // Навук. зб. Ін-та бел. культуры. Мінск, 1925; Ильютик А.В. Городище Прилепы // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19.

*А.У.Ільюцік.*

**ПРЫ́ПЯЦКА-НЁМАНСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура ранненеалітычных плямён, якія ў 5–4-м тыс. да н.э. жылі на З Беларусі, ПнЗ Украіны, ПдЗ Літвы і на крайнім ПнУ Польшчы. Сфарміравалася на аснове мясц. познамезалітычнай традыцыі. У пач. існавання культуры ў крамянёвым інвентары захоўваюцца перажыткавыя мезалітычныя рысы – лістападобныя наканечнікі стрэл, ланцэты, мікраліты. Кераміка прадстаўлена вастрадоннымі гаршкамі з грабеньчатымі расчосамі паверхні сценак, у якія пры лепцы дабаўлялі валакністыя арганічныя дамешкі. Посуд арнаментаваўся поясам глыбокіх круглых ямак пад краем венца, узорамі з грабеньчатых адбіткаў, насечак, наколаў і пракрэсленых рысак. П.-Н.к. блізкая ўсходнепалескаму варыянту *днепра-данецкай культуры.* У канцы свайго існавання знаходзілася пад уплывам з боку *лейкападобных кубкаў культуры* і культур «ляснога неаліту» Павіслення. Найб. даследаваныя паселішчы П.-Н.к. на З Беларусі – *Камень, Русакова, Русаковічы.*

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Да пытання вылучэння прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18.

*М.М.Чарняўскі.*

**ПРЫРЭ́ЧЧА**, археалагічныя помнікі – паселішчы каменнага і бронзавага вякоў каля в. Прырэчча Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. Першыя помнікі выявіў і даследаваў у 1960-я г. В.Р.Супрун. У 1995 М.М.Чарняўскі на правабярэжжы р. Шчара паміж вёскамі П. і Ферадкі лакалізаваў 7 помнікаў са знаходкамі крамянёвых вырабаў і ляпной керамікі. У 1997 В.Л.Лакіза паўторна абследаваў усе помнікі метадам паверхневых збораў і правёў раскопкі на паселішчы-2.

Паселішча-1 за 0,2–0,4 км на Пд ад вёскі на астанцы правабярэжнай тэрасы р. Шчара ва ўр. Драшкава Гара, на буйным пясчаным ўзвышшы, пакрытым лесам. Выяўлена вял. колькасць археал. матэрыялу, у т.л. у 1997 – 6 крамянёвых нуклеусаў, 4 рэтушаваныя пласціны, нож, пракрутка, праколка, 2 скоблепадобныя прылады працы, разец, 2 скрабкі, крамянёвая сякерка, трохвугольны наканечнік стралы.

Паселішча-2 за 2 км на Пд ад вёскі, на высокай дзюне пасярод шырокай правабярэжнай поймы р. Шчара. Памеры 170 × 70 м, у цэнтры пашкоджана пясчаным кар'ерам, у абрыве якога прасочваецца масіўны валун і сляды ад ям. На паверхні знойдзены дробныя крамянёвыя пласціны, адшчэпы, сколы, 6 нуклеусаў, разец, праколка, скобля, 3 нажы, 3 фр-ты ляпнога посуду. У раскопе цэнтр. часткі пл. 45 м² (усх. сценка кар'ера) культ. пласт 0,25–0,35 м, слаба насычаны артэфактамі. Зафіксавана 11 аб'ектаў, большасць з іх амаль аднолькавых памераў, формы (рэшткі драўляных слупоў), без знаходак. Расчы-



Да арт. **Прырэчча**. *Кераміка і крамянёвыя вырабы з паселішча-2.*

шчана адно агнішча, рэшткі гасп. ці жылой пабудовы. Выяўлена 76 фр-таў керамікі (большасць з іх – абломкі ляпнога посуду без арнаментацыі), 249 крамянёвых знаходак, пераважна прадукты першаснага расшчаплення. Сабраны адна- і шматпляцовачныя нуклеусы, частка з іх моцна спрацавана. Сляды другаснай апрацоўкі на 32 крамянёвых знаходках (разцы, праколка, скобле-, ножападобныя, рубячыя прылады, скрабкі, наканечнік стралы).

Паселішча-3 за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, за каналам (рэчышча р. Бярэзніца), на вял. паўразвеянай дзюне эліпсападобнай формы. Помнік часткова пашкоджаны пясчаным кар'ерам, засаджаны лесам. Выявіў М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,3 м. На пл. каля 140 × 90 м знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы (адшчэпы, пласціны, нуклеусы, рубячыя прылады, нажы, скрабкі, наканечнік стралы і інш.), фр-ты посуду.

Помнікі датуюцца эпохай неаліту (нёманская культура, кола культуры шнуравой керамікі).

*Літ.*: Лакіза В.Л. Археалагічныя даследаванні 1997 г. на Слонімшчыне // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў (1252–2002): матэрыялы рэгіянал. гісторыка-краязн. канф., прысвеч. 750-годдзю г. Слоніма і 70-годдзю заснавання Слонімскага раён. краязн. музея імя І.І.Стаброўскага. Слонім, 2002; Яго ж. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*В.Л.Лакіза.*

**ПРЫСНО́**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля пас. Прысно Веткаўскага р-на Гомельскай обл.

Паселішча-1 эпохі неаліту (*верхнедняпроўская культура*) і бронзавага веку (*сярэднедняпроўская культура* і *сосніцкая культура*) за 200 м на Пн ад пасёлка, ва ўр. Замастоўе. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч. Раскопкі не праводзіліся.

Паселішча-2 эпохі неаліту і бронзавага веку за 300 м на У ад пасёлка, ва ўр. Бочачкі. Памеры 500 × 200 м. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1970–80-я г. А.Г.Калечыц, М.У.Бычкоў. Культ. пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (сякеры, цёслы, скрабкі, разцы, скоблі, нажы, наканечнікі стрэл і коп'яў, нуклеусы, адшчэпы і інш.), адходы крамянёвай вытворчасці і фр-ты ляпнога посуду. Артэфакты адносяцца да эпохі мезаліту, неаліту (верхнедняпроўская культура), бронзавага (сярэднедняпроўская культура, рэшткі грунтавога могільніка сосніцкай культуры), жал. вякоў (*мілаградская культура* і *зарубінецкая культура*) і сярэдневякоўя.

Паселішча-3 эпохі неаліту і бронзавага веку за 1,5 км на У ад пасёлка, ва ўр. Кашалапы, на невял. узвышшы поплава правага берага р. Сож. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавала ў 1974–75 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, ножападобныя пласціны, нуклеусы, адшчэпы) і фр-ты ляпной керамікі.

Паселішча-4 за 2 км на ПнУ ад пасёлка, ва ўр. Старое Аднаполле, на дзюнах. Памеры 700 × 300 м. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1970–80-я г. А.Г.Калечыц, М.У.Бычкоў, У.А.Літвінаў і інш. Культ. пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (разцы, вастрыі, скоблі, наканечнікі стрэл і коп'яў), ляпная кераміка, якія сведчаць, што помнік існаваў з эпохі мезаліту да позняга сярэдневякоўя.

Паселішча-5 каменнага і бронзавага вякоў за 300 м на ПнУ ад пасёлка, на невял. узвышшы, сярод балота, ва ўр. Паляна. Памеры 150 × 30 м. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавала ў 1975 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка бронзавага веку.

Паселішча-6 каменнага веку. За 300 м на Пд ад пасёлка, на схіле вял. астанца 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўр. Сяльцо. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавала ў 1974–75 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка эпохі неаліту.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т. 1; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**ПРЫХА́БЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Прыхабы Расонскага р-на Віцебскай вобл. За 5 км ад вёскі, пры дарозе ў в. Тофелі. 7 круглых курганоў. У 1970 Г.В.Штыхаў даследаваў адзін курган выш. 1,15 м, дыям. 9 м. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Пад насыпам выяўлена попельна-вугальная праслойка. У паўн.-зах. частцы кургана круглая яма дыям. 20 см з перапаленымі касцямі. Верагодна, крэмацыя праводзілася на месцы ўзвядзення кургана. Пахавальны інвентар не выяўлены. Датуецца 2-й пал. 1-га тыс. н.э.

*Г.В.Штыхаў.*

**ПСА́ЛІІ**, элемент конскага рыштунку – вертыкальныя стрыжні, якія мацаваліся перпендыкулярна да канцоў цугляў. Такім чынам яны ўтрымліваліся ў роце каня, не з'язджаючы ўбок. Пры нацягванні аброці П. сціскалі вусны каня і прымушалі яго падпарадкоўвацца вершніку. На тэр. Беларусі найб. стараж. П. мелі выгляд С-падобнага стрыжня з 2 адтулінамі. Яны знойдзены ў бескурганным могільніку зарубінецкай культуры Велямічы 2 Столінскага р-на і гарадзішчы днепра-дзвінскай культуры Кастрыца Лепельскага р-на (1 ст. да н.э.). У стараж.-рус. час ва ўжытку былі прамыя ці дугападобныя П., выробленыя з жалеза ці з рога (лічацца больш архаічны-

мі). Жал. П. маглі ўпрыгожвацца інкрустацыяй з каляровых металаў ці серабра, а рагавыя пакрываліся разным арнаментам. Пасля 13 ст. цуглі з П. паступова выходзяць з ужытку.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX–XIII вв. // САИ. 1973. Вып. Е1–36; Звяруга Я.Г., Віцязь С.П. Рыштунак вершніка і верхавога каня з раскопак старажытных гарадоў Верхняга Панямоння // МАБ. 2006. Вып. 12; Віцязь С.П. Аб адным тыпе псаліяў з помнікаў Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. № 22. *М.А.Плавінскі.*

**ПУ́ЖЫЧЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі і крэменеапрацоўчая майстэрня каля в. Пужычы Гродзенскага р-на.

У 1957–58 Славяна-Літ. атрад Прыбалтыйскай экспедыцыі (Н.М.Гурына, Л.С.Клейн) выявіў на левым беразе р. Котра і правым беразе р. Нёман, у ваколіцах і на тэр. самой вёскі некалькі пунктаў з матэрыяламі каменнага веку і сярэдневякоўя. Так, за 0,8 км на ПдЗ ад вёскі на мысе на пл. памерамі 200 × 180 м былі знойдзены фінальнапалеалітычныя крамянёвыя наканечнікі стрэл свідэрскага тыпу, канцавыя скрабкі на пласцінах, разцы і інш. У 2003 у час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС былі лакалізаваны 2 стаянкі (В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі).

Стаянка-1 і крэменеапрацоўчая майстэрня неаліту і бронзавага веку за 1,2 км на З ад вёскі, 0,3 км уверх па цячэнні Нёмана ад вусця Котры, за 10–15 м ад берага на высокай пойме. На працягу 0,3–0,35 м знойдзены невял. скапленні расшчэпленых крамянёў (адшчэпы, пласціны, луска, абломкі). У 2009 помнік быў знішчаны.

Стаянка-2 за 1 км уверх па цячэнні Нёмана ад вусця Котры, 0,35 км на Пн ад рачнога вострава, на краі надпоймавай правабярэжнай тэрасы. Памеры 80 × 30 м. У 2009 В.Л.Лакіза даследаваў 80 м². Культ. пласт 0,5–0,7 м. Знойдзены крамянёвыя абломкі, адшчэпы, пласціны, некаторыя са слядамі агню (592 экз.), нуклеусы і іх фр-ты (10), сколы ажыўлення пляцоўкі нуклеусаў (2), часткова рэтушаваныя пласціны (5), адшчэпы з участкамі падрэтушоўкі (23), рубячыя прылады, нажы на пласцінах, праколкі, пракруткі, разцы, скоблі, скрэблы, вастрыё, трапецыя (80), скрабкі на адшчэпах і пласцінах (43), камбінаваныя прылады працы (скрэбла-разец, разец-скрабок, пракрутка-скрабок), трохвугольны наканечнік стралы. Таксама выяўлены некалькі фр-таў ляпной неарнаментаванай керамікі познанеалітычнага часу (7).

Помнік датуецца фінальным палеалітам, мезалітам, познім неалітам (верагодна, кола культуры шнуравой керамікі). Пасля будаўніцтва Гродзенскай ГЭС ён будзе затоплены вадасховішчам.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962. *В.Л.Лакіза.*

**ПУЗЕ́ЛІ**, археалагічны помнік – каменныя магілы каля в. Пузелі Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,7 км ад вёскі, на ўзвышшы ва ўр. Пяцкушкі. Большасць каменных выбруковак мае авальную форму. З зах. боку магіл звычайна знаходзяцца тарчма пастаўленыя камяні. На асобных з іх высечаны крыжы. У 1884–88 даследавалі В.А.Шукевіч, З.Глогер і Э.А.Вольтэр. Выяўлены адзіночныя пахаванні па абраду трупапалажэння ў ямах глыб. да 1,5 м. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З, ПнЗ, ПдЗ, у 2 выпадках – на Пн. Пахавальны інвентар: жал. нажы, сякеры, крэсівы, у т.л. з крэменем і кавалкамі серы, наканечнік кап'я, жал. і бронзавыя спражкі, кольцы, тачыльныя камяні. Багата прадстаўлены ўпрыгажэнні: сярэбраныя і бронзавыя пярсцёнкі, бранзалеты, завушніцы, бронзавыя спіралькі, шкляныя пацеркі. Найб. характэрнае ўпрыгажэнне – галаўны ўбор з бронзавых ці сярэбраных, часам



*Да арт.* ***Пужычы.*** *Крамянёвыя вырабы са стаянкі-2.*

з пазалотай пласцінак, аблямаваных дробнымі шклянымі пацеркамі. У магілах трапляліся літ. манеты і адзінкавыя гаршкі. Могільнік датуецца 13–14 ст. і больш познім часам.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962.

*Я.Г.Звяруга.*

**ПУКА́НАЎКА 1**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў каля в. Пуканаўка 1 Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 400 м на ПнЗ ад вёскі, абапал дарогі ў в. Заазер'е, у лесе. 76 курганоў выш. 1–3 м, дыям. 4–10 м, ёсць дыям. 18 м. Моцна зараслі хмызняком, лесам. Каля некаторых прасочваюцца раўкі. Вядомы з к. 19 ст. У 1967 Г.В.Штыхаў даследаваў 6 насыпаў, у 1981 абследаваў Ш.І.Бекцінееў. Пад усімі насыпамі выяўлена попельна-вугальная праслойка. У адным кургане знойдзены рэшткі чэрапа чалавека, жал. нож, ганчарны гаршчок з хвалістым арнаментам, 4 бронзавыя пярсцёнкі, 2 з іх з дроту, сагнутага ў некалькі абаротаў, 2 – пласціністыя з арнаментам у слачку. У другім насыпе пахаванне па абраду трупапалажэння, галавой на З. Знойдзены ляпны гаршчок, утулкавы наканечнік кап'я, нож. У інш. курганах пахаванняў і рэчаў не знойдзена. Датуецца 2-й пал. 10–11 ст.

*Літ.*: Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия императорской археологической комиссии. Санкт-Петербург, 1903. Вып. 5.

*Ш.І.Бекцінееў, Г.В.Штыхаў.*

**ПУ́ЛІ ТЫП** наканечнікаў, адзін з культуравызначальных элементаў крамянёвага інвентару шэрагу культур ранняга мезаліту лясной паласы Усх. Еўропы (кундскай, бутаўскай). Назву атрымаў па месцы знаходкі на стаянцы Пулі (Эстонія). У якасці нарыхтоўкі выкарыстоўваліся рэгулярныя нажападобныя пласціны правільнай агранкі. Наканечнікі характарызуюцца добра вылучаным чаранком, які падпраўлены плоскай сустрэчнай або паўстромкай рэтушшу з боку брушка. Аснова некаторых прадметаў можа быць зламанай, што надае чаранку кароткія і шырокія прапорцыі. У некаторых выпадках на чаранковай частцы вылучаюцца шыпападобныя выступы. Пяро наканечнікаў з боку брушка на палову ці трэць апрацавана плоскай сустрэчнай рэтушшу. На тэр. Беларусі наканечнікі П.т. вядомы на стаянках Дзедня, Пралетарскі (Пасожжа), Замошша (зах. Падзвінне). Комплексы з наканечнікамі П.т. дапаўняюцца знаходкамі шматлікіх укладышавых вырабаў, разцоў на зломе нарыхтоўкі, канцавых скрабкоў і г.д. *А.У.Коласаў.*

**«ПУСЕ́ЙПІ»**, адлітыя з бронзы тонкія шпількі з круглымі галоўкамі для мацавання жаночай галаўной хусткі да цвёрдай асновы. Верагодна, іх з'яўленне звязана з пранікненнем моды, занесенай з У мангола-татарамі. У 14–17 ст. пашыраны сярод паволжскіх народнасцей. 5 падобных шпілек даўж. 4–6 см знойдзена пры раскопках у Мінску (маглі належаць татарскаму насельніцтву), у Віцебску.

*Літ.*: Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.). М., 1981. *Г.В.Штыхаў.*

**ПУ́ТЧЫНА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі каля в. Путчына Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.

Могільнік-1 за 1,1 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, ва ўр. Курган. 3 курганы: 2 круглыя дыям. 9,5–10,5 м, адзін авальны 9,5 × 6,8 м, выш. 1,7–2




*Да арт. **Пулі тып** наканечнікаў. Наканечнікі стрэл са стаянак Дзедня (1–3) і Замошша (4).*

м. Адкрыў і абследаваў у 1979 Ю.А.Заяц. Мясц. назва Татарскія магілы.

Могільнік-2 за 2 км на Пн ад вёскі, 0,9 км на Пн ад могільніка-1, у лесе, ва ўр. Стэцкі Бярэзнік. 2 круглыя ў плане курганы дыям. 8,5 і 13,5 м, выш. 1,4 і 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 Ю.А.Заяц.

Могільнік-3 за 2,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, каля ўр. Моргі. 56 круглых у плане насыпаў дыям. 3–11 м, выш. 0,5–3 м. Адкрыў у 1979 і даследаваў адзін курган у 1980 Ю.А.Заяц. Пахавальны абрад – трупапалажэнне жанчыны ў падкурганнай яме галавой на ПнЗ. У нагах – скурчанае ўпоперак ямы пахаванне мужчыны. Пахавальная пляцоўка і яма, якія не прымыкалі адно да аднаго, абкружаны камянямі сярэдніх памераў. Знойдзены пярсцёнкападобнае з разамкнутымі канцамі скроневае кольца з каляровага металу, 2 кругавыя гаршкі: адзін на гарызонце, на пахавальнай пляцоўцы, другі – у яме. Датуецца 11 ст.

*Ю.А.Заяц.*

**ПУЦІ́ЛКАВІЧЫ**, археалагічны помнік – курганна-жальнічны могільнік каля в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на Віцебскай вобл. Знаходзіўся за 1 км на З ад вёскі, зараз не існуе. У 1887–91 Ф.Л.Вярэнька даследаваў 36 пахаванняў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў ямах з кастрышчамі, галавой на У, ПнУ, З і ПдЗ. Выяўлена некалькі парных пахаванняў. Знойдзены бронзавыя пярсцёнкі, пласціністыя арнаментаваныя бранзалеты, падкowападобныя фібулы, бразготкі, падвескі-конікі, дырхем, шкляныя і бурштынавыя пацеркі, пазалочаныя бляшкі ад галаўных убораў, рэшткі льняной тканіны і залатыя ніці, жал. нажы і сякеры, ляпны і кругавы посуд, гліняныя біканічныя праслiцы. Антрапалагічныя даследаванні былі праведзены польскім антраполагам Л.Сядлячакам у 1920-я г. У пач.1930-х г. адно пахаванне раскапаў А.Дз.Каваленя. Выяўлены рэшткі галаўнога ўбору з пазалочанымі бляшкамі. Датуецца 11–12 ст.

*Літ.*: Каваленя А.Зм. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы. Т. 3; Поболь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Минск, 1979; Sedlaczek L. Dregowiczanie (Studjum antropologicznie). Warszawa, etc., 1929.

*Л.У.Дучыц.*

**ПЧЭ́ЛЬНІК**, курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі каля в. Пчэльнік Барысаўскага р-на Мінскай вобл. За 3 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, абапал дарогі ў в. Кішчына Слабада, у лесе. Захавалася 146 курганоў выш. 0,5–2,5 м, дыям. 20 м. Каля буйных курганоў ёсць раўкі. У 1968 адзін разбураны курган (жаночае пахаванне) даследаваў М.М.Прохарчык. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З. Інвентар: 4 шкляныя пазалочаныя пацеркі, 4 бронзавыя скроневыя кольцы з заходзячымі канцамі, гаршчок. У 1971 Г.В.Штыхаў даследаваў 2 курганы. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. Рэчы не знойдзены.

*Літ.*: Прохорчик Н.Н., Штыхов Г.В. Курганная группа Пчельник–Кищина Слобода // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Минск, 1969.

*Г.В.Штыхаў.*

**ПШЭВО́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура, насельніцтва якой з мяжы 3–2 ст. да н.э. да 1-й пал. 5 ст. н.э. насяляла землі пераважна сярэдняй і паўд. Польшчы. Назва культуры паходзіць ад грунтавога могільніка ў мясцовасці Гаць каля г. Пшэварск Падкарпацкага ваяводства, даследаванага К.Гадачакам у 1905, уведзена ў навук. зварот Л.Нідэрле ў 1931. Назва культуры замацавалася ў 1930-я г. дзякуючы працам Р.Ямкі – у супрацьвагу тэрмінам «вандальская» і «венедская культура»,

*Храналогія матэрыялаў* ***Пшэворскай культуры.***






ПШЭВОРСКАЯ КУЛЬТУРА
Заўвага. На карце дадзены сучасныя граніцы дзяржаў і іх сталіцы
Маштаб 1:12 000 000

Аўтар В.Г. Белявец

якія ў 1920–30-я г. выкарыстоўваліся германскімі і польскімі археолагамі т.зв. этнічнага накірунку.

Фарміраванне храналагічнай схемы П.к. было ў цэлым завершана ў 1970–80-я г. У храналогіі П.к. вылучаюцца 3 этапы: позні перадрымскі перыяд – каля 220/180 да н.э. – 10/40 н.э. (фазы $A_1$, $A_2$, $A_3$); рымскі перыяд з падзелам на ранняярымскі – каля 10/40–160, ($B_1$, $B_2$), пераходны – каля 160–200 ($B_2/C_1$), познарымскі – каля 200–375 ($C_1$, $C_2$ і $C_3$); ранні этап эпохі *Вялікага перасялення народаў* – каля 375–430/450 (D1, D2).

Носьбіты П.к. атаясамліваюцца з кельтызаванымі, кельцкімі і германскімі плямёнамі, якія ў позні перадрымскі і ранняярымскі час вядомы пад назвай лугіяў, а ў рымскі перыяд утваралі племянны саюз ванлалаў. Генезіс П.к. звязваецца з распаўсюджаннем кельцкіх уплываў на мясц. насельніцтва *паморскай культуры.* Паміж 250–180 да н.э. асн. фактарам трансфармацыі яго культ. аблічча стаў міграцыйны рух кельтызаванага насельніцтва ясторфскай культуры – выхадцаў з паўн.-ўсх. Германіі і Ютландыі, якія выступаюць у антычных крыніцах пад назвай бастарнаў і скіраў. Шлях іх перамяшчэння прайшоў праз цэнтр. Польшчу ўверх па Вісле ў бок Падністроўя і ніжняга Падунаўя. Міграцыі выклікалі змены ў Зах., Цэнтр. і Усх. Еўропе, у выніку якіх на мяжы 3–2 ст. да н.э. ўтвараецца кола латэнізаваных культур (ясторфская, пшэворская, зарубінецкая, паянэшці-лукашоўская).

Носьбіты П.к. жылі абшчынамі з 40–100 чал. на неўмацаваных паселішчах пл. 0,5–15 га, размешчаных па берагах вадаёмаў. Асн. тып жытла – паўзямлянкавыя і наземныя пабудовы каркасна-слупавой і зрубавай канструкцыі пл. 20–40 м², якія мелі двусхільныя дахі, абаграваліся агнішчамі. Вядомы таксама пабудовы пл. да 100 м², якія, верагодна, выконвалі грамадска-рэлігійныя функцыі. Побач з імі былі гасп. пабудовы і ямы (простыя земляныя, з плятнёвай і каменнай канструкцыяй сценак), кухонныя агнішчы, калодзежы.

Гасп. развіццё П.к. было забяспечана шырокім распаўсюджаннем чорнай металургіі на базе мясц. радовішчаў дзярновых і горных руд. Вядома каля 3 тыс. жалезаплавільных майстэрань, большасць з якіх складаецца з 70–100 печаў. Буйныя цэнтры чорнай металургіі з некалькімі тысячамі печаў дзейнічалі ў наваколлях Варшавы і Свентакшыскіх гарах. Выплаўкай жалеза займаліся абшчыны, якія спецыялізаваліся ў гэтай галіне дзейнасці. Асн. гасп. заняткамі насельніцтва з'яўляліся земляробства і жывёлагадоўля. З мяжы 3–2 ст. да н.э. змяншаецца роля ляднага і пашыраецца адна- і двухпольнае ворнае земляробства; асн. культуры – проса, ячмень, пшаніца, бабовыя культуры, лён. Праз пасрэдніцтва кельтаў (насельніцтва тынецкай групы) распаўсюдзіліся авёс і каноплі. У рымскі перыяд асабліва важнае значэнне набывае вырошчванне жыта, у т.л. азімага. Апошняя рыса набліжае склад агракультур П.к. да правінцыйнарымскага і адрознівае яго ад земляробчага ўкладу інш. народаў Германіі. У 2–1 ст. да н.э. для апрацоўкі глебы прымяняліся драўляныя ралы, з пач. 1 ст. н.э. – ралы з наральнікамі і чарэсламі. З 3 ст. н.э. выкарыстоўваліся косы-гарбушы і ратацыйныя жорны. Жывёлагадоўля была арыентавана на мясны накірунак, практыкавалася стойлавае ўтрыманне буйнога рагатага ската. У якасці асн. цяглавой сілы выкарыстоўваліся валы і быкі. Было пашырана, асабліва ў рымскі час, гадаванне нізкарослых парод коней. Паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва мелі абмежаваны характар. Важную ролю ў гасп. і грамадска-палітычным жыцці насельніцтва адыгрываў гандаль па «бурштынавым» гандл.-камунікацыйным шляху уздоўж Віслы і яе левых прытокаў.

Кухонны посуд П.к. прадстаўлены перш за ўсё неарнаментаванымі грубаляпнымі гаршкамі з храпаватай паверхняй. Радзей у грубаляпной тэхніцы выраблялі кубкі, чарпакі, місы. Сталовы посуд (міскі, вазы, збаны, кубкі, чаркі і інш.) у асн. чорнаглянцаваны з геаметрычным арнаментам. Для пахавальных цырымоній вырабляўся не функцыянальны посуд. У стылістыцы ганчарных вырабаў адчуваецца арыентацыя на ўзоры глінянага і металічнага посуду кельцкіх, пазней – правінцыйнарымскіх рамеснікаў. З сяр. 2 ст. з Рымскай імперыі ў значных аб'ёмах паступае кругавы посуд (terra sigillata). У сяр. 3 ст. ляпны посуд паступова выцясняецца кругавым, у 4 ст. канчаткова выходзіць з ужытку. Вытворчасць кругавога посуду канцэнтравалася на вял. паселішчах у спецыялізаваных майстэрнях.

Пахавальны абрад П.к. характарызуе панаванне грунтавых могільнікаў з трупаспаленнямі. Трупапалажэнні вядомы на пачатковых этапах развіцця культуры на тэр. Слёнзка і Куявія, яны

звязаны з традыцыямі мясц. кельцкага насельніцтва. Пахаванні адзначаліся невысокімі драўлянымі слупамі, радзей (у асн. ў паўн. Мазовіі) каменнымі стэламі і коламі з валуноў. У позні перадрымскі час на могільніках пераважаюць ямныя крэмацыі. Ямы авальнай формы вызначаліся буйнымі памерамі і наяўнасцю ў іх значнай колькасці посуду, у т.л. другасна перапаленага. З рубяжа 1-га тыс. н.э. памеры ям выразна змяншаюцца, яны маюць пераважна акруглую форму, пашыраюцца урнавыя пахаванні і змяншаецца колькасць інвентару. У 1–2 ст. у Малапольшчы распаўсюджваюцца раўчуковыя пахаванні прамавугольнай формы, запоўненыя рэшткамі крэмацый і інвентаром. З 2-й пал. 3 ст. практычна знікаюць індывідуальныя урнавыя пахаванні. Іх змяняюць «пластовыя» пахаванні дабродзенскага тыпу (2-я пал. 3 – 1-я пал. 5 ст.), у якіх рэшткі вогнішчаў, кальцыніраваныя косткі і пахавальны інвентар змяшчаліся ў вельмі плыткія ямы альбо былі рассыпаны на паверхні могільнікаў.

Сярод металічнага пахавальнага інвентару пераважаюць вырабы з жалеза: дэталі касцюма і ўзбраення, бытавыя рэчы, прылады працы і інш. На фоне інш. культур еўрап. Барбарыкума пахавальны інвентар П.к. вылучаецца наяўнасцю значнай колькасці прадметаў узбраення. Гэта сведчыць аб мілітарызаванасці грамадства, мадэль якога была запазычана носьбітамі П.к ад кельтаў. У рымскі час склад, якасць і ступень стандартызаванасці ўзбраення дазваляе меркаваць пра наяўнасць устойлівых аб'яднанняў прафесійных воінаў. У 1–2 ст. адбываецца таксама выразнае ўзмацненне грамадска-палітычных пазіцый мясц. эліт і вылучэнне «княжацкіх» дынастый. Адным з найб. яскравых сведчанняў гэтых працэсаў з'яўляецца адасабленне элітарных могільнікаў з адмысловым пахавальным абрадам.

У Беларусі гарызонт П.к. вылучаны ў 2000 польскім археолагам Я.Анджаёўскім на прыкладзе матэрыялаў могільніка Скорбічы. На працягу апошніх гадоў на З Бел. Пабужжа адкрыта серыя новых помнікаў П.к. Наяўныя даныя сведчаць аб засяленні гэтых земель носьбітамі П.к. у 1 – сяр. 2 ст. Адзінкавыя знаходкі вядомы ў Бел. Падняпроўі (гарадзішча Вусце). У 2-й пал. 2 ст. на Пабужжы рэшткавыя групы пшэворскага насельніцтва далучыліся да абшчын вельбарскай культуры. Ва Усх. Еўропе ў арэал П.к. ўваходзілі тэр. Закарпацця, вярхоўі Зах. Буга і Днястра. Элементы П.к. адзначаюцца ў керамічным комплексе помнікаў позназарубінецкага кола тыпу Картамышава–Цярноўка на водападзеле Дняпра і Донца.

*Літ.*: Козак Д.Н. Пшеворская культура // Славяне и их соседи в конце I тысячелетия до н.э. – первой половине I тысячелетия н.э. М., 1993; Prahistoria ziem polskich. T. 5: Późny okres lateński i okres rzymski. Wrocław etc., 1981; Godłowski K. Przemiany kulturowe i osadnicze w Południowiej i Środkowej Polsce w młodszym okresie przedrzymskim i w okresie wpływów rzymskich // Prace Komisji Archeol. 1985. № 23; Dąbrowska T. Wczesne fazy kultury przeworskiej. Warszawa, 1988; Kaczanowski P., Kozłowski J.K. Wielka historia Polski. T 1. Najdawniejsze dzieje ziem polskich (do VIII w.). Kraków, 1998; Mączyńska M. Przeworsk-Kultur // Reallekxikon der Germanischen Altumskunde. Berlin; New York, 2003. Bd. 23; Wandałowie: strażnicy bursztynowego szlaku. Katalog wystawy. Lublin; Warszawa, 2004.

*В.Г.Белявец.*

**ПЯРСЦЁНАК**, упрыгажэнне, якое надзяваюць на пальцы рук; пашыраны ў многіх народаў свету. У старажытнасці П. насілі часцей жанчыны (ад 1 да 4–5, зрэдку да 10 штук адначасова), іншы раз мужчыны і дзеці (асабліва на Пн Беларусі). Рабілі П. з косці, каляровых і каштоўных металаў, шкла, бурштыну. У Беларусі П. з вузкіх бронзавых пласцінак вядомы з часоў жал. веку (*мілаградская культура, зарубінецкая культура*). У часы Кіеўскай Русі ў гарадах былі шырока распаўсюджаны шкляныя пярсцёнкі, якія выраблялiся пераважна ў Кіеве. Бытавалі таксама металічныя П.: кругладрацяныя, спіралепадобныя, гладкія літыя, пласціністыя арнаментаваныя (кружочкамі з кропкай у цэнтры і лініямі, нанесенымі зубчастым штампам), вітыя, плеценыя, рубчастыя, ажурныя, з устаўкамі са шкла, П.-пячаткі, шырокасярэдзінныя, шчытковасярэдзінныя (са шчытком у выглядзе круглай, авальнай, прамавугольнай ці рамбічнай формы). Некаторыя П. па форме падобны да бранзалетаў таго часу. Найб. вядомыя знаходкі: залаты П. 10 ст. вагой 24 г (Віцебск), пласціністы сярэбраны П. з разеткай (*Дроздава*). Фр-т П. (шасцівугольны шчыток з выявай крына на чарнёным фоне, схематычнымі выявамі галінак па баках і чарнёнымі трохвугольнікамі па вуглах) 2-й пал. 12 – пач. 14 ст. знойдзены на гарадзішчы *Маскавічы*.

*Літ.*: Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.). М., 1981; Макарова Т.И. Черневое дело древней Руси. М., 1986. *Л.У.Дучыц, В.М.Ляўко.*

**ПЯРЭКАЛЬ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Пярэкаль Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчаны ва ўр. «Курганы пад сонцам». 57 курганоў. У 1892 У.З.Завітневіч даследаваў 9 насыпаў дыям. 7–9 м, выш. 0,95–1,7 м. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце (6), у яме глыб. да 1 м (2), галавой на З. У адным кургане знойдзены рэшткі труны. Пахавальны інвентар – сярэбраныя кольцы і бронзавая пацерка. *П.Ф.Лысенка.*

**ПЯСОЧНАРОЎСКАЯ КУЛЬТУРА**, археалагічная культура эпохі мезаліту (9–7 тыс. гадоў таму на-

*Крамянёвыя знаходкі са стаянак Раманавічы (а, 1, 3, 4, 8–13) і Калініна (Чурылава) (б, 2, 5–7) **пясочнароўскай культуры** паводле А.У.Коласава.*







зад). Назву атрымала па стаянцы Пясочны Роў. П.к. вылучана М.В.Ваяводскім у 1950-я г. («дзяснінская культура»), навук. абгрунтаванне атрымала ў работах А.А.Фармозава, Дз.Я.Цялегіна, Л.Л.Залізняка. Асн. частка помнікаў П.к. канцэнтруецца ў басейне р. Дзясна (Пясочны Роў, Грыдасава, Камягіна, Мурагі, Студзёнак і інш.). Для крамянёвай індустрыі П.к. характэрна выкарыстанне адшчэпаў, у т.л. пласціністых, сколатых пераважна з грубых аднапляцовачных нуклеусаў буйных памераў. Сярод прылад працы сустракаюцца канцавыя, двайныя і акруглыя скрабкі, разцы рэтушныя, двухгранныя і на вугле зламанай нарыхтоўкі, праколкі і свердзелы, вастрыі, пласціны і адшчэпы са скошаным канцом, грубыя сякеры. Выразнасць крамянёваму інвентару П.к. надаюць мікраліты, прадстаўленыя высокімі сіметрычнымі і асіметрычнымі трапецыямі, трохвугольнікамі, таксама знаходкі асіметрычных вастрый з бакавой выемкай (т.зв. ўкладышы «алтынаўскага тыпу»), абушковыя нажы, чаранковыя наканечнікі стрэл.

Паводле Л.Л.Залізняка, раннія помнікі П.к. вызначаюцца адсутнасцю геаметрычных мікралітаў. У к. 8-га – пач. 7-га тыс. да н.э. распаўсюджваюцца ўкладышы алтынаўскага тыпу, трапецыі, трохвугольнікі, якія на заключных этапах развіцця культуры сталі дамінуючай катэгорыяй крамянёвага інвентару. Познамезалітычны этап П.к. характэрызуюць помнікі тыпу Студзёнак, сярод якіх шырока прадстаўлены тронкавыя наканечнікі стрэл з плоскім падчэсваннем чаранка і пяра, сякеры і цёслы, апрацаваныя шляхам двухбаковай абіўкі. Лёс насельніцтва П.к. звязваецца з фарміраваннем неаліту басейна Дзясны.

У якасці генетычнага продка П.к. разглядаюцца *арэнсбургская культура* ці *грэнская культура*. Разам з грэнскай, іенеўскай, усць-камскай, Фосна і Комса культурамі старажытнасці П.к. ўваходзілі ў адзіную прастору культур асіметрычных наканечнікаў з бакавой выемкай, насельніцтва якіх ў канцы эпохі плейстацэну–пач. галацэну пражывала ў лясной паласе Усх. Еўропы.

На тэр. Беларусі матэрыялы П.к. вядомы па паверхневых зборах А.Г.Калечыц са стаянак Калініна (Чурылава) і Раманавічы (гомельскае Пасожжа). Час існавання насельніцтва П.к. ў Беларусі вызначаецца 2-й пал. 8-га –7-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Зализняк Л.Л. Население Полесья в мезолите. Киев, 1991; Його ж. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України. Культурний поділ та періодизація // Кам'яна доба України. Київ, 2005. Вип. 8; Колосов А.В. Финальный палеолит и мезолит Посожья // МАБ. 2010. Вып. 18. *А.У.Коласаў.*

**ПЯСЧА́НАЕ**, стаянка *лінгбі культуры* (к. палеаліту – пач. мезаліту) каля в. Адрыжын Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл. Размешчана на паўд. беразе воз. Пясчанае, на схіле пясчаных пагоркаў выш. да 3–6 м, месцамі апускаецца пад ваду. Найб. канцэнтрацыя знаходак ва ўсх. паніжанай частцы помніка, каля трыангуляцыйнага знака і выхадаў мелу і крамянёвых адкладаў. Выяўлена ў 1920-я г., у 1927 даследаваў польскі археолаг М. Рукседуйны, у 1970 – У.Ф.Ісаенка.

Сярод 900 апрацаваных крамянёў 50 прылад працы: разцы (бакавыя, вуглавыя, клінападобныя, сярэдзінныя), наканечнікі стрэл (тыпу лінгбі, арэнсбургскія, свідэрскія, гамбургскага тыпу), доўгія і кароткія скрабкі; 60 пласцін і інш. Помнік датуецца 11–6-м тыс. да н.э. Крамянёвы матэрыял часткова падобны да знаходак на стаянцы Опаль. На тэрасе паўн. берага воз. Пясчанае каля в. Уласаўцы ў 1970 У.Ф.Ісаенка сабраў каля 100 апрацаваных крамянёў.

*Літ.*: Sulgostowska Z. Prahistoria międzyrzecza Wisły, Niemna i Dniestru u schyłku plejstocenu. Warszawa, 1989. *У.Ф.Ісаенка.*

**ПЯТРО́ВІЧЫ**, археалагічны помнік – гарадзішча ранняга жал. веку каля в. Пятровічы Бабруйскага

р-на Магілёўскай вобл. За 1,3 км на У ад вёскі, ва ўр. Гарадок, на правым беразе р. Брожка (правы прыток р. Бярэзіна), сярод поплаву, на ледзь прыкметным узвышшы. Пляцоўка авальная (пл. 4442 м²), умацавана валам шыр. 10–12 м, выш. 1,4 м, даўж. 287 м. З ПнУ дадатковыя ўмацаванні: вал выш. 0,5–0,7 м, шыр. 4–5 м паміж 2 равамі (шыр. 4 і 2–3 м, глыб. 0,6–0,9 м). Агульная пл. гарадзішча 11 754 м². Упамінаецца ў апытальным лісце Наркамасветы БССР па Бабруйскім пав. за 1924. Абследавалі ў 1964 Л.Д.Побаль, у 1978 П.Ф.Лысенка, даследаваў у 1987–91 М.І.Лашанкоў (80 м² абарончых збудаванняў і 724 м² пляцоўкі). Гал. вал насыпаны з прынесенага пяску (першапачаткова шыр. 6 м, выш. 1 м), завяршаўся драўляным плотам або плятнём. Дно рова за валам на 1 м ніжэй за мацярык пляцоўкі. Дадатковы вал завяршаўся драўлянай сцяной. Знешні роў на 0,9 м ніжэй за мацярык пляцоўкі. У старажытнасці равы злучаліся з балотам і былі запоўнены вадой. У к. 7 – пач. 5 ст. да н.э. пажар знішчыў драўляныя ўмацаванні на валах. Пазней абарончыя збудаванні былі адноўлены, унутраны роў прысыпаны, а гал. вал павялічаны. Культ. пласт на пляцоўцы ад 0,2–0,3 да 0,4–0,6 м. Выяўлены гасп. ямы і сляды наземнага жытла слупавай канструкцыі з незаглыбленай падлогай. Знойдзены крамянёвыя наканечнік стралы, скрабок, бакавы і вуглавы разцы, пласціны, адшчэпы, 3 каменныя сякеры, шмат зерняцёрак. Пераважае пласкадонны посуд з прафіляваным тулавам і адагнутым венчыкам, а таксама венчыкі рабрыстых гаршкоў штрыхаванай керамікі культуры і тоўстыя сценкі слоікападобнага посуду. Выяўлены бронзавыя скроневыя кольца, трапецa- і акулярападобная падвескі, жал. сякера-кельт, нож з гарбатай спінкай, 3 сярпы і нож для жніва, 3 кольцы, шылы, шпількі, 4 фібулы, фр-ты мініяцюрных гліняных пасудзін, частка тыгля, 30 прасліц. Мяркуючы па знаходках, мілаградскае насельніцтва адчувала ўплыў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Помнік датуецца 6–1 ст. да н.э.

*Літ.:* Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974. *М.І.Лашанкоў.*

**ПЯТРÓВІЧЫ**, археалагічны помнік – грунтавы могільнік *вельбарскай культуры* каля в. Пятровічы Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл. Знаходзіцца ва ўр. Белая Гара пры ўпадзенні ў р. Мухавец р. Асіпоўка. Вядомы з 1939, калі калекцыя прадметаў, сабраная на ім, была перададзена ў фонды Дзярж. археал. музея ў Варшаве. У к. 1970-х г. пад час будаўніцтва шашы Брэст–Масква большая частка ўзвышша Белая Гара была знішчана кар'ерам. У 2000–06 даследаваў В.Г.Белявец. На пл. 560 м² выяўлена 74 пахаванні і шэраг аб'ектаў могільніка. У старажытнасці частка пахаванняў



*Да арт. **Пятровічы**. Шкляныя мазаічныя пацеркі з пахавання 36.*

была пазначана на паверхні каменнымі стэламі, камянямі, драўлянымі слупамі і агароджамі. Могільнік характарызуецца бірытуалізмам пахавальнага абраду: 33 пахаванні з трупаспаленнямі і 41 – з трупапалажэннямі (галавой на Пн, адно – па лініі З–У). У адным з пахаванняў касцяк быў змешчаны, верагодна, у драўлянай калодзе. Прасочаны выпадкі раскопвання магільных ям у старажытнасці і парушэння касцякоў. Паводле даследчыкаў, гэты звычай звязаны з праявамі «антывампірычнай магіі». Нябожчыкаў спальвалі на вогнішчах, якія разводзіліся ў выкапаных ямах (устрынах). Даследаваны адзін з такіх аб'ектаў на паўн. ускраіне могільніка. Пераважаюць ямныя пахаванні (23), у 10 рэшткі крэмацыі былі змешчаны ва урны з арганічных рэчываў. Суправаджальны інвентар складаецца з упрыгажэнняў, дэталей касцюма (фібулы, каралі з шкляных і бурштынавых пацерак, паясныя спражкі) і побытавых рэчаў (грабеньчыкі, іголкі, верацёны з прасліцамі). У адрозненне ад аднакульт. могільніка ў *Брэст–Трышыне*, посуд сустракаецца рэдка, ён фрагментаваны – як правіла, расколаты на палову па вышыні. Сярод рэдкіх для тэр. Беларусі знаходак – сярэбраныя вырабы ў стылі «вельбарскага барока», правінцыйнарымскія шкляныя жэтоны для гульні. У шэрагу пахаванняў захаваліся фр-ты шарсцяной і льняной тканін. Калек-



*Да арт. **Пятровічы**. Інвентар пахавання № 36 могільніка вельбарскай культуры (1, 2 – серабро; 3, 11 – бронза; 7 – дрэва і бронза; 10 – рог і бронза; 12, 13 – жалеза; 5 а–в, д–і, 6 г, 14–29 – шкло; 5 г – залатая фольга і шкло; 5 к, 6 а–в – бурштын).*

цыя знаходак сведчыць аб тым, што абшчына, якая выкарыстоўвала могільнік, мела шырокія сувязі з насельніцтвам культур гоцкага кола і еўрап. Барбарыкума – ад зямель ніжняй Віслы да Падунаўя. Храналогія могільніка ахоплівае фазы $B_2/C_1$–$C_{1a}$ –$C_2/C_3$ *перыяду рымскіх уплываў*, каля рубяжа 2–3 – пач. 4 ст.

Матэрыялы захоўваюцца ў фондах Дзярж. археал. музея ў Варшаве, Нацыянальнага гіст. музея Беларусі і Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

*Літ.*: Andrzejowski J. Wykaz stanowisk z okresu rzymskiego // Zabytki z okresu wpływów rzymskich, średniowiecza i czasów nowożytnych z Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2005; Белявец В. Папярэднія вынікі вывучэння грунтовага могільніка вельбарскай культуры Пятровічы (Белая Гара) // ГАЗ. Мінск, 2006. № 23; Его ж. К изучению памятников вельбарской культуры в Беларуси // Nowe materyały i interpretacje: stan dyskusji na temat kultury wielbarskiej. Gdańsk, 2007.

*В.Г.Белявец.*

**ПЯТРО́ЎЦЫ**, археалагічны помнік – *стаянка нёманскай мезалітычнай культуры* каля в. Пятроўцы Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 1,5 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Зах. Дзвіна, ва ўр. Сямёнаў Хутар. У 1957 даследавала Н.М.Гурына, у 1967 – І.М.Ціханенкаў. Ускрыты 121 м². Знойдзены крамянёвыя ўкладышы, скрабкі канцавыя з пласцін, сякеры, праколкі, вастрыі, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, фр-ты наканечнікаў стрэл, трапецыя, нуклеусы. Датуецца познім мезалітам.

*Літ.*: Гурина Н.Н. Новые мезолитические памятники лесной полосы Европейской части СССР // СА. 1960. № 1; Тихоненков И.М. Раскопки мезолитической стоянки Семенов Хутор // Древности Белоруссии. Минск, 1969. *У.П.Ксяндзоў.*

**ПЯТРО́ЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі дрыгавічоў каля былой в. Пятроўшчына на паўд.-зах. ускраіне Мінска.

Курганны могільнік-1 за 1 км на Пн ад б. вёскі, за 0,1 км ад воз. Чыстая Лужа. Было 11 круглых у плане насыпаў дыям. 3,5–11,5 м, выш. да 4,5 м (не захаваліся). У 1925 І.А.Сербаў даследаваў 3 курганы. Пахавальныя абрады – трупапалажэнне галавой на З і трупаспаленне на падсыпцы. Крэмацыя адбывалася на месцы пахавання. Пахаванні адзіночныя, адно – трайное. У курганах з трупапалажэннем нябожчыкі былі ў трунах альбо пакрываліся драўлянай калодаю. У нагах і галавах (альбо толькі ў нагах) – сляды рытуальных вогнішчаў. У адным кургане пахаванне на попельнай пляме. У насыпе блізка да вяршыні знойдзены сляды памінальнай трызны – рэшткі вогнішча з косткамі свойскіх жывёл, птушак і рыб, фр-тамі кругавога посуду. Пахавальны інвентар: скроневыя кольцы пярсцёнкападобныя і S-канцовыя, несапраўднавітыя і драцяныя пярсцёнкі з каляровых металаў, пацеркі сердалікавыя (прызматычная і 14-гранныя), золаташкляныя, шыферныя, у вочкі, металічныя несапраўдназярнёныя і несапраўднафіліграннныя, кругавыя гаршкі. Датуецца к. 10 – 1-й пал. 11 ст.

Курганны могільнік-2 за 0,2 км на Пн ад могільніка-1. 14 круглых у плане насыпаў дыям. 4–15, выш. да 4 м, былі знішчаны. Апошні з насыпаў захаваўся блізка да скрыжавання вуліц М.Гарэцкага і Шаранговіча. У 1925 І.А.Сербаў даследаваў 6 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на падсыпцы галавой на З і ў падкурганных ямах глыб. да 0,5 м. У некаторых знойдзены рэшткі дамавін. У насыпах сляды рытуальных вогнішчаў, фр-ты керамічнага посуду. Большасць пахаванняў без інвентару. Знойдзены 2 бронзавыя гузікі, кругавыя гаршкі. Датуецца к. 10–11 ст.

*Літ.*: Сербаў І.А. Археалагічныя раскопкі ў акаліцах Менску ў 1925 г. (Пятроўшчына і Рылаўшчына) // ГАЗ. Мінск, 1927. № 1 (даклады і рэфераты 1926–1927 гг.).

*Ю.А.Заяц.*





*Віслыя* ***пячаткі*** *з Віцебска.*

**ПЯЧА́ТКА**, прадмет з рэльефнымі знакамі для атрымання іх адбітка на гліне, воску, паперы і інш., а таксама адбітак гэтых знакаў на дакументах для надання ім сапраўднасці і юрыдычнай сілы. Адбіткі П. падзяляюцца на металічныя (10—15 ст.), васковыя (14—17 ст.), сургучныя (з к. 17 ст.), курадымныя (18—19 ст.). На тэр. б. Кіеўскай Русі пры археал. раскопках або выпадкова знойдзены металічныя П., сярод якіх пераважаюць свінцовыя віслыя П.-булы дыям. 1,5—3 см. Шмат віслых П. выяўлена ў Ноўгарадзе: свінцовыя полацкія П. кн. Ізяслава Уладзіміравіча (к. 10 ст.), Ефрасінні Полацкай і яе маці Сафіі, епіскапаў Дыянісія і Міны (12 ст.) і інш. На тэр. Беларусі — у Ваўкавыску, Тураве і на Берасцейскім гарадзішчы знойдзена П. тураўскага кн. Ізяслава Яраславіча (у хрышчэнні Дзмітрыя, 11 ст.). Яму належала, магчыма, П. з выявай св. Дзмітрыя з Пінска. У Полацку выяўлена П. з выявай кіеўскага кн. Усевалада (Андрэя) Яраславіча (11 ст.) і была з выявай Маці Божай Агіясарытысы ці Халкапратыйскай, у Віцебску — П. з выявай Васілія Кесарыйскага і архангела Міхаіла, якая належала кн. Рурыку Расціславічу (1157—1210), і П. з выявай Феадора Цірона з надпісам «ги помзі рабу свое...», што належала сыну Уладзіміра Манамаха, кн. Мсціславу Уладзіміравічу (1113—17). Некалькі П. з Гродна і Віцебска маюць на адным баку выяву св. Барыса (ці Глеба) у княжацкай шапцы з крыжам каля грудзей, на адваротным — выяву квітнеючага крыжа. Такая П. з Мінска, відаць, належала мінскаму кн. Глебу Усяславічу (памёр у 1119) або яго брату, полацкаму кн. Барысу. На П. з Гомеля — надпіс «Дьнеслово», з Ваўкавыска — «Симеон». П., знойдзеная ў в. Залатуха Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл., мае выяву св. Георгія, на адваротным баку — трызубца (знак Рурыкавічаў). На *Полацкім Вялікім пасадзе* выяўлена двухбаковая П. з пясчаніку к. 16 — 1-й пал. 17 ст. На адным яе баку «Пагоня», на адваротным — алень, які бяжыць. Разнавіднасцю віслай металічнай П. з'яўляецца пломба. Вывучае П. сфрагістыка.

*Літ.*: Янин В.Л. Актовые печати Древней Руси X—XV вв. Т. 1—2. М., 1970; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Харашкевіч Г.Л. Полацкія пячаткі XV стагоддзя // ПГКБ. 1974. № 1; Літвінаў У.А. Пячатка эпохі Кіеўскай Русі // Там жа. 1980. № 2; Цішкін І. Віслыя пячаткі // Там жа. 1986. № 4. Штыхов Г.В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Минск, 1975;

*І.А.Цішкін, Г.В.Штыхаў.*





*В.Н.Рабцэвіч.*

**РАБЦЭ́ВІЧ** Валянцін Навумавіч (26.11.1934, б. в. Краснае Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. – 29.5.2008), беларускі нумізмат, археолаг. Д-р гіст. навук (1996). Скончыў БДУ (1957). У 1957–59 у арганізацыйнай групе Дзярж. музея БССР. З 1963 у БДУ, у т.л. ў 1979–2007 кіраўнік археал. экспедыцыі БДУ, якая праводзіла раскопкі стараж.-рус. курганоў у Віцебскай, Гомельскай, Мінскай абласцях. Вывучаў гісторыю грашовага абарачэння ў Беларусі, Украіне, Літве, Польшчы, тапаграфію манетных скарбаў Беларусі. Удзельнічаў у абследаванні і раскопках археал. помнікаў *Ветачка*, *Гадзілавічы*, *Каласы*, *Мадора*, *Навасёлкі* (у межах г. Мядзел), Нагаўкі Мядзельскага р-на, *Наўры*, *Цагельня*, *Юдзічы*. На аснове ўласнай калекцыі манет стварыў нумізматычны кабінет БДУ, прадстаўляў Беларусь у Нумізматычнай камісіі Нац. к-та гісторыкаў СССР. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), навучальнага дапаможніка для ВНУ «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980).

*Тв.*: Топография монетных кладов на территории Белоруссии. Ленинград, 1965; Основные итоги нумизматических исследований в БССР // Белорусские древности. Минск, 1967; Находки античных монет на территории Белоруссии // Вопросы истории. Минск, 1968; О чем рассказывают монеты. 2 изд. Минск, 1977; Нумизматика Беларуси. Минск, 1995; Монетные клады Рогачевщины // Старажытнасці Рагачоўшчыны: матэрыялы навук.-практ. канф. Мінск; Рагачоў, 2000; Клады: атрибуция, классификация, интерпретация (этнографическо-нумизмат. очерк) // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны. Мінск, 2005. Вып. 2; О монетах Новгород-Северского и Стародубского уделов Великого княжества Литовского (посл. четв. XIV в.) // Средневековая нумизматика Восточной Европы. М., 2007. Вып. 2. *А.А.Егарэйчанка.*

**РАВЯ́ЧКІ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і селішчы каля в. Равячка Мядзельскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі* культуры за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на ўзвышшы сярод поплаву р. Сэрвач. Памер 55 × 38 м. Выявіў у 1967 і абследаваў у 1974 А.Р.Мітрафанаў. Пляцоўка ўмацавана сістэмай валоў і равоў. Першы вал. выш. 0,7 м, шыр. 4 м знаходзіцца з паўн.-ўсх. боку пляцоўкі, за ім роў глыб. 2 м і шыр. каля 6 м, другі і трэці валы з 2 равамі – з паўд.-зах. боку пляцоўкі. Выш. валоў 1 м, шыр. 5–7 м. Глыб. равоў 0,5–0,6 м, шыр. 6–7 м. Культ. пласт 0,3–1 м. Знойдзены фр-ты рабрыстых і слоікавых штрыхаваных пасудзін, косткі жывёл і шлакі. Датуецца 1–4 ст.

Селішча-1 *банцараўскай культуры* за 0,4 км на Пд ад зах. ускраіны вёскі. Займае частку поля і поплаву р. Сэрвач. Пл. 0,4–0,5 га. Выявіў і абследаваў у 1973 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт 0,1–0,2 м. Знойдзены абломкі ляпнога гладкасценнага посуду. Датуецца 6–7 ст.

Селішча-2 банцараўскай культуры за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на ўзвышшы правага берага р. Сэрвач. Памеры 165 × 30–35 м. Выш. 4–5 м. Выявіў у 1967, даследаваў у 1973–75 А.Р.Мітрафанаў (1292 м²). Культ. пласт 0,4–0,5 м. Выяўлены рэшткі 4 прамавугольных у плане жытлаў зрубнай канструкцыі з 2-схільнымі дахамі. 2 наземныя жытлы пл. 11,5 і 16,8 м² урэзаны ў схіл узвышша, унутры печы-каменкі ў выглядзе развалаў абпаленых камянёў. Адна паўзямлянка пл. 15,2 м² заглыблена ў зямлю на 0,5 м, мела агнішча ў выглядзе выбрукоўкі з дробных камянёў на пясчанай падсыпцы. Другая паўзямлянка заглыблена ў зямлю на 0,6 м (раскапана часткова), мела ўнутры печ-каменку. Знойдзены ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, слабапрафіляваныя і слоікавыя пасудзіны, жал. нажы з выгнутай і прамой спінкай, бронзавыя трубачкі, жал. шылы, гліняныя біканічныя праслiцы з вял. адтулінамі.

*Літ.*: Митрофанов А.Г. Железный век средней Белоруссии (VII – VI вв. до н.э. – VIII в. н.э.). Минск, 1978. *А.Р.Мітрафанаў.*

**РАГАЧО́Ў**, горад, цэнтр Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл., прыстань на р. Дняпро, за 2 км ад зліцця з ім р. Друць.

Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1142 пры апісанні раздачы кіеўскім кн. Усеваладам Ольгавічам сваім братам гарадоў Тураўскай

і Уладзімірскай зямель. У сувязі з тым, што Р. названы сярод інш. тураўскіх гарадоў, можна меркаваць, што ён належаў Тураўскай зямлі. Другі раз узгадваецца ў летапісе пад 1188 пры апісанні паспяховай аблогі Друцка Святаславам. З к. 13 ст. ў складзе ВКЛ, а з 1509 належаў вял. князю. У к. 16 – пач. 17 ст. ў ваколіцах Р. дзейнічалі казацка-сялянскія атрады Налівайкі і Дубіны. Як умацаваны замак упамінаецца з 1567, меў стратэгічнае значэнне і ў 17 ст. ўваходзіў у сістэму пагранічнай абароны па Дняпры (гарэў у 1654, 1780). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) адышоў да Расійскай імперыі.

Гарадзішча стараж. Р. размяшчаецца у паўд. частцы сучаснага горада і займае край мыса выш. 11–12 м каля сутокаў Друці з Дняпром. Пляцоўка блізкая да трохвугольнай (125 × 90 м), ад карэннага берага аддзелена дугападобным ровам шыр. больш за 40 м. З трох бакоў гарадзішча было абаронена высокімі стромкімі схіламі, з боку поля – ровам. Штучныя ўмацаванні не захаваліся, уезд размяшчаўся з паўд. боку. Вядома пад назвамі Замкавая гара, Замак каралевы Боны. Выявіў у 1855 М.В.Без-Карніловіч, абследавалі ў 1929 А.Дз.Каваленя, у 1951 Ю.У.Кухарэнка, даследаваў у 1966–67 П.Ф.Лысенка. У 1973, 1975–76 раскопкі праводзіла археал. экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам Э.М.Загарульскага. Першыя пасяленцы на гэтай тэр. з'явіліся ў 2-м тыс. да н.э., аб чым сведчаць знаходкі каменнай матыкі і абломкаў ляпной керамікі з грабеньчатым арнаментам. У жал. веку (1-е тыс. да н.э.) тут узнікла ўмацаванае гарадзішча. Пры раскопках выяўлены сярпы, нажы, лязо сякеры, наканечнікі стрэл, рыбалоўныя кручкі, абгарэлае зерне жыта, фр-ты штрыхаванай керамікі; знаходкі глінянага тыгля і льячкі сведчаць пра існаванне бронзаліцейнай справы. У сяр. 1-га тыс. н.э. гарадзішча спыніла існаванне, а ў к. 1-га тыс. – пач. 2-га тыс. н.э. на яго месцы ўзнікла паселішча ўсх. славян. Культ. пласт да 1,3 м, не захаваў рэчаў арганічнага паходжання, таму забудову прасачыць не ўдалося.

Знойдзены прылады працы (нажы, сярпы, разцы, шарнірныя нажніцы, сякеры, зубілы і інш.), прадметы побыту (фр-ты замкоў і ключы, шылы, крэсівы, падкоўкі для абутку, дужкі ад вёдраў, пісалы і інш.). Зброя і рыштунак конніка прадстаўлены наканечнікамі стрэл, фр-тамі шпор, цугляў; ювелірныя вырабы – паяснымі спражкамі, шпількамі, пярсцёнкамі; вырабы з косці – арнаментаванымі трубкамі, падвескай-амулетам з адтулінай, арнаментаванымі накладкамі, абломкам шахматнай фігуркі. Сярод інш. знаходак – рыбалоўныя кручкі, цвікі, брускі, фр-ты ганчарнага посуду. Жыхары Р. займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам. Была развіта апрацоўка жалеза, каляровых металаў, косці, дрэва. Аб гандл. сувязях з Кіевам і Валынню сведчаць знаходкі шкляных пацерак і посуду, шыферных праслiц і інш. Паселішча на Замкавай гары, якое ўзнікла ў 11 ст., на першапачатковым этапе з'яўлялася, верагодна, феад. замкам.

*Літ.*: Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся. Санкт-Петербург, 1855; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Дончик В.Д. Рогачев: ист.-экон. очерк. Минск, 1974; Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Археалогія Беларусі. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII стст.). Мінск, 2000. *А.М.Ваганава.*

**РАГВАЛО́ДАЎ КА́МЕНЬ**, прадмет культу, манументальны старажытнарускі помнік эпіграфікі 12 ст. Знаходзіўся каля в. Дзятлава Аршанскага р-на Віцебскай вобл., за 18 км ад Оршы. Мясц. назвы Барысаглебскі, Аршанскі, Уладзімірскі. Адкрыты ў 1792. Упершыню згадваецца ў кнізе Ц.Мальгіна «Зярцала расійскіх гасудароў» (Санкт-Пецярбург, 1794). Вял. пляскаты валун, памерамі 3 × 2,5 м, па форме нагадваў паралелепіпед з крыху скошанымі закругленымі вугламі. На яго грані, звернутай уверх, быў высечаны 6-канцовы крыж на падстаўцы з дзвюма прыступкамі выш. 1,8 м і надпіс на стараж.-славянскай мове «В лето 6679 месяца мая в 7 день доспен крест сей. Господи помози рабу своему Василию в крещении именем Рогволоду сыну Борисову». Велічыня літар дасягала 15 см. Крыж і надпіс высечаны ў 1171 па загаду друцкага кн. Рагвалода Барысавіча, які пасля галоднай зімы 1170–71 асвяціў язычніцкія камяні ў надзеі на ўраджай. Мяркуюць, што камень адна-



*Рагвалодаў камень.*

часова ўказваў і мяжу ўладанняў друцкага князя. Дапускалася думка, што валун быў надмагіллем Рагвалода, але ў такім выпадку на валуне павінны былі быць словы «Помяни, господи...». Падобны на *Барысавы камяні.* У 1803 над Р.к. была пабудавана драўляная царква ў гонар святых Барыса і Глеба, якая згарэла ў 1812, у 1830 – капліца, у якой камень займаў цэнтр. месца. У 1936 Р.к. узарвалі на друз. У 1998 зроблены памятны знак, які ўстаноўлены перад будынкам Музея гісторыі і культуры Оршы.

*Літ.*: Васілеўскі Д. Помнікі старасветчыны на Аршаншчыне // Наш край. 1927. № 2; Рыбаков Б.А. Русские датированные надписи XI–XIV веков. М., 1964 (САИ. Вып. Е1–44); Жуковский В.В. Оршеведение. Орша, 2002. *А.В.Пашык.*

**РАДАГО́ШЧА**, археалагічны помнік – гарадзішча каля в. Радагошча. Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,2 км на У ад вёскі, на мысе карэннага левага берага р. Нёўда (левы прыток р. Сэрвач у басейне Нёмана). Помнік вядомы сярод мясц. жыхароў пад назвай Гарадзішча або Гара А.Міцкевіча. Выявіла ў 1930-я г. Г.Цэгак-Галубовіч, абследавалі у 1957 Ф.Д.Гурэвіч, у 1959 П.А.Рапапорт і ў 1973 М.А.Ткачоў. У 1989–1990, 1995, 1998–1999, 2002 даследаваў 512 м² Э.М.Зайкоўскі.

Пляцоўка памерамі 55 × 80 м, схілы найб. крутыя з паўд. і зах. бакоў, дзе дасягаюць выш. 18 м. Вал выш. не больш за 0,5 м часткова прасочваецца з паўн. і ўсх. краёў пляцоўкі, за ім размешчаны даволі шырокі роў, а далей – вонкавы вал. Паверхня пляцоўкі прыўзнятая ў паўн. бок. Культ. пласт цягнецца паласой шыр. 8–10 м, магутнасцю каля 0,6 – 0,85 м (да 1 м), уздоўж краю пляцоўкі, у паўд.-зах. яе частцы практычна адсутнічае., дзенідзе – да 1 м.



*Да арт.* ***Радагошча.*** *Скарб бронзавых бранзалетаў.*

Бліжэй да краю пляцоўкі ў культ. пласце выяўлены вуголле і рэшткі згарэлых бярвён. Каля паўд.-ўсх. краю пляцоўкі прасочаны часткі прамой драўлянай сцяны даўж. не менш 20 м, якая была скіравана з ПдЗ на ПнУ. Таксама выяўлены кавалкі згарэлых бярвён, што ляжалі перпендыкулярна сцяне.

Археал. матэрыялы сведчаць, што ўпершыню пляцоўка гарадзішча была заселена ў пач. нашай эры, што пацвярджаецца знаходкамі ляпной рабрыстай штрыхаванай керамікі. Да таго ж часу адносіцца знаходка шкляной паласатай пацеркі з жоўтымі вочкамі, якая мае блізкаўсх. паходжанне і датуецца 3 – 4 ст. Наступны этап засялення гарадзішча, з якім звязана большая частка матэрыялаў, прадстаўлены ляпной гладкасценнай керамікай, частка якой мела арнамент у выглядзе трайных гарызантальных барознаў, зробленых грабянцовым штампам, а таксама хвалісты арнамент або ў выглядзе трайных прачэрчаных ліній, якія перакрыжоўваюцца. Кераміка належыць да слав. культуры тыпу Лукі-Райкавецкай, якая датуецца 8–10 ст. Ганчарны посуд нешматлікі (ад 10–11 ст. да позняга сярэдневякоўя).

Са знойдзеных гліняных праслiцаў амаль усе маюць усечана-біканічную форму (адно – шпулепадобную). Вырабы з жалеза прадстаўлены сякерай, цяслой, двухшыпнымі ўтулкавымі наканечнікамі стрэл, спражкай, акулярападобнымі раздзяляльнікамі ўпрыгажэнняў. Знойдзена сякера з рэшткамі згарэлага тапарышча ў абушковай адтуліне, якая належыць да тыпу V (паводле класіфікацыі А.М.Кірпічнікава) і датуецца 10 ст.

З усіх знаходак Р. найб. адметным з'яўляецца скарб бронзавых стужкавых бранзалетаў з пашыранымі канцамі, які залягаў на глыб. 0,6 м ад дзённай паверхні. У скарбе налічвалася 7 цэлых бранзалетаў і 3 – у абломках; усе яны маюць аналогіі ў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў і адносяцца да 8–10 ст.

На глыб. 0,4–0,6 м ад дзённай паверхні выяўлена вуглепадобная маса, якая аказалася зернем рыжыка пасяўнога (аднагадовая травяністая расліна, якая выкарыстоўваецца ў якасці алейнай, кармавой і лекавай), што спяклося.

Рэшткі згарэлых драўляных канструкцый сведчаць аб тым, што гарадзішча перастала функцыянаваць у выніку пажару (прыкладна ў 10 ст.), магчыма, звязанага з ваенным нападам (знаходкі наканечнікаў стрэл). Па краі пляцоўкі стаяла збудаванне кшталту доўгага дома, якое хутчэй за ўсё выкарыстоўвалася ў грамадскіх і абрадавых мэтах (нагадвае кантыны паморскіх славян).

Не выключана, што скарб бранзалетаў з'яўляўся ахвярапрынашэннем. У той жа час на гарадзішчы практычна адсутнічаюць сляды гасп.-вытворчай дзейнасці. Гэтыя асаблівасці, а таксама назва помніка, якая супадае з назвай вядомага свяцілішча на тэр. палабскіх славян, даюць падставы лічыць, што гарадзішча Р. ў раннеслав. час мела культавае прызначэнне.

*Літ.*: Зайкоўскі Э.М. Раскопкі каля Радагошчы // ГАЗ. Мінск, 1995. № 7: Я г о ж. Даследаванні славянскага гарадзішча Радагошча каля Навагрудка// Badania archeologiczne w Polsce północnowschodniej i na zachodniej Białorusi w latach 2000–2001: materiały z konferencji, Białystok 6–7 grudnia 2001 roku. Białystok,, 2002. *Э.М.Зайкоўскі.*

**РА́ДАМЛЯ**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы каля в. Радамля Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

Гарадзішча-1 (у 12–13 ст. дзяцінец г. Радамля, у 16 ст. – замак) на мысе правага берага р. Радуча, у цэнтры вёскі. Пляцоўка памерамі 33 × 50 м, выш. 20–37 м. У розныя часы абследавалі Е.Р.Раманаў, І.А.Сербаў, А.М.Ляўданскі, В.М.Мельнікоўская, В.Ф.Капыцін. Даследавалі у 1976 М.А.Ткачоў, у 2007 І.А.Марзалюк (124 $м^2$).

У ніжніх напластаваннях знойдзены матэрыялы верхнедняпроўскага варыянта *зарубінецкай культуры*, *кіеўскай культуры* і *калочынскай культуры*, усх.-слав. ляпная кераміка 8–10 ст., двухшыпны наканечнік дроціка 5–7 ст. У паўн.-ўсх. частцы раскопу прасочаны рэшткі 2 паўзямлянкавых жытлаў 3-й чв. 1-га тыс. н.э., з адкрытым ачагом у куце. Запаўненне адной паўзямлянкі побач з агнішчам прарэзана ўпускным пахаваннем 18–19 ст. Знойдзены фр-ты карчаг-зерневікоў калочынскай культуры, з наляпным валікам па плечуку.

У верхніх напластаваннях культ. пласта выяўлены рэшткі моцнага пажару – згарэлыя драўляныя канструкцыі вала, абпаленыя фр-ты посуду 16 ст., гаршковай кафлі, замок снічнага тыпу з трохвугольным корпусам, цуглі, нажы, завесы. Гэта дазваляе суаднесці пажар са штурмам Радамлі маскоўскім войскам у 1564, у час рус.-польскай вайны 1654—67. Таксама знойдзены адзінкавыя фр-ты каробчатай рэльефнай кафлі і керамічных венчыкаў 17 ст., жал. цуглі, наканечнікі стрэл, пласцінка ад панцыра, кулялейка 12–16 ст.

Гарадзішча-2 за 68 м на Пн ад гарадзішча-1. Пляцоўка прамавугольнай формы памерамі 27 × 17 м, умацавана 2 валамі. Адзін з напольнага боку мае выш. 1,3–1,8 м, шыр. да 6 м, побач з ім роў глыб. да 2 м, шыр. 8 м. Другі вал, серпападобнай формы, размешчаны з зах. боку пляцоўкі. У 2007 І.А.Марзалюк зрабіў прарэзку вала і рова з напольнага паўн.-зах. боку гарадзішча траншэяй памерамі 2 × 9 м. У культ. слоі цёмна-шэрага колеру пад ядром вала знойдзены фр-ты посуду к. 12–13 ст., бронзавы пярсцёнак з насечкай па краях і фр-т шклянога бранзалета, ніжняй частцы запаўнення рова – жал. цуглі 12–13 ст.

*Літ.*: Романов Е.Р. Заметка о дополнительных археологических местонахождениях // Тр. Виленского отд. Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археол. съезда. Вильно. 1893; Мельниковская О.Н. Обследование древнего Радомля // КСИА. 1976. Вып. 146; Копытин В.Ф. Археологические памятники Чаусского района. Могилев, 1992; Ткачев М.А. Работы Посожского отряда // АО 1976. М., 1977. *І.А.Марзалюк.*

**РА́ДАСЦЬ**, археалагічныя помнікі – курганны і грунтавы могільнікі і паселішча каля в. Радасць Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

Курганны могільнік валынян 8–10 ст. за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Лясная, ва ўр. Альшына. Мясц. назва Шведскія магілы. 3 насыпы дыям. 7–14 м, выш. 0,5–1,5 м. Прасочваюцца кальцавыя раўкі глыб. 0,4 м, запоўненыя пяском з вуголлем. Вядомы з 1895. Даследавалі ў 1962 Ю.У.Кухарэнка (1 курган), у 1969 І.П.Русанава (2 курганы). У 1980 і 1985 абследавала Т.М.Каробушкіна. Пахавальны абрад – трупаспаленне. У насыпах і на гарызонце выяўлены агнішчы дыям. да 3 м, таўшч. да 0,2 м з перапаленымі касцямі, вугальныя праслойкі, попельныя плямы. У адным з кургаоў пад вугальнай праслойкай знойдзены спалены драўляны прамавугольнік (3 × 2,6 м), арыентаваны па баках свету, у паўд.-зах. вугле былі перапаленыя косці нябожчыка і жал. спражка. Знойдзены фр-ты ляпных гаршкоў з арнаментам у выглядзе косых насечак і кругавога посуду з хвалістым і лінейным арнаментам.

Паселішча знаходзіцца за 0,4 км на ПнЗ ад курганнага могільніка, на высокім (2–2,5 м) мысападобным выступе тэрасы левага берага р. Лясная. З помнікам звязваецца знаходка У.Кунаховічам у 1887 рымскай манеты. Паселішча адкрыта Л.Д.Побалем у 1964. У 1997–99 В.Г.Белявец даследаваў 208 $м^2$. Культ. пласт да 0,5




*Жалезныя фібулы з пахавання 1 грунтавога могільніка* ***Радасць 2.***




*Комплекс пахавання 22 грунтавога могільніка* ***Радасць 2.***

абраду крэмацыі ў яме падпрамавугольнай формы. Перапаленыя косткі 2 асоб былі змешчаны ў яме ў антрапалагічным парадку. Інвентар складаўся з пары фібул тыпу B паводле Ю.Касцшэўскага і дробных фр-таў грубаляпнога і глянцаванага посуду. Датуецца канцом фазы Lt $C_{1b}$ альбо рубяжом фаз Lt $C_{1b}/C_2$ (каля 220–180 да н.э.). Пахаванне не звязваецца з пэўнай археал. культурай, адлюстроўвае працэс фарміравання ў Цэнтр. і Усх. Еўропе кола латэнізаваных культур.

Другі гарызонт прадстаўлены 24 аб'ектамі з рэшткамі крэмацый, з якіх 18 вывучаны цалкам, 6 – часткова. Ямы авальнай і акруглай формы, памерамі ад 0,5 м (круглыя) да 3,2 × 1,7 м (авальныя). Верагодна, частка з іх была абазначана на паверхні слупамі. 5 пахаванняў былі прыкрыты выбрукоўкай з палявых камянёў, выкладзеных у 2–3 слаі, 1 мела выбрукаванае дно. Трупаспаленні адбываліся па-за межамі могільніка. Колькасць кальцыніраваных костак вагалася ад 2–3 да 20–25 адзінак, вылучаюцца асобныя фр-ты неперапаленых чалавечых костак. Большасць ям утрымлівала кальцыніраваныя, неперапаленыя косткі свойскіх і дзікіх жывёл, птушак. Суправаджальны інвентар – фр-ты посуду, жал. нажоў, прасліцы, бронзавае скроневае кольца.

У эвалюцыі гэтага гарызонту могільніка вылучаюцца 2 этапы. Ранні характарызуецца выразным эклектызмам керамічнага комплексу, аснову якога ўтварае пераважна грубаляпны посуд мясц. насельніцтва, звязанага з традыцыямі культуры штрыхаванай керамікі, у т.л. са штрыхоўкай і рас-

м сфарміраваны культ. адкладамі ад мезаліту да позняга сярэдневякоўя.

Матэрыялы каменнага веку выяўлены пераважна ў пераадкладзеным стане. Прадстаўлены знаходкамі крамянёвых вырабаў і адходаў вытворчасці, сярод якіх вылучаецца мезалітычны гарызонт, звязаны з насельніцтвам *яніславіцкай культуры.* Эпоха неаліту – бронзавага веку прадстаўлена крамянёвымі вырабамі і адзінкавымі фр-тамі пасудзін, у т.л. са шнуравым арнаментам.

У жал. веку актыўна выкарыстоўвалася паўд. частка селішча. Атрыманыя матэрыялы сінхронныя выяўленым у раскопе аб'ектам грунтавога могільніка, датуюцца 2/3 ст. да н.э. – сяр. 3 ст. н.э. Асн. маса знаходак належыць да 1–3 ст. і звязана з насельніцтвам традыцый усх.-еўрап. лясной зоны. У керамічным комплексе вылучаюцца асобныя фр-ты посуду *пшэворскай культуры* і *вельбарскай культуры.* Знойдзены 3 фрагментаваныя арбалетападобныя фібулы, біканічныя прасліцы, у т.л. з шырокай адтулінай. Прадстаўлены таксама раннекругавы посуд 10–11 ст. Лукі-Райкавецкай культуры і пачатку стараж.-рус. перыяду.

Грунтавы могільнік адкрыты В.Г.Беляўцом у 1997 ў паўд. частцы паселішча. Выяўлена 25 пахаванняў і шэраг аб'ектаў грунтавога могільніка. 19 з іх даследаваны цалкам. Вылучаюцца 2 гарызонты. Да першага належыць пахаванне па




*Комплекс пахавання 23 грунтавога могільніка* ***Радасць 2.***

чосамі. Прысутнічаюць таксама глянцаваныя пасудзіны *зарубінецкай культуры* і пшэворскай культуры і іх імітацыі. Ямы маюць пераважна значныя памеры і аднароднае запаўненне. На познім этапе памеры ям змяншаюцца, прасочваецца рэгулярнасць у іх размяшчэнні на пл. могільніка ў некалькі паралельных радоў. У запаўненні ям фіксуюцца попельна-вугальныя і пясчаныя праслойкі. Керамічны комплекс, пры захаванні мясц. традыцый, набывае рысы, характэрныя для кола помнікаў позназарубінецкага тыпу і ранняга этапу кіеўскай культуры; адзначаюцца ўплывы керамічнай традыцыі насельніцтва зах.-балцкага кола (багачэўскай культуры), таксама імпарты і імітацыі посуду пшэворскай культуры. Пахавальны абрад позняга гарызонту знаходзіць аналогіі сярод «могільнікаў-памінальнікаў» насельніцтва позназарубінецкіх груп і кіеўскай культуры з тэр. Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя. Матэрыялы роднасныя шэрагу інш. помнікаў Нёманска-Бужскага міжрэчча (могільнікі Краснасельскі-5, Кутова, Грынявічы Велькі) кола помнікаў постзарубінецкага гарызонту і ранняга этапу развіцця кіеўскай культуры. Могільнік датуецца сяр. 1 – сяр. 3 ст.

Матэрыялы захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі.

*Літ.:* Русанова И.П. Славянские древности VI–IX вв. между Днепром и Западным Бугом // САИ. 1973. Вып. Е1–25; Beljavec W. Środkowolatecski grób z piaskiego cmentarzyska w Radości Kamienieckiej w Zachodniej Białorusi // Wiadomości Archeologiczne. T. 54. 1995–1998, z. 2. Warszawa, 2000. Яго ж. Беларускае Заходняе Палессе ў перыяд правінцыйнарымскіх уплываў – стан і перспектывы даследаванняў // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004. *Т.М.Каробушкіна, В.Г.Белявец.*

**РАДЗІ́МІЧЫ**, усходнеславянская этнічная супольнасць. Жылі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны па цячэнні Сажа і яго прытокаў. Паводле летапісу, назва паходзіць ад імя Радзім, на чале з якім яны прыйшлі з прапольскіх (ляшскіх) зямель. Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі (жалеза- і дрэваапрацоўчае, ювелірнае, ганчарнае), паляваннем, рыбалоўствам, бортніцвам, прадзеннем, ткацтвам. Найб. даследаванныя археал. помнікі — курганныя могільнікі 10—12 ст. *Абідавічы, Ветачка, Гадзілавічы, Нісімкавічы, Юдзічы, Эсьмоны* і інш. Пахавальны абрад — трупаспаленне (8–10 ст.), з к. 10 да пач. 12 ст. трупапалажэнне на гарызонце, у падкурганнай яме. Характэрная адзнака – наяўнасць попельна-вугальнага пласта ў форме «вогненнага круга», у цэнтр якога клалі нябожчыка. Сярод пахавальнага інвентару шмат упрыгажэнняў, прадметаў побыту, радзей сустракаюцца прылады працы. Для мужчынскіх пахаванняў характэрны паясныя кольцы, інш. дэталі пояснога набору, зрэдку зброя. Характэрныя племянныя адзнакі Р. – бронзавыя або сярэбраныя 7-прамянёвыя і 7-лапчастыя скроневыя кольцы, біэліпсоідныя,



*Да арт.* ***Радзімічы.*** *Набор «этнавызначальных» упрыгажэнняў к. 10–12 ст. (паводле В.В.Сядова).*

язычковыя, пятлістыя, гронкавыя падвескі, пласціністыя грыўні. У жаночым касцюме спалучаліся 7-прамянёвыя і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, зоркападобныя спражкі, дробны бісер, залаташкляныя пацеркі і падвескі, якія сімвалізавалі нябесныя свяцілы. Знойдзены манеты, якія выкарыстоўваліся як падвескі ў маністах: дырхемы (*Бацвінава, Чабатовічы*), срэбранікі Уладзіміра 10 ст. з вушкамі, брактэаты (Гадзілавічы). У знаходках вылучаюць 3 перыяды: 2-я пал. 10 ст. – пач. 11 ст., большая частка 11 ст. і к. 11 – 1-я чвэрць 12 ст. У к. 1-га тысячагоддзя Р. знаходзіліся на ступені фарміравання класавых адносін, упраўляліся князямі, старэйшынамі. У 885 кіеўскі кн. Алег абклаў Р. данінай. У 907 яны ў складзе яго войска ўдзельнічалі ў паходзе на Візантыю, але пасля смерці Алега (912/22) выйшлі з пад улады кіеўскіх князёў. У 984 Р. былі разбіты на р. Пяшчань войскам кн. Уладзіміра Святаславіча, якое ўзначальваў ваявода Воўчы Хвост, і іх землі канчаткова замацаваліся ў складзе Кіеўскай Русі. З 11 ст. тэр. Р. у Чарнігаўскім княстве, з пач. 12 – яе паўн. частка пад уладай Смаленска. Да 12 ст. адносяцца пісьмовыя звесткі пра гарады на зямлі Р. – Крычаў (Кречют, 1136), Слаўгарад (Прупой ці Прапошаск, 1136), Гомель (Гомий, 1142), Рагачоў (1142), Чачэрск (Чичерск, 1159). Апошняе ўспамінанне Р. у летапісе пад 1169.

*Літ.:* Рыбакоў Б.А. Радзімічы // Працы. Т. 3; Соловьева Г.Ф. Славянские союзы племен по археологическим материалам VII–XIV вв. н.э. (вятичи, радимичи, северяне) // СА. 1956. № 25; Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970 (МИА. № 163); Богомольников В.В. Территория радимичей в свете новых данных // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Яго ж. Радимичи (по материалам курганов X–XII вв.). Гомель, 2004.

*У.У.Багамольнікаў, А.А.Макушнікаў, Г.В.Штыхаў.*

**РА́ДУГА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі, гарадзішча-свяцілішча і селішчы каля в. Радуга Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.



*А.А.Разлуцкая.*

Курганны могільнік-1 за 4 км на У ад вёскі на левым беразе р. Сож, ва ўр. Шубін. 27 насыпаў, частка парушана скарбашукальнікамі. Абследаваў у 1991 А.А.Макушнікаў.

Курганны могільнік-2 ад на правым беразе Беседзі за 1,1 км ад яе рэчышча. Складаўся з 2 груп (48 і 16 насыпаў). У 1888 Е.Р.Раманаў даследаваў 3 курганы. Выяўлены трупапалажэння з радзіміцкім інвентаром.

Курганны могільнік-3 знаходзіўся паміж вёскамі Радуга і Навасёлкі. Вядомы з 2-й пал. 19 ст. Абследавалі ў 1936 А.М.Ляўданскі і А.Дз. Каваленя. Зараз не існуе.

Гарадзішча-свяцілішча ранняга сярэдневякоўя за 1 км на ПдУ ад вёскі на мысе правага берага р. Сож, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка круглая дыям. 32–33 м, выш. 12–15 м. З напольнага боку прасочваюцца рэшткі вала і рова. Культ. пласт адсутнічае. Вядома з к. 19 ст. Абследавалі ў 1936 А.М.Ляўданскі і А.Дз.Каваленя, у 1976 С.Н.Васільева, у 1980 С.Я.Рассадзін і А.А.Макушнікаў.

Селішча-1 прымыкае да гарадзішча з напольнага боку. Памеры 150 × 30–40 м. Знойдзена кераміка бронзавага веку, 3-й чв. 1 тыс. н. э., к. 10–12 ст. Адкрыў і абследаваў у 1980 А.А.Макушнікаў.

Селішча-2 за 0,1 км на ПдУ ад вёскі на пляцоўцы правабярэжнай тэрасы Сажа. Памеры 300 × 50 м, выш. 10–12 м. Адкрыў і абследаваў у 1980 А.А.Макушнікаў.

*Літ.*: Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда // Зап. Северо-Западного отдела Имп. Русского археол. о-ва. Вильна, 1910. Кн. 1; Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: социально-экон. и этнокультур. развитие. Гомель, 2009. *А.А.Макушнікаў.*

**РАЗА́НЦЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Разанцы Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчаны на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі паміж агародамі і калгасным садам, за 0,1 км ад левага берага р. Віхра. Складаецца з 2 груп курганоў (36 і 5), на адлегласці 50 м адна ад другой. Насыпы выш. 0,6–2,5 м, дыям. 3–10 м, вакол некаторых прасочваюцца раўкі. 8 курганоў пашкоджаны скарбашукальніцкімі ямамі. Вядомы з к. 19 ст. Абследаваў у 2001 А.У.Коласаў. У 2007 А.А.Мяцельскі даследаваў 3 курганы. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены фр-ты вайнагі, 4 дротавыя скроневыя кольцы, рублены бісер аліўкавага колеру, ягадападобныя пацеркі цёмна-сіняга колеру і фр-т кругавога гаршка 2-й пал. 10–11 ст.

За 0,1 км на Пн ад могільніка паміж ярам і р. Віхра прасочваюцца сляды селішча з матэрыяламі 11–13 ст. *А.А.Мяцельскі.*

**РАЗЕ́Ц** (фр. burin, англ. burin), шматфункцыянальная крамянёвая прылада працы, сфарміраваная пры дапамозе тэхнікі вузкага падоўжнага сколу з паралельнымі краямі. У залежнасці ад спосабу афармлення вастрыя вылучаюць розныя тыпы Р.: рэтушныя (вастрыё сфарміравана з дапамогай рэтушы і разцовага сколу), двухгранныя (2 разцовымі сколамі), на зломе нарыхтоўкі (у якасці пляцоўкі для зняцця разцовага сколу служыў негатыў папярочнага злому нарыхтоўкі), адзіночныя (у якасці пляцоўкі служыла натуральная паверхня). У адпаведнасці з колькасцю аформленых вастрый Р. бываюць адзінарныя і памножаныя (двайныя і г.д.), камбінаваныя (сфарміравана некалькі вастрый розных тыпаў). Р. сустракаюцца на археал. помніках каменнага і бронзавага вякоў.




*Да арт.* ***Разец****: разец і разцовы скол (1), рэтушны разец (2), двухгранны разец (3), разец на зломе нарыхтоўкі (4), адзіночны разец (5), камбінаваны (двухгранны+рэтушны) разец (6).*

*Літ.*: Ginter B., Kozłowski J.K. Technika obróbki i typologia wyrobów kamiennych paleolitu i mezolitu. Warszawa, 1975. *В.У.Ашэйчык, А.М.Вашанаў.*

**РАЗЛУ́ЦКАЯ** Анжэла Анатолеўна (н. 17.6.1964, Вільнюс), беларускі археолаг. Скончыла БДУ (1988). З 1985 у ІГ НАН Беларусі. Займаецца вывучэннем паляўнічай дзейнасці і развіцця жывёлагадоўлі стараж. насельніцтва Беларусі, праводзіць археазаалагічныя даследаванні матэрыялаў з раскопак помнікаў розных эпох. Вывучала помнікі Старыя Войкавічы і Завоссе Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл., Вялікія Бортнікі Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. і Камарын-5А Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

*Тв.*: Фауна селища Едново // Старажытнасці Бабруйшчыны. Бабруйск, 1998. № 2; Речной бобр стоянки Осовец-2 // ГАЗ. Мінск, 1999. № 14; Промысел медведя в

позднем неолите и ранней бронзе Северной Беларуси // Там жа. Мінск, 2001. № 16; Паляванне старажытных браслаўчан // Браслаўскія чытанні. Браслаў, 2001; Некаторыя дадзеныя аб паляванні і жывёлагадоўлі на селішчы пражскай культуры Снядзін-2 // Там жа. 2002. № 5; Новые данные по охоте и животноводству из раскопок Кривинского торфяника // МАБ. 2010. Вып. 18.; Nove badania materiałów osteologicznych z grodzisk białoruskiego Podźwinia // Człowiek a środowisko w epoce brązu i wczesnej epoce żelaza u południowo-wschodnich pobrzeży Bałtyku. Pruthenia Antiqua. 2004. Vol.1; The emergence of early agriculture and stock raising on the territory of Belarus: several issues and research aspects (у сааўт.) // Eurasian Perspectives on Environmental Archaelogy. Poznań, 2007. *В.У.Мядзведзева.*

**РÁЛА**, старажытная драўляная безадвальная вупражная ворная прылада з нізкім замацаваннем цяглавай сілы. У залежнасці ад канструкцыі працоўнай часткі і спосабу выкарыстання падзяляюцца на Р. з полазам і Р. без полаза, паводле формы дышля – на прама- і крывадышальныя. Ва Усх. Еўропе Р. з'явіліся ў 1-й пал. 1-га тыс. н.э. з узнікненнем ворнага вупражнага земляробства, пра што сведчаць знаходкі драўляных Р. ва Украіне (с. Жабічы Чарнігаўскай і с. Такары Сумскай абласцей) і на Браншчыне (в. Сяргееўск). Да гэтага ж часу адносіцца крывадышальнае полазнае Р., знойдзенае ў тарфяніку каля в. Капланавічы Клецкага р-на Мінскай вобл. Яно зроблена са ствала дрэва з доўгім суком, мела завостраны полаз, а з процілеглага боку адтуліну для дзяржання, за якое трымаўся араты. Доўгі сук служыў дышлем, металічнага наральніка хутчэй за ўсё яшчэ не было. Гэта Р. пры нахіле магло няпоўна пераварочваць пласт зямлі і падразаць карані пустазелля. Другое драўлянае Р. 13 ст., знойдзенае ў Брэсце, выраблена з дубовага ствала даўж. 155 см, які выконваў ролю дышля. Ад яго пад вуглом 28° адыходзіў сук даўж. 43 см, які ўтвараў рабочую частку Р. Магчыма, гэта Р. мела металічны наральнік, але пра гэта можна толькі меркаваць, бо рабочы канец Р. абламаны. На дышлі было 3 адтуліны – для дзяржання, для металічнага чарэсла і для дэталі, з дапамогай якой можна было падоўжыць параўнальна невял. дышаль. На паселішчы 8–9 ст. Хотамель знойдзены 2 шырокія асіметрычныя наральнікі з плечукамі даўж. 9,8–10,5 см, шыр. 6,6–7 см і металічнае чарэсла даўж. 40 см, якое служыла для падразання пласта зямлі. Гэтыя наральнікі належалі падэшвеннаму Р. з чарэслам, якое магло не толькі ўзрыхляць зямлю, але пры пэўным яго становішчы, дзякуючы шырокім плечукам, пераварочваць яе верх-ні пласт. Каля в. Дварыцкая Слабада Мінскага р-на знойдзены шыракалапасцевы наральнік 10 – пач. 11 ст. з плечукамі, які быў удвая даўжэйшы за хотамельскія, і чарэсла. Р. з такім наральнікам можна было араць больш глыбока і якасна. Металічныя наральнікі для Р. без полаза знойдзены ў Брэсце, Гродне, каля в. Збароў Рагачоўскага р-на, у Клецку, Навагрудку і інш. Нягледзячы на тое, што ў пач. 2-га тыс. н.э. на тэр. Беларусі пашыралася больш прагрэсіўная ворная прылада – саха, Р. дзякуючы сваёй манеўранасці праіснавала да 20 ст.

*Літ.:* Краснов Ю.В. Древнейшие упряжные пахотные орудия. М., 1975; Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X–XIII вв. Минск, 1979; Яе ж. Появление упряжных пахотных орудий и их дальнейшее развитие на территории Белоруссии (до XIV в.) // Тез. докл. сов. делегации на IV Междунар. конгр. слав. археологии. М., 1980.

*Т.М.Каробушкіна.*

**РАМÁНАВІЧЫ**, археалагічны помнік – паселішча каля в. Раманавічы Гомельскага р-на. За 500 м на У ад вёскі, ва ўр. Селішча, на пясчаных дзюнах правага берага р. Іпуць. Выявіў у 1890 М.Ф.Беляшэўскі, абследавалі ў розныя часы Е.Р.Раманаў, А.В.Кротаў і К.М.Палікарповіч, І.І.Арцёменка. Даследавалі ў 1962–63 І.В.Гаўрылава, у 1976 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,1–0,2 м. Знойдзены рэшткі агнішчаў, больш за 30 тыс. вырабаў з крэменю (ад сыравіны да гатовых прылад працы), кераміка. Сярод крамянёвага інвентару – скрабкі, сякеры, разцы, праколкі, свярдзёлкі, скрэблы, скоблі, сярпы, прылады тыпу «пік», больш за 70 наканечнікаў стрэл, больш за 100 трапецападобных і інш. укладышавых прылад, рэтушаваных пласцін, адшчэпаў. Знаходкі даюць уяўленне пра крамянёвую вытворчасць на працягу амаль усяго часу яе існавання. Знойдзена кераміка эпохі неаліту з грабеньчатым, ямкавым, лапчастым арнаментам, бронзавага веку з адбіткамі шнура, лінейнага штампа, насечкамі, нарэзкамі, «вусенямі» і інш., якія ўтвараюць дыяганальныя, гарызантальныя, елачныя, ромбападобныя, трохвугольныя і інш. ўзоры. Некаторыя пасудзіны маюць наколы, зробленыя вуглом адступаючай лапаткі. Найб. стараж. знаходкі адносяцца да фінальнага палеаліту, ёсць мезалітычныя (*сожская культура*) і неалітычныя (*верхнедняпроўская культура*) рэчы, матэрыялы бронзавага веку (*сярэднедняпроўская культура*, *сосніцкая культура*), жал. веку (*мілаградская культура*, *зарубінецкая культура*), сярэдневякоўя.

*Літ.:* Беляшевский Н.Ф. Несколько новых стоянок каменного века по Днепру и его притокам // Киевская старина. 1891. Т. 32, №3; Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т. 1; Артеменко И.И. Памятники эпохи неолита и бронзового века Верхнего Поднепровья // КСИИМК. 1960. Вып. 78; Гаврилова И.В. Дюнная стоянка Романовичи // КСИА. 1964. Вып. 97.

*А.Г.Калечыц.*



*Е.Р.Раманаў.*

**РАМÁНАЎ** Еўдакім Раманавіч (11.9.1855, мяст. Нова-Беліца, цяпер у межах Гомеля – 20.1.1922), беларускі археолаг, фалькларыст, этнограф, края-

знавец. Правадзейны чл. Рус. геаграфічнага т-ва (1886), Маскоўскага т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (1886), Маскоўскага археал. т-ва (1890, чл.-кар. 1886), Віцебскага статыстычнага к-та (1891). Настаўнічаў; з 1886 інспектар нар. вучылішчаў у Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай губернях, у 1906–16 чл. Часовай камісіі па ўладкаванні Віленскай публічнай бібліятэкі і музея. У 1897–1903 рэдактар неафіцыяльнай часткі газ. *«Могилёвские губернские ведомости»*. З 1910 заг. секцыі этнаграфіі і археалогіі Паўн.-Зах. аддзялення Рус. геаграфічнага т-ва. З 1880 друкаваўся ў газ. «Берег» (Санкт-Пецярбург). Аўтар прац па археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыцы, гісторыі, мова-, літаратура- і музеязнаўстве, археаграфіі. Сабраў фальклорна-этнагр. матэрыялы ў «Беларускім зборніку» (меркаваў выдаць у 15 тамах), пры жыцці Р. выйшла 9 тамоў (1886–1912), 10-ы том выдаў Інбелкульт (1928), падрыхтаваныя 11–14-ы тамы загінулі ў Вял. Айч. вайну, лёс 15-га невядомы. Выпусціў 3 кнігі *«Магілёўскай даўніны»* (1900–03), 2 кнігі «Матэрыялаў па этнаграфіі Гродзенскай губерні» (1911–12). Захаваўся рукапіс «Археалагічнай карты Магілёўскай губерні». У 1886–94 праводзіў археал. раскопкі ў Магілёўскай, Віцебскай губернях. Адкрыў Люцынскі могільнік у Віцебскай губ. (выявіў 293 пахаванні), помнік эпіграфікі 12 ст. Барысаў камень каля в. Высокі Гарадзец Талачынскага р-на, першы ў Беларусі могільнік калочынскага тыпу каля Новага Быхава. Высвятляў дрыгавіцка-крывіцкае памежжа. Сабраў звесткі пра 1000 гарадзішчаў Беларусі, выявіў шматлікія стаянкі першабытнага чалавека. Выступаў у абарону помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Шмат знаходак перадаў у Магілёўскі, Віцебскі, Віленскі музеі.

*Літ.*: Бандарчык В.К. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мінск, 1961; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984; Яго ж. Прадвесне навукі. Мінск, 1990.

**«РАМА́НАЎСКІЯ ЧЫТА́ННІ»**, міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная памяці вядомага бел. археолага, этнографа, фалькларыста Е.Р.Раманава. З 2004 адбываецца штогод на базе Магілёўскага ун-та імя А.А.Куляшова. Асн. накірункі працы: праблемы археалогіі і этнічнай гісторыі славян, генезіс усх.-слав. гарадоў, гісторыя цывілізацый, гісторыя і культура Беларусі, актуальныя пытанні развіцця навукі і сістэмы адукацыі, стан рэлігіі ў Беларусі, праблемы лінгвістыкі і літаратуразнаўства. У рабоце канферэнцыі прымаюць удзел гісторыкі, археолагі, этнографы, мастацтвазнаўцы, лінгвісты, філосафы, рэлігіязнаўцы, сацыёлагі, палітолагі з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Аўстрыі, Егіпта, Палесціны. Па выніках канферэнцыі з 2005 выдадзена 10 зборнікаў навук. прац. *А.У.Коласаў.*

**РАМЕ́ЛЬ**, археалагічныя помнікі – бескурганны могільнік і селішчы зарубінецкай культуры каля в. Рамель Столінскага р-на Брэсцкай вобл.

Бескурганны могільнік на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўр. Ляшча. Адкрыў у 1954 і даследаваў у 1954–55 Ю.У.Кухарэнка. Выяўлена 7 пахаванняў. Пахавальны абрад – трупаспаленне за межамі могільніка. Адно пахаванне з'яўляецца кенатафам. Рэшткі крэмацыі змяшчаліся на дне круглых ці авальных ям. У пахавальным інвентары пераважалі гліняныя пасудзіны, якія размяшчаліся з усх. боку ад рэшткаў крэмацыі. У пахаваннях трапляецца ад 1 да 3 пасудзін рознага прызначэння. Сярод знаходак – гаршкі (7), міскі (4), кубак, стопка. Посуд пераважна карычневы глянцаваны. У 2 пахаваннях выяўлены гаршкі з загладжанай паверхняй, адзін з іх арнаментаваны пазногцевымі ўціскannямі па плечуку, другі – ляпным валікам з пальцавымі зашчыпамі. У 2 пахаваннях знойдзена па адной сярэднелатэнскай фібуле. У 1967 К.В.Каспарава даследавала 152 м², выявіла разбуранае пахаванне з кальцыніраванымі косткамі і фр-там чорнаглянцаванай міскі. Могільнік датуецца 2–1 ст. да н.э.

Селішча-1 зарубінецкай культуры за 0,5 км на ПдУ ад могільніка. Абследаваў у 1954 Ю.У.Кухарэнка. Выяўлены рэшткі шурпатых, гузаватых, радзей глянцаваных ляпных пасудзін.

Селішча-2 зарубінецкай культуры за 0,4 км на ПнУ ад могільніка. Памеры 300 × 100 м. Адкрыла і даследавала 616 м² у 1967 К.В.Каспарава. Культ. пласт 0,5–0,6 м. Выяўлена прамавугольнае паўзямлянкавае жытло зрубнай канструкцыі памерамі 5 × 6,8 м з агнішчам у цэнтры. Унутры было 5 круглых ям дыям. 1–1,5 м, глыб. 0,2–0,3 м, якія ўтрымлівалі вугаль, попел, рэшткі посуду, косткі жывёл. У запаўненні жытла знойдзена 455 фр-таў грубаляпнога і 78 – глянцаванага посуду, 5 гліняных прасліц, жал. нож з гарбатай спінкай. У раскопе выяўлены 24 слупавыя і гасп. ямы.

Кухонны посуд (75% усіх знаходак) пераважна з шурпатай паверхняй, арнаментаваны зашчыпамі, ямкамі, насечкамі, пазногцевымі ўціскannямі, нанесенымі часцей за ўсё па краі вянчыка, радзей па тулаве. Асобныя фр-ты сталовага посуду ўпрыгожаны шматраднымі расчосамі, а таксама іх спалучэннямі з налепленымі шышачкамі і валікамі. На Пн ад жытла ў адной з ям упершыню ў гэтым арэале знойдзены 3 фр-ты антычнай сінопскай амфары. Сярод інш. знаходак – гладкая сярэднелатэнская фібула з дроту і паўтараабаротнае бронзавае кольца. Датуецца 2 ст. да н.э. – рубяжом н.э.

Селішча-3 за 1,5 км на ПдУ ад могільніка, на пясчаным узгорку. Выявіла ў 1967 К.В.Каспарава.

*Літ.:* Кухаренко Ю.В. Памятники железного века на территории Полесья // САИ. М., 1961. Вып.

Д1–29; Каспарова К.В. Зарубинецкое поселение Ремель в Белорусском Полесье // АСГЭ. Ленинград, 1987. Вып. 28. *А.А.Егарэйчанка.*

**РА́ННІХ (ПСКО́ЎСКІХ) ДО́ЎГІХ КУРГАНО́Ў КУЛЬТУ́РА**, [Р(П)ДКК], археалагічная культура сяр. – 3-й чв. 1-га тыс. н.э. ў паўн. Беларусі. Большасць даследчыкаў атаясамлівае Р(П)ДКК з *крывічамі.* Назва паходзіць ад формы невысокіх доўгіх валападобных курганоў. Доўгімі лічацца насыпы, даўж. якіх перавышае шыр. ў 2 і больш разоў. Тэрмін «доўгія курганы» быў уведзены ў навук. зварот у сяр. 19 ст. Першыя раскопкі доўгіх курганоў у паўн. Беларусі праводзілі А.М.Ляўданскі, А.К.Супінскі ў 1920-я г.

Даследчыкі вылучаюць *культуру пскоўскіх доўгіх курганоў* і культуру смаленска-полацкіх доўгіх курганоў. У бел. археал. літаратуры за помнікамі культуры пскоўскіх доўгіх курганоў, размешчанымі ў Бел. Падзвінні, замацавалася назва ранніх доўгіх курганоў. Шэраг даследчыкаў (В.Б.Перхаўка, Г.В.Штыхаў) лічаць гэтыя помнікі лакальным атокінскім варыянтам *банцараўскай культуры.*

Арэал Р(П)ДКК ахоплівае ўзбярэжжа Пскоўска-Чудскага воз., басейны рэк Вялікая, Плюса, Луга, бел. цячэнне Зах. Дзвіны, верхняе і сярэдняе цячэнне Ловаці, Верхняволжа, басейны рэк Мста і Верхняя Малога. У паўн. Беларусі да Р(П)ДКК адносяцца курганныя могільнікі і адзінкавыя насыпы *Арэхаўск*, *Гаравыя*, Гарадзішча (Полацкі р-н, раскопкі Дз.У.Дука), *Дарахі*, *Лятохі*, *Пагошча*, *Рацкі Бор*, *Субаўшчына*, *Янкавічы.*

Могільнікі размяшчаюцца за 0,5–1,2 км ад берага ракі альбо возера, на лясных дарогах, налічваюць да двух дзесяткаў доўгіх, падоўжаных і круглых насыпаў. Доўгія курганы маюць даўж. ад 14 да 110 м.

Пахаванні здзяйсняліся па абрадзе трупаспалення па-за межамі кургана. Рэшткі крэмацыі маглі знаходзіцца ва урне альбо без яе на гарызонце, на падсыпцы ў насыпе, на вяршыні насыпу. Урны маглі быць пастаўлены на днішча, перавернуты, накрываць адна адну. Колькасць пахаванняў у адным насыпе ад 1 да 8. Вага кальцынiраваных костак у пахаванні можа дасягаць 5–6 кг (Дарахі-1, Пагошча), што сведчыць аб крэмацыі некалькіх людзей ці людзей і ахвярных жывёл (коні, буйная і дробная рагатая жывёла, свінні і інш.). У могільніках сустракаюцца кенатафы.

Пахавальны інвентар складаецца з грубых ляпных слабапрафіляваных гаршкоў, бронзавых упрыгажэнняў (бляшкі-шкарлупінкі, спіральныя пранізкі, бранзалеты, пярсцёнак), дэталяў паясоў (спражкі, накладкі), рыштунку вершніка і баявога каня (шпора, цуглі), шкляных пацерак блакітнага колеру, прасліц.

Паселішчы, непасрэдна звязаныя з могільнікамі Р(П)ДКК, вывучаны слаба. Раскопкі праводзіліся на селішчах-1 і 2 у Дарахах, дзе выяўлена ляпная кераміка, жал. шылы і серп.

У паўн. Беларусі помнікі датуюцца к. 5 – сяр. 6 – 7/8 ст. На ПнЗ Расіі яны існавалі да пач. 11 ст. Этнічная прыналежнасць насельніцтва Р(П)ДКК застаецца дыскусійнай. Шэраг даследчыкаў атаясамлівае яго са славянамі (М.У.Лапацін, В.М.Ляўко, А.Г.Фурасьеў,), славяна-балцкім насельніцтвам (В.В.Сядоў, Г.В.Штыхаў), балтамі (Э.М. Загарульскі, А.Р. Мітрафанаў, А.М. Мядзведзеў, В.І.Шадыра, Е.А.Шміт).

*Літ.*: Седов В.В. Длинные курганы кривичей // САИ. 1974. Вып. Е1–8. М; Яго ж. Восточные славяне в VI–XIII вв. // Археология СССР. М., 1982; Енуков В.В. Ранние этапы формирования смоленско-полоцких кривичей (по археологическим материалам). М., 1990; Штыхаў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992; Яго ж. Культура ранніх доўгіх курганоў (V–VII стст.) // Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча; Левко О.Н. Памятники второй половины I тысячелетия н.э. северо-восточной Беларуси в свете формирования племенных «княжений» // ГАЗ. Мінск, 1995. № 5; Шадыра В.І. Беларускае Падзвінне (І тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006; Лопатин Н.В., Фурасьев А.Г. Северные рубежи раннеславянского мира в III–V вв. // Раннеславянский мир. М., 2008. Вып. 8.
*М.А.Плавінскі.*

**РА́ННЯЙ ШТРЫХАВА́НАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура ўсходніх балтаў, распаўсюджаная на ПнЗ Беларусі, ПнУ Літвы, ПдУ Латвіі ў к. 2-га – 1-м тыс. да н.э. Для яе характэрны ўмацаваныя паселішчы, якія размяшчаліся на асобных узгорках-астанцах. Пляцоўкі гарадзішчаў пл. 0,3–0,5 га ўмацоўваліся землянымі выш. да 0,5 м валамі і рвамі, драўлянымі частаколамі. Схілы ўзгоркаў звычайна падразаліся для надання ім большай стромкасці. Характэрна ірэгулярная сістэма забудовы, калі дамы размяшчаліся без вызначанай сістэмы (Няверышке, Літва), і рэгулярная, пры якой пабудовы ўзводзіліся па перыметры пляцоўкі [*Рацюнкі*, Вялекушкес, Машкенай (Літва) і інш.]. Для Р.ш.к.к. былі характэрны наземныя адна- і шматкамерныя дамы слупавой канструкцыі, якія ацяпляліся ачагамі з гліняным борцікам альбо камянямі па перыметры. Гасп. пабудовы былі наземныя, па выгляду і тэхніцы ўзвядзення сцен нагадвалі жылыя. Пахавальны абрад не вядомы, выяўлены толькі некалькі пахаванняў надзвычайных абставін. Тры пахаванні па абраду інгумацыі, якія ўключалі астанкі мужчыны, дзіцяці і чалавека юнацкага ўзросту (пол не вызначаны), былі адкрыты ў культ. слаі гарадзішча Рацюнкі. Нябожчыкі былі арыентаваны галавой на У, ногі злёгку падагнуты ў каленях. Пахавальны інвентар адсутнічаў. Паводле радыевугляроднага аналізу (14С) пахаванні датуюцца 8–7 ст. да н.э.



*Ляпны посуд **ранняй штрыхаванай керамікі культуры**.*

Посуд прадстаўлены ляпнымі гаршкамі слоікавай і слабапрафіляванай форм, вонкавая паверхня якіх пакрыта хаатычнай штрыхоўкай ад венца да днішча. Арнаментацыя прадстаўлена гал. чынам ямкавымі ўцісканнямі на шыйцы слабапрафіляваных гаршкоў. Для Р.ш.к.к. на ўсім яе працягу быў характэрны каменны і касцяны інвентар. Вырабы з каменю прадстаўлены пераважна клінападобнымі, радзей свідраванымі сякерамі, зерняцёркамі, пестамі, долатамі, тачыльнымі брускамі. Найб. шматлікую групу складаюць прадметы з косці і рогу: праколкі, долаты, качадыкі, наканечнікі коп'яў, дроцікаў і стрэл, рукаяці, шпількі, амулеты з іклаў мядзведзя і кабана, падвескі. Вырабы з каляровага металу рэдкія: 2 бранзалеты і шпілька з грыбападобным навершам з Наркунайскага гарадзішча (Літва), іголка з Рацюнак. З бронзаліцейнай вытворчасцю звязаны шматлікія знаходкі абломкаў тыгляў, льячак, ліцейных форм для вытворчасці бранзалетаў і грыўняў, радзей — для адліўкі кельтаў меларскага тыпу.




*Касцяныя наканечнікі стрэл (1–6) і шпількі (7–15) **ранняй штрыхаванай керамікі культуры**.*

Аснову гаспадаркі плямён Р.ш.к.к. складала жывёлагадоўля. Дамінуючае становішча ў статку займала свіння. Разводзілі таксама буйны і дробны рагаты скот, коней. Падсечна-агнявое земляробства не мела шырокага распаўсюджання. Сярод зерневых культур дамінавалі пшаніца і ячмень. Істотныя пазіцыі захоўвала паляванне. Найб. важным быў промысел лася і кабана. Значную долю складала і паляванне на пушных жывёл, асабліва на бабра. Вял. колькасць вадаёмаў у арэале Р.ш.к.к. прадвызначыла значэнне рыбалоўства ў рацыёне плямён. Асноўнымі аб'ектамі лоўлі былі шчупак, акунь і лешч.



*Каменныя сякеры **ранняй штрыхаванай керамікі культуры**.*

Носьбіты Р.ш.к.к. кантактавалі з культурамі прадлужыцкай, лужыцкай і заходнебалцкіх курганоў, пры пасрэдніцтве якіх у арэал паступалі бронза, упрыгажэнні, магчыма, зброя. Плямёны Р.ш.к.к. знаходзіліся на стадыі развітога патрыярхату.

*Літ.:* Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006. *А.А.Егарэйчанка.*

**РАПАПО́РТ** Павел Аляксандравіч (29.6.1913, Санкт-Пецярбург – 11.9.1988), рускі археолаг, гісторык архітэктуры. Д-р гіст. навук (1965). Скончыў Ленінградскі інжынерна-буд. ін-т (1937). Працаваў у Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР (1939–88). Выкладаў гісторыю архітэк-

туры ў Ленінградскім ін-це жывапісу, скульптуры і архітэктуры Акадэміі мастацтваў СССР. Даследаваў праблемы гісторыі і археалогіі манументальнай архітэктуры Кіеўскай Русі і Маскоўскай дзяржавы. Зрабіў вял. ўклад у гісторыю даследавання полацкай і гродзенскай архіт. школ 12 ст. Вывучаў Камянецкую вежу і Навагрудскую Барысаглебскую царкву. Правёў даследаванні Ніжняй царквы (разам з М.М.Вароніным, 1949), княжацкіх палат, Каложскай царквы і абарончай сцяны 12 ст. (сумесна з экспедыцыяй Спец. навук.-вытв. рэстаўрацыйных майстэрняў Мін-ва культуры БССР, 1981, 1985) у Гродне; Ваўкавыскага храма (1959); полацкіх княжацкіх палат (1976—77), царквы на Ніжнім замку (1977), царквы на Рове (1977), Спаскай царквы Ефрасіннеўскага манастыра (разам з Г.М.Штэндарам, 1976), храма-спачывальні ў Ефрасіннеўскім манастыры (1976), вял. сабора Бельчыцкага манастыра (1977) у Полацку; Віцебскай Благавешчанскай царквы (разам з А.А.Трусавым і Т.С.Бубенька, 1982). Абследаваў некалькі дзесяткаў гарадзішчаў на тэр. стараж. Турава-Пінскай і Полацкай зямель і ў гарадах т.зв. Чорнай Русі. Даў класіфікацыю іх па тыпах і размяшчэнні на мясцовасці, археалагічна вывучыў канструкцыю абарончых збудаванняў больш за 10 гарадзішчаў на тэр. Беларусі, у т.л. стараж. Ваўкавыска, Навагрудка, гарадзішча Турэцкая гара каля Слоніма і інш. Кіраваў падрыхтоўкай навук. кадраў у галіне археалогіі для Беларусі. Выказаў гіпотэзу, што заснавальнікам гродзенскай архіт. школы 12 ст. быў дойлід Пётр Міланег, які потым працаваў у Кіеве.

*Тв.*: Раскопки в Волковыске в 1959 г. // СА. 1963. № 1; Полоцкое зодчество XII века // Там жа. 1980. № 3; Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв. Ленинград, 1967; Спасская церковь Ефросиньева монастыря в Полоцке (разам з Г.М.Штэндарам) // Памятники культуры: новые открытия, 1979. Ленинград, 1980; Памятники древнерусского зодчества в гродненском детинце (у сааўт.) // Там жа. 1987. М., 1988; Дворец в Полоцке (разам з Е.В.Шолахавай) // КСИА. 1981. Вып. 164; Новые данные об архитектуре древнего Гродно // Древнерусское искусство: худож. культура X — первой пол. XIII в. М., 1988.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Памяти П.А.Раппопорта // СА. 1989. № 3; Трусов А.А. Вклад П.А.Раппопорта в развитие белорусской архео-логии. Тезисы. Раппопортовские чтения: Тез. докл.: средневековая архитектура и монументал. искусство. Санкт-Петербург, 1999. *А.А.Трусаў.*

**РАСЕ́ЦІНСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура фінальнага палеаліту, насельніцтва якой 11—10 тыс. гадоў таму назад жыло ў міжрэччы Волгі і Акі. Вылучана А.М.Сарокіным у 1983. Назву атрымала па стаянцы Расета-3 (Калужская вобл., Расія). Выразныя матэрыялы Р.к. атрыманы на стаянках Альба-1 і 3, Баркі, Замосце-5 (пласт 9), Мініна (ніжні пласт), Ланіна-1, Расета-2, Суконцава-8—11, Таруса-1 (Расія) і інш. Асн. тыпам нарыхтовак для прылад працы з'яўляліся пласціны і адшчэпы, атрыманыя пераважна з аднапляцовачных нуклеусаў канічнай і падпрызматычнай формы. Сярод прылад сустракаюцца канцавыя, двайныя і акруглыя скрабкі, вуглавыя, рэтушныя і двухгранныя разцы, вырабы з выемкай, праколкі і свердлы, мікрапласцінкі з затупленым краем, пласціны са скошанымі канцом, нажападобныя з рэтушшу, сякучыя прылады. Вызначальнымі для Р.к. з'яўляюцца т.зв. расецінскія вастрыі з шыпападобным бакавым выступам, выкананыя ў тэхніцы мікраразцовага сколу, і наканечнікі стрэл на мікрапласцінах, чаранковая частка якіх з аднаго боку падкрэсліваецца выемкай.




*Да арт.* ***Расецінская культура.*** *Крамянёвыя вырабы са стаянкі Суконцава-9 (паводле А.М. Сарокіна): мікрапласціны з затупленым краем (1—5), вастрыі з шыпападобным бакавым выступам (6—7), вастрыі з шыпападобным бакавым выступам і мікраразцовым сколам (8—9), наканечнікі стрэл (10—11), скрабок (12), разцы (13, 15), праколка (14), цясла (16), нуклеусы (17—18).*

Паходжанне Р.к. звязваецца з помнікамі позняга палеаліту Рус. раўніны і разглядаецца ў кантэксце традыцый «усходняга гравету» (стаянкі Гагарына, Хатылёва-2). Мяркуецца, што ў выніку міграцый на мяжы эпох плейстацэну—галацэну насельніцтва Р.к. стала генетычным продкам мезалітычных *кундскай культуры* і *бутаўскай культуры*, помнікі якіх вядомы на тэр. Беларусі. Паводле А.М.Сарокіна, да ліку расецінскіх належаць стаянкі *Замошша-2* і *Крумплева* на р. Зах. Дзвіна.

*Літ.*: Сорокин А.Н. Ресетинская культура // Археология СССР. Мезолит СССР. М., 1989; Сорокин А.Н., Ошибкина С.В., Трусов А.В. На переломе эпох. М., 2009. *А.У.Коласаў.*

**РА́СНА**, ювелірны выраб з серабра (найчасцей) ці золата для ўпрыгажэння галавы. Складаецца



*С.Я.Рассадзін.*

з конусападобнай вярхушкі з арнаментам і прымацаванымі ланцужкамі, якія перамяжоўваюцца і заканчваюцца ажурнымі бляшкамі, упрыгожанымі сканню, зерню, эмаллю. Р. мацаваліся да галаўнога ўбору, ачэлля, ленты. На Русь трапілі з Візантыі ў дамангольскі час і былі распаўсюджаны ў княжацка-баярскім асяроддзі. Вядомы па знаходках у скарбах к. 12 – пач. 13 ст. на тэр. Кіеўскага, Чарнігаўскага і Разанскага княстваў. Часцей за ўсё прадстаўлены парамі. У Беларусі сярэбраныя шлемападобныя Р. былі сярод рэчаў *Вішчынскага грашова-рэчавага скарбу*. Фр-ты залатых Р. выяўлены ў Навагрудку (ланцужкі з залатымі пацеркамі на канцах, залатая бляшачка з перагародчатай чырвонай і зялёнай эмаллю), Полацку і Мінску.

*Літ.*: Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.). М., 1981; Загорульский Э.М. Вищинский замок XII–XIII вв. Минск, 2004.

*А.М.Ваганава.*

**РАСО́ХІ**, археалагічны помнік – паселішча бронзавага і жал. вякоў каля в. Расохі Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 2,5–3 км на ПдЗ ад вёскі, на краі 1-й надпоймавай тэрасы воз. Мядзел, каля перашыйку паўвострава Дубовы, ва ўр. Дубавое. Выявіў у 1978, даследаваў 220 м² у 1979, 1986–87 Э.М.Зайкоўскі. Культ. пласт 0,3–0,8 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, большасць якіх выканана на адшчэпах (19 скрабкоў канцавых, паўкруглых і камбінаваных, 11 скобляў, скрэблы, укладыш з рэтушшу, вастрыё са скошаным рабочым краем, апрацаванае дробнай рэтушшу, нажападобныя пласціны і інш.), зброя (тронкі і абломак тронкаў наканечніка стралы, вастрыё наканечніка, апрацаванае пілаватай дробнай рэтушшу), невял. шліхтаваная сланцавая сякера, абпаленае гліняная грузіла з 2 адтулінамі, фр-ты жал. вырабаў, у т.л. сярпа. Знойдзены шматлікія фр-ты керамікі: слабаштрыхаваныя венчыкі рабрыстых і слоікападобных пасудзін позняга бронзавага і жал. вякоў, ляпнога гладкасценнага посуду банцараўскай культуры, з шурпатай паверхняй, глянцаванай (датуецца 4–5, магчыма, 6 ст.) і ганчарнай (раннесярэдневяковай і паліванай). Выяўлены шкляныя пацеркі (бочачкападобная з пазалотай і сіняя трохчасткавая) часу ранняй ганчарнай керамікі. Паселішча засн. ў познім бронзавым веку, было заселена ў 10–11 ст. і, магчыма, пазней.

*Літ.*: Зайкоўскі Э.М. Знаходкі ля возера // ПГКБ. 1981. № 2.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**РАССА́ДЗІН** Сяргей Яўгенавіч (н. 30.7.1958, г. Гомель), беларускі археолаг, гісторык, геральдыст. Д-р гіст. навук (1999), праф. (2008). Скончыў Гомельскі ун-т (1981). З 1984 працаваў у ІГ АН Беларусі, з 1993 у Дзярж. к-це па архівах і справаводстве, з 2002 у Бел. дзярж. тэхналагічным ун-це. Даследуе археалогію ранняга жал. веку і позняга сярэдневякоўя, стараж. пісьмовыя крыніцы і этнагеаграфію антычнасці, паходжанне славянства, геральдыку і тытулазнаўства. З 2005 вядзе раскопкі адкрытых ім на р. Бярэзіна г. Казімір 17 ст., а таксама сядзібы *Шацілінскі Востраў*.

*Тв.*: Землі амаль невядомыя. Будучая Беларусь паводле антычных манускрыптаў. Мінск, 1996; Племена и народы «заскифского» Северо-Востока. Минск, 1999; Северные соседи Великой Скифии. Минск, 2005; Милоградская культура: ареал, хронология, этнос. Минск, 2005; Гербы і сцягі гарадоў і раёнаў Беларусі. Мінск, 2005 (разам з А.М.Міхальчанкам); Гнездо двуглавого орла. Минск, 2008; Первые славяне. Славяногенез. 2 изд. Минск, 2009.

**РАСЧО́СКА**, аднабаковы грэбень. Выяўлены ў Полацку (32 экз.), Віцебску (15), Прудніках (8), Дрысвятах (4), Лукомлі (3) і г.д. Усяго Р., футаралаў і накладак ад іх знойдзена больш за 100. Датуюцца 9 – 1-й пал. 11 ст. Падзяляюцца на 2 тыпы: цэльныя і састаўныя з дрэва (трохслойныя). Цэльныя Р. – аднабаковыя з частымі зубцамі прылады з дрэва ці косці для расчэсвання льнянога валакна і воўны. Уяўлялі сабой дастаткова вял. доўгі і вузкі, лапатападобны прадмет, у некаторых выпадках з ручкай. Дзве такія Р. (касцяная і драўляная) знойдзены ў слоі 13 ст. Полацка, 1 драўляная – у слоі 14–15 ст. Слуцка. Састаўныя Р. складаліся з некалькіх пласцін і змацоўваліся штыфтамі. Прымяняліся, часцей за ўсё, напэўна, мужчынамі для расчэсвання валасоў, вусоў і барады, а таксама ў гігіенічных мэтах. У Беларусі спачатку выкарыстоўваліся пры-



*Касцяныя* ***расчоскі*** *9 – 1-й пал. 11 ст.: 1–2 – Пруднікі, 3 – Дрысвяты, 4–7 – Віцебск, 8–9 – Полацк.*

вазныя Р. з балтыйска-скандынаўскіх цэнтраў, аднак хутка была наладжана мясц. вытворчасць, аб чым сведчаць знаходкі нарыхтовак, паўфабрыкатаў, незакончаных і бракаваных рэчаў.

*Літ.*: Мядзведзева В.У. Касцяныя грэбні з курганоў X–XII стст. Рагачоўшчыны // Старажытнасці Рагачоўшчыны. Мінск; Рагачоў, 2000; Яе ж. Грэбні ў пахаваннях X–XII стст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17. *В.У.Мядзведзева.*

**РАТА́ЙЧЫЦЫ**, археалагічныя помнікі – могільнікі каля в. Ратайчыцы Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

Бескурганныя могільнікі *паморскай культуры* (4–2 ст. да н.э.) і 11–13 ст. за 0,8 км на У ад вёскі, пры ўпадзенні р. П'яўка ў р. Лясная. Знойдзены ў 1929 падчас земляных работ. Пахавальны абрад паморскай культуры – трупапаленне. Знойдзены цыліндрычныя чырвоныя пацеркі. Абследавалі ў 1937 К.Салевіч, у 1980–81, 1983 і 1986 Т.М.Каробушкіна. У 1962 Ю.У.Кухарэнка даследаваў 2 пахаванні 11–13 ст. па абраду трупапалажэння ў ямах прамавугольнай формы, галавой на З. Знойдзена бронзавае скроневае 3-пацеркавае кольца.




*Да арт.* ***Ратайчыцы****: 1 – нож; 2, 5 – скроневыя кольцы; 3, 8 – пярсцёнкі; 4, 6, 7 – пацеркі і ракавіна каўры; 9, 11 – крэсівы; 10 – праснліца; 12 – шпора.*

Курганны могільнік 10–12 ст. за 0,3 км на Пн ад вёскі на левым беразе р. П'яўка. Захавалася 8 насыпаў выш. 0,2–0,7 м, дыям. 4–8 м (раней у аснове былі абкладзены камянямі). Узгадваецца Ф.В.Пакроўскім у 1895. Абследавалі ў 1937 К.Салевіч, у 1980–81, 1983, 1985–86 Т.М.Каробушкіна. У 1959–60 І.В.Біруля даследаваў 29 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З (у 2 пахаваннях – на У) у насыпе, на гарызонце, адно ў яме. У адным кургане – трупаспаленне. Пахаванні ў асн. адзіночныя. Знойдзены кругавыя гаршкі (рыфлёныя, з адагнутым венцам, паясамі косых насечак), жал. цвікі, нажы, крэсівы, абручы і дужкі ад драўляных вёдзер, шпора, праслíцы з ружовага і шэрага сланцу, скроневыя кольцы, бронзавыя зярнёныя каралі, бразготка, залата- і срэбрашкляныя пацеркі, ракавіна каўры.

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Курганы Белорусского Побужья X–XIII вв. Минск, 1993.

*Т.М.Каробушкіна.*

**РА́ЎДЗІНА** Тамара Уладзіміраўна (21.4.1919, г. Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія – 4.3.1991), савецкі археолаг. Канд. гіст. навук (1975). Скончыла Маскоўскі ун-т (1946). У 1940–41 навук. супрацоўнік Маскоўскага дзярж. гіст. музея, у 1945 – 47 навукова-тэхнічны супрацоўнік Харэзмскай археал. экспедыцыі Ін-та этнаграфіі АН СССР. З 1949 навук. супрацоўнік Ін-та археалогіі АН СССР. Асн. кірунак даследаванняў – датаванне стараж.-рус. рэчаў. Даследавала стараж. Бранск (1970–71, 1978), Маскву, Ноўгарад, Ноўгарад-Северскі, Старую Русу, Суздаль, Чарнігаў і інш., Браслаў (1956), Друцк (1958), Мінск (1957), Мсціслаў (1967), Пінск (1955, 1957), курганы вяцічаў. Аўтар манаграфій «Паліваныя керамічныя пліткі з Пінска» (1963), «Раскопкі ў Пінску» (1966).

*Тв.*: Погребения X–XI вв. с монетами на территории Древней Руси: кат. М., 1988; О находках монет из Вотни (Верхний Днепр) (разам з У.У.Багамольнікавым)//СА. 1979. № 2. *У.У.Багамольнікаў.*

**РАЦЮ́НКІ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* і культур штрыхаванай керамікі, селішча 2-й пал. 1-га – пач. 2 тыс. н.э. каля в. Рацюнкі Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча днепра-дзвінскай культуры і культур штрыхаванай керамікі. На паўд. ускраіне вёскі, на вяршыні ўзгорка-астанца выш. 8–12 м. Пляцоўка авальнай формы памерамі 36×40 м. Штучныя ўмацаванні на паверхні не прасочваюцца. Але, як паказалі даследаванні, з усх. боку пляцоўка была абаронена валам з шчыльнай гліны выш. 0,5–0,6 м і шыр. 5 м. У 1978–79, 1981 Л.У.Дучыц даследавала 252 м², у 1999, 2001–07 экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам А.А.Егарэйчанка – 854 м². Культ. пласт магутнасцю 0,1–1,1 м утрымліваў вял. колькасць



*Да арт.* ***Рацюнкі****. Агнішча ранняй штрыхаванай керамікі культуры.*

*Да арт.* ***Рацюнкі.*** *Касцяныя дзяржанні ранняй штрыхаванай керамікі культуры.*



камянёў, часта абпаленых, і кампактныя каменныя нагрувашчанні. У ніжняй частцы культ. пласта выяўлены 24 ачагі памерамі 0,75 × 0,9–1,1 × 1,4 м. 23 мелі пясчаны под круглай ці авальнай формы. Ачагі абкружаны гліняным валікам шыр. 0,1–0,15 м. Адзін быў абкладзены абчасанымі камянямі даўж. 0,15–0,4 м у папярочніку. У 2003 на глыб. 0,8–0,9 м выяўлены 4 пахаванні па абраду інгумацыі. Тры з іх уяўлялі адначасовае сямейнае пахаванне (дарослы мужчына, маладая асоба нявызначанага полу, дзіця 3–5 гадоў). Нябожчыкі арыентаваны галавой на У, ногі злёгку падагнуты ў каленях. Пахавальны інвентар адсутнічаў. Чацвёртае пахаванне (жанчына, старэйшая за 50 гадоў) знаходзілася за 2 м на З ад папярэдніх, арыентавана галавой на У. Пахавальных рэчаў таксама не было. Керамічны комплекс паселішча падзяляецца на некалькі груп: у ніжніх адкладах культ. пласта пераважалі ляпныя гладкасценныя пасудзіны днепра-дзвінскай культуры; вышэй – слоікавыя і слабапрафіляваныя гаршкі *ранняй штрыхаванай керамікі культуры*; рабрыстыя гаршкі *позняй штрыхаванай керамікі культуры*; слоікавыя пасудзіны сяр. – 3-й чв. 1-га тыс. н.э.; кругавая стараж.-рус. кераміка. Шматлікую групу знаходак складаюць вырабы з косці днепра-дзвінскай і ранняй штрыхаванай керамікі культур: праколкі, долаты, тупікі, наканечнікі стрэл і коп'яў, гарпуны, рукаяці, шпількі разнастайных форм, амулеты з зубоў жывёл, падвескі і інш. Знойдзены косці з рунічнай літарай «М» ці «R» і малюнкам. Вял. па колькасці група знаходак – каменныя клінападобныя сякеры, абломкі свідраваных сякер, песты, тачыльныя бруску, шыферныя праслiцы. Бронзавыя вырабы сустракаюцца рэдка. Да найб. ранніх адносіцца іголка. Трапецападобныя падвескі і круглая бляшка з адтулінай належаць, хутчэй за ўсё, да позняй штрыхаванай керамікі культуры. Астатнія вырабы з бронзы (В-падобная спражка, грузік, накладка, масіўная круглая бляшка, бранзалеты) датуюцца 3-й чв. 1-га тыс. н.э. і стараж.-рус. часам. Знаходкі з жалеза прадстаўлены шыламі, сярпамі, нажамі, рыбалоўнымі кручкамі, абломкамі сякер, наканечнікам стралы; шкляныя ўпрыгажэнні – адзінкавымі абломкамі бранзалетаў і пацеркамі; вырабы з гліны – абломкамі ліцейных форм 1-га тыс. да н.э., праслiцамі, грузікамі. Гарадзішча датуецца апошняй чв. 2 тыс. да н.э. – 13 ст.

Селішча 2-й пал. 1-га – пач. 2-га тыс. н.э. Каля паўд. боку гарадзішча. Пл. 100 × 200 м. Адкрыў у 2005 і даследаваў 48 м² А.А.Егарэйчанка. Культ. пласт 0,15–0,5 м. У цэнтр. частцы раскопу выяўлена мацерыковая яма чашападобнай у сячэнні формы памерамі 1,3 × 2,9 м і глыб. 0,05–0,4 м. У запаўненні сустракаліся камяні даўж. да 0,2 м у папярочніку, абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін. Керамічны комплекс селішча падзяляецца на 3 храналагічныя групы: найб. ранняя кераміка прадстаўлена рабрыстымі гаршкамі позняй штрыхаванай керамікі культуры; таўстасценныя пасудзіны слоікавай і слабапрафіляванай форм сяр. – 3-й чв. 1-га тыс. н.э.; кругавы посуд. Знойдзены 3 фр-ты гліняных праслiц, каменнае долата, гліняны грузік з адтулінай, абломак бронзавай трапецападобнай падвескі з пунсонным арнаментам. Датуецца 1-м – пач. 2-га тыс. н.э.



*Агульны выгляд гарадзішча* ***Рацюнкі*** *(фота Г.А. Краскоўскага).*

*Літ.*: Е г о р е й ч е н к о А.А. Средневековые материалы городища Ратюнки (предварительные итоги изучения 1999 – 2002 гг.) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 2002; Я г о ж. Городище Ратюнки (по материалам исследований экспедиции Белгосуниверситета) // Браслаўскія чытанні: матэрыялы VI-й навук.-краязн. канф., прысвечанай 150-й гадавіне з дня нараджэння браслаўскага лекара, грамад. дзеяча Станіслава Нарбута (1853–1926), 7–8 мая 2003 года. Браслаў, 2003; Я г о ж. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Я г о ж. Braslav Lake District – in the Viking epoch // Viking Heritage magazine. 2005. № 1.

*А.А.Егарэйчанка.*

**РО́МЕНСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура славянскіх плямён, якія ў к. 1-га тыс. жылі на тэр. Беларусі, Украіны і Расіі (басейны рэк Дзясна, Сейм, Сула, Псёл, Ворскла). Адзін з першых даследчыкаў І.І.Ляпушкін аб'ядноўваў роменскія і боршаўскія старажытнасці ў роменска-боршаўскую культуру 8–10 ст. Назву атрымала ад



*Упрыгажэнні і кераміка **роменскай культуры** (паводле В.В.Сядова).*

паселішчаў каля г. Ромны Сумскай вобл. (Украіна). Паходзіць ад пражскай культуры 5–7 ст. пры ўдзеле мясц. культур 3-й чв. 1-га тыс. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, бортніцтвам, рамесніцтвам; жыло на гарадзішчах і селішчах. Жытлы – чатырохвугольныя паўзямлянкі пл. 9–25 м², слупавай і зрубавай канструкцый, з глінабітнымі печамі. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі змяшчаліся ў ляпных гаршках пад курганнымі насыпамі. Сустракаюцца і бескурганныя пахаванні. Пры раскопках знойдзены ляпная кераміка, арнаментаваная грабеньчатым штампам, насечкамі, наколамі; земляробчыя прылады працы, сякеры, косы, нажы; упрыгажэнні – бронзавыя і сярэбраныя бранзалеты, шыйныя грыўні, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, пацеркі. На Пд і ПдУ Беларусі матэрыялы Р.к. выяўлены на Мазырскім гарадзішчы Кімбараўка, гарадзішчы і селішчы *Чаплін*, селішчы і курганным могільніку *Ходасавічы*, курганным могільніку *Вароніна*, гарадзішчах *Чачэрск* і *Гомель*, селішчы *Насовічы*. Культура гэтых помнікаў звязана з летапіснымі радзімічамі і інш. ўсх.-слав. плямёнамі пярыяду ўтварэння Стараж.-рус. дзяржавы.



*Жалезныя вырабы і кераміка **роменскай культуры** (паводле В.В.Сядова).*

*Літ.*: Л я п у ш к и н И.И. Славяне Восточной Европы накануне образования Древнерусского государства (VIII век – первая половина IX в.) //МИА. 1968. № 152; С е д о в В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья // Там жа. 1970. № 163; С у х о б о к о в О.В. Славяне Днепровского левобережья: (роменская культура и ее предшественники). Киев, 1975; Славяне юго-восточной Европы в предгосударственный период. Киев, 1990; М а к у ш н и к о в О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: Социально-экономическое и этнокультурное развитие. Гомель, 2009.

*А.А.Макушнікаў.*

**РО́ЎБІЦК**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля в. Роўбіцк Пружанскага р-на Брэсцкай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 каменнага, бронзавага і жал. вякоў, на паўн.-зах. ускраіне вёскі, побач з пясчанымі кар'ерамі і сучаснымі землянымі насыпамі-ўзвышшамі. Вядомы з 20 ст. У 1970 знойдзена манета Рымскай імперыі – дынарый імператара Траяна. У 1972 Л.Д.Побаль выявіў селішча жал. веку. У 1990 помнік абследавала А.В.Квяткоўская, у 2007 – В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец, А.Г.Калечыц. Знойдзены 3 крамянёвыя адшчэпы, рабрыстая пласціна, 2 рубя-

чыя прылады (цёслы), адшчэп з рэтушшу, 6 фр-таў ляпной керамікі неалітычнага часу.

Паселішча-2 каменнага і бронзавага вякоў, за 0,3–0,4 км на З ад паселішча-1, за паўн.-зах. ускраінай вёскі на краі пясчанага ўзвышша пад лесапасадкай. У 2007 выявілі і абследавалі В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец, А.Г.Калечыц. Па краі праходзіць лясная дарога, якая часткова пашкодзіла культ. пласт. Знойдзены 3 адшчэпы, 4 пласціны, пласціна з рэтушшу, скрабок на фр-це нуклеуса, 5 фр-таў ляпной керамікі неаліту і бронзавага веку.

Паселішча-3 каменнага і бронзавага вякоў, за 120–150 м на Пд ад паселішча-2, за паўн.-зах. ускраінай вёскі. У 2007 выявілі і абследавалі В.Л.Лакіза і В.Г.Белявец. Верхняя частка культ. пласта развеяна. Знойдзены 26 адшчэпаў, 5 пласцін, пласціна з рэтушшу, 2 адшчэпы з рэтушшу, 2 нуклеусы, 2 скоблі, 2 скрабкі (адзін на фр-це нуклеуса), трохвугольны пашкоджаны наканечнік стралы, фр-т ляпной керамікі, 2 ганчарныя венцы. У 2009 даследавалі А.Г.Калечыц і В.Г.Белявец. Знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы мезаліту і неаліту, ляпная кераміка неаліту і жал. веку.

*Літ.*: Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2009.

*В.Л.Лакіза.*

ROCZNIK
ARCHEOLOGICZNY



W I L N O
1 9 3 7

*«Рочнік археалагічны».*

**«РО́ЧНІК АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ»** («Rocznik archeologiczny»), навуковае выданне археалагічнага музея Віленскага ун-та імя Стэфана Баторыя (на польскай мове). Выйшаў 1 том (1937), які змяшчаў артыкулы Г.*Цэгак-Галубовіч* і У.*Галубовіча*, прысвечаныя публікацыі і аналізу матэрыялаў раскопак курганнага могільніка Наўры; арт. А.Вжосека, прысвечаны аналізу антрапалагічных матэрыялаў з Наўраў; кароткую справаздачу аб працы археолагаў музея ў 1933–37 (У.Галубовіч) і арт. В.Ягадзінскай аб разведках, праведзеных Палескім музеем у Косаўскім павеце ў 1937. Артыкулы ілюстраваны малюнкамі, картамі, табліцамі, пададзена бібліяграфія, маюцца рэзюме на нямецкай, англійскай і французскай мовах. Пачатак 2-й сусветнай вайны спыніў выданне (1939).

*Літ.*: Rocznik Archeologiczny. T. 1. Wilno, 1937.

*М.А.Плавінскі.*

**РО́ШЧЫНА**, састаў для сувязі элементаў муроўкі і яе атынкоўкі. У Беларусі з 12 ст. выкарыстоўвалі вапнавую Р. Яна адрознівалася тлустасцю, складам напаўняльніка, суадносінамі яго частак. Для каменнай муроўкі пры будаўніцтве замкаў Р. рабілі больш беднай, на дробназярністым пяску, для цаглянай муроўкі – больш тлустай, на буйна- або сярэднезярністым пяску. Для тлустай Р. стараж. пабудоў характэрны дамешак здробненай цэглы папалам з пяском. З 16 ст. ў тагачаснай літаратуры рэкамендавалася рабіць Р. ў залежнасці ад саставу напаўняльніка (1:0,5 або 1:1). У 17 ст. (рэнесансавыя помнікі) вызначалі залежнасць паміж модулем зярністасці напаўняльніка і яго колькасцю ў Р. (каэфіцыент карэляцыі прыблізна 0,7), склад Р. быў яшчэ больш бедны (дасягаў 1:2). З цягам часу збядненне Р. зрабілася агульнай тэндэнцыяй (каэфіцыент карэляцыі паміж часам пабудовы і доляй напаўняльніка ў Р. складае 0,7). Тып вапны (паветраная, слабагідраўлічная, маламагнезіяльная, магнезіяльная, даламітавая) залежыць ад месцазнаходжання радовішчаў сыравіны. У адпаведнасці з функцыянальным прызначэннем муроўкі склад Р. мог мяняцца ў адным і тым жа будынку. Напр., рэшткі магілёўскіх пабудоў 18 ст. маюць Р. ў бутавых падмурках з прапорцыямі паміж вяжучым рэчывам і напаўняльнікам 1:0,7÷1, у муроўцы сутарэнняў – 1:0,5÷0,7, у муроўцы сцен – 1:1,5÷2. Для атынкоўкі фасадаў Р. рабілі ў прапорцыях 1:0,7÷1,8, часам з дадаткам фарбавальнікаў (попел, драўняны вугаль, кавальскі шлак, тоўчаная цэгла). Напр., Гродзенскі Стары замак пасля перабудовы ў к. 16 ст. меў цёмна-шэры колер з-за дадатку ў Р. попелу з дамешкам драўнянага вугалю. На помніках ВКЛ вядома і сграфіта ў традыцыйнай еўрап. тэхніцы – выскрабанне верхняга слоя белай Р. да ніжняга слоя чорнай (з вугальным фарбавальнікам). Для атынкоўкі інтэр'ераў выкарыстоўвалі часам і больш тлустую Р. – з прапорцыямі складальнікаў 1:0,5÷0,7, але звычайна тынкавальная Р. была бяднейшая за

муровачную. Для атынкоўкі пад размалёўку Р. рабілі амаль без напаўняльніка. Яе наносілі на папярэдні тоўсты слой беднай або сярэднятлустай Р. (1:0,7÷1,6) з дробным напаўняльнікам. У 17 ст. выкарыстоўвалі двух- і трохслаёвыя грунтоўкі-атынкоўкі. *І.І.Сінчук.*

**РУБЕ́ЛЬ**, археалагічныя помнікі – селішча і могільнікі каля в. Рубель Столінскага р-на Брэсцкай вобл.

Селішча *зарубінецкай культуры* за 3 км на Пн ад вёскі, абапал дарогі на Давыд-Гарадок, ва ўр. Прысава. Пл. больш за 1 га. Выявіў і даследаваў у 1957 Ю.У.Кухарэнка (84 м²), у 1962 К.В.Каспарава. Культ. пласт 0,5 м. Выяўлены 4 буйныя ямы, 2 з якіх, магчыма, з'яўляюцца рэшткамі паўзямлянкавых жытлаў. Адна з ям, размешчаная ў паўд.-зах. куце раскопу, амаль прамавугольная ў плане (3 × 2 м, заглыблена на 0,4 м), без слядоў агнішча. У запаўненні выяўлена каля 20 фр-таў ляпных пасудзін. У другой яме, блізкай да першай па памерах і форме, знойдзены фр-ты глянцаванага гаршка і грубаляпных пасудзін. У культ. пласце селішча выяўлена вял. колькасць фр-таў керамікі 3 відаў: гаршкоў і місак з шурпатай паверхняй (54%), частка гаршкоў па краі венчыкаў ці па плечуках арнаментавана пальцавымі ўціскannямі, наляпнымі валікамі, зашчыпамі па тулаве; місак, радзей гаршкоў з глянцаванай паверхняй (27%); вял. таўстасценных гаршкоў з глянцаваным або загладжаным верхам і бугрыстым тулавам (19%). Знойдзены таксама фр-т крамянёвага серпападобнага нажа, кавалкі жал. шлаку. Датуецца 2 ст. да н.э. – 2 ст. н.э.

Могільнік зарубінецкай культуры на паўн. ускраіне вёскі. Выявіў у 1953 І.Вабішэвіч, які знайшоў на глыб. 0,8 м цэлы гаршчок зарубінецкай культуры з загладжанай паверхняй і фр-ты яшчэ адной пасудзіны. У 1956 Ю.У.Кухарэнка даследаваў невял. ўчастак. Знойдзены адзінкавыя фр-ты зарубінецкай керамікі і кальцынiраваныя косткі.

Курганны могільнік на правым беразе р. Гарынь, на сучасных могілках. У групе больш за 30 паўсферычных здзірванелых насыпаў выш. да 1 м. У цэнтр. частцы адзін насып выш. каля 2,5 м, дыям. амаль 20 м. Курганы размешчаны блізка адзін ад аднаго, амаль усе пашкоджаны сучаснымі пахаваннямі. Выявіў у 1956 Ю.У.Кухарэнка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Памятники железного века на территории Полесья // САИ. 1961. Вып. Д1–29. *А.А.Егарэйчанка.*

**РУБІ́ЛА**, прылада працы стараж. чалавека, якая выкарыстоўвалася ў эпоху ніжняга палеаліту (шэльская і ашэльская культуры). Выраблялася з каменю двухбаковай абіўкай. Мела міндале- або коп'епадобную, часам авальную форму. Адзін канец Р. быў завостраны, з зігзагападобнымі лёзамі па баках, другі авальны, часта неапрацаваны. Памеры да 20 см. Р. ашэльскай эпохі былі менш масіўныя і больш вострыя. Падобнае на Р. вострыё знойдзена на адным з самых стараж. паселішчаў на тэр. Беларусі – Бердыжы. *А.Г.Калечыц.*

**РУ́ДНЯ**, археалагічныя помнікі – стаянкі, селішча і курганны могільнік каля в. Рудня Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка-1 эпохі неаліту і селішча-1 стараж.-рус. часу за 0,6 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож. Адкрыў у 1994 В.Ф.Капыцін, у 2007–08 А.У.Коласаў даследаваў 350 м². Культ. пласт 0,1–0,3 м. Знойдзена звыш 37,5 тыс. артэфактаў: крамянёвыя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, скрэблы, рэжучыя і сякучыя прылады, укладышы, трапецыі,




*Да арт. **Рудня** (Клімавіцкі раён). Крамянёвыя вырабы з паселішча-1: 1–3, 5 – наканечнікі стрэл і дзіды, 4 – долатападобны выраб, 6 – цясла.*

наканечнікі стрэл, дроцікаў і дзіды чаранковай, трохвугольнай, ромба- і лістападобнай формы. Кераміка прадстаўлена фр-тамі ляпных пасудзін яйкападобнай формы з вострым і закругленым дном (2127 адз.). Паверхня ўпрыгожана ямкамі і адбіткамі грабёнкі, уціскannямі краем лапаткі, палачкай з накручанай на канцы ніткай, кароткімі наколамі і г.д. Знойдзены абломкі посуду, на паверхні якога захавалася выява вадаплаўнай птушкі (качкі), выкананая кароткімі вертыкальнымі лініямі грабеньчатых наколаў. Асн. частка знаходак мае падабенства з матэрыяламі помнікаў позняга этапу *верхнедняпроўскай культуры* (2-я пал. 4-га – пач. 2-га тыс. да н.э.). Прысутнічаюць таксама матэрыялы фінальнага палеаліту (культура чаранковых наканечнікаў і *свідэрская культура*), мезаліту (*бутаўская культура*), стараж.-рус. часу.

Стаянка-2 каменнага веку і селішча-2 за 1,2 км на ПдЗ ад вёскі, на пясчаным узвышшы ў пойме правага берага р. Лабжанка, за 0,1 км на ПнЗ ад моста, на З ад дарогі Лобжа–Рудня. Адкрыў у 1994 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2005 А.У.Коласаў. Сабраны нуклеусы, адшчэпы, пласціны, у т.л. з рэтушшу, вырабы з выемкай, разцы, фр-ты кругавога посуду.

Стаянка-3 каменнага веку і селішча-3 жал. веку на астанцы 1-й надпоймавай тэрасы левага берага р. Лабжанка, за 0,1 км на ПдЗ ад моста і дарогі Лобжа–Рудня. Адкрыў у 1994 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2005 А.У.Коласаў. Культ. пласт парушаны кар'ерам. Сабраны крамянёвыя адшчэпы, пласціны і лускавінкі.

Стаянка-4 каменнага веку за 0,25 км на ПнЗ ад стаянкі-3. Адкрыў у 1994 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2005 А.У.Коласаў. У агаленнях астанца тэрасы знойдзены крамянёвыя адшчэпы і пласціны.

Стаянка-5 каменнага веку за 2 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, за 1,3 км на ПнЗ ад стаянкі-1. Адкрылі ў 2006 А.У.Коласаў і М.П.Дуктаў. У пясчаных агаленнях тэрасы сабраны адшчэпы, пласціны, канцавы скрабок і адшчэп з рэтушшу.

Стаянка-6 каменнага веку за 0,7 км на ПнЗ ад вёскі, на пясчаным узвышшы левага берага ручая, які ўпадае ў воз. Цяжобнае, насупраць стаянкі-1. Адкрыў у 2007 А.У.Коласаў. У агаленнях дзюны сабраны крамянёвыя адшчэпы і пласціны, аднапляцовачныя нуклеусы, канцавы скрабок і разец на зломе нарыхтоўкі.

Селішча-4 за 1,1 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Лабжанка, за 0,7 км на ПнУ ад стаянкі-7 і селішча-2. Адкрыў у 2008 А.У.Коласаў. Сабраны фр-ты кругавога посуду.

Стаянка-7 каменнага веку і селішча-5 ранняга жал. веку і стараж.-рус. часу на левым беразе р. Лабжанка, за 0,5 на ПдУ ад вёскі. Адкрыў у 2008 А.У.Коласаў. Знойдзены адзінкавыя вырабы з крэменю (адшчэпы, пласціны), фр-ты грубаляпнога посуду, арнаментаванага расчосамі, абломкі кругавой керамікі.

Стаянка-8 каменнага веку і селішча-6 на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Лабжанка. Адкрыў у 2008 А.У.Коласаў. У агаленнях тэрасы знойдзены адшчэпы, пласціны, канцавы скрабок, фр-ты кругавога посуду.

Стаянка-9 каменнага веку за 0,6 км на ПнУ ад вёскі, на астанцы 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Лабжанка. Адкрыў у 2008 А.У.Коласаў. Помнік парушаны кар'ерам. Сабраны крамянёвыя адшчэпы і пласціна.

Курганны могільнік за 1,3 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, у лесе. Адкрыў у 2007 А.У.Коласаў. 9 курганоў выш. 0,5–1,1 м, дыям. 0,6–12 м.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Археологические памятники Климовичского района Могилевской области. Могилев, 1998; Колосов А.В. Археологические древности Могилевского Посожья (по материалам экспедиций 2002–2008 гг.). Могилев, 2009. *А.У.Коласаў.*

**РУ́ДНЯ**, дробнае металургічнае прадпрыемства ў Беларусі 14–18 ст. па вытворчасці жалеза і вырабе з яго прылад працы, інструментаў, зброі, гасп. і побытавых рэчаў. Упершыню тэрмін сустракаецца ў грамаце кн. Уладзіміра Альгердавіча ад 1390. Будаваліся (асабліва інтэнсіўна ў 16–17 ст.) каля рэк, радовішчаў жал. руды і там, дзе была драўніна для выпальвання вугалю. Асн. абсталяванне Р. складалі сырадутныя печы, кавальскія гораны, скураныя (часам драўляныя) мяхі, вял. (да 100 кг) механічныя молаты, кавадлы, малаткі, клешчы, інш. абсталяванне, меліся ямы для выпальвання вугалю. Першапачаткова выкарыстоўвалі ручную працу, з 16 ст. і вадзяное кола. У к. 18 ст. буйнейшыя Р. з доменнымі печамі былі ў вёсках Горваль Рэчыцкага і Глебава Рудня Бабруйскага р-наў. Металургічны працэс адбываўся двухстадыйным спосабам: спачатку выплаўлялі чыгун, потым яго перараблялі ў коўкі метал. Выпускалі каля 33 т жалеза штогод. На тэр. Беларусі была густая сетка Р. Тэрмін «Р.» ў сваіх назвах захавалі больш за 150 населеных пунктаў. Асабліва шырока вытворчасць жалеза была развіта на ПдУ Беларусі – на Гомельшчыне, Магілёўшчыне, Міншчыне.

*Літ.*: Баркоўскі С., Скардзіс В. Аб жалезнай прамысловасці на Беларусі: (гіст. даведка) // Сав. краіна. 1931. № 12; Федоренко П.К. «Рудні» XVI–XIX вв. на территории СССР // Исторические записки. М., 1956. Т. 57. *М.Ф.Гурын.*

**РУ́ДНЯ**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў каля в. Рудня Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 1 км ад вёскі, ва ўр. Валатоўкі, на зах. і ўсх. мысах берага р. Ушача; 96 насыпаў, захавалася каля 70, выш. 0,8–2,5 м, дыям. 6–10 м. Курганы круглыя, некаторыя падоўжаныя, зрэдку чатырохвугольныя. Выявіў у 1867 А.М.Семянтоўскі, даследавалі ў 1928 А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі, у 1961 А.Р.Мітрафанаў, у 1967 Г.В.Штыхаў. Раскапаны 23 курганы. Пахавальны абрад – трупаспаленне (на месцы кургана і па-за курганом), у 2 выпадках трупапалажэнне, 2 курганы без пахаванняў (кенатафы). Перапаленыя косткі змяшчаліся пад курганом ці ў яго насыпе. У асобных курганах было па некалькі пахаванняў. Знойдзены ляпныя гаршкі (некаторыя падпраўлены на ганчарным крузе), жал. нажы, шкляныя пацеркі, сярэбраныя шыйныя грыўні, бронзавыя спіралькі, пярсцёнкі, спражкі, бразготкі, гліняныя прасліцы, выразаная з косткі арнаментаваная галоўка каня. Помнік датуецца 9–10 ст.

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе // Працы. Т. 2; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972. *Г.В.Штыхаў.*

**РУ́ДНЯ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Рудня Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл. Абследавалі ў 2007 В.Л.Лакіза, А.Г.Калечыц, В.Г.Белявец.

Стаянка-1 каменнага веку за зах. ускраінай вёскі, на правым беразе р. Рудаўка, на краі ўзвышша. Вядома з к. 19 – пач. 20 ст. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, разец, скрабок, нож, фр-ты кругавой керамікі.

Стаянка-2 каменнага і бронзавага вякоў за 0,2–0,24 м на ПнЗ ад стаянкі-1, на правабярэжнай тэрасе р. Нараў побач з месцам упадзення ў яе р. Рудаўка. Знойдзены крамянёвая пласціна з участкам рэтушы, разец, каменная шліфаваная сякера-клін.

Стаянка-3 каменнага і бронзавага вякоў за 0,5 км на ПнЗ ад стаянкі-2, на правым беразе р. Нараў на невял. дзюне. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, трохвугольны наканечнік стралы.

Стаянка-4 каменнага веку за 0,2–0,22 км на ПнЗ ад стаянкі-3, на краі высокай правабярэжнай тэрасы р. Нараў. Знойдзены фр-ты крамянёвай пласціны і кругавой керамікі.

Стаянка-5 за 0,35 км на ПдЗ ад стаянкі-4 і за 0,42 км на З ад стаянкі-3, за 0,35 км ад правага берага р. Нараў на ўзвышаным участку тэрасы. На паверхні знойдзены крамянёвы адшчэп і скрабок на пласціне.

*Літ.*: Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2009. *В.Л.Лакіза.*

**РУ́ДНЯ СПО́НІЦКАЯ**, археалагічны помнік – стаянка эпох мезаліту і неаліту каля в. Рудня Спаніцкая Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Сож і правым беразе р. Спонка, ва ўр. Латкі, на пясчаных узвышшах 1-й надпоймавай тэрасы. Адкрыў у 1923–25 А.В.Кротаў, абследавалі К.М.Палікарповіч, І.М.Ціханенкаў, У.Дз.Будзько, А.Г.Калечыц і інш. Большая частка знаходак – крамянёвыя наканечнікі стрэл (тронкавыя з апрацоўкай з брушка і пяра і без яе, пласціністыя з апрацоўкай з брушка), а таксама вуглавыя, бакавыя на вуглу зламанай пласціны разцы, канцавыя на кароткіх пласцінах і круглаватыя на дробных адшчэпах скрабкі, праколкі, свярдзёлкі, нажы на параўнальна невял. пласцінах, мікрапласціны і інш. Архаічны выгляд большасці знаходак дазваляе датаваць іх эпохай мезаліту. Фр-ты ляпнога посуду, упрыгожанага тыповым для *верхнедняпроўскай культуры* арнаментам (грабеньчатыя, ямкавыя і лапчастыя адбіткі), адносяцца да эпохі неаліту.

*Літ.*: Тихоненков И.М. Кремневый инвентарь стоянки Латки // Вопросы истории и археологии. Минск, 1966. *А.Г.Калечыц.*

**РУ́ДНЯ-ШЛЯ́ГІНА**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля в. Рудня-Шлягіна Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 *верхнедняпроўскай культуры* за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на схіле пясчанага ўзгорка. Адкрыў у 1926 і даследаваў у 1954 К.М.Палікарповіч, абследавала ў 1976 А.Г.Калечыц. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, наканечнікі стрэл, скрабкі, нуклеусы і інш., ляпная кераміка, упрыгожаная грабеньчатым, ямкавым і лапчастым арнаментам. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

Паселішча-2 верхнедняпроўскай культуры за 2 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Страліца, пры ўпадзенні р. Шлягінка ў воз. Пясковае, на невысокім прадаўгаватым узгорку. Адкрыў і даследаваў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1954 К.М.Палікарповіч і Я.Г.Краскоўская (Галанава), у 1963–65 І.І.Арцёменка і І.М.Цюрына. Вывучана 1846 м². Культ. пласт 0,3–0,4 м.

Знойдзена больш за 300 прылад працы (пераважаюць скрабкі, сякеры і цёслы невял. памераў, нажы, трохвугольныя наканечнікі стрэл, скоблі, праколкі, свярдзёлкі і інш.), адходы крамянёвай вытворчасці, больш за 10 тыс. фр-таў ляпнога посуду (неарнаментаванага, упрыгожанага грабеньчата-ямкавым арнаментам, адбіткамі лапчастага штампа, наколкамі вуглом адступаючай лапаткі). Датуецца 3-м тыс. да н.э.

Могільнік *сярэднедняпроўскай культуры* на паселішчы-2. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1954 К.М.Палікарповіч і Я.Г.Краскоўская (Галанава), у 1962–65 І.І.Арцёменка і І.М.Цюрына. Даследаваны 94 пахаванні. Пахавальны абрад – трупаспаленне па-за межамі могільніка ў ямах глыб. 0,3–0,8 м, у адной яме – трупапалажэнне. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, наканечнікі стрэл, нажы, сякеры, фр-ты посуду са шнуравым і наразным арнаментам, бурштынавыя ўпрыгажэнні, вырабы з косці і металу. Датуецца 2-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т. 1; Артеменко И.И. Могильник эпохи бронзы в урочище Стрелица // Новое в советской археологии. М., 1965 (МИА, №130); Его ж. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967 (МИА, №148); Артеменко И.И., Тюрина И.М. Неолитическое поселение в урочище Стрелица (раскопки 1963–64 гг.) // КСИА. 1966. Вып. 106. *А.Г.Калечыц.*

**РУ́НЫ**, знакі старажытнага германскага алфавіта, якія высякаліся на дрэве, косці, камені, метале. Узніклі ў 2–3 ст. У 2–7 ст. агульнагерманскі рунічны алфавіт налічваў 24 знакі. У выніку развіцця Р. з'явіліся мадыфікацыі алфавіта: англа-саксонскі, скандынаўскі і інш. Асобныя Р. і рунічныя надпісы высякалі на памятных стэлах. Змест надпісаў складала магічная формула, імя ўладальніка рэчы ці таго, хто зрабіў надпіс. Вядомы некалькі пергаментных рукапісаў 13–14 ст., напісаных рунічным пісьмом. З прыняццем хрысціянства ў краінах Паўн. Еўропы Р. хутка былі выцеснены лацінскім алфавітам. Знаходкі з рунічнымі надпісамі вядомы ў Старой Ладазе і Ноўгарадзе (драўляны стрыжань, медная падвеска, косткі


*І.П.Русанава.*

свойскіх жывёл). У Беларусі рэчы з рунічнымі надпісамі знойдзены ў Полацку (ігральная косць, мае 4 знакі, чытаюцца як пажаданне поспеху яе ўладальніку – «выгода, перавага, дабро») і на гарадзішчы *Маскавічы* (уяўляюць сабой дэградзіраванае скандынаўскае бытавое пісьмо, навыкі якога былі страчаны яго носьбітамі – магчыма, славянізаванымі скандынавамі, воінамі-наёмнікамі з дружыны полацкага князя або купцамі-скандынавамі).

*Літ.*: Мельникова Е.А. Скандинавские рунические надписи: Тексты, перевод, комментарий. М., 1977; Дучиц Л.В., Мельникова Е.А. Надписи и знаки на костях с городища Масковичи (Северо-Западная Белоруссия) // Древнейшие государства на территории СССР. М., 1981; Мельникова Е.А., Седова М.В., Штыхов Г.В. Новые находки скандинавских надписей на территории СССР // Древнейшие государства на территории СССР: материалы и исслед., 1981 год. М., 1983. *Л.У.Дучыц.*

**РУСАКО́ВА**, археалагічны помнік – стаянка каля в. Русакова Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. За 1,5 км на Пн ад вёскі, на левабярэжнай надпоймавай дзюне р. Шчара, ва ўр. Літоўскі Бераг. Выявіў у 1965 і даследаваў у 1966 В.Р.Супрун, у 1967, 1970, 1977 – М.М.Чарняўскі. Ускрыта 1024 м². Памеры 74 × 40 м. Культ. пласт да 0,8 м. Выяўлены рэшткі агнішчаў, у т.л. выкладзеных з камянёў, прылады працы і кераміка пераважна *нёманскай культуры*: трохвугольныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі дзід, разнастайныя скрабкі, разцы і інш.; кераміка дубічайскага тыпу (таўстасценная, з грабеньчатым і накольчатым арнаментам), познанеалітычная (дабраборская); невял. колькасць сярэдненеалітычных (лысагорскіх) матэрыялаў. Да бронзавага веку адносяцца фр-ты пласкадонных гаршкоў са шнуравым, штампаваным і пракрэсленым арнаментам, а таксама крамянёвыя вырабы, каменныя шліфаваныя і свідраваныя сякеры. Выяўлены рэшткі пахаванняў па абраду трупаспалення (бронзавы век), кароткая свідраваная сякера і гаршчок з наразным арнаментам. Дзюна была заселена і ў пазнейшы час. Сустракаюцца фр-ты керамікі і гліняныя прасліцы жал. веку, фр-ты ганчарнага посуду і металічныя вырабы (наканечнік дзіды і інш.) познафеад. часу.

*Літ.*: Супрун В.Г. Поселение Русаково-II (по материалам раскопок 1966 года) // Вопросы истории. Минск, 1969; Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**РУСАКО́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Русаковічы Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.

Стаянка-1 эпохі неаліту за 1 км на З ад вёскі, на дзюне левабярэжнага поплаву Нёмана. Выш. над поплавам каля 4 м. У 1975 і 1986 даследаваў 216 м² М.М.Чарняўскі. Памеры 90 × 80 м. Культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі на адшчэпах і пласцінах, трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, праколкі, рубячыя прылады, аднапляцовачныя нуклеусы) і фр-ты вастрадонных гаршкоў з расліннымі дамешкамі ў цесце, арнаментаваных пераважна грабеньчатымі адбіткамі, ранняга (дубічайскага) этапу *нёманскай культуры*. Трапляюцца знаходкі *тшцінецкай культуры*.

Стаянка-4 эпохі мезаліту за 0,3 км на Пн ад вёскі, за кар'ерам, на краі васьміметровай правабярэжнай тэрасы Нёмана. У 1975 выявіў М.М.Чарняўскі. Памеры 200 × 50 м. Культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены правільна агранёныя пласцінкі, канцавыя скрабкі, аднапляцовачныя нуклеусы.

Стаянка-7 эпохі неаліту і бронзавага веку, за 1,5 км на У ад вёскі, на пясчанай дзюне «У дубах». Выш. над левабярэжным поплавам Нёмана 2 м. У 1975 выявіў, у 1976 даследаваў 120 м² М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,6 м. Знойдзены тыповыя для неаліту крамянёвыя прылады, кераміка ўсіх 3 этапаў нёманскай культуры. Для керамікі пазнейшага (дабраборскага) этапу характэрны ўзоры з семечкавых адбіткаў.

Стаянка-8 эпохі неаліту за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на дзюне левабярэжжа Нёмана. У 1975 выявіў М.М.Чарняўскі. Памеры 80 × 90 м. Культ. пласт да 0,4 м. Адносіцца да ранняга (дубічайскага) этапу нёманскай культуры.

Стаянка-9 эпохі неаліту і бронзавага веку, за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, на правабярэжнай поплаўнай дзюне Нёмана. Мясц. назва Высокі груд. Выцягнута з Пн да Пд на 200 м. У 1976 выявіў і дследаваў 160 м² М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены гасп. ямы, у асн. бронзавага веку.

Сярод крамянёвых знаходак – трохвугольныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі дзід, вастрыё яніславіцкага тыпу, скрабкі, пласціны з крутой рэтушшу, рубячыя і рэжучыя прылады, невял. аднапляцовачныя нуклеусы. Кераміка прадстаўлена 3 этапамі нёманскай культуры. Для дубічайскага тыпу характэрны ўзоры з грабеньчатых адбіткаў, наколаў палачкай, адбіткаў канцом размачаленай палачкі, рамбічных элементаў з пракрэсленых рысак; кераміка лысагорскага тыпу аздоблена ямкавымі паглыбленнямі, наколамі, тарцовымі адбіткамі лапаткі, дабраборскага тыпу – насечкамі, лінейным штампам, пракрэсленымі рыскамі, адбіткамі тэкстылю. Кераміка бронзавага веку арнаментавана пераважна адбіткамі шнура і лінейнага штампа, базёнкамі. Датуецца 4–2-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**РУСА́НАВА** Ірына Пятроўна (22.4.1929, Масква – 22.10.1998), расійскі археолаг. Д-р гіст. навук (1977). Скончыла Маскоўскі ун-т (1953). Працавала ў Ін-це археалогіі Рас. АН. Першыя работы прысвечаны старажытнасцям *драўлян* і *палян* пач. 2 тыс. Да пач. 1970-х праводзіла разведкі на тэр. Палесся і Валыні ў асн. па выяўленні раннеслав. помнікаў, даследавала паселішчы Корчак, Шумск (Украіна). На тэр.

Беларусі адкрыла паселішчы ў в. *Скорбічы* і інш., вяла раскопкі ў *Хотамлі*. Атрыманыя матэрыялы сталі базавай асновай археал. звестак 5–9 ст. паміж Дняпром і Зах. Бугам. Адначасова даследавала слав. старажытнасці 3-й чв. 1 тыс. ад Эльбы да Дняпра, ад Віслы да Дуная, што заклала асновы сучаснага этапу вывучэння *пражскай культуры*. У 1974–89 вяла палявыя даследаванні ва Усх. Прыкарпацці (разам з Б.А.Цімашчуком), сярод якіх эталонныя раскопкі ў Кодыні, суцэльныя фіксацыя гнёздаў слав. паселішчаў у Паўн. Букавіне, раскопкі помнікаў 10–13 ст. у раёне знаходкі Збруцкага ідала. Сфармулявала гіпотэзу аб вытоках пражскай культуры ў адным з кампанентаў пшэворскай культуры. Завяршыла работу па падрыхтоўцы тома «Славяне і іх суседзі ў канцы I тысячагоддзя да н.э. – першай палове I тысячагоддзя н.э.» ў серыі «Археалогія СССР» (1993). З сяр. 1980-х вывучала слав. язычніцтва. Адна з заснавальнікаў серыі публікацый «Раннеславянскі свет».

*Тв.*: Славянские древности VI–IX вв. между Днепром и Западным Бугом. М., 1973; Славянские древности VI–VII вв. (культура пражского типа). М., 1976; Кодын – славянские поселения V–VIII вв. на р. Прут. М., 1984 (разам з Б.А.Цімашчуком); Этнический состав носителей пшеворской культуры // Раннеславянский мир. Материалы и исследования. М., 1991; Языческие святилища древних славян. М., 2007 (разам з Б.А.Цімашчуком).

*Літ.*: Плетнева С.А. Памяти Ирины Петровны Русановой // РА. 1999. № 2; Гавритухин И.О., Обломский А.М. Русанова Ирина Петровна // Институт археологии: история и современность. М., 2000; Хорошкевич Л.А. Судьба – археология (исследователи раннего славянства Ирина Петровна Русанова и Борис Анисимович Тимощук) // Археологічні студії. Київ, Чернівці, 2000. *І.А.Гаўрытухін.*

**РУ́САЎ** Пётр Аляксандравіч (н. 10.7.1947, в. Прыбар Гомельскага р-на), беларускі археолаг. Скончыў Мінскі педагагічны ін-т імя М.Горкага (1974). З 1981 у ІГ НАН Беларусі, з 1991 у Бел. рэстаўрацыйным праектным ін-це, з 2001 у Цэнтры па рэгенерацыі гісторыка-культ. ландшафтаў і тэрыторый; адначасова ў 2007–09 у Нац. мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Вывучае архіт.-археал. помнікі Мінска эпохі сярэдневякоўя; праводзіць дэндрахраналагічныя даследаванні. Адзін з аўтараў кніг серыі «Памяць» (Дзятлаўскі р-н, Мінск) і інш.

*Тв.*: Раскопки в Минске // АО 1981. М., 1982; Деревянные сооружения Минского замчища (по материалам раскопок 1981 г.) // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Бытавыя пабудовы старажытнага Мінска // ПГКБ. 1983. № 1; Маставыя сярэдневяковага Мінска // Там жа. 1986. № 4; Унутраны выгляд Мінскай хаты другой палавіны XIII ст. // ВАНБ. 1987. № 6; Деревянные сооружения Менска XIII–XVII вв. (опыт архитектурно-археологической реконструкции). Минск, 1992; Даследаванні ў Гродзенскай вобласці і Мінску ў 2003 // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19.

**РЫБАКІ́**, археалагічны помнік – стаянка эпохі мезаліту каля в. Рыбакі Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл. За 1 км на Пд ад вёскі, на зах. беразе старыцы р. Нёман, на пясчаным павышэнні краю поля. Выявіў у 1956 Л.С.Клейн, абследаваў у 1986 М.М.Чарняўскі. Памеры 50 × 30 м, цэнтр. частка развеяна. Культ. пласт да 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя ланцэтападобныя вастрыі, пласціны з прытупленай спінкай, трапецыі і інш. У сярэдневякоўі тут была вёска. Выяўлены рэшткі печаў-каменак, кругавая кераміка. *М.М.Чарняўскі.*

**РЫБАКІ́**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Рыбакі Ушацкага р-на Віцебскай вобл. За 1,2 км на ПдУ ад вёскі, на беразе воз. Рыбакоўскае, у лесе. 136 курганоў выш. 1,5–4 м, дыям. 7–16 м, выцягнуты на 400 м уздоўж дарогі ў в. Дарожкавічы. У 1928 выявіў І.А.Сербаў, абследавалі ў 1951–52 І.С.Астапаў, у 1971 А.Г.Калечыц, у 1981 А.А.Егарэйчанка. У 1990 Л.У.Дучыц раскапала 7 курганоў. У 2 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення на мацерыку, у адным – трупапалажэнне галавой на З (безынвентарнае). Пахавальны інвентар: фр-ты ляпной керамікі, падкováпадобная бронзавая фібула са спіралепадобнымі канцамі. У 4 курганах пахаванняў не выяўлена. У адным з іх знойдзены дзіцячы бранзалет з імітацыяй пляцення з разамкнутымі канцамі. Датуецца 9–11 ст. *У.Дучыц.*


*Б.А.Рыбакоў.*

**РЫБАКО́Ў** Барыс Аляксандравіч (3.6.1908, г. Масква, Расія – 27.12.2001), расійскі археолаг і гісторык, акадэмік АН СССР (1958), РАН (1991). Скончыў 1-ы Маскоўскі ун-т (1930). З 1943 праф. МДУ, чытаў лекцыі студэнтам БДУ на станцыі Сходня пад Масквой. Дырэктар Ін-та археалогіі АН СССР (1957–87), у 1968–70 адначасова ўзначальваў ІГ АН СССР. Правадзейны чл. Чэхаславацкай АН (1960), Польской АН (1970), ганаровы д-р Ягелонскага ун-та ў Кракаве (1964). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Праводзіў раскопкі ў старáж.-рус. гарадах Масква, Звянігарад, Чарнігаў, Пераяслаўль Рускі, Белгарад Кіеўскі, Тмутаракань, Пуціўль і інш., даследаваў замкі Любеч і Віцічаў. Вывучаў гісторыю, матэрыяльную і духоўную культуру славян і Старáж. Русі. Кандыдацкая дысертацыя была прысвечана радзімічам і апублікавана ў Мінску ў 1932. У працах неаднойчы звяртаўся да археал. і фальклорных крыніц, якія паходзілі з бел. зямель. Лаўрэат Сталінскай (1949, 1952) і Ленінскай (1976) прэмій.

*Тв.*: Радзімічы // Працы. Т. 3; Ремесло Древней Руси. М., 1948; Древняя Русь. Сказания. Былины. Летописи. М., 1963; Русские датированные надписи XI–XIV вв. М., 1964; Первые века русской истории. М., 1964; «Слово о полку Игореве» и его современники. М., 1971; Русское прикладное искусство X–XIII вв. М., 1971; Русские летописцы и автор «Слова о полку Игореве». М., 1972; Русские карты Московии XV – начала XVI в. М., 1974; Геродотова Скифия: историко-геогр. анализ. М., 1979; Язычество древних славян. М., 1981; Киевская Русь и русские княжества XII–XIII вв. М., 1982; Язычество Древней Руси. М., 1987; Петр Бориславич. Поиск автора «Слова о полку Игореве». М., 1991.

*А.А.Егарэйчанка.*


*Я.Р.Рыер.*


*Р.К.Рыманцене.*

**РЫБАЛО́ЎСТВА**, адзін з відаў прысвойваючай гаспадаркі, які ў каменным веку разам з паляваннем і збіральніцтвам складаў аснову жыццядзейнасці чалавека. Першыя сведчанні ўжывання рыбы адносяцца да эпохі мусцье, калі лоў адбываўся пры дапамозе прымітыўных сродкаў. У мезаліце з'явіліся асн. тыпы рыбалоўных прылад — колючыя, кручковыя, сеткавыя і пасткавыя, якія амаль у нязменным выглядзе дайшлі да 20 ст. На тэр. Беларусі самыя стараж. іх знаходкі — касцяныя гарпуны з паселішча-2Б *Азярное.* У к. неаліту — пач. бронзавага веку лоў рыбы ажыццяўляўся разнастайнымі касцянымі кручкамі, сеткамі з берасцянымі, сасновымі паплаўкамі і каменнымі грузіламі, а таксама невял. двухзубцовымі гарпунамі з насадам (стаянка-8 *Камень*, стаянка-1 і стаянка-7 *Асавец*). Гал. аб'ект здабычы — шчупак, якога лавілі звычайна на нерасце, а таксама акунь, карась, лешч, плотка і лінь. Вынаходніцтва жалеза прывяло да пэўных змен і ў рыбацкім рыштунку, але сведчанняў промыслу для дадзенай эпохі няшмат. Касцяныя *гарпуны* змяняюцца жал. *восцямі*, з'яўляюцца жал. перамётныя кручкі, гліняныя пляскатыя *грузілы* для сетак (*Малышкі*), з 6 ст. — каленцавыя восці (*Свіла-1*, *Хотамель*, *Гарадзішча*), зімовыя *блешні* з каляровых металаў. У раннеслав. час засведчаны асятровы лоў (Снядзін). Развіццё рыбалоўнай тэхнікі назіраецца ў раннефеад. час. Шырокае распаўсюджанне атрымаў сеткавы лоў, зафіксаваны амаль на кожным археал. помніку. У познім сярэдневякоўі з'яўляюцца буйныя сеткі, пра што сведчыць павелічэнне вагі грузілаў. Папулярным быў таксама лоў на вудавыя, перамётныя, універсальныя кручкі і блешні-дарожкі. Пра зімовую здабычу сведчаць знаходкі пешняў, ледаходаў. Асабліва шмат прылад знойдзена ў гарадах — Брэсце, Віцебску, Полацку, Мінску, Гродне, замках, сядзібах і некаторых сельскіх паселішчах (*Свіслач*, *Вішчын*, *Маскавічы*, *Лісна*). У вёсках, асабліва на Палессі, хутчэй за ўсё выкарыстоўваліся разнастайныя пасткавыя прылады — таптухі, бучы, настаўкі і інш. Па-ранейшаму паўсюдна здабываўся шчупак, але часам ён саступаў сваё месца карпавым, відавая разнастайнасць якіх узрасла. На некаторых помніках выяўлены рэшткі сома (*Гродзенскі Стары замак*), судака (*Маскавічы*), а таксама сведчанні здабычы каштоўных прахадных рыб — вугра, ласося, балтыйскага асятра (Гродна, Маскавічы, Ваўкавыск), чарнаморска-азоўскага асятра, сяўругі, выразуба (Тураў, Мінск, Свіслач).

Р. не толькі забяспечвала чалавека бялковай ежай, але давала сыравіну для касцярэзнай вытворчасці. З пазванкоў шчупака і сома выраблялiся амулеты-каралі (*Гарані*, Маскавічы, Полацк), з плаўніка асятровых — праколкі (Тураў, Мінск, Гродна). Шырокае прымяненне знаходзіў асятровы клей. Пэўным адлюстраваннем рыбалоўнага занятку з'яўляліся цацкі — касцяны гарпунчык (стаянка-2 Асавец) і драўляныя лодачкі (Брэст, Давыд-Гарадок), касцяныя і бронзавыя амулеты ў выглядзе рыб (Віцебск, Гомель), гравіраваная выява на косці (Маскавічы). Прылады Р. ў 10—11 ст. ўваходзілі ў курганны пахавальны інвентар (*Ізбішча*, *Бірулі* і інш.). *Э.А.Ляшкевіч.*

**РЫ́БКІ**, археалагічны помнік — паселішча позняга бронзавага веку каля в. Рыбкі Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 0,1 км на Пд ад вясковых могілак, на 1-й надпоймавай тэрасе воз. Мядзел. Выявіў і даследаваў 40 м² у 1979 Э.М.Зайкоўскі. Культ. пласт 0,2 м, пашкоджаны разворваннем. Знойдзены крамянёвы паўкруглы скрабок на адшчэпе, абломак скрабка, апрацаваны на канцы і з бакоў, адшчэпы і дробныя асколкі крэменю, фр-ты слабаштрыхаванай керамікі з дамешкам пяску ў цесце. Датуецца 2-м тыс. да н.э. *Э.М.Зайкоўскі.*

**РЫ́ЕР** Якаў Рыгоравіч (н. 21.3.1947, Мінск), беларускі археолаг, гісторык. Скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т (1969). Доктар гіст. навук (1993), праф. (1995). Працаваў у Магілёўскім краязнаўчым музеі (1969—75). З 1975 выкладчык Магілёўскага ун-та, з 1999 заг. кафедры ўсеагульнай гісторыі, выкладае гісторыю замежнага сярэдневякоўя, гіст. дэмаграфію. Вывучае пытанні аграрнай археалогіі і гісторыі цывілізацый сярэдневякоўя. Удзельнічаў у складанні Збору помнікаў археалогіі Магілёўскай вобл. Праводзіў раскопкі сярэдневяковых курганоў і селішчаў Магілёўшчыны. Аўтар навук. дапаможнікаў па пытаннях гісторыі сярэдневяковых цывілізацый Еўропы для студэнтаў ВНУ.

*Тв.*: Очерки истории средневековых цивилизаций. Могилев. 1997; Аграрный мир Восточной и Центральной Европы в средние века по археологическим данным. Могилев, 2000; Цивилизации средневековья и начала нового времени: опыт структурного анализа. Могилев, 2003; Историческая демография. Могилев, 2006; Археология средневековой европейской деревни: общие черты и региональные особенности. Могилев, 2008; Сельское общество Могилевского Поднепровья X—XIII вв. по археологическим данным. Могилев, 2010.

**РЫМАНЦЕ́НЕ** (Ябланскіце) Рымуце Канстанцінаўна (н. 25.10.1920, Каўнас), літоўскі археолаг. Д-р гіст. навук (1972). Скончыла Вільнюскі ун-т (1942). Працавала выкладчыкам у Каўнаскім (1945—47) і Вільнюскім (1972—77) ун-тах. Адначасова ў 1960—99 у ІГ АН Літвы. Даследавала каменны і бронзавы вякі Літвы і суседніх тэрыторый, у т.л. паўн.-зах. Беларусі, старажытнасці свідэрскай, яніславіцкай, нёманскай мезалітычнай і нёманскай неалітычнай, нарвенскай і шнуравой керамікі культур, у арэалы якіх уваходзіла і значная частка тэр. Беларусі. Аўтар навук. прац па каменным і бронзавым вяках. *М.М.Чарняўскі.*

**РЫ́МСКІ ПЕРЫ́ЯД**, рымскіх уплываў перыяд, правінцыйнарымскіх альбо часу Рымскай імперыі ўплываў перыяд, тэрмін, якім у цэнтр.- і паўн.-еўрап. археалогіі ад-

значаецца 3-і перыяд жал. веку (пасля гальштацкага і латэнскага). У агульна-гіст. кантэксце тэрмінам Р.п. акрэсліваецца эпоха, якая характарызавалася палітычным і культ. дамінаваннем у Еўропе Рымскай імперыі, актыўнымі сувязямі паміж Рымам і насельніцтвам еўрап. Барбарыкума. У археалогіі тэрмін Р.п. адзначае сістэму адноснай і абсалютнай храналогіі культур еўрап. Барбарыкума. У прымяненні да цэнтр. і паўн. Еўропы Р.п. наступае пасля латэнскага альбо позняга перадрымскага перыяду, фінальныя адрэзкі якіх (фазы Lt D2, Lt D3, фаза A3) часткова перакрываюцца фазай B1 рымскага часу ў межах 10–40. Фінал Р.п. прыпадае на 3-ю чв. 4 – пач. 5 ст. (на розных тэр.), звязаны з пачаткам нашэсця гунаў на З ад Дона (каля 375), якое выклікала масавыя міграцыі, альбо стратай Рымам улады ў еўрап. правінцыях.

Перыяд рымскіх уплываў. У эпоху ранняй імперыі Рым працягваў палітыку экспансіі на землі кельтаў за межамі Міжземнамор'я, якая была распачата заваяваннем «касматой» Галіі Юліем Цэзарам (у 58–56 г. да н.э.). Падчас праўлення Актавіяна ў 16–15 г. да н.э. ў склад Рымскай імперыі былі ўключаны землі ў перадгор'ях Альпаў, дзе паўсталі правінцыі Рэцыя і Норыкум. У 8–9 г. Тыберыем была далучана Панонія. Пры Клаўдзію ў 43–44 г. было завершана заваяванне Брытаніі. Захоп Рымам кельцкіх і ілірыйскіх зямель адбываўся на фоне экспансіі ў еўрап. Барбарыкуме плямён *германцаў*, дакаў і інш. на працягу 1 ст. да н.э. Разам з разбурэннем многіх цэнтраў цывілізацыі кельтаў і ўключэннем большасці іх зямель у склад Рымскай імперыі была парушана сістэма сувязей, якая аб'ядноўвала латэнізаваныя культуры Цэнтр. і Усх. Еўропы; зніклі ясторфская, оксыўская, зарубінецкая, паянэшці-лукашоўская культуры, глыбокую трансфармацыю перажыла *пшэворская культура*, зафіксаваны міграцыі ў шэрагу рэгіёнаў Усх. Еўропы. Змены на палітычнай і этна-культ. карце Еўропы суправаджаліся пераменамі ў прыродным асяроддзі, якія былі выкліканы зніжэннем вільготнасці і агульным пацяпленнем клімату. З рубяжа н.э. ў еўрап. Барбарыкуме распаўсюджваецца культ. мадэль, сфарміраваная на Пн Еўропы, дамініруючыя пазіцыі ў паліт. і культ. жыцці Цэнтр. Еўропы займаюць старaж.-германскія народы. З 1 ст. фарміруюцца і распадаюцца плямёны і племянныя аб'яднанні, што знаходзіць адлюстраванне ва ўзнікненні культуры рэйнска-везерскіх германцаў і надлабскага культурнага кола; у Зах. Памор'і складваюцца густоўская і любуская групы, у сярэднім цячэнні Одэра – любашыцкая культура, у Ніжнім Павісленні на аснове аксыўскай культуры фарміруецца *вельбарская культура*. На У Еўропы фарміруюцца групы позназарубінецкага культ. кола, адбываецца шэраг войнаў і міграцыі сармацкага насельніцтва.

Пасля захопу зямель на Пн ад балканскіх гор – Фракіі (46) і Мёзіі (86), рэйнскага левабярэжжа – Верхняй і Ніжняй Германіі (90), межы Рымскай імперыі праляглі па Дунаі і Рэйне. Апошняй пагранічнай правінцыяй у еўрап. частцы стала Дакія, заваёваная Траянам у 106 г. Да сяр. 2 ст. рымскія гарнізоны і прадстаўнікі адміністрацыі былі размешчаны ў Паўн. Прычарнамор'і (Херсанес, Ольвія, Ціра і інш.). Неабходнасць забеспячэння рымскіх легіёнаў стала прычынай ўсталявання ажыўленых гандл. і культ. сувязяў правінцыйнарымскага насельніцтва з германскімі, гета-дакійскімі, сармацкімі народамі. Рым атрымліваў звесткі пра народы аддаленых зямель Барбарыкума, наладжваў з імі дыпламатычныя і гандлёвыя сувязі. На працягу 1–2 ст. уздоўж рымскіх фортаў, дарог і гандлёвых факторый фарміраваліся гарады, якія забяспечвалі патрэбы раскватараваных тут легіёнаў і паступова станавіліся буйнымі вытворчымі і гандл. цэнтрамі. Тут працавалі майстэрні, арыентаваныя на выраб рэчаў, папулярных у прадстаўнікоў суседніх варварскіх плямён. У выніку гэтага на прасторы ад Парэйння, Падунаўя і Прычарнамор'я да Скандынавіі, Балтыйскага ўзбярэжжа і Дона склалася разгалінаваная сістэма камунікацыйных шляхоў. Па шляхам менавога гандлю разыходзіліся правінцыйнарымскія тавары: каляровыя металы (перадусім манетнае серабро), соль, прадметы раскошы (віно, каштоўныя тканіны і парфумы), упрыгажэнні, гліняны, металічны і шкляны посуд, зброя. У адваротным накірунку вывозілі рабоў, футры, бурштын, скуры, зерне, мяса, мёд, пух, коней. Разам з рымскімі імпартамі ўплывы правінцыйнарымскай культуры распаўсюджваліся далей у глыб Барбарыкума. Адной з першых праяў новай эпохі з'явілася эвалюцыя касцюма паўночна- і цэнтр.-еўрапейскіх плямён, у якім знайшлі выкарыстанне правінцыйнарымскія элементы. На рубяжы эр германскія народы засвоілі пісьменнасць на аснове ўласнага рунічнага алфавіта. Намаганнямі рымскай дыпламатыі на Пн ад р. Дунай была створана сістэма «кліенцкіх каралеўстваў», у рознай ступені залежных ад Рыма. У 1-й пал. 1 ст., падчас праўлення каралёў Марабада і Ванія, у сферы іх уплываў знаходзілі многія народы Цэнтр. Еўропы. Значная частка «бурштынавага» гандлёва-камунікацыйнага шляху па плыні Віслы да Судзецкіх гор кантралявалася плямёнамі лугійска-вандальскага саюзу. У сяр. 1 ст. ў ходзе барацьбы з апошнімі на тэр. Павіслення сфарміравалася племяннoе аб'яднанне готаў. Перасяленцы з Паўдн. Скандынавіі, далучыўшы мясц. насельніцтва (носьбітаў оксыўскай культуры), апанавалі ключавы ўчастак гандлю ўздоўж «бурштынавага» шляху – землі ў дэльце Віслы. У 1 ст. адным з асн. рэгіёнаў здабычы бурштыну на Балтыцы стала Самбія, дзе адзначаны выразныя ўплывы з боку насельніцтва рымскіх правінцый і вольнай Германіі. Вынікі імклівага развіцця рэгіёна адлюстраваны ў фарміраванні культуры Долькам-Каўрова (самбійска-натангійская культура).

*Храналагічныя схемы развіцця рэгіёнаў і культур еўрапейскага Барбарыкума ў* ***рымскі перыяд.***




У 1–2 ст. актывізацыя гасп., культ. і палітычнага жыцця ў еўрап. Барбарыкуме спрыяла развіццю сацыяльнай дыферэнцыяцыі і вылучэнню новых уладных эліт. Княжацкія магілы раннярымскага часу (любяшоўскага гарызонту) пазбаўлены зброі і суправаджаюцца выключна багатым пахавальным інвентаром, пачэснае месца ў якім займаюць рымскія імпарты: наборы для настольных гульняў (дошкі, шкляныя жэтоны і касцяныя кубікі), упрыгажэнні і дэталі касцюма, каштоўны сярэбраны, шкляны, бронзавы посуд. Уніфікаванасць пахавальнага абраду (інгумацыі ў драўляных камерах, прыкрытых магутнымі курганнымі насыпамі) і інвентару племяннной арыстакратыі сведчаць аб трывалых палітычных сувязях унутры ўладных эліт Цэнтр. і Паўн. Еўропы, аб наяўнасці актыўных дыпламатычных зносін Рыма з правадырамі варварскіх плямён.

У 2–3 ст. удзел у войнах на тэр. еўрап. і азіяцкіх частак імперыі (маркаманскія войны 166/167–180, міграцыя готаў у паўн. Прычарнамор'і ў 170–240, «скіфскія» войны каля 238–276 і інш.), угон рабоў з памежных правінцый, прыток ваенных трафеяў і выплат наёмнікам сталі каталізатарамі эканамічнага пад'ёму ў Барбарыкуме. Археал. дадзеныя сведчаць, што плямёны Цэнтр. і Паўн. Еўропы ўспрымалі такія тэхнічныя навацыі, як ганчарны круг, такарны станок, ратацыйныя жорны, косы, ралы з жал. наральнікамі і чарэслämi, новыя тэхналогіі ў апрацоўцы жалеза і ювелірнай справе. Асвойваліся новыя агракультуры, навыкі развітой селекцыйнай жывёлагадоўлі, капанне калодзежаў. Гэта дазваляла засяляць мікрарэгіёны з малаўраджайнымі глебамі і аддаленыя ад водных токаў. Разам з тым, у Цэнтр. і Паўн. Еўропе ўзнікаюць маланаселеныя альбо запусцелыя зоны, што сведчыць аб выразным узмацненні цэнтрабежных сіл у сацыяльна-палітычнай арганізацыі гэтых грамадстваў. Змены ў грамадска-палітычным жыцці еўрапейскага Барбарыкума фіксуюцца таксама па выніках раскопак «княжацкіх» пахаванняў 3 ст. гарызонту Лёйна–Хаслейбэн і Закшаў–Кішпэк, на прасторы ад Парэйння да Каўказа. Побач з рымскімі імпартамі сярод пахавальнага інвентару з'яўляюцца прадметы ўзбраення сімвалічнага (сярэбраныя і бронзавыя наканечнікі коп'яў), параднага характару (сярэбраныя шпоры і ўмбоны шчытоў) і нават функцыянальная зброя, статусныя рэчы (бранзалеты і шыйныя грыўні). Гэтыя рысы могуць успрымацца як уплыў пахавальных традыцый правінцыйнарымскай арыстакратыі. Маркаманскія войны карэнным чынам змянілі сітуацыю і ў глыбіні Барбарыкума. На дзесяцігоддзі былі перарваны альбо значна ўскладнены гандаль уздоўж Віслы, які з'яўляўся гарантыяй стабільнасці эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Цэнтр. і Паўн. Еўропе. У сяр. 2 ст. расце значэнне іншага гандлёва-камунікацыйнага шляху – з нізоўяў Рэйна ўздоўж узбярэжжаў Паўночнага і Балтыйскага мораў. Буйным цэнтрам гандлю і палітычнага ўплыву становяцца дацкія астравы, перадусім Зеланд. Народы Паўн. Еўропы вялі зацятую барацьбу за кантроль над гэтым рэгіёнам. «Паўночныя войны» засталіся па-за ўвагай рымскіх гісторыкаў, аднак знаходзяць адлюстраванне ў ватыўных прынашэннях, адкрытых у балотах Даніі і паўн. Германіі (Торсберг, Ілеруп, Нідан, Вімозэ).

У 3 ст. паміж Рэйнам і Эльбай фарміруецца шэраг германскіх плямён і племянных саюзаў: франкаў, саксаў, алеманаў, бургундаў, цюрынгаў, і інш. Наступствам «гоцкіх» войнаў з'явілася фарміраванне ў 2-й пал. 3 ст. на тэрыторыі Паўн. Прычарнамор'я, усходнееўрапейскай стэпавай і лесастэпавай зон ад Дуная да Дона *чарняхоўскай культуры*, арганізуючую ролю ў якой адыгрывалі плямёны гоцкага кола.

Эпоха маркаманскіх і гоцкіх войнаў стала перыядам цяжкага крызісу і глыбокай трансфармацыі Рымскай імперыі. Ад націску, а пазней – стрымлівання, імперыя перайшла да актыўнага выкарыстання ваеннага і чалавечага патэнцыялу суседніх варварскіх народаў. Ужо ў перыяд прынцыпату Актавіян Аўгуст [27 г. да н.э. – 14 г.] распачаў палітыку рассялення на землях рымскіх правінцый буйных груп варвараў, якую актыўна працягвалі пазнейшыя імператары, перадусім Марк Аўрэлій [161–180 г.] і Проб [276–282 г.] – ураджэнец Ілірыі. З 3 ст. ўдзел у рымскім войску наймітаў у асноўным з германскіх і сармацкіх плямён расце няспынна. Шырока распаўсюджваецца інстытут feodera – пагадненняў, згодна з якімі памежныя варварскія плямёны за грашовыя выплаты і пастаўкі правіянту бралі на сябе абавязкі па ахове рымскіх правінцый. З 4 ст. практыка наймання федэратаў шырока спалучалася з утварэннем на землях імперыі пасяленняў варвараў-землеробаў – летаў (laeti), на якіх ускладаліся абавязкі службы ў рымскай арміі. Варварызацыя рымскага войска стала адной з прычын дэстабілізацыі палітычнага жыцця ў Рымскай імперыі. Федэраты, набраныя ў еўрапейскім Барбарыкуме, рабілі бліскучыя вайсковыя кар'еры ў рымскім войску. З сяр. 4 ст. адзнакай высокага сацыяльнага рангу становяцца ўзнагародныя залатыя медальёны з выявамі імператараў.

У 4 ст. адбывалася імклівая варварызацыя Рымскай імперыі з аднаго боку, а з другога – узмацненне рымскіх уплываў на насельніцтва цэнтр.- і паўн.-еўрап. Барбарыкума. Ва Усх. Еўропе гэтыя працэсы знаходзяць адбітак у гаспадарчым, дэмаграфічным і культурным развіцці насельніцтва чарняхоўскай культуры. Пры праўленні астрагоцкага караля Германарыха (у сярэдзіне IV ст.) насельніцтва Паўночнага Прычарнамор'я сфарміравала ў стэпавай і лесастэпавай зонах Усх. Еўропы протадзяржаўнае ўтварэнне, якое з'явілася прабобразам варварскіх каралеўстваў Еўропы перыяду *Вялікага перасялення народаў*.

**Адносная і абсалютная храналогія Р.п.** Асновы вывучэння храналогіі культур Р.п. былі закладзены на мяжы 19–20 ст. у працах германскіх, шведскіх, польскіх археолагаў (О.Мантеліус, О.Тышлер, П.Рэйнек, Э.Блюм і інш.) на падставе класіфікацыі рэчавых матэрыялаў (О.Альмгрэн, М.Ян, Ю.Касташэўскі, Р.Шындлер і інш.). Г.Ю.Эгерс (1955) прадэманстраваў, што ў матэрыялах паўн.-еўрап. Барбарыкума спалучэнні ў зачыненых комплексах і рытм паступлення рымскіх імпартаў супадае са зменамі фаз адноснай храналогіі, вылучаных на падставе карэляцыі вядучых форм мясц. матэрыялаў. Падобная работа была выканана К.Гадлоўскім (1970) у дачыненні матэрыялаў познарымскага часу з тэр. Цэнтр. Еўропы. Храналагічная сістэма Эгерса-Гадлоўскага прадугледжвае падзел матэрыялаў Р.п. на ранні (старэйшы) і позні (малодшы) перыяды, якія вылучаюцца ў адрэзкі B і C, у межах агульнага храналагічнага падзелу ад позняга перадрымскага перыяду (A) да эпохі Вялікага перасялення народаў (D–E). Раннярымскі перыяд падзяляецца на дзве ($B_1$ і $B_2$), а познарымскі – на дзве альбо тры ($C_1$, $C_2$ і $C_3$) фазы, якія ў цэлым адпавядаюць эпохам ранняй і позняй Рымскай імперыі. У лакальных храналагічных сістэмах схема мадыфікуецца і ўдакладняецца ў адпаведнасці з асаблівасцямі развіцця кожнай культуры. З сяр. 20 ст. даследчыкамі распрацоўваецца падзел на больш дробныя адзінкі – падфазы, працягласць якіх набліжаецца да перыяду актыўнай жыццядзейнасці аднаго-двух пакаленняў (ад 30–40 да 50–60 гадоў), выкарыстоўваецца таксама паняцце «сярэднярымскага перыяду», які вызначаецца фазай $B_2/C_1$ (альбо, больш шырока, – $B_2/C_1$–$C_{1a}$) і ў цэлым адпавядае перыяду маркаманскіх войнаў і сутыкненняў на лімесе паміж канцом 160-х – 220-мі г. Падфаза $C_{1a}$ акрэсліваецца паняццем ранняга, $C_{1b}$–$C_2$ – развітога, $C_3$ – позняга этапу познарымскага перыяду. З 1980-х г. для шэрагу лакальных храналагічных сістэм выкарыстоўваецца таксама паняцце фазы $C_3/D_1$.

**Уплывы Рымскай імперыі ў гісторыка-культурным развіцці насельніцтва Беларусі.** Паняцце «Р.п.» як гіст.-культ. з'явы і храналагічнага перыяду не можа стасавацца ў дачыненні ўсёй тэр. Беларусі і на ўсім працягу дадзенага адрэзку часу. У 1–4 ст. уплывы правінцыйнарымскай культуры дасягалі зямель Беларусі пры пасрэдніцтве многіх перадатачных звёнаў і ўплывалі на яе насельніцтва з рознай інтэнсіўнасцю.

На рубяжы нашай эры насельніцтва паўд. ускрайкаў лясной зоны амаль аднachасова ўспрыняло 2 культурныя штуршкі: на імпульс «другаснай латэнізацыі», атрыманы ў перыяд крызісу і распаду зарубінецкай культуры, налажыліся слабыя ўплывы правінцыйнарымскай культуры. У сяр. 1 ст. на часткі арэала *зарубінецкай культуры* і вакол яго, у т.л. на Пд і У Беларусі, з удзелам розных груп зарубінецкага насельніцтва і лясной зоны фарміруецца гарызонт помнікаў познazарубінецкага тыпу. Храналогія постзарубінецкага перыяду (сяр. 1 – 2–3 ст.) у цэлым адпавядае раннярымскаму ў Цэнтр. і Паўн. Еўропе. Верагодна, ваенная актыўнасць гэтага насельніцтва і яго шырокія перамяшчэнні з'явіліся адной з прычын крызісу *штрыхаванай керамікі культуры*, які адлюстраваны ў скарачэнні арэала апошняй у паўн. накірунку.



Аўтар В.Г. Белявец

З сяр. 1 ст. ў глыб лясной зоны пранікалі рымскія імпарты (перадусім пацеркі), якія распаўсюджваліся пры пасрэдніцтве насельніцтва Сярэдняга Падняпроўя, балтыйскага кола і пшэворскай культур. Размываецца мяжа, якая ў раннім жалезным веку аддзяляла насельніцтва сярэдняй і паўн. Беларусі ад больш дынамічных паўд. рэгіёнаў. Гэта знаходзіць праяву ў трансфармацыі і істотнай уніфікацыі касцюма насельніцтва Беларусі. У ім традыцыйныя для зарубінецкай культуры і лясной зоны элементы (падвескі, пранізкі і фібулы з бронзавай бляхі, пасахападобныя шпількі, ланцужкі) спалучаліся з рэчамі цэнтр.-еўрап. паходжання і іх дэрыватамі. Агульны ж тон у гэтым строі задавалі рэчы гарызонту ўсх.-еўрап. выемчатых эмаляў, які склаўся на прасторы ад Прыбалтыкі да Сярэдняга Падняпроўя і Акі, Ніжняй Камы і Верхняй Волгі. Выраб рэчаў з выемчатымі эмалямі стаў вынікам пераймання майстрамі ўсх.-еўрап. лясной і лесастэпавай зон кельта-рымскіх эмальерных тэхналогій, а таксама перапрацоўкі канструкцыі і эстэтыкі рэчаў цэнтр.-еўрап. Барбарыкума. Картаграфія на землях Беларусі рымскіх імпартаў і рэчаў, выкананых у стылі выемчатых эмаляў, у значнай ступені перакрываюцца, што сведчыць аб актывізацыі ў к. 1 – 2 ст. зносін уздоўж мясцовых камунікацыйных шляхоў. Асаблівае значэнне набываюць днепра-нёманская (па Бярэзіне і Віліі) і прыпяцкая рачныя магістралі, якія злучалі землі Беларусі з рэгіёнамі, дзе актыўна распаўсюджваліся правінцыйнарымскія ўплывы. Верагодна, адной з асн. адзінак менавога гандлю сярод плямён усх.-еўрап. лясной зоны ў гэты час служылі пацеркі з глухога шкла (пераважна чырвонага колеру), якія з'яўляліся сыравінай для эмальернай вытворчасці. Агульная карціна развіцця зямель Беларусі ў сяр. 1 – 2 ст. знайшла адлюстраванне ў паведамленні Тацыта аб дэстабілізацыі сітуацыі ва ўсх.-еўрап. лясной зоне, якая была выклікана рабаўнічымі паходамі *венедаў*.

У Верхнім Падняпроўі постзарубінецкі перыяд завяршыўся на рубяжы 2–3 ст. фарміраваннем кіеўскай культуры, якая з'яўлялася арганічнай часткай масіву культур усх-еўрап. лясной зоны. Пасля рассялення на Пабужжы і частцы Турава-Пінскага Палесся носьбітаў вельбарскай культуры (фазы $B_2$/$C_1$–$C_{1a}$), а таксама фарміравання культур гоцкага кола паміж Балтыкай і Паўн. Прычарнамор'ем (фазы $C_{1b}$–$C_2$), гэтыя рэгіёны былі ўключаны ў агульнасць культур цэнтр.-еўрап. Барбарыкума. Картаграфія рымскіх манет і манетных скарбаў у значнай ступені перакрываецца з зонамі пашырэння вырабаў чарняхоўскай і вельбарскай культур, што сведчыць аб пасрэдніцтве насельніцтва апошніх у распаўсюджванні рымскіх імпартаў. Сутыкненне насельніцтва гэтых частак еўрап. Барбарыкума суправаджалася на ПдЗ Беларусі частковым выцясненнем позназарубінецка-ранняkiеўскага насельніцтва. Магчыма, напружанасць у адносінах, але перадусім істотныя адрозненні ў культ. мадэлі, стрымлівалі далейшае распаўсюджванне ўплываў правінцыйнарымскай культуры ў глыб лясной зоны. У 1–2 ст. яе насельніцтва адаптавала некаторыя рысы культур Цэнтр. і Паўн. Еўропы (элементы касцюма, такія статусныя атрыбуты, як аздобленыя эмалямі рытоны, шпоры і інш.). Кантакты з суседнімі народамі спрыялі таму, што ў 3–4 ст. тут пачалі выкарыстоўвацца больш дасканалыя тыпы сельскагасп. прылад. У 3 ст. ўдасканальваецца канструкцыя сярпоў, адзначаецца выкарыстан-

не ратацыйных жорнаў, а з 4 ст. – жал. наральнікаў. У чорнай металургіі расце вытворчасць цэльнастальных вырабаў.

З рубяжа 3–4 ст. насельніцтва чарняхоўскай культуры актывізуе ціск на плямёны кіеўскай культуры, пацясніўшы апошніх у Сярэднім Падняпроўі. Шэрагам даследчыкаў гэтыя археалагічныя дадзеныя суадносяцца з паведамленнем Іардана аб войнах готаў з венедамі ў эпоху праўлення Германарыха. У 2-й пал. 3 – пач. 4 ст. ў Верхнім Падняпроўі з'яўляюцца помнікі сейменскага варыянту кіеўскай культуры, што абумовіла далейшую экспансію насельніцтва кіеўскай культуры ўверх па Дняпры да вярхоўяў Дзвіны. Міграцыя груп насельніцтва Верхняга Падняпроўя давяршыла распад *штрыхаванай керамікі культуры* і *днепра-дзвінскай культуры* ў сярэдняй і паўн. Беларусі, паклаўшы пачатак фарміраванню *банцараўскай культуры*. У эпоху Вялікага перасялення народаў на аснове помнікаў сейменскага варыянту кіеўскай складваецца *калочынская культура*.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Могильник Брест-Тришин. М., 1980; Обломский А.М. Этнические процессы на водоразделе Днепра и Дона в I–V вв. н.э. М. 1991; Славяне и их соседи в конце I тысячелетия до н.э. – первой половине I тысячелетия н.э. // Археология СССР. М., 1993. Т. 6; Щукин М.Б. На рубеже эр. Санкт-Петербург, 1994; Яго ж. Готский путь. Санкт-Петербург, 2005; Археалогія Беларусі. Т. 2; Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мінск, 1999; Магомедов Б.В. Черняховская культура: проблема этноса. Lublin, 2001; Буданова В.П. Варварский мир в эпоху Великого переселения народов. Санкт-Петербург, 1999; Белявец В. Беларускае Заходняе Палессе ў перыяд правішцыйнарымскіх уплываў – стан і перспектывы даследаванняў // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Лопатин Н.В., Фурасьев А.Г. Северные рубежи раннеславянского мира в III–V вв. н.э. // Раннеславянский мир. М., 2007. Вып. 8; Обломский А.М., Терпиловский Р.В. Памятники киевской культуры в лесостепной зоне России (III – начало V в. н.э.). Раннеславянский мир. М., 2007. Вып. 10; Лесная и лесостепная зоны Восточной Европы в эпохи римских влияний и Великого переселения народов. Тула, 2008; Eggers H.J. Zur absoluten Chronologie der römischen Keiserzeit in Freien Germanien // Jahrbuch des romisch-germanischen Zentralmuseums Mainz. Mainz, 1955; Godłowski K. The chronology of the Late Rpoman and Early Migration Periods in Central Europe // Prace Archeologiczne. 1970. Z. 11; Яго ж. Strefy kulturowe w okresie rzymskim w Europie Środkowej // Zeszyty Naukowe Uniwersitetu Jagiellońskiego. Prace Archeologiczne. 1976. Z. 22; Hermann J. Die Germannen. Ein Handbuch. Berlin 1976 (Bd. 1), 1983 (Bd. 2); Prachistoria ziem polskich. T. 5: Późny okres lateński i okres rzymski. Wrocław, 1981; Bierbauer V. Archäologie und Geschichte der Goten vom 1.– 7. Jahrhundert // Frühmittelalterliche Studien. – Berlin, 1994; Wolfram H. Germanie. – Kraków, 1996.

*В.Г.Белявец.*

**РЫМШÁНЦЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік у Смаргонскім р-не Гродзенскай вобл. За 0,5 км ад вёскі, 0,2 км ад правага берага р. Вілія. Зараз не існуе. У 1895 Ф.В.Пакроўскі раскапаў 4 круглыя насыпы дыям. 8,6–14,2 м, выш. 0,9–1 м, абкладзеныя па баках камянямі. Раўкі не прасочваліся. На вяршынях былі паглыбленні. Пахавальны абрад – трупаспаленне па-за межамі кургана. Рэшткі спаленняў змешчаны ў неглыбокіх грунтавых ямах, косткі перамяшаны з пяском і зямлёй. У 2 курганах на ўзроўні сталаж. гарызонту знойдзены косткі няспаленых коней, якія, на думку даследчыка, змяшчаліся ў насыпах частково (інш. часткі спальваліся ў якасці ахвяры або ўжываліся ў час трызны). Пахавальны інвентар бедны: жал. спражка авальнай формы, чатырохгранны стрыжань, кавалкі аплаўленай і абломкі ліставой бронзы. Могільнік належаў балцкаму (усх.-літ.) насельніцтву. Датуецца 2-й пал. 1-га тыс.

*Літ.:* Покровский Ф.В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении. М., 1899.

*Я.Г.Зверуга.*

**РЫ́НКА**, гліняная пасудзіна для смажання. Былі круглыя, плоскія, на 3 ножках з полым дзяржаннем, у якое ўстаўлялася драўляная ручка, або мелі 2 вушкі. Назву атрымала ад стараж.-нямецкага Rina (трохногі гліняны гаршчок, тыгель). У Беларусі першыя непаліваныя Р., вылепленыя на ручным ганчарным крузе, датуюцца 15 ст. (Лідскі, Крэўскі замкі, г. Мсціслаў). Ручка – полы ляпны цыліндр дыям. да 5 см. У 16–18 ст. Р. фармавалі на нажным коле, унутраную паверхню амаль заўсёды пакрывалі зялёнай ці карычневай палівай. Дзяржанне выраблялі з 1 ці 2 валікамі на канцы, ножкі ляпілі асобна. Р. мелі круглае (найчасцей) або плоскае донца. Па памерах і форме вылучаюць 2 разнавіднасці Р.: плыткія (глыб. 3–6 см з дыям. вянца 16–21 см і полым дзяржаннем) і глыбокія (глыб. 10–13 см, дыям. да 34 см, ножкі выш. да 10 см з 2 петлепадобнымі ручкамі). Апошнія фармаваліся на аснове макотры. Глыбокія Р. 2-й пал. 17 ст. вядомы з раскопак Мірскага, Гальшанскага замкаў, г. Мсціслаў. Плыткія Р. часам упрыгожвалі штампаваным сеткавым арнаментам ці з дапамогай шматраднага грабеньчыка. На Р. з Лідскага замка абавязкова ёсць адбітак пальца майстра. Са з'яўленнем фаерачных печаў вытворчасць Р. паступова заняпала, замест іх з'явіліся *патэльні* з плоскім донцам без ножак. Аднак на З Беларусі (г.п. Поразава Свіслацкага р-на) Р. рабілі да пач. 20 ст. *Н.І.Здановіч, А.А.Трусаў.*

**РЫНКАЎЦЫ́**, археалагічныя помнікі – стаянкі і селішчы каля в. Рынкаўцы Гродзенскага р-на. Выяўлены і даследаваны ў 2005 у час абследавання зоны рэканструкцыі Аўгустоўскага канала (В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі).

С т а я н к а - 1 каменнага веку і селішча эпохі сярэдневякоўя на ўсх. ускраіне вёскі, на нізкай (выш. 0,5–1 м) тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча). Памеры 60 × 40 м. За 7 м на Пн ад края тэрасы закладзены раскоп пл. 21 м². Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціна, фр-ты кругавога посуду позняга сярэдневякоўя.

С т а я н к а - 2 каменнага і бронзавага вякоў за 0,5 км ПдЗ ад вёскі, на дзюнападобным павышэнні левабярэжнай поймы Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 0,5 м. Памеры 110 × 60 м. На паверхні знойдзены крамянёвыя аднапляцовачны нуклеус, адшчэпы, пласціны.

С т а я н к а - 3 фінальнага палеаліту за 0,6 км ПдЗ ад вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 5–6 м. Памеры 120 × 70 м. Частка помніка знішчана дарогай. Знойдзены крамянёвыя рэтушаваная пласціна, адшчэпы.

С т а я н к а - 4 фінальнага палеаліту за 0,7 км на З ад вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 8–10 м. Памеры 80 × 30 м. Знойдзены крамянёвая канкрэцыя са слядамі апрацоўкі і пласціна.

*Літ.*: А б у х о ў с к і В.С., Л а к і з а В.Л. Археалагічныя помнікі беларускай часткі Аўгустоўскага канала // Августовский канал и современый экотуризм. Пултуск; Минск; Гродно, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**РЫЧО́Ў**, археалагічныя помнікі – курганны могільнік і селішча каля в. Рычоў Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к дрыгавічоў на паўн. ускраіне вёскі. Больш за 200 курганоў, захавалася 40 выш. 1–1,5 м, дыям. 9–15 м. Даследавалі ў к. 19 ст. У.З.Завітневіч (10 курганоў), у 1927 А.Дз.Каваленя і С.А.Дубінскі (3), у 1950-я г. Л.А.Міхайлоўскі (1), у 1961 В.В.Сядоў і П.Ф.Лысенка, абследаваў у 1974 Л.Д.Побаль. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на грунце, зрэдку ў насыпе, галавой на З; знойдзены рэшткі трупаспалення. Пахавальны інвентар: ганчарны посуд, сердалікавыя і зярнёныя пацеркі. Датуецца 10–13 ст. і больш ранні́м часам.

С е л і ш ч а за 0,9 км на Пн ад вёскі, паміж вёскамі Рычоў і Буйразь, ва ўр. Першая Горка (Горліца, Гарадзішча). Выш. над поплавам 2 м. Пл. каля 1,9 га. У 1928 абследавалі А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў, у 1961 і 1974 Л.Д.Побаль. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі ранняга жал. веку і ганчарнай керамікі раннефеад. часу.

*Літ.*: З а в и т н е в и ч В.З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье. Киев, 1890; К а в а л е н я А.Дз., Ш у т а ў С.С. Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны // Працы. Т. 2; П о б о л ь Л.Д. Древности Туровщины: бюл. Минск, 1969. *П.Ф.Лысенка.*

**РЫШТУ́НАК ЛУ́ЧНІКА**, комплекс прыстасаванняў, прызначаных для засцеражэння лучніка ад пашкоджанняў падчас стральбы і для павелічэння зручнасці выкарыстання лука. Да традыц. элементаў Р.л. належаць *калчан* для нашэння і захавання стрэл і *налучча* для нашэння лука, захавання яго ад механічных пашкоджанняў, вільгаці і інш. Сярэдневяковыя лучнікі пры стральбе са складанага лука карысталіся разнастайнымі ахоўнымі прыстасаваннямі, найперш шчыткамі і кольцамі (пярсцёнкамі). Шчыткі прызначаліся для аховы запясця левай рукі ад удараў цецівы і выраблялiся з рогу, часам з серабра. Вонкавая паверхня шчытка часта ўпрыгожвалася арнаментам. На тэр. Беларусі фр-ты касцянога шчытка лучніка знойдзены на Гродзенскім Старым замку. Для аховы ўказальнага пальца правай рукі ад пашкоджання цецівой пры нацяжэнні і спуску, а таксама для павелічэння нацяжэння цецівы і адпаведна дальнасці палёту стралы выкарыстоўваліся спецыяльныя кольцы (пярсцёнкі). Яны звычайна выраблялiся з рогу, але маглі быць і металічнымі ці каменнымі (з нефрыту ці агату). На тэр. Беларусі рагавыя кольцы лучніка знойдзены ў сярэдневяковых пластах Мінска і Гродна.

*Літ.*: М е д в е д е в А.Ф. Ручное метательное оружие (лук и стрелы, самострел) XIII–XIV вв. М., 1966. *М.А.Плавінскі.*

**РЭ́ЙНСКІ ПО́СУД**, вырабы з моцна спечанай керамічнай масы, якая нагадвае камень, з бліскучай паліванай рознакаляровай паверхняй і характэрным рэльефным дэкорам (выявы людзей, звяроў, раслінны арнамент, часам у спалучэнні з манаграмамі). Назва ад месца вытворчасці – розных гарадоў на р. Рэйн (Германія). Вытворчасць Р.п. пачалася ў 13 ст., з 2-й пал. 15 ст. яго сталі пакрываць салянoй палівай. Вырабы з розных гарадоў адрозніваліся колерам і інш. адметнымі рысамі. У 15–18 ст. (асабліва ў 17 ст.) Р.п. вывозіўся ў Паўн. і Усх. Еўропу, у т.л. ў Беларусь. Пры даследаванні Лідскага, Мірскага, Гальшанскага і Любчанскага замкаў, у гарадах Віцебск, Гродна, Магілёў, Мазыр і інш. знойдзены фр-ты Р.п. 16–19 ст.: цыліндрычныя куфлі (дыям. да 10 см, выш. 19–22 см), глякападобны посуд са злівам, упрыгожаным рэльефам, тарныя флягі з 3 парамі папярочных ручак і вузкім горлам, аптэчнае начынне з клеймамі. *Н.І.Здановіч, А.А.Трусаў.*

**РЭКАНСТРУ́КЦЫЯ АНТРАПАЛАГІ́ЧНАЯ**, анатамічны метад пластычнай ці графічнай рэканструкцыі твару па чэрапе. Грунтуецца на распрацаванай у 19–20 ст. даследчыкамі (Р.Марцін, М.Грэгар, Г.фон Вірхаў, М.М.Герасімаў, Г.В.Лебядзінская і інш.) шкале суадносін рэльефу касцей чэрапа і мяккіх тканак твару з улікам полаўзроставых, расавых і індывідуальных асаблівасцей. Методыка Р.а. складаецца з шэрагу паслядоўных этапаў, якія ўключаюць антрапалагічны аналіз чэрапа (кранiяметрычнае даследаванне, вызначэнне полу, узросту, расавых і марфафізіялагіч-

ных асаблівасцей); графічную рэканструкцыю фаса і профілю, пластычнае ўзнаўленне анатамічнай схемы галавы (мадэліраванне асн. мускулаў, вызначэнне таўшчыні мяккіх тканак на розных частках чэрапа, рэканструкцыя па схемах носа, вачэй і губ); стварэнне скульпт. бюста-партрэта з улікам гіст. і этнаграфічных асаблівасцей касцюма, прычоскі, упрыгажэнняў. Краніялагічны матэрыял для Р.а. збіраецца ў час археал. раскопак курганоў, могільнікаў, некропаляў, склепоў. Найб. цікавыя і характэрныя чарапы краніялагічных калекцый апрацоўваюцца паводле метаду Р.а. Скульп. партрэты стараж. продкаў людзей (пітэкантрапаў, *неандэртальцаў*), прадстаўнікоў розных археал. культур, гіст. асоб зроблены ў ЗША, Францыі, Англіі, Германіі, Чэхаславакіі, Балгарыі і інш. У СССР методыку пластычнай рэканструкцыі распрацаваў і ўвёў у практыку М.М.Герасімаў, які разам з вучнямі стварыў галерэю скульпт. партрэтаў гіст. асоб: Яраслава Мудрага, Андрэя Багалюбскага, Усевалада Вялікае Гняздо, Івана Грознага, Улугбека, Цімура, Рудакі і інш. У Беларусі паводле метаду Р.а. на мясц. антрапалагічных матэрыялах, сабраных у выніку археал. раскопак, І.У.Чаквіным разам са скульптарам Л.П.Яшэнкам зроблена каля 20 рэканструкцый скульпт. бюстаў-партрэтаў, у т.л. чалавека эпохі бронзы, прадстаўнікоў розных груп стараж. насельніцтва 10–13 ст. і 16–18 ст. – *крывічоў, палачан, радзімічаў, дрыгавічоў, яцвягаў*, усх. балтаў, жыхароў Навагрудка, Слоніма, Полацка і інш. гарадоў.

*Літ.*: Герасимов М.М. Основы вос-становления лица по черепу. М., 1949; Его ж. Восстановление лица по черепу: (современ. и ископаемый человек). М., 1955 (Тр. Ин-та этнографии АН СССР. Н. С.; Т. 28).

*І.У.Чаквін.*

**РЭКАНСТРУ́КЦЫЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ**, славеснае або графічнае аднаўленне першапачатковага аблічча рэчы, аб'екта або светапогляду стараж. людзей па рэштках матэрыяльнай культуры. Як правіла, у ходзе раскопак археолаг сутыкаецца з рэшткамі вырабаў (прылады працы, зброя, посуд, упрыгажэнні і інш.), збудаваннямі жылога, гасп.-эканамічнага і культавага прызначэння (гораны, майстэрні, гасп. пабудовы, свяцілішчы, цэрквы). Выкарыстоўваючы адпаведныя метады, можна аднавіць першапачатковае аблічча прадмета ці аб'екта. Раскопкі могільнікаў дазваляюць у агульных рысах скласці ўяўленне пра рэлігійныя і пахавальныя абрады стараж. людзей, аднавіць касцюм пахаванага або яго дэталі. Буйныя рэшткі глінянага посуду даюць магчымасць зрабіць частковую ці поўную яго Р.а. Наяўнасць ям ад слупоў вакол жытла або гасп. збудавання сведчыць пра слупавую канструкцыю сцен, а іх адсутнасць – пра зрубавую. Складаней з'яўляецца Р.а. каменных збудаванняў грамадзянскага або культавага прызначэння. Такая рэканструкцыя патрабуе дакладнай фіксацыі і прамераў падмурка, ведання архіт. стыляў, тэхнікі будаўніцтва, падліку буд., архіт. дэталей і матэрыялаў і інш.

*А.А.Егарэйчанка.*

**РЭКО́РД**, археалагічны помнік – стаянка грэнскай культуры каля в. Рэкорд Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. За 500 м на У ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, на беразе стараж. вадаёма. Пл. 600 м². Выявіў і даследаваў у 1978 М.І.Лашанкоў, у 1979 шурфоўку рабіў У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт мезалітычнага часу разбураны ветравой эрозіяй, другасным засяленнем тэр. ў раннім жал. веку, рэшткі захаваліся на глыб. 0,5–0,7 м. Знойдзены наканечнікі стрэл, скрабок, праколка, ланцэтападобнае вастрыё, пласціны і адшчэпы з затупленым краем, трапецыі, пласціністыя ўкладышы, скоблі, нуклеусы. Прылады працы зроблены з «сожскага» мелавога крэменю і дробназярністага кварцыту малінавага колеру. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 6–5-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Ксензов В.П. Новые мезолитические памятники юга Белоруссии // СА. 1984. №2; Белорусская археология: достижения археологов за годы Сов. власти. Минск, 1987.

*У.П.Ксяндзоў.*

**РЭСТАЎРА́ЦЫЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫХ ЗНАХО́ДАК**, аднаўленне першапачатковага (або блізкага да яго) выгляду стараж. рэчаў. Разам з кансервацыяй археал. рэчаў дазваляе захаваць знаходкі ад разбурэння. Першапачатковую рэстаўрацыю праводзяць у палявой лабараторыі, канчатковую – у стацыянарных лабараторыях пры н.-д. установах, музеях. У Р.а.з. шырока выкарыстоўваюцца дасягненні хіміі, біялогіі, оптыкі і інш.

Рэстаўрацыя вырабаў з дрэва. Дрэва ў культ. пласце захоўваецца ва ўмовах вял. сухасці (у Беларусі не сустракаецца) або вільготнасці. Асабліва моцна ўвільгатняюцца мяккія лісцевыя пароды (ліпа, асіна і інш.). Вынятая з глебы знаходка хутка высыхае. Пры гэтым верхнія слаі абязводжваюцца і памяншаюцца ў аб'ёме значна хутчэй за ўнутраныя, што вядзе да дэфармацыі і растрэсквання. Каб пазбегнуць гэтага, рэчы пасля прамыўкі і ачысткі сушаць ва ўмовах, калі выпарэнне адбываецца раўнамерна па ўсёй таўшчыні. Ужываецца пакрыццё драўляных рэчаў 5%-ным растворам полівінілбутыралю. Ён утварае на паверхні рэчы тонкую плёнку, што засцерагае яе ад хуткага высыхання. Плоскія рэчы сушаць заціснуўшы паміж 2 дошкамі ці ў інш. фіксаваным становішчы. Для склейвання дрэва прыдатны полівінілацэтатная смала, клеі БФ-2, БФ-4, БФ-6, «Фенікс» і інш.

Рэстаўрацыя вырабаў з косці. Вырабы з косці ў асн. захоўваюцца добра, іх дастаткова прамыць і прасушыць. Часам касцявы матэрыял бывае пакрыты слоем вапны. Каб яго выдаліць, ужываюць раствор салянай ці мурашынай кіслаты. Пасля апрацоўкі рэшткі кіслаты з паверхні вырабу выдаляюць 1%-ным растворам соды, затым рэч прасушваюць, загарнуўшы ў паперу. Порыстыя і крохкія вырабы замацоўваюць растворамі сінтэтычных смол: 2%-ным растворам полівінілбутыралю, полівінілацэтатнай смалы ці 5%-ным растворам клею БФ-4 у спірце. Для надання механічнай трываласці і паляпшэння знешняга выгляду вырабу, дэталі, якіх не хапае, замяняюць масцікай з воску і каніфолі (1 : 1).

Рэстаўрацыя вырабаў з металаў. Найчасцей выкарыстоўваюць метады механічнай, хімічнай і электрахімічнай апрацоўкі. Пры механічнай апрацоўцы (калі рэч добра захавалася) карыстаюцца нажамі, цвёрдымі шчоткамі, наждачнай паперай. Для ачысткі вырабаў, пакрытых тоўстым слоем вокіслаў, больш прыдатны хімічны і электрахімічны спосабы. Пры хімічнай ачыстцы рэчы апрацоўваюць кіслатой (сернай, салянай) з дабаўленнем інгібітараў – рэчываў, якія запавольваюць працэс разбурэння металу (уратрапін). Пры гэтым на паверхні ўтвараецца тонкая адсарбцыйная плёнка, што выключае ўзаемадзеянне металу з кіслым асяроддзем. Хімічны спосаб можна выкарыстоўваць для ачысткі рэчаў, у якіх добра захаваўся металічны асяродак. Чым мацней папсавана карозіяй рэч, тым больш павінна быць кіслаты ў растворы. Для стараж. жалеза, пакрытага тонкім слоем вокіслаў, бяруць 1 частку канцэнтраванай салянай кіслаты на 3–4 часткі вады ці 1 частку канцэнтраванай сернай кіслаты на 6–7 частак вады (кіслату ўліваюць у ваду, а не наадварот). У атрыманы раствор уводзяць 1% інгібітару (10 г уратрапіну на 1 л раствору). Для апрацоўкі рэч на 30–40 хвілін кладуць у эмаліраваны посуд і заліваюць кіслатой з інгібітарам, потым вымаюць пінцэтам і прамываюць, прачышчаюць цвёрдай шчоткай. Пры неабходнасці аперацыю паўтараюць. Затым выраб некалькі разоў прамываюць у цёплай вадзе з содай (10 г соды на 1 л вады). Добра ачышчаныя рэчы набываюць металічны бляск. Пры электрахімічнай апрацоўцы ў эмаліраваную ёмістасць насыпаюць пласт грануляванага цынку, на ім размяшчаюць рэчы, якія цалкам засыпаюць цынкавымі зернямі. У посуд заліваюць электраліт – 10–15%-ны раствор едкага натру (або едкага калію), каб ён быў на 3–4 см вышэй за ўзровень цынку. Пры гэтым у электраліце пачынаецца ўзаемадзеянне 2 металаў, што вядзе да ўзнікнення электрычнага току. Пад яго ўздзеяннем адбываецца разлажэнне вады. На катодзе (рэч) выдзяляецца вадарод, які аднаўляе вокіслы да металічнага жалеза, на анодзе (зерні цынку) – кісларод, які злучаецца з цынкам і ўтварае яго вокісел. Пры хатняй тэмпературы працэс цягнецца 18–24 гадзін (пры награванні тэрмін скарачаецца). Пасля апрацоўкі рэчы прамываюць у праточнай вадзе. Адмяклыя вокіслы выдаляюцца скальпелем. Пры неабходнасці працэс паўтараюць. Пасля ачысткі рэчы падвяргаюць кансервацыі. Гэтыя спосабы выкарыстоўваюць і пры апрацоўцы вырабаў з бронзы. Пры хімічнай ачыстцы вокіслы раствараюць кіслотамі або шчолачамі. Выкарыстоўваюцца як мінеральныя (серная), так і арганічныя (воцатная, мурашыная) кіслоты. Для электрахімічнай ачысткі бронзы выкарыстоўваюць 10%-ны раствор едкага натру.

Рэстаўрацыя вырабаў са скуры. Выраб чысцяць ад бруду, прамываюць у цёплай вадзе з дабаўленнем гліцэрыны і тымолу (гліцэрына надае эластычнасць, тымол – антысептык, засцерагае ад мікраарганізмаў). Потым сушаць пры хатняй тэмпературы. Перад прасушкай выраб распраўляюць і замацоўваюць шпількамі або змяшчаюць паміж 2 дошкамі, на якія кладуць груз. Эластычнасць скуры аднаўляецца прамочваннем яе рыцынай або рыбіным тлушчам. Прапітка робіцца, калі скура яшчэ не зусім прасохла, у некалькі прыёмаў да поўнага насычэння яе тлушчам. Потым выраб прасушваюць. Асобныя дэталі вырабу сшываюцца (па старых швах), пры неабходнасці пракладваюцца тканінай. Часта скура знаходзіцца ў амаль струхлелым стане. Тады выраб трэба замацаваць 2%-ным растворам полівінілбутыралю ў этылавым спірце.

Рэстаўрацыя вырабаў са шкла. Археал. шкло бывае пакрыта тонкім белаватым ці вясёлкавым слоем. Такое змяненне шкла (ірызацыя) адбываецца ад таго, што за час доўгага знаходжання ў глебе яно пад уздзеяннем грунтавых вод губляе шчолач. На паверхні шкла з'яўляюцца выбоіны і ракавіны, адслойваюцца маленькія пласцінкі, губляецца празрыстасць. Каб яе аднавіць, шкло спачатку вытрымліваюць у 1%-ным растворы сернай або мурашынай кіслаты і прамываюць у праточнай вадзе. Асн. апрацоўка вядзецца пры дапамозе наждачнага парашку. Добрыя вынікі дае кіпячэнне рэчаў у дыстыляванай вадзе з дробным кварцавым пяском (не меней як 1/3 аб'ёму посуду): пясчынкі б'юцца аб паверхню рэчы і адбіваюць рэшткі ірызаванага пласта. Выкарыстоўваюць таксама спосабы, заснаваныя на запаўненні пустот паміж пласцінкамі, якія аддзяліліся, празрыстымі рэчывамі – гліцэрынай, растворам празрыстых сінтэтычных смол. Для склейвання шкла выкарыстоўваюць празрыстыя кляі (напр., раствор полівінілацэтатнай смалы). Абломы злёгку апрацоў-

ваюць наждаком. Пры рэстаўрацыі тонкага шкла ўздоўж шва можна наклеіць палоску празрыстай паперы альбо цэлафану. Гэта надае склейцы трываласць. Пасля рэстаўрацыі шкляныя вырабы пакрываюць растворам піхтавай смалы (у талуоле або ксілоле) ці празрыстым лакам. Для запаўнення адсутных частак ужываюць сінтэтычныя смолы, жэлаціну, празрыстыя кляі.

Рэстаўрацыя керамічнага посуду. Чарапкі, як правіла, захоўваюцца добра. Іх пачатковая апрацоўка зводзіцца да прамыўкі і прасушкі. Ляпны посуд слабага абпалу бывае ломкім, лёгка крышыцца (асабліва ў вільготным стане), што патрабуе беражлівых да яго адносін. Пасля прасушкі на адкрытым паветры (лепш за ўсё накрыць паперай) трываласць яго значна павялічваецца. Пры неабходнасці чарапкі замацоўваюць. Для гэтага ўжываюць спосабы паверхневага замацавання або прамочванне растворамі (5%-ны раствор клею БФ-2, БФ-4, БФ-6 у эцілавым спірце). Ганчарны посуд такой апрацоўкі, як правіла, не патрабуе. Пры раскопках знаходзяць звычайна фр-ты посуду. Задача рэстаўратара – узнавіць посуд і не сказіць пры гэтым яго форму. У першую чаргу неабходна правільна вызначыць чарапкі для склейвання. Пасля прамыўкі і сушкі адбіраюць чарапкі венчыка, потым – дна. Пры падборы бакавых сценак трэба арыентавацца на арнамент, гарызантальныя палосы на ўнутранай паверхні пасудзіны і інш. Для склейвання выкарыстоўваюць лёгкараствавальныя і тэрмапластычныя кляі на аснове сінтэтычных смол (у выпадку памылкі дастаткова прагрэць месца склейкі – і чарапкі лёгка разбіраюцца). Найб. прыдатны для склейвання керамікі полівінілацэтатная смала (10%-ны раствор у ацэтоне ці этылавым спірце), кляі БФ-2, БФ-4, БФ-6. Калі чарапкоў не хапае, пустоты запаўняюць гіпсам. На незапоўнены ўчастак накладваюць пластылінавы лапік (унутры або звонку), пасля чаго ён запаўняецца гіпсавай кашай. Пасля зацвярдзення гіпсу пластылін здымаюць, загіпсаваны ўчастак зачышчаюць і таніруюць акварэльнай фарбай (тон афарбоўкі павінен некалькі адрозніваецца ад натуральнага). Калі ўдаецца сабраць толькі частку пасудзіны, застаецца магчымасць узнавіць яе цалкам. Для гэтага неабходна мець профіль пасудзіны – абрыс формы ад венчыка да дна (дастаткова ў выглядзе вузкай паласы). З пластыліну робіцца злепак профілю (унутры ці звонку). Паступова перамяшчаюць злепак па акружнасці пасудзіны, з гіпсу далепліваюць часткі, якіх не хапае. Аперацыю паўтараюць некалькі разоў, пасля чаго паверхню пасудзіны зачышчаюць і таніруюць. Арнамент на ўзноўленыя часткі рэчы не наносяць.

*Літ.:* Кирьянов А.В. Реставрация археологических предметов. М., 1960; Фармаковский М.В. Консервация и реставрация музейных коллекций. М., 1947.

*А.М.Плавінскі.*

**РЭТРАСПЕКТЫЎНЫ МЕ́ТАД** у археалогіі, метад навуковага даследавання, з дапамогай якога робяцца абагульненні, заключэнні, вывады пра мінулае, папярэдняе, калі вядома наступнае, што прыйшло яму на змену. Шырока выкарыстоўваецца для этнічных вызначэнняў. У добра вядомай культуры з дакладнай этнічнай атрыбутыкай вылучаюць элементы-перажыткі папярэдніх культур. Пры дастатковасці гэтай спадчыны для сцвярджэння, што папярэдняя культура была асновай для фарміравання наступнай, абедзве культуры лічацца роднаснымі, генетычна звязанымі паміж сабой. У такім выпадку больш стараж. культура павінна мець такую ж этнічную прыналежнасць або належаць продкам таго ж этнасу. Напр., у складзе пражскай (тыпу Карчак) культуры (6–8 ст.) шматлікія элементы сярэдневяковай культуры ўсх. славян дазваляюць лічыць даказанай яе слав. прыналежнасць. У гэтым сэнсе Р.м. цесна спалучаецца з метадам вылучэння перажыткаў, які шырока выкарыстоўваюць у этнаграфіі. Пры паступовым вывучэнні ўсё больш стараж. культуры даследчыкі імкнуцца пранікнуць у вытокі гісторыі этнасаў і іх культур. Аднак элементы папярэдняй культуры, што ўвайшлі ў наступную, цяжка адрозніць ад звычайных запазычанняў, прывазных рэчаў, дакладна высветліць іх культ. прыналежнасць і датаванне. Да таго ж яны маглі з цягам часу змяніцца, мадыфікавацца, іх можа быць недастаткова для бясспрэчных вывадаў. Таму выкарыстанне Р.м. патрабуе распрацаванай тыпалогіі, наяўнасці дастатковай колькасці рэчаў, выкарыстання *методыкі археалагічных даследаванняў.*

*Літ.:* Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 1989.

*У.Ф.Ісаенка.*

**РЭ́ТУШ**, спосаб другаснай апрацоўкі каменных прылад шляхам зняцця з іх бакоў дробных *адшчэпаў* ці лускавінак. Пашыраны ў каменным і бронзавым вяках. Рабілі адбойнікамі ці адціскальнікам з косці, дрэва, каменю. З дапамогай Р. завастралі рабочую частку прылады, фарміравалі прыстасаванне для рукі. У залежнасці ад тэхнічных прыёмаў нанясення адрозніваюць Р. ударную, контрударную, адціскальную. Форма і суадносіны фасетак Р. вызначаюць яе тыпы – лускаватая, лускавата-ступеньчатая, паралельная, суб-паралельная. У залежнасці ад вугла нахілу бывае пакатая, паўкруглая, крутая, вертыкальная, паводле арыентацыі – прамая, інверсійная, двухбаковая, па памерах – дробная, сярэдняя, буйная.

*Літ.*: Семёнов С.А. Развитие техники в каменном веке. Ленинград, 1968; Технология производства в эпоху палеолита. Ленинград, 1983. *В.Я.Кудрашоў.*

**РЭ́ЧЫЦА**, горад, цэнтр Рэчыцкага р-на, рачны порт, на правым беразе р. Дняпро пры ўпадзенні ў яе р. Ведрыч. За 50 км на З ад Гомеля. Чыг. ст. на лініі Гомель–Калінкавічы, вузел аўтадарог на Гомель, Калінкавічы, Светлагорск, Жлобін, Лоеў, Хойнікі.

Упершыню ўпамінаецца пад 1213, належала Чарнігаўскаму княству. З 14 ст. ў ВКЛ, у Мінскім ваяводстве. У 1505, відаць, спалена татарамі. У 1561 атрымала няпоўнае магдэбургскае права. З 1565–66 цэнтр павета. У час антыфеад. вайны 1648–51 горад некалькі разоў займалі казацка-сялянскія атрады. Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 яго ўмацаванні пачалі паступова разбурацца. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

Паселішча эпохі мезаліту (9–5-е тыс. да н. э.) на паўн.-ўсх. ускраіне горада, за 0,6 км на У ад ільнозавода, ва ўр. Прудок. Даследаваў у 1981 У.П.Ксяндзоў (1200 м²). У культ. пласце 0,1 м выяўлены крамянёвыя вырабы – наканечнікі стрэл грэнскага тыпу, ланцэтападобныя прылады працы і інш.

Гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі на высокім правым беразе Дняпра, каля сутокаў з ім р. Рэчыца, на тэр. гар. парку. Амаль прамавугольная пляцоўка памерамі 75 × 45 м выцягнута па лініі ПнЗ–ПдУ. З зах., усх. і паўд. бакоў умацавана валам выш. да 2 м, з зах. і ўсх. бакоў глыбокія яры. Даследавалі ў 1957 Э.А.Сымановіч, у 1976 Г.В.Штыхаў. У адхоне выяўлены культ. пласт 1,6 м з праслойкамі попелу і вугалля. На глыб. 1,2 м знойдзена кераміка 13–14 ст., некалькі кавалкаў ляпнога посуду. У 12–14 ст. тут быў дзяцінец горада.

Вакольны горад, места, падковападобна ахопліваў гарадзішча з напольнага боку, займаў пл. каля 4 га. Умацаванні «места» ўключалі дугападобны вал, які канцамі ўпіраўся ў бераг Дняпра. На вале стаялі 14 прамавугольных у плане драўляных вежаў з прасламі сцен-гародняў. Дадатковая знешняя лінія абароны складалася з пабудаванага ў часы ВКЛ комплексу бастыённай фартыфікацыі, які акружаў Р. з Пд, З і Пн і быў блізкі ў плане да прамавугольніка. Сядзібна-вулічная планіроўка сяр. 12 ст. адпавядае абрысам вала, пазначанага на плане Р. 17 ст. Даследаваў у 1989–90 А.А.Макушнікаў (1183 м²). Культ. пласт да 1,5 м. Першы перыяд засялення адносіцца да 3-й чв. 1-га тыс., аб чым сведчаць знаходкі грубай ляпной керамікі. У культ. пласце над мацерыком (да 0,2–0,3 м) сяр. 12 – 1-й пал. 13 ст. прасочваюцца канаўкі міжсядзібных агароджаў, падклеці наземных жылых драўляных збудаванняў і гасп. ямы. Часткова ўскрыта 5 сядзібна-дваровых участкаў (даследаваная пл. кожнага ад 118 да 237 м²). Сядзібы сыходзяцца тылавымі ўчасткамі, у цэнтры квартала раздзелены правулкам, які паўтарае контур падковападобнага напольнага пояса фартыфікацый. Разбіўка сядзіб у адносінах да правулка выканана пад вуглом-«елачкай», што тлумачыцца радыяльным напрамкам вуліц вакольнага горада, імкненнем захаваць арыенціроўку сядзіб пры відавочным выгібе кальцавых вуліц. Выяўлены кругавая кераміка паўд.-рус. тыпаў, шкляныя бранзалеты і пацеркі, бронзавыя ўпрыгажэнні, шыферныя праслíцы, жал. нажы, наканечнікі стрэл, абломкі жал. кос, каменных жорнаў, кускі балотнай руды і жал. шлаку. У 2-й пал. 13 – 14 ст. на месцы стараж.-рус. сядзіб узводзіліся новыя. Пры гэтым іх межы амаль не змяняліся адносна папярэдніх, захоўвалася ранейшая шчыльнасць забудовы.

У 15 ст. сядзібна-дваровая забудова часова спынілася. Пазнейшая планіроўка Р. 16–18 ст. ужо не была звязана з стараж.-рус. і падпарадкоўвалася тагачасным горадабудаўнічым прынцыпам, элементы якіх захоўваюцца ў гіст. цэнтры горада.

Каменная статуя, чатырохаблічная выява язычніцкага бога («чатырохгаловая баба») размяшчалася, паводле звестак сяр. 19 ст., па дарозе з Р. ў Бабруйск, на ўзгорку ў даліне Дняпра.

*Літ.*: Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв. Гомель, 2009.

*А.А.Макушнікаў.*

**РЭ́ЧЫЦКАЯ СТАЯ́НКА**, археалагічны помнік – стаянка *грэнскай культуры* і кудлаеўскай культуры каля г. Рэчыца Гомельскай вобл. На паўн.-зах. ускраіне горада, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Дняпро. Выявіў у 1981 і даследаваў у 1981–86 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт разбураны ветравой эрозіяй, другасным засяленнем тэр. ў бронзавым і раннім жал. вяках, распрацоўкай кар'ера. На паверхні сабрана больш за 2000 рэчаў, у т.л. грэнскія наканечнікі стрэл з пласцiністых адшчэпаў, канцавыя і авальныя скрабкі, сярэдзінна-вуглавы разец, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, нераўнабедраныя тупавугольныя трохвугольнікі, разнастайныя пласціны-ўкладышы, праколкі, свердлы, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы. Прылады працы выраблялiся з шэрага мелавога («сожскага») крэменю. Адносіцца да 2-й пал. эпохі мезаліту (6–5-е тыс. да н.э.).

*Літ.*: Ксендзов В.П. Поздний мезолит белорусского правобережья Днепра // СА. 1986. № 1; Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988.

*У.П.Ксяндзоў.*



**САГАНО́ВІЧ** Генадзь Мікалаевіч (н. 13.1.1961, в. Турная Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.), бел. гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1990). Скончыў Мінскі пед. ін-т імя М.Горкага (1984). З 1987 у ІГ НАН Беларусі, з 2005 у ІГ Літвы і Еўрапейскім гуманітарным ун-це ў Вільнюсе. Заснавальнік і галоўны рэдактар час. «Беларускі гістарычны агляд». Праводзіў археал. раскопкі замкаў у Гарадзішчы (Маладзечанскі р-н), Койданаве (г. Дзяржынск), Лоску (Валожынскі р-н) і інш., даследаваў кавальскую справу Беларусі эпохі феадалізму. Вывучае ваенна-паліт. гісторыю Беларусі і ВКЛ. Аўтар прац па культуралогіі і гісторыі навукі.

*Тв.*: Айчыну сваю бараняючы: Канстанцін Астрожскі. Мінск, 1992; Войска Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVII ст. Мінск, 1994; Невядомая вайна: 1654–1667. Мінск, 1995; Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. Мінск, 2001.



*Г.М.Сагановіч.*

**САКАЛО́ВА**, археалагічны помнік – селішча каля в. Сакалова Міёрскага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, за 30 м ад правага берага р. Дзісна. Выявіў і даследаваў 24 м² у 2007 М.В.Клімаў. Агульная пл. помніка да 0,4 га. Культ. пласт 0,5–0,6 м. Выяўлены рэшткі спаленай пабудовы, керамічны посуд к. 11 – 1-й пал. 13 ст., бронзавы крыж і віслая пячатка 12 ст., шыфернае праслiца. *М.В.Клімаў.*

**САКО́ЛЬНІКІ**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў каля в. Сакольнікі Віцебскага р-на. За 1 км на ПдУ ад вёскі, паміж пагоркамі, ва ўр. Кахоўка (б. маёнтак). 57 насыпаў выш. 1–1,5 м, дыям. 5–7 м. Даследаваў у 1891 Е.Р.Раманаў (3 курганы). У адным з курганоў выяўлены астанкі 3 нябожчыкаў, нож і гаршчок, у другім пры касцяку знойдзена хрустальная шарападобная пацерка, у трэцім – рэшткі трупаспалення, крэмень і рыбалоўны кручок. Абследавалі ў 1972 Г.В.Штыхаў, у 1981 Л.У.Калядзінскі.

*Літ.*: Романов Е.Р. Раскопки в имении Каховка Витебского уезда // Древности: тр. Московского археол. о-ва. М., 1900. Т. 16.

**САЛАНО́Е**, археалагічны помнік – курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Саланое Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. За 1 км на Пд ад вёскі. Захаваліся 2 курганы выш. 1,5 і 1,8 м, дыям. адпаведна 8 і 10 м. Вядомы з 1893. У 1905 Е.Р.Раманаў даследаваў 10 насыпаў, у 1976 абследаваў У.У.Бага-мольнікаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З. У адным кургане ўскрыта труна з астанкамі 2 нябожчыкаў. Знойдзены пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з завіткамі, буйназярністыя металічныя пацеркі, зах.-еўрап. (кёльнская) сярэбраная манета 10 ст., пярсцёнкі, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, гаршчок з хвалістым арнаментам, фр-ты урны з арнаментам у выглядзе «елачкі» і інш. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: Романов Е.Р. Археологические разведки в Могилевской губернии. Вильна, 1912.

*П.Ф.Лысенка.*

**САЛАПЯ́ЦІШКІ**, археалагічны помнік – могільнік каля в. Салапяцішкі Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. На паўн. ускраіне вёскі, знешніх прыкмет не мае. У 1903–06 В.А.Шукевіч даследаваў 32 пахаванні. У 2 пахавальны абрад – трупаспаленне па-за межамі пахавання. У адной магіле знойдзены вял. нож і абломак жалеза, у другой – 2 страмёны з шырокай падножкай, наканечнікі коп'яў, шпора, цуглі, нож і інш. У 30 магілах пахавальны абрад – трупапалажэнне ў ямах (у мужчынскіх пахаваннях у большасці выпадкаў галавой на У, у жаночых – на З). Знойдзены шыроказлязовыя сякеры, нажы, крэсівы, наканечнікі коп'яў і стрэл, фібулы, спражкі, паясныя накладкі, тачыльныя бруські з адтулінамі для падвешвання, бронзавыя і сярэбраныя скроневыя кольцы, завушніцы, пярсцёнкі. Знойдзены таксама манеты ВКЛ, кавалкі шарсцяных і льняных тканін, фр-ты керамікі. Могільнік датуецца 12–13 ст. і больш познім часам.

*Літ.*: Пободь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Минск, 1979; Szukiewicz W. Cmentarzysko szkieletowe w Sałapiaciszkach // Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1910. T. 11.

*Я.Г.Звяруга.*

**САЛАЎЁВА** Галіна Фёдараўна (26.2.1922, г. Іванцеёўка Маскоўскай вобл. – 17.9.2001), рускі археолаг. Канд. гіст. навук (1953). Скончыла Маскоўскі ун-т (1945). У 1945–50 і ў 1959–80 у Ін-це



*І.І.Салівон.*

археалогіі АН СССР. У 1950–59 інспектар Упраўлення музеяў і аховы помнікаў Мін-ва культуры РСФСР. Даследавала больш за 150 курганоў на Гомельшчыне і Магілёўшчыне (1962–70), замак рагачоўскіх князёў 12 ст. (*Збароў*). Адкрыла слав. пахавальныя помнікі 6–9 ст. (*Вароніна*, *Дзям'янкі*), язычніцкае свяцілішча *Ходасавічы*, выявіла «вогненныя кольцы» ў пахавальным абрадзе радзімічаў (вядомыя раней па летапісах). Удзельнічала ў дыскусіях пра ўплыў балцкага субстрату на культуру радзімічаў. Лічыць, што славяне з'явіліся ў верхнім Падняпроўі ў 6–7 ст. і што значнасць уплыву на іх балцкага субстрату перабольшана.

*Тв.*: Погребальные обряды // Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962; Семилучевые височные кольца // Древняя Русь и славяне. М., 1978; О роли балтского субстрата в истории славянских племён Верхнего Поднепровья // СА. 1971. № 2. *У.У.Багамольнікаў.*

**САЛІВО́Н** Інеса Іванаўна (н. 24.12. 1937, г. Барысаў Мінскай вобл.), беларускі антраполаг, д-р біялагічных навук, дацэнт (1996), канд. гіст. навук (1970). Скончыла Мінскі медыцынскі ін-т (1960), працавала ўрачом (1960–65). З 1965 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (ІМЭФ) АН Беларусі. З 2008 у ІГ НАН РБ. Вывучае асн. заканамернасці фарміравання фізічнага тыпу стараж. і сучаснага насельніцтва ў святле этнагенетычных працэсаў і адаптацыі арганізма да розных экалагічных умоў. Даследавала могільнікі 18 – пач. 19 ст. ў вёсках Лукомль Чашніцкага, Губічы Буда-Кашалёўскага, Глоўсевічы Слонімскага, Прусы Капыльскага, Насілава Маладзечанскага, Пагост-Загародскі і Камень Пінскага, Рудзец Малы Кобрынскага, Мілевічы Жыткавіцкага, Мокішы Хойніцкага р-наў. У выніку складзена краніялагічная калекцыя па бел. сельскім насельніцтве (больш за 200 адзінак). Вывучэнне варыяцый будовы шкілета стараж. насельніцтва па матэрыялах археал. раскопак у параўнанні з апублікаванымі данымі розных аўтараў пра насельніцтва Усх. Еўропы 1–2-га тыс. н.э. дазволіла ўстанавіць кірункі этнагенетычных працэсаў і зменлівасць з цягам часу фізічнага тыпу насельніцтва Беларусі: за апошнюю тысячу гадоў шкілет стаў менш масіўны, паменшыўся падоўжаны дыяметр галавы і павялічыўся шыротны, таму галава набыла больш круглую форму. З 1972 у складзе комплексных экспедыцый ІМЭФ АН Беларусі вывучае тэрытарыяльныя і ўзроставыя асаблівасці сучаснага дарослага насельніцтва і вучняў школ па якасных і вымяральных характарыстыках розных прыкмет будовы цела. Кіраўнік саўместнага бел.-расійскага праекта «Комплекснае вывучэнне стараж. насельніцтва Беларусі ў святле этнічнай гісторыі славян» (2010). Дзярж. прэмія Рэспублікі Беларусь 1998.

*Тв.*: Очерки по антропологии Белоруссии. Минск, 1976 (разам з Л.І.Цягакай, А.І.Мікулічам); Антропология Белорусского Полесья: (Демография, этнич. история и генетика). Минск, 1978 (з імі ж); Экологические аспекты в антропологических исследованиях на территории БССР. Минск, 1982 (разам з Л.І.Цягакай); Основы современной антропологии. Минск, 1989 (з ёй жа); Краніялогія насельніцтва Беларускага Панямоння па матэрыялах каменных могільнікаў (разам з А.В.Квяткоўскай, А.І.Кушнірам) // ВАНБ. 1989. № 3; Сельское население Среднего Побужья IX–XIII вв. (по материалам курганных могильников) (разам з Т.М.Каробушкінай) // СА. 1990. № 3.

**САЛТА́НАЎКА**, група археалагічных помнікаў каля в. Салтанаўка Магілёўскага р-на.

Стаянка-1 эпохі мезаліту за 1,5 км на Пн ад вёскі, 300 м на Пд ад лініі электраперадачы, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў у 1974 і ў 1989 даследаваў 12 м² В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,1 м. Апрацаваны крэмень сустракаецца ўздоўж броўкі тэрасы. Знойдзены нуклеусы, пласціны, адшчэпы, канцавыя скрабкі, рэтушныя разцы, нажы і інш.

Стаянка-2 эпохі неаліту за 1 км на Пд ад вёскі, 1 км на З ад вусця р. Хватаўка, на 1-й надпоймавай тэрасе Дняпра. У агаленнях тэрасы выяўлены канцавыя скрабкі, рэтушаваныя пласціны, адшчэпы, наканечнік дроціка і фр-ты керамікі з ямкавым арнаментам.

Курганны могільнік-1 эпохі Кіеўскай Русі за 2,5 км на Пн ад вёскі Салтанаўка, 1 км на У ад в. Сялец, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, з паўд. боку колішняга рова. Адкрыў і абследаваў у 1974 В.Ф.Капыцін. 15 насыпаў выш. 0,8–2 м, дыям. 12–18 м. Знішчаны ворывам.

Курганны могільнік-2 эпохі Кіеўскай Русі за 1 км на ПнЗ ад вёскі, каля лініі электраперадач. Вядомы з 1873, абследавалі ў 1928 А.Дз. Каваленя, у 1974 Я.Р.Рыер, у 1977 Л.У.Дучыц, у 1989 В.Ф.Капыцін. 3 курганы выш. 0,3–1,2 м, дыям. 8–12 м.

Курганны могільнік-3 эпохі Кіеўскай Русі за 1 км на ПдУ ад дарогі Магілёў–Дашкаўка, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Вядомы з 1873, абследавалі ў 1928 А.Дз.Каваленя, у 1974 Я.Р.Рыер, у 1977 Л.У.Дучыц, у 1989 В.Ф.Капыцін. Насыпы выш. 0,5–0,8 м, дыям. 8–10 м, параслі лесам.

*Літ.*: Каваленя А.Дз. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах // Працы. Т. 2; Копытин В.Ф. Археологические памятники Могилева и окрестностей. Могилев, 1993.

*В.Ф.Капыцін.*

**САЛЯ́РНЫЯ ЗНА́КІ**, сімволіка, звязаная з пакланеннем Сонцу і культам агню. Узніклі як вынік язычніцкіх вераванняў. Пакланенне сонцу зарадзілася з паяўленнем земляробства, што тлумачыцца залежнасцю будучага ўраджаю ад сонечнага цяпла і святла.

Салярнымі сімваламі з пэўнай доляй верагоднасці можна лічыць канцэнтрычныя кругі з

элементамі арнаменту, а таксама крыжападобныя фігуры, утвораныя перасячэннем арнаментальных палосак ці стужак, нанесеныя на донцы керамічных пасудзін неаліту і бронзавага веку (гл. ў арт. *Клеймы*). Сімвалам Сонца, бессмяротнасці, уваскрасення і ачышчэння ў глыбокай старажытнасці стаў крыж. Падвескі ў выглядзе крыжыкаў нярэдка сустракаюцца ў курганных пахаваннях.

Сімвалам зямнога і нябеснага (сонечнага) агню была свастыка, вядомая не толькі ў стараж. славян, але і ў інш. індаеўрап. народаў. Свастыка – стараж. салярны сімвал у выглядзе крыжа з загнутымі ў адным накірунку канцамі. Назва паходзіць ад стараж.-індыйскага svastika – «звязанае з дабром» (паводле іншай версіі, ад спалучэння слоў «Су» – імя сонечнай птушкі і «Астыка» – імя бажаства, якое ўвасабляла 2 паловы года, цёплую і халодную). У эпохі неаліту і энеаліту свастыка была вядома ў Пярэдняй Азіі, асабліва ў Іране, а таксама ў Індыі, Еўропе (у прыватнасці, на Крыце). У бронзавым веку выявы гэтага сімвала характэрны для Цэнтр. і Усх. Еўропы, Каўказа, Зах. Сібіры, Сярэдняй і Малой Азіі (Троя). С. была папулярнай у амерыканскіх індзейцаў; у Індыі як рэлігійны сімвал яна была ўспрынята будызмам і занесена разам з ім у Кітай і Японію. У пач. н.э. гэты знак ужываўся ў якасці хрысціянскага сімвала, пакуль яго не выцесніў крыж. У 20 ст. свастыка была скампраметавана ў сувязі з выкарыстаннем яе нацысцкай партыяй Германіі.

На тэр. Беларусі самыя раннія выявы свастыкі з'яўляюцца ў жал. веку. Адна з такіх выяў, намаляваная прачэрчанымі лініямі, была на ляпным гаршку з пахавання ва ўр. Плітніца каля в. Нача Воранаўскага р-на, якое датуецца ў межах 1–4 ст. У пач. н.э. датуюцца свастыкі на прасліцах з гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі Малышкі ў Вілейскім р-не і Дварышча ў Мінскім р-не (мяжа н.э. – 1–2 ст.), на фібуле з эмаллю 3–4 ст. з Лукомля Чашніцкага р-на, бронзавай ажурнай фібуле і плоскім біканічным прасліцы 3–4 ст. з *Тайманава* (кіеўская культура). Прасліца са свастыкай знойдзена і на селішчы кіеўскай культуры каля в. Адаменка Быхаўскага р-на. Пліткападобны вапняковы камень і касцяны грабеньчык з выявамі свастыкі паходзяць з селішча Тарылава ў Браслаўскім р-не. Усе гэтыя свастыкі жал. веку, за выключэннем выявы з Дварышча, правабаковыя, г.зн. канцамі павернутыя па гадзіннікавай стрэлцы.

На суседніх з Беларуссю землях сімволіка ў выглядзе свастыкі вядома на рэчах з помнікаў венгажоўскай групы культуры заходнебалтыйскіх курганоў (1–2 ст.). Свастыкі былі пашыраны на тэр. Польшчы ў насельніцтва аксыўскай і вельбарскай культур, і асабліва шырока – у насельніцтва пшэворскай культуры (1–5 ст.).

У сярэдневяковії колькасць выяў свастыкі ў Беларусі ў пэўнай меры павялічваецца, яны сустракаюцца сярод ганчарных клеймаў. Калі амаль усе свастыкі з помнікаў жал. веку адносяцца да правабаковых, то такія ж сімвалы часоў феадалізму дзеляцца на 2 групы (магчыма, пад уплывам з'яўлення славян). Да правабаковых належаць свастыкі (хоць і не ўсе) пераважна з паўн. і цэнтр. частак Беларусі. Разам з тым адносна шмат становіцца левабаковых свастык. Паводле этнаграф. матэрыялаў 19– пач. 20 ст. Свастык з. ў выглядзе свастыкі былі пашыраны ў вышыўцы на ручніках і адзенні, на каньках хат і на яйках-пісанках.

*Літ.:* Рыбаков Б.А. Язычество древних славян. М., 1981; Яго ж. Язычество Древней Руси. М., 1987; Дзярновіч А., Квяткоўская А. «Свастыка» як касмалягічны ды этнавызначальны сымболь // Kryŭja. Мінск, 1994. № 1; Голан А. Миф и символ. Иерусалим; М., 1994; Зайкоўскі Э. Астральная і каляндарная сімволіка на некаторых археалагічных знаходках Беларусі // ГАЗ. Мінск, 1998. № 13.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**СА́ННІКІ**, археалагічны помнік – гарадзішча каля в. Саннікі Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл. Мясц. назва «Талерка». За 0,25 км на Пн ад усх. канца вёскі і за 0,4 км на Пд–ПдУ ад в. Раготна, за 0,15 км ад левага берага рэчкі. Гарадзішча размешчана на вяршыні марэннага ўзгорка, выш. ад падножжа да пляцоўкі – да 12 м. Схілы ўзгорка каля вяршыні (на выш. каля 3–4 м) крута падрэзаныя. Пляцоўка амаль круглая па форме, дыям. 32–34 м. Краі пляцоўкі трохі прыўзнятыя.

Помнік упершыню згадваўся Ф.В.Пакроўскім у к. 19 ст., абследавалі ў 1955 Ф.Д.Гурэвіч, у 1959 П.А.Рапапорт, у 1974 П.Ф.Лысенка. А.А.Рапапортам каля падножжа гарадзішча выяўлены фр-ты керамікі 11 ст. У 1997 даследаваў Э.М.Зайкоўскі, які з паўд. часткі пляцоўкі заклаў раскоп памерамі 6 × 20 м, выцягнуты з Пд на Пн. Зверху залягаў глебавы пласт (цёмна-шэрая супесь з каменьчыкамі) магутнасцю ад 0,14 да 0,4 м. У Пд частцы раскопу (да адлегласці 7,6–9,9 м ад краю) пад глебавым пластом залягаў пласт чорнай супесі са жвірам. У паўд.-зах. куце раскопу ў ніжняй частцы пласта чорнай супесі прасочвалася драўнінная вуголле. У паўд.-ўсх. куце раскопу меўся пласт вуголля магутнасцю да 0,68 м. Каля паўд. краю раскопу, асабліва ў паўд.-ўсх. куце, прасочваліся сляды пажарышча: попел з вуголлем, рэшткі згарэлых тонкіх бярвён ці дошак. Гэта сведчыць, што там размяшчалася нейкае збудаванне. Знойдзены 2 фр-ты ганчарнай керамікі, якія залягалі ў пласце чорнай супесі на глыб. 0,4–0,5 м ад дзённай паверхні і датуюцца прыблізна 16 ст.

Верагодна, у часы да Крэўскай уніі (1385) гарадзішча С. выкарыстоўвалася ў культавых мэтах.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**САПО́ДЗЬКА** Тытус (1845, Гродзеншчына ці Мінщчына – 27.5.1896), беларускі археолаг, антрапо-

лаг. Чл.-кар. Пецярбургскай АН, чл. Кракаўскай АН. Вучыўся ў Пецярбургу. Па адукацыі інжынер. У 1875 і 1883 вёў археал. раскопкі ў Ігуменскім пав. Зарэгістраваў і, магчыма, раскапаў 700 курганоў. У выніку іх аналізу вылучаў найбольш раннія курганы паўкруглай формы, сярод іх адзіночныя ахвяравальныя; круглавата-стогападобныя, для якіх характэрна бессістэмнасць размяшчэння. Больш позні па часе лічыў адзіночныя курганы, т.зв. жальнікі, каля падножжа якіх выяўлены заглыбленні або равы. Вёў раскопкі ў Барысаўскім пав. (паміж Смалярамі і Мсціжам), каля вусця р. Трасцяніца і ў інш. месцах. Рабіў замалёўкі, складаў табліцы, планы, збіраў легенды пра помнікі. Многія матэрыялы яго раскопак паступілі ў Кракаўскую АН. Спрабаваў правесці мяжу паміж т.зв. Чорнай і Белай Руссю. Адзін з першых у бел. археалогіі рабіў хімічныя аналізы сваіх знаходак.

*Тв.:* Poszukiwania archeologiczne w powiecie Ihumeńskim, gub. Mińskiej w r. 1875 i 1883 dokonane // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. 1889. T. 13; Przyczynek do archeologii białoruskiej // Przegląd powszechny. 1891. T. 1. *Г.А.Каханоўскі.*

**САПУНО́Ў** Аляксандр Парфёнавіч (27.3.1851, г.п. Усвяты Пскоўскай вобл., Расія – 2.10.1924), бел. гісторык, археограф, краязнавец, даследчык помнікаў стараж. культу. Праф. (1913). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1873). З 1879 працаваў выкладчыкам у Віцебскай гімназіі, з 1895 у Віцебскім цэнтр. архіве стараж. грамат, з 1897 выкладчык Маскоўскага ун-та, з 1901 сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага к-та. Актыўна ўдзельнічаў у стварэнні *Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея* (1893) і *Віцебскай вучонай архіўнай камісіі* (1909). Адзін з ініцыятараў адкрыцця Віцебскага аддзялення Маскоўскага археал. ін-та, выкладаў у ім і ў настаўніцкім ін-це (1911–22). У 1923–24 чытаў курс беларусазнаўства ў Віцебскім вышэйшым педагагічным ін-це. Даследаваў гісторыю, літ., археалогію, археаграфію, архітэктуру, фальклор Беларусі, у асн. Віцебшчыны. Выявіў і зрабіў палеаграфічныя апісанні рукапісных помнікаў. Асн. праца – зб. дакументаў 11–19 ст. «Віцебская даўніна» [т. 1, 4, 5 (т. 2 і 3 не выдаваліся), 1883–88], дзе змясціў урыўкі з летапісаў, граматы віцебскіх і полацкіх князёў і інш.

*Тв.:* Полоцкий Софийский собор. Витебск, 1888; Двинские или Борисовы камни: исслед. Витебск, 1890; Река Западная Двина: Ист.-геогр. обзор. Витебск, 1893; Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896 (разам з В.Друцкім-Любецкім); Памятники времен древних и новейших в Витебской губернии. Витебск, 1903; Университет в Полоцке. Витебск, 1908.

*Літ.:* Каханоўскі Г.А. Прадвесне навукі. Мінск, 1990; Стукалич В.К. А.П.Сапунов: к 25-летию его ученой и лит. деятельности. Витебск, 1905; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. *Г.А.Каханоўскі.*

**СА́РАЧЫ**, археалагічны помнік – гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі каля в. Сарачы Любанскага р-на Мінскай вобл.

На паўн. ускраіне вёскі на берагавым выступе левага берага р. Арэса (правы прыток р. Пціч). Пл. 2500 м², разбураецца кар'ерам. Абследавалі ў 1997 М.М.Крывальцэвіч, у 1998 Л.У.Дучыц і М.М.Лашанкоў. Даследавалі 226 м² у 1999 М.М.Лашанкоў і ў 2000 А.У.Ільюцік. Культ. пласт 0,4 – 1 м. Знойдзены вырабы з крэменю (нуклеусы, наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, нажападобныя пласціны з рэтушшу, плаколкі, рэтушор, адшчэпы) адзінкавыя фр-ты ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку. Да ранняга жал. веку адносяцца гліняныя дыскі, якія маглі выкарыстоўваць у якасці рыбалоўных грузілаў, прасліцы, у т.л. зробленыя са стенак разбітых пасудзін, грузікі «дзякава» тыпу і шкляная пацерка, бронзавыя іголка і спіралька, жал. нож і серп, каменныя шліфавальная сякера-клін, ступка і плітка; ляпны гладкасценны, штрыхаваны і глянцаваны посуд слоікападобнай, прафіляванай і рабрыстай формы з ямачнымі ўціскannямі па аснаванні шыйкі і насечкамі па краі венца.

*Літ.:* Лошенков М.И. Поселение культуры штрихованной керамики на юге Беларуси // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2001. T. 21; Ильютик А.В., Лошенков М.И. Сорочи – поселение на р. Орессе // Раннис славяне Белорусского Поднепровья и Подвинья. Минск, 2003. *А.У.Ільюцік, М.І.Лашанкоў.*

**САРКАФА́Г** (грэч. sarkophagos, літар. пажыральнік мяса), каменны, драўляны, тэракотавы альбо металічны аб'ём, звычайна прамавугольнай формы, прызначаны для пахавання памерлых. Вядомы ў Стараж. Егіпце, антычнай Грэцыі і Рыме. На тэр. Усх. Еўропы з'явіліся пад уплывам візантыйскай хрысціянскай пахавальнай традыцыі. Напр., у Кіеве хрысціянскіх князёў хавалі ў мармуровых С. На тэр. Беларусі вядомы С. розных канструкцый. Напр., С., складзеныя з 6 ці 7 шыферных або вапняковых пліт, якія замацоўваліся з дапамогай жал. прутоў з унутранага боку альбо жал. абручамі з вонкавага. Века замазвалася вапнай. Вонкавая паверхня магла аздабляцца разьбой. Такія С. 12 ст. знойдзены ў Тураўскім храме і ў выглядзе абломкаў у царкве на Ніжнім замку ў Полацку. Цагляныя С. ўяўлялі сабой стацыянарную канструкцыю, складзеную з плінфы на цамяначнай рошчыне. Звычайна размяшчаліся пад падлогай храма (зверху перакрываліся пліткамі падлогі) альбо ў паўзакрытай нішы ў сцяне храма – аркасоліі. Цагляныя С. 12–13 ст. выяўлены ў прыбудовах да Полацкай Сафіі, храме-пахавальні Спаса-Праабражэнскага (Ефрасіннеўскага) манастыра і царкве на рове ў Полацку. Імітацыя каменнага С. ў выглядзе пліты, пакладзенай на 2 камяні з выдзеўбанымі пазамі, знойдзена над магільнай ямай у кургане з масавым пахаваннем

12 ст. ў Друцку. Вядомы С. пазнейшага часу: Радзівілаў ў Нясвіжскім фарным касцёле, Сапегаў у *Гальшанскім кляштары францысканцаў* і інш.

*А.В.Вайцяховіч.*

**САРМÁТЫ** (лац. Sarmatae), этнонім, які ўжываўся ў дачыненні разнастайных груп іранамоўнага насельніцтва, як вандроўнага, так і аселага, роднаснага еўрап. скіфам і азіяцкім сакам. У познаантычную эпоху т.зв. С. займалі ўнутраную частку Еўразіі – ад сучаснай Венгрыі да паўн.-зах. Кітая. Адпаведна вылучаліся Сарматыя Еўрапейская і Сарматыя Азіяцкая, але С. ў вузкім сэнсе лічаць еўрап. С.

Аб сапраўдных С. (літаральна на іх мове «чарнарукія»), ці «сірматах», вандруючых па зах. беразе р. Дон, згадваюць аўтары 4 ст. да н.э. – Еўдокс Кнідскі, Псеўда-Скілак і інш. Раней, у 5 ст. да н.э., «бацька гісторыі» Герадот ведаў пра існаванне на У ад Дона-Танаіса і Скіфіі саўраматаў, якія паходзілі, паводле пераказанага ім падання, ад шлюбаў скіфаў з амазонкамі. Герадотавы саўраматы абгрунтавана лічацца продкамі пазнейшых С. Аўтары 2–1 ст. да н.э. Дыядор Сіцылійскі і Лукіян Самасацкі красамоўна паведамляюць аб спусташэннях, нібыта здзейсненых С. пад час заваявання імі ўсёй Скіфіі Еўрапейскай (за выключэннем Крыма і памежнага раёна на ніжнім Дняпры). У 1 ст., паводле Карнелія Тацыта, С. фарсіруюць ніжні Дунай і спусташаюць рымскія тэр. У к. 2 ст. С. і іх саюзнікі пагражалі ўжо самой Італіі. Імператар Марк Аўрэлій ледзьве здолеў выцесніць іх за межы сваёй дзяржавы. У гонар гэтай частковай перамогі ён узяў сабе тытул Sarmaticus, г.зн. «Сармацкі».

У кітайскіх хроніках згадваюцца «яньцай», якіх лічаць адпаведнымі аланам антычных крыніц. У іх, апрача аланаў, згадваюцца таксама і інш. сармацкія плямёны: аорсы, раксаланы, сіракі, фісаматы, язаматы, язігі. Асобна вылучаліся т.зв. саі, ці С. «царскія». Вядомы імёны шэрагу сарматскіх «цароў», г.зн. праваднікоў ордаў ці ваенных саюзаў: Гатал, цар сарматаў, Сайтафарн, цар сарматаў «царскіх», Фарзой, цар аорсаў, і інш. Вядомы таксама і «царыцы», у прыватнасці, Амага. Адметную грамадскую ролю жанчын С., верагодна, атрымалі ў спадчыну ад сваіх продкаў саўраматаў, якіх старажытнагрэчаскі гісторык 4 ст. да н.э. Эфор называў «жонкакіруемымі».

Спецыялістамі вылучаюцца звычайна 4 перыяды ў гісторыі С.: 6–5 ст. да н.э. – саўрамацкі; 4–3 ст. да н.э. – раннесармацкі; 2 ст. да н.э. – 1 ст. – сярэднесармацкі; 2–4 ст. – познасармацкі. Помнікі 8–7 ст. да н.э., якія разглядаюцца як перадсаўрамацкія, здаўна вядомы ў Ніжнім Паволжы і Прыўраллі. Саўрамацкая археал. культура прадстаўлена ў 2 варыянтах: волга-данскім і самара-уральскім. Для абодвух характэрны могільнікі з курганных пахаванняў. Каля шкілетаў звычайна знаходзяць прадметы конскага рыштунку (цуглі, псаліі, бляхі), зброю, асабліва бронзавыя наканечнікі стрэл, а таксама жал. наканечнікі дзідаў, кінжалы, мячы. Зброя прысутнічае не толькі ў мужчынскіх, але і ў 20% жаночых пахаванняў, для якіх, апрача ўпрыгажэнняў, характэрны таксама бронзавыя люстэркі. Вырабы дэманструюць своеасаблівы саўрамацкі варыянт знакамітага «звярынага» стылю.

Раннесармацкія помнікі ўтвараюць т.зв. прохараўскую археал. культуру. Для яе курганных могільнікаў характэрны адметны элемент, які распаўсюджваўся з У (лічыцца, што гэтак адлюстравалася раннесармацкая экспансія на З ад Дона ў глыбіню



*Да арт.* ***Сарматы.*** *Выява цяжкаўзброенага вершніка, 1 ст. (паводле А.У.Сіманенкі).*

*Да арт.* ***Сарматы.*** *Сармацкі цар і царыца (сучасная рэканструкцыя).*



Скіфіі да ніжняга Дняпра): нябожчыка клалі не проста на дно магілы, а ў адмысловы «падбой», г.зн. нішу, вырытую ў бакавой сценцы ўваходной ямы. Як і раней, у пахаваннях шмат зброі, але характар яе мяняецца. Замест бронзавых наканечнікаў стрэл усё больш распаўсюджваюцца жал., замест кароткіх скіфскіх мячоў-акінакаў – доўгія (да 130 см) сармацкія т.зв. прохараўскага тыпу. У сармацкіх магілах Прыазоўя, Паўн. Прычарнамор'я, апрача ляпной самаробнай керамікі, усё больш пашыраецца імпартная, што сведчыць аб узрастанні сувязей новага насельніцтва б. Скіфіі з мясц. грэчаскімі гарадамі-калоніямі.

На базе прохараўскай склалася суслаўская археал. культура сярэднесармацкага перыяду, які лічыцца часам росквіту С. Па-ранейшаму пануюць курганныя пахаванні, але не ў падбойных, а ў вял. (2,4 × 2,4 × 2 м) квадратных у плане ямах. У С. Сярэдняга Падняпроўя на гэтым этапе пачынаюць з'яўляцца таксама і бескурганныя могільнікі, што тлумачыцца ўплывам мясц. насельніцтва. У гэты ж час на карэннай сармацкай тэр. Ніжняга Паволжа шырока распаўсюджваюцца т.зв. дыяганальныя пахаванні. Пачынаюць вылучацца вял. памерамі і багаццем інвентару курганы знаці. У пахаваннях па-ранейшаму шмат зброі, але характар яе паступова змяняецца: з 1 ст. ў сармацкім войску побач з furniture коннымі лучнікамі з'явіліся катафрактарыі (панцыр-катафракту меў не толькі вершнік, але і яго баявы конь), узброеныя доўгім мячом і доўгай (да 4,5 м) дзідай. У магілах знатных С. зрэдку трапляюцца і каштоўныя металічныя шлемы. Значнае месца ў такіх пахаваннях займаюць прадметы рымскай вытворчасці. У магілах радавых сармацкіх воінаў пачынаюць сустракацца дэталі складанага (т.зв. гунскага) лука. Вельмі рэдка трапляюцца прылады працы.

Фарміраванне познасармацкай культуры, якая даволі істотна адрозніваецца ад папярэдняй, некаторымі даследчыкамі звязваецца з Сарматыяй Азіяцкай, бо ў познім перыядзе сармацкай гісторыі вядучая роля перайшла да аланаў, якіх старажытнарымскі гісторык 4 ст. Аміян Марцэлін называе «былымі масагетамі». Масагеты, паводле Герадота, жылі на У ад Каспійскага мора. На познім этапе свайго існавання сармацкая культура па-ранейшаму прадстаўлена толькі могільнікамі, у абсалютнай большасці курганнымі. Наяўнасць грунтавых пахаванняў, у якіх зрэдку трапляюцца знаходкі абвугленага зерня і да т.п., разглядаецца як сведчанне пераходу пэўнай часткі С. да аселасці і земляробства. Калі ў сярэднесармацкі час нябожчыкаў клалі галавой на Пн, то у познесармацкі – на Пд. Характэрнай рысай пахаванняў позняга перыяду з'яўляецца наяўнасць штучна дэфармаваных чарапоў, што адпавядала, верагодна, эстэтычным густам аланаў.

У 375 аланаў у волга-данскіх стэпах атакавалі гуны і, па словах гоцкага гісторыка Іардана, «знясілілі іх частымі сутычкамі». Частка аланаў мусіла далучыцца да заваёўнікаў у іх паходзе на З. Іншыя ратаваліся ад гунаў, адступаючы ад іх сумесна з германцамі, у прыватнасці, з вандаламі. З імі праз Іспанію яны дайшлі да Паўн. Афрыкі, дзе на тэр. сучаснага Туніса ўтварылася сумеснае каралеўства вандалаў і аланаў, якое праіснавала да 534. У эпоху ранняга сярэдневякоўя ва Усх. Еўропе аланы складалі значную частку насельніцтва Хазарскага каганата; стараж.-рус. летапісы называюць іх «ясамі». У 1222 ясы разам з полаўцамі пачалі змагацца супраць татара-мангольскага нашэсця, але саюзнікі здрадзілі ім. Часткі ясаў удалося адысці ў горы Каўказа; гэта былі продкі сучасных асецінаў.

Тэр. сучаснай Беларусі С., хутчэй за ўсё, не наведвалі. Але ў 1 ст. імі былі захоплены і разбураны ўмацаваныя паселішчы зарубінецкай культуры на сучаснай Кіеўшчыне. Пацярпелыя мусілі шукаць паратунку сярод роднаснага насельніцтва больш паўн. абласцей, і гэта прывяло да пэўных зрухаў ва ўсёй вял. зарубінецкай супольнасці Гомельшчыны, Чарнігаўшчыны, Браншчыны. Нягледзячы на тое, што гіст. С. мелі толькі ўскоснае дачыненне да бел. зямель, апошнія атрымалі ў кнігах і на геаграфічных картах адпаведную назву (Сарматыя) на некалькі стагоддзяў. Напр., А.Гваньіні (1538–1614), шматгадовы камендант Віцебска, напісаў пра ВКЛ кн. «Sarmatiae Europeae descriptio» («Хроніка Сарматыі Еўрапейскай»). У 16–18 ст. сярод шляхты Рэчы Паспалітай была модная фантастычная версія аб тым, што яна нібы паходзіць ад высакародных заваёўнікаў-С., тады як просты народ – ад ска-

роных імі славян і літоўцаў. Распаўсюдзілася мода на «сармацкі» партрэт, «сармацкі» касцюм і г.д.

*Літ.*: Аланы и Западная Европа. Владикавказ, 1992; Гутнов Ф.Х. Ранние аланы. Проблемы этносоциальной истории. Владикавказ, 2001; Кузнецов В.А. Очерки истории алан. Орджоникидзе, 1984; Симоненко А.В. Сарматские всадники Северного Причерноморья. Санкт-Петербург, 2009; Смирнов К.Ф. Савроматы. Ранняя история и культура сарматов. М., 1964. *С.Я.Рассадзін.*

**САХА́**, драўляная (акрамя металічных сашнікоў — нарогаў) вупражная ворная прылада. Паявілася ў к. 1-га тыс. н.э. ў сувязі з удасканаленнем больш стараж. ворнай прылады — рала. С. рэдка сустракаецца пры археал. раскопках з-за дрэннай захаванасці дрэва. Драўляныя расохі (асн. дэталь складанага віду С. з перакладной паліцай) знойдзены толькі двойчы — у с. Старая Ладага Ленінградскай вобл. (10 ст.) і ў 1982 у Віцебску (13 ст.). Значна часцей трапляюцца металічныя сашнікі (нарогі), але па іх цяжка зрабіць рэканструкцыю С. і вызначыць яе асаблівасці. Знаходкі сашнікоў даюць падставу сцвярджаць, што С. паявілася ва Усх. Еўропе ў 9—10 ст. Самы стараж. сашнік на тэр. Беларусі, знойдзены ў Лукомлі, датуецца к. 10 — пач. 11 ст. Сашнікі 11—13 ст. знойдзены ў Брэсце, Ваўкавыску, Друцку, Пінску і Полацку (па 1 экз.), Чачэрску (2), Гродне (4), Лагойску і Оршы (па 3), большасць з іх. даўж. 14,8—21 см, мае вузкую, злёгку выгнутую рабочую частку даўж. 7,5—10,5 см, круглаватую ў сячэнні трубіцу, строга сіметрычную з завужанай на канцы рабочай часткай або злёгку асіметрычную форму. Паводле этнагр. матэрыялаў вылучаюць віцебскую (рус.) з перакладной паліцай, падняпроўскую (магілёўскую, або бел.) і палескую (літ., падляшскую) С. Асн. прыладай апрацоўкі зямлі ў Беларусі ў 10 —13 ст. была двухзубая С. спачатку з нерухомай, а потым перакладной паліцай і без яе, пра што сведчаць знаходкі парных сашнікоў разам з інш. прыладамі ў Гродне ў зямлянцы 11—12 ст. і ў Лукомлі ў гасп. яме 13 ст., а таксама расоха 13 ст. з Віцебска. Паліцу можна было ўстанаўліваць так, каб яна адкідвала зямлю ў правы або левы бок. З 14 ст. даўж. сашнікоў дасягала 30 см, рабочая частка іх мела завостраную форму. Такі сашнік знойдзены ў Брэсце ў пласце 14 ст. С. існавала да 1920-х г. На ПдЗ Беларусі была пашырана больш складаная палеская С. Вядома, што з 17 ст. яна выкарыстоўвалася таксама на Украіне, у Літве і Польшчы.

*Літ.*: Молчанова Л.А. Материальная культура белорусов. Минск, 1968; Чернецов А.В. О периодизации ранней истории восточнославянских пахотных орудий // СА. 1972. №3; Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X–XIII вв. Минск, 1979; Краснов Ю.А. Древние и средневековые пахотные орудия Восточной Европы. М., 1987. *Т.М.Каробушкіна.*

**СВЕ́РЫНАВА**, археалагічныя помнікі — стаянкі каменнага і бронзавага вякоў (4-е — 3-е тыс. да н.э.) каля в. Сверынава Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.

Стаянка-1 за 0,4 км на Пд ад б. в. Куцец, на правым беразе Нёмана, на дзюне даўж. 60 м. Выявіў у 1975 і даследаваў 176 м² у 1976 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт 0,3—0,6 м.

Выяўлены агнішчы, выкладзеныя камянямі, крамянёвыя скрэблы, нажы, лістападобныя наканечнікі дзідаў і іншыя вырабы, неалітычная вастрадонная кераміка, упрыгожаная грабеньчатымі адбіткамі, насечкамі, пракрэсленымі і прагладжанымі лініямі, паўмесяцавымі, трохвугольнымі і ямкавымі наколамі, паглыбленнямі ў выглядзе семечак (адбіткі канцом лапаткі) і інш. Адносіцца да *нёманскай культуры* з уплывам *верхнедняпроўскай культуры.*

Стаянка-2 за 1 км на У ад вёскі, ва ўр. Сосны, на паўн.-зах. краі дзюнападобнага павышэння правабярэжжа Нёмана. Выявіў у 1975 і даследаваў 48 м² у 1976 М.М.Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка ранняга (дубічайскага) этапу нёманскай культуры.

Стаянка-3 за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на валападобным павышэнні правабярэжнай надпоймавай тэрасы Нёмана. Часткова пашкоджана кар'ерам. Выявіў у 1975 М.М.Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя і керамічныя матэрыялы нёманскай культуры.

На паўд. ускраіне вёскі (былая в. Куцец) і на краі высокай тэрасы — рэшткі мезалітычных стаянак.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**СВІДРАВА́ННЕ**, тэхналагічны прыём атрымання адтулін у цвёрдых матэрыялах. Неабходны для злучэння розных прадметаў — прылад працы, зброі, упрыгажэнняў. С. выкарыстоўвалася ўжо жыхарамі познапалеалітычных стаянак Падняпроўя пры вырабе падвесак з ракавін і іклоў. У познім палеаліце, мезаліце і неаліце прасвідроўвалі вял. адтуліны ў рагавых сякерах, матыках і інш. вырабах. У бронзавым веку пашыраны бронзавыя сякеры, матыкі, булавы і інш з такімі ж адтулінамі. З дапамогай С. рамантавалі («сшывалі») пашкоджаную кераміку. У жал. веку і ў больш позні час таксама шырока выкарыстоўвалі С., асабліва пры апрацоўцы дрэва. Стараж. людзі прымянялі крамянёвыя свердлы, прымацаваныя да стрыжня, якія раскручвалі далонямі. У неаліце з'явіліся лучковыя і, магчыма, дыскавыя свідравальныя прыстасаванні. Вял. цыліндрычныя адтуліны, асабліва ў бронзавым веку, рабілі свярдзёлкамі з трубчастых касцей жывёл з падсыпкай буйназярністага пяску.

*Літ.*: Семенов С.А. Первобытная техника // МИА. 1957. № 54; Семенов С.А., Коробкова Г.Ф. Технология древнейших производств: мезолит — энеолит. Ленинград, 1983. *М.М.Чарняўскі.*

**СВІ́ДЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Свяціца Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл., ва ўр. Свіды. У 2006 выявілі і даследавалі В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.

С т а я н к а - 1 за 3,2 км на З ад вёскі, 1,4–1,5 км на У ад помнікаў ва ўр. *Куль*, за 0,11 км ад грунтавой дарогі з вёскі да р. Шчара і Агінскага канала, на авальным, выцягнутым з Пд на Пн, залесеным узвышшы, падзеленым з У невял. паніжэннем на 2 часткі. Даследаваны паўд. і цэнтр. ўчасткі 2 шурфамі на пл. 3 м². Культ. пласт да 0,4 м, слаба насычаны знаходкамі. Выяўлены крамянёвыя адшчэп і абломак. Папярэдне датуецца каменным векам.

С т а я н к а - 2 за 3 км на З ад вёскі, 1,6 км на У ад помнікаў ва ўр. Куль, 0,2 км на У ад стаянкі-1 на дзюнападобным, парослым лесам узвышшы. Даследавана паўн.-зах. ўскраіна 2 шурфамі на пл. 4 м². Зафіксаваны рэшткі агнішча дыям. каля 0,45–0,55 м. Знойдзены крамянёвыя пласціны, адшчэпы, аднапляцовачны нуклеус ад пласцін, разцы. Датуецца фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам (9–2-е тыс. да н.э., свідэрская, яніславіцкая, нёманская культуры, кола культуры шнуравой керамікі).

С т а я н к а - 3 за 2,8 км на З ад вёскі, 1,8 км на У ад помнікаў ва ўр. Куль, за 0,4 км на У ад стаянкі-2, на моцна пашкоджаным кар'ерамі дзюнападобным узвышшы, каля дарогі ад вёскі да р. Шчара і Агінскага канала. З Пн перарazаецца меліярацыйным каналам. Даследавана пл. 23 м². Культ. пласт да 0,2–0,3 м. Выяўлены каменны адбойнік, крамянёвыя адшчэпы, пласціны, абломкі, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны. Датуецца фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам (9–2-е тыс. да н.э., свідэрская, яніславіцкая, нёманская культуры, кола культур шнуравой керамікі).



*Да арт. **Свіды**. Крамянёвыя вырабы са стаянак 2 (1–9) і 5 (10–11).*

С т а я н к а - 4 за 2,5 км на З ад вёскі, 1,8–2 км на У ад помнікаў ва ўр. Куль, 0,2 км на ПнУ ад стаянкі-3, на вял. пясчанай градзе з некалькіх дзюнападобных узвышшаў (паўд. з іх пашкоджана кар'ерам). На разаранай паверхні знойдзены шматпляцовачны нуклеус ад адшчэпаў, некалькі адшчэпаў і пласцін, фр-т ганчарнай сценкі. На Пн, ПдУ помніка і побач з кар'ерам даследавана пл. 24 м². Культ. пласт невыразны, слаба насычаны артэфактамі. Знойдзены нешматлікія крамянёвыя сколы, абломкі, адшчэпы, пласціна, абпалены скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, канцавы скрабок на адшчэпе. Папярэдне датуецца неалітам.

С т а я н к а - 5 за 2,6–2,8 км на З ад вёскі, 2–2,2 км на У ад помнікаў ва ўр. Куль, 0,2–0,3 км на У і ПнУ ад стаянкі-4, на самым высокім участку пясчанай грады ўр. Свіды. Паверхня разарана пад лесапасадку. Сярод паверхневых знаходак вылучаюцца серыя крамянёвых пласцін і аднапляцовачны нуклеус ад пласцін. На У, ПдУ і Пн помніка абследавана пл. 17 м². Культ. пласт да 0,3–0,4 м, слаба насычаны артэфактамі. Зафіксавана яма няправільна-авальнай формы, у якой выяўлены развал пласкадоннага ляпнога арнаментаванага наколамі гаршка (39 фр-таў сценак, фр-т донца, 2 фр-ты венчыка; дыям. венчыка каля 25 см, тулава каля 29 см, донца 6 см, таўшч. сценак 0,6 см) кола культур шнуравой керамікі. У шурфах знойдзены крамянёвыя адшчэпы, двухбаковы скрабок на пласціне, фр-т ляпной керамікі ранняга неаліту і пачатку бронзавага веку. Датуецца эпохай мезаліту, раннім і познім перыядамі неаліту і пачаткам эпохі бронзы (яніславіцкая, нёманская культуры, кола культур шнуравой керамікі).

*В.Л.Лакіза.*

**СВІДЭ́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура фінальнага палеаліту, плямёны якой жылі на тэр. Польшчы (басейн Віслы) і Беларусі (Панямонне, Палессе, Падняпроўе). Назву атрымала ад помніка Свідры-Вельке, выяўленага ў Польшчы, на месцы зліцця Віслы і Свідэра. Артэфакты С.к. вядомы з сяр. 19 ст. У пач. 1920-х г. С.Крукоўскі, аналізуючы крамянёвыя комплексы, размешчаныя каля Варшавы, вылучыў асобную свідэрскую індустрыю позняга палеаліту. Назва С.к. ўведзена ў шырокі навуковы зварот Г.Кларкам (1936). С.к. даследавалі Л.Савіцкі, Л.Казлоўскі, Р.Шыльд, Р.Рыманцене, Л.У.Кальцоў, У.Ф.Ісаенка, Л.Л. Залізняк, М.М.Чарняўскі, В.Ф. Капыцін, У.П. Ксяндзоў, В.Я.Кудрашоў, А.Г.Калечыц, А.У.Коласаў, В.С.Абухоўскі і інш.

Вядома каля 1000 помнікаў С.к., каля 300 з іх знойдзены ў Беларусі. Першыя знаходкі свідэрскіх старажытнасцей на тэр. Беларусі адносяцца да к. 19 – пач. 20 ст. (археал. раскопкі Ю.Ядкоўскага і З.Глогера ў Панямонні, Е.Р.Раманава на Палессі). Пазней матэрыялы С.к. знайшлі сярод артэфактаў, якія сабралі на З Беларусі У.Б.Антановіч,

Ф.Д.Гурэвіч, Н.М.Гурына, Г.І.Гарэцкі, М.М.Чарняўскі, на Пд у басейне Прыпяці Р.Гарашкевіч, К.М.Палікарповіч, У.Дз.Будзько, М.І.Алексяюк, У.Ф.Ісаенка, В.Я.Кудрашоў, на У у басейне Дняпра І.М.Ціханенкаў, В.Ф.Капыцін. У.Ф.Ісаенка выявіў групы стараж. стаянак, на якіх пераважалі матэрыялы С.к. ў міжрэччы Прыпяці і Буга, даліне Ясельды каля Спораўскага воз., наваколлях воз. Моталь (Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл.), на берагах Пагосцкага воз. і р. Бобрык (Пінскі р-н Брэсцкай вобл.), на паўн.-ўсх. беразе Бабровіцкага воз., на У ад в. Опаль Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл., на паселішчы Зарэчча 2 у Бярозаўскім р-не Брэсцкай вобл. і ў памежнай зоне Укр. Палесся (азёры Нобель, Пульма, Вялікае і Малое Арэхава, Любязь, вёскі Омыт, Заазер'е, Сенчыцы і інш.).

Для свідэрскіх комплексаў характэрны нерэгулярныя крамянёвыя пласціны, часцей за ўсё вербалістай формы; вял. індэкс пласціністасці; двухпляцовачныя з косаскошанымі пляцоўкамі, аднабаковыя з негатывамі сустрэчнага сколвання і папярочнай падцёскай завостранага боку нуклеусы; мяккія адбойнікі. Адзначаецца традыцыйная перавага разцоў над скрабкамі; сярод разцоў звычайна прысутнічаюць сярэдзінныя, рэтушныя і вуглавыя. Дамінуюць канцавыя скрабкі на пласцінах. Сустракаюцца трапецападобныя сякеры або сякеры з перахопам, лязо якіх часта сфарміравана пашыраючым сколам (траншэ). Культуравызначальная роля належыць вербалістым і чаранковым наканечнікам стрэл з лускаватай падцёскай брушка, а часам і пяра; наяўнасць свярдзёлкаў (праколак і пласцін) са скошаным рэтушшу канцом; вядучая роля першаснай апрацоўкі крэменю.

Праблема паходжання С.к. да канца не высветлена, паводле радыевугляроднага аналізу ($^{14}$C) яна існавала прыкладна 10 800–9 800 гадоў таму назад. Гіст. лёс свідэрскага насельніцтва даследчыкі бачаць у фарміраванні постсвідэрскіх мезалітычных *бутаўскай культуры* і *кундскай культуры* (Л.Л.Залізняк), а некаторыя (Р.Рыманцене) заўважаюць пераемнасць традыцый не толькі ў мезаліце, а нават у помніках неаліту і пачатку бронзавага веку.

*Літ.:* Будько В.Д. Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // МИА. 1966. № 126; Римантене Р.К. Палеолит и мезолит Литвы. Вильнюс, 1971; Кольцов Л.В. Финальный палеолит и мезолит южной и восточной Прибалтики. М., 1977; Залізняк Л.Л. Фінальний палеоліт північного заходу Східної Европи. Київ, 1999; Абухоўскі В. Знаходкі крамянёвых і каменных вырабаў ад палеаліту да ранняга жалезнага веку з тэрыторыі Беларусі ў фондах Дзяржаўнага Археалагічнага Музея ў Варшаве. Варшава, 2003; Sawicki L. Przemysł swiderski i stanowiskawydmowego Swidry Wielkie 1 // Przeglad Archeologiczny. Poznań, 1936. T. 5; Schild R. Późny paleolit // Prahistoria ziemi. Wrocław etc., 1975. T. 1; Sulgostowska Z. Prahistoria międzyrzecza Wisły, Niemna i Dniestru u schyłku plejstocenu. Warszawa, 1989.

*А.Г.Калечыц.*

**СВІЛА 1**, археалагічны помнік – гарадзішча каля в. Свіла 1 Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на ПнЗ ад вёскі на ўзвышшы (13–15 м) на беразе забалочанага возера. Пляцоўка авальная ў плане, памерамі 100 × 80 м, умацавана 3 кальцавыміваламі і 2 равамі глыб. 1,5 –2,5 м, шыр. 10–13 м. Унутраны вал выш. каля 1,5 м, шыр. каля 10 м, узведзены па краі пляцоўкі; другі вал выш. 2–2,5 м, шыр. каля 10 м – на схіле гарадзішча на 3–5 м ніжэй унутранага вала; трэці (вонкавы) вал выш. 1,5–2 м, шыр. 8–10 м праходзіць уздоўж асновы ўзвышша. Упершыню апісаў Ф.В.Пакроўскі ў 1893, абследавалі ў 1965 Г.В.Штыхаў, у 1972




*Рэчавы комплекс з гарадзішча Свіла 1.*

М.А.Ткачоў. Даследавалі ў 1974 А.Р.Мітрафанаў і В.І.Шадыра, у 1989–90 В.І.Шадыра. Культ. пласт 0,3–0,4 м. Знойдзены наканечнікі стрэл, скроневыя кольцы, завушніца-лунніца, гліняныя прасліцы, фр-ты ляпнога посуду культуры доўгіх курганоў. Выяўлены 2 грунтавыя пахаванні па абраду трупаспалення. Побач з пахаваннямі даследавана гасп. яма, у запаўненні якой знойдзены ляпны гаршчок з абпаленым зярном азімага жыта і жал. наканечнік стралы 9 ст. Таксама ў культ. пласце знойдзены кераміка і біканічныя прасліцы банцараўскай культуры 5–8 ст.

*Літ.:* Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; Мітрафанаў А.Р., Каробушкіна Т.М. Археалагічны помнік расказвае // ПГКБ. 1975. № 4.

*В.І.Шадыра.*

**СВІР**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы ў г.п. Свір Мядзельскага р-на Мінской вобл.

Гарадзішча-1 у цэнтры пасёлка, на ізаляваным пагорку з вельмі стромкімі схіламі пагорку, які ўзвышаецца над навакольнай мясцовасцю на 12 –15 м. Пляцоўка памерам 30 × 40 м. Усх. частка пагорка разбурана кар'ерам. Захавалася частка пляцоўкі памерам 12 × 28 м. У 1976 Я.Г.Звяруга даследаваў 48 м². Культ. пласт да 2,6 м. Пад рэшткамі сярэдневяковага замка, заснаванне якога прыпісваецца літ. кн. Даўмонту (13 ст.), выяўлены сляды паселі-

шча эпохі ранняга жалеза. Яно не мела абарончых збудаванняў (яго надзейнай аховай з'яўляліся найперш стромкія схілы пагорка). Драўляны сярэдневяковы замак быў абнесены кальцавым валам выш. 3 м. Рэшткі замка ў к. 16 ст. апісаў польскі храніст М.Стрыйкоўскі. Сярод выяўленых у час раскопак рэчаў найб. шматлікія ўпрыгажэнні: пярсцёнкі, скроневыя кольцы, бразготкі, спіралькі, бранзалет, падкавападобная фібула і інш. Знойдзены жал. нажы, вісячыя, у т.л. цыліндрычныя, замкі, шылы, наканечнікі стрэл, гліняныя і шыферныя прасліцы, каменная форма для ліцця, разнастайныя вырабы з косці (праколкі, ручкі, абоймы і інш.). Кераміка ў ніжнім гарызонце ляпная (штрыхаваная і гладкасценная), у верхнім ганчарная.

Гарадзішча-2 на паўд.-зах. ускраіне пасёлка, злева ад дарогі на Смаргонь, ва ўр. Гарадок. Займае мыс прыроднага ўзвышша, якое ўразаецца ў воз. Свір. З зах. боку ўмацавана валам выш. 1–1,5 м і ровам шыр. да 8 –10 м. Пляцоўка з паўд. боку пашкоджана кар'ерам. Культ. пласт 0,4 –0,6 м. У 1980 выявіў М.М.Чарняўскі, у 1985 абследаваў Я.Г.Звяруга. Знойдзена штрыхаваная і гладкасценная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Минск, 1989; Его ж. Исследования Верхненеманского отряда // АО 1976. Минск, 1977.

*Я.Г.Звяруга.*

**СВІ́СЛАЧ**, археалагічны помнік – гарадзішча жалезнага веку і эпохі сярэдневякоўя на паўд. ускраіне в. Свіслач Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл., на мысе, утвораным упадзеннем р. Свіслач у Бярэзіну. З Пд, З і У стромкія схілы выш. 10 –12 м. Пляцоўка памерамі каля 70 × 70 м, па форме блізкая да трохвугольнай. З боку вёскі (з Пн) умацавана ровам глыб. каля 2 м і шыр. да 13 –17 м, валам выш. каля 2,2–2,5 м і шыр. каля падэшвы 8–9 м. Уезд размешчаны ў разрыве вала з напольнага боку. Мясц. назвы – Замак, Замчышча. Мяркуецца, што першыя пісьмовыя звесткі, якія звязваюцца са Свіслаччу, змяшчаюцца ў Іпацьеўскім і Галіцка-Валынскім летапісах пад 1256 пры апісанні ўдзельнікаў паходу Рамана-вічаў на яцвягаў, калі ўзгадваецца кн. «Изяслав со Вислочи». У 1348 (1349) кн. «Семён Свислочский» быў пасланы вял. кн. Альгердам разам з князямі Міхаілам, Карыятам і Айкшой у Арду да Джанібека. Апісанні гарадзішча (Свіслацкага замка) утрымліваюцца ў яго інвентары (ліпень 1560), планах абарончай перабудовы замка і мястэчка Багуслава Радзівіла (сяр. 17 ст.), апытальным лісце мінскага губернатара (1882) і апытальных лістах Інбелкульта (1924). Абследавалі ў 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, у 1962, 1969–71 помнік вывучаўся экспедыцыяй БДУ пад кіраўніцтвам Э.М.Загарульскага. Даследавана каля 720 м². Знойдзены матэрыялы ранняга жал. веку (ляпная штрыхаваная кераміка, жал. шпілька з S-падобным навершам, нож, шлакі, зерняцёрка), эпохі Кіеўскай Русі (побытавыя рэчы – сякеры, нажы, фр-ты нажніц, замкі, ключы, іголкі, шылы, праколкі, дужкі ад вёдраў, крэсівы, шыферныя прасліцы; прылады працы – каса-гарбуша, матыка, сашнікі, жорнавыя камяні, порхліца, рыбалоўныя кручкі, восці, гарпуны, іголкі для пляцення сетак; зброя і рыштунак вершніка – наканечнікі стрэлаў і коп'яў, кісцяні, пласцінка даспеха, цуглі з псаліямі, шпоры; вырабы з рога і косці – наверша, накладкі на тронкі нажа, шахматная фігурка; ювелірныя вырабы – фр-ты энкалпіёнаў, пласціністы бранзалет; вырабы са шкла – бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі, посуд і інш.). Зафіксаваны рэшткі спаленых драўляных зрубных жытлаў і 3 печы з каменю з глінянымі чарэнямі, якія знаходзіліся па-за межамі жытлаў. У 2000, 2005–08 гарадзішча даследаваў В.І.Кошман. Вывучана 164 м². Культ. пласт 1,7–2,2 м (у ямах да 3,2 м). Верхнія напластаванні ўтрымліваюць перамешаныя матэрыялы 12–20 ст. (пераважна 16 –17 ст.). Сярэдні гарызонт датуецца 12–13 ст., ніжні (перадмацерыковы і частка ям) утварыўся ў раннім жал. веку (2–4 ст. н.э.) і звязаны з пражываннем тут носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Характэрнай знаходкай перадмацерыковага гарызонту з'яўляецца ляпная кераміка з штрыхоўкай па знешняй паверхні пасудзін. Пераважна гэта рабрысты посуд з адагнутым вонкі венчыкам і шыйкай (апошняя чв. 1-га тыс. да н.э. – 3–4 ст. н.э.). Выяўлена кераміка калочынскай культуры (3-я чв. 1-га тыс. н.э.). На мяжы 11–12 ст. адбылося паўторнае засяленне гарадзішча. Асабліва інтэнсіўна жыццё працякала тут у сяр. 12 – сяр. 13 ст. Вывучаны рэшткі спаленай у сяр. 13 ст. вял. пабудовы з падпадлогавай ямай, якая па наборы артэфактаў (наверша і скрыжаванне мяча, фр-ты шлема з паўмаскай, шпор, наканечнікі стрэл, рэшткі булавы, колт з каляровага металу, шкляныя бранзалеты, амфары і інш.) можа атаясамлівацца з домам уладальніка гарадзішча Свіслач. Атрыманыя матэрыялы ўпершыню засведчылі факт спустошэння ў сяр. 13 ст. паселішча на сярэднім Бярэзіне атрадам мангола-татараў. Знойдзены тыповы для стэпавых качэўнікаў набор наступальнага ўз-

*Да арт. **Свіслач**. 1 – колт з каляровых металаў 12–13 ст., 2–4 – касцяныя накладкі.*



браення. Зроблена палеабатанічнае вызначэнне выяўленага на гарадзішчы зерня, прааналізаваны іхтыя-лагічны і астэалагічны матэрыял. Засведчана наяўнасць асятровых відаў рыб у рэках Бярэзіна і Свіслач у 12–13 ст. Пераважную колькасць мяса насельніцтва атрымлівала ў выніку палявання, а не жывёлагадоўлі. Матэрыялы 14–15 ст. на гарадзішчы прадстаўлены даволі сціпла, верагодна, у гэты час пашыралася неўмацаванае паселішча каля сцен замка. У 16 –17 ст. замак неаднаразова разбуралі (у 1506 крымскія татары, у 1535 маскоўскае войска, пад час казацка-сялянскай вайны ў 1648 – палкоўнік Г.Бут; у верасні 1654, 2.7.1655 – казакі І.Залатарэнкі) і перабудоўвалі. Матэрыялы гэтага часу прадстаўлены характэрнай керамікай, кафляй, манетамі. *В.І.Кошман.*

**СВІЦЯЗЬ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага веку і курганны могільнік на ўзбярэжжы воз. Свіцязь, за 4 км на Пд ад в. Валеўка Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.

Першыя крамянёвыя прылады выявіў на беразе воз. Свіцязь у 1870-я г. Я.Завіша. У 1935 С.Батура знайшоў каля возера каменную свідраваную сякеру са звужаным абушком кола культуры шнуравой керамікі (захоўваецца ў фондах Дзярж. археал. музея ў Варшаве). Узбярэжжа возера абследавалі ў 1950-я г. Ф.Д.Гурэвіч і Н.М.Гурына, у 1970-я г. М.М.Чарняўскі, М.А.Ткачоў, у 1998, 1999 В.Л.Лакіза, у 2002 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза.

Стаянка-1 на зах. беразе возера, каля шашы Навагрудак–Баранавічы, на тэр. пляжа. Моцна размыта вадою (знаходкі сустракаюцца ў вадзе да 10 м ад берага). Знойдзены крамянёвыя ножападобныя пласціны, пласціна са скошаным рэтушшу канцом, адшчэпы, рэтушаваны лупчань, наканечнікі стрэл, нуклеусы скрабкі, мікраліты (вастрыі, трапецыі). Асн. выяўлены матэрыял датуе помнік фінальным палеалітам (свідэрская культура) і мезалітам. Частка матэрыялу (у т.л. крамянёвы трохвугольны наканечнік стралы) адносіцца да позняга неаліту (кола культур шнуравой керамікі).

Стаянка-2 на ўсх. беразе возера, на залесенай валападобнай тэрасе. Рэдкія крамянёвыя вырабы знойдзены на лясной дарозе з в. Ятвезь да санаторыя. Сярод іх фр-ты пласціны і двухгранны бакавы разец на адшчэпе. Датуецца эпохай мезаліту.

Стаянка-3 на паўн. беразе возера, на тэр. санаторыя і пляжа. Культ. пласт часткова размыты і развеяны. На паверхні знойдзены крамянёвыя вырабы: лускавінкі, адшчэпы, у т.л. пласцінчатыя, пласціны, у т.л. рабрыстая, фр-т нуклеуса ці масіўнага разца; фр-т ляпной неалітычнай керамікі.

Курганны могільнік за 4 км на Пд ад в. Валеўка, справа ад шашы Навагрудак–Свіцязь–Баранавічы, 0,3–0,4 км на З ад пляжа і аўтастаянкі ў лесе. Налічвалася каля 30 курганоў, захавалася не менш 10 круглых у плане, выш. 0,5–1,5 м, дыям. каля 4–12 м. Вакол некаторых насыпаў засталіся сляды раўчукоў. Датуецца 11–13 ст.

*Літ.:* Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. Москва; Ленинград, 1962; Гурина Н.Н. Новые данные о каменном веке северо-западной Белоруссии // Палеолит и неолит СССР. М.; Ленинград, 1965. Т. 5; Абухоўскі В.С., Лакіза В.Л. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Беларускага Панямоння ў 2002 годзе // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18.

*В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.*

**СВІШЧОВА**, археалагічны помнік – курганны могільнік 11–12 ст. каля в. Свішчова Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 0,1 км на Пн ад вёскі, па абодва бакі дарогі Камянец–Высокае. 20 насыпаў выш. 0,2–1,6 м, дыям. 4–8 м. Мясц. назва «Шведскія магілы». Большасць курганоў у падножжа абкладзена камянямі, 19 насыпаў пад дзірваном маюць каменную выбрукоўку. Адкрыў ў 1937 К.Салевіч. У 1959 І.В.Біруля даследаваў 14 курганоў, у 1961 В.В.Сядоў – 7. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце (8), у падкурганных ямах памерамі 2,5 × 1,2 м (13), у насыпах (2), галавой на У (2), у астатніх – на З. Сустракаюцца парныя (мужчына і жанчына) пахаванні. Пахавальны інвентар – кругавыя гаршкі, жал. абручы ад драўляных вёдзер, жал. нажы, цуглі, праслiцы з ружовага сланцу, золаташкляныя і бронзавыя зярнёныя пацеркі, пярсцёнкі, спражкі, паўтараабаротныя і з S-падобным канцом скроневыя кольцы.

*Літ.:* Седов В.В. Из полевых исследований 1961 г. // КСИА. 1963. Вып. 96. *А.В.Іоў.*




*Да арт.* ***Свішчова.*** *Скроневыя кольцы (1, 2, 4–6, 8–10), пярсцёнак (3), гузік (7), праслiца (11), нож (12).*

**«СВОД ПА́МЯТНИКОВ АРХЕОЛО́ГИИ ЧЕРНО́БЫЛЬСКОЙ ЗО́НЫ МОГИЛЁВСКОЙ О́БЛАСТИ»**, манаграфічнае выданне В.Ф.Капыціна (Магілёў, 1998), на рус. мове. Прысвечана вынікам вывучэння помнікаў археалогіі на тэр. 6 раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС – Быхаўскага, Клімавіцкага, Касцюковіцкага, Краснапольскага, Слаўгарадскага, Чэрыкаўскага. У выданні змешчана гісторыя археал. вывучэння рэгіёна і рэестры помнікаў па кожным раёне, у дадатку – Хартыя па ахове і выкарыстанні археал. спадчыны. Мэта «Свода...» – падрыхтоўка археал. карты Магілёўскай вобл.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998. *А.У.Коласаў.*

**СВЯЦІ́ЛІШЧЫ**, трэбішчы, капішчы, кумірніцы, храмы ідальскія, дахрысціянскія культавыя збудаванні, месцы маленняў і ахвярапрынашэнняў усх. славян і суседніх народаў. Былі С. родавыя, племянныя, часам імі карысталіся некалькі суседніх плямён. Найчасцей С. прысвячаліся Перуну, на іх устанаўлівалі *ідалаў*. Размяшчаліся на ўзвышшах, астравах і мысах сярод балот, на берагах азёр і рэк, зрэдку насыпаліся штучна (круглыя ці авальныя пляцоўкі дыям. 14–30 м з прыўзнятым цэнтрам або ўпадзінай усярэдзіне). Месцам С. былі таксама камяні-*следавікі*, *узгоркі культавыя*, *крыніцы культавыя*. Ушаноўваліся свяшчэнныя дрэвы (асабліва дуб – як дрэва Перуна) і гаі.

С. ўзніклі ў каменным веку. У неаліце некаторыя з іх прасочваюцца археалагічна. Да перыяду энеаліту адносіцца С. ў Сабацінаўцы (Украіна), якое ўяўляла сабой глінабітнае збудаванне пл. 70 м² з вял. печчу, алтаром і гліняным «рагатым тронам». Да сярэдняга перыяду эпохі бронзы належаць 2 С. ў Пустынцы (Украіна, на З ад Чарнігава), пакінутыя насельніцтвам *тшцінецкай культуры*. Адно драўлянае С. мела форму ратонды і было звязана з аграрнай магіяй. Равок унутры ратонды быў запоўнены абломкамі мноства зерняцёрак, попелам і дробнымі кальцыніраванымі косткамі. Знойдзена пасудзіна з адбіткам зярнят і крамянёвы серп. Другое С. – паўзямлянка з гліняным ахвярнікам у цэнтры. Меліся 2 агнішчы і ямкі-пахаванні з косткамі ахвярных жывёл; мяркуецца, што тут стаялі ідалы. Верагодна, што С. такога тыпу існавалі на Пд Беларусі. На Украіне помнікамі абшчыннага культу асобных паселішчаў былі т.зв. попельнікі, якія датуюцца 11–13 ст. да н.э. Найб. раннія з іх узніклі ў белагрудаўскай культуры, насыпаліся і ў скіфскія часы. Попельнікі былі рэшткамі рытуальных вогнішчаў у гонар бога Сонца. У раннім жал. веку на гарадзішчах Украіны былі і глінабітныя ахвярнікі. С. *зарубінецкай культуры* вядомы па раскопках селішча Грудок (Брянская вобл.). Гэта круглая ў плане пабудова дыям. 5 м. Знойдзена егіпецкая пячатка 1–3 ст. н.э. з блакітнай пасты, на ёй выява льва. Побач знаходзілася яшчэ адна пабудова, у якой выяўлены посуд з магічнымі знакамі, прысвечанымі аграрнаму культу. Паводле меркавання Б.А.Рыбакова, тут захоўваўся свяшчэнны посуд, а ў круглым памяшканні адбываліся цырымоніі прыгатавання свяшчэннай стравы. У цэнтры С. быў круглы глінабітны ахвярнік-агнішча. Каля яго стаялі 3 драўляныя ідалы: вял. і 2 меншыя. У цэнтры канічнага даху шырокая дымавая адтуліна. Мяркуецца, што гэта С. было прысвечана жаночаму бажаству – Макошы, якую ў дачыненні да купальскай абраднасці называлі Купалай. 2 меншыя ідалы ўвасаблялі Ладу і Лёлю. На гарадзішчы-сховішчы Тушамля (Смаленская вобл.) у 2-й чв. 1-га тыс. н.э. меласе С. ў выглядзе круглай пляцоўкі дыям. 6 м, абкружанай слупамі, што стаялі з інтэрвалам 20–35 см. У цэнтры агароджы стаяў драўляны ідал гал. бажаства. Захаваліся таксама свяцілішчы 5–7 ст. часоў *банцараўскай культуры* (Смаленская вобл.). У 2-й чв. 1-га тыс. н.э. меласе С. ў выглядзе круглай пляцоўкі дыям. 6 м, абкружанай слупамі, што стаяла з інтэрвалам 20–35 см. У 8–12 ст. былі пашыраны гарадзішчы-С. Найб. вядомае з даследаваных на ўсх.-слав. землях С. – на гары Богіт каля р. Збруч (Украіна).

У Беларусі найб. канцэнтрацыя С. назіраецца ў паласе гал. еўрап. водападзелу. Пра наяўнасць тут С. сведчаць тапонімы Святое возера, Красная гара, Божая горка, Валова гара, Турава гара, Перунова гара, Святы камень, Дажбогаў камень, Змееў камень і інш. Верагодна, што распаўсюджаныя легенды пра ўзгоркі, на якіх стаялі цэрквы або касцёлы, што праваліліся пад зямлю, указваюць пра існаванне ў тых месцах дахрысціянскіх культавых аб'ектаў. Захаваліся легенды пра язычніцкія месцы пакланення на гарадзішчах Войстам (Смаргонскі р-н), Хоўхлава (Маладзечанскі р-н), Свір (Мядзельскі р-н), ахвярнікаў Лоск (Валожынскі р-н), каля в. Рудабелка (Акцябрскі р-н) і інш. Можна меркаваць, што існавала С. (капішча) на месцы пазнейшай царквы ў г. Крычаў. Паводле падання, запісанага ў сяр. 19 ст., каля воз. Валова, што на ўскраіне Полацка, знаходзіліся С. (капішчы) Перуна і Бабы Ягі. Паводле археал. і этнагр. даных можна меркаваць, што С. існавалі каля вёсак Бікульнічы і Турэц 2 Полацкага, Хільчыцы Жыткавіцкага, Радагошча Навагрудскага, Кіявец Крупскага, Лапухова Слонімскага р-наў, г. Косава (ур. Мерачоўшчына) Івацэвіцкага р-на, на востраве воз. Богінскае ў Браслаўскім р-не і інш. Найб. даследаваны С. *«Дзявочая гара»*, *Верхаўлянскае свяцілішча*, *Крамянецкае свяцілішча*, *Гудавіцкае свяцілішча*, *Ходасавіцкае свяцілішча*. Пасля прыняцця хрысціянства многія С. былі прыстасаваны да патрэб царквы і набылі функцыі *прошчаў*, у сувязі з чым частка іх у рэліктавай форме захавалася да 20 ст.

*Літ.*: Куза А.В., Соловьева Г.Ф. Языческое святилище в земле радимичей // СА. 1972. № 1; Рыба-

к о в Б.А. Язычество Древней Руси. М., 1987; Я г о ж. Язычество древних славян. М., 1981; С е д о в В.В. Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982.

*Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі, Э.А.Ляўко.*

**СВЯЦІ́ЦА**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Свяціца Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. У 2006 выявілі і абследавалі В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.

С т а я н к а - 1 за 0,15 км на ПдУ ад вёскі, 0,5 км на Пд ад грунтавой дарогі з вёскі ў бок р. Шчара і Агінскага канала, на развораным участку б. стараж. вадаёма «Забеседка». На авальным ў плане пясчаным узвышшы памерамі каля 100 × 140 м і выш. да 1,8–2 м над тарфянікам, які прымыкае да яго з З, захаваўся культ. пласт да 0,3 м. На паверхні знойдзены крамянёвая канкрэцыя з негатывамі адзінкавых сколаў, 3 адшчэпы, пласціна, фр-т серпападобнага нажа, 2 фр-ты ганчарных сценак. Датуецца эпохай мезаліту і неаліту (яніслаўіцкая і нёманская культуры)

М е с ц а з н а х о д ж а н н е - 2 каменнага веку за 0,2 км на ПдУ ад вёскі, 0,2–0,4 км на Пд ад грунтавой дарогі з вёскі ў бок р. Шчара і Агінскага канала, на Пн ад стаянкі 1 на развораным участку б. стараж. вадаёма «Забеседка», на невял. пясчаным узвышшы. Культ. пласт разворваецца. На паверхні знойдзены крамянёвыя масіўны адшчэп і пласціна.

С т а я н к а - 3 за 1,3 –1,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Грады (група пясчаных узвышшаў), на дзюне парабалічнай формы, якая прымыкае да левага берага Свяціцкай канавы. Паўд. схіл выш. да 3 м, шыр. 50 м і даўж. 120 м. Культ. пласт да 0,3 м. На развораных участках знойдзены крамянёвыя адшчэпы, абломкі, пласціны, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, некалькі фр-таў ганчарнай keramікі. Датуецца 4 –3-м тыс. да н.э. (нёманская неалітычная культура).

С т а я н к а - 4 за 1,3 км на ПдУ ад вёскі, на Пн ад стаянкі 3 ва ўр. Грады, на правабярэжжы Свяціцкай канавы, на акруглым у плане пясчаным узвышшы памерамі каля 100 × 150 м і выш. над тарфянікамі да 2 м. Культ. пласт да 0,3 м. Паверхня разворваецца. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, у т.л. пласціністыя, луска, абломкі, пласціны, нуклеус, скрабок, наканечнік стралы, фр-ты серпападобнага нажа, рэтушаваная пласціна, фр-т ляпной ранне- і познанеалітычнай керамікі. Датуецца эпохай мезаліту і неаліту (яніслаўіцкая, прыпяцка-нёманская і нёманская культуры).

*В.Л.Лакіза.*

**СЕВЯРА́НЕ**, назва ўсходнеславянскіх плямён, якія ў к. 1-га тыс. н.э. жылі ў басейнах рэк Дзясна, Сейм, Сула, Ворскла, Псла, Паўн. Данец. Межавалі на З з палянамі і *дрыгавічамі,* на Пн з *радзімічамі* і *вяцічамі*, на У і Пд з качавымі плямёнамі. Для 8 –10 ст. характэрны помнікі валынцаўскага тыпу і *роменскай культуры*: бескурганныя і курганныя могільнікі з трупаспаленнем, гарадзішчы і селішчы з ляпной і ганчарнай керамікай, для к. 10–12 ст. – курганныя могільнікі з трупапалажэннем на гарызонце галавой на З. Характэрныя племянныя адзнакі – спіралепадобныя і прамянёвыя скроневыя кольцы, пласціністыя галаўныя венчыкі. У 8 – пач. 9 ст. плацілі дань хазарам. У к. 9 ст. заходнія С. разам з палянамі ўвайшлі ў склад Кіеўскай Русі, усх. С. захоўвалі адносную аўтаномію да к. 10 ст. У 11–12 ст. С. склалі значную частку насельніцтва Чарнігаўскага княства.

*Літ.*: С а м о к в а с о в Д. Северянская земля и северяне по городищам и могилам. М., 1908; Р ы б а к о в Б.А. Поляне и северяне: (к вопр. о размещении летописных племен на Среднем Днепре) // СА. 1947. № 6–7; С е д о в В.В. Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982.

*А.А.Макушнікаў.*



*А.А.Седзін.*

**СЕ́ДЗІН** Анатоль Аляксеевіч (н. 22.10.1958, в. Заазер'е Лепельскага р-на Віцебскай вобл.), беларускі археолаг. Скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т імя А.А.Куляшова (1984). З 1984 супрацоўнік Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея імя Е.Р.Раманава, у т.л. заг. сектара, аддзела, намеснік дырэктара па навук. рабоце, з 2004 вучоны сакратар. Вывучае старажытнасці 3-й чв. 1-га тыс. міжрэчча верхняга Сажа і Дняпра. Даследаваў гарадзішчы і селішчы *Затоны, Княжыцы, Курганне, Нікадзімава, Палыкавічы 1, Пруды, Селішча, Царковішча.* На гарадзішчы Нікадзімава атрымаў багацейшы комплекс рэчавых крыніц і інш. матэрыялаў эпохі вялікага перасялення народаў. Выявіў, абследаваў і ўвёў у навук. абарот раней невядомыя помнікі. Распрацаваў і рэалізаваў (у т.л. па матэрыялах уласных археал. даследаванняў) навук. праект экспазіцыі Магілёўскага абл. краязнаўчага музея «Археалогія і старажытная гісторыя Магілёўшчыны», археал. выстаўкі «Новыя старонкі сівой даўніны». Адказны рэдактар гісторыка-краязнаўчага зборніка *«Магілёўшчына»*, адзін з аўтараў тэлевізійных праектаў пра гарадзішча Нікадзімава і інш. археал. старажытнасці.

*Тв.*: Оружие из городища Никодимово // V абласныя Магілёўскія краязнаўчыя чытанні. Магілёў, 1994; Древнее земледелие и скотоводство по материалам раскопок городища Никодимово // Археалогія і старажытная гісторыя Магілёўшчыны і сумежных тэрыторый. Магілёў, 1994; Древности третьей четверти I тысячелетия н.э. Белорусского междуречья Верхнего Сожа и Днепра и тушемлинская культура // Минск–Смоленск–Москва: этнография славянских народов. Смоленск, 2000; Общественные отношения и идеология населения Восточной Беларуси в V–VII вв. // Проблемы археологии и древней истории Верхнего Поднепровья и соседних территорий. Могилев, 2002; Новые материалы эпохи великого переселения народов из Днепровско-Сожского междуречья // Романовские чтения. Могилев, 2004; Городища окрестностей Могилева // Гістарычнае і сацыякультурнае развіццё Магілёва. Магілёў, 2007; Научная концепция экспозиции «Археология и древняя история Могилевщины» // Магілёўшчына, 2007. Вып. 9.

**СЕ́ЛІШЧА**, археалагічны помнік – курганнажальнічны могільнік каля в. Селішча Лагойскага р-на Мінскай вобл. За 0,3 км на У ад вёскі, у лесе. Захавалася 68 каменных кургаnoў выш. 0,3–1 м, дыям. 5–6 м, адзін выш. 2 м і дыям. 7 м. Вакол насыпаў прасочваюцца раўкі. У 1858 К.Тышкевіч даследаваў 8 курганоў. У адным пахаванні знойдзены 2 ромбашчытковыя скроневыя кольцы, 2 зааморфныя бранзалеты, падвескі (лыжычка і конік), пярсцёнкі, бразготкі, бронзавыя і шкляныя пацеркі. У 1979 абследаваў М.І.Лашанкоў, у 1999, 2003–04 Л.У.Дучыц даследавала 12 насыпаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,7–1 м, галавой на З, на Пн. Адно пахаванне па абраду трупаспалення ў яме. Пахавальны інвентар: бранзалета- і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, дротавы бранзалет з завужанымі канцамі, білонныя бразготкі, алавяныя трубачкі і бляшкі, віты бронзавы пярсцёнак, жал. нажы (адзін у драўляным футарале, абцягнутым скурай), шкляныя пацеркі. Захаваліся мелкія кавалачкі ільняной тканіны і фр-ты скураной абшыўкі адзення. Датуецца 11 ст. Пад дзірваном на схіле аднаго з курганоў выяўлены фр-ты глінянага посуду 16 ст.

*Літ.*: Тышкевич К. О курганах в Литве и Западной Руси. Вильна, 1865; Раскопкі курганных могільнікаў каля вёсак Селішча і Дубніца Лагойскага р-на // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20. *Л.У.Дучыц.*

**СЕ́ЛІШЧА**, археалагічны помнік – гарадзішча ранняга жалезнага веку і перыяду Стараж. Русі каля в. Селішча Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

За 1,5 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бася, за 0,1 км ад рэчышча. Мясц. назва – Гарадок, Лысая гара. Пляцоўка чатырохвугольная, памер 50 × 45 м, вышыня над падножжам 11–18 м, над узроўнем вады ў рацэ 22–29 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй да 3 м і ровам, прасочваюцца дадатковыя аплыўшыя валы. Выявілі ў 1982 В.Ф.Капыцін і В.Я.Мядзведскі, даследаваў А.А.Седзін (54 м²). Зафіксаваны каменныя вымукоўкі, 19 авальных і круглых ям.

У культ. пласце знойдзены бронзавае вітое кольца і трапецападобная падвеска, фр-ты ляпнога (гладкасценнага, пакрытага штрыхоўкай і з зашчыпамі на венчыках) і круглага посуду з утрыманнем жарствы, косткі свойскай (буйная і дробная рагатая жывёла, свіння, конь) і дзікай жывёлы (бабёр). Астэалагічны матэрыял даследавала В.В.Шчаглова. *А.А.Седзін.*

**СЕ́ЛІШЧА ВЯЛІ́КАЕ**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля в. Селішча Вялікае Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 каменнага веку і сярэдневяковае селішча на ўсх. ускраіне вёскі на краі правабярэжнай тэрасы р. Лясная Правая. Выявіў В.Г.Белявец. Абследавалі ў 2007 В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец, А.Г.Калечыц. Сабраны крамянёвыя адшчэпы, пласціны, нуклеус, рэтушор, трапецыя і рэтушаваная мікрапласціна, фр-ты кругавой керамікі, металічных вырабаў.

П а с е л і ш ч а - 2 каменнага веку і сярэдневякоўя за 0,7–0,8 км на ПнУ ад вёскі на пясчаным узвышшы левабярэжнай поймы р. Лясная Правая. Выявіў і абследаваў у 2007 В.Л.Лакіза. Знойдзены 6 крамянёвых пласцін, 6 адшчэпаў, фр-т нуклеуса, скрабок, серпападобны нож, фр-ты ляпной неалітычнай керамікі і кругавой керамікі.

П а с е л і ш ч а - 3 каменнага веку за 0,2–0,3 км на З ад паселішча-2, на пясчаным узвышшы левабярэжнай поймы р. Лясная Правая, за меліярацыйнымі каналамі. Выявіў і абследаваў у 2007 В.Л.Лакіза. Знойдзены 5 крамянёвых адшчэпаў, 5 пласцін, 2 абпаленыя абломкі, трохвугольны наканечнік стралы, апрацаваны рэтушшу, 5 фр-таў ляпной познанеалітычнай керамікі. Адносіцца да нёманскай археал. культуры і кола культуры шнуравой керамікі, датуецца познім неалітам (3-е – пач. 2-га тыс. да н.э.).

*Літ.*: Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2009. *В.Л.Лакіза.*

**СЕ́ЛІШЧА МАЛО́Е**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля в. Селішча Малое Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 на паўн.-зах. ускраіне вёскі, на краі тэрасы р. Лясная Правая (старыцы). Выявіў і даследаваў 6 м² у 2007 В.Л.Лакіза, у 2010 – 12 м² А.Ю.Ткачоў. Культ. пласт 0,3–0,4 м з рэшткамі гасп. ям. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы і пласціны, фр-т нуклеуса, венчык і сценкі ляпнога посуду кола культуры шнуравой керамікі позняга неаліту, фр-т сітападобнай пасудзіны бронзавага веку, фр-ты кругавога посуду сярэдневякоўя, жал. вырабы. Матэрыялы адносяцца да неаліту і бронзавага веку, эпохі сярэдневякоўя.

П а с е л і ш ч а - 2 за 140 м на У ад паселішча-1, на краі правабярэжнай тэрасы р. Лясная Правая (забалочанай старыцы). Выявіў і даследаваў 2 м² В.Л.Лакіза у 2007, А.Ю.Ткачоў 10 м² у 2010. У культ. пласце таўшч. да 0,3 м знойдзены фр-ты ляпнога посуду з мінеральнымі дамешкамі і выразна заштрыхаванымі паверхнямі, арнаментаванага адбіткамі лінейнага штампа і скразнымі адтулінамі позняга этапу нёманскай неалітычнай культуры, крамянёвыя вырабы і прылады працы, абломкі сярэдневяковага кругавога посуду.

П а с е л і ш ч а - 3 за 140–160 м на ПнЗ ад паселішча-2, на краі правабярэжнай тэрасы р. Лясная Правая. Выявіў В.Г.Белявец. Даследавалі ў 2007 В.Л.Лакіза (15 м²), у 2010 А.Ю.Ткачоў (21 м²). Знаходкі сканцэнтраваны на пляцоўцы памерамі 60 × 70 м. Культ. пласт ад 0,3–0,4 м да 0,6–1 м у аб'ектах (ямы, агнішча). Ляпная кераміка з дамешкамі розназярністай жарствы, паверхні злёгку ці выразна заштрыхаваны. Частка посуду арнаментавана адбіткамі лінейнага, падтрохвугольнага штампаў, адступаючымі здвоенымі адбіткамі ко-



*Агульны выгляд раскопу паселішча-3* ***Селішча Малое.***

са пастаўленага лінейнага штампа, паралельнымі гарызантальнымі і косапастаўленымі шнуравымі адбіткамі, наразным арнаментам. Матэрыялы адносяцца да позняга неаліту, у т.л. да кола культуры шнуравой керамікі, таксама да бронзавага веку (верагодна, лужыцкай культуры). Кругавая кераміка стараж.-рус. часу і позняга сярэдневякоўя. Сярод крамянёвых знаходак адшчэпы і пласціны, у т.л. з участкамі рэтушы, нуклеусы, трапецыі, трохкутнікі, вастрыі, мікрапласціны рэтушаваныя, праколкі, нажы, скрабкі, трохвугольны наканечнік стралы. Помнік датуецца мезалітам (*яніслаўіцкая культура*), неалітам (*нёманская культура*, кола культуры шнуравой керамікі), познім перыядам бронзавага – раннім перыядам жал. веку (*лужыцкая культура*), таксама эпохай сярэдневякоўя.

*Літ.*: Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2009.

*В.Л.Лакіза, А.Ю.Ткачоў.*

**СЕМЯНТО́ЎСКІ** (Семянтоўскі-Курыла) Аляксандр Максімавіч (1821, Палтаўшчына, Украіна – 1893), беларускі і рускі археолаг, краязнавец, этнограф, фалькларыст. Скончыў Нежынскі ліцэй (1840), быў на ваеннай службе, потым працаваў ляснічым. У Беларусі пасяліўся напярэдадні паўстання 1863–64. У 1860–62 сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага к-та, рэдактар неафіцыйнай часткі «Витебских губернских ведомостей», пазней рэдактар «Памятной книжки Витебской губернии». З 1882 жыў у сваім маёнтку Ражанішчына пад Полацкам. Займаўся этнаграфіяй, гісторыяй, геаграфіяй Беларусі, пераважна Віцебшчыны. Па просьбе Пецярбургскай АН выяўляў і вывучаў помнікі археалогіі. Асабіста раскопкамі не займаўся, але сачыў за даследаваннямі бел. археолагаў. Шэраг навук. прац прысвяціў Беларусі. Апісаў гісторыю Віцебскай губ., *Барысавы камяні*, Віцебскую Благавешчанскую царкву, Полацкі Сафійскі сабор, сабор у Бельчыцах, крыж Лазара Богшы, стараж. помнікі, археал. знаходкі і інш. Сабраў звесткі пра 30 замкаў і замчышчаў, больш за 1200 земляных насыпаў Віцебшчыны. Вёў улік помнікаў па кожным павеце і фіксаваў іх на археал. карце Віцебскай губ. Упершыню правёў класіфікацыю археал. аб'ектаў паводле іх прызначэння. На карту Віцебскай губ. нанёс межы этнічнага расселення ў краі. У манаграфіі змясціў 106 малюнкаў аб'ектаў старажытнасцей. Запісваў фальклор, творы ананімнага паходжання. Апублікаваў першае «Старажытнае апісанне Віцебскай губерні ў лясных адносінах» (1862). У пытаннях этнагенезу беларусаў прытрымліваўся вялікадзярж. поглядаў.

*Тв.*: Памятники старины Витебской губернии. Санкт-Петербург, 1867; Там жа. Этнографический обзор Витебской губернии, 1872; Там жа. Белорусские древности. Вып. 1, 1890.

*Літ.*: Каханоўскі Г.А. Прадвесне навукі. Мінск, 1990.

*Г.А.Каханоўскі.*



*І.А.Сербаў.*

**СЕМЯНЧЎК** Генадзь Мікалаевіч (н. 6.10.1963, г. Ваўкавыск Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1993), дацэнт (1994). Скончыў Гродзенскі ун-т (1985). У 1990–91 у ІГ НАН Беларусі. З 1991 у Гродзенскім ун-це, з 2006 чл. Еўрап. археал. асацыяцыі. Вывучае сацыяльна-палітычную гісторыю Беларусі 6–16 ст., археалогію сярэдневяковага перыяду, культуру Гродзенскага рэгіёна. Даследаваў грунтавыя могільнікі Казлоўцы (Мiёрскі р-н) і Пашавічы–Дрысвяты (Браслаўскі р-н), курганныя могільнікі Гатовіна (Мінскі р-н), Дзмітроўшчына, Мінтурова і Чарнаполіца (Полацкі р-н), сярэдневяковы комплекс на воз. Дрысвяты, гарадзішчы Замкавая гара ў Браславе і Межаве (Расонскі р-н). Праводзіў выратавальныя археал. раскопкі ў Гродне (2002–06). Выявіў гар. могільнік 13–15 ст. Ваўкавыска, месцазнаходжанне сядзібы А.Міцкевіча 18 – пач. 19 ст. ў Завоссі (Баранавіцкі р-н). Чытаў лекцыі па археалогіі Усх. Еўропы ў Ін-це прагісторыі ун-та імя А.Міцкевіча ў Познані (1998), Ін-це этналогіі і культ. антрапалогіі Ягелонскага ун-та ў Кракаве (2008–09). Адзін з аўтараў навучальнага дапаможніка «Археалогія Беларусі» (ч. 1–2, 1996–97).

*Тв.*: Вынікі археалагічных даследаванняў у месцах, звязаных з жыццём Адама Міцкевіча (Завоссе, Туганавічы) // Adam Mickiewicz: Pamiętnik konferencji w Nowogródku 22–25 czerwiec 1992 rok. Sankt-Petersburg, 1993; Grodno w średniowieczu i w czasach nowożytnych (w świetlie źródeł archeologicznych) // Archeologia Historica Polona. Toruń, 1996. № 3; Полацкая зямля ў сістэме палітычных адносін Усходняй Еўропы IX–XI стст. // Беларусіка-Albaruthenica. Матэрыялы II Міжнароднага кангрэсу беларусістаў. Мінск, 1997. Кн. 7, ч. 2; Полацк і Ноўгарад у IX–XIII ст. // Там жа. Матэрыялы 3 Міжнароднага кангрэсу беларусістаў. Мінск, 2001. Кн. 21; Культавая архітэктура Гродзеншчыны канца XVIII – пачатку XX стст. // Каштоўнасці мінуўшчыны – 3: помнікі культавага дойлідства на Беларусі. Мінск, 2000 (у сааўт.); Раннесредневековый археологический комплекс Дрисвяты // Lietuvos Archeologija. Vilnius, 2001. Т. 21; Курганны могільнік каля в. Гатовіна Мінскага раёна // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Раннесярэднявечны грунтовы могільнік Дрысвяты–Пашавічы // Там жа. Мінск, 2002. № 17; Да праблемы генезісу і функцыянальнага прызначэння раннесярэднявечных умацаваных паселішчаў-замкаў на тэрыторыі Беларусі // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Генезіс беларускіх гарадоў у раннім сярэднявеччы (IX–XIII стст.) // Гісторыя і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі. Гродна, 2009. *А.А.Мяцельскі.*

**СЕ́НІЦА**, С е н н і ц а , курганны могільнік *дрыгавічоў* (зараз у межах Мінска) каля в. Сеніца Мінскага р-на. Захавалася 12 насыпаў (было 27) выш. 2 м, дыям. 8–10 м. У 1892 адкрыў Г.Х.Татур, даследавалі ў 1929 А.Рынейскі, у 1974 археал. экспедыцыя БДУ, у 1977 абследаваў В.Е.Собаль. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. Знойдзены бронзавыя бочачкападобныя буйназярнёныя філіграныя пацеркі, драцяны пярсцёнак, падвеска, фр-ты ганчарнага посуду з хвалістым арнаментам і са страж.-рус. клеймамі на дне. Датуецца 11–13 ст.

*Літ.*: Т а т у р Г.Х. Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ее археологическое значение. Минск, 1892.

**СЕНЧУКІ́**, археалагічны помнік – курганны могільнік 10 – пач. 11 ст. каля в. Сенчукі Талачынскага р-на Віцебскай вобл. За 500 м на У ад гарадзішча страж. Друцка, на левым беразе р. Друць. У 1873 было 48 насыпаў выш. 1–2 м, дыям. 7–10 м. Абследавалі ў 1921 А.Дз.Каваленя, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 В.М.Ляўко. У 1961–62 Л.В.Аляксееў раскапаў 3 курганы (з 8, якія захаваліся на той час). У адным кургане знаходак не выяўлена. У 2 курганах пахаванні па абраду трупаспалення. У адным з іх выяўлена пахаванне на падсыпцы таўшч. 0,6 м, 6 ганчарных урнаў, запоўненых дробнымі кальцыніраванымі касцямі чалавека. Напачатку пасудзіны размяшчаліся вертыкальна ўнутры драўлянага зруба (0,7 × 0,7 м), складзенага з бярвён у адзін вянок. За 1,3 м на У ад зруба на тым жа ўзроўні знойдзена яшчэ адна пасудзіна – гаршчок. У другім кургане ў попельнавугальным пласце выяўлены 2 месцазнаходжанні касцей: на глыб. 0,7–0,75 м з 2 цэлымі гаршкамі, фр-тамі 3 інш. пасудзін. Тут жа знойдзены 2 фр-ты жал. скроневых кольцаў, пацеркі. Абодва пахаванні былі на пляцоўках з абпаленай гліны таўшч. 4 см. Могільнік знішчаны ў 1978–79 пры меліярацыйных работах. Гл. таксама *Друцкія могільнікі.*

*Літ.*: Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Изв. императорской Археол. комиссии. Санкт-Петербург, 1903. Вып. 5; К а в а л е н я А.Дз. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы. Т. 3; А л е к с е е в Л.В., С е р г е е в а З.М. Раскопки курганов в Восточной Белоруссии // КСИА. 1973. Вып. 135. *В.М.Ляўко.*

**СЕ́РБАЎ** Ісак Абрамавіч (25.5.1871, в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл. – 21.1.1943), беларускі этнограф, фалькларыст, археолаг. Правадзейны чл. Інбелкульта (1922). Канд. гіст. навук (1934). Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю (1892), Маскоўскі археал. ін-т (1918). Працаваў настаўнікам у Мінску, Гомелі, Вільні, Троках, Хоцімску, Стоўбцах. У 1910–12 як чл. Паўн.-Зах. аддзела Рус. геаграфічнага т-ва наладзіў шэраг экспедыцый па Беларусі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 заг. аддзела нар. асветы ў г. Сальцы Наўгародскай губ., у 1919–21 працаваў у аддзелах нар. асветы Магілёўскай і Гомельскай губерняў, удзельнічаў у рабоце па зборы і ахове помнікаў мастацтва і гісторыі. З 1923 выкладчык, заг. кафедры ў БДУ. Супрацоўнік камісій (гіст.-археал. і па ахове помнікаў старажытнасці), з 1925 сакратар секцыі этнаграфіі Інбелкульта. З 1929 вучоны сакратар кафедры этнаграфіі БДУ, старшы навук. супрацоўнік секцыі этнаграфіі і фальклору ІГ АН БССР. У Вял. Айч. вайну выкладчык Тамбоўскага педагагічнага

ін-та. З 1900 вывучаў побыт, матэрыяльную культуру, вусна-паэтычную і музычную творчасць бел. народа. Сабраў багатыя калекцыі нар. адзення і мастацтва, на аснове якіх выдадзены альбом «Беларускае народнае мастацтва» (1951). Першым з бел. этнографаў стварыў вял. фотатэку (каля 5 тыс. фотаздымкаў), у якой зафіксаваны тыпы адзення жыхароў розных куткоў Палесся, жылля, гасп. пабудоў, вырабы рамёстваў і інш. Сабраныя этнаграфічныя матэрыялы і назіранні абагульніў у працах «Сяло Вялікае: малюнкі з жыцця Беларусі» (1910), «Паездкі па Палессі 1911 і 1912 гг.» (1914), «Беларусы-сакуны» (1915). У 1924–25 у час працы ў навук.-экспертнай камісіі Наркамасветы БССР склаў апытальны ліст пра помнікі археалогіі, стварыў карткавы каталог і карты археал. помнікаў. У 2-й пал. 1920-х г. правёў раскопкі грунтавога могільніка калочынскай культуры 5–8 ст. каля Новага Быхава; даследаваў курганы дрыгавічоў (каля Мінска і Мазыра), радзімічаў (каля Новага Быхава, у басейнах рэк Проня і Ухлясць), крывічоў (па р. Ушача). Вывучыў каля 100 насыпаў, абследаваў і апісаў больш за 30 гарадзішчаў, селішчаў і стаянак.

*Тв.:* Археалагічныя раскопкі ў ваколіцах Менску ў 1925 годзе // ГАЗ. Мінск, 1927. № 1; Археалагічныя помнікі Ушацкага раёну Полацкай акругі // Працы. Т. 2; Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні–Ухлясці ў Магілёўшчыне // Працы. Т. 3. *В.С.Вяргей.*

**СЕРП**, рэжучая прылада для жніва. Паявіўся з узнікненнем земляробства ў развітым неаліце. У 5–4-м тыс. да н.э. С. былі складанымі, іх рабілі з некалькіх крамянёвых пласцін. Пазней яны былі ўдасканалены і з 3-га тыс. да н.э. сталі суцэльнымі. У неаліце і бронзавым веку С. былі даўж. 5–16 см, шыр. 2–5 см. З 7–6 ст. да н.э. на Пд тэр. Беларусі С. сталі вырабляць з жалеза.

На гарадзішчы Гарошкаў Рэчыцкага р-на ў скарбе с.-г. прылад працы, які датуецца 4–3 ст. да н.э., знойдзены 3 жал. С. На Пн і ў цэнтры Беларусі, дзе жалеза сталі апрацоўваць пазней, жал. С. адносяцца да 4–1 ст. да н.э. (гарадзішча *Банцараўшчына*). С 10–13 ст. вызначаюцца дасканаласцю форм, больш за ўсё іх знойдзена пры раскопках гарадоў (Мінск – 18 экз., Брэст – 10, Гродна – 5, Ваўкавыск – 3, Тураў, Навагрудак, Давыд-Гарадок – па 2, Пінск, Друцк, Чачэрск – па 1 экз.); 14 экз. знойдзена пры раскопках паселішчаў і курганоў. Іх даўж. 19–33 см, шыр. 4–15 см. Выраблялі С. або цалкам з жалеза ці сталі, або дзяржанне з жалеза, а лязо – са сталі (найб. пашыраны метад). Удасканаленыя формы С. паявіліся адначасова ў гарадах і сельскай мясцовасці. На паселішчы *Хотамель* Столінскага р-на знойдзены С. 10 ст., аналагі якому вядомы ў 11–12 ст. у Мінску, Ваўкавыску, Навагрудку і інш. У Гродне ў жытле 11–12 ст., якое загінула ад пажару, у скарбе с.-г. прылад выяўлены 3 С., у Полацку знойдзены С. 11 ст., які ў складзеным выглядзе можна было насіць на поясе. Многія С. мелі насечкі на лязе, што павялічвала іх вытворчыя якасці.

*Літ.:* Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1–2. Минск, 1970–72; Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII–VI вв. до н.э. – VIII в. н.э.). Минск, 1978; Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X–XIII вв. Минск, 1979.

*Т.М.Каробушкіна.*

**СІДАРО́ВІЧ** Віталь Міхайлавіч (н. 28.10.1973, г. Прыазёрск Карагандзінскай вобл., Казахстан), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1996). У 1995–2008 працаваў у Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі, адначасова з 2001 заг. вучэбнай лабараторыі музейнай справы ў БДУ. Адзін з арганізатараў выставак «Ля вытокаў беларускай археалогіі», «Шляхамі ў вечнасць», «Вікінгі на Усходзе», «Касцярэзнае рамяство Беларусі». Укладальнік і намеснік гал. рэдактара навук. выдання па археалогіі Беларусі і сумежных краін «Acta archaeologica Albaruthenica». Прымаў удзел у раскопках гарадзішчаў *Зазоны*, *Рацюнкі*, селішча *Пруднікі*, археал. помнікаў каля в. *Кавальцы*. Праводзіў раскопкі паселішчаў *Грыўковічы*-2, *Дакудава*-5, Кавальцы-4 і Кавальцы-5 (1-ГЭС). Вывучае тапаграфію знаходак антычных манет на тэр. Беларусі.

*Тв.:* Выпадковыя знаходкі каменнага і бронзавага вякоў (паступленні ў збор Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі ў 1993–2004 гг.) // Музейны веснік. Мінск, 2005. Вып. 2; Кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку з паселішча Дакудава 5 (раскопкі 1998, 1999 і 2004 гадоў) (разам з В.Л.Лакізам)// ААА. 2007. Vol. 1; Находки римских монет середины 3–4 вв. на территории Беларуси // Numizmatika. Bratislava; Humenné, 2008. № 22. *М.А.Плавінскі.*

**СІЗО́Ў** Уладзімір Ільіч (1840, Масква – 1.11.1904), рускі археолаг. Скончыў Маскоўскі ун-т (1865). Выкладаў гісторыю, з 1878 цалкам прысвяціў сябе археалогіі. Адзін з заснавальнікаў Дзярж. Гіст. музея ў Маскве, вучоны сакратар (1881–1904). З 1877 чл. Маскоўскага археал. т-ва. У 1881–1903 з невял. перапынкамі праводзіў сістэматычныя раскопкі курганных могільнікаў і разведкі ў Смаленскай губ. Ажыццявіў значныя па маштабах даследаванні Гняздоўскага курганнага могільніка. Праводзіў раскопкі на Кубані (1882, 1886, 1888), Доне, у Крыме (1884), на Чарнаморскім узбярэжжы Каўказа (1886), Дзякоўскім гарадзішчы пад Масквой (1889–90, 1993), Люцынскім могільніку ў Латвіі (1891). У 1890 даследаваў курганы каля вёсак Іпалітаўка (Нова-бляяеўка) на Гомельшчыне, Красная Слабада і Туравічы на Магілёўшчыне. Прымаў удзел у 9-м Археал. з'ездзе ў Вільні. Першым пачаў вывучэнне доўгіх курганоў.

*Тв.:* Дьяково-городище близ Москвы // Тр. IX АС. М., 1897. Т. 2; Длинные курганы в Смоленской губернии // Там жа. М., 1902. Т. 2; Курганы Смоленской губернии. Ч. 1. Гнездовский могильник близ Смоленска // Материалы

по археологии России. Санкт-Петербург, 1902. № 28.

*Літ.*: Анучин Д.Н. Памяти В.И. Сизова // Древности: тр. Московского археол. о-ва. М., 1906. Т. 21, вып. 1. *М.А.Плавінскі.*

**СІМАНАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – селішчы і бескурганны могільнік каля в. Сіманавічы Глускага р-на Магілёўскай вобл.

Селішча-1 на ўсх. ускраіне вёскі, ва ўр. Цямшава Поле, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Пціч, абмежавана ручаём. Выявіў у 1930 А.Рынейскі, у 1964 абследаваў Л.Д.Побаль. У 1987, 1989–90, 1997–99 Н.М.Дубіцкая даследавала 535 м². Культ. пласт 0,2–0,9 м. Першапачаткова на гэтым месцы было паселішча эпохі бронзы. Другі этап засялення адносіцца да 2-й чв. 1-га тыс. н.э. Выяўлены рэшткі 3 наземных і адной паглыбленай ў мацярык пабудовы. У наземных пабудовах захаваліся рэшткі агнішчаў каменнага і з прыпачажнай ямай. Знойдзены ляпныя гаршкі, міскі, мініяцюрныя пасудзіны: гладкасценныя (82%), са штрыхоўкай (15%), расчосамі (1,5%), глянцаваннем (у асн. міскі, 1–2%). Частка посуду арнаментавана насечкамі і ўціскannямі па краі венца. Выяўлены разнастайныя бытавыя рэчы (жал. нажы, шыла, зубіла, рыбалоўны кручок, фр-ты спражак), упрыгажэнні (бронзавыя пранізка і кольца, жал. посахападобная шпілька), гліняныя тыглі, льячкі, праслíцы, шкляныя пацеркі з жоўтага глухога шкла з выпуклымі сінімі вочкамі з белай акантоўкай (сяр. 2 – пач. 3 ст.) і залачоная (3 – сяр. 5 ст.). Да трэцяга этапу засялення 11–16 (17) ст. належаць кругавыя гаршкі і міскі, фр-т ювелірнай ліцейнай формачкі з ружовага сланцу (12–13 ст.), солід (1666).

Селішча-2 на ўсх. ускраіне вёскі, ва ўр. Селішча, на Пн ад ур. Цямшава Поле, на 1-й надпоймавай тэрасе р. Пціч. У 1964 абследаваў Л.Д.Побаль, у 1987 Н.М.Дубіцкая даследавала 16 м². Знойдзены фр-ты ляпнога (2-я і 3-я чв. 1-га тыс.) і кругавога (11–12 і 14–16 ст.) посуду.

Бескурганны могільнік на Пн ад селішча-1, ва ўр. Цямшава Поле, на левым беразе ручая. Выявіў у 1930 А.Рынейскі. Абследавалі ў 1964 Л.Д.Побаль, у 1987 Н.М.Дубіцкая. Знойдзены кальцыніраваныя косткі, абломкі ляпных пасудзін, крамянёвыя наканечнік стралы эпохі бронзы і адшчэпы. Побач, на беразе р. Пціч захаваліся 2 курганы стараж.-рус. часу.

*Н.М.Дубіцкая.*

**СІЎКАВА**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, селішча эпохі сярэдневякоўя каля в. Сіўкава Гродзенскага р-на.

Першыя помнікі ў ваколіцах вёскі выяўлены ў сяр. 20 ст. Прыбалтыйскай археал. экспедыцыяй. На правым беразе р. Нёман знойдзены фр-ты кругавога посуду з хвалістым і лінейна-хвалістым арнаментам. У 1999 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза лакалізавалі паміж паўн.-зах. канцом вёскі і краем высокай тэрасы, абмежаванай з У вял. ярам, шматкультурны помнік (памерамі каля 70 × 100 м) з крамянёвымі матэрыяламі фінальнага палеаліту і бронзавага веку, ляпной і ганчарнай керамікай бронзавага веку і сярэдневякоўя.




*Да арт. **Сіўкава**. Крамянёвыя вырабы са стаянкі-1.*

Стаянка і селішча 1-ГЭС паміж в. Сіўкава і ўзбярэжжам Нёмана, паўн. і паўд. ярамі, на надпоймавай тэрасе. Помнік выцягнуты з ПнЗ на ПдУ, даўж. каля 200 м, шыр. да 60 м. Выявілі ў 2003 В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі ў час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС. Культ. пласт да 0,4 м. У 2008 пасля дадатковага абследавання помніка В.Л.Лакіза даследаваў 2 раскопамі мяркуемыя цэнтр. (бліжэй да паўн. яра, 88 м²), паўд. і паўд.-ўсх. (48 м²) часткі паселішча. Да раскопак культ. пласт быў неаднаразова пашкоджаны разнастайнымі гасп. і землянымі работамі. Знойдзена 210 артэфактаў, якія раўнамерна размяшчаліся па плошчы раскопу, з іх 155 – крамянёвыя вырабы без дадатковай другаснай апрацоўкі (абломкі, адшчэпы, пласціны, нуклеус, крамянёвы адбойнік, скол ажыўлення пляцоўкі нуклеуса, 3 скрабкі на адшчэпах, праколка-нож, скобель, праколка, адшчэп з участкамі падрэтушоўкі і інш.); 4 фр-ты жал. невызначаных вырабаў; 36 фр-таў ганчарнай керамікі. Помнік датуецца неалітам–бронзавым векам, а таксама эпохай сярэдневякоўя і Новага часу.

*Літ.*: Гурсвич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Археалагічнае абследаванне ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19.

*В.Л.Лакіза.*

**СКАБЯНЫЯ ВЫРАБЫ**, вырабы з чорнага металу, якія выкарыстоўваліся для мацавання канструкцыйных драўляных элементаў. Сярод С.в. вылучаюцца цвікі, скобы, прылады для дзвярэй, акон, мэблі. Найб. колькасць цвікоў адносіцца да катэгорыі буд.-мацавальных, памерамі 5–15 см. Такія цвікі ўжываліся пры ўзвядзенні драўляных пабудоў, вырабе трун. Асобную групу складаюць дэкаратыўныя цвікі, у якіх плешкам надавалася адмысловая форма. Цвікі са сплошчанымі плешкамі (ухналі) прызначаліся для падкоўкі коней. У адпаведнасці з асаблівасцямі выкарыстання цвікі ў дакументах сустракаюцца пад назвамі «карэтныя», «цёсавыя», «лужоныя» і інш. Скобы ўжываліся для мацавання асобных драўляных канструкцый і адрозніваліся па памерах; некаторыя выступалі ў якасці кастрыкцыйных элементаў замковых завес. Да дзвярных прылад адносяцца клямкі, замковыя завесы (запоры), дзвярныя завесы і кручкі-зашчыпкі. Выкарыстоўваліся і ў канструкцыях акон, мэблі (шафы, куфэркі). Замковыя завесы падзяляліся на прабойныя, петлепадобныя і кальцавыя. Найб. распаўсюджаны дзвярныя завесы 2 тыпаў: петлепадобныя і шарнірна-пласцiністыя. Кручкі-зашчыпкі выраблялiся з чатырохграннага, авальнага стрыжня ці з пласціны. С.в. шырока прадстаўлены ў культ. пласце паселішчаў.

*Літ.*: Сагановіч Г.М. Прылады працы і пабытовыя рэчы. Асартымент, тыпалогія, храналогія // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4. *М.В.Клімаў.*

**СКАВЫШКІ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Скавышкі Талачынскага р-на Віцебскай вобл. На паўн. ускраіне вёскі, частка курганоў на тэр. сучасных могілак. 46 насыпаў выш. 0,5–2 м, дыям. 5–10 м, добрай захаванасці (некаторыя пашкоджаны аматарскімі раскопкамі). Абследавалі ў 1959 Л.В.Аляксееў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1973 тры курганы раскапала З.М.Сяргеева. Адзін насып быў пусты, у другім пахаванне па абраду трупапалажэння, галавой на З, у трэцім – па абраду трупаспалення. Знойдзены фр-ты ганчарнага посуду, 5 пярсцёнкападобных скроневых кольцаў, ажурная металічная пацерка, невял. нож. Датуецца 10–11 ст.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. *В.М.Ляўко.*

**СКЕМА**, археалагічны помнік – стаянка неаліту і бронзавага веку каля в. Мікольцы Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 2 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узвышшы каля паўд. берага р. Скема і зах. берага воз. Мястра. У 1964–65, 1971, 1980–81, 1986 М.М.Чарняўскі даследаваў 250 м². Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены рэшткі агнішчаў, паўзямлянак, сляды збудаванняў слупавой канструкцыі. Знойдзены фр-ты посуду *нарвенскай культуры* (5-е тыс. да н.э.) і *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры* (2-я пал. 4-га тыс. да н.э.), таксама матэрыялы сярэдненеалітычнай *усвяцкай культуры* (1-я пал. 3-га тыс. да н.э.), для якой была характэрна гладкасценная порыстая кераміка. Да канца неаліту і пачатку бронзавага веку адносяцца артэфакты *шнуравой керамікі культуры.* У невял. колькасці сустракаюцца матэрыялы сярэднябронзавага часу, ранніх этапаў *мілаградскай культуры* і культуры штрыхаванай керамікі. Невял. паселішча існавала ў сярэдневяковы час.

На паўн. беразе Скемы знаходзілася аналагічнае, меншае па памерах паселішча.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Неалітычнае насяленне Скема 1 на поўначы Беларусі. ВАНБ. 1966. № 1; Яго ж. Скема 2 – ад стаянкі неаліту да рыбацкага паселішча сярэднявечча // МАБ. 2003. № 7.

*М.М.Чарняўскі.*

**СКІФЫ** (грэч. Skythai), агульная назва асн. насельніцтва Паўн. Прычарнамор'я 7–3 ст. да н.э. С. складаліся з роднасных плямён паўн.-іранскай моўнай групы індаеўрап. сям'і. Па прыналежнасці да адной моўнай групы, а таксама па матэрыяльнай і духоўнай культуры блізкія да *сарматаў*, масагетаў і сакаў. Адны даследчыкі лічаць С. нашчадкамі носьбітаў зрубнай культуры эпохі бронзы, якія рухаліся з 14 ст. да н.э. з тэр. Паволжа на З. Інш. мяркуюць, што асн. ядро С. выйшла з Сярэдняй Азіі ці Сібіры і змяшалася з мясц. насельніцтвам Паўн. Прычарнамор'я. Пачатак гісторыі С. адзначаны вайной з кімерыйцамі, якія былі выцеснены С. з Паўн. Прычарнамор'я да 7 ст. да н.э., і паходамі ў краіны Стараж. Усходу. Сляды знаходжання С. адзначаны і на Паўн. Каўказе. Асн. тэр. рассялення – стэпы паміж Дунаем і Донам, у т.л. стэпавы Крым. Паўн. мяжа дакладна



*Да арт.* ***Скіфы****. Залатая пектараль з кургана Салоха.*



*Да арт.* ***Скіфы****. Сярэбраная ваза з кургана Чартамлык.*

не вызначана. С. падзяляліся на некалькі буйных плямён. Па звестках Герадота, пануючымі былі С. царскія, якія жылі ў стэпах паміж Дняпром і Донам. Правабярэжжа ніжняга Дняпра і стэпавы Крым насялялі С.-качэўнікі. Паміж Інгулам і Дняпром уперамешку з качэўнікамі жылі С.-земляробы. У басейне Паўд. Буга каля г. Ольвія жылі каліпіды, ці эліна-С., на Пн ад іх – алазаны, а яшчэ далей на Пн – С.-аратыя. Скіфскі саюз паступова пераўтвараўся ў своеасаблівую дзяржаву на чале царамі, улада якіх была спадчыннай і абагаўлялася, але абмяжоўвалася саюзным саветам і нар. сходам. Ішло выдзяленне ваеннай арыстакратыі, дружыннікаў і жрэчаскай праслойкі, існавала рабаўладальніцтва. Археал. даследаванне Каменскага гарадзішча (узнікла на ніжнім Дняпры каля г. Нікапаль у к. 5 ст. да н.э.) паказала, што яно ў эпоху росквіту Скіфскага царства з'яўлялася адм. і гандл.-эканамічным цэнтрам стэпавых С. У 4 ст. да н.э. ў Прыдняпроўі распаўсюдзіліся курганы скіфскай арыстакратыі (т.зв. царскія курганы) выш. больш за 20 м. У іх былі пахаваны цары і дружыннікі ў глыбокіх і складаных пахавальных збудаваннях. Пахаванні арыстакратыі суправаджаліся пахаваннямі забітых жонак ці наложніц, слуг (рабоў) і коней. Воінаў хавалі разам з багатай зброяй (кароткія мячы-*акінакі* з залатымі абкладкамі похваў, стрэлы з бронзавымі наканечнікамі, у калчанах ці гарытах, абкладзеных залатымі пласцінамі, коп'і і дроцікі з жал. наканечнікамі). У магілах сустракаецца медны, залаты, сярэбраны посуд, грэчаская размаляваная кераміка і амфары з віном, упрыгажэнні работы скіфскіх і грэчаскіх майстроў. Пахавальны інвентар радавых абшчыннікаў больш бедны. Многія скіфскія рэчы з металу і косці выкананы ў т.зв. звярыным стылі. Стылізаваныя выявы жывёл, сцэн іх барацьбы, характэрныя для мастацтва С., мелі не толькі дэкаратыўнае, але і культавае прызначэнне. На тэр. Беларусі скіфскія старажытнасці сустракаюцца на паселішчах плямён *мілаградскай культуры*. Да к. 3 ст. да н.э. тэр. С. значна скарацілася пад націскам сарматаў, якія прыйшлі з-за Дона. Сталіца С. была перанесена ў Крым, дзе на р. Салгір узнік г. Неапаль. Скіфскае царства з цэнтрам у Крыме праіснавала да 2-й пал. 3 ст. н.э. і было знішчана готамі.

*Літ.*: Смирнов А.П. Скифы. М., 1966; Граков Б.Н. Скифы. М., 1971; Рыбаков Б.А. Геродотова Скифия: историко-геогр. анализ. М., 1979; Степи европейской части СССР в скифо-сарматское время. М, 1989; Махортых С.В. Скифы на Северном Кавказе. Киев, 1991; Славяне и их соседи в конце I тысячелетия до н.э. – первой половине I тысячелетия н.э. М., 1993; Гуляев В.И. Скифы. Расцвет и падение великого царства. М., 2005.



*Да арт.* ***Скіфы****. Залаты грэбень з кургана Салоха.*

**СКО́РБІЧЫ**, археалагічны помнік – могільнік каля в. Дружба (да 1964 в. Скорбічы) Брэсцкага р-на. На паўд. ускраіне вёскі, на пясчаным узвышшы тэрасы левага берага р. Лясная. У к. 19 ст. тут быў знішчаны курганны могільнік. Помнік выяўлены К.Ягніным у 1880, верагодна, абследаваўся З.Глогерам у 1882. На паверхні была сабрана калекцыя металічных і шкляных вырабаў жал. веку, асобныя вырабы ранняга сярэдневякоўя. У 1958 у аснове ўзвышша праводзіў раскопкі Ю.У.Кухарэнка. У 1990–2000-я г. абследавалі В.С.Вяргей і В.Г.Белявец. З 1960-х г. помнік паступова разбураўся ў выніку распрацоўкі пясчанага кар'ера і быў практычна цалкам знішчаны да сяр. 2000-х г. Матэрыялы могільніка вядомы па зборах К.Ягніна, якія захоўваюцца ў фондах Дзярж.



*Да арт. **Скорбічы**. Знаходкі з могільніка вельбарскай культуры (1 – гліна; 2–8, 10 – бронза; 9 – жалеза; 14 – шкло і залатая фольга; 11–13, 15–27 – шкло).*

археал. музея ў Варшаве (ДАМВ). У 1979 і 1983 частка матэрыялаў была апублікавана Л.Д.Побалем, які аднёс знаходкі перыяду рымскіх уплываў да *вельбарскай культуры* («тыпу Брэст-Трышын»). У 2005 калекцыя была цалкам апублікавана Я.Анджаёўскім, які вылучыў матэрыялы вельбарскай і пшэворскай культур, выказаў меркаванне аб існаванні таксама помніка позназарубінецкага культ. кола.

Матэрыялы падклёшава-паморскай культуры вядомы па раскопках Ю.У.Кухарэнкі. У 1958 на пл. 220 м² ім было даследавана пашкоджанае урнавае пахаванне гэтай культуры.

Матэрыялы перыяду рымскіх уплываў утрымлівае калекцыя з фондаў ДАМВ. Гарызонт *пшэворскай культуры* прадстаўлены знаходкамі каля 10 аплаўленых і фрагментаваных фібул раннярымскага часу. Яны прадстаўляюць тыпалагічны рад засцежак, характэрных для помнікаў усх. варыянта пшэворскай культуры. Храналогія фібул сведчыць аб выкарыстанні могільніка пшэворскім насельніцтвам у фазах B1–B2c раннярымскага часу (у межах 1 і 2 ст.). Матэрыялы *вельбарскай культуры* прадстаўлены цэлымі, фрагментаванымі фібуламі і пацеркамі, фр-там кругавой пасудзіны, арнаментаванай штампам, – усяго каля 75 вырабаў. Храналогія знаходак – у рамках фаз $C_{1a}$–$C_3/D_1$ (2–4 ст.). Наяўнасць у складзе калекцыі як перапаленых, так і пазбаўленых слядоў уздзеяння агню вырабаў, сведчыць пра бірытуальны характар пахавальнага абраду, які выкарыстоўваўся гэтай абшчынай.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Памятники железного века на территории Полесья // САИ. М., 1961. Вып. Д1–29; Поболь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Минск, 1979; Белевец В.Г. К изучению памятников вельбарской культуры в Беларуси // Nowe materyały i interpretacje: stan dyskusji na temat kultury wielbarskiej. Gdańsk, 2007; Jagmin K. Skorbicze // Wiadomości Archeol. 1882. T. 6; Andrzejowski J. Wykaz stanowisk z okresu rzymskiego // Zabytki z okresu wpływów rzymskich, średniowiecza i czasów nowożytnych z Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2005. *В.Г.Белявец.*

**СКРАБО́К**, каменная пласціна для апрацоўкі скуры, рога, косці і дрэва. Вядомы з часоў палеаліту. Разнастайныя паводле формы, арыентацыі і характару рэтушы. Найб. пашыраныя тыпы С. на стаянках палеаліту – канцавыя, авальныя, круглаватыя. У Беларусі найб. стараж. С. знойдзены ў *Бердыжы* і *Юравічах*.

**СКРАБЯНЕ́Ц**, археалагічны помнік – курганнажальнічны могільнік крывічоў на ўсх. ускраіне в. Скрабянец Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. Захавалася больш за 50 курганоў выш. 0,5–1 м, дыям. 4–5 м. Вакол насыпаў прасочваюцца раўкі. Выявіў М.А.Ткачоў у 1973. У 1992 Л.У.Дучыц і А.В.Квяткоўская даследавалі 6 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,8–1,1 м, галавой на З. Адно пахаванне парнае – мужчына і падлетак. Сярод знаходак у жаночых пахаваннях бронзавыя бранзалетападобныя з завязанымі канцамі і дротавыя скроневыя кольцы дыям. 3–4 см, пласцiністы бранзалет, пярсцёнак з пашыранай арнаментаванай сярэдзінай і заходзячымі канцамі, 4 грыбападобныя гузікі, бурштынавыя, сердалікавыя і золаташкляныя пацеркі, бісер. Датуецца 10 ст.

*Літ.*: Дучыц Л., Квяткоўская А. Пахавальныя помнікі наваколіц Падсвілля // ГАЗ. Мінск, 1994. № 4. *Л.У.Дучыц.*

**СКРАМАСА́КС**, аднлязовая сякучая клінковая зброя. Даўж. С. дасягала 50 см (часам да 70 см) пры шыр. трохвугольнага ў сячэнні клінка каля 3 см. На-



*Скрамасаксы: 1 – Пскоў (Расія), 2 – Шаставіцы (Украіна), 3 – Гнёздава (Расія), 4 – Міхайлаўскае (Расія), 5 – Бірка (Швецыя).*


*Т.С.Скрыпчанка.*

сіўся ў похвах, аздобленых пласцiністымі накладкамі. У эпоху меравінгаў (6–7 ст.) быў тыповай зброяй англасаксаў і франкаў. У эпоху вікінгаў С. шырока выкарыстоўваліся ў Скандынавіі і Фінляндыі. На тэр. Старaж. Русі вядома не менш за 15 С., якія паходзяць з дружынных пахаванняў 10 ст. Знаходкі С. у пахаваннях Шаставіцкага (Чарнігаўская вобл. Украіны), Гняздоўскага (Смаленская вобл. Расіі), Пскоўскага некропаляў дазваляюць меркаваць аб магчымасці іх выкарыстання і на тэр. Беларусі.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Мечи и сабли IX–XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1–36; Артемьев А.Р. Скрамасакс из Псковского некрополя X – начала XI вв. // Археологические вести. Санкт-Петербург. 1998. № 5. *М.А.Плавінскі.*

**СКРО́НЕВЫЯ КО́ЛЬЦЫ**, жаночыя ўпрыгажэнні з каляровых металаў (серабра, білону, медзі, бронзы, латуні), якія насіліся каля скроняў. С.к. ўпляталіся ў валасы, мацаваліся з дапамогай стужкі ці раменьчыка па некалькі штук з кожнага боку. Магчыма, што ў некаторых выпадках мацаваліся на мочцы вуха. С.к. з'явіліся ў бронзавым веку, у зах. славян – у 8–9 ст. У сярэдневякоўі шырока распаўсюдзіліся ў Візантыі і Зах. Еўропе. Асаблівую папулярнасць набылі ва ўсх. славян. С.к. выкарыстоўвалі таксама балцкія (літва, яцвягі) і фіна-угорскія плямёны (мера, мурама, марыйцы і інш.), качэўнікі ўсх.-еўрап. стэпаў. На тэр. Беларусі самыя старaж. знаходкі С.к. належаць да *сярэднедняпроўскай культуры*, у жал. веку – да *мілаградскай культуры*, *зарубінецкай культуры* і штрыхаванай керамікі культуры. С.к. прынята класіфікаваць паводле знешняга выгляду і тэхналагічных прыкмет. Вылучаюць С.к.: драцяныя – сагнутыя з тонкага дроту ў выглядзе кольца ці больш складанай фігуры (паўтараабаротныя, бранзалетападобныя, спіральныя); пацеркавыя – драцяныя кольцы з нанізанымі на іх некалькімі (1–5) металічнымі, радзей шклянымі пацеркамі; шчытковыя – пры іх вырабе дрот месцамі раскоўвалі ў пласціны, якія мелі форму ромбаў; прамянёвыя і блізкія да іх лопасцевыя – вырабляліся спосабам адліўкі і складаліся з дужак і фігурнай часткі. Прынята лічыць, што ў раннім сярэдневякоўі С.к. мелі этнавызначальную функцыю, што дае магчымасць удакладніць карту рассялення ўсх.-слав. і балцкіх плямён. Пры гэтым у аднаго саюза плямён маглі быць ва ўжытку адразу некалькі тыпаў. Так, носьбіты *тушамлінскай культуры* і *калочынскай культуры* выкарыстоўвалі бранзалетападобныя С.к. з канцамі розных форм (патоўшчанымі, расплюшчанымі і інш.). Для *крывічоў* (культура смаленска-полацкіх доўгіх курганоў) былі характэрны кольцы серпападобныя (9 – пач. 11 ст.) і бранзалетападобныя дыям. 5–11 см з завязанымі канцамі (к. 10–12 ст.). *Дрыгавічы* насілі невял. драцяныя паўтараабаротныя С.к. дыям. каля 2 см, радзей пярсцёнкападобныя драцяныя і трохпацеркавыя вузлаватыя (т.зв. «кіеўскія»). У *радзімічаў* былі пашыраны сярэбраныя і бронзавыя сяміпрамянёвыя С.к., блізкія да сямілопасцевых кольцаў *вяцічаў*. У міжрэччы Нёмана і Буга выкарыстоўваліся пярсцёнкападобныя С.к. з S-падобным альбо спіральным завітком, з заходзячымі канцамі, трохпацеркавыя і інш. *Севяране* мелі С.к. з тонкага дроту, скручанага ў выглядзе плоскай спіралі. Наўгародскія *славене* карысталіся ромбашчытковымі С.к.

*Літ.*: Соловьева Г.Ф. Славянские союзы племен по археологическим материалам VIII–XIV вв. н.э. (вятичи, радимичи, северяне) // СА. 1956. № 25; Левашева В.П. Височные кольца // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. М., 1967 (Тр. ГИМ; Вып. 43); Седов В.В. Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982; Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987. *А.М.Плавінскі.*

**СКРЫ́ПЧАНКА** Таццяна Сяргееўна (н. 18.1.1955, Мінск), беларускі гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1983). Скончыла БДУ (1978). З 1978 у ІГ АН Беларусі, у 1995–97 дырэктар гісторыка-культ. музея-запаведніка «Заслаўе», з 1998 у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі», з 2002 у Мінскім н.-д. ін-це сацыяльна-эканамічных праблем. Адначасова выкладала ў БДУ (1996–2003) і Міжнар. гуманітарна-эканамічным ун-це (2000–02). Даследуе тэхналогію, тыпалогію, храналогію і ўзнікненне старaж. шкла, праблемы аховы гіст. спадчыны ў буйных гарадах Беларусі, распрацоўвае гіст. маркетынг Мінска і інш. Абследавала помнікі археалогіі на тэр. Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей. Аўтар серыі «Мінскія сшыткі» для дзяцей малодшага школьнага ўзросту: «Наш Мінск» (2005), «За даляглядам часу» (2007). Адзін з аўтараў мультымедыйнай энцыклапедыі «Мінск. Факты і лічбы» (2009).

*Тв.*: Свіслацкія шкляныя бранзалеты XII–XIV ст ст. // ВАНБ. 1980. № 3; Аб крыніцах і метадах вывучэння старажытнарускага шкла // Там жа. 1983. № 1; О производстве двухслойных и филигранных стеклянных браслетов // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Обмен и местное производство в средневековых городах Белоруссии (по материалам стеклянных браслетов) // Труды V междунар. конгресса славянской археологии. М., 1987. Т. 3, вып. 1б; К вопросу о создании музея истории города Минска // Материалы междунар. науч.-практ. конф. «Стратегическое планирование и управление развитием городов». Минск, 2004. Ч. 2; Исторический маркетинг Минска // Матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. «Мінск і мінчане: дзесяць стагоддзяў гісторыі». Мінск, 2007.

**СКРЭ́БЛА**, каменная прылада працы для апрацоўкі скур, вырабаў з дрэва. Вядома з сярэдняга палеаліту. Іх выраблялі ў асн. на масіўных адшчэпах ці пласцінах. Падзяляюцца на адзінарныя і двайныя, з падоўжнай і папярочнай арыентацыяй лёзаў. Форма рэтушаваных лёзаў бывае прамая, увагнутая, выпуклая. У Беларусі найб. старaж. С. мусцьерскага тыпу знойдзены ў *Абідавічах*, *Клеявічах*, *Свяцілавічах*.

**СЛАБАДÁ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Слабада (ускраіна г.п. Плешчаніцы) Лагойскага р-на Мінскай вобл. Знаходзіцца каля р. Рудаўка (правы прыток р. Двінаса). 102 круглыя ў плане насыпы дыям. 5–15 м, выш. 1–3 м. Адзін курган падоўжанай формы памерамі 14 × 8 × 2 м. Вакол многіх насыпаў прасочваюцца раўкі. У 2008–09 А.В.Вайцяховіч даследаваў 4 курганы. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце і ў магільных ямах. Пахавальны інвентар: бронзавыя бранзалетападобныя і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, залаташкляныя бочкападобная і рубчастая пацеркі, хрустальная рамбічная пацерка, бронзавы пласціністы і пляцёны з белага металу пярсцёнкі, жал. сякера з адцягнутым лязом, авальнае крэсіва, кругавы гаршчок. Могільнік датуецца 11–12 ст.

*А.В.Вайцяховіч.*

**СЛАБÓДКА**, археалагічны помнік – гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі каля в. Слабодка Барысаўскага р-на Мінскай вобл. За 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Рова (мясц. назва Лужа), ва ўр. Верх, у лесе. Пляцоўка памерамі 55 × 45 м, з У і Пд умацавана 2 валамі і равамі. Выш. над поймай ракі 8–9 м. Вядома з 1924. У 1964 Л.Д.Побаль даследаваў 8 м². У 1979 абследаваў Ю.А.Заяц. У 1991 А.У.Ільюцік даследавала 120 м². Культ. пласт 0,1–0,6 м. Выяўлены рэшткі печы-домніцы, шлак, гліняная абмазка, фр-ты грубаляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду, гліняныя праслічы, кавалак жал. вузкалязовай сякеры. Датуецца 1-й пал. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: Ільюцік А.У. Вынікі вывучэння гарадзішча Слабодка // ГАЗ. Мінск, 1994. № 3. *А.У.Ільюцік.*

**СЛАБÓДКА**, група археалагічных помнікаў каля в. Слабодка Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 за 3 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Тур'я. Выявіў у 1960 і даследаваў у 1964 У.Ф.Ісаенка (раскапана 124 м²). Культ. пласт 0,2–0,5 м, прасочваецца на працягу 700 м уздоўж ракі. Знойдзены 480 апрацаваных крамянёў, 88 крамянёвых прылад працы, 620 фр-таў ляпнога посуду. Адносіцца да сярэдняга этапу *днепра-данецкай культуры.*

Паселішча-2 за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на паўн. схіле невял. ўзвышша ў пойме р. Тур'я. Вядома з 1924. Абследаваў у 1976 У.Ф.Ісаенка. Пл. 0,6 га. Культ. пласт 0,3–0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

Паселішча-3 за 2 км на З ад вёскі, ва ўр. Бярозаўскі Поплаў. Памеры 60 × 30 м. Выявіў у 1932 А.Дз.Каваленя, абследаваў у 1976 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.

На ўсіх паселішчах на паверхні трапляюцца матэрыялы зарубінецкай культуры (абломкі гліндянага посуду, пацеркі з сіняга шкла і інш.).

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**СЛАБÓДКА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі крывічоў каля в. Слабодка Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. Датуюцца 10 – пач. 11 ст.

Курганны могільнік-1, за 1,5 км на З ад вёскі, на беразе воз. Лукомскае. 106 круглых курганоў (мясц. назва валатоўкі) выш. 0,5–2,5 м, дыям. 6–11 м. Самы вял. курган выш. 3,8 м, дыям. 18 м. Насыпаны з гліны на месцы паселішча 5–8 ст. Выявіў у 1967 і даследаваў 12 насыпаў у 1967, 1969, 1971 Г.В.Штыхаў. Асн. пахавальны абрад – трупаспаленне, змешчанае ў невял. ямках, у двух выпадках – трупапалажэнне.

Знойдзены шкляныя пацеркі-«лімонкі», скроневае кольца, пярсцёнак, нажы, гліняны посуд. У адным кургане было 6 гаршкоў (1 ляпны і 58 ганчарных). Кераміка з паселішча арнаментавана расчосамі, ёсць слабапрафіляваны ляпны посуд.

Курганны могільнік-2, за 1,7 км на З ад вёскі, у лесе. 8 курганоў выш. 0,5–2 м, дыям. 8–10 м. Выявіў і даследаваў 2 насыпы ў 1974 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. У адным кургане ў насыпе знойдзены нож, на мацерыку – жал. сякера-«чакан», нож, бронзавая падкавападобная фібула. У другім кургане – шкілет на попельна-вугальнай праслойцы, арыентаваны на ПнЗ. Пахаванне без інвентару.

Курганны могільнік-3, за 3 км на З ад вёскі, на беразе воз. Лукомскае. 30 курганоў выш. 0,5–2 м, дыям. 6–10 м. Выявіў у 1967 і даследаваў 6 насыпаў у 1974 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. У трох курганах выяўлены па 2 шкілеты, арыентаваныя на З з адхіленнем на Пн або Пд, у адным – рэшткі пахавання, два – без пахаванняў.

Знойдзены нож, шыфернае праслiца, металічны крыжык, пацеркі (шкляныя, залачоныя і інш.). Каля асн. пахавання (жаночы шкілет на попельна-вугальнай праслойцы, арыентаваны галавой на З) знойдзены багаты інвентар: 65 шкляных, залачоных, 6 круглых бурштынавых пацерак, 9 скроневых кольцаў з круглага бронзавага дроту (6 з заходзячымі канцамі, 2 з свабоднымі канцамі, 1 S-канцовае), сярэбраная падвеска з англійскай манеты этэльрэд (979–1016).

*Літ.*: Штыхов Г.В. Работы Полоцко-Витебского отряда // АО 1974. М., 1975. *Г.В.Штыхаў.*

**СЛАБÓДКА-1**, археалагічны помнік – гарадзішча ранняга жалезнага веку і старажытнарускага часу каля в. Слабодка Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 0,8 км на ПнЗ ад вёскі ў паўвыспе Рог (размешчана паміж азёрамі Недрава і Поцех). Гарадзішча мае роўную пляцоўку яйкападобнай формы памерамі 20 × 38 м. У 1955 абследаваў Л.В.Аляксееў, у 1972 – М.М.Чарняўскі, у 1982 – Л.У.Дучыц. У 2001 даследавала В.М.Сідаровіч, у 2002 – С.Дз.Дзярновіч (31 м²). Культ. пласт – 0,2–0,65 м. Выяўлены кераміка (ляпная жал.

веку і кругавая старaж.-рус. часу), астэалагічныя матэрыялы і рэшткі іхтыяфауны. Індывідуальныя знаходкі належаць да 12–13 ст.: вырабы з жалеза (крэсіва, дужка вядра, паясная накладка, нажы, шыла, фр-т замка), бронзы (фр-т крыжыка), шкла (пацерка і фр-т кручанага бранзалета), каменю (фр-т шыфернай прасліцы), косці (фр-т двухбаковага састаўнога грэбня).

*С.Дз.Дзярновіч, В.М.Сідаровіч, М.А.Плавінскі.*

**СЛАБО́ДКАЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў б. в. Слабодка Лагойскага р-на Мінскай вобл. ў 1902. Складаўся з 24 сярэбраных зліткаў літ. тыпу (у т.л. 2 фр-ты) і 7 – наўгародскага. 3 літ. і 1 наўгародскі былі прададзены калекцыянерам. На 7 злітках меліся графіці: на наўгародскіх – ПТРВ («Пятрова», 2 экз.), УГАН (1 экз.) і СЕХ (1 экз.); на 3 літ. злітках – асобныя літары. Адзін літ. зліток фальшывы (з цынку). Агульная маса зліткаў, што захаваліся, 3361,42 г. Зберагаюцца ў Дзярж. гіст. музеі (Масква) і Дзярж. Эрмітажы (Санкт-Пецярбург). Да 1927 з Дзярж. гіст. музея ў Бел. дзярж. музей у Мінску былі перададзены 3 літ. і 2 наўгародскія злі́ткі (зніклі ў час ням.-фаш. акупацыі 1941–44). Звестак пра памеры і масу 3 літ. зліткаў з Бел. дзярж. музея няма. Цэлыя злі́ткі літ. тыпу маюць даўж. ад 11 да 13,2 см, масу ад 28,72 і 46,65 г. Звесткі пра наўгародскія злі́ткі няпоўныя (183,53 г, 199,2 г, 200,37 г, 2123 г). Скарб датуецца не пазней за 1380-я г.

*Літ.:* Харламповіч П. Манетныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах Беларускага Дзяржаўнага музея // ГАЗ. Мінск, 1927. № 1; Сотникова М.П. Эпиграфика серебряных платежных слитков Великого Новгорода XII–XV вв. // Тр. Гос. Эрмитажа. Нумизматика. № 2. Ленинград, 1961. Т. 4; Рябцевич В.Н. Денежные депозиты Полоцкой земли конца X – начала XIV вв. // ГАЗ. Мінск, 2000. № 15.

*Ш.І.Бекцінееў.*

**СЛАВЕ́НЕ,** ільменскія славяне, паўночныя ўсходнеславянскія плямёны, якія ў 2-й пал. 1-га тыс. жылі ў басейне воз. Ільмень, у 10–13 ст. рассяляліся на Іжорскім плато, па р. Малога дасягалі Яраслаўскага Паволжа і Волга-Окскга міжрэчча. Займаліся земляробствам, паляваннем, рыбалоўствам, будавалі наземныя зрубныя дамы з печамі-каменкамі. Асн. тыпам пасяленняў С. былі селішчы, у 8 ст. ўзніклі першыя гарадзішчы. У 9 ст. С. і крывічы разам з фінскім племем весь утварылі палітычны саюз. Цэнтр С. – Ноўгарад (859). З 879 у Ноўгарадзе княжыў Алег, які ў 882 авалодаў Кіевам, падпарадкаваў драўлян, северан, радзімічаў і інш. Землі С. сталі ядром Наўгародскай феад. рэспублікі.

Найб. старaж. помнікі С. – пахавальныя сопкі. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі звычайна змяшчаліся на гарызонце або ў неглыбокай ямцы. Больш за 70% пахаванняў без інвентару. Сярод знаходак жал. нажы, цвікі, бронзавыя і медныя фрагменты конскага рыштунку (псаліі, бляшкі), упрыгажэнні – трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі, шкляныя і паставыя пацеркі і інш. Пашыраны нізкія ляпныя слабапрафіляваныя гаршкі (характэрны для фінскіх старажытнасцей). Адметная рыса пасудзін з сопак – усечанаканічная ніжняя частка, што збліжае іх з ляпным посудам слав. курганоў 9–10 ст. Наяўнасць у сопках фінскіх элементаў пахавальнага абраду адлюстроўвае працэс славянізацыі мясц. фіна-угорскіх плямён. У Прыільменні не выяўлены пахавальныя помнікі, якія маглі б быць прататыпам сопак. Верагодна, што продкі С. рухаліся ў Прыільменне праз землі балтаў і запазычылі іх звычай рабіць курганныя насыпы. У 9–10 ст. побач з сопкамі пашыраны круглыя курганы з трупаспаленнем. З пач. 11 ст. пераважаў пахавальны абрад трупапалажэння на гарызонце ў падкурганных ямах, галавой на З (зрэдку на У). Этнавызначальныя рэчы С. – ромба- і авальнашчытковыя скроневыя кольцы (11–14 ст.). Пашыраны пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, шчытковыя завязаныя пярсцёнкі, завушніцы ў форме пытальніка, бранзалеты з абрубленымі канцамі і інш. У Беларусі ромбашчытковыя скроневыя кольцы С. знойдзены каля г.п. Радашковічы, у *Чапліне* і інш.

*Літ.:* Седов В.В. Археология СССР: Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982; Яго ж. Славяне в раннем Средневековье. М., 1995; Яго ж. Славяне: историко-археол. исследование. М., 2002; Сопки Северного Поволховья. Санкт-Петербург, 1994.

**СЛАВЕ́НІ,** археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў каля в. Славені Ушацкага р-на Віцебскай вобл.

За 1 км на ПдУ ад вёскі, у лесе абапал дарогі ў в. Крыжы. 18 насыпаў выш. 1–3 м, дыям. 10–17 м. Адкрыў і даследаваў у 1930 І.А.Сербаў (2 насыпы), абследавалі ў 1971 А.Г.Калечыц, у 1981 А.А.Егарэйчанка. У адным кургане пахавальны абрад – трупапалажэнне. Разам з нябожчыкам ляжалі 50 пацерак, падвеска з дырхема дынастыі Саманідаў (914–943), жал. нож, ганчарны гаршчок, бронзавая падвеска. У другім насыпе пахавальны абрад – трупаспаленне. Знойдзены нож, фр-ты ганчарнага посуду. Датуецца 9–11 ст.

*Літ.:* Сербаў І.А. Археалагічныя помнікі Ушацкага р-на Полацкай акругі // Працы. Т. 2.

*А.А.Егарэйчанка.*

**СЛА́ВІЧЫ,** археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, селішчы эпохі сярэдневякоўя каля в. Славічы Гродзенскага р-на.

У 1950-я гг. Славяна-Літ. атрад Прыбалтыйскай археал. экспедыцыі на ўскраіне в. Славічы пры ўпадзенні ручая ў р. Нёман (левы бераг) выявіў помнік, на якім сабрана калекцыя ляпной штрыхаванай і шурпатай керамікі, фр-ты кругавога посуду. У 1999 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза ніжэй па цячэнні ракі ад вёскі, на верхняй тэрасе Нёмана, побач з дачным пасёлкам зафіксавалі яшчэ адну




*Да арт.* ***Славічы.*** *Крамянёвыя вырабы (стаянка-2), ляпная кераміка (паселішча-2), глінянае прасліца і жалезная спражка (паселішча-1).*

стаянку каменнага веку з нешматлікімі крамянёвымі вырабамі.

У 2003 у час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі лакалізавалі яшчэ два помнікі – 1-ГЭС і 2-ГЭС.

Стаянка і селішча 1-ГЭС насупраць цэнтр. часткі вёскі, за паўд. лініяй электраперадач, на 3 выступах надпоймавай тэрасы, раздзеленай кароткімі ярамі. Памеры стаянкі каля 150 × 30 м. У 2009 помнік даследаваў В.Л.Лакіза 2 раскопамі на пл. 376 м². Стратыграфія помніка даволі складаная, характэрная для паселішчаў у зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС (*Коматава*-6, *Кавальцы*-1 і інш.). Пад культ. пластом эпохі сярэдневякоўя знаходзіўся культ. пласт з артэфактамі каменнага, бронзавага і жал. вякоў. У 1-м раскопе выяўлена 1440 знаходак, у 2-м – 1070. Выяўлены крамянёвыя вырабы першаснай і другаснай апрацоўкі, адбойнікі, нуклеусы і іх фр-ты, разнастайныя катэгорыі прылад працы і зброі, крамянёвая сыравіна ад фінальнага палеаліту, мезаліту, да неаліту і бронзавага веку. Сабрана ляпная кераміка позняга бронзавага і ранняга жал. веку, ганчарная кераміка 16–18 ст. Знойдзены жал. спражка, прасліца з шырокай адтулінай рымскага часу 1–4 ст.

Стаянка і селішча 2-ГЭС насупраць верхняй ускраіны вёскі, на астанцы надпоплаўнай левабярэжнай тэрасы Нёмана. Памеры помніка 80 × 30 м. У 2009 даследаваў В.Л.Лакіза 3 раскопамі на пл. 168 м², у прырэчнай частцы тэрасы, якая ў далейшым будзе падмывацца вадасховішчам ГЭС. Стратыграфія нагадвае стратыграфію папярэдняга помніка. На глыб. ад 0,8 да 1,6 м выяўлены артэфакты каменнага, бронзавага і жал. вякоў. На плошчы раскопаў на мацерыковым узроўні зафіксаваны і даследаваны 14 аб'ектаў – розныя па памерах і глыбіні ямы. У 1-м раскопе выяўлена 466 знаходак, у 2-м – 1713, у 3-м – 1027. Сабраны крамянёвыя вырабы першаснай і другаснай апрацоўкі, адбойнікі, нуклеусы і іх фр-ты, прылады працы і зброі (нажы, скрабкі, разцы, рубячыя прылады) і іх нарыхтоўкі (ад фінальнага палеаліту, мезаліту, да неаліту і бронзавага веку), крамянёвая сыравіна (канкрэцыі і абломкі); калекцыя керамічных вырабаў, асабліва ляпной керамікі эпохі неаліту, позняга перыяду бронзавага веку, ранняга жал. веку, рымскага часу; ганчарная кераміка эпохі сярэдневякоўя і Новага часу.

Пасля будаўніцтва ГЭС вадасховішчам будуць падмывацца прырэчныя ўсх. краі абодвух помнікаў. Большая іх частка застаецца неразбуранай і можа разглядацца як перспектыўная для будучых археал. даследаванняў.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Археалагічнае абследаванне ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19. *В.Л.Лакіза.*

**СЛАВЯ́НЕ**, 1) сучаснае вымаўленне саманазвы народа, пазней – групы народаў, вядомых па грэкалацінскіх пісьмовых крыніцах з 6 ст. як склавіны (лац. Sclaveni) і да т.п. Аўтары 6 ст. лічылі С. роднаснымі антам і адносілі разам з імі да нашчадкаў венедаў ці спораў, адзначалі наяўнасць С. у шэрагу мясцін Падунаўя (у асн. на левабярэжжы ніжняга Дуная) і паўночней, амаль да верхняй Віслы, указвалі на шматлікасць і раз'яднанасць слав. плямён, уключэнне ў іх склад прадстаўнікоў інш. народаў.

Пачынаючы з часоў кіравання візантыйскага імператара Юстыніяна І (518–527), С. здзяйснялі шматлікія набегі на балканскія правінцыі Імперыі; асобныя групы С. служылі ў візант. арміі. Гэта спрыяла з'яўленню прафесійных воінаў, умацаванню ўлады ваенных правадыроў, пачатку засваення С. асобных элементаў антычнай культуры. З 3-й чв. 6 ст. частка С. была заваявана *аварамі.*

З 7 ст. С. вядомы і на паўд. беразе Балтыйскага мора, на Эльбе, у шэрагу раёнаў каля ўсх. перадгор'яў Альп і на Балканах (у т.л. на Пелапанесе). Асобныя групы С. былі перасалены ў Малую Азію візантыйскім імператарам Юстыніянам II (688). У 7 ст. склаліся і першыя слав. протадзяржавы – «склавініі» («славяніі»), напр., аб'яднанне слав. плямён на чале з франкскім купцом Само, якое паспяхова ваявала з аварамі; шэраг плямён і іх супольнасцей на Балканах і інш. З гэтага часу побач з агульнай назвай «С.» ў пісьмовых крыніцах усё часцей пачалі ўжываць найменні (хутчэй за ўсё, асобныя з іх узніклі раней) асобных слав. плямён і аб'яднанняў. З 670-х г. ніжнедунайскія С. ўвайшлі ў склад Балгарскага царства, якое паступова славянізавалася. Паўд. слав. плямёны Усх. Еўропы да 10 ст. (некаторыя, верагодна, з 730-х г.) плацілі даніну хазарам. У к. 8 – пач. 9 ст. С. ўдзельнічалі ў разгроме Аварскага каганата. Гэта стала передумовай узнікнення 1-й магутнай слав. дзяржавы – Вял. Маравіі, якая адыгрывала асн. ролю ў палітычным жыцці Сярэдняга Падунаўя да з'яўлення тут венграў у к. 10 ст. З гэтай дзяржавай звязана дзейнасць Кірыла і Мяфодзія – заснавальнікаў слав. пісьменнасці і 1-й слав. епіскапіі.

З к. 1-га тыс. пачалі ўзнікаць інш. дзяржавы, у рамках якіх развіццё С. атрымала новыя формы, склаўся шэраг слав. народаў, але ідэя слав. адзінства захавалася і адлюстравана ў найстаражытнейшых помніках слав. гістарыяграфіі («Аповесць мінулых гадоў», польскія, чэшскія і інш. хронікі). Назву, блізкую па вымаўленні да «С.», захавалі некаторыя слав. плямёны і аб'яднанні ў сярэдневякоўі і пазней, напр. *славене* (ільменскія, ці наўгародскія), яе маюць і некаторыя сучасныя народы – славакі, славенцы.

Археал. помнікамі, тыповымі для традыцыйнай культуры С., практычна ўсе спецыялісты лічаць *пражскую культуру* і культуры, звязаныя з яе традыцыямі (іх арэал ахопліваў і Пд Беларусі). На познім этапе пражскай культуры і на раннім этапе *лукі-райкавецкай культуры*, якая склалася на яе аснове, носьбіты гэтых традыцый рассяляліся па большай частцы тэрыторыі роднасных *пянькоўскай культуры* і *калочынскай культуры*, што, верагодна, адлюстравана выпадзеннем *Дняпроўскіх раннесярэдневяковых скарбаў* 1-й групы. У Беларусі гэты працэс суправаджаўся заняпадам калочынскіх гарадзішчаў і ўзнікненнем побач з асобнымі з іх паселішчаў носьбітаў традыцый пражскай культуры (напр., *Калочын*, *Вежкі*, *Нікадзімава*).

2) Група народаў – носьбітаў слав. моў, у т.л. стараж. плямёны і аб'яднанні – продкі сучасных слав. народаў, а таксама роднасныя ім, асіміляваныя інш. народамі. Сучасныя С. падзяляюцца на зах. (палякі, чэхі, славакі, лужычане і нашчадкі інш. палабскіх С. на тэр. сучаснай Германіі), усх. (рускія, украінцы, беларусы), паўд. (балгары, сербы, харваты, славенцы, македонцы і інш.). Аднясенне шэрагу груп да славянскіх народаў выклікае спрэчкі, напр., кашубаў – да палякаў, русінаў Закарпацця – да украінцаў, вылучэнне баснійцаў як народа, а не этнаканфесійнай групы і інш.

Ва Усх. Еўропе да пач. 2-га тыс. найб. значнымі былі славене ільменскія (наўгародскія), *крывічы*, *вяцічы*, *дрыгавічы*, *радзімічы*, *северане*, *бужане*, *валыняне*, *драўляне*, паляне, улічы, ціверцы. Яшчэ больш складанай была племянная структура сярэдневяковых С. у Цэнтр. Еўропе і на Балканах.

Паводле лінгвістычных даных, С. сфарміраваліся на аснове часткі носьбітаў індаеўрап. моў і дыялектаў; бліжэйшыя родзічы С. – балты. Стараж. носьбіты слав. моў жылі воддаль ад гор, мораў, мелі кантакты часцей за ўсё са стараж. германцамі і іранцамі. Гэта зона дасягае на З Вісла-Одэрскага міжрэчча, на У – сярэдняга Падняпроўя і Палесся, вужэйшыя лакалізацыі спрэчны. Асобы пункт гледжання звязвае паходжанне С. з Падунаем (А.М.Трубачоў, некаторыя сербскія і інш. даследчыкі). Сучасныя слав. мовы склаліся параўнальна нядаўна, што прыводзіць да вываду пра адносна кампактную тэр. пражывання продкаў іх носьбітаў каля сяр. 1-га тыс. Аднак гэта меркаванне не ўлічвае, што шэраг слав. моў і дыялектаў не адлюстраваны ў ацалелых стараж. пісьмовых крыніцах, і, як следства, у сучасных лінгвістычных класіфікацыях.

Вылучэнне стараж. С. паводле археал. звестак спрэчна. Некаторыя даследчыкі адносяць фарміраванне С. да сярэдняга бронзавага веку і лакалізуюць яго ў рамках усяго арэала, акрэсленага паводле лінгвістычных даных (Б.А.Рыбакоў), або яго часткі на З (Ю.Касташэўскі і інш.) ці У (асобныя навукоўцы Усх. Еўропы). Аднак пераважаюць пункты гледжання пра больш позняе станаўленне С., у т.л. пра сувязь ядра С. з традыцыямі паморска-падклёшавай культуры, якія працягваліся ў рамках *пшэворскай культуры* (І.П.Русанава) і, магчыма, у частцы *чарняхоўскай культуры* (В.В.Сядоў). Шэраг даследчыкаў суадносяць фарміраванне С. з традыцыямі *зарубінецкай культуры* ва ўзаемадзеянні з часткай больш паўн. культур лясной зоны Усх. Еўропы (П.М.Траццякоў і інш.) або з асобнымі з апошніх, што зазналі ўплыў з Пд (І.Вернер, Д.А.Мачынскі, М.Б.Шчукін, К.Гадлоўскі і інш.). Выказваліся меркаванні пра фарміраванне С. у ходзе міграцый часткі насельніцтва лясной зоны Усх. Еўропы на Дунай у эпоху Вялікага перасялення народаў і зваротных міграцый або ўплываў на Пн (Д.А.Мачынскі, З.Ваня, Ф.Курта і інш.).

Да кола слав. культур сяр. – 3-й чв. 1-га тыс. адносяць таксама культуры кола Тушамлі–Банцараўшчыны ў Падняпроўе, пскоўскіх доўгіх курганоў на тэр. Паўн.-Зах. Расіі і Паўн. Беларусі, удамельскага тыпу ў Верхнім Паволжы, іменькаўскую (або адзін з яе кампанентаў) у Сярэднім Паволжы і г.д., якія складаюць «свет» (агульнасць) тыпалагічна падобных культур з відавочнымі адрозненнямі ад суседніх (балцкага, фінскіх, цюркскіх, германскіх і інш.) «светаў». Вытокі гэтых культур прасочваюцца ў *кіеўскай культуры* (у асн. лясное і частка лесасцяпнога Падняпроўя, асобныя анклавы на У, да р. Хапёр – левага прытока р. Дон, і р. Чарамшан – левага прытока р. Волга) і ў больш зах. помніках Палесся, якія таксама суадносяць з працягваннем традыцый зарубінецкай культуры. Да роднасных ім груп насельніцтва адносяць частку носьбітаў пшэворскай культуры і асобных традыцый у рамках чарняхоўскай культуры (помнікі ў Сярэднім і Верхнім Падністроўі) і кампанент, звязаны з кіеўскай культурай у Сярэднім Падняпроўі, таксама шэраг паселішчаў у Ніжнім Падністроўі і Падунаўі (тып Этулія) і на тэр. ўсхода Ваяводзіны (Паўн. Сербія) і т.п. Але некаторыя даследчыкі аспрэчваюць указаныя атрыбуцыі або частку з іх.

Вырашэнне праблемы этнагенезу С. па даных антрапалогіі, палеагенетыкі і інш. дысцыплін ускладняецца тым, што ў многіх археал. культурах 1-га тыс. і ранейшага часу, якія звязваюць з С., захавалася мала неабходнага для вывучэння матэрыялу з-за распаўсюджанасці ў носьбітаў культур пахавальнага абраду трупаспалення.

*Літ.*: Филин Ф.П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Ленинград, 1972; Русанова И.П. Славянские древности VI–VII вв. М, 1976; Мачинский Д.А., Тиханова М.А. О местах обитания и направлениях движения славян I–VII вв. н.э. по письменным и археологическим источникам // Acta Archaeologica Carpatica. T. 16. 1976; Третьяков П.Н. По следам древних славянских племен. Ленинград, 1982; Бирнбаум Х. Праславянский язык. Достижения и проблемы в его реконструкции. М., 1986; Седов В.В. Славяне в древности. М., 1994; Яго ж. Избранные труды: Славяне: историко-археологическое исследование. Древнерусская народность: историко-археологическое исследование. М., 2005; Свод древнейших письменных источников о славянах. Т. 1–2. М., 1994–95; Топоров В.Н. Предыстория литературы у славян. М., 1998; Восточные славяне. Антропология и этническая история. М., 1999; Трубачев О.Н. Этногенез и культура древнейших славян. М., 2002; Гаврилтухин И.О. Понятие пражской культуры // Сложение русской государственности в контексте раннесредневековой культуры старого света (Труды Государственного Эрмитажа. XLIX). Санкт-Петербург, 2009; Popowska-Taborska H. Wczesne dzieje Słowian w świete ich języka. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1991; Kazanski M. Les Slaves. Paris, 1999; Godłowski K. Pierwotne siedzeby Słowian. Kraków, 2000; Archeologia o początkach Słowian. Kraków, 2005. *А.М.Абломскі, І.А.Гаўрытухін.*

**СЛА́ЎГАРАД** (да 1945 Прапойск), горад, цэнтр Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл., прыстань на р. Сож пры ўпадзенні ў яе р. Проня. За 70 км на ПдУ ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Крычаў, на аўтадарозе Бабруйск–Крычаў.

Упершыню згадваецца ў 1136 ў Статуце смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча як Прупой. З 1350-х г. у ВКЛ, дзярж. ўладанне ў складзе т.зв. Падняпроўскіх валасцей. У 1430 далучаны да ўладанняў кн. троцкага і полацкага Свідрыгайлы. З пач. 16 ст. цэнтр Прапойскай воласці, з 1560-х г. цэнтр староства ў Мсціслаўскім ваяводстве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

Гарадзішча пад назвамі «Замкавая гара», пазней «Замак Галіцына» размешчана на правым беразе р. Сож, за 0,5 км ніжэй вусця р. Проня, у гар. парку. Пляцоўка гарадзішча мае памеры 95 × 40 м, выцягнута з Пн на Пд і адрэзана з Пн ад берагавога плато абарончым ровам шыр. каля 18 м і глыб. 4,5 м. Усх. схіл з боку р. Сож уяўляе сабой стромкі, амаль вертыкальны абрыў. З зах. боку па краі пляцоўкі гарадзішча быў насыпаны абарончы вал выш. да 1,5 м. За ім знаходзіўся роў шыр. больш за 20 м і глыб. 11 м, па дне якога працякаў ручай.

Гарадзішча абследавалі пад час экспедыцыі ІГ НАН Беларусі па Сажы ў 1936 А.Дз.Каваленя, А.М.Ляўданскі, С.А.Дубінскі. Даследаванні праводзілі Г.В.Штыхаў (1969), М.А.Ткачоў (1973), А.А.Мяцельскі (1989). Агульная ўскрытая пл. 120 $м^2$. Культ. слой магутнасцю да 2,8 м, складаецца з 3 храналагічных пластоў. У перадмацерыковым трапляюцца фр-ты керамікі калочынскага (5–7 ст.), роменска-боршчаўскага (8–10 ст.) тыпаў, што сведчыць пра пачатак засялення мыса. Магчыма, у гэты час былі выкапаны абарончы роў, які аддзяліў мыс ад астатняга плато і ператварыў яго ў гарадзішча. Напластаванні 10–13 ст. прадстаўлены знаходкамі шкляных бранзалетаў, пацеркамі, сланцавымі праселкамі, касцянымі грабянямі і апрацаванымі касцямі. Знойдзены каса, рыбалоўны кручок, шматлікія фр-ты ганчарнага посуду. У 10 ст. быў насыпаны абарончы вал на зах. баку пляцоўкі гарадзішча. У 12 ст. пачалося развіццё адкрытага пасада на Пн ад гарадзішча, а ў 13 ст. ён перайшоў праз роў на плато, размешчанае на З ад гарадзішча. Матэрыялы 14–18 ст. прадстаўлены разнастайнымі фр-тамі гаршкоў, кафлі, сашнікам.

*Літ.*: Штыхов Г.В. Разведочные раскопки в Славгороде в 1967 году // Вопросы истории. Минск, 1969; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Алексеев Л.В. Периферийные центры домонгольской Смоленщины // СА. 1979. № 4; Ткачоў М.А., Мяцельскі А.А. Старажытны Прупой // Магілёўская даўніна. Магілёў, 1997. Вып. 5. *А.А.Мяцельскі.*

**СЛЕДАВІ́КІ**, камяні-валуны з поўнасцю ці часткова выбітай выявай слядоў чалавека (імітацыя босай ці абутай ступні, рукі) або розных жывёл, міфічных істот. Распаўсюджаны ў Еўропе і Азіі,

трапляюцца ў Афрыцы. С. – праяўленне язычніцкіх вераванняў. Ёсць падставы лічыць, што культ камянёў-С. узнік у бронзавым веку, паводле меркавання А.А.Фармозава, у 2-м тыс. да н.э. Паводле шведскага археолага Б.Альмгрэна, у 2-й пал. 2-га тыс. да н.э. існавала строгая забарона ствараць выявы божастваў. Але патрэба звяртацца да нябачнага бога вымушала чалавека шукаць знакі яго бачнай прысутнасці. У сувязі з гэтым з'явіліся выявы «слядоў бога». У Беларусі вядома больш за 70 С., сканцэнтраваных пераважна на Пн і ў цэнтр. раёнах. Найб. вядомыя з іх каля вёсак Дзераўно (Лагойскі р-н), Куцаўшчына (Капыльскі р-н), Малькавічы (Ганцавіцкі р-н), Наўгароды (Міёрскі р-н), Сянежычы (Навагрудскі р-н) і інш. Мясц. назвы С.: Божы след (слядок), След Божай Маці, След Хрыста, Чортава ступня і інш. Найб. пашыраны С. са слядамі чалавека. У большасці выпадкаў адбітак адзін, бывае два (звычайна след дарослага і дзіцяці) і больш. Велічыня следу звычайна натуральная, глыб. 1–3 см. Побач са слядамі чалавека могуць быць выбіты ямкі, сляды капытоў. Сустракаюцца камяні са слядамі аленя, зайца, мядзведзя, лісіцы, ваўка, быка, казы, ката. Пра большасць С. існуюць паданні, паводле якіх раней камяні нібыта былі мяккімі і розныя істоты пакідалі на іх сляды. Вада са слядоў лічыцца святой і гаючай, да камянёў носяць ахвяраванні. З пашырэннем хрысціянства многія С. набылі функцыі *прошчаў*.

*Літ.*: Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса. Мінск, 1929; Формозов А.А. Камень «Щеглец» близ Новгорода и камни-«следовики» // Советская этнография. 1965. №5; Яго ж. Очерки по первобытному искусству. М., 1969 (МИА. № 165); Семенов В.А. Камни-следовики в культурной традиции народов Ингерманландии // Финно-угры и славяне: (пробл. ист.-культ. контактов): межвузовский сб. науч. тр. Пермского ун-та. Сыктывкар, 1986; Almgren B. Hällristningarnas tro: Till tolkningen av de svenska hällristningarna från bronsåldern // Saga och Sed. 1977. Uppsala, 1978. *Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі.*

**СЛО́НІМ**, горад, цэнтр Слонімскага р-на Гродзенскай вобл., на р. Шчара пры ўпадзенні ў яе р. Іса.

С. узнік як крэпасць на зах. рубяжах старaж.-рус. дзяржавы. У 2-й пал. 12 ст. стаў цэнтрам рамяства і гандлю. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 пад назвай Услонім (Вослоним, Вслоним). У сяр. і 2-й пал. 13 ст. некалькі разоў пераходзіў да галіцка-валынскіх, літ. князёў. Каля сяр. 13 ст. ім валодаў сын Міндоўга Войшалк, у 1255 ён перадаў горад сыну Данілы Раманавіча Галіцкага – Раману. У 1258–59 С. пад уладай Літвы. У 1280-я г. горадам правіў «князь Вослонимский» Васілька. У к. 13 ст. канчаткова ўвайшоў у склад ВКЛ (з 1413 у Трокскім, з 1507 у Навагрудскім ваяводствах). У 1276 вял. кн. літ. Трайдзень пасяліў у ваколіцах горада прусаў (на думку некаторых даследчыкаў, *яцвягаў*).

Замчышча старaж. С. размешчана ў цэнтры сучаснага горада, у межах вуліц Першамайская, Савецкая, імя Энгельса, Маякоўская. Пляцоўка чатырохвугольная, з Пд і У абмежавана стромкімі схіламі, з Пн і З – шырокімі равамі. Даследавалі ў 1959 Г.І.Пех (62 м²) і Я.Г.Звяруга (168 м²). Культ. пласт (5 м) добра захаваў арганічныя рэчывы, у т.л. дрэва, скуру і інш. У пластах 11–15 ст. выяўлены насцілы вуліц з тонкіх бярвён і плашак. Адна вуліца шыр. 4,2–6,5 м праходзіла з Пн на Пд, другая шыр. 3–4 м прылягала да яе на З. Абапал вуліц – рэшткі жылых і гасп. пабудоў памерамі ад 4 м² (гасп. пабудовы) да 20 м² (жылыя дамы). Большасць пабудоў – зрубныя, з хвойных парод дрэў, рубленыя «ў абло». Гасп. пабудовы слупавой канструкцыі. У кутах дамоў каля ўвахода размяшчаліся печы. Насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай, хатнімі промысламі і рамёствамі: ганчарствам, апрацоўкай дрэва, косці, шавецкай справай і інш., пра што сведчаць знойдзеныя разнастайныя вырабы з жалеза, каляровых металаў, шкла, дрэва, косці, скуры і тканін. Знойдзены таксама прывазныя вырабы: шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты, рыфлёныя амфары кіеўскага тыпу, бронзавая фібула з патоўшчанымі канцамі, шкляная пасудзіна з арабскім надпісам і інш. Сярод прадметаў узбраення і рыштунку конніка – жал. шлем з наноснікам, разнастайныя тыпы шпор, скрэбла для чысткі коней.

Адначасова з замчышчам існавалі ўмацаваныя паселішчы ва ўрочышчах Косаўскі Тракт (паўд. ўскраіна горада; пл. каля 1,8 га, было ўмацавана валам выш. каля 5 м) і Малева, або Акураўшчына (паўн. ўскраіна; пл. каля 0,5 га). У ваколіцах старaж. С. былі і неўмацаваныя паселішчы. Абследавалі ў 1963 В.Р.Супрун, у 1974 Л.Д.Побаль. Знойдзены фр-ты керамікі 6–8 ст., ганчарнай керамікі раннефеад. часу.

*Літ.*: Мелешко В.И. Слоним: ист. очерк. Минск, 1962; Пех Г.И. Раскопки древнего Слонима // Древности Белоруссии. Минск, 1966.

*Я.Г.Звяруга.*

**СЛО́НІМСКІ І́ДАЛ**, выява язычніцкага бажаства, знойдзеная ў 1934 на ўскраіне г. Слонім. Скульптура памерамі 46 × 22 × 15 см, высечаная з пясчанага вапняку. Мае выгляд мужчынскага торса без рук, твар даволі плоскі з завостранай бародкай і шырокім носам з гарбінкай; добра абазначана шыя, выразна пракрэслены вочы і рот. Фігура рэльефная з усіх бакоў. Ніз скульптуры клінападобны, відаць, таму, што яе ўстаўлялі ў спец. пастамент. Захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

*Літ.*: Стаброўскі І. Каменная галава, знойдзеная ў Слоніме // Беларусь. 1946. № 4. *Л.У.Дучыц.*

**СЛО́НІМСКІ ШЛЕМ**, археалагічная знаходка – яйкападобнае баявое нагалоўе з паўмаскай. Каўпак шлема састаўны, складаецца з 4 бакавых і верхняй



*Слонімскі шлем.*

пласціны. Бакавыя пласціны змацаваны ўнізе 2 абручамі. У ніжнім абручы маюцца адтуліны для падвешвання барміцы. Да яго таксама прымацавана паўмаска. У момант выяўлення ўнутры шлема ляжалі 2 кавалкі скуры, магчыма, рэшткі падшлемніка. Дыям. каўпака 32 см, выш. 17 см. Паводле канструкцыйных асаблівасцей С.ш. мае бліжэйшыя аналогіі сярод знаходак з зямель балтаў (Літва, Латвія, Калінінградская вобл. Расіі). Разам з тым, паўмаскі, блізкія да слонімскай, з'яўляюцца ў Зах. і Цэнтр. Еўропе ў 2-й пал. 12 ст. Гэта сведчыць, што слонімскі шлем спалучыў балцкія (форма і канструкцыя каўпака) і еўрап. (паўмаска) традыцыі, датуецца 2-й пал. 12 – сяр. (не пазней 2-й пал.) 13 ст.

*Літ.*: Плавінскі М. Слонімскі шлем (датаванне і паходжанне) // Гістарычны альманах. Гародня, 2003. Т. 8.

*М.А.Плавінскі.*

**СЛУЦК**, горад, цэнтр Слуцкага р-на, на р. Случ. За 105 км на Пд ад Мінска. Вузел чыгунак на Асіповічы, Баранавічы, Салігорск, аўтадарог на Бабруйск, Мінск, Салігорск.

Упершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» (летапісны Случеск) пад 1116 як горад Тураўскага княства. З 1160 цэнтр удзельнага княства. З 1320-х г. у складзе ВКЛ. У 15 ст. буйны феад. горад, меў Верхні, Ніжні і Новы замкі. У 1441 атрымаў магдэбургскае права. У пач. 16 ст. неаднаразова адбіваў напады крымскіх татар. З 1507 у складзе Навагрудскага павета. У 1582 падзелены паміж братамі Алелькавічамі на 3 часткі: Стары горад з умацаваннямі і замкамі на правым беразе Случы, Новы горад на левабярэжжы ракі і Востраў (прадмесце на ПнУ ад горада). Уніз па цячэнні р. Случ, на правым беразе, вакол Троіцкага манастыра ўзнікла прадмесце Трайчаны. У 1593 – каля 1100 двароў, 7 тыс. ж. У 1630–40-я г. ператвораны ў горад-крэпасць (1200 × 1000 м), умацаваны земляныміваламі і ровам, на ўсх. ускраіне знаходзілася цытадэль. Уваход у горад быў праз мураваныя брамы (Віленскую, Капыльскую, Астроўскую і драўляную Навамейскую) з пад'ёмнымі мастамі. У час антыфеад. вайны 1648–51 і вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 вытрымаў аблогі паўстанцаў і расійскіх войск. У Паўн. вайну 1700–21 С. займалі шведскія і рас. войскі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

Стараж. гарадзішча ўзнікла ў раннім жал. веку на правым беразе Случы, у сутоках яе з р. Бычок (цэнтр сучаснага горада). Даследавалі ў 1929 А.М.Ляўданскі і А.С.Дубінскі, у 1957 Э.М.Загарульскі, у 1966 П.Ф.Лысенка (36 м²), у 1985–86 Л.У.Калядзінскі (300 м²). Гарадзішча займала выспу авальнай формы памерам 80 × 100 м, якая ўзвышаецца над поймай р. Случ на 5–7 м. Выяўлены каменная выбрукоўка, гасп. ямы, жал. сякера-кельт, гліняныя прасліцы, фр-ты ляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду. Знаходкі датуюцца 6 ст. да н.э. – 2–3 ст. н.э.

На паўд.-ўсх. ускраіне горада, на левым беразе Случы знаходзілася другое гарадзішча ранняга жал. веку. У пач. 1970-х г. абследаваў В.Б.Перхаўка.

У 11 ст. на месцы Слуцкага гарадзішча ўзнік дзядзінец. Ён займаў авальную пляцоўку пл. 0,6 га, умацаваную валам. З боку поля быў роў глыб. 1,5–2 м. Культ. пласт 3,4–4,2 м. Для забудовы С. характэрная сядзібная планіроўка. Даследаваны 3 вуліцы шыр. 2–2,4 м з дошак і драўляных плашчакоў на лагах, пад якія клалі бярвёны. Уздоўж вуліц і паміж сядзібамі захаваліся рэшткі вастраколаў: укапаныя ў грунт слупкі, ці плашчакі або плятні, аснову якіх складалі дубовыя калы. Выяўлена больш за 30 жылых і гасп. пабудоў 12–13 ст. Большасць з іх зрубныя, захаваліся на 2–4 вянкі. Пл. жытлаў 9–20 м², клецяў і хлявоў – 4–11 м². Пры ўзвядзенні гасп. пабудоў выкарыстоўвалася слупавая тэхніка «ў шула». У некаторых пабудовах захавалася падлога (дошкі насцілалі на лагі, якія ўсякалі ў сцены зруба паміж 2-м і 3-м вянкамі), дзверы 2 тыпаў (з вушакамі з бярвён і дошак) і суцэльнае палатно (86 × 59 см), глінабітныя печы на слупавым апечку, з чарэнню, абкладзенай каменнем. У пласце 12 ст. выяўлены рэшткі кузні (3,4 × 3,5 м) з печкай-каменкай, больш за 50 вырабаў з жалеза, у т.л. прылады для металаапрацоўкі, паўфабрыкаты і адходы кавальскага рамяства. У пласце 13 ст. захаваліся рэшткі металургічнай майстэрні (зруб пл. 16 м²) з вял. колькасцю металургічнага шлаку і каля 20 крыц вагой 350–1610 г. Знойдзены металічныя прылады працы (кавадла, зубілы, кернеры, долаты, малаток-цвікадзёр, нажы сталярныя і касцярэзныя, свердзел, разец такарнага станка, шылы, сякеры), прадметы хатняга ўжытку (нажы, нажні-

цы шарнірныя і спружынныя, цыліндрычныя замкі і ключы да іх, вушкі і абручы ад вядзёр, патэльні, чапяла, качарга, брытва 12 ст., дэталі бязмена 13 ст., скобы, прабоі, дзвярныя клямкі), зброя (наканечнікі кап'я, суліцы, стрэл, крыжавіна мяча, бронзавае наверша булавы, гіра кісцяня, кольцы ад кальчугі), рыштунак конніка і каня (стрэмя, шпоры, з іх адна інкруставана золатам, цуглі, падкова). Выяўлены вырабы з дрэва (рыдлёўкі, пранікі, шавецкая калодка, посуд, калатоўкі, вёслы), скуры (абутак, кашалькі, рамяні, рукавіцы), косці (накладкі на лук і калчан, гузікі, дзяржанні нажоў, праколкі), кераміка (гаршкі і міскі, грузіла), а таксама каменная форма для вырабу зярнёных пацерак, бронзавыя і шкляныя бранзалеты, скроневыя кольцы, медная і бурштынавая падвескі, пярсцёнкі, каралі. Большасць рэчаў з каляровых металаў і шкла завезена ў Слуцк з Каўказа, Прычарнамор'я, Прыбалтыкі. Знойдзены таксама сярпы, косы, каменныя жорны, пісалы, шахматныя фігуркі (пешкі, ладдзі, сланы і каралі). У С. існаваў каменны храм, узведзены ў 2-й пал. 12 ст. ў тэхніцы мяшанай муроўкі (захаваліся плінфа і вапняковыя пліткі).

На ПнУ ад дзяцінца ў 12–13 ст. існаваў вакольны горад памерамі 40–80 × 150 м. У 1987 даследаваў Л.У.Калядзінскі. Знойдзены кераміка 13–15 ст., шкляныя бранзалеты, шыферныя праслiцы.

На ПдЗ ад дзяцінца, на правым беразе р. Бычок у канцы 16–17 ст. размяшчаўся пасад. У 1985 даследаваў Л.У.Калядзінскі. Культ. пласт больш за 3 м. Выяўлены рэшткі гасп. пабудоў, вастракол, участак вуліцы, кераміка (посуд, кафля, люлькі, цацкі), шкляны посуд (кварты, шклянкі, слоікі, бутэлькі), вырабы з косці і жалеза. На астатняй тэр. С. культ. пласт 0,2–0,6 м, знойдзены рэчы 17–18 ст.

*Літ.*: Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мінск, 1978; Колединский Л.В. Работы в Слуцке. М., 1987; Яго ж. Раскопки на детинце древнего Слуцка. М., 1988.

*Л.У.Калядзінскі.*

**СЛУЦКІ ВЕРХНІ ЗАМАК**, археалагічны помнік. Існаваў у 14–17 ст. на месцы дзяцінца г. Слуцк. Пл. каля 0,6 га. Меў авальную форму. Упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах 15 ст. У 1-й пал. 17 ст. перабудаваны ў замкава-палацавы драўляны комплекс. Даследаваў у 1985–86 Л.У.Калядзінскі (300 м$^2$). Культ. пласт каля 1 м. Знойдзены каля 20 каменных ядраў 16 ст., посуд шкляны (шклянiцы, кварты) і керамічны (гаршкі, міскі, паўміскі, талеркі, кубкі, рынкі) 17 ст., кафля тэракотавая, паліваная, паліхромная, рэльефная, цэлыя экзэмпляры кафлі з адбіткамі герба г. Слуцк (выява крылатага каня з манаграмай уладальніка горада Багуслава Радзівіла).

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мінск, 1978; Колединский Л.В. Раскопки на детинце древнего Слуцка. М., 1988.

*Л.У.Калядзінскі.*

**СЛУЦКІ МОГІЛЬНІК**, археалагічны помнік 16 ст. на тэр. сучаснага г. Слуцк. На правым беразе р. Случ, за 150 м на Пн ад вул. Працоўная. Выявіў і абследаваў у 1990 у час буд. работ Л.У.Калядзінскі. Нябожчыкаў хавалі ў дубовых дамавінах, выдзеўбаных з суцэльнага тоўстага бервяна, на глыб. 1,7–1,9 м. Дамавіну накрывалі тоўстай дубовай дошкай, якую мацавалі каванымі жал. цвікамі. На могільніку знойдзены груба апрацаваны каменны крыж (83 × 45 см) з выступам унізе (10 × 12 см) і выбітай выявай, якая нагадвае герб.

*Л.У.Калядзінскі.*

**СЛУЦКІЯ МАНЕТНЫЯ СКАРБЫ**. Знойдзены ў г. Слуцк Мінскай вобл. ў 1887 і 1902.

**Скарб 1887.** У каменным склепе ў 2 мяхах знаходзілася каля 2000 талераў. Вядомы 33 манеты.

Іспанскія Нідэрланды (15 экз.): патагоны Альберта і Ізабелы [1599–1621] – 2; Філіпа IV [1621–65] – 6; Карла II [1665–1700] – 7.

Злучаныя Нідэрландскія правінцыі (13 экз.): Аверэйсел – 1695, 1698; Галандыя – 1672, 1676; Давентэр – 1698, 1699; Зеландыя – 1694 (2); Утрэхт – 1694, 1695; Люцiх (біскупства) – 1653 і 1654 (3).

Германская імперыя (1 экз.): Фердынанд II – 1624.

Савоя (1 экз.): Віктор Амадэй – 1690.

Швейцарыя (3 экз.): г. Санкт-Гален – 1620 і 1623 (2).

Схаваны ў к. 17 – пач. 18 ст. Самы буйны скарб талерных манет на тэр. Беларусі.

**Скарб 1902**. Складаўся з 20 залатых манет, з якіх 4 экз. былі вывучаны ў Археал. камісіі (Санкт-Пецярбург, Расія): англійскія ноблі Генрыха IV [1399–1413] – 2; перайманні мухраў патанскага султана Дэлі Мухамада ібн Таглука [1325–51] – 2. Схаваны ў 1-й пал. 15 ст.

*Літ.:* Рябцевич В.Н. О чем рассказывают монеты. Минск. 1977; Яго ж. Нумизматика Беларуси. Минск, 1995; Бектинеев Ш.И. Слуцкий клад 1902 года (к истории денежного обращения Великого княжества Литовского на рубеже XIV и XV вв.) // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10.

*В.Н.Рабцэвіч.*

**СМАЛЬКІ**, археалагічны помнік – курганны могільнік полацка-смаленскіх крывічоў каля в. Смалькі Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. За 0,8 км на У ад вёскі ў лесе, побач з дарогай у вёску. 35 курганоў круглых (выш. 1–2 м, дыям. 6–10 м) і падоўжаных (памеры 12 × 8 × 1,5 м), 3 курганы выш. 3 м, адзін выш. 4,5 м, дыям. каля 20 м. Каля вял. насыпаў захаваліся раўкі. Выявіў у 1951 Л.В.Аляксееў. У 1973 Г.В.Штыхаў даследаваў 2 падоўжаныя курганы. У адным выяўлены попельна-вугальны слой, перапаленыя косткі, 2 перакуленыя гаршкі і абломак трэцяга. У 1993

В.М.Ляўко даследавала 2 круглыя (выш. 0,85 і 1,2 м, дыям. 6 і 6,2–6,8 м) і падоўжаны (11 × 9,5 × 1,7 м) курганы. У насыпах прасочваецца попельна-вугальны слой, выяўлены кальцыніраваныя косткі. У адным кургане знойдзены 2 фр-ты бронзавых скроневых кольцаў. Датуецца 8–9 ст.

*Літ.:* Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; Левко О.Н. Племенные структуры, погосты и волости Витебского Подвинья в конце I – начале II тысячелетия // Ученыя зап. Витебского пед. ун-та. Витебск, 2003. Т. 2. *В.М.Ляўко.*

**СМА́ЛЬТА** (ням. Smalte ад schmelzen плавіць), каляровае непразрыстае (глушанае) шкло ў выглядзе маленькіх кубікаў або пласцінак, з якіх выкладваецца мазаіка. На Русь трапіла з Візантыі ў к. 10 ст. Выкарыстоўвалася для аздаблення алтароў у храмах Кіева, Ноўгарада, Пераяслава. Найб. поўна захаваліся мазаічныя пано ў Кіеўскім Сафійскім саборы (Маці Божая Аранта) і царкве Архангела Міхаіла Кіеўскага Міхайлаўскага манастыра (Дзмітрый Салунскі).

С. мацавалася да сцен вапнавай рошчынай з дамешкамі дробнага пяску, збожжа, саломкі. У 12 ст. мазаіку на Русі выцесніла фрэскавая размалёўка, вытворчасць С. спынілася. Адноўлена ў 18 ст. М.В.Ламаносавым. У Беларусі вядома па раскопках храма-пахавальні Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра (М.К.Каргер), *Полацкага Верхняга замка* (Г.В.Штыхаў), *Віцебскага дзяцінца* (Л.У.Калядзінскі). У Полацку сабрана больш за 23 кг глушанага шкла чорнага, цёмна-чырвонага, жоўтага, зялёнага колеру (квадраты 2,5 × 2,5, 4 × 4 см, трохвугольнікі і палочкі таўшч. 6–8 см). Паводле хімічнага складу зялёная і жоўтая С. ўяўляюць сабой свінцова-крэменязёмнае шкло, чорная і цёмна-чырвоная – натрыева-кальцыева-крэменязёмнае шкло. Полацкая С. паводле хімічнага складу адпавядае С. з Кіева, Чарнігава. У Віцебску выяўлена т.зв. «залатая кантарэль» – С. з празрыстага бясколернага натрыева-каліева-кальцыева-крэменязёмнага шкла ў выглядзе кубікаў памерамі 9 × 8,3 × 8,5 мм, вагой 1,1 г. На верхнюю грань кубіка наносілася залачоная фольга, пакрытая шкляной пласцінкай таўшч. 1 мм. Паводле хімічнага складу С. з Віцебска адпавядае грэчаскім узорам; паходзіць, верагодна, з храма св. Міхаіла, пабудаванага на княжацкім двары Віцебскага дзяцінца ў пач. 12 ст.

*Літ.:* Виннер А.В. Материалы и техника мозаичной живописи. М., 1953; Безбородов М.А. Стеклоделие Древней Руси. Минск, 1956; Лазарев В.Н. Мозаики Софии Киевской. М., 1960; Щапова Ю.Л. Стеклянные изделия древнего Новгорода // МИА. 1963. №117; Безбородов М.А. Исследование мозаичных стекол XII в. из Полоцка // ДАНБ. 1964. Т. 8, №3; Лазарев В.Н. Михайловские мозаики. М., 1966; Щапова Ю.Л. Стекло Киевской Руси. М., 1972; Штыхов Г.В. Древний Полоцк, IX–XIII вв. Минск, 1975; Раппопорт П.А. Полоцкое зодчество XII века // СА. 1980. № 3. *Л.У.Калядзінскі.*

**СМАЛЯ́НСКІ ЗА́МАК**, Белы Ковель, Малы Ковель, помнік палацава-паркавай архітэктуры 1-й чв. 17 ст. на паўн.-зах. ускраіне в. Смаляны Аршанскага р-на Віцебскай вобл., на правым беразе р. Дзярноўка (правы прыток р. Адроўка). Узведзены ў 1620 кн. С.А.Сангушкам-Ковельскім. У Паўн. вайну 1700–21 замак моцна пашкоджаны: яго ўмацаванні былі часткова ўзарваны рускімі войскамі пры адступленні ў 1708. Паводле акварэлі Ю.Пешкі, у к. 18 ст. замак быў у паўразбураным, закінутым стане. У 2-й пал. 19 ст., калі Смаляны належалі памешчыку Сямёнаву, сцены замка разбіраліся для продажу цэглы. Новы гаспадар замка – інжынер В.А.Цітоў – у апошняй чв. 19 ст. спыніў разбурэнне помніка і правёў некаторыя работы па кансервацыі замкавай вежы. Да нашага часу захавалася 5-ярусная вежа і рэшткі сцен.

У 1980 замак абследавала В.М.Ляўко. У 1991–93 археал.-архіт. даследаванне замка правяла экспедыцыя Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та. Агульная пл. замка складала каля 1250 м². Пабудаваны з чырвонай цэглы-пальчаткі і камянёў на вапнавай рошчыне, у выглядзе прамавугольніка (52 × 25 м) з вуглавымі 3-ярусавымі вежамі і 5-ярусавай 5-граннай вежай на паўн.-ўсх. фасаднай сцяне. Унутраны аб'ём палаца падзяляўся на асобныя памяшканні цаглянымі сценамі-перагародкамі таўшч. 0,7–1,15 м. Корпус палаца 3-павярховы, па перыметры двара меў сцены таўшч. 1,2–1,6 м. Муроўка нагадвае т.зв. галандскую. 5-ярусная замкавая вежа (захавалася часткова) вылучаецца вытанчаным рэльефным дэкорам, які мякка кантраставаў з гладкай паверхняй сцен. Захаваліся сляды вітой лесвіцы, што ішла па ўнутраным перыметры вежы, шмат ніш рознага памеру, арачны пераход з гал. корпуса ў вежу, дэталі камінаў. Ёсць звесткі, што на схіле жыцця кн. С.А.Сангушка загадаў распісаць пакоі карцінамі на рэлігійныя сюжэты. Звонку замак быў пакрыты тынкам светла-шэрага колеру. У пакоях стаялі печы з белай кафлі, упрыгожанай геам.-расліннымі ўзорамі, геральдычнымі матывамі з манаграмай, гербам С.Сангушкі, з выявай «Пагоні» і датамі 1620 і 1622. Падлога ў асобных памяшканнях была выкладзена белапаліванай керамічнай пліткай.

У ходзе раскопак выяўлены рэшткі муроўкі 2 вежаў. Адна з іх прамавугольная ў плане (добра бачна на акварэлі Ю.Пешкі), памерамі 6,7 × 4,5 м, раскапана на паўн.-ўсх. вугле замка. На Пд ад вежы на глыб. 0,3 м зафіксаваны фр-т муроўкі ўсх. сцяны замка, таўшч. 1,45 м. Другая вежа круглая ў плане, выяўлена пасярэдзіне ўсх. сцяны замка з яе вонкавага боку. Вонкавы дыям. 5 м, унутраны – 2,3 м; выш. 1,2 м, таўшч. сцяны 1,35 м. Вежа мае перавязку з муроўкай замкавай сцяны, што сведчыць

аб адначаснасці іх будаўніцтва. На глыб. 1,45 м ад паверхні зямлі зафіксаваны рэшткі падлогі, знойдзены кавалкі керамічнай пліткі і пляскатай дахоўкі 17 ст. Паўн. сцяна замка таўшч. 1,45–1,6 м. На У ад замка на поплаве выяўлены рэшткі цаглянай агароджы 18 ст. Каля палаца і ўсх. сцяны замка быў храм-хрысцільня (баптыстэрый), шыр. 5 м, расчышчаны ў раскопе на даўж. 4,2 м. Меў трохгранную апсіду, арыентаваную на З. Захаваўся падмурак выш. 0,3–0,4 м, складзены з 3–4 радоў цэглы-пальчаткі. Унутры выяўлена купель з 2 радоў чырвонай цэглы-пальчаткі, у выглядзе трохпялёсткавага крыжа. Каля храма знойдзены бронзавы крыж-энкалпіён 17 ст. (выш. 7,5 см, шыр. 5 см). Падчас археал.-архіт. даследаванняў С.з. сабрана калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры 17–18 ст. (2656 адзінак), пераважна керамічныя вырабы – посуд, пячная кафля (больш за 1,5 тыс. фр-таў тэракотавай, зялёнапаліванай і паліхромнай, большасць датуецца 1-й чв. 17 ст.), буд. матэрыялы – цэгла, керамічная і гліняная плітка для падлогі, дахоўка. Сярод металічных вырабаў 17–18 ст. (64 адзінкі) – ключы ад навясных замкоў, трохвугольны корпус замка, дэталі накладнога замка з клямкай, 2 кухонныя нажы, серп, абутковая падкоўка, спражка ад рэменя. Шкляныя знаходкі (112 фр-таў) прадстаўлены кавалкамі аконных шыб і посуду (келіхі і шкляніцы с зялёнага шкла, кварты, бутэлькі).

*Літ.*: Баравы Р.В. Да гісторыі замка ў Смалянах // ПГКБ. 1971. № 3; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987. *В.Е.Собаль.*

**СМАРГО́НСКАЕ МЕСЦАЗНАХО́ДЖАННЕ**, археалагічны помнік – месцазнаходжанне рагавых вырабаў на Пд ад г. Смаргонь Гродзенскай вобл., у поймавых адкладах левага берага Віліі, пры ўпадзенні ў яе рэк Драя і Белая. Пры падводнай здабычы пяску і жвіру для мясц. завода буд. матэрыялаў знойдзена вял. колькасць астэалагічных рэштакаў, каля сотні рагавых сякер і матык, у т.л. з круглымі і авальнымі адтулінамі для дзяржанняў, якія ў пераважнай большасці адносяцца да мезалітычнага часу. Некаторыя вырабы арнаментаваныя.

*Літ.*: Чарняўскі М.М., Каліноўскі П.Ф. Рагавыя прылады працы са Смаргонскага месцазнаходжання // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Чернявский М.М. Древнейшие роговые орудия из-под Сморгони // Lietuvos archeologila. Vilnius, 1992. *М.М.Чарняўскі.*

**СМЕ́ДЗІН**, археалагічны помнік – старажытнае паселішча каля былой в. Смедзін (цяпер прыстань) Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. За 0,3 км на Пн ад прыстані, на тэрасе левага берага р. Сож і схілах яе затокі і старарэчча. У 1926 адкрыў К.М.Палікарповіч, з 1976 даследуе А.Г.Калечыц.

Знойдзены пераважна вырабы з крэменю (нуклеусы, сякеры, скрабкі, разцы, праколкі, свердлы, скоблі) і адходы крамянёвай вытворчасці, рэшткі ляпнога посуду, упрыгожанага арнаментам (грабеньчатым, ямкавым, лапчастым), нарэзкамі, насечкамі, лінейным штампам і іх спалучэннямі.

Знаходкі належаць да эпох неаліту (верхнеднепроўская культура), ранняга і сярэдняга бронзавага веку (сярэднедняпроўская, сосніцкая культура), ранняга жал. веку (зарубінецкая культура), эпохі Кіеўскай Русі, позняга сярэдневякоўя.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т. 1 *А.Г.Калечыц.*

**СНІ́ТКА** Андрэй Канстанцінавіч (1866, Вільня – 13.3.1920), беларускі археолаг, этнограф, краязнавец і музеязнавец. Скончыў Рыжскі політэхнічны ін-т (1888). Адзін з арганізатараў Мінскага царкоўнага гісторыка-археал. к-та (з 1908 сакратар, з 1909 старшыня), Мінскага царкоўна-археал. музея (1908). З 1915 настаўнік гімназіі ў Глухаве Чарнігаўскай губ. Вёў раскопкі ў Мінскім (Рагава, Радашковічы, Крычкі, Калізберг), Барысаўскім, Ігуменскім паветах, у Пінску, Тураве, Слуцку. Абследаваў манастыры Слуцка, Пінска, Турава. Частку прадметаў для музея С. атрымаў ад Г.Х.*Татура*. Сярод экспанатаў былі старыя іканастасы, крыжы, скульптура, калекцыі археал., этнагр., нумізматычная, археаграфічная, старадрукаў. Удзельнічаў у выданні «Мінскай даўніны», у адным з выпускаў якой апісаў дакументы Слуцкага Свята-Троіцкага (Трайчанскага) манастыра і даследаванні ў Тураве. Апісаў Нікольскую царкву ў Смалявічах, Мінск у 17 ст., склаў радавод слуцкіх князёў Алелькавічаў і інш. Аўтар гісторыі Слуцка (не апублікавана). *Г.А.Каханоўскі.*

**СНЯ́ДЗІН**, археалагічныя помнікі – гарадзішча 12–14 ст. і могільнік 2-й пал. 16–18 ст. у в. Снядзін Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», складзеным у к. 14 ст., упамінаецца пад назвай Смедзін сярод кіеўскіх гарадоў на р. Прыпяць.

Гарадзішча ў цэнтры вёскі, на невысокім узвышшы. Умацаванні не захаваліся. Культ. пласт (0,7–0,9 м) выявіў А.В.Іоў у 1995. У 1996–2002 на пл. каля 0,5 га раскапана 187 м². Выяўлены рэшткі наземнага зрубавага жытла з падпадлогавай ямай, у якой знойдзены бронзавы пазалочаны крыж-энкалпіён, керамічная свяцільня, крышталёвая шарападобная пацерка і інш. У культ. пласце знойдзена шмат керамічнага посуду 12–14 ст., шкляныя бранзалеты, шыферныя праслíцы, касцяны наканечнік стралы, свінцовае наверша булавы, жал. сякера. Мяркуючы па знаходках, тапаграфіі, стратыграфіі і інш. даных, гарадзішча ніколі не мела статусу горада, а было феад. замкам. Паводле інвентару 1654 на месцы гарадзішча існавалі толькі царква і баярская сядзіба.

Могільнік у цэнтры вёскі, на месцы гарадзішча стараж.-рус. Смедзіна. Візуальна не прасочваецца, у пісьмовых крыніцах не ўпамінаецца. Адзін з найб. вывучаных пахавальных помнікаў



*Да арт.* ***Снядзін.*** *Крыж 2-й пал. 17 ст. з могільніка.*

позняга сярэдневякоўя і Новага часу ў Беларусі. Адкрыў у 1995 А.В.Іоў. У 1996–2002 даследаваў 150 м², расчышчана 83 пахаванні. Нябожчыкі ў драўляных трунах ці ў калодах, галавой на З. Выяўлены металічныя крыжыкі-цельнікі, медальёны, гузікі, цвікі ад трун. Прасочваецца абрад пакідання ў пахаванні грошай – т.зв. «аболаў памерлых». Знойдзена 195 манет. Большасць з пахаванняў датуецца 2-й пал. 17 ст.

*Літ.:* Дучыц Л.У., Іоў А.В., Ляўко В.М. Археалагічнае вывучэнне гарадскіх і вясковых могільнікаў // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4. *А.В.Іоў.*

**СО́БАЛЬ** Валянцін Енісеевіч (н. 4.3.1949, г. Паставы Віцебскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1988). Скончыў БДУ (1972). З 1974 у ІГ АН Беларусі, з 1988 у рэстаўрацыйна-праектным ін-це Мін-ва культуры, у 2001–09 у музеі нар. архітэктуры і побыту. Даследуе матэрыяльную культуру гарадоў і замкаў Беларусі 14–18 ст. Праводзіў раскопкі Мінска, мураваных замкаў 14–17 ст. у Гродне, Міры, Навагрудку, Нясвіжы, сядзіб відных дзеячаў нац. гісторыі і культуры: В.Ваньковіча ў Мінску, С.Манюшкі ва Убелі, В.Дуніна-Марцінкевіча ў Малой Люцынцы, Т.Касцюшкі ў Мерачоўшчыне, Н.Орды ў Варацэвічах, Верашчакаў у Карчове, Смалянах. Прымаў удзел у даследаваннях архіт. помнікаў Брэста, Гальшан, Мсціслава, Паставаў, Полацка, Магілёва, Быхава, Шклова. Распрацоўваў ахоўныя зоны культ. пласта гарадоў Мінск, Лагойск, Тураў, Браслаў, Дзісна, Валынскага прадмесця Брэста. Адзін з аўтараў альбома «Беларуская кафля» (1989), манаграфіі «Стары замак у Гродне XI–XVIII стст.» (1993).



*В.Е.Собаль.*

*Тв.:* Основные этапы заселения территории феодального Минска // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; О застройке Минска в XIV– XVIII вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мінск, 1993; Традыцыя кавальства і металаапрацоўкі сярэдневяковага Менска // З глыбі вякоў. Мінск, 1992; Археалагічна-архітэктурнае вывучэнне гандлёвых радоў у Мінску // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мінск, 2001. Вып. 5; Археалагічнае вывучэнне сядзібы Манюшак у маёнтку Убель // Там жа. Мінск, 2003. Вып. 7; Даследаванні замка Белы Ковель у Смалянах // Castrum urbis et bellum. 2002; Археолага-архітэктурныя даследаванні сядзібы Н.Орды // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; Археалагічныя даследаванні ў Нясвіжы ў 1997–1998 гг. // Мастацкая спадчына Нясвіжа: матэрыялы міжнар. навук. канф. Нясвіж, 2006. Археалагічныя даследванні дома Ваньковічаў у Мінску // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21.

**«СОВЕ́ТСКАЯ АРХЕОЛО́ГИЯ»**, навуковы часопіс па праблемах археалогіі і стараж. гісторыі. Выдаваўся з 1957 у Маскве Ін-там археалогіі АН СССР 4 разы на год; з 1992 наз. «Российская археология». Друкаваліся артыкулы пра адкрыцці сав. археолагаў, археал. даследаванні за мяжой, матэрыялы па сумежных з археалогіяй дысцыплінах, агляды сав. і замежнай літаратуры па археалогіі, рэцэнзіі.

Больш за 100 публікацый (1990) прысвечана розным аспектам археалогіі Беларусі, у т.л. 40 належаць бел. даследчыкам – У.У.Багамольнікаву, М.Ф.Гурыну, А.А.Егарэйчанку, У.Ф.Ісаенку, Т.М. Каробушкінай, А.К.Краўцэвічу, У.П.Ксяндзову, П.Ф.Лысенку, А.Р.Мітрафанаву, Л.Р.Панічавай, Г.І.Пеху, Л.Д.Побалю, Я.Р.Рыеру, І.І.Салівон, А.А.Трусаву, І.М.Чарняўскаму, М.М.Чарняўскаму, Г.В.Штыхаву і інш. Пытанням археалогіі Беларусі прысвечаны артыкулы сав. даследчыкаў Л.В.Аляксеева, І.І.Арцёменкі, Н.М.Гурынай, Ф.Д. Гурэвіч, Ю.У.Кухарэнкі, В.М.Мельнікоўскай, П.А.Рапапорта, Б.А.Рыбакова, Г.Ф.Салаўёвай, В.В.Сядова, П.М.Траццякова, В.Л.Яніна і інш.

*А.А.Егарэйчанка.*

**СО́ЖСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура, якая была вылучана ў 1970-я г. для характарыстыкі эпохі мезаліту басейнаў Верхняга Дняпра, Сажа, Бярэзіны, Беседзі. Паводле даследчыкаў (В.Ф.Капыцін, А.Г.Калечыц), С.к. – вынік кантактаў і ўзаемаўплываў насельніцтва *грэнскай культуры* і *свідэрскай культуры*, што адбываліся пасля заканчэння ледавіковай эпохі. Грэнскія рысы прасочваюцца ў тэхніцы расшчаплення крэменю, засн. на монафрантальным сколванні пласцін і адшчэпаў з адна- і двухпляцовачных нуклеусаў, у асобных тыпах прылад працы (канцавыя, двайныя, акруглыя скрабкі, рэтушныя, на зломе нарыхтоўкі і двухгранныя разцы, вырабы з выемкай, вастрыі, свердзелы і праколкі, сякучыя вырабы). Нарыхтоўкамі для пры-

лад пераважна былі адшчэпы. Свідэрскія традыцыі праяўляліся ў формах чаранковых наканечнікаў стрэл, зробленых на ножападобных пласцінах.

Эталоннымі помнікамі С.к. лічыліся стаянкі *Горкі*, *Журавель*, *Кліны-2*, на *Сажы*, *Аўрамаў Бугор*, *Бабулін Бугор* на Беседзі, *Берагавая Слабада*, *Новы Быхаў*, *Нярраж* на Дняпры, *Гарадок*, *Васілевічы*, *Міхайлаўка* на Бярэзіне. Помнікі датаваліся познім мезалітам (8–6-е тыс. да н.э.). Лёс насельніцтва С.к. звязваўся з фарміраваннем *верхнедняпроўскай культуры* эпохі неаліту.

Эквівалентам С.к. выступала *днепра-дзяснінская культура*, вылучаная ў 1980-я г. У.П. Ксяндзовым. Для абгрунтавання яе вылучэння выкарыстоўваліся матэрыялы помнікаў, што адносіліся да С.к. Вывучэнне матэрыялаў сожскай і днепра-дзяснінскай культур паказала, што яны не з'яўляюцца самастойнымі культ. з'явамі ў мезаліце усх. Беларусі і наўрад ці існавалі. Кангламерат крамянёвых комплексаў апорных стаянак, якія раней адносіліся да гэтых культур, не можа лічыцца вынікам «культурных кантактаў» стараж. насельніцтва, а з'яўляецца прыкладам механічнай змяшанасці матэрыялаў розных культур ад фінальнага палеаліту да бронзавага веку ўключна.

*Літ.*: К а л е ч и ц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Я е ж. Человек и среда обитания. Восточная Беларусь. Каменный век. Минск, 2003; Копытин В.Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; К о л о с о в А.В. История изучения и проблемы историографии сожской мезолитической культуры // Веснік МДУ імя А.А. Куляшова. 2005. № 4; Я г о ж. Новые данные по мезолиту бассейна р. Сож // Вестник Полоцкого гос. ун-та. Серия А. Гум. Науки. 2010. № 1; Я г о ж. Финальный палеолит и мезолит Посожья // МАБ. 2010. Вып. 18; К с е н з о в В.П. Мезолит Северной и Центральной Беларуси // Там жа. 2006. Вып. 13. *А.У.Коласаў.*

**СО́ЛЫ**, археалагічны помнік – грунтавы могільнік каля в. Солы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. За 3 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе 2-й надпоймавай тэрасы р. Ашмянка (левы прыток р. Вілія), у лесе. Выяўлены ў 2003 у час буд. работ. Пахаванне па абраду крэмацыі знойдзена на глыб. 0,1–0,15 м ад сучаснай паверхні. Суправаджальны інвентар уключаў 2 падвескі з чорнага металу, фр-т упрыгажэння са сплаву срэбра і бронзы, бронзавае кольца, аздобленае цыркульным арнаментам, 3 накладкі з чорнага металу, фр-т цвіка, фр-т бронзавай фібулы, 2 жал. спражкі, кавалак металічнай пласціны памерамі 50 × 70 мм, таўшч. 2 мм з заклёпкамі, жал. сякеру. Пахаванне належала хутчэй за ўсё літ. воіну, датуецца 14 ст.

*Літ.*: К о л е д и н с к и й Л.В. Солы: вещественный комплекс из грунтового захоронения XIV в. // Случайные находки: хронология, атрибуция, историко-культурный контекст: материалы темат. науч. конф. Санкт-Петербург, 2008. *Л.У.Калядзінскі.*

**СО́НІЧЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, селішчы эпохі сярэдневякоўя каля в. Сонічы Гродзенскага р-на. Помнікі выяўлены і даследаваны ў 2005 у час абследавання зоны рэканструкцыі Аўгустоўскага канала (В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі).

С т а я н к а - 1 фінальнага палеаліту і мезаліту і сярэдневяковае селішча за 0,2 км на З ад новага моста цераз Аўгустоўскі канал на аўтадарозе Сапоцкін–Сонічы, на дзюнападобным павышэнні правабярэжнай поймы канала. Памеры каля 150 × 120 м. Выш. над поймай 0,5–1 м. На момант выяўлення частка плошчы помніка была пашкоджана. Даследавана 12 м$^2$. На паверхні знойдзены крамянёвы пласціністы адшчэп. Культ. пласт да 0,3 м, слаба насычаны артэфактамі. Выяўлена 8 крамянёвых адшчэпаў, пласцін, абломкаў і рэтушаваны адшчэп, 11 фр-таў ганчарнага посуду, 2 каваныя цвікі. Найб. архаічныя матэрыялы адносяцца да свідэрскай культуры. Зараз тэр. помніка засыпана прывазным грунтам і заасфальтавана.

С т а я н к а - 2 каменнага веку за 0,1 км на ПнЗ ад вёскі, на нізкай тэрасе правага берага р. Чорная Ганча. Памеры 120 × 40 м. Выш. над поймай 1–3 м, часткова пад лесам. Знойдзена 27 крамянёвых вырабаў першаснай апрацоўкі: луска, абломкі, адшчэпы, пласціны.

С т а я н к а - 3 каменнага веку ў вёсцы, на мысападобным пясчаным выступе правага берага р. Чорная Ганча. Памеры 60 × 50 м. Культ. пласт часткова пашкоджаны пясчаным кар'ерам. Знойдзена 7 крамянёвых вырабаў першаснай апрацоўкі: луска, адшчэпы, у т.л. пласціністыя, пласціна.

С т а я н к а - 4 фінальнага палеаліту за 0,2 км на У ад новага моста цераз Аўгустоўскі канал на аўтадарозе Сапоцкін–Сонічы, на дзюнападобным павышэнні правабярэжнай поймы канала. Памеры каля 100 × 100 м. Выш. над поймай 1–1,5 м. Знойдзены крамянёвая луска і аднапляцовачны нуклеус.

С т а я н к а - 5 каменнага і бронзавага вякоў, селішча эпохі сярэдневякоўя насупраць вёскі, за 0,3 км на У ад новага маста праз Аўгустоўскі канал на аўтадарозе Сапоцкін–Сонічы, за 0,1–0,15 км на У ад стаянкі-4, на дзюнападобным павышэнні правабярэжнай поймы канала. Памеры 150 × 30 м. Выш. над поймай 0,5 м. На момант выяўлення частка тэр. помніка была пашкоджана. Выяўлены крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі (адшчэпы, пласціністы адшчэп, абломкі, пласціны), фр-т нуклеуса, 3 фр-ты ганчарнай керамікі. Даследавана 21 м$^2$. Знойдзены 43 апрацаваныя крамяні (абломкі, луска, адшчэпы, пласціны, рэтушаваная пласціна), 19 фр-таў ганчарнага посуду, 3 фр-ты шлакаў.

С т а я н к а - 6 фінальнага палеаліту за 0,8 км на У ад вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала. Памеры 200 × 50 м. Выш.

7–8 м над узроўнем вады. На момант выяўлення моцна пашкоджана. Знойдзены 2 двухпляцовачныя монафрантальныя нуклеусы ад пласцін, 1 фр-т нуклеуса, крамянёвыя адшчэпы, 16 пласцін, 7 лускавін, 6 абломкаў, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, фр-т рэтушнага разца.

С т а я н к а - 7 фінальнага палеаліту і мезаліту за 0,95 км на У ад вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала. Памеры 60 × 30 м. Выш. 8–9 м над узроўнем вады. На момант выяўлення моцна пашкоджана. Знойдзены крамянёвы двухпляцовачны нуклеус, адшчэпы (у т.л. пласціністыя), 9 пласцін, 4 лускавіны, 2 абломкі.

С т а я н к а - 8 фінальнага палеаліту і мезаліту за 1,1 км на У ад вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала. Памеры 110 × 50 м. Выш. 8–9 м над узроўнем вады. На момант выяўлення моцна пашкоджаны. Знойдзены адшчэпы (у т.л. пласціністыя), 10 пласцін, лускавіна, абломак, 1 нарыхтоўка рубячай прылады.

С т а я н к а - 9 каменнага веку за 1,3 км на У ад вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала. Памеры 150 × 50 м. Выш. 9–10 м над узроўнем вады. Знойдзены 3 крамянёвыя адшчэпы, пласціна, 2 абломкі.

С т а я н к а - 10 фінальнага палеаліту і мезаліту за 1,5 км на У ад вёскі паміж хатамі хутароў Сонічы пад высакавольтнай лініяй электраперадачы, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала. Памеры 70 × 30 м. Выш. 8–9 м над узроўнем вады. Знойдзены 3 крамянёвыя адшчэпы, пласціністы адшчэп, 3 пласціны, абломак.

С т а я н к а - 11 фінальнага палеаліту і мезаліту за 1,7 км на У ад вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала, адразу за апошнім хутарам Сонічы. Памеры 130 × 50 м. Выш. 9–10 м над узроўнем вады. Знойдзены крамянёвы аднапляцовачны нуклеус ад пласцін, па 1 фр-це нуклеуса, рэтушаванай пласціны, рубячай прылады, 98 адшчэпаў, пласцін, абломкаў і лускавін.

*Літ.:* А б у х о ў с к і В.С., Л а к і з а В.Л. Археалагічныя помнікі беларускай часткі Аўгустоўскага канала // Августовский канал и современый экотуризм. Пултуск. Минск; Гродно, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**СО́ПКІ**, пахавальныя збудаванні наўгародскіх (ільменскіх) *славен* 7–9 ст. Уяўляюць сабой крутабокія насыпы выш. 2–10 м, з плоскай вяршыняй і круглай асновай, якая выкладзена камянямі. Будаваліся паступова ў некалькі прыёмаў, пры патрэбе новых пахаванняў, таму маюць шмат'ярусную будову. З'яўляліся калектыўнымі пахавальнямі вял. патрыярхальных сямей з дзесяткамі пахаванняў, у асн. бязурнавых і без інвентару. Зрэдку сустракаюцца паясныя спражкі, шкляныя пацеркі, бронзавыя бразготкі і інш. «С.» называюць курганы ў Гарадоцкім (вёскі Мяжа, Аляксеева, Хацейка, Хабаты і інш.) і Віцебскім (в. Гарадняны) р-нах. Каля в. Хабаты выяўлены пахаванні па абрадах трупаспалення (з ляпной керамікай, блізкай да посуду з доўгіх курганоў) і трупапалажэння.

*Літ.:* С е д о в В.В. Новогородские сопки. М., 1970 (САИ; Вып. Е1–8); Б у л к и н В.А., Д у б о в И.В., Л е б е д е в Г.С. Археологические памятники Древней Руси IX–XI веков. Ленинград, 1978; С е р г е е в а З.М. Народные названия курганов на северо-востоке Белоруссии // Древности славян и Руси. М., 1988.
*Г.В.Штыхаў.*

**СО́ПЛА**, прылада для падачы паветра ад мяхоў да домніц ці горна. С. мелі форму канічнай, цыліндрычнай трубкі дыям. 3–5 см з унутраным каналам, праз які падавалася паветра. Выраблялісе з чырвонай або белай гліны. З ранняга жал. веку на тэр. Беларусі на помніках сустракаюцца асобныя фр-ты С., у значнай колькасці яны прысутнічаюць у культ. пласце гарадоў і вясковых паселішчаў перыяду сярэднявякоўя і Новага часу. *М.В.Клімаў.*

**СО́СЕНКА**, археалагічныя помнікі – паселішчы і курганны могільнік каля в. Сосенка Вілейскага р-на Мінскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 эпохі мезаліту і ранняга неаліту за 2 км на ПнУ ад вёскі, на беразе Вілейскага вадасховішча. Памеры 90 × 30 м. Выявіў у 1972, даследаваў 334 м² у 1972, 1982, 1983 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены агнішчы, гасп. ямы. Знойдзены крамянёвыя мікралітычныя ўкладышы, лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, праколкі, нажы, сякеры, абломкі гліняных ляпных гаршкоў, аздобленых грабеньчатым і накольчатым арнаментам. Датуецца 7–5-м тыс. да н.э.

П а с е л і ш ч а - 2 эпохі неаліту за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на востраве Вілейскага вадасховішча. Выявіў у 1972 і даследаваў 80 м² у 1973 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены фр-ты грабеньчатай керамікі з дамешкамі раслінных рэштkаў у гліне, крамянёвыя скрабкі, разцы, рэтушаваныя адшчэпы. Неалітычныя знаходкі сабраны і з насыпаў размешчанага тут курганнага могільніка. Датуецца 4-м – к. 3-га тыс. да н.э.

П а с е л і ш ч а - 3 эпохі неаліту за 2,5 км на ПнУ ад вёскі, на беразе Вілейскага вадасховішча. Памеры 40 × 30 м. Выявіў у 1972, даследаваў 20 м² у 1973 М.М.Чарняўскі. Знойдзены ляпная грабеньчатая кераміка і крамянёвыя вырабы. Датуецца 4-м – к. 3-га тыс. да н.э.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к   на   месцы паселішча-2. 23 насыпы: 17 круглых дыям. 6,5–11,5 м, выш. 0,6–1,9 м і 6 прадаўгаватых памерамі 6–9 × 8,5–11,5 м, выш. 0,9–1,4 м. Даследаваў у 1972 Я.Г.Звяруга. Пахавальны абрад – трупаспаленне за межамі могільніка (за выключэннем аднаго кургана). У 5 выпадках рэшткі крэмацыі змешчаны адразу пад дзірваном, у адным – у насыпе, у астатніх – на ўзроўні стараж. гарызонту. У 6 пахаваннях рэшткі спаленняў прыкрыты перавернутымі урнамі. Па-

хавальны інвентар: бронзавыя трапецападобныя падвескі, спіралькі, пласціністы бранзалет з загнутым у трубку канцом, жал. спражкі з увагнутымі бакамі, петлепадобныя трымальнікі для падвесак. У адным кургане адразу пад дзірванам знаходзіўся касцяк дзіцяці, сярод касцей – пласціністы пярсцёнак з разамкнёнымі канцамі і 3 трапецападобныя падвескі. У насыпах знойдзены жал. нажы, рыбалоўныя кручкі, матыка, крэсіва, шпількі, бронзавыя пярсцёнкі, фібулы, абломкі шыйных грыўняў, шкляныя пацеркі, гліняныя прасліцы, грузілы для сетак, тачыльныя камяні. Датуецца 8 – пач. 10 ст.

*Літ.*: Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Минск, 1989; Его ж. Работы в Понеманье. М., 1973. *М.М.Чарняўскі, Я.Г.Звяруга.*

**СО́СНІЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, сукупнасць узаемазвязаных археалагічных помнікаў бронзавага веку ў басейне Сярэдняга і Верхняга Дняпра. У якасці асобнай культуры вылучыў І.І.Арцёменка ў 1961. Назву атрымала ад паселішча каля г.п. Сосніца (Чарнігаўская вобл., Украіна). Разглядаецца як археал. культура і як кампанент *тшцінецкага культурнага кола*, варыянт усх.-тшцінецкай альбо тшцінецкай культур, тып помнікаў. Помнікі С.к. знойдзены ў Сярэднім і Верхнім Падняпроўі да нізоўяў Сажа, у басейне Дзясны, вядомы на Сейме. І.І.Арцёменка вылучае 3 этапы развіцця С.к., верагодна, у межах каля 1600 – к. 2-га тыс. да н.э. Паселішчы, пахаванні і могільнікі С.к. знаходзіліся на ўзвышшах у поймах рэк, на ўскраінах рачных тэрас, карэнных берагоў. Адзначаюцца наземныя прамавугольныя ў плане (Здзвіжаўка, *Мохаў*) і паўзямлянкавыя жытлы (Пустынка, Абакумы 1, Сосніца, Валынцава, Грышаўка на Украіне). У Пустынцы (Чарнігаўскае Палессе) жылыя пабудовы (20 жытлаў) размяшчаліся ў 2 рады ўздоўж берага. Заглыбленыя ў зямлю жытлы маглі складацца з 2 памяшканняў. Знойдзены сляды плеценых і абмазаных глінай сцен, падлогі пакрытыя валькамі і глінай, рэшткі купальных і адкрытых агнішчаў, у т.л. з каменнымі выбрукоўкамі, гасп. пабудовы, у т.л. на па́лях, культавыя збудаванні. Пахаванні здзяйсняліся ў курганных і грунтавых могільніках па абрадах трупапалажэння і трупаспалення. У курганах з трупапалажэннямі (Квятунь, Хар'еўка, Вайцяхоўка, Белыя Берагі на Украіне) нябожчыкаў змяшчалі ў ямы, скурчана на баку, галавой на Пн, ПдЗ, ПнУ, У, З. У курганах з трупаспаленнямі (Народзічы, Бясец, Белыя Берагі на Украіне) пахавальныя ямы арыентаваліся па лініі У–З, Пн–Пд, у грунтавых пахаваннях (*Вішанкі, Рудня, Ходасавічы, Гарошкаў, Сябровічы* і інш.) – па лініі У–З.

Рэчавы комплекс С.к. складаецца з гаршкоў цюльпана- і S-падобнай форм з патоўшчанымі, скошанымі вонкі венчыкамі, місак, посуду слоікавых форм, чашаў, сітаватага і мініяцюрнага посуду, гліняных праслíц, грузікаў. Кераміка аздоблена «ружанцовымі», шнуравымі, зубчатымі арнаментамі, пракрэсленымі лініямі, наколамі, насечкамі, ямкамі, «пярлінамі». Адзначаюцца крамянёвыя, каменныя, бронзавыя вырабы (шылы, наканечнік кап'я з вушкам на ўтулцы, з пяром ромбападобнай формы, кінжал з прарэзаным дзяржаннем, шпількі з закручаным у пятлю верхнім канцом, спіральныя і са спіральнымі шчыткамі бранзалеты, круглыя бляхі з вушкам). Знойдзены ліцейная форма для адліўкі ўтулкавай сякеры (кельта) і 2 долатаў (Зазім'е). Не выключана, што насельніцтва С.к. прыняло ўдзел у фарміраванні і развіцці Лабойкаўскага ачага металаапрацоўкі на тэр. Украіны. Асн. гасп. заняткі – жывёлагадоўля і земляробства.

Верагодна, генезіс С.к. адбыўся ў выніку трансфармацыі мясц. культур і груп папярэдняга перыяду, у першую чаргу сярэднедняпроўскай культуры, у выніку прытоку з З тшцінецкіх традыцый і ідэй, уплываў зрубнай культуры.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Памятники бронзового века. Минск, 1976. Вып. 3; Березанская С.С. Северная Украина в эпоху бронзы. Киев, 1982; Артеменко И.И. Сосницкая культура // Археология СССР. Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Клочко В.І. «Лобойківська металургія» (до проблеми східного кордону Східнотшцинецької культури) // «Trzciniec» – system kulturowy czy interkulturowy proces? Poznań, 1998; Куриленко В.Э., Отрощенко В.В. Сосницька культура Подесення та її зв'язки із східними сусідами // Там жа; Крывальцэвіч М. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. № 22; Dąbrowski J. Powiązanie ziemi polskich z terenami wschodnimi w epoce brązu. Wrocław etc., 1972; Górski J., Lysenko S., Makarowicz P. Radiocarbon Chronology of the Trzciniec Cultural Circle between the Vistula and Dnieper Basins // The Foundations of Radiocarbon Chronology of Cultures Between the Vistula and Dnieper: 4000–1000 BC. – Baltic-Pontic-Studies. Poznań, 2003. Vol. 12.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**СО́ШНА**, археалагічныя помнікі – паселішчы эпохі мезаліту, сярэдняга бронзавага веку і пазнейшай пары каля в. Сошна Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

Паселішча-1 за 0,3 км на ПнЗ ад вёскі, на надпоймавай тэрасе р. Вісліца. Пл. каля 5 га. Адкрылі ў 1986 В.С.Вяргей і А.А.Егарэйчанка, даследавала ў 1987 В.С.Вяргей (170 м²). Культ. пласт 0,4–0,7 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы (наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, адшчэпы, пласціны, нуклеусы, рэтушоры і інш.) 9–7 ст. да н.э., фр-ты ляпнога таўстасценнага посуду з слабавыгнутым венчыкам, аздобленага кругавымі лініямі (належалі ўсх.-тшцінецкім плямёнам), кераміка *мілаградскай культуры*, рэшткі посуду 16–18 ст.

Паселішча-2 за 0,4 км на Пн ад паселішча-1, на невысокай надпоймавай тэрасе.

Пл. больш за 1 га. Культ. пласт таўшч. 0,1–0,5 м. Даследавала ў 1987 В.С.Вяргей. Выяўлены сляды наземнага жытла памерамі 2,6 × 3 м з падковападобным агнішчам у паўд. куце, пабудова слупавай канструкцыі з ямкай у паўд.-зах. куце, слупавыя і гасп. ямы. Знойдзены крамянёвыя вырабы, фр-ты гладкага ляпнога посуду, гліняныя прасліцы, шкляная паліхромная пацерка і інш. Было заселена плямёнамі мілаградскай культуры.

*В.С.Вяргей.*

**СПАРЫШЫ́**, два невялікія гаршкі, злучаныя дугападобнай ручкай. Прызначаліся для транспарціроўкі і захоўвання прыгатаванай ежы ва ўмовах палявых работ. Вядомы па раскопках *Віцебскага Верхняга замка*, Мінскага замчышча і інш. Упамінаюцца ў шэрагу бел. інвентароў 17–18 ст. як «гаршкі дубальтавыя», вядомы пад назвамі «блізняты», «парнічкі». У побыце беларусаў выкарыстоўваліся да сяр. 20 ст.

*Літ.*: Янушкевіч Ф.І. Фарміраванне традыцый ракаўска-івянецкай керамікі (па матэрыялах позняга сярэдневякоўя) // ВАНБ. 1982. № 4; Соболь В.Е. Основные виды и формы бытовой керамики Минска XIV–XVIII вв. // К 1125-летию Полоцка: конф. «История и археология Полоцка и Полоцкой земли»: докл. на юбил. чтениях. Полоцк, 1987. *Л.У.Калядзінскі.*

**СПІ́ЦЫН** Аляксандр Андрэевіч (26.8.1858, Яранск Кіраўскай вобл., Расія – 17.9.1931), расійскі археолаг. Чл.-кар. АН СССР (1927). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1882). Працаваў выкладчыкам у Вяцкай жаночай гімназіі. З 1892 супрацоўнік *Археалагічнай камісіі*, з 1919 – Расійскай (з 1926 Дзярж.) акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. Адначасова з 1909 у Санкт-Пецярбургскім ун-це, у 1918–27 праф. Петраградскага (з 1924 Ленінградскага) ун-та. Займаўся вывучэннем, сістэматызацыяй, каталагізацыяй і публікацыяй старажытнасцей Усх. Еўропы эпохі бронзы, жал. веку і ранняга сярэдневякоўя. Найбуйнейшы спецыяліст у галіне славяна-рус. і фіна-угорскай археалогіі. Адным з першых у Расійскай імперыі выкарыстаў параўнальна-тыпалагічны і карта-графічны метады даследаванняў. Займаўся распрацоўкай методыкі палявых даследаванняў, склаў навук. метадычныя рэкамендацыі па правядзенні разведак і раскопак. Вывучаў археал. помнікі на тэр. Беларусі. Абагульніў і апублікаваў матэрыялы археал. раскопак сярэдневяковых помнікаў Бел. Панямоння. У 1893 прымаў удзел у 9-м археал. з'ездзе ў Вільні, у 1926 – у 1-м з'ездзе даследчыкаў бел. археалогіі і археаграфіі. Аўтар прац «Магчымыя літоўскія курганы VIII–IX ст.» (1896), «Рассяленне старажытнарускіх плямён па археалагічных даных» (1899), «Літоўскія старажытнасці» (1925).

*Літ.*: Пассек Т.С., Латынин Б.А. К столетию со дня рождения А.А.Спицына (1858–1958) // СА. 1958. № 3. *М.А.Плавінскі.*



*А.А.Спіцын.*

**СПО́РАВА**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Спорава Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл.

Стаянка-1 эпохі неаліту на З ад вёскі, на паўн. беразе воз. Спораўскае. Даўж. каля 100 м. Выявіў і даследаваў у 1964 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы.

Стаянка-2 *нёманскай культуры* за 2,5–3 км на ПдЗ ад вёскі, на паўн.-зах. беразе воз. Спораўскае. Выявіў і даследаваў у 1963 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт каля 0,5 м. Знойдзена больш за 60 крамянёвых прылад працы, абломкі ляпных гаршкоў, косткі жывёл, рэшткі агнішчаў, якія абкладваліся камянямі. *У.Ф.Ісаенка.*

**СПРАВАЗДА́ЧА АБ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫМ ДАСЛЕ́ДАВАННІ**, асноўны дакумент па выніках раскопак ці разведак. З'яўляецца важнейшай навук. крыніцай аб аб'екце, які вывучаўся. Складаецца і афармляецца асобай, якая атрымала «Дазвол» (*Адкрыты ліст*), у адпаведнасці з патрабаваннямі «Інструкцыі да дазволаў на правядзенне археалагічных разведак і раскопак». У справаздачы па гасп.-дагаворнай тэматыцы адлюстроўваюць умовы дагавора, склад і аб'ём выкананых паводле яго работ. На тытульным лісце справаздачы пазначаюць поўнае імя аўтара, установу, якая праводзіла археал. даследаванні, назву, месца і год выканання працы; прыкладаюць «Дазвол», змест. Ва ўводзінах указваюць мэту, задачы даследавання аб'екта, характар яго сувязі з папярэднімі працамі на помніку ці ў раёне; кіраўніка і ўдзельнікаў экспедыцыі і іх функцыі; крыніцы фінансавання. Гістарычная даведка ўтрымлівае ўсе пісьмовыя, графічныя і археал. матэрыялы аб помніку і яго стварэнні; дае абгрунтаванне яго гіст. значнасці; указвае на яго месца сярод інш. помнікаў раёна. У тэхнічнай даведцы (у справаздачах па гасп.-дагаворнай тэматыцы) прыводзяць звесткі аб запланаваных земляных работах на аб'екце будаўніцтва з указаннем параметраў і метадаў іх выканання; методыку выканання археал. прац на помніку. Асн. частка справаздачы складаецца з апісання ходу работ на помніку, стратыграфіі, выяўленых канструкцый, зачысткі мацерыка і выбаркі мацерыковых ям, аналізу сабраных знаходак, дацiроўкі помніка паводле характарыстыкі рэчаў і стратыграфіі. У высновах аўтар супастаўляе вынікі даследавання помніка з ранейшай навук. інфармацыяй аб ім ці ўпершыню фармулюе найб. значныя даныя. Дадатак фарміруецца з калекцыйнага вопісу рэчавага матэрыялу; апісання апрацоўкі і вызначэння выяўленых прадметаў (манет, вагаў, шкляных бранзалетаў, пацерак і інш.) у выглядзе табліц; заключэнняў антрапалагаў, астэолагаў, спецыялістаў па выкананні лабараторных аналізаў з тлумачэннем значнасці апошніх для матэрыялаў даследавання, дацiроўкі аб'екта і яго частак, характарыстыкі стараж. вытворчасцей і г.д. Уключае чарцяжы, малюнкі важнейшых зна-

ходак з тлумачальным подпісам і шыфрам кожнага прадмета; фотаздымкі (з пазначэннем боку, адкуль яны вяліся), якія адлюстроўваюць ход палявых работ, а таксама засыпку аб'екта, асобныя канструкцыі, ямы, профілі сценак раскопа, зачыстку мацерыка. На ілюстрацыйны матэрыял робяцца спасылкі ў тэкставай частцы справаздачы.

Захоўваецца ў архіве ІГ НАН Беларусі пасля абмеркавання і зацвярджэння. Аўтар справаздачы карыстаецца ўсімі правамі на публікацыю згодна з Законам Рэспублікі Беларусь аб аўтарскім праве. Адказнасць за якасць і своечасовае прадстаўленне справаздачы ў ІГ НАН Беларусі нясе і ўстанова, якая праводзіла археал. даследаванні.

*Літ.*: Левко О.Н. Практическая археология. Могилев, 2006. *В.М.Ляўко.*

**СПРА́ЖКА**, зашпілька, якая замацоўвае пояс, верхняе адзенне і інш., служыць таксама ўпрыгажэннем. Складаецца са стрыжня з вострым канцом і рамкі розных форм (чатырохвугольнай, авальнай, круглай), аздобленай чаканкай, ліццём, камянямі. На тэр. Беларусі сустракаюцца з 1-й пал. 1-га тыс. н.э. Рабілі з жалеза ці бронзы. Раннія С. па канструкцыйных асаблівасцях падзяляліся на 2 тыпы: аднаачасткавая рамка прамавугольнай ці авальнай формы; двухчасткавая рамка з асновай дуга- ці П-падобнай формы. Выяўлены на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі (*Лабэншчына, Малышкі*), могільніку Брэст–Трышын вельбарскай культуры і інш. З распаўсюджаннем наборных паясоў у стараж.-рус. перыяд з'явіліся С. новых форм (круглай, ліра-, В-падобнай і інш.). У 13–17 ст. выкарыстоўваліся для аздаблення літургічнага адзення, галаўных убораў, абутку. У 16–18 ст. у шырокім ужытку сярод гараджан і шляхты былі скураныя паясы, з набіўнымі бляшкамі з розных металаў, багата ўпрыгожаная С. Заможныя сяляне насілі скураныя паясы, якія зашпільваліся жал. альбо медной С. З'яўляюцца масавымі знаходкамі ў стараж.-бел. гарадах (Ваўкавыск, Мінск, Полацк і інш.). Часта сустракаюцца ў мужчынскіх пахаваннях стараж.-рус. курганоў (*Каласы, Кубліічы-на, Мадора, Наўры, Навасёлкі* і інш.).

*Літ.:* Зверуго Я.Г. Древний Волковыск X–XIV вв. Минск, 1975; Штыхов Г.В. Древний Полоцк IX–XIII вв. Минск, 1975; Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII–VI вв. до н.э. – VIII в н.э.). Минск, 1978; Кухаренко Ю.В. Могильник Брест–Тришин. М., 1980; Молчанова Л.А. Очерки материальной культуры белорусов XVI–XVII вв. Минск, 1981; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; Мурашева В.В. Древнерусские ременные наборные украшения (X–XIII вв.). М., 2000.

*А.А.Егарэйчанка, Г.М.Сагановіч, А.А.Трусаў.*




*Да арт.* ***Спражка.*** *Велямічы (1), Брэст-Трышын (2), Тайманава (3), Снядзін (4), Засвір (5), Гарадзілаўка (6), Гарадзішча (7), Гальшаны (8), Полацк (9), Чорная Лаза (10), Малое Сітна (11).*

**СТАБРО́ЎСКІ** Іосіф Іосіфавіч (2.11.1869, Слонім – 15.1.1968), беларускі археолаг і краязнавец. Чл.-кар. Віленскага аддзялення Маскоўскага археал. т-ва. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археал. ін-т, Вышэйшыя археал. курсы пры Самарскім ун-це. Удзельнік 1-й сусветнай вайны, палкоўнік. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 служыў у Чырвонай Арміі. У 1921 вярнуўся на радзіму. Вывучаў стараж. гісторыю Слонімшчыны і суседніх раёнаў, даследаваў курганы ў басейне Нёмана. Вял. асабістая калекцыя гіст.-археал. матэрыялаў С. пазней стала асновай Слонімскага краязнаўчага музея, дзе ён быў дырэктарам і хавальнікам фондаў.

*Літ.:* Алексеев Л.В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX – начале XX в. // СА. 1968. № 3. *Я.Г.Зверуга.*

**СТА́ЙКІ**, археалагічны помнік – стаянка на ПнЗ былой в. Стайкі Мінскага р-на, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Свіслач пры ўпадзенні ў яе р. Трасцянка. Пляцоўка авальнай формы памерамі 25 × 28 м выцягнута па лініі Пн–Пд, мае невял. нахіл да ракі. Выш. пляцоўкі 12 м. Выявіў у 1963 Ю.І.Драгун, абследавала ў 2005 З.А.Харытановіч. Культ. пласт 0,2–0,3 м, падзяляецца на 2 часткі пясчанай праслойкай таўшч. да 0,1 м. У верхняй частцы знойдзены жал. жужаль і стрыжні, бітая кафля; у ніжняй – крамянёвы разец на зломе пласціны, фр-т аднапляцовачнага нуклеуса, разцовы скол, пласціны і іх фр-ты, адшчэпы, луска. Помнік датуецца эпохай мезаліту, Новым часам. *М.І.Ткачова.*

**СТАРАДЗЕ́ДЗІНСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены 6.6.1926 у в. Стары Дзедзін Клімавіцкага р-на

Магілёўскай вобл. Быў змешчаны ў ганчарным гаршку і складаўся з 201 манеты: 198 куфіцкіх дырхемаў, у т.л. 196 абрэзаных у кружок ці абламаных (з іх 10 з прыклепанымі вушкамі ці адтулінамі ад іх), 2 герм. дэнарыяў і 1 візантыйскага міліярысія. На месцы знаходкі было выяўлена таксама 13 пацерак.

Арабскі халіфат: Абасіды (7 экз.), перайманні Абасідаў (5), Хамданіды (1), Бувейхіды (4), Зіярыды (2), Саманіды (152), перайманні Саманідаў (25), Волжская Булгарыя (1), нявызначаная манета (1). Манетныя двары: Андэраба (8), Антакія (1), Араджан (2), Балх (5), Бухара (19), Джэнаба (3), Джурджан (1), Ісбахан (1), Маадэн (1), Медынат ас-Салам (Багдад, 1), Нісабур (2), Нісібін (1), Самарканд (40), Сары (1), Тустэр (1), Хамадан (1), аш-Шаш (Ташкент, 86), Балгар (1), ал-Аваз (1), Сарыя (1).

Германія: Атон I [936–973] – манетны двор Вормс (1); герцаг Генрых II [955–957] – манетны двор Рэгенсбург (1).

Візантыя (1) – Іаан Цымісхій [969–976].

Схаваны каля 979. У 1926 скарб паступіў у Бел. дзярж. музей. Знік у Вял. Айч. вайну.

*Літ.*: Харламповіч П. Манетныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах Беларускага Дзяржаўнага музея // ГАЗ. Мінск, 1927. Т. 1; Фасмер Р.Р. Список монетных находок, зарегистрированных Секцией нумизматики и глиптики Академии истории материальной культуры, ч. II // Сообщения Государственной АИМК. Ленинград, 1929; Потин В.М. Находки западноевропейских монет на территории Древней Руси и древнерусские поселения // Нумизматика и эпиграфика. М., 1962. Т. 3; Яго ж. Топография находок западноевропейских монет X–XIII вв. на территории древней Руси // Тр. Гос. Эрмитажа. Нумизматика. Ленинград, 1967. № 3; Кропоткин В.В. Новые находки сасанидских и куфических монет в Восточной Европе // Нумизматика и эпиграфика. М., 1971. Т. 9. *Ш.І.Бекціннеeў.*

**«СТАРАЖЫТНАРУ́СКАЯ ДЗЯРЖА́ВА І СЛАВЯ́НЕ»**, зборнік матэрыялаў рэспубліканскага сімпозіума «Усходнія славяне і Кіеўская Русь», які адбыўся 1–3.12.1981 у Мінску ў АН БССР з удзелам археолагаў і гісторыкаў Беларусі, Прыбалтыкі, РСФСР, Украіны. Выдадзены ў 1983 у Мінску на рус. мове.

У раздзел «Славяне і іх суседзі» увайшлі звесткі пра гістарыяграфію ўсх. Беларусі (Вас.А.Булкін), матэрыялы даследаванняў могільнікаў (Г.М.Залашка) і паселішчаў (М.І.Лашанкоў, С.Я.Рассадзін, А.А.Егарэйчанка, В.І.Шадыра, Ф.М.Завярняеў) ранняга жал. веку, помнікаў кіеўскай (В.Д.Гапак) і калочынскай (Я.А.Гаруноў) культур, паказаны зах.-слав. ўплыў на раннесярэдневяковую культуру Беларусі (В.Б.Перхаўка), кантакты ўсх. славян з эстонскімі (Ю.Селіранд) і балцкімі (Л.У.Дучыц) плямёнамі, удакладнены межы рассялення радзімічаў (У.У.Багамольнікаў), асветлены пахавальныя абрады смаленскіх (Я.А.Шміт) і полацкіх (Ю.А.Заяц) крывічоў, радзімічаў (А.М.Плавінскі), дрыгавічоў (Т.М.Каробушкіна), насельніцтва Верхняга Панямоння (К.В.Паўлава). У раздзеле «Гарады і іншыя пасяленні» разгледжаны пытанні ранніх этапаў гісторыі гарадоў Панямоння (Я.Г.Звяруга), сувязей бел. стараж. гарадоў з Прычарнамор'ем і Міжземнамор'ем (Ф.Д.Гурэвіч), прыведзены вынікі раскопак у Віцебску (М.А.Ткачоў, Л.У.Калядзінскі), Брэсце (П.Ф.Лысенка), Мінску (П.А.Русаў, В.Е.Собаль), Вішчынскага замка (Э.М.Загарульскі), даследаванняў керамікі 12–15 ст. паўн.-ўсх. Беларусі (В.М.Ляўко), шкляных упрыгажэнняў (Ю.Л.Шчапава, Т.С.Скрыпчанка), трохпалосных нажоў 10–12 ст. (М.Ф.Гурын), непаліванага посуду (Н.І.Здановіч). У раздзеле «Пытанні гісторыі Старажытнарускай дзяржавы» прааналізаваны праблемы вывучэння помнікаў дойлідства Полацка (Вал.А.Булкін, Ю.В.Хадыка, В.В.Царашчатава), Гродна (І.М.Чарняўскі), Навагрудка (М.У.Малеўская-Малевіч) і інш. гарадоў Беларусі (А.А.Трусаў, П.А.Рапапорт, Г.П.Лебедзеў). Змешчаны ілюстрацыі, карты, планы, бібліяграфія. *У.У.Багамольнікаў.*

**«СТАРАЖЫ́ТНАСЦІ БЕЛАРУ́СІ»**, 1) зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі і сумежных тэр. да ўсесаюзнай археал. канферэнцыі, якая адбылася ў сакавіку 1966 у Мінску (на рус. мове). Змешчана 37 дакладаў і паведамленняў, прысвечаных новым даследаванням стараж. гарадоў Беларусі, пытанням гісторыі развіцця рэспублікі ва ўзаемасувязі з гіст. працэсамі Усх. Еўропы, у т.л. пра мезаліт і неаліт Прыпяцкага Палесся (У.Ф.Ісаенка), крэменездабыўныя шахты (Н.М.Гурына), некаторыя вынікі вывучэння неалітычных паселішчаў Панямоння (М.М.Чарняўскі), помнікі ранняга жал. веку Пн Беларусі (К.П.Шут), новыя даныя пра помнікі 6–8 ст. сярэдняй і паўн. Беларусі (А.Р.Мітрафанаў), вывучэнне стараж. гарадоў Полацкай (Г.В.Штыхаў), Тураўскай (П.Ф.Лысенка) земляў, раскопкі стараж. Слоніма (Г.І.Пех), Ваўкавыска (Я.Г.Звяруга), знаходкі куфіцкіх дырхемаў на тэр. Беларусі (В.Н.Рабцэвіч), паходжанне беларусаў па матэрыялах археал. раскопак і знаходак (В.В.Сядоў), працы Л.Д.Побаля, Л.В.Аляксеева, В.Р.Супруна і інш. Змешчаны ілюстрацыі, бібліяграфія.

2) Зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі да ўсесаюзнай археал. канферэнцыі, якая адбылася ў сакавіку 1969 у Мінску (на рус. мове). Змешчана 26 дакладаў і тэзісаў, прысвечаных даследаванням розных эпох гісторыі Беларусі з часоў з'яўлення першабытнага чалавека да сярэдневякоўя, у т.л. пра палеаліт Беларусі і сумежных тэр. (У.Дз. Будзько), даследаванні неалітычных паселішчаў Крывінскага тарфяніка, Панямоння і паўн.-зах. Паазер'я (М.М.Чарняўскі), каменны век Палесся (У.Ф.Ісаенка), агляд археал. даследаванняў По-

лацкай зямлі і раскопак у Лукомлі (Г.В.Штыхаў), схема стратыграфіі і палеаграфіі верхняга плейстацэну Беларусі і сумежных тэр. (Л.М.Вазнячук, У.Дз.Будзько, А.Г.Калечыц), даследаванні раннефеад. помнікаў Тураўскай зямлі, гарадзішча Давыд-Гарадка (П.Ф.Лысенка), Ваўкавыска (Я.Г.Звяруга), селішча Гарадзішча Мядзельскага р-на Мінскай вобл. (А.Р.Мітрафанаў), знаходкі рус. медных манет 17 ст. ў скарбах Беларусі і Украіны (В.Н.Рабцэвіч, У.А.Ціток), працы Л.Д.Побаля, І.М.Ціханенкава, К.П.Шута, В.В.Шчагловай, Ю.І.Драгуна і інш. Змешчаны бібліяграфічныя артыкулы, прысвечаныя пачынальніку бел. навук. археалогіі К.П.Тышкевічу (С.А.Акуліч) і краязнаўцу І.І.Стаброўскаму (Г.І.Пех). Кніга праілюстравана, ёсць бібліяграфія. *Г.В.Штыхаў.*

**«СТАРАЖЫ́ТНАСЦІ БЕЛАРУ́СІ І ЛІТВЫ́»**, зборнік артыкулаў па пытаннях стараж. гісторыі Усх. Еўропы. Выдадзены ў 1982 ў Мінску на рус. мове. Складаецца з 3 раздзелаў: каменны і бронзавы вякі, жал. век, эпоха феадалізму. Артыкулы напісаны на аснове даследаванняў маладых археолагаў Беларусі і Літвы, абагульненняў папярэдніх знаходак і адкрыццяў.

Змешчаныя ў зборніку артыкулы бел. вучоных прысвечаны археал. даследаванням у Беларусі ў 1920-я г. (В.С.Вяргей), раскопкам помнікаў каменнага веку (Э.М.Зайкоўскі, У.П.Ксяндзоў, В.Л.Ліпніцкая), гарадзішчаў ранняга жал. веку (М.Ф.Гурын, А.А.Егарэйчанка, М.І.Лашанкоў, В.І.Шадыра), вывучэнню гарадоў і паселішчаў сярэдневякоўя (Ю.А.Заяц, Л.У.Калядзінскі, Я.Р.Рыер, В.Е.Собаль), курганных могільнікаў (У.У.Багамольнікаў, Л.У.Дучыц, В.А.Карпека), стараж. вырабаў са шкла (Т.С.Скрыпчанка), керамікі (В.М.Ляўко), даследаванням Полацкага Сафійскага сабора (А.А.Трусаў). *Г.В.Штыхаў.*

**«СТАРАЖЫ́ТНАСЦІ ЛІТВЫ́ І БЕЛАРУ́СІ»**, зборнік артыкулаў маладых вучоных ін-таў гісторыі АН Літвы і АН Беларусі. Выдадзены ў 1988 у Вільнюсе на рус. мове. Складаецца з 3 раздзелаў: каменны век, жал. век, ранняе сярэдневякоўе і эпоха феадалізму.

Бел. археолагі выступілі з характарыстыкай рыс мезаліту Усх. Палесся (Н.В.Цыркунова), этапаў развіцця неаліту паўн. Беларусі (Э.М.Зайкоўскі), «качкі» у вераваннях неалітычных плямён Беларусі (М.М.Крывальцэвіч), апісаннем асобных помнікаў, у т.л. стаянкі Цыганаўка ў Сярэднім Падняпроўі (А.М.Гутоўскі), гарадзішчаў Харомск (Г.М.Залашка), *Івань* (А.А.Егарэйчанка) і *Ястрабка* (М.І.Лашанкоў), кургаоў каля в. Лясная (Л.У.Дучыц), этапаў засялення Мінска (В.Е.Собаль), даследаваннямі транспартных сродкаў Віцебска 12–17 ст. (Л.У.Калядзінскі), шкляных вырабаў з Віцебска (Т.С.Бубенька), пражскага гроша (Ш.І.Бекцінееў), раскопак у Міры (А.К.Краўцэвіч, Н.І.Здановіч), Пінскага калегіума езуітаў (І.М.Чарняўскі).

*Г.В.Штыхаў.*

**СТАРАКРА́СНАЕ**, археалагічны помнік – гарадзішча *мілаградскай культуры* каля в. Старакраснае Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. За 1,3 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Днепрык (прыток р. Ведрыч), ва ўр. Гарадок. Гарадзішча ўпамінаецца ў Даведцы археал. камісіі АН БССР 1929. Абследаваў у 1976 Г.В.Штыхаў, даследаваў у 1981–83 М.І.Лашанкоў (480 м²). Агульная пл. помніка 17 500 м². Культ. пласт 0,4–0,6 м. Гарадзішча авальнай формы, складаецца з жылой і нежылой пляцовак. Жылая пляцоўка прамавугольная ў плане (пл. 4300 м²), умацавана ўнутраным (шыр. 12–15 м, выш. 1,4–1,9 м, даўж. па перыметры 250 м) і знешнім (шыр. 6–8 м, выш. 0,8–1,5 м, даўж. 250 м) валамі і ровам паміж імі (шыр. 4–5 м, глыб. 0,5–0,8 м). Нежылая частка гарадзішча круглаватай формы (пл. 5500 м²), умацавана валам шыр. 10–12 м, выш. 0,5–1,1 м, даўж. 225 м.

Знойдзены фр-ты керамікі мілаградскай культуры (гладкасценныя і грубаляпныя міскі і гаршкі з адагнутым венчыкам, моцнапрафіляваным тулавам, шарападобным ці закругленым дном, аздобленыя па шыйцы ўціскannямі), гаршкі без шыйкі з загнутым унутр краем венчыка, 2 жал. сякеры (клінападобная з адтулінай і кельт), частка ўтулкі дроціка, 2 шпількі (з кальцавым навершам і кіепадобная), ніжнія і верхнія камяні зерняцёркі, таўкачы, ступка, тачыльныя камяні, абломак грузіла, накавал енка, крамянёвыя прылады працы (нож, пласціністы адшчэп, скрабок і інш.), 2 шкляныя пацеркі, вырабы з гліны (абломкі тыгляў, льячак, формы для адліўкі бранзалетаў, грузікі крыжа-, посуда-, шпулепадобнай і круглаватай формы), косткі свойскіх (быка, каня, свінні) і дзікіх (лася, ізюбра) жывёл, кавалкі здробненай балотнай руды і шлакаў. Датуецца 6–3 ст. да н.э.

*М.І.Лашанкоў.*

**СТАРАШКЛО́ЎСКАЕ ГАРАДЗІ́ШЧА**, археалагічны помнік каля вёскі Стары Шклоў Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчана за 0,5 км на У ад вёскі, за 4 км ад г. Шклова, на левым беразе р. Серабранка, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка памерамі 70 × 60 м, вышыня над поймай ракі каля 15 м. З трох бакоў абмываецца р. Серабранка. З Пн і ПнУ бакоў пляцоўкі прасочваецца вал вышынёй 2,8 м. Адкрылі М.Балінскі і Т.Ліпінскі ў 1850, абследаваў В.Р.Тарасенка ў 1948. Даследавалі: Г.В.Штыхаў (у 1964, 1968; пл. 38 м²), В.М.Ляўко (у 1979, 2003; пл. 52 м²), І.А.Марзалюк (у 2008–10; пл. 168 м²). Культ. пласт 0,3–1 м. Прасочаны рэшткі слупавых канструкцый у мацерыку, а таксама клецей абарончых збудаванняў з зах. краю пляцоўкі. Ніжні пласт захоўвае рэшткі вогнішчаў і пабудоў паселішча 10–12 ст. і сляды пражывання людзей на гарадзішчы ў 8–10 ст.



*Агульны выгляд раскопу 2008 г. на* ***Старашклоўскім гарадзішчы.***

Сярод знаходак шкляныя бранзалеты, вырабы з каляровых металаў (пярсцёнкі, скроневыя кольцы, падвескі, гузікі, крыжыкі, накладкі і інш.), жал. нажы, ключы, замкі, наканечнікі стрэл, каменныя ядры, асялкі, шыфернае прасліца з прадрапанымі княжацкім знакам трызубца і крыжыкамі, фрагменты гаршковай кафлі і бытавая кераміка з рэльефным арнаментам 10–16 ст. і інш.



*Да арт.* ***Старашклоўскае гарадзішча****. Гаршкападобная кафля 16 ст. з выявай дракона.*

Гарадзішча было цэнтрам, што аб'ядноўваў усе неўмацаваныя паселішчы навокал. У раннім сярэдневякоўі, магчыма, яно выконвала функцыю феад. сядзібы ці пункта збору даніны на дняпроўскім шляху (пагоста). Ва ўр. Зязюлін Роў, дзе знойдзены *Шклоўскі ідал* 10 ст., верагодна, знаходзілася язычніцкае свяцілішча. Выгаднае геаграфічнае становішча спрыяла развіццю ўмацаванага паселішча і ў складзе ВКЛ. Аб гэтым сведчаць знойдзеныя на гарадзішчы вырабы, якія датуюцца 14 – 1-й пал. 16 ст. Асаблівай увагі заслугоўваюць пячныя гаршковыя кафлі з выявай «звера лютага» на донцах з вонкавага боку. Гэтыя выявы падобныя да кляйма А.Гаштольда, які быў ваяводам у Полацку і адначасова валодаў Шклоўскім маёнткам. У 1535 Шклоў упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах як цэнтр маёнтка. Пасля згасання роду Гаштольдаў (1541), Шклоўскі маёнтак і Стары Шклоў перайшлі ў валоданне Е.Хадкевічу. Ён у адпаведнасці з каралеўскай граматай 1561 пабудаваў «места» Шклоўскае і за-



*Да арт.* ***Старашклоўскае гарадзішча****. Гліняная цацка.*

мак каля р. Дняпро, куды і быў перанесены цэнтр маёнтка (графства).

*Літ.*: Левко О.Н. Феодальные памятники Северо-Восточной Белоруссии // АО 1980. М., 1981; Яе ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Мн., 2004; Штыхов Г.В. Там, где был основан город (археологические исследования в Старом Шклове в 60-е годы XX в. // Романовские чтения-2. Сборник трудов Международной научной конф. Могилев. МГУ им. А.А.Кулешова. 2005. *В.М.Ляўко, І.А.Марзалюк.*

**СТАРАШКЛО́ЎСКІЯ СЕ́ЛІШЧЫ і МО́ГІЛЬНІКІ**, комплекс археалагічных помнікаў каля вёсак Стары Шклоў і Хоцімка Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчаны на абодвух берагах р. Серабранка.

Селішча-1 на правым беразе ракі праз роў ад гарадзішча. Пляцоўка выцягнутай формы арыентавана ў бок сучасных могілак, аддзеленых ад селішча дарогай. Уздоўж паўд.-зах. краю пляцоўкі праходзіць валападобны насып. Даследавалі ў 2003, 2009 В.М.Ляўко (76 м$^2$), у 2005 Л.Г.Марковіч (24 м$^2$). Культ. пласт 0,6–0,8 м. Верхняя яго частка – шэры гумус таўшч. 0,2–0,35 м, ніжэй размешчаны другі светла-шэры слой магутнасцю да 0,45 м з уключэннем жоўтай гліны і пяску. У 2003 В.М.Ляўко ў гэтым слоі выяўлены рэшткі 3 пахаванняў, арыентаваных галавой на З. Побач з пахаваннем 2 знойдзены бронзавы літы гузік (12 да 17 ст.). Сляды трун прасочаны па наяўнасці цвікоў з рэшткамі дрэва. На ўзроўні мацерыка зафіксаваны цёмныя плямы з вуголлем таўшчынёю 0,1–0,15 м і вялікія валуны. Ніжэй у мацерыковых ямах, якія па канфігурацыі і памерах суадносяцца са слядамі драўляных клецей, знойдзены матэрыялы 10 ст. (кераміка і шкляны сасуд кіеўскага тыпу). У 2005 Л.Г.Марковіч таксама выяўлены пахаванні, адно з якіх было прадстаўлена чэрапам, абкладзеным па колу камянямі; каля галавы другога зафіксаваны фр-т каменнай падстаўкі для крыжа; чарапы двух пахаванняў пашкоджаны рубячым прадметам. Вышэй пахаванняў у верхнім слоі знойдзена кераміка 12–16 ст. (донца з кляймом у выглядзе салярнага знака), фр-ты ляпнога посуду. У 2009 В.М.Ляўко зроблены раскоп паміж двума папярэднімі. На мяжы ніжняга культ. пласта і мацерыка, а таксама у мацерыку знойдзены пахаванні, над якімі ў асобных выпадках размешчаны скапленні камянёў, а побач з нябожчыкамі выяўлены цвікі ад трун. Верхні пласт утрымліваў матэрыялы 16–18 ст.

Селішча-2 на левым беразе р. Серабранка насупраць гарадзішча, у 1968 даследаваў Г.В.Штыхаў. У траншэі памерамі 1 × 6 м знойдзена кераміка 2-й пал. 13 – 15 ст.

Селішча-3 на Пн і ПнУ ад селішча-1 і гарадзішча на полі каля школы ўтрымлівае матэрыялы 2–8 ст.: кераміка з расчосамі, а таксама ляпная гладкасценная кераміка 3-й чв. 1 тыс. н.э.

Зборы з паверхні ворыва вакол паселішчаў, зробленыя у 1980-я г. мясцовымі краязнаўцамі, уключаюць кераміку 16–17 ст., манеты гэтага часу, фр-ты бронзавага нацельнага крыжа, арнаментаваную бронзавую накладку.

Курганны могільнік за 500 м на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Серабранка. 3 насыпы выш. 1,5 м. Выяўлены ў 1980.

Ва ўр. Зязюлін Роў у 1963 знойдзены *Шклоўскі ідал* 10 ст., верагодна, паблізу знаходзілася язычніцкае свяцілішча.

*Літ.*: Левко О.Н. Феодальные памятники Северо-Восточной Белоруссии // АО 1980. М., 1981; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Мн., 1971; Маркович Л.Г. Изучение селища у деревни Старый Шклов в 2005 году // Древности Беларуси в системе межкультурных связей МАБ. 2006. № 11; Левко О.Н. Исследования селища 1 в Старом Шклове (2003–2009 гг.) // Романовские чтения – 6. Сб. статей международной научной конференции. 24–25 ноября 2009 г. Могилев. 2010. *В.М.Ляўко.*

**СТАРА́Я ЛУТА́ВА**, археалагічны помнік – познамезалітычная стаянка *янiславiцкай культуры* каля в. Старая Лутава Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. За 700 м на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Пл. 200 м$^2$. Выш. над узроўнем вады 8 м. Выявіў у 1977 і даследаваў у 1978 У.П.Ксяндзоў (78 м$^2$). Культ. пласт часткова разбураны ветравой эрозіяй. На глыб. 0,5–0,6 м знойдзена больш за 670 прадметаў з «сожскага» крэменю: сіметрычны тронкавы наканечнік стралы, авальныя скрабкі з адшчэпаў, яніславіцкія і ланцэтападобныя вастрыі, скоблі, трапецыі, пласцінка з затупленым краем, укладышы, нуклеусы, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, а таксама рэшткі абпаленых костак жывёлы.

*Літ.*: Ксензов В.П. Новые мезолитические памятники юга Белоруссии // СА. 1984. №2; Яго ж. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988. *У.П.Ксяндзоў.*

**СТАРА́Я РУДА́**, археалагічныя помнікі – стаянкі каля в. Старая Руда Гродзенскага р-на. Выявіў у 1997 В.С.Абухоўскі.

Стаянка-1 на правым беразе р. Хамутоўка, на невял. дзюне паміж паўд. берагам воз. Малочнае і аўтадарогай Парэчча–Азёры. На пляцоўцы памерамі 30 × 40 м знойдзены крамянёвы скрабок і яго фр-т, адшчэпы, рэтушаваны асколак, рэтушор, пласціны і іх фр-ты, лускавіны, ляпная кераміка ранняга бронзавага веку. Пачатак засялення стаянкі – эпоха мезаліту.

Стаянка-2 на левым беразе р. Хамутоўка, насупраць селішча-1, на тэрасе паміж паўд. берагам воз. Малочнае і аўтадарогай Парэчча–Азёры. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, фр-ты фінальнапалеалітычных пласцін і адшчэпаў з пацінай, лушчань.

С т а я н к а - 3 на левым беразе р. Хамутоўка, побач з селішчам-2. Пляцоўка памерамі 20 × 30 м. Знойдзены фр-т нуклеуса, крамянёвыя пласціны і іх фр-ты, адшчэпы, асколкі.

С т а я н к а - 4 на левабярэжнай тэрасе р. Хамутоўка, на адлегласці каля 250 м уніз на цячэнні ракі ад стаянкі-3. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціна і яе фр-т, асколкі.

*В.С.Абухоўскі, М.І.Ткачова.*

**СТАРА́Я РУ́ДЗІЦА**, археалагічны помнік – гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Старая Рудзіца Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. За 0,5 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Гліянка (прыток р. Усы). Пляцоўка памерамі 52 × 48 м, умацавана ўнутраным валам выш. 1,2–1,3 м, шыр. 5,4 м, знешнім валам выш. 0,8 м, шыр. 6 м і ровам паміж імі глыб. да 3,5 м. З усх. боку прасочваўся ўезд на гарадзішча. Выявіў у 1929 А.М.Ляўданскі. У 1952 даследаваў (110 м²) А.Р.Мітрафанаў. Выяўлены рэшткі доўгага шматкамернага жытла слупавай канструкцыі з аднасхільным перакрыццем (слупавыя ямы размяшчаліся ўздоўж унутранага вала парамі). Ускрыты 2 камеры поўнасцю і 1 часткова (даўж. 9–10 м, шыр. 3,5–4,5 м), у адной з іх размяшчалася агнішча з пясчана-глiністага пласта, абкладзенае з трох бакоў камянямі. Знойдзены абломкі керамікі, аналагічнай посуду мілаградскай культуры, фр-ты гладкасценных штрыхаваных рабрыстых, слоікападобных і слабапрафіляваных гаршкоў, гліняныя праслiцы, бронзавае драцяное кольца дыям. 3 см, фр-т пласцiністага ўпрыгожання і спіралькі.

*Літ.:* М и т р о ф а н о в А.Г. Старорудицкое городище. Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Минск, 1969. Я г о ж. Железный век Средней Белоруссии (VII–VI вв. до н.э. – VIII в. н.э.). Минск, 1978.

*А.Р.Мітрафанаў.*

**СТАРО́Е СЯЛО́**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішча, курганныя могільнікі каля в. Старое Сяло Віцебскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *днепра-дзвінскай культуры.* За 2,5 км на Пд ад вёскі, на мысе правага берага Зах. Дзвіны. Памеры 30 × 70 м, выш. над поймай 20 м, з боку поля ўмацавана валам выш. каля 1,2 м. У 1928 даследаваў А.М.Ляўданскі, абследавалі ў 1972 Г.В.Штыхаў, у 1981 Л.У.Калядзінскі. У траншэі даўж. 11 м, шыр. 3 м выяўлены культ. пласт 0,5–1 м. Знойдзены ляпны гладкасценны і штрыхаваны посуд, 2 жал. нажы, фр-т жал. дужкі, косці жывёл. У 2000–01 П.М.Падгурскі даследаваў 368 м². Культ. пласт 0,4–1,35 м. Знойдзены бронзавае кальцо, жал. бранзалет, 2 брытвы, 2 нажы, кельт, касцяныя гарпун, шпілька, гліняныя грузікі дзякава тыпу, праслiцы, фр-ты ляпной керамікі *днепра-дзвінскай культуры* і *позняй штрыхаванай керамікі культуры.* Выяўлены рэшткі 4 жытлаў зрубна-слупавай канструкцыі з заглыбленым полам, адкрытымі ачагамі і печчу-каменкай.



*Да арт. **Старое Сяло** Віцебскага раёна. Рэчавы комплекс гарадзішча (раскопкі П.М. Падгурскага).*

Памеры 2 пабудоў складалі 3,08 × 3,60 м і 4,30 × 4,60 м, глыб. 0,16–0,25 м. У запаўненні жытлаў знойдзены жал. спражка, сякера, шыла, білонавыя скроневае кальцо, фр-т грыўны з кручком і гузікападобным патаўшчэннем, арнаментаваны бранзалет з патоўшчанымі канцамі, глінянае біканічнае праслiца, фр-ты ляпной керамікі *банцараўскай культуры* 5–7 ст. Да гэтага часу таксама адносяцца знойдзеныя ў культ. пласце жал. нож, 2 сярпы у т.л. з кручком на пятцы, гліняныя арнаментаваныя праслiцы, льячка і фр-ты ляпной керамікі слоіка- і цюльпанападобнай формы ў т.л. арнаментаваныя расчосамі.

С е л і ш ч а з зах. боку гарадзішча. Памеры 200 × 50 м. У 1928 даследавалі А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі. У агаленнях знойдзена кераміка. Датуецца 6–8 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1 крывічоў. На тэр. селішча. 16 насыпаў , з іх 2 доўгія. Выш. круглых 1,5 м, дыям. 8–10 м, даўж. доўгіх курганоў 20–25 м, шыр. 8–10 м, выш. 2,5 м. У 1928 4 насыпы даследавалі А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі, у 1973 абследаваў Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Знойдзены ляпны і ганчарны посуд. Датуецца 9–10 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 за 1 км на У ад вёскі. Захаваліся 3 насыпы (2 на полі, 1 у лесе) выш. 1–1,5 м, дыям. 8–10 м. У 1973 адзін курган даследаваў Г.В.Штыхаў. Знаходак не было. Датуецца 2-й пал. 1-га тыс. н.э.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 3 за 1,8 км на У ад вёскі, у лесе 12 насыпаў выш. 1,8–2 м, дыям. 10–14 м. Мясц. назва Французскія магілы. У 1981 адкрыў і абследаваў Л.У.Калядзінскі.

*Літ.:* Л я ў д а н с к і А.М. Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузу // Працы, т. 2.

*Г.В.Штыхаў, П.М.Падгурскі.*

**СТАРО́Е СЯЛО́**, археалагічныя помнікі – селішча, свяцілішча і курганны могільнік каля в. Старое Сяло Мінскага р-на.

С е л і ш ч а на вясковых агародах уздоўж левага берага Пцічы, ад вясковай царквы да прасёлкавай дарогі Казлоўка–Дубянцы. Адкрыў у 2006 Ю.А.Заяц. Пл. 7,5 га. Знойдзены фр-ты кругавой керамікі 10–12 ст. і 15–18 ст., шарападобная пацерка з жоўтага непразрыстага шкла 10–12 ст.

С в я ц і л і ш ч а на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на пагорку каля лукавіны Пцічы (левы бераг), пры упадзенні ў яе ручая, побач з дарогай на в. Волма. На гэтым месце ў познім сярэдневякоўі існаваў жаночы кляштар. Абследавалі ў 2006 Ю.А.Заяц і З.А.Харытановіч. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і адшчэпы эпохі мезаліту, фр-ты кругавога посуду. На паўд.-зах. схіле і каля падэшвы пагорка знойдзены каменныя крыжы (цэлы і недароблены) і 2 апрацаваныя камяні – адзін з высечанай выявай крыжа, другі – з высячаным малюнкам, аналагі якога ёсць на надмагільных камянях каменных магіл. Верагодна, гэта камяні язычніцкага капішча, частка якіх у хрысціянскую эпоху была перароблена ў каменныя крыжы, альбо на іх была нанесена хрысціянская сімволіка. Магчыма, яны з'яўляліся надмагіллямі на могілках, якія існавалі на месцы кляштара.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к існаваў на ПдЗ ад вёскі на правым беразе р. Пціч. Мясцовая назва – Татарскія (Французскія) магілы. Налічваў некалькі дзесяткаў круглых у плане насыпаў. Знішчаны ў 1950–60-я гг. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: З а я ц Ю. О результатах археологических разведок 2006 г. на территории Минского района в верховьях реки Птичь // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23; Х а р ы т а н о в і ч З. Археалагічныя разведкі на тэрыторыі Мінскага раёна // Там жа. *Ю.А.Заяц.*

**СТАРЫ́ ДЗЕ́ДЗІН**, група археалагічных помнікаў каля в. Стары Дзедзін Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Асцёр, на У ад вёскі. У агаленнях тэрасы ў 1980 А.Г.Калечыц сабрала шматлікія аднапляцовачныя адшчэпы, пласціны, мелкія лускавінкі, скрабкі, сякучыя прылады, адшчэпы і пласціны з рэтушшу.

С т а я н к а - 2 эпохі неаліту на левым беразе р. Асцёр, за 0,2 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узвышшы. Адкрыў у 1952 Я.А.Шміт, даследавалі ў 1980 А.Г.Калечыц, у 1970 і 1998 В.Ф.Капыцін, у 2005–06 А.У.Коласаў. У агаленнях дзюны знойдзены адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, шматлікія адшчэпы, пласціны, лускавінкі крэменю і прылады працы – канцавыя скрабкі, вырабы з выемкай, сякучыя прылады, сячэнні пласцін з рэтушшу па краі, нажы з пласцін, пласціны і адшчэпы з рэтушшу. Ляпны посуд прадстаўлены фр-тамі з прамымі венчыкамі, арнаментаванымі адбіткамі ямак, нанесеных палачкай з накручанай ніткай на канцы, і фр-тамі мелказубчастага грэбеня.

С т а я н к а - 3 каменнага веку на пясчаным узвышшы правага берага р. Асцёр, на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на З ад старыцы. Адкрылі ў 2006 А.У.Коласаў і М.П.Дуктаў. У агаленнях дзюны сабраны шматлікія адшчэпы, пласціны, канцавыя скрабкі, пласціна са скошаным канцом.

С т а я н к а - 4 эпохі неаліту на левым беразе р. Асцёр, за 0,8 км на У ад вёскі, за 1,2 км на З ад в. Старыя Пранічкі. Адкрылі ў 2006 А.У.Коласаў і М.П.Дуктаў. У 2006 30 м² даследаваў А.У.Коласаў. Знойдзены 1202 крамянёвыя вырабы, у т.л. 47 з другаснай апрацоўкай, нуклеусы, адшчэпы, пласціны, мелкія лускавінкі. Прылады працы прадстаўлены знаходкамі канцавых, двайных і акруглых скрабкоў, скрэблападобнага вырабу, скрабка-праколкі, рэтушнага разца, вастрыя, праколак, трапецый, цёслаў і долата, ромбападобнага наканечніка стралы, якія апрацаваны двухбаковай плоскай рэтушшу. Керамічны матэрыял – фр-ты ляпнога посуду, якія ўпрыгожаны адбіткамі глыбокіх авальных ямак, мелказубчастага грэбеня. Унутраная паверхня абломкаў захоўвае сляды расчосаў грэбеня.

М е с ц а з н а х о д ж а н н е - 5 сярэдневысокіх трапецый (13 адз.) на левым беразе р. Асцёр, за 0,7 км на ПдУ ад вёскі, за 0,1 на ПдЗ ад стаянкі-4. Выявіў у 1970 В.Ф.Капыцін.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к эпохі Старажытнай Русі на правым беразе р. Асцёр, на З ад вёскі, каля сельскіх могілак, ва ўр. Курганне. Вядомы з 1873. Даследавалі у 1926 А.Л.Аніхоўскі, у 1978 Т.М.Каробушкіна, у 1985 Н.І.Здановіч, у 1970 і 1994 В.Ф.Капыцін. 10 насыпаў выш. 0,5–1,7 м, дыям. 5–10 м. Пахавальны абрад – трупаспаленне і трупапалажэнне. Сярод знаходак – кольцы і каралі.

*Літ.*: Сведения 1873 года о городищах и курганах // Известия археологической комиссии. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1903; Ш м и д т Е.А. Новые данные об археологических памятниках Смоленской области // Материалы по изучению Смоленской области. Смо-



*Агульны выгляд раскопу стаянкі-4* ***Стары Дзедзін.***

ленск, 1952. Вып. 1; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Копытин В.Ф. Археологические памятники Климовичского района Могилевской области. Могилев, 1998; Колосов А.В. Археологические древности Могилевского Посожья: (по материалам экспедиций 2002–2008 гг.). Могилев, 2009.

*А.У.Коласаў.*

**СТАРЫ́Я ВО́ЙКАВІЧЫ**, археалагічны помнік – стаянка каменнага і бронзавага вякоў каля в. Старыя Войкавічы Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл. За 800 м на З ад вёскі, на зах. краі поля Бабравец, каля тарфяніку на Пд ад воз. Калдычэўскае. Займае край карэннага берага б. возера паміж магістральным каналам, якім выпрастана рэчышча Шчары, і левабярэжным вадаадводам, часткова перакрыта торфам. Памеры 60 × 70 м. Даследавалі ў 1988, 1999–2001 М.М.Чарняўскі (120 м²), у 2004–05 А.А.Разлуцкая (66 м²). Культ. пласт 0,4–0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя, а таксама кераміка пераважна дубічайскага тыпу *прыпяцка-нёманскай культуры.* Стаянка пэўны час была заселена і ў бронзавым веку, пра што сведчаць фр-ты пласкадоннага посуду са штампаваным і шнуравым арнаментам, абломкі каменных сякер, каменная булава.

Сляды паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў сустракаюцца таксама на суседніх выступах карэннага левабярэжжа Шчары.

*Літ.:* Чарняўскі М.М. Новыя неалітычныя матэрыялы з вярхоўяў Шчары ў Заходняй Беларусі // Badania archeologiczne w Polsce północno-wschodniej i na zachodniej Białorusi w latach 2000–2001. Materiały z konferencji, Białystok 6–7 grudnia 2001 roku. Białystok, 2002. *А.А.Разлуцкая, М.М.Чарняўскі.*

**СТАРЫ́Я ГРАМЫ́КІ**, археалагічныя помнікі – селішча, курганны могільнік і курган каля в. Старыя Грамыкі Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.

Селішча к. 10–13 ст. на паўд. і паўд.-зах. ускраінах вёскі. Займае ўчасткі правабярэжнай тэрасы р. Беседзь. У 1980 і 1992 абследаваў А.А.Макушнікаў. Выяўлены фр-т пабудовы 12–13 ст. Знойдзены кругавая кераміка, фр-ты жал. шлаку.

Курганны могільнік ва ўр. Курганне. Займае ўчастак тэрасы правага берага р. Беседзь (3–5 м) каля селішча. У 1975 абследавала С.Н.Васільева, у 1989 і 1992 – А.А.Макушнікаў. Выяўлены 72 насыпы. Знойдзены металічныя кольцы, крыжападобныя падвескі, кругавыя пасудзіны.

Курган за 1,5 км на Пн ад вёскі. Размешчаны на пляцоўцы правабярэжнай тэрасы р. Беседзь у лесе. У 1992 выявіў А.А.Макушнікаў.

*Літ.:* Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда // Записки Северо-Западного отдела Императорского Русского археологического общества. Кн. 1. Вильна, 1910; Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: Социально-экономическое и этнокультурное развитие. Гомель, 2009. *А.А.Макушнікаў.*

**СТАРЫ́Я ЛА́ЎКІ**, археалагічны помнік – паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Старыя Лаўкі Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. На Пд ад вёскі, на мысе левага берага р. Лукомка. Выявіў у 1930 А.Дз.Каваленя. У 1967 даследаваў (200 м²) І.М.Ціханенкаў. У 1981 абследаваў Э.М.Зайкоўскі. Культ. пласт 0,3–0,5 м. Выяўлены 6 агнішчаў у выглядзе ям, паглыбленых на 0,3–0,5 м у мацярык, запоўненых попельна-вугальнай масай. Знойдзены крамянёвыя прылады працы: больш за 30 канцавых скрабкоў (у т.л. двайныя, бакавыя на адшчэпах і мысападобнай формы), 19 мікраскрабкоў, 3 скоблі, некалькі дзесяткаў крамянёвых нарыхтовак, 50 разцоў, праколкі, вастрыі, нажы і ножападобныя пласціны, мікрапласцінкі, укладышы рознай формы, наканечнікі стрэл 4 тыпаў (ромбападобныя з рэтушшу па краях, тронкавыя бабінавіцкага тыпу, трохвугольныя, з бакавымі выемкамі), 2 наканечнікі дзід. Фр-ты керамікі ў асн. бабінавіцкага тыпу, храналагічна падзяляецца на 3 групы: ляпны посуд з дамешкамі пяску ці тоўчанага кварцу ў цесце, з падгарызантальнымі расчосамі пераважна на ўнутранай паверхні, у асн. неарнаментаваны альбо з адбіткамі грабянцовага штампа, наколамі адступаючай палачкі, прачэрчанымі лініямі; посуд з арганічнымі дамешкамі ў цесце і расчосамі знутры; гладкасценны посуд з арганічнымі дамешкамі, арнаментаваны адбіткамі грабянцовага штампа, вусеневым узорам, наколамі. Частка керамікі з дамешкамі жарствы і буйназярністага пяску, моцным абпалам, двухбаковай падгарызантальнай штрыхоўкай і слабапрафіляванымі венчыкамі адносіцца да ранняга бронзавага веку. Датуецца 3-м – пач. 1-га тыс. да н.э.

*Літ.:* Каваленя А.Дз. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы. Т. 3. Тихоненков И.М. Новые данные по каменному веку Северной Белоруссии. М., 1969. *Э.М.Зайкоўскі.*

**СТАРЫ́Я ЮРКО́ВІЧЫ**, археалагічны помнік – паселішча каменнага, бронзавага, жал. вякоў і сярэдневякоўя каля в. Старыя Юрковічы Любанскага р-на Мінскай вобл. Больш чым за 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Гудзіна, на паўн. ускраіне астанца правабярэжнай тэрасы р. Арэса. Памеры 200 × 50 м, выш. 5–8,6 м. Выявіў у 1980 і даследаваў 688 м² у 1985–87 М.М.Крывальцэвіч. Культ. пласт 0,4–0,6 м. Большая частка знаходак (ляпная кераміка, крамянёвыя вырабы) адносіцца да ўсх.-палескага варыянту *днепра-данецкай культуры.* Выяўлены рэшткі неалітычнага жытла памерамі 3,1 × 1,5 м, заглыбленага на 0,6 м, з агнішчам, 6 гасп. ям. У запаўненні жытла знойдзены крамянёвыя вырабы і абломкі 2 ляпных гаршкоў. Да 2-й пал. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э. адносіцца больш за 300 абломкаў прыблізна ад 35–40 пасудзін, крамянёвыя вырабы (фр-ты шліфаваных сякер, сярпа, нажы, наканечнікі стрэл з прамой асновай і з выемкай),

лязовая частка каменнай зашліфаванай цяслы. Посуд з прамымі адхіленымі вонкі шыйкамі, «каўнерыкамі» альбо без іх, выгнутымі гарлавінамі, выпуклымі тулавамі і плоскімі донцамі. Кераміка ўпрыгожана шнуравымі, «вусеневымі» арнаментамі, лінейнымі штампамі, пальцавымі зашчыпамі. У рэчавым комплексе прысутнічаюць элементы сярэднедняпроўскай, шнуравой керамікі, шарападобных амфар і днепра-данецкай культур. Больш за 40 фр-таў ад 5–7 гаршкоў звязаны з тшцінецкім культ. колам. Знойдзена бронзавая шпілька з лебедзепадобнай шыйкай. Да жал. веку адносіцца больш за 300 фр-таў ляпной штрыхаванай, гладкасценнай і глянцаванай керамікі. Да 1 ст. да н.э. – 2 ст. н.э. належаць рэшткі каменнага агнішча памерамі 1 × 0,6 м, у якім знойдзены фр-ты зарубінецкай керамікі. Выяўлены рэшткі жытла прамавугольнай формы са слядамі агнішча ў выглядзе абпаленых камянёў і вуголля, з фр-тамі посуду ранняй пражскай культуры ў запаўненні. У больш позні час высокая частка тэр. помніка выкарыстоўвалася пад могілкі.

*Літ.:* Крывальцэвіч М.М. Кераміка бронзавага веку паселішча Старыя Юрковічы I на р. Арэсе // ВАНБ. Мінск, 1988. № 1; Яго ж. Старыя Юрковічы 1 – культурна-храналагічныя аспекты «шнуравога» комплексу // МАБ. 2010. Вып. 18. *М.М.Крывальцэвіч.*

**СТАТЫСТЫ́ЧНЫЯ МЕ́ТАДЫ** ў археалогіі, сістэматызацыя і аналіз археалагічных даных з дапамогай статыстыкі. Пры апрацоўцы даных найчасцей выкарыстоўваюцца метады статыстычнага і варыяцыйнага радоў, карэляцыйнага і дысперсійнага аналізу, матрыцы і графа, фактарнага аналізу, кластэр-аналізу і інш. С.м. карыстаюцца для апісання археал. аб'ектаў, апрацоўкі зыходных даных, таксама колькасных і якасных адзнак, першаснай групоўкі матэрыялу, для ўстанаўлення ступені варыябельнасці сярэдніх памераў аб'ектаў, якія параўноўваюцца паміж сабой на падставе тых ці іншых адзнак; для праверкі ўласцівасцей выбаркі матэрыялу, які адлюстроўвае тыя ці іншыя ўласцівасці ўсёй яго генеральнай сукупнасці; для вывучэння падабенства і адрознення паміж аб'ектамі, таксонамі, культурамі і інш., структуры іх узаемасувязі паміж сабой; для ўстанаўлення сапраўднасці адрозненняў, якія назіраюцца пры апрацоўцы даных, і выпрацоўкі крытэрыяў іх выпадковасці альбо заканамернасці і інш. С.м. пачалі актыўна ўжывацца ў археал. навуцы з 1960-х г. з развіццём т.зв. працэсуальнай археалогіі. У бел. археалогіі С.м. выкарыстоўваліся пры даследаванні тэхналогіі апрацоўкі крэменю ў Красна-сельскіх шахтах (В.Я.Кудрашоў, В.Л.Ліпніцкая), класіфікацыі керамікі жал. веку (С.Я.Рассадзін, А.М.Мядзведзеў), пахавальнага абраду зарубінецкай культуры (В.Піліпцэвіч) і інш.

*Літ.:* Количественные методы в исторических исследованиях. Москва, 1984; Федоров-Давыдов Г.А. Статистические методы в археологии. М., 1987; Формализованно-статистические методы в археологии (анализ погребальных памятников). Киев, 1990; Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002; Fletcher M., Lock G.R. Digging numbers. Elementary statistics for archaeologists. Oxford, 1991. *М.М.Крывальцэвіч.*

**СТАЎПО́ВІСКІ**, комплекс археалагічных помнікаў – стаянкі, селішчы і месцазнаходжанне каля в. Стаўповіскі Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

Стаянка-1 на астанцы тэрасы, які ўдаецца ў пойму правага берага р. Белая. У 2007 абследавалі Е.Г.Калечыц і В.Г.Белявец. У 2010 даследаваў 140 м² А.Ю.Ткачоў. Знойдзены сколы, пласціны і інш. вырабы з крэменю. Матэрыялы належаць да эпохі фінальнага палеаліту.

Стаянка-2 на невысокім пясчаным узвышшы ў пойме правага берага р. Белая, на аддегласці каля 0,25–0,3 км на Пд ад яе рэчышча, 0,5 км ад дарогі на в. Асіннікі. Памеры ўзвышша 50 × 20 м. У 2007 абследавалі А.Г.Калечыц і В.Г.Белявец. У 2010 даследаваў 10 м² А.Ю.Ткачоў. Знойдзены пласціны, мікрапласціна, адшчэпы. Стаянка датуецца каменным векам, магчыма мезалітам.

Стаянка-3 за 1,7 км на З ад вёскі, на правым беразе р. Белая, на мысе каля зліцця рэк Белая і Палічна. У 2007 абследавалі А.Г.Калечыц і В.Г.Белявец. Знойдзены прылады працы і адходы крамянёвай вытворчасці, у т.л. адшчэпы, пласціны, фр-ты ляпной і ганчарнай керамікі. Помнік датуецца каменным і бронзавым вякамі.

Стаянка-4 на левым беразе р. Белая, на зах. ускраіне вёскі, за 0,12 км на Пд ад дарогі на в. Панасюкі. У 2010 абследавалі В.Л.Лакіза, А.Ю.Ткачоў, В.Г.Белявец. Знойдзены калекцыя крамянёвага інвентару (нуклеусы, скрабкі, пласціны, адшчэпы і інш.), ляпной і ганчарнай керамікі. У 2010 даследавалі 650 м² В.Г.Белявец і А.Ю.Ткачоў. Выяўлена больш за 20 аб'ектаў бронзавага і ранняга жалезнага вякоў, сабрана значная калекцыя крамянёвых вырабаў і фр-таў ляпнога посуду. Помнік належыць да эпохі мезаліту, неаліту, бронзавага і ранняга жалезнага вякоў.

Месцазнаходжанне матэрыялаў каменнага веку і слядоў здабычы жалеза. Размяшчаецца на астанцы тэрасы правага берага р. Белая, насупраць в. Чвіркі і ўр. Чвіркі Старыя. У 2007 абследавалі А.Г.Калечыц і В.Г.Белявец. Знойдзены кавалкі жалезаплавільнага шлаку, крамянёвы адшчэп і фр-т сценкі чорнаглянцаванай пасудзіны.

*В.Г.Белявец, А.Ю.Ткачоў.*

**СТАЯ́НКА**, неўмацаванае пасяленне чалавека каменнага і бронзавага вякоў, на якім пры даследаванні знаходзяць рэшткі жытлаў, агнішчаў, прылады працы, вырабы з гліны. Тэрмін узнік у

19 ст. для абазначэння месцаў часовага пасялення першабытных людзей, пазней – аселых плямёнаў. Самыя стараж. С. на Беларусі адносяцца да позняга палеаліту (*Бердыж, Юравічы*). Рэшткі мезалітычных С. трапляюцца па ўсёй тэр. рэспублікі (*Белая Сарока, Пятроўцы, Журавель* і інш.). Неалітычныя С. размяшчаліся пераважна на рачных і азёрных тэрасах і поймавых дзюнах (*Добры Бор, Камень, Русакова, Раманавічы, Скема* і інш.). На большасці неалітычных С. людзі жылі і ў бронзавым веку. *У.П.Ксяндзоў.*

**СТО́ЛІН**, горад, цэнтр Столінскага р-на Брэсцкай вобл., на р. Гарынь. За 245 км на У ад ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец–Сарны.

У 16 ст. мяст. Пінскага пав. Берасцейскага ваяводства ВКЛ, прыватнае ўладанне з умацаваным драўляным замкам, належала Саламярэцкім, Вішнявецкім, Пацам, Солтанам, Скірмунтам, Страхоўскім і інш. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 яго штурмам узялі і спалілі ў верасні 1655 казакі І.Залатарэнкі. Спробы войск ВКЛ вызваліць Пагарынне і С. прывялі да вял. і няўдалай для іх бітвы на подступах да мястэчка. Пасля гэтых падзей замак прыйшоў у заняпад. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай С. увайшоў у склад Рас. імперыі.

Археал. даследаванні ў С. ў 1989 праводзіў А.І.Дзярновіч. Закладзены 13 шурфоў і траншэя (агульная пл. 62 м²) у цэнтры горада (пл. Камсамольская, вуліцы Тэльмана і Пінская), які сфарміраваны ў 16–18 ст. будынкамі царквы, сінагогі, гандл. радоў і інш. Культ. пласт 3–2,5 м, стратыграфічна падзяляецца на некалькі гарызонтаў: баласт 20 ст., цёмна-шэры пласт з дамешкамі бітай цэглы і вугалю (2-я пал. 18–19 ст., перыяд актыўнага будаўніцтва ў С.), светла-шэры пласт з суглінкам і светлым пяском (утрымлівае матэрыялы к. 16– 1-й пал. 18 ст.).

Знойдзена кафля з белай гліны з тэракотавай, зрэдку зялёнай палівай, аздобленая раслінным арнаментам, фр-ты бытавой керамікі (макотраў, арнаментаваных палоскай гліны, гаршкоў з выступам на венчыку 17 ст., талерак і місак з лінейным і штампаваным арнаментам у выглядзе спалучэння кропак і перакрыжаваных ліній, посуду з аздабленнем, характэрным для гарадзянскай керамікі, – хвалістымі і роўнымі паяскамі, косымі рыскамі чырвонакарычневага колеру, т.зв. «рубежыкам», нанесенымі ў 2–3 рады глінай-ангобам на верхнюю частку вырабаў). Сярод знаходак шклянкі 17–18 ст. з хвалістай барочнай лепкай вакол донцаў, грош Рэчы Паспалітай 1767, медныя манеты Рас. імперыі.

За 1,5–2 км на У ад С. – паселішча пл. каля 7 га. Абследавала ў 1986 В.С.Вяргей. Выяўлены крамянёвыя вырабы і ляпная кераміка эпохі неаліту, бронзавага і жал. вякоў, кераміка часоў Кіеўскай Русі.

У паўд. частцы горада (раён стадыёна і дзіцячага сада № 3) знаходзіцца з а м ч ы ш ч а – археал. помнік 14–17 ст. Размешчаны на высокім стромкім левым беразе старыцы р. Гарынь – Копанца. Пляцоўка знівеліравана пры будаўніцтве стадыёна. Захаваўся ўчастак зах. замкавага абарончага рова даўж. каля 42 м, шыр. 12–13 м і глыб. да 3 м. Выявіў і даследаваў у 1982 М.А.Ткачоў. У абрыве берага зафіксаваны рэшткі культ. пласта магутнасцю 0,2–0,6 м. Выяўлены керамічны матэрыял (фр-ты гаршкоў з лінейным арнаментам, макотраў і рынак 16–17 ст., курыльныя люлькі з белай і чырвонай гліны), манеты ВКЛ 17 ст., косткі жывёл. Тут, верагодна, знаходзіўся дзяцінец летапіснага С. Летапісны С. неаднаразова згадваецца сярод «гарадоў пагарынскіх» 12–13 ст.

*А.І.Дзярновіч, М.А.Ткачоў.*

**СТРА́ЖАВА**, археалагічны помнік – гарадзішча каля в. Стражава Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. За 1,5 км на З ад вёскі на правым беразе р. Дняпро, ва ўр. Гарадзец. Пляцоўка няправільнай формы памерамі 73 × 30–45 м, выцягнута з Пд на Пн. З У і З абмежавана ярамі глыб. 11–15 м; з Пд умацавана падковападобным валам выш. 4 м, шыр. ў цэнтры каля 12 м, даўж. каля 40 м. У 1994 В.М.Ляўко даследавала 48 м² за 4 м ад усх. краю гарадзішча. Культ. пласт 1,2–1,6 м. Выяўлены ўнутрывальныя канструкцыі з абпаленых бярвён, складзеных падоўж і папярочна, якія абапіраліся на каменную выбрукоўку. Таксама прасочваецца выбрукоўка камянямі паверхні вала з боку пляцоўкі. Пад насыпам вала зафіксаваны культ. пласт таўшч. 0,15–0,25 м. На мацерыку выяўлены слупавыя (дыям. 0,2–0,7 м, глыб. 0,2–0,5 м) і колавыя (дыям. 0,1–0,25 м, глыб. 0,15–0,25 м) ямы. Усе ямы з аднолькавым запаўненнем, аналагічным ніжняму слою. Большасць ям звязаны з умацаваннямі па краю пляцоўкі. Знойдзены ляпная і кругавая кераміка (*днепра-дзвінскай культуры*, 3-й чв. 1-га тыс. н.э., кругавая кераміка 12–13 ст. з хвалістым арнаментам па краі венчыка і тулава); жал. дзіда, завес, цвікі, фр-ты нажоў, шкляных бранзалетаў, гліняны грузік, бронзавая ігла і інш.

*Літ.:* Л я ў к о В.М., М я ц е л ь с к і А.А., К а л а с о ў с к і Ю.У. Археалагічныя помнікі Дубровеншчыны // Память: Дубровенскі р-н. Мінск, 1997. Кн. 1.

*В.М.Ляўко.*

**СТРА́ЖАВІЦКІЯ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫЯ СКА́РБЫ**. Знойдзены ў 1898 і 1903 каля в. Стражавічы Чашніцкага р-на Віцебскай вобл.

**Скарб 1898** складаўся з 207 цэлых і абломкаў манет, 5 манетападобных пласцінак, 9 трохгранных сярэбраных зліткаў, 5 зліткаў у выглядзе плітак, вузкай пласціны, сагнутай у двухабаротнае кольца, 11 кавалкаў такой жа пласціны, абломка сярэбранага пазалочанага гузіка, 3 паясных бляшак, галоўкі ад шпількі, матка і 11 кавалкаў

сярэбранага дроту, 4 кавалкаў чатырохграннага дроту, 5 дробных кавалкаў серабра, 11 кавалкаў сярэбранай бляхі; невял. чатырохвугольнага злітка жоўтага металу (электр ці золата нізкай пробы). Агульная маса скарбу 527 г. Манетную частку скарбу складалі 48 куфіцкіх дырхемаў (у т.л. 32 фр-ты), 159 зах.-еўрап. дэнарыяў, 9 манетападобных пласцінак у метралагічных нормах дэнарыя.

Арабскі халіфат (48 экз.): дынастыя Абасідаў (1) – манетны двор Мадынат ас-Салам; эміры Саманіды (11) – манетныя двары Бухара, Самарканд, аш-Шаш, нявызначаныя манетныя двары; эміры Зіярыды (2) – манетны двор Джурджан; эміры Мерваніды (1) – нявызначаны манетны двор; эміры Хамданіды (1) – манетны двор Нісібін; нявызначаныя фр-ты (32) дырхемаў эміраў Буідаў і Саманідаў.

Англія: Этэльрэд II [976–1016] – манетныя двары Йорк, Лондан, Эксетэр; Канут [1016–35] – манетны двор Лондан.

Германская імперыя: арцыбіскуп Пілігрым [1021–36] – манетны двор Андэрнах; Конрад II [1024–39] – манетны двор Давентэр; біскуп Бернольд [1027–54] – манетны двор Давентэр; Генрых II [1002–24] – манетны двор Тыль; Конрад II [1024–37] – манетны двор Тыль; Атон і Адэльгейда – нявызначаныя манетныя двары; нявызначаныя эмітэнты – манетныя двары Аўгсбург, Кёльн, Вендкі. Перайманні дэнарыяў Люнебурга часоў герцага Бернгарда [973–1011].

Схаваны каля 1040. Для даследавання скарб паступіў у Археал. камісію (Санкт-Пецярбург, Расія). Пасля вывучэння кавалкі манет пераплаўлены на манетным двары, астатняя манетнарэчавая частка перададзена музею Магілёўскага губ. статыстычнага к-та.

**Скарб 1903** складаўся з 2 цэлых (201,66 г і 103,63 г) і 4 кавалкаў (10,13 г, 12,17 г, 19,46 г і 37,15 г) зліткаў серабра, 4 фр-таў сярэбранай шыйнай грыўні, тонкага сярэбранага дроту, залатога палачкападобнага злітка (78,8 г) з абсечаным канцом і адтулінай, 2 залатых кольцаў з чатырохграннага і круглага дроту (усе 3 прадметы былі нанізаны на вітое сярэбранае кольца), 46 куфіцкіх і 273 заходнееўрап. (у т.л. 6 фр-таў) манеты. Агульная маса рэчавай часткі 461,01 г.

Арабскі халіфат. Эміры Саманіды (24 экз.): Наср ібн Ахмад [914–943] – манетныя двары аш-Шаш (4) і нявызначаны (1); Нух ібн Наср [943–954] – манетныя двары Самарканд (1) і аш-Шаш (1); Абд ал-Малік [954–955] – манетны двор аш-Шаш (1); Мансур ібн Нух [961–976] – манетныя двары Амоль (1), Бухара (4), Самарканд (1), аш-Шаш (1); Нух ібн Мансур [976–997] – манетныя двары Самарканд (2), аш-Шаш (1), нявызначаныя (6). Эміры Буіды (2 экз.): Адуд ад-даула [949–982] – манетны двор Хамадан (1); Рукн ад-даула [950–967] і Адуд ад-даула – манетны двор Ісбахан (1). Эміры Зіярыды (2 экз.): Бісутун ібн Вашмгір [967–976] – манетны двор Джурджан (2). Эміры Ілекі (1 экз.): Наср ад-даула – манетны двор Узгенд. Эміры Мерваніды (10 экз.): Хасан ібн Мерван [990–997] – нявызначаны манетны двор (1); Мумахід [997–1011] – манетныя двары Міяфарэкін (3), Муласая (1), нявызначаныя (3); Абу Наср Ахмад [1011–61] – манетны двор Міяфарэкін (1), нявызначаны манетны двор (1). Айкаліды (1 экз.): Хусам ад-даула [996–1001] і Сінан ад-даула [1000–03] – нявызначаны манетны двор (1). Эміры Хамданіды (3 экз.): Сейф ад-даула [944–967] і Наср ад-даула [929–967] – манетныя двары Масул (1) і нявызначаныя (2). Эмітэнт і манетны двор не вызначаны (1 экз.). Волжская Булгарыя (1 экз.): эмір Бармак – манетны двор Булгар. Перайманне куфіцкага дырхема (1 экз.).

Англія (58 экз.): Этэльрэд II – 23; Канут – 26; Гаральд [1035–40] – 1; перайманні – 8.

Германская імперыя (75 экз.): граф Балдуін [989–1036] – нявызначаны манетны двор у Фландрыі (2); Атон I [936–973] – манетны двор Кёльн (5); Атон II [973–983] – манетны двор Майнц (2); Атон III [983–1002] – манетныя двары Кёльн (3), Андэрнах (1), Давентэр (1), Вюрцбург (1), нявызначаныя (13); арцыбіскуп Пілігрым [1021–36] – манетны двор Кёльн (2); арцыбіскуп Герман II [1036–56] – манетны двор Кёльн (1); Конрад II – манетныя двары Дуйсбург (1), Тыль (2); біскуп Бернольд – манетны двор Гронінген (1); Генрых II – манетныя двары Тыль (1), Вормс (1), Страсбург (3), Аугсбург (3); Атон і Адэльгейда – нявызначаны манетны двор (24); герцаг Бернгард II [1011–59] – манетны двор Люнебург (2); арцыбіскуп Віллігіс [975–1011] – манетны двор Майнц (1); Генрых III [1039–56] – манетны двор Шпеер (1); герцаг Генрых I [948–955] – манетны двор Рэгенсбург (2); герцаг Генрых V [1017–26] – манетны двор Рэгенсбург (1); герцаг Генрых VI [1026–40] – манетны двор Рэгенсбург (1).

Данія (10 экз.): Гартэкнут [1035–42] – нявызначаны манетны двор (7); Магнус [1042–47] – нявызначаны манетны двор (1); перайманні англійскіх дэнарыяў Этэльрэда і Канута (2).

Зах.-еўрап. дэнарыі дрэннай захаванасці (130 экз.).

Схаваны каля 1015. У 1904 скарб перададзены ў Археал. камісію (Санкт-Пецярбург, Расія). Пасля вывучэння залаты злітак і 1 кольца, 11 абломкаў серабра, 6 куфіцкіх дырхемаў былі перададзены ў Эрмітаж (Санкт-Пецярбург), астатнія рэчы і манеты – у музеі Магілёўскага губ. статыстычнага к-та і Варшаўскага ун-та, дзе яны зніклі ў час 2-й сусв. вайны.

*Літ.*: Марков А.К. Два монетных клада 1903 г. // Изв. Имп. Археол. комиссии. Санкт-Петербург, 1905. Вып. 17; Яго ж. Топография кладов восточных мо-

нет (сасанидских и куфических). Санкт-Петербург, 1910; Корзухина Г.Ф. Русские клады IX–XIII вв. М., 1954; Потин В.М. Причины прекращения притока западноевропейских монет на Русь в XII в. // Международные связи России до XVII в. М., 1961; Яго ж. Находки западноевропейских монет на территории Древней Руси и древнерусские поселения // Нумизматика и эпиграфика. М., 1962. Т. 3; Яго ж. Топография находок западноевропейских монет X – XIII вв. на территории древней Руси // Тр. Гос. Эрмитажа. Нумизматика. Ленинград, 1967. Т. 9. № 3; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Минск, 1971. *Ш.І.Бекціневу.*

**СТРА́ЖАЎСКІ КРЫЖ**, помнік гісторыі і культуры 17–18 ст. Знаходзіцца на могілках в. Стража Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. Высечаны з чырвонага граніту, выш. 0,8 м, шыр. 0,5 м, таўшч. 0,3 м. З вонкавага боку па ўсёй паверхні крыжа рэльефная выява чалавека ў доўгім кафтане, падпяразаным поясам, і ў шапцы. Рукі сагнуты ў локцях, далоні на поясе. Рысы твару выразныя. Па краях лопасцей крыжа высечаны невял. крыжыкі, з адваротнага боку ў сяродкрыжжы – яшчэ адзін крыж. На тарцовых паверхнях С.к. рэльефныя выявы жывёл, магчыма, леапардаў. Падобныя помнікі на тэр. Усх. Еўропы невядомы.

*Літ.:* Дучыц Л.В. Культавыя камяні Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даслед.: зб. арт. Мінск, 1985; Яе ж. Обследование культовых камней и каменных крестов на территории Белоруссии // АО 1984. М., 1986. *Л.У.Дучыц.*

**СТРАЛА́**, кідальны снарад лука, прызначаны для паражэння цэлі на адлегласці. Асн. састаўнымі элементамі С. звычайна былі наканечнік, дрэўка і апярэнне. Паводле шэрага даследчыкаў, некаторыя артэфакты культуры мусцье могуць з'яўляцца першымі наканечнікамі С. (больш за 40 тыс. гадоў назад). Шырока распаўсюдзіліся на тэр. Беларусі разам з лукамі ў фінальным палеаліце (12–10 тыс. гадоў назад).

С. ў каменным і бронзавым вяках на тэр. сучаснай Беларусі складалася з наканечніка (крамянёвага, касцянога, рагавога або драўлянага), дрэўка (чарацянага або драўлянага). Сведчанняў выкарыстання апярэння ў гэты перыяд не зафіксавана. Наканечнік фіксаваўся ў разрэзе на канцы дрэўка з дапамогай смалы або дзёгцю і дадаткова шчыльна прымотваўся да яго тонкім шнурам з расліннага валакна або жылы. На тэр. Беларусі выпадкі выяўлення цэлых С. з перыядаў каменнага і бронзавага вякоў невядомы. Найб. распаўсюджанымі знаходкамі з'яўляюцца наканечнікі стрэл. Самыя раннія з іх выяўлены на познапалеалітычнай *Бердыжскай стаянцы.* Для фінальнапалеалітычных культур на тэр. Беларусі характэрны пераважна буйныя пласціністыя і на адшчэпах чаранковыя наканечнікі стрэл, рэтушаваныя найб. са спінкі з падпраўкай па брушку чаранка і вастрыя. Гэтая традыцыя працягваецца і ў мезаліце, аднак у шэрагу культур у







*Наканечнікі* ***стрэл:*** *А – ланцэтападобныя наканечнікі 10 – пач. 11 ст. (1–4 – гарадзішча Пруднікі, 5 – Лукомль), В – наканечнікі з Мінскага Замчышча.*

якасці наканечнікаў С. выкарыстоўваліся таксама мікраліты і ланцэтападобныя вастры (напр. янііславіцкія). У раннім і сярэднім неаліце выкарыстоўваліся лістападобныя і рамбічныя чаранковыя і бесчаранковыя крамянёвыя наканечнікі С. З гэтага часу фіксуюцца касцяныя і рагавыя вырабы разнастайных форм: верацёна-, іголка-, лістападобныя, біканічныя, складанай формы, затупленыя «футравыя», утулкавыя і інш. З позняга неаліту на тэр. Беларусі з'яўляюцца крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, з плоскай або ўвагнутай асновай. Гэты баявы тып наканечнікаў найб. характэрны для кола культур шнуравой керамікі, аднак з часам яго пачынаюць выкарыстоўваць і носьбіты мясц. культур. Бліжэй да перыяду сярэдняй бронзы пачынаюць выкарыстоўвацца чаранковыя трохвугольныя і сэрцападобныя наканечнікі.

У раннім жал. веку ў паўн. і цэнтр. Беларусі (днепра-дзвінская і штрыхаванай керамікі культуры) выкарыстоўваліся ўтулкавыя і чаранковыя касцяныя наканечнікі С. Утулкавыя мелі кулепадобную і напарсткападобную форму. Напарсткападобныя наканечнікі (вядомыя ў літ. як тамары) выкарыстоўваліся для палявання на дробных пушных звяроў. Чаранковыя наканечнікі мелі пяро двухці аднашыпнай, ромба-, шыла-, ланцэта-, лістападобнай формы. На Пд Беларусі (у арэале мілаградскай культуры) у раннім жал. веку выкарыстоўваліся бронзавыя трохлопасцевыя і трохгранныя наканечнікі С. скіфскага тыпу і жал. плоскія трохвугольныя, рамбічныя і лістападобныя наканечнікі без чаранкоў. У познім жал. веку ў паўн. і цэнтр. Беларусі (днепра-дзвінская і штрыхаванай керамікі культуры) выкарыстоўваліся ўтулкавыя і чаранковыя жал. наканечнікі С. пераважна лістападобнай формы. У кіеўскай культуры знойдзены

трохлопасцевы чаранковы наканечнік, які мае аналогіі ў старажытнасцях гунаў.

У раннім сярэдневякоўі на тэр. Беларусі выкарыстоўваліся трохлапасцёвыя чаранковыя і двухшыпныя чаранковыя і ўтулкавыя наканечнікі С. У старажрус. час на Русі было вядома больш за 200 тыпаў і відаў наканечнікаў С. Абсалютную большасць ад агульнай колькасці знаходак складаюць утулкавыя і чаранковыя наканечнікі з разнастайнай формай пяра, якая залежала ад функцыянальнага прызначэння С. (бранябойная, для паражэння праціўніка без даспехаў і інш.). У 10 – пач. 11 ст. выкарыстоўваліся ланцэтападобныя наканечнікі скандынаўскага паходжання. З сяр. 13 ст. у выніку нападаў мангола-татараў на тэр. Беларусі распаўсюджваецца шэраг тыпаў С. мангольскага паходжання (чаранковыя плоскія зрэзні і полымяпадобныя, трохлопасцевыя і інш.). Акрамя жал., у 10–13 ст. выкарыстоўваліся і касцяныя наканечнікі С., найб. папулярнымі з якіх былі паляўнічыя тамары. У Гродне і Полацку знойдзены драўляныя цацачныя стрэлы ад дзіцячых лукаў старажрус. часу.

У 14 ст. ў сувязі з распаўсюджаннем арбалетаў баявое выкарыстанне лука са С. ў ВКЛ зменшылася, аднак яшчэ ў 16 ст. яны былі неад'емным атрыбутам татараў, якія жылі ў княстве. Да 2-й пал. 16 ст. лукі са С. сталі асновай комплексу зброі асобнай катэгорыі воінаў, узброеных па-казацку.

*Літ.*: Медведев А.Ф. Ручное метательное оружие. Лук и стрелы, самострел VIII–XIV вв. М., 1966; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Каинов С.Ю. Ланцетовидные наконечники стрел из раскопок Гнездова // Раннесредневековые древности Северной Руси и ее соседей. Санкт-Петербург, 1999; Егорейченко А., Сидрович О. Втульчатые костяные наконечники стрел из раскопок городища Ратюнки // Браслаўскія чытанні 2000. Браслаў, 2001; Шадыра В., Шаволін С. Тыпалогія касцяных наканечнікаў стрэл з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння // ГАЗ. Мінск, 2005. Вып. 20; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Чарняўскі М. Касцяныя і рагавыя вырабы на паселішчах Крывінскага тарфяніку (неаліт–бронзавы век). Мінск, 2007; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008.

*М.А.Плавінскі, М.М.Чарняўскі.*

**СТРАТЫГРА́ФІЯ** (лац. stratum насціл, слой + graphō пішу) у археалогіі, апісанне ўмоў залягання культ. пласта археал. помнікаў адносна геалагічных напластаванняў і інш. слаёў. Апісанне вядзецца па пластах зверху ўніз з указаннем характару глебы, прыродных і культ. уключэнняў, парушэнняў натуральнага залягання і інш. С. дае магчымасць вызначыць змену культ. комплексаў у часе (больш стараж. рэчы знаходзяцца ў ніжэйшых гарызонтах культ. пласта, калі ён не парушаны) і параўнаць час існавання помнікаў у пэўным месцы (вертыкальная С). Калі рознасовыя рэчы трапляюцца на адным гарызонце, выкарыстоўваюць гарызантальную С. (гл. *Планіграфія*). Параўнальная С.– параўнанне розных археал. комплексаў – дае магчымасць вызначыць храналогію асобных культ. з'яў на тэр. асобных рэгіёнаў, краін, цэлых кантынентаў і нават усяго свету. З дапамогай звестак С. вызначана адносная, а потым і абсалютная храналогія каменнага веку, абгрунтавана яго перыядызацыя. С. цесна звязана з глебазнаўствам і геалогіяй.

*Літ.*: Авдусин Д.А. Полевая археология СССР. М., 1980.

*У.Ф.Ісаенка.*

**СТРУ́ГА**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Струга Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. За 8 км на З ад вёскі, у лесе ва ўр. Крыж, абапал дарогі на б. хутар Халсцінава. 8 насыпаў выш. 0,4–0,8 м, дыям. 5,8–80,2 м. Размешчаны кампактнай групай: 7 насыпаў з правага боку дарогі, 1 – з левага. Мясц. назва Шведскія магілы. Выявіла і абследавала ў 1980 С.М.Васільева, абследавала ў 1982, 1983, 1985 Т.М.Каробушкіна, якая ў 1983 раскапала 1 курган. Пахавальны абрад – трупаспаленне па-за межамі кургана. У насыпе попельна-вугальныя плямы таўшч. 5 см, на гарызонце попельна-вугальны пласт таўшч. 10–12 см. Попел і вуголле прынесены з пахавальнага вогнішча. Датуецца 8–10 ст.

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Изучение курганов Белорусского Побужья // АО 1983. М., 1985.

*Т.М.Каробушкіна.*

**СТРУ́ГА**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля в. Струга Столінскага р-на Брэсцкай вобл.

Паселішча-1 за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Гарынь. Пл. каля 3 га. Адкрылі В.С.Вяргей, А.А.Егарэйчанка. Даследавалі ў 1988–89 В.С.Вяргей (680 м²), у 2004 Г.М.Бяліцкая (60 м²). Культ. пласт 0,6–0,8 м. Выяўлена 5 пабудоў зрубнай канструкцыі. Пабудовы 1–3 уяўляюць сабой паўзямлянкавыя жытлы, амаль квадратныя ў плане, арыентаваныя сценамі па баках свету. Іх катлаваны пл. 14–17 м², заглыбленыя ў мацярык на 0,15–0,3 м, абаграваліся складзенымі з гліны і дробных камянёў на каркасе з галін дрэў купальнымі печамі, якія размяшчаліся ў куце альбо каля сцяны. У жытле 1 на месцы ўваходу ў паўд. сцяне прасочана земляная прыступка. Да жытла 2 прымыкала невял. прыбудова з паўн. боку. У падлозе жытла 3 была зроблена гасп. яма. У запаўненні жытлаў 1–3 знойдзены фр-ты ляпнога посуду пражскай культуры, жал. вырабаў, гліняныя прасліцы і «хлябцы» (датуюцца 2-й пал. 6–7 ст). Пабудова 4 мае памеры 2,7 × 3 м, заглыблена ў мацярык на 0,3 м, часткова перакрыта жытлом 3. У падлозе пабудовы, каля яе зах. сценкі выяўлена прамавугольная ў плане яма памерамі 0,9 × 1 м, глыб. 0,3 м. У запаўненні знойдзены біканічныя прасліцы з шырокімі адтуліна-




*Да арт.* ***Струга****. Сакральны комплекс паселішча-2.*

мі, фр-ты гладкасценнага ляпнога посуду, абломкі пасудзін з расчосамі і падштрыхоўкай на паверхні, а таксама блізкія па форме да посуду вельбарскай і чарняхоўскай культур. Пабудову можна аднесці да 4 ст., менавіта ў гэты часу для Пагарыння характэрны сімбіёз у матэрыяльнай культуры постзарубінецкіх, чарняхоўскіх і вельбарскіх традыцый. Пабудова 5, даследаваная ў 2004 Г.М.Бяліцкай, уяўляла сабой паўзямлянку квадратнай формы, пл. 16 м². Арыентавана вугламі па баках свету. Падлога жытла знаходзілася на ўзроўні 0,9 м ад сучаснай паверхні. Абагравалася печчу, збудаванай з гліны і дробных камянёў, якая мела памеры 1,1 × 1 м, таўшч. сценак 0,23 м, шыр. вусця 0,6 м. Пад аснаваннем печы ў пясчаным мацерыку выяўлены неглыбокія раўчукі падкавападобнай формы, запоўненыя глінай. Тыльная сценка печы была таўсцейшая за бакавыя. У запаўненні пабудовы выяўлены абломкі гліняных «хлябцоў», фр-ты ляпной керамікі позназарубінецкіх форм, косткі жывёл. На падставе марфалагічных і тэхналагічных асаблівасцей керамічнага комплексу жытло 5 можна датаваць 2–4 ст. н.э. У культ. пласце выяўлены матэрыялы эпохі мезаліту (крамянёвыя наканечнікі стрэл, абломкі ляпных пасудзін тшцінецкай культуры эпохі бронзы, мілаградскай, зарубінецкай, позназарубінецкай культур жал. веку, раннесярэдневяковых пражскай і лука-райкавецкай культур). Рэчавы комплекс пражскага перыяду дапаўняюць жал. двухшыпныя наканечнікі стрэл, гліняныя праслíцы, нажы, шылы, шкляныя пацеркі.

Паселішча-2 на паўд.-зах. ускраіне вёскі, ва ўр. Шырока, на невысокай надпоймавай тэрасе р. Чаква (правы прыток р. Гарынь). Адкрылі ў 1986 В.С.Вяргей і А.А.Егарэйчанка. У 2002 Г.М.Бяліцкая даследавала 140 м². Помнік шматслойны, на пл. каля 3 га выяўлены матэрыялы эпохі бронзы, жал. веку і сярэдневякоўя. Культ. пласт 0,4 м. Зафіксаваны рэшткі ахвярніка. Рэшткі пабудовы, агульнай пл. 26 м², мелі ў плане форму, блізкую да крыжа. Запаўненне катлавана ў выглядзе супеску цёмна-шэрага колеру з уключэннямі вугалля, костак жывёл, лускі рыб, керамікі перасцілалася месцамі пластамі аранжава-шэрай абпаленай гліны, чорнымі плямамі вогнішчаў і белымі плямамі крэміраваных костак. На глыб. 0,6–0,7 м масіў аб'екта распаўся на 3 асобныя лінзападобныя ў разрэзе ямы паўн., цэнтр. і паўд. Цэнтр. яма мае форму няправільнага авала памерамі 3,1 × 5,6 м, глыб. 0,6 м ад узроўню мацерыка. На дне і схілах вылучаны шэраг круглых слупавых і колавых ям розных памераў. Адна з іх уяўляе сабой круглае ў плане паглыбленне дыям. 1 м, на 0,15 м апушчанае ў дно цэнтр. ямы. У яго цэнтры выяўлены косткі жывёл і кераміка. Паўн. яма мае авальную ў плане форму, памеры 1,72 × 1,3 м, глыб. 0,52 м ад узроўню мацерыка. На глыб. 0,6–0,7 м ад дзённай паверхні ў цэнтры ямы выяўлены вугалле, косткі, рэшткі рыб. Паўд. яма акруглай формы памерам 2,65 × 2,45 м, глыб. 0,5 м ад узроўню мацерыка. У яе цэнтр. частцы назіралася пэўная колькасць вугалля і костак, знойдзена шыфернае праслíца. У запаўненні аб'екта выяўлены 3822 фр-ты ганчарнага посуду (гаршкоў). У пластах на розных узроўнях знойдзены рэчы: клін, нажы, цвік, іголка, фр-ты спражак з жалеза, хрысціянскі крыжык, накладкі на рамень, пярсцёнак з бронзы, пацеркі з паставага шкла, праслíцы з шыферу, фр-ты кругавога посуду, хлябцы з гліны, кудмень (амулет) з ікла лісы. У ахвярным комплексе выяўлена вял. колькасць касцявога матэрыялу дзікіх (дзік, мядзведзь, лось, зубр, казуля, ліс, заяц, бабёр, выдра, воўк) і свойскіх (свіння, авечка, буйная рагатая жывёла, конь) жывёл, птушак (цецярук, глушэц, белая курапатка, шэры жураў, чыбіс, качка, шэрая гусь, свойская курыца), рыб (асетр, шчупак, карась, галавень, язь, плотка, лінь, карп, акунь). Час функцыянавання сакральнага комплексу — XI–XIII стст.

*Літ.*: Бяліцкая Г.М. 2003. Культавы комплекс у Пагарынні // МАБ. 2003. № 8; Ляшкевіч Э.А. Археалагічныя крыніцы пра здабычу асятровых на Прыпяці // Славянский мир Полесья в Древности и Средневековье: материалы междунар. конф., 19–20 окт. 2004 г. Гомель, 2004; Разлуцкая А.А. Об остатках животных из раскопок культового комплекса Струга-2 // Там жа;

В е р г е й В.С. Раннеславянское поселение Струга I на нижней Горыни // Archaeoslavica. Kraków, 1993. № 2; Я е ж. Белорусское Полесье в Римский период и в начале эпохи Великого переселения народов // Лесная и лесостепная зоны Восточной Европы в эпохи римских влияний и Великого переселения народов. Сб. ст. Тула, 2008. Вып. 1. *Г.М.Бяліцкая, В.С.Вяргей.*

**СТРУГАЛА́ПЫ**, археалагічны помнік – раннемезалітычная стаянка каля в. Стругалапы Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 0,3 км на ПдУ ад вёскі, на зах. беразе воз. Мядзел (1,5–2,5 м над узроўнем вады). Выявіў і даследаваў у 1979 Э.М.Зайкоўскі (144 м²), даследаваў у 1986–87 У.П.Ксяндзоў (454 м²). Культ. пласт разбураны ворывам і паўторным засяленнем у раннім сярэдневякоўі; яго рэшткі выяўлены на глыб. 0,4 м.

Знойдзена 3,5 тыс. каменных вырабаў, у т.л. прылады з мелавога «нёманскага» крэменю добрай якасці: разцы бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя, скрабкі канцавыя і авальныя, пласціны-ўкладышы, праколкі, свердзелы, вастрыі, долаты, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, нуклеусы. Прыналежнасць стаянкі да пэўнай культуры не вызначаецца. Датуецца 7-м тыс. да н.э.

*Літ.:* З а й к о ў с к і Э.М. Знаходкі ля возера // ПГКБ. 1981. № 2. *У.П.Ксяндзоў.*

**СТРУ́МЕЛЬ-ГАСЦЯ́ЦІНСКАГА ТЫ́ПУ ПО́МНІКІ**, неалітычныя помнікі Сярэдняга Падняпроўя. Размешчаны на Пн ад Кіева. Выявіў у 1951 А.П.Саўчук, потым даследаваў Дз.Я.Цялегін. Асн. прыкмета помнікаў – наяўнасць вастрадонных гаршкоў з высокімі цыліндрычнымі сценкамі і нізкім, часам шыпападобным дном. Матэрыялам для посуду служыла камякаватая гліна з раслліннымі дамешкамі. Паверхня гаршкоў звычайна захоўвала сляды расчосаў. Верхняя частка посуду бедна арнаментавана радамі адбіткаў і вертыкальнымі стужкамі, якія наносіліся зубчастым штампам. Побач з гаршкамі трапляюцца невял. міскі. Кераміка нагадвае знаходкі каля Любчы (Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.), Новага Быхава (Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл.), Дубічая (Пд Літвы), Сярова (Калінінградская вобл., Расія), Эртэбёле (Данія). Яна адпавядае, верагодна, кераміцы ранняй стадыі (5–4-е тыс. да н.э.) *днепраданецкай культуры.* *У.Ф.Ісаенка.*

**СТРУ́МЕНЬ**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля в. Струмень Кармянскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 неаліту і бронзавага веку за 200 м на З ад вёскі, ва ўр. Біручыха, на пясчанай выдме зах. берага возера-старыцы Аўчыннікава Калюга. Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1976 І.І.Арцёменка і А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,4 м. На пл. каля 200 м² знойдзена больш за 1300 вырабаў з крэменю (нажы, сякеры, цёслы, праколкі, свярдзёлкі, скрэблы, скоблі, разцы, наканечнікі стрэл і дроцікаў), адходы крамянёвай вытворчасці, запасы сыравіны і інш. Сярод знаходак каля 600 фр-таў ляпнога посуду, арнаментаванага грабеньчатымі, ямкавымі, лапчастымі і накольчатымі адбіткамі, а таксама аздобленага ружанцавым, вусеневым і шнуравым арнаментам. Выяўлены рэшткі разбураных агнішчаў адкрытага тыпу. Матэрыялы адносяцца да эпохі неаліту (позні этап *верхнедняпроўскай культуры*), ранняга (*сярэднедняпроўская культура*) і сярэдняга (*сосніцкая культура*) перыядаў бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а - 2 бронзавага веку справа ад дарогі ў вёску з паромнай пераправы праз Сож, ва ўр. Гневін. Выявіў у 1962 І.І.Арцёменка. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а - 3 каменнага веку на правым беразе р. Струменка, ва ўр. Града. Выявіла ў 1975 А.Г.Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а - 4 эпохі неаліту і бронзавага веку за 0,5 км на У ад паромнай пераправы цераз Сож, злева і справа ад дарогі ў вёску, ва ўр. Жыдоўка. Выявіла і даследавала ў 1978 А.Г.Калечыц. На пл. 80 м² знойдзены нуклеусы, крамянёвыя пласціны, праколкі на канцах пласцін, адшчэпы, фр-ты керамічнага посуду, упрыгожаныя адбіткамі лінейнага і лапчастага штампа, грабеньчатым арнаментам.

П а с е л і ш ч а - 5 эпохі ранняга неаліту на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Ліпіца. Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а - 6 за 0,7 км ад вёскі, у міжрэччы Сажа і Струменкі, ва ўр. Лоша (Лашыная Грыва). Сістэма пясчаных узвышэнняў на левым беразе Сажа, за 1,5 км ад асн. русла. Пл. каля 7 тыс. м². Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч, даследавала ў 1975–80 А.Г.Калечыц. На пл. каля 3 тыс. м² знойдзена больш за 48 тыс. вырабаў з крэменю і 42 тыс. з гліны. Выяўлены рэшткі 9 жытлаў, 61 гасп. яма, 52 агнішчы, 3 пахаванні. Матэрыялы адносяцца да эпохі неаліту (верхнедняпроўская культура), ранняга і сярэдняга перыядаў бронзавага веку (сярэднедняпроўская і сосніцкая культуры).

Неалітычныя жытлы круглыя або авальныя ў плане, дыям. 2,5–3,9 м, пл. да 12 м², мелі ачаг адкрытага тыпу. У падлозе знойдзены рэшткі ям глыб. да 0,6 м, дыям. да 0,5 м, якія маглі мець гасп. або рытуальнае прызначэнне. Вакол жытлаў шмат гасп. ям і агнішчаў. Выразна фіксуюцца вытворчыя цэнтры па апрацоўцы крэменю і вырабе керамікі. Сярод знаходак эпохі неаліту пераважаюць адходы крамянёвай вытворчасці. У ліку гатовых вырабаў – сякеры, цёслы, скоблі, разцы, нажы, колючыя прылады, наканечнікі стрэл, дроцікаў. Гаршкі шыракагорлыя, прамасценныя, вастра- і акругладонныя, арнаментаваны наколкамі грэбеня, ямкавымі і лапчастымі адбіткамі; пераважаюць гарызантальныя і дыяганальныя кампазіцыі. Культ. рэшткі бронзавага веку выразна прадстаўлены посудам сярэднедняпроўскай культуры (ша-

равідныя гаршкі з круглым ці амаль плоскім дном, адагнутай вонкі шыйкай, аздобленыя адбіткамі шнура, наразнымі лініямі дробнага грэбеня, зігзагамі і інш.) і сосніцкага тыпу (пласкадонныя, зрэдку акругладонныя пасудзіны са скошаным звонку і патоўшчаным венчыкам, упрыгожаныя ружанцовымі, грабеньчатымі, ямкавымі і інш. адбіткамі, з якіх утвораны трохвугольныя, зігзагападобныя, гарызантальныя кампазіцыі). Сярод прылад працы бронзавага веку сярпы, сякеры і інш.

Паселішча-7 эпохі неаліту і бронзавага веку за 0,7 км на ПдЗ ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Струменка, на мысе выш. каля 2 м, ва ўр. Нараг. Пл. каля 2,5 тыс. м². Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч, даследавала 464 м² у 1975–78 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,6 м. Выяўлены 7 гасп. ям і 2 агнішчы. Знойдзена каля 5 тыс. вырабаў з крэменю і каля 6 тыс. фр-таў ляпнога посуду. Крамянёвы інвентар макралітоіднага выгляду. Сярод прылад працы цёслы, сякеры, долаты, прылады тыпу «пік», скрабкі, праколкі, свярдзёлкі, разцы і інш. Рэшткі ляпнога посуду эпохі неаліту ўпрыгожаны складаным грабеньчата-ямкавым арнаментам (гарызантальныя, вертыкальныя, дыяганальныя і інш. кампазіцыі). Посуд бронзавага веку з плоскім і круглаватым дном, упрыгожаны сістэмай трохвугольнікаў з наразных ліній і адбіткаў шнура.

Паселішча-8 эпохі неаліту і бронзавага веку на Пд ад вёскі і могілак, ва ўр. Падселы. Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч, абследаваў у 1975 В.І.Шадыра. Расокопкі не праводзіліся.

Паселішча-9 эпохі неаліту і бронзавага веку за 2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Трыслівец. Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1962 І.І.Арцёменка, у 1975–76 А.Г.Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

Паселішча-10 каменнага веку за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Белая Гара. Выявіла і абследавала ў 1980 А.Г.Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**СТРУ́СТА**, археалагічны помнік – селішча эпохі сярэдневякоўя каля в. Струста Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 0,1–0,12 км на Пд і ПдУ ад вёскі, справа ад дарогі Браслаў–Плюсы, на зах. беразе воз. Струста. Выявіў і даследаваў 24 м² у 2004 М.А.Плавінскі. Знойдзены фр-ты кругавой керамікі 11–17 ст., у т.л. некалькі развалаў і адзін цэлы гаршчок, гліняная абмазка, жужаль, літ. шэлег Яна II Казіміра (пасля 1660), шылінг Карла XI (Шведская Прыбалтыка, паміж 1660–66). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Браслаўскім раённым аб'яднанні музеяў.

*Літ.*: Плавінскі М. Разведкі ў Браслаўскім і Міёрскім раёнах // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20.

*М.А.Плавінскі.*

**СТРЭ́МЯ**, прыстасаванне для падтрымкі і ўпору ног вершніка пад час язды. С. дапамагаюць у кіраванні канём, павышаюць устойлівасць і паваротлівасць вершніка, дапамагаюць павялічыць замах і сілу ўдару клінковай, абуховай і дрэўкавай зброяй. У 4 ст. н.э. былі вядомы С. ў зоне кантактаў жывёлагадоўчых і земляробчых культур паўн. Кітая, у Карэі і Японіі. Першапачаткова яны рабіліся з драўлянага прута і абкладваліся жалезам ці меддзю, пазней – з плоскіх жал. лістоў, але вузкая пласціна рэзала нагу, таму падножка набыла пляскатую форму. Ва Усх. Еўропу С. былі прынесены аварамі ў 2-й пал. 6–7 ст. На Русі выкарыстанне С. фіксуецца з 9–10 ст. ў выніку кантактаў з венграмі, торкамі, печанегамі, хазарамі, аланамі, фінамі. Для ранніх стараж.-рус. С. было характэрна вушка, афармленае ў самастойным выступе пераважна акруглай формы. У больш позніх С. адтуліна для путлішча была прарэзана ў самой дужцы, а падножка па абрысах была скругленай альбо вуглаватай. У 12–13 ст. павелічэнне вагі рыштунку вершніка прывяло да павелічэння масіўнасці С., пашырэнню іх падножкі і прарэзу для путлішча. С. стараж.-рус. часу знойдзены ў гарадах Браслаў, Брэст, Ваўкавыск, Віцебск, Заслаўе, Лагойск, Лукомль, Копысь, Мінск, Навагрудак, Полацк, на гарадзішчы *Вішчын* і інш. У 14–15 ст. распаўсюджваюцца С. трапецападобнай формы з шырокай адтулінай пад путлішча, прызначаныя для цяжкой кавалерыі (Гродна, Крычаў), і іх варыянты з коса пастаўленай падножкай (ваколіцы Полацка), што было звязана са змяненнем пасадкі на кані – вынясеннем ног не наперад, а трохі ўбакі. Рыцар сядзеў у сядле на доўгіх путлішчах, моцна ўпіраючыся выпрастанымі нагамі ў С., што павялічвала ўстойлівасць яго пасадкі. Лёгкія вершнікі выкарыстоўвалі кароткія путлішчы і пасадку з падагнутымі нагамі. Для іх больш характэрны С. скругленых абрысаў (Крычаў, слой сяр. 17 ст.). Бытавалі таксама універсальныя аркападобныя С., блізкія па форме да сучасных (Віцебск і Крычаў, слаі 16–18 ст.).

*Літ.*: Амброз А.К. Стремена и седла раннего средневековья как хронологический показатель (IV–VIII вв.) // СА. 1973. № 4; Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX–XIII вв. // САИ. 1973. Вып. Е1–36; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**СТРЭ́ШЫН**, гарадскі пасёлак у Жлобінскім р-не Гомельскай вобл. На правым беразе Дняпра, за 25 км на Пд ад Жлобіна, на аўтамагістралі Жлобін–Рэчыца. Прыстань на Дняпры.

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 2-й пал. 14 ст. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» С. упамінаецца сярод гарадоў Кіеўскай Русі разам з Рагачовам і Любечам. У 1399 наз. ў даравальнай грамаце вял. кн. Вітаўта, належаў віленскім канонікам. У 16–17 ст. неаднойчы быў разбураны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі.

Гарадзішча старaж. С. размешчана на паўд.-ўсх. ускраіне пасёлка, на мысе правага берага Дняпра. Пляцоўка няправільнай формы, выцягнута ўздоўж ракі. У 1966 даследаваў 100 м² Э.М.Загарульскі. Культ. пласт 1,6 м. Знойдзены сланцавыя праслыцы, шкляныя бранзалеты і інш. Гарадзішча мела магутныя земляныя ўмацаванні (не захаваліся). Археал. матэрыялы сведчаць, што С. узнік у 12 ст. як невял. феад. замак, быў абкружаны валам шыр. 10–12 м і ровам. Побач з замкам узнікла неўмацаванае паселішча. Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць С. з старaж. горадам Стрэжавам, які ўпамінаецца ў Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім летапісах пад 1127, 1128 і 1159.

*Літ.*: Тихомиров М.Н. Древнерусские города. 2 изд. М., 1956; Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX–XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971. *Э.М.Зайкоўскі.*

**СТУДЗЁНАЯ ГУ́ТА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі радзімічаў каля в. Студзёная Гута Гомельскага р-на.

Курганны могільнік-1 на беразе воз. Стары Сож, ва ўр. Баюры і Дзямідава, у лесе, 60 насыпаў. У 1890 даследаваў М.М.Філонаў, у 1897 – Е.Р.Раманаў (5 курганоў), у 1962 – Г.Ф.Салаўёва (2 курганы). Пахавальныя абрады – трупаспаленне і трупапалажэнне. Выяўлены перапаленыя косці чалавека і коней, расплаўленыя бронзавыя вырабы, цуглі. Знойдзены нож, каса, крэсіва з крэменем, пярсцёнкі, кольцы, паясныя спражкі, тачыльны камень, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, пацеркі (пазалочаныя шкляныя, паставыя, яшмавыя, хрусталёвыя), драцяныя падвескі, лунніцы, вітая грыўня, фібула з белага металу, завушніцы з кольцаў, ланцужок, гаршкі, шыферныя праслыцы. Датуецца 10–12 ст.

Курганны могільнік-2 за 1,5 на ПдЗ ад вёскі, 10 насыпаў. У 1991 абследаваў А.А.Макушнікаў.

*Літ.*: Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда // Зап. Северо-Западного отдела Имп. Русского археол. о-ва. Кн. 1. Вильна, 1910; Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі Сярэднята і Ніжняга Сожа // Зап. аддзела гуманіт. навук. Мінск, 1928. Кн. 5, т. 1; Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: социально-эконом. и этнокульт. развитие. Гомель, 2009. *А.А.Макушнікаў.*

**СТУКА́ЦІЧЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік 10–11 ст. каля в. Стукацічы Мінскага р-на. За 1 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. Могільнік выцягнуты па лініі ПдУ–ПнЗ, шыр. 60 м, даўж. каля 300 м. 43 паўсферычныя насыпы выш. 0,6–3,7 м, дыям. 5–16 м, адзін курган падоўжаны, памерамі 26×10×2 м. У 2006 В.Н.Рабцэвіч даследаваў 3 курганы. У адным кургане знойдзена жаночае пахаванне па абраду трупапалажэння, галавой на ПдЗ. Пахавальны інвентар – 19 сердалікавых, 5 хрустальных і 2 шкляныя лімонападобныя пацеркі, бронзавы ланцужок з жал. падвескай і развал кругавога гаршка ў насыпе. У другім кургане на гарызонце зафіксаваны 2 попельныя плямы з рэшткамі крэмацыі. Знойдзены бразготка з крыжападобнай прорэззю, шкляныя бісер і жоўтая пацерка-лімонка. У трэцім кургане рэштак пахавання не выяўлена, знойдзены фр-ты кругавога гаршка.

*Літ.*: Иов О.В., Рябцевич В.Н. Курганный могильник Стукатичи в округе Минска // Мінск і мінчане: дзесяць стагоддзяў гісторыі (да 940-годдзя горада): матэрыялы Міжнар. навукова-практ. канф. Мінск, 7–9 вер. 2007 г. Мінск, 2008. *А.В.Іоў.*



*Да арт.* ***Стукацічы.*** *Пацеркі з жаночага пахавання.*

**СТУ́ПА**, прылада для перапрацоўкі зерня, льнянога семя, канопляў і інш. На тэр. Беларусі вядома з пач. 2-га тыс. да н.э. Паводле спосабу работы і канструкцыі падзяляюцца на ручныя і нажныя. Ручную С. выраблялі з суцэльнага кавалка даволі тоўстага ствала дрэва цвёрдай пароды (выш. не больш за 1 м), у якім рабілі шырокае, конусападобнае паглыбленне. У С. засыпалі зерне і таўклі пры дапамозе даволі важкага таўкача даўж. да 80 см, які ў цэнтры меў выемку для рук. Працаваць на ручной С. можна было аднаму або 2 чал.

У Мінску ў пласце 12 ст. знойдзена ручная С. і таўкач для працы аднаго чалавека, у Полацку – 2 таўкачы для працы 2 чал. (12 ст.) і інш. Знаходкі мінскай ручной С. даюць падставы сцвярджаць, што старaж. С. адрозніваліся ад больш позніх толькі меншымі памерамі. Нажныя С. знойдзены ў Мінску. Адна з іх разам з таўкачом датуецца 13 ст., добра захавалася. Яе аснова зроблена з тоўстага апрацаванага дрэва, даўж. 1,2 м, шыр. 0,5 м. На адным канцы плахі зроблена конусападобнае паглыбленне даўж. 22 см, якое абгароджана невысокім борцікам, што засцерагала зерне ад рассыпання. На процілеглым канцы С. ўмацаваны прамавугольны рычаг з таўкачом, які прыводзіўся

ў рух нагамі. У Брэсце ў пластах 13—14 ст. знойдзены 5 нажных С. (ад адной цалкам захавалася плаха з паглыбленнем, 13 ст.), а таксама 12 дубовых таўкачоў 11—14 ст. даўж. 40—52 см (даўж. рабочай часткі 25—30 см), што дае магчымасць меркаваць аб пашырэнні нажных С. з 11 ст. Нажныя С. вядомы ў цэнтры і на ПдЗ Беларусі. Ёсць меркаванне, што яны паходзяць з тэр. Украіны, дзе да 19—20 ст. іх выраблялі не толькі з дрэва, але і з каменю. На ПдЗ Беларусі драўляныя нажныя С. існавалі да сяр. 1950-х г., але канструкцыя іх істотна змянілася: для засыпання зерня выраблялі падобную на ручную, але карацейшую С. і прымацоўвалі да яе з двух бакоў драўляныя брусы, якія з процілеглага боку злучалі з 2 цурбанамі, што заканчваліся 2 сукамі. Паміж гэтымі сукамі замацоўвалі верхні брус, у які на ўзроўні С. ўстаўлялі таўкач. Такія С. зафіксаваны этнагр. экспедыцыямі ў Маларыцкім і Ельскім р-нах. *Т.М.Каробушкіна.*

**СТШЫЖО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура ранняга перыяду бронзавага веку, якую з пэўнымі агаворкамі далучаюць да эпішнуравога прыкарпацкага культ. кола (2350—1600 да н.э.). С.к. вылучыў у 1959 А.Гардаўскі. Назву атрымала ад паселішча і могільніка каля в. Стшыжаў Люблінскага ваяводства (Польшча). Паселішчы, могільнікі, крамянёвыя майстэрні, скарбы і асобныя знаходкі С.к. выяўлены на У Люблінскага ўзвышша, ПнЗ Валыні. Усх. межы С.к. дасягалі Гарыні. Некаторыя даследчыкі ў арэал С.к. ўключаюць зах.-палескія тэр. да вярхоўяў Прыпяці. С.к. існавала ў перыяды $A_{1b}$—$A_2$ (1950—1600 да н.э.) цэнтр.-еўрап. бронзавага веку. Паселішчы (Валянцінаў, Стшыжаў, Грудак Надбужны, Торчын, Зозаў-2, Востраў і інш.) размяшчаліся на высокіх мысах, схілах берагоў рэк і азёр, на ўзвышшах сярод пойм і балот. Жытлы складаліся з наземнай, абкружанай слупамі, і паглыбленай частак няправільна-авальнай формы памерамі да 3,4×5,6 м, з рэшткамі агнішча каля сцяны і ўступамі-ляжанкамі. На Пабужжы, у басейнах Стыры і Гарыні знойдзены крамянёвыя майстэрні, якія размяшчаліся побач з капальнямі на паселішчах альбо недалёка ад іх. Тут выраблялася сярпы, наканечнікі коп'яў, сякеры, кінжалы. Каля паселішчаў і ў іх межах знаходзіліся грунтавыя могільнікі з колькасцю да 17 (Рацібаравіцы), 19 пахаванняў (Торчын). Пахавальны абрад — трупапалажэнне выпрастана на спіне альбо скурчана на баку ў яме, у т.л. з каменнымі абкладкамі сцен і выбрукоўкай дна. На Валыні даследаваліся курганныя пахаванні. Адзначаюцца пахаванні з ампутаванымі ступакамі, абпаленым чэрапам (Торцін). Пахавальны інвентар складаўся з керамікі, крамянёвых і каменных вырабаў, упрыгажэнняў з медзі, бронзы, ракавін, іклоў дзікоў, фаянсавых пацерак. У арэале С.к. вядомы скарбы з віслаабушных бронзавых сякер, падвесак, бранзалетаў, скроневых кольцаў (Стубла), бронзавых бранзалетаў (Ліпа), крамянёвых сярпоў (Страклова), фаянсавых пацерак (Гарадзіска). Керамічны комплекс прадстаўлены амфарамі з шырокім дном, шара- альбо яйкападобным тулавам, цыліндрычнай шыйкай і 2 вушкамі, гаршкамі з выпуклым корпусам, міскамі, кубкамі і чарпакамі. Асн. асаблівасці керамікі: сляды моцнага прыцірання паверхні і частае выкарыстанне шамоту ў якасці дамешку ў цесце, патаўшчэнне венчыкаў, валікападобныя, акруглыя і авальныя выступы на шыйках, багатае шнуравое аздабленне, шырокія донныя часткі і інш. Насельніцтва карысталася меднымі і бронзавымі вырабамі (віслаабушнымі сякерамі, скроневымі кольцамі, шыйнымі грыўнямі, бранзалетамі, пярсцёнкамі і інш.), сыравінай для якіх служылі валынскія і карпата-трансільванскія радовішчы медзі. Сярод упрыгажэнняў з металу — вырабы ў выглядзе вярбовага ліста, якія былі характэрны для эпішнуравога прыкарпацкага культ. кола. Распрацоўваліся радовішчы шэрага і чорнага валынскага крэменю, з якога рабіліся высакаякасныя сярпы, сякеры, кінжалы, наканечнікі коп'яў і інш. (служылі ў якасці аднаго з асн. прадуктаў абмену). Адзначаюцца каменныя (свідраваныя сякеры, зерняцёркі, адбойнікі і інш.), касцяныя (праколкі, іголкі, шпількі, рукаяткі для сярпоў, наканечнікі стрэл, часткі музычных інструментаў, пацеркі, пранізкі, падвескі з іклоў) вырабы, падвескі з ракавін, фаянсавыя пацеркі. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, паляваннем і рыбалоўствам, збіральніцтвам.



Аўтар М.М. Крывальцэвіч

Разглядаюцца 2 асн. версіі паходжання С.к.: ад папярэдняй гарадоцка-здолбіцкай культуры (І.К.Свешнікаў, Я.Махнік); з У ад культур Падняпроўя (сярэднедняпроўскай і катакомбнай; (А.Гардаўскі, Я.Глосік). Адзначаецца прысутнасць перажыткавых элементаў культуры шарападобных амфар, ёсць таксама падабенства паміж помнікамі С.к. і палескімі помнікамі са шнуравой керамікай (Ю.У.Кухарэнка, У.Ф.Ісаенка, М.М.Крывальцэвіч, Г.Ахрыменка і інш.). У кера-

мічным комплексе помнікаў бел. Палесся назіраюцца сходныя з С.к. рысы: тыпалагічнае падабенства посуду, патаўшчэнне венчыкаў, рэльефнае загладжванне паверхні, выкарыстанне шамоту ў цесце і інш. Распаўсюджаны крамянёвыя сярпы, наканечнікі коп'яў, кінжалы, крамянёвыя сякеры, якія, верагодна, паступалі ад насельніцтва С.к. Прасочваюцца некаторыя рысы падабенства паміж С.к. і сярэдднедняпроўскай культурай, вылучаюцца прадметы імпарту, якія пранікалі ў Верхняе і Сярэдняе Падняпроўе ад насельніцтва С.к.

*Літ.:* Свешніков І.К. Історія населення Передкарпаття, Поділля і Волині в кінці III – на початку II тисячоліття до нашої ери. Київ, 1974; Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Памятники бронзового века. Минск, 1976. Вып. 3; Артеменко И.И. Связи племен среднеднепровской культуры // Межплеменные связи эпохи бронзы на территории Украины. Киев, 1987; Археология Прикарпатья, Волыни и Закарпатья (энеолит, бронза и раннее железо). Киев, 1990; Археалогія Беларусі. Т.1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Крывальцэвіч М.М. «Шнуравы гарызонт» на Беларусі: праблемы ідэнтыфікацыі і генэзіса // Od neolityzacji do początkow epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. Poznań, 2001; Охріменко Г., Скляренко Н., Ткач В. Пам'яткі стшижовскої культури на Волині та Волинському Поліссі // Нариси культури давньої Волині. Луцьк, 2006; Głosik J. Kultura strzyżowska // Materiały starożytne. 1968. T. 11; Prahistoria Ziem Polskich. T. III. Wczesna epoka brązu. Wrocław etc., 1978.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**СУ́БАЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі – селішчы і курганны могільнік каля в. Субаўшчына Полацкага р-на Віцебскай вобл.

Курганны могільнік за 2 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Нача побач з сучаснымі могілкамі, у лесе. 8 насыпаў дыям. 7–9 м, выш. 0,6–1 м. Адзін доўгі курган памерамі 40×4×1,1 м. Адкрыў у 1984 Э.М.Зайкоўскі, даследавала 4 курганы ў 1986–87 Л.У.Дучыц. Пахавальны абрад – трупапаленне на грунце і ў яме. У адным выпадку ў цэнтры кургана на мацерыку выяўлена перавернутая пасудзіна. Знойдзены трапецападобнае праслíца, кавалкі вітога бронзавага дроту, бочачкападобная пацерка. Датуецца 7–8 ст. У доўгім кургане, які ў 1988 даследаваў В.І.Шадыра, выяўлена больш за 10 пахаванняў. Пахавальны абрад – трупаспаленне на мацерыку і ў насыпе. Выяўлены рэшткі рытуальных вогнішчаў на мацерыку і ў раўках, якія абкружалі насып. Пахавальныя урны маюць выгляд слабапрафіляваных гліняных гаршкоў выш. 20–35 см з усечаным тулавам, круглаватымі плечукамі, адагнутым ці прамым венчыкам. Першапачаткова нябожчыкаў спальвалі на месцы кургана, а пазней – у рытуальных раўках вакол насыпу. Пахавальны інвентар не захаваўся. Датуецца 6–7 ст. н.э.

Селішча-1 ва ўр. Будзькаўшчына, на невысокай выспе, сярод поля. Выявіў у 1984 і даследаваў 16 м² у 1985 Э.М.Зайкоўскі. Культ. пласт 0,15–0,4 м. Выяўлены фр-т ляпной пасудзіны позняга этапу *днепра-дзвінскай культуры*, рэшткі керамікі перыяду Полацкага княства, фр-т зялёнай паліванай кафлі з арнаментам, крэмень са слядамі апрацоўкі, фр-т нажа (к. 14–15 ст.), фр-ты керамікі 15–16 ст.

Селішча-2 за 3 км на ПнУ ад в. Субаўшчына, на левым беразе р. Зах. Дзвіна. Выявіў і даследаваў 24 м² у 2004 М.В.Клімаў. Пл. помніка да 0,9 га. Культ. пласт 0,4–0,45 м. Знойдзены абутковая падкоўка, фр-т мундштука да люлькі, керамічны посуд, цвікі і фр-т тронкавага нажа. Датуецца 16–18 ст.

*Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі, М.В.Клімаў, В.І.Шадыра.*

**СУДЗІ́НЫ** (Sudini, Soudinoi), тэрмін геаграфічнай этымалогіі, германскага паходжання, літаральна – «тыя, хто жыве на поўдні». К.Пталамей (сяр. 2 ст. н.э.) прывёў першую згадку паняцця «С.», а таксама іх прасторавую лакалізацыю – у сярэднім цячэнні між рэк Хронан (Прэгаль) і Рудон (Нёман), г.зн. на Пд ад паўвострава Самбія (усх. арэал Мазурскага Паазер'я Польшчы). Суадносіцца з прота-*прусамі*, носьбітамі *заходнябалцкай культуры* (осаўская фаза судоўскай культуры).

*С.П.Віцязь.*

**СУДО́ВІЯ**, зямля судаў, арэал бытавання *судоваў*, адна з сярэдневяковых правінцый *яцвягаў*, суб'ект прускай племяннной канфедэрацыі, у складзе «зямель» *прусаў*, заваяваных у 2-й пал. 13 ст. крыжацкім Тэўтонскім ордэнам. Паняцце было ўведзена ў зварот у пач. 14 ст. ордэнскім храністам П. фон Дусбургам, лац. Sudowia, Sudowitarum. Тэрмін атрымаў шырокае прымяненне ў еўрап. справаводстве 15 ст. (лац. terra Sudorum, Suderlandt), пасля падзей «Вялікай» («Прускай») вайны 1409–11 паміж Тэўтонскім ордэнам з аднаго боку і ВКЛ і Каралеўствам Польскім з другога, калі паўстала неабходнасць дэталізацыі геаграфічнага палажэння зямель яцвягаў [уключалі асн. правінцыі – *Яцвягію* (цэнтр, Пд), Палексію (З), Дайнаву (У) і С. (Пн)]. Паняцце каменціравалася храністамі 14–16 ст., гісторыкамі і географамі з к. 16 ст., мовазнаўцамі з 19 ст.

*С.П.Віцязь.*

**СУДО́ВЫ**, судавы, суды, племя *прусаў*, адно з сярэдневяковых адгалінаванняў паўн. *яцвягаў*, жыхароў *Судовіі*. Паняцце было ўведзена ў зварот лацінамоўным храністам Тэўтонскага ордэна П. фон Дусбургам (пач. 14 ст.) як Sudowite, што сугучна, але не адпаведна антычнаму тэрміну *«судзіны»*. Непасрэдная пераемнасць па археал. помніках паміж судзінамі і судовамі не прасочваецца (лакуна 7–11 ст.), адзначаецца толькі агульнасць традыцый культуры зах. *балтаў*. Тэрмін шырока ўжываўся ў еўрап. справаводстве 15 ст. [Sudovienses, Sudovini, Sudowenses (лац.), Sudouwin, Sudouwen, Sudouwitin (ням.)], з 19 ст. зноў уведзены ў навук. ўжытак гісторыкамі і мовазнаўцамі.

*С.П.Віцязь.*

**СУЛЬГАСТО́ЎСКАЯ** Зофія (Sulgostowska; н. 13.6.1944, Варшава), польскі археолаг, д-р габілітаваны. Скончыла Варшаўскі ун-т. З 1973 у Дзярж. археал. музеі ў Варшаве, з 1986 – у Ін-це археалогіі і этналогіі Польскай АН. Даследуе культуры фінальнага палеаліту і мезаліту Польшчы і іх сувязі з адпаведнымі культурамі Беларусі, Літвы і Украіны. Апублікавала і інтэрпрэтавала матэрыялы фінальнага палеаліту і мезаліту з тэр. Беларусі, якія захоўваюцца ў археал. музеях Польшчы.

*Літ.*: Sulgostowska Z. Prehistoria międzyrzecza Wisły, Niemna i Dniestru u schyłku plejstocenu. Warszawa, 1989; Sulgostowska Z. Kontakty społeczności późnopaleolitycznych i mezolitycznych między Odrą, Dzwiną i Górnym Dniestrem. Warszawa, 2005.

*М.М.Чарняўскі.*

**СУЛЯ́ЦІЧЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Суляцічы Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. Мясц. назвы Грудак, Гарэшнік. На пагорку левага берага р. Валоўка паміж вёскамі Суляцічы і Іпась. Захавалася 40 насыпаў дыям. 3–9 м, выш. 0,3–1,5 м. Найб. курганы размешчаны ў цэнтры могільніка. Вакол некаторых ёсць невял. паглыбленні. Выявіла і даследавала 3 курганы ў 1956 Ф.Д.Гурэвіч (на той час існавала 80 насыпаў). У 2 курганах пахаванні па абраду трупаспалення на месцы, адзін без пахавання. У 1971 К.В.Паўлава даследавала 20 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. У 5 курганах было па 2 пахаванні. 17 нябожчыкаў ляжалі ў падкурганных ямах глыб. 0,3–0,9 м, 8 – у аснове насыпаў. Палажэнне нябожчыкаў выпрастанае, на спіне, галавой пераважна на З, рукі выцягнуты ўздоўж тулава або складзены на жываце. Сляды дамавін не выяўлены. Пахавальны інвентар нешматлікі і аднастайны: фр-ты гліняных гаршкоў, сярэбраныя і алавяныя скроневыя кольцы (паўтараабаротныя), бронзавыя пярсцёнкі (драцяныя і рубчастыя), бронзавыя званочкі. Могільнік датуецца к. 11–13 ст., належаў дрыгавіцкаму, магчыма, мяшанаму дрыгавіцка-валынскаму насельніцтву.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М., Ленинград, 1962; Павлова К.В. Могильники у деревень Мольничи и Сулятичи // КСИА. 1974. Вып. 139.

*Я.Г.Звяруга.*

**СУПРУ́Н** Васіль Рыгоравіч (10.3.1926, в. Глоўсевічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. – 1.5.2007), беларускі краязнавец, паэт. Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1969). З 1944 настаўнік, дырэктар вясковых школ Слонімскага р-на. У 1947–56 рэпрэсіраваны, адбываў тэрмін у канцлагерах Інты і Варкуты, пасля апраўдання з 1957 працаваў будаўніком. У 1968–69 супрацоўнік Брэсцкага абл. краязнаўчага музея. У 1963–70 даследаваў археал. помнікі ў басейнах рэк Шчара, Зальвянка, Ясельда, Мухавец, Гарынь. Выявіў, сабраў пад'ёмны матэрыял і апісаў каля 200 стараж. стаянак, паселішчаў, гарадзішчаў, курганных і бескурганных могільнікаў у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Разглядаў этнічныя пытанні і праблемы гісторыі архітэктуры сярэдневяковай Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў, літаратурных і гіст. прац.

*Тв.*: Памятники каменного века и эпохи бронзы в бассейне среднего течения р. Щары // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Поселение Русаково-II (по материалам раскопок 1966 года) // Вопросы истории. Минск, 1969; Гарадзішчы каля Слоніма // ПГКБ. 1976. № 4; З археалогіі Слонімшчыны // Там жа. 1985. № 1; Загадкі Слонімскіх замкаў // Там жа. 1986. № 2; Штрыхаваная кераміка // Там жа. 1989. № 2; Дзеі над Шчарай (з гісторыі зямлі Слонімскай). Слонім, 2000.

*В.С.Вяргей.*

**СУ́РАЖ**, гарадскі пасёлак у Віцебскім р-не, на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Касцля. За 43 км на ПнУ ад г. Віцебск, на аўтадарозе Віцебск–Веліж.

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1563, калі вял. кн. ВКЛ Жыгімонт II загадаў ваяводу С.Збаражанскаму пабудаваць тут замак. У 1569 С. атрымаў герб. З 1590 цэнтр староства. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 у вер. 1656 заняты рас. войскамі, вернуты ВКЛ паводле Андросаўскага перамір'я 1667. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі.

Стараж. п а с е л і ш ч а С. размешчана ў сутоках рэк Сураж з Каспляй і Касплі з Зах. Дзвіной. Пачало засяляцца ў 7–8 ст. з мысавага ўчастка ў сутоках Касплі і Зах. Дзвіны. Пляцоўка мела форму трохвугольніка (60 × 40 × 60 м) і была аддзелена ровам ад астатняга плато. У 1972 абследаваў Г.В.Штыхаў. У 1977 даследаваў (260 м²) М.А.Ткачоў. Культ. пласт 0,1–1,1 м. Знойдзена ляпная кераміка 7–8 ст., рэшткі гаршкоў 11–17 ст., жал. нажы і замкі 14–17 ст., падкоўкі пад абцас 16–17 ст., цвікі, абломкі завесы, жал. гарматнае ядро, гліняныя і шыферныя прасліцы, паліваная і непаліваная кераміка.

З а м а к быў пабудаваны з дрэва і абнесены земляным валам з У і Пн, з боку Касплі абаронены стромкім берагавым абрывам і ракой, акрамя таго меў гародні. Вал і роў мелі шыр. 10–12 м, вал. дасягаў выш. 4 м. У радыусе 150 м ад замка выяўлены культ. пласт 0,2–0,8 м. Знойдзены абломкі паліванага і непаліванага посуду, кафлі 16–18 ст.

*М.А.Ткачоў.*

**СУ́ХАРАВА**, археалагічны помнік – курганныя могільнікі ў мікрараёне Сухарава ў г. Мінск.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 за 0,5 км на Пн ад б. в. Сухарава на высокім пагорку левага берага перасохлага ручая, на тэр. могілак к. 19–20 ст., за 0,15 км на Пд ад дамоў № 39 і 41 па вул. Шаранговіча. Адкрыў у 1925 І.А.Сербаў. Абследавалі у 1979 В.Е.Собаль, у 1994 Л.У.Калядзінскі. 12 курганоў дыям. 4–15 м, выш. 1,15–3 м. Амаль усе насыпы пашкоджаны познімі пахаваннямі. Вакол некаторых курганаў прасочваюцца раўкі. Мясц. назва Шведскія магілы.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 за 0,4 км на ПдУ ад могільніка-1, за 0,6 км на ПнУ ад б. в. Сухарава. 4 насыпы дыям. 12–14 м, выш. 1,5–2 м. У 1995 Л.У.Калядзінскі даследаваў курган дыям. 12,5–13 м, выш. 1,6 м. Выяўлена жаночае пахаванне (узрост 17–20 гадоў) на гарызонце, галавой на З. Знойдзены фр-ты кругавога гаршка з кляймом на днішчы (крыж упісаны ў круг), 2 металічныя спражкі круглай формы, дыям. 22–25 мм. Датуецца 11–12 ст. У 1997 могільнік быў знішчаны.

*Літ.*: К о л е д и н с к и й Л.В. Из ранней истории Сухарево // Мінск і мінчане: дзесяць стагодзяў гісторыі (да 940-годдзя горада): матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. (Мінск, 7–9 верас. 2007 г.). Мінск, 2008.

*Л.У.Калядзінскі.*

**СУХА́Я ГАРА́**, археалагічны помнік – курганна-жальнічны могільнік каля в. Сухая Гара Лагойскага р-на Мінскай вобл. За 1,3 км на У ад вёскі, ва ўр. Чырвоная Лужа. Мясц. назва Шведскія магілы. Налічвае 142 каменныя курганы (выш. 0,3–0,7 м) і жальнічныя магілы (дыям. 3–4 м). Многія насыпы па перыметры абкладзены валу-



*Пахавальны інвентар з курганнага могільніка* ***Сухая Гара****.*

намі. Узгадваецца ў 1924. Абследавалі ў 1930 А.Дз. Каваленя, у 1979 М.І.Лашанкоў. У 1995–98, 2000 і 2002 Л.У.Дучыц даследавала 25 насыпаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах глыб. 0,3–0,8 м, галавой на З, У, ПдЗ. Многія пахавальныя ямы былі запоўнены камянямі, сустракалася вуголле. Пахавальны інвентар: вітыя і гладкія бранзалеты і пярсцёнкі, бразготкі, падвеска-коўшык, ромбашчытковыя і бранзалетападобныя скроневыя кольцы, спражка з бронзы і білону, жал. нажы, шкляныя пацеркі, фр-ты кругавога посуду і кавалкі шарсцянай тканіны. Датуецца 12–13 ст.



*Пахавальны інвентар з курганнага могільніка* ***Сухая Гара****.*

*Літ.*: Курганна-жальнічны могільнік каля в. Сухая Гара (вынікі раскопак 1995–1997 гг.) // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Новыя раскопкі могільніка Сухая Гара ў Лагойскім р-не // Там жа. Мінск, 2004. №19.

*Л.У.Дучыц.*

**СФРАГІ́СТЫКА** (грэч. sphragis пячатка), с і г і л а г р а ф і я (лат. sigillum пячатка), спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае пячаткі, а таксама гісторыю іх узнікнення і існавання. Прадметам вывучэння С. з'яўляюцца матрыцы, зробленыя на розным матэрыяле, а таксама адбіткі як сродак надання дакументу сапраўднасці. Узнікненне С. ў 17 ст. звязана з працай французскіх вучоных, якія збіралі і выдавалі стараж. рукапісы. Пячаткі разглядаліся як частка дыпламатыкі. Росквіт С. як навукі звязаны з правядзеннем археал. раскопак, у выніку якіх было знойдзена 92–93% пячатак у адрыве ад дакументаў, чым была абумоўлена пэўная складанасць вывучэння знаходак. У асн. гэта т.зв. віслыя пячаткі (або булы), зробленыя са свінца, волава (маліўдавулы), сярэбраныя або пасярэбраныя (аргіравулы), залатыя (хрысавулы) з двухбаковымі выявамі святых ці крыжа, надпісамі «дънесловоч», якія належалі князям і епіскапам. Пячаткі знойдзены пад час раскопак Полацка, Мінска, Гомеля, Віцебска, Турава і інш. стараж.-бел. гарадоў. Да пячатак належаць т.зв. драгічынскія пломбы, якія лічацца мытнымі знакамі, што прыкладаліся да звязак тавараў. Бел. пячаткі ў розныя гады вывучаліся А.Б.Лакіёрам, К.Э.Напіерскім, М.Гумоўскім, М.П.Ліхачовым, В.Л.Яніным, Г.Л.Харашкевічам, М.Белямуком, А.К.Цітовым.

*Літ.*: Цітоў А.К. Пячаткі старажытнай Беларусі. Мінск, 1993; Харашкевіч Г.Л. Полацкія пячаткі XV ст. // ПГКБ. 1974. № 1; Янин В.Л. Актовые печати Древней Руси X–XV вв. Т. 1–2. М., 1970; Янин В.Л., Гайдуков П.Г. Актовые печати Древней Руси X–XV вв. Т. 3: Печати, зарегистрированные в 1970–1996 гг. М., 1998; Сфрагистика и история культуры. Санкт-Петербург, 2004. *І.Л.Калечыц.*

**СЦЯПА́НАВІЧЫ**, археалагічны помнік – гарадзішча днепра-дзвінскай культуры каля в. Сцяпанавічы Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. За 3 км на З ад вёскі, ва ўр. Загорцы, на гары выш. 10–18 см. Пляцоўка амаль круглая, дыям. каля 44 м. Даследавалі ў 1933–34 А.М.Ляўданскі і К.М.Палікарповіч, у 1950 Л.В.Аляксееў, у 1966 К.П.Шут, у 1972 абследаваў Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,5–1,5 м. Пры раскопках знойдзены тэкстыльная, гладкасценная, штрыхаваная кераміка, гліняныя прасліцы, вырабы з косці (наканечнікі стрэл, праколкі, шылы), бронзавыя ўпрыгажэнні, жал. шлакі, нажы, зерняцёркі, абгарэлае зерне пшаніцы, жал. падковападобная фібула і фр-т кіепадобнай шпількі, косткі свойскіх і дзікіх жывёл. Гарадзішча датуецца 6–4 ст. да н.э. – 1–2 ст. н.э. У 5–7 ст. выкарыстоўвалася як сховішча.

*Літ.*: Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983.

*Г.В.Штыхаў.*

**СЦЯПА́НАЎКА**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Сцяпанаўка Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. За 1,5 км на У ад вёскі, 70 насыпаў (у 2 месцах). У 1890 даследаваў У.З.Завітневіч (22 курганы). У 3 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення на гарызонце і ў насыпе, у адным – трупапалажэнне ў яме (глыб. 0,35 м), у астатніх – трупапалажэнне на гарызонце. Нябожчыкі ляжаць галавой на З. Знойдзены шкляныя і сярэбраныя пацеркі, паясныя кольцы, нож, бразготкі, гаршкі, у некаторых пахаваннях – рэшткі дамавін.

*Літ.*: Завитневич В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1892.

*Г.В.Штыхаў.*

**СЫМАНО́ВІЧ** Эраст Аляксеевіч (18.3.1919, Санкт-Пецярбург – 19.8.1983), рускі археолаг. Скончыў Ленінградскі ун-т (1942). У 1949–51 навук. супрацоўнік Эрмітажа. З 1952 у Музеі выяўленчага мастацтва імя А.С.Пушкіна, з 1956 у Ін-це археалогіі АН СССР. Асн. кірунак навук. дзейнасці – вывучэнне *чарняхоўскай культуры*. Абгрунтоўваў гіпотэзу аб распаўсюджванні хрысціянства сярод насельніцтва чарняхоўскай супольнасці. Адкрыў у Бел. Падняпроўі *калочынскую культуру*. У 1955–60 даследаваў археал. комплекс гарадзішча і селішча *Калочын* (1793 м²). Адстойваў слав. прыналежнасць носьбітаў адкрытай ім культуры, разглядаў пытанне ўзаемасувязі яе насельніцтва з балцкімі плямёнамі, а таксама з носьбітамі чарняхоўскай і кіеўскай культур. Матэрыялы раскопак калочынскага комплексу сталі эталоннымі для шэрага помнікаў Беларусі і сумежных абласцей Украіны і Расіі. С. (разам з Н.М.Краўчанка) належыць абагульняючая праца «Пахавальныя абрады плямён чарняхоўскай культуры» (1983) у Зборы археал. крыніц (вып. Д1–22).

*Тв.*: Городище Колочин 1 на Гомельщине // Славяне накануне образования Киевской Руси. М., 1963 (МИА. № 108); Опыт сопоставления керамики Белоруссии и балтийских племен в 1 тысячелетии н.э. // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Раннесредневековые памятники БССР (типа Колочин) в связи с новыми раскопками в Курской области // Этногенез белорусов: тез. докл. науч. конф. Минск, 1973; Раннесредневековая культура лесной полосы Поднепровья (типа Колочин–Акатово) и ее место в славянском этногенезе // Slavia Antiqua. 1975. Т. 22; Черняховская культура и памятники киевского и колочинского типов // СА. 1983. № 1. *М.І.Лашанкоў.*

**СЫ́НКАВІЦКАЯ МІХА́ЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА́**. Пабудавана ў пач. 16 ст. з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі на паўн.-зах. ускраіне в. Сынкавічы Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл. Дакументы пра час яе будаўніцтва не выяўлены. Адносна ўзвядзення помніка існуе шмат паданняў. У краязнаўчай літаратуры 20 ст. памылкова датаваны пач. 15 ст. У 1841 і 1880–81 праведзены рамонты, якія істотна не паўплывалі на аўтэнтычны выгляд царквы. Заменены дах, дабудавана драўляная вежа-глаўка над апсідай, разабраны драўляны купал над цэнтр. часткай храма. У 1891 недалёка ад увахода ў царкву пабудавана звaніца. У 1985 А.М.Кушнярэвічам праведзена архіт.-археал. даследаванне ў сувязі з распрацоўкай Ін-там «Белспецпраектрэстаўрацыя» праекта кансервацыі помніка (архітэктар Г.П.Жаровіна). У 1988–90-я г. храм вернуты праваслаўнай царкве.

Уяўляе сабою залавую 4-слупавую 3-апсідную пабудову, у плане – перакошаны прамавугольнік, фланкіраваны па вуглах 4 вежамі, цагляныя вітыя ўсходы якіх вядуць на паддашак, дзе ў завяршэнні сцен маецца абарончы пояс з байніц розных тыпаў. Для зручнага перамяшчэння ўздоўж сцен над скляпеннямі быў пакладзены драўляны насціл. Вежы да ўзроўню гзымса маюць размешчаныя ўразбіўку байніцы рознай формы. Вышэй прасочваюцца 3 ярусы байніц. Да гал. фасада прымыкае прытвор, узведзены не пазней 16 ст. Тарцовыя фасады завяршаюцца франтонамі трохвугольнай формы. Асн. мастацкі акцэнт зроблены на велічным франтоне гал. фасада, аздобленым 11 тыпамі плоскіх атынкаваных ніш розных памераў і канфігурацый. Асн. аб'ём храма накрыты 2-схільным дахам, першапачаткова быў гонтавым. Звонку апсіды ў завяршэнні сцен аб'яднаны пры дапамозе ступенчатых арачных тромпаў у адну і накрыты агульным высокім дахам. Пластыку бакавых фасадаў узбага-

чаюць невял. гранёныя контрфорсы паміж высока размешчанымі стральчатымі арачнымі вокнамі. У інтэр'еры чатыры 8-гранныя слупы падзяляюць прастору на 3 роўнавысокія нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі, у паўд. апсідзе ўжыты сотавыя скляпенні. Сцены атынкаваныя, расчлянёныя прамавугольнымі лапаткамі, аб'яднанымі са слупамі падпружнымі аркамі. Падмуркі царквы выкананы на вапнава-пясчанай рошчыне з вял. і сярэдніх валуноў у 5–7 радоў, якія раздзяляюцца 1–3 радамі цэглы. Прамежкі паміж валунамі таксама запоўнены цэглай. Падэшва падмурка залягае на глыб. 3–3,5 м ад узроўню сучаснай паверхні. У інтэр'еры паўн. часткі храма пад драўлянай падлогай выяўлены пахаванні, змешчаныя ў камеры з цэглы, якія не былі перакрыты скляпеннямі накшталт крыпты. Падмуркі прытвора магутнасцю 1,6 м узведзены з валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне з вял. дамешкам дробных камянёў. Паміж падмуркамі прытвора і асн. аб'ёму царквы адсутнічае перавязка, што сведчыць пра несінхроннасць іх будаўніцтва. Храм з'яўляецца адным з шэдэўраў бел. царкоўнай готыкі.

*Літ.*: Иодковский И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности: тр. комиссии по сохр. древних памятников. М., 1916. Т. 6; Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Менск, 1928; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мінск, 1978; Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. Минск, 1985; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. Мінск, 1993; Лаврецкий Г. Православное зодчество Беларуси. Вып. 2. Минск, 1995; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001; Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы Беларусі. Мінск, 2007. *А.М.Кушнярэвіч.*

**СЫРАКО́МЛЯ** Уладзіслаў (сапр. Кандратовіч Людвік Аляксандравіч; 29.9.1823, б. фальварак Смольгаў, цяпер в. Смольгава Любанскага р-на Мінскай вобл. – 15.9.1862), беларускі і польскі паэт, краязнавец, археолаг. Чл. Віленскай археал. камісіі (1856). Вучыўся ў дамініканскіх школах у Нясвіжы (1833–35), Навагрудку (1836–37). Творчасць цесна звязана з гісторыяй, фальклорам, этнаграфіяй і археалогіяй Беларусі. У работах С. ўзгадваюцца археал. помнікі, найперш тэр. Панямоння: стараж. курганы (капцы) у лесе каля фальварка Залучча, земляное ўмацаванне («шведскі шанец») на Віцкавай гары (Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.), курганы ў Гродне. Вывучаў гісторыю Нясвіжа, засведчыў існаванне валоў стараж. горада. Зрабіў апісанне помнікаў архітэктуры, якія не захаваліся да нашых дзён (кальвінскі збор у Койданаве, бернардзінскі і дамініканскі касцёлы ў Нясвіжы, дамініканскі касцёл у Стоўбцах). Прымаў удзел у стварэнні Віленскага музея старажытнасцей, быў яго супрацоўнікам. Вёў археал. раскопкі курганоў у басейне р. Мерач і інш.

*Тв.*: Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853.

*Літ.*: Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984.

*Г.А.Каханоўскі, В.У.Шаблюк.*

**СЫ́ЧКАВА**, археалагічны помнік – курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Сычкава Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Прыстань, за 0,4 км на Пд ад шашы Мінск–Бабруйск. 18 насыпаў выш. 4,5–1,6 м, дыям. 7,2–1,3 м. Вядомы з 1924, абследаваў у 1978 П.Ф.Лысенка, даследавала 5 насыпаў у 1989 Т.М.Каробушкіна. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (у адным кургане на У). Знойдзены фр-ты ганчарнага посуду, абручы, дужкі і вушкі ад драўлянага вядра, крэсіва з рэшткамі скуранога чахла, доўгі баявы нож, пярсцёнак з 4 перакручаных сярэбраных драцінак і інш. У адным з курганоў рэштак пахавання не знойдзена. Датуецца 11 ст. *Т.М.Каробушкіна.*

**СЯБРО́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – паселішча і бескурганны могільнік каля в. Сябровічы Чачэрскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча *верхнеднепроўскай культуры* за 0,7 км на У ад вёскі, ва ўр. Ліпаў Брод, на пясчаных узвышшах правага берага р. Сож. Памер 120×80 м. Выявіў і даследаваў у 1927 К.М.Палікарповіч, даследаваў у 1965–68 І.І.Арцёменка. На пл. 706 $м^2$ знойдзена больш за 2,5 тыс. фр-таў ляпнога посуду, упрыгожанага грабеньчатымі, ямчатымі, лапчастымі і інш. адбіткамі. Сярод вырабаў з крэменю каля 700 гатовых прылад працы, шмат адходаў вытворчасці. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

Бескурганны могільнік *сярэднеднепроўскай культуры* за 0,7 км на У ад вёскі, на месцы неалітычнага паселішча. Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч, 131 магілу даследаваў у 1965–69 І.І.Арцёменка. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Знойдзены каменныя свідраваныя і крамянёвыя клінападобныя сякеры, наканечнікі стрэл, дроцікаў і коп'яў, нажы, скрэблы, ляпны посуд, бурштынавыя пацеркі, фаянсавая пацерка егіпецкага паходжання і інш. Датуецца 1-й пал. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Працы. Т. 1; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970. *А.Г.Калечыц.*

**СЯДЗІ́БА ФЕАДА́ЛЬНАЯ**, тып археалагічнага помніка, які характарызуецца наяўнасцю комплексу пабудоў і рыс матэрыяльнай культуры, уласцівых укладу жыцця феад. саслоўя.

З'яўленне С.ф. у вясковай мясцовасці звязана з працэсам «рассялення дружыны па сёлах». С.ф. падзяляюцца на ўмацаваныя і неўмацаваныя. Умацаваныя сядзібы змяшчаліся на мысах ці ўзгорках і вылучаліся паводле рэчавага комплексу (зброя, ювелірныя вырабы і інш.). Характэрнай іх асабліва-


*В.В.Сядоў.*

сцю з'яўляецца наяўнасць абарончых умацаванняў, якія складаліся з яроў, валоў і драўляных сцен (*Свіслач, Капланцы, Вішчын* і інш.). Для С.ф. неўмацаванага тыпу найб. характэрна назва «двор», якая прысутнічае ў пісьмовых крыніцах з 11 ст. У адрозненне ад умацаваных С.ф., якія дакладна фіксуюцца на мясцовасці, неўмацаваныя змяшчаліся ў межах селішчаў і ідэнтыфікаваліся па рэчах прэстыжнага характару (замежнай вытворчасці) і выразнай саслоўнай прыналежнасці (рыштунак вершніка і каня, зброя). На пачатковай стадыі свайго існавання, у 11–12 ст., неўмацаваныя сядзібы знаходзіліся сярод жытлаў феад.-залежнага сялянства на тэр. сёлаў і адасаблена не будаваліся. Сляды такіх сядзіб выяўлены на селішчах Рылаўшчына-Дружба, *Чавусы*. З 13 ст. С.ф. неўмацаванага тыпу пачынаюць будавацца асобна ад сёлаў (*Субаўшчына*). У 15–18 ст. неўмацаваныя сядзібы звычайна наз. «дварамі» («дварцамі») і вылучаюцца ў вясковай мясцовасці па канцэнтрацыі на селішчах керамічнага і шкляного посуду замежнай вытворчасці, манет, аконнага шкла, кафлі, зброі і інш. Археал. вывучэнне такіх помнікаў праводзілася на тэр. Верхняга Панямоння (*Мачуліна, Навасёлкі*) і Полацкага Падзвіння (*Лучна*).

*Літ.:* Шаблюк В.У., Клімаў М.В. Неўмацаваныя феадальныя сядзібы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4; Кошман В. Фартыфікацыя гарадзішчаў міжрэчча Бярэзіны і Дняпра ў XI–XIII стст. // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Загорульский Э.М. Вищинский замок XII–XIII вв. Минск, 2004.

*М.В.Клімаў.*

**СЯДЛО́**, прыстасаванне для зручнай пасадкі вершніка альбо для перавозкі грузаў на спіне каня, а таксама для аховы спіны жывёлы ад пашкоджанняў. Са скіфскага часу ўяўлялі сабой дзве набітыя воўнай і валоссем падушкі, якія злучаліся над хрыбтом каня скуранай перамычкай. Такое С. нязначна зніжала ціск масы вершніка на спіну каня. У 1 ст. да н.э. – 1 ст. н.э. з'явіліся жорсткія каркасы, якія складаліся з 2 вузкіх дуг, якія злучаліся паміж сабой некалькімі рэйкамі. У далейшым месца падушак занялі 2 дошкі («лаўкі»), якія размяшчаліся па баках каня. З тарцоў яны змацоўваліся шырокімі дугападобнымі лукамі, якія абапіраліся на спіну каня. Каб не перашкаджаць яго рухам, адлегласць паміж лукамі імкнуліся зрабіць мінімальнай. Такое С. літаральна заціскала вершніка, давала яму трывалую апору і ахоўвала ад удару кап'ём у пах. У 6 ст. ў зоне кантактаў качавых і аселых культур Паўн. Кітая каркас С. быў яшчэ больш удасканалены. Прадольныя дошкі павялічыліся ў даўжыню, а лукі проста ставіліся на іх зверху. Цяжар вершніка раўнамерна размяркоўваўся па С., што памяншала яго ціск на хрыбет каня. Ва Усх. Еўропе С. гэтага тыпу з'явіліся ў 2-й пал. 6–7 ст. і былі прынесены сюды аварамі. У Стараж. Русі выкарыстоўваліся 2 тыпы С.: першага тыпу мелі высокую пярэднюю луку і пакатае сядзенне, другога тыпу, якія пачалі выкарыстоўвацца з 12 ст., мелі высокія лукі і глыбокае сядзенне, што дазваляла прадухіліць выбіванне вершніка з С. пад час таранных ударау кап'ём. Выкарыстанне С. на тэр. Беларусі ў стараж.-рус. час фіксуецца па знаходках касцяных накладак (напр. Гродна) і *страмёнаў*. У 15–17 ст. на бел. землях выкарыстоўваліся 2 тыпы С. – зах. і ўсх. Задачай зах. было максімальнае забеспячэнне рыцару-капійніку трывалай і ўстойлівай пасадкі на кані. Сярод такіх С. крыніцы 16 ст. наз. «бруншвіцкія», альбо «нямецкія» і «влоскія» (італьянскія). Лукі зах. С. маглі акоўвацца бляхай, што стварала дадатковую ахову жывата і нагам рыцара. Акоўкі лукаў зах. С. пач. 16 ст., выкананыя ў максімільянаўскім стылі, знойдзены ў Нясвіжскім замку. Сярод усх. С. узгадваюцца «маскоўскія», «татарскія», «турскія» (турэцкія), «валошскія» і «ярчакі» – С. невял. памераў з нізкімі лукамі і прышпіленай падушкай. Такія С. не забяспечвалі вершніку трывалай пасадкі, аднак не перашкаджалі свабодна паварочвацца ва ўсе бакі, што было важным для конных стральцоў. У 16–17 ст. папулярнасць набываюць сфарміраваныя на базе турэцкіх «гусарскія» С., якія спалучалі ў сабе ўсх. (выкарыстанне «лавак») і зах. (больш высокія лукі) рысы. У 18 ст., па меры знікнення цяжкой кавалерыі, зах. С. «рыцарскага» тыпу выходзяць з баявога ўжытку. Акрамя баявых, у крыніцах фіксуецца выкарыстанне ўючных і турнірных («гоньчых») С.

*Літ.:* Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX–XIII вв. // САИ. 1973. Вып. Е1–36; Амброз А.К. Стремена и седла раннего средневековья как хронологический показатель (IV–VIII вв.) // СА. 1974. № 4; Звяруга Я.Г., Віцязь С.П. Рыштунак вершніка і верхавога каня з раскопак старажытных гарадоў Верхняга Панямоння // МАБ. 2006. Вып. 12; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**СЯДО́Ў** Валянцін Васілевіч (21.11.1924, г. Нагінск Маскоўскай вобл. – 4.10.2004), расійскі археолаг. Д-р гіст. навук (1967), праф. (1986). Чл.-кар. (1997) і правадзейны чл. (2003) Расійскай АН, акадэмік АН Латвіі (1994). Удзельнік Вял. Айчыннай вайны. Скончыў Маскоўскі ун-т (1951). З 1954 у Ін-це археалогіі АН СССР (заг. сектара, з 1983 заг. аддзелаў). Даследаваў археалогію і культуру стараж. Русі, этнагенез славян, этнічную гісторыю балтаў і фіна-уграў. Узначальваў Крывіцкую (1967–70), Ізборскую (1970–89) і Пскоўскую (1981–90) археал. экспедыцыі ін-та. У 1962, 1966, 1968 правёў разведкі і раскопкі курганоў у бел. Панямонні. Лічыў, што плямёны тушамлінскай і банцараўскай культур належалі да балцкай моўнай групы, але з 6 ст. на тэр. дняпроўскіх балтаў усё больш фіксуюцца слав. культ. элементы, якія сведчаць пра пачатак інфільтрацыі славян у балцкае асяроддзе.

Абгрунтаваў канцэпцыю засваення лясной паласы Усх.-Еўрап. раўніны славянамі-перасяленцамі з сярэдняй Еўропы ў сяр. 1-га тыс. н.э. Курганныя старажытнасці смаленскіх і полацкіх крывічоў разглядаў як адзінае цэлае і падкрэсліваў, што найважнейшыя культ. этнічныя прыкметы смаленска-полацкіх крывічоў у значнай ступені абумоўлены славянізацыяй балтаў, якія жылі тут раней. Меркаваў, што «полочане» не асобная этнагр. група крывічоў, а жыхары Полацкай зямлі, насельніцтва, падуладнае полацкім князям. У тэр. рассялення яцвягаў, акрамя Падляшша ў Польшчы, уключаў Берасцейскую зямлю і частку Верхняга Панямоння ў Беларусі. Прыйшоў да высновы, што ў полацкіх крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў былі распаўсюджаны доўгагаловы сярэднятвары антрапалагічны тып, які мае падабенства з некаторымі латгальскімі групамі насельніцтва. Стварыў тэорыю субстратнага паходжання беларусаў, паводле якой у выніку славянізацыі балцкага насельніцтва і змяшання з ім славян адбылося аддзяленне часткі ўсх.-слав. народнасці, што прывяло да станаўлення бел. мовы і народнасці. Вынікамі ўздзеяння балцкага субстрату тлумачыў вытокі асаблівасцей бел. лінгва-этнічнай супольнасці, якая, на яго думку, афармілася ў 8–12 ст., да пач. адасаблення беларусаў. Дзярж. прэмія СССР 1984, Дзярж. прэмія Рас. Федэрацыі 1998.

*Тв.:* Сельские поселения центральных районов Смоленской земли (VIII–XV вв.). М., 1960; К происхождению белорусов // Сов. этнография. 1967. № 2; Еще раз о происхождении белорусов // Там жа. 1969. № 1; Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970; О местоположении летописных городов Верересска и Остреи // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Длинные курганы кривичей. М., 1974; Происхождение и ранняя история славян. М., 1979; Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982; Древнерусская народность: историко-археол. исслед. М., 1999; Славяне: историко-археол. исслед. М., 2002; Изборск в раннем Средневековье. М., 2007. *Г.В.Штыхаў.*

**СЯКЕ́РА**, рубячая прылада, якая складаецца з тапарышча і рабочай часткі – уласна С. (утулкавай, чаранковай ці правушной), якая магла выраблянна з каменю, рога, бронзы ці жалеза. Лязо С. размяшчалася перпендыкулярна восі тапарышча. Выкарыстоўвалася для апрацоўкі дрэва і некаторых інш. матэрыялаў, а таксама ў якасці зброі. На тэр. Беларусі самыя раннія крамянёвыя прылады для сячэння вядомы ў познім палеаліце (*Бердыжская стаянка*). У каменным веку С. рабілі з крэменю, косці і рога, у познім неаліце пачалі ўжываць каменныя С. Маглі ўстаўляцца ў рагавую, касцяную ці драўляную муфту, з дапамогай якой прымацоўваліся да тапарышча. У познім неаліце і пач. бронзавага веку насельніцтва Беларусі пачало карыстацца шліфаванымі, паліраванымі крамянёвымі, свідраванымі каменнымі С., каменнымі С.-клінамі. Сустракаюцца вотыўныя (ахвярныя) сякеркі з гліны. Вельмі часта каменныя і крамянёвыя С. ўваходзілі ў склад мужчынскага пахавальнага інвентару. У пачатковы і ранні перыяды эпохі бронзы пачалі ўжывацца С. з медзі і бронзы. На тэр. Беларусі самыя раннія металічныя С. (віслаабушныя, утулкавыя, плоскія) знойдзены на помніках *сярэднедняпроўскай культуры*, якія адносяцца да к. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э. На працягу эпохі бронзы (2-е – пач. 1-га тыс. да н.э.) насельніцтва Беларусі ўжывала С. з каменю, рога і бронзы. Сярод выпадковых знаходак адзначаюцца бронзавыя С. з закраінамі (з пяткамі і без іх), з крылцамі, *кельты*. Найб. верагодна, яны з'яўляліся рэчамі прэстыжнага характару і зброяй. У раннім жал. веку працягвалі выкарыстоўвацца каменныя свідраваныя С. і С.-кліны. Першыя жал. С. (кельты з квадратнай утулкай і правушныя вузкалязовыя С. з абухом трохвугольнай формы) з'яўляюцца на тэр. Беларусі ў сяр. 1-га тыс. да н.э. З пач. 1-га тыс. н.э. распаўсюджваюцца жал. вузкалязовыя С. з авальнай правушынай, розныя тыпы якіх існавалі на працягу ўсяго тысячагоддзя. У сяр. 1-га тыс. на




*Сякеры: 1 – крамянёвая шліфаваная сярэднедняпроўскай культуры неаліту, Камарын-2 Рагачоўскага р-на; 2 – каменная свідраваная пачатковага перыяду эпохі бронзы, в. Прудзішча Рэчыцкага р-на (выпадковая знаходка); 3 – каменная сякера-клін позняга неаліту, Камень-8 Пінскага р-на; 4 – металічная плоская эпохі бронзы, в. Калічонкі Быхаўскага р-на (выпадковая знаходка); 5 – бронзавая з крылцамі бронзавага веку, г. Пінск (выпадковая знаходка).*

*Жалезныя сякеры 10–13 ст.: 1 – курганны могільнік Ізбішча; 2–3 – Мінскае Замчышча; 4 – курганны могільнік Кастыкі.*



тэр. Беларусі з'яўляюцца першыя спецыялізаваныя баявыя С. (з парнымі шчакавіцамі і арнаментам). У 10–13 ст. найб. папулярнай формай С. ў Беларусі былі розныя мадыфікацыі поліфункцыянальных шыроказалязовых барадападобных С. Акрамя таго, прыкметнае распаўсюджанне ў 10–11 ст. набылі баявыя вузказалязовыя С. з прафіляваным абухом і *чаканы*. Астатнія тыпы С. 10–13 ст. вядомы па адзінкавых экзэмплярах. У познім сярэдневякоўі дамінуюць С. са сплошчанай тыльнай часткай абуха і правушынай, найчасцей блізкай у плане да трох- ці пяцівугольніка. У гэты час С. ў значнай ступені губляюць функцыю зброі і прымяняюцца пераважна як прылады працы. У якасці спецыялізаваных баявых С. у познім сярэдневякоўі працягвалі выкарыстоўвацца чаканы.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX–XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1–36; Артеменко И.И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967; Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Минск, 1976; Казакявичюс В. Боевые топоры на территории Литвы и Белоруссии в I тысячелетии н.э. // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Ласкавый Г.В. К истории оружия Белорусского Подвинья в VI–XIII вв. Статья первая // Полоцкий летописец. 1993. № 1; Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мінск, 2001; Цыркунова В.А. Металічныя прылады сякучага дзеяння на Беларусі. Ранні і сярэдні бронзавы век // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Крывальцэвіч М. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. № 22; Плавінскі М. Сякеры другой паловы XI–XIII стст. з раскопак Мінскага Замчышча // ААА. 2007. № 2; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008; Лебедзь В.А. Сякеры з закраінамі на тэрыторыі Беларусі // МАБ. 2010. Вып. 18.

*М.М.Крывальцэвіч, М.А.Плавінскі.*

**СЯКЕ́РКІ-АМУЛЕ́ТЫ** (сякеркі мініяцюрныя), адна з разнавіднасцей падвесак. Уяўляюць сабой мініяцюрныя копіі баявых сякер, якія адліваліся найчасцей з бронзы і нярэдка ўпрыгожваліся арнаментам. Сустракаюцца на тэр. б. Кіеўскай Русі, у т.л. ў Беларусі (Мінск, Гальшаны, Некасецк, Чэрцы і інш.), а таксама ў Латвіі, Літве, скандынаўскіх краінах, Польшчы, Венгрыі. Датуюцца 10–12 ст. Даследчыкі лічаць такія амулеты звязанымі з культам Перуна, адзначаюць іх папулярнасць у асяроддзі воінаў-дружыннікаў. У курганах звычайна змяшчаліся збоку ці ў нагах нябожчыка. У 11–12 ст. С.-а. сустракаліся і ў жаночых пахаваннях разам з інш. амулетамі, пэўнага месца ў пахаванні не займалі. Акрамя курганных могільнікаў, мініяцюрныя сякеркі сустракаюцца таксама на селішчах і ў сярэдневяковых гарадах. Прынята лічыць, што за межамі Русі С.-а. з'явіліся пад уплывам усх.-слав. дружыннікаў. Паводле меркавання Л.А.Голубевай, вытворчасць такіх падвесак пачалася ў 10 ст. ў Кіеве. У 11 ст. вытворчасць сякеракабярэгаў стала серыйнай, з'явіліся стандартныя формы ў выглядзе шыроказалязовых сякер.

*Літ.*: Макаров Н.А. Древнерусские амулеты-топорики // РА. 1992. № 2; Голубева Л.А. Амулеты // Древняя Русь. Быт и культура. Археология. М., 1997; Panasiewicz W., Wołoszyn M. Staroruskie miniaturowe toporki z Gródka, pow. Hrubieszów // Archeologia Polski. 2002. T. 47.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**СЯЛЕ́Ц**, археалагічныя помнікі – селішча і курганны могільнік каля в. Сялец Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.

Селішча раннефеад. часу на ўсх. ускраіне вёскі, на левабярэжнай тэрасе правага прытока р. Валоўка. У 1956 даследаваўся Прыбалтыйскай археал. экспедыцыяй, у 1983 С. даследаваў В.У.Шаблюк (100 м²). Культ. пласт прасочваецца на адлегласці 500 м уздоўж ракі і на тэр. вёскі. Выяўлена больш за 1000 фр-таў бытавой керамікі, пераважна гаршкоў (найб. раннія 12 ст.), а таксама серп, нажы, падкоўкі, шкляныя пацеркі, грузіла, манета 17 ст. (барацінка).

Курганны могільнік *дрыгавічоў* за 0,8 км на ПнЗ ад в. Сялец, у лесе. 51 насып выш. 0,5–1 м, дыям. 4–6 м, асобныя выш. 2 м, дыям. больш за 10 м, частка пашкоджана. Даследавалі ў 1972 К.В.Паўлава, у 1973 М.А.Ткачоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. Знойдзены жал. нажы, бронзавыя спражкі, зярнёныя і шкляныя пацеркі, пярсцёнкі, гаршкі, рэшткі драўлянага вядзерца. Датуецца 10–11 ст.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962.

*М.А.Ткачоў, В.У.Шаблюк.*

**СЯМЁНАВІЧЫ**, археалагічны помнік – селішча 16–18 ст. ва ўсх. частцы в. Сямёнавічы Уздзенскага р-на Мінскай вобл. Уздоўж тэрасы

правага берага р. Уса. Выявіў і даследаваў у 1986 В.У.Шаблюк. У паўн. частцы селішча на тэр. школы раскапана 492 м². Культ. пласт 0,3–1 м. Выяўлены гасп. ямы, запоўненыя фр-тамі кухоннага посуду (гаршкі, міскі, макотры, збаны), значная колькасць т.зв. абварной керамікі, тэракотавая кафля 17 ст. з раслліннымі і геральдычнымі сюжэтамі, вырабы з гліны (курыльныя люлькі, свісцёлка), шкла (бутэлькі, кварты, стопкі), бронзы, а таксама сякера, нажы, падковы, наканечнік похваў мяча, шкляныя і бурштынавыя пацеркі. Знойдзены манеты 17–18 ст., большую іх частку складаюць рус. «денги» часоў імператрыцы Лізаветы Пятроўны. *В.У.Шаблюк.*

**СЯМУ́РАДЦЫ**, комплекс археалагічных помнікаў – селішчы, бескурганныя могільнікі, курганныя могільнікі каля в. Сямурадцы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. У 1964 абследаваў Л.Д.Побаль.

Селішча-1 за 0,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, ва ўр. Глушэц. Культ. пласт 0,4 м. Знойдзены фр-ты ляпнога і глянцавага посуду *зарубінецкай культуры.*

Селішча-2 за 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Малая Ляхавіца. Памеры 35 × 150 м. Выяўлены разараны могільнік з трупаспаленнем, рэчы мілаградскай, зарубінецкай і петрыкаўскай культур.

Селішча-3 ва ўр. Дуброва і Ніўкі, на тэр. сучаснага могільніка. Памеры 100 × 50 м. Знойдзена грубаляпная і глянцавая кераміка зарубінецкай культуры і ганчарная раннефеад. часу.

Селішча-4 за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, каля дарогі на Тураў, ва ўр. Барочак. Пл. каля 5 га. У 1920-я г. даследавалі А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў. Знойдзены фр-ты грубаляпнога посуду эпохі неаліту, бронзы, жал. веку, ганчарная кераміка раннефеад. часу, кальцыніраваныя косці.

Селішча-5 за 1,5 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, ва ўр. Вял. Ляхавіца, на развораным полі. Пл. 4,5 га. Выяўлены сляды паўзямлянак, пахаванняў з трупаспаленнем, кальцыніраваныя косці. Знойдзены фр-ты керамікі мілаградскай, зарубінецкай і пражскай культур.

Бескурганны могільнік-1 паміж двума старымі рэчышчамі, селішчам і поймай сучаснай р. Сцвіга ва ўр. Дуброва і Ніўкі. У 1964 выявіў і даследаваў Л.Д.Побаль. Ускрыта 472 м². Выяўлена 25 пахаванняў у круглых (9) і падоўжаных (16) ямах. Пахаванне грунтавое з трупаспаленнем. Знойдзены 2 сярэдне- і 2 позналатэнскія фібулы, шкляныя пацеркі, жал. нож, спражка, кольца, праслліца, фр-ты грубаляпнога і глянцаванага посуду.

Бескурганны могільнік-2 на паўн. ускраіне вёскі, на берагах высахлых старыц р. Сцвіга, ва ўр. Дуброўка. Знойдзена кераміка эпохі бронзы.

Курганны могільнік за 0,1–0,15 км на ПнУ ад бескурганнага могільніка-1. 20 насыпаў выш. 0,5–1,5 м, дыям. каля 15 м. У 1964 Л.Д.Побаль даследаваў 2 курганы. Пахавальны абрад – трупаспаленне на гарызонце. У аснове аднаго насыпу выяўлена круглае ў плане кольца ад агнішча, зверху разбіты гаршчок 6–7 ст.

*Літ.:* Побаль Л.Д. Древности Туровщины. Минск, 1969. *Л.Д.Побаль.*

**СЯРГЕ́ЕВА** Зоя Міхайлаўна (н. 11.11.1936, с. Ільінскае Дзмітраўскага р-на Маскоўскай вобл.), археолаг. Канд. гіст. навук (1980). Скончыла Маскоўскі ун-т (1959). У 1959–97 у Ін-це археалогіі Расійскай АН. Абследавала археал. помнікі ў Віцебскай вобл. Даследавала курганы 8–13 ст. у Верхнядзвінскім і Талачынскім р-нах, вывучала этнічны склад і матэрыяльную культуру сельскага насельніцтва паўн. Беларусі к. 1-га – пач. 2-га тыс. н.э. Выявіла элементы пахавальнага абраду і матэрыяльнай культуры ўсх. славян Паўн. Беларусі, аналагічныя старажытнасцям балцкіх плямён, што тлумачыць захаваннем традыцый даслав. насельніцтва, якое жыло тут да 11 – пач. 12 ст., і кантактамі з суседнімі рэгіёнамі. Па знаходках прыбалтыйскіх рэчаў даследавала сувязі крывічоў з суседнімі балцкімі плямёнамі ў дамангольскі час. На яе думку, у 10–11 ст. большае ўздзеянне на зах.-рус. землі было з боку Прыбалтыкі, у больш позні час (11–12 ст.) – з боку суседніх усх.-слав. плямён крывічоў на Прыбалтыку. Даследавала курганы каля Друцка (*Багрынава*). Устанавіла, што тэр. на У ад Друцка ў 11 ст. засялялі крывічы.

*Тв.:* Курганы у дер. Багриново вблизи древнерусского Друцка (БССР) // КСИА. М., 1969. Вып. 120; Раскопки курганов в Восточной Белоруссии (разам з Л.В.Аляксеевым) // Там жа. М., 1973. Вып. 135; Балтские находки в курганах Западной Руси // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: тез. докл. Вильнюс, 1981; Изучение курганов в окрестностях Освейского озера // КСИА. М., 1989. Вып. 195. *Т.М.Каробушкіна.*

**СЯРЖА́НТЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Сяржанты Астравецкага р-на Гродзенскай вобл., на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Лоша (зараз не існуе). У к. 19 ст. тут было больш за 40 насыпаў. У 1892 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 3 курганы дыям. 8,5–10 м, выш. 0,75–1,4 м. Адзін з іх меў каменны вянец па краі насыпу. У 2 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення па-за межамі кургана. Пахавальны інвентар: жал. нож, гліняныя прасліцы (цыліндрычныя з валікамі і біканічнае), фр-т гаршка грубай работы, на якім ляжаў касцяк птушкі. На паверхні аднаго з курганоў знойдзены бронзавыя фр-т бранзалета і пласцінка. У насыпе трэцяга кургана (з вянцом) выяўлены абломкі дзіцячага чэрапа, а на грунце – касцяк дарослага чалавека галавой на З са складзенымі на грудзях рукамі. Пад чэрапам ляжалі крамянёвыя нож і пласцінка. Датуецца 2-й пал. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Вторая археологическая экспедиция в бассейн реки Лоши. Вильна, 1893.

*Я.Г.Зверуга.*

**СЯРЭДНЕВЯКО́ЎЕ**, сярэднявечча, сярэднія вякі, у гістарычнай навуцы перыяд, які следуе за гісторыяй стараж. свету і папярэднічае гісторыі Новага часу; у асн. адпавядае часу зараджэння, развіцця і заняпаду феадалізму ў Зах. Еўропе. У археалогіі – помнікі, якія ўтварыліся ў 7–18 ст. Падзяляецца на ранняе С. (7–13 ст.) і позняе (14–18 ст.). Раннія помнікі С. прадстаўлены неўмацаванымі і ўмацаванымі паселішчамі, могільнікамі. Да неўмацаваных паселішчаў адносяцца вёскі, якія размяшчаліся, як правіла, у сутоках малых рэк з вялікімі на карэнных берагах, зрэдку на ўзвышшах ці ўздоўж яроў, дзе ў старажытнасці працякалі крыніцы ці ручаі. Культ. пласт на помніках 0,2–0,4 м, часам 0,6–0,8 м, вызначаецца па цёмнай афарбоўцы на разараным полі і па наяўнасці абломкаў ганчарных пасудзін у пад'ёмным матэрыяле. Плошча неўмацаваных паселішчаў ад некалькіх соцень квадратных метраў да некалькіх гектараў. У Бел. Панямонні найб. вывучаны ў выніку абследаванняў Ф.Д.Гурэвіч і раскопак Я.Г.Звяругі каля вёсак Гарадзілаўка Навагрудскага, Кавалі Слонімскага, Пескі Мастоўскага, тэр. каля г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-наў, вёсак Сосенка Вілейскага, Засвір і Мікольцы Мядзельскага р-наў і інш., у Верхнім Падняпроўі ў выніку разведак і раскопак Я.Р.Рыера – Эсьмоны Бялыніцкага, Калодзецкая Касцюковіцкага р-наў, тэр. каля г. Чавусы і інш.; А.А.Макушнікава – Нісімкавічы Чачэрскага р-на і інш.; Зах. Палессе даследаваў А.В.Іоў. Да ўмацаваных паселішчаў ранняга С. адносяцца феад. сядзібы-замкі, нярэдка на месцы ранейшых гарадзішчаў. Археалагічна найб. вывучаны ў Верхнім Панямонні Я.Г.Звяругам і Ф.Д.Гурэвіч (Збочна Слонімскага, Індура Гродзенскага, Мсцібава Ваўкавыскага, Гарадок і Свір Мядзельскага, Гальшаны Ашмянскага р-наў і інш.), ПнЗ Беларусі даследавала Л.У.Дучыц (Маскавічы Браслаўскага р-на), на ПдУ Беларусі праводзіў раскопкі Э.М.Загарульскі (Вішчын Рагачоўскага р-на) і інш.

Да ўмацаваных паселішчаў адносяцца і гарады. Паводле пісьмовых крыніц, у 10–13 ст. на тэр. Беларусі існавала 35 гарадоў, большая частка з іх даследавана. Археал. раскопкам Гродна, Ваўкавыска, Віцебска, Полацка, Навагрудка, Мінска, Брэста прысвечаны асобныя манаграфіі, звесткі пра іншыя гарады ёсць у абагульняючых працах Л.В.Аляксеева, Я.Г.Звяругі, П.Ф.Лысенкі, Г.В.Штыхава і інш. Вывучэнне бел. гарадоў пачалося ў к. 19 ст. раскопкамі А.П.Сапунова ў Віцебску. Археал. вывучэнне сярэдневяковых бел. гарадоў праводзілі Т.С.Бубенька, Э.М.Загарульскі, Ю.А.Заяц, А.К.Краўцэвіч, В.М.Ляўко, А.А.Мяцельскі, С.А.Тарасаў, А.А.Трусаў і інш. Цяпер Беларусь з'яўляецца краінай, дзе найб. распрацавана гар. тэматыка, а некаторыя гар. помнікі археалогіі (напр., Брэст, Тураў) музеефікаваны.

Самай шматлікай катэгорыяй помнікаў ранняга С. з'яўляюцца курганныя могільнікі, вывучэнне якіх у Беларусі пачалося ў 19 ст. (раскопкі Ф.В.Пакроўскага, У.З.Завітневіча, М.Ф.Кусцінскага, М.М.Турбіна, К.П.Тышкевіча і інш.). Найб. інтэнсіўна раскопкі курганоў праводзіліся ў 1920–30-я г. У 2-й пал. 20 ст. вывучэннем курганных могільнікаў займаліся Г.В.Штыхаў, Т.М.Каробушкіна, Л.У.Дучыц, У.У.Багамольнікаў, П.Ф.Лысенка, В.М.Ляўко, А.А.Макушнікаў, А.В.Вайцяховіч, Я.Р.Рыер, А.М.Плавінскі і інш.

Неўмацаваныя паселішчы позняга С. размяшчаліся звычайна на месцы больш ранніх або паблізу ад іх, часам яны трапляюцца на водападзелах вял. і малых рэк. Іх культ. пласт звычайна невыразны (0,3–0,4 м), утрымлівае рэшткі позняга посуду і пячной кафлі. На левабярэжжы Нёмана селішчы позняга С. даследаваў В.У.Шаблюк (Мачуліна Ваўкавыскага, Навасёлкі Мастоўскага, Росцевічы Зэльвенскага, Сялец Навагрудскага р-наў і інш.). Да ўмацаваных паселішчаў 14–18 ст. адносяцца замкі. Археалагічна найб. даследаваны Мірскі, Лідскі, Крэўскі замкі і інш., што знайшло адлюстраванне ў манаграфіях М.А.Ткачова і А.А.Трусава. Пахавальныя помнікі – т.зв. ўсх.-літ. курганныя могільнікі (каля вёсак Вайшкуны і Лынтупы Пастаўскага, Гарадок Маладзечанскага, Засвір Мядзельскага, Косаўшчына Лідскага, Сідарышкі Астравецкага р-наў і інш.) даследаваў Я.Г.Звяруга, абкладзеныя камянямі грунтавыя пахаванні 10–17 ст. – каменныя могільнікі (Куклі Воранаўскага, Клепачы Слонімскага, Вензаўшчына Шчучынскага р-наў і інш.) – А.В.Квяткоўская.

*Літ.*: Белорусская археология: достижения археологов за годы Сов. власти. Минск, 1987; Обломский А.М., Гавритухин И.О. Гапоновский клад и его культурно-исторический контекст. Вып. 3. М., 1996.

*Л.У.Калядзінскі.*

**СЯРЭДНЕДНЯПРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура эпохі бронзы. У 1914 В.А.Гарадцоў вылучыў на тэр. правабярэжжа Сярэдняга Падняпроўя прыдняпроўскую культуру, якую пазней (1927) назваў С.к. Найб. колькасць помнікаў (могільнікі, паселішчы) і асобных знаходак С.к. сканцэнтравана на тэр. Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя. На У і ПнУ помнікі С.к. распаўсюджаны да басейна р. Сейм, вярхоўяў Дзясны, на Пн сустракаюцца ў Смаленскім Падняпроўі. На ПнЗ С.к. лакалізуецца ў міжрэччы ніжняй Бярэзіны і Дняпра, элементы і асобныя знаходкі адзначаюцца ў цэнтр. Беларусі, у Падзвінні, Верхнім Панямонні. На З помнікі з адзнакамі С.к. знойдзены ў басейне сярэдняй і ніжняй

Прыпяці, элементы С.к. сустракаюцца ў Зах. Палессі. Асобныя матэрыялы С.к. фіксуюцца ва ўсх. і зах. Валыні, у вярхоўях Зах. Буга, Віслы і Днястра. На Сярэднім Падняпроўі помнікі С.к. межавалі з катакомбнай культурай.

Насельніцтва С.к. здзяйсняла пахаванні ў курганных і грунтавых могільніках па абраду трупапалажэння і трупаспалення. Курганныя (*Ходасавічы* і інш.) і грунтавыя могільнікі (*Страліца*, *Сябровічы*, *Прорва* і інш.) размяшчаліся на тэрасах і ў поймах рэк. Пахавальны абрад у курганных могільніках – трупапалажэнне ў скурчаным стане на баку, у асобных выпадках выпрастана на спіне, у яме, часам на гарызонце, пераважае арыентацыя па лініях Пн–ПдЗ і З–У. Адзначаюцца падкурганныя пахаванні з трупаспаленнямі. На дно ям маглі змяшчацца попельна-вугальныя рэшткі, вохра, падсцілка з дрэва, бяросты, чароту. Яма часта перакрывалася драўлянымі плахамі, над ёй маглі ўзводзіцца слупавыя збудаванні, побач альбо на засыпцы паліліся вогнішчы, прыносіліся рэчавыя і жывёльныя ахвяры. У грунтавых могільніках колькасць пахаванняў магла дасягаць 94 (Страліца), 132 (Сябровічы). Пахавальны абрад – трупапалажэнне скурчана на баку, у асобных выпадках выпрастана на спіне і трупаспаленне ў ямах, перакрытых плахамі. Над некаторымі ямамі ўзводзіліся слупавыя збудаванні; асобныя групы пахаванняў абводзіліся кругавымі раўкамі, у якіх знойдзены сляды ўкапаных слупоў. У склад пахавальнага інвентару ўваходзілі: крамянёвыя вырабы (наканечнікі стрэл, коп'яў, дроцікаў, сякеры, нажы, скрабкі і інш.) і іх нарыхтоўкі, каменныя (свідраваныя сякеры, шліфавальныя пліткі, булава і інш.) і металічныя рэчы (сякеры, наканечнікі коп'яў, шылы, нажы, пояс з трубчастых пранізак, упрыгажэнні), вырабы з косці, керамічны посуд (гаршкі, амфары, кубкі, міскі, вазы і інш.). Адзначаюцца бурштынавыя падвескі, фаянсавая шматсегментная і шкляная пацеркі. Сярод керамікі пераважаюць гаршкі з высокай альбо кароткай вылучанай шыйкай, акруглым тулавам і дном, гаршкі з плоскім дном. Найб. распаўсюджанае і адметнае аздабленне – т.зв. пракрэслены, радзей шнуравы «паркетны арнамент» (пасы заштрыхаваных трохвугольнікаў са злучанымі бакамі).

Паселішчы С.к. размяшчаліся на поймавых узвышшах, па краі тэрас, на карэнных берагах рэк. На тэр. Верхняга Падняпроўя, Прыпяцкага Палесся знойдзены рэшткі наземных слупавых жытлаў з адной альбо некалькімі ямамі-агнішчамі, у т.л. складзеных з камянёў (Завалле, Ксяндзова Гара, Азярное 1), таксама заглыбленыя да 0,6 м будынкі з ямамі-агнішчамі па цэнтры альбо каля сцяны (Струмень-6). На паселішчы Іскаўшчына (Сярэдняе Падняпроўе) выяўлены рэшткі 4 наземных ці крыху паглыбленых у зямлю жытлаў прамавугольнай



*Да арт. **Сярэднедняпроўская культура**. Пахавальны інвентар (I) і яго размяшчэнне (II) у пахаванні 1 кургана 1 Ходасавічаў-Мошкі (паводле матэрыялаў І.І.Арцёменкі). 1–27, 33, 37–40 – крэмень; 28 – бурштын; 29–33 – медзь; 35, 36, 41 – камень.*

формы, з глінабітнымі сценамі, некаторыя з 2 памяшканнямі. На паселішчах знойдзены крамянёвыя і каменныя вырабы, кухонная і сталовая кераміка. Кухонны посуд (вял. пласкадонныя гаршкі з прамой адхіленай вонкі шыйкай, з патаўшчэннем-каўнерыкам, S-падобнай і біканічнай формы) сустракаецца толькі на паселішчах, сталовы (невял. гаршкі, посуд слоікавай і S-падобнай формы, амфары, кубкі, чашы і інш.) – на паселішчах і ў пахаваннях. Кераміка аздаблялася шнуравымі адбіткамі, лінейнымі штампамі, пракрэсленымі лініямі, вусеневымі, зубчастымі арнаментамі, наколамі і інш.

Аснову гасп. дзейнасці насельніцтва С.к. складала жывёлагадоўля (буйная і дробная рагатая жывёла, свінні, коні). У земляробстве выкарыстоўваліся лёгкія і даступныя для апрацоўкі

алювіяльныя глебы, ачышчаныя ад лясной расліннасці ўчасткі з дзярнінна-падзолістай глебай на ўскрайках рачных тэрас.

Дыскусійнай застаецца праблема металаапрацоўкі. Носьбіты С.к. карысталіся не толькі прывазнымі, але і сваімі металічнымі вырабамі. У якасці апошніх разглядаюцца металічныя прылады, якія не мелі аналогій сярод сінхронных культур, альбо атрымліваліся ў выніку пераплаўкі металу рознага паходжання (І.І.Арцёменка, В.І.Клочка). Прывазныя вырабы паступалі ад супольнасцей катакомбных культур (з медна-мыш'яковістых сплаваў) і з карпата-балканскага рэгіёна (з медных і медна-алавяністых сплаваў), верагодна, выкарыстоўваліся медныя радовішчы Сквірскай металагенічнай зоны Украінскага крышталічнага шчыта (В.І.Клочка). Адзначаецца, што па Дняпры, ніжнім цячэнні Прыпяці, па Сажы ў Верхняе Падняпроўе паступалі металічныя вырабы, з Усх. Прыбалтыкі праз Падзвінне распаўсюджваліся бурштынавыя ўпрыгажэнні, з прыкарпацкага эпішнуравога культ. кола даходзілі фаянсавыя пацеркі і некаторыя металічныя вырабы.

І.І.Арцёменка вылучаў у развіцці С.к. 3 этапы: ранні (26–24 ст. да н.э.), сярэдні (24–18 ст. да н.э.) і позні (18–15 ст. да н.э.). На падставе каліlibраванай храналогіі С.к. датуецца ў межах 2600/2500–1700 да н.э. (М.М.Крывальцэвіч, М.Шмыт, В.І.Клочка, К.П.Буняцян і інш.).

Розныя даследчыкі лічаць, што С.к. ўзнікла на аснове: ямнай культуры і груп позняга Трыполля (С.С.Беразанская); сярэднястогаўскай культуры, позніх этапаў трыпольскай і днепра-данецкай культур (М.М.Бондар) і інш. Паводле І.І.Арцёменкі, першапачатковае фарміраванне С.к. адбывалася на правабярэжжы Сярэдняга Падняпроўя пры ўдзеле ямнай культуры (яе лесастэпавага варыянта), сярэднястогаўскай культуры і груп насельніцтва этапу С1 позняга Трыполля. У складзе С.к. адзначаюцца кампаненты некаторых інш. культур (шарападобных амфар, кола культуры шнуравой керамікі). С.к. знікла з прыходам культуры шматвалікавай керамікі (культ. кола Бабіна) і распаўсюджаннем традыцый тшцінецкага культ. кола.

*Літ.:* Пассек Т.С. К вопросу о среднеднепровской культуре // КСИИМК. 1947. Вып. 16; Артеменко И.И. Среднеднепровская культура // Археология СССР. Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987; Бунятян К.П. Хронологія та періодизація поховань середньодніпровської культури Правобережної України // Археологія, 2008. № 2; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Клочко В.И. Металлургическое производство в энеолите–бронзовом веке // Ремесло эпохи энеолита-бронзы на Украине. Киев, 1994; Кривальцевич Н.Н. К проблеме культурного взаимодействия населения культуры со шнуровой керамикой Верхнего Поднепровья и Восточной Прибалтики // Древности Подвинья: ист. аспект. Санкт-Петербург, 2003; Яго ж. Беларускае Палессе ў перыяд пераходу ад неаліту да эпохі бронзы: праблемы і перспектывы археалагічнага вывучэння // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Ośrodek Ochrony Dziedzictwa Archeologicznego. Predsiębiorstwo Poligraficzne «Deka» sp.z.o.o. Warszawa, 2004; Яго ж. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22; Berezanskaja S.S. Die einheimische Grundlage der Entstehung der Mitteldnepr-Kultur // Acta Archaeologica Carpathica. 1975. T. 15; Klochko V.I. Radiocarbon Chronology of the Early and Middle Bronze Age in the Middle Dnieper Region. The Mironivka Barrows // The Foundations of Radiocarbon Chronology of Cultures Between the Vistula and Dnieper: 3150-1850 BC. Baltic-Pontic Studies. Poznań, 1999. Vol.7; Kryvaltsevich M., Kovalyukh N. Radiocarbon dating of the Middle Dnieper Culture from Belarus // Там жа.

*М.М.Крывальцэвіч.*



**ТА́ЙМАНАВА**, археалагічныя помнікі – стаянка, селішча і бескурганны могільнік каля в. Тайманава Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а позняга мезаліту за 0,2 км на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Дняпро. Пазней на гэтай тэр. размяшчалася паселішча жал. веку і ранняга сярэдневякоўя. Выявіў у 1975 і ў 1975–77 даследаваў 940 м² Л.Д.Побаль. Знойдзены сіметрычныя і асіметрычныя наканечнікі стрэл постсвідэрскай культуры, канцавыя скрабкі, бакавыя і на вуглу зламанай пласціны разцы, праколкі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы. Датуецца 6-м тыс. да н.э.

С е л і ш ч а за 0,2 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Белалічка пры ўпадзенні яе ў старыцу Дняпра. Пл. каля 16 га. Выявіў у 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1967–83 Л.Д.Побаль даследаваў 22 400 м². Культ. пласт 0,2–1 м. Выяўлены рэшткі 52 паўзямлянак са зрубавай і слупавой канструкцыяй сцен (адна сакральная, 15 жылых, 36 гасп.) і наземныя пабудовы. Пл. катлаванаў 8–23 м², пл. зрубаў 7–10 м². Уваход размяшчаўся з паўд. боку. Падлогі былі драўляныя і земляныя, у рэдкіх выпадках гліняныя. Стрэхі пераважна 2-схільныя. Ацяпляльныя збудаванні прадстаўлены печамі-каменкамі, каменнымі ачагамі, вогнішчамі, глінабітнай печчу. Паўзямлянкі, за выключэннем дзвюх, якія адносяцца да 8–9 ст., пабудаваны ў к. 2–5 ст. За межамі пабудоў выяўлены 82 каменныя ачагі, 357 гасп. ям. Прадстаўлены гаршкамі розных памераў, міскамі, патэльнямі, мініяцюрнымі пасудзінамі, сустракаецца посуд з ручкамі. Паводле спосабу апрацоўкі паверхні пераважае неарнаментаваны гладкасценны посуд, частка яго належыць да посуду з расчосамі, падштрыхаванага, глянцаванага. Найб. стараж. знаходкі адносяцца да эпохі бронзы (кераміка, крамянёвыя прылады). Знаходкі ранняга жал. веку датуюцца пач. 8–7 ст. да н.э. (бранзалет са спіральнымі канцамі) і належаць плямёнам мілаградскай культуры. З мілаградскай культурай таксама звязаны посуд, які ўпрыгожаны ямкамі па шыі. Асн. частка знаходак адносіцца да 2–5 ст.: наральнік, серп,



*Фібулы з селішча Тайманава.*

нажы, шылы, праколкі, іголкі, сякеры, малаток, долата, прабойнікі, цвікі, скобы, заклёпкі, восці, кручкі, ключ, крэсівы, кольцы, брытвы, пінцэты, жал. кнотавая трубка, спражкі, акоўкі, рамяні, паясныя наканечнікі, накладкі, бляшкі, хвалепадобны дрот, шпоры, жал. кольцы і кавалкі цуглей, наканечнікі стрэл, дзід, каменныя ядры, праслінцы, грузікі, грузілы, гліняныя фігуркі, бусы, рэчы тэхнічнай керамікі, каменныя сякера і брускі, бранзалеты, шпількі, фібулы, скроневыя кольцы, бронзавыя кольцы, прывескі, трубачкі, пранізкі, званочак, бронзавыя і шкляныя бусы, бронзавыя фібулы з рамбічнай ножкай і ножкай падоўжана-трохвугольнай формы, фр-т жал. ўмбона. Да 6–7 ст. адносіцца знаходка шкляной пацеркі з блакітнымі палоскамі. Да апошняй чв. 1-га тыс. н.э. належаць жал. гітарападобная спражка, нож з валютным навершам, бронзавы пярсцёнак-арабеск, жарон з граніту, фр-т жал. наральніка. Некаторыя рэчы трапілі ў культ. пласт паселішча з разбураных стараж.-рус. курганоў (бронзавыя бразготка, гузік, скроневае кольца, перавітае дротам, шкляная пацерка 10 – пач. 11 ст.). Да 13–14 ст. адносяцца знаходкі праразнога крэсіва, зоркападобнай шпоры, падкоў, наканечнік стралы, бронзавы арнаментаваны паясны наканечнік.



*П.П.Талочка.*

Бескурганны могільнік на Пн ад паселішча, 202 грунтавыя пахаванні. У 1960 выяўлены і даследаваны Л.Д.Побалем. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Выяўлены круглыя і падоўжаныя пахавальныя ямы. Косці найчасцей знаходзіліся ў запаўненні ямы, часам былі рассыпаны па дне ямы. Пахаванні змешаныя і урнавыя. Пахавальны інвентар бедны. Датуецца 3–5 ст.

*Літ.:* Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983.

*Н.М.Дубіцкая, Л.Д.Побаль.*

**ТАЛАЧЫ́Н**, цэнтр Талачынскага р-на Віцебскай вобл., на р. Друць. За 124 км на ПдЗ ад Віцебска, чыг. станцыя на лініі Мінск–Орша, на аўтамагістралі Мінск–Масква.

Упершыню ўпамінаецца ў 1433 як горад ВКЛ. Тэр. стараж. Т., верагодна, знаходзілася на месцы вёсак Стары Талачын, Слабада побач з сучасным горадам. Належаў князям Друцкім (з пач. 16 ст. Друцкім-Талачынскім), з к. 16 ст. ўласнасць Сапегаў. Л.І.Сапега заснаваў новае паселішча за Друццю, у 1604 пабудаваў у ім мураваную царкву. З сяр. 17 ст. Т. – гандл. мястэчка Аршанскага пав. Віцебскага ваяводства. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 спалены. У 18 ст. магнаты Сангушкі адкрылі базыльянскі манастыр са школай і шпіталем. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) частка мястэчка (Стары, ці Рускі, Т., да 1793 пагранічны пункт з мытняй), пасля 2-га падзелу (1793) – і зах. частка за р. Друць (Зарэчны, ці Новы, Т.) у складзе Расійскай імперыі.

У 1980 В.М.Ляўко выявіла ў в. Стары Талачын культ. слой 14–17 ст. Паблізу вёскі, каля в. Загароддзе і чыг. ст. Чырвоная Горка, знаходзяцца курганныя могільнікі, што сведчыць аб існаванні тут больш ранняга паселішча ўздоўж Друці. Даследавала ў 1987 В.М.Ляўко пад час пракладкі траншэй газаправода ў цэнтр. частцы горада ўздоўж вул. Леніна і адыходзячых ад яе бакавых вуліц. Зафіксаваны культ. напластаванні ад 0,3–0,4 м да 1,5 м. У раёне сучаснай цэнтр. плошчы выяўлены 3 ярусы драўляных маставых, пад вул. Леніна праходзілі яшчэ 2 ярусы. На скрыжаванні вуліц Леніна і Энгельса і ўздоўж апошняй прасочаны некалькі вянцоў драўляных зрубаў і фр-т пабудовы з буйнапамернай цэглы на вапне. Напрамак вуліц і выяўленыя ўчасткі забудовы сведчаць пра стабільнасць планіроўкі горада з к. 16 ст. За ручаём Шчань (прыток р. Друць) культ. слой адсутнічае, што дазваляе вызначыць межы пашырэння сярэдневяковага паселішча ва ўсх. напрамку. Выяўлены знаходкі к. 16–18 ст., сярод якіх кафля, гліняны і шкляны посуд, падковы, скураныя падэшвы, наборныя абцасы і інш.

*Літ.:* Левко О.Н. Средневековая Орша и ее округа (историко-археологический очерк). Минск, 1993; Друцк старажытны: да 1000-годдзя ўзнікнення горада. Мінск, 2000.

*В.М.Ляўко.*

**ТАЛЕ́РКА** (ням. Taljer ад італьян. togljer дошка для разразання мяса), сталовы ганчарны посуд з шырокім прыўзнятым борцікам і невял. паглыбленнем. Вядомы Т. глыбокія і плыткія, непаліваныя і паліваныя, дымленыя і глянцаваныя. У Гродне знойдзена Т. сяр. 15 ст., выробленая на ручным крузе, па борціку ўпрыгожаная шматраднымі хвалямі. У 16 ст. распаўсюдзіліся паліваныя Т. са складанапрафіляваным краем борціка. Шырокі борцік Т. звычайна ўпрыгожваўся адна- ці шматраднымі хвалямі, ялінкамі ці суцэльнай сеткай ромбаў. Для нанясення арнаменту выкарыстоўвалі шматрадны грабеньчык, радзей палачку ці колца. Ва ўсіх раёнах акрамя борціка рыфленнем арнаментавалі і донца (Магілёў, Мсціслаў). У 17 ст. былі пашыраны размаляваныя Т. (Віцебск, Полацк, Друя, Магілёў, Мсціслаў). Размалёўка рабілася белым ці падфарбаваным ангобам пад паліву ці каляровымі глінамі па белай ангобнай паверхні. Такія Т. былі пераважна дэкаратыўныя, маглі падвешвацца на сцяну (алтуліна для шнура на паддоне выяўлена на Т. з Полацка). У 18 ст. як дэкаратыўныя рабіліся маёлікавыя і фаянсавыя Т.

*Н.І.Здановіч.*

**ТАЛО́ЧКА** Пётр Пятровіч (н. 21.2.1938, в. Прыстромы Кіеўскай вобл., Украіна), украінскі гісторык і археолаг. Акадэмік АН Украіны (1990), д-р гіст. навук (1981). Скончыў Кіеўскі ун-т (1960). З 1961 у Ін-це археалогіі АН Украіны (з 1974 заг. аддзела, з 1987 дырэктар). У 1993–98 віцэ-прэзідэнт НАН Украіны. Адзін з ініцыятараў стварэння Украінскага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры (старшыня з 1989). Гал. рэдактар час. «Археологія». Даследуе паходжанне гарадоў, сацыяльна-эканам, этнічнае і палітычнае развіццё Стараж. Русі. Распрацаваў пытанне ўзнікнення Кіева ў выніку карэнных змен у грамадска-палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцці ўсх. славян 6–7 ст. Лічыць усх.-слав. «градамі» гэтага часу *Хотамель, Калочын* у Беларусі, Тушамлю на Смаленшчыне. Ахарактарызаваў «град» Кія на Старакіеўскай гары як адміністратыўнае, палі-тычнае і культавае сканцэнтраванне палянскага саюзу плямён, якое ў далейшым ператварылася ў гал. палітычны, эканамічны і культ. цэнтр усіх усх. славян. Прывёў новыя даныя для абгрунтавання сацыяльна двухчасткавай структуры Кіева (дзяцінец–пасад) і інш. вял. усх.-слав. гарадоў. Зрабіў уклад у распрацоўку гіст. дэмаграфіі, вызначыў насельніцтва Кіева 12–13 ст. (каля 50 тыс. чал.). У тыпалогіі населеных пунктаў Стараж. Русі вылучае групу прыватнаўласніцкіх гарадоў. Абгрунтаваў думку, што Полацк у пач. 10 ст. вырас у значны палітычны і эканамічны цэнтр гар. тыпу, а Тураў у 11–12 ст. увайшоў у лік буйных рэлігійных цэнтраў краіны. Дэпутат Вярхоўнага Савета Украіны (1998–2006). Дзярж. прэміі Украіны 1983, 2002.

*Тв.*: Історична топографія стародавнього Киева. 2 вид. Київ, 1972; Древний Киев. Киев, 1983; Древняя Русь: очерки соц.-полит. истории. Киев, 1987; Давньоруські літописи і літописці X–XIII ст. Київ, 2005.

*Г.В.Штыхаў.*

**ТАПАГРАФІ́ЧНЫЯ МЕ́ТАДЫ** ў археалогіі, састаўная частка праграмы навук. археал. даследаванняў, накіраваных на стварэнне агульных уяўленняў аб мясцовасці і размешчаных на ёй помніках археалогіі. У палявой археалогіі Т.м. адносяцца да ліку прыкладных. Гал. мэта Т.м. – распрацоўка і стварэнне археал. карты, якая можа стаць асновай геаграфічнай інфармацыйнай сістэмы па археалогіі асобнага рэгіёна (адміністрацыйнай адзінкі, басейна ракі, возера і г.д.) ці краі-ны ў цэлым. Аснову Т.м. складае тапаграфічная здымка – комплекс работ, звязаных з правядзеннем вакамерных і інструментальных вымярэнняў археал. помнікаў, прывязкай іх да сістэмы каардынат і элементаў мясцовасці з улікам сучаснага тэрытарыяльна-адміністрацыйнага дзялення. У выніку тапаграфічнага вывучэння помнікаў археалогіі складаюць планы археал. аб'ектаў і баз даных з кароткімі тапаграфічнымі характарыстыкамі помніка, атрыманых на ім матэрыялаў, гісторыі даследавання і інш.

*Літ.*: Авдусин Д.А. Полевая археология СССР. М., 1980; Методика полевых археологических исследований. М., 1983; Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002.

*А.У.Коласаў.*

**ТАПАНІ́МІЯ** (ад грэч. topos месца + onyma імя, назва), сукупнасць тапонімаў – уласных назваў гарадоў, мястэчак, вёсак, пасёлкаў, рэк, азёр, узгоркаў і урочышчаў якой-небудзь тэрыторыі. Вывучаецца тапанімікай – адным з раздзелаў мовазнаўства. Т. ўключае айканімію (назвы паселішчаў), *гідранімію*, аранімію (назвы форм рэльефу), урбанімію (назвы ўнутрыгар. аб'ектаў), харанімію (назвы пэўных тэр.). Т. з'яўляецца вынікам нар. творчасці і служыць багатай крыніцай інфармацыі пра этнасы, пасля якіх засталіся тапонімы. У ёй вылучаюцца пласты розных часоў і моў, захоўваюцца многія архаічныя і дыялектныя рысы. Вывучэнне Т. дае магчымасць больш поўна ўзнавіць этнічную гісторыю пэўнай тэр., арэал рассялення і шляхі міграцыі насельніцтва, узаемаадносіны моў і этнасаў у старажытнасці. У многіх выпадках вывучэнне Т. дае магчымасць вызначыць этнічную прыналежнасць археал. культур, рэканструяваць этнакультурную гісторыю. Т. Беларусі даследавалі А.А.Качубінскі, А.А.Пагодзін, І.П.Філевіч, Я.Ф.Карскі, М.Фасмер, К.Буга, У.М.Тапароў, А.М.Трубачоў, В.В.Сядоў, А.М.Катонава, Р.А.Агеева, А.П.Ванагас, В.І.Іваноў, А.П.Непакупны, Я.Н.Рапановіч, В.А.Жучкевіч, Я.М.Адамовіч, І.Я.Яшкін, В.П.Лемцюгова, Ф.Д.Клімчук і інш.

Асабліва значэнне для рэканструкцыі стараж. этнічнай гісторыі маюць мікратапанімія і гідранімія, асабліва назвы невял. рэчак, якія найменш паддаюцца зменам. На думку многіх даследчыкаў, у Беларусі прасочваецца некалькі тапанімічных пластоў. На ПнЗ і Пн вылучаецца прыбалтыйска-фінскі пласт. Мяркуецца, да яго адносяцца такія тапонімы, як Малмыгі, Свір і інш. Такія тапонімы маглі застацца ад насельніцтва *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*, якое пранікла на гэтую тэр. ў сярэднім ці познім неаліце. Больш познімі з'яўляюцца старaж.-індаеўрап. гідронімы, якія, паводле В.В.Сядова, былі пакінуты ў к. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э. плямёнамі *шнуравой керамікі культуры.* Балцкі тапанімічны пласт мог скласціся ў раннім жал. веку (1-е тыс. да н.э. – першыя 3 чв. 1-га тыс. н.э.) пад уплывам насельніцтва *штрыхаванай керамікі культуры, днепра-дзвінскай культуры, банцараўскай культуры, тушамлінскай культуры,* магчыма, *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры.* Некаторыя даследчыкі адносяць з'яўленне балцкай тапанімікі да бронзавага веку. Больш за ўсё балцкіх тапонімаў на Пн і ў сярэдняй Беларусі, але яны трапляюцца таксама на Прыпяці і яе правых (паўд.) прытоках. Даследаванні У.М.Тапарова і А.М.Трубачова паказалі, што густая сетка балцкай гідраніміі існуе і ў Бел. Падняпроўі, адкуль пераходзіць у басейн Зах. Дзвіны. Значная колькасць балцкіх тапонімаў ёсць таксама ў Панямонні. Каля 5 ст. да н.э. прабалцкая мова распалася, вылучыліся 3 групы балтаў: будучыя прусы, яцвягі і куршы; продкі літоўцаў і латышоў; дняпроўскія балты, да якіх належала насельніцтва днепра-дзвінскай, верхняокскай і юхнаўскай культур. Каля 6 ст. н.э. славяне, якія рухаліся на ПнУ, аддзялілі дняпроўскіх балтаў ад інш. Пазней дняпроўскія балты паступова асіміляваны славянамі. З гэтага часу на тэр. Беларусі пашыраецца слав. тапаніміка. У першую чаргу да ліку слав. адносяцца айконімы і мікратапонімы. Славянскімі з'яўляюцца і назвы гарадоў, якія ўзніклі ў феад. перыяд.

На ПнЗ Беларусі этнічная мяжа паміж славянамі (пазней беларусамі) і балцкімі народамі адрознівалася ад сучаснай. Працэс беларусізацыі балтаў тут адбываўся да 19 ст. Таму ў Панямонні захавалася шмат балцкіх тапонімаў, у т. л. айконімаў. Сярод іх назвы, якія паўтараюць адпаведныя этнонімы (назвы плямёнаў), напр., назвы вёсак тыпу Літва, Дайнава, Ятвязь, Лотва, Латыгаль, Латыголічы, Відзы і г.д., назвы паселішчаў з канчаткам -ішкі, -енцы, -ененты і інш. На тэр., куды пранікалі ўсх.-слав. плямёны, захаваліся айконімы тыпу Крывічы, Славенск, Палачанка. Познасярэдневяковыя айконімы адлюстроўваюць differentabaковыя кантакты беларусаў з прадстаўнікамі інш. народаў, наяўнасць этнічных «астраўкоў» (Мазурына, Ляхі, Ляхавічы, Чэхаўшчына, Маскалі, Татары, Латышы). Частка айконімаў указвае на кампактнае пражыванне прадстаўнікоў асобных сацыяльна-саслоўных груп (Баяры, Агароднікі, Канюхі). Та-



*С.В.Тарасаў.*



*В.Р.Тарасенка.*

понімы могуць несці карысную інфармацыю для вызначэння накірунку археал. пошукаў.

*Літ.*: Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962; Жучкевич В.А. Топонимика Белоруссии. Минск, 1968; Яго ж. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Минск, 1974; Седов В.В. Происхождение и ранняя история славян. М., 1979; Агеева Р.А. Проблемы межрегионального исследования топонимии балтийского происхождения на восточнославянской территории // Балто-славянские исследования, 1980. М., 1981. *Э.М.Зайкоўскі.*

**ТАРА́САЎ** Сяргей Васілевіч (н. 20.1.1961, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1992). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1982). З 1982 працаваў у ІГ НАН Беларусі, у т.л. з 2001 заг. аддзела. З 2006 у Ін-це парламентарызму і прадпрымальніцтва. З 1986 праводзіў археал. раскопкі ў Полацку і Мінску. Адкрыў стараж. пасад Полацка 9–10 ст., паселішчы-спадарожнікі 11–12 ст. Упершыню правёў буйнамаштабныя даследаванні на Вялікім пасадзе горада, у выніку чаго былі знойдзены абарончыя збудаванні 10 ст. і сядзіба майстра-ювеліра 12–13 ст. Вылучыў асн. этапы развіцця гісторыка-тапаграфічнай структуры Полацка 9–17 ст., заканамернасці фарміравання гар. дэмаграфіі. Праводзіў раскопкі на Верхнім, Ніжнім замках, Запалоцці, Задзвінні і інш. раёнах стараж. Полацка (агульная пл. раскопаў больш за 3 тыс. м²). Даследаваў у 2000–06 стараж. Мінск, у т.л. вуліцы Няміга, Гандлёвая, Верхні горад, Ракаўскае прадмесце. Вывучае праблемы ўзнікнення і развіцця бел. гарадоў 9–18 ст., прыняцця і пашырэння хрысціянства ў Беларусі, спалучэнне і ўзаемаадносіны хрысціянства і язычніцтва, пытанні ўзнікнення і развіцця культавага дойлідства 11–13 ст., пісьменства і эпіграфікі. Аўтар падручніка «Мая Радзіма–Беларусь» для 4-га класа агульнаадукацыйнай школы, навучальных дапаможнікаў для ВНУ. У 1987–99 аўтар і вядучы асобных праграм Бел. тэлебачання: «Крок», «Вецер вандраванняў», «Скарбы беларускай гісторыі», «Кола часу», «Беларускі дом». Аўтар сцэнарыяў гістарычных мастацкіх і дакументальных фільмаў, у т.л. «Званы Сафіі», «Слава Воршы», «Замкі Беларусі», «Беларусь на крыжы вякоў» і інш.

*Тв.*: Чарадзей сёмага веку Траяна. Усяслаў Полацкі. Мінск, 1991; Историко-типографическая структура Полоцка IX–XVII вв. 2 изд. Минск, 2001.

**ТАРА́СЕНКА** Васіль Радзівонавіч (7.11.1899, г. Пётркаў, Польшча – 7.12.1972), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1947), дацэнт (1932). Скончыў Маскоўскі археал. ін-т (1922), Смаленскі ун-т (1926). У 1929–41 навук. супрацоўнік Магілёўскага аддз. Бел. дзярж. музея, выкладчык Магілёўскага педагагічнага ін-та. З 1944 старшы навук. супрацоўнік, у 1960–66 заг. сектара археалогіі ІГ АН БССР, выкладчык БДУ і Мінскага педагагічнага ін-та. Праводзіў разведкі з мэтай выяўлення помнікаў каменнага, жал. вякоў і сярэдневякоўя на Смаленшчыне і Магілёўшчыне. У 1937–38 даследаваў гарадзішча Барсучыная Горка (Палыкавічы) Магілёўскага р-на. Заснавальнік бел. гар. археалогіі. Першым пачаў археал. вывучэнне Мінска. У 1945–51 даследаваў 560 м² Мінскага Замчышча, на якім былі выяўлены рэшткі гар. драўлянай забудовы, вулічныя насцілы, фундамент мураванай царквы. У 1954–56 праводзіў даследаванні ў Ваўкавыску. У 1954 раскапаў 288 м² на Шведскай гары, у 1955–56 – 1348 м² на Замчышчы. У 1961–62 даследаваў 320 м² на Верхнім замку ў Полацку. Адзін з аўтараў «Гісторыі Мінска» (1967), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972).

*Тв.*: Раскопки на городище Барсучья Горка // КСИИМК. 1947. Вып. 15; К истории позднеродового общества на территории Белоруссии // Изв. АН БССР. 1948. № 2; Савецкая археалагічная навука ў Беларусі // Навука ў Беларускай ССР за 40 год. Мінск, 1958; Древний Минск (по письменным источникам и данным археологических раскопок 1945–1951) // МАБ. 1957. Т. 1; Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г. // Там жа. *М.А.Плавінскі.*

**ТАРЫ́ЛАВА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* і *позняй штрыхаванай керамікі культуры* і селішча 4–8 ст. каля в. Укля Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча за 1,5 км на ПнЗ ад в. Укля, на паўн. беразе аднайменнага возера, каля пакінутага хутара Тарылава, на вяршыні ўзгорка-астанца выш. 16 м. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 35 × 40 м. Штучныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Вядома з к. 19 ст. У 1992–94 А.А.Егарэйчанка даследаваў 178 м². Культ. пласт 1,1–3,2 м. Пляцоўка гарадзішча ў выніку 2 рэканструкцый была пашырана за кошт скідання на схілы культ. пласта; самім схілам з паўн., зах. і ўсх. бакоў нададзена большая стромкасць. Для папярэджвання апаўзання грунту з паўн. часткі былі ўкладзены 2 лініі буйных валуноў (0,7–0,9 м у папярочніку). У культ. пласце сустракаліся каменныя выбрукоўкі і асобныя камяні, частка з іх мела сляды абпалу. У ніжняй частцы культ. адкладаў, дзе пераважала днепра-дзвінская кераміка, выяўлена 6 ачагоў; 5 з іх памерамі 1,1–1,35 × 1,25–2,1 м былі глінабітнымі і ўяўлялі сабой гліняныя валікі шыр. да 0,2 м, што ўтваралі падковападобную дугу; яшчэ адзін ачаг – звычайнае кастрышча авальнай формы памерамі 1,2 × 1,6 м. Кераміка гарадзішча падзяляецца на 3 культ.-храналагічныя групы: самая ранняя – ляпная гладкасценная слоікавай і слабапрафіляванай форм (асобныя фр-ты арнаментаваны скразнымі адтулінамі і наразнымі лініямі); рабрыстыя гарш-



*Знаходкі з селішча* ***Тарылава.***

кі позняй штрыхаванай керамікі культуры (часам сустракаецца зашчыпная арнаментацыя); фр-ты ад слоікавых пасудзін з шурпатай і аблітай паверхняй (некаторыя з іх мелі скразныя адтуліны пад краем венчыка), характэрныя для балцкіх плямёнаў сяр. – 3-й чв. 1-га тыс. н.э. Найб. раннія вырабы на гарадзішчы прадстаўлены каменнымі (клінападобныя сякеры, зерняцёркі, цёрачнікі, песты, тачыльныя бруські) і касцянымі (праколкі, іголкі, рукаяці, амулеты з зубоў жывёл і інш.) прадметамі. Жал. рэчы рэдкія – нажы, шылы, крэсівы, фр-т сярпа, шпора з загнутымі канцамі, спражка. Знойдзена трапецападобная падвеска з бронзы. Гліняныя вырабы прадстаўлены праслiцамі, льячкай, абломкамі тыгляў. Датуецца 1-м тыс. да н.э. – 1-м тыс. н.э.

Селішча каля ўсх. падэшвы гарадзішча, у лагчыне памерамі 60×50 м паміж разбураным хутарам, возерам і зарослым ручаём. Выявіў у 1983 і даследаваў 180 м² у 1990 і 1992 В.І.Шадыра. Культ. пласт 0,6–1 м. На селішчы знойдзены: утулкавы наканечнік дроціка, двухзубая восць, касцяны грэбень і выраб з вапняку з выявамі свастыкі, ледаходны шып, амулет з ікла мядзведзя, біканічныя праслiцы, льячкі, вастрыі з косці і рога і інш. Керамічны матэрыял прадстаўлены фр-тамі посуду – гладкасценнага і з аблітай (шурпатай) паверхняй. У верхніх пластах сустракаецца штрыхаваная кераміка. Выяўлена шмат жужалю, а таксама рэшткі печы-домніцы авальнай формы памерамі 1 × 1,2 м. Датуецца 4–8 ст.

*Літ.:* Е г о р е й ч е н к о А.А. Железный век Браславского Поозерья // Браслаўскія чытанні: матэрыялы III навукова-краязн. канф., прысвечанай 200 угодкам паўстання 1794 г. Браслаў, 1994; Я г о ж. Хронология ранних городищ Браславщины // Браслаўскія чытанні. Браслаў, 2001; Я г о ж. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Ш а д ы р а В.І. Беларускае Падзвінне (1 тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006.

*А.А.Егарэйчанка, В.І.Шадыра.*

**ТА́ТУР** Генрык Хрыстафоравіч (1846, Мінск – 1907), беларускі археолаг, гісторык, краязнавец, калекцыянер. Чл. Мінскага статыстычнага к-та, павятовы маршалак дваранства. З 1874 вёў археал. раскопкі ў Мінскай губ., склаў яе археал. карту з апісаннем помнікаў. У 1884–85 заснаваў часовы археал. музей у Беразіно, дзе ў наваколлі вёў раскопкі (Калюжыцы, Крушыны, Курганне, Русалішча і інш.). Толькі за 1890 ён раскапаў 120 курганоў каля вёсак Дулебы і Няюнішчы Ігуменскага пав., у 1892 – 40 курганоў каля в. Станькава, у 1893 – 40 курганоў каля в. Прылукі Мінскага пав. У выніку паездак па Міншчыне Т. падрыхтаваў вял. альбом, прысвечаны археал. помнікам (1893). Стварыў у Мінску багаты прыватны музей па гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі і унікальную бібліятэку, якая ўключала калекцыі рукапіснай і старадрукаванай кнігі (у т.л. «Біблію» Ф.Скарыны), бел. жывапісу. Выказаўся за стварэнне агульнанац. музея ў Мінску. Пасля смерці яго зборы былі прададзены, многія вывезены за мяжу. Аўтар прац «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, ранейшай сталіцы ўдзельнага Турыйскага княства», «Гісторыя Станькава», «Гісторыя Заслаўя», праекта адкрыцця публічнай бібліятэкі ў Мінску і інш. (захаваліся ў рукапісах).

*Тв.:* Археологическое значение Минской губернии // Памятная книжка Минской губернии на 1878 г. Минск, 1878. Ч. 2; Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ее археологическое значение. Минск, 1892.

*Літ.:* Д а ў г я л а З.І. Матэрыялы аб музеі Г.Х.Татура ў Мінску // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мінск, 1929. Кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3; А л е к с е е в Л.В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX – начале XX в. // СА. 1968. № 3; К а ў к а А. Тут мой народ. Мінск, 1989. *Г.А.Каханоўскі.*

**ТАЎКАЧЭ́ВІЧЫ 1**, археалагічны помнік – курганны могільнік 11–12 ст. каля в. Таўкачэвічы 1 Уздзенскага р-на Мінскай вобл. За 3,5 км на ПнУ ад вёскі, 1 км на Пн ад пас. Малінаўка ў лесе каля дарогі Шацк–Рудзенск. Могільнік выцягнуты з З на У. 170 насыпаў выш. 0,5–1,8 м (большасць – не вышэй за 1 м), дыям. 8–12 м, вакол некаторых прасочваюцца раўкі. Выявіў і абследаваў Л.У.Калядзінскі. У 1979 А.М.Плавінскі і В.С.Касмылёў даследавалі 10 насыпаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на попельным слаі на гарызонце (5), на невял. (да 0,2 м) падсыпцы з пяску (3) альбо гліны (2). Пахаванні адзіночныя (6) і парныя (4), галавой на З. У 3 выпадках пахаваны мужчыны з жанчынамі. Два нябожчыкі накрыты плахамі, адзін пахаваны ў труне, зробленай з калоды. Пахавальны інвентар: бронзавыя ланцужок,



*А.З.Таўтавічус.*

2 лірападобныя спражкі, 2 падвескі з S-падобным завітком, 2 паясныя кольцы, жал. нож і зашпілька; пацеркі – цыліндрычная з непразрыстага шкла сургучнага колеру, бочачкападобныя золаташкляныя, рабрыстыя срэбрашкляныя, васьміграннная сердалікавая, металічная буйназярнёная «дрыгавіцкая»; фр-ты кругавога посуду ў 4 пахаваннях. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ва Уздзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі. *А.М.Плавінскі.*

**ТАЎСТЫ́КІ**, археалагічны помнік – паселішча позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку каля в. Таўстыкі Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. За 1,5 км на Пд ад вёскі, на астанцы 1-й надпоймавай тэрасы левага берага р. Бярэзіна, ва ўр. Багданава Гара. Адкрыла ў 1979 Н.М.Дубіцкая, у 1990–91 І.М.Язэпенка даследаваў 200 м². Знойдзены крамянёвыя скрабкі (23), наканечнікі стрэл (5), праколкі, разец, вастрыё, трапецыя, рэтушор і інш.; каля 1200 абломкаў ляпнога посуду эпохі неаліту. Кераміка арнаментавана расчосамі (да 65%), грабеньчатымі адбіткамі (20%), лапчастым штампам (5%) і адступаючымі наколамі (4,5%). Вылучаецца развал пасудзіны, упрыгожанай гарызантальнымі радамі лінейнага штампу, ранняга перыяду бронзавага веку. Рэчавы комплекс адпавядае 2-му этапу развіцця ўсх.-палескага варыянта *днепра-данецкай культуры*. Асн. частка матэрыялу датуецца к. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: Язэпенка І.М. Паселішча Таўстыкі-1 – помнік позняга неаліту ў басейне ніжняй Бярэзіны // Час, помнікі, людзі: тэз. дакл. канф. Мінск, 1993.

*І.М.Язэпенка.*

*М.А.Ткачоў.*

**ТАЎТА́ВІЧУС** Адольф Зянонавіч (9.9.1925, в. Юдрэнай Цяльшайскага пав., Літва – 10.6.2006), літоўскі археолаг. Д-р гіст. навук (1997). Скончыў Вільнюскі ун-т (1950). З 1946 у ІГ АН Літвы. У 1951–62 выкладаў археалогію ў Вільнюскім ун-це. У 1955, 1963–76 і 1978 кіраваў разведачнымі археал. экспедыцыямі, пад час якіх быў сабраны матэрыял амаль аб усіх помніках археалогіі Літвы. Праводзіў раскопкі на тэр. Ніжняга замка ў Вільнюсе (1955–61), Тракайскага замка (1962–64). Даследаваў грунтавыя могільнікі зах. Літвы (Паланга, Бікевенай, Пожэрэ, Уцена і інш.), курганныя могільнікі ўсх. Літвы (Капітонешкес, Рыклікай, Таўрапіліс і інш.). У даследаваннях шырока выкарыстоўваў бел. матэрыялы, у 1960–80 прымаў удзел у падрыхтоўцы бел. археолагаў. Адзін з аўтараў кніг: «Нарыс археалогіі Літвы» (1961), «Гісторыя горада Вільнюса» (т. 1, 1968), «Замкі Літвы» (1971), «Гандлёвыя сувязі Літвы ў I–XIII ст.» (1978), «Этнагенез літоўцаў» (1987), «Сярэдні жалезны век у Літве (V–IX ст.ст.)» (1996), «Гісторыя Літоўскай ССР» (1978, 1985), «Бібліяграфія археалогіі Літвы» (2000).

*В.І.Шадыра.*

**ТКА́ЦТВА**, выраб тканін з дапамогай спец. сродкаў і прыстасаванняў. На Блізкім Усходзе (Сірыя, Месапатамія, Егіпет) вядома з 5-га тыс. да н.э., на тэр. Беларусі – з часоў позняга неаліту і ранняга бронзавага веку. У Панямонні на помніках *шарападобных амфар культуры* сустракаюцца кавалкі гліняных пасудзін з адбіткамі грубавырабленай тканіны. На помніках мілаградскай, днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур (гл. адпаведныя артыкулы) знойдзены невял. гліняныя *грузілы* да ткацкіх станкоў. На ПнУ Віцебскай вобл., дзе характэрны ўплыў *дзякоўскай культуры*, сустракаюцца фр-ты пасудзін з адбіткамі тканіны на днішчах. У 9–10 ст. тканіны выраблялі на вертыкальным ткацкім станку з выкарыстаннем масіўных грузілаў. Грузіла дыскападобнай формы (дыям. 7,65–7,8 см, таўшч. ў сярэдняй частцы 2,9 см, вага 99,65 г) з рога аленя з прасвідраванай пасярэдзіне канічнай адтулінай выяўлена на *Віцебскім Верхнім замку*. У пластах 10 ст. на Віцебскіх Верхнім і Ніжнім замках знойдзена глінянае грузіла (дыям. 11,3 см, вага 550 г), аздобленае ямкавым арнаментам. Аналагі вядомы па раскопках Старой Ладагі і ў Скандынавіі. З пач. 13 ст. на Русі вядомы гарызантальны ткацкі станок – кросны. Найб. калекцыя дэталей кроснаў сабрана ў Ноўгарадзе. У Беларусі дэталі кроснаў 13–15 ст. знойдзены ў Брэсце (бёрды, ніты, цяжы, панажы), Віцебску (панажы, ніты, цяжы і сабачкі), Мінску (панажы і чаўнок), Гродне і Полацку (чаўнакі). У пластах 13 ст. ў Віцебску і Брэсце выяўлены кавалкі тканіны палатнянага (двухнітовага) і саржавага (чатырохнітовага) перапляцення. У 14–17 ст. Т. развівалася і набыло пашырэнне як рамяство. У пластах 16 ст. ў Віцебску знойдзены кавалкі тканіны больш складанага перапляцення. Як хатні промысел ручное Т. існавала да сяр. 20 ст.

*Л.У.Калядзінскі.*

**ТКАЧО́Ў** Міхаіл Аляксандравіч (10.3.1942, г. Мсціслаў – 31.10.1992), беларускі археолаг, гісторык-медыявіст. Д-р гіст. навук (1987), праф. (1989). Скончыў БДУ (1964). Працаваў настаўнікам у Жодзіне. З 1968 у ІГ АН БССР, з 1978 у Гродзенскім ун-це; у 1983–85 заг. кафедры. З 1989 заг. рэдакцыі гісторыі Беларусі, з красавіка 1992 гал. рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі». Вывучаў ваенную гісторыю Беларусі, абарончае дойлідства, матэрыяльную культуру і архітэктуру гарадоў Беларусі 10–18 ст.: Навагрудка, Гродна, Віцебска, Гомеля, Чачэрска, Слаўгарада, Крычава, Мсціслава, Ліды, Крэва, Камянца, Заслаўя, Міра і інш. Адзін з аўтараў кніг «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), «Асвета і педагагічная думка ў Беларусі» (1985), «Гісторыя Беларускага мастацтва» (т. 1–2, 1987–88), «Беларуская кафля» (1989), «Старажытны Мсціслаў», «Вялікае мастацтва артылерыі» (абедзве 1992).

*Тв.*: Вежы валынскага тыпу і іх распаўсюджванне на Беларусі // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Замкі Беларусі (XIII–XVII ст.). Мінск, 1977; Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мінск, 1978; Замки Белоруссии. Минск, 1987; Замкі і людзі. Мінск, 1991; Паходня. Мінск, 1994.

*Літ.*: Трусаў А.А. Ёнадкрыўдлянаскраінузамкаў // Бярозка. 2002. № 4–5. *А.А.Трусаў.*

**ТО́РЦІН**, археалагічныя помнікі – паселішчы мезаліту, неаліту і эпохі бронзы на берагах воз. Торцін у Лельчыцкім р-не Гомельскай вобл. Выявіў у пач. 2000-х г. краязнавец В.А.Чунін.

Паселішча-1 за 2 км на Пд ад в. Ліпляны, на пясчаным узвышшы ўздоўж усх. берага воз. Торцін, памеры 150 × 40 м, выш. каля 2 м. Мясц. жыхарамі знойдзены развалы гаршкоў тшцінецкага культ. кола і неалітычнага перыяду, каменная зерняцёрка і цёрачны камень. М.М.Крывальцэвіч у 2004 абследаваў, у 2005 даследаваў 39 м² на зах. ускраіне і ў цэнтр. частцы помніка. Знойдзены крамянёвыя вырабы мезалітычнага і неалітычнага перыядаў (мікрапласцінкі з рэтушшу па спінцы, вастрыі на мікрапласцінках, скрабкі, высокія трапецыі, нуклеусы, праколка, фр-ты шліфаваных сякер і інш.), больш за 150 абломкаў посуду позняга неаліту, фр-т глінянай жаночай фігуркі, фр-ты керамікі тшцінецкага культ. кола з ружанцовым арнаментам.

Паселішча-2 за 0,1 км на З ад паселішча-1, каля 2 км на Пд ад в. Ліпляны, на пясчаным ўзвышшы (даўж. каля 250 м) на ўсх. беразе воз. Торцін. У 2004 М.М.Крывальцэвіч сабраў невял. колькасць крамянёвых вырабаў і фр-таў керамікі позняга неаліту на паўд. аканечнасці ўзвышша на пл. 30 × 40 м.



*Да арт.* ***Торцін.*** *Ляпны неалітычны гаршчок.*

Паселішча-3 за 0,4–0,5 км на Пн ад паселішча-1, насупраць паўн. аканечнасці воз. Торцін, на пясчаным узвышшы (даўж. каля 750 м, выш. каля 1,5 м), ва ўр. Доўгае. У 2004–05 абследаваў М.М.Крывальцэвіч, закладзены шурфы 4 і 10 м². Знойдзена 95 фр-таў керамікі позняга неаліту, крамянёвыя вырабы мезалітычнага перыяду і позняга неаліту (нуклеусы, скрабок, ножападобныя пласціны, мікрапласцінкі з прытупленай спінкай і інш.). Раней мясц. жыхары знаходзілі на ўзвышшы развалы тшцінецкіх гаршкоў.

*Літ.*: Крывальцэвіч М. Адкрыццё новых помнікаў III–II тысячагоддзяў да н.э. ва Усходнім Палессі // ГАЗ. Мінск, 2007. № 23. *М.М.Крывальцэвіч.*

**ТРА́НСПАРТНЫЯ СРО́ДКІ**, вырабы і прыстасаванні для перамяшчэння людзей або грузаў на адлегласць. Падзяляюцца на водныя (найб. страж.) і сухапутныя. Вядомы з часоў Стараж. Егіпта. Водныя Т.с. на тэр. Беларусі вядомы з неаліту. Выдзеўбаны са ствала дрэва човен знойдзены на Крывінскім тарфяніку (Бешанковіцкі р-н, не захаваўся). Неалітычны човен і вёслы выяўлены на стаянцы Сарнатэ ў Латвіі. Т.с. 12–17 ст. вядомы па раскопках многіх бел. гарадоў. Драўляныя дугападобныя рэбры (шпангоўты), на якіх мацавалася абшыўка корпуса невял. лодак-пласкадонак і чаўноў 13 ст., знойдзены ў Брэсце, Полацку, шпангоўт 15 – пач. 16 ст. (выш. 25 см, адлегласць паміж канцамі дугі 30 см) – на *Віцебскім Верхнім замку.* Лодачныя лавы 13 ст. (дошка памерамі 30 × 40 см з выразамі па баках для шчыльнай падгонкі да шпангоўтаў) знойдзены на Віцебскім Верхнім замку і ў Слуцку. Цэлыя кармавыя вёслы ад суднаў, прызначаных для працяглай транспарціроўкі важкіх грузаў, выяўлены ў Брэсце і Слуцку, фр-ты такіх вёслаў (агульная даўж. 122–172 см, таўшч. 3–5 см, памеры лопасці 20 × 67–28 × 102 см, даўж. ручкі 60–77 см) – у Віцебску. Цэлыя грабныя вёслы 13 – пач. 14 ст. (агульная даўж. 92,5–131 см, памеры лопасці 23,5–50 × 95–14 × 1,2 см) вядомы з раскопак Брэста і Віцебскага Верхняга замка. Фр-ты іх знойдзены ў Гродне і Слуцку.

Сухапутныя Т.с. прадстаўлены знаходкамі дэталей зімовага (саннага) і летняга гужавога транспарту. Часцей сустракаюцца дэталі саней. Яны вядомы па раскопках Брэста, Віцебскага Верхняга замка, Полацка і Слуцка. Капылы (бакавыя стойкі, што злучалі палазы і градку саней) рабілі з сучком-вязам (Віцебск) і без яго (Брэст). Выш. капыла 30–60 см, градкі 11–22 см, кузава 15–42 см. Палазы былі масіўныя (шыр. асновы 8 см, верха 3–5 см) і меншыя (адпаведна 3–4 см, 1,5–2 см), мелі адтуліны для капылоў. Цэлы полаз даўж. 195 см (13 – пач. 14 ст.) знойдзены ў Віцебску. У бел. гарадах 13–14 ст. пераважалі невял. сані універсальнага прызначэння. Знойдзены капылы і палазы ад маленькіх ручных санак. Летні гужавы

транспарт прадстаўлены дэталямі воза. Вось 12 ст. знойдзена ў Мінску, восі 13 ст. даўж. 145–168,6 см – у Брэсце (2), Полацку (1), восі 17 ст. даўж. 158 см – у Мінску (пярэдняя) і Віцебску (задняя). Яны мелі «падушку» для мацавання жэрдкі (трайні), а на канцах паўвосей – адтуліны для чэкаў (загвоздкаў). Вядомы таксама калодкі колаў 13 ст., з Брэста, Віцебска, Слуцка, Мінска, абады колаў 13 ст., з Брэста, Полацка, Мінска, вобад 15 – пач. 16 ст. з Віцебска. У Брэсце знойдзена цэлае кола без жал. вобада (знешні дыям. 86,6 см) з калодкай у выглядзе драўлянага цыліндра (даўж. 41,2 см, дыям. 18,5 см) з каналам пад вось (дыям. 8,7 см) і спіцамі (даўж. 38,7 см, памер сячэння 2,7×4,5 см). Унікальнай знаходкай з'яўляецца драбіна воза 13 ст. з Віцебскага Верхняга замка, зробленая з 2 яловых брусоў, злучаных дубовымі стойкамі, якія ўстаўлены ў скразныя адтуліны (1,5×8 см) асновы драбіны і яе градкі. Даўж. драбіны 214 см, шыр. на канцах 32–40 см, брусы ў вузкай яе частцы завостраны. Конская дуга (выш. 56 см, адлегласць паміж канцамі 61 см) і клешчына (даўж. 48 см) з загнутымі канцамі знойдзены ў Віцебску, а таксама ў Брэсце. За межамі Беларусі найб. поўная калекцыя дэталей Т.с. вядома па раскопках Ноўгарада.

*Літ.*: Колчин Б.А. Новогрудские древности: деревянные изделия. М., 1968 (САИ; Вып. Е1–55); Штыхов Г.В. Древний Полоцк, IX–XIII вв. Минск, 1975; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; Лысенко П.Ф. Берестье. Минск, 1985; Колединский Л.В. Транспортные средства Витебска XII–XVII вв. // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. *Л.У.Калядзінскі.*

**ТРАСАЛАГІ́ЧНЫ МЕ́ТАД**, спосаб вывучэння вытворчых функцый стараж. прылад па слядах іх зношвання. Істотная частка Т.м. – пошук і вызначэнне слядоў мікраскапічных памераў у выглядзе выкрышанасці, драпін, баразён, увагнутасцей, запаліроўкі і інш., якія ўказваюць на кінематыку прылады. Паводле размяшчэння, формы і напрамку гэтых слядоў вызначаецца матэрыял, які падвяргаўся апрацоўцы прыладай, спосаб захопу прылады рукой, характар руху і палажэнне рук у працэсе работы. Вывучэнне па слядах работы дае магчымасць дасканальна распазнаць рабочую частку прылады, даведацца, ці выкарыстоўвалі яе ў адной або дзвюх, трох і больш зусім розных аперацыях, ці адпавядае яе форма і матэрыял функцыянальнаму прызначэнню і інш. Т.м. разам з *эксперыментам археалагічным* дазваляе вылічыць працягласць выкарыстання прылады, вызначыць яе эфектыўнасць, ступень фізічнага намагання і дынамічныя напружанні ў працэсе працы стараж. людзей. Т.м. распрацаваны ў СССР у 1930–50-я г. А.С.Сямёнавым і атрымаў шырокае прызначэнне ў свеце.

*Літ.*: Семенов С.А. Развитие техники в каменном веке. Ленинград, 1968; Я г о ж. Первобытная техника // МИА. 1957. № 54; Технология производства в эпоху палеолита. Ленинград, 1983. *В.Я.Кудрашоў.*

**ТРАСЦЯНІ́ЦА**, археалагічныя помнікі – могільнікі каля в. Трасцяніца Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

Бескурганны могільнік паморска-падклёшавай культуры за 2 км на Пн ад вёскі, справа ад дарогі на в. Ратайчыцы. Большая частка могільніка занята сучаснымі могілкамі. Адкрыў у 1937 К.Салевіч, даследавала ў 1962 В.Б.Караткевіч. Выяўлены 2 пахаванні і 22 ямы, запоўненыя попелам, камянямі і шлакамі. Пахавальны абрад – трупаспаленне. У адным пахаванні на глыб. 0,85 м знойдзена каменная скрынка ў выглядзе няправільнага прамавугольніка памерамі 2 × 0,4–0,95 м. Сценкі зроблены з невял. валуноў у адзін ярус. Унутры скрынкі з зах. боку стаяў гаршчок з накрыўкай і перапаленымі косткамі 2 нябожчыкаў. З усх. боку знаходзіліся вял. чорная глянцаваная ваза і міска, у якой ляжалі кубак і збан. У другім пахаванні перапаленыя косткі нябожчыка ляжалі кучкай у пяску на глыб. 0,55 м. Каля касцей і пад імі знойдзены абломкі вял. глінянай пасудзіны, жал. раннелатэнская фібула і драцяны пярсцёнак.

У 2004 на падставе знаходак, атрыманых у 8 з 22 аб'ектаў, даследаваных вакол пахаванняў, В.Г.Белявец вылучыў больш позні гарызонт могільніка перыяду каля рубяжа н.э. Ямы мелі



*Да арт.* ***Трасцяніца****. План, профіль пахавання № 1, жалезная фібула і кольца з пахавання № 2 падклёшава-паморскай культуры.*



*Да арт.* ***Трасцяніца.*** *План, профіль і знаходкі з аб'ектаў другога гарызонта грунтавога могільніка (Д1 – жалеза, астатнія – гліна).*

акруглую і авальную форму, памеры 0,5–1,2 м у папярочніку. Большасць з іх утрымлівала попельна-вугальныя праслойкі ў прыдоннай частцы, некаторыя былі цалкам запоўнены рэшткамі спаленняў. У 2 ямах выяўлена значная колькасць шлакаў. У адным з аб'ектаў было знойдзена некалькі перапаленых камянёў, два іншыя былі цалкам запоўнены каменнем, перамяшаным з попелам і вуголлем. У 3 ямах выяўлены асобныя кальцыніраваныя косткі. Інвентар – фр-ты посуду (грубаляпнога гладкасценнага, храпаватага, з т.зв. шурпаватай паверхняй, са штрыхоўкай і глянцаванага), жал. шыла. У кераміцы прасочваюцца сувязі з традыцыямі насельніцтва *культуры штрыхаванай керамікі* і зах.-балцкага кола. Аб'екты другога этапу развіцця грунтавога могільніка належаць да гарызонта помнікаў, які ў апошнія гады выяўлены на тэр. Нёманска-Бужскага міжрэчча. У польскім Падляшшы гэтыя старажытнасці прадстаўлены матэрыяламі з раскопак селішча Сураж-37 і аб'ектаў могільніка Грохі Старэ. Дадзеныя матэрыялы магчыма разглядаць у кантэксце кантактаў насельніцтва ўсх.-еўрап. лясной зоны, звязаных з традыцыямі культуры штрыхаванай керамікі, з насельніцтвам зах.-балцкага культ. кола. Магчыма, што ў сяр. 1–2 ст. культура гэтага насельніцтва стала адной з крыніц фарміравання на тэр. Нёманска-Бужскага міжрэчча помнікаў тыпу Радасць–Кутова.

Матэрыялы захоўваюцца ў Дзярж. археал. музеі ў Варшаве і Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі ў Мінску.

Курганны могільнік-1 *дрыгавічоў* за 0,7 км на ПнЗ ад вёскі, з левага боку дарогі на в. Ратайчыцы, на сучасных могілках. 79 насыпаў выш. 0,4–0,8 м, дыям. 4,2–8 м, падножжы абкладзены валунамі. Вядомы з к. 19 ст. Даследавалі ў 1962 І.В.Біруля (7 насыпаў), у 1983 і 1987 Т.М.Каробушкіна (20). Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах, галавой на З. Пахаванні адзіночныя і адно трайное, на попельнай падсыпцы таўшч. 0,2–0,25 м. У некаторых пахаваннях знойдзены рэшткі трун і жал. цвікі. Выяўлены цэлыя і фрагментаваныя кругавыя гаршкі, шыферпае прасліца, залачоныя і рознакаляровыя шкляныя, бронзавыя зярнёныя пацеркі, сярэбраныя і бронзавыя скроневыя кольцы з S-падобным завіткам на канцы і ў паўтара абарота, металічная двухбаковая падвеска, кінжал у скураным футляры з металічным упрыгажэннем, бронзавыя спражкі, металічныя шпількі з кольцам на канцы, цуглі і інш. Датуецца 11–13 ст.

Курганны могільнік-2 за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, 0,1 км ад шашы Відамля–Высокае. Захаваліся 4 курганы выш. 0,2–0,4 м, дыям. 5–6 м (у 1986–87 пашкоджаны кар'ерам). Вядомы з к. 19 ст. У 1960 І.В.Біруля даследаваў 2 насыпы. У 1980-я г. абследавала Т.М.Каробушкіна. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў насыпе галавой на З. Знойдзены фр-ты кругавога посуду з хвалістым арнаментам. Датуецца 11–13 ст.

*Літ.:* Никитина В.Б. Вновь открытые памятники поморской культуры // КСИА. 1964. Вып. 102; Ее ж. Памятники поморской культуры в Белоруссии и на Украине // СА. 1965. № 1; Коробушкина Т.Н. Курганы белорусского Побужья в X–XIII вв. Минск, 1993; Белявец В. Грунтавы могільнік у Трасцяніцы – невядомыя вынікі раскопак Палескай экспедыцыі 1962 г. // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Węgrzynowicz T. Zabytki z epoki brązu i wczesnej epoki żelaza z Ukrainy i Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2001.

*В.Г.Белявец, В.Б.Караткевіч, Т.М.Каробушкіна.*



*Дз.І.Траццякоў.*

**ТРАЦЦЯКО́Ў** Дзмітрый Іванавіч (н. 10.2.1953, в. Пірэвічы Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.), беларускі батанік, сістэматык, палеабатанік. Канд. біялагічных навук (1991). Скончыў БДУ (1975). З 1978 у Ін-це эксперыментальнай батанікі НАН Беларусі. Вывучае сучасную флору Беларусі (сасудзістыя расліны), археабатанічныя калекцыі з помнікаў археалогіі. З'яўляецца адным са стваральнікаў Нац. гербарыя Рэспублікі Беларусь пры Ін-це эксперыментальнай батанікі. Адзін з аўтараў прац [«Atlas Florae Europaeae» («Атлас Еўрапейскай флоры»); т. 5–14, 1980–2007], «Вызначальнік



*П.М.Траццякоў.*

вышэйшых раслін Беларусі» (1999), «Чырвоная кніга Беларусі» (1993), «Нацыянальны атлас Беларусі» (2002), «Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь» (2005), «Флора Беларусі. Сасудзістыя расліны» (т. 1, 2009).

*Тв.:* Археабатанічныя матэрыялы жалезнага веку ў зборы Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (разам з М.І.Лашанковым) // ААА. 2007. № 1; Строчицкое городище под Минском – палеоботаническая коллекция семян (з ім жа) // Современные проблемы морфологии и репродуктивной биологии семенных растений: материалы междунар. конф., посвящ. памяти Р.Е.Левиной (Ульяновск, 14–16 окт. 2008). Ульяновск, 2008; Плады чыліму (Trapa natans L., Trapaceae) у матэрыялах тарфянікавага паселішча Асавец на Віцебшчыне (разам з Макс.М.Чарняўскім) // Ботаника: (исслед.). Минск, 2008; Основные направления изучения археоботанических коллекций с памятников археологии // Там жа. Минск, 2009. Вып. 37.

*М.І.Лашанкоў.*

**ТРАЦЦЯКО́Ў** Пётр Мікалаевіч (12.11.1909, г. Кастрама, Расія – 12.6.1976), расійскі археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1945), чл.-кар. АН СССР (1958). Скончыў Ленінградскі ун-т (1930). У 1950–53 гал. рэдактар час. «Вопросы истории». З 1951 дырэктар Ін-та славяназнаўства АН СССР, з 1959 працаваў у Ленінградскім аддз. Ін-та археалогіі АН СССР. Даследаваў праблемы этнагенезу і стараж. гісторыі ўсх. славян, іх сувязі з інш. этнічнымі супольнасцямі. У 1951 узначаліў Слав. (Верхнеднепроўскую) экспедыцыю, якая вывучала культуры ранняга жал. веку і 1-га тыс. н.э. ў Верхнім Падняпроўі. У 1951–53 сумесна з Ю.У.Кухарэнкам і В.М.Мельнікоўскай адкрыў і абследаваў шэраг помнікаў зарубінецкай і мілаградскай культур на Гомельшчыне, правёў раскопкі гарадзішчаў *Чаплін* і *Мохаў*-2. Пашырыў уяўленні аб сувязях слав. плямён з балтамі, фіна-уграмі, сармата-аланамі і інш. У ліку найважнейшых раскопак – гарадзішчы Беразнякі Яраслаўскай вобл., Тушамля на Смаленшчыне (Расія), стараж. паселішчы ў басейне р. Дзясна. Удзельнічаў у падрыхтоўцы кадраў бел. археолагаў. Дзярж. прэмія СССР 1952.

*Тв.:* Восточнославянские племена. М., 1953; Раннеславянские поселения и могильники на территории Белоруссии // КСИА. 1955. Вып. 4; Моховское второе городище // Там жа. 1960. Вып. 81; Чаплинское городище // Памятники зарубинецкой культуры. М; Ленинград, 1959 (МИА; № 70); У истоков древнерусской народности // Там жа. 1970. № 179; Локальные группы верхнеднепровских городищ и зарубинецкая культура // СА. 1960. № 1; Древние городища Смоленщины. М.; Ленинград, 1963; Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Ленинград, 1966; По следам древних славянских племен. Ленинград, 1982.

*Літ.:* П.Н.Третьяков (1909–1976): библиогр. М., 1983.

*В.С.Вяргей.*

**ТРО́НКАВЫЯ НАКЛА́ДКІ**, пласціны авальнай ці кроплепадобнай формы, прызначаныя для афармлення тыльнай часткі тронкавых нажоў.





*Тронкавая накладка.*

Вырабляліся з медных або бронзавых нарыхтовак таўшч. 1–1,5 мм і мелі ў цэнтр. частцы падоўжаную адтуліну, з дапамогай якой накладка мацавалася да тыльнай часткі дзяржання і закрывала касцяныя або драўляныя тронкі. Т.н. шырока сустракаюцца ў культ. напластаваннях 15–18 ст. гар. і вясковых паселішчаў.

*М.В.Клімаў.*

**ТРОХ ВЯКО́Ў СІСТЭ́МА**, схема падзелу першабытнай эпохі на каменны, бронзавы і жал. вякі, якія паслядоўна наступаюць адзін за другім у адпаведнасці са зменай матэрыялу і тэхналогій вытворчасці асн. комплексу вырабаў. Упершыню яе прапанаваў у 1836 дацкі археолаг Х.Ю.Томсен (1788–1865) у працы «Пуцяводнік па скандынаўскіх старажытнасцях» («Ledetraad til Nordisk Oldkyndighed», у 1848 выйшла ў англійскім перакладзе – «A Guide to Northern Antiquities»). Артэфакты калекцый Дацкага нац. музея ў Капенгагене ён падзяліў на 3 групы ў залежнасці ад сыравіны, з якой яны рабіліся, стылістыкі і кантэксту, якія, на яго думку, змяняліся па перыядах у храналагічнай паслядоўнасці: каменны, бронзавы і жал. вякі. Эвалюцыстычная схема Х.Ю.Томсена неаднаразова ўдасканальвалася і разгаліноўвалася на больш дробныя перыяды (палеаліт, мезаліт і неаліт каменнага веку, медны век і энеаліт паміж каменным і бронзавым вякамі, падзел на перыяды эпох бронзы і жалеза і г.д.). Дапоўненая культ., сацыяльным, эканамічным, рэгіянальным і інш. кантэкстамі Т.в.с. дагэтуль выкарыстоўваецца ў якасці базавай асновы для перыядызацыі першабытнасці. Разам з тым, многія спецыялісты, падкрэсліваючы ўмоўнасць сістэмы, імкнуцца адысці ад яе універсалізму і распрацоўваюць кантэкстныя і рэгіянальныя сістэмы перыядызацыі першабытнай эпохі.

Для бел. археалогіі Т.в.с. была адаптавана Я.Тышкевічам, які пасля наведвання ў 1843 і 1845

Фінляндыі, Швецыі і Даніі засвоіў прынцыпы перыядызацыі 3 эпох і выкарыстоўваў іх у сваіх працах, музейнай практыцы. З 19 ст. ў бел. археалогіі абмяркоўваецца праблема вылучэння бронзавага веку. Паводле некаторых спецыялістаў, няма сэнсу вылучаць яго для тэр. Беларусі як эпоху распаўсюджання вырабаў з медзі і бронзы. Выказваюцца таксама меркаванні, што на тэр паўн.-зах. Беларусі, у міжрэччы Нёмана і Зах. Дзвіны, бронзавы век працягваўся да мяжы – пач. н.э. Застаюцца дыскусійнымі праблемы пач. эпохі каменю, часу і зместу заканчэння жал. веку. На падставе апошніх абагульняючых прац па археалогіі на тэр. Беларусі вылучаюць: каменны век (ад 100-га–40-га да к. 3-га–пач. 2-га тыс. да н.э.), бронзавы век (ад к. 3-га–пач. 2-га тыс. да н.э. да 8–7 ст. да н.э.), жал. век (8–7 ст. да н.э. – 5 ст. н.э.).

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1972; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX стст. Мінск, 1984; Клейн Л.С. Археологическая типология. Ленинград, 1991; Гісторыя Беларусі: Т. 1. Старажытная Беларусь: ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. Мінск, 2000; Крывальцэвіч М. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. № 22; Renfrew C., Bahn P. Archaeology: theories, methods and practice. London, 1996.
*М.М.Крывальцэвіч.*

**ТРУ́САЎ** Алег Анатолевіч (н. 7.8.1954, г. Мсціслаў Магілёўскай вобл.), бел. археолаг і гісторык архітэктуры, публіцыст. Скончыў БДУ (1976). Канд. гіст. навук (1981). Дацэнт (1995). З 1976 супрацоўнік, з 1988 начальнік археал. аддзела Бел. рэстаўрацыйнага праектнага ін-та, 1.10.1991–95 намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гіст. спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. З 1995 у Бел. ун-це культуры і мастацтваў. Вывучае помнікі манументальнага дойлідства, матэрыяльную культуру Беларусі 11–18 ст., гісторыю буд. тэхнікі, эвалюцыю асн. тыпаў муровак і буд. матэрыялаў (цэглы, дахоўкі, плітак падлогі, буд. каменю і кафлі) у гэты перыяд. Распрацаваў методыку архіт.-археал. вывучэння манументальных помнікаў Беларусі. Праводзіў раскопкі Гродзенскага (Старога), Заслаўскага, Крэўскага, Лідскага, Мазырскага, Мірскага замкаў, Барысаглебскай царквы ў Навагрудку, Благавешчанскай царквы ў Віцебску, Каложскай царквы ў Гродне, Магілёўскай ратушы, помнікаў архітэктуры Мсціслава 17–18 ст., Мінскіх гандл. радоў, фарнага касцёла Вітаўта ў Гродне і інш.

*Тв.*: Помнікі старажытнага Мсціслава. Мінск, 1985 (разам з Р.В.Баравым); Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988; Беларуская кафля. Мінск, 1989 (у сааўт.); Старонкі мураванай кнігі: манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму. Мінск, 1990; Археалагічнае вывучэнне помнікаў беларускай манументальнай архітэктуры XIII–XVIII стст. // ВАНБ. 1980. № 6; Памятники древнерусского зодчества в Гродненском детинце (у сааўт.) // Вопр. архитектуры Лит. ССР. Вильнюс, 1988. № 9; Мстиславльские изразцы // Памятники культуры: новые открытия: ежегодник, 1989. М., 1990; Невядомая нам краіна: Беларусь у яе этнаграфічных межах. Мінск, 2009; Магілёўская ратуша: гіст. лёс і адраджэнне. 2 выд. Магілёў, 2010 (разам з А.Р.Агеевым).


*А.А.Трусаў.*

**ТУ́РАЎ**, горад у Жыткавіцкім р-не Гомельскай вобл., прыстань на р. Прыпяць. За 30 км на ПдЗ ад Жыткавіч. Аўтадарогамі звязаны з Давыд-Гарадком, Жыткавічамі, Лельчыцамі.

Т. упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980. Т. – адзіны горад 10 ст. на тэр. рассялення дрыгавічоў, верагодна, быў племянным цэнтрам самастойнага «княжання» напярэдадні ўключэння яго ў Кіеўскую дзяржаву ў 2-й пал. 10 ст. У к. 1-га тыс. н.э. стаў палітычным, эканамічным і культ. цэнтрам удзельнага Тураўскага княства, якое было аддзелена трэцяму сыну Уладзіміра Святаславіча – Святаполку [988–1015]. Князь імкнуўся ўмацаваць самастойнасць Т. У гэты час тут узнікла адна з першых на Русі епіскапій на грэчаскі ўзор. У час княжання Святаполка Ізяславіча [1087–1113] яго жонка грэчаская царэўна Варвара заснавала ў Т. жаночы манастыр, у горадзе пры яе ўдзеле стала пашырацца грэчаская праваслаўная культура. У 1158 Т. вытрымаў жорсткую 10-тыднёвую аблогу войскамі кіеўскага кн. Ізяслава Давыдавіча і яго саюзнікаў, а ў 1160 трохтыднёвую аблогу валынскіх князёў. У 1180-я г. Тураўскае княства распалася на шэраг самастойных (удзельных) княстваў. У к. 13 – пач. 14 ст. Т. вызначаўся развітым рамяством і гандлем. У пач. 14 ст. горад увайшоў у склад ВКЛ, у 15 ст. належаў вял. кн. Свідрыгайлу, пасля яго смерці – князям Глінскім, Астрожскім. У сяр. 16 ст. адышоў да каронных уладанняў у складзе Трокскага, пазней Берасцейскага ваяводстваў. У 1502 і 1521 падвяргаўся нападам


*Да арт.* ***Тураў****. Бронзавая кадзільніца з абразамі святых (раскопкі П.Ф.Лысенка, 2005).*



*Да арт. **Тураў**. Пячатка Кіеўскага мітрапаліта Кірыла (1225–32) (раскопкі П.Ф.Лысенка, 1992).*

крымскіх татар. Насельніцтва Т. актыўна ўдзельнічала ў антыфеад. вайне 1648–51; у 1649 горад захоплены і спалены войскамі Радзівіла, спустошаны ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі.

Дзяцінец стараж. Т. размешчаны на паўн.-зах. ускраіне горада, на мысе, утвораным старымі пратокамі р. Прыпяць (Струмень, Дамавуха) і балоцістай нізінай р. Язда (правы прыток Прыпяці). З паўд.-ўсх. боку адасоблены ад вакольнага горада абарончым ровам. Пляцоўка выш. 5–6 м над вакольнай мясцовасцю мае трохвугольную форму, доўгі час разворвалася пад агароды, таму абарончыя збудаванні дрэнна захаваліся. Абарончая сістэма ўдала спалучала прыродныя перашкоды і штучныя збудаванні. Верагодна, земляны вал праходзіў па перыметры дзяцінца (засталіся невял. ўзвышэнні з зах. боку). У паўд.-зах. частцы пляцоўкі ёсць круглы ўзгорак, магчыма, тут на стыку валоў з ровам стаяла абарончая Тураўская вежа. З паўн. боку рэшткі валоў былі знішчаны пры пракладцы дарогі. Роў паміж дзяцінцам і вакольным горадам, паводле звестак мясц. жыхароў, яшчэ ў пач. 20 ст. быў пастаянна запоўнены вадой, пазней частткова засыпаны зямлёй у час земляных работ, моцна пашкоджаны ў 1970-я г. Апісанне гарадзішча Т. сустракаецца ў працах М.Гаўсмана і А.Крукоўскага. У 1889 У.З.Завітневіч абследаваў гарадзішча і апісаў яго месцазнаходжанне, знешні выгляд і захаванасць. У 1927 А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў заклалі шурф і знайшлі шыферныя прасліцы, фр-ты шкляных бранзалетаў, арнаментальную пласцінку і кераміку стараж.-рус. часу. У 1961 раскопкі на дзяцінцы праводзіла экспедыцыя Ін-та археалогіі АН СССР пад кіраўніцтвам В.В.Сядова, у 1962–63, 1968 – экспедыцыя ІГ АН БССР пад кіраўніцтвам П.Ф.Лысенкі, ускрыта 768 м². Культ. пласт да 4 м, падзяляецца на 5 стратыграфічных гарызонтаў. На дзяцінцы выяўлена 35 пабудоў, з іх 24 жылыя. Усе яны наземныя, зрубавай канструкцыі, рубленыя ў просты вугал, у асн. з хваёвых бярвён, пад вугламі і сценамі некаторых з іх былі падкладкі. Пл. жытлаў 16–18 м², самых вял. – каля 25 м². У 4 пабудовах захаваліся рэшткі драўлянай падлогі, пакладзенай на лагі, у адной – глінабітная падлога. Выяўлены рэшткі 10 печаў (7 глінабітных, 3 з выкарыстаннем цэглы), якія рабіліся на падушцы з сырой гліны, часам замацаванай дошкамі і калкамі, з 13 ст. паяўляюцца цагляныя печы. У раскопе 1962 выяўлены рэшткі 3 паграбоў. Адзін з іх памерамі 2,6 × 2 м рублены ў просты вугал з тонкіх бярвён, заглыблены ў мацярык на 0,6–0,7 м, меў шчыльную падлогу з дошак. У ім знойдзена кераміка 10–11 ст. (пограб зроблены ў час першапачатковага засялення). Другі пограб (12–13 ст.) быў абшыты дошкамі, меў драўляную падлогу і выслаunion бяростай. У 2004 у пласце 16 ст. знойдзены крыж памерамі 6,95 × 6,75 м, які быў выкладзены з 8 радоў абпаленай і сырцовай цэглы. Знойдзены рэшткі амфар з Паўн. Прычарнамор'я (магчыма, гэта быў вінны пограб).

На дзяцінцы знойдзена вял. колькасць рэчаў матэрыяльнай культуры, аднак з-за неспрыяльных умоў захавання большасць іх у дрэнным стане. Сярод знаходак – інструменты і прылады працы (жал. зубіла, шыла, сярпы, абломкі сякер, долаты, ювелірныя пінцэты, тыглі для плаўкі каляровых металаў, шыферныя формачкі для адліўкі вырабаў, прасліцы і інш.), зброя (наканечнікі кап'я і стрэл, свінцовыя і жал. булавы, касцяныя дэталі складанага лука), прадметы гасп. ўжытку (жал. нажы, крэсівы, замкі і ключы да іх, абломкі спружынных нажніц, шпількі, рыбалоўныя кручкі, восці і інш.), ювелірныя вырабы (бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, падвескі), абломкі бронзавага посуду, засцежкі для кніг, прадметы рэлігійнага культу. У гарызонце к. 13–14 ст. знойдзены 4 свінцовыя рэльефныя абразкі з выявамі Багародзіцы (Дзевы Марыі), прападобнай Ефрасінні (?) або Анастасіі (?), велікамучаніцы (магчыма, Варвары) і свяціцеля (магчыма, Кірылы Тураўскага). Хутчэй за ўсё гэта былі ўстаўкі напрастольнага крыжа. Знойдзена шмат вырабаў з косці (праколкі і дзяржанні, упрыгожаныя цыркульным, лінейна-хвалістым, стужкавым арнаментам, накладкі, грузікі, іголкі, грабяні, лыжка, шахматныя фігуркі каня і слана, падшыпнік-порхліца, загатоўка сякеры, косці для гульні, амулеты і інш.), са шкла (абломкі бранзалетаў, посуду стараж.-рус. і замежнай вытворчасці, пярсцёнкі, а таксама шкляныя ўстаўныя вочкі ад металічных пярсцёнкаў, абломкі аконнага шкла і інш.), вырабы са скуры (похвы, кашалі, фр-ты абутку, скураной рукавіцы). Шмат знаходак ганчарнага керамічнага посуду (найб. ранні датуецца 10–11 ст.), абломкаў цэглы (з 2-й пал. 12 ст.), паліваных дэкаратыўных плітак, грузікаў рыбалоўных сетак, падсвечнікаў. Знаходкі сведчаць пра развіццё ў Т. рамёстваў (кавальскага, ювелірнага, касцярэзнага, дрэваапрацоўчага, ганчарнага і інш.), земляробства, жывёлагадоўлі, гандлю; насельніцтва займалася таксама паляваннем і рыбалоўствам.

Вакольны горад прылягаў да дзяцінца з паўд.-ўсх. боку, меў форму чвэрці круга (памер 100 × 170–180 м, пл. каля 1,5 га), аддзяляўся ад яго паўкруглым глыбокім ровам, які пастаянна быў запоўнены вадой (да 1925, калі р. Язда была адведзена ў асушальны канал). Пляцоўка ўзвышаецца над прылеглай мясцовасцю на 5–6 м, мае стромкія здзірванелыя схілы, з паўд. боку па краі яе захавалася невял. ўзвышэнне. У 1927 А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў на тэр. вакольнага горада заклалі невял. шурф, які не давялі да канца культурнага пласта. У 1961 П.А.Рапапорт ускрыў участак цаглянай сцяны. У 1962–63 М.К.Каргер на месцы шурфа ўскрыў частку пілястры і фундамент цаглянай пабудовы, даследаваў рэшткі храма 12 ст. (гл. *Тураўская царква*). У час раскопак у храме выяўлены 3 шыферныя саркафагі, у 1909 на Барысаглебскіх могілках – шыферны саркафаг 12 ст. У 1992–93 П.Ф.Лысенка даследаваў 336 м². У 1992 было зафіксавана 5 будаўнічых ярусаў, у 1993 – 7. Выяўлены рэшткі 17 наземных аднакамерных пабудоў зрубавай канструкцыі памерамі 3,2 × 3,2 і 3,6 × 3,6 м, з землянымі падлогамі і глінабітнымі печамі. У 1993 у пласце 10 ст. выяўлены рэшткі язычніцкага свяцілішча-капішча. У цэнтры пляцоўкі – глыбокая яма ад драўлянага ідала, навокал – паўколам 2 рады ям (у першым радзе 5, у другім – 7). Пласт насычана перапаленым вуголлем ад агнішчаў.

У паўн.-зах. частцы Т., на левым беразе р. Струмень знаходзіцца селішча, якое, як мяркуюць, было часткай горада.

*Літ.*: Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мінск, 1972; Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Грушевский А.С. Пинское Полесье: ист. очерки. Ч. 1–2. Киев, 1901–03. *П.Ф.Лысенка.*

**ТУ́РАЎСКІ КАФЕДРА́ЛЬНЫ САБО́Р**, помнік археалогіі і культуры 2-й пал. 12 ст. на гарадзішчы стараж. г. Тураў Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. Існаваў у 1170-я – 1230 (разбураны землетрасеннем). Выяўлены ў 1961. У 1962–63 даследаваў М.К.Каргер, у 2005 – П. Ф. Лысенка. Памеры – 29 × 16,91 м. Таўшч. сцен – 149–165 см. Сцены захаваліся над узроўнем фундамента на 0,3–0,5 м, цэнтральная апсіда – да 2 м. Па планіроўцы і буд. асаблівасцях сабор адносіцца да тыпу трохнефных, трохапсідных, шасціслупавых храмаў, якія былі шырока распаўсюджаны ў дойлідстве ўсх. славян 12 ст. Фундамент храма складзены з булыжнікаў, пакладзеных насуха ў траншэю глыб. 1,1 м. Падэшва фундамента абапіраецца на мацерыковы пясок. Атынкаваныя сцены храма складзены з прамавугольнай плінфы даўж. 25–30 см, шыр. 17–20,5 см, таўшч. 3,5–5,2 см, у раўнаслойнай кладцы з тоўстымі (3–6 см) прамежкавымі пластамі вапны, раскрапаваны двухуступчатымі лапаткамі (апсіды – невял. пілястрамі). Каля апсідаў выяўлены нешматлікія аздабленні з алебастру. Барабан купала быў упрыгожаны поясам з парэбрыка, у раскопе храма знойдзены паліўныя керамічныя пліткі для падлогі. Першая пара падкупальных слупоў дапоўнена дадатковымі слупамі з унутранага боку праходу да алтара. Сцены храма знутры на ўзроўні другой пары слупоў падмацаваны контрфорсамі. Выяўлены 3 пахавальныя саркафагі (2 сланцавыя і 1 з плінфы, перакрыты сланцавай плітой), 3 пахаванні (у сланцавым саркафагу, у саркафагу з плінфы і ў тоўстай дубовай сатлелай калодзе, перакрытае сланцавай плітой). Непасрэдна ў храме ў праходзе з сярэдняй апсіды ў левую пад падлогай выяўлена дзіцячае пахаванне. Па абодва бакі праходу паміж першай і другой парай слупоў выяўлены 2 чалавечыя касцякі, што былі падрыхтаваны да пахавання, але аказаліся засыпаны развалам верхняга звода храма пры яго разбурэнні ў 1230.

У гісторыі сабора выдзяляюцца перыяды першапачатковага будаўніцтва (кан. 1160-х – пач. 1170-х), яго разбурэння, рамонту і аднаўлення, канчатковага разбурэння (1230). Будаўніцтва храма як сімвала аднаўлення самастойнага Тураўскага княства было задумана пасля 1162 князем Юрыем Яраславічам і епіскапам Кірылам Тураўскім. Аднак пасля яго завяршэння адбылася будаўнічая катастрофа з-за слабасці падмуркаў, якія абапіраліся на вільготны пясок мацерыка на ўзроўні паверхні блізкіх Прыпяці і Язды. Рамонт патрабаваў узвядзення ўмацавання для першай пары слупоў, контрфорсаў да сцен насупраць другой пары слупоў, дзе быў створаны новы ўваход у храм. Развал плінфы пасля першай катастрофы быў ужыты для павышэння падлогі ў храме. Знойдзены рэшткі царкоўных званоў, свінцовая пячатка кіеўскага мітрапаліта Кірыла II [1225–32], ніжняя частка бронзавага шасцібаковага кадзіла з выявамі ў медальёнах святых Георгія, Феодара, Ахрыма, Іаана, круглай плоскай каменнай пласцінкі з выявай воіна-лучніка з напятым лукам (магчыма, герб Турава). Побач з паўд.-зах. вуглом храма ў мацерыку выяўлены рэшткі язычніцкага свяцілішча-капішча. Над рэшткамі сабора пабудаваны павільён, у якім дзейнічае экспазіцыя, прысвечаная гісторыі Турава 9–13 ст. *П.Ф.Лысенка.*



*Павільён над **Тураўскім кафедральным саборам** (2005).*

*Рэшткі **Тураўскага кафедральнага сабора** (раскопкі П.Ф.Лысенка, 2005).*



**ТУРБІ́Н** Мікалай Мацвеевіч (16.6.1832, г. Ялец Арлоўскай губ., цяпер Ліпецкай вобл., Расія – 20.11.1913), беларускі і расійскі археолаг. Правадзейны чл. Маскоўскага археал. т-ва (з 1878). Генерал ад інфантэрыі (1902), з 1906 у адстаўцы. Скончыў Мікалаеўскую акадэмію Генштаба (1856). Даследаваў курганы ў Быхаўскім, Мсціслаўскім, Аршанскім пав., каля в. Дымава на Магілёўшчыне, разам з Я.П.Тышкевічам – у Барысаўскім, Мінскім, Ігуменскім паветах Праводзіў раскопкі ў Заслаўі. Арганізатар і першы старшыня Маскоўскага нумізматычнага т-ва, ганаровы чл. Т-ва вывучэння Магілёўскай губ. (з 1913). Удзельнік 1-га Міжнар. археал. з'езда (1912).

*Літ.:* Алексеев Л.В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX – начале XX в. // СА. 1968. № 3. *Т.М.Каробушкіна.*

**ТУРЖЭ́Ц 2**, археалагічны помнік – грунтавы могільнік 17–18 ст. каля в. Туржэц 2 Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 0,3 км на У ад вёскі, на вясковых могілках. Сяло Турэц вядома з 1533, у 1624 увайшло ў маёмасць полацкага Барысаглебскага уніяцкага кляштара. Могільнік адкрыў у 2004 І.А.Елісееў, даследаваў у 2005–06 Дз.У.Дук. Старажытныя пахаванні размешчаны ў цэнтры сучасных вясковых могілак, бліжэй да іх усх. часткі, на пл. каля 0,32 га (агульная пл. могілак 1,6 га). Стараж. могілкі размешчаны радамі па лініі ПдЗ–ПнУ. Пахаванні ўяўляюць сабой выцягнутыя ў накірунку ПдУ–ПнЗ ладдзепадобныя агароджы з камянёў даўж. каля 1,5–2 м, шыр. каля 1 м. Памеры камянёў у сярэднім каля 0,4 м, асобныя – больш за 1 м. З паўн.-зах. боку, як правіла, размешчаны вял. камень з салярнай сімволікай, выявамі крыжоў, крыжа ў паўколе. Усе выявы высечаны на камянях барознамі глыб. 1–2 см. Удалося дакладна вызначыць 12 радоў пахаванняў з рознай ступенню захаванасці, якія размяшчаліся ў цэнтр. часткі могільніка. У 2006 даследавана 3 пахаванні 18–19 ст. у драўляных трунах (астанкі жанчыны ва ўзросце больш за 60 гадоў, дзяўчынкі 4–5 гадоў, мужчыны 40–50 гадоў). Пахавальны інвентар знойдзены ў магіле дзяўчынкі. На месцы кожнага пахавання ўзводзілася складаная канструкцыя – дамавіна з дрэва, якая спальвалася. Кавалкі вугалю, знойдзеныя ў зямлі над трунамі, сведчаць аб тым, што перад пахаваннем пляцоўка выпальвалася. Для будаўніцтва каменных агароджаў у галовах і зрэдку ў нагах нябожчыка, выкарыстоўвалі камяні са знакамі.

*Літ.:* Дук Дз.У. Археалагічныя раскопкі на грунтавым могільніку Туржэц 2 Полацкага раёна // Археалогія эпохі сярэднявечча: да 80-годдзя з дня нарадж. Г.В. Штыхава // МАБ. 2008. Вып. 15. *Дз.У.Дук.*

**ТУРЫ́ЙСК** (Турьск), старажытны горад. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1253. У запісе пад 1276 указана месцазнаходжанне горада:



*Знаходкі з культурнага пласта гарадзішча* ***Турыйск.***

«Тоурийскить на реце Немне». Захавалася гарадзішча Т. каля в. Турэйск Шчучынскага р-на. Займае сярэдзіну ўзвышанай грады, выцягнутай уздоўж правага берага р. Нёман. Пляцоўка памерамі 35 × 85 м, з Пн і Пд абмежавана схіламі (паўд. апускаецца да поймы Нёмана, паўн. – да сучаснай вясковай вуліцы), з З і У абмежавана дугападобнымі равамі шыр. 15–25 м і глыб. да 3,5 м. Абарончыя валы на паверхні не захаваліся, з ПнЗ прасочваецца ўезд. Гарадзішча даследавалі ў 1961–62 К.Т.Кавальская і Г.І.Пех, у 1969–70 Я.Г.Звяруга. Устаноўлена, што Т. засн. ў к. 11 – пач. 12 ст. як невял. крэпасць на славяна-літ. парубежжы. Гарадзішча было ўмацавана валам, які ад пляцоўкі аддзяляўся частаколам, паглыбленым у мацярык на 0,5–0,6 м. Жытлы былі наземныя, з печамі-каменкамі. Выяўлены рэшткі печаў-домніц (дымарак), вял. колькасць абломкаў гліняных соплаў, крыцы, шлакі. Знойдзены прылады для апрацоўкі зямлі, палявання і рыбалоўства, прадметы ўзбраення воіна і рыштунак баявога каня, гасп. інвентар, упрыгажэнні і прыстасаванні для гульні. Матэрыяльная культура Т. блізкая да культуры інш. гарадоў Бел. Панямоння. У 12–13 ст. горад, відавочна, уваходзіў у Гарадзенскае княства.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962; З в е р у г о Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Минск, 1989.

**ТУШАМЛІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура, якая ў 4–7 ст. н.э. была распаўсюджана ў Верхнім Падняпроўі і Падзвінні і займала зах. частку Смаленскай вобл. (Расія), У Віцебскай і ПнУ Магілёўскай абласцей. Упершыню выяўлена ў 1950-х г. П.М.Трацցяковым і названа па даследаваным гарадзішчы каля р. Тушамля. Т.к. прадстаўлена неўмацаванымі паселішчамі: селішчамі (Купрына, Кіслыя, Узмень, Вусце і інш.); гарадзішчамі-сховішчамі з выкарыстаннем земляных умацаванняў гарадзішчаў ранняга жал. веку (Дзямідаўка, Блізнакі і інш.); гарадзішчамі-свяцілішчамі (гарадзішчы-сховішчы з наяўнасцю язычніцкіх капішчаў – Тушамля, Гарадок, Прудкі) і грунтавымі могільнікамі (Акатава, Узмень). Т.к. склалася ў 4–5 ст. на аснове позняга варыянта мясц. *днепра-дзвінскай культуры* з уключэннем некаторых элементаў інш. культур (штрыхаванай керамікі, кіеўскай), частка насельніцтва якіх была вымушана пакінуць у 4–5 ст. паўд. вобласці Верхняга Падняпроўя і прасунуцца на Пн. Істотнага ўплыву на фарміраванне Т.к. яны не аказалі. Росквіт Т.к. прыпадае на 6–7 ст., а скончыла яна сваё існаванне на мяжы 7–8 ст. ў выніку рабаўнічых набегаў дружын з аварскіх стэпаў.

Для Т.к. характэрна ляпная слабапрафіляваная кераміка, бранзалетападобныя разамкнутыя скроневыя кольцы з 1 ці 2 патоўшчанымі канцамі, гладкія і арнаментаваныя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, наканечнікі дзід з полымяпадобным пяром, 2-3-членныя восці, шпоры, пласціністыя крэсівы, пальчатыя фібулы, авальныя спражкі. Асн. заняткі насельніцтва: падсечнае земляробства з яравымі пасевамі пшаніцы, ячменю, проса, ільну і конскага бобу; жывёлагадоўля з развядзеннем буйной рагатай жывёлы, коней, свіней, авечак, коз і сабак. Падсобныя галіны гаспадаркі – паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Былі дастаткова развіты хатнія рамёствы (металургія жалеза, кавальства, бронзаліцейная вытворчасць, апрацоўка скуры, косці, дрэва, вытворчасць керамікі, прадзенне і ткацтва). Т.к. адносяць да этнакульт. супольнасці ўсх. балтаў.





*Да арт.* ***Тушамлінская культура.*** *1 – гарадзішча Тушамля паводле П.М.Трацցякова; 2 – рэчы з помнікаў тушамлінскай культуры.*

*Літ.:* Третьяков П.Н. Городища-святилища левобережной Смоленщины // СА. 1958. № 4; Третьяков П.Н., Шмидт Е.А. Древние городища Смоленщины. М.; Ленинград, 1963; Шмидт Е.А. Верхнее Поднепровье и Подвинье в III–VII вв. н.э. Тушемлинская культура. Смоленск, 2003; Шадыра В.І. Беларускае Падзвінне (I тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006.

*В.І.Шадыра, Я.А.Шміт.*

**ТШЦІНЕ́ЦКАЕ КУЛЬТУ́РНАЕ КО́ЛА**, агульнасць помнікаў, якая існавала ў эпоху бронзы на тэр. цэнтр.-ўсход. Еўропы ад ракі Просны (басейн Одэра) на З да басейна Дзясны і Сейма на У, ад Мазурскага Паазер'я і басейна верхняга, сярэдняга Нёмана, Перадпалесся на Пн да басейна верхняга Прута, Серата на Пд. Датуецца ў межах ад 1900-х г. да к. 2 тыс. да н.э. Культурную адметнасць упершыню ў 1928 адзначыў У.Антаневіч, тшцінецкай (ад паселішча Тшцінец у Люблінскім ваяводстве Польшчы) у 1930 назваў Ю.Кастшэўскі. Першае манаграфічнае апісанне зрабіў А.Гардаўскі ў 1959. Спачатку разглядалася як асобная культурная адзінка (тшцінецкая культура) (Ю.Кастшэўскі, А.Гардаўскі і інш.), пазней як комплекс культур (тшцінецка-камароўска-сосніцкі цыкл культур, тшцінецка-камароўская культура, заходне- і усходне-тшцінецкая, камароўская культуры) альбо як 3 асобныя культуры (тшцінецкая, камароўская, сосніцкая) (І.І.Арцёменка, С.С.Беразанская, В.Блаер, Я.Гурскі, Я.Дамброўскі, У.Ф.Ісаенка, С.Кадраў, А. Кемпісты, М.М.Крывальцэвіч, Я.Міскевіч, І.К. Свешнікаў, Т.Сулімірскі, Г.Тарас, М.М.Чарняўскі і інш.). У альтэрнатыўных гіпотэзах «тшцінецкі феномен» разглядаецца як «гарызонт» (А.Коська), «пакет» (Я.Чабрашук), «макратэрытарыяльная камунікацыйная супольнасць» (П.Макаровіч).

Помнікі ТКК, як правіла, размяшчаюцца на ўскраінах тэрас і на ўзвышшах у поймах рэк, азёр. Асобныя матэрыялы знойдзены ніжэй сучаснага ўзроўню вады ў азёрах, рэках. Акрамя стабільных і доўгатэрміновых паселішчаў, на якіх вылучаецца некалькі этапаў будаўніцтва (да 11–20 жытлаў), адзначаюцца часовыя стаянкі (на працягу аднаго альбо некалькіх сезонаў, кароткатэрміновага знаходжання ў часе перадыслакацыі і інш.). Жылыя пабудовы пл. да 100 м² заглыбляліся ў зямлю (зямлянкі і паўзямлянкі) альбо былі наземнымі. Складаліся з аднаго альбо двух памяшканняў, са зрубнымі, слупавымі, плеценымі і абмазанымі глінай сценамі, адкрытымі агнішчамі, купальнымі гліянымі печамі. Падлогі часам былі гліянымі, пакрываліся валькамі і абмазваліся глінай. У жытлах і па-за імі былі размешчаны гасп. ямы. На паселішчах знойдзены рэшткі ям для смецця, загонаў для хатніх жывёл, драўляных загародак, гасп. будынкаў на па́лях і інш. Сляды дзвюх культавых пабудоў (наземнай і заглыбленай у зямлю з агнішчамі, косткамі, керамікай, каменнымі зерняцёркамі, 6 ямамі са спаленымі косткамі і інш.) адзначаліся на паселішчы Пустынка (Чарнігаўскае Палессе). Выяўлены курганныя, бескурганныя пахаванні і могільнікі. Некаторыя пахаванні размяшчаліся ў межах паселішчаў. Пахавальныя абрады – трупаспаленне і трупапалажэнне,



Аўтар М.М. Крывальцэвіч



*Ляпная кераміка* ***тшцінецкай культуры*** *Беларускага Палесся: 1 – Азярное 1; 2 – Бухліцкі Хутар 1; 3, 6 – Тураўшчына; 4 – Прылукі; 5 – Камень 2.*

зрэдку з абпальваннем і расчляненнем цела нябожчыка, з уключэннем жывёльных парэштак, узвядзеннем каменных, драўляных, драўлянакаменных пабудоў, насцілаў. Пахаванні індывідуальныя і зборныя (наяўнасць у адной магільнай яме касцей некалькіх нябожчыкаў). Большая частка памерлых арыентавана па лініі У–З, ПдЗ–ПнУ, размяшчалася скурчана на баку альбо выпрастана на спіне, часта пахаванні суправаджаліся інвентаром. Курганны абрад і трупапалажэнне найчасцей адзначаліся ва ўзвышаных паўднёва-зах. раёнах, трупаспаленне і бескурганны абрад на тэр. паўн. нізінных і ўсх. ускраін ТКК.

Адна з характэрных асаблівасцяў керамікі ТКК – гаршкі S-падобнага профіля з патоўшчанымі і скошанымі вонкі краямі венчыкаў, валікамі на шыйках, якія рабіліся з дамешкамі жарствы, ангабаваліся, аздабляліся жалобчатымі пракрэсленымі лініямі, рыскамі, наколамі, гузамі, «ружанцовымі» арнаментамі і інш., матывамі ў выглядзе гарызантальных, вертыкальных, касых радоў, звісаючых трохвугольных, паўкругавых фігур і інш. Вылучаецца кухонны (гаршкі вялікіх памераў, банкі, міскі, амфары, радзей жбаны і кубкі і інш.) і сталовы посуд (кубкі, жбаны, вазы, міскі, амфары, гаршкі, банкі і інш.), кераміка рэдкіх форм (сітаваты посуд, чарпакі). Сведчаннямі ткацтва з'яўляюцца гліняныя прасліцы і грузікі, у тым ліку т.зв. «рагатыя». Ужываліся крамянёвыя вырабы: лёзы сярпоў, устаўкі да іх, наканечнікі коп'яў, дроцікаў і стрэл, сякеры, нажы, скрабкі і скобелі і інш. На тэр. Валыні знойдзены крамянёвыя майстэрні па вырабу сярпоў, сякер і інш. інструментаў, многія з якіх траплялі ў суседнія рэгіёны. Насельніцтва займалася здабычай і апрацоўкай каменя (зерняцёркі, расціральнікі, сякеры, цяслі, булавы, накладкі, выпрамляльнікі стрэл, формы для адліўкі, грузілы і інш.). Выяўлены сляды ўласнай бронзавай металургіі, а таксама прывазныя вырабы з бронзы, золата. Паступленне большасці бронзавых вырабаў, сыравіны і перайманне многіх традыцый металаапрацоўкі ішло з карпата-трансільванскіх і сумежных металургічных цэнтраў. Сярод бронзавага інвентару пераважаюць аздобы (шпількі, бранзалеты, накладкі, нашыйнікі, пярсцёнкі, дыядэмы, падвескі, бляшкі, завушніцы і інш.) і зброя (сякеры, чэканы, кінжалы, наканечнікі дроцікаў, стрэл і інш.), сустракаюцца сярпы, далоты, шылы і інш. Імпартаваліся бурштынавыя пацеркі. Асноўныя гасп. заняткі – жывёлагадоўля (адгонная з выкарыстаннем стойлавага ўтрымання хатніх жывёл, напэўна паўвандроўная, асабліва ў паўн. раёнах) і земляробства (вырошчванне пшаніцы, ячменя, аўса, зрэдку проса). У сацыяльнай арганізацыі адзначаліся паказчыкі параўнальна высокага ўзроўню калектыўнасці, мінімальнага ранкінгу, на поўдні некаторыя праявы элітарнасці і тэндэнцыі да вылучэння правадырскіх структур. У сістэме абмену вялікае значэнне належала арганізацыі камунікацыйных шляхоў па атрыманню прэстыжных рэчаў. Знойдзены скарбы ТКК.

У Беларусі помнікі ТКК адзначаюцца на тэр. Палесся, Перадпалесся, Панямоння, Падняпроўя. На Панямонні вылучаецца нёманская (паўночна-зах. і зах. часткі Панямоння да Котры і нізоўяў Бярэзіны на Пн) і верхнянёманская (русаковіцкая) групы ТКК (верхняе цячэнне Нёмана, Шчары, адзінкавыя знаходкі ў вусці Нарвы і на Котры). У Прыпяцкім Палессі распаўсюджваліся помнікі турава-мазырскай (прыпяцкай), на Пн Палесся і ў Перадпалессі, пераважна ў міжрэччы Случы і Пцічы, паўночнапалескай груп ТКК. Канцэнтрацыі помнікаў і асобных знаходак ТКК у зах. Палессі адзначаліся ўздоўж Зах. Буга, у вярхоўях Ясельды, на Загароддзі. У Бел. Падняпроўі да вусця Бярэзіны і нізоўяў Сожа распаўсюджваліся помнікі сосніцкага тыпу (культуры, групы). Вылучаюцца сляды сталых паселішчаў (*Абакумы*-1, *Бухліцкі Хутар*-1) і кароткачасовых сезонных стаянак (Азярное-1) пахаванні і асобныя знаходкі ТКК. На паселішчах знойдзены рэшткі прамавугольнага наземнага (Мохаў) і заглыбленага жытлаў (Абакумы-1), гасп. ямы (Бухліцкі Хутар-1, Абакумы-1). Даследаваліся грунтовыя пахаванні па абраду трупаспалення (*Гарошкаў*, *Ходасавічы*, *Сябровічы*, *Кліны*, *Мяцявічы*, *Лысая Гара* і інш.). Кераміка

ТКК прадстаўлена гаршкамі S-падобнага профіля малых і вялікіх памераў, посудам баначных форм, сітаватымі пасудзінамі, міскамі і інш. Ужываліся арнаментальныя матывы, якія ўтвараліся пракрэсленымі, жалобчатымі лініямі пад краем венчыка і на шыйцы, у спалучэнні са звісаючымі трохвугольнікамі, участкамі наколаў, ямак, рысак. Часта аздабленне складалася з валіка на шыйцы, «ружанцовых» адбіткаў у гарызантальныя, зігзагападобныя, касыя, елачныя рады. Арнаментам пакрывалася верхняя частка альбо ўся паверхня пасудзін. Сустракаюцца сляды крэменеапрацоўкі і крамянёвыя вырабы (наканечнікі стрэл з двухбаковай апрацоўкай, у першую чаргу чаранковыя з вылучанымі шыпамі і без іх, нажы на пласцінах, сярпы, шліфаваныя сякеры, наканечнікі дроцікаў і інш.), каменныя зерняцёркі, сякеры, гліняныя праселкі, рэшткі фігурак, пацеркі. Насельніцтвам ТКК маглі ўжывацца бронзавыя сякеры з закраінамі і пяткай. Самыя раннія комплексы з характэрнымі адзнакамі ТКК адзначаюцца на нізінах ад міжрэчча сярэдняй-ніжняй Віслы, ніжняй Варты да басейнаў сярэдняга Заходняга Буга і Нарава. Яны ўзніклі каля 1900 гадоў да н.э. ў выніку уніфікацыі і сінтэза шматлікіх культурных традыцый мясцовых груп позняга неаліту і ранняй бронзы (*культуры шарападобных амфар*, *культуры шнуравой керамікі*, культуры звонападобных амфар, івенскай культуры, груп субнеалітычнага ляснога неаліту). «Тшцінецкія» ідэі, традыцыі і адпаведны стыль жыцця распаўсюджваліся ў паўднёвым і ўсходнім накірунках, што прывяло да трансфармацыі мясцовых груп насельніцтва ляснога субнеаліту, культуры шнуравой керамікі, культуры шарападобных амфар, *сярэднедняпроўскай культуры*, *культуры шматвалікавай керамікі*. Найб. верагодна ў выніку працэса павольнай уніфікацыі на тэрыторыі Беларусі помнікі ТКК сфарміраваліся пасля 1700 гадоў да н.э. і развіваліся да к. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.:* Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Минск, 1976; Березанская С.С. Северная Украина в эпоху бронзы. Киев, 1982; Артеменко И.И. Сосницкая культура // Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987; Археология Прикарпатья, Волыни и Закарпатья (энеолит, бронза и раннее железо). Киев, 1990; Крывальцэвіч М.М. Помнікі тшцінецкага часу на поўдні Беларусі // ГАЗ. Мінск, 1995. № 6; Яго ж. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // Там жа. Мінск, 2006. № 22; Taras H. Kultura trzciniecka w międzyrzeczu Wisły, Bugu i Sanu. Lublin, 1995; Kryval'cevič M. Z badań nad kultura trzciniecka na Polesiu Białoruskim w dorzeczu Prypeci // Folia Praehistorica Posnaniensia. Poznań,1997. T. 8; «Trzciniec» – system kulturowy czy interkulturowy proces? Poznań 1998; Czebreszuk J. Schyłek neolitu i początki epoki brązu w strefie południowo-zachodniobałtyckiej (III i początki II tys. przed Chr.). Alternatywny model kultury. Poznań, 2001. Makarowicz P. Trzciniecki krąg kulturowy – wspólnota pogranicza Wschodu i Zachodu // Od neolityzacji do poczatkow epoki brązu. Przemiany kulturowe w Miedzyrzeczu Odry i Dniepru miedzu VI i II tys. przed Chr. Poznań, 2001. Górski J., Lysenko S., Makarowicz P. Radiocarbon Chronology of the Trzciniec Cultural Circle between the Vistula and Dnieper Basins // The Foundations of Radiocarbon Chronology of Cultures Between the Vistula and Dnieper: 4000–1000 BC // Baltic-Pontic-Studies. Poznań, 2003. Vol. 12; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008; Dąbrowski J. Powiązanie ziem polskich z terenami wschodnimi w epoce brązu. Wrocław etc., 1972; Kultura trzciniecka w Polsce. Kraków, 1987. Miśkiewicz J. Kultura trzciniecka // Prahistoria ziem polskich. Wrocław etc. T. 3. Wczesna epoka brązu.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**ТЫ́ГЕЛЬ** (ням. Tiegel), гліняная пасудзіна для выплаўкі бронзы, волава, свінцу, шкла. У Беларусі выкарыстоўваўся ў бронзаліцейнай вытворчасці з ранняга жал. веку. Меў форму конуса, звужанага ў бок донца (завостранага, круглаватага або плоскага) і шырокага ў верхняй частцы (круглай, радзей трохвугольнай у плане). Выш. 6–8 см, дыям. донца 2,5–3 см, венчыка 4–4,7 см, таўшч. сценак 1–1,6 см. Знойдзены цэлыя Т. і іх фр-ты на помніках мілаградскай, зарубінецкай, днепра-дзвінскай,штрыхаванай керамікі культур, на паселішчах 1-га тыс. н.э. (*Калочын, Тайманава, Хотамель, Банцараўшчына*), помніках эпохі Кіеўскай Русі (Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Мінск, Орша, Полацк, Слуцк, Тураў).

*Літ.:* Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч.1. Минск, 1970; Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры). Минск, 1971; Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII–VI вв. до н.э. – VIII в. н.э.). Минск, 1978; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985.

*М.І.Лашанкоў.*

**ТЫНКО́ЎКА**, слой тынку на паверхні канструкцыйных элементаў і частак будынкаў. Тынк – аддзелачная рошчына з сумесі вяжучых рэчываў (вапна, гіпс, гліна, цэгла, мармур, цэмент, пясок, вада і інш.). Вядома з часоў стараж. Егіпта. У Беларусі Т. вядома з жал. веку, калі сцены жытлаў абмазвалі глінай (гарадзішчы *Вязынка, Малышкі*). У 12 ст. для аддзелкі фасадаў *Віцебскай царквы Звеставання* і інш. пабудоў выкарыстоўвалася спец. дэкар. абмазка-тынкоўка. У к. 15 – 1-й пал. 16 ст. Т. апрацоўвалі толькі асобныя элементы фасадаў: нішы, часткі шчытоў, франтонаў (Мірскі замак, царква ў в. Мураванка Шчучынскага р-на). У 2-й пал. 16 ст. – 17 ст. Т. пакрывалі ўвесь фасад будынка, шырока ўжывалі у інтэр'ерах. На фасадах будынкаў Т. імітавалася рустоўка, фактурнай Т. вылучаліся філёнгі (палац Тызенгаўза ў Гродне). Акрамя звычайнага тынку сустракаецца

і дэкаратыўны (штучны мармур, сграфіта). Зверху Т. часта пакрывалі вапнавымі бялілямі з дадаткам мінеральных ці арганічных пігментаў – чырвонай і жоўтай вохры, свінцовага сурыку, драўнянага вугалю, кавальскага лаку і інш. Часам пігменты ўводзілі ў састаў тынку. *А.А.Трусаў.*

**ТЫПАМЕТРЫ́ЧНАГА АНА́ЛІЗУ МЕ́ТАД** у археалогіі, адзін з метадаў матэматычнай статыстыкі. Прымяняецца ў вывучэнні масавага рэчавага матэрыялу палеаіндустрый, заснаваных на шырокім выкарыстанні каменя (крэменю) у вытворчай дзейнасці чалавека. Накіраваны на распрацоўку дакладнай і аб'ектыўнай метрычнай класіфікацыі вырабаў, перш за ўсё, прадуктаў расшчаплення крэменю – адшчэпаў і пласцін. У Беларусі Т.а.м. упершыню быў прыменены В.Ф.Капыціным для вывучэння крамянёвага інвентару стаянкі *Бароўка* (на аснове метадаў «аналітычнай тыпалогіі», распрацаванай Ж.Лапласам). Сутнасць Т.а.м. заключаецца ў вызначэнні марфалогіі артэфакта: яго памераў, формы, рэльефу паверхні. У якасці аб'екта выступае выраб, які захоўвае цэласнасць і завершанасць сваёй формы. На падставе вымярэння прадмета ў 3 праекцыях (даўжыні, шырыні і таўшчыні) вызначаюцца тыпы па індэксу падоўжанасці – $I_a$ (суадносіны даўжыні да шырыні) і варыянты тыпаў па індэксу масіўнасці – $I_c$ (суадносіны таўшчыні да шырыні). Даныя апрацоўваюцца з дапамогай ЭВМ. Параўнанне сукупнасці матэрыялаў, атрыманых на падставе Т.а.м., дазваляе вызначыць марфалагічную розніцу ці падабенства паміж індустрыямі асобных помнікаў.

*Літ.*: Статистико-комбинаторные методы в археологии. М., 1970; Каменецкий И.С., Маршак Б.И., Шер Я.А. Анализ археологических источников. Возможности формализированного подхода. М., 1975; Копытин В.Ф., Морозов Н.П. Типометрический анализ продуктов расщепления кремня // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя. Магілёў, 1995. Ч. 1 (Археалогія). *А.У.Коласаў.*

**ТЫПО́ВАЙ ГРАБЕ́НЬЧАТА-Я́МКАВАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА**, грабеньчата-ямкавай керамікі культура, археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў 2-й пал. 4-га – 1-й пал. 3-га тыс. да н.э. жылі на тэр. паўд.-ўсх. Прыбалтыкі і паўн. Беларусі. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам. Будавала наземныя жытлы па берагах азёр і невял. рэчак. Сярод крамянёвых вырабаў найб. характэрны кароткія наканечнікі стрэл вербалістай або рамбічнай формы, дзіды з двухбаковай рэтушшу, а таксама нажы, скрабкі, разцы. Вядомы касцяныя і рагавыя прылады. Для культуры характэрны вял. з круглаватым донцам гаршкі, арнаментаваныя гарызантальнымі паясамі з глыбокіх круглых ямак і адбіткаў шыраказубага грэбеня, якія часам утваралі рамбічныя ўзоры; тоўстыя, добра абпаленыя сценкі керамікі з дамешкамі жарствы. У сярэднім неаліце плямёны Т.г.-я.к.к. змяшаліся з носьбітамі *нарвенскай культуры* і ўдзельнічалі ў фарміраванні *ўсвяцкай культуры.* На тэр. Беларусі найб. значныя помнікі *Скема*, паселішчы на р. Свольна, воз. Бярэшча.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997. *М.М.Чарняўскі.*


*К.П.Тышкевіч.*

**ТЫШКЕ́ВІЧ** Канстанцін Піевіч (17.2.1806, г. Лагойск Мінскай вобл. – 13.7.1868), беларускі археолаг, гісторык, этнограф, фалькларыст. Чл. Маскоўскага археал. т-ва (1864). Брат Я.П.*Тышкевіча.* Скончыў Віленскі ун-т (1828). У 1828–36 працаваў у міністэрстве фінансаў у Варшаве. Удзельнік паўстання 1830–31. З 1836 жыў у Лагойску, дзе разам з братам у 1842 заснаваў першы ў Беларусі музей старажытнасцей на аснове сабраных архіваў старaж. рукапісаў, калекцыі маст. твораў, унікальнай бібліятэкі. Адзін з заснавальнікаў *Віленскага музея старажытнасцей*, чл. *Віленскай археалагічнай камісіі.* Вынікі сваіх даследаванняў публікаваў у польскім штотыднёвіку «Przyjaciel Ludu» («Прыяцель народа», г. Лешна, 1843). У 1856 арганізаваў экспедыцыю па Віліі, дзе сабраў багаты этнагр., фальклорны і археал. матэрыял. Даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў Мінскай губ. Склаў першыя тапаграфічныя карты гарадзішчаў і замчышчаў (Заслаўе, Чашнікі, Ула, Лагойск, Баравы Млынок і інш.), атлас старaж. гарадзішчаў. Даследаваў курганы крывічоў і дрыгавічоў (каля Барысава, Лагойска і інш.). Курганы лічыў старадаўнімі пахаваннямі, а гарадзішчы – месцамі, дзе праводзіліся розныя абрады. Першы класіфікаваў знаходкі па тэхніцы і матэрыялах выканання і звёў іх у табліцы. У 1856 арганізаваў экспедыцыю па Віліі, вынікам якой стала краязнаўчая манаграфія «Вілія і яе берагі» (Дрэздэн, 1871). Раздзел кнігі «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі» (перавыданне 1868, Берлін; на польскай мове) прысвечаны помнікам старaж. пісьменнасці славян-яцвягаў, знойдзеным у 1864 у р. Буг каля г. Драгічын мясц. жыхаром Амбражэўскім. Гэта былі пломбы са слав. літарамі, відаць, гандл. пячаткі 10–14 ст., у выглядзе свінцовых пласцінак акруглай формы рознай велічыні ад 5,6 да 10 мм (20 экз.). Пра археал. знаходкі Т. пісаў у газ. «Новое время», якая выдавалася А.Кіркорам у Санкт-Пецярбургу ў 1868–71.

*Тв.*: О курганах в Литве и западной Руси. Вильна, 1865; Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno, 1859; Wilija i jej brzegi. Drezno, 1871; Über die heidnisehen Gräber des Russisch – Liteauens. Dorpat, 1870.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Очерк истории белорусской дореволюционной археологии и исторического краеведения до 60-х годов XIX в. // СА. 1967. № 4; Акуліч С. Музеі братоў Тышкевічаў // ПГКБ. 1971. № 2; Каратынскі В. Канстанцін Тышкевіч // Творы. Мінск, 1981; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарыч-

нае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984; Яго ж. Прадвесне навукі. Мінск, 1990; Каха080ўскі Г.А., Малаш Л.А., Цвірка К.А. Беларуская фалькларыстыка : эпоха феадалізму. Мінск, 1989.

*С.А.Акуліч, Г.А.Каханоўскі.*

**ТЫШКЕ́ВІЧ** Яўстафій Піевіч (18.4.1814, г. Лагойск Мінскай вобл. – 8.9.1873), беларускі археолаг, гісторык, этнограф, краязнавец, фалькларыст; адзін з заснавальнікаў бел. навук. археалогіі. Ганаровы чл. Пецярбургскай і Стакгольмскай АН, Лонданскага археал. ін-та. Брат К.П.Тышкевіча. Скончыў Мінскую гімназію (1831). З 1933 на службе ў канцылярыях віленскага, потым кракаўскага генерал-губернатара. З 1840 ганаровы апякун школ Барысаўскага пав. З 1842 у адстаўцы. У 1843 з мэтай археал. і гіст. даследаванняў наведаў Данію, Швецыю, Фінляндыю. У 1847 чл. Часовай камісіі па зборы і выданні стараж. актаў, грамат і прывілеяў 16–18 ст. гарадоў Мінскай губ. У 1848–54 куратар Мінскай гімназіі. У 1855 заснаваў *Віленскі музей старажытнасцей*, якому перадаў калекцыі ўласных збораў. Арганізаваў і ўзначаліў *Віленскую археалагічную камісію*. Даследаваў пахавальны інвентар крывіцкіх курганоў і першы ўказаў на іх асаблівасць – скроневыя кольцы ў жанчын. Вывучаў гарадзішчы, замчышчы ў Мінску, Слуцку, Друцку, Заслаўі, Лідзе, Крэве, Гальшанах, Міры. У сваёй археал. дзейнасці пераймаў вопыт вучоных Зах. Еўропы. Стварыў альбом, прысвечаны роду Тышкевічаў. Пасля паўстання 1863 пазбаўлены ўсіх пасад. Аўтар кніг «Погляд на крыніцы мясцовай археалогіі, або апісанне некаторых помнікаў старажытнасцей у Заходніх губернях Рускай дзяржавы» (1842), «Апісанне Барысаўскага павета» (1847), аповесці «Нашы краі» (1871, усе на польскай мове), успамінаў пра В.Ваньковіча, Я.Рустэма, І.Ходзьку і інш.

*Тв.*: Rzut oka na źródła archeologii krajowej... Wilno, 1842; Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim. Wilno, 1847; Listy o Szwecji. T. 1–2. Wilno, 1846; Badania archeologiczne nad zabytkami przedmiotów sztuki rzemiósł i t.d. w dawnej Litwie i Rusi Litewskej. Wilno, 1850; Nasze strony. Kraków, 1871; Archeologia na Litwie. Kraków, 1872.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Очерк истории белорусской дореволюционной археологии и исторического краеведения до 60-х годов XIX в. // СА. 1967. № 4; Карatынскі В. Яўстафій Тышкевіч // Творы. Мінск, 1981; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984; Карский Е.Ф. Белорусы. Т. 1 Вильна, 1904; Каханоўскі Г.А. Прадвесне навукі. Мінск, 1990; Kunasiewicz St. Eustachy T. Tyszkiewicz. Lwów, 1874.

*С.А.Акуліч, Г.А.Каханоўскі.*

**ТЭХНАЛАГІ́ЧНАГА АНА́ЛІЗУ МЕ́ТАДЫ** ў археалогіі, метады вывучэння спосабаў вытворчасці стараж. вырабаў, выяўлення прычынна-следчых сувязей паміж асобнымі тэхналагічна значнымі формамі ў прасторы і часе. Найб. пашыраны пры вывучэнні каменных індустрый, керамічнай вытворчасці, металаапрацоўкі, шкларобства і інш. Дазваляюць прасачыць паслядоўнасць тэхналагічных працэсаў – ад выбару зыходнай формы, спосабаў яе апрацоўкі і да вытворчасці гатовага вырабу. Вынікам Т.а.м. з'яўляецца вызначэнне агульных і адметных рыс у спосабах вытворчасці прадметаў, тэхналагічнага адзінства (кантэксту) розных форм індустрыі асобнага помніка. У палеатэхналагічных рэканструкцыях значнае месца займаюць эксперыментальныя метады, з дапамогай якіх мадэліруецца сітуацыя, максімальна набліжаная да рэальнай; метады рэтраспекцыі, якія дазваляюць аднавіць тэхналагічны працэс, марфалогію прадмета шляхам параўнання падобных па форме яе частак, даныя *трасалагічнага метаду, метады прыродазнаўчых навук*, якія дазваляюць вызначыць якасныя паказчыкі працэсу тэхналогіі.

*Літ.*: Бобринский А.А. Гончарство Восточной Европы. Источники и методы изучения. М., 1978; Технология древнейших производств. Ленинград, 1983; Генинг В.Ф. Древняя керамика: методы и программы исслед. в археологии. Киев, 1992; Экспериментально-трасологические методы в археологии. Санкт-Петербург, 1994; Семенов С.А., Коробкова Г.Ф. Цетлин Ю.Б. Проблемы научного эксперимента в изучении древнего гончарства // РА. 1995. № 2; Гиря Е.Ю. Технологический анализ каменных индустрий. Методика микро- макроанализа древних орудий труда. Ч. 2. Санкт-Петербург, 1997; Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002; Поплевко Г.Н. Методика комплексного исследования каменных индустрий. Санкт-Петербург, 2007.

*А.У.Коласаў.*

**ТЭ́ХНІКІ СКО́ЛУ АНА́ЛІЗ**, метады вывучэння прыёмаў формаўтварэння, т.зв. тэхналагічнай сувязі паміж спосабам прыкладання сілы на апрацаваны прадмет, характарам падрыхтоўкі месца яе прыкладання і атрыманай формай выраба. Прымяняецца пераважна ў рэканструкцыі тэхналогіі расшчаплення каменных індустрый. Найб. распаўсюджанымі былі 2 асн. спосабы сколвання: з дапамогай тэхнікі ўдара (імпульснае ўздзеянне на прадмет з адбойнікам), адціскной тэхнікай (ўздзеянне на прадмет сілай ціску з прымяненнем аджымніка). Для Т.с.а. выключнае значэнне маюць форма і памеры ўдарнага бугарка і рудыментаў ударнай пляцоўкі, характар ударнай хвалі, сляды падрыхтоўкі ўдарнай пляцоўкі нуклеуса, рэльеф (агранка) дарсальнай паверхні, метрычныя паказчыкі, профіль скола і інш.

*Літ.*: Волков П.В., Гиря Е.Ю. Опыт исследования техники скола // Проблемы технологии древних производств: сб. науч. тр. Новосибирск, 1990; Гиря Е.Ю. Технологический анализ каменных индустрий. Методика микро-макроанализа древних орудий труда. Ч. 2. Санкт-Петербург, 1997; Поплевко Г.Н. Методика комплексного исследования каменных индустрий. Санкт-Петербург, 2007.

*А.У.Коласаў.*




**У́БЕЛЬСКАЯ СЯДЗІ́БА МАНЮ́ШКАЎ**, помнік археалогіі. Існавала ў 2-й пал. 18 – пач. 20 ст. у б. фальварку Убель на тэр. сучаснага Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. У 1791 маёнтак набыў С.Манюшка (дзед кампазітара), а ў 1815 сядзіба перайшла да яго сына Чэслава. Тут у 1819 нарадзіўся кампазітар Станіслаў Манюшка. У 2-й пал. 19 ст. сядзіба стала ўласнасцю Дзікоўскіх, затым Азямблоўскіх. Пасля 1917 у доме Манюшкаў знаходзілася школа. Спалены падчас Вял. Айч. вайны 1941–45. Аб вонкавым выглядзе сядзібы даюць уяўленне гравюры Н.Орды. Усе пабудовы былі драўлянымі. Цэнтр. месца займаў 1-павярховы, прамавугольны ў плане дом з мезанінам. На гал. фасадзе вылучаўся 4-калонны порцік з 3-вугольным франтонам. За домам знаходзіліся пейзажны парк, капліца-пахавальня і гасп. пабудовы. Археал. даследаванні на месцы У.с.М. праводзіў у 1993 В.Е.Собаль. Быў выяўлены падмурак сядзібнага дома таўшч. 0,6 м, складзены з невял. камянёў памерам 8–15 см, не змацаваных рошчынай, які захаваўся на выш. 0,25–0,4 м. Драўляны будынак памерамі 15 × 10 м, павернуты гал. фасадам на Пд, быў пабудаваны на неабжытым месцы. Каля падмурка раскапаны рэшткі порціка памерамі 7 × 2 м. Захаваліся кавалкі пліт пад калоны і рэшткі цаглянай муроўкі ганка. Дом падзяляўся папярочнай перагародкай на 2 палавіны, у кожнай з якіх стаяла кафляная печ. За час існавання будынка печы тройчы рамантаваліся. У к. 19 – пач. 20 ст. яны былі абкладзены новай кафляй з гладкай вонкавай пласцінай, пакрытай белай эмаллю. На адной з кафляў захавалася кляймо ганчарнага завода І.Авербуха, які працаваў у Мінску ў 1897–1910. У пач. 20 ст. гонтавы дах дома быў заменены бляшаным. Вокны былі зашклёны празрыстым шклом зялёнага колеру. Падлога была драўлянай. За 10 м на З ад дома знойдзены рэшткі вяндлярні (на гравюры Н.Орды 1867 – вежападобнае збудаванне злева ад дома. Яе падмурак памерамі 3 × 4 м капцільні складзены з 3–4 радоў чырвонай цэглы-пальчаткі памерамі 31–31,5 × 14–14,5 × 7–7,5 см. Такая цэгла выкарыстоўвалася ў каменным будаўніцтве Беларусі да к. 18 ст. За 47 м на У ад канадскай таполі, якую пасадзіў С.Манюшка, расчышчаны рэшткі брукаванай дарогі 20 ст. Пры раскопках сабрана калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры к. 18 – пач. 20 ст., якая налічвае 236 цэлых і фрагментарных вырабаў. Жыхары дома для гатавання ежы карысталіся чырвонагліняными гаршкамі з валікападобным венцам і пукатым тулавам. Наяўнасць сажы на донцах сведчыць аб іх выкарыстанні на агні. Некаторыя з гаршкоў мелі гліняныя накрыўкі. Сталовы посуд прадстаўлены гліняными міскамі дыям. 20–22 см з амаль вертыкальнымі борцікамі. Некаторыя з іх пакрыты палівай светла-карычневага і зялёнага колеру і ўпрыгожаны ўзорамі, нанесенымі фарбай інш. колеру. Асобныя чорнаглянцаваныя міскі і збаны былі аздоблены геам. узорам у выглядзе спіралей, промняў і рамбічнай сеткі. У сям'і Манюшкаў карысталіся ў 19 ст. фаянсавымі талеркамі і спадачкамі. На донцах некаторых з іх стаяць клеймы ганчарных заводаў Расіі і Польшчы. Шкляны посуд уключае фр-ты келіхаў і шклянак з празрыстага бясколернага шкла, а таксама бутэлек з увагнутым дном. Металічныя прадметы прадстаўлены фр-там жал. касы, чыгуннага катла з заводскім кляймом к. 19 – пач. 20 ст., каванымі цвікамі. Унутры дома знойдзены касцяны сцізорык для рэзання паперы, завостранае з абодвух бакоў лязо якога мае шыр. 2 см і даўж. 8 см. Дзяржальца сцізорыка даўж. 5,5 см упрыгожана разьбой. *В.Е.Собаль.*

**УВА́РАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы, селішчы, курганны могільнік каля г. п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча-1 *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры.* На паўд. ускраіне гар. пасёлка, ва ўр. Гарадок, на мысе карэннай правабярэжнай тэрасы р. Уза. Пляцоўка падпрамавугольная памерамі 65 × 67 м, выш. 8 м

над поплавам. З трох бакоў умацавана валам, які захаваўся на выш. да 2 м, шыр. у аснове да 9–10 м, з У і З захаваліся сляды рову шыр. да 2–3 м, глыб. да 1 м. Помнік вядомы з 1910, неаднаразова абследаваўся. У 1988–90 даследаваў А.І.Драбушэўскі. Культ. пласт 1,2–1,3 м. Паводле стратыграфічных даных вылучаны 3 асн. буд. перыяды (верхні – зарубінецкі, 2 ніжнія – мілаградскія). Выяўлены рэшткі 5 пабудоў (2 з іх зарубінецкай культуры), некалькі дзесяткаў гасп. і слупавых ям. Амаль у цэнтры пляцоўкі даследаваны рэшткі доўгага дома, аналагічнага найб. тыповым жылым пабудовам *юхнаўскай культуры* Падзясніння, з уплывам якой звязаны знаходкі «рагатых цаглін» і некаторых форм глінянага посуду. Знойдзены рэшткі бронзаліцейнай вытворчасці – абломкі домніц, тыгляў, льячак, ліцейных форм для адліўкі бранзалетаў, кавалкі шлакаў і інш. У адной з пабудоў выяўлены невял. скарб бронзавых упрыгажэнняў, у складзе якога была літая фігурка каня. Знойдзеныя матэрыялы сведчаць пра больш шырокі характар кантактаў насельніцтва Бел. Падняпроўя і Падзясніння ў 1-м тыс. да н.э., чым лічылася раней, і пра тое, што ў раннім жал. веку гарадзішча з'яўлялася важным гандлёвавытворчым цэнтрам Верхняга Падняпроўя. Датуецца 7 ст. да н.э. – 1 ст. н.э.

Гарадзішча-2 за 1 км на У ад гар. пасёлка. Пляцоўка амаль квадратная, памеры 90 × 80 м, з закругленымі вугламі і выпуклымі бакамі. Па ўсім перыметры насыпаны вал. З трох бакоў гарадзішча ўмацавана ровам глыб. 1–1,5 м, шыр. 6–9 м, з 4-га боку – балоцісты поплаў р. Уза. З боку поля выш. гарадзішча 4–6 м, з боку поплава 8–9 м. У 1893 выявіў і абследаваў Е.Р.Раманаў, у 1976 абследаваў Я.Г.Звяруга.

Селішча-1 за 0,2 км на Пд ад р. Уза. У 1962 выявіў Л.Д.Побаль. Знойдзены кальцыніраваныя косткі, кераміка 1-й–2-й пал. 1-га тыс. і інш.

Селішча-2 за 2,5 км на Пд ад гар. пасёлка. Займае схіл правабярэжнай тэрасы р. Уза на полі. У 1981, 1993 абследаваў А.А.Макушнікаў. Пл. памерамі каля 100 × 60 м. Знойдзена кераміка жал. веку 12–13 ст.

Курганны могільнік за 0,5 км на Пд ад гар. пасёлка, на левым беразе р. Уза. 34 насыпы выш. 0,5–1,7 м, дыям. 5–12 м (раней было 150 насыпаў). У к. 19 ст адкрыў Е.Р.Раманаў, у 1892 даследаваў мясцовы настаўнік, у 1976 абследаваў Я.Г.Звяруга. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. Знойдзены падвескі, нож, гліняны гаршчок, арабскія манеты 933 г. Датуецца к. 10 – пач. 12 ст.

*Літ.*: Заметка Е.Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно IX археологического съезда. Вильна, 1893; Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910; Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983.

*А.І.Драбушэўскі, А.А.Макушнікаў.*

**УВА́РАЎ** Аляксей Сяргеевіч (28.2.1825–29.12. 1884), расійскі археолаг і арганізатар навукі. Граф, сын дзярж. дзеяча, прэзідэнта Расійскай АН С.С.Уварава. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1845), вучыўся ў Берліне і Гейдэльбергу. Адзін з заснавальнікаў Рус. археал. т-ва, Маскоўскага археал. т-ва (з 1864 яго старшыня) і Гіст. музея ў Маскве, адзін з арганізатараў археал. з'ездаў у Расіі. За свой кошт заснаваў Увараўскія прэміі пры Акадэміі навук (1857). У 1851–54 раскапаў 7729 курганоў ва Уладзімірскай і Маскоўскай губернях, у 1853–54 раскопваў Ольвію, Херсанес, Неапаль-Скіфскі. Ініцыятар выдання палеаграфічных зборнікаў надпісаў, «Археалагічнага сінодзіка», альбома старажытнасцей Ноўгарада, Пскова і інш., складання інструкцыі для раскопак, даследаванняў крывіцкіх курганоў. У 1880 зацікавіўся срэбранікамі кн. Уладзіміра, знойдзенымі на Магілёўшчыне, і раскапаў там 17 курганоў.

*Тв.*: Археология России. Каменный период. Т. 1–2. М., 1881; [О монетах из Вотни]//Древности: тр. Московского Археол. о-ва. 1880. Т. 8 (протоколы).

*Літ.*: Богомольников В.В., Равдина Т.В. О находках монет из Вотни (Верхний Днепр)//СА. 1979. № 2; Головацкий Я. Археологические раскопки курганов, произведенные графом А.С.Уваровым в имении Вотне Могилевской губернии // Виленский вестн. 1880. № 228; Незабвенной памяти графа А.С.Уварова. М., 1885.

*У.У.Багамольнікаў.*

**УЗБРАЕ́ННЕ ЗАСЦЕРАГА́ЛЬНАЕ**, сукупнасць матэрыяльных сродкаў, прызначаных для абароны ваяра ад паражэння зброяй праціўніка. У.з. падзяляецца на *шчыты*, сродкі аховы тулава і канечнасцей – колкавыя, пласцінкавыя і пласцінныя даспехі, сродкі аховы галавы – *шлемы*. Эвалюцыя У.з. звязана з развіццём наступальнай зброі. Кожная істотная змена сродкаў нападу выклікала адпаведныя змены У.з. Адначасова развіццё У.з. было напрамую звязана са зменай стыляў і традыцый у тагачасным строі. Выкарыстанне прасцейшых форм У.з. (напр., мяккіх даспехаў) пачынаецца ў глыбокай старажытнасці. Найб. стараж. археал. знаходкі элементаў У.з. на тэр. Беларусі належаць да жал. веку і ранняга сярэдневякоўя – *умбоны* шчытоў культуры ўсх.-літ. курганоў, фр-т кальчугі 7–8 ст. (гарадзішча Нікадзімава Горацкага р-на). Шырокае распаўсюджанне разнастайных відаў У.з. на тэр. Беларусі пачынаецца ў 10 ст. На працягу стараж.-рус. перыяду (10–13 ст.) набор сродкаў У.з. насельніцтва Беларусі складаўся са шчытоў розных форм і памераў, шэрагу тыпаў шлемаў, *кальчуг* і пласціністых даспехаў. З к. 14 ст. пачынаюць распаўсюджвацца пласцінiстыя даспехі, выраблены

з буйных частак, якія маглі прыкрываць ваяра з ног да галавы. З 15 ст. практыкуецца выкарыстанне спецыяльных даспехаў для баявых коней. Акрамя металічнага У.з. (шлемы розных тыпаў, колкавыя панцыры, пласцінавыя, пласцінкавыя і камбінаваныя пласцінкава-колкавыя даспехі), у 16—17 ст. шырока ўжываліся неметалічныя даспехі — цягіляі, ватаваныя зіпуны і кафтаны, пакрыцці тулава з моцнай скуры. З 17 ст. ў сувязі з удасканаленнем агнястрэльнай зброі У.з. паступова губляе сваё значэнне, на працягу 18 ст. яно практычна выцясняецца з баявога ўжытку, хоць асобныя яго элементы ў выглядзе розных варыянтаў аховы галавы (каскі) і торса (бронскамізэлькі) зноў увайшлі ў вайсковую практыку на пач. 20 ст. і захаваліся да нашых дзён.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008; Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX—XIII вв. Ленинград, 1971; Плавінскі М.А. Засцерагальнае ўзбраенне IX—XIII ст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**УЗГО́РКІ КУ́ЛЬТАВЫЯ**, язычніцкія культавыя помнікі. На тэр. Беларусі ў старажытнасці культавае значэнне мелі асобныя ўзгоркі. Захаваліся назвы Красная горка, Дзявочая гара, Бабіна гара, Лысая гара, Святая гара, Перунова гара, Валова гара, Турава гара, Змяінава гара, Мар'іна горка і інш. Ланцуг узгоркаў з назвай Туравы горы размешчаны каля в. Іканы Барысаўскага р-на Мінскай вобл. Узгоркі з назвай Туравы горы вядомы ў г. Мсціслаў (гарадзішча жал. веку), у в. Дубрава Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. (курганы 2-й пал. 11 ст.) і інш. Узгоркі з назвамі Святая гара ёсць каля в. Скірмантава Дзяржынскага р-на Мінскай вобл., в. Плябань Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. і інш. Каля в. Свяціца Полацкага р-на Віцебскай вобл. існуе ўзгорак Талкачоўка, на якім палілі купальскія вогнішчы. Пасля прыняцця хрысціянства на У.к. нярэдка ставілі цэрквы, каб нейтралізаваць язычніцкія традыцыі. Узгоркі сталі выконваць функцыі *прошчаў*.

*Літ.*: Иванов В.В., Топоров В.Н. Исследования в области славянских древностей. М., 1974; Рыбаков Б.А. Язычество древних славян. М., 1981; Яго ж. Язычество Древней Руси. М., 1987. *Э.М.Зайкоўскі.*

**УЗЛЯ́ЖЖА**, археалагічныя помнікі — паселішчы эпохі неаліту і бронзавага веку на пойме р. Гарынь, на Пн ад в. Узляжжа Столінскага р-на Брэсцкай вобл. У 1988, 1991 абследавалі В.С.Вяргей, М.М.Крывальцэвіч, В.Я.Кудрашоў. У 1992, 1994 даследаваў М.М.Крывальцэвіч.

Паселішча-1 эпохі неаліту і бронзавага веку за 0,7 км на Пн ад вёскі, на поймавым узвышшы «Сараі». Культ. пласт 0,4—0,9 м. Знойдзены сляды крамянёвай вытворчасці (сколы, адшчэпы, лускавінкі, нуклеусы, сколы падпраўкі і інш.), кераміка неалітычнага перыяду і тшцінецкай культуры.



*Да арт. **Узляжжа**. Рэканструкцыя ляпнога гаршка позняга неаліту з паселішча-4.*

Паселішча-2 эпохі неаліту за 0,25 км на ПнЗ ад паселішча-1, на пясчаным ўзвышшы «Кашара». Культ. пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены сляды крамянёвай вытворчасці (адшчэпы, сколы, лускавінкі, нуклеус), крамянёвая трапецыя, фр-ты неалітычнай керамікі, у т. л. з дамешкам ракавін.

Паселішча-3 эпохі неаліту (?) на Пн ад вёскі, на выцягнутым пойменным узвышшы «Мысэк», каля зліцця азёр Віры і Доўжак. Культ. пласт 0,25—0,4 м. Знойдзены сляды крамянёвай вытворчасці (адшчэпы, асколкі, скол падпраўкі нуклеуса і інш.), крамянёвая пласцінка з рэтушшу, фр-ты ляпной керамікі.

Паселішча-4 позняга неаліту за 1,5 км на Пн ад вёскі, на правабярэжнай пойме р. Гарынь, у месцы зліцця азёр Доўжак і Лібень. У 1991 абследавалі М.М.Крывальцэвіч, В.С.Вяргей, В.Я.Кудрашоў. У 1992, 1994 даследаваў 38 м² М.М.Крывальцэвіч. Культ. пласт да 0,3 м. Знойдзена авальнай формы яма (памеры 1,75 × 0,6 м, глыб. 0,25 м) з крамянёвымі вырабамі (абломак прышліфаванай сякеры, адшчэп з рэтушшу, сколы падпраўкі нуклеуса і інш.), фр-тамі посуду. У раскопе сустракаліся крамянёвыя вырабы з другаснай (скрабкі, скоблі, праколкі, мікрапласцінкі, абломкі чаранка дроціка, прышліфаванай сякеры і інш.) і першаснай апрацоўкай. Знойдзена больш за 160 фр-таў керамікі неалітычнага перыяду, у т.л. позняга неаліту з дамешкам шамоту, арнаментаванай лінейнымі штампамі, насечкамі, шнуравымі адбіткамі. *М.М.Крывальцэвіч.*

**УЗНО́СНАЕ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Узноснае Талачынскага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі. 4 насыпы выш. 0,7—1,2 м, дыям. 6—8 м, дрэннай захаванасці. Па звестках мясц. жыхароў, курганоў

было больш. У 1956 адкрыў Л.В.Аляксееў, ў 1971 даследавала З.М.Сяргеева, абследавалі ў 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 В.М.Ляўко. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў яме, на гарызонце і ў насыпе. Знойдзены жал. нажы, крэсіва, бронзавыя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, пражкі, бранзалет, шкляныя пацеркі, гаршчок з лінейным арнаментам. Датуецца 11–12 ст.

*Літ.*: Сергеева З.М. Раскопки курганов в Толочинском районе (БССР) // КСИА. 1972. Вып. 129.

*В.М.Ляўко.*

**У́КЛЯ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і курганны могільнік каля в. Укля Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча за 1 км на Пн ад вёскі, на беразе воз. Укля, ва ўр. Тарылава. Выш. 20 м. Пляцоўка авальная, памерамі 60 × 40 м. Выявіў у к. 19 ст. Ф.В.Пакроўскі. Абследавалі ў 1972 М.М.Чарняўскі, у 1976 і 1980 Л.У.Дучыц. Культ. пласт 1 м. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду *днепра-дзвінскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры*, касцяныя праколкі, косткі жывёл. Датуецца 7 ст. да н.э. – 4 ст. н.э.

Курганны могільнік за 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Валатоўкі, у лесе. 135 насыпаў выш. 0,5–0,6 м, дыям. 5–6 м. Даследавалі ў к. 19 ст. Ф.В.Пакроўскі (11 насыпаў), у 1987–88 Л.У.Дучыц (15 насыпаў). Пахавальны абрад – трупапалажэнне на мацерыку (адно пахаванне з трупаспаленнем). Знойдзены нажы, сякеры, калачападобныя крэсівы, утулкавы наканечнік кап'я, лірападобная спражка, плецены пярсцёнак, вайнагі, вітыя, зааморфныя і манжэтападобныя бранзалеты, падкованападобныя фібулы, ланцужкі, сінія шкляныя, золата- і сярэбранашкляныя пацеркі, грушападобныя званочкі, каралі са шкляных пацерак у спалучэнні са званочкамі, гліняны посуд. Датуецца 11–12 ст.

*Л.У.Дучыц.*




*Жаночыя ўпрыгажэнні з курганнага могільніка* ***Укля.***

**УКРА́ІШЧА**, археалагічны помнік – паселішча эпохі неаліту каля в. Украішча Лёзненскага р-на Віцебскай вобл. Знаходзіцца за 1,5 км ад вёскі, на левым беразе безназоўнай рэчкі, якая ўпадае ў р. Лучоса (прыток Зах. Дзвіны). Выявіў і даследаваў 112 м² у 1969 І.М.Ціханенкаў. Культ. пласт 0,2–0,4 м, у значнай ступені разбураны. Знойдзена больш за 30 скрабкоў рознай формы (10 канцавых, з іх адзін пласціністы, астатнія на адшчэпах), 2 скоблі, 20 праколак (пераважна на пласцінiстых адшчэпах), 20 разцоў (вуглавыя, сярэдзінныя і бакавыя), 18 нажападобных пласцін, 15 мікрапласцінак, 41 сячэнне пласціны, 2 трапецападобныя ўкладышы, 3 сякеры (з іх адна крамянёвая). Кераміка з арганічнымі дамешкамі ці пяском у цесце, з прамымі венчыкамі, пераважна неарнаментаваная частка аздоблена адбіткамі грабянцовага штампа (у адным выпадку шнура), адступаючай палачкі, вусеневымі ўзорамі. Паселішча адносіцца да бабінавіцкага тыпу помнікаў.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**УЛА́ШЧЫК** Мікалай Мікалаевіч (14.2.1906, в. Віцкаўшчына Дзяржынскага р-на – 14.11.1986), беларускі гісторык, археограф, археолаг і краязнавец. Д-р гіст. навук (1964). Скончыў БДУ (1929). У час вучобы выязджаў на раскопкі на Свіслач, ва Усх. Палессе. Разам з М.В.Доўнар-Запольскім удзельнічаў у даследаванні гарадзішча *Банцараўшчына.* У часопісе «Наш край» выступаў з публікацыямі пра гарадзішча і ўмацаваны замак 16 ст. ў Койданаве. У 1930–55 быў тройчы рэпрэсіраваны. Працаваў настаўнікам у РСФСР і Сярэдняй Азіі. У 1948–49 працаваў у Маскоўскім дзярж. ун-це. З 1955 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН СССР, чл. Археал. камісіі АН СССР. Даследаваў праблемы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі і Літвы, працаваў у галіне археаграфіі і крыніцазнаўства эпохі феадалізму. Падрыхтаваў і выдаў 32-і (1975) і 35-ы (1980) тамы «Поўнага збору рускіх летапісаў», «Хроніку Быхаўца». Аўтар успамінаў пра А.М.Ляўданскага, М.В.Доўнар-Запольскага, С.С.Шутава і інш.

*Тв.*: О количестве земли, полученной крестьянами Белоруссии и Литвы при отмене крепостного права // История СССР. 1961. № 6; Грамотность в дореволюционной Белоруссии // Там жа. 1968. № 1; Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965; Хроніка // Скарыніч: літ.-навук. гадавік. Мінск, 1991. Вып. 1.

*Г.А.Каханоўскі.*

**УМБО́Н**, выпуклая металічная накладка, звычайна размешчаная па цэнтры *шчыта.* Часцей за ўсё У. з'яўляўся элементам шчытоў, у цэнтры якіх ра-



*Умбоны культуры ўсходнелітоўскіх курганоў: 1 – Слабодка, 2 – Засвір, 3 – Каробкі (Шыманелі).*

білася круглая адтуліна, якую ён закрываў. Унутры адтуліны змяшчалася кісць рукі, якая сціскала рукаяць шчыта. У Еўропе бронзавыя У. былі вядомы ў раннім жал. веку. На тэр. Беларусі выкарыстанне жал. У. фіксуецца ў 5–7 ст. у культуры ўсх.-літ. курганоў. Яны мелі паўсферычную ці цыліндраканічную форму з палямі, упрыгожанымі па краі т.зв. «жамчужным» арнаментам, мацаваліся да круглых шчытоў пры дапамозе цвікоў. Выяўлены ў курганных могільніках Засвір, Чорная Лужа, Слабодка і Каробкі Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. Верагодна, У. таксама былі пашыраны на круглых шчытах у 10–11 ст., хаця археал. знаходкі гэтага часу не вядомы. Не выключана, што У. працягвалі выкарыстоўвацца і ў 12–13 ст., што пацвярджаецца іканаграфічнымі крыніцамі.

*Літ.*: Казакявичюс В. Оружие балтских племен II–VIII веков на территории Литвы. Вильнюс, 1988; Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX–XIII вв. // САИ. 1971. Вып. Е1-36; Плавінскі М.А. Засцерагальнае ўзбраенне IX–XIII стст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Kontny B. Broń z cmentarzyska kultury kurhanów wshodniolitewskich w Słobódce (?) na Białorusi w świetle podobnych odkryć // Barbaricum. Warszawa, 2004. T. 7. *М.А.Плавінскі.*

**УНУТРЫВА́ЛЬНЫЯ КАНСТРУ́КЦЫІ**, штучныя збудаванні з дрэва, каменю, цэглы, гліны і інш., якія размяшчаліся ўнутры насыпу абарончага вала для яго арміравання і прадухілення прасадкі, апаўзання. Мураваныя ўнутрывальныя хады-галерэі дазвалялі непрыкметна перамяшчаць на розныя ўчасткі абароны воінаў гарнізона. На тэр. Беларусі У.к. выкарыстоўваліся ў 11–17 ст. Першыя з іх былі драўлянымі, зафіксаваны 2 тыпы – зрубавыя і перакладныя, т.зв. руставай канструкцыі. Зрубавыя выявіў у 1963 П.Ф.Лысенка пры прарэзцы вала вакольнага горада летапіснага Пінска. У земляным вале, які ў час узвядзення (сяр. 11 ст.) меў шыр. каля 30 м і выш. да 8 м, знойдзены рэшткі зрубаў. Яны стаялі ўпоперак трасы вала па 3 у рад, прыстаўленыя адзін да аднаго. Даўж. кожнага зруба больш за 6 м, агульная даўж. ўсіх трох – больш за 19 м. Параметры вала і У.к. адпавядаюць параметрам кіеўскага «горада Яраслава» (сяр. 11 ст.). Паколькі інш. У.к. зрубавага тыпу ў Беларусі не знойдзена, можна меркаваць, што да ўзведзеных у паўд.-рус. традыцыях У.к. у Пінску прамое дачыненне мелі ваенныя майстры з Кіева. У 1937–39 Р.Якімовіч выявіў у Давыд-Гарадку драўляныя У.к. пач. 12 ст. ў выглядзе насцілаў выш. каля 1 м, ганкападобна размешчаных у насыпе вала. У вале стараж. Мінска, які даследавалі ў 1980–82 Г.В.Штыхаў і ў 1983 Э.М.Загарульскі, захаваліся У.к. «руставага» тыпу. Насып вала быў арміраваны спец. каркасам з хваёвых бярвён, пакладзеных на адлегласці 0,7 м адно ад аднаго ўздоўж і ўпоперак трасы вала. Зафіксавана да 9 накатаў. У 12 ст. першапачаткова вал шыр. каля 15 м павялічылі да 22–25 м. Адпаведна ў ім зрабілі У.к. т.зв. крукавай канструкцыі – бярвёны фіксаваліся і стапарыліся спец. вырубкамі. «Крукавая» У.к. ў Беларусі выяўлена толькі ў Мінску. Перакладныя У.к. «руставага» тыпу знойдзены ў 1978–79 і 1989 М.А.Ткачовым і Л.У.Калядзінскім у вале стараж. Віцебска. Яны мелі выгляд рашэцістага каркаса з хваёвых бярвён шыр. 16 м і выш. каля 1,4 м. Прасветы паміж бярвёнамі былі запоўнены вязкай глінай. Падобныя У.к. выявіў у 1956 А.Р.Мітрафанаў у вале стараж. Полацка. У насыпах валоў для іх арміравання выкарыстоўвалі таксама валуны, гліняныя «каўбасы», фашыны, палевыя і слупавыя канструкцыі для ўмацоўвання ядра вала або яго знешняга схілу. У бастыённых збудаваннях 16–17 ст. рабілі скляпеністыя мураваныя У.к. – баявыя хады. Яны былі ў Нясвіжскім, Высокаўскім, Каралінскім замках.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мінск, 1978; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982. *М.А.Ткачоў.*

**УРА́ГАВА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча днепра-дзвінскай і банцараўскай культур жал. веку і селішча каля в. Урагава Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча за 1 км на Пн ад вёскі, на зах. беразе Асвейскага воз., на ўзгорку выш. 12–15 м сярод забалочанага поплаву. Пляцоўка авальная, памерамі 70 × 40 м. З усх. боку – вал і роў, з зах.– 2 валы і 3 равы. Вядома з к. 19 ст. Даследавалі ў 1949 А.Р.Мітрафанаў, 1965–66 К.П.Шут, 1979 В.І.Шадыра. Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі 0,5–0,7 м, па краях 1–1,5 м, складаецца з 2 гарызонтаў: 7 ст. да н.э.– 4 ст. н.э. і 5–8 ст. н.э. У верхнім гарызонце выяўлены рэшткі наземных жытлаў слупавай канструкцыі з каменнымі агнішчамі ў цэнтры, гасп. пабудоў, жалеза-

апрацоўчай майстэрні, у ніжнім – шмат костак жывёл, розных вырабаў з каменю і косці. Сярод знаходак прылады працы пераважна з косці (праколкі, шпількі, шылы, іголкі, долаты і інш.), жал. нажы, сярпы, наканечнікі стрэл, бранзалеты, каменныя сякеры. Кераміка ў асн. танкасценная слоікападобных форм, у верхніх пластах – гладкасценнная прафіляваная. Знойдзены посуд з шурпатай (аблітай) паверхняй, гліняныя прасліцы, тыглі, льячкі. Насельніцтва займалася жывёлагадоўляй (костак буйной рагатай жывёлы каля 44%, дробнай 14%, свіней каля 2,5%), паляваннем, рыбалоўствам, земляробствам.

Селішча знаходзіцца на ПдУ ад гарадзішча. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985. *В.І.Шадыра.*

**У́РНЫ ПАХАВА́ЛЬНЫЯ**, гліняныя, каменныя, металічныя пасудзіны для пахавання крэміраваных астанкаў нябожчыка. Пашыраны ў многіх народаў Еўропы эпохі позняй бронзы. Ставіліся ў курганах, грунтавых могільніках. На тэр. Беларусі ў якасці У.п. выкарыстоўвалі звычайныя пасудзіны, якія ўжываліся ў штодзённым жыцці (пераважна гаршкі), радзей грубаляпныя пасудзіны. Найб. раннія У.п. знойдзены на могільніку *Нача* і могільніках *тшцінецкай культуры* Зах. Палесся. Першыя урнавыя пахаванні ў Беларусі з'явіліся ў жал. веку (400–100 да н.э.) і адносяцца да культуры падклёшавых пахаванняў. Знойдзены ў грунтавых могільніках *Ратайчыцы* і *Трасцяніца* Камянецкага р-на. Звычай змяшчаць рэшткі крэмацыі ў У.п. пашырыўся ў плямён *зарубінецкай культуры* і складаў 8% ад агульнай колькасці іх пахаванняў. У 1-й чв. 1 ст. н.э. гэты звычай распаўсюдзіўся ў *калочынскай культуры* і складаў 7–12% пахаванняў, у культуры доўгіх курганоў – 23%. Звычай пахавання ва урнах існаваў у дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў да пашырэння хрысціянства.

*Гліняныя **пахавальныя урны** з доўгіх курганоў могільніка Дарахі Расонскага раёна.*





*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Зарубинецкая культура // САИ. 1964. Вып. Д1–19; Монгайт А.Л. Археология Западной Европы: бронзовый и железный века. М., 1974; Седов В.В. Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982. *А.А.Егарэйчанка.*

**У́САВА** (Вусава), археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, крэменеапрацоўчая майстэрня, селішчы эпохі сярэдневякоўя каля в. Вусава Гродзенскага р-на. Выявілі і даследавалі ў 2005 В.С.Абухоўскі, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі у час абследавання зоны рэканструкцыі Аўгустоўскага канала.

Стаянка-1 фінальнага палеаліту, мезаліту, неаліту і бронзавага веку, селішча эпохі сярэдневякоўя на паўн. ускраіне вёскі, на высокай тэрасе правага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 3–4 м над узроўнем вады. Памеры 300 × 70 м. Частка помніка ўздоўж канала знішчана землянымі работамі. Пры абследаванні знойдзены 2 аднапляцовачныя крамянёвыя нуклеусы, сабрана шматлікая калекцыя прадуктаў першаснага расшчаплення, 4 фр-ты ганчарнай керамікі.

Стаянка-2 фінальнага палеаліту, мезаліту, крэменеапрацоўчая майстэрня неаліту і бронзавага веку насупраць стаянкі-1, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 5–6 м над узроўнем вады. Памеры 160 × 70 м. Частка помніка ўздоўж канала знішчана землянымі работамі. У час разведак з паверхні сабрана шматлікая калекцыя вырабаў з пашкоджанай крэменеапрацоўчай майстэрні: 2 аднапляцовачныя і шматпляцовачны нуклеусы, 112 адшчэпаў, 9 пласціністых адшчэпаў, 12 лускавін, 18 абломкаў, 56 пласцін, 2 сколы падпраўкі пляцоўкі нуклеусаў.

Стаянка-3 каменнага і бронзавага вякоў, селішча эпохі позняга сярэдневякоўя насупраць паўн. ускраіны вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 3–4 м над узроўнем вады. Памеры 120 × 60 м. Часткова пашкоджана землянымі работамі. Знойдзена 20 крамянёвых вырабаў першаснай апрацоўкі, 6 фр-таў ганчарнай керамікі.

Стаянка-4 каменнага веку за 0,3 км на ПнУ ад вёскі і 20 м на У ад стаянкі-3, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 3–4 м над узроўнем вады. Памеры 80 × 70 м. Часткова пашкоджана землянымі работамі. Знойдзены аднапляцовачны і шматпляцовачны нуклеусы, 7 крамянёвых адшчэпаў і пласцін.

Стаянка-5 фінальнага палеаліту і мезаліту за 0,25 км на ПдУ ад вёскі, на высокай тэрасе старыцы р. Чорная Ганча, выш. 5–7 м над узроўнем вады. Памеры 220 × 80 м. Культ. пласт помніка часткова пашкоджаны пабудаванай дарогай, большая частка засаджана лесам. Знойдзены аднапляцовачны крамянёвы нуклеус, 1 скол пад-

праўкі пляцоўкі нуклеуса, 15 адшчэпаў і пласцінітых адшчэпаў, 14 пласцін, 8 абломкаў і лускавін.

*Літ.*: Абухоўскі В.С., Лакіза В.Л. Археалагічныя помнікі беларускай часткі Аўгустоўскага канала // Августовский канал и современый экотуризм. Пултуск; Минск; Гродно, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**УСВЯ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён сярэдняга неаліту, якія ў к. 4-га – сяр. 3-га тыс. да н.э. насялялі Бел. Паазер'е, паўд. Пскоўшчыну і паўн.-зах. Смаленшчыну, а таксама паўд.-ўсх. Літву. Вылучана ў 1960-х г. А.М.Мікляевым. Назву атрымала паводле характэрнага паселішча каля г. Усвяты Пскоўскай вобл. Сфарміравалася на аснове мясц. *нарвенскай культуры* пры значным уплыве *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры.* Паселішчы размяшчаліся звычайна на нізкіх узбярэжжах азёр і рэк. Некаторыя з іх пазней былі затоплены і ператварыліся ў тарфянікавыя стаянкі. Жыхары У.к. займаліся пераважна паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам, у т.л. вадзяных арэхаў, былі знаёмы з зачаткавымі формамі земляробства і жывёлагадоўлі. Карысталіся крамянёвымі кроплепадобнымі і кароткімі лістападобнымі наканечнікамі стрэл, нажамі на пласцінах і адшчэпах, кароткімі скрабкамі. З-за недахопу запасаў крамянёвай сыравіны значную частку прылад працы і паляўнічай зброі выраблялі з костак і рога – плоскачаранковыя наканечнікі стрэл, доўгія наканечнікі коп'яў, кінжалы, праколкі, сякеры і цёслы, інструменты для апрацоўкі керамікі. Сярод упрыгажэнняў сустракаліся падвескі з зубоў жывёл і бурштыну, касцяныя пранізкі. Асаблівасці У.к. найб. выразна прасочваюцца ў кераміцы. У сярэднім неаліце мясц. насельніцтва карысталася прысадзістымі гаршкамі з прытупленавострымі донцамі і гладкімі сценкамі, з дамешкамі тоўчаных ракавін, дробнай арганікі і шамоту ў цесце. Краі венцаў патоўшчаныя і скошаныя. Паверхня пасудзін звычайна аздаблялася разрэджанымі паясамі насечак, радзей наколаў і вусеневых адбіткаў. Часам ў арнаментацыі керамікі прысутнічаюць гравіраваныя схематычныя выявы птушак, змей, раслін, сімвалы вады, якія маюць сакральны сэнс і адлюстроўваюць элементы тагачасных вераванняў. На З арэалу У.к., куды непасрэдна пранікалі групы носьбітаў культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі, сярод арнаментаў часцей сустракаюцца адбіткі лінейнага штампа. Каля сяр. 3-га тыс. да н.э. на Паазер'е пачало пранікаць насельніцтва *шарападобных амфар культуры, шнуравой керамікі культуры* і *верхнедняпроўскай культуры*, што прывяло да заняпаду У.к. і яе трансфармацыі ў *паўночнабеларускую культуру.* Найб. вядомыя помнікі Асавец, Галоўск, Скема.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Чернявский М.М. Усвятская культура в Кривинском микрорегионе на севере Беларуси // Взаимодействие и хронология культур мезолита и неолита Восточной Европы: материалы Междунар. науч. конф., посвящ. 100-летию Н.Н.Гуриной. Санкт-Петербург, 2009. *М.М.Чарняўскі.*

**УСЕ́ЛЮБСКІ КРЫЖАЎЗВІ́ЖАНСКІ КАСЦЁЛ.** Пабудаваны ў 1-й чв. 15 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне в. Уселюб Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл., побач з пейзажным паркам 19 ст., на сродкі канюшага вял. кн. ВКЛ Вітаўта і полацкага намесніка Я.Няміры. У 16 ст. прыстасаваны пад кальвінскі збор, у 1642 вернуты католікам. Асн. аб'ём амаль квадратнай у плане формы заканчваецца з У прэсбітэрыем і шматграннай апсідай. З паўн. і паўд. бакоў да прэсбітэрыя прымыкаюць сакрысція і рызніца. У цэнтры гал. фасада ўзвышаецца 3-ярусная вежа ў неагатычным стылі. Агульныя памеры помніка 23,5 × 13 м. Храм накрыты 2-схільным дахам. Сцены ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы на вапнава-пясчанай рошчыне і стаяць на падмурках магутнасцю 1,6–2 м, складзеных з валуноў вял. і сярэдніх памераў. Перавязка паміж падмуркамі касцёла і сакрысціі сведчыць пра сінхроннасць іх будаўніцтва. Першапачаткова храм з'яўляўся 1-слупавым збудаваннем, заканчваўся з усх. боку прэсбітэрыем і 3-граннай апсідай. У паўн. сцяне прэсбітэрыя меўся ўваход у сакрысцію, якая была перакрыта зорчатымі скляпеннямі. Аналагічныя скляпенні, напэўна, былі ў алтарнай частцы, а ў асн. аб'ёме – крыжовыя. Сцены храма ўмацаваны контрфорсамі. Інтэр'еры асвятляліся праз вокны спічастай формы. У тоўшчы зах. сцяны былі зроблены вінтавыя ўсходы, якія вялі на драўляныя хоры і паддашак. Усх. і зах. фасады завяршаліся франтонамі, напэўна, трохвугольнай формы. Над уваходам быў выкладзены крыж з перапаленай цэглы. У 2-й пал. 16 ст. скляпенні касцёла абваліліся. У 16–17 ст. пабудавана верхняя частка апсіды, асн. аб'ём перакрыты драўлянай столлю, у прэсбітэрыі былі адноўлены скляпенні. У даху была выкарыстана пляскатая дахоўка. У кан. 18 ст. ў паўн. сцяне прабіта яшчэ адно акно, зменены форма і памеры першапачатковых вокнаў асн. аб'ёму, зроблены новы ўваход у сакрысцію. У 18 – 1-й пал. 19 ст. ў цэнтры гал. фасада быў невял. бабінец. У 2-й пал. 19 ст. да гэтага фасада прыбудавана вежа. У 1968 пажарам былі знішчаны завяршэнні і вежы, дах і сістэма перакрыццяў асн. аб'ёму, прэсбітэрыя і сакрысціі. Пасля пажару помнік не аднаўляўся. У 1988 храм перададзены вернікам, адрамантаваны. Касцёл – помнік гатычнай архітэктуры.

*Літ.*: Баравы Р. Невядомы помнік беларускай готыкі // ПГКБ. 1987. № 2; Кушнярэвіч А. Зноў пра помнік готыкі // Там жа. 1988. № 1; Яго ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. Мінск, 1993; Боровой Р.В., Кушнеревич А.Н. Неизвестный памятник белорусской готики 15 в. // Памятники культуры. Новые открытия. 1992. М., 1994. *А.М.Кушнярэвіч.*

**УСХОДНЕЛІТО́ЎСКІХ КУРГАНО́Ў КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура, вядомая па пахавальных помніках балцкіх плямён 4—12 ст., якія сустракаюцца на тэр. ўсх. і паўд.-ўсх. Літвы і паўн.-зах. Беларусі ад сярэдняга цячэння Нёмана на З да воз. Свір на У, ад вярхоўяў р. Швянтойі на Пн да басейна р. Мяркіс на Пд. Даследавалі ў 2-й пал. 19 — 1-й пал. 20 ст. К.П. і Я.П. Тышкевічы, Л.Кандратовіч (У.Сыракомля), П.С.Вільчынскі, А.Г.Кіркор, А.Плятэр, В.А.Шукевіч і інш. З 2-й пал. 20 ст. вывучаюць літ. археолагі А.Таўтавічус, Р.Кулікаўскене, О.Кунцэне і інш. Могільнікі налічваюць ад 3—4 да 200 насыпаў круглай формы, дыям. 5—15 м (зрэдку 20—25 м), выш. 0,3—3 м. Раннія насыпы (4—8 ст.) абкладзены каменнымі вянкамі і часам абкружаны прадаўгаватымі ямамі, вакол пазнейшых ёсць кальцавыя раўкі. Пахавальны абрад у курганах 4—5 ст. — трупапалажэнне ў грунтавых (падкурганных) ямах глыб. 0,5—1,5 м. У кургане 1—2, радзей 3 пахаванні. Нябожчыка клалі на спіну, мужчын галавой на З, жанчын — на У. Пахавальны інвентар мужчын — вузкалязовыя сякеры, наканечнікі коп'яў, нажы, спражкі, фібулы, бранзалеты, зрэдку умбоны шчытоў і шпоры. Пахавальны інвентар жанчын прадстаўлены ў асн. упрыгажэннямі (шыйныя грыўні, бранзалеты, скроневыя кольцы, падвескі), радзей прыладамі працы (сякеры, нажы, праслíцы, шылы). У 5—6 ст. пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі часам ссыпалі ў неглыбокую грунтавую яму, часцей у аснове або ў насыпе кургана. Пераважаюць курганы з 2—4 пахаваннямі, сустракаюцца з 5—6 і нават 9—10. Інвентар мужчынскіх пахаванняў 6—8 ст. — зброя. У пахаваннях к. 1-га — пач. 2-га тыс. н.э. прадметы ўзбраення сустракаюцца рэдка. У гэты час шырокае распаўсюджанне атрымалі пахаванні з конямі. Іх змяшчалі ў спецыяльна насыпаных курганах і, як выключэнне, у адным кургане з чалавекам. Інвентар конскіх пахаванняў бедны: цуглі, спражкі, часам страмёны. На тэр. Беларусі даследавалі помнікі У.к.к. *Алешкі*, *Засвір*, *Чорная Лужа* (Мядзельскі р-н Мінскай вобл.), *Андрэеўцы*, *Рымшанцы* (Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.), Будраны, Жэлядзь, Пільвіны, Сяржанты (Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.), *Вайшкуны*, *Лынтупы* (Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.) і інш. Большасць даследчыкаў лічыць пахаванні У.к.к. помнікамі ўсх.-літ. плямён.

*Літ.:* Таутавичюс А.З. Восточно-литовские курганы // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989.

*Я.Г.Зяруга.*

**У́СЦІЖ**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік каля в. Усціж Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл.

Селішча за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Капылец, на правым беразе р. Свіслач, за безназоўным ручаём — прытокам Свіслачы, на ўскрайку леса. Пл. 0,5 га, культ. пласт да 0,4 м. Адкрылі ў 1926 С.А.Шутаў і М.М.Улашчык, абследавалі ў 1963 Л.Д.Побаль, ў 2003 — А.У.Ільюцік, у 2009 — Ю.А.Заяц. Сабраны крамянёвыя вырабы каменнага веку, фр-ты керамічнага посуду ранняга жал. веку, кіеўскай культуры і стараж.-рус. часу, праслíца.

Курганны могільнік дрыгавічоў за 1,2 км на ПнУ ад вёскі, на правабярэжжы р. Свіслач, каля дарогі Свіслач—Ялізава, побач з селішчам. Захавалася 2 курганы (было 108). У 1882 У.З.Завітневіч даследаваў 15 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, за выключэннем аднаго ў труне, змешчанай унутры невялікага зруба. Абследавалі ў 1926 С.А.Шутаў і М.М.Улашчык. У разбураных курганах яны знайшлі косці, вуглі, фр-ты ляпного посуду, таксама крамянёвыя адшчэпы. Апошнія, верагодна, трапілі ў насыпы курганоў з культ. пласту селішча. Абследавалі у 1975 А.Р.Мітрафанаў, у 2009 Ю.А.Заяц. Захаваліся 2 часткова разбураныя курганы, адзін з якіх знаходзіцца з правага боку ад дарогі Свіслач—Ялізава, другі — на беразе Свіслачы, на мяжы поля і лесу. У насыпе апошняга прасочваюцца камяні.

*Літ.:* Раскопки в Минской губернии // Отчет Императорской археологической комиссии за 1892 г. Санкт-Петербург, 1894; Шутаў С.С., Улашчык М.М. Археолёгічныя разьведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г. // Працы. Т. 2.

*Ю.А.Заяц.*



**ФАРМО́ВАЧНАЯ МА́СА**, керамічная маса, склад гліны і непластычных дамешкаў, у якім суадносіны пластычнай і непластычнай часткі знаходзяцца ў адпаведных прапорцыях. Пры сушцы і абпале сфармаваныя з гэтых мас пасудзіны не дэфармуюцца, павышаецца механічная трываласць чарапка. Непластычная частка Ф.м. складалася з прыродных і штучных дамешкаў. Прыродны дамешак, як правіла, прадстаўлены пясчана-алеўрытавым матэрыялам, асн. мінеральнымі кампанентамі якога з'яўляюцца кварц, палявы шпат і слюда. У Бел. Падняпроўі і Прыпяцкім Палессі ў старажытнасці выкарыстоўваліся азёрна-алювіяльныя, пераважна гідраслюдзістыя па сваім мінеральным складзе гліны, у якіх дамешак натуральнага абломкавага матэрыялу не перавышаў 35–40%. Часам спажывалі больш тлустыя гідраслюдзіста-мантмарылanітавыя гліны. Для вырабу мініяцюрных пасудзін выкарыстоўвалі спустошаныя гліністыя пароды, у якіх абломкавы натуральны дамешак дасягаў 60% (суглінкі). У Бел. Паазер'і старaж. ганчары ў асн. выкарыстоўвалі запясочаныя азёрна-ледавіковыя гліністыя пароды. Белыя тугаплаўкія каалінітавыя гліны ў старажытнасці выкарыстоўваліся толькі для атрымання такога штучнага дамешку, як гліністы паглынальнік. Колькасць штучных дамешкаў залежала ад пластычнасці гліністай пароды. Агульная колькасць дамешкаў у фармовачнай масе вагалася ад 20 да 60%, на гліністую аснову прыходзілася 40–80%.

*Літ.*: Дубицкая Н.Н. Керамическое производство Белорусского Поднепровья в VIII в. до н.э. – V в. н.э. Минск, 2002; Я е ж. Производство керамической посуды населением Припятского Полесья в эпоху железа и раннего средневековья. Минск, 2007.

*Н.М.Дубіцкая.*

**ФАСІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. fossilis выкапнёвы), працэс пераходу жывых арганізмаў, прадуктаў і слядоў іх жыццядзейнасці ў выкапнёвы стан. Ф. пачынаецца з моманту пападання арганізмаў, іх рэштак (тафацэноз), прадметаў, канструктыўных элементаў і пабудоў з арганікі ў культ. пласт і цягнецца да моманту правядзення археал. раскопак. Пры Ф. ў залежнасці ад глебавых, водных, хімічных умоў у адных выпадках адбываецца знішчэнне пахаваных арганічных рэштак (растварэнне хіціна, мінеральных шкілетаў і г.д.), у іншых, наадварот – ідуць працэсы, якія садзейнічаюць захаванню арганічнага рэчыва. Працэсу Ф. (для артэфактаў з арганікі – захаванню іх цэласнасці) спрыяюць перыкрысталізацыя і мінералізацыя. Пры перыкрысталізацыі арганіка набывае з цягам часу крышталічную будову; пры мінералізацыі павялічваецца доля мінеральнага рэчыва (карбанаты кальцыя і магнія, фасфаты, сульфіды, вокіслы і інш.), якое паступова замяшчае першаснае арганічнае. У археалогіі ацэнка ступені Ф. арганічных артэфактаў дазваляе ўдакладняць храналогію помнікаў, стратыфікаваць культ. пласт, праводзіць карэляцыю зрушаных, пераадкладзеных культ. напластаванняў. У Беларусі даследаванні ў гэтай галіне на аснове касцявых матэрыялаў з археал. калекцыі стаянкі-2 *Асавец* неаліту–эпохі бронзы Крывінскага тарфяніку (Віцебская вобл.) правяла геахімік і глебазнавец Л.М.Рабава. Ф. цесна звязана з літагенезам, палеанталогіяй, выкарыстоўваецца *тафаноміяй*, *археазаалогіяй*.

*Літ.*: Рябова Л.Н., Разлуцкая А.А. Реконструкция эколого-геохимических условий на территории Кривинского торфяного массива (Белорусское Подвинье) во второй половине голоцена // Літасфера. 2002. № 1; Іх жа. Химический состав костных остатков субфоссильной фауны как отражение изменения палеоэкологических условий в голоцене // Палеонтология и природопользование: тез. докл. XLIX сессии Палеонтологического о-ва. Санкт-Петербург, 2003; Михайлова И.А., Бондаренко О.Б. Палеонтология. М., 2006.

*А.А.Разлуцкая.*

**ФАЯ́НС** (франц. faience ад назвы італьян. горада Фаэнца, дзе выраблялі фаянс), керамічныя вырабы з глін з нізкім утрыманнем вокісу жалеза, са шчыльным драбнапорыстым чарапком. Паверхню вырабаў звычайна пакрываюць празрыстай ці непразрыстай палівай, на якую часам нано-

сяць малюнак. У 11–12 ст. Ф. – адзін з прадметаў імпарту з краін Усходу. У 17–18 ст. Ф. у невял. колькасці прывозілі з Зах. Еўропы. У Беларусі вытворчасць Ф. пачалася ў 1742 з адкрыццём кн. М.К.Радзівілам Рыбацькай у мяст. Свержань Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл. фаянсавай мануфактуры («фарфорні»). Заводскія рэестры даюць інфармацыю пра асартымент прадукцыі: разнастайныя сервізы з колькасцю прадметаў да 96 адзінак, талеркі розных памераў і форм, сталовыя міскі з ручкамі і накрыўкай, салатніцы, цукерніцы, філіжанкі і кубачкі са сподкамі, куфлі з накрыўкамі, збанкі, жырандолі, бюсты стараж. філосафаў, фігуркі святароў і шляхціцаў, кафля, аптэчны і літургічны посуд, чарнільніцы, скарбонкі, фігуркі святых для алтароў і інш. Вырабы афармлялі ў стылі барока і ракако адпаведна тагачаснай еўрап. модзе. Прадпрыемства праіснавала да сяр. 1760-х г. На мануфактуры М.Агінскага ў Целяханах (існавала ў 1778–1830) з Ф. выраблялі фрызы і карнізы для камінаў і печаў, скульптуры малых форм, кафлю ў стылі барока і класіцызму, але пазней стаў прыкметны ўплыў традыцыйнай бел. керамікі. На целяханскіх вырабах ставілі клеймы «О» ці «СО». Вял. археал. калекцыя навасвержанскага Ф. сабрана ў Мірскім замку. На тэр. замка знойдзена каля 200 фр-таў вырабаў (талеркі, міскі, соуснік, кубкі для кавы), больш за 150 з іх пакрыты белай эмаллю і аздоблены дэкорам сіняга, фіялетавага, жоўтага, зялёнага колераў. Рэшткі Ф. знойдзены таксама ў Віцебску, Мсціславе, Навагрудку і інш. гарадах і сядзібах.

*І.У.Ганецкая.*

**ФЕДАСЕ́ЕЎ** Міхаіл Мікітавіч (21.10.1912, Мінск – 1987), беларускі мастак, археолаг і этнограф. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1952). Малодшы навук. супрацоўнік, старшы мастак ІГ НАН Беларусі (1934–83). Прымаў удзел у этнагр. і археал. экспедыцыях, у раскопках помнікаў каменнага веку, гарадоў Мінск, Полацк, Тураў, Ваўкавыск, Пінск, Брэст, курганных старажытнасцей. Удзельнічаў у мастацкім афармленні выданняў «Нарысы па археалогіі Беларусі» (1970, 1972), «Славянскія старажытнасці Беларусі» (1971, 1973, 1974, 1983), «Гарады Тураўскай зямлі» (1974), «Старажытны Ваўкавыск 10–14 ст.» (1975), «Старажытны Полацк 9–13 ст.» (1975), «Гарады Полацкай зямлі (9–13 ст.)» (1978), «Бярэсце» (1985) і інш.

*Тв.*: Беларускае народнае мастацтва. Ткацтва, каўрадзелле, вышыванне, вязанне, набойка. Т. 1. Мінск, 1951 (у сааўт.).

*Літ.*: Колединский Л.В., Колединская Т.Ю. Археологи Беларуси в годы Великой Отечественной войны (1941–1945) // Великая Победа, героизм и подвиг народов: материалы междунар. науч. конф. (Минск, 28–29 апр. 2005 г.). Минск, 2006. Т. 2.

*Л.У.Калядзінскі.*

**ФЁДАРАЎКА**, археалагічны помнік – гарадзішча каля былой в. Фёдараўка Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. За 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, у лесе, на левым беразе р. Жадунька, каля моста. Вядома пад назвай Гарадок, мае трапецападобную форму, памеры 50 × 80 м. З паўд. і паўд.-зах. бакоў умацавана 2 валамі выш. 0,5–1,2 м, шыр. 8–10 м. Абследавалі ў 1960, 1978, 1990 У.Ф.Ісаенка і В.Ф.Капыцін. У 1995 А.А.Мяцельскі даследаваў 48 м². Культ. пласт да 1 м утрымлівае ў асн. кераміку *юхнаўскай культуры* ранняга жал. веку. Знойдзены 3 гліняныя грузікі, бронзавы бранзалет з круглага дроту, посахападобная шпілька з завітком, венцы пасудзін тыпу сярэдняга слоя гарадзішча Тушамля. Датуецца 1-й пал. 1-га тыс. да н.э. – 1-й пал. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Гарадзішчы жалезнага веку ў міжрэччы Сожа і Іпуці (па матэрыялах Магілёўшчыны) // ГАЗ. Мінск, 2005. № 21.

**ФІ́БУЛА**, шпілька для зашпільвання верхняга адзення ў стараж. народаў. Вырабляліся з бронзы ці жалеза, радзей з золата ці серабра. З'явіліся ў бронзавым веку, у 5 ст. да н.э. былі пашыраны ў кельцкіх (латэнскіх) плямён, ад іх трапілі да германцаў, славян, балтаў. На тэр. Беларусі самыя стараж. Ф. раннелатэнскага тыпу (загнуты ўверх канец ножкі свабодны) з'явіліся ў 3 ст. да н.э., знойдзены на помніках мілаградскай і паморскай культур (*Гарошкаў*, *Трасцяніца*). У плямён зарубінецкай культуры пашыраны Ф. сярэднелатэнскага тыпу (канец ножкі загнуты ўверх і ўмацаваны рознымі спосабамі са спінкай, 3—2 ст. да н.э. – 1 ст. н.э.) і позналатэнскага тыпу (рамкавая ножка і прамы або прагнуты корпус, 1 ст. да н.э. – 1 ст. н.э.), запазычаныя ў кельтаў (Гарошкаў, *Велямічы*, *Атвержычы*, *Чаплін* і інш.). Адначасова плямёнамі зарубінецкай культуры выкарыстоўваліся мясц. тыпы Ф. з трохвугольным шчытком (Велямічы, Атвержычы, Чаплін і інш.).

З к. 1-га тыс. да н.э. ў плямён зарубінецкай, днепра-дзвінскай і культуры позняй штрыхаванай керамікі з'явіліся простыя па канструкцыі падкоападобныя Ф., якія складаліся з круглага незамкнёнага корпуса і язычка (*Васількоўка*, *Кастрыца*, *Малышкі*, Чаплін і інш.). Ф. з гарадзішча Малышкі ўпрыгожана эмалямі. Падковападобныя Ф. былі найб. пашыраны ў 10–13 ст., адрозніваліся паміж сабой формай канцоў і сячэння карпусоў, мелі арнаментацыю. Выйшлі з ужытку ў 14 ст. Знойдзены ў гарадах Ваўкавыск, Гомель, Лукомль, Мінск, Пінск, Полацк і інш. Некаторыя тыпы Ф. у стараж.-рус. час мелі кольца-, сэрцападобную і інш. формы. Сярод рэдкіх знаходак у Беларусі шкарлупінападобныя і роўнаплечуковая Ф. 11–13 ст. з гарадзішча Маскавічы.

Ф. рымскага перыяду (1–4 ст.). У час, суадносны з рымскім перыядам (каля 10/40 –

375), насельніцтва Беларусі належала да 2 розных культ. колаў. Асн. яе частку насялялі носьбіты традыцый усх.-еўрап. лясной зоны. Асобны анклаў склаўся на ПдЗ Беларусі: з рубяжу н.э. Пабужжа было занята насельніцтвам *пшэворскай культуры*, пазней – *вельбарскай культуры*, якія належалі да кола культур Цэнтр. Еўропы. Носьбіты вельбарскай культуры жылі таксама ў Турава-Пінскім Палессі.

1-я пал. 1 ст. характарызуецца знікненнем Ф. позналатэнскай схемы і з'яўленнем тыпаў, характэрных для цэнтр.-, паўн.-еўрап. і прыбалтыйскіх культур раннерымскага часу. Да 40-х г. (к. фазы А3 позняга перадрымскага часу па храналогіі Цэнтр. Еўропы) на Палессі і Верхнім Падняпроўі існавалі помнікі *зарубінецкай культуры*, позні гарызонт

**Фібулы** *1–4 ст. з тэрыторыі Беларусі. 1, 3, 51 – Вельмічы-1; 2, 9 – Атвержычы; 4 – Мыслі; 5, 21 – Малышкі; 6, 14 – Чаплін; 7 – Прылепы; 8, 16, 17, 33, 50 – Скорбічы; 10 – Курадава; 11 – Чэрнічы; 12 – Івань; 13 – Кашчэлічы; 15 – Навасёлкі; 18 – Бобінка; 19 – Воўчын; 20 – Альхоўка; 22 – Краснасельскі-Піскаш; 23 – Краснасельскі-5; 24 – Пагранічная; 25, 27, 34 – Брэст-Трышын; 26, 43 – Вялічкавічы; 28 – Давыд-Гарадок; 25, 39, 48 – Абідня; 30 – Шчучынскі р-н; 31 – Бытча; 32, 35, 36, 40–42, 44 – Пятровічы; 37, 46, 54–56 – Тайманава; 38, 47 – Мікольцы; 45 – Глыбокае; 49 – Бяседы; 52 – Ратайчыцы; 53 – Востраў.*

якіх вызначаюць Ф. тыпаў K (Кастшэўскі), M, N, O і вытворныя ад іх, таксама познія варыянты шчытковых Ф. зарубінецкага тыпу і дротавыя падкавападобныя. На падставе Ф., блізкай да тыпу A (Альмгрэн) IV-68 з могільніка *Велямічы*-1, падвязнай адначасткавай верхнедняпроўскай серыі і «абцуговай» з могільніка *Чаплін*, шэраг даследчыкаў працягвае фінальны гарызонт помні-

каў зарубінецкай культуры ў Беларусі да 70-х г., сінхранізуючы яго з падфазай B1b рымскага часу. У сяр. 1 ст. ў Турава-Пінскім Палессі ўзнікаюць помнікі *позназарубінецкага гарызонта*, пачатак функцыянавання якіх вызначае ў т.л. вачкаватая Ф. тыпу A III-50 з селішча *Курадава*-1. Падобны набор Ф. пач.–сяр. 1 ст. прасочваецца таксама на помніках *позняй штрыхаванай керамікі культуры* (Ф. вытворныя ад позналатэнскіх прагнутых, тыпаў K–O, шчытковая зарубінецкага тыпу, вачкаватая асн. серыі тыпу A III-46 (Таб. 2: 12), тыпу A IV-68). У касцюме насельніцтва *днепра-дзвінскай культуры* функцыю зашпільвання вопраткі выконвалі посахападобныя шпількі.

Раннюю дату помнікаў пшэворскай культуры на Пабужжы вызначае фібула тыпу A IV-67 з могільніка *Скорбічы*. Набор Ф. тыповы для ўсх. варыянта пшэворскай культуры на фазах B1 і B2: вачкаватыя Ф. асноўнай (тыпы A III-51/52) і прускай (тыпы A III-58/59, 61) серый, групы II/IV і 8-й серыі групы V тыпу A. Фінал помнікаў пшэворскай культуры і з'яўленне тут насельніцтва вельбарскай культуры вызначаюць Ф., што паходзяць ад моцна прафіліраваных 5-й серыі і мазавецкага тыпу, якія датуюцца 2-й пал. 2 ст. Разам з вельбарскім насельніцтвам на Пабужжы і Турава-Пінскім Палессі ў 4-й чв. 2 – пач. 3 ст. распаўсюджваюцца грабеньчатыя Ф. груп V і II тыпу A – A V-95/96, A V-124, 128, A II-41.

У арэале культуры позняй штрыхаванай керамікі, позназарубінецкага кола і ранняй кіеўскай культуры ў 2-й пал. 1—2/3 ст. вядомы асобныя правінцыйнарымскія Ф.: шарнірная тыпу Riha-5.16, Ф.-брошкі з эмалямі. Разам з тым, Ф. 1–2 ст. якія былі шырока распаўсюджаны ад Рэйну і Прыбалтыкі да Прычарнамор'я, прадстаўлены адзінкавымі знаходкамі на ўскрайках арэалу, занятага насельніцтвам кола культур усх.-еўрап. лясной зоны (вачкаватая Ф. прускай серыі, фр-т грабеньчатай Ф. 1-й серыі групы V тыпу A з селішча *Давыд-Гарадок*). У Сярэдняй і Паўн. Беларусі актыўна развіваліся ўласныя, мясц. традыцыі, выкарыстоўваліся Ф. зарубінецкага тыпу, якія захоўваюць тэндэнцыю да ўзбуйнення памераў шчытка; у к. 1 – сяр. 2 ст. была ўспрынята вачкаватая арнаментацыя; у сяр. 2 – пач. 3 ст. змяніўся спосаб фіксацыі спружыннага апарату. У 2 ст. на аснове падковападобных дротавых узнікаюць літыя падковападобныя Ф. з шчыткамі на канцах, якія ўпрыгожваліся эмалевымі ўстаўкамі. У 2-й пал. 2 – пач. 3 ст. з выкарыстаннем эмальернай тэхнікі імітуюцца моцна прафіляваныя і грабеньчатыя Ф. Цэнтр. Еўропы.

У 3 ст. адбываецца частковая уніфікацыя тыпаў Ф. У познарымскі час (каля 200–375) у еўрап. Барбарыкуме шырока распаўсюджваюцца двухчасткавыя падвязныя арбалетападобныя Ф. груп VI і VII тыпу A. У насельніцтва вельбарскай культуры былі пашыраны Ф. з медных сплаваў і срэбныя (тыпы A VI-161/162, A VI-167, A VI-172, A VII-211 і вытворныя ад іх). Яны адлюстроўваюць сувязі з насельніцтвам Люблiншчыны і Паднястроўя. Позні гарызонт помнікаў вельбарскай культуры ў Беларусі вызначаюць Ф. групы VI тыпу A (ZG-i A VI-172). У Турава-Пінскім Палессі масіўная арнаментаваная Ф. групы VI з'яўляецца адным з індыкатараў ранняга гарызонта *пражскай культуры* (2-я пал. 4 – пач. 5 ст.).

У пач. 3 ст. на верхнеднепроўскіх помніках кіеўскай культуры выступаюць спецыфічныя варыянты Ф. A VI-161/162 (характэрны для вельбарскай культуры) і іх дэрываты з жалеза. Адзначаюцца таксама асобныя Ф. групы VI, характэрныя для пшэворскай культуры. У 2-й пал. 3 ст. яны замяшчаюцца імпартамі і дэрыватамі Ф. чарняхоўскай культуры, якія бытавалі ў Верхнім Падняпроўі да пач. эпохі *Вялікага перасялення народаў*. У 3–4 ст. арбалетападобныя Ф. групы VI (тыпы A VI-161/162 і A VI-168) выкарыстоўваліся насельніцтвам *банцараўскай культуры*. Не пазней 4 ст. падвязныя арбалетападобныя Ф. з'яўляюцца ў насельніцтва культуры *ўсходнелітоўскіх курганоў* на ПнЗ Беларусі. Нягледзячы на перайманні элементаў касцюму цэнтр.-еўрап. Барбарыкума, у 3–4 ст. у строі насельніцтва кола культур усх.-еўрап. лясной зоны паслядоўна развіваліся мясц. традыцыі. У 3 ст. дасягае росквіту эмалевы стыль: ажурныя вырабы ўтвараюць пышныя ансамблі з Ф., нагрудных ланцугоў і бранзалетаў. Бляшаныя шчытковыя Ф. трансфармаваліся ў трохвугольныя эмалевыя, тыпу III па Г.Ф.Карзухінай. Складаную ажурную арнаментацыю набылі Ф.-брошкі. У найб. позніх з іх эмалевыя ўстаўкі замяшчаюцца аплікацыямі з сярэбранай бляхі.

П а л ь ч а т ы я Ф. маюць злучаныя дужкай пласціністую ножку і галоўку, як правіла, рэльефна ўпрыгожаныя, і выступы (прамяні, «пальцы», адсюль назва) па баках галаўной пласціны. За апошняй размешчаны апарат, які забяспечвае прыціск іголкі да прыёмніка – загнутай ззаду ножкі пласціны. Як правіла, ён складаецца са спружыны, ад якой ідзе іголка, і восі спружыны, замацаванай на 1 ці 2 стойках. Ножка часта мае вылучаны канец, нярэдка – пары выступаў па баках. Гэты тып Ф. сфарміраваўся да сяр. 5 ст. ў асяроддзі культур германскага кола на аснове гладкіх двухпласціністых Ф. Кнопкі на канцах восі спружыны і дэкаратыўная кнопка па восі галаўной пласціны, відавочна, сталі прататыпам для «пальцаў». Да пераходных форм адносяцца Ф., блізкія да двухпласціністых, але ўпрыгожаныя рэльефным геам. арнаментам, ці гладкія, з дэкаратыўнымі «пальцамі». Раннія пальчатыя Ф. часта мелі 3 «пальцы», з цягам часу сталі пераважаць пяціпалыя, сустракаюцца Ф., якія маюць да 9 «пальцаў». Вылучаюць некалькі груп пальчатых Ф., якія належаць да розных традыцый. Напр., Ф. з вузкай прамавугольнай ножкай былі

распаўсюджаны ў культурах меравінгскага кола, міндалевідна-авальныя ножкі без бакавых выступаў часта сустракаліся ў лангабардаў, цюрынгаў. Для культур усх. германцаў ці блізкіх да іх характэрны Ф. з ромбавіднай ножкай, часта з бакавымі выступамі. Паводле шэрагу прыкмет адрозніваюць тыпы, серыі, варыянты і інш. падраздзяленні пальчатых Ф., якія часта маюць «вузкую» датыроўку і пэўныя цэнтры вытворчасці. Большасць пальчатых Ф. Усх. Еўропы 2-й пал. 5–6 ст. належыць усх.-германскаму колу, але дзейнічалі і мясц. цэнтры іх вытворчасці: на Баспоры, у Сярэднім Падняпроўі, Паўд. Крыму і інш. Да 7 ст. сфарміравалася група постусходнегерманскіх Ф. («славянскіх» паводле Б.А.Рыбакова і І.Вернера), у т.л. днестрадунайскай (характэрны антрапаморфны канчатак ножкі) і дняпроўскай падгруп. На тэр. Беларусі пальчатыя Ф. нешматлікія, у асн. належаць да постусходнегерманскіх падгруп (найб. калекцыя сабрана ў *Нікадзімава*); мясц. цэнтры іх вытворчасці не вызначаны. Бліжэйшыя зоны канцэнтрацыі знаходак такіх Ф., дзе вылучаны і цэнтры вытворчасці некаторых іх серый ці варыянтаў – Сярэдняе Падняпроўе і Мазурскае Паазер'е.

*Літ.*: Корзухина Г.Ф. Предметы убора с выемчатыми эмалями V – п.п. VI в. н.э. в Среднем Поднепровье. М., 1978 САИ; (Вып. Е1–43); Гороховский Е.Л. Хронология украшений с выемчатой эмалью Среднего Поднепровья // Материалы по хронологии археологических памятников Украины. Киев, 1982; Славяне и их соседи в конце I тысячелетия до н.э. – первой половине I тысячелетия н.э. М., 1993; Гапоновский клад и его культурно-исторический контекст. М., 1996; Засецкая И.П. Датировка и происхождение пальчатых фибул боспорского некрополя раннесредневекового периода // Материалы по археологии истории и этнографии Таврии. Симферополь, 1998. Вып. 6; Археалогія Беларусі. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мінск, 1999. Т. 2; Гавритухин И.О. Ранние формы пальчатых фибул и образец из Замятино // Острая Лука в древности. Замятинский археологический комплекс гуннского времени. М., 2004; Яго ж. Фибулы Верхнеокско-Донского водораздела: двучленные прогнутые подвязные и со сплошным приемником // Лесная и лесостепная зоны Восточной Европы в эпохи римских влияний и Великого переселения народов. Тула, 2008. Вып. 1; Гороховский Е.Л., Гопкало О.В. Фибулы VII группы О.Альмгрэна в арсале черняховской культуры // Археология давніх словян: дослідження і матеріали. Київ, 2004; Godłowski K. Chronologia okresu późnorzymskiego i wczesnego okresu wędrówek ludów w Polsce Północno-Wschodniej // Rocznik Białostocki. Białystok, 1974. T. XII; Tempelmann-Mączyńska M. Das Frauentrachtzubehör des mittel- und osteuropäischen Barbaricums in der römischen Keiserzeit. Kraków, 1989; Nowakowski W. Żelazne zapinki kuszowate z podwiniętą nóżką w europiejskim Barbaricum // Wiadomości Archeol. Warszawa, 2001. T. LIV.

*В.Г.Белявец* (фібулы рымскага перыяду),
*І.А.Гаўрытухін* (фібулы пальчатыя),
*А.А.Егарэйчанка* (уводзіны).




*Да арт.* ***Фібула****. Пальчатыя фібулы ўсходнегерманскай традыцыі, постусходнегерманскіх (1, 2) форм, пераходных ад двухпласцiністых да пальчатых (16, 19, 20). 1 – дняпроўскай падгрупы, тып IV.A паводле І.А.Гаўрытухіна (Гапонава, р. Сейм, 2–3); 2 – днестра-дунайскай падгрупы, тып Сарымтагетуса–Кішкерэш, варыянт Кішкерэш паводле І.Вернера, І.А.Гаўрытухіна (Дзям'янаў, Верхняе Паднястроўе, 7 ст.); 3 – адной з падняпроўскіх серый (Канеўскі павет, Сярэдняе Падняпроўе, 6 ст.); 4, 5, 11, 13 – тыпу Гурзуф паводле Х.Кюна, формы: 4 – падняпроўская імітацыя гепідскіх (Мартынаўка, Сярэдняе Падняпроўе, 6 ст.), 5 – гепідская (Братэй, Трансільванія, 1-я пал.–сяр. 6 ст.); 11 – баспорская, варыяцыя A.IVв.4 паводле І.П. Засецкай (Керч, Усх. Крым, 6 ст.), 13 – остгоцкая (Брэшыя, Паўн. Італія, 1-я пал. 6 ст.); 6 – гепідскі дэрыват остгоцкага кола (Сентэш-Берэкхат, Сярэдняе Пацiссе, сяр.–2-я пал. 6 ст.); 7 – адзінкавая форма (Српскі Крстур, Сярэдняе Падунаўе, 3-я трэць 5 – пач. 6 ст.); 8–10 – тып Удзіне-Планіс паводле Ф.Бірбраўэра, І.А.Гаўрытухіна, серыі: 8 – італа-германская, варыянт Лёрах–Тарыяна (Лёрах, Верхні Рэйн, к. 5 – 1-я трэць 6 ст.), 9 – дунайска-дняпроўская, варыянт 2 (Пастырскае, Сярэдняе Падняпроўе, 6 ст.), 10 – балкана-пантыйская, варыянт 1 (Керч, Усх. Крым, 6 ст., тут – пасля 530); 12 – тып Керч па Х.Кюну, варыяцыя A.I.1 па І.П.Засецкай (Керч, к. 5 – сяр. 6 ст.); 14, 15, 18, 21 – сярэднедунайскія, 2-я пал. 5 ст.: 14 – Артанд, 15 – Дамалашпуста, 18 – Сакольніцэ, 21 – Шэйка Міке; 16 – Тамань (сяр. 5 ст.); 17 – серыя Арчар, варыянт Арчар паводле І.А.Гаўрытухіна (Балгарыя, к. 5 – сяр. 6 ст.); 18 – Земун (Сербскае Падунаўе, сяр. 5 ст.); 20 – Кіеўская губерня (1-я пал. 5 ст.).*

**ФІ́НА-У́ГРЫ**, група плямён, якая належала да фіна-угорскай моўнай сям'і. Засялялі лясную зону Усх. Еўропы, басейн Верхняй і Сярэдняй Волгі, Акі і Камы, Зауралле. У выніку распаду супольнасці Ф.-У. вылучыліся угры. Пазней ад паволжскіх фінаў аддзяліліся продкі прыбалтыйска-фінскіх плямён, якія рассяліліся на З. Ёсць падставы меркаваць, што яны звязаны з *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культурай.* Рассяленне Ф.-У. на вял. абшарах, суседства з плямёнамі інш. моўных груп прывяло да іх дыферэнцыяцыі. Фарміраванне фіна-волжскай супольнасці адносіцца да ранняга жал. веку (*дзякоўская культура*, ці культура тэкстыльнай керамікі). У 2-м тыс. да н.э. кераміка з тэкстыльнымі адбіткамі пашырылася ў прыбалтыйскім рэгіёне, калі да Ф.-У. ранняга неаліту далучылася насельніцтва дзякоўскай культуры. Гэтым тлумачыцца падабенства фінскіх старажытнасцей прыбалтыйскага і паволжскага рэгіёнаў. Наяўнасць штрыхаванай керамікі ў насельніцтва прыбалтыйскага рэгіёна, а таксама ў Паільмені, басейнах рэк Вялікая, Ловаць і вярхоўях Зах. Дзвіны дазволіла В.В.Сядову зрабіць выснову, што прыбалтыйска-фінская этнамоўная супольнасць сфарміравалася на той тэр. фіна-угорскага арэалу, дзе мела месца ўзаемадзеянне балцкіх і фінскіх культ. кампанентаў. Большасць лінгвістаў падзяляюць прыбалтыйскіх фінаў на зах. (продкі *ліваў*, паўн. эстаў, ямі) і ўсх. (продкі паўд. эстаў, водзі, карэлы, весі, чудзі завалоцкай) групы, што адпаведна звязана з 1-й і 2-й хвалямі міграцыі з У. Правамернасць такога падзелу прыбалтыйска-фінскага арэалу пацвярджаецца археал. звесткамі: наяўнасцю каменных курганоў на З і адсутнасцю іх на У; з'яўленнем на У у 2-й пал. 1-га тыс. н.э. пясчаных курганоў з трупаспаленнем, што звязана з балта-славяна-фінскім сімбіёзам. У Беларусі зафіксаваны шматлікія сляды ўплыву Ф.-У. З фіна-угорскім субстратам у значнай ступені звязана гідранімія басейна р. Зах. Дзвіна, прычым прасочваюцца сувязі з протафіна-угорскімі (угорскімі) і протасамадыйскімі каранямі. Канцэнтрацыя такіх гідронімаў назіраецца ў паўн.-зах. і ўсх. частках бел. Падзвіння. На гарадзішчах Пн Беларусі [*Новы Болецк*, Загорцы (Гарадоцкі р-н), Мямлі (Аршанскі р-н) і інш.] выяўлена тэкстыльная кераміка і рэчы фіна-угорскага паходжання. Асаблівасці раннесярэдневяковых старажытнасцей тыпу *Банцараўшчыны* ў зах.-дзвінскім рэгіёне звязаны з уплывам фіна-угорскіх культ. кампанентаў. На сярэдневяковых паселішчах *Маскавічы*, *Пруднікі*, курганных могільніках Заборныя Гумны (Браслаўскі р-н), *Баркі*, *Янкавічы*, а таксама ў гарадах Полацк, Віцебск, Браслаў, Лукомль выяўлена шмат прадметаў, якія сведчаць пра фіна-угорскі уплыў.

*Літ.*: Шадыро В.И. Ранний железный век Северной Белоруссии. Минск, 1985; Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987; Седов В.В. Прибалтийские финны // Финны в Европе. VI–XV века: прибалтийско-финские народы: ист.-археол. исслед. М., 1990. Вып. 1; Шадыро В.И., Овчинникова Р.Н. О финно-угорском субстрате на севере Белоруссии (гидронимия и археология) // Археология и история Пскова и Псковской земли: материалы семинара. Псков, 1992.

*В.І.Шадыра.*

**ФЛАТА́ЦЫЯ** (франц. flottation ад flotter плаваць), спосаб аддзялення дробных цвёрдых культ. рэштакаў ад непатрэбных мінеральных і арганічных часцінак культ. пласта шляхам яго прамывання альбо змочвання вадой. Ф. выкарыстоўваецца пры правядзенні археал. раскопак, як правіла, для больш скрупулёзнага пошуку археал. знаходак, археазаалагічных, археабатанічных матэрыялаў, у т.л. з асобных археал. аб'ектаў (гасп. ям, жытлаў, пахаванняў і г.д.), пры даследаванні тарфянікавых паселішчаў і інш., т.зв. «мокрых» помнікаў. Для Ф. ўжываюцца спец. сіты (ручныя, механічныя). Прамыванне адбываецца пры ручной ці аўтаматычнай падачы вады на сіта альбо непасрэдна ў вадаёме. *М.М.Крывальцэвіч.*



*Працэс* ***флатацыі.***

**ФО́ЙНА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і стаянка каля в. Фойна Магілёўскага р-на.

Гарадзішча ранняга жал. веку на паўд. ускраіне вёскі. Пляцоўка авальная, памерамі 40×35 м, узвышаецца над поймай Дняпра на 7–10 м. З Пн умацавана валам выш. да 3 м. Яшчэ 2 валы прасочваюцца з Пд: выш. аднаго 2 м, другога 1,5 м. Адкрыў у 1974 Я.Р.Рыер, абследавала ў 1977 Л.У.Дучыц. У шурфах знойдзена ляпная таўстасценная кераміка.

Стаянка позняга мезаліту (6–5-е тыс. да н.э.) за 3 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай

тэрасе левага берага Дняпра. Выявіў у 1975, даследаваў 110 м² у 1980 і 1985 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт да 1 м. Знойдзены крамянёвыя тронкавыя наканечнікі стрэл грэнскага тыпу, ланцэтападобныя вастрыі, канцавыя скрабкі, прылады з выемкамі, бакавыя разцы, рэтушоры, адшчэпы, пласціны. *Л.У.Дучыц, В.Ф.Капыцін.*

**ФО́НДЫ НАВУКО́ВЫЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ** Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Створаны ў 2006 на базе археал. калекцый сяр. 1920—2000-х г. Структурна вылучаны наступныя фонды: каменнага і бронзавага вякоў; жал. веку і ранняга сярэдневякоўя; перыяду сярэдневякоўя і Новага часу; стараж. і сярэдневяковага Мінска; даваенных калекцый, археазаалогіі.

Фонд каменнага і бронзавага вякоў мае на пастаянным захаванні калекцыі з раскопак і абследаванняў археал. помнікаў эпохі верхняга палеаліту, мезаліту, неаліту і бронзавага веку з тэр. Беларусі, Бранскай і Смаленскай абласцей Расіі, некалькіх паўн. раёнаў Украіны. Калекцыі ў межах фонду размешчаны парытэтна па прынцыпе захавання навук. спадчыны даследчыкаў і па помніках, якія вывучалі некалькі навукоўцаў. Пры інвентарызацыі і дакументаванні калекцый максімальна захоўваецца аўтарская сістэматызацыя артэфактаў, аўтэнтычныя палявыя і фондавыя пашпарты, шыфры калекцый. Праводзіцца паступовая фотафіксацыя, замалёўка матэрыялаў для падрыхтоўкі да выданняў выпускаў Зводу крыніц навук. археал. фондаў ІГ НАНБ. Асобна фіксуюцца матэрыялы, прыдатныя для абсалютнага датавання, этнабатанічных, петраграфічных, хімічных, металаграфічных і інш. даследаванняў, праводзіцца кансервацыя экспазіцыйных і эталонных артэфактаў. Фондавая дакументацыя вядзецца на бел. мове, складаюцца электронныя базы даных.

Фонд жалезнага веку і ранняга сярэдневякоўя. Яго аснову складаюць калекцыі з помнікаў *Адаменка*, *Тайманава* (раскопкі Л.Д.Побаля), цэнтр. Беларусі, Падняпроўя і Палесся (даследаванні А.Р.Мітрафанава, А.А.Егарэйчанкі, А.М.Мядзведзева, С.Я.Рассадзіна, Н.М.Дубіцкай). Дамінуючы від артэфактаў — кераміка. У калекцыі Тайманава пераважае прынцып захавання ў межах жылых комплексаў.

Фонд перыяду сярэдневякоўя і Новага часу. У ім знаходзяцца матэрыялы бел. даследчыкаў А.Р.Мітрафанава, В.Р.Тарасенкі, Г.В.Штыхава, С.В.Тарасава, Л.У.Дучыц, М.А.Ткачова, В.У.Шаблюка, В.С.Пазднякова, В.Я.Зайцавай, Ш.І.Бекцінеева і інш. Сярод археал. матэрыялаў пераважаюць фр-ты керамічнага посуду. Захоўваюцца калекцыі керамічных матэрыялаў з Полацка, Віцебска, Лукомля, Барысава, Оршы (раскопкі Г.В.Штыхава), Маскавіч (раскопкі Л.У.Дучыц), Крычава, Чачэрска, Слаўгарада (раскопкі М.А.Ткачова), Клецка (раскопкі В.С.Пазднякова) і інш. Акрамя керамічных матэрыялаў у фондзе захоўваецца шмат металічных (Крычаў, Маскавічы, Клецк), драўляных вырабаў (Полацк), матэрыялаў з косці (з кургаcноў паўн. Беларусі, помніка *Горы*).

Фонд старажытнага і сярэдневяковага Мінска мае на пастаянным захаванні калекцыі з раскопак і шурфовак на Мінскім Замчышчы і Верхнім горадзе В.Р.Тарасенкі, Э.М.Загарульскага, В.Е.Собаля, Г.В.Штыхава, А.У.Ільюцік, С.В.Тарасава, Ю.У.Каласоўскага, А.М.Мядзведзева, В.І.Кошмана, Ю.А.Зайца 1945—2009, гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Мінскага р-на 1968—78 М.А.Ткачова, Г.В.Штыхава. Асн. частку калекцыі складае масавы матэрыял: фр-ты керамікі, цэглы, кафлі, шкла і костак жывёл. Індывідуальныя знаходкі прадстаўлены разнастайнымі вырабамі з дрэва, жалеза, бронзы і скуры 11—19 ст.

Фонд даваенных калекцый складаецца з матэрыялаў даследаванняў бел. археолагаў у 1920—30-я г. У фондзе прадстаўлены калекцыі К.М.Палікарповіча, А.Дз.Каваленi, І.Х.Юшчанкі, С.А.Дубінскага, С.С.Шутава, М.М.Улашчыка, А.М.Ляўданскага, І.Р.Калодкіна, І.А.Сербава, А.А.Рынейскага, М.Н.Канвісарава. Найб. вылучаюцца артэфакты з такіх помнікаў, як *Банцараўшчына*, Тураў, *Хільчыцы*, *Чачэрск*.

Фонд археазаалогіі мае ў сваім складзе эталонную астэалагічную калекцыю касцявых рэштак млекакормячых, складзеную ў большасці з археал. матэрыялаў, атрыманых пры раскопках помнікаў на тэр. Беларусі, у меншай ступені — з сучасных шкілетных прэпаратаў і ўзораў. Пачатак збіранню эталоннай калекцыі быў пакладзены ў к. 1950-х г. В.В.Шчагловай, асн. склад калекцыі сфарміраваны Н.П.Александровіч у 1975—94, у апошнія гады калекцыйны фонд папаўняе А.А.Разлуцкая.

*Н.М.Дубіцкая, А.У.Ільюцік, П.М.Кенька, М.В.Клімаў, А.А.Разлуцкая, І.М.Язэпенка.*

**ФРАНО́ПАЛЬ**, археалагічны комплекс — гарадзішча-сховішча і селішча апошняй чв. 10 ст. каля в. Франопаль Брэсцкага р-на.

Гарадзішча за 0,5 км ад старыцы р. Рыта, ва ўр. Акоп, на мысападобным выступе 1-й надпоймавай тэрасы. Пляцоўка ўмацавана кальцавым валам дыям. 30 м, выш. 1,5—2,5 м. Выявілі ў 1970 П.Ф.Лысенка і Т.М.Каробушкіна, абследавалі ў розны час Ю.У.Кухарэнка, В.С.Вяргей, М.М.Крывальцэвіч. У 1988, 1990—91, 2004 А.В.Іоў даследаваў 370 м². Культ. пласт каля 1,2 м. Па краі пляцоўкі выяўлены рэшткі драўляных канструкцый, размешчаныя перпендыкулярна валу. Ва ўсх. частцы пляцоўкі расчышчана

*Да арт.* ***Франопаль.*** *Знаходкі з гарадзішча: наканечнік похваў мяча (1), наканечнікі стрэл (2–6, 9, 10, 13–17), замок (7), фрагмент перакрыжавання мяча (8), рыбалоўны кручок (11), фібула (12), фрагмент бранзалета (18).*



прамавугольная студня памерамі 0,85 × 1 × 1,2 м, з драўлянай падлогай і 1–2-вянковым зрубам з дошак таўшч. 5 см. Верхняя частка сценак умацавана камянямі, паміж якімі выяўлены гліняны гаршчок. Знойдзена вял. колькасць абломкаў кругавога посуду, жал. наканечнікі стрэл і коп'яў, баявыя сякеры, калачападобныя крэсівы, спружынны замок, перакрыжаванне і бронзавы ажурны наканечнік похваў мяча, шкляныя пацеркі, шыферныя праслíцы, каменныя жорны і інш.

Селішча размешчана на краі тэрасы вакол гарадзішча. Пл. каля 1 га. У 1989 і 1991 А.В.Іоў даследаваў 336 м². Культ. пласт 0,4–1,5 м. Выяўлены абарончы роў перад валам гарадзішча і рэшткі зрубавага наземнага жытла з печчу-каменкай. Знойдзены жал. нажы, наканечнікі стрэл, шкляныя пацеркі і інш.

Раскопкі паказалі, што гарадзішча і селішча былі знішчаны ў выніку варожага нападу.

*Літ.*: Іоў А.В. Археалагічны комплекс X ст. каля в. Франопаль // Берасцейшчына. Помнікі гісторыі і культуры Брэстчыны: праблемы вывучэння, аховы і выкарыстання. Брэст, 1993; Кулаков В.И., Иов О.В. Наконечники ножен меча из кургана 174 могильника Кауп и с городища Франополь // КСИА. 2001. Вып. 211.

*А.В.Іоў.*

**ФРЭ́СКА** (італьян. fresco, літар. свежы), размалёўка па тынкоўцы, якая пры высыханні ўтварае тонкую празрыстую плёнку, што замацоўвае фарбы і робіць Ф. даўгавечнай; тэхніка манументальнага жывапісу, а таксама твор, выкананы ў гэтай тэхніцы. Тэхнічныя разнавіднасці: Ф. па свежай тынкоўцы, Ф. па сухой тынкоўцы, а таксама казеіна-вапнавы жывапіс. Для Ф. выкарыстоўваюць парашкі мінеральных пігментаў (охра, умбра, кобальт і інш.), расцёртыя на чыстай ці вапнавай вадзе або водна-клеявым растворы. Сувязным рэчывам паміж асновай і фарбавым слоем з'яўляецца вапна. Палітра фрэскавага жывапісу звычайна стрыманая, пры высыханні фарбы моцна блякнуць. Тэхніка Ф. вядома з 2-га тыс. да н.э. ў эгейскім мастацтве, была адной з асн. у антычным і візантыйскім мастацтве. Жывапісныя прыёмы візантыйскіх майстроў паўплывалі на работу стараж.-рус. мастакоў. У Беларусі найб. стараж. фрэскавыя размалёўкі захаваліся ў інтэр'еры *Полацкага Сафійскага сабора.* Унікальныя творы стараж. мастацтва – Ф. Полацкай Спаскай царквы (12 ст.). Ф. былі аздоблены інтэр'еры Барысаглебскай царквы ў Полацку, *Віцебскай царквы Звеставання, Гродзенскай Барысаглебскай царквы.* Манументальны жывапіс 14–16 ст. развіваўся ў цеснай сувязі з мастацтвам інш. слав. народаў. На манументальны жывапіс 17–18 ст. істотна паўплывалі эстэтычныя прынцыпы зах.-еўрап. мастацтва таго часу. У размалёўках культавых будынкаў праявіліся рысы барока: Ф. Мікалаеўскай царквы (17–18 ст.) і кляштара кармелітаў (1-я пал. 18 ст.) у Магілёве, кляштара езуітаў у Нясвіжы (1752), кляштара кармелітаў у Мсціславе (сяр. 18 ст.), царквы Раства Багародзіцы ў Слаўгарадзе (к. 18 ст.) і інш.

*Літ.*: Жывапіс Беларусі XII–XVIII стагоддзяў. Мінск, 1980; Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Церашчатава В.В. Старажытна-беларускі манументальны жывапіс XI–XVIII стст. Мінск, 1986.

*Н.Я.Трыфанава.*

**ФУ́РСАЎ** Мацвей Васілевіч (1825–8.6.1901), беларускі археолаг, краязнавец, педагог. Скончыў філасофскі ф-т Пецярбургскага ун-та (1848). Працаваў старэйшым выкладчыкам гісторыі ў Пскоўскай гімназіі, з 1858 інспектарам у Пскоўскім ваенным вучылішчы. У 1865 пераведзены на пасаду Шавельскага дырэктара вучылішчаў, з 1872 Слуцкі дырэктар вучылішчаў. У 1876–86 дырэктар Магілёўскай класічнай гімназіі. У 1861 абраны ў склад Пскоўскага губернскага статыстычнага к-та, з 9.12.1865 сапраўдны чл. Ковенскага губернскага статыстычнага к-та. 7.2.1883–18.11.1897 рэдактар неафіцыйнай часткі «Могилевских губернских ведомостей». Артыкулы прысвечаны гісторыі Магілёўскай гімназіі, кнігадрукаванню, сярэдневяковым судовым справам (1577–88, 1680), пытанням з'яўлення яўрэяў у ВКЛ, распаўсюджання праваслаўя ў Літве і Беларусі (да 16 ст.), рассялення крывічоў і інш. Адзін са стваральнікаў Магілёўскага губернскага музея. У рамках падрыхтоўкі да 9-га археал. з'езда 7.7–9.9.1892 правёў з С.Ю.Чалоўскім раскопкі 60 курганоў на могільніках Магілёўскай губ. (Рага-

чоўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чэрыкаўскі, Мсціслаўскі паветы). Згодна з высновамі Ф., Магілёўская губ. (Рагачоўскі, Чэрыкаўскі, Клімавіцкі і частка Быхаўскага паветаў) была заселена радзімічамі, а Мсціслаўскі і частка Быхаўскага паветаў (па р. Дняпро) з'яўляліся калоніяй драўлян. Па выніках працы на 9-м археал. з'ездзе 29.11.1893 абраны чл.-кар. Імператарскага Маскоўскага археал. т-ва. У 1897 даследаваў курган каля мяст. Цяцерын (Цецержын, зараз вёска ў Круглянскім р-не Магілёўскай вобл.).

*Тв.*: Исторический очерк Могилевской губернии // Опыт описания Могилевской губернии. Могилев, 1882. Т. 1; Обозрение раскопок, находок, приобретений древностей музеями и проч. в России и за границею // Археологические известия и заметки, издаваемые Московским археологическим обществом. М., 1893. Т. 1, № 11; Поселения смоленских кривичей в пределах нынешней Могилевской губернии // Могилевские губернские ведомости. 1895. № 70. 2 вер.; Дневник курганных раскопок, произведенных по поручению г. начальника Могилевской губернии А.С.Дембовецкого, в течение 1892 г. в уездах Рогачевском, Быховском, Климовичском, Чериковском и Мстиславском д. ст. сов. Фурсовым и старшим чиновником особых поручений при губернаторе С.Ю.Чоловским (разам з С.Ю.Чалоўскім) // Памятная книжка Могилевской губернии на 1893 г. Могилев; Курганные раскопки в пяти уездах Могилевской губернии в 1892 г. // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1; Маленькая экскурсия в деревню // Могилевские губернские ведомости. 1897. № 65. 13 жн.

*Літ.*: Левін Д. Некралог магілёўскага гісторыка М.Фурсава як біяграфічная крыніца (факты і фігуры замоўчвання) // Бел. гіст. агляд. Менск, 1998. Т. 5, сш. 2.

*В.І.Кошман.*



**ХАЛО́ПЕНІЧЫ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і селішча каля в. Халопенічы Глускага р-на Магілёўскай вобл.

Гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур, за 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Гарадзішча, на невысокім узвышшы сярод асушаных балот. Пляцоўка амаль круглая, дыям. 74 м. Умацавана земляным валам выш. 1,6 м, шыр. 16 м. Вядома з 1924, абследавалі ў 1930 А.Рынейскі, у 1957 В.М.Мельнікоўская, у 1960 Л.Д.Побаль, у 1961 В.В.Сядоў. У 1978 А.А.Егарэйчанка даследаваў 220 м$^2$. Культ. пласт каля вала складаў 0,7 м, бліжэй да цэнтра пляцоўкі 0,3 м. Прарэзка вала паказала, што паселішча ўзнікла ў к. 6 ст. да н.э. Першапачаткова было абкружана драўлянай сцяной (пад асновай вала прасочаны слупавыя ямы). Пазней на месцы сцяны насыпаны земляны вал выш. больш за 1 м, шыр. 7,5 м з дадатковымі драўлянымі ўмацаваннямі на грэбені. Пасля змены мілаградскіх плямён зарубінецкімі вал быў умацаваны дадатковай падсыпкай да выш. 1,6 м. Выяўлены слупавыя і некалькі гасп. ям чаша- і званападобнай у разрэзе формы. Знойдзены ляпны посуд мілаградскай і зарубінецкай культур (15% са штрыхоўкай на паверхні). Мілаградскія гаршкі мелі высокі, адагнуты вонкі венчык і моцна прафіляванае тулава (частка арнаментавана ямкамі на шыйцы). Зарубінецкі посуд прадстаўлены слабапрафіляванымі гаршкамі з кароткім адагнутым вонкі венчыкам. Знойдзены жал. нож для жніва, фр-т накапечніка кап'я, бронзавыя трапецападобная падвеска і фр-т бранзалета, гліняныя прасліцы. Датуецца 2-й пал. 1-га тыс. да н.э. – пач. 1-га тыс. н.э.

Селішча ранняга жал. веку і эпохі феадалізму за 0,7 км на ПдУ ад гарадзішча. Пл. каля 3 га. Вядома з 1924. Абследавалі ў 1930 А.Рынейскі, у 1964 Л.Д.Побаль. Знойдзены дробныя фр-ты ляпной і кругавой керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч // Працы. Т. 3; Егорейченко А.А. Раскопки городища Холопеничи // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982. *А.А.Егорейченко.*

**ХАЛЬЧ**, комплекс археалагічных помнікаў каля в. Хальч Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча-свяцілішча эпохі ранняга сярэдневякоўя за 0,65 км на ПнЗ ад вёскі, на мысе карэннай тэрасы правага берага р. Сож, пры ўпадзенні ў раку старыцы Шаманскі Заружак, ва ўр. Чырвоная Гара. Пляцоўка круглая, дыям. 30–33 м, абмежавана ярамі. З напольнага боку вал і роў. Пашкоджана акопамі і бліндажамі. Вядома з к. 19 ст. Абследаваў у 1991 А.А.Макушнікаў. Культ. пласт адсутнічае.

Селішча выцягнута ў напрамку в. Радуга, на пляцоўцы 4–6-метровай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, памеры каля 800 × 20–50 м. Адкрыў у 1991 А.А.Макушнікаў. Выяўлены матэрыялы каменнага веку, 1-га тыс. н.э., 10–11 ст.

Гарадзішча на паўн.-зах. ускраіне вёскі, на мысе карэннай правабярэжнай тэрасы р. Сож. Пляцоўка напаўавальная (110 × 90 м), значна відазменена сядзібным будаўніцтвам 19 ст. Абарончыя збудаванні не захаваліся. Абследавалі ў 1981 У.А.Літвінаў, С.Я.Рассадзін, у 1991 А.А.Макушнікаў. Культ. пласт да 1,6 м. Знойдзена кераміка мілаградскай, зарубінецкай культур, глінянае прасліца ранняга жал. веку, раннекругавы і кругавы посуд 9–11 ст.; кераміка, кафля 15–18 ст.

Курганны могільнік на ўскраіне вёскі і ва ўр. Зібень. Вядомы з к. 19 ст. налічваў 71 насып. Абследаваў у 1981 і 1991 А.А.Макушнікаў. Захавалася 5 напаўразбураных курганоў на мысе карэннай тэрасы каля гарадзішча-свяцілішча. Пры разаранні і скарбашукальных раскопках знаходзілі металічныя ўпрыгажэнні, шкляныя пацеркі, гліняны посуд.

Селішча к. 10–13 ст. за 0,5 км на ПдУ ад вёскі на пляцоўцы і схіле прывусцевага мыса яра Сялецкі Роў; значна разбурана. Памеры каля 450 × 80–100 м.

Курганны могільнік з 4 насыпаў размяшчаўся каля яра Сялецкі Роў. Вядомы з к. 19 ст.

Культавы камень знаходзіўся пры дарозе ў в. Радуга, ва ўр. Плескачоўка. На валуне былі

выявы месяца, падковы. Вядомы з к. 19 ст. У гэты ж час побач быў курган.

*Літ.*: Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: социально-экон. и этнокультур. развитие. Гомель, 2009. *А.А.Макушнікаў.*

**ХАМУТЫ́**, археалагічныя помнікі – месцазнаходжанні і стаянкі каля в. Хамуты Гродзенскага р-на.

Месцазнаходжанне-1 на левабярэжнай тэрасе р. Хамутоўка выш. 10–12 м, насупраць вёскі. Выявіў у 2002 В.С.Абухоўскі. Знойдзена крамянёвае цясла. Датуецца эпохай мезаліту.

Месцазнаходжанне-2 на агародах у паўн. частцы вёскі, паміж дарогай і краем правабярэжнай тэрасы ракі, якая мае выш. 15–17 м. Выявіў у 2002 В.С.Абухоўскі. Знойдзены крамянёвыя пласціна, адшчэп, лушчань. Помнік датуецца каменным векам, познім сярэдневякоўем.

Месцазнаходжанне-3 на дарозе, якая размешчана бліжэй да ракі. Выявіў у 2002 В.С.Абухоўскі. Знойдзены фр-т двухпляцовачнага монафрантальнага з сустрэчным сколваннем нуклеуса. Знаходка аднасіцца да эпохі фінальнага палеаліту (*свідэрская культура*).

Стаянка-1 на правабярэжным поплаве ракі, на дзюне выш. да 3 м (мясц. назва Смольніца). Выявіў у 2002 В.С.Абухоўскі. Датуецца эпохай фінальнага палеаліту і мезаліту.

Стаянка-2 на левабярэжнай тэрасе р. Хамутоўка выш. 3–5 м, на адлегласці каля 500–600 м на З ад месцазнаходжання-3, ва ўр. Падбелінскі Мосцік. Выявіў у 2002 і даследаваў у 2004 і 2007 В.С.Абухоўскі. Памеры 350 × 50 м. Знойдзены апрацаваныя крэмені, невял. колькасць ляпной керамікі. Датуецца эпохай фінальнага палеаліту.

*В.С.Абухоўскі, А.Ю.Ткачоў.*

**ХА́РЧЫЧЫ**, археалагічныя помнікі – курганныя і грунтавы могільнікі каля в. Харчычы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Курганны могільнік-1 за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, у лесе. 205 паўсферычных у плане насыпаў, частка абкружана раўкамі. Ва ўсх. частцы могільніка насыпы выш. 3–4 м, у зах. частцы курганы невысокія (0,5–1 м). За 1 км на З ад дарогі Высокая Гара–Харчычы, за 0,15 км на Пн ад асн. групы знаходзяцца яшчэ 15 курганоў. Адкрыты Ф.В.Пакроўскім у к. 19 ст. Абследавалі ў 1979 Л.Д.Побаль і Т.С.Бубенька. У 1998–2003 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч даследавалі 27 насыпаў у розных частках могільніка. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў насыпе (2), на попельным слаі на гарызонце (9), у падкурганнай яме (16); галавой на З (19), ПдЗ (2), ПнЗ (4), Пн (1). У 2 курганах выяўлены парныя пахаванні. Два курганы – кенатафы. Сем пахаванняў былі абкладзены плахамі. Характэрна наяўнасць буйных камянёў



*Да арт.* ***Харчычы.*** *Пахавальны інвентар з курганнага могільніка-1.*

на гарызонце і ў насыпах. У мужчынскіх пахаваннях інвентар адсутнічаў. У жаночых выяўлены разнастайныя пацеркі (металічныя зярнёныя, сердалікавыя, з горнага хрусталю, залаташкляныя бочкападобныя, паставыя непразрыстыя і інш.), металічныя скроневыя кольцы (трох- і чатырохпацеркавыя зярнёныя, бранзалетападобныя з завязанымі канцамі, паўтараабаротныя), бронзавыя ложнавітыя кольцы, ліраподобная спражка, крыж з выявай распяцця, сярэбраныя з залачэннем круглыя і крыжападобныя бляшкі ачэлля, жал. нажы. У 3 курганах (мужчынскае, жаночае пахаванні і кенатаф) знойдзены мініяцюрныя кругавыя гаршкі. Датуецца 11–12 ст.

Курганны могільнік-2 за 1 км на ПнЗ ад вёскі, у лесе. 8 невысокіх (0,5 м) плоскіх насыпаў дыям. 5–7 м. Адкрылі ў 1999 і ў 2000–01 даследавалі 2 курганы А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на тонкім попельным слаі на гарызонце, галавой на Пн і ПнУ. Інвентар адсутнічаў.

Грунтавы могільнік прымыкае з З да курганнага могільніка-1. Пл. каля 1 га. Магілы пашкоджаны, надмагільныя камяні і груба высечаныя крыжы, якія стаялі ў галавах пахаванняў, павалены. Выяўлены Ф.В.Пакроўскім у к. 19 ст. У 1998 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч даследавалі 67 м². Выяўлена 5 магільных ям памерамі 1,2–1,8 ×

0,4 м, глыб. 0,4–0,7 м, арыентаваных па лініі З–У. Тры пахаванні разбураны. Нябожчыкі ляжалі на спінах галовамі на З, рукі складзены на поясе. Інвентар адсутнічаў. У раскопе знойдзены некалькі фр-таў кругавой керамікі. Датуецца 14 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў вучэбнай лабараторыі гіст. ф-та БДУ.

*Літ.*: Плавинский А.Н. Погребальные памятники возле деревни Харчичи // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17; Яго ж. Раскопки курганов у деревни Харчичи // Там жа. Мінск, 2003. № 18; Яго ж. Раскопки курганного могильника Харчичи в 2003 г. // Там жа. Мінск, 2004. № 19. *А.М.Плавінскі.*

**ХАРЫТАНО́ВІЧ** Зоя Анатолеўна (н. 28.3.1978, Мінск), беларускі археолаг. Скончыла БДУ (2003). З 2009 у ІГ НАН Беларусі. Вывучае этнакульт. працэсы на тэр. Паўн. і Цэнтр. Беларусі ў жал. веку, асаблівасці матэрыяльнай культуры насельніцтва штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай культур. Праводзіла раскопкі на гарадзішчах і селішчах жал. веку і сярэдневякоўя Новыя Валосавічы і Стары Лепель (Лепельскі р-н), Асавец-3 (Бешанковіцкі р-н), Глядавічы (Мастоўскі р-н), Гуры і Тратанішкі (Астравецкі р-н), Галіны (Ашмянскі р-н).

*Тв.*: Городище Поддубники // МАБ. 2007. №14; К вопросу о культурной принадлежности городищ северо-запада Беларуси // Там жа. 2008. № 15; Новые находки изделий с выемчатыми эмалями на территории Беларуси // Там жа; Особенности керамического комплекса городищ Центральной Беларуси // ГАЗ. Мінск, 2010. № 25.

**ХАЎХО́ЛІЦА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі каля в. Хаўхоліца Барысаўскага р-на Мінскай вобл.

Курганны могільнік-1 за 1,5 км на Пн ад вёскі. 45 круглых курганоў і некалькі магіл, абкладзеных камянямі. У 1931 А.М.Ляўданскі даследаваў 2 курганы і магілу. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў ямах галавой на З. Знойдзены каменны крыжык, абкладзены сярэбранымі арнаментаванымі бляшкамі. Курганы датуюцца 11–12 ст., магілы – 13–14 ст.

Курганны могільнік-2 за 1 км на У ад вёскі, каля дарогі ў в. Востраў. 12 насыпаў (раней было 25), большасць выш. 1–1,8 м, дыям. 4–5 м. Каля некаторых ёсць раўкі. Некалькі насыпаў пашкоджана пры пракладцы дарогі. У 1979 абследаваў В.А.Карпека. Знойдзены шкілет чалавека і гліняны гаршчок з патоўшчаным краем (11 ст.).

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930–1931 гг. // Працы. Т. 3. *Г.В.Штыхаў.*

**ХАЦІ́НАВА**, археалагічны помнік – курганны могільнік 11–12 ст. каля в. Хацінава Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 0,8 км на ПдУ ад вёскі, на ўзвышшы правага берага р. Собалеўка (Уюнок). 31 курган выш. 0,3–1 м, дыям. 3,2–6 м. Мясц. назва Шведскія магілы. Падножжы насыпаў абкладзены камянямі. Паводле К.Салевіча, у 1930-я г. было больш за 50 насыпаў. У 1960 І.В.Біруля даследаваў 10 курганоў, у 1982–83, 1990 Т.М.Каробушкіна – 15. Пахавальны абрад – трупаспаленне на попельнавугальнай падсыпцы (1), трупапалажэнне з частковым спаленнем на гарызонце (1), трупапалажэнні на гарызонце і ў ямах, галавой на З. У адным насыпе зафіксавана парнае пахаванне (жанчына 30–35 гадоў і нованароджанае дзіця), у адным – пахаванне не выяўлена. Пахавальны інвентар: абломкі керамікі і цэлыя гаршкі, прасліцы з ружовага сланцу, металічныя спражкі, цвікі, нож, скроневыя кольцы з S-падобнымі канцамі, пярсцёнак і інш.




*Да арт.* ***Хацінава***. *Скроневыя кольцы (1–4, 10, 11), пярсцёнкі (5,6), спражка (7), прасліца (8), каменнае яйка (9).*

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Курганы Белорусского Побужья X–XIII вв. Минск, 1993. *Т.М.Каробушкіна, А.В.Іоў.*

**ХВАШЧО́ЎКА**, археалагічныя помнікі – паселішча і бескурганны могільнік каля в. Хвашчоўка Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча эпохі неаліту за 0,8 км на ПнЗ ад вёскі, на ўсх. схіле пясчанага ўзвышша (выш. над поплавам р. Прыпяць 12–15 м). У 1960 выявіў, у 1976 абследаваў У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2 м, прасочаны ўздоўж берага на 160 м. Знойдзена 250 апрацаваных крамянёў, 23 крамянёвыя прылады працы, 180 фр-таў гаршкоў *днепраданецкай культуры.*

Бескурганны могільнік тшцінецкай культуры за 0,7 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Пясчаніца, на пясчанай градзе. Памеры 60 × 30 м. У 1976 выявіла і абследавала Т.М.Каробушкіна. На паверхні сабраны фр-ты пласкадонных ляпных гаршкоў з ямкавым і лінейным арнаментам, кальцынíраваныя косткі, перанесеныя з пахавальнага вогнішча (памер скопішча 2 × 1,5 м). Датуецца сяр. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.:* Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Коробушкина Т.Н. Обследование Хойникского района Гомельской области // АО 1976. М., 1977. *У.Ф.Ісаенка, Т.М.Каробушкіна.*

**ХВО́ЙНА**, археалагічныя помнікі – стаянка, гарадзішча і курганны могільнік каля былой в. Хвойна Магілёўскага р-на.

Стаянка ранняга этапу *грэнскай культуры* за 3,5 км на У ад Магілёва, за 3 км на З ад шашы Санкт-Пецярбург–Адэса, на левым беразе Дняпра, за 2 км вышэй вусця яго прытока р. Хвоенка. Адкрыў у 1975 і даследаваў 500 м² у 1985–89 В.Ф.Капыцін. Паўн. частка стаянкі знішчана кар'ерам, астатняя даследавана поўнасцю. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, сярод якіх пераважаюць скрабкі канцавых форм (32%) двайныя (з каротких пласцін і адшчэпаў), разцы рэтушныя, на рагу зламанай загатоўкі і двухгранныя (амаль 29%), наканечнікі стрэл (уласна тронкавыя, асіметрычныя з бакавой выемкай грэнскага тыпу, з крутой рэтушшу па краі пяра), вастрыі (ёсць з рэтушаванай асновай), праколкі, вырабы з выемкамі, сякера з двухбаковай выемкай, пласціны-ўкладышы (ёсць з рэтушшу), дробныя асколкі і лускавінкі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы.

Гарадзішча ранняга жал. веку на правым беразе Хвоенкі, паміж былой в. Хвойна і в. Агеeўка, за 0,5 км на У ад шашы Санкт-Пецярбург–Адэса, ва ўр. Кучугур. Пляцоўка авальнай формы памерамі 36 × 33 м, выш. 6,5–8 м. Арыентавана з Пн на Пд. З боку поля ўмацавана валам выш. да 3 м, з паўд. боку – 2 валамі выш. 2 і 1,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1936 В.Р.Тарасенка, абследавалі ў 1974 Я.Р.Рыер, у 1977 Л.У.Дучыц, у 1989 В.Ф.Капыцін, у 1990 А.А.Седзін. У шурфах выяўлены фр-ты гладкасценнай, штрыхаванай і кругавой керамікі, попел, вуголле.


*Крамянёвыя наканечнікі стрэл са стаянкі **Хвойна**.*

Курганны могільнік Кіеўскай Русі на левым беразе Хвоенкі, пры ўпадзенні яе ў Дняпро, за 2 км на З ад шашы Санкт-Пецярбург–Адэса. 3 насыпы выш. 0,7–1 м, дыям. 10–14 м, на месцы паселішча каменнага веку. Адкрыў у 1968 І.І.Арцёменка. Абследаваў у 1975 і 1989 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,1–0,2 м. Выяўлены крамянёвыя пласціны, адшчэпы, фр-ты керамікі. Раскопкі курганоў не праводзіліся.

*Літ.:* Копытин В.Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Его ж. Археологические памятники Могилева и окрестностей. Могилев, 1993.

*В.Ф.Капыцін, А.А.Седзін.*

**ХІ́ЛЬЧЫЦЫ**, археалагічныя помнікі – паселішчы, гарадзішча, селішча, курганны могільнік каля в. Хільчыцы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 эпохі мезаліту за 1 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Прыстань. У 1927 выявілі А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў, у 1976 абследаваў У.Ф.Ісаенка. У агаленнях дзюны памерамі 240 × 100 м знойдзены невял. крамянёвыя пласціны, прылады геам. форм, мікраліты. Датуецца 8–5-м тыс. да н.э.

Паселішча-2 эпохі неаліту за 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Горка. У 1927 выявілі А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў, у 1976 абследаваў У.Ф.Ісаенка. На пл. памерамі 150 × 45 м знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, разцы, праколкі і інш.) і кераміка з ямкава-грабеньчатым арнаментам. Датуецца 4–3-м тыс. да н.э.

Гарадзішча зарубінецкай культуры і *мілаградскай культуры* за 0,5 км на Пд ад вёскі, на пясчанай дзюне, якая цягнецца на 2,5–3 км уздоўж забалочанай поймы р. Сцвіга, ва ўр. Прыстань. Памеры 45 × 38 м. З боку поля пляцоўка ўмацавана падковападобным валам выш. 1,8 м. Вядома з к. 19 ст. Абследавалі ў 1928 А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў, у 1961 Ю.У.Кухарэнка, у 1974 Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,3–0,4 м. Знойдзена кераміка мілаградскай культуры, грубаляпная і глянцаваная кераміка зарубінецкай культуры, а таксама характэрныя для яе помнікаў праслíцы, ляпная кераміка, блізкая да хотамельскай. Матэрыялы даюць падставу меркаваць, што гарадзішча ў 1-й пал. 1-га тыс. н.э. выкарыстоўвалася плямёнамі зарубінецкай культуры.

Селішча жал. веку, за 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Муравін, на пясчаным узвышшы. У 1980 выявіў, у 1981 даследаваў 300 м² Г.М.Залашка. Культ. пласт 0,3 м. Знойдзены фр-ты ляпной керамікі

мілаградскай і зарубінецкай культур, расшчэплены крэмень і кальцыніраваныя косці, больш за 600 фр-таў гаршкоў, бронзавыя наканечнікі стрэл скіфскага тыпу (з шыпам на ўтулцы), трапецападобная падвеска, кольца, фр-т шпількі, рымская сіняя шкляная пацерка, крамянёвыя наканечнікі стрэл, прасліцы, сярпы, рэшткі жал. вырабаў, гліняных кружкоў невядомага прызначэння. Датуецца 7–1 ст. да н.э. Узнікла на месцы стаянкі бронзавага веку.

Курганны могільнік *дрыгавічоў* за 1 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Горка, на выспе. У 1927 абследавалі А.Дз.Каваленя і С.С.Шутаў (50 курганоў). У 20 насыпах пахавальны абрад – трупапаленне, у астатніх – трупапалажэнне на гарызонце, галавой на З. Пахавальны інвентар: сярэбраныя скроневыя кольцы, сінія шкляныя, зярнёныя і сердалікавыя пацеркі, васьміграннныя сярэбраныя пярсцёнкі, цвікі ад дамавін, гаршкі. Могільнік разбураны ветравой эрозіяй. Датуецца 10–11 ст.

*Літ.*: Каваленя А.Дз., Шутаў С.С. Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны // Працы. Т. 2; Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. 1961. Вып. Е1–57; Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 1. Памятники каменного века. Минск, 1968; Поболь Л.Д. Древности Туровщины. Минск, 1969. *У.Ф.Ісаенка, Г.В.Штыхаў.*

**ХО́ДАСАВІЧЫ**, комплекс археалагічных помнікаў каля в. Ходасавічы Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл., на левабярэжжы р. Сож.

Селішча і свяцілішча (культавыя пляцоўкі) за 3,5 км на З ад вёскі, каля вусця безыменнага ручая. Даследавалі ў 1969–70 Г.Ф.Салаўёва і А.В.Куза. Культ. пласт утрымлівае матэрыялы каменнага, бронзавага вякоў, калочынскай і роменскай культур, раннекругавую і кругавую кераміку 9–11 ст. Адкрыты рэшткі 2 заглыбленых жытлаў з керамікай роменскага тыпу. На думку аўтараў раскопак, на апошнім этапе існавання селішча (10–11 ст.) тут размяшчалася свяцілішча: выяўлены 2 комплексы з кальцавідных канавак і ям.

Селішча за 3,5 км на З ад вёскі, з паўд. боку воз. Добрае (Святое). Даследавала ў 1969 Г.Ф.Салаўёва. Знойдзена пераважна кругавая кераміка к. 10 – пач. 13 ст., трапляецца ляпная кераміка роменскага тыпу. У 1970–80-я г. пляцоўка пашкоджана кар'ерам.

Курганны могільнік-1 за 3,5 км на З ад вёскі, на беразе воз. Добрае (Святое), у лесе, на ўскраіне надпоймавай тэрасы. Даследавалі І.І.Арцёменка ў к. 1950-х – пач. 1960-х г., у 1969 Г.Ф.Салаўёва і С.С.Шырынскі (6). З Пн прымыкае да свяцілішча. Налічваў больш за 100 насыпаў, да сяр. 1970-х г. было каля 55. Датуецца эпохай бронзы і 11–12 ст. Сярэдневяковыя пахаванні – па абраду трупапалажэння.

Курганны могільнік-2 за 0,5 км на ПдУ ад першага, ва ўр. Мошка 2-я. Выявіў у 1951 Ю.У.Кухарэнка. У 1959–62 І.І.Арцёменка даследаваў 17 курганоў, 12 з якіх адносяцца да бронзавага веку. У 16 насыпах знойдзены фр-ты посуду і крамянёвыя вырабы эпохі неаліту к. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э. У 1969 Г.Ф.Салаўёва і С.С.Шырынскі даследавалі 5 курганоў. Датуюцца эпохай бронзы і 8–12 ст. У 1990-я помнікі разбураваны скарбашукальнікамі.

Курганны могільнік-3 за 3 км на З ад вёскі, па лясной дарозе да воз. Добрае (Святое). Да сяр. 1970-х было 32 насыпы. Даследавалі І.І.Арцёменка ў к. 1950-х – пач. 1960-х г., у 1969 Г.Ф.Салаўёва і С.С.Шырынскі (5). Датуюцца эпохай бронзы і 8–12 ст. У 1990-я г. помнікі разрабаваны скарбашукальнікамі.

Стаянка-1 за 0,4 км на ПдЗ ад курганнага могільніка-2 ва ўр. Мошка, за 0,15 км ад воз. Харшова на ўзвышшы. У 1959 І.І.Арцёменка даследаваў 48 м². Культ. пласт 0,2–0,25 м. Знойдзены крамянёвыя і каменныя прылады, фр-ты ляпной керамікі, арнаментаванай грабеньчатым і лапчастым штампам, наколамі эпохі неаліту.

Стаянка-2 на ўсх. беразе воз. Харшова. У 1959 І.І.Арцёменка даследаваў 80 м². Культ. пласт 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя і каменныя прылады, фр-ты ляпнога посуду неаліту і бронзавага веку к. 3-га – пач. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: Артеменко И.И. Неолитические стоянки и курганы эпохи бронзы близ с. Ходосовичи Гомельской области БССР // Памятники каменного и бронзового веков Евразии. М., 1964; Соловьева Г.Ф. Археологические раскопки близ Рогачева Гомельской области // АО 1969. М., 1970; Куза А.В., Соловьева Г.Ф. Языческое святилище в земле радимичей // СА. 1972. № 1. *А.А.Макушнікаў.*

**ХО́ЗЕРАЎ** Іван Макаравіч (5.2.1889, г. Смаленск, Расія – 21.3.1947), беларускі і рускі мастацтвазнавец, гісторык архітэктуры. Вучыўся на аддзяленні Маскоўскага археал. ін-та ў Смаленску (1916–19). Да 1941 працаваў у Смаленскім дзярж. музеі, з 1946 начальнік аддзела аховы помнікаў Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР. Вывучаў стараж. помнікі архітэктуры і мастацтва Беларусі, Смаленшчыны і інш. У 1926 разам з М.Шчакаціхіным даследаваў *Полацкі Сафійскі сабор* 11 ст., устанавіў, што яго зах. апсіды прыбудаваны не раней 15 ст. Абследаваў верхнія часткі *Полацкай Спаскай царквы* 12 ст., высветліў пачатковую форму яе акон і значна дапоўніў рэканструкцыю першапачатковага выгляду храма. У 1928 правёў раскопкі Барысаглебскай і Пятніцкай цэркваў 12 ст., Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра (гл. ў арт. *Бельчыцкія храмы*), зрабіў абмеры ацалелых рэштак храмаў, сфатаграфаваў, часткова замаляваў фрэскавую размалёўку помнікаў. На падставе яго даследаванняў вучоныя

ўстанавілі існаванне самастойнай полацкай архіт. школы і яе моцны ўплыў на смаленскае дойлідства. У 1946 даследаваў *Гродзенскую Барысаглебскую царкву.*

*Тв.:* Да пытання аб Спасаўскай царкве ў Полацку // ГАЗ. Мінск, 1927. № 1; Полацкае будаўніцтва старадаўняга перыяду // Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мінск, 1928. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва, т. 1, сш. 1; Полацкая архітэктура XI–XII стагоддзяў у святле новых даследаванняў // Маладосць. 1991. № 6 –10.

*Літ.:* Воронин Н.Н. Бельчицкие руины // Архитектурное наследство. М., 1956. Вып. 6.

*А.А.Трусаў.*

**ХО́ЛМЕЧ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Холмеч Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Дубовіцы (б. маёнтак). У 19 ст. было 113 курганоў, захаваліся рэшткі 10 насыпаў. У 1890 У.З.Завітневіч даследаваў 19 насыпаў. У 7 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення, у 2 – косткі свойскай жывёлы (магчыма, сяляне выкарыстоўвалі стараж. курганы для закопвання жывёлы, якая загінула). У 10 курганах пахавальны абрад – трупапалажэнне ў дамавінах галавой на З. Знойдзены жал. сякеры, каля рук нябожчыкаў – кубкі з чарапахі, адзін – з чэрапа чалавека. Датуецца 10–12 ст.

*Літ.:* Завитневич В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1892.

*Г.В.Штыхаў.*

**ХО́ТАМЕЛЬ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішчы і могільнік каля в. Хотамель Столінскага р-на Брэсцкай вобл. За 2 км на ПдЗ ад вёскі ва ўр. Хутар Гарадзішча, на доўгай пясчанай градзе.

Гарадзішча на зах. ускраіне грады, паміж балоцістай нізінай і старарэччам. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 40 × 30 м, умацавана валам і ровам (захаваліся з зах. і ўсх. бакоў). Адкрыў і абследаваў у 1937 Р.І.Якімовіч, даследавалі ў 1953 Б.В.Міралюбаў, у 1954–57 Ю.У.Кухарэнка, у 1964 І.П.Русанава. Культ. пласт 0,4–2,5 м. Уздоўж унутранага схілу вала ў мацерыку выяўлены вял. карытападобныя ямы, запоўненыя вуголлем, каменнем, фр-тамі ляпнога посуду культуры тыпу Прага–Карчак. У адной з ям знойдзены абломак трохлопасцевай жал. стралы аварскага тыпу. Датуецца 7–8 ст. У верхнім гарызонце культ. пласта выяўлены рэшткі агнішчаў і слупавых ям, фр-ты ляпной керамікі культуры тыпу Лука-Райкавецкая, рэшткі кругавога посуду, жал. наканечнікі стрэл і дзід, спражка, пласціны даспехаў, сярэбраныя скроневае сяміпрамянёвае кольца і фр-т бранзалета з пашыранымі канцамі і інш. Знаходкі далі падставу Ю.У.Кухарэнку і І.П.Русанавай датаваць ніжні гарызонт 7 ст., верхні – 8–10 ст. Гарадзішча не было заселена, з'яўлялася сховішчам, грамадскім цэнтрам, месцам сходаў.





*Да арт.* ***Хотамель.*** *А – агульны выгляд гарадзішча; Б – план гарадзішча; В – план часткі даследаванага селішча; Г – знаходкі з гарадзішча і селішча.*

Селішча-1 на У і З ад гарадзішча, пл. 5–6 га. Культ. пласт 0,2–0,5 м. Даследавалі ў 1964 Ю.У.Кухарэнка і І.П.Русанава (16 жытлаў). Прамавугольныя ў плане паўзямлянкі (пл. 12–30 м², паглыблены ў мацярык на 0,1–0,8 м) мелі роўную земляную падлогу і сцены з двайнога плятня, абмазанага глінай. Абаграваліся круглымі ў плане (дыям. 0,8–1,5 м, таўшч. сценак 8–9 см, пода – 5–10 см) глінабітнымі печамі на драўляным каркасе, размешчанымі ў куце альбо каля сцяны. Некаторыя печы пабудаваны на месцы агнішчаў. У жытлах выяўлены гасп. ямы і слупавыя прыбудовы. Знойдзена ляпная кераміка (адпаведная фр-там з верхняга гарызонту гарадзішча), кругавы посуд, жал. нажы, сярпы, долаты, тачыльныя брускі, гліняныя і шыферныя праслiцы, рыбалоўныя восцi.

Селішча-2 размешчана ў паўн. частцы вёскі. Адносіцца да зарубінецкай культуры. Адкрыў у 1957 Ю.У.Кухарэнка. У 1990-я г. даследа-

*Да арт.* ***Хотамель.*** *Храналагічная схема селішча-2.*





*Да арт.* ***Хотамель.*** *Рэканструкцыя інтэр'ера жытла (1) і рэканструкцыя прыстасавання агнішча для абпалу керамікі (2) з селішча-2.*

вала Г.М.Бяліцкая (558 м²). Культ. пласт 0,6–1,2 м. Выяўлены 3 жытлы са слупавой і зрубнай канструкцыяй сцен (пл. 16–24 м²). Аснова аднаго з іх заглыблена ў мацярык на 0,2 м. Глыб. катлаванаў 0,5–1,15 м. Жытлы прамавугольныя ў плане, арыентаваны кутамі альбо сценамі па баках свету. Абаграваліся печамі, збудаванымі з гліны, камянёў і фр-таў керамічнага посуду, якія размяшчаліся ў адным з кутоў жылой пабудовы. У запаўненні знойдзены фр-ты ляпных пасудзін, жал. вырабаў, гліняныя прасліцы. Даследаваны рэшткі аднакамернага прыстасавання агнішча для абпалу керамічнага посуду, урэзанага ў мацярык. Валькі з гліны (дыям. 0,3 м), пакладзеныя ў аснову катлавана акруглай у плане формы (2,1 × 1,9 м, глыб. 0,5 м), выконвалі функцыю насціла. Буйныя абломкі посуду разам з камякамі гліны ўтваралі цеплаправодныя каналы. Унутраная прастора ямы выконвала функцыі 2 сумешчаных прыстасаванняў – для размяшчэння вырабаў і паліва. Пастаяннага перакрыцця над унутраным аб'ёмам не было. Усе канструкцыі рабіліся часовымі і разбіраліся пасля чарговага абпалу. Выяўлены рэшткі ахвярнай пляцоўкі. На ёй знойдзены звыш 2000 фр-таў посуду, каля 200 экзэмпляраў костак жывёлы (у т. л. чэрап каня з бронзавай трапецападобнай падвескай), рэчавыя знаходкі: грузік, прасліцы з гліны, фр-т нажа, іголка ад фібулы, посахападобная шпілька з жалеза, каменныя брускі, пашкоджаны агнём фр-т бранзалета з паставага шкла.

Бескурганны могільнік за 0,2 км на ПдУ ад гарадзішча. Адкрыты ў час земляных работ. На глыб. 0,6 м у яме знойдзены перавернуты ляпны гаршчок з кальцыніраванымі касцямі, абкладзены камянямі.

Х. – адзін з першых раннеслав. помнікаў 2-й пал. 1-га тыс., даследаваных на Пд Беларусі і ПнЗ Украіны. Разглядаўся як эталонны для вывучэння раннесярэдневяковых славян.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. 1961. Вып. Е1–57; Яго ж. Памятники железного века на территории Полесья // Там жа. Вып. Д 1–29; Русанова И.П. Славянские древности VI–IX вв. между Днепром и Западным Бугом // Там жа. 1973. Вып. Е1–25; Бяліцкая Г.М. Паселішча зарубінецкай культуры ў нізоў'ях р. Гарынь // ГАЗ. Мінск, 1996. № 9.

*В.С.Вяргей, Г.М.Бяліцкая.*

**ХО́ЦІМСК**, гарадскі пасёлак, цэнтр Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл. На левым беразе р. Беседзь пры ўпадзенні ў яе рэк Альшоўка і Жадунь. Упершыню Х. упамінаецца ў 1709 як слабада. З сяр. 18 ст. цэнтр воласці ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяводства ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 Х. у складзе Расійскай імперыі.

Гарадзішча на правым беразе р. Беседзь, па вул. Набярэжная. Пляцоўка авальная, памерамі 45 × 35 м, узвышаецца над узроўнем вады на 8 м. З Пн, ПнЗ і ПнЗ умацавана валам (ацалеў часткова) выш. каля 2 м. Вядома з 1873, абследавалі ў 1945 К.М.Палікарповіч, у 1974 Я.Р.Рыер, у 1978 В.Е.Собаль. Культ. пласт каля паўд.-ўсх. краю пляцоўкі 0,5 м, у цэнтры 0,5 м. Знойдзена кераміка мілаградскай культуры.

Курганны могільнік за 500 м на Пд ад гар. пасёлка, у сасновым лесе. 32 насыпы дыям. 6–12 м, выш. 0,5–2 м. Вядомы з 1873, 4 курганы ў 1892 раскапаў С.Ю.Чалоўскі. Пахавальны абрад – трупапалажэнне і трупаспаленне. Абследавалі ў 1974 Я.Р.Рыер, у 1978 В.Е.Собаль. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.*: Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Изв. имп. археол. комиссии. Санкт-Петербург, 1903. Вып. 5; Копытин В.Ф. Археологические памятники Хотимского района Могилевской области. Могилев, 1997.

*В.Е.Собаль.*



**ЦАГЕ́ЛЬНЯ**, археалагічны помнік – курганны могільнік 12–13 ст. каля в. Цагельня Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. За 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, 0,1 км на З ад палявой дарогі да пас. Красны Бераг Жлобінскага р-на. 47 паўсферычных насыпаў, абкружаных раўкамі. Дыям. курганоў 1,5–8 м (15), 10–13 (28), выш. 0,5–3 м. У зах. частцы могільніка 4 курганы выш. 3–5 м, дыям. 15–17 м. Вядомы з 1924, у 1977 абследаваў А.Р.Мітрафанаў. У 1985 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч даследавалі 7 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце (1), у падкурганных ямах глыб 0,4–1 м (6) галавой на З. У 2 выпадках выяўлены парныя пахаванні ў асобных ямах. У 3 курганах нябожчыкі былі абкладзены плахамі. Пахавальны інвентар: фр-ты кругавой керамікі, глінянае прасліца, бронзавыя кольцы і бранзалет, шкляныя пацеркі, фр-т жал. цугляў. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў вучэбнай лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та БДУ.

*А.М.Плавінскі.*

**ЦА́ЛКІН** Веніямін Іосіфавіч (1903, Ніжні Ноўгарад, Расія – 1970), расійскі палеазаолаг, тэрыёлаг, марфолаг-сістэматык, заснавальнік сістэматычных археазаалагічных даследаванняў. Д-р біялагічных навук (1947). Скончыў Маскоўскі ун-т (1928), працаваў у сельскагаспадарчай акадэміі імя К.А.Ціміразева, Заалагічным музеі, на біялагічным ф-це МДУ. З 1946 г. старшы навук. супрацоўнік, заг. астэалагічнага кабінета ІГ матэыяльнай культуры (з 1957 Ін-т археалогіі АН СССР), з 1966 г. віцэ-прэзідэнт і рэдактар Бюлетэня Маскоўскага таварыства выпрабавальнікаў прыроды. Даследаваў касцявыя рэшткі жывёл з 350 археал. помнікаў ад неаліту да позняга сярэдневякоўя. У археалогіі Беларусі апрацаваў і апублікаваў вялікую калекцыю касцявых рэштказ жывёл з раскопак М.М.Вароніна ў Гродне, кансультаваў і выступаў куратарам даследаванняў бел. палеантолага і археазаолага В.В.Шчагловай.

*Літ.:* Воронин Н.Н. Древнее Гродно // МИА. 1954. № 41; Форомозов А.А. Вспоминая В.И.Цалкина // Новейшие археозоологические исследования в России: к столетию со дня рожд. В.И.Цалкина. М., 2003.

*А.А.Разлуцкая.*

**ЦАРКО́ВІШЧА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішча, стаянка, курганы каля в. Царковішча Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.

Гарадзішча ранняга жал. веку і перыяду Стараж. Русі за 1 км на ПдУ ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра. Мясц. назва – Захар'ева горка. Пляцоўка авальная, памеры 43 × 39 м, узвышаецца над тальвегамі яроў на 14–16 м, нахілена на У. Умацавана падковападобным валам, вышынёй 0,5–3,5 м і ровам глыб. 2,5 м. Гарадзішча пашкоджана траншэямі перыяду Вял. Айчыннай вайны. Выявіла і даследавала ў 1965 Г.Ф.Салаўёва, абследавалі ў 1977 і 1991 В.Ф.Капыцін, у 1978 і 1983 В.М.Ляўко, у 1996 даследаваў А.А.Седзін. Культ. пласт цёмна-шэры 0,4–1 м. Знойдзены фр-ты ляпнога (гладкасценнага і пакрытага штрыхоўкай) і круглага посуду, гліняныя грузікі дзякова тыпу, бронзавая посахападобная шпілька.

Селішча ранняга жал. веку і трэцяй чвэрці 1-га тыс. н.э. каля ўсх. падножжа гарадзішча. Выявіў і абследаваў у 1996 А.А.Седзін. Культ. пласт светла-шэрай афарбоўкі. Знойдзены фрагменты ляпнога керамічнага посуду.

Стаянка эпохі мезаліту за 0,6 км на Пд ад вёскі, на другой надпойменнай тэрасе правага берага Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1973 В.Ф.Капыцін. Знойдзены наканечнік стралы, скрабкі, нуклеусы, адшчэпы з крэменю.

Курганы 7–8 ст. за 1,2 км на ПдУ ад вёскі. 7 насыпаў, у т.л. 6 паўсферычных, акруглых у плане, выш. 0,3–1,5 м, дыяметрам 6–14 м. Захаваўся 1 доўгі курган памерамі 22 × 6 м, выш. 1,5 м. Адкрыла і даследавала ў 1965 Г.Ф.Салаўёва. Абследавалі ў 1977 і 1991 В.Ф.Капыцін, у 1978 і 1983 В.М.Ляўко. У кургане 2 пахаванні, зробленых па абраду трупаспалення: 2 мужчын (1-е пахаванне) і жанчына (2-е пахаванне). Знойдзены жал. дроцік і нож, зліткі аплаўленай бронзы і фр-ты ляпнога керамічнага посуду.

*Літ.:* Соловьева Г.Ф. Памятники конца I тысячелетия н.э. в Верхнем Поднепровье // Древние славяне и их соседи. М., 1970 (МИА; № 176).

*А.А.Седзін.*

**ЦА́ЦКІ**, прадметы для дзіцячых гульняў. Першымі Ц., мабыць, былі рознакаляровыя каменьчыкі, ракавінкі, шышкі і інш. прыродныя рэчы. Асэнсаваны выраб Ц., верагодна, адносіцца да эпохі неаліту. На стаянках Аляксандраўка, Вешня, Вялікае Арэхава, *Камень*, *Пагост-Загародскі* Пінскага р-на, Нобель, Сеньчыцы Ровенскай вобл. выяўлены апрацаваныя крамяні, якія нагадваюць па форме розных жывёл і птушак. У раннім жал. веку ў якасці Ц. маглі выкарыстоўвацца таксама і гліняныя грузікі, рытуальныя збаночкі і хлябцы. На Пн Беларусі часам сустракаюцца галёначныя косці дробных жывёл і птушак з прасвідраванай адтулінай – т.зв. «жужаліцы», вядомыя і пазней па традыцыйных гульнях бел. дзяцей. У перыяд феадалізму Ц. найчасцей выраблялі з гліны, дрэва, скуры, косці, каменю. У Брэсце, Гродне, Полацку, Мінску, Віцебску ў пластах 12–13 ст. знойдзены драўляныя дзіцячыя мячы, лодачкі, рытуальныя булавы. На *Віцебскім Верхнім замку* выяўлены завостраны з абодвух канцоў калочак («клёк») і косць свінні з меткай у выглядзе літары А («бабка»), якія выкарыстоўваліся для гульні ў «чыжа». Пры раскопках гарадоў сустракаюцца мячыкі, сшытыя з 2 кружочкаў скуры дыям. 5–8 см і набітыя поўсцю, пакуллем, сенам, якія выкарыстоўваліся для гульні ў лапту. Ц. з'яўляліся і велікодныя яйкі, якія выраблялі з гліны і косці. У Брэсце знойдзены велікодныя яйкі з белай гліны, пакрытыя паліхромнай эмалевай размалёўкай, т.зв. пісанкі. У Слуцку выяўлена касцяное яйка і фігура конніка з гліны, пакрытая светла-зялёнай палівай па светлым ангобе (датуецца 13 ст.) . У пластах 17 ст. часта сустракаюцца гліняныя свістулькі ў выглядзе розных жывёл і птушак (Віцебск, Мінск, Слуцк), а таксама каменныя і гліняныя шарыкі для гульні ў *мурмельшпіль*. *Л.У.Калядзінскі.*

**ЦЕ́РАБЕНЬ**, археалагічныя помнікі – паселішчы неаліту, бронзавага і жал. вякоў каля в. Церабень Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 за 2 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Прыпяць. Даўж. пляцоўкі каля 200 м. Выявілі ў 1955 і даследавалі гасп. яму Ю.У.Кухарэнка і Б.В.Міралюбаў. У запаўненні ямы (глыб. 0,65 м) знойдзена больш за 300 вял. крамянёвых адшчэпаў-пласцін, каменныя сякеры з усечаным абухом і клінападобныя, фр-ты ляпной керамікі з грабеньчатым і шнуравым арнаментам, косткі дзікіх жывёл. У 1963 даследаваў У.Ф.Ісаенка (146 м$^2$), у 1980 В.С.Вяргей. Культ. пласт 0,3–1,1 м. Выяўлены 4 ямныя пахаванні ранняга жал. веку з трупаспаленнем, фр-ты керамікі нёманскай культуры, крамянёвыя прылады працы і загатоўкі (адшчэпы, разцы, скрабкі, трохвугольны наканечнік стралы і інш.), фр-ты грубаляпных гаршкоў з прачэрчаным і шнуравым арнаментам. Большасць знаходак датуецца познім неалітам і раннім бронзавым векам.

П а с е л і ш ч а - 2 за 700 м на ПнУ ад вёскі, на пясчаным узгорку левага берага Прыпяці. Памеры 500 × 150 м. Выявіў і даследаваў у 1975 У.Ф.Ісаенка, у 1981 – В.С.Вяргей. Культ. пласт да 0,6 м. Сярод знаходак мезалітычны комплекс (наканечнікі стрэл постсвідэрскага тыпу, канцавыя скрабкі на пласцінах, укладышы), крамянёвыя вырабы позняга неаліту і сярэдняга бронзавага веку (нажы, скрабкі, наканечнікі стрэл, разцы, сякеры), фр-ты арнаментаванага ляпнога посуду, у т.л. гаршкоў мілаградскай і зарубінецкай культур, гліняныя прасліцы, адходы чорнай і каляровай металургіі, кіепадобныя шпількі, пранізкі, жал. спражкі, зялёная паставая пацерка, кругавая кераміка 9–10 ст.

*Літ.:* К у х а р е н к о Ю.В. Первобытные памятники Полесья // САИ. 1962. Вып. Б1–18; И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976.

*В.С.Вяргей.*


*Р.У.Цэрпілоўскі.*

**ЦЕРПІЛО́ЎСКІ** Расціслаў Усеваладавіч (н. 24.4. 1949, г. Вінніца, Украіна), украінскі археолаг. Д-р гіст. навук (1995). Скончыў Кіеўскі дзярж. ун-т імя Т.Шаўчэнкі (1974). У 1969–2003 супрацоўнік Ін-та археалогіі АН Украіны. З 2004 заг. кафедры археалогіі і музеязнаўства Кіеўскага ун-та. Займаецца праблемамі слав. этна- і культурагенез латэнскага і рымскага перыядаў, эпохі вял. перасялення народаў. У даследаваннях выкарыстоўвае археал. матэрыялы з тэр. Беларусі. Дзярж. прэмія Украіны 1991.

*Тв.:* Ранние славяне Подесенья в 3–5 вв. Киев, 1984; Среднее Поднепровье и Днепровское левобережье в первые века н.э. Киев, 1991 (разам з А.М.Абломскім); Памятники киевской культуры. Свод археологических источников. Киев, 1992 (разам з Н.С.Абашынай); Походження слов'ян. Кіеў, 1991 (разам з В.Д.Баранам, Д.Н.Козакам); Олександрівка – багатошарове ранньослов'янське поселення биля Чернигова. Киïў, 1996; Славяне Поднепровья в первой половине I тысячелетия н.э. Люблин, 2004.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ЦЕРУХА́**, археалагічны помнік – курганны могільнік радзімічаў каля в. Церуха Гомельскага р-на. Ва ўр. Прудок, у вусці р. Церуха, каля воз. Казар (Казарскае). 30 насыпаў. У 1892 даследаваў М.М.Філонаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне. Знойдзены пацеркі (шкляныя, паставыя, бурштынавыя, сердалікавыя), сяміпрамянёвыя і драцяныя скроневыя кольцы з нізкапробнага серабра, пляскатыя, круглыя і трохгранныя пярсцёнкі, бронзавыя бранзалеты, паясныя кольцы, крэсіва з крэменем, серп, каса, тачыльны камень, бурштынавыя амулеты, гліняны посуд. Датуецца к. 10 – пач. 12 ст.

*Літ.:* Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910. *А.А.Макушнікаў.*

**ЦІХАНЕ́НКАЎ** Іван Міхайлавіч (21.12.1935, в. Барсукі Калужскай вобл., Расія – 9.1.2002), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1963). У 1965–71 малодшы навук. супрацоўнік у ІГ АН БССР. Даследаваў каменны век Падняпроўя і Падзвіння, упершыню выявіў на Пн Беларусі паселішчы *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*.

*Тв.*: Кремневый инвентарь стоянки Латки // Вопросы истории и археологии. Минск, 1966; Новые памятники каменного века Северной Белоруссии // Белорусские древности. Минск, 1967.

*М.М.Чарняўскі.*

**ЦУ́ГЛІ**, элемент конскага рыштунку, прызначаны для кіравання канём. Вядомы з эпохі бронзы. Першапачаткова Ц. былі мяккімі і маглі рабіцца з вяровак ці скуры, пазней выраблялiся з бронзы. З 7 ст. да н.э. ў шырокі ўжытак уваходзяць жал. Ц., якія складаліся з суцэльнага, двух- ці трохчленнага грызла (трэнзеля) і прымацаваных перпендыкулярна да яго канцоў вертыкальных стрыжняў – псаліяў. На тэр. Беларусі вядомы з ранняга жал. веку (псаліі з могільніка *Велямічы-2* і гарадзішча *Кастрыца*). Колкавыя Ц. з двухчленнымі грызламі знойдзены ў курганным могільніку *Дарахі* (культура ранніх доўгіх курганоў), селішчы Засвір (культура ўсх.-літ. курганоў). У старaж.-рус. час выкарыстоўваліся Ц. з жал. ці рагавымі псаліямі, найб. папулярнасцю карысталіся колкавыя Ц. з двухчленным, часам суцэльным ці трохчленным грызлам. У познім сярэдневякоўі працягвалася выкарыстанне Ц. з жал. псаліямі, але пераважалі двухчленныя колкавыя Ц. Сярэдневяковыя Ц. і іх фр-ты знойдзены практычна на ўсіх вял. паселішчах і ў гарадах на тэр. Беларусі. Выкарыстанне Ц. для кіравання верхавымі і цяглавымі конямі працягваецца да сённяшняга часу.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX–XIII вв. // САИ. 1973. Вып. Е1-36; Звяруга Я.Г., Віцязь С.П. Аб адным тыпе псаліяў з помнікаў Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. № 22; Віцязь С.П. Рыштунак вершніка і верхавога каня з раскопак старажытных гарадоў Верхняга Панямоння // МАБ. 2006. Вып. 12; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008. *М.А.Плавінскі.*

**ЦЭГА́К-ГАЛУБО́ВІЧ** Гелена (12.2.1902, г. Івана-Франкоўск, Украіна – 19.7.1979), беларускі і польскі археолаг. Праф. (1968). Скончыла ф-т філасофіі і права Львоўскага ун-та, дзе абараніла кандыдацкую дысертацыю (1930). У 1931–39 старшы асістэнт, затым ад'юнкт кафедры археалогіі Віленскага ун-та. У 1944–45 навук. супрацоўнік ІГ АН БССР. У 1946–50 ад'юнкт кафедры археалогіі Тарунскага, у 1950–56 – Вроцлаўскага ун-таў. У 1933–39 разам з мужам, У.Галубовічам, ажыццявіла разведкі і раскопкі курганных могільнікаў на З і ПнЗ Беларусі: Андрэеўцы, Ахрэмаўцы (Бяльмонты), Бірулі (Парэчча), Ваўкалата, Вята, Галінова, Залессе, Наўры, Паддубнікі, Платава, Чабаны, Чарневічы, Чурылава, Шо і інш. Праводзіла раскопкі ў Вільнюсе. Займалася вывучэннем балта-слав. этнакульт. кантактаў, высвятленнем этнічнай прыналежнасці і храналогіі раннесярэдневяковых пахавальных помнікаў зах. Беларусі. Прымала актыўны ўдзел у працы па ахове помнікаў археалогіі і папулярызацыі вынікаў раскопак. У 1950–70-я г. праводзіла раскопкі на тэр. Сілезіі. Займалася вывучэннем курганоў культуры шарападобных амфар, культавых помнікаў.

*Тв.*: Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР (разам з У.Галубовічам) // КСИИМК. М.; Ленинград, 1945. Вып. 11; Zabytki archeologiczne województwa Wileńskiego i Nowogródzkiego. Wilno, 1936; Materiai i zagadnienia cmentarzyska kurhanowego koło wsi Nawry w powiecie Postawskim // Rocznik archeologiczny. Wilno, 1937. T. 1; Słowiańsko-wareskie cmentarzysko kurhanowe koło Porzecza w powiecie dziśnieńskim // Przegląd archeologiczny. 1938–1939. T. 6, № 2–3; Słowiańskie groby kurhanowe koło Czerniewicz w pow. Dziśnieńskim // Wiadomości Archeologiczne. 1939. T. 16; Wykopaliska na Wilenszczyznie w latah 1938 i 1939. Wilno, 1940 (разам з У.Галубовічам).

*Літ.*: Kaletyn T. Z ialobnej karty. Prof. dr hab. Helena Cehak-Hoiubowiczowa // Z otchlani wieków. 1980. № 2.

*М.А.Плавінскі.*

**ЦЭ́ГЛА**, штучны буд. матэрыял з гліны або іншай мінеральнай сыравіны ў выглядзе брускоў разнастайнай формы. У Беларусі вядома з сярэдзіны 11 ст. як *плінфа* – шырокая і плоская абпаленая Ц. на ўзор візантыйскай. Спачатку была амаль квадратная, потым набыла форму прамавугольніка таўшч. 3,3–3,5, 4,5–5 см. Для муроўкі паўкалон, слупоў, парталаў і інш. архітэкт. дэталяў выкарыстоўвалі таксама фігурную або лякальную плінфу розных геам. форм (трапецыя, паўкруг і інш.). Некаторыя цагліны мелі знакі (рэльефныя адбіткі на паверхні цаглін у выглядзе трызубца, пяціканцовай зоркі, інш. геам. фігур або літар), клеймы (адбіткі спец. пячаткі), меткі, прадрапаныя вострым прадметам. У 13–18 ст. выкарыстоўвалі буйнапамерную Ц. з адбіткамі пальцаў на паверхні, з 15 ст. адбіткі рабілі і спец. прыладай накшталт грабянца. Адначасова ў 14–15 ст. выраблялі Ц. з роўнай паверхняй. На Ц. 14–15 ст. зрэдку сустракаюцца меткі, клеймы і знакі. Для муроўкі архіт. дэталей (кантаў нервюрных скляпенняў і інш.) выраблялі фігурную цэглу спосабамі фармоўкі, абсклюдавання (Ц.-сырэц перад абпалам абразалі нажом) і абчэсвання. Для аздобы пеатынкаваных фасадаў цагляных будынкаў у 15–16 ст. выкарыстоўвалі перапаленую Ц.-клінкер цёмна-сіняга, амаль чорнага колеру. Таўшчыня Ц. ў 13–16 ст., 18 ст. была 7–10 см, у сярэдзіне 17 – пач. 18 ст. – 4,5–6 см. У 19 – пач. 20 ст. Ц. набывае амаль сучасныя памеры. Асн. яе колькасць выраблялі прыватныя цагляныя заводы, якія мецілі прадукцыю сваімі


Цэгла 16–17 ст.

клеймамі. У к. 19 – пач. 20 ст. зноў пачалі вырабляць фігурную фармаваную Ц. У 1920–30-я г. ў Зах. Беларусі прыватныя цагельні выпускалі маламерную жоўтую Ц. з клеймамі на шырокай паверхні. На тэр. БССР у даваенны час выраблялі цэглу чырвонага колеру дзярж. заводы. Заводскія клеймы на бел. мове ставілі на старчаках цаглін.

*А.А.Трусаў.*

**ЦЭ́РА** ( лац. cera воск), прыстасаванне для пісьма ў выглядзе драўляных дошчачак, якіх магло быць 2 (дыптых), 3 (трыптых) або шмат (поліптых, або кодэкс) памерамі 8–9 × 12–14 × 0,8–1 см. Выкарыстоўваліся з часоў Стараж. Грэцыі і Рыма (tabulae cerae). Дошчачкі Ц. прымацоўваліся адна да адной скуранымі пасачкамі. На ўнутранай паверхні рабілася паглыбленне – «каўчэжац», з драпінамі на дне, глыб. 2–5 мм, якое залівалася воскам. Знешнія бакі Ц. маглі аздабляцца арнаментам або мелі алфавіт. У апошнім выпадку Ц. з'яўлялася дапаможнікам пры навучанні пісьму. Пераважная большасць Ц. знойдзена пры раскопках Ноўгарада. Менавіта знойдзеная на наўгародскай Ц. частка Псалтыра з'яўляецца помнікам пісьменнасці, больш старажытным, чым першая рукапісная кніга, знойдзеная на тэр. пражывання ўсх. славян. На тэр. Беларусі частка Ц. з адтулінамі пад скураныя пасачкі была знойдзена падчас археал. даследаванняў стараж. Бярэсця (у 13 ст.). Для пісання на Ц. выкарыстоўваліся спецыяльныя прылады – *стылі,* або *пісалы.*

*І.Л.Калечыц.*

**ЦЮ́РЫНА** Іда Міхайлаўна (н. 16.10.1937, г. Свярдлоўск, Расія), расійскі археолаг. Канд. гіст. навук (1967). Скончыла Ленінградскі ун-т (1959). У 1959–64 працавала ў Арганізацыйнай групе па стварэнні Бел. дзярж. гісторыка-краязнаўчага музея. Вывучала неалітычныя помнікі ў Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцях, верхнім Падняпроўі, удзельнічала ў археал. экспедыцыях. У 1969–2008 супрацоўнік Ін-та навук. інфармацыі па грамадскіх навуках РАН.

*Тв.:* Неолитическое поселение в урочище Стрелица (раскопки 1963–1964 гг. (разам з І.І.Арцёменкам) // КСИА. М., 1966. Вып. 106; Неолитические памятники Посожья // Там жа. 1967. Вып. 111; Неолит Верхнего Поднепровья // СА. 1970. № 3; Некоторые данные



*Л.І.Цягака.*

о неолитических племенах Верхнего Поднепровья // Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны Европейской части СССР в эпоху неолита. Ленинград, 1973.

**ЦЯГА́КА** Лідзія Іванаўна (н. 21.2.1937, г. п. Кампанееўка Кіраваградскай вобл., Украіна), беларускі антраполаг. Д-р медыцынскіх навук (1990). Праф. (1999). Скончыла Мінскі медыцынскі ін-т (1960). З 1969 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (старшы вядучы навуковы супрацоўнік, з 1990 заг. аддзела антрапалогіі і экалогіі). З 2008 заг. аддзела антрапалогіі і экалогіі ІГ НАН Беларусі. Даследуе праблемы часавай і прасторавай зменлівасці морфафункцыянальных прыкмет людзей, варыябельнасць дэрматагліфічных і адаптацыйных прыкмет этнагенетычных працэсаў на тэр. Беларусі. Аўтар «Нарысаў па антрапалогіі Беларусі» (1976, разам з І.І.Салівон і А.І.Мікулічам), падручніка «Асновы сучаснай антрапалогіі» (1989, разам з І.І.Салівон). У 2008–09 узначальвала рэдакцыйную калегію навуковых зборнікаў «Актуальныя пытанні антрапалогіі» (вып. 2 і 3, 2008; вып. 4, 2009; вып. 5, 2010) і «Экалагічная антрапалогія» (2008, 2009). З'яўляецца членам Еўрапейскай антрапалагічнай асацыяцыі, у 2010 выбрана ў Прэзідыум гэтай арг- цыі.

*Тв.:* Антропология Белорусского Полесья: (демография, этнич. история и генетика). Минск, 1978 (разам з А.І.Мікулічам, І.І.Салівон); Биологическое и социальное в формировании антропологических особенностей (по данным исследования населения Поозерья). Минск, 1981 (з імі ж); Экологические аспекты в антропологических исследованиях на территории БССР. Минск, 1982 (разам з І.І.Салівон); Дерматоглифика населения Белоруссии. Популяционные аспекты изменчивости. Минск, 1989; Беларусы. Антрапалогія. Т. 9. Мінск, 2006; Антропология. М., 2008 (разам з Е.Кмяцінскім); Антропология населения белорусско-польского пограничья в свете этнической истории славян. Минск, 2009; Конституция, индивидуальность, здоровье и характер человека. Минск, 2010.

**ЦЯЛЕ́ГІН** Дзмітрый Якаўлевіч (н. 26.10.1919, в. Плысавое Харкаўскай вобл., Украіна), украінскі археолаг. Д-р гіст. навук (1967), праф. (1976). Скончыў Чарнавіцкі ун-т (1949). У 1952–90 у Ін-це археалогіі АН Украіны, адначасова ў 1973–80 у Кіеўскім ун-це імя Т.Шаўчэнкі. Даследаваў помнікі каменнага і бронзавага вякоў Украіны і сумежных тэр., у т.л. пaўд.-ўсх. Беларусі. Прымаў удзел у падрыхтоўцы бел. спецыялістаў.

*Тв.:* Дніпро-донецька культура: до історії населення епохи неоліту – раннього металу півдня Східної Европи. Київ, 1968; Середньостогівська культура епохи міді. Київ, 1973; Мезолітичні пам'ятки України (IX–VI тисячоліття до н.е.). Київ, 1982: Памятники эпохи мезолита на территории Украинской ССР. Киев, 1985.

*М.М.Чарняўскі.*

**ЦЯСЛА́**, рубячая прылада для апрацоўкі драўніны з прымацаваным на канцы рабочым целам, лязо якога размешчана перпендыкулярна дзяржанню. Формай Ц. нагадвае матыку. Выкарыстоўвалася для выдзёўбвання чаўноў, начовак, ступ і інш. ёмістасцей з дрэва, апрацоўкі паверхні бярвён. Вядомы рагавыя і крамянёвыя Ц. эпохі мезаліту. Звычайна Ц. плоска-выпуклае ў папярочніку з сіметрычным лязом (у сякер наадварот). Выяўлены крамянёвыя Ц. з перахопамі, груба апрацаваным абухом, прышліфаваным выпуклым лязом, у выглядзе цяслападобных (з адным плоскім бокам) сякер і інш. Шмат падобных прылад належаць да макралітычнай культуры. Ц. шырока выкарыстоўваліся ў неаліце і бронзавым веку, калі на іх выраб ішлі не толькі камяні розных парод, але і метал. Да Ц. належыць таксама частка клінападобных прылад, якія традыцыйна лічацца сякерамі. У жал. веку Ц. ўяўляла сабой выкаваную з жалеза прыладу з паўавальным лязом і правушынай, у якой перпендыкулярна лязу замацоўвалася дзяржанне.

*У.Ф.Ісаенка.*

**ЦЯСТЫ́**, археалагічны помнік – гарадзішча жалезнага веку каля в. Цясты Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Дрыса, за 1 км вышэй упадзення ў яе р. Свольна. Мясц. назва Марыліна гара. Пабудавана на ўзгорку выш. 6–8 м. Пляцоўка авальная, памерамі 35 × 60 м, выцягнута па лініі З–У. На Пн абмежавана карэнным берагам Дрысы выш. 20–22 м, на З – безназоўным ручаём. З усх. і зах. бакоў захаваўся роў шыр. 9–13 м, глыб. 2 м. Вядома з 1873. Абследаваў у 1972 У.Ф.Ісаенка, даследаваў 200 м² у 1981–82 В.І.Шадыра. Культ. пласт 0,3–1,5 м. Уздоўж краю пляцоўкі выяўлены рэшткі жылых



*Металічныя вырабы з гарадзішча* ***Цясты.***

і гасп. пабудоў. Знойдзены шматлікія вырабы з каменю, гліны, жалеза і бронзы, фр-ты танкасценных гаршкоў слоіка- і ведрападобнай формы без арнаменту. Своеасаблівасці керамікі маюць аналогіі ў латышскім Падзвінні (гарадзішча Мукукалнс і інш.). Да рэдкіх знаходак адносяцца долатападобная жал. прылада, посахападобныя шпількі, фр-ты пласціністых бранзалетаў, бронзавая акулярападобная падвеска. Датуецца 1-й пал. 1-га тыс.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Шадыро В.И. Ранний железный век Северной Белоруссии. Минск, 1985. *І.В.Шадыра.*

**ЦЯХЦІН**, группа археал. помнікаў каля в. Цяхцін Бялыніцкага р-на.

Стаянка-1 эпохі неаліту, за 200 м на Пн ад вёскі, 500 м на Пд ад трыганаметрычнага пункта, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць і левага берага безназоўнага ручая. Памеры 100 × 40 м. Адкрыў у 1980 і даследаваў 4 м² у 1982 і 1985 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт у верхняй частцы разараны. Выяўлены крамянёвыя прылады працы – ромбападобныя наканечнікі стрэл, вастрыі, канцавыя скрабкі і г.д.

Стаянка-2 эпохі неаліту, за 500 м ПнУ ад вёскі, 1 км на Пд ад стаянкі-1, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Адкрыў у 1980 і даследаваў 4 м² у 1982 і 1985 В.Ф.Капыцін. Памеры 160 × 50 м. Знойдзены тронкавыя і амаль трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы серпападобнай формы, канцавыя і закругленыя скрабкі, разцы і інш.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі, за 300 м на ПнУ ад стаянкі-2, на высокім правым беразе р. Друць. 5 насыпаў выш. 1–1,6 м, дыям. 8–16 м. Раскопкі не праводзіліся.

Селішча эпохі Кіеўскай Русі, на зах. ускраіне вясковага могільніка. Памеры 150 × 70 м. Культ. пласт 0,2–0,4 м. Адкрыў у 1980 В.Ф.Капыцін. Знойдзены фр-т ганчарнай керамікі і абломак біканічнага прасліца.

*Літ.:* Копытин В.Ф. Работы по изучению мезолита в Белорусском Поднепровье // АО. 1980. М., 1981; Яго ж. Изучение мезолита в Верхнем Поднепровье // Там жа. 1985. М., 1987; Яго ж. Археологические памятники Белыничского района Могилевской области. Могилев, 1992. *В.Ф.Капыцін.*




**ЧАБАТО́ВІЧЫ**, археалагічны помнік – курганны могільнік у в. Чабатовічы Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл., па дарозе ў в. Будзішча. Вядомы з к. 19 ст. Было 25–40 насыпаў. У 1893 У.Б.Антановіч раскапаў 14 насыпаў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З. У жаночых пахаваннях выяўлены шкляныя пацеркі, металічныя скроневыя кольцы, жал. нажы і інш. У адным кургане знойдзены 5 дырхемаў-падвесак.

*Літ.*: Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: социально-экон. и этнокультур. развитие. Гомель, 2009. *А.А.Макушнікаў.*

**ЧА́ВУСЫ**, археалагічныя помнікі – селішча і курганны могільнік каля г. Чавусы Магілёўскай вобл.

Селішча за 2,1 км на ПдУ ад горада, на левым беразе р. Бася. Пл. каля 2,5 га. Адкрыў у 1976 і да 1981 даследаваў больш за 1000 м² Я.Р.Рыер. Культ. пласт 0,2–1 м, у ямах да 2 м. Выяўлены рэшткі пабудоў зрубавай і слупавой канструкцыі, частка гасп. двара са слядамі вытворчай дзейнасці, у т.л. жалезаробчай і бронзаліцейнай. Каля памяшканняў выяўлены рэшткі паглыбленай у мацярык печы-каменкі (хлебная печ) і агнішчаў. Сабрана вял. колькасць фр-таў ганчарнай керамікі, каменныя і жал. прылады працы і прадметы побыту (грузілы, брускі-асялкі, прасліцы, нажы, нажніцы, рыбалоўныя кручкі, скобля для апрацоўкі бярвён, фр-ты пілак, кавалак наральніка ці сашніка і інш.), бронзавыя і шкляныя ўпрыгажэнні (скроневыя кольцы, шыйныя грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі), а таксама бранябойны наканечнік стралы; частка жал. псаліі, касцяны грэбень і інш. Селішча існавала ў 10–16 ст., росквіт яго прыпадае на 11–13 ст., калі тут жыла сям'я дружынніка (дробнага ленніка або прадстаўніка землеўладальніцкай адміністрацыі). Мяркуючы па памерах і часе існавання суседняга курганнага могільніка, у 11–12 ст. селішча мела 20–35 жыхароў.



*Да арт.* ***Чавусы****. Упрыгажэнні з паселішча і кurганоў: 1–3 – скроневыя кольцы, 4 – наверша ад шыйнай грыўні, 5, 14–20 – падвескі, 6–13 пацеркі, 21–24 – спражкі, 25 – гузік, 26–27 – фрагменты бранзалетаў, 28–36 – пярсцёнкі.*




*Да арт.* ***Чавусы****. Гаспадарчы, бытавы і баявы інвентар з паселішча і курганоў: 1 – нажніцы, 2 – цыскі, 4 – скобель, 5 – псалій, 6 – пілка (?), 7 – наканечнік стралы, 8 – прасліца з меткай, 9 – рыбалоўны кручок, 10 – грэбень, 11, 12 – нажы.*

Курганны могільнік за 100 м на Пн ад селішча. Адкрыў у 1930 І.А.Сербаў, могільнік налічваў 130 насыпаў. У 1972 абследаваў Я.Р.Рыер, могільнік меў 89 насыпаў выш. 1–2,7 м, дыям. 5–12 м. За 1976–81 Я.Р.Рыер даследаваў 20 курганоў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў насыпе на выш. 10–50 см (17 курганоў), на ўзроўні мацерыка (1) і ў яме (2 курганы). Нябожчыкаў хавалі ў выцягнутым становішчы, галавой на З (8 пахаванняў) і У (2). У аснове ўсіх курганоў магутныя попельныя пласты ад пахавальных вогнішчаў. У 6 курганах цэнтры пляцовак акружаны выкапанымі ў мацерыку кальцавымі канаўкамі. Узрост нябожчыкаў 30–35 гадоў, сярод іх 2 дзяўчынкі 8–9 гадоў (вызначэнне І.І.Салівон). Асн. частка курганоў датуецца 11 ст., курган з пахаваннем у яме – 12 ст. Сярод рэчаў – радзіміцкія скроневыя кольцы і падвескі, многа шкляных пацерак, у т.л. візантыйскія з пазалотай, ціскі ювеліра.

*Літ.:* Сербаў І.А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні-Ухлясці ў былой Магілёўшчыне // Працы. Т. 3; Риер Я.Г. Феодальное поселение X–XVI вв. у г. Чаусы в Могилевском Поднепровье // Вопросы истории. Минск, 1981. Вып. 8. *Я.Р.Рыер.*

**ЧАКА́Н**, баявая сякера з малаткападобным выступам на тыльным баку абуха, прызначаным для нанясення дробячых удараў. Звычайна мелі адносна кароткае тапарышча, выкарыстоўваліся пераважна вершнікамі. Распаўсюдзіліся ў 10 ст. ў Стараж. Русі, у т.л. на тэр. Беларусі, як запазычанне са стэпаў Усх. Еўропы. Найб. актыўна выкарыстоўваліся ў 10–11 ст., у 12–13 ст. вядомы толькі асобныя ўзоры. Стараж.-рус. Ч. падзяляюцца на шэраг тыпаў і падтыпаў: з доўгім вузкім лязом трохвугольнай формы [Ваўкавыск, курганныя могільнікі Чарневічы, Слабодка (могільнік-2) Чашніцкага р-на, *Лукомль, Мохаў, Ясянец*, могільнікі *Апонаўцы* і *Вензаўшчына*]; з бародападобным лязом (селішча каля г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.); з бародападобным лязом і доўгімі парнымі шчакавіцамі (Полацк), з трапецападобным лязом і вузкім выступам (Магілёў). Пісьмовымі крыніцамі і адзінкавымі археал. знаходкамі пацвярджаецца выкарыстанне Ч. на тэр. Беларусі ў 14–17 ст.

*Літ.:* Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX–XIII вв. // САИ. М.; Ленинград, 1966. Вып. Е1-36; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008. *М.А.Плавінскі.*

**ЧА́КВІН** Ігар Усеваладавіч (н. 20.8.1954, Мінск), беларускі этнограф. Д-р гіст. навук (1996). Скончыў БДУ (1977). З 1981 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. У 2000–10 член экспертнага савета Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь. Даследуе праблемы этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў эпохі феадалізму, палеаантрапалогіі і палеадэмаграфіі Беларусі 10–16 ст. Па краніяметрычных матэрыялах са стараж. курганоў і могільнікаў крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў, ятвягаў зрабіў да 20 антрапалагічных рэканструкцый (гл. ў арт. *Рэканструкцыя антрапалагічная*) твару і фізічнага тыпу жыхароў бел. зямель 10–18 ст. Адзін з аўтараў кніг «Праблемы сучаснай антрапалогіі» (1983), «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985), «Беларусы. Т. 10. Славянскія этнакультурныя традыцыі» (2007) і інш.

**ЧАЛО́ЎСКІ** Сымон Юльянавіч (1853?, Магілёўская вобл. – пасля 1915), беларускі археолаг, краязнавец. Скончыў Маскоўскі ун-т (1888). Працаваў у Клімавічах міравым суддзёй па сялянскіх справах, быў чл. Павятовага з'езда дваранства, кіраваў прытулкам сірот, быў чыноўнікам па асобых даручэннях Магілёўскага губернатара А.С.Дэмбавецкага. У 1890-я г. вёў археал. даследаванні ў Падняпроўі. Разам з М.В.Фурсавым абследаваў археал. помнікі ў Быхаўскім, Клімавіцкім, Мсціслаўскім, Рагачоўскім, Чэрыкаўскім паветах і склаў карту археал. помнікаў Магілёўскай губ. Сярод адкрытых помнікаў гарадзішча і 20 курганоў у Хоцімску. У Мсціславе знайшоў стараж. гравюру абразоў Тупічэўскай Божай Маці (1711), гравіраваную дошку з выявай Св. сямейства і інш. матэрыялы. Удзельнік 9-га археал. з'езда ў Вільні (1893).

*Тв.:* Дневник курганных раскопок, произведенных по поручению г. начальника Могилевской губернии А.С.Дембовецкого, в течение лета 1892 (разам з М.В.Фурсавым); Дневник курганных раскопок, произведенных по поручению г. начальника Могилёвской губернии А.С.Дембовецкого в течение июня 1893 года в 3-х уездах Могилевской губернии. Могилев, 1893. *Г.А.Каханоўскі.*

**ЧАМЯРНЯ́**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, курганны і бескурганны могільнікі, селішча каля пас. Чамярня Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча за 0,4 км на Пн ад пасёлка, на мысе высокага берага р. Беседзь, ва ўр. Каменная Гара. Пляцоўка паўавальнай формы памерамі 21 × 22 м, выш. каля 21 м над поплавам. З Пд, З і Пн умацавана падковападобным валам, з У круты схіл да поплава р. Беседзь. Вядома з 1873, абследавалі ў пач. 20 ст. Е.Р.Раманаў, у 1975 С.М.Васільева.

Курганны могільнік за 0,2–0,3 км на Пн ад пасёлка, на карэннай тэрасе правага берага р. Беседзь, справа ад дарогі Свяцілавічы–Вял. Нямкі, ва ўр. Серыкава (Чортава, Каменная) Гара. Збераглося 19 пашкоджаных насыпаў. Вядомы з 1873, абследавалі ў к. 19 ст. Е.Р.Раманаў, у 1975 С.М.Васільева, у 1980 А.А.Макушнікаў. У ранніх крыніцах значыцца як могільнік каля в. Вял. Нямкі. Па звестках Е.Р.Раманава, у разараных курганах знойдзены косці чалавека,

пацеркі, арабскія манеты 10 ст. Адзін курган у 1952 раскапаў завуч Свяцілавіцкага дзіцячага дома В.Д.Сівакоў. Помнік датуецца к. 10 – пач. 12 ст.

Бескурганны могільнік позняга этапу *зарубінецкай культуры* за 0,4 км на ПнУ ад пасёлка, на левым беразе р. Беседзь, на ўзвышшы ва ўр. Прыстань. Выявіў у 1981 А.А.Макушнікаў, абследаваў у 1987 А.І.Драбушэўскі. У агаленнях выяўлены рэшткі ям з пахавальным абрадам трупаспалення па-за межамі кургана, аплаўленая бронзавая спіраль, фр-ты грубай ляпной керамікі. Датуецца 1-й чв. 1-га тыс. н.э.

Селішча позняга этапу зарубінецкай культуры на месцы бескурганнага могільніка. Абследавалі ў 1970 г. А.Г.Калечыц, у 1981 А.А.Макушнікаў, у 1987 А.І.Драбушэўскі. Культ. пласт у агаленнях 0,2–0,3 м. Знойдзены фр-ты грубай ляпной керамікі. Датуецца 1-й чв. 1-га тыс. н.э.

*А.І.Драбушэўскі, А.А.Макушнікаў.*

**ЧАМЯРЫ́**, археалагічны помнік – група рытуальных курганоў каля в. Чамяры Міёрскага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на Пн ад вёскі, 500 м ад левага берага Зах. Дзвіны, ва ўр. Чэмерскі Бор, каля сучасных могілак. 43 круглыя (дыям. 4–9 м) або падоўжаныя (памеры 5,2 × 7; 6 × 6,7 м) насыпы выш. 0,7–3 м. Мясц. назва Французскія магілы. Выявілі і даследавалі ў сяр. 1930-х г. Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч (4), у 1977, 1981, 1984–85 Л.У.Дучыц (25 насыпаў). Ва ўсіх курганах у аснове ці ў розных месцах насыпу знойдзена вуголле, у некаторых каля асновы былі каменныя вымосткі і агароджы, у насыпе – па некалькі вугольных праслоек, што сведчыць пра шматразовую падсыпку. Сляды пахаванняў не выяўлены. У адным кургане на мацерыку знойдзены кавалак галёначнай косткі, у другім – драўляная парахня. У 16 курганах, пераважна на перадмацерыковым слоі, выяўлены дробныя фр-ты ляпных і ганчарных гаршкоў з зялёнай і карычневай палівай. Датуецца 14–18 ст. Гл. таксама *Чурылава.*

*Літ.*: Дучыц Л.У. Да пытання аб познасярэдневяковых курганах Паўночнай Беларусі // ВАНБ. 1989. №4; Cehak-Hołubowicz H. Zabytki archeologiczne województwa Wileńskiego i Nowogródzkiego. Wilno, 1936.

*Л.У.Дучыц.*

**ЧАМЯРЫ́ 1**, археалагічны помнік – курганны могільнік 12 ст. каля в. Чамяры 1 Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 1,1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Лавы. У літаратуры помнік прывязваўся да в. Вугляны. Мясц. назва Скапцы. 3 насыпы выш. 0,5–0,7 м, дыям. 12–13 м. У 1898 адзін курган раскапаў Л.Паеўскі. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў яме, галавой на З. Знойдзены фр-ты кругавой керамікі.

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Курганы Белорусского Побужья X–XIII вв. Минск, 1993. *А.В.Іоў.*

**ЧА́ПЛІН**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішча, бескурганны і курганны могільнікі каля в. Чаплін Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча на паўд. ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка памерамі 85 × 73 м, выш. над поймай ракі каля 16 м. Абследаваў у 1935 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1951–53 П.М.Траццякоў, у 1956–57 Л.Д.Побаль. Даследавана 1744 м². Выяўлена 21 паглыбленае ў зямлю жытло пл. 10–24 м². У плане яны квадратныя або прамавугольныя, ніжняя частка знаходзілася на ўзроўні мацерыка. Адносяцца да *зарубінецкай культуры.* Знойдзены авальныя і круглыя гасп. ямы, сярпы, нажы, сякеры-кельты, посахападобныя бронзавыя і жал. шпількі, бранзалеты, кольцы, наканечнікі коп'яў, латэнская шпора. З бронзаліцейнай вытворчасцю звязаны ліцейныя формачкі, тыглі, вырабы з бронзы. Выяўлены гліняныя праслiцы розных тыпаў і форм, грузікі, пацеркі, накрыўкі і шарыкі, выраблены з косці і рога вастрыі, амулеты, а таксама тачыльныя камяні, таўкачы, зерняцёркі і інш. Знойдзены розныя тыпы скіфскіх рэчаў, кельцкія фібулы, стараж.-грэчаскія шкляныя пацеркі, абломкі элiністычнага посуду, фр-т збанка чарняхоўскай культуры, шмат костак дзікіх і свойскіх жывёл, рыб, птушак. Датуецца 7–6 ст. да н.э. – 13 ст. н.э.

Селішча на Пн ад гарадзішча, прылягае да бескурганнага могільніка. Цягнецца на 90 м уздоўж берага Дняпра. Даследавалі ў 1966 В.М.Мельнікоўская (145 м²), у 1956–57 Л.Д.Побаль (каля 600 м²). Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены рэшткі заглыбленых у зямлю і наземных жытлаў слупавой канструкцыі розных перыядаў, вял. гасп. ям. Знойдзены вырабы з жалеза (нажы, наканечнікі кап'я, стралы, кручкі, сярэднелатэнскія фібулы), бронзы (кольца з выступамі, завушніцы, посахападобная шпілька), керамічны посуд, праслiцы, патэльні, каменныя брускі, зерняцёркі, касцяныя праколкі, шкляныя грэчаскія пацеркі, косткі дзікіх і свойскіх жывёл. Адносіцца да мілаградскай культуры і зарубінецкай культуры эпохі жал. веку, перыяду Стараж. Русі.

Бескурганны могільнік на ПнЗ ад селішча. Даўж. 17 м, шыр. 80 м. Даследавалі ў 1951–53 Ю.У.Кухарэнка (1628 м², 44 пахаванні), у 1956–57 Л.Д.Побаль (7220 м², 238 пахаванняў). Пахавальны абрад – трупаспаленне ў круглых і прадаўгаватых ямах (на глыб. 0,3–0,5 м), арыентаваных з ПнЗ на ПдУ. Ёсць кенатафы, парныя пахаванні. Знойдзены 275 пасудзін, 14 жал. наканечнікаў коп'яў, некалькі дзесяткаў падковападобных фібул, сярэднелатэнскія, позналатэнскія бронзавыя і імпартныя жал. фібулы з Цэнтр. Еўропы, розныя тыпы жал. нажоў, сякеры-кельты, гліняныя праслiцы, абломак каменнай зерняцёркі, шылы, бранзалеты, жал. посахападобныя шпількі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, брон-

завыя пранізкі, 1164 грэчаскія шкляныя пацеркі дагецкага перыяду (да 55 г. да н.э.), косткі і зубы дзікіх і свойскіх жывёл. Знаходкі сведчаць, што насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, living рознымі хатнімі промысламі, падтрымлівала гандл. сувязі з кельтамі, скіфамі, гарадамі Прычарнамор'я. Могільнік адносіцца да мілаградскай культуры і зарубінецкай культуры.

Курганны могільнік на паўн. ускраіне вёскі. Захавалася некалькі насыпаў эпохі Стараж. Русі. Даследавалі ў 1951–53 Ю.У.Кухарэнка, у 1956–57 Л.Д.Побаль. Курганы насыпаны на селішчы жал. веку. Знойдзена кераміка зарубінецкай культуры.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Зарубинецкая культура // САИ. 1964. Вып. Д1–19; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры). Минск, 1971; Яго ж. Славянские древности Белоруссии: (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Минск, 1973; Яго ж. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974; Обломский А.М. Периодизация и характер развития зарубинецкого керамического комплекса Чаплинского могильника // Раннеславянский мир: материалы и исслед. М., 1990.

*Л.Д.Побаль.*

**ЧАПЯЛЁВА**, археалагічны помнік – пасяліпча эпохі мезаліту (7–5-е тыс. да н.э.) каля в. Чапялева Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,4 км на ПнЗ ад вёскі, на пясчаным узвышшы. Выш. над 1-й надпоймавай тэрасай правага берага р. Шчара 1,5–2 м. Выявіў у 1965 В.Р.Супрун, даследавала ў 1987–90 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт да 0,25 м. Знойдзены наканечнік стралы свідэрскага тыпу, яніславіцкія вастрыі, мікраразцы, трапецыі, вуглавыя і бакавыя разцы, канцавыя скрабкі з пласцінак, праколкі, скоблі, рубячыя прылады, укладышы, сячэнні пласцінак, фігурны крэмень, больш за 80 нуклеусаў, каля 5000 пласцінак і іх абломкаў, больш за 6000 адшчэпаў.

*Літ.*: Супрун В.Г. Памятники каменного века и эпохи бронзы в бассейне среднего течения р. Щары // Древности Белоруссии. Минск, 1966. *Н.В.Шаблюк.*

**ЧАРКАСОВА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішча і курганны могільнік каля в. Чаркасова Аршанскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Пачаніца, ва ўр. Замчышча (Гарадок). Пляцоўка памерамі 55 × 45 м, мае стромкія схілы выш. каля 10,5 м. Па перыметры ўмацавана падкованападобным валам выш. 1,5–4,5 м. З напольнага боку ўздоўж гарадзішча таксама прасочваецца вал выш. каля 2 м, шыр. 6–7 м і роў. Вядома з 1873, у 1971 абследаваў Л.Д.Побаль. Даследавалі ў 1928 С.А.Дубінскі (65 м²), у 1989 В.М.Ляўко (60 м²). Культ. пласт 1–3,2 м. Зафіксаваны 3 культ. слоі, верхнія 2 паздзелены супясчаным прапласткам таўшч. 2–4 см, ніжні слой падзяляецца на 2 гарызонты вугальным праплсткам. У ніжнім і сярэднім слаях, насычаных вуголлем, знойдзена ляпная штрыхаваная і гладкасценная кераміка, асобныя пасудзіны з наляпным валікам з касымі насечкамі, жал. нож з гарбатай спінкай, касагарбуша, шпоры, наканечнік дзіды, касцяныя праколкі, амулеты, вырабы з бронзы. Выяўлены рэшткі ўнутрывальных драўляных канструкцый 6–8 ст., слупавыя ямы ад агароджы, якая папярэднічала ўзвядзенню вала. У верхнім слаі знойдзены матэрыялы пераважна эпохі Кіеўскай Русі: кругавая кераміка, фр-ты шкляных і бронзавы бранзалет, пярсцёнак, жал. шпілька з рухомым кальцом, амфарка кіеўскага тыпу, свінцовая пячатка. Кальцавы вал 3-й чв. 1-га тыс. ў эпоху Кіеўскай Русі быў знівеліраваны, і пляцоўка гарадзішча пашырылася.

Селішча на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, за 100–150 м на У ад гарадзішча. Выявіў у 1928 С.А.Дубінскі, абследавала ў 1989 В.М.Ляўко. Культ. пласт 0,5–0,8 м. Знойдзены фр-ты ляпной і кругавой стараж.-рус. керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік крывічоў за 2 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. 80 насыпаў выш. 0,5–5 м, дыям. 5–20 м. Даследавалі ў 1922 А.Л.Аніхоўскі, у 1928 А.М.Ляўданскі, у 1960 Л.В.Аляксееў. Абследавалі ў 1981 М.І.Лашанкоў, у 1989 В.М.Ляўко. Раскапаны 22 насыпы. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены бронзавыя скроневыя кольцы крывіцкага тыпу, паясныя бронзавыя кольцы, лірападобныя спражкі, літыя і пласціністыя бронзавыя пярсцёнкі, бляшкападобныя падвескі, бразготкі з крыжападобнымі проразямі, 13 пазалочаных шкляных і сердалікавая біпірамідальная пацеркі, кругавыя гаршкі з клеймамі на дне. Датуецца 11–12 ст.

*Літ.*: Дубінскі С.А. Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай // Працы. Т. 2; Ляўданскі А.М. Курганны могільнік каля в. Чаркасова Аршанскай акругі // Там жа. Т. 3; Алексеев Л.В., Сергеева З.М. Раскопки курганов в Восточной Белоруссии // КСИА. 1973. Вып. 135; Левко О.Н., Колосовский Ю.В. Раскопки городищ у д. Кисели (Дымокуры) Толочинского района и у д. Черкасово Оршанского района Витебской области // Ранние славяне Белорусского Поднепровья и Подвинья. МАБ. 2003. № 8.

*В.М.Ляўко.*

**ЧАРЛЁНКА**, археалагічныя помнікі – паселішчы каменнага, бронзавага вякоў, селішча эпохі сярэдневякоўя каля в. Чарлёнка Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.

У к. 19 – пач. 20 М.Федароўскі сабраў на правабярэжжы р. Шчара, у наваколлі вёскі калекцыю крамянёвых вырабаў свідэрскай, кундскай, яніслаўіцкай, нёманскай культур, фр-ты ляпной



*Да арт. **Чарлёнка**. Глінянае «рагатае» прасліца.*

керамікі прыпяцка-нёманскай, нёманскай, шарападобных амфар культур, фр-ты посуду і арнаментаванае «рагатае» глінянае прасліца тшцінецкага культ. кола, каменныя свідраваныя сякеры неаліту і бронзавага веку. Матэрыялы захоўваюцца ў Дзярж. археал. музеі ў Варшаве (Польшча).

У 1960-я г. В.Р.Супрун, 1980-я г. М.М.Чарняўскі, 1990-я г. В.Л.Лакіза лакалізавалі ў наваколлях вёскі 11 асобных пунктаў з розначасовымі і рознакультурнымі матэрыяламі.

Паселішча-1 на Пд ад вёскі на высокай правабярэжнай тэрасе р. Шчара пры ўпадзенні ў яе р. Ваўчонка. Культ. пласт 0,5–0,6 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і фр-ты керамікі нёманскай неалітычнай культуры, кола культуры шнуравой керамікі, верагодна, нёманскай групы тшцінецкага культурнага кола. Выразны пласт з кругавой керамікай адносіцца да эпохі сярэдневякоўя і новага часу.

Паселішча-2 на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Ваўчонка на правабярэжным вале (выш. да 2 м) старыцы р. Шчара. Памеры 120 × 40 м. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і фр-ты ляпной керамікі неаліту і бронзавага веку.

Паселішча-3 за 0,3–0,6 км на ПдУ ад вёскі на высокім узвышшы (да 5 м) правабярэжнай тэрасы р. Шчара, ва ўр. Калітка. Знойдзены крамянёвыя вырабы, у т.л. канцавыя скрабкі на пласцінах, рубячая авальная прылада, фр-ты ляпной керамікі нёманскай неалітычнай культуры, кола культуры шнуравой керамікі, кругавога посуду сярэдневякоўя.

Паселішча-4 за 0,1–0,2 км на З ад вёскі ў напрамку да жывёлагадоўчай фермы і в. Скрундзі на правабярэжнай тэрасе р. Шчара. Паселішча абмежавана з Пд старыцай Шчары, з З – высокім поплавам. Памеры 250 × 160 м. Сабраны крамянёвыя артэфакты, у т.л. свідэрскі наканечнік стралы, наканечнік стралы рамбічнай формы, апрацаваны струменьчатай рэтушшу на спінцы і краявой па перыметры на брушку, правільныя пласціны.

Паселішча-5 за 0,7–0,9 км на ПнУ ад вёскі за мостам цераз р. Ваўчонка, за шашой Падвялікае–Скрундзі, на павышэнні левабярэжнай поймы, каля воз. Малое. Памеры 10 × 50 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы, у т.л. вастрыі яніславіцкага тыпу, скрабкі, фр-ты ляпной керамікі прыпяцка-нёманскай і кола культуры шнуравой керамікі, фр-ты кругавога посуду.

*Літ.:* Obuchowski W. Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*В.Л.Лакіза.*

**ЧАРНА́ЎЧЫЦЫ**, археалагічныя помнікі – селішчы каля в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на. Адкрылі ў 2006 і 2007 В.Г.Белявец і А.В.Іоў.

Селішча-1 за 2 км на З ад вёскі, на схіле левабярэжнай тэрасы р. Лясная. Пл. каля 4 га. У 2007–08 А. Іоў даследаваў 64 м². Культ. пласт 0,4–0,7 м. Большая частка керамічнага посуду датуецца 10–11 ст., сустракаецца ляпны посуд 1-й пал. 1-га тыс., рэшткі гаршкоў 12–13 ст., некаторы посуд не раней 14 ст. Сярод знаходак – фр-т сярэбранай завушніцы, выробленай у тэхніцы




*Да арт. **Чарнаўчыцы**. Знаходкі з паселішча-1. Бронзавыя спражка (1) і фібула (2), сярэбраная завушніца (3).*




*Да арт.* ***Чарнаўчыцы****. Размяшчэнне селішчаў 1–4 (фота са спадарожніка).*

філіграні, жал. арбалетны болт, фр-т шпоры, бронзавыя паясныя накладкі, наканечнікі паясоў і інш. рэчы.

Селішча-2 шматслойнае, на высокай надпоймавай тэрасе левага берага р. Лясная. Адкрыў у 2006 В.Г.Белявец. У 2007 і 2008 даследаваў А.В.Іоў на пл. 40 м². Культ. пласт да 0,5 м. Утрымлівае пераважна культ. адкладанні перыяду ранняга сярэдневякоўя – 10–13 ст. Выяўлены матэрыялы вельбарскай культуры: фр-ты посуду, 3 фібул, накладка на пояс, апаясаная падвеска і інш. Датуецца прыблізна 2-й пал. 2–4 ст.

Селішча-3 на зах. ускраіне вёскі, на правым беразе каналізаванай р. Гарадзілаўка (прыток р. Лясная), на пашы. На паверхні сабрана калекцыя металічных артэфактаў (35 экз.), сярод якіх гузікі, 8 манет, дэталі зброі, боепрыпасаў і вайсковай амуніцыі, прадметы хрысціянскага культу, пярсцёнкі, таварная пломба і інш. Датуецца 16–18 ст.

Селішча-4 за 0,1 км на Пн ад селішча-1, па абодва бакі меліяратыўнай канавы, што ідзе ад вёскі. На ворнай тэр. выяўлены бронзавы пярсцёнак, свінцовая пісталетная куля, шэлег Яна II Казіміра 1665, бразготка з медзі, медная паясная спражка і інш. Датуецца 2-й пал. 1 тыс. н.э. і 14–18 ст.

*В.Г.Белявец, А.В.Іоў.*

**ЧАРНЕ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі крывічоў 9–11 ст. каля в. Чарневічы Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. Вядомы з к. 19 ст. У 1886 некалькі курганоў раскапаў памешчык Вярновіч. У 1935, 1937–38 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч даследавалі 79 насыпаў у 7 групах. У 1981 Л.У.Дучыц вылучыла 2 курганныя могільнікі. У 2002 С.Дз.Дзярновіч даследаваў 2 насыпы ў могільніку-1.

Курганны могільнік-1 за 1,5 км на З ад вёскі, у лесе. 30 насыпаў на левым і 66 – на правым беразе р. Авута, выш. 1–3 м, дыям. 5 –10 м. Вакол курганоў прасочваюцца раўкі і перамычкі.

Курганны могільнік-2 за 0,4 км ад вёскі, злева ад дарогі ў вёскі Шыцікі і Паддубнікі. Каля 40 насыпаў выш. 1–3 м, дыям. 5–10 м.

Пахавальны абрад – трупаспаленне на гарызонце і ў насыпе (31), трупапалажэнне на гарызонце (4), у яме (42). Пры пахаваннях па абраду трупаспалення знойдзены: трохдзюркавыя ланцугатрымальнікі, трапецападобныя падвескі, ланцужкі, бразготкі, падковападобныя фібулы, шкляныя пацеркі, цуглі, ляпныя і кругавы посуд. Пры пахаваннях па абраду трупапалажэння выяўлены разнастайныя ўпрыгажэнні: бронзавыя скроневыя кольцы (пярсцёнкападобныя і з S-падобным канцом, бранзалетападобныя з завязанымі канцамі), бранзалеты (вітыя з завязанымі канцамі, драцяныя, пласціністыя, у т.л. з зааморфнымі галоўкамі), пярсцёнак, падковападобныя спіралеканечныя фібулы, бронзавыя, жал. і сярэбраныя шыйныя грыўні, паясныя спражкі, шкляныя пацеркі; зброя (жал. сякеры, наканечнікі коп'яў); прылады працы і побытовыя рэчы (нажы, крэсівы, сярпы, ключ); ляпныя і кругавыя гаршкі.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобереж-



*Макс.М.Чарняўскі.*



*М.М.Чарняўскі.*

ной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. 1945. Вып. 11; Плавінскі М.А., Дзярновіч С.Дз. Раскопкі курганнага могільніка Чарневічы ў 2002 г. // МАБ. 2007. Вып. 14; Cehak-Hołubowiczowa H. Słowiańskie groby kurhanowe koło Czerniewicz w pow. Dziśnieńskim // Wiadomości Archeologiczne. 1939. T. 16.

*М.А.Плавінскі.*

**ЧАРНЯ́ЎСКІ** Ігар Мяфодзьевіч (н. 12.3.1955, г. Чачэрск Гомельскай вобл.), беларускі археолаг архітэктуры. Скончыў БДУ (1978). З 1979 у Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрнях Мін-ва культуры Беларусі, пасля рэарганізацыі ў 1986 установы ў Бел. рэстаўрацыйна-праектны ін-т – нач. аддзела. З 1991 у Гал. ўпраўленні па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры СМ Рэспублікі Беларусь (намеснік начальніка), з 2008 начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культ. спадчыны і рэстаўрацыі Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь. Вёў раскопкі мураваных пабудоў 12–18 ст. грамадзянскага характару ў Гальшанскім, Любчанскім, Нясвіжскім, Крэўскім замках, у Магілёве, Віцебску, Пінску, Гайцюнішках, Ружанах, вывучаў надворныя пабудовы Лідскага і Мірскага замкаў. У Княжацкай вежы Крэўскага замка сабрана больш за 5 тыс. фр-таў фрэсак 15 ст. У 1980 выявіў і даследаваў рэшткі гродзенскай Прачысценскай царквы 12 ст. (пры ўдзеле археал. групы Гродзенскага ун-та пад кіраўніцтвам М.А.Ткачова).

**ЧАРНЯ́ЎСКІ** Максім Міхайлавіч (н. 6.8.1976, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2005). Скончыў БДУ (1998). З 2001 у ІГ НАН Беларусі. Вывучае праблемы позняга неаліту і ранняга бронзавага веку ў паўн.-ўсх. Беларусі (Паазер'е). Даследаваў паселішчы *Асавец*-2, 7, *Сосенка*-3, *Бярэшча*-1; выявіў больш за 10 новых помнікаў і месцазнаходжанняў.

*Літ.*: Унікальны тып касцяных падвесак // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Керамічны комплекс стаянкі Асавец-7 // Там жа. Мінск, 2006. № 21; Касцяныя і рагавыя вырабы на паселішчах Крывінскага тарфяніку (неаліт–бронзавы век). Мінск, 2007; Асавец 7 – новое поселение Кривинского торфяника // Человек. Адаптация. Культура. М., 2008; Крамянёвыя вырабы паўночнабеларускай культуры ў матэрыялах раскопак 2000–2007 гадоў: першыя вынікі дасled. // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даслед.: (да 80-годдзя пачатку археал. раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практыч. семінара. Наваполацк, 2009; Крамянёвыя наканечнікі стрэл з матэрыялаў паселішча Асавец 7 // МАБ. 2010. № 18.

*З.А.Харытановіч.*

**ЧАРНЯ́ЎСКІ** Міхаіл Міхайлавіч (н. 7.3.1938, в. Круці Мядзельскага р-на Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1971). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1960). З 1966 у ІГ НАН Беларусі, навук. супрацоўнік, у 1990–2000 заг. аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў. З 2007 у БДУ, дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных гіст. дысцыплін. Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру плямён каменнага і бронзавага вякоў паўн.-зах. Беларусі, першабытнае мастацтва Беларусі. Адкрыў звыш 500 стаянак і паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў. Праводзіў раскопкі помнікаў фінальнага палеаліту, мезаліту і неаліту ў басейнах Нёмана і Віліі, першабытных стаянак Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне на пл. звыш 7000 м². Даследаваў крэменездабыўныя шахты каля г.п. Краснасельскі і в. Карпаўцы Ваўкавыскага р-на, шэраг помнікаў бронзавага веку Панямоння. Вылучыў прыпяцка-нёманскую і нёманскую неалітычныя культуры. Аўтар навук., навук.-папулярных работ, маст. прозы; мастак-карыкатурыст. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1, 1987), «Археалогіі Беларусі». (т. 1, 1997), «Гісторыі Беларусі» (т.1, 2000), кн. «Дасягненні археолагаў за гады Савецкай улады» (1987).

*Тв.*: З глыбінь тысячагоддзяў. Мінск, 1978; Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979; Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі. Мінск, 1981; Археалагічныя помнікі Міншчыны. Мінск, 1984; Старажытныя шахцёры на Росі. Мінск, 1996 (разам з В.Я.Кудрашовым, і В.Л.Ліпніцкай); Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі. Мінск, 2003; Да пытання вылучэння прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18; К проблеме хронологии неолита Беларуси // Проблемы хронологии и этнокультурных взаимодействий в неолите Евразии. Санкт-Петербург, 2004; Паселішча Кастыкі 1 на Віліі // ГАЗ. Мінск, 2006. № 22; Рагавыя шахцёрскія прылады з Карпаўцаў Ваўкавыскага раёна // ААА. Мінск, 2007. Vol. 1; Выявы птушак на кераміцы ў першабытнай культуры Беларусі // ААА. Мінск, 2008. Vol. 3; Ранненеолитическая культура восточного Понеманья // Человек, адаптация, культура. М., 2008.

*Э.М.Зайкоўскі, В.Л.Лакіза.*

**ЧАРНЯХО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА** (Чарняхоў – Сынтана дэ Мурэш культура), археалагічная культура плямён, якія ў сяр. 3 – пач. 5 ст. жылі ад ніжняга Дуная і Сяміграддзя–Трансільваніі да Дняпра ў стэпавай паласе, і ад вярхоўяў Сейма да Северскага Данца ў лесастэпе. Назву атрымала ад могільніка каля в. Чарняхоў (Кіеўская вобл.), даследаванага В.В.Хвойка ў 1900–01. Ч.к. належыць да кола раманізаваных культур (гл. *Рымскі перыяд*). Вядома каля 3500 помнікаў. Шэраг археолагаў вылучае землі на З ад Днястра ў асобную культуру – Сынтана дэ Мурэш. Для Ч.к. характэрны адкрытыя паселішчы з паўзямлянкавымі і наземнымі жытламі, у т.л. «доўгімі дамамі»; грунтовыя могільнікі з бірытуальным пахавальным абрадам; матэрыяльная культура з правінцыйнарымскімі элементамі, характэрным наборам мясцовых тыпаў кругавога посуду і ўпрыгажэнняў. Найб. пашырана храналагічная схема Ч.к., распрацаваная Я.Л.Гарахоўскім (1985).



Аўтары: В.Г. Белявец, Ю.У. Каласоўскі

Насельніцтва жыло на неўмацаваных селішчах, размешчаных на тэрасах малых рэк і ручаёў, па краях абводненых балак, радзей – на берагах вял. рэк. Існавалі як селішчы хутарскога тыпу пл. 1–2 га, так і паселішчы памерамі да 40 га, з рэгулярнай забудовай. На Дняпры і паўд. Бугу вядомы гарадзішчы, якія размяшчаліся на накірунках пранікнення качэўнікаў і выконвалі функцыі абарончых і палітычных цэнтраў. Прамавугольныя паўзямлянкавыя і наземныя жытлы каркасна-слупавой канструкцыі пл. каля 10–40 $м^2$ былі пераважна аднакамернымі. «Доўгія дамы» пл. да 120 $м^2$ падзяляліся на жылую і гасп. часткі, сцены каркасна-слупавыя і плеценыя, з гліністай абмазкай, альбо складзеныя з дзёрну. Жытлы абаграваліся ў асн. адкрытымі ачагамі. Для паселішчаў узбярэжжа Чорнага мора характэрна каменнае домабудаўніцтва. Былі пашыраны наземныя і паглыбленыя гасп. пабудовы, ямы-зерняясховішчы, у т.л. з драўлянымі навесамі.

Пры дамінаванні бірытуалізму, сустракаюцца могільнікі толькі з крэмацыямі, а таксама некропалі, на якіх пахаванні са спаленнямі і інгумацыі ўтвараюць адасобленыя групы. У міжрэччы Днястра і Зах. Буга пахавальны абрад не вядомы. Трупаспаленні ямныя і урнавыя, вельмі разнастайныя па абраднасці. Пахаванні з інгумацыямі арыентаваны пераважна на Пн альбо З, з сезоннымі адхіленнямі. Практыкаваўся звычай раскопвання магільных ям і перамяшчэння костак нябожчыкаў. У культ. пласце шэрагу могільнікаў фіксуюцца перапаленыя косткі і інвентар. Катакомбныя пахаванні, інгумацыі ў ямах з заплечнікамі і падбоямі складаюць каля 1%, на ўзбярэжжы Чорнага мора – да 20%. Інвентар – упрыгажэнні і дэталі касцюма (фібулы, спражкі, шыйныя ўпрыгажэнні, амулеты і інш.), посуд, побытавыя рэчы (грабеньчыкі, праслíцы, пінцэты), праслíцы з верацёнамі. Часам сустракаюцца прылады працы і ўзбраенне, якія адлюстроўваюць прысутнасць у складзе Ч.к. носьбітаў традыцый пшэворскай і інш. культур.

Вылучаецца некалькі лакальных варыянтаў Ч.к.: на Валыні, у паўн. частцы паўд. Пабужжа і шэрагу інш. тэр. з выразнымі рысамі *вельбарскай культуры*; помнікі Сярэдняга Падняпроўя, дзе адбывалася паступовае выцясненне насельніцтва кіеўскай культуры і яго інкарпарацыя ў абшчыны Ч.к.; у вярхоўях Днястра і З. Буга (тыпу Рыпнеў–Чарапін) з субстратнымі рысамі зубрыцкай групы; прычарнаморскі рэгіён з выразнымі познаскіфскімі, сармацкімі і познаантычнымі элементамі, якія ў меншай ступені прысутнічаюць у іншых рэгіёнах. Шэраг помнікаў Ч.к. ў Падунаўі і Прыкарпацці характарызуюць дака-карпскія (фракійскія) субстратныя рысы.

Асн. гасп. заняткамі былі ворнае земляробства і жывёлагадоўля. Насельніцтва вырошчвала пшаніцу, ячмень, проса, авёс, гарох, лён. У апрацоўцы глебы прымяняліся плугі з жалезнымі наральнікамі і чарэсламі. У якасці цяглавой сілы служылі валы і коні. Для касьбы і збору ўраджаю прымяняліся сярпы розных канструкцый і косы. Памол зерня здзяйсняўся ў нажных ступах і ручных млынах з ратацыйнымі жорнамі. Існавалі млынавыя комплексы калектыўнага карыстання. У жывёлагадоўлі шэрагу рэгіёнаў пераважала ўтрыманне буйной рагатай жывёлы (у сярэднім




*Храналагічная сістэма матэрыялаў* ***чарняхоўскай культуры*** *(фазы паводле Я.Л.Гарахоўскага).*

каля 35–45% статкаў). Менш пашырана было гадаванне коз і авечак (25–30%), свіней (15–20%), коней (10%). Здабыча жалеза і кавальства грунтаваліся на эксплуатацыі мясц. радовішчаў дзярновых руд. Побач з традыцыйным дамашнім рамяством (прадзеннем, ткацтвам, апрацоўкай дрэва і косці) існавалі спецыялізаваныя майстэрні па апрацоўцы косці і скур, здабычы прамысловых парод каменю (для вырабу жорнаў), у т.л. з раздзельным выкананнем аперацый на розных паселішчах. З 2-й пал. 3 ст. пры пасрэдніцтве насельніцтва рымскіх правінцый пашырылася вытворчасць кругавога глінянага посуду: шэрага «задымленага» і чорнаглянцаванага. Яго ўдзел у керамічным комплексе для розных перыядаў і рэгіёнаў вагаецца ад 20–30 да амаль 100%. У аздабленні сталовых і «банкетных» кругавых пасудзін (кубкаў, місак, глечыкаў) выкарыстоўваўся пралошчаны, пракрэслены, штэмпельны арнамент. Формы і прыёмы арнаментацыі ляпнога посуду маюць аналогіі ў ганчарстве вельбарскай, познаскіфскай, сармацкай, кіеўскай, зубрыцкай, пшэворскай, эльбскага і фракійскага кола культур.

Важную ролю ў гасп. і сацыяльна-палітычным жыцці насельніцтва Ч.к. адыгрываў гандаль з гарадамі Прычарнамор'я і правінцыямі Рымскай імперыі. Асн. адзінкай гандлю і сродкам накаплення багаццяў, а таксама сыравінай для атрымання каляровых металаў, служылі манеты Рымскай імперыі. Шэрагам даследчыкаў выказваецца меркаванне аб наяўнасці ў насельніцтва Ч.к. ранніх форм грашовага абарачэння. У 4 ст. носьбіты Ч.к. наладзілі менавы гандаль з насельніцтвам усх.-еўрап. лясной зоны.

Аб сацыяльнай стратыфікацыі грамадства сведчыць пахавальны абрад: поруч з безынвентарнымі пахаваннямі вядомы магілы знаці – інгумацыі ў вялікіх, ашаляваных дрэвам камерах, якія суправаджаліся багатымі пахавальнымі дарамі, і нязначная колькасць выключна багатых, «княжацкіх» пахаванняў.

Ч.к. з'яўляецца гетэрагенным і поліэтнічным гісторыка-культ. утварэннем, генезіс якога звязаны з рассяленнем у апошняй чв. 2 – сяр. 3 ст. на землях Валыні і Паўн. Прычарнамор'я носьбітаў вельбарскай культуры (плямёнаў готаў і гепідаў). Час яе фарміравання прыпадае на эпоху «скіфскіх» («гоцкіх») войнаў каля 238–276. У 4 ст. на тэр. Ч.к. даследчыкі лакалізуюць 2 буйныя племянныя саюзы: візіготаў-тэрвінгаў («лясных готаў») і астраготаў-грэйтунгаў («стэпавых готаў»). Яны былі звязаны з Рымскай імперыяй шэрагам палітычных і эканамічных дамоў (feodera), згодна якім неслі абавязкі па ахове яе межаў і пастаўлялі рэкрутаў у дапаможныя сілы рымскай арміі, за што атрымлівалі выплаты зернем і грашамі, карысталіся льготнымі ўмовамі гандлю. У пач. 4 ст. ў Падунаўі пачало распаўсюджвацца хрысціянства ў яго арыянскай версіі. На помніках Ч.к. знойдзены рэчы з надпісамі, выкананымі рунічным, грэчаскім, лацінскім пісьмом.

Распад Ч.к. быў выкліканы нашэсцем *гунаў* (каля 375) і міграцыямі насельніцтва ў эпоху *Вялікага перасялення народаў*, перадусім, на тэр. Рымскай імперыі. У пач. 5 ст. частка насельніцтва Ч.к. знаходзілася пад пратэктаратам гунаў, а пазней у складзе войск, узначаленых імі, рушыла на З. Асобныя групы нашчадкаў Ч.к. прынялі ўдзел у фарміраванні і развіцці пянькоўскай культуры, помнікі тыпу Рыпнеў–Чарапін з'явіліся асновай альбо адным з кампанентаў фарміравання раннеслав. *пражскай культуры*.

У Беларусі матэрыялы Ч.к. прадстаўлены на вельбарскіх помніках Турава-Пінскага Палесся, якія ў 4 ст. ўтваралі адзінства з перыферыйнымі помнікамі вельбарскай культуры ў Зах. Валыні. Асобныя імпарты (фр-ты посуду, упрыгажэнні) адкрыты на помніках ранняй пражскай культуры Палесся, кіеўскай культуры ў Верхнім Падняпроўі, дасягалі Падзвіння.

*Літ.*: Сымонович Э.А., Кравченко Н.М. Погребальные обряды племен черняховской культуры. М., 1983 (САИ. Вып. Д1–22); Гороховский Е.Л. Хронология черняховских могильников Лесостепной Украины // Тр. V Межд. конгресса археологов-славистов. Т. 4: Древние славяне. Киев, 1985; Никитина Г.Ф. Систематика погребального обряда племен черняховской культуры. М., 1985; Гей О.А., Сымонович Э.А. Черняховская культура // Славяне и их соседи в конце I тысячелетия до н.э. – первой половине I тысячелетия н.э. М., 1993; 100 лет черняховской культуры. Киев, 1999; Магомедов Б.В. Черняховская культура: проблема этноса. Lublin, 2001; Щукин М.Б. Готский путь: готы, Рим и черняховская культура. Санкт-Петербург, 2005; Белявец В.Г. Помнікі вельбарскай культуры ў Турава-Пінскім Палессі: праблемы вывучэння // ГАЗ. Мінск, 2008. № 22.

*В.Г.Белявец.*

**ЧАРТО́К**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, селішчы эпохі сярэдневякоўя каля в. Чарток Гродзенскага р-на. Выявілі і даследавалі ў 2005 В.С.Абухоўскі, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі ў час абследавання зоны рэканструкцыі Аўгустоўскага канала.

Стаянка-1 мезаліту і неаліту, селішча эпохі сярэдневякоўя за 0,5 км на З ад хутара Чарток, на дзюнападобным павышэнні левабярэжнага поплаву Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 0,5–1 м над узроўнем поплаву. Памеры 80 × 80 м. Часткова пашкоджана. На паверхні знойдзены шматпляцовачны крамянёвы нуклеус і трапецыя. Праведзены археал. раскопкі на пл. 24 м². Культ. пласт да 0,3–0,4 м. Атрымана 98 артэфактаў, у т.л. аднапляцовачныя і шматпляцовачныя нуклеусы, 2 фр-ты нуклеусаў, абломкі, адшчэпы і пласціны, фр-т мікрарэтушаванай пласціны, 2 мікрарэтушаваныя адшчэпы, 11 фр-таў ганчарнай керамікі позняга сярэдне-




*Да арт.* ***Чарток****. Крамянёвыя вырабы: 1 – наканечнік стралы фінальнага палеаліту са стаянкі-3; 2 – мезалітычная трапецыя са стаянкі-1; 3 – крамянёвы разец са стаянкі-6; 4 – цясла эпохі мезаліту са стаянкі-3.*

вякоўя, 2 жал. каваныя цвікі. Найб. архаічныя матэрыялы датуюцца мезалітам (янііславіцкая культура, 6–5-е тыс. да н.э.), частка нуклеусаў – неалітам.

Стаянка-2 фінальнага палеаліту і мезаліту за 50 м на З ад хутара Чарток, на мысападобным выступе высокай тэрасы левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 5–6 м над узроўнем вады. Памеры 90 × 80 м. Знойдзены аднапляцовачны крамянёвы нуклеус, 12 абломкаў, адшчэпаў і пласцін.

Стаянка-3 фінальнага палеаліту і мезаліту за 0,1 км на У ад хутара Чарток, на мысападобным выступе высокай тэрасы левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 4–5 м над узроўнем вады. Памеры 200 × 150 м. Сабрана шматлікая калекцыя крамянёвых вырабаў, сярод якіх шматпляцовачны нуклеус, цясла, чаранковы наканечнік стралы фінальнага палеаліту.

Стаянка-4 мезаліту каля хутара Чарток, на дзюнападобным павышэнні левабярэжнай высокай тэрасы Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча). Памеры 80 × 50 м. Знойдзена 17 вырабаў першаснай апрацоўкі крамянёвай сыравіны.

Стаянка-5 каменнага веку і селішча эпохі сярэдневякоўя за 0,25 км на У ад вёскі, на мысападобным выступе высокай тэрасы левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 4–6 м над узроўнем вады. Памеры 150 × 100 м. Знойдзены фр-т абпаленага нуклеуса, 13 адшчэпаў і пласцін, 2 фр-ты ганчарнага посуду.

Стаянка-6 фінальнага палеаліту на тэр. жывёлагадоўчай фермы, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 4–6 м над узроўнем вады. Памеры 150 × 100 м. Знойдзены аднапляцовачны крамянёвы нуклеус, пляцоўка нуклеуса, 37 вырабаў першаснай апрацоўкі, рэтушны разец.

Стаянка-7 каменнага веку і селішча сярэдневякоўя на тэр. вёскі, на высокай тэрасе левага берага Аўгустоўскага канала (р. Чорная Ганча), выш. 5–6 м над узроўнем вады. Памеры 75 × 50 м. Даследаваў В.С.Абухоўскі (пл. 2 м²). Знойдзена 14 крамянёвых абломкаў, адшчэпаў і пласцін, 6 фр-таў ганчарнай керамікі.

Стаянка-8 каменнага веку і селішча позняга сярэдневякоўя насупраць стаянкі-7 на мысападобным выступе высокай тэрасы правага берага Аўгустоўскага канала, выш. 4–6 м над узроўнем вады. Памеры 150 × 100 м. Знойдзена крамянёвая пласціна і фр-т ганчарнай керамікі.

*Літ.*: Абухоўскі В.С., Лакіза В.Л. Археалагічныя помнікі беларускай часткі Аўгустоўскага канала // Августовский канал и современный экотуризм. Пултуск; Минск; Гродно, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**ЧАРЭ́ШЛЯ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага веку каля в. Чарэшля Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. Даследавалі ў 1957 Н.М.Гурына і Ф.Д.Гурэвіч, у 1962 Н.М.Гурына, у 1965 М.М.Чарняўскі.

Стаянка-1 за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Нёман і воз. Чарэшля, каля вытоку р. Беланожка. Культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады, фр-ты керамікі нёманскай культуры. Датуецца пераважна 3-м тыс. да н.э.

Стаянка-2 за 2 км на ПнУ ад вёскі, на пясчанай дзюне. Знойдзены фінальнапалеалітычныя і мезалітычныя крамянёвыя прылады.

*Літ.*: Гурина Н.Н. Новые данные о каменном веке северо-запада Белоруссии // Палеолит и неолит СССР. М.; Ленинград, 1965 (МИА. № 131). *М.М.Чарняўскі.*

**ЧАЦВЯРЦІ́ЧНЫ ПЕРЫ́ЯД**, апошні, найб. кароткі ў гісторыі Зямлі геалагічны перыяд, які працягваецца і цяпер. Гл. *Антрапаген.*

**ЧАЧЭ́РСК**, горад, цэнтр Чачэрскага р-на Гомельскай вобл., прыстань на р. Сож пры ўпадзенні р. Чачора. За 65 км на Пн ад Гомеля.

Упершыню Ч. упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 як горад радзімічаў «Чичерск», які кіеўскі кн. Ізяслаў Давыдавіч вярнуў чарнігаўскаму кн. Святаславу Ольгавічу. У 12–13 ст. уваходзіў у Чарнігаўскае княства. З сяр. 14 ст. ў ВКЛ, цэнтр воласці. З 1509 мястэчка Віленскага ваяводства, з 1510 цэнтр Чачэрскага старостава, меў правы гар. самакіравання. З 1566 у Рэчыцкім пав. Мінскага

ваяводства. З 1629 меў прывілей на штотыднёвы гандаль і двухтыднёвыя кірмашы штогод. У антыфеад. вайну 1648–51 у наваколлі Ч. адбыліся сялянскія паўстанні. У 1654 горад займалі казацкія войскі І.Залатарэнкі. Да 1659 тэр. Ч. была ў складзе гетманскіх казацкіх уладанняў у Беларусі. Потым зноў усталявалася ўлада Рэчы Паспалітай. З 1772 Ч. у складзе Расійскай імперыі.

Гарадзішча стараж. Ч. «Замкавая гара» размешчана на правым беразе р. Чачора і займае частку высокага берагавога плато. Мае форму круга пл. 0,5 га. Гарадзішча аддзелена шырокім (20–25 м) і глыбокім (3–7 м) ровам ад астатняй берагавой пляцоўкі, занятай вакольным горадам. Археал. даследаванні на гарадзішчы праводзілі ў 1928 А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі, у 1975 М.А.Ткачоў (ускрыта 220 $м^2$), у 1981 У.У.Багамольнікаў (108 $м^2$), у 1981–82 І.М.Чарняўскі (больш за 112 $м^2$). Устаноўлена, што ў выніку зносу кругавога абарончага вала, насыпанага з пяску, гліны і культ. адкладаў, і праведзенай у пач. 19 ст. планіроўкі паверхні гарадзішча, культ. пласт размешчаны нераўнамерна. У паўд. частцы пляцоўкі ён мае таўшч. да 0,4 м, у паўн. – да 4 м. Матэрыялы знаходак сведчаць, што жыццё на стараж. паселішчы пачалося ў эпоху неаліту і працягвалася ў жал. веку (мілаградская і зарубінецкая культуры).

Выяўлена кераміка – раннеслав., роменска-боршаўскага тыпу, эпох Кіеўскай Русі і ВКЛ. Земляны абарончы вал гарадзішча з боку поля існаваў ужо ў 10 ст. і пазней неаднаразова падсыпаўся. Знаходкі даюць падставу меркаваць, што ў стараж. Ч. былі развіты прадзенне, ткацтва, выраб жалеза, ганчарнае, ювелірнае, касцярэзнае і інш. рамёствы. Апрача промыслаў, жыхары займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй. Знойдзены 2 сашнікі, каса-гарбуша, серп, гліняныя шарападобныя і цыліндрычныя грузілы для рыбалоўных сетак, шыферныя прасліцы, жал. нажы, рыбалоўныя кручкі, больш за 300 шкляных бранзалетаў, шкляныя і хрустальныя пацеркі, пярсцёнкі, каменны крыжык-карсунчык, медны нацельны абразок 13 ст. з паясной выявай Божай Маці на знешнім баку і змеевіка на адваротным. Сярод металічных вырабаў – наканечнікі стрэл, арбалетныя балты, суліцы. Знойдзена шмат кафлі (гаршковая 16 ст., рознатыповая паліваная, у т.л. з геральдычнымі знакамі, і інш.), ганчарны посуд 14–18 ст. Амаль у цэнтры гарадзішча выяўлены цагляныя слупы (каля 1,5 м у папярочніку) ад будынка 18 ст. Памеры цэглы 23 × 13,5 × 5–6 см. У сярэдневякоўі на месцы гарадзішча пабудаваны Чачэрскі замак.

Вакольны горад. На Пд ад гарадзішча за абарончым ровам размяшчаўся пасад стараж. Ч. пл. больш за 2 га. У выніку шурфоўкі ўздоўж вуліц Замкавай і Падабедава, а таксама збору матэрыялаў на агародах устаноўлена, што пасад у Ч. ўзнік у 11 ст.

Сярод знаходак – кераміка 11–18 ст., абломкі шкляных бранзалетаў, шыферныя прасліцы, косткі жывёл. Таўшч. культ. пласта па меры аддалення ад гарадзішча вагаецца ад 1,2 м да 0,4–0,2 м. Можна меркаваць, што ўжо ў 11 ст. пасад быў умацаваны драўлянай абарончай сцяной, пазней – валам з навальнымі драўлянымі канструкцыямі і ровам перад ім. Паводле пазнейшых гіст. крыніц, вакольны горад у 16–18 ст. засцерагаўся астрогам з вежамі і сценамі-гароднямі. Былі ўязныя вежы-брамы – Замкавая, Вялікая і «форта» Падольная, якая выводзіла на бераг Чачоры. Сістэма ўмацаванняў Ч. знікла ў к. 18 ст.

*Літ.*: Ткачев М.А. Работы в Белорусском Посожье // АО 1975. М., 1976; Богомольников В.В. Раскопки в Чечерске и Нисимковичах // АО 1981. М., 1983; Чернявский И.М. Архитектурно-археологические исследования в Гомельской и Гродненской областях // Там жа; Яго ж. Исследования памятников средневековой гражданской архитектуры // АО 1982. М., 1984. *М.А.Ткачоў.*

**ЧО́ВЕН**, лодка, выдзеўбаная з дрэва. Прыводзіцца ў рух пры дапамозе вясла ці жэрдкі або ветрам пры падняцці ветразя. Найстараж. драўляны Ч. эпохі мезаліту выяўлены ў тарфяніку Маглемазэ (Данія). Выдзеўбаныя з суцэльнага ствала дуба, хвоі альбо выпаленыя вуголлем Ч. знаходзяць у балотах, поймах, на дне вадаёмаў Еўропы. Вядома больш за 80 такіх знаходак. Масавая вытворчасць Ч. стала магчыма пасля з'яўлення крамянёвых цёслаў, касцяных і рагавых рубячых прылад, шырока вядомых у эпоху неаліту. Даўж. Ч. 3–5 м. Стараж. Ч. былі вузкія, начоўкападобныя, часам з перамычкамі, бакавымі стабілізатарамі альбо балансірамі. У якасці асн. матэрыялу для лодак-аднадрэвак (монаксілаў) выкарыстоўваўся дуб. З больш лёгкіх парод дрэва (асіна, вольха, таполя) выраблялі невял. даўбёнкі з расшытымі, разгорнутымі бартамі і тонкімі (25–40 мм) сценкамі. Сярэдзіна такіх Ч. выбіралася цёсламі толькі да калкоў, забітых ланцужкамі ў свідравіны. Потым залівалася вада, і загатоўка распарвалася над вогнішчам. Унутр калоды забівалі распоркі, якія амаль удвая расшыралі Ч. у сярэдняй частцы. Падобная тэхналогія была распаўсюджана на тэр. ад Рэйна да Дняпра.

*Літ.*: Кларк Дж.Г.Д. Доисторическая Европа: экон. очерк: пер. с англ. М., 1953. *У.Ф.Ісаенка.*

**ЧО́РНАЯ ЛАЗА́**, археалагічныя помнікі – гарадзішча, селішчы і курганны могільнік каля в. Чорная Лаза Чашніцкага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* за 1 км на У ад вёскі. Мясц. назва Высокая гара. Пляцоўка роўная, авальная, яе памеры па лініі Пн–Пд 62 м, па лініі У–З 26 м у паўн. і 52 м – у паўд. частцы. З Пн і У пляцоўка не мае ўмацаванняў, з Пд і З умацавана двайным валам і ровам. Першы вал шыр. 2–4 м, выш. 1–1,3 м.



*Да арт. **Чорная Лаза**. Знаходкі з селішча-1 (1 – фібула, 2 – лунніца, 3 – завушніца, 4, 5 – касцяныя вырабы, 6–11 – пацеркі).*

Роў шыр. 4–5 м, глыб. 1–1,5 м. Другі вал мае шыр. 3 м, выш. 1–1,5 м. З Пд разбураецца кар'ернымі разработкамі. Абследаваў у 2006 і 2009 П.М.Кенька. Культ. пласт па цэнтры пляцоўкі каля 0,5–0,6 м, па краях 0,8–1 м. У зах. частцы пляцоўкі закладзены шурф (1 × 1 м). Знойдзены фр-ты гладкасценных і штрыхаваных пасудзін, кавалкі шлаку, нож,ігла, шпількі, шыла і інш. Датуецца 1–5 ст. н.э.

Селішча-1 за 2 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Эса. Даўж. да 100 м. У 2006 выявіў В.У.Тухта, у 2006–08 даследаваў П.М.Кенька. Вывучана 42 м². Культ. пласт 0,3–1,2 м. Знойдзены грубаляпны і глянцаваны ляпны посуд, праслíцы, тыглі, жал. шпілька, шыла, падвеска і фібула з эмаллю, шкляныя і гліняныя пацеркі, крамянёвыя наканечнікі стрэл, разцы, нажы, скрабкі і інш. прылады працы. Матэрыялы адносяцца да *паўночнабеларускай культуры* плямён позняга неаліту і ранняга бронзавага веку, а таксама днепрадзвінскай культуры 2–5 ст. н.э.

Селішча-2 за 500 м на Пн ад селішча-1, на левым беразе р. Эса. Даўж. да 100 м. Выявіў у 2007 П.М.Кенька. Культ. пласт 0,2–0,4 м. Знойдзены ляпны і кругавы посуд.

Курганны могільнік за 0,1–0,2 м на У ад вёскі. 3 курганы дыям. 6 м, выш. 1 м.

*Літ.:* Кенько П.М. Археологические раскопки в Докшицком и Лепельском районах Витебской области // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21. *П.М.Кенька.*

**ЧО́РНАЯ ЛУ́ЖА**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля б. хутара Чорная Лужа Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 200 м на ПнУ ад хутара. У к. 19 ст. налічваў 40 цэлых насыпаў і амаль столькі ж пашкоджаных. Зараз не існуе. У 1895 Ф.В.Пакроўскі раскапаў 12 курганоў дыям. 5,5–11,5 м, выш. 0,9–1,3 м. Месцамі каля насыпаў прасочваліся сляды раўкоў, а каля асновы ляжалі камяні. У адным кургане знаходзіліся ад 1 да 5 пахаванняў па абраду трупаспалення. Рэшткі спаленняў у большасці выпадкаў змешчаны ў грунтовых ямах глыб. да 0,6 м, радзей на гарызонце або ў насыпе. Рэшткі 3 спаленняў знаходзіліся ў каменных скрынях, 2 – на каменных вымастках, 1 – унутры каменнага вянка. У некалькіх выпадках пад перапаленымі касцямі меліся падсыпкі з пяску або жвіру. Пахавальны інвентар багаты: наканечнікі коп'яў, баявыя сякеры, ручкі і ўмбоны шчытоў, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, жал. фібулы, спражкі, жал. нажы, пінцэты, гліняныя праслíцы. Могільнік належаў балцкаму насельніцтву, датуецца 2-й пал. 1-га тыс.

*Літ.:* Покровский Ф.В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении. М., 1899. *Я.Г.Звяруга.*

**ЧУРЫ́ЛАВА**, археалагічны помнік – курганны могільнік культавага прызначэння каля в. Чурылава Міёрскага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на Пн ад вёскі, на левым беразе Зах. Дзвіны, у лесе, 12 круглых (дыям. 4–9 м) і авальных (памерамі 6 × 7, 8 × 9 м) у плане курганоў, выш. да 2 м; насыпаны з пяску. Даследавалі ў 1937 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч (6), у 1981, 1985, 1987 Л.У.Дучыц (3). На аснове і ў насыпах выяўлены вугаль і сляды вогнішчаў. Каля асновы некаторых курганоў былі каменныя выбрукоўкі, у адным выяўлены 2 кольцападобныя агароджы з валуноў, фр-ты керамікі позняга сярэдневякоўя, косткі чалавека. Датуецца 14–18 ст.

*Літ.:* Дучыц Л.У. Да пытання аб познесярэдневяковых курганах Паўночнай Беларусі // ВАНБ. 1989. № 4. *Л.У.Дучыц.*

**ЧЫГІРЫ́НКА**, археалагічныя помнікі – стаянка і курганны могільнік каля в. Чыгірынка Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка *грэнскай культуры* на паўд.-зах. беразе Чыгірынскага вадасховішча, за 1,5 км ад плаціны, 0,1 км на У ад дарогі на в. Коўбава. Памеры 40 × 100 м. Адкрыў у 1981 і даследаваў 108 м² у 1991 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,1 м. Знойдзены тронкавыя наканечнікі стрэл з рэтушаваным пяром, рэтушныя разцы, канцавыя скрабкі, скоблі, аднапляцовачныя нуклеусы, дробныя асколкі і лускавінкі, пласціны, адшчэпы, сколы. У якасці сыравіны выкарыстоўвалі цёмна-шэры мелавы крэмень, які апрацоўвалі на стаянцы.




*Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1–4), вастрыі (5–7), скоблі (8–9), фрагмент пласціны з рэтушшу (10), скрабкі (11–14), разцы (18–19), сякучая прылада (20) са стаянкі* ***Чыгірынка**.*

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі на паўд. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Друць, каля дарогі на в. Стайкі. Курганы размешчаны паралельна р. Хмялінка (прыток Друці). 13 насыпаў выш. 0,9–3 м, дыям. 4–11 м. Вядомы з 1873. Абследавалі ў 1893 Е.Р.Раманаў, у 1978 Я.Г.Звяруга, у 1987 В.Ф.Капыцін.

*Літ.*: Заметка Е.Р.Романова о дополнительных археологических местонахождениях // Тр. IX АС. Вильна, 1893; Копытин В.Ф. Археологические памятники Кировского района Могилевской области. Могилев, 2002. *В.Ф.Капыцін.*

**ЧЫЖА́ХА**, археалагічныя помнікі – паселішчы і гарадзішча каля в. Чыжаха Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Паселішча мезалітычнай *днепра-дзяснінскай культуры* за 0,2 км на ПнЗ ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе р. Бярэзіна, ва ўр. Гарадок, каля могілак. Выявіў у 1929 І.Р.Калодкін, абследаваў у 1930 М.М.Канвісараў, даследаваў 280 м² у 1978–89 У.П.Ксяндзоў. Пляцоўка памерамі 200 × 75 м выцягнута з З на У. Культ. пласт 0,3–0,5 м. Знойдзена каля 1500 артэфактаў: нарыхтоўкі і вырабы з мелавога шэрага крэменю (нуклеусы, пласціны, наканечнік стралы, вастрыі, адшчэпы, рэтушаваныя пласціны, укладышы, скрабкі, праколкі), адзінкавыя прылады працы з т.зв. сожскага крэменю. Датуецца прыкладна 7 тыс. да н.э.

Гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі размешчана паміж вёскамі Чыжаха і Бычын на правым беразе р. Бярэзіна, пры ўпадзенні ў яе ручая, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка памерамі 110 × 102 м, выш. каля 10 м, умацавана 2 дугападобнымі валамі выш. да 2 м і равамі глыб. 2,5 м. Вядома з 1893. Абследавалі ў 1929–30 І.Р.Калодкін і М.М.Канвісараў, у 1931 А.М.Ляўданскі, у 1963 Л.Д.Побаль, 1979 Т.С.Бубенька. У 1990–91 А.У. Ільюцік даследавала 176 м². Культ. пласт 0,4–1,65 м. Уздоўж вала зафіксаваны рэшткі пабудовы ў выглядзе западзіны шыр. да 3 м, глыб. 1,65 м са слупавымі ямамі з боку пляцоўкі. Выяўлены камяні, складзеныя амаль кругам (0,7 × 0,8 м), без слядоў агню. Паміж камянямі былі сабраны фр-ты ляпной штрыхаванай керамікі, кальцыніраваная костка, некалькі вугалькоў і крамянёвы скрабок. Відавочна, аб'ект выкарыстоўваўся ў культавых мэтах. Знойдзены рэшткі пахавання –кальцыніраваныя косткі і кавалкі грубаляпнога гаршка с акруглым донцам і штрыхаванымі сценкамі. У культ. пласце выяўлены фр-ты ляпной гладкасценнай, штрыхаванай і глянцаванай керамікі, жал. чаранковы наканечнік стралы, фр-т ляза сякеры, бронзавыя і жал. шпількі. Датуецца апошняй чв. 1-га тыс. да н.э.

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930–1931 гг. // Працы. Т. 3; Ильютик А.В. Городища Лысуха и Чижаха – памятники раннего железного века в бассейне средней Березины // Насельніцтва Беларусі і суседніх тэрыторый у эпоху жалеза. Мінск, 1992; Ксензов В.П. Мезолит северной и центральной Беларуси. // МАБ. 2006. Вып. 13. *У.П.Ксяндзоў, А.У.Ільюцік.*

**ЧЫЖО́ЎКА**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага веку каля в. Чыжоўка Дубровенскага р-на Віцебскай вобл.

Стаянка-1 днепра-дзяснінскай культуры за 0,3 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Дняпро. Выш. над узроўнем вады 8 м. Пл. 1000 м². Выявіў у 1981 і даследаваў 336 м² у 1986 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт разбураны ворывам і другасным засяленнем помніка ў познім сярэдневякоўі. На глыб. да 0,4 м знойдзены крамянёвыя вастрыі, канцавыя скрабкі, праколкі, скоблі, укладышы, сякеры, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы. Датуецца 5-м тыс. да н.э.

Стаянка-2 эпохі неаліту за 0,3 км на У ад стаянкі-1, на мысе, утвораным ручаём і правым берагам р. Дняпро. Выявіў і абследаваў у 1981 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,15–0,2 м. Знойдзены скрабкі, нуклеусы, пласціны, адшчэпы, фр-ты ляпнога посуду. Датуецца 4–2-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Ксензов В.П. Стоянки в верхнем течении Днепра // АО 1984. М., 1986. *У.П.Ксяндзоў.*

**ЧЫРВО́НАЯ ГО́РКА**, археалагічны помнік – гарадзішча ранняга жал. веку каля в. Чырвоная Горка Жлобінскага р-на Гомельскай вобласці. Знаходзіцца ў лесе, за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Дняпро, ва ўр. Гарадок. Памеры пляцоўкі 66 × 29 м. З напольнага боку ўмацавана валам і ровам. Выш. вала 2,0–2,5 м, шыр. – 15–16 м, шыр. рова – 3 м. У 1958 даследаваў Л.Д.Побаль, у 1978, 2002, 2004, 2006 і 2007– Н.М.Дубіцкая (48 м²). У 1994 абследаваў А.І.Драбушэўскі. Культ. пласт 0,4–0,8 м. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду (эпохі бронзы і жал. веку), гліняныя грузікі, косткі і зубы жывёл, кавалкі жужлы. Пераважае посуд мілаградскай культуры, прадстаўлены фр-тамі розных памераў: ад мініяцюрных (дыям. 2–3 см) да вял. кухонных гаршкоў. Частка посуду арнаментавана. Некаторыя пасудзіны жал. веку пакрыты штрыхоўкай.

Гарадзішча засн. насельніцтвам мілаградскай культуры ў 7–4 ст. да н.э. на месцы паселішча эпохі бронзы. *Н.М.Дубіцкая.*

**ЧЫРВО́НАЯ ЗО́РКА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і селішчы каля в. Чырвоная Зорка Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча за 1,5 км на У ад вёскі ва ўр. Царковішча (Равінка), у пойме правага берага р. Бярэзіна. Пляцоўка круглаватай формы, памеры 25 × 27 м, выш. каля 3 м, з ПдЗ умацавана валам. Адкрыў і даследаваў 164 м² у 1965 Л.Д.Побаль. Выяўлены гасп. ямы, пахаванне са спаленнем у круглай яме, ляпная гладкасценная кераміка, жал. наканечнік кап'я, глінянае біканічнае праслiца. Датуецца 6–9 ст.

Селішча-1 каля зах. боку гарадзішча. Пл. 0,5 га. Даследаваў 144 м² у 1965 Л.Д.Побаль. Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены гасп. ямы, грубаляпная гладкасценная кераміка, фр-ты посуду з загладжанай паверхняй, гаршкоў з рэдкімі расчосамі, зерняцёрка, шлак, косткі жывёл.

Селішча-2 *мілаградскай культуры* і позняга этапу *зарубінецкай культуры*, эпохі Кіеўскай Русі. За 0,7 км на ПнЗ ад гарадзішча, ва ўр. Узвечаў. Пл. каля 7 га. Адкрыў у 1931 А.М.Ляўданскі, даследаваў 612 м² у 1964 Л.Д.Побаль. Знойдзены вырабы з жалеза, бронзы, шкла, гліняныя праслiцы, фр-ты тыгляў, вырабы з крэменю, шлакі. Выяўлены гасп. ямы, слупавыя ямы ад пабудоў, 2 бескурганныя трупаспаленні.

*Літ.:* Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930–1931 гг. // Працы. Т. 3. *Л.Д.Побаль.*

**ЧЫРВО́НАЯ СЛАБАДА́**, Красная Слабада, археалагічны помнік – стаянка позняга неаліту і сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку каля в. Красная Слабада Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. За 1 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць, за 0,2 км на Пд ад б. паромнай пераправы. Памеры 250 × 30 м. Алкрыў у 1981 і даследаваў 170 м² у 1982 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,2 м. Выяўлены крамянёвыя прылады працы: канцавыя, закругленыя і стральчатыя скрабкі, разцы рэтушныя і на рагу зламанай загатоўкі, серпападобныя нажы, клінападобныя сякеры, праколкі, вастрыі, вырабы з выемкамі, рэтушоры, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, наканечнікі стрэл блізкай да трохвугольнай формы з прамой, увагнутай ці злёгку пукатай асновай, апрацаваныя плоскай двухбаковай рэтушшу, ромбападобныя наканечнікі дроцікаў. Неалітычны керамічны посуд меў расліныя дамешкі ў цесце, радзей дамешкі буйназярністага кварцавага пяску; арнаментаваны адбіткамі дробназубчастага грэбеня, венчыкі злёгку адагнутыя, зрэдку пад венчыкамі цыліндрычныя ямкі. Невял. колькасць фр-таў ляпной керамікі *сярэднедняпроўскай культуры*, шарападобнай формы, з высокай адагнутай шыйкай, арнаментавана пераважна лініямі і адбіткамі шнура.

Помнік датуецца 3–2-м тыс. да н.э.

*Літ.:* Копытин В.Ф. Археологические памятники Белыничского района Могилевской области. Могилев, 1992. *В.Ф.Капыцін.*

**ЧЫ́СТЫЯ ЛУ́ЖЫ**, археалагічныя помнікі – грунтавы могільнік і селішча калочынскай культуры каля в. Чыстыя Лужы Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. Размяшчаліся за 1,5 км на З ад пасёлка, ва ўр. Хаткі, на мысе 5–7-метровай надпоймавай тэрасы левага берага р. Сож. Вядомы з к. 19 ст. Могільнік знаходзіўся ў лесе кн. Паскевіча, разрыты яго землямерам М.М.Філонавым, знойдзена гліняная пасудзіна. Абследаваў у 1978–80 А.А.Макушнікаў. Выяўлены рэшткі урнавага трупаспалення. Культ. пласт да 0,5 м, утрымліваў ляпную кераміку, косткі жывёл, абпаленыя камяні. Помнікі зрэзаны ракой.

*Літ.:* Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: Социально-экон. и этнокультур. развитие. Гомель, 2009 *А.А.Макушнікаў.*

**ЧЭ́РНІКАЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі і селішчы каля в. Чэрнікаўшчына Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.

Курганны могільнік дрыгавічоў за 0,8–1 км ад вёскі, у полі, абапал дарогі на в. Цяўлава. Вядомы з 19 ст. У 1885 У.З.Завітневіч налічыў каля 20 насыпаў у 3 групах, па інш. звестках, было каля 100 курганоў. Насыпы круглыя ў плане дыям. 7–19 м, выш. 0,7–3,5 м. У 1980, 1983 і 1987 абследаваў Ю.А.Заяц. Захавалася 10 курганоў. У 1886–87 У.З.Завітневіч даследаваў 13 курганоў. Пахавальныя абрады: трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, на падсыпцы і ў падкурганных ямах глыб. 0,8–1,4 м; трупаспаленне ў насыпе (2), у асобных выпадках – на рытуальных вогнішчах альбо ў драўляных трунах. Пахавальны інвентар:

жал. нажы (адзін с касцяной ручкай), сярэбраныя і бронзавыя скроневыя кольцы, бронзавы пярсцёнак, сердалікавыя, шкляныя, золаташкляныя і бронзавыя пацеркі, жал. абручы ад драўляных вёдзер. Датуецца 10–11 (магчыма, 12) ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзярж. гіст. музеі ў Маскве.

Селішча-1 на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Отрач (прыток Усы). Пл. 1,5 га. Адкрыў у 1987 Ю.А.Заяц. знойдзены фр-ты кругавога посуду 10 – 1-й пал. 13 ст.

Селішча-2 у паўн.-зах. частцы вёскі. Адкрыў і абследаваў у 1987 Ю.А.Заяц. Пл. 1,2 га. Знойдзены фр-ты кругавога посуду 10 –1-й пал. 13 ст. і 16–18 ст.

*Літ.*: Завитневич В. Область дреговичей как предмет археологического исследования // Тр. Киевской духовной академии. Киев, 1886. Кн. 8; Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Лысенко П.Ф. Дреговичи. Минск, 2001.

*Ю.А.Заяц.*

**ЧЭ́РНІЧЫ**, археалагічныя помнікі – селішчы жал. веку, эпохі Кіеўскай Русі і ранняга сярэднявякоўя каля в. Чэрнічы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.

Селішча-1 за 0,2 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Прыпяць, ва ўр. Старое Сяло. Пл. каля 1600 м². Выявіў у 1961 і абследаваў у 1974 Л.Д.Побаль, даследаваў у 1982 і 1983 М.Ф.Гурын (252 м²). Культ. пласт каля 1 м. У перадмацерыковым пласце выяўлена шмат фр-таў ляпнога посуду *пражскай культуры*, асобныя кавалкі глянцаванай керамікі *зарубінецкай культуры*, гліняныя праслíцы, кавалкі балотнай руды і металургічнага шлаку, косткі свойскай і дзікай жывёлы, рыбы. У сярэднім слаі культ. пласта фр-ты ганчарнага посуду, вял. карчагі (дыям. у шырокай частцы 70 см, шыйка каля 20 см, таўшч. сценак каля 1,5 см) з наляпнымі арнаментаванымі валікамі, шыферныя праслíцы, жал. вырабы і паўфабрыкаты, шкляныя бранзалеты, паліхромныя пацеркі эпохі Кіеўскай Русі. Бліжэй да паверхні знойдзены фр-ты паліванай ганчарнай керамікі, шклянога посуду, гліняныя курыльныя люлькі, цацкі-свістулькі ў выглядзе каня, вырабы з бронзы (абразок-падвеска, скроневае кольца, пярсцёнкі і інш.), жалеза (нажы, сярпы, лязо сякеры, спражкі, падковы), каменныя тачыльныя брускі, манеты Рэчы Паспалітай (грошы, соліды) і рус. чаканкі, фр-ты посуду (т.зв. «рэйнскі тавар»). У рэчышчы Прыпяці пры паніжэнні ўзроўню вады каля берага выяўлены 2 калодзежы з драўлянымі зрубамі.

Селішча-2 за 0,6 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Балоцце, на пляцоўцы поймы старыцы р. Прыпяць. Пл. 4,6 га. Выявіў у 1961 Л.Д.Побаль. На паверхні сабрана ляпная кераміка ранняга жал. веку і ганчарны посуд ранняга сярэдневякоўя.

*Літ.*: Поболь Л.Д. Древности Туровщины. Минск, 1969; Гурин М.Ф. Раскопки селища у д. Черничи // АО 1982. М., 1984; Его ж. Раскопки на Припяти // Там жа. 1983. М., 1985.

*М.Ф.Гурын.*

**ЧЭ́РЫКАЎ**, горад, цэнтр Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл. на р. Сож. Вядомы з канца 16 ст. як цэнтр воласці Магілёўскай эканоміі ВКЛ. Першыя звесткі помнікаў археалогіі Ч. адносяцца да 1880-х г. Археал. вывучэннем займаліся Е.Р.Раманаў, А.М.Ляўданскі, А.Дз.Каваленя, К.М.Палікарповіч, В.Ф.Капыцін, А.У.Коласаў, І.А.Марзалюк і інш.

Культурны пласт горада к. 16 – 18 ст. на правым высокім беразе р. Сож адкрыў у 1999 і абследаваў у 2000–02 А.У.Коласаў. На прысядзібных участках знойдзены фр-ты побытавага і сталовага посуду (гаршкі, міскі, макотры, латкі) з шэрай, зрэдку чырвонай гліны; паліваная і тэракотавая кафля 17–18 ст., стылізаваная раслінным арнаментам; абломкі аконнага шкла дыскападобнай формы 17 ст., шклянога посуду зялёнага і жоўтага колераў 17–18 ст., металічныя вырабы (прабой, падковы, абутковыя подкоўкі, каваныя цвікі, бязмен); манеты 17–18 ст. Межы распаўсюдж-

*Да арт.* ***Чэрыкаў****. Фрагменты кругавой керамікі (1–9), абутковая падкоўка (10), кафля (11–13), аконнага шкла (14–15), тэракотавы дэкаратыўны карніз (16) з культурнага пласта 17–18 ст.*






*Да арт.* ***Чэрыкаў****. Пласціна з рэтушшу (1), скрабкі (2–5), разцы (6–9), выраб з выемкай (10), укладыш (11), праколкі (12–13), нуклеусы (14–16), фрагменты ляпной керамікі эпохі бронзы (17–20), рэжучая прылада (21), сякучыя прылады (22–23) са стаянкі-2 бронзавага веку.*

вання культ. пласта Ч. супадаюць з планам 1778. У канцы 18 ст. Ч. займаў ⅓ часткі пл. сучаснага горада, пл. культ. адкладаў складае да 20 га.

С т а я н к а - 1 каменнага веку на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, за 1,5 км на ПдУ ад моста цераз раку, за 0,3 км на З ад шашы Чэрыкаў–Краснаполле. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1989 В.Ф.Капыцін, 2002 А.У.Коласаў. Знойдзены адшчэпы і пласціны, канцавы скрабок, выраб з выемкай.

С т а я н к а - 2 сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Вудага, за 0,25 км на Пд ад вусця ракі, на паўн.-ўсх. ускраіне горада. Адкрыў у 1999 і абследаваў у 2000–03 А.У.Коласаў. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, прылады працы (канцавыя і двайныя скрабкі, рэтушныя і на вугле зламанай нарыхтоўкі разцы, вырабы з выемкай, скрэблападобны выраб, праколка, нож серпападобнай формы, долатападобны выраб, сякеры і цяслы); фр-ты ляпнога посуду, упрыгожанага адбіткамі перавітага шнура, каротказубага грэбеня, наразнымі лініямі, якія ўтвараюць «елачныя» кампазіцыі, паясы заштрыхаваных трохкутнікаў, рады кароткіх вертыкальных і дыяганальных ліній.

С т а я н к а - 3 сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку на правым беразе возера-старыцы р. Сож, за 0,1 км на ПнУ ад стаянкі-2, ва ўр. Чыгараўшчына. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1989 В.Ф.Капыцін, 1999–2002 А.У.Коласаў. Знойдзены абломкі адшчэпаў і пласцін, у т.л. з рэтушшу, фр-ты ляпной керамікі, упрыгожанай шнуравым і лінейным арнаментам, які ўтварае «елачныя» кампазіцыі.

С т а я н к а - 4 каменнага веку на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 0,5 на Пн ад моста цераз раку. Адкрыў у 1999 і абследаваў у 2000–02 А.У.Коласаў. Знаходкі (крамянёвыя адшчэпы і пласціны, асобныя з якіх маюць рэтуш па краі, вырабы з выемкай) сабраны на прысядзібных участках, прылягаючых да броўкі тэрасы.

С т а я н к а - 5 фінальнага палеаліту на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 0,5 км на ПдЗ ад Чэрыкава, за 1,3 км на Пд ад гарадскіх могілак. Адкрыў у 2000 і абследаваў у 2002–03 А.У.Коласаў. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, у т.л. з рэтушшу, пласціны, абломак нуклеуса.

Г а р а д з і ш ч а - 1 ранняга жал. веку і эпохі феадалізму на правым беразе р. Сож, за 0,5 км на Пд ад моста, ва ўр. Гарадзец (Гарадок). Пляцоўка сегментападобнай формы памерамі 25 × 30 м, выш.



*Да арт.* ***Чэрыкаў****. Надмагільны камень сяр. 17 ст.*

1–2,5 м. З зах. і паўн. бакоў прасочваюцца сляды вала. Культ. пласт парушаны сучаснымі гасп. пабудовамі. Захавалася нязначная частка помніка. Вядома з 1882. Абследавалі ў 1936 А.Н.Ляўданскі і А.Дз.Каваленя, у 2005 А.У.Коласаў. Раскопкі не праводзіліся.

Гарадзішча-2 на правым беразе р. Сож, за 0,5 км на ПдЗ ад СШ № 2, за 0,75 км на ПнЗ ад моста цераз раку, ва ўр. Роў. Пляцоўка падтрохвугольнай формы памерамі 87 × 60 м, выцягнута з З на У, выш. 11 м. Культ. пласт парушаны ворывам, жылымі і гасп. пабудовамі. Знойдзены фр-ты кругавога посуду стараж.-рус. часу. Раскопкі не праводзіліся. Адкрыў у 2000 А.У.Коласаў.

Рэшткі вала 17–18 ст. на З ад старога гарадскога возера, на скрыжаванні вуліц Дзмітрыевай і Міру. Выш. 1,8 м. Па пісьмовых звестках к. 18 ст. вал падзяляў «город с предместьями; заключающий в себе трое проезжих ворот, кои все без названий».

Селішча-1 эпохі Стараж. Русі (11–12 ст.) на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Вудага, на месцы стаянкі-2. Адкрыў у 1999 і абследаваў у 2000–03 А.У.Коласаў. Знойдзены фр-ты кругавой керамікі гладкасценныя, з лінейным і хвалістым арнаментам.

Селішча-2 эпохі феадалізму на левым беразе Сажа, за 0,5 км на Пд ад моста цераз раку, на грыве. Адкрыў у 2001 і даследаваў у 2002 А.У.Коласаў. Знаходкі прадстаўлены фрагментамі ганчарнага посуду. Раскопкі не праводзіліся.

Селішча-3 эпохі Стараж. Русі і позняга сярэдневякоўя на правым беразе р. Сож (1,4 км), за 1,2 на ПдЗ ад гар. могілак. Адкрыў у 2001 і даследаваў у 2002 А.У.Коласаў. На ўзараным полі сабраны фрагменты ганчарнага посуду, абломкі кафлі, стылізаванай раслінным арнаментам і пакрытай зялёнай палівай. Раскопкі на праводзіліся.

Селішча-4 эпохі Стараж. Русі на правым беразе р. Сож, за 0,2 км на Пн ад селішча-3. Адкрыў у 2001 і даследаваў у 2002 А.У.Коласаў. На ўзараным полі знойдзены фр-ты кругавога посуду. Стаянка-6 каменнага веку і селішча-5 эпохі феадалізму на правым беразе р. Вудага, за 0,25 – 0,3 км на Пд ад моста аб'язной шашы Магілёў–Крычаў. Адкрыў у 2001 і даследаваў у 2002 А.У. Коласаў. На полі сабраны прадукты расшчаплення крэменю (адшчэпы, пласціны, аднапляцовачныя нуклеусы), вырабы з выемкай, адшчэпы з рэтушшу, а таксама фр-ты ганчарнага посуду. Раскопкі не праводзіліся.

Стаянка-7 каменнага веку на левым беразе безназоўнага ручая, за 1,3 км на З ад хлебазавода, на паўн.-зах. ускраіне горада. Адкрыў і даследаваў у 2002 А.У.Коласаў. На ўзараным полі знойдзены адшчэпы, асобныя з якіх маюць рэтуш, вырабы з выемкай, праколка. Раскопкі не праводзіліся.

Стаянка-8 эпохі фінальнага палеаліту і селішча-6 эпохі Стараж. Русі і позняга сярэдневякоўя на на левым беразе безназоўнага ручая, за 0,9 км на З ад хлебазавода, за 0,4 км на ПнУ стаянкі-7, ва ўр. Пабеднае. Адкрыў і даследаваў у 2002 А.У.Коласаў. Культ. пласт помніка знішчаецца ворывам. На працягу 0,7 км уздоўж берага ручая сустракаюцца шматлікія фр-ты ганчарнага посуду ад гаршкоў, місак, макотраў, абломкі аконнага шкла і шклянога посуду 17–18 ст. Да знаходак фінальнага палеаліту адносяцца адшчэпы, пласціны, аднапляцовачныя нуклеусы, асіметрычна-чаранковы наканечнік стралы, нарыхтоўка чаранковай прылады, вырабы з выемкай. Раскопкі не праводзіліся.

Надмагільны *камень* сяр. 17 ст. чатырохвугольнай формы, памерамі 77 × 42 × 40 см, з высечаным крыжом на падстаўцы і надпісам: «Зде лежит раб Божи Пилип В [или] Б (?)... AXMS» («Здесь лежит раб Божий Пилип В или Б ... (далей неразболіва) 1646»). Выяўлены на глыб. 1,5 м у 2005 пад час буд. работ на тэр. Вепрынскага лясніцтва па вул. К.Маркса. Захоўваецца ў Чэрыкаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

*Літ.*: Колосов А.В. Археологические древности Могилевского Посожья (по материалам экспедиций 2002–2008 гг.). – Могилев, 2009; Копытин В.Ф. Археологические памятники Чериковского района Могилевской области. Могилев, 1994; Поликарпович К.М. Стоянки среднего Посожья // МАБ. Мінск, 1957. Т. 1.

*А.У.Коласаў.*






*В.У.Шаблюк.*

**ШАБЛЮ́К** Валерый Уладзіміравіч (3.8.1953, г.п. Узда Мінскай вобл. – 2.5.1997), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1975). У 1980–97 у ІГ АН Беларусі. Даследаваў сельскія паселішчы 14–18 ст. у басейне Нёмана, сацыяльна-эканамічнае развіццё мястэчак цэнтр. Беларусі ў 16–18 ст. Адзін з аўтараў «Гісторыі сялянства Беларусі» (т. 1, 1997).

*Тв.:* Феадальныя пасяленні XVI–XVIII стст. на р. Зальвянцы // ВАНБ. 1984. №1; Сялянскі двор Беларускага Панямоння ў XVI–XVIII стст. // Там жа. 1995. №1; Сельскае рассяленне ў Верхнім Панямонні (X – перш. пал. XVII стст.) // ГАЗ. 1993. № 2; Феадальная усадьба XVI–XVIII вв. у д. Мочулино // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мінск, 1993; Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV–XVIII стст. Мінск, 1996.



*Н.В.Шаблюк.*

**ШАБЛЮ́К** Наталля Васілеўна (н. 23.2.1957, г.п. Ноглікі Сахалінскай вобл., Расія), беларускі археолаг. Скончыла БДУ (1980). У 1981–95 у ІГ НАН Беларусі. Даследавала матэрыяльную культуру мезалітычных плямён Панямоння (міжрэчча Шчары і Свіслачы).

*Тв.:* Основные черты мезолита Восточного Полесья // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988.

**ША́БЛЯ**, доўгая сякуча-колючая клінковая зброя з адналязовым закрыўленым клінком, прызначаная для імклівага, манеўранага коннага змагання. Ш. з'явілася ў цюркамоўных качэўнікаў у стэпах Еўразіі ў 7–8 ст., на Русі ў 9–10 ст. На тэр. Беларусі распаўсюджваюцца ў сяр. 12 ст. Да сяр. 12–13 ст. належаць 14 фр-таў Ш. – навершы, крыжавіны і абоймы (Мінск, Навагрудак, Копысь, Слуцк, Гомель, Мсціслаў, Вішчын) і 2 фр-ты похваў (Гомель, Вішчын). У сяр. 12–13 ст. Ш. шырока распаўсюджваюцца ў Бел. Падняпроўі, адзінкавыя знаходкі вядомы ў Панямонні і цэнтр. Беларусі. Знаходкі з гомельскай зброевай майстэрні сведчаць аб тым, што ў сяр. 13 ст. тут ажыццяўлялася вытворчасць дэталей дзяржанняў і іх манціроўка да прывазных клінкоў.

З к. 14 ст. Ш. распаўсюджваюцца ў ВКЛ як гал. від клінковай зброі татарскіх каланістаў. Паводле дакументаў 16 ст. Ш. падзяляліся на «гусарскія» і «казацкія». Пад «гусарскай» Ш. трэба разумець венгерскую Ш., якая прыстасоўвалася найперш для цяжкіх праломваючых udaраў, падобных на ўдары мячом, чаму спрыяла пашырэнне на абушку ў ралне штыха – «ялмань». У к. 16 ст. яны вылучаліся вельмі доўгімі крыжавінамі і міндалепадобнымі «главіцамі», на працягу 17–18 ст. сфарміравалася закрытае дзяржанне. Казацкія Ш. адрозніваліся клінкамі невял. крывізны без ялмані, пашыранымі на канцах крыжавінамі і звужанымі да «главіцы» драўлянымі дзяржаннямі, абцягнутымі грубай скурай з рэльефнай паверхняй («яшчурам»). Шэраг асаблівасцей сведчыць пра ўплыў на іх з боку татарскіх экземпляраў, вядомых у 17 ст. пад назвай «ардынкі». Яны вызначаліся перш за ўсё характэрным дзяржаннем, абцягнутым грубай рыбінай скурай (напр., скурай акулы), з загнутай наперад пад вуглом 45° падоўжанай «главіцай». Клінкі татарскіх Ш., у большасці, не мелі ялмані і характарызаваліся адносна слабай крывізной. Выдзяляецца група татарскіх клінкоў з загнутым наперад штыкападобным гранёным вастрыём. Як правіла, такія Ш., вызначаюцца значнай даўжынёй і масай. Апроч «гусарскіх» і «казацкіх» Ш., у дакументах 2-й пал. 16 ст. ўзгадваюцца «турскія», «чаркаскія», што ўказвае на месца іх паходжання. З 17 ст. вял. папулярнасць атрымалі т.зв. «карабэлі» з кароткімі крыжавінамі і главіцамі, афармленымі ў выглядзе стылізаванай арлінай галоўкі. Нягледзячы на шырокае распаўсюджанне Ш. ў 16–17 ст., яны прадстаўлены адзінкавымі знаходкамі, пераважна дэталямі похваў і крыжавінамі. Добра захаваная Ш. з кляймом «пасаўскі ваўчок» выяўлена ў Віцебску.

Ш. актыўна выкарыстоўваліся ў 18–19 ст., канчаткова выйшлі з баявога ўжытку ў 1-й пал. 20 ст.

*Літ.:* Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008; Плавінскі М.А. Нарысы гісторыі клінковай зброі X–XIII стагоддзяў на Беларусі. Мінск, 2009.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**ШАДЫ́РА** Вадзім Іосіфавіч (н. 1.3.1947, г. Пячора, Рэспубліка Комі, Расія), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1981), дацэнт (1987). Скончыў БДУ (1972). У 1968–74 працаваў у Мінскім абл. краязнаўчым музеі (г. Маладзечна) і Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі. З 1974 у ІГ НАН Беларусі, з 1991 заг. аддзела, з 2006 сектара. Вывучае жал. век і ранняе сярэдневякоўе басейнаў Зах. Дзвіны і Дняпра. Адкрыў і даследаваў шэраг помнікаў на Пн Беларусі. Прытрымліваецца гіпотэзы аб балцкай прыналежнасці насельніцтва культур жал. веку цэнтр. і паўн. Беларусі. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 2, 1999), «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000).

*Тв.*: Ранний железный век Северной Бело-руссии. Минск, 1985; Фіна-угры, балты і славяне на поўначы Беларусі ў I тыс. н.э. // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1993. №3; Вялікае перасяленне народаў і крывічы // ГАЗ. Мінск, 1995. №7; Да пытання аб ролі еўрапейскіх этнакультурных працэсаў I тыс. н.э. ў этнагенезе беларусаў // Славяне и их соседи (археология, нумизматика и этнология): сб., посвящ. 70-летию Э.М.Загорульского. Минск, 1998; Белорусско-литовско-латышское порубежье в эпоху железа и раннего средневековья (этнокультурные аспекты) // Is baltu kulturos istorijos. Vilnius, 2000; Банцараўская і тушамлінская культуры: агульнае і рознае (да пастаноўкі праблемы) // ГАЗ. Мінск, 2002. №17; Гарадзішча Клішына («Выспянская Гара») Крупскага раёна // Там жа. Мінск, 2004. №18; Балтославянские этногруппировки на территории Белорусского Подвинья во второй половине I тысячелетия н.э. (лингво-архео-логический аспект) // Acta Baltico-Slavica. Warszawa, 2006. Vol. 30; Локальные изменения в материальной культуре населения Белорусского Подвинья в эпоху Великого переселения народов // Древняя история Восточной Европы: сб., посвящ. 80-летию проф. Э.М.Загорульского. Минск, 2009.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ШАЛКО́ВА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і курганны могільнік каля б. в. Чарнаполіца ў Полацкім р-не Віцебскай вобл.

Курганны могільнік за 1 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. Мясц. назвы Курганы, Французскія магілы. Падзелены на 4 часткі, 64 курганы круглай ці авальнай формы, дыям. 5–15 м, выш. 0,5–2 м. Каля многіх прасочваюцца раўкі. Выявіў і даследаваў 2 курганы ў 1988 Г.М.Семянчук. Абодва насыпаны з пяску, у аснове – попельна-вугальная праслойка. Адзін з курганоў пусты, у другім пахаванне па абраду трупапалажэння ў падкурганнай яме галавой на ПдЗ. Знойдзены фр-т жал. нажа і бронзавая спражка з арнаментам у выглядзе насечак, на якой захаваліся рэшткі тканіны, ганчарная кераміка. Датуецца 11–12 ст.

Гарадзішча за 0,8 км на ПдЗ ад могільніка. Мясц. назва Батарэя. Пляцоўка круглай формы, дыям. 70 м. З Пн, З і Пд умацавана валам выш. 5–8 м і ровам. Культ. пласт да 0,9 м. Знойдзена гладкасценная кераміка. *Г.М.Семянчук.*

**ШАМО́Т** (франц. chamotte), абпаленая да ступені спякання вогнетрывалая гліна або каалін, якія ўводзяць у фармовачную масу для змяншэння пластычнасці і ўсадкі вырабу пры яго сушцы і абпале. У археалогіі – любы керамічны паглынальнік. Пач. выкарыстання Ш. на тэр. Беларусі адносіцца да бронзавага веку. У жал. веку Ш. з-за сваіх высокіх тэхналагічных якасцей атрымаў шырокае распаўсюджанне ў ганчарстве плямён практычна ўсіх археал. культур. Зыходным матэрыялам Ш. звычайна былі здробненыя керамічныя пасудзіны або адходы керамічнай вытворчасці, якія дадаваліся пры фармоўцы вырабаў да сырой гліны для павышэння яе вогнетрываласці.

*Н.М.Дубіцкая.*



*В.І.Шадыра.*

**ШАПАТО́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы і паселішчы каля б. в. Шапатовічы Чачэрскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча-1 за 1 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Курган, на астанцы ў пойме правага берага р. Сож. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі, памерамі 60 × 45 м. Па краі яе прасочваецца вал выш. 1,2–1,5 м, папсаваны акопамі і бліндажамі часоў Вял. Айч. вайны. Гарадзішча вядома з 1873, абследавалі ў 1928 А.М.Ляўданскі, у 1956 В.М.Мельнікоўская, у 1976 М.А.Ткачоў, раскопкі праводзіў у 1979 і 1982 А.І.Драбушэўскі. Культ. пласт 0,6–0,9 м. Даследавана пабудова слупавой канструкцыі (захавалася агнішча ў выглядзе скопішча абпаленай гліны) і 17 гасп. ям. Да *мілаградскай культуры* адносяцца знаходкі фр-таў грубаляпной керамікі, гліняных прасліц і грузікаў, псалія з ікла дзіка і інш. З *зарубінецкай культурай* звязаны знаходкі грубаляпной і глянцаванай керамікі, гліняных прасліц, сярэдне- і позналатэнскіх фібул, фр-та бронзавага бранзалета скіфска-сарматкага тыпу і інш. вырабаў з жалеза, каляровых металаў, косці і каменю. Значная частка зарубінецкага посуду ўпрыгожана штрыхоўкай, што дазваляе аднесці гарадзішча да помнікаў тыпу Чачэрск–Кісцяні верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры.

Гарадзішча-2 зарубінецкай культуры за 0,3 км на Пд ад гарадзішча-1. Вядома пад назвай Царкавішча. Пляцоўка авальная, памерамі 50 × 40 м, узвышаецца на 3–4 м над поймай р. Сож. Вядома з 1873, абследавалі ў 1928 С.А.Булінскі, у 1976 М.А.Ткачоў. У агаленнях пляцоўкі сабрана ляпная кераміка. Датуецца 2 ст. да н.э. – 3 ст. н.э.

Паселішча-1 *верхнедняпроўскай культуры* за 0,5 км на У ад вёскі, ва ўр. Балонне. Выявіў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1965 І.І.Арцёменка, у 1976 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,45 м. Знойдзены кераміка з ямкава-грабеньчатым арнаментам, крамянёвыя скрэблы, нажы, сякеры, наканечнікі стрэл. Датуецца 4-м тыс. да н.э.

П а с е л і ш ч а - 2 верхнедняпроўскай культуры за 0,5 км на У ад вёскі, ва ўр. Востраў. Памеры 200 × 50 м. Выявіў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1965 І.І.Арцёменка, у 1976 А.Г.Калечыц. У культ. пласце 0,45 м такія ж знаходкі, як і на паселішчы-1. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

*А.І.Драбушэўскі, А.Г.Калечыц, М.А.Ткачоў.*

**ШАРАПАДО́БНЫХ А́МФАР КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура позняга неаліту. Сфарміравалася ў к. 4-га тыс. да н.э. на тэр. паўд. Прыбалтыкі паміж р. Эльба і міжрэччам Одэра і Віслы. Вылучыў у 1900 нямецкі археолаг А.Гётцэ. Назву атрымала ад характэрнага тыпу посуду. Склалася на аснове лейкападобных кубкаў культуры, мясц. познамезалітычных і дунайскага кола культур. Падзяляецца на 3 тэрытарыяльныя групы, у кожнай з якіх вылучаюцца лакальныя падгрупы. Зах. група размяшчалася ў басейне рэк Одэр, Эльба і Влтава; цэнтр. (польская) – рэк Вісла, Варта, Буг (была распаўсюджана найб. працяглы час – каля 3700–2000/1950 да н.э.); усх. – на Валыні, Падоллі і Малдаўскім плато (3000/2950–2400/2350 да н.э.). Адзінкавыя знаходкі керамікі і крамянёвых вырабаў, характэрных для Ш.а.к., выяўлены ў паўд.-ўсх. Прыбалтыцы (2850–2550 да н.э.). Могільнікі Ш.а.к. вядомы ў Сярэднім Панямонні (каля 2600 да н.э.) і Верхнім Падняпроўі (каля 2500 г. да н.э.). Найб. характэрным тыпам паселішчаў з'яўляюцца сезонныя стаянкі, радзей сустракаюцца доўгачасовыя пасяленні. Жытлы наземныя слупавой канструкцыі пл. 10–55 м², пашыраны таксама «жылыя ямы» – невял. неглыбокія ямы з агнішчамі ўнутры. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў курганных і бескурганных могільніках. Вядомы пахаванні з няпоўным трупаспаленнем. Характэрны тып пахавальнага збудавання – каменная скрыня, радзей выкарыстоўваліся інш. тыпы каменных канструкцый (выбрукоўка, абстаўка). У пахавальнай камеры часта знаходзіліся рэшткі буйной рагатай жывёлы і свінні. Распаўсюджаны асобныя рытуальныя пахаванні жывёл. Асн. формы керамікі – двух- ці чатырохвухія амфары са сплошчаным ці круглым дном, шыракагорлыя гаршкі, разнастайныя міскі, вазы і кубкі, буйныя пасудзіны са звужаным горлам. У глінянае цеста, як правіла, дадавалася жарства, ва ўсх. групе сустракаецца кераміка з дамешкамі жарствы і шамоту. Посуд арнаментаваны пераважна ў верхняй частцы адбіткамі лінейнага штампа, шнура, насечкамі. Культуравызначальныя арнаментальныя матывы – гарызантальныя паясы вертыкальных адбіткаў штампа і штампаваны зігзаг, фестоны, адбіткі канцом трубчастага штампа. Найб. характэрныя крамянёвыя вырабы – шліфаваныя чатырохгранныя сякеры і долаты. Касцяныя прылады працы прадстаўлены верацёнападобнымі наканечнікамі – вастрыямі і долатамі. Асн. тыпы ўпрыгажэнняў – касцяныя спражкі і Т-падобныя падвескі, бурштынавыя пацеркі і дыскападобныя падвескі з адтулінай. Насельніцтва Ш.а.к. займалася жывёлагадоўляй і земляробствам. Аснову статка складала буйная рагатая жывёла, свінні. Сярод зерневых культур вядомы пшаніца і ячмень. Важнае месца ў гасп. дзейнасці займала крэменездабыўная справа.



*Да арт. **Шарападобных амфар культура**. Крамянёвыя вырабы з помнікаў: 1 – Путчына, 2 – Барова, 3 – Чаплін (1 – сякера, 2, 3 – долаты).*



*Да арт. **Шарападобных амфар культура**. Кераміка з пахаванняў Краснасельскага могільніка.*

На тэр. Беларусі вядомы пахавальныя помнікі Ш.а.к. (*Краснасельскі археалагічны комплекс*, *Малыя Ёдкавічы*), асобныя месцазнаходжанні керамікі, крамянёвых сякер і долат. Прадстаўнікі Ш.а.к. пачалі эксплуатацыю Краснасельскіх і *Карпаўскіх крэменездабыўных шахтаў*. І.К.Свешнікаў аднёс пахавальныя помнікі Панямоння да ўсх. групы культуры. Паводле М.М.Чарняўскага і М.Шмыт, прыток новага насельніцтва адбываўся з тэр. мазавецка-падляскай падгрупы цэнтр. групы Ш.а.к. На думку А.У.Зуевай, выходным

рэгіёнам міграцыі з'яўлялася паўд.-ўсх. Польшча (малапольская і ўсх.-люблінская падгрупы цэнтр. групы). На Верхнім Падняпроўі, пад Смаленскам, знойдзены могільнік Турыншчына. Шляхі перамяшчэння прадстаўнікоў Ш.а.к. ў рэгіён дакладна не рэканструяваны: насельніцтва магло пранікаць з Валыні ці Сярэдняга Панямоння. Мігранты прынеслі ва Усх. Еўропу ўжо сфарміраваную сістэму сваёй культуры і ў анклавах на Панямонні і Падняпроўі здолелі захаваць свой гасп. і сацыяльны ўклад. Адно з пахаванняў Красносельскага могільніка датуецца 2830–2450 гг. да н.э. Асобныя элементы Ш.а.к. сустракаюцца ў матэрыялах усіх культур «лясного» неаліту, а таксама мясц. культур шнуравой керамікі. Пережыткавыя рысы Ш.а.к. прысутнічаюць у тшцінецкай культуры. Мяркуецца, што распаўсюджанне традыцый Ш.а.к. адбывалася таксама і ў выніку прамых і апасродкаваных культ. кантактаў.

*Літ.*: Свешников И.К. Культура шаровидных амфор // САИ. 1983. Вып. В1–27; Чарняўскі М.М. Культура шарападобных амфар // Археалогія Беларусі. Т. 1. Мінск, 1997; Зуева А.У. Паўночна-ўсходнія могільнікі культуры шарападобных амфар і іх месца ў «амфарнай» культурнай прасторы // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23. *А.У.Зуева.*

**ШАРПІЛАЎКА**, археалагічныя помнікі – курганны могільнік, паселішча, селішча каля в. Шарпілаўка Гомельскага р-на, на правым беразе р. Сож.

Курганны могільнік (28 насыпаў) на 2 грывах у пойме правага берага р. Сож, ва ўр. Высоцкае. Вядомы з к. 19 ст.; 1 курган за 2 км на ПнУ ад вёскі раскапаў мясц. настаўнік. Даследаваў у 2001–03 А.А.Макушнікаў (9 насыпаў). Пахаванні па абраду трупаспалення, трупапалажэння на гарызонце і ямах (10–12 ст.). Знойдзены бронзавыя драцяныя скроневыя ўпрыгажэнні, гузікі, шкляныя пацеркі, гліняны посуд і інш.

Паселішча каменнага, бронзавага вякоў, ранняга сярэдневякоўя на месцы могільніка. Даследаваў у 2002–03 А.А.Макушнікаў.

Селішча 12–13 ст. за 1 км на Пд ад курганнага могільніка, у вусці ручая Святчык, на мысавай пляцоўцы тэрасы р. Сож, зрэзанай ракой. Даследаваў у 2003 А.А.Макушнікаў (36 м²).

*Літ.*: Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: социально-экон. и этнокультур. развитие. Гомель, 2009. *А.А.Макушнікаў.*

**ШАРСЦІН**, комплекс археалагічных помнікаў каля в. Шарсцін Веткаўскага р-на Гомельскай вобл., на правым беразе р. Сож.

Гарадзішча ранняга жал. веку за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на мысе 10–12-метровай надпоймавай тэрасы пры вусці ручая Ржавец, пад лесам. Вядома з к. 19 ст. Абследавалі ў 1936 А.М.Ляўданскі, А.Дз.Каваленя і інш.

Паселішча-1 каменнага, бронзавага, жал. вякоў і 12–13 ст. за 0,4 км на ПдЗ ад вясковай фермы, ва ўр. Барок. Памеры каля 280 × 80 м. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1976 А.Г.Калечыц, М.У.Бычкоў, у 1979–81, 2010 А.А.Макушнікаў і інш. Сабраны крамянёвыя вырабы, ляпная і кругавая кераміка, жал. нож, ключ і інш. Помнік пашкоджаны эолавымі працэсамі, разворваннем, грунтавой дарогай.

Паселішча-2 каменнага веку і 9–13 ст. за 0,6–0,7 км на ПнУ ад вясковай фермы, на астанцавым участку надпоймавай тэрасы, ва ўр. Нівейкава. Памеры каля 110–120 × 80 м. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследаваў у 1987 М.У.Бычкоў і інш. Сабраны крамянёвыя вырабы, абломкі ляпной керамікі роменскага тыпу, кругавога посуду, шкляныя пацеркі.

Паселішча-3 каменнага, бронзавага, жал. вякоў і сярэдневякоўя на ПдУ ад вёскі, на пляцоўцы 5–7-метровай надпоймавай тэрасы, па абодва берагі ручая Шарсцінка, на пляцоўцы памерамі каля 650 × 100–140 м. Пашкоджаны эолавымі працэсамі, разворваннем, кар'ерам. Адкрыў у 1926 К.М.Палікаропвіч, абследавалі ў 1980-я г. М.У.Бычкоў, А.І.Драбушэўскі, А.Г.Калечыц, А.А.Макушнікаў, даследаваў у 1992 А.А.Макушнікаў (34 м²). Сабраны крамянёвыя вырабы, ляпная кераміка, кругавы посуд 9–16 ст., жал. нажы, бронзавае сяміпрамянёвае скроневае кольца і інш. Ускрыты ўчасткі 2 заглыбленых збудаванняў сяр. 1-га тыс. Выяўлены развалы грубых ляпных посудаў, глінянае прасліца, шкляная пацерка.

Селішча-1 сяр. – 3-й чв. 1-га тыс. і 12–13 ст. за 0,4–0,6 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Праскурнікі. Прымыкае да гарадзішча і ручая Ржавец. Памеры каля 160–200 × 50 м. Разворваецца. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1936 А.М.Ляўданскі і А.Дз.Каваленя, у 1980 і 1992 А.А.Макушнікаў. Знойдзены ляпная і кругавая кераміка, жал. нож, глінянае прасліца, металургічны шлак.

Селішча-2 калочынскай культуры, ва ўр. Барок, на ўчастке астанцавай тэрасы. Адкрыў і абследаваў у 1987 А.І.Драбушэўскі. На пляцоўцы памерамі каля 150 × 100 м сабрана ляпная кераміка.

Курганны могільнік за 0,5 км на ПнУ ад вясковай фермы, ва ўр. Раскрэсы, на пляцоўцы астанцавай надпоймавай тэрасы. Налічваў 26 насыпаў, захаваліся 10 напаўразбураных. Выш. да 0,5 м, дыям. 6–12 м. Адкрыў у 1926 К.М.Палікарповіч, абследаваў А.А.Макушнікаў у 2010.

*Літ.*: Лявданский А.Н., Коваленя А.Д. Материалы по обследованию р. Сож в 1936 г.: Дневник // Архив ИИ НАН Беларуси. Д. 457; Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.:

социально-экон. и этнокультур. развитие. Гомель, 2009. *А.А.Макушнікаў.*

**ШАРЭ́ЙКІ**, археалагічныя помнікі – паселішчы каля в. Шарэйкі Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 за 0,5 км на Пн ад вёскі, на 2 пясчаных узвышшах паўн. берага воз. Горкі. Выявіў у 1960 і даследаваў у 1961, 1964, 1970 і 1973 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка эпохі неаліту. Выяўлены могільнік ранняга жал. веку з пахавальным абрадам трупаспалення. Датуецца 6–8 ст. Могільнік даследаваў у 1978 В.Б.Перхаўка.

Паселішча-2 за 3 км на У ад вёскі, на паўн. беразе воз. Крывуля. Займае астанец 1-й надпоймавай тэрасы і цягнецца 0,2 км уздоўж берага. Выявіў у 1960 і даследаваў у 1961, 1969, 1970 і 1973 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2–0,4 м. Знойдзены 37 крамянёвых прылад працы, 200 апрацаваных крамянёў, 170 фр-таў керамікі. Адносіцца да *днепра-данецкай культуры*, асобныя знаходкі – да *шнуравой керамікі культуры* бронзавага веку.

Паселішча-3 днепра-данецкай культуры на ўзгорках уздоўж паўд. берага воз. Пясчанка. Даўж. 140 м. Выявіў у 1961 і даследаваў у 1969 і 1970 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены 170 апрацаваных крамянёў, 23 крамянёвыя прылады працы, 70 фр-таў вастрадонных гліняных пасудзін.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**ШАСТАКО́ВА**, археалагічны помнік – курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Шастакова Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі, каля былога хутара, у полі. 8 кампактна размешчаных насыпаў выш. 0,3–0,8 м, дыям. 3–6 м. Іх аснова абкладзена камянямі, самы вял. насып абкладзены камянямі цалкам. У 1936 адкрыў К.Салевіч, у 1959 даследаваў 4 курганы І.В.Біруля, у 1980 і 1985 абследавала Т.М.Каробушкіна. Пад дзірваном выяўлена шчыльная выбрукоўка з камянёў. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў труне галавой на З. Знойдзены фр-ты ганчарнага посуду, бронзавая шпілька, вуголле, попельнавугальныя плямы. Датуецца 11–13 ст. *Т.М.Каробушкіна.*

**ШАСТАПЁР**, абухoвая зброя, разнавіднасць *булавы*. Наверша Ш. мела 6–8 (часам больш за 10) вертыкальна размешчаных лопасцей – «пер'яў», якія радыяльна разыходзіліся ад утулкі. Ва Усх. Еўропе з'яўляюцца ў 13 ст. У ВКЛ у пач. 16 ст. Ш. называлі «перначамі». Ш. паказаны на гравюры «Бітва пад Оршай» з брашуры А.Крыцкага 1515, на гравюры М.Цунта, прысвечанай сустрэчы маскоўскага пасла ў Гродне ў 1567. Раннія Ш. мелі жал. ці бронзавае наверша, насаджанае на драўляную рукаяць. Ш. эпохі позняга сярэдневякоўя і ранняга Новага часу мелі цэльнаметалічныя (жал.) рукаяці, якія часам упрыгожваліся каляровымі і каштоўнымі металамі, каштоўнымі камянямі. Ш. выконвалі баявыя, парадныя і рэпрэзентатыўныя функцыі.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы и кистени IX–XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1–36; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989; Głosek M. Późnośredniowieczna broń obuchowa w zbiorach polskich. Warszawa; Łódź, 1996. *М.А.Плавінскі.*

**ША́ЎНЕВА**, археалагічны помнік – гарадзішча каля в. Шаўнева Горацкага р-на Магілёўскай вобл. За 0,3 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Каменка. Пляцоўка памерамі 65 × 45 м з У умацавана валам выш. да 3 м, даўж. да 15 м. Выявіў у к. 19 ст. Е.Р.Раманаў, абследаваў у 1978 В.І.Шадыра, даследаваў 200 м² у 1991–2000 А.А.Мяцельскі. Культ. пласт 0,4–1,2 м. Выяўлены рэшткі гасп. пабудовы слупавой канструкцыі памерамі 2,5 × 2,5 м, заглыбленай у мацярык на 0,5 м. Знойдзены жал. ключы, замкі, наканечнікі стрэл, шпора, страмёны, шкляныя і бронзавыя бранзалеты, сланцавыя прасліцы, касцяныя грабяні, бразготка, фр-т шкляной пасудзіны з малюнкам каляровымі фарбамі. У к. 19 ст. на гарадзішчы быў знойдзены скарб сярэбраных рэчаў: завушніцы, спражкі, бранзалеты, шыйныя грыўні. Частка скарбу перададзена ў Гіст. музей у Маскве. Гарадзішча датуецца 2-й пал. 12–13 ст. Побач з ім на пл. 1 га прасочваюцца сляды неўмацаванага паселішча 12–13 ст.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Шаўнеўскае гарадзішча XII–XIII стст. // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10. *А.А.Мяцельскі.*

**ША́ХМАТЫ**, інтэлектуальная настольная гульня і фігуркі для яе. Ш. ў першапачатковым выглядзе з'явіліся на Пн Індыі каля 2–4 ст. н.э., адносіліся да групы ваенных гульняў. З Індыі гульня пачала распаўсюджвацца ў інш. краіны на У (Кітай, Манголія, Японія і інш.) і на З (Персія, Візантыя, Сярэдняя Азія і г.д.). З Арабскага халіфату і Персіі Ш. праніклі ў Зах. Еўропу і Кіеўскую Русь. На тэр. Стараж. Русі гульня прыйшла ў 8–9 ст. Шырокае распаўсюджанне ў Беларусі атрымала ў 13–17 ст. Пры археал. даследаваннях было знойдзена 86 вырабаў 11–17 ст., якія адносяцца да Ш.: фігуры, іх фр-ты і нарыхтоўкі з косці і рога, сустракаюцца і з інш. матэрыялаў (з дрэва – 15 экз., з каменю – 3). Шахматныя фігуры выяўлены ў Мінску (14 экз.), Полацку (12), Віцебску (7), Гродне (6), Брэсце (5) і інш. Самая ранняя фігурка каня (11 ст.) выяўлена на гарадзішчы каля в. Гарадзішча Мінскага р-на на р. Менка, найб. позняя (17 ст.) – у Віцебску, Полацку, Мінску, Магілёве, Гродне.



*Шахматы 12–15 ст.: 1 – Гродна; 2 – Мінск; 3 – Віцебск; 4, 7, 10 – Друцк; 5 – Слуцк; 6 – Гродна; 8 – Свіслач; 9 – Слуцк.*

Ш. ħадзяляюцца на 2 віды: выяўленчыя («з тварыкамі») 11–13 ст. – 8 фігур і абстрактныя (сімвалічныя) 11–17 ст. – 78 экз. Абстрактныя, у сваю чаргу, падзяляюцца на сімвалічныя арабскага тыпу (11–13 ст.), стараж.-рус. тыпу (13–15 ст.) і новай абстракцыі (16–17 ст.). Больш за ўсё знойдзена пешак – 20 экз., ладдзей – 17, сланоў – 12, фярзёў – 8, каралёў – 7. Выш. фігурак 2–7 см. На тэр. Беларусі выяўлены шахматныя фігуры амаль з 70 камплектаў.

*Літ.:* Линдер И.М. Шахматы на Руси. М., 1975; Бубенько Т.С., Колединский Л.В. Шахматы и шашки в средневековом Витебске // Шахматы, шашки в БССР. 1984. № 4; Рыбина Е.А. Из истории шахматных фигур // СА. 1991. № 4; Мядзведзева В.У. Шахматы на тэрыторыі Беларусі XI–XVII стст.: (па матэрыялах археал. дасled.) // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Яе ж. Сярэдневяковыя шахматы Беларусі: (гісторыка-археал. дасled.). Мінск, 2005; Яе ж. Сярэдневяковыя шахматы і шашкі ў зборы Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі // Археал. зб. Нац. музея гісторыі і культуры Беларусі. Мінск, 2006. Вып. 1; Яе ж. Рэалістычныя шахматныя фігуры сярэдневяковай Беларусі // БГЧ. 2006. № 4; Яе ж. Інтэлектуальныя лагічныя гульні нашых продкаў // Маладосць. 2008. № 3; Яе ж. Находка еще одной изобразительной шахматы на территории Беларуси // Случайные находки: хронология, атрибуция, историко-культурный контекст. Санкт-Петербург, 2008. *В.У.Мядзведзева.*

**ША́ХТЫ КРЭМЕНЕЗДАБЫЎНЫ́Я**, заглыбленыя ў зямлю закрытыя выпрацоўкі, у якіх у познім неаліце і бронзавым веку (3-е тыс. – 1-я пал. 1-га тыс. да н.э.) здабывалі крамянёвую сыравіну. Выпрацоўкі ў мелавых адорвенях, пераважна з крамянёвымі праслойкамі, мелі калодзежападобную форму, дыям. шахтавага ствала да 1,5 м, глыб. да 6–8 м. Выемку мелавай пароды і здабычу сыравіны здзяйснялі наборам гарняцкіх інструментаў, зробленых з рагоў высакароднага аленя. У размешчаных побач з выпрацоўкамі майстэрнях выраблялі пераважна крамянёвыя сякеры, што распаўсюджваліся ў бліжэйшым наваколлі і на аддаленых тэр. Ш.к. ўзніклі з-за попыту на высакаякасную сыравіну, неабходную для вытворчасці сякер, патрэбных у падсечна-агнявым (лядным) земляробстве. Такія помнікі былі выяўлены і даследаваны ў Ваўкавыскім р-не (гл. *Краснасельскі археалагічны комплекс, Карпаўскія крэменездабыўныя шахты*). Іх узнікненне звязана са з'яўленнем насельніцтва *шарападобных амфар культуры* і *шнуравой керамікі культур.* Падобныя помнікі існавалі каля г.п. Рось Ваўкавыскага р-на і на Пн ад Гродна. У пач. жал. веку (каля сяр. 1-га тыс. да н.э.) здабыча крэменю ў шахтах заняпала.

*Літ.:* Гурина Н.Н. Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР. Ленинград, 1976; Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**ШАЦІ́ЛІНСКІ ВО́СТРАЎ**, археалагічны помнік – пасселішча і сядзіба 16–17 ст. у г. Светлагорск Гомельскай вобл. Згадана ў прывілеі Жыгімонта III Аўгуста ад 15 ліпеня 1560 як Ostrów Szatylinski. Знаходзіцца на паўд. ускраіне горада, на правым беразе р. Бярэзіна, на ўзвышшы трохвуглавой формы, памерамі 50 × 100 м, выш. 5–7 м. Адкрыў у 2006 і даследаваў 328 м² у 2007–10 С.Я.Рассадзін. Культ. пласт 0,5 м з праслойкамі вугалю і попелу. Выяўлены некалькі выбруковак, часам абмазаных глінай (магчыма, рэшткі падлог). Мацярык прарэзаны шматлікімі ямамі, з рэшткамі печы-домніцы ў адной з іх. Ніжні гарызонт, у якім знойдзены прасліца з шырокай адтулінай і жал. S-падобная булаўка, датуецца сяр. 1-га тыс. У другім гарызонце знойдзены фр-ты кругавой керамікі, шыфернае прасліца стараж.-рус. часу. Пэўная колькасць знаходак, у т.л. манеты Ганны Іаанаўны, адносіцца да 18 ст., але асн. частка матэрыялаў датуецца 16–17 ст. Пераважаюць абломкі кругавога посуду, у т.л. паліванага і нават маёлікавага. Знойдзены гліняныя люлькі, музычны інструмент – акарына, разнастайныя вырабы з косці (качадыга для пляцення лапцей, пісала і інш.) і жалеза (нажы, масіўная шпора-астрога), бронзавыя лампадка і мужчынская завушніца зах.-еўрап. тыпу. Аб працяглых знешніх сувязях сведчаць знаходкі імпартных шкляных вырабаў. Сядзіба 16–17 ст. з'яўлялася папярэдніцай шляхецкай ваколіцы, а потым і мяст. Шацілкі, пазней гар. пасёлка, перайменаванага ў 1961 у г. Светлагорск. *С.Я.Рассадзін.*

**ША́ШКІ**, інтэлектуальная настольная гульня, а таксама фігуркі для яе ў выглядзе невял. паўсфер ці пляскатых кружкоў. У старажытнасці Ш. выраблялі з косці, рога, дрэва, гліны, каменю, шкла,

*Да арт. **Шацілінскі Востраў**. Знаходкі з культурнага пласта.*





бурштыну. Зарадзілася шашачная гульня ў Егіпце (3–2-е тыс. да н.э.), адтуль пранікла ў Грэцыю, затым у Рым, і ўжо ад рымлян Ш. запазычылі многія краіны Еўропы, Азіі і Афрыкі. На землі Стараж. Русі гульня прыйшла ў 10 ст. са скандынаўскіх краін, па водным шляху «з варагаў у грэкі» (паўсферычныя Ш.). Пляскатыя круглыя Ш. прыйшлі з Зах. Еўропы, дзе былі вядомы з 10 ст.

На тэр. Беларусі пры археал. даследаваннях знойдзены 63 шашачныя фігуркі, іх нарыхтоўкі і бракаваныя вырабы 10–18 ст. Больш за ўсё Ш. і іх нарыхтовак выяўлена ў Віцебску (19), а таксама ў Полацку і Мінску (па 5), Навагрудку, Мсціславе (па 4), Копысі (3). Самыя раннія Ш. знойдзены ў Віцебску, Капылі і на феад. сядзібе каля в. Лучна Полацкага р-на Віцебскай вобл. (10–11 ст.). Вырабляліся ў Беларусі звычайна на такарным станку з рога лася або аленя, сустракаюцца Ш. з гліны (4 экз. – Мінск, Навагрудак, в. Старая Беліца Гомельскага, Мохаў Лоеўскага р-наў), каменю (3 экз. – Навагрудак, Ліда, в. Лучна), дрэва [3 экз. – Віцебск (2), Полацк], шкла (1 экз. – Віцебск). Усяго касцяных Ш. выяўлена 52, з інш. матэрыялаў – 11 экз. Дыям. пераважна каля 3 см, выш. ў сярэднім 0,5 см. Самая маленькая (2,2 × 0,5 см) і адначасова самая позняя (к. 17 – 1-я пал. 18 ст.) Ш. знойдзена ў Шклове, а самая вял. (4,5 × 0,3 см) – у Мінску. Падзяляюцца на 2 тыпы: паўсферычныя (10–13 ст.) і круглыя пляскатыя (10–18 ст.). Другі тып мае некалькі падтыпаў: Ш. з канцэнтрычнымі кругамі, з цыркульным арнаментам, камбінаваныя (з канцэнтрычнымі кругамі і цыркульным арнаментам), гладкія, з выявай. Некаторыя падтыпы маюць варыянты (з адтулінай пасярэдзіне, без адтуліны). Шашачная гульня ў сярэдневяковыі была шырока распаўсюджана на тэр. Беларусі ў розных слаёў насельніцтва.




***Шашкі** 12–17 ст.: 1, 2, 6 – Мсціслаў; 3 – Шклоў; 4 – Слонім; 5 – Гродна; 7 – Друцк.*

*Літ.*: Корзухина Г.Ф. Из истории игр на Руси // СА. 1963. № 4; Бубенько Т.С., Колединский Л.В. Шахматы и шашки в средневековом Витебске // Шахматы, шашки в БССР. 1984. № 4; Мядзведзева В.У. Сярэдневяковыя шашкі Беларусі: (па матэрыялах археал. даслед.) // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22; Я е ж. Сярэдневяковыя шахматы і шашкі ў зборы Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі // Археал. зб. Нац. музея гісторыі і культуры Беларусі. Мінск, 2006. Вып. 1; Я е ж. Інтэлектуальныя лагічныя гульні нашых продкаў // Маладосць. 2008. № 3.

*В.У.Мядзведзева.*

**ШКЛОЎ**, горад, цэнтр Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл., на правым беразе р. Дняпро. За 30 км на Пн ад Магілёва. Чыг. ст. на лініі Орша–Магілёў.

У крыніцах і літаратуры Ш. вядомы пад назвамі Стары Ш., «места Шклоўскае» і Новы Ш. Першая назва суадносіцца са стараж. гарадзішчам каля в. Стары Шклоў, размешчаным на левым беразе р. Серабранка (Шклавянка). Гэтае ўмацаванае паселішча вывучалі Г.В.Штыхаў (1964), В.М.Ляўко (1979, 2003), І.А.Марзалюк

(2008–10). Устаноўлена, што у якасці цэнтра акругі (пагоста, крэпасці, маёнтка) яно існавала ў 10 – 1-й пал. 16 ст. Недакладныя звесткі пісьмовых крыніц аб ваенных падзеях, гар. пажарах, пераносе паселішча на новае месца спрыялі таму, што «места Шклоўскае» 2-й пал. 16 – 1-й пал. 18 ст. атаясамлівалі як са Старым, так і з Новым Шкловам. У 1561 І.Хадкевіч атрымаў тытул «графа на Быхаве і Шклове», у 1570-х г. цэнтру графства Ш. нададзена магдэбургскае права і з гэтага часу за ім замацавана назва «места Шклоўскае». Новы Шклоў (сучасны райцэнтр) пабудаваны кн. А.Чартарыйскім у 1769–78 за 4 км на У ад Старога Шклова і за 2,5 км на Пн ад «места Шклоўскага» на правым беразе р. Дняпро.

Сапраўднае месцазнаходжанне «места Шклоўскага» было ўстаноўлена ў 2002 пад час археал. раскопак В.М.Ляўко на мысе пры злучэнні старога русла р. Серабранка з р. Дняпро, дзе былі пабудаваны *Шклоўскі замак* і «места Шклоўскае». Гэта ўскраіна сучаснага Ш. (б. в. Рышкавічы), якая захоўвае сярэдневяковую планіроўку «места Шклоўскага», рэшткі гар. і замкавых валоў і равоў, а таксама замкавага става. Інвентары горада 17–18 ст. даюць уяўленне аб яго планіроўцы і забудове, абарончых збудаваннях. У 2003 і 2006 былі даследаваны гар. земляныя ўмацаванні. Гал. вуліца ўмацаванай часткі «места Шклоўскага» мела выхады праз брамы – Копыскую (Дняпроўскую) і Галоўчынскую (Пясочную). На Дняпры з боку Копыскай брамы размяшчаўся прычал насупраць прадмесця Шклоў Зарэчны (зараз вёска). У інвентары 1643 упамінаецца «мерніца» (дзе ўзважвалі тавар), да яе ўздоўж р. Дняпро падыходзіла прасла гар. абарончай сцяны. Пісьмовыя крыніцы сведчаць аб знаходжанні ў месцы Шклоўскім Васкрасенскай царквы, якая згарэла ў 1690. Фундаменты каменнай царквы св. Пятра і Паўла, пабудаванай на месцы згарэлай на сродкі купца В.Аўсяевіча ў 1701, а таксама фундаменты манастыра дамініканцаў, пабудаванага ў 1619–24 на месцы б. кальвінскага збора (1592), выяўлены археал. даследаваннямі В.М.Ляўко ў 2002–03.

На тэр. Новага Ш. ў 1989 Бел. рэстаўрацыйнымі майстэрнямі вывучаны падмуркі ратушы і гандл. радоў, у 2007 Л.Г.Марковіч даследавала гар. сінагогу (корпус маслазавода).

Матэрыяльная культура Ш. на працягу 10–18 ст. змянялася суадносна з яго месцазнаходжаннем. Для Старога Ш. характэрны ўмацаванні, пабудовы, прадметы гаспадаркі і побыту, ваеннай справы, а таксама ўпрыгажэнні 10 – 1-й пал. 16 ст., распаўсюджаныя ў даным рэгіёне Падняпроўя. «Места Шклоўскае» з замкам характарызуецца комплексам земляных валоў, равоў, драўляных і каменных абарончых, грамадзянскіх і культавых збудаванняў, а таксама рэчаў, якія адлюстроўваюць матэрыяльную культуру гарадоў і замкаў Беларусі 2-й пал. 16 – 1-й пал. 18 ст. (вырабы з каляровых металаў, шкла, люлькі, кафля, маёлікавы посуд, узбраенне і рыштунак вершніка).

Новы Ш. пабудаваны па прынцыпах планіроўкі, характэрных для гарадоў 2-й пал. 18 ст. Ён не меў абарончых збудаванняў, аснову яго планіроўкі складала гандл. плошча з ратушай, развітай вулічнай сеткай і культавымі пабудовамі розных канфесій. Знойдзены рэчавы матэрыял гасп. і побытавага прызначэння, датуецца не раней к. 18–19 ст.

*Літ.:* Ляўко В.М. Гісторыя Шклоўшчыны па археалагічных і пісьмовых крыніцах (да сярэдзіны XVIII ст.) // БГЧ. 1996. № 2; Яе ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004; Яе ж. Сравнительный анализ укреплений «Места Шкловского» и Шкловского замка (вторая половина XVI – начало XVII в.) // Романовские чтения–4: сб. трудов междунар. науч. конф., 22–23 нояб. 2007 г., г. Могилев. Могилев, 2008. *В.М.Ляўко.*

**ШКЛО́ЎСКАЯ СІНАГО́ГА**, помнік культавай архітэктуры. Размешчаны на тэр. ААТ «Шклоўскі масларобны завод» у г. *Шклоў*, падпарадкаваны сучаснай планіроўцы прадпрыемства. Рэшткі сінагогі прадстаўлены ўсх. (12 м), паўд. (10 м) і зах. (12 м) сценамі. Выш. сцен ад сучаснай дзённай паверхні складае 5,44 м, шыр. 0,9 м, у аконных праёмах – 0,8 м. У памяшканне Ш.с. спускаліся па ўнутраным лесвіцам, якія паглыблены на 0,6–0,7 м ад узроўню падлогі. У цэнтры памяшкання размяшчаецца калона дыям. 0,7 м, якая сёння ўбудавана ў адну з унутраных сцен. Вокны з арачнымі праёмамі знаходзяцца пад дахам на адлегласці 1,25 м адно за адным. Пры будаўніцтве сцен выкарыстана цэгла памерамі 27–28 × 12–13 × 4–5 см і вапнавая рошчына. Таўшч. шва 1,5–2 см.

Археал. даследаванні праводзіліся Л.Г. Марковіч у 2007. З вонкавага боку Ш.с. закладзены шурф памерамі 2 × 3 м. Будынак узведзены на ма-



*Сучасны выгляд будынка **Шклоўскай** сінагогі.*



*Падмурак будынка **Шклоўскай сінагогі**.*

церыку. Аснаванне яго падмурка, заглыбленага на 0,8 м, выкладзена камянямі памерамі 1—0,78 м, прамежкі між якімі закладзены камянямі памерамі 0,1—0,4 м і цэглай. На адным з камянёў зафіксаваны літары «Р», «О», «М» і «А» і інш. У культ. слоі выяўлены фр-ты керамічнага і шклянога посуду, кафлі, буд. матэрыялаў к. 18—19 ст.

На тэр. ўнутранага двара завода закладзены другі шурф памерамі 2 × 2 м, у якім выяўлены рэшткі цаглянага будынка 19 ст., пабудаванага ў тэхніцы раўнаслойнай кладкі. Выкарыстана цэгла 3 відаў: прамавугольнай формы памерамі 18—21 × 14—15 × 4—5 см; фігурныя цагліны памерамі 15 × 16 × 4 см; квадратныя памерам 15—16 × 15—16 × 4 см. У склад вапнавай рошчыны дабаўлены дробныя камяні і буйназярністы пясок. Таўшч. швоў паміж цэглай складае 2 см. Сувязь гэтага будынка з сінагогай прасачыць не ўдалося.

*Л.Г.Марковіч.*

**ШКЛО́ЎСКАЯ ТРО́ІЦКАЯ ЦАРКВА́**, помнік археалогіі, які знаходзіцца на левым беразе р. Капуснік пры ўпадзенні ў р. Дняпро на ўзвышшы ў в. Вялікае Зарэчча Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. (у 17—18 ст. тэр. Задняпроўскага прадмесця «места Шклоўскага»). У пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1679 сярод інш. праваслаўных храмаў на тэр. «места Шклоўскага» і яго прадмесцяў. Згодна з рапартам аб рамонце Ш.Т.ц., які адбываўся на працягу 1859—63, яна ўяўляла сабою драўляныя будынкі царквы і званіцы, пашкоджаныя пажарам. Выш. званіцы складала 10,5 аршын. Дах храма быў абіты жалезам, сам будынак пафарбаваны «медянкою». Бліжэйшыя да яе Рыжкаўская Васкрасенская і Шклоўская Праабражэнская цэрквы знаходзіліся на адлегласці адпаведна за 0,5 і 2 вярсты. Згодна з архіт. апісаннем Ш.Т.ц., састаўленым У.А.Чантурыяй, яе гал. фасад прадстаўлены порцікам з франтонам. Драўляныя калоны дарычнага ордэру, антаблемент, франтоны імітавалі камень. Паводле архіўных звестак, у 1737 Ш.Т.ц. перададзена уніятам.

Археал. даследаванні на мяркуемым месцы знаходжання Ш.Т.ц. праводзіліся Л.Г.Марковіч у 2006. Закладзены шурф памерамі 4 × 4 м выявіў фр-т падмурка будынка к. 18 ст., складзенага ў тэхніцы мяшанай муроўкі. Яго аснаванне выкладзена з вял. валуноў, на якіх хаатычна ляжала бітая цэгла, залітая вапнавай рошчынай. У аснаванні падмурка знойдзена медная манета Рас. імперыі – дзенга 1750. Сабраная калекцыя археал. прадметаў прадстаўлена фр-тамі аконнага шкла, керамічнага посуду, кафлі, цвікамі, металічнымі пласцінамі і датуецца 18—19 ст. З паўд. боку падмурка пад зольнай праслойкай (згарэлая падлога будынка царквы) выяўлены безынвентарныя пахаванні ў трунах, арыентаваныя галавой на ПнЗ, якія суадносяцца з перыядам функцыяніравання Ш.Т.ц. як уніяцкага храма.

*Літ.:* Чантурия В.А. Архитектура Белоруссии конца 18 – начала 19 в. Минск, 1962; Маркович Л.Г. Археологические исследования в Шкловском районе Могилевской области // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23.

*Л.Г.Марковіч.*

**ШКЛО́ЎСКІ ЗА́МАК**, помнік археалогіі і фартыфікацыі каля в. Рыжкавічы Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. Разам з добра ўмацаваным «местам Шклоўскім» уваходзіў у склад фартыфікацыйнай лініі на р. Дняпро, якая на 1562 уключала ўмацаванні Оршы, Копысі, Магілёва, Быхава і інш. гарадоў ВКЛ на мяжы з Маскоўскай дзяржавай. Адкрыты В.М.Ляўко ў 2002. Даследаваўся В.М.Ляўко ў 2002—06, 2008, 2010, вывучана звыш 300 м² пл. Пляцоўка замчышча прамавугольная, памерамі 120 × 130 м. Усх. бокам замак быў арыентаваны ўздоўж правага берага р. Дняпро, паўд. – уздоўж р. Серабранка (Язона, Шклавянка). На паўд.-ўсх. ускрайку замчышча маецца выступ з ухілам да ракі. Магчыма, менавіта тут быў размешчаны млын на штучна зробленым ставу. З боку б. прадмесця Рыжкавічы (зараз в. Данькавічы) да замка падыходзіць вузкі насып, які агінае былы стаў і



*Падмурак вежы 16—17 ст. **Шклоўскага замка**.*



*Рэканструкцыя **Шклоўскага замка** паводле В.М.Ляўко.*

паказвае месца першапачатковага ўезду ў замак (16 ст.). З напольнага боку быў пракапаны роў, які таксама спалучаў Серабранку з Дняпром, беручы замак у водная кола. Па перыметры пляцоўкі замчышча прасочваецца вал, на якім відаць 2 вуглавых узвышша. На паўд.-зах. узвышшы ў 2008 В.М.Ляўко выяўлены 3 узроўні каменна-цагляных пляцовак пад драўляныя вежы, якія адносяцца да 2-й пал. 16 – 2-й пал. 17 ст. Першыя 2 узроўні пляцовак былі пабудаваны па польскім праектам фартыфікацыі Ш.з., трэцяя (верхняя) пляцоўка ўзведзена па загаду цара Аляксея Міхайлавіча пасля разбурэння замка пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1657–64. Раскопы I–IX былі закладзены на паўд.-зах. узвышшы замкавага вала, на ўнутраным схіле і ў цэнтры зах. вала, на пляцоўцы паміж усх. і паўд. валамі і ў цэнтры пляцоўкі замчышча. Устаноўлена, што першапачатковы вал насыпалі з пяску паверх глінянага ядра і ўмацоўвалі драўлянымі субструкцыямі. У 2-й пал. 17 ст. вал быў дасыпаны культ. слоем з рэшткамі згарэлых пабудоў. У 1-й пал. 17 ст., калі будавалі гар. драўляна-земляныя ўмацаванні, уязная брама замка была перанесена з паўд. боку на зах. вал. Яна спалучалася з «местам Шклоўскім» праз перакідны мост над ровам. На пляцоўцы замчышча выяўлены пабудовы 2 храналагічных узроўняў. Пабудовы 16 – 1-й пал. 17 ст. былі драўляныя на каменных падмурках, з машчэннем падлогі дробнымі камянямі, з глінабітнымі печамі на каменным фундаменце, аздобленымі гаршковай кафляй. Вокны ў дамах і нават вежах былі закрыты шклом, а дахі пакрыты чарапіцай. У пабудовах 17–18 ст. выкарыстоўвалася цэгла-пальчатка мясц. вытворчасці. Печы ў памяшканнях аздаблялі паліхромнай альбо зялёнапаліванай кафляй з рэльефным арнаментам. У 1-й пал. 18 ст. выкарыстоўвалі размаляваную кафлю на ўзор галандскіх. Сярод прадметаў побыту двухзубы відэлец 17 ст., маёлікавы і шкляны посуд, у т.л. з венецыянскага шкла, шматлікія люлькі мясц. і замежнага (галандскага) паходжання, «каменны тавар» 17 ст. з Вестэрвальда. Вырабы з каляровага металу – каталіцкі медальён з двухбаковай выявай святых, гузікі, спражкі, накладкі, капавушка, а таксама манеты – медныя «солíды» (1664–66), рус. «капейкі» Міхаіла Фёдаравіча (1622–25), Пятра I (1712–16) і інш. Знойдзены дэталі рыштунку воіна і ўзбраення: шпоры, абцасы, баявая сякера, кап'ё, наканечнікі стрэл, свінцова-алавяныя кулі, каменныя ядры. Гасп. і побытавыя рэчы прадстаўлены жал. падковамі, замкамі, нажамі (у т.л. складнымі), ключамі, завесамі, лічынамі замкоў і інш. Культ. пласт замчышча магутнасцю 0,6–1,4 м захоўвае сляды ваенных падзей, пажараў. Храналагічныя межы існавання Ш.з. – 2-я пал. 16 – 1-я пал. 18 ст., калі ўладальнікамі яго былі графы Хадкевічы, Сяняўскія. Надзейнасць шклоўскіх умацаванняў была даволі значнай, тут пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 з 8.6 па 3.7.1655 знаходзілася стаўка рас. цара Аляксея Міхайлавіча. Кн. Багуслаў Радзівіл у 1647 адзначыў у Ш.з. наяўнасць 2 вежаў. Паводле інвентару 1661, пасярод замкавай пляцоўкі стаяла высокая драўляная вежа, з якой вёўся абстрэл наваколля. Рэшткі фундаментаў гэтай вежы, як і рэшткі дома гаспадароў замка, былі выяўлены В.М.Ляўко ў 2002. Агульная пл. асновы дома склала прыкладна 40 м$^2$. Як сведчыць інвентар 1715, дом быў 2-павярховым. Знойдзеныя пры яго раскопках у 2002–06 рэчы і дэталі пабудовы суадносяцца з апісаннем інвентару. У 1760-я г. замак занапаў і больш не аднаўляўся. Новы гаспадар А.Чартарыйскі перанёс горад за 2,5 км на Пн ад «места Шклоўскага» і яго замка. Тады ж змяніла напрамак рэчышча Серабранкі, якую скіравалі ў бок Дняпра побач з пабудаваным палацам.

*Літ.:* Л я ў к о В.М. Гісторыя Шклоўшчыны па археалагічных і пісьмовых крыніцах (да сярэдзіны XVIII ст.) // БГЧ. 1996. № 2; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004; Я е ж. Изучение Шкловского замка второй половины XVI – первой половины XVIII вв. // МАБ. 2006. Вып. 11.

*В.М.Ляўко.*

**ШКЛО́ЎСКІ І́ДАЛ**, скульптурная выява язычніцкага бажаства. Знойдзены ў 1963 каля г. Шклоў, на беразе р. Серабранка. Датуецца 10 ст. Высечаны з пясчаніку, выш. 1,2 м, маса 250 кг. Тулава цыліндрычнае, ніжняя частка апрацавана як пастамент, твар мае індывідуальныя рысы. Захоўваецца ў Нац. гіст. музеі Рэспублікі Беларусь.



*Шклоўскі ідал.*

**ШКЛО́ЎСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ**, помнік археалогіі, размешчаны ў в. Рыжкавічы Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. (у 2-й пал. 16 – 18 ст. тэр. «места Шклоўскага»). Пабудаваны ў 1619–24 на месцы кальвінскага збора на сродкі А.Хадкевіча (уладальніка *Шклоўскага замка* і «места Шклоўска-



***Шклоўскі кляштар дамініканцаў**: агульны выгляд (прамалёўка з гравюры сяр. 18 ст.), фрагмент падлогі, падмуркаў і пахаванняў пад імі.*

га»). У склад манастырскага комплексу ўваходзілі мураваны будынак храма, званіца, драўляны кляштар з гасп. пабудовамі і вял. сад. Дзейнічаў кляштар да 1832, быў зачынены па загаду Мікалая I.

Археал. даследаванні праводзіліся В.М.Ляўко (2003) і Л.Г.Марковіч (2006). Л.Г.Марковіч выявіла фр-ты падмурка і 2 сцен мураванага будынка. Шыр. першай сцяны складала 2,6 м. Да яе з паўд. боку падыходзіла другая шыр. 1,5 м. У глыб. рэшткі падмурка дасягалі 2,8 м. З абодвух бакоў другой сцяны зафіксаваны рэшткі падлогі з цэглы, пакладзенай на пясчаную падсыпку. Памеры выкарыстанай цэглы складаюць 28–32 × 13,5–16 × 4–6 см і 24–25 × 18–20 × 6–8 см.

Пры будаўніцтве сцен выкарыстана цэгла памерамі 28–32 × 13,5–16 × 4–6 см. Верхняя частка першай сцяны пабудавана ў тэхніцы раўнаслойнай муроўкі, ніжняя частка і другая сцяна – у мяшанай тэхніцы (2 рады цэглы, рад камянёў, паміж якімі знаходзілася вертыкальна пастаўленая цэгла). Аснаванне падмурка складзена з валуноў. Пляцоўка вакол аснавання падмурка, выкладзеная камянямі, адначасова з'яўлялася падлогай падвала і стварала сістэму гідраізаляцыі ў ім. Сабраная калекцыя артэфактаў прадстаўлена фр-тамі кафлі, керамічнага і шклянога посуду і інш. і датуецца к. 16–18 ст.

Пад час раскопак на рознай глыбіні выяўлены пахаванні. Шкілеты першага гарызонту, моцна дэфарміраваныя, знаходзіліся пад другой сцяной на глыб. 2,52–2,55 м ад дзённай паверхні, 0,8 м ад узроўню падлогі. Другі гарызонт пахаванняў зафіксаваны каля першай сцяны на глыб. 1,7–2,13 м ад дзённай паверхні. Усе пахаванні знаходзіліся ў трунах, безынвентарныя, арыентаваны на З.

*Літ.:* Л е в к о О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие. Минск, 2004; М а р к о в и ч Л.Г. Археологические исследования в Шкловском районе Могилевской области // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23.

*Л.Г.Марковіч.*

**ШЛЕМ**, элемент засцерагальнага ўзбраення, які ахоўваў галаву ваяра. Ужо са стараж. часоў ён набыў пазабаявыя функцыі і стаў сімвалам рангу і ўлады. У сярэдневяковай Ш. быў неад'емнай часткай рыцарскай альбо дружыннай сімволікі. Падставамі для сістэматызацыі Ш. з'яўляюцца іх фармальныя, канструктыўныя і функцыянальныя асаблівасці. Асн. элементам Ш. з'яўляецца звон, які ахоўвае чарапную каробку. Паводле наяўнасці ці адсутнасці сродкаў аховы твару Ш. падзяляюцца на адкрытыя – без аховы твару, напаўзакрытыя – з частковай аховай твару і закрытыя, якія засцерагалі галаву разам з тварам.

Першыя звесткі аб выкарыстанні Ш. на тэр. Беларусі належаць да 11 ст., хаця можна меркаваць, што яны былі ва ўжытку ўжо ў 10 ст. Выяўлены 2 цэлыя і 2 фрагментаваныя Ш. 11–13 ст. У гэты час на тэр. Беларусі выкарыстоўвалася некалькі тыпаў Ш.: стажковыя (знойдзены ў складзе скарбу зброі 13 ст. з-пад Гродна), стажковыя з нахіленым напераді верхам звона (паказаны на медальёне 12–13 ст. з выявай св. Дзмітрыя з Ваўкавыска), сфераканічныя (фр-т 12–13 ст. з Капыля), купалападобныя (фр-ты з гарадзішча *Свіслач*, сяр. 12 – сяр. 13 ст.), яйкападобныя (2-й пал. 12 – сяр. 13 ст. са Слоніма).

У 14–16 ст. па-ранейшаму бытавалі сфераканічныя экземпляры (2 такія Ш. знойдзены ў Мсціславе), аднак распаўсюджваюцца і зах.-еўрап. ўзоры – кальчужныя каптуры, бацынеты з падоўжанымі з бакоў і ззаду краямі звона, вядомыя па выявах на пячатках к. 14 – пач. 15 ст., салады (знойдзена ў Мсціславе на месцы бітвы 1502), капаліны, армэ і штурмгабы (захаваліся экзэмпляры са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы). Павелічэнне паражальнага эфекту наступальнага ўзбраення абумовіла патаўшчэнне сценак Ш. і, як вынік, рост іх вагі. З'яўляюцца і спец. турнірныя Ш., мала прыдатныя для баявых умоў (салада Мікалая Радзівіла Чорнага сяр. 16 ст.). У к. 16–17 ст. найб. папулярнымі тыпамі Ш. былі шышакі (цэлыя экзэмпляры і элементы 2-й пал. 16 ст. знойдзены ў Мінску і Нясвіжы), марыёны (экзэмпляр к. 16 ст. з Магілёва) і місюркі. У 18 ст. Ш. выцясняюцца з баявога ўжытку і толькі з пач. 20 ст. ў выглядзе касак зноў становяцца неад'емным атрыбутам рыштунку салдатаў, найперш пехацінцаў.

*Літ.:* К и р п и ч н и к о в А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX–XIII вв. // САИ. 1971. Вып. Е1-36; П л а в і н с к і М.А. Засцерагальнае ўзбраенне IX–XIII ст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008; П л а в и н с к и й Н.А., К о ш м а н В.И. Предметы вооружения середины XIII в. из раскопок городища Свислочь // Краеугольный камень. Археология, история, искусство, культура России и сопредельных стран. М., 2010. Т.2; K w a ś n i e w i c z W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**ШЛІФАВА́ННЕ**, апрацоўка паверхні каменных, касцяных, рагавых і інш. вырабаў абразіўнымі матэрыяламі, каб зрабіць яе гладкай і пэўнага памеру.

Ужо ў познім палеаліце вядома шліфоўка касцяных іголак, праколак, наканечнікаў коп'яў; зрэдку сустракаюцца сляды прышліфоўкі і на каменных рэчах. У мезаліце, неаліце і бронзавым веку Ш. касцяных, рагавых прылад працы, зброі і ўпрыгажэнняў вялося значна шырэй – шліфавалі наканечнікі стрэл, коп'яў і гарпуноў, іголкі, праколкі, сякеры, цёслы, касцяныя ўпрыгажэнні і г.д. Ш. выкарыстоўвалі пры вырабе бурштынавых упрыгажэнняў, твораў дробнай пластыкі – скульпт. выяў звяроў і птушак. У познім неаліце на тэр. Беларусі пачалі ўжываць прышліфоўку лёзаў рубячых каменных прылад. У бронзавым веку каменныя сякеры, долаты, цёслы, матыкі, булавы зашліфоўвалі па ўсёй паверхні. У жал. веку і пазней, калі каменныя і касцяныя вырабы былі выцеснены жал., Ш. выкарыстоўвалі радзей. Ш. праводзілі звычайна на абразіўных каменных плітах, часам з падсыпкай буйназярністага пяску. У Беларусі шліфаваныя каменныя вырабы сустракаюцца паўсюдна; шліфавальныя пліты найб. вядомыя на позьнанеалітычных і ранняабронзавых стаянках Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне.

*Літ.*: Семенов С.А. Первобытная техника // МИА. 1957. № 4; Семенов С.А., Коробкова Г.Ф. Технология древнейших производств: мезолит – энеолит. Ленинград, 1983. *М.М.Чарняўскі.*

**ШЛІХТАВА́ЛЬНАЯ ПЛІ́ТКА**, прылада для апрацоўкі паверхні вырабаў з каменю, дрэва, металу. Асн. яе функцыя – наданне прыладам працы пэўнай формы, гладкасці шляхам трэння. Выкарыстанне Ш.п. пачалося ў эпоху неаліту. Першымі Ш.п. былі натуральныя каменныя абломкі, якія пазней набылі форму і памеры сучасных брускоў. Выраблялі Ш.п. з пясчаніку ці буйназярністых крышталічных парод, якія складаюцца пераважна з кварцавых зярнят, звязаных гліністым, вапнавым або кварцавым рэчывам. Рыхлая паверхня пясчанікавых пліт дазваляе весці шліхтаванне без падсыпкі пяску, але з рэгулярнай прамыўкай вадой. Шчыльныя крышталічныя пароды пры шліхтаванні патрабавалі падсыпкі пяску.

*Літ.*: Семенов С.А. Первобытная техника // МИА. 1957. № 54. *У.П.Ксяндзоў.*

**ШЛЯХ «З ВАРА́ГАЎ У ГРЭ́КІ»**, водны шлях, які звязваў Балтыйскае мора з Чорным. Упершыню ўпамінаецца ў недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў», дзе гаворыцца пра «путь из варяг в греки по Днепру, и верх Днепра волок до Ловоти и по Ловоти, внити в Ылмерь озеро великое. Из него же озеро потечеть Волхов и втечеть в озеро великое Нево, и того озера внидеть устье и море Варяжское. И по тому морю ити до Рима, а от Рима прити по тому же морю ко Царюгороду, а от Царягорода прити в Понт море, в не же втечет Днепр река». У гісторыка-археал. літаратуры існуюць розныя меркаванні адносна часу яго ўзнікнення, маршруту і гандл. значэння. На думку С.В.Бернштэйн-Когана, шлях ніколі не быў адзінай і суцэльнай магістраллю, а распадаўся на часткі, адна з якіх праходзіла цераз Няву, Волхаў, Ловаць, Зах. Дзвіну да Дняпра і не адыгрывала значнай ролі ў транзітным гандлі Скандынавіі з Візантыяй у 9–10 ст. І.П.Шаскольскі выступіў з крытыкай гэтага тэзіса, які прыніжаў значэнне паўн. часткі шляху. Большасць сучасных даследчыкаў лічаць, што ён пачаў дзейнічаць ужо ў 9 ст., іншыя сцвярджаюць, што актыўны транзітны гандаль па ўсім шляху развіваўся толькі з 10 ст. На думку Г.С.Лебедзева, шлях выкарыстоўваўся ўжо на 1-м этапе цыркуляцыі арабскіх сярэбраных манет дырхемаў ва Усх. Еўропе (800–833). Гэтым часам датуюцца іх найб. раннія знаходкі на тэр. ад р. Волхаў да Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя. Мяшанае славяна-скандынаўскае насельніцтва гандл.-рамесніцкага паселішча Гнёздава пад Смаленскам кантралявала рух людзей з таварамі па Касплянскім волаку, што злучаў дняпроўскі і зах.-дзвінскі адрэзкі шляху і актыўна выкарыстоўваўся ў 10 ст. З 11 ст. ўзрасла роля волака па р. Лучоса. Пасля 1221 кантроль за Лучасянскім і Усвяцкім волакамі перайшоў да полацкіх князёў. Зах. Дзвіна з 2-й трэці 9 ст. з'яўлялася адным з самых значных адгалінаванняў шляху, па якім плавалі да Балтыйскага мора і назад усх. славяне і скандынавы. Шлях быў звязаны з Зах.-Дзвінскай магістраллю таксама цераз рэкі Дрыса, Палата, Вялікая, Нарва, азёры Чудское, Езярышча. На тэр. Беларусі ўздоўж шляху і яго адгалінаванняў сустракаюцца знаходкі арабскіх дырхемаў, візантыйскіх манет, прывазных рэчаў скандынаўскага, зах.-еўрап., візантыйскага і ўсх. паходжання, вырабы кіеўскіх і наўгародскіх рамеснікаў, таварныя пломбы драгічынскага тыпу. Ён выкарыстоўваўся і ў 12 ст., а з 13 ст. больш значную ролю ў міжнар. гандлі набыў Зах.-Дзвінскі шлях, па якім Віцебск, Полацк, Смаленск непасрэдна гандлявалі з Рыгай, Готландам, ням. гарадамі. Навейшыя археал. і нумізматычныя даныя сведчаць, што розныя адрэзкі шляху неадначасова падключыліся да міжнар. транзітнага гандлю: рэкі Нява і Волхаў у пач. 9 ст., Зах. Дзвіна ў 2-й трэці 9 ст. Найб. актыўная дзейнасць на ўсім яго працягу ў 2700 км ад Балтыйскага да Чорнага мораў прыпадае на 10 ст. У 1985–87 Геаграфічнае т-ва СССР арганізавала Усесаюзную комплексную навук.-спартыўную экспедыцыю «Нево» з удзелам археал. групы (кіраўнік Г.С.Лебедзеў). Па выніках экспедыцыі было ўстаноўлена, што на праходжанне шляху нашым продкам патрэбна было затраціць не менш як 90–95 сутачных пераходаў, а з днёўкамі ўвесь шлях займаў каля 115–120 сутак, з якіх 2 тыдні прыпадала на пераадоленне волакаў.

*Літ.*: Бернштейн-Коган С.В. Путь из варяг в греки // Вопросы географии. М., 1950. Сб. 20; Свердлов М.Б. Транзитные пути в Восточной Европе IX–XI вв. // Изв. Всесоюз. Геогр. о-ва. 1969. Т. 101, вып. 6; Авдусин Д.А. Гнездово и днепровский путь // Новое в археологии: сб. ст., посвящ. 70-летию А.В.Арциховского. М., 1972; Лебедев Г.С. «Путь из варяг в греки»: (предварительные результаты археол.-навигац. изучения) // Археология и история Пскова и Псковской земли: тез. докл. науч.-практ. конф. Псков, 1988.

*В.Б.Перхаўка.*

**ШЛЯХІ ГАНДЛЁВЫЯ**. Паводле пісьмовых крыніц, праз тэр. Беларусі ў 9–13 ст. праходзілі *шлях «з варагаў у грэкі»* і шлях па Зах. Дзвіне. Зах.-Дзвінская магістраль набыла міжнар. значэнне да сяр. 9 ст., Дняпроўскі шлях – да к. 9 ст., дарога па Прыпяці і Зах. Бугу ў 10 ст., пра што сведчаць знаходкі арабскіх сярэбраных манет – дырхемаў. У 11 ст. па Зах. Дзвіне, радзей па Прыпяцка-Бугскай магістралі, гандляры прывозілі зах.-еўрап. сярэбраныя манеты – дэнарыі – і серабро ў выглядзе зліткаў і ўпрыгажэнняў. Меншае значэнне меў гандаль з Літвой і Прусіяй па Нёмане. Прыпяць і Дняпро звязалі старaж.-рус. цэнтры на тэр. Беларусі з Кіевам, адкуль паступалі вырабы мясц. рамеснікаў і візантыйскія тавары (віно і аліўкавы алей у гліняных амфарах, манеты, шаўковыя тканіны, паліваны посуд, шкляныя бранзалеты). Па Зах.-Дзвінскім, Прыпяцка-Бугскім і Нёманскім шляхах праз тэр. Беларусі ў Польшчу, Прусію, Літву, Латвію, балтыйскія краіны з 11 ст. вывозілі стараж.-рус. вісячыя дзвярныя замкі трубкаватай формы, гліняныя паліваныя рознакаляровыя яечкі-пісанкі і асабліва ў вял. колькасці прасліцы з ружовага і фіялетавага оўруцкага сланцу. Ш.г. выкарыстоўваліся і для транзіту тавараў з З і У праз бел. землі ў інш. краіны. З Зах. Еўропы па іх вазілі бронзавы посуд, вадалеі, сукны, каляровыя металы, з усх. краін – пацеркі з горнага хрусталю і сердаліку, фаянсавы посуд. Паводле археал. даных, найб. актыўны гандаль па Прыпяцка-Бугскай магістралі разгарнуўся ў 12 ст., пра што сведчаць большасць свінцовых таварных пломбаў, знойдзеных у Драгічыне Надбужскім, дзе існавалі міжнар. кірмаш і мытніца. Гандл. абмен Віцебска, Полацка і Смаленска па Зах. Дзвіне з Рыгай, Готландам і нямецкімі гарадамі набыў вял. размах з 1-й трэці 13 ст., калі былі заключаны першыя міжнар. пагадненні адносна яго ўмоў. Менш зручныя сухапутныя Ш.г. звычайна праходзілі ўздоўж рэк, праз іх водападзелы і злучалі паміж сабой стараж.-рус. гарады, што знаходзіліся ў розных рачных басейнах. Узімку па замёрзлых рэках пракладваліся санныя дарогі («зімнікі»). Пры раскопках Брэста, Віцебска, Мінска, Полацка і інш. знойдзены рэшткі сярэдневяковых сродкаў транспарту (драўляных колаў ад фурманак, чаўноў), на якіх перавозілі тавары. Існаванне шматлікіх парогаў (у прыватнасці, на Зах. Дзвіне), водмелей і волакаў у вярхоўях рэк перашкаджала гандл. суднаходству і прымушала выкарыстоўваць пласкадонныя рачныя чаўны з невял. асадкай. У важнейшых месцах Ш.г. (каля мастоў рачных пераправаў, на волаках) узнікалі мытніцы для збору пошлін у карысць вярхоўнай улады ці мясц. князя. Перавозкам тавараў па Ш.г. нярэдка перашкаджалі ўсобіцы, ваенныя сутычкі і набегі. У 2-й пал. 13 ст. пасля мангольскага нашэсця значна змяніліся ўмовы існавання Ш.г., асабліва па Дняпры і Прыпяці, але іх актыўная дзейнасць працягвалася і пазней, у 14–15 ст.

*Літ.*: Жучкевич В.А. Дороги и водные пути Белоруссии: ист.-геогр. очерки. Минск, 1977; Левко О.Н. Торговые связи Витебска в X–XVIII вв. Минск, 1989.

*В.Б.Перхаўка.*

**ШЛЯХІ ПЕРШАПАЧАТКО́ВАГА ЗАСЯЛЕ́ННЯ** Беларусі чалавекам. У старажытнасці найб. зручнымі і часта адзінымі месцамі для першаснага асвойвання тэр. былі рэкі і рачныя даліны. Рэкі перасякалі ледавіковыя раўніны, прабіваліся праз дрымучыя лясы і топкія балоты, да іх сыходзіліся звярыныя сцежкі, на якіх першабытнаму чалавеку можна было лягчэй высачыць здабычу. Рэкі забяспечвалі яго пітной вадой, памагалі арыентавацца на мясцовасці і наладжваць сувязі паміж абшчынамі і плямёнамі. Спачатку існавалі «прарэкі», яны былі больш паўнаводныя за сучасныя рэкі, з шырокімі і глыбокімі далінамі, якія пазней былі запоўнены рачнымі наносамі. Пад старaж. алювіем нярэдка пахаваны рэшткі матэрыяльнай культуры. Пасля кожнага з 4–6 апошніх ледавікоў рачная сетка паступова набывала сучасныя абрысы. У ледавіковыя эпохі (320–11 тыс. г. таму назад) Балтыйскі басейн і Вялікі Еўрап. водападзел знікалі пад ледавіковым шчытом. Уздоўж паўд. краю ледавіка існаваў сцёк на З і Пд. Водныя патокі з прыледавіковых азёр прабівалі даліны на ПдЗ праз пакінутыя ледавіком марэны. На тэр. Беларусі амаль усе рэкі належалі Дняпроўскаму басейну. У міжледавіковыя эпохі Балтыйскае мора і гал. еўрап. водападзел аднаўляліся, частка рэк мяняла напрамак. На месцы рэк, што знікалі, заставаліся мёртвыя, скразныя даліны, па якіх было зручна перапраўляцца з аднаго рачнога басейна ў другі, наладжваць волакі, пазней пракопваць каналы. На З вялі Прыпяцка-Бугскі шлях цераз Свіцязскую азёрную групу або Піну і Мухавец. Ясельда адкрывала 2 напрамкі: па р. Нараў у Буг і Віслу, а цераз воз. Спораўскае і Ружанку да Нёмана. Прыпяць з Нёманам злучалі 3 шляхі: па Лані, Случы ці Пцічы. Выключнае значэнне мела Бярэзіна (Бяроза Дняпроўская), якая ў старажытнасці, магчыма, лічылася вытокам Дняпра (Барысфена). Трыма прытокамі Свіслачы можна было трапіць у Вілію і адным цераз Ісдач – у Бярэзіну Нёманскую. Па Бабры, Лукомцы, Сергучы можна было дабрацца цераз Улу ў Зах. Дзвіну. Зручным быў шлях з Дняпра па Друці ў Лучосу. Некалькі добрых волакаў існавала на Смаленшчыне цераз

Касплю і Усвяты ў Зах. Дзвіну і Ловаць да Ноўгарада. З басейна Зах. Дзвіны можна было плысці праз азёры Обаль – Невель да Ловаці і цераз Дрысу – Удру да р. Вялікай (на Пскоў). Зах. Дзвіну з Віліяй і Нёманам злучала р. Друйка. Параўнаўча кароткія (2–5 км) пераволокі ўтвараліся на месцы забалочаных скразных далін. Шляхі, якія пастаянна выкарыстоўваліся, набывалі дублікатныя назвы: Буг Паўднёвы і Заходні, Случ Гарынская і Паўночная, 2 Бярэзіны, 2 Свіслачы і Іслач, Ясельда і Сакольда (Сольда). У наваколлі рэчак і волакаў найчасцей фарміраваліся стаянкі, паселішчы, гарадзішчы. У такіх месцах, пачынаючы з ранняга жал. веку, жыхары імкнуліся замацавацца на пастаяннае пражыванне. Пазней, у сярэдневякоўі, тут будаваліся ўмацаваныя гарады. Наяўнасцю зручных водных шляхоў і волакаў вызначаліся напрамкі першапачатковага засялення тэр. Па іх адбываліся дагіст. і наступныя міграцыі плямён. З часам яны набывалі ўсё большае значэнне як шляхі зносін, напрамкі распаўсюджвання інфармацыйных патокаў, гандлю, культ. уплываў. Канфігурацыяй Ш.п.з. абумоўліваліся арэалы этнасаў, іх раздзяленне на лакальныя варыянты і галіны. Першапачатковае пранікненне краманьёнцаў (паўн. еўрапеоідаў) на тэр. Беларусі адбывалася Валынскім (па Бугу, Гарыні, Стыры, Стаходу) і Дняпроўскім шляхамі ў верхнім палеаліце або напярэдадні гэтай эпохі. Сталае насельніцтва тут утварылася толькі ў канцы палеаліту і ў мезаліце. Найб. шчыльнасці яно дасягнула на ПдЗ (верхняя Прыпяць) і ПдУ (у басейне р. Сож). З сяр. 3-га тыс. да н.э. пачалося рассяленне плямён стараж. індаеўрапейцаў з Пд, верагодна, з другой прычарнаморскай прарадзімы. На ПнУ Еўропы, у басейнах Волгі, Акі, Дзясны яны сутыкнуліся з фіна-уграмі. У гэтыя часы замацаваліся назвы некаторых вял. рэк, якія сведчаць і аб Ш.п.з. Верагодна, фіна-угорскімі з'яўляюцца назвы Ака, Ра (Волга), Пра, Проня, Сож (Сожа), індаеўрап. – Дон («Танаіс»), Дняпро (Данапрас), Днестр («дон» – рака), адсюль у стараж. еўрапейцаў Данцвій, Донаў (Дунай), Дзюна (Дзвіна Рубон). Да Балтыйскага мора паўн.-зах. галіна індаеўрап. плямён накіроўвалася па Вісле і Нёмане, Прыпяці і Ясельдзе. У басейне Нёмана ўтварылася нагрувашчанне стараж.-еўрап. гідронімаў: Нёман (стараж. назва Мемель) ад «мель» – чорная; Ясельда – ад «алда» – рака (адсюль балцкая і слав. назвы рачнога судна: альда, ладдзя); Прыпяць – ад «пры» – моцны і «петс» – стапа, што можа азначаць «які моцна наслядзіў»; Вісла, Вістула – ад «віс» і «тулія» – сутокі вод. Магчыма, да ліку індаеўрап. адносяцца гідронімы Льва, Зэльва, Сялява, шматлікія назвы з канчаткамі на «эльв» у Швецыі. На Пн Беларусі і ў Прыбалтыцы захаваліся фіна-угорскія назвы азёр Сора, Сарочы, Сар'я, рэк з канчаткамі ў назвах, уласцівымі фіна-угорскай мове: Вожа, Волма, Можа, Мокша, Пярга, Рыдыга, Скема, Удога, Шоша. У Верхнім Падняпроўі, паміж Зах. Дзвіной і Прыпяццю, вельмі пашыраны балцкія гідронімы (да 1000), што сведчыць пра этнічную прыналежнасць мясц. стараж. плямён. Бяроза – ад «бержас» – бяроза, светлая, індаеўрапейскага «берк» – свяцішча. Рэчкі Друць, Друя, Дрыса – ад балцкага «друтас» – моцны; Даўгава – паўнаводная («дауг» – балцкае «многа», «ава» – фінскае «рака»); Дзісна, Дзясна, Цна – правабярэжніцы, Дунай (Дунова) – багніца, Гайна – лясная, Арэса – улікоўка, Дзітва – крынічная, Оса – жвавая, Палача – балацянка, Пліса – чыставодка, Рэкта, Рэста – крынічніцы, Іпа, Іпуць, Нятупа – рэчкі («іпа», «упа» – рака), Була, Ула, Ола – вірніцы, ямніцы, Тур'я – дрыгвянка («турас» – дрыгва), Лучоса – перагібістая, Лоша – ласосеўка, Лідзея – шчупачоўка, Вілія (Нерыс) – хвалістая, Ольса – альшаніца і г.д. Слав. назвы вядомы на Пд ад Прыпяці і ў басейне Віслы (Мытвіца, Сведзь, Случ, Стаход, Дарагабуж, Завойць, Лань, Убарць, Язда і інш.). Левабярэжжа Дняпра доўгі час займалі індаіранскія плямёны (*скіфы*), ад іх – назвы Арыя, Сейм, Харопуць, Эсмань, магчыма, Буг, Бася (Басея), Вець, Іпуць, Прут. У вярхоўі Віслы жылі кельты, на мове якіх «віс» – паток, «рус» – возера. Германскія плямёны, у прыватнасці готы, маглі назваць рэкі Вкра, Окра, Зговда, Полтва, Скрва ў Польшчы, Стыр («бык»), Лахва, Чаква, воз. Нобель («пуп») і інш. Самыя стараж. сухапутныя шляхі, пачынаючы з часоў індаеўрап. рассялення, часта пракладвалі ўздоўж рэк. Здаўна існавалі «бурштынавыя», «крамянёвыя», «саляныя» шляхі.

*Літ.:* Гамкрелидзе Т.В., Иванов В.В. Индоевропейский язык и индоевропейцы. Кн. 1–2. Тбилиси, 1984. *У.Ф.Ісаенка.*

**ШМАТВА́ЛІКАВАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА**, бабінская культура, культурнае кола Бабіна, археалагічная культура эпохі бронзы. Асн. тэр. распаўсюджання – стэпавыя і лесастэпавыя зоны ад Волгі, басейна Дона на У да нізоўяў Дуная, басейна Прута на З, ад паўн.-чарнаморскага ўзбярэжжа, Крыма і берагоў Азоўскага мора на Пд да Сярэдняга Падняпроўя на Пн. Асобныя вял. групы помнікаў з матэрыяламі Ш.к.к. адзначаюцца таксама на Валынскім і на З Падольскага ўзвышшаў, у Гомельскім Палессі, на ніжнім Падзясенні і ніжнім Сейме. Абсалютная храналогія Ш.к.к. вызначаецца ў межах ад 2200–2050 да 1650–1600 да н.э. У асобную культуру вылучыла С.С.Беразанская (1960). Помнікі Ш.к.к. даследавалі С.В.Братчанка, І.А.Післарый, І.Н.Шарафутдзінава, В.В.Атрошчанка, І.Т.Чарнякоў, В.А.Дзергачоў і інш. Пасля раскопак паселішча Бабіна-3 атрымала назву бабінская культура шматвалікавай керамікі (С.В.Братчанка, 1977). У сучаснай літаратуры сукупнасць помнікаў, якія вылучаліся ў Ш.к.к., альбо бабінскую культуру, разглядаецца як культ. кола Бабіна з днепра-данской і днепра-пруцкай бабінскімі культурамі, з некалькімі лакальнымі варыянтамі, а таксама перыферыйнымі групамі/тыпамі помнікаў (Р.А.Літвіненка).




*Да арт. **Шматвалікавай керамікі культура**. Ляпная кераміка з паселішчаў Гомельскага Палесся: 1, 6–8 – Заспа 2 (паводле матэрыялаў М.У.Бычкова); 2–4, 10, 11 – Абакумы 1; 5 – Юравічы 5 (паводле матэрыялаў У.Ф.Ісаенкі); 9 – Бывалькі.*

Паселішчы Ш.к.к. (Бабіна-3, Валынцава і інш.) размяшчаліся на поймавых узвышшах і нізкіх тэрасах, зрэдку на высокіх карэнных берагах рэк. Знойдзены рэшткі наземных альбо слаба паглыбленых жытлаў, колькасць якіх на паселішчы магла дасягаць 5–7. Пахаванні, як правіла, адзіночныя, у курганах (асн. і ўпускныя) па абраду трупапалажэння. Памерлага змяшчалі ў ямы, ямы з падбоямі, каменнымі скрынямі, зрубамі, калодамі, у скурчаным на баку стане. Сустракаюцца пахаванні са слаба скурчанымі касцякамі на баку з разваротам на спіну і галавой на З, ПнЗ. Найб. характэрны элемент культуры – вял. памераў таўстасценныя гаршкі з лейкападобнай гарлавінай, біканічным корпусам, малым пляскатым дном, аздобленыя наляпнымі валікамі, а таксама касцяныя паясныя спражкі. Насельніцтва Ш.к.к. выкарыстоўвала керамічны посуд (гаршкі, нізкія слоікі, міскі і інш.), які рабіўся з дамешкамі пяску, радзей з тоўчаным вапняком, дробленымі ракавінамі, аздабляўся, акрамя валікаў, пракрэсленымі лініямі, шнуравым арнаментам, круглымі налепамі і інш. Ужываліся вырабы з металу (шылы, нажы, віслаабушныя сякеры, цяслы, далоты, упрыгажэнні і інш.), костак і рога (шылы, лашчылы, рыбалоўныя кручкі, паясныя спражкі, рагавыя дыскападобныя псаліі, упрыгажэнні і інш.), крэменю (наканечнікі стрэл, дроцікаў, скрабкі, нажы і інш.), каменю (свідраваныя сякеры, накавальні, абразівы і інш.), фаянсавыя і паставыя пацеркі і інш. Асн. занятак – качавая жывёлагадоўля. Ш.к.к. ўзнікла на мясц. аснове (позні катакомбныя культуры/групы, часткова сярэднедняпроўская культура і інш.) пад уздзеяннем розных культ. уплываў. Першапачатковы ачаг – данецка-дняпроўска-азоўскі рэгіён, у якім адбывалася афармленне ранняй днепраданской бабінскай культуры.

На тэр. Беларусі матэрыялы Ш.к.к. знаходзілі У.Ф.Ісаенка, Л.Д.Побаль, М.У.Бычкоў, М.М.Крывальцэвіч і інш. Абагульненне іх здзейсніў М.М.Крывальцэвіч. Посуд, характэрны для Ш.к.к., знойдзены ў Гомельскім Палессі на ніжняй Прыпяці (Цепкаў-2, Нароўля, Юравічы-3, 5, Тульгавічы і інш.), уздоўж Дняпра (Заспа-2, Мохаў, Бывалькі і інш.) і ў вусці Сажа (Абакумы). Помнікі з керамікай Ш.к.к. размяшчаліся на пойме (на пясчаных дзюнах, астанках тэрас), на тэрасах, карэнных берагах. Нешматлікія фр-ты посуду Ш.к.к. адзначаюцца ў комплексе з матэрыяламі днепраданецкай, сярэднедняпроўскай культур, тшцінецкага культ. кола. Кераміка вылучаецца тыповымі для Ш.к.к. адзнакамі (характэрны шматвалікавы арнамент у спалучэнні з пракрэсленымі лініямі, біканічнасць форм, дамешкі пяску і інш.), а таксама некаторымі мясц. асаблівасцямі, якія пераймаліся ад сярэднедняпроўскай культуры. Найб. верагодна, з'яўленне матэрыялаў Ш.к.к. на тэр. Гомельскага Палесся адбылося ў выніку пранікнення асобных прадстаўнікоў Ш.к.к. па далінах Дняпра, Прыпяці і Сажа. Інфільтрацыя адбывалася на познім этапе існавання Ш.к.к. Матэрыялы Ш.к.к., якія адкрыты ў Гомельскім Палессі, знаходзяцца на паўн. перыферыі асн. арэалу культ. кола Бабіна і ўключаюцца Р.А.Літвіненкам у дняпроўска-прыпяцкую групу, помнікі якой лакалізуюцца ў Чарнігаўскім і Гомельскім Падняпроўі, на ніжняй Прыпяці.

*Літ.:* Побаль Л.Д. Погребение эпохи бронзы близ д. Борисовщина Могилевской области // СА. 1966. Вып. 2; Очерки по археологии Белоруссии. Ч.1. Минск, 1970; Бычков Н.В. Исследования в Гомельской области // АО 1983. М., 1985; Культуры эпохи бронзы на территории Украины. Киев, 1986; Свешников И.К. Культура многоваликовой керамики // Археология Прикарпатья, Волыни и Закарпатья (энеолит, бронза и раннее железо). Киев, 1990; Крывальцэвіч М.М. Супольнасці Беларускага Палесся і лесастэпаў-стэпаў у эпоху бронзы: праблемы культурных сувязяў // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Poznań, 2001; Яго ж. Многоваликовая керамика на территории Беларуси // На пошану Софії Станіславівни Березанської. Збірка наукових праць. Київ, 2005.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**ШМІТ** (Szmit) Зыгмунт (жнівень 1895, Беласток – 2.1.1929), польскі археолаг. Працаваў настаўнікам у Драгічыне Надбужскім. З 1926 асістэнт Археал. музея ў Варшаве. У 1921–25 адкрыў і даследаваў пераважна стаянкі каменнага і бронзавага вякоў на Пабужжы (ПдЗ Брэсцкай вобл. і Пд Падляшша). У 1922 вёў раскопкі на тэр. Белавежскай пушчы. У 1925 пачаў даследаваць Краснасельскія крэменездабыўныя шахты. *М.М.Чарняўскі.*



*Я.А.Шміт.*

**ШМІТ** Яўген Альфрэдавіч (н. 6.12.1920, г. Рудня Смаленскай вобл., Расія), расійскі гісторык, археолаг. Д-р гіст. навук (1975). Заслужаны дзеяч навукі Расійскай Федэрацыі (1995). Скончыў Маскоўскі педагагічны ін-т імя Леніна (1947).

Працаваў у Смаленскім краязнаўчым НДІ, з 1962 у Смаленскім ун-це. З 1949 вывучае археал. помнікі Смаленскага Падняпроўя і Падзвіння. Першым выявіў і даследаваў у вярхоўях Дняпра помнікі шарападобных амфар культуры, у міжрэччы Дняпра і Зах. Дзвіны – могільнікі і паселішчы сяр. і 3-й чв. 1-га тыс. Вылучыў асаблівасці тушамлінскай культуры ў Смаленскім рэгіёне. Вывучае праблемы этнагенезу, гасп. і культ. развіцця плямёнаў верхняга Падняпроўя і Падзвіння ад эпохі ранняга жал. веку да 13 ст., даследуе доўтія курганы крывічоў, асаблівасці іх пахавальнага абраду ў час пераходу да хрысціянства (11–13 ст.). Распрацоўвае пытанні культуры, храналогіі, этнічнай прыналежнасці плямёнаў днепра-дзвінскай культуры.

*Тв.:* Древние городища Смоленщины. М.; Ленинград, 1963 (разам з П.М.Траццяковым); Тушемлинская культура на Верхнем Днепре и формирование смоленских кривичей // Северная Русь и ее соседи в эпоху раннего средневековья. Ленинград, 1982; Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства (VIII в. до н.э. – III в. н.э.). М., 1992; Верхнее Поднепровье и Подвинье в III–VIII вв. Тушемлинская культура. Смоленск, 2003; Курганные могильники VIII–X веков центральной части Смоленского Поднепровья (Купники, Арефино, Новоселки, Гнездово) // Смоленские древности. Смоленск, 2005; Заозерье. Археологический комплекс IV–XII вв. Смоленск, 2008.

*В.І.Шадыра.*

**ШНУРАВО́Й КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА**, шнуравой керамікі культуры (кола культуры шнуравой керамікі, кола культур са шнуравой керамікай, культурна-гістарычная вобласць культур шнуравой керамікі і інш.), археалагічная культура позняга неаліту (ранняга бронзавага веку, паводле ўсх.-еўрап. перыядызацыі). Асн. характэрнымі адзнакамі Ш.к.к. лічацца: параўнальна высокія кубкі, упрыгожаныя адбіткамі шнура, жалобчатым арнаментам і лінейнымі штампамі; двух- ці чатырохвухія амфары; пэўных тыпаў каменныя свідраваныя і крамянёвыя сякеры; касцяныя пацеркі і падвескі з зубоў жывёл; касцяныя шылы і долаты; курганныя ці бескурганныя пахаванні, якія здзяйсняліся па абраду трупапалажэння, зрэдку трупаспалення; змяшчэнне нябожчыка ў скурчаным стане на правым альбо на левым баку, часам на спіне; як правіла, прысутнасць кругавога раўка (часам са слядамі слупоў у ім) вакол цэнтр. пахавання і інш. Адзначаецца таксама, што прадстаўнікі Ш.к.к. рэдка стваралі вял. могільнікі, звычайна гэта было адно ці некалькі пахаванняў. Яны жылі малымі групамі і займаліся, пераважна, вандроўнай жывёлагадоўляй, не пакідаючы пасля сябе насычаных культ. рэшткамі паселішчаў.

У шырокім сэнсе пад Ш.к.к. многія даследчыкі разумеюць групы/культуры, якія ўзніклі на прасторах Еўропы ад Рэйна на З і да верхняга Паволжа на У, ад Паўд. Швецыі і Паўд. Фінляндыі на Пн да Верхняга Падунаўя, Верхняга Днястра і Сярэдняга Падняпроўя на Пд. Інш. спецыялісты настойваюць на тым, што ў Ш.к.к. варта ўключаць толькі т.зв. класічныя групы/культуры (чэшская, мараўская, саксона-цюрынгская, верхнялужыцкая, кракаўска-сандамірская, любачоўская, культура адзіночных пахаванняў, культура баявых сякер і інш.) Сярэдняй і Зах. Еўропы, Скандынавіі і часткова Усх. Прыбалтыкі. Па-за імі развіваліся вытворныя альбо т.зв. мяшаныя культуры [злоцкая, жуцаўская (прыморская), сярэднеднепроўская, фацьянаўская, паўн.-бел. і інш.]. У якасці Ш.к.к. звычайна не разглядаюцца эпішнуравыя групы і культуры (межанавіцкая, стжыжоўская, нітранская, кашцянская і інш.), якія ўзніклі ў постшнуравы перыяд і згубілі большасць характэрных для Ш.к.к. адзнак. З пункту гледжання асаблівасцей тэр.-рэгіянальных традыцый вылучаюць зоны паўд. і паўн. структур Ш.к.к. Пас старажытнасцей з паўд. «шнуравымі» традыцыямі цягнуўся ад сярэдняга Рэйна, цераз сярэднюю Эльбу да Малапольшчы і зямель на Пд ад іх. Паўн. зона займала ў цэлым тэр. еўрап. нізін уздоўж Паўн. мора і Балтыкі са Скандынавіяй уключна.



*Кераміка «старашнуравога гарызонта»* ***шнуравой керамікі культуры*** *з Беларускага Палесся і Падняпроўя: 1 – Камень 2 (паводле раскопак У.Ф.Ісаенкі); 2 – Гнеўчыцы (паводле матэрыялаў А.Г.Калечыц); 3 – Моталь 18 (паводле матэрыялаў А.Г.Калечыц); 4 – Струмень (паводле раскопак А.Г.Калечыц); 5 – Курадава (паводле матэрыялаў В.С.Вяргей); 6 – Пятровічы (паводле матэрыялаў М.І.Лашанкова); 7 – Моталь 1 (паводле матэрыялаў А.Г.Калечыц); 8 – Камарын 2.*



Аўтар М.М. Крывальцэвіч

У развіцці Ш.к.к. вылучаюць 3 асн. этапы развіцця: а) агульнаеўрап. гарызонт (гарызонт А); б) сярэднееўрап. гарызонт (Я.Махнік), альбо «пашыраны гарызонт А» (М.Бухвальдэк); в) гарызонт лакальных груп. У цэлым абсалютная храналогія класічных Ш.к.к.: 3000/ 2200–2000 гг. да н.э. (калібраваная храналогія).

Неадназначнай і складанай застаецца праблема генезіса Ш.к.к. Доўгі час папулярнымі былі ідэі пошука зыходных тэр. і першапачатковых культ. груп, ад якіх пачаўся міграцыйны рух і распаўсюджанне традыцый Ш.к.к. У якасці першапачатковага звяна разглядаліся саксона-цюрынгская альбо паўд.-скандынаўскія групы/культуры Ш.к.к. (Г.Касіна, К.В.Струвэ, Л.Кіліан і інш.), культ. утварэнні ўсходне-сярэднееўрап. памежжа (М.Бухвальдэк) і інш. У 1960–70-я г. шырокую папулярнасць набыла гіпотэза распаўсюджання асн. «шнуравых» традыцый з паўн. Прычарнамор'я, у праватнасці з кола ямнай культуры (Т.Суліміркі, М.Гімбутас і інш.). Згаданая гіпотэза ў найб. ступені адпавядала тэорыі індаеўрапеізацыі Еўропы цягам пашырэння стэпавых культ. традыцый і трансфармацыі іх у Ш.к.к. Паводле аўтахтаністаў, Ш.к.к. ўзнікла ў выніку сацыяльна-эканамічных змен, якія сталі прычынай параўнальна хуткай культ. уніфікацыі на вял. прасторах і ў розным культ. асяроддзі (М.Р.Мальмер, Э.Неуступны і інш.). Многія даследчыкі разглядаюць праблему ўзнікнення і распаўсюджання Ш.к.к. як складаны працэс, які спалучаў у сабе і аўтахтанічны шлях культ. змен, і распаўсюджанне адпаведных традыцый праз інш. групы, у т.л. з цягам непасрэднай транслакацыі чалавечых калектываў і ў выніку перамяшчэння адпаведных ідэй. Назіраецца тэндэнцыя адыходу ад успрыняцця Ш.к.к. ў форме культурна уніфікаванай асобнасці. Найчасцей яна разглядаецца як культ. прастора з разнастайнымі тыпамі і формамі «шнуравых» традыцый, якія існавалі і пашыраліся рознымі тэмпамі, у розных накірунках і спалучэннях.

На тэр. Беларусі адзначаюцца ўласна матэрыялы Ш.к.к. і асобныя яе элементы ў складзе інш. культур і груп. Яны з'явіліся ў выніку міграцый асобных чалавечых груп – носьбітаў традыцый Ш.к.к., а таксама ў працэсе працяглых доўгатэрміновых і міжрэгіянальных кантактаў. Датуюцца ў межах 1-й пал. 3-га – 2-й чв. 2-га тыс. да н.э. Знойдзены характэрныя для агульнаеўрап. гарызонту Ш.к.к. адзінкавыя рэшткі амфар, кубкаў і каменных свідраваных сякер тыпу А, а таксама некаторыя інш. матэрыялы, якія можна атаясамліваць з класічнай Ш.к.к. Аднак у пераважнай сваёй большасці рысы Ш.к.к. адзначаюцца ў спецыфічных рэгіянальных культурах, групах і тыпах помнікаў, у матэрыяле якіх элементы Ш.к.к. моцна змяніліся і сінтэзаваліся. Сярод такіх утварэнняў: сярэднедняпроўская культура (Бел. Падняпроўе) і блізкія да яе помнікі ў Прыпяцкім Палессі, помнікі ў Зах. Палессі, групы помнікаў тыпу Бершты–Русакова і падгорнаўскага тыпу на Бел. Панямонні, паўн.-бел. культура на Бел. Падзвінні. Помнікі са шнуравой керамікай у Прыпяцкім Палессі аб'ядноўваліся некаторымі даследчыкамі ў групу/культуру палескай шнуравой керамікі.

Акрамя выпадковых знаходак, адзначаюцца курганныя і грунтавыя могільнікі альбо асобныя пахаванні, якія здзяйсняліся па абраду трупапалажэння альбо трупаспалення, сляды кароткачасовых паселішчаў. Некаторыя паселішчы паўн.-бел. культуры (*Асавец, Крывіна*), Палесся (*Камень*-8, *Азярное*-2Б) размяшчаліся на мяжы вады і берага, а з наступленнем больш вільготнага перыяду затапліваліся вадой і пакрываліся торфам. Знойдзены сляды гасп. ям, слупавых наземных і паўзямлянычных жытлаў з адкрытымі агнішчамі. Насельніцтва карысталася керамічнымі гаршкамі, кубкамі, міскамі, вазамі, амфарамі, шматлікімі тыпамі каменных свідраваных, крамянёвых шліфаваных сякер, наканечнікаў стрэл, дроцікаў і коп'яў, нажоў, сярпоў, каменнымі шліфавальнымі пліткамі, вырабамі з костак, рога і інш. Посуд аздабляўся шнуравым і «вусеневым» арнаментам, пракрэсленымі лініямі, лінейным штампам, наколамі, зубчатым арнаментам. На позніх этапах носьбіты сярэднедняпроўскай культуры пачынаюць ужываць металічныя вырабы (зброя, упрыгажэнні), змяшчаюць у некаторыя пахаванні прывазныя бурштынавыя падвескі, фаянсавыя і шкляныя пацеркі. Адзінкавыя металічныя вырабы знойдзены на паселішчах паўн.-бел. культуры.

*Літ.*: Артеменко И.И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967; Березанская С.С. О так называемом общеевропейском горизонте культуры шнуровой керамики Украины и Белоруссии // СА. 1971. № 4; Свешнiков I.К. Історія населення Передкарпаття, Поділля і Волині в кінці III – на початку II тисячоліття до нашої ери. Київ, 1974; Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Минск, 1976; Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Крывальцэвіч М.М. Азярное 1 – паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся. Мінск, 1999; Яго ж. «Шнуравы гарызонт» на Беларусі: праблемы ідэнтыфікацыі і генезіса // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. Poznań, 2001; Яго ж. Беларускае Палессе ў перыяд пераходу ад неаліту да эпохі бронзы: праблемы і перспектывы археалагічнага вывучэння // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004; Яго ж. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22; Яго ж. Могільнік сярэдзіны III – пачатку II тысячагоддзяў да н.э. на Верхнім Дняпры – Прорва 1. Мінск, 2006; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008; Czebreszuk J. Schyłek neolitu i początki epoki brązu w strefie południowo-zachodniobałtyckiej (III i początki II tys. przed Chr.). Alternatywny model kultury. Poznań. 2001; Buchvaldek M., Strahm Ch. Die kontinentaleuropäischen Gruppen der Kultur mit Schnurkeramik // Praehistorica, T. 19, Praha, 1992; Gimbutas M. The Kurgan Culture and the Indo-Europeanization of Europe. Washington, 1997; Kryvaltsevich M., Kalechyts A. Some «A-horizon» components of the Early Corded Ware Culture in Western Belarus // «Lietuvos Archeologija». 2000. № 19; Machnik J. Krąg kulturowy ceramiki sznurowej // Prahistoria Ziem Polskich. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk. T. 2. Neolit.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**ШО**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў 2-й пал. 10–11 ст. каля в. Шо Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. За 0,9 км на У ад вёскі, у лесе, справа ад дарогі на в. Ліпава. 45 насыпаў выш. 1–3 м, дыям. 4–10 м. У 1939 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч даследавалі 16 курганоў. Абследавалі ў 1972 М.А.Ткачоў, у 1981 Л.У.Дучыц. Пахавальны абрад – трупапалажэнне ў падкурганных ямах (15), на гарызонце (1). Пры мужчынскіх пахаваннях знойдзены сякеры, наканечнікі коп'яў, крэсіва, фібулы, бронзавыя бранзалеты, арабскі дырхем (ці яго імітацыя), гліняныя гаршкі. У пахаванні хлопчыка (7–9 гадоў) былі выяўлены сякера, нож, падкавападобная фібула, бранзалет, пярсцёнкі, рэшткі наборнага пояса (складаўся са спражкі «сэрцападобнай» формы, круглых і сэрцападобных накладак з рэльефным арнаментам), гаршчок. Побач з ім знаходзіўся чэрап барана. Пры жаночых пахаваннях выяўлены ўпрыгажэнні, у т.л. вітыя бронзавыя бранзалеты з завязанымі канцамі, шкляныя і залаташкляныя пацеркі розных колераў і гліняныя гаршкі.

*Літ.*: Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. М.; Ленинград, 1945. Вып. 11; Hołubowicz H., Hołubowicz W. Wykopaliska na Wileńszczyźnie w latach 1938 i 1939. Wilno, 1940.

*М.А.Плавінскі.*

**ШПІЛЕ́ЎСКІ** Павел Міхайлавіч (псеўд. Драўлянскі, Знакомы чалавек, Барон Ікс; 12.11.1823, в. Шыпілавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. – 29.10.1861), беларускі і рускі этнограф, фалькларыст, краязнавец, археолаг, пісьменнік, тэатразнавец. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1843), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1847). Працаваў у Варшаўскім павятовым духоўным вучылішчы (1847–52), Пецярбургскім гал. педагагічным ін-це (1853–55), шмат падарожнічаў па Беларусі. У сталічным друку змяшчаў матэрыялы па яе гісторыі і этна-графіі: «Беларускія народныя павер'і» (1846–52), «Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву ў 1600 годзе» (1850), «Даследаванне пра ваўкалакаў...» (1853), «Мазыршчына (3 падарожжа па заходнярускім краі)» (1859), «Паездка ў заходнія губерні» (1860) і інш. Серыя артыкулаў «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» у час. «Пантеон» (1853–56) была адзначана М.Чарнышэўскім, А.Пыпіным і інш. У «Падарожжы па Палессі і Беларускім краі» («Современник», 1853–55) цікавыя звесткі аб гісторыі гарадоў (Брэст, Мінск), мястэчак і вёсак Беларусі, помніках гісторыі і археалогіі, побыце, звычаях народа. У публікацыі «Археалагічная знаходка» апісаў унікальны экспанат Віленскага музея стара-

жытнасцей – кальчугу са старaж.-слав. надпісамі, знойдзеную ў Оршы ў 1856 пры буд. работах. Творы Ш., прысвечаныя Беларусі, сцвярджалі нац. самабытнасць бел. народа, садзейнічалі фарміраванню бел. нац. культуры.

*Тв.*: Археологическая находка // Санкт-Петербургские ведомости. 1857. № 18; Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Санкт-Петербург, 1858.

*Літ.*: Кісялёў Г.В. Пошукі імя. Мінск, 1978; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984. *Г.А.Каханоўскі.*

**ШПО́РА** (ад ням. Sporn шпоршок; старажытнарус. «острог»), элемент рыштунку коннікаў; металічная дужка з шыпам або зубчастым калёсікам (рапейка). Мацавалася да абутку скуранымі каляставымі рамянямі. Выраблялі з жалеза, серабра, золата. У Еўропе атрымала пашырэнне ў сувязі з міграцыямі кельтаў, ад іх запазычана германцамі, праславянамі, балтамі. Найстаражытнейшая Ш. знойдзена ў курганным пахаванні 5 ст. да н.э. каля Брэзье ў Славеніі. У Беларусі з'явілася ў раннім жал. веку. Вядома каля 20 Ш. 1-га тыс. н.э. ў выглядзе невял. жал. дужкі з вострым канічным шыпам і адагнутымі вонкі кручкамі на канцах. Іх насілі на адной назе. Самая старaж. латэнская жал. Ш. 1 ст. да н.э. знойдзена на гарадзішчы *Чаплін*. Ш. рымскага часу (3–4 ст.) выяўлены таксама ў Чапліне, на гарадзішчах *Дзявічкі, Дзедзілавічы, Лабеншчына*, фр-т рымскай жал. імпартнай Ш. 2–3 ст. – у могільніку *Дружба* (Скарбічы), 3–5 ст. каля вёсак *Тайманава, Шчаткава*. Ш. 6–7 ст. (4 цэлыя і палавінка з шыпам) вядомы па раскопках помнікаў *банцараўскай культуры* каля в. *Гарадзішча* (Мядзельскі р-н) і *Некасецк*, гарадзішча *Стары Шклоў*, самых ранніх доўгіх курганоў *Дарахі* (Гарадоцкі р-н). У 8–9 ст. у Беларусі з'явіліся Ш. з загнутымі ўсярэдзіну кручкамі на канцах (Ваўкавыск, Чаплін). Адрозніваюцца па форме Ш. з усх.-літ. курганоў (*Паніззе, Засвір*). У часы Кіеўскай Русі Ш. пашыраны на ўсёй тэр. Беларусі, сталі абавязковым атрыбутам рыштунку ўдзельнікаў конных паядынкаў. Адрозніваліся па даўжыні і форме шыпоў, дужак, петляў, трымальнікаў. Вядомы Ш. 12–13 ст., упрыгожаныя сярэбранымі і бронзавымі насечкамі. Каля 200 экз. Ш. 11–14 ст. выяўлены ў сярэдневяковых пластах гарадоў Брэст (38), Ваўкавыск (55), Мінск (21), Навагрудак (21) і інш. У гэты час вершнікі насілі іх на кожнай назе. Акрамя дарослых, знойдзены дзіцячыя і юнацкія Ш. (Мінск, Навагрудак). У 11–12 ст. Ш. мелі выгляд доўгай дужкі з шыпам у выглядзе конуса або піраміды, часам з шарападобным патаўшчэннем. Мацавалі іх раменьчыкамі за проразі ў расшыраных пласцінках ці заклёпкі на канцах дужак. З 12 ст. пачалі выпрабляць Ш. з увагнутымі плечукамі і шыпам пад вуглом да іх. У 1220–30-х г. у Беларусі і інш. усх.-слав. землях з'явіліся Ш. з рапейкай замест шыпа. Пасля 1300 (магчыма, і раней) гэта форма Ш. выцесніла шыпавыя. Спачатку зубцоў у калёсіку было не больш за 10, а пазней – 10–20 і адносна доўгі (4–10 см), злёгку выгнуты трымальнік калёсіка. Дугі Ш. 14–15 ст. паўцыркульна прагнутыя, часта мелі каленчаты перагіб у апошняй трэці іх даўжыні. Трапляюцца Ш. з трымальнікам, адагнутым не ўніз, а ўверх, а таксама з надпятачным выступам, які тармазіў скальжэнне Ш. ўздоўж задніка. Ш. 14–17 ст. тыпалагічна блізкія агульнаеўрап. формам. Пісьмовыя крыніцы 16–17 ст. паведамляюць, што ў гэты час у Беларусі вядомы некалькі відаў Ш., якія рамеснікі-пабрайцары выраблялі на высокім маст. узроўні: «остроги позлацаные», «остроги капланские по-краковски», «остроги з ботами сафьяновыми». Упамінаюцца і «остроги простые». У 17–20 ст. Ш. атрымалі шырокае выкарыстанне ў кавалерыі і коннай артылерыі.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси X–XIII вв. // САИ. 1973. Вып. Е1–36; Перхавко В.Б. Появление и распространение шпор на территории Восточной Европы // СА. 1978. № 3. *В.Б.Перхаўка.*

**ШТУ́ЧНЫЯ ДАМЕ́ШКІ**, спецыяльныя збядняючыя матэрыялы неарганічнага і арганічнага паходжання, якія ганчары дабаўлялі ў сырцовую гліну. У выніку атрымлівалі фармовачныя (керамічныя) масы, прыгодныя для вырабу пасудзін. Для старaж. ганчарства на тэр. Беларусі характэрна выкарыстанне мінеральных Ш.д. Арганічныя Ш.д. амаль не ўжываліся. Адзінкавыя зярняткі культ. злакаў, а таксама фасфаты, якія сустракаюцца ў складзе цеста некаторых пасудзін ранняга жал. веку Бел. Падняпроўя і Палесся, на тэхналагічныя ўласцівасці фармовачных мас не ўплывалі і выконвалі, верагодна, рытуальныя функцыі. Старaж. ганчары на тэр. Беларусі ў якасці Ш.д. выкарыстоўвалі жарству крышталічных парод, шамот, гліністы паглынальнік, здрабнёную балотную жал. руду, пясок. Ужыванне ганчарамі жарствы зафіксавана з 3-га тыс. да н.э. па ўсёй тэр. Беларусі, шамота – у Прыпяцкім Палессі з 1-й пал. 2-га тыс. да н.э. Жарству атрымлівалі метадам здрабнення гранітных парод. У якасці матэрыялу для атрымання шамоту ўжывалі тоўчаны чарапок. Здрабнёную жал. руду сталі выкарыстоўваць у Падняпроўі і на Палессі не раней 4–3 ст. да н.э. Рэцэпты з ужываннем гліністага паглынальніка і пяску ў раннім жал. веку і раннім сярэдневякоўі вядомы толькі для Прыпяцкага Палесся. Для ганчарства эпохі жал. веку і ранняга сярэдневякоўя на тэр. Беларусі характэрна выкарыстанне здрабнёнага паглынальніка (шамот, балотная жал. руда). Асабліва шырокае выкарыстанне ён атрымаў пры вырабе высакаякаснага глянцаванага і танкасценнага посуду. У перыяд ранняга жал. веку (8–3 ст. да н.э.) фарміруецца агульная тэхналагічная схема для ганчарства розных рэгіёнаў сучаснай Беларусі (выкарыстоўвалася гліна, жарства і шамот). У Бел. Падняпроўі і ў паўн. рэгіёнах Беларусі перавагу ад-

давалі жарстве, а ў ганчарстве Прыпяцкага Палесся асн. ролю выконваў шамот. Агульная колькасць Ш.д. у складзе фармовачнай масы залежала, перш за ўсё, ад тлустасці гліны, але амаль ніколі не перавышала 20%.

*Літ.:* Дубицкая Н.Н. Керамическое производство Белорусского Поднепровья в VIII в. до н.э. – V в. н.э. Минск, 2002; Яе ж. Производство керамической посуды населением Припятского Полесья в эпоху железа и раннего средневековья. Минск, 2007. *Н.М.Дубіцкая.*

**ШТЫ́ХАЎ** Георгій Васілевіч (н. 14.7.1927, в. Старая Беліца Гомельскага р-на), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1983), праф. (1987). Скончыў БДУ (1956). З 1962 у ІГ НАН Беларусі (з 1981 заг. сектара, у 1988–2000 – аддзела, з 2001 гал. навук. супрацоўнік). Вывучае стараж. гарады Полацкай зямлі і курганныя могільнікі ранняга сярэдневякоўя паўн. і цэнтр. Беларусі. Праводзіў археал. даследаванні Полацка, Віцебска, Заслаўя, Барысава, Лукомля, Лагойска, Копысі, Мінска, гарадзішча і паселішча на р. Менка. Вывучыў больш за 300 курганоў Полаччыны. Лаўрэат Дзярж. прэміі Беларусі (1990).

*Тв.:* Галасы далёкіх продкаў. Мінск, 1968; Археологическая карта Белоруссии: памятники железного века и эпохи феодализма. М., 1971; Древний Полоцк IX–XIII вв. Минск, 1975; Города Полоцкой земли IX–XIII вв. Минск, 1978; Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX–XIII вв.). Минск, 1978; Ажываюць сівыя стагоддзі. Мінск, 1982; Крывічы: па матэрыялах раскопак курганоў у паўночнай Беларусі. Мінск, 1992; Гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да канца XIII ст. М., 1994; Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі. Мінск, 2002; Курганны могільнік Ізбішча–Дзвінаса // МАБ. 2008. № 16; Археолагі дапаўняюць летапісцаў. Мінск, 2009.

*Літ.:* Археалогія эпохі сярэднявечча: да 80-годдзя з дня нарадж. Г.В.Штыхава // МАБ. 2008. Вып. 15.

*В.І.Шадыра.*

**ШУКЕ́ВІЧ** Вандалін Аляксандравіч (10.12.1852, в. Нача Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. – 1.12.1919), беларускі археолаг, антраполаг, краязнавец і этнограф. Чл.-кар. Кракаўскай АН. Адукацыю атрымаў у Вільні. З 1872 жыў у Начы, заснаваў агранамічны гурток маладых гаспадароў. З 1883 даследаваў курганныя і бескурганныя могільнікі каля вёсак Нача, Пузелі (Пузельская гара), Апонаўцы, Гаворскія, Тоўпішкі, Сабакінцы (Першамайская), Клябанія (Папяржыня), Нарбутова, Дварчаны, Вензаўшчына, Сырні, Чэрнішкі. Толькі на тэр. Лідскага пав. даследаваў 120 каменных магіл, да 1915 абследаваў 170. Першы з бел. археолагаў раскапаў 16 курганоў і 376 каменных магіл тыпу жальнікаў 13–14 ст. Вёў раскопкі каля Віцебска, Лепеля, Радашковічаў, воз. Дрысвяты. Апублікаваў у польскіх часопісах працы «Музей Федаровіча» (1900), «З мінулага Літвы» (1906), «Успаміны з года 1863» (1907), «Даўнія каралеўскія лясы ў Літве» і «Двары, замкі і палацы» (1911), «Нарысы з Белай Русі» (1912), «Возера Дрысвяты» (1913) і інш. Першы з бел. археолагаў пачаў рабіць аналізы стараж. знаходак у супрацоўніцтве са спецыялістамі-хімікамі. Запісаў шмат легенд і паданняў пра помнікі даўніны. Імкнуўся прасачыць эвалюцыю пахавальнага абраду ад эпохі латэна да часоў ВКЛ. Першы ўзняў праблему даследавання Чорнай Русі як гіст. з'явы, надаваў асаблівае значэнне геаграфічнаму фактару яе засялення, спрабаваў даць прыкладную храналогію змены культур гэтага рэгіёна. Ш. удзельнічаў у рабоце 9-га археал. з'езда ў Вільні (1893). Быў чл. Віленскага т-ва сяброў навукі і Варшаўскага краязнаўчага т-ва. Частку матэрыялаў са сваёй багатай археал. калекцыі перадаў у музеі Кракава, Пецярбурга, Масквы, Вільні. Пахаваны на радзіме.



*Г.В.Штыхаў.*

*Тв.:* Реферат об археологических местностях в Лидском и Трокском уездах // Тр. IX АС. Вильна, 1893; Wykopaliska w pow. Lidzkim // Tygodnik ilustrowany. 1885. № 1; Kurhany. Kamienne w powiecie Lidzkim (gub. Wileńska) // Swiatowit. 1899. T.1; 1902. T.4; Przedmióty bronzowe znalezione nad Niemnem i Mereczanką // Там жа. 1899. T. 1.

*Літ.:* Спицын А.А. Раскопки В.А.Шукевича // Изв. имп. археол. комиссии. Санкт-Петербург, 1909. Вып. 29; Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мінск, 1984; Яго ж. Прадвесне навукі. Мінск, 1990; Talko-Hryncewicz J. Wandalin Szukiewicz jako prehistoryk Litwy // Wiadomości Archeologiczne. Warszawa, 1920. T. 5, z. 1–2.

*Г.А.Каханоўскі.*

**ШУРПА́ТАЯ КЕРА́МІКА**, аблітая кераміка, від ляпнога посуду з шурпатасцю на паверхні. Сустракаецца на тэр. бел.-літ.-латышскага памежжа ў эпоху жалеза і ранняга сярэдневякоўя. Ш.к. падзяляецца на раннюю і познюю. Пасудзіны 1-й групы па сваёй форме нагадваюць посуд культуры штрыхаванай керамікі. Пад слоем шурпатасці часта бачны сляды штрыхоўкі. Тонкі слой густой і тлустай гліны, змяшанай з пяском, наносіўся на паверхню штрыхаванага посуду і паўторна абпальваўся. Такая кераміка пранікала на тэр. Беларусі з Літвы ў 2-й чв. 1-га тыс. н.э. Пасудзіны 2-й групы маюць большую шурпатасць, іх вонкавыя сценкі дадаткова пакрываліся тоўстым слоем гліны. Частка пасудзін мае сярэднія памеры і нагадвае позне формы штрыхаванага посуду. Другая іх частка – вял. вёдрападобныя пасудзіны выш. да 0,5 м, з таўшч. сценак да 2 см. Характэрны для Літвы, Латвіі і прылягаючых тэр. Беларусі сяр. – 2-й пал. 1-га тыс. н.э. Прынцып вырабу посуду з шурпатай паверхняй вядомы яшчэ з канца эпохі бронзы ў Павісленні і Мазовіі. На тэр. стараж. прусаў, паўн.-ўсх. Польшчы і прылеглых раёнаў Літвы Ш.к. з'яўляецца на рубяжы н.э., але тыповая з шурпатай паверхняй кераміка ў Літве, Латвіі і Беларусі распаўсюджваецца пазней.



*К.П.Шут.*



*В.В.Шчаглова.*

Усх. мяжу пранікнення Ш.к. можна правесці па лініі воз. Асвейскае–вусце р. Дзісна–р. Дзісна–Нарачанскі край–басейн Віліі–р. Нёман. На тэр. Беларусі Ш.к. знойдзена на гарадзішчы і селішчы Пруднікі, селішчах *Тарылава, Зазоны*. Выяўлена на помніках *Некасецк, Гарані, Гарадзішча, Малышкі, Кашчэлічы, Васькаўцы, Каменка, Варонча* і інш. Самы ўсх. пункт, дзе зафіксавана Ш.к., – селішча *Ізбішча*. Знікла са з'яўленнем ганчарнага посуду.

*Літ.*: Даугудис В. Некоторые данные о хронологии и происхождении керамики с шероховатой поверхностью в Литве // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Васкс А.В. Керамика эпохи бронзы и раннего железа Латвии. Рига, 1991; Медведев А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тыс. до н.э. – 5 в. н.э.). Минск, 1996; Шадыро В.И. Белорусско-литовско-латышское порубежье в эпоху железа и раннего средневековья (этнокультурные аспекты) // Is baltu kulturos istorijos. Vilnius, 2000.

*В.І.Шадыра.*

**ШУТ** Кліменцій Пятровіч (1925, Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. – 7.1.1969), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1960). У 1960–64 у ІГ АН БССР. У 1959–61 удзельнічаў у рабоце Мінскай археал. экспедыцыі, з 1963 даследаваў гарадзішчы ранняга жал. веку на Пн Беларусі. Даследаваў гарадзішчы Кублічы, Загаваліна Ушацкага, Кастрыца Лепельскага, Урагава, Абрамова Верхнядзвінскага, Новы Болецк Гарадоцкага р-наў, на многіх гарадзішчах правёў шурфоўку (пл. даследаваных археал. аб'ектаў каля 2 тыс. м²). Адкрыў і ўвёў у навук. ўжытак больш за 10 археал. помнікаў. Падрыхтаваў археал. карту паўн. Беларусі са спісам гарадзішчаў.

*Тв.*: Обувь древнего Минска: (по археол. материалам) // Вопросы истории: материалы IX конф. молодых ученых. Минск, 1965; Городище Дворище // Вопросы истории и археологии. Минск, 1966; Памятники раннего железного века на севере Белоруссии // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Городища эпохи раннего железа на северо-западе Белоруссии // Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР (нояб. 1967 г.). Минск, 1967; Городище Кубличи Ушачского района // Древности Белоруссии. Минск, 1969.

*В.І.Шадыра.*

**ШУ́ТАЎ** Сяргей Сяргеевіч (5.7.1906, в. Новы Быхаў Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл. – 12.9.1972), беларускі краязнавец. Скончыў медыцынскі ф-т БДУ (1929). Працаваў урачом у Клімавічах (1929), на Далёкім Усходзе (1931–33). З 1933 у Ін-це прафесійных захворванняў (Ленінград). Археал. пошукамі пачаў займацца са школьных гадоў, збіраў калекцыю крамянёвых вырабаў. Студэнтам удзельнічаў у рабоце краязнаўчага т-ва БДУ, прымаў удзел у абследаванні помнікаў, цесна супрацоўнічаў з археолагамі Інбелкульта, быў членам гісторыка-археал. камісіі, потым кафедры археалогіі. У 1925–28 удзельнічаў у шэрагу навук. экспедыцый. Зрабіў важкі ўклад у развіццё бел. археалогіі. Пры яго непасрэдным удзеле адкрыты гарадзішча *Банцараўшчына* пад Мінскам (1925), паселішчы і могільнікі на Прыпяці і Сцвізе (Хільчыцы, Казаргаць, Рычоў, Сямурадцы, Буразь, 1927), Дняпры (Абідавічы, Стары Быхаў, Сялец Халапейскі і інш., 1924–26), Ушачы (Гарані, 1927). Аўтар прац «Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.» (у зб.: Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мінск, 1930. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; разам з М.М.Улашчыкам), «Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны» (там жа, разам з А.Дз.Каваленем).

*Літ.*: Улашчык М.М. С.С.Шутаў – археолаг і доктар // ПГКБ. 1973. № 3.

*В.С.Вяргей.*

**ШЧАГЛО́ВА** Вера Васілеўна (н. 29.8.1922, с. Тахта Стаўрапольскага краю, Расія), беларускі палеантолаг, археазаолаг. Скончыла Ташкенцкі дзярж. ун-т (1944). Канд. біялагічных навук (1950), дацэнт (1955). Працавала дацэнтам, заг. кафедры ў БГУ, старшым навук. супрацоўнікам Бел. геолага-разведачнага ін-та. У 1973–78 старшы навук. супрацоўнік ІГ НАН Беларусі. Арганізавала сістэматычныя археазаалагічныя даследаванні ў Беларусі, вывучала мегафауну палеалітычных паселішчаў Беларусі Бранскай вобл. Расіі, рэшткі жывёл з раскопак паселішчаў, гарадзішчаў, гарадоў і замкаў Беларусі. Заклала аснову эталоннай астэалагічнай калекцыі ІГ НАН Беларусі.

*Тв.*: О возрасте фаун Бердыжской и Юровичской палеолитических стоянок // Бюллетень комиссии по изучению четвертичного периода. Минск, 1961. № 26; О фауне антропогеновых млекопитающих Белоруссии // Палеонтология и стратиграфия БССР. Минск, 1963; К вопросу о «мелком мамонте» и подвидовой принадлежности Елисеевичского мамонта // Докл. АН БССР. Минск, 1965. Т. 9, № 11; Тур и крупный рогатый скот торфяниковой стоянки Осовец II (Витебская область БССР) // Там жа. Минск, 1976. Т. 20. № 5; Фауна из могильника культуры шаровидных амфор у поселка Красносельского Волковысского района (разам з М.М.Чарняўскім) // Там жа. Минск, 1976. Т. 20. № 7; Жывёлагадоўля і паляванне ў жыцці насельніцтва Маскавіцкага гарадзішча (X–XIII стст.) (разам з Л.У.Дучыц) // ВАНБ. 1987. № 2; Роль охоты в снабжении мясом населения территории Беларуси в X–XIV вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мінск, 1993; О своеобразии костных остатков из раскопок Минска в 1985 г. // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Материалы о животноводстве и охоте на территории Северной Беларуси в средние века (у сааўт.) // Там жа. Мінск, 2006. № 21.

*А.А.Разлуцкая.*

**ШЧА́ТКАВА**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і селішчы каля в. Шчаткава Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.

Гарадзішча за 1 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка авальная, памерамі 120 × 75 м, з напольнага боку ўмацавана 2 валамі і равамі. Унутраны вал выш. каля 3,5 м, шыр. 12 м, падсыпаўся не менш як 6

разоў, умацоўваўся глінай. Вонкавы вал выш. 1,2 м, шыр. 5 м, мае 3 падсыпкі. Гарадзішча абследаваў у 1930 А.М.Ляўданскі. Даследавалі ў 1959 Я.Г.Краскоўская (36 м²), у 1963 Л.Д.Побаль (372 м²), у 2005 А.У.Ільюцік (36 м²). Выяўлены ямы ад слупоў і гасп. пабудоў, рэшткі агнішча, частка паўзямлянкі, заглыбленай у мацярык на 0,5 м. Знойдзены фр-ты ляпных гладкасценных, штрыхаваных і глянцаваных пасудзін (гаршкі і міскі з невысокім венчыкам, слабапрафіляваным тулавам і плоскім днішчам), мілагроідныя формы з ямкавымі ўціскannямі па аснаванні шыйкі і фр-ты венчыкаў з зарубінецкімі рысамі – насечкамі па краі. Сярод знаходак жал. рыбалоўны кручок, нож, шыла, шпілька з грыбападобным навершам, падкаваападобная фібула, бронзавыя позналатэнская фібула, трапецападобная падвеска, дэкарыраваная кропкавымі албіткамі, пярсцёнак, упрыгажэнне з грыбападобнымі навершамі, фр-ты гліняных тыгляў, праслiцы, грузікі, пацеркі, у т.л. 2 шкляныя антычныя, каменныя бруски і крамянёвыя прылады працы. Датуецца апошняй чв. 1-га тыс. да н.э. – 1 ст. н.э.

С е л і ш ч а - 1 размешчана з усх. боку гарадзішча, памеры 200 × 300 м. У 1963 Л.Д.Побаль даследаваў 924 м². Выяўлены 2 паўзямлянкі. Першая паўзямлянка памерамі 3,7 × 3,3 м, ва ўсх. куце была размешчана печ-каменка. Знойдзены жал. нож і шпілька, фр-ты слабапрафіляваных гаршкоў. Другая паўзямлянка памерамі 3 × 3 м, у паўд.-ўсх. частцы ўваход (2 прыступкі даўж. 0,6 м і шыр. 0,3 м), у паўн.-зах. частцы рэшткі агнішча. У запаўненні знойдзена грубаляпная кераміка. У культ. пласце зафіксавана некалькі ям ад слупоў і гасп. пабудоў, знойдзены фр-ты ляпной керамікі гладкасценнай і з расчосамі, жал. цвікападобная шпілька і шпора. Матэрыялы адносяцца да зарубінецкай, кіеўскай і калачынскай культур жал. веку і ранняга сярэдневякоўя. Таксама на тэр. селішча сабраны ляпная кераміка эпохі бронзы, фр-т каменнай сякеры, крамянёвыя прылады працы і кругавая кераміка стараж.-рус. часу.

С е л і ш ч а - 2 за 0,5–0,8 км на ПнЗ ад гарадзішча, на правым беразе безыменнай ракі каля ўпадзення яе ў р. Бярэзіна, за 0,5 км на Пн ад в. Панюшкавічы. Памеры каля 300 × 100 м. Выявіў і абследаваў у 1962 і 1963 Л.Д.Побаль, у 2004 А.У.Ільюцік даследавала 40 м². Культ. пласт 0,2–0,6 м. Зафіксавана выбрукоўка з камянёў у яме амаль квадратнай формы памерамі 0,3 × 0,3 м, глыб. 0,2 м. Яма запоўнена чорным гумусам з вуголлем і попелам. У культ. пласце знойдзены фр-ты ляпной (гладкасценная, штрыхаваная, з расчосамі і глянцаваная) і кругавой керамікі, загатоўка бронзавай фібулы з арнаментам на пляскатым канцы дроту, кальцыніраваныя косткі. Адносіцца да верхнеднепроўскага варыянта кіеўскай культуры, датуецца 2-й чв. 1-га тыс. Да эпохі неаліту адносяцца крамянёвы скрабок і ляпная кераміка з грабеньчатым арнаментам. Фр-ты кругавой керамікі датуюцца к. 12 – пач. 13 ст.

С е л і ш ч а - 3 за 0,7–0,8 км на ПнЗ ад селішча-2, на левым беразе безыменнай ракі каля ўпадзення яе ў р. Бярэзіна. Памеры 500 × 100 м. Абследаваў у 1963 Л.Д.Побаль.

*Літ.:* П о б о л ь Л.Д. Поселения железного века около д. Щатково Бобруйского района // Белорусские древности. Минск, 1967. *Л.Д.Побаль, А.У.Ільюцік.*

**ШЧАЧЫНÓВА**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, селішчы эпохі сярэдневякоўя каля в. Шчачынова Гродзенскага р-на.

Першыя археал. матэрыялы ў ваколіцах вёскі знойдзены В.Галіцкім у 1937 (захоўваюцца ў Дзярж. археал. музеі ў Варшаве). Сярод іх крамянёвыя пласціны, скрабок, двухпляцовачны монафрантальны нуклеус свідэрскай культуры фінальнага палеаліту. У 1999 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза лакалізавалі на высокай правабярэжнай тэрасе р. Нёман насупраць зах. боку вёскі стаянку і селішча памерамі каля 120 × 60 м. Помнік абмежаваны з З і У ярамі, па ўсх. частцы праходзіла дарога да ракі. Знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы (у т.л. нуклеус) і фр-ты кругавога посуду. Выяўлены матэрыял датуецца фінальным палеалітам, познім неалітам–бронзавым векам, сярэдневякоўем і Новым часам.

У 2008 у сувязі з будаўніцтвам каля вёскі Гродзенскай ГЭС В.Л.Лакіза абследаваў зону земляных работ. У выніку лакалізаваны некалькі новых месцазнаходжанняў крамянёвых вырабаў і ганчарнай керамікі, помнікі з матэрыяламі каменнага веку і сярэдневякоўя – «падстанцыя» і «плаціна».

С т а я н к а і с е л і ш ч а «п а д с т а н ц ы я» за паўд. і паўд.-зах. ускраінай вёскі, на верхняй правабярэжнай тэрасе Нёмана, паміж 2 ярамі, на пляцоўцы былой вясковай электрападстанцыі. Даследавана 17 м² на невял. непашкоджаным участку тэрасы на краі буд. пляцоўкі. На глыб. 0,45–0,5 м ад сучаснай дзённай паверхні зафіксаваны і даследаваны аб'ект няправільнай авальнай формы. Выяўлена 48 артэфактаў. Сярод іх 4 фр-ты кругавой керамікі, 43 крамянёвыя знаходкі: абломкі, адшчэпы, пласціны, нуклеус, фр-т рубячай прылады, 2 рэтушаваныя адшчэпы, 2 нажы на пласцінах, скрабок, нарыхтоўка чаранковага крамянёвага наканечніка стралы. Помнік датуецца эпохай фінальнага палеаліту – мезаліту, бронзавым векам (папярэдне) і эпохай сярэдневякоўя.

С т а я н к а і с е л і ш ч а «п л а ц і н а» за паўд. і паўд.-зах. ускраінай вёскі, на ніжняй правабярэжнай тэрасе Нёмана, пры вусці вял. яра. Да будаўніцтва ГЭС плошча помніка была пашкоджана глыбокай траншэяй і шматлікімі ямамі, выкапанымі для здымак маст. фільма пра вайну. Сабрана 38 знаходак, у т.л. крамянёвыя прылады працы і арнаментаваная ганчарная кераміка. Пад час правядзення раскопак у 2008 большая частка помніка

ўвайшла ў зону інтэнсіўных земляных работ, месцамі культ. пласт быў зняты амаль да мацерыка. Закладзены 2 раскопы агульнай пл. 122 м². Адзін раскоп пл. 42 м² на непашкоджаным зах. участку помніка, на схіле тэрасы са значным паніжэннем у бок ракі. Сабрана 66 знаходак. Сярод іх 16 фр-таў ганчарнага посуду, 1 – ляпной керамікі; 49 крамянёвых знаходак – прадуктаў першаснага расшчаплення (абломкі, луска, разнастайныя па велічыні адшчэпы, пласціны, скарыністыя і пласцінчатыя адшчэпы, абпаленыя фр-ты крэменю), нуклеус. Другі раскоп пл. 80 м² закладзены на пашкоджаным усх. участку помніка, бліжэй да русла Нёмана. Розніца вышынь паміж раскопамі каля 2,6 м. Культ. пласт да 0,35–0,4 м. Сабрана 336 знаходак. З іх 290 з крэменю – адбойнікі, нуклеусы, сколы ажыўлення пляцоўкі нуклеусаў, прылады працы; пераважная большасць – прадукты першаснага расшчаплення (абломкі, луска, адшчэпы, пласціны і інш.). Вырабаў з другаснай апрацоўкай 20 экз. – рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, ножападобныя прылады на пласцінах, скрабкі, скрабло, пракрутка, скобля, рубячая прылада, вастрыё. Выяўлены 41 фр-т ганчарнай і 2 – ляпной керамікі, многія з характэрным для сярэдневякоўя пракрэсленым арнаментам. Помнік датуецца часам ад эпохі мезаліту да бронзавага веку і сярэдневякоўя.

Помнікі будуць знішчаны пад час будаўніцтва ГЭС.

*Літ.*: Абухоўскі В.С. Справаздача аб палявых даследаваннях у 1999 г. / Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Арх. № 1920; Яго ж. Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003; Лакіза В.Л. Навуковая справаздача № 1 аб выкананні ў 2008 г. археалагічных даследаваннняў (нагляду і раскопак) помнікаў археалогіі на падрыхтоўчым перыядзе будаўніцтва Гродзенскай ГЭС (на адведзенай для РУП «Гроднаэнерга» ў пастаяннае карыстанне зямлі) / Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Арх. № 2607.

*В.Л.Лакіза.*

**ШЧЫТ**, від засцерагальнага ўзбраення, прызначаны для абароны ваяра ад зброі праціўніка на адлегласці. Ш. быў самым простым па тэхналогіі вытворчасці і адначасова высокаэфектыўным, а таму самым распаўсюджаным відам засцерагальнага ўзбраення з найстаражытнейшых часоў да канца сярэдневякоўя. З прычыны таго, што Ш. цалкам ці амаль цалкам рабіліся з арганічных матэрыялаў, найбольш стараж. ўзоры не прысутнічаюць у наяўных археал. матэрыялах. Меркаваць аб форме Ш. насельніцтва тэр. Беларусі можна з 5–7 ст., калі ў культуры *усходнелітоўскіх курганоў* распаўсюджваюцца Ш. з *умбонамі* паўсферычнай ці цыліндра-канічнай формы з палямі, упрыгожанымі па краі «жамчужным» арнаментам.

У 10 ст. на тэр. Беларусі былі пашыраны круглыя Ш. дыям. да 1 м, якія маглі быць плоскімі ці злёгку выпуклымі. У цэнтры такога Ш. рабілася круглая адтуліна, якую закрываў умбон, на адваротным баку мацавалася планка ці жал. дзяржанне, за якую трымаўся ваяр. У 12–13 ст. адбывалася памяншэнне памеру круглага Ш. Замест ранейшага жал. ці драўлянага дзяржання круглыя Ш. гэтага часу мелі «мяккае» дзяржанне, зробленае з некалькіх раменьчыкаў.

Каля 1000 ва ўсёй Еўропе распаўсюджваюцца Ш. міндалепадобнай формы. Іх з'яўленне прынята звязваць з павышэннем ролі кавалерыі і павелічэннем вагі засцерагальнага ўзбраення вершнікаў. Гэты працэс не абмінуў і тэр. Беларусі. У 12 ст. міндалепадобныя Ш. пачынаюць рабіцца прафіляванымі – выгнутымі ўздоўж прадольнай восі з мэтай павелічэння іх трываласці. У 13 ст. ў выніку спрамлення верхняга края міндалепадобнага Ш. фарміруецца Ш. трохвугольнай формы. У к. 12 ст. на тэр. Беларусі з'явіліся раннія мадыфікацыі *павезы*.

Найбольшая разнастайнасць у форме Ш. назіраецца ў 14–16 ст. У гэты час Ш. традыцыйна падзяляліся на пяхотныя і кавалерыйскія, якія часам называліся «тарчамі». Пяхотныя Ш. былі прадстаўлены вялікімі павезамі. У кавалерыі ўжываліся круглыя і міндалепадобныя Ш., павезы, трохкутныя і складанапрафіляваныя тарчы, па форме блізкія да чатырохвугольніка альбо з закругленым ніжнім краем, асіметрычныя гусарскія тарчы, падобныя на птушынае крыло. З правага боку трохвугольных, складанапрафіляваных і гусарскіх тарчаў маглі вырабляцца спецыяльныя выцінкі для кап'я. Найчасцей Ш. выконваліся з дрэва, аднак маглі пакрывацца бляхай, скурай ці тканінай, размалёўвацца, у т. л. змяшчаць гербы ўладальніка. Гусарскія тарчы 2-й пал. 16 ст. часам аздабляліся птушынымі пер'ямі ці нават цэлымі крыламі. Круглыя Ш. маглі выкоўвацца з металу і багата арнаментавацца ў рэнесансным стылі («пуклеры», рондашы) альбо, падобна ўсх. Ш., вырабляцца з канцэнтрычна скручаных прутоў, пераплеценых шнурамі (калканы). На працягу 17 ст. Ш. паступова выйшлі з баявога ўжытку.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX–XIII вв. // САИ. 1971. Вып. Е1–36; Плавінскі М.А. Засцерагальнае ўзбраенне IX–XIII ст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мінск, 2008; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**ШЧЫ́ТНАЕ**, археалагічныя помнікі – паселішчы і стаянка каменнага веку каля в. Шчытнае Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 позняга мезаліту за 3 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага Дняпра, ва ўр. Бярозавая Града. Выявіў і абследа-

ваў у 1977 У.П.Ксяндзоў. На пл. 50 м² прасочаны культ. пласт таўшч. 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, нажападобныя пласціны, нуклеусы. Датуецца 6–5-м тыс. да н.э.

Паселішча-2 эпохі неаліту за 3 км на З ад вёскі, за 0,25 км на Пд ад паселішча-1. Пл. больш за 500 м². Выявіў і абследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,1–0,2 м. На паверхні сабраны фр-ты ляпных танкасценных гаршкоў, упрыгожаных гарызантальнымі лініямі наколаў, крамянёвыя адшчэпы, нажападобныя пласціны, скрабок, фр-т наканечніка стралы трохвугольнай формы. Датуецца 4–3-м тыс. да н.э.

Паселішча-3 эпохі неаліту за 2,5 км на З ад вёскі, за 0,35 км на ПдУ ад стаянкі. Пл. 1000 м². Выявіў і абследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя нажападобныя пласціны, адшчэпы, скрабкі, наканечнікі стрэл. Датуецца 4–3-м тыс. да н.э.

Стаянка каменнага веку за 2,7 км на З ад вёскі, за 0,2 км на У ад паселішча-2. Пл. 50 м². Выявіў у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,2 м, прасочваецца ў агаленнях. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, нуклеусы. *У.П.Ксяндзоў.*

**ШЫ́ФЕР О́ЎРУЦКІ**, пірафілітавы сланец ружовага, чырвонага і фіялетавага колераў, радовішчы якога знаходзіліся каля г. Оўруч Жытомірскай вобл. (Украіна), у басейнах Жэраў, Норын, Убарць, Уж. Выкарыстоўваўся з эпохі неаліту, асабліва шырока – у сярэдневякоўі. Пашыраны прасліцы, якія выраблялі з Ш.о. ў 10–13 ст. у ваколіцах Оўруча, Кіева, Суздаля і праз бел. землі вывозілі ў Польшчу, Прыбалтыку, паўн. Русь. У Беларусі сляды апрацоўкі Ш.о. выяўлены пры раскопках *Гарадзішча* (Мінскі р-н), у Мазыры (гл. *Мазырская каменярэзная майстэрня*). Прасліцы з Ш.о. часта сустракаюцца на помніках сярэдневякоўя, пры раскопках гарадоў (Брэст, Гомель, Давыд-Гарадок, Мазыр, Тураў). Крыжыкі з яго знойдзены ў Брэсце, Мазыры, Навагрудку, Тураве. Існуе гіпотэза (В.Л.Янін), што ў 12–13 ст. праслiцы з Ш.о. выкарыстоўваліся як дробны плацежны сродак (знойдзены ў *Гараўлянскім манетна-рэчавым скарбе*).

*Літ.*: Рыбаков Б.А. Ремесло Древней Руси. М., 1948; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв). Минск, 1978; Древняя Русь: город, замок, село. М., 1985. *В.Б.Перхаўка.*

**ШЫ́ХАЎ**, археалагічныя помнікі – стаянка і майстэрня каменнага веку каля в. Шыхаў Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.

Стаянка дзяснінскай (верхнедняпроўскай) культуры за 0,5 км на Пн ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Выш. над узроўнем вады 17 м. Пл. каля 5 тыс. м². Выявілі ў 1966 У.Ф.Ісаенка і І.М.Ціханенка, даследаваў 50 м² у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт разбураны ветравой эрозіяй. На глыб. 1,2–1,3 м выяўлены рэшткі 2 агнішчаў, прылады працы з мелавога «сожскага» крэменю: сіметрычныя і асіметрычныя наканечнікі стрэл з пласцін, канцавыя скрабкі, свердлы, праколкі, скоблі і інш. Датуецца 9–7-м тыс. да н.э.

Майстэрня за 0,4 км на Пд ад вясковых могілак. Пл. 300 м². Выявіў у 1977 У.П.Ксяндзоў. У агаленнях сабраны нуклеусы, пласціны, адшчэпы.

*Літ.*: Ксензов В.П. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988. *У.П.Ксяндзоў.*

**ШЭ́БРЫН**, археалагічны помнік – курганны могільнік 8–10 ст. каля в. Шэбрын Брэсцкага р-на. За 0,4 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Мухавец. 13 насыпаў выш. 0,6–1,2 м, дыям. 4–6 м. Вядомы з к. 19 ст., Т.М.Каробушкіна абследавала ў 1980, 1981–83, 1985–86, у 1982 даследавала 2 курганы. Пахавальны абрад – трупапаленне па-за курганом. Знойдзены рэшткі драўлянай канструкцыі даўж. 80 см, шыр. 20 см. На Пд ад яе 2 прамавугольныя (0,8 × 0,2 і 0,4 × 0,2 м) і адна круглая (дыям. 0,2 м) ямы, на 0,4 м запоўненыя вуголлем. У другім кургане на гарызонце на ўсёй плошчы попельна-вугальная пляма таўшч. 3 см, у якой знойдзена грубаляпная таўстасценная кераміка і абпаленая костка чалавека.

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Курганные древности Белорусского Побужья // АО 1982. М., 1984.

*Т.М.Каробушкіна.*




**ЭКІМА́НСКІЯ КРЫЖЫ́**, высечаныя з каменю крыжы ў в. Экімань Полацкага р-на і ў бліжэйшых вёсках. У пач. 20 ст. існавалі 4 крыжы (не захаваліся). Адзін крыж знаходзіўся ў в. Экімань на пагорку, каля царквы св. Георгія; высечаны з шэрага гранітнага валуна, выш. 1,46 м, шыр. 0,25 м. Другі крыж стаяў на старых вясковых могілках, куды перанесены з інш. месца ў пач. 20 ст.; высечаны з шэрага гранітнага валуна, выш. 1,2 м, шыр. 0,8 м. Трэці крыж знаходзіўся каля чыг. ст. Ксты, на скрыжаванні шляхоў; выш. 1,4 м, шыр. 1,2 м. На месцы, дзе ён стаяў, знойдзены чалавечыя косці і чарапы. На крыжы быў надпіс. Чацвёрты крыж са слядамі надпісу стаяў у в. Сітна, у вярхоўі р. Палата, на беразе воз. Сітна, каля чыгункі Віцебск–Полацк. Высечаны з чырвонага гранітнага валуна, быў моцна пашкоджаны.

*Літ.*: Говорский К. Археологические разыскания в окрестностях г. Полоцка // Зап. Рус. археол. о-ва. Санкт-Петербург, 1853. Т. 5; Кайгородов Н. Екиманские древности: (из поездки по Витебской Белоруссии): археол. заметка. Санкт-Петербург, 1912; Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса. Мінск, 1929. *Л.У.Дучыц.*

**ЭКІМА́НЬ**, археалагічны помнік – курганны могільнік крывічоў, каля в. Экімань Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 3 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Банонь. Захаваліся 30 курганоў выш. 0,4–1 м, дыям. 4–8 м, яшчэ адзін – выш. 2 м, дыям. 4–8 м, адзін курган выш. 2 м, дыям. 10 м. Выявіў у 1965, даследаваў 7 курганоў у 1967 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад – трупаспаленне на месцы. У 2 курганах пахаванняў не было. У адным сярод перапаленых касцей былі рэшткі ганчарнага гаршка, жал. нож, ключ і спражка. У вял. кургане, акрамя рэшткаў трупаспалення, знойдзены цуглі, жал. дэталі бізуна, рэшткі кальчугі, абломак наканечніка стралы, жал. спражка і невял. гліняны гаршчок. Магчыма, у кургане пахаваны дружыннік. Датуецца 2-й пал. 10 – пач. 11 ст.

*Літ.*: Штыхаў Г.В. Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X – пачатку XII ст.) // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972. *Г.В.Штыхаў.*

**ЭКСПЕРЫМЕНТА́ЛЬНАЯ АРХЕАЛО́ГІЯ**, метад альбо накірунак археалагічных даследаванняў, які засн. на праверцы, ацэнцы і аналізе археал. тэорый, гіпотэз, меркаванняў шляхам правядзення навук. эксперыменту, найчасцей паўтарэннем альбо спробай паўтарэння стараж. працэсаў, дзеянняў, працэдур і інш. Як правіла Э.а. скіроўвае сваю дзейнасць: на вывучэнне прыёмаў стварэння артэфакта, тэхналагічных працэсаў (адказвае на пытанне, што маглі зрабіць і як рабілі); на праверку археал. гіпотэз; на кантэкстуальнасць (напр., у якіх умовах і як узнікае той ці іншы помнік і як ён разбураецца); на этнаархеалагічнасць і інш. Пры правядзенні тых ці іншых навук. археал. эксперыментаў вялікае значэнне надаецца такім даследчым працэдурам, як кантралюемасць даследавання, адпаведнасць узроўню навук. ведаў, кантэкстуальнасць, этнагр. дасведчанасць і інш. Сярод спосабаў Э.а. актыўна развіваецца трасалогія. Акрамя навуковай у апошнія дзесяцігоддзі становіцца папулярнай музейная, публічна-фестывальная, тэлевізійная і інш. Э.а., заснаваная на формах эфектнай папулярызацыі і стварэння публічных шоу. Першыя археал. эксперыменты на тэр. Беларусі праводзіліся на Краснасельскіх крэменездабыўных шахтах (падлік колькасці затрачанай працы на распрацоўку шахты, тэхналогія вырабу рагавых кайлаў крамянёвымі інструментамі і інш.) (Н.М.Гурына). У апошняе дзесяцігоддзе спробы асваення Э.а. назіраюцца ў сярэдневяковай археалогіі (тэхналогія вырабу і функцыянальная якасць ўзбраення, рэканструкцыя і мадэліраванне стараж. рачных шляхоў і інш.) (А.А.Макушнікаў, Ю.Лупіненка, С.Тарасаў, А.Кіштымаў і інш.).

*Літ.*: Семенов С.А. Развитие техники в каменном веке. Ленинград, 1968; Хейердал Т. Древний человек и океан. М., 1982; Семенов С.А., Коробкова Г.Ф. Технология древнейших производств: Мезолит – энеолит. Ленинград, 1983; Малинова Р., Малина Я. Прыжок в прошлое: Эксперимент раскрывает тайны древних эпох. М., 1988; Воранаў С., Кіштымаў А., Тарасаў С. Дарогамі продкаў. Рэканструкцыя і мадэліраванне старажытных рачных і марскіх шляхоў // БГЧ. 2005. № 1, № 3; Крывальцэвіч М. Эксперыментальная археалогія і перспектывы яе развіцця ў Беларусі // БГЧ. №8 (73). 2005; Coles J. M. Experimental archaeology. London a.o.: Academic Press, 1979; Experimental archaeology, replicating past objects, behaviors and processes. – BAR International Series 1035, Oxford, 2002. Malina J. Metody eksperimentu v archeologii. Praha, 1980. *М.М.Крывальцэвіч.*

**ЭМА́ЛЬ**, шклопадобная застылая маса неарганічнага складу, часам з дадаткам металаў, утвораная ў выніку частковага або поўнага расплаўлення, якая наносілася на металічную або керамічную аснову. Паводле тэхнікі нанясення вылучаюцца выемчатыя і перагародчатыя Э. Выемчатыя Э. (выемкі ў металічнай аснове запаўняліся расплаўленай рознакаляровай эмалевай масай) на тэр. Беларусі вядомы з 2 ст. Знойдзена каля 50 вырабаў (упрыгажэнні, паясны набор, дэталі вопраткі і конскай збруі). Асн. рэгіён распаўсюджання – Падняпроўе, сустракаюцца ў паўн., зах. і цэнтр. Беларусі. Найб. колькасць вырабаў выяўлена на паселішчах кіеўскай культуры *Тайманава* і Абідня, у скарбе з *Краснага Бору*. Сляды мясц. вытворчасці зафіксаваны толькі на паселішчы Тайманава. Трохвугольная бронзавая літая фібула 3–4 ст. з двухкаляровымі эмалевымі ўстаўкамі была знойдзена ў Лагойскім р-не. З Шчучынскага р-на паходзяць фібулы: моцнапрафіляваная з чырвонай і блакітнай Э. і адмысловай аздобай спінкі; трохвугольная з рэдкай праразной кампазіцыяй; моцнапрафіляваная Т-падобная. У Глыбоцкім р-не знойдзены 2 круглыя фібулы-брошкі 3–4 ст. з аднолькавай арнаментальнай кампазіцыяй. Дзве падковападобныя фібулы з дыскамі па краях дугі паходзяць з паўд. Беларусі (Слуцк і Давыд-Гарадок). Недалёка ад Полацка быў знойдзены фр-т ланцуга з праразным арнаментам у выглядзе свастыкі і эмалевай ромбападобнай устаўкай, які адносіцца да сіметрычных ланцугоў межыгорскага тыпу (паводле Г.Ф.Карзухінай). Вылучаюцца 3 этапы развіцця вытворчасці вырабаў з выемчатымі Э.: для 1-га этапу характэрны рэчы невял. памеру без адросткаў і праразных палёў; для 2-га – большыя па памерах рэчы, выкарыстоўванне Э. розных колераў, аздабленне ў выглядзе адросткаў, праразной арнаментацыі; на 3-м этапе распаўсюдзіліся вырабы з багатай праразной арнаментацыяй, але без эмалевых уставак. Паступленне на тэр. Беларусі вырабаў з выемчатымі Э. спыняецца на мяжы 4–5 ст.



*Да арт. **Эмаль**. 1 – звёны ланцуга (в. Палата, Полацкі раён); 2, 3 – фібулы-брошкі (г.п. Глыбокае); 4 – Т-падобная фібула (в. Бесяды, Лагойскі раён); 5 – падковападобная фібула (Гомельская вобласць).*

Тэхніка перагародчатай Э., сутнасць якой заключаецца ў наплаўленні рознакаляровай Э. ў ячэйкі, абмежаваныя перагародкамі, з'явілася ў Візантыі ў 6 ст. На некаторых узорах Э. колькасць перагародак дасягае 50 на 1 см². Візантыйская школа паклала пачатак развіццю майстэрань па вытворчасці перагародчатых Э. з 10 ст. ў паўд. Італіі, Германіі, Сіцыліі, Францыі, Грузіі. У 2-й пал. 11 – пач. 12 ст. эмальерная вытворчасць узнікла ў Старaж. Русі. У 12–13 ст. перагародчатая Э. вядома ў летапісах пад назвай «финифть», «финипт». Даследчыкі выдзяляюць на тэр. Старaж. Русі кіеўскую, разанскую, уладзімірскую і наўгародскую эмальерныя школы. У Беларусі вядома каля 10 прадметаў, вырабленых у тэхніцы перагародчатай Э. Эталон эмальернага мастацтва – створаны ў 1161 майстрам Лазарам Богшай крыж Ефрасінні Полацкай, на якім былі 22 залатыя пласціны з выявамі святых і аздабленне ў тэхніцы перагародчатай Э. Прыкметы існавання эмальернай вытворчасці адзначаны ў Полацку, дзе ў пластах 2-й пал. 12–13 ст. быў знойдзены фр-т залатога вырабу з арнаментам у тэхніцы перагародчатай Э., а таксама залатая фольга, якая выкарыстоўвалася для выкладання перагародак. У вакольным горадзе Навагрудка, у майстэрні ювеліра 2-й пал. 12 – пач. 13 ст., была выяўлена кроплепадобная залатая падвеска, цэнтр. частку якой займала кампазіцыя з перагародчатай Э. На гарадзішчы *Вішчын* у складзе грашова-рэчавага скарбу, схаванага ў сяр. 13 ст., былі знойдзены 2 колты з выявамі птушак, зробленымі ў тэхніцы перагародчатай Э. На гарадзішчы *Капланцы* выяўлены эмалевы абразок-медальён з выявай св. Матфея (Візантыя, 11 ст.). Вядомы знаходкі рэчаў у камбінаванай тэхніцы выемчатай і перегародчатай Э. з Дрысвят, Полацка, ваколіц Мсціслава. Тэхніка перагародчатай Э. амаль знікла ў сяр. 13 ст., адрадзілася ў 17–18 ст.

*Літ.*: Макарова Т.И. Перегородчатые эмали Древней Руси. М., 1975; Корзухина Г.Ф. Предметы убора с выемчатыми эмалями V – первой половины VI в. н.э. в Среднем Поднепровье // САИ. 1978. Вып. Е1–43; Кошман В.И. Образок св. Матфея с перегородчатой эмалью // РА. 2001. № 3; Яго ж. Изделия с перегородчатой эмалью на территории Беларуси // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Обломский А.М. Предметы убора с выемчатыми эмалями на территории лесостепной зоны Восточной Европы (дополнение сводов Г.Ф.Корзухиной, И.К.Фролова и Е.Л.Гороховского) // Памятники киевской культуры в лесостепной зоне России (III – начало V в. н.э.). М., 2007. Вып. 10. Раннеславянский мир; Харитонович З.А., Мяделец А., Кенько П.М. Новые находки изделий с выемчатыми эмалями на территории Беларуси // Археалогія эпохі сярэднявечча: да 80-годдзя з дня нарадж. Г.В.Штыхава // МАБ. 2008. Вып. 15.

*В.І.Кошман, З.А.Харытановіч.*

**ЭНЕАЛІ́Т** (ад лац. aeneus медны + грэч. lithos камень), эпоха ў развіцці культуры чалавецтва, калі адначасова з каменнымі, крамянёвымі прыладамі пачынаюць шырока выкарыстоўвацца медныя вырабы. Адпавядае таксама тэрмінам «халкаліт» (ад грэч. chalkos медзь + lithos камень) і «медны век», якія ў літаратуры ўжываюцца радзей. Адзнакі наступлення новай эпохі ў металургічнай сферы – з'яўленне каваных і адлітых у адкрытых формах вырабаў з медзі без штучных дамешкаў, распаўсюджанне прылад для сячэння, ударнага дзеяння (сякеры, цёслы, долаты, матыкі, малаткі і інш.), колюча-рэжучых прылад (кінжалы, наканечнікі коп'яў і інш.). У паказчыкі наступлення Э. многія даследчыкі ўключаюць адпаведныя змены ў эканоміцы і сацыяльных адносінах, фарміраванне новых сістэм абменных сувязей, культ. дасягненні і інш. У Еўропе энеалітычныя культуры існавалі ў перыяд 6–3-га тыс. да н.э. Многія еўрап. археолагі энеалітычны час уключаюць у неаліт або разглядаюць яго як пераходны перыяд ад неаліту да бронзавага веку. Зрэдку энеалітычнымі лічаць *лейкападобных кубкаў культуру* (4000–2700 да н.э.) і *шарападобных амфар культуру* (сяр. 4-га – к. 3-га тыс. да н.э.), асобныя помнікі і элементы якіх знойдзены на тэр. Беларусі. У Палессі прысутнічаюць некаторыя адзнакі энеалітычнай *трыпольскай культуры* (к. 6-га – пач. 3-га тыс. да н.э.).

*Літ.*: Энеолит Восточной Европы. Куйбышев, 1980; Энеолит СССР // Археология СССР. М., 1982; Ковалева И.Ф. Север Степного Причерноморья в энеолите–бронзовом веке. Днепропетровск, 1984; Васильев И.Б., Синюк А.Т. Энеолит Восточно-Европейской лесостепи. Куйбышев, 1985; Рындина Н.В. Древнейшее металлообрабатывающее производство Восточной Европы. М., 1998; Рындина Н.В., Дегтярева А.Д. Энеолит и бронзовый век. М., 2002.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**ЭНКАЛПІЁН**, металічны (найчасцей бронзавы) двухстворкавы нагрудны крыж-складзень, выкананы ў тэхніцы ліцця. Памеры ад 2,2 × 4 да 7 × 12 см. Э. маюць вушка-агалоўе, канцы крыжа бываюць закругленыя, пашыраныя, прамыя, з кроплепадобнымі выступамі ці крыжападобныя. Звычайна на вонкавым баку ў сяродкрыжжы – рэльефная ці схематычная выява Хрыста, на адваротным – Божай Маці з дзіцем, на канцах крыжа – выявы святых (рэльефныя ці графічныя), часта маюць надпісы. Вядомы Э. рэльефныя, рэльефна-гравіраваныя і гравіраваныя (у асноўным з чарненнем), некаторыя аздоблены эмалямі, інкрустацыяй серабром і інш. Вядомы ў еўрап. краінах у 10–15 ст. У Стараж. Русі большасць Э. выраблялася ў Кіеве. На тэр. Беларусі Э. 11–13 ст. знойдзены пры раскопках у Полацку, Мінску, Друцку, Мсціславе, Віцебску, Магілёве, Гродне; на гарадзішчах *Дрысвяты* і *Маскавічы*, могільніку *Курганне* і інш.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель: (кресты и иконки Белоруссии) // СА. 1974 № 3; Дучыц Л.У. Крыжы-энкалпіёны // Мастацтва Беларусі. 1983. № 6.

*В.М.Ляўко, Л.У.Дучыц.*

**ЭПІГРА́ФІКА** (ад грэч. ephigraphe надпіс), спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае надпісы на прадметах і матэрыялах, не прызначаных для пісьма. Як навука ўзнікла ў эпоху Адраджэння ў сувязі з вывучэннем антычных надпісаў. Методыка вывучэння эпіграфічных помнікаў была закладзена ў 18–19 ст. Сучасная методыка вывучэння (метад мікрадаследавання) уключае ў сябе якасную фіксацыю помніка (малюнкавую і лічбавую), вывучэнне прадмета і надпісу на ім з дапамогай шырокага кола навук (палеаграфія, археалогія, мовазнаўства, этнаграфія і інш.). Па спосабах нанясення адрозніваюць надпісы: графіта, ці графіці (італ. graffito «надрапанае») – спантанна нанесены, часцей бытавога характару, дыпінта (італ. dipinto «намаляванае») – зроблены пэндзлем па тынкоўцы, інскульпт (лат. insculpo «урэзваць, выразаць, пакрываць пісьмёнамі») – гравіраваны ці выразаны на цвёрдым матэрыяле. Надпісы часта суправаджаюцца малюнкамі. Эпіграфічныя помнікі Беларусі ў цэлым знаходзяць адпаведнасці сярод усх.-слав. помнікаў. Каменныя эпіграфічныя помнікі прадстаўлены лапідарнымі помнікамі (*Барысавы камяні*, *Варацішын камень*, *Рагвалодаў камень*), праслiцамі; драўляныя – фр-тамі посуду (Гомель, Мінск), касцяныя – косткамі, нарыхтоўкамі з косці і касцянымі вырабамі. Металічныя эпіграфічныя помнікі прадстаўлены зброяй, упрыгажэннямі, прыладамі працы, прадметамі культу, посудам і плацежнымі зліткамі. Сярод гліняных эпіграфічных помнікаў – амфары (Навагрудак, Полацк, Пінск, Мінск) і плінфа (Полацк, Ваўкавыск, Гродна). На шкляных фр-тах посуду з Навагрудка і Пінска – арабскія надпісы. Скураныя помнікі прадстаўлены

похвамі з алфавітным надпісам (Пінск). Вял. колькасць надпісаў-графіці выяўлена ў Полацкай Спаса-Праабражэнскай царкве. Большасць эпіграфічных помнікаў 10–14 ст. знойдзена падчас археал. раскопак. Надпісы пераважна кірылічныя, сустракаюцца рунічныя (Полацк, гарадзішчы *Маскавічы*, *Рацюнкі*), на імпартных рэчах – лац., арабскія і грэчаскія надпісы. Па мэце нанясення надпісы падзяляюць на азбучныя – літары, нанесеныя ў алфавітным парадку (прасліца, *Вішчын*; грабеньчык, Брэст); «спроба пяра» – літарныя надпісы на нарыхтоўках (нарыхтоўка з косці, Полацк); азначэнне ўласнасці («Мар'іна», «Настассіна»); аўтографы («Лазар-Богша»); малітоўныя прашэнні «Госпадзе, дапамажы рабу свайму імярэк» (прасліца, Гродна; місы, Гомель, Мінск; графіці, Гродна, Полацк); памінальныя надпісы-графіці з указаннем даты смерці і імя нябожчыка (графіці, Полацк); надпіс-папярэджанне (крыж Ефрасінні Полацкай, дзяржанне нажа з Драгічына); магічнага характару (Маскавічы, Гродна); дзелавыя запісы; добрапажадальныя; кананічныя (імёны святых і словы малітваў).

Найб. колькасць эпіграфічных помнікаў адносіцца да 12–13 ст. З 14 ст. яна паменшылася, разам з гэтым пачаў мяняцца якасны склад эпіграфічных помнікаў. Пасля 14 ст. да іх адносяцца пераважна прадметы культу і побыту, надмагільныя камяні. *І.Л.Калечыц.*

**ЭПІПАЛЕАЛІ́Т** (ад грэч. epi на, над, пасля + *палеаліт*), археалагічная эпоха, якая вылучаецца некаторымі даследчыкамі і ідзе за палеалітам, адпавядае ранняму *мезаліту*. Датуецца пачаткам геалагічнай сучаснасці. У тэхніцы і культуры Э. яшчэ выразна выяўляюцца палеалітычныя рысы.

**Э́СЦІ**, э с т ы, а й с т ы, этнонім, германскага паходжання, літаральна – «тыя, хто жыве на ўсходзе». Вядомы аднакаранёвы рэгіяналізм Austeravia (Пліній Старшы, 2-я пал. 1 ст. н.э.), «востраў Аўстэравія» адзначаны як месца, дзе здабываюць бурштын (мяркуецца, што гэта паўвостраў Самбія, буйнейшае ў свеце радовішча бурштыну). Ранняя згадка Э. (Тацыт, к. 1 ст.) – Aestiorum gentes, жыхары «правага берага мора Свеваў» (Балтыйскага), адзначаны як плямёны, што здабываюць бурштын. Тагачаснае паняцце змястоўна суадносіцца пераважна з кельцкімі пасяленцамі. Тэрмін «Э.» атрымаў распаўсюджанне ў археал. літаратуры як вызначэнне насельніцтва ўзбярэжжа Балтыкі 1-га тыс. н.э., якое памылкова лічылася прускім. У рымскі час яно мела зменлівы, поліэтнічны склад, спалучала ўсх.-германскі, зах.-балцкі, інш. кампаненты. Наступныя ўпамінанні Э. пасля сяр. 1-га тыс. н.э. Hestii (Касіядор, 2-я чв. 6 ст.), Aesti, Aestorum (Іардан, сяр. 6 ст.) адносіліся менавіта да *прусаў*, як і пазнейшыя згадкі Aisti (Эйнгард, 1-я трэць 9 ст.), Estum, а таксама Estland (зямля эстаў), Estmere (мора эстаў); (Вульфстан, к. 9 ст.); Вульфстан ужываў падобныя, але змястоўна не ідэнтычныя тэрміны Osti, Ostsae. Аднакаранёвы тэрмін раней ужыў Клаўдзій Пталамей (сяр. 2 ст. н.э.): «осты, осы» (Ossi), якія ідэнтыфікуюцца з жыхарамі в-ва Асілія (Osilia, Саарэмаа) і суадносяцца з адпаведным насельніцтвам – эстонцамі, што належаць не да балцкіх, а да фіна-угорскіх плямён. Адам Брэменскі (2-я пал. 11 ст.) паўтарыў вызначэнне Эйнгарда «эсты» (Haisti) у адносінах да прусаў, але таксама прывёў тапонім «Эстланд» (Aestland), які ў геаграфічным кантэксце ўжо не адпавядаў іх землям. Сугучна па зместу паведамленне Ал-Ідрысі (сяр. 12 ст.), дзе тапонім «Эстланд» (Estlanda) вылучаў інш. рэгіён Балтыі – землі эстонцаў. У далейшым гэта вызначэнне замацавалася як геаграфічная назва: Estonum, Estones, Estonicis (Саксон Граматык, к. 12 ст.), Estonia, Estlandia, Esto, Estones, Estiensi (Генрых Латвійскі, пач. 13 ст.) і захавалася да нашых дзён. Такім чынам, адбылося зліццё паняццяў «эсты» і «осты», міграцыя геаграфічнага адпаведніка тэрміна «Э.» уздоўж Балтыкі ад Самбіі да Рыжскага заліва і ў выніку – яго змястоўная мадыфікацыя. *С.П.Віцязь.*

**ЭСЬМО́НЫ**, археалагічныя помнікі – курганны могільнік і гарадзішча каля в. Эсьмоны Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к на паўн.-зах. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Аслік (Ослеўка). Вядомы з 1863. Абследавалі ў 1889–90 М.П.Авенарыус, у 1969 Л.В.Аляксееў і Я.Р.Рыер. 44 насыпы выш. 0,8–1,5 м, дыям. 4–8 м, вяршыні асобных абкладзены камянямі. Раскапана 5 насыпаў. Пахавальны абрад (з улікам работ М.П.Авенарыуса) – трупапалажэнне ў насыпах, на гарызонце, у ямах, у дамавінах-церамах. Пахаванні адзіночныя і парныя. Асн. колькасць касцякоў у выцягнутым становішчы, ёсць і ў сядзячым. Пахавальны інвентар: гліняны посуд, бронзавыя і пасярэбраныя скроневыя кольцы (у т.л. замацаваныя на палосках скуры), бронзавыя і шкляныя пацеркі, сярод якіх бронза-



*Упрыгажэнні з курганнага могільніка* ***Эсьмоны:*** *1–7 – скроневыя кольцы, 8, 9 – пярсцёнкі, 10–18 – пацеркі.*

выя каркасныя і пласціністыя з сярэбранай зерню, так званыя дрыгавіцкія. Могільнік датуецца канцом 10 – пач. 13 ст.

Гарадзішча за 1,7 км на Пд ад вёскі, на высокай градзе левага берага р. Аслік, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка трохвугольнай формы, даўж. 61 м, шыр. 56 м. З У умацавана 2 валамі выш. да 3,5 м і ровам глыб. да 1 м. Вядома з 1879. У 1992 М.І.Лашанкоў даследаваў 140 м². Культ. пласт да 0,3 м. Знойдзены жал. чаранковы наканечнік стралы, гліняныя праслілы, фр-т грузіка, мініяцюрны сасудзік, грубалепны, штрыхаваны і гладкасценны посуд *днепра-дзвінскай культуры*. Датуецца 1–5 ст.

*Літ.*: Риер Я.Г. Славянские курганы в д. Эсьмоны Белыничского района Могилевской области // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Яго ж. Курганы ў Эсьмонах // ПГКБ. 1973. № 2; Яго ж. Изучение курганов в Могилевском Поднепровье // СА. 1976. № 2.

*Я.Р.Рыер, М.І.Лашанкоў, З.А.Харытановіч.*

**ЭТНААРХЕАЛО́ГІЯ**, галіна альбо метад археалогіі, скіраваныя на вывучэнне сучасных народаў, якія захавалі традыц. культуру альбо яе элементы, з мэтай пошукаў аналогій і распрацоўкі мадэлей існавання культуры стараж. грамадстваў. Назіраюцца тэндэнцыі развіцця Э. ў субдысцыпліну археалогіі альбо нават у самастойны навук. накірунак на падставе археалогіі, этнаграфіі і інш. навук. У якасці метада Э. пачала афармляцца ў 1960–70-я г. ў англа-амерыканскай археалогіі, на падставе даследаванняў індзейцаў, эскімосаў, афрыканскіх народаў і інш. Этнаархеолагі, акрамя непасрэднага этнагр. назірання, вывучэння пісьмовых і вусных крыніц, праводзяць раскопкі на паселішчах і інш. помніках даследуемых імі груп людзей і выпрацоўваюць метады стварэння археал. мадэлей; вызначаюць сувязі паміж матэрыяльнай культурай і жывой сацыяльнай рэальнасцю і інш. У бел. археалогіі Э. як метад археал. даследаванняў не набыла вял. значэння, выкарыстоўваецца эпізадычна пры рэканструкцыі сістэмы першабытных вераванняў (Э.М.Зайкоўскі) і асобных элементаў гасп. і сімвалічнай функцый матэрыяльнай культуры.

*Літ.*: Шнирельман В.А. Этноархеология – 70-е годы // Сов. этнография. 1984. № 2; Кениг А.В. Этноархеология как метод археологических реконструкций (по материалам тазовских селькупов). Сургут, 1997; Мельникова О.М. Заметки о содержании этноархеологии // Интеграция археологических и этнографических исследований. Омск; Санкт-Петербург, 1998; Binford S.R., Binford L.R. A preliminary analysis of functional variability in the Mousterian of Levallois Facies // American Anthropologist. 1966. № 68; Ethnoarchaeological Approaches to Mobile Campsites. Hunter-Catherer and Pastoralist Case Studies. Michigan, 1991; Renfrew C., Bahn P. Archaeology. Theories, methods and practice. London, 1996; Ethnoarchaeology and interpretation // Near Eastern Archaeology. 2000. № 63.

*М.М.Крывальцэвіч.*



**ЮВЕЛІ́РНАЕ РАМЯСТВÓ**, ручная вытворчасць па вырабе маст. прадметаў з каштоўных і інш. каляровых металаў, часта ў спалучэнні з каштоўнымі камянямі, шклом, бурштынам і інш. Ю.р. зарадзілася ў глыбокай старажытнасці. На тэр. Беларусі апрацоўка каляровых металаў пачынаецца ў бронзавым веку і звязваецца са старажытнасцямі сярэднедняпроўскай культуры і помнікамі тшцінецка-сосніцкага тыпу. Насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры выраблялa скроневыя кольцы (Ходасавічы, Пралетарскі), дыядэмы, грыўні, бранзалеты, трубчатыя кольцы (Стрэліца) з мыш'яковістай бронзы каўказскага і медзі балкана-карпацкага паходжання. Асартымент ювелірных вырабаў тшцінецка-сосніцкага насельніцтва больш разнастайны і ўключае шпількі з кольцападобнай галоўкай, акулярападобныя фібулы, бляшкі з адтулінай у цэнтры і інш.

У эпоху жалеза і ранняга сярэдневякоўя вытворчасць упрыгажэнняў займае значнае месца ў гасп. жыцці плямён, якія пражывалі на тэр. сучаснай Беларусі. Ужо на помніках мілаградскай культуры дастаткова часта сустракаюцца бранзалеты, шпількі, завушніцы, падвескі, кольцы, зробленыя з золата, срэбра, бронзы і інш. матэрыялаў. На паселішчах мілаградскага насельніцтва знаходзяць абломкі тыгляў, льячак і ліцейных форм (Зазоны, Малышкі, Кашчэлічы), што сведчыць аб існаванні мясц. бронзаліцейнай справы. Існаванне ўласнага Ю.р. фіксуецца ў старажытнасцях зарубінецкай, днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. У 9—13 ст. Ю.р. дасягнула найб. росквіту. Гэты час звязваецца з канчатковым вылучэннем Ю.р. ў якасці самастойнага віду дзейнасці, павелічэннем асартыменту ўпрыгажэнняў мясц. вытворчасці, фармаваннем старaж.-рус. ювелірнага ўбору, ужываннем значнай колькасці прагрэсіўных для свайго часу рамесных інструментаў і прыёмаў. Шэдэўрам ювелірнага мастацтва 12 ст. з'яўляецца крыж Ефрасінні Полацкай, выкананы майстрам Лазарам Богшай у 1161. У 14—18 ст. змяншаецца асартымент вырабаў,назіраецца далейшая спецыялізацыя Ю.р.

На тэр. Беларусі Ю.р. развівалася на прывазной сыравіне, якая паступала з Цэнтр. Еўропы, Прыбалтыкі і Каўказа. Вядучым накірункам Ю.р. з'яўлялася ліцейная справа. Ювелірныя ўпрыгажэнні адліваліся ў адкрытых ці закрытых формах (гліняных, каменных, касцяных і інш.) з дапамогай тыгляў, ювелірных абцугоў і інш. інструментарыя. Значную ролю ў Ю.р. адыгрывала механічная апрацоўка каляровых металаў. Ювеліры валодалі такімі рамеснымі прыёмамі, як зярненне, філігрань, чаканка, коўка, цісненне, валачэнне і інш. Выкарыстанне шырокага набору тэхнік дазваляла майстрам ствараць каштоўныя высокамаст. вырабы. У Беларусі выяўлена значная колькасць ювелірных майстэрняў (у Полацку, Віцебску, Навагрудку, Гомелі і інш.). Асн. крытэрыямі вылучэння




*Да арт. **Ювелірнае рамяство**. 1 — накладка ў выглядзе дракона, 12 ст. Бронза. Ліццё. Полацк, Вялікі пасад (раскопкі С.В.Тарасава, 1987); 2 — скроневае кольца 11 ст. Золата. Зерpredictь, скань. Полацк, на вул. Ніжнепакроўскай (выпадковая знаходка, 1983); 3 — амулет-змеявік з выявай Фёдара-воіна, 14 ст. Бронза. Ліццё. Полацк, Верхні замак (раскопкі С.В.Тарасава, 1995); 4 — створка іконкі-складня 18 ст. Бронза, эмаль. Полацк (раскопкі Г.М.Сагановіча, 1986); 5 — верхняя частка дзяржання збана ў выглядзе птушкі, 11 ст. Бронза. Ліццё. Полацк, Верхні замак (раскопкі П.А.Рапапорта, 1977).*

іх комплексаў у культ. напластаваннях з'яўляецца наяўнасць фрагментаваных і цэлых тыгляў, ліцейных форм, адходаў вытворчасці, інструментаў ювеліраў, нарыхтовак і бракаваных вырабаў.

*Літ.*: Рыбаков Б.А. Ремесло древней Руси. М., 1948; Рындина Н.В. Технология производства новгородских ювелиров X–XV вв. // МИА. 1963, № 117; Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.). М., 1981; Рябцева С.С. Древнерусский ювелирный убор (основные тенденции формирования). Санкт-Петербург, 2005. *І.У.Магалінскі.*

**ЮВЕЛІ́РНАЕ ЎПРЫГАЖЭ́ННЕ**, выраб з каштоўнага ці інш. каляровага металу, часта ў спалучэнні з каштоўнымі камянямі, шклом, бурштынам і інш., які мацуецца да адзення ці апранаецца непасрэдна на цела чалавека і служыць гал. чынам для задавальнення яго эстэтычных патрэб. Большая частка ўпрыгажэнняў выраблялася з каштоўных матэрыялаў, што рабіла іх важным індыкатарам сацыяльнага статусу іх уласнікаў. Ю.ў. з'яўляліся неад'емным атрыбутам не толькі жаночага, але і мужчынскага касцюма.

Традыцыя ўпрыгожваць сябе склалася ў глыбокай старажытнасці. На тэр. Беларусі Ю.ў. з каляровых металаў з'явіліся ў бронзавым веку. Насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры ўжывала дыядэмы, грыўні, скроневыя кольцы і інш. вырабы, выкананыя з бронзы ці медзі. У эпоху жалеза і ранняга сярэдневякоўя насельніцтва, якое пражывала на тэр. сучаснай Беларусі, выкарыстоўвала бранзалеты, кольцы, прывескі, фібулы і інш. віды Ю.ў. У 9–13 ст. складваецца багаты страж.-рус. ювелірны ўбор, які характарызуецца ўжываннем значнай колькасці ўпрыгажэнняў розных відаў. Асартымент Ю.ў. уключаў розныя тыпы пярсцёнкаў, скроневыя кольцы, колты, пацеркі, шыйныя грыўні і інш. прадметы. Страж. ювеліры стваралі высокамаст. Ю.ў. з ужываннем разнастайных прыёмаў, такіх як зярненне, філігрань, эмаль і інш. Масавы выраб розных відаў Ю.ў. стаў магчымы дзякуючы выкарыстанню таннай сыравіны (свінцова-алавяністых і медных сплаваў). У 14–18 ст. знікае традыцыя ўжывання для ўпрыгажэння значнай колькасці прадметаў з каляровых металаў, што адбіваецца на змяншэнні асартыменту вырабаў, павелічэннем тыпалагічнай разнастайнасці ўжо існуючых відаў Ю.ў.

*Літ.*: Гл. да арт. *Ювелірнае рамяство.*

*І.У.Магалінскі.*

**Ю́ДЗІНАВА**, археалагічны помнік – паселішча верхняга палеаліту, каля с. Юдзінава Пагарскага р-на Бранскай вобл. (Расія). Размешчана на ўскраіне сяла, на мысе 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Судасць (правы прыток р. Дзясна). Адкрыў у 1934 К.М.Палікарповіч. Даследавалі К.М.Палікарповіч (1947, 1961), У.Дз.Будзько (1962, 1964, 1966, 1967), З.А.Абрамава (1980–85, 1987–89, 1991), Г.В.Грыгор'ева (1990, 1993–98, 2000–03) і Г.А.Хлопачаў (2004–10). Ускрытая пл. больш за 1000 м². Культ. рэшткі залягаюць на глыб. 1,8–2,8 м ад дзённай паверхні ў тоўшчы лёсападобных супескаў. Выяўлены рэшткі 5 жытлаў апосаўска-мезінскага тыпу (канструкцыі акруглай формы з костак мамантa). Жытло, раскапанае К.М.Палікарповічам ў 1947, мела памеры 9,5 × 9 м, інш. канструкцыі меншыя па памерах – 3,4 × 5 і 5 × 6 м, 2 жытлы – 5 × 5 м. Пры збудаванні сцен выкарыстоўваліся чарапы мамантаў, якія ставіліся альвеоламі ўніз, лобнымі косткамі ўнутр жытла, таксама біўні, плечавыя, сцегнавыя, вял. і малыя галёначныя косткі. Важную ролю пры будаўніцтве жытлаў адыгрывалі лапаткі маманта, многія з якіх мелі спецыяльна зробленыя адтуліны. 2 жылыя збудаванні, адкрытыя З.А.Абрамавай, былі пакінуты in situ і музеефікаваны. Побач з адным з іх вывучаны 2 гасп. ямы акруглай формы (1,1 × 1,1 × 0,6 м і 1,5 × 1,5 × 0,45 м) і 2 авальнай формы западзіны катлападобнага профілю (2,5 × 1,5 × 0,4 і 2,7 × 2,0 × 0,2–0,4 м), каля кожнай былі пахаваны кухонныя рэшткі – больш за 1300 костак розных жывёл. Былі знойдзены 2 агнішчы: адно ўнутры жытла, даследаванага ў 1947, другое – па-за межамі жытлаў. У паўд. частцы паселі-



*Да арт. **Юдзінава**. Жытло № 3 з костак маманта.*




*Да арт. **Юдзінава**. «Фібула» (1) і наканечнікі (2, 3) з біўня маманта.*



*Да арт.* ***Юдзінава.*** *«Малаткі» з рагоў паўночнага аленя.*

шча выяўлена вял. колькасць касцявога вугалю (таўшч. пласта 1–8 см). Паміж жытламі выяўлены вытворчыя ўчасткі па апрацоўцы крэменю, вырабе прадметаў з біўня мамантa і косці, месцы разбірання тушак пясцоў.

Фаўністычная калекцыя ўтрымлівае косткі маманта і пясца, рэшткі сурка, ваўка, ліса, пячорнага льва, бурага мядзведзя, паўн. аленя, аўцабыка, сайгі, каня, птушак (серабрыстай чайкі, або рагатухі, белай савы, тундравай і белай курапатак, чорнай казаркі, гуся-гуменніка, малога лебедзя), дробных грызуноў (сусліка, сляпушонкі звычайнай, лемінга, стэпавай пяструшкі, палёвак вадзяной, рудой, вузкачарапной і эканомкі), таксама знойдзены пазванок буйной рыбы і фр-т клюшні рачнога рака. Паводле палеабіялагічнага і археазаалагічнага аналізу костак млекакормячых паселішча функцыянавала ў перыяд з верасня па май, а ўлетку, верагодна, пуставала.

Асн. групы каменных прылад – рэтушныя і двайныя рэтушныя, двухгранныя і на зломе разцы, канцавыя, акруглыя і двайныя, укарочаныя скрабкі, рэтушаваныя і з усечаным канцом, з прытупленым краем пласцінкі, скошаныя вастрыі, праколкі. У касцяным інвентары – вырабы з косці і біўня маманта, рога паўн. аленя. Сярод касцяных рэчаў паляўнічая зброя (чаранковыя наканечнікі коп'яў і дроцікаў), прылады працы (землякопныя з рэбраў маманта, малаткі з рога паўн. аленя, шылы, вастрыі, іглы, іголынікі з трубчастых костак пясца), упрыгажэнні (гузікі-нашыўкі, падвескі, фр-ты бранзалетаў з біўня маманта). Сярод прадметаў мастацтва прадстаўлены біўні, біўневыя пласціны і косткі маманта, паверхня якіх аздоблена разьбой у выглядзе рамбічнага арнамента. Сабрана калекцыя марскіх ракавін (*Nassarius, Cyclope, Cerithium, Cerastoderma, Nucula*) і саланаватаводных малюскаў (*Theodoxus*) з адтулінамі для падвешвання. Серыя радыевугляродных датаванняў паказвае на час існавання паселішча ў перыяд 15–12 тыс. гадоў таму назад.

*Лит.:* Будько В.Д. Верхний палеолит северо-запада Русской равнины / /Древности Белоруссии. Минск, 1966; Поликарпович К.М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Минск, 1968; Абрамова З.А. Верхнепалеолитическое поселение Юдиново. Санкт-Петербург, 1995. Вып. 1; Абрамова З.А., Григорьева Г.В. Кристенсен М. То же. Санкт-Петербург, 1997. Вып. 2; Хлопачев Г.А. Бивневые индустрии верхнего палеолита Восточной Европы. Санкт-Петербург, 2006; Хлопачев Г.А., Саблин М.В. Ямы с костями мамонта Юдиновской стоянки (по материалам полевых исследований 2006–2007 гг.) // Радловские чтения. Санкт-Петербург, 2009. *Г.А.Хлопачаў.*

**ЮДЗІЧЫ**, археалагічныя помнікі – курганныя могільнікі і селішча каля в. Юдзічы Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Курганны могільнік-1 радзімічаў за 0,5 км на У ад вёскі, у лесе на зах. беразе вадасховішча. 169 паўсферычных, круглых у плане курганоў выш. 1–2 м, дыям. 6–12 м. Вакол многіх насыпаў прасочваюцца раўкі. Вядомы з 1873. Абследавалі ў 1890 Е.Р.Раманаў, у 1930 А.М.Ляўданскі. Даследавалі ў 1968 Г.Ф.Салаўёва (10 насыпаў), у 1979–80 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч (15 насыпаў). Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце на попельнай праслойцы, часам на падсыпцы з пяску, галавой на З. Пахаванні адзіночныя, у 3 курганах парныя. Пахавальны інвентар: кругавая кераміка; жал. нажы і абручы ад вёдзер, гліняная льячка для разліўкі металу; бронзавыя ўпрыгажэнні (сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, 3-дротавая шыйная грыўня з заходзячымі канцамі і шматграннымі галоўкамі, пласціністыя і драцяныя бранзалеты, кольцы, спражкі); разнастайныя падвескі з бронзы (бразготкі, манетападобныя, лунніцы, пятлістыя) і косці (конікі, качачкі); пацеркі шкляныя (золата- і срэбрашкляныя бочачкападобныя, зонныя, беларамбічныя), сердалікавыя, бурштынавыя, з горнага крышталю. Знойдзена падвеска-дырхем (Абасіды, Абу-Абас-Ахмад ар-Рады Білах ібн Муктадыр, Мадынат ас-Салам, Багдад, 934–935). Могільнік датуецца 11 ст. Матэрыялы раскопак Г.Ф.Салаўёвай захоўваюцца ў Ін-це археалогіі РАН (Масква), А.М.Плавінскага і В.Н.Рабцэвіча – у вучэбнай лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та БДУ.

Курганны могільнік-2, за 0,5 км на У ад вёскі, у лесе на ўсх. беразе вадасховішча. Каля 40 курганоў выш. 0,5–3 м, дыям. 5–12 м. Вакол насыпаў прасочваюцца раўкі. Адкрылі ў 1980 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч. Раскопкі не праводзіліся.

Селішча за 0,6 км на ПдУ ад вёскі на беразе вадасховішча. Пл. 0,25 га. Адкрылі ў 1980

А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены фр-ты ляпной і кругавой керамікі. Матэрыялы захоўваюцца ў вучэбнай лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та БДУ.

*Літ.*: Обозрение некоторых губерний и областей России в археологическом отношении // Зап. русского археол. о-ва. Санкт-Петербург, 1896. Т. 8, вып. 1–2; Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Изв. Имп. археол. комиссии. Санкт-Петербург, 1903. Вып. 5; Плавинский А.Н. Раскопки курганов у деревни Юдичи // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983.

*А.М.Плавінскі.*

**Ю́РАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага веку, селішча 3-й чв. 1 тыс. н.э., гарадзішча і курганны могільнік 10–11 ст. каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

С т а я н к а - 1 эпохі позняга палеаліту (26 470±420 гадоў назад). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Прыпяць, на ПдЗ схіле яра Мураваны Шлях, выцягнутага з ПдУ на ПнЗ. Уздоўж яра праходзіць дарога на г. Хойнікі Гомельскай вобл. Адкрыў Ю.Попель у 1928. Даследавалі ў 1929 і 1931 К.М.Палікарповіч (50 м²), у 1959–60 У.Дз. Будзько (122 м²), у 1976 У.П.Ксяндзоў (87 м²), у 2006 А.Г.Калечыц (звыш 200 м²). У вывучэнні помніка таксама прымалі ўдзел А.М.Ляўданскі, С.А.Дубінскі, С.С.Шутаў, Г.Ф.Мірчынк, В.В. Шчаглова, Г.І.Гарэцкі, Л.М.Вазнячук і інш. На стаянцы выяўлена каля 50 крамянёвых артэфактаў, косткі маманта, каня, быка, пясца, паўн. аленя, шарсцістага насарога. Сярод крамянёвых прылад адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, падвоены скрабок і праколка, пласціны і іх фр-ты, у т.л. са скошаным рэтушшу канцом, адшчэпы, масіўная пласціна са слядамі рэтушы, мікрапласцінкі з рэтушаваным краем, мікрапласціны з прытупленай спінкай, вастрыі тыпу гравет, масіўны клінок на пласціне. Невял. колькасць знаходак з крэменю і іх тыпалагічны склад, палеанталагічныя матэрыялы сведчаць аб спецыялізаваным характары помніка і дазваляюць разглядаць яго як месца здабычы жывёл (паляўнічы лагер). Стаянка адносіцца да кола помнікаў «усх. гравета».

С т а я н к а - 2 эпохі мезаліту за 1–1,5 км на ПдЗ ад цэнтра вёскі, на пясчаных узгорках. З Пн каля ўзгоркаў працякае прыток р. Прыпяць. Адкрылі і абследавалі ў 1929–31 К.М.Палікарповіч і А.Дз.Каваленя. Даследаваў у 1960–65 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,3 м, прасочваецца на працягу 300 м. Знойдзены 71 крамянёвая прылада працы, 280 апрацаваных крамянёў. Выяўлены рэшткі 4 агнішчаў. Датуецца 8–5-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 3 *днепра-данецкай культуры* эпохі неаліту за 1 км на З ад вёскі, на зах. беразе воз. Ліцвін. Адкрыў і даследаваў 180 м² у 1962–63 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2–0,3 м. У паўн. частцы раскопу ўскрыты рэшткі паўзямлянкавага жытла (5 × 3,4 м) з цэнтр. апорным слупам. Знойдзены крамянёвы нож і некалькі кавалкаў керамікі. За 4 м на З ад жытла прасочана яма дыям. 2 м і агнішча памерамі 2,5 × 1,8 м. З усх. боку жытла выяўлена некалькі месцаў з абломкамі посуду. Усяго знойдзена 300 апрацаваных крамянёў, 650 фр-таў ляпной керамікі.

С т а я н к а - 4 днепра-данецкай культуры эпохі неаліту за 200 м на Пн ад стаянкі-3. Выявіў і даследаваў 570 м² у 1962–66 У.Ф.Ісаенка. Каля наземнага жытла памерамі 4,6 × 4,8 м і рэшткаў 2 агнішчаў знойдзены абломкі ляпнога посуду, 700 апрацаваных крамянёў, 51 прылада працы (наканечнікі стрэл, праколкі, нажы, пласцінкі, скрабкі, скоблі).

С т а я н к а - 5 днепра-данецкай культуры на паўн.-ўсх. беразе воз. Ліцвін. Памеры 80 × 20 м. Адкрыў у 1960 і даследаваў 142 м² у 1968–69 У.Ф.Ісаенка. Каля ўскрытага агнішча знойдзены абломкі больш за 50 ляпных гаршкоў, 400 апрацаваных крамянёў, крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, трапецыі, скрабкі, скоблі, нажы з пласцін і шырокіх адшчэпаў. Выяўлены таксама коскі ласся, каня, касулі.

С е л і ш ч а *банцараўскай культуры* ў паўн. частцы стаянкі-4. Выявіў у 1962 У.Ф.Ісаенка, даследаваў у 1976 В.Б.Перхаўка. Прасочаны рэшткі 2 жытлаў зрубавай канструкцыі пл. 17 і 20 м², заглыбленых у зямлю. Датуецца 6–8 ст.

Г а р а д з і ш ч а 10–11 ст. у вёсцы, наградзе выш. 30 м над далінай Прыпяці. Адна яго пляцоўка пл. каля 1 га ўмацавана падкowападобным валам выш. да 6 м і ровам глыб. 4 м (дзяцінец), другая – пл. каля 6 га з боку поля была ўмацавана валам і ровам (часткова пашкоджаны). Культ. пласт таксама прасочваецца на размешчаным по-



*Рагавы псалій з выразанымі галовамі драконаў з гарадзішча* ***Юравічы****.*

бач пагорку пл. 1 га, які мае мясц. назву Царковішча. Побач з ім была знойдзена касцяная лыжачка для прычасця з выявай знака Рурыкавічаў. Даследавалі ў 1931 А.М.Ляўданскі і К.М.Палікарповіч, у 1965 і 1975 У.Ф.Ісаенка, у 2004–09 А.В.Іоў. Ускрыта 363 м². Знойдзены рэшткі наземных зрубавых дамоў з печамі-каменкамі і падпечнымі ямамі, агароджы сядзібы, паўзямлянка з амаль не кранутай глінабітнай купалападобнай печчу. Сярод знаходак вылучаюцца каралавая, шыферная і сердалікавая пацеркі, донца гаршка з кляймом (скандынаўская сімволіка), рагавы псалій з выразанымі галовамі драконаў (?), бронзавыя дэталі дружыннага пояса, падвескі і інш.

Курганны могільнік на Пд ад гарадзішча. Было 14 насыпаў, захавалася 6 насыпаў выш. 1–3 м. Даследавалі ў 1931 А.М.Ляўданскі, у 1959 і 1976 У.Ф.Ісаенка. Пахавальны абрад – трупапалажэнне на гарызонце, галавой на З. Знойдзены сердалікавыя (прызматычная, 14-гранная) і шкляныя (беларамбічная, зонная біканічныя) пацеркі, трохпацеркавыя, паўтараабаротныя і інш. скроневыя кольцы, пярсцёнкі.

*Літ.:* Палікарповіч К.М. Раскопкі Юравіцкай палеалітычнай стаянкі ў 1929 г. // Працы. Т. 2; Будько В.Д. Юревичская верхнепалеолитичсская стоянка // Белорусские древности. Минск, 1967; Исаенко В.Ф.Находка со знаком Рюриковичей // СА. 1967. № 2; Поликарпович К.М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Минск, 1968; Его ж. Древняя история Восточного Полесья. Минск, 1975; Его ж. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Ксензов В.П. Новые исследования верхнепалеолитической стоянки Юровичи // СА. 1987. №1; Археалогія Беларусі. Мінск, 1997. Т. 1. *А.В.Іоў, У.Ф.Ісаенка, А.Г.Калечыц.*

**Ю́Р'ЕВА**, археалагічныя помнікі – селішча і курганны могільнік каля в. Юр'ева Смалявіцкага р-на Мінскай вобл.

Селішча за 2,1 км на Пд ад вёскі, каля воз. Малое, пасярод балота на востраве Апалушкава. Пл. 1000 м². У 1923 выявіў і даследаваў А.М.Ляўданскі. Культ. пласт 0,25–0,3 м. Знойдзены адшчэпы крэменю, фр-ты ганчарных гаршкоў, аздобленых па ўсёй паверхні лінейным, радзей хвалістым арнаментам. Датуецца 11–12 ст.

Курганны могільнік за 5 км на ПдУ ад вёскі, каля б. хутара Тачылішчы. 9 курганоў выш. 1,2–2 м, дыям. 4–9 м (некаторыя чатырохвугольныя ў плане), адзін за 0,5 км на Пд ад асн. групы. У 1923–24 6 насыпаў даследаваў А.М.Ляўданскі. Пахавальны абрад – трупаспаленне на падсыпцы. У адным выпадку косці ляжалі ў ямцы, у другім – на мацерыку.

Знойдзены шкляная сіняя пацерка, бронзавая бляшка-падвеска, фр-ты жал. вырабаў, гліняныя урны, падпраўленыя на ганчарным крузе. Пад насыпамі выяўлены рытуальныя агнішчы. Датуецца 10 ст.

*Літ.:* Ляўданскі А.М. Раскопкі і археалагічныя разведкі ў Барысаўскім павеце; Сляды неалітычнай стаянкі і пазнейшых культур каля м. Новага Быхава. Мінск, 1925. *Г.В.Штыхаў.*

**ЮРКАВЕ́Ц** Юлія Васілеўна (н. 8.3.1979, г. Бабруйск), беларускі археолаг. Скончыла Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы (2001). З 2003 у Гродзенскай навук.-даследчай археал. лабараторыі пры ГрДУ, з 2008 выкладчык кафедры археалогіі і этналогіі ГрДУ. Асн. накірунак навук. даследаванняў – вывучэнне сельскіх паселішчаў 10–13 ст. на тэр. Беларускага Панямоння, матэрыяльнай і духоўнай культуры сярэдневяковага насельніцтва. Праводзіла раскопкі ў Гродне на вул. Замкавай, на гарадзішчы Шадзінцы Гродзенскага р-на, селішчы каля в. Турэйск Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. Удзельнічала ў даследаваннях у зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС.

*Тв.:* Археалагічныя разведкі на тэрыторыі Гродзенскага і Ваўкавыскага раёнаў Гродзенскай вобласці // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; Керамика с Гольшанского археологического комплекса // МАБ. 2006. Вып. 11; Гарадзішча ля в. Шадзінцы Гродзенскага раёна // Там жа; Пахавальныя помнікі ў ваколіцах г. Гродна // Stan badań archeologicznych na pograniczu polsko-białoruskim od wczesnego średniowiecza po czasy nowożytne. Białystok, 2006. *В.Л.Лакіза.*

**Ю́РКАВІЧЫ**, археалагічны помнік – бескурганны могільнік *зарубінецкай культуры* каля в. Юркавічы Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на краі 4–7-метровай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўр. Сіянская Гара. Адкрылі і абследавалі ў 1982 У.А.Літвінаў і А.А.Макушнікаў, якія выявілі рэшткі напаўразбуранага пахавання. У 1985–86 А.І.Драбушэўскі правёў ахоўныя даследаванні, на пл. 800 м² зафіксавана 18 пахаванняў. Пахавальны абрад – трупаспаленне, пахаванні ямныя і урнавыя. Перапаленыя косткі разам з рэшткамі пахавальнага кастра змяшчалі ў авальныя (0,5–1,2 × 1,1–2,6 м, арыентаваныя па лініі Пн–Пд) і круглыя (дыям. 0,6–1,3 м) ямы. У 2 выпадках перапаленыя косткі знаходзіліся ва урнах-гаршках. У адным з пахаванняў ва урне разам з косткамі была сярэднелатэнская жал. фібула 1 ст. да н.э. Пахаванні не парушалі адно другое, відаць, яны мелі нейкія надмагільныя знакі, каля аднаго пахавання захаваліся сляды 4 слупавых ям. Сярод пахавальнага інвентару – гліняны посуд, прадметы ўзбраення, прылады працы, упрыгажэнні. Найб. пашыраныя знаходкі – грубаляпныя круглаватабокія гаршкі з плаўнаадагнутым венчыкам, часта ўпрыгожаным арнаментам у выглядзе пальцавых уцісканняў. Частка пасудзін пакрыта штрыхамі. Поўнасцю адсутнічае глянцаваны посуд, характэрны для могільнікаў зарубінецкай культуры. У кожным 4-м пахаванні знойдзены разнастайныя антычныя шкляныя пацеркі, што сведчыць

пра цесныя эканам. сувязі стараж. насельніцтва Гомельскага Пасожжа з Паўн. Прычарнамор'ем на рубяжы н.э. Паводле характару пахавальнага абраду і пахавальнага інвентару могільнік належыць да групы помнікаў тыпу Чачэрск–Кісцяні верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры. *А.І.Драбушэўскі.*

**ЮХНАЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён – сучаснікаў і ўсх. суседзяў носьбітаў *мілаградскай культуры.* (7–3 ст. да н.э., час існавання ўдакладняецца). Мае зах. і ўсх. варыянты (апошні раней вылучалі ў верхняокскую археал. культуру). Асн. тэрыторыя – басейны сярэдняй Дзясны, верхняй Акі і Сейма (Бранская, Калужская, Курская, Тульская вобл. Расіі, частка тэр. Чарнігаўскай вобл. Украіны). Назва па гарадзішчы каля с. Юхнава Чарнігаўскай вобл. У Беларусі помнікі Ю.к. даследаваны А.Я.Аліхавай і В.М.Мельнікоўскай у Добрушскім і Веткаўскім р-нах (*Падгор'е*, *Свяцілавічы* і інш.). Існуе думка, што ў лясной зоне продкі юхнаўскага насельніцтва (носьбіты бандарыхінскай культуры, выцесненыя з паўд. стэпаў ваяўнічымі вандроўнікамі-кімерыйцамі) з'явіліся на рубяжы бронзавага і жал. вякоў. Пазней, у часы *скіфаў*, юхнаўскае насельніцтва перасялілася на Пд, у басейн Сейма. У к. 1-га тыс. да н.э. на землі Ю.к. з сярэдняга Дняпра ў Падзясенне прыйшлі носьбіты *зарубінецкай культуры*, якія стварылі тут *почапскую культуру*. Удзел носьбітаў Ю.к. ў гэтым працэсе даследчыкі ацэньваюць па-рознаму.

Культура прадстаўлена ў асн. мысавымі гарадзішчамі невял. памераў; вядомы нешматлікія селішчы і адзінкавыя могільнікі з трупаспаленнем ці трупапалажэннем. Напачатку гарадзішчы ўмацоўваліся плятнямі, пазней землянымі валамі з ровамі. Тыповым жытлом Ю. к. быў «доўгі дом». Вакол пляцоўкі гарадзішча, шчыльна да яе краю, убівалі 2 паралельныя рады калоў (аснова сцен), якія апляталіся лазой і абмазваліся глінай. Дах насцілалі саломай ці трыснягом. Дом дзяліўся на секцыі з агнішчам для кожнай сям'і. Кераміка прадстаўлена самабытнымі цюльпанападобнымі гаршкамі з высокім стройным тулавам і плоскім дном, спачатку грубаляпнымі, пазней танкасценнымі пасудзінамі, якія выраблялі на ганчарным крузе. Верхняя частка гаршка арнаментавана ямкамі ці іх спалучэннем у выглядзе трохвугольніка. («вінаградная гронка»), ніжняя абстругана нажом. Знойдзены цагліны (падстаўкі для ачага, магчыма, мелі рытуальнае прызначэнне), рыбалоўныя прылады (грузілы, астрогі, кручкі). Металічны інвентар падобны на мілаградскі, сведчыць пра моцны ўплыў скіфаў (жал. клінападобныя сякеры, сярпы з кручкамі, нажы з гарбатай спінкай, трохгранныя ці трохлопасцевыя бронзавыя наканечнікі стрэл, цвікападобныя шпількі, грыбападобныя завушніцы, антычныя пацеркі).

*С.Я.Рассадзін.*



**ЯДКО́ЎСКІ** (Jodkowski) Юзаф (20.12.1890, Гродна – 2.1.1950), археолаг і нумізмат. Скончыў Гродзенскую гімназію, Маскоўскі археал. ін-т (1912). Працаваў у Румянцаўскім музеі ў Маскве, быў кансерватарам Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ. Дзякуючы Я. былі захаваны іканастас 17 ст. ў Супраслі, касцёл з фрэскамі ў Гарадзішчы. Выступаў у абарону Сынкавіцкай царквы-крэпасці, Мірскага замка. Разам з В.Шукевічам праводзіў археал. даследаванні ў Начы (Воранаўскі р-н), разам з Ю.Талька-Грынцэвічам – у Ланкішках (Воранаўскі р-н) і Дубічах (замак Вітаўта). У 1920 урадам Польшчы зацверджаны кіраўніком бюро дзярж. апекі над помнікамі гісторыі і культуры ў Гродне і Гродзенскім пав., стварыў музей, хавальнікам якога быў да 1936. Арганізаваў выданне штогодніка «Музей у Гродне» («Muzeum w Grodnie»). З к. 1930-х г. працаваў у Варшаве, з 1944 у Кракаве, захавальнік Народнага музея (з 1945), старшыня Варшаўскага нумізматычнага т-ва, рэдактар часопіса «Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne» («Нумізматычна-археалагічныя ведамасці»). Правёў археал. раскопкі ў Ваўкавыску (1925), у Гродне на Замкавай Гары (1932–33), дзе выявіў княжацкі церам, участак мураванай сцяны, рэшткі 2 мураваных храмаў (пазней атрымалі назвы *Гродзенская Ніжняя царква* і *Гродзенская Верхняя царква*). У 1935 даследаваў Каложскую царкву, якую датаваў 11 ст. Засталася нявыдадзенай шматтомная праца Я. «Польскія рэліквіі ў Расіі». У снежні 1990 у Гродзенскім гісторыка-археал. музеі адбылася навук. канферэнцыя з нагоды 100-гадовага юбілею Я., яго памяці прысвечаны зборнік артыкулаў «Краязнаўчыя запіскі» (Гродна, 1990).

*Тв.*: Замок в Мире // Древности: тр. комиссии по сохранению древних памятников... М., 1915. Т. 6; Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Там жа. Grodno, Wilno, 1923; Grodzisko Wołkowyskie. Grodno, 1925; Grodno wczesnośredniowieczne... Warszama. 1934; Świątynia warowna na Kołoży w Grodnie. Grodno, 1936; Pieczęcie polskie w Muzeum Rumiancowskim w Moskwie // Rocznik Tow. przyj. Nauk w Wilnie. 1909. T. 3; Pieczęcie polskie w Muzeum Rumiancowskim w Moskwie // Wiadomości numizmatyczno-archeol. 1910. T. 2; Okolice Grodna pod wzgledem archeologicznym // Swiatowid. 1912. T. 10; O znaku na cegle «teremu książecego w Grodnie. Kraków, 1934; Pieczęcie ruskie za XI–XII w., znalezione w Grodnie i Drohiczynie // Przegląd historyczny. 1948. T. 37.

*Літ.*: Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства: матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф. Гродна, 1990; Śnieżko A. Wspomniennie o Józefie Jodkowskim // Rocznik Białostocki. Warszawa, 1970. T. 10.

*А.П.Госцеў, В.В.Швед.*

**ЯДРО́**, зброя дальняга бою ў выглядзе шара з вапняку, граніту, жалеза, які выпускалі па цэлі з дапамогай прыстасавання для кідання.

Вядома з антычнасці (Стараж. Грэцыя, Рым), дзе выкарыстоўвалася для стральбы з балістаў. У славян ужывалася з 6 ст. Пашырэнне набыло з 13 ст. ў сувязі з развіццём прыстасаванняў для кідання. На тэр. Беларусі вядома з 13 ст. Каменныя Я. 13 ст. (дыям. 12–15 см), прызначаныя хутчэй за ўсё для т. зв. «парокаў», вядомы на раскопках Гродзенскага Старога замка, каменныя і вапняковыя ядры 14–17 ст. (дыям. 7–9 см, 34 см) – на раскопках Лідскага замка. Найбуйнейшыя з лідскіх ядраў маглі вырабляцца для бамбардаў. Вял. колькасць каменных ядраў 16 ст. вядома па раскопках Віцебскага Верхняга замка (25 экз., дыям. 8,5–13,5 см, 7,8–8 см, вага 1,5–3,5 кг) і Слуцкага Верхняга замка (20 экз., дыям. 10,5–13,5 см, вага 1,8–2,6 кг). Адно Я. з Віцебска (дыям. 15,5 см, вага 15,15 кг) мела канічнае паглыбленне, запоўненае сумессю дымнага пораху з воскам. Каменныя ядры 16 ст. вядомы таксама па раскопках Мінскага замчышча, Віцебскага Ніжняга замка і Навагрудка. Жалезныя Я. 17 ст. вядомы ў Беларусі па раскопках Мірскага замка, Віцебскага Верхняга замка, у Суражы. Жалезнае Я. з Суража мела дыям. 8,2 см, вагу 2,2 кг. Я. з Віцебска дыям. 10,1 см, вагой 4,5 кг (прыкладна 9 артылерыйскіх фунтаў) мела па экватары канаўку шыр. 1 см, глыб. 2–3 мм. Прызначалася, хутчэй за ўсё, для гармат-фальканетаў.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Метательная артиллерия древней Руси // МИА. 1958. № 77; Трусаў А.А. Зброя Лідскага замка // ПГКБ. 1980. № 2; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987.

*Л.У.Калядзінскі.*



*І.М.Язэпенка.*

**Я́ЗНА**, археалагічны помнік – гарадзішча днепра-дзвінскай і банцараўскай культур каля в. Язна Міёрскага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на Пд ад вёскі, на беразе воз. Малое Язна. Займае ўзвышаную частку доўгага ўзгорка, абмежаванага равамі і поймай ручая. Пляцоўка авальная памерамі 90 × 42 м, умацаваная з 3 бакоў валам і ровам, якія маюць выгляд тэрасы. Вядома з 1890-х г. Абследавалі ў 1930-я г. Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1949 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 А.У.Ільюцік, у 1983 В.І.Шадыра. У 1955 і 1961 А.Р.Мітрафанаў даследаваў 428 м². Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі 0,1–0,2 м, па краях 1–1,2 м. Выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі і круглае ў плане глінабітнае збудаванне дыям. 1,1 м – кавальскі горан. У яго цэнтры запоўненая пяском круглая яма дыям. 0,1 м, глыб. 0,2 м, сценкі загартаваны на таўшч. да 0,2 м. Вакол горана знойдзены крыцы, шлакі, акаліны. За 1 м ад горана была чатырохвугольная гасп. яма з касцямі дзікай і свойскай жывёлы. Знойдзены жал. сярпы, шылы, наканечнікі дроцікаў, бронзавыя спіралькі, абломкі бранзалетаў, касцяныя шпількі, каменныя таўкачы, кераміка *днепра-дзвінскай культуры*, бронзавыя трапецападобныя падвескі, 2 кавалкі бронзавых ланцужкоў, прычэпленых да акулярападобнай падвескі, падкавападобная фібула, жал. наканечнікі стрэл з шыпамі.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Шадыро В.И. Ранний железный век Северной Белоруссии. Минск, 1985. *В.І.Шадыра.*

**ЯЗЭ́ПЕНКА** Ігар Мікалаевіч (н. 30.3.1963, г. Брагін Гомельскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2003). У 1985 скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т. З 1988 г. у ІГ НАН Беларусі, з 2006 заг. сектара навук. археал. фондаў аддзела захавання і выкарыстання археал. спадчыны. Даследуе неаліт і ранні бронзавы век Бел. Падняпроўя, палявыя працы сканцэнтраваны на вывучэнні поймавых паселішчаў басейна Дняпра. Займаецца праблемамі храналогіі і перыядызацыі днепра-данецкай культуры на тэр. Беларусі. З 2001 з'яўляецца чл. рэдкалегіі «Матэрыялаў па археалогіі Беларусі». Навук. рэдактар манаграфіі У.П.Ксяндзова «Мезаліт Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі» (2006), укладальнік і рэдактар зб. артыкулаў «Старажытнасці Бабруйшчыны» – 2 выпускі (1998), «Старажытнасці Рагачоўшчыны» (2000), з 2007 кіраўнік з бел. боку міжнародных навук. праектаў сумесна з археал. ўстановамі Расійскай АН.

*Тв.*: Да пытання інтэрпрэтацыі матэрыялаў неалітычных паселішчаў Беларускага Падняпроўя // ГАЗ. Мінск, 1993. № 3; Даследаванне старажытных паселішчаў бассейна Бярэзіны // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. Мінск, 1994. № 2; Днепра-данецкая культура ў басейне Верхняга Дняпра // Старажытнасці Рагачоўшчыны: зб. арт. Мінск; Рагачоў, 2000; Паселішча эпохі неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Борак Семінаўскі (вынікі даследаванняў 2000–2001 гадоў) // МАБ. Мінск, 2006. Вып. 11; Перспектывы паліналагічных даследаванняў на поплаўных паселішчах неаліту ў басейне Верхняга Дняпра // Ботаника (исследования): сб. науч. трудов. Вып. 35. Минск, 2008; Новые данные по радиоуглеродной хронологии неолита Беларуси и сопредельных территорий (у сааўт.) // Acta Archaelogica Albaruthenica. Минск, 2008; Radiocarbon Chronology of the Beakers with Short–Vave Moulding Component in the Development of Middle Dnieper Culture (разам з A. Kosko) // Baltic-Pontic Studies. Poznań, 2003. Vol.12; Chronologia późnych faz kultury dniepro-donieckiej na Białorusi w świetle najnowszych oznaczeń radiowęglowych z stanowiska Prorwa 2, rejon Rogaczowski (разам з B.Jóźwiak) // Folia Praehistorica Posnaniensia. Poznań, 2004. T. 12.

*А.А.Разлуцкая.*

**ЯКІМО́ВІЧ** Раман Іванавіч (30.4.1889, г. Юр'еў-Польскі Уладзімірскай вобл., Расія – 21.1.1951), археолаг. Д-р філасофскіх навук (1919), д-р гіст. навук (1934). Вучыўся ва ун-тах Львова, Кракава. У 1919–39 праф. Пазнанскага ун-та. У 1923 арганізаваў там археал. музей, у 1928–39 яго дырэктар. З 1949 праф. Тарунскага ун-та. У 1936 і 1938 чытаў лекцыі ў Віленскім ун-це. У 1929–39 рэдактар час. «Wiadomości archeologiczne» («Археалагічныя ведамасці»). Вывучаў камунікацыйныя шляхі на У ад польскіх зямель, у т.л. ў Беларусі. Даследаваў стараж. гісторыю Давыд-Гарадка, Любомля і інш. Вывучаў сярэбраныя ўпрыгажэнні, іх паходжанне і распаўсюджанне на слав. землях і ў Беларусі, межы ўплыву мазавецкага асадніцтва на землі яцвягаў і Стараж. Русі ў 10 і 11 ст. Правёў некалькі археал. экспедыцый на тэр. Беларусі.

*Тв.*: Dawidgródek. Pińsk, 1939.

*Літ.*: Jażdżewski K. Roman Jakimowicz // Archeologia. 1955. T. 5. *Г.А.Каханоўскі.*

**ЯЛІ́ЗАВА**, археалагічны помнік – гарадзішча на паўн.-зах. ускраіне рабочага пас. Ялізава Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл., у канцы вул. Агародная, на высокім (да 12–15 м) правым беразе р. Бярэзіна. Помнік памерамі каля 100 × 85 м, умацаваны з напольнага боку 2 валамі (выш. каля 1–1,2 м, шыр. да 4 м) і ровам (глыб. да 1,7 м, шыр. да 5 м). У валах маецца разрыў з паўд.-ўсх. боку; насыпаны яны з жоўтага пяску, у якім, асабліва з боку р. Бярэзіна, прасочваецца мноства вугалю ад канструкцый, узведзеных на валах і ўнутрывальных. Гарадзішча вядома з 1882, абследавалася ў 1926 С.С.Шутавым і М.М.Улашчыкам, было прывязана да в. Вуглата. У 2004 шурфоўку на гарадзішчы правёў В.І.Кошман. Культ. пласт 0,3–1 м, цёмнашэрага колеру. Знаходкі прадстаўлены керамікай жал. веку са штрыхоўкай і ганчарнай керамікай 12–13 ст. Помнік жал. веку і сярэдневякоўя.

*Літ.*: Шутаў С.С., Улашчык М.М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г. // Працы. Т. 2; Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974. *В.І.Кошман.*

**Я́НАВА**, археалагічныя помнікі – стаянкі, гарадзішча, селішчы і курганны могільнік каля пас. Янава Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка-1 *свідэрскай культуры* за 1 км на Пн ад пасёлка, на правым беразе р. Днепр. Выявіў у 1962 К.П.Шут. У 1972–73 даследаваў 230 м² В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,4 м. Выяўлены 3 скопішчы расшчэпленага крэменю ў заглыбленнях (0,4–0,5 м) – былых майстэрнях па апрацоўцы крэменю. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся імпартны мелавы крэмень. Знойдзены расшчэплены крэмень, пляскатыя двухпляцовачныя нуклеусы са скошанымі пляцоўкамі, вузкай франтальнай часткай, прызначаныя для сколвання пласцін, свідэрскія тронкавыя наканечнікі стрэл, мініяцюрныя вастрыі, разцы двухгранныя рэтушаваныя і на зломе загатоўкі, вырабы з выемкамі, канцавыя скрабкі.

Стаянка-2 свідэрскай культуры за 0,2 км на Пд ад пасёлка, 2 км на Пд ад стаянкі-1, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, за 1,5 км ад вусця р. Белалічка. Выявіў і абследаваў у 1987 В.Ф.Капыцін. Знойдзены канцавыя скрабкі з пласцін, рэтушаваныя разцы, свідэрскі наканечнік стралы з выражанымі тронкамі і пляскатай рэтушшу з брушка, двухпляцовачныя нуклеусы, пласцінкі і адшчэпы.

Гарадзішча за 0,2 км на Пн ад пасёлка, на мысе, утвораным старыцай Дняпра і глыбокім ярам. Памер пляцоўкі 50 × 40 м. З боку поля ўма-цавана валам выш. да 5 м і ровам глыб. 1,5 м. Абследавалі ў 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1962 Л.Д.Побаль. У 1981–83 даследавала 240 м² А.У.Ільюцік. Культ. пласт 0,55–1,65 м. Выяўлены 3 пахаванні з абрадам трупаспалення, у запаўненні ям – фр-ты грубаляпной керамікі, вугаль і кальцыніраваныя косці. Знойдзены кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур, гліняныя прасліцы і грузікі (культур мілаградскай, зарубінецкай, юхнаўскай і штрыхаванай керамікі), 2 прасліцы біканічнай формы з вял. адтулінай (5–8 ст.), шыфернае прасліца (10–13 ст.), ганчарныя гаршкі (11–16 ст.), фр-ты муштукоў белагліняных галандскіх люлек (17–18 ст.), вырабы з жалеза (нажы, кіепадобныя шпількі, падкоўкі), аднабаковы крыж-цельнік з вушкам і рэльефнай выявай распяцця на правым баку (11 ст.), вырабы са шкла (12–13 ст.). Гарадзішча засн. племяннной абшчынай мілаградскай культуры, існавала да сяр. 1-га тыс. н.э. Жыццё на ім адрадзілася ў 11 ст. і працягвалася да 15–16 ст.

Селішча-1 за 0,2 км на Пд ад гарадзішча. Даўж. да 200 м, шыр. да 120 м. У 1962 абследаваў і ў 1967 даследаваў 40 м² Л.Д.Побаль. Культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены 2 гасп. ямы, кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

Селішча-2 на ПнЗ ад гарадзішча, на другім баку яра. Даўж. уздоўж Дняпра да 500 м, шыр. да 200 м. У 1967 даследаваў 616 м² Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,2–0,3 м. Выяўлены слупавыя ямы, попел, вугаль, абпаленыя камяні, грубаляпная кераміка 1-й пал. 1-га тыс. н.э., кальцыніраваныя косці і ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

Курганны могільнік за 0,6 км на ПнЗ ад гарадзішча. Захавалася 5 курганоў выш. 1,5–2 м, дыям. 10–12 м.

*Літ.*: Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н.э. по начало II в. до н.э.). Минск, 1974; Копытин В.Ф. Мезолитическое поселение Горки в Посожье // КСИА. 1979. Вып. 157; Ільюцік А.У. Гарадзішча Янава // ВАНБ. 1985. № 3.

*В.Ф.Капыцін, А.У.Ільюцік.*




*Да арт. **Янава**. Наканечнікі стрэл (1–13), вастрыі (14, 15), скрабкі (16, 17), разцы (18, 19), нуклеус (20) са стаянкі-1.*

**ЯНІСЛА́ВІЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура позняга мезаліту (6–5 тыс. да н.э.), помнікі якой вядомы ў басейнах Віслы, Нёмана, Прыпяці, Верхняга Дняпра (у межах Палесся) на тэр. Польшчы, Літвы, Украіны і Беларусі. Культуру вылучылі ў 1960-я г. С.К.Казлоўскі і Г.Венцкоўская («віслянскі цыкл»). Назву атрымала па пахаванні Яніславіца (Польшча).




Сярод помнікаў Я.к. вядомы стаянкі (Гжібава Гура, Польшча) і пахаванні (Яніславіца, Гіжыцка-Перкунова, Польшча) па абраду трупапалажэння ў грунтавых ямах выцягнутай формы. Інвентар прадстаўлены прыладамі працы і ўзбраення з крэменю і косці, упрыгажэннямі (падвескі з зубоў аленя, лася, тура, дзіка). Асобныя магілы пасыпаны гематытам і афарбаваны ў чырвоны колер. Асн. заняткі насельніцтва Я.к. – паляванне, збіральніцтва і рыбалоўства.

Помнікі Я.к. на тэр. Беларусі сталі вядомы ў 2-й пал. 19 ст., у розныя гады вывучалі З.Шміт, М.Федароўскі, Н.М.Гурына, В.Супрун, М.М.Чарняўскі, В.Ф.Ісаенка, У.П.Ксяндзоў, А.Г.Калечыц, В.С.Абухоўскі і інш. Вядома каля 150 месцазнаходжанняў Я.к. ў басейнах Нёмана, Зах. Буга і вярхоўях Прыпяці. Асобныя знаходкі таксама прадстаўлены на помніках сярэдняй і ніжняй Прыпяці, Верхняга Падняпроўя і Пасожжа. Найб. выразныя матэрыялы атрыманы на стаянках Беліца-2, Бершты-6, Нясілавічы-1, Чарлёнкі (басейн р. Нёман); Бабровічы, Кончыцы, Моталь, Майсеевічы, Церабень (Прыпяць), Красноўка 1Б, Старая Лутава (Падняпроўе), Раманавічы (на Іпуці).

Для вырабу прылад насельніцтва Я.к. выкарыстоўвала нажападобныя рэгулярныя пласціны, атрыманыя шляхам адціскання з аднаго боку нуклеусаў аднапляцовачнай формы. Для крамянёвага інвентару характэрны вастрыі яніславіцкага тыпу і адыходы іх вытворчасці – мікраразцы. Вастрыі зроблены на праксімальных частках пласціністых нарыхтовак, маюць плоскі мікраразцовы скол і абламаную ці рэтушаваную (прамой, скошанай, вогнутай) аснову. Крамянёвы інвентар таксама прадстаўлены яніславіцкімі трохвугольнікамі, ланцэтападобнымі вастрыямі, трапецыямі, пласцінамі-ўкладышамі, скрабачамі на адшчэпах, канцавымі скрабкамі, рэтушнымі і на вугле зламанай пласціны разцамі, вырабамі з выемкай, праколкамі, сякерамі. Вядома таксама калекцыя вырабаў з рагоў высакароднага аленя са Смаргонскага кар'ера – сякеры, матыкі, муфты, малаткі, прылады з адтулінамі для рукаятак, асобныя прылады арнаментаваны (знаходка т.зв. «жэзла шамана»).



*Вырабы янiславiцкай культуры (паводле В.С.Абухоўскага): 1–11 – вастрыі янiславiцкага тыпу; 12–13 – ланцэтападобныя вастры; 14, 15 – пласцiны-ўкладышы; 16 – пласцiна з прытупленым краем; 17, 18 – трохвугольнiкi; 19, 20 – трапецыі; 21, 22 – разцы; 23 – мiкраразец; 24 – скрабок канцавы; 25, 26 – скрэблы; 27 – нуклеус. Вырабы 1–2, 6–8, 12–17, 21–27 – знойдзены на стаянцы Бершты-6; вырабы 3–5, 9–11, 18–20 – на стаянцы Чарлёнка.*

Генезіс Я.к. асн. частка даследчыкаў звязвае з колам культур маглемазэ і ў прыватнасці культурай Свадборг. Мяркуецца, што насельніцтва Я.к. прымала ўдзел у фарміраванні *прыпяцка-нёманскай* (валынскай) *культуры* эпохі неаліту.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Кольцов Л.В. Финальный палеолит и мезолит южной и восточной Прибалтики. М., 1977; Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979; Яго ж. Янiславiцкая культура // Археалогія Беларусі. Мінск, 1997. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі; Абухоўскі В. Раскопкі стаянкі Бершты VI // ГАЗ. Мінск, 1999. № 14; Яго ж. Знаходкі крамянёвых і каменных вырабаў ад палеаліту да ранняга жалезнага веку з тэрыторыі Беларусі ў фондах Дзяржаўнага Археалагічнага Музея ў Варшаве. Варшава, 2003; Залізняк Л.Л. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України. Культурний поділ та періодизація // Кам'яна доба України. Київ, 2005. Вип. 8. *А.У.Коласаў.*

**ЯНКАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – гарадзішча і курганныя могільнікі каля в. Янкавічы Расонскага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* за 2,5 км ад вёскі ўверх па цячэнні р. Дрыса, каля былой в. Крупец, у лесе. Памеры 42 × 38 м. Выявілі і даследавалі ў 1962 Г.В.Штыхаў і К.П.Шут. У 1981 абследавала Т.С.Скрыпчанка. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду. Датуецца 6 ст. да н.э. – 4 ст. н.э.

Курганны могільнік-1 атокінскага варыянта *банцараўскай культуры* за 4 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Атокі, на левым беразе р. Дрыса. 3 насыпы: адзін доўгі 110 × 9 – 10 × 1 – 1,5 м, вакол прасочваюцца раўкі глыб. 20–40 см, 2 круглыя выш. да 3 м, дыям. 12 м. У 1967–69 даследаваў 2 насыпы Г.В.Штыхаў. Выяўлены 3 пахаванні. Пахавальны абрад – трупаспаленне. Знойдзена урна (слабапрафіляваная ляпная пасудзіна выш. 26 см), да краёў напоўненая касцямі. На мацерыку ў рэштках вогнішча пл. 24 м² шмат перапаленых касцей. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, фр-ты касцяных вырабаў – арнаментаваная пласціна, зааморфная выява, бронзавыя бляшкі ад рэменя і пераплаўленыя рэшткі інш. бронзавых вырабаў. Датуецца сяр. 1-га тыс. н.э. Ад могільніка паходзіць *Атокінскі варыянт банцараўскай культуры.*

Курганны могільнік- 2 атокінскага варыянта банцараўскай культуры. За 2 км на У ад вёскі, каля б. маёнтка Павалішына, на левым беразе р. Дрыса. 11 насыпаў: круглыя выш. 1–3 м, дыям. 8–12 м, адзін доўгі 12 × 7 × 0,6–0,8 м. Выявіў у 1967 і даследаваў 7 насыпаў у 1968 і 1970 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад – трупаспаленне па-за курганам. У доўгім кургане 3 пахаванні. Знойдзены фр-ты ляпной гладкасценнай і з расчосамі керамікі, фр-ты бронзавых вырабаў. Датуецца сяр. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972. *Г.В.Штыхаў.*

**ЯНЧУ́К** Мікалай Андрэевіч (29.11.1859, в. Корніца Мазавецкага ваяводства, Польшча – 6.12.1921), беларускі і расійскі вучоны-славіст (этнограф, музеязнавец, фалькларыст, антраполаг, археолаг, краязнавец), пісьменнік. Скончыў Маскоўскі ун-т (1885). Працаваў настаўнікам, з 1892 памочнік бібліятэкара Румянцаўскага музея, хавальнік Дашкаўскага этнагр. музея ў Маскве. Зрабіў класіфікацыю прадметаў, склаў «Ілюстраваны даведнік этнаграфічнага музея», асобна вылучыў бел. матэрыялы з Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Смаленскай губ. У 1889–1903 сакратар аддзела этнаграфіі Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це. Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў час. «Этнографическое обозрение». З 1918 выкладаў у Маскоўскім ун-це. Удзельнічаў у рабоце камісіі па арганізацыі Бел. ун-та, з 1921 праф. кафедры бел. літаратуры і этнаграфіі БДУ. Навук. дзейнасць пачаў з краязнаўства. У 1885 зрабіў апісанне фальклорна-этнагр. абраду ў Корніцкім прыходзе. Вёў раскопкі курганоў і гарадзішчаў. У 1886 правёў антрапалагічную экспедыцыю ў Беларусь і Літву. Даследаваў Юравіцкую воласць Ігуменскага, в. Языль Бабруйскага павятаў, *Няжараўку*. Па антрапалагічных асаблівасцях (форме твару, колеру вачэй, валасоў і інш.) зрабіў

вывады пра тыпы беларусаў. Актыўна выступаў супраць паланізацыі і русіфікацыі Беларусі. Зрабіў выснову, што бел. народ па сваёй культуры стаіць на адным узроўні з суседнімі народамі і мае права на самастойнае існаванне. Прааналізаваў археал. і этнаграф. дзейнасць А.К.*Кіркора*.

*Тв.*: А.К.Киркор: краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; По Минской губернии: (заметки из поездки в 1886 году). М., 1889; К вопросу об антропологическом типе литовцев // Труды антропологического отдела... М., 1890. Т. 12, вып. 6; Некоторые данные к вопросу об антропологическом типе белорусов // Там жа. Вып. 3; Археологическо-этнографическая поездка в Седлецкую губернию // Памятная книжка Седлецкой губернии на 1892 г. Седлец, 1892.

*Літ.*: Шаров Н.В. Н.А.Янчук, 1859–1921 г. // Труды. БГУ. 1922. № 2–3; Петровская Г.А. Не погасла звезда: жизненный и творческий путь Н.А.Янчука. Минск, 1987; Бялокозович Б. Николай Янчук – исследователь польско-восточно-славянского пограничья // Сов. славяноведение. 1989. № 5; Яго ж. Mikołaj Janczuk i jego związki z Podlasiem // Slavia Orientalis. 1984. № 3–4; Яго ж. Mikołaj Janczuk o Oskarze Kolbergu i Adolfie Chybińskim // Там жа. 1987. № 3–4.

*Г.А.Каханоўскі.*

**ЯРО́ЦКІ** Станіслаў Лук'янавіч [1871, Варшава (?) – 13.10.1944], беларускі археолаг, краязнавец, мастак. Вучыўся ў мастака Я.Матэйкі, потым у Парыжы. З 1898 жыў у Вільні, займаўся жывапісам. У 1920–30-я г. кіраваў маст. школай у Вільні. З 1899 даследаваў адзіночныя курганы ў ваколіцах Залесся, Крэва (Смаргонскі р-н), курганныя могільнікі ў Высокім (40 курганоў), Ленкаўшчыне, Казароўшчыне (Маладзечанскі р-н). Знайшоў жал. меч даўж. 75 см, нож, бронзавыя пярсцёнкі, сякеры, шкляныя і пазалочаныя пацеркі. Зрабіў малюнкі знаходак і перадаў у Віленскі музей.

*Тв.*: Kurhany i cmentarzyska w pow. Oszmiańskim, w gub. Wileńskiej // Swiatowit. 1901. T. 3; 1911. T. 9; Okolice Wilna: Przewodnik túrystyczny. Wilna, 1925.

*Г.А.Каханоўскі.*

**ЯРЭ́МІЧЫ**, археалагічныя помнікі – стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Ярэмічы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

Стаянка-1 за 0,5 км на У ад вёскі, ва ўр. Грудкі, на дзюне левабярэжжа Нёмана. Выявіў у 1962, даследаваў у 1965 М.М.Чарняўскі (ускрыта 18 м²). Памеры 140 × 80 м; пашкоджана землянымі выпрацоўкамі. Культ. пласт у цэнтры 0,7 м. Знойдзены крамянёвыя трохвугольныя і кароткія тронкавыя наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, разцы і інш., фр-ты керамікі (з раслліннымі дамешкамі і грабеньчата-накольчатым арнаментам; з арганічнымі і мінеральнымі дамешкамі, аздобленыя шнуравым арнаментам і адбіткамі лінейнага штампа). Адносіцца да культуры нёманскай шнуравой керамікі і *тшцінецкай культуры*.

Стаянка-2 за 0,3 км на Пн ад вёскі, на дзюне пасярод левабярэжнага поплаву Нёмана, ва ўр. Быстрыца. Выявіў у 1973 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены матэрыялы нёманскай неалітычнай культуры.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**Я́СЕЛЕВІЧЫ**, археалагічныя помнікі – селішчы і курганны могільнік каля в. Яселевічы Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл.

Селішча-1 за 0,2 км на Пд ад вёскі, на правым карэнным беразе р. Лебяда, на тэр. сучасных могілак. У 1955 выявіла і даследавала Ф.Д.Гурэвіч. Памеры 50 × 20 м. У абрыве берага прасочваецца культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены абпаленыя камяні, жал. плашкі, ганчарная кераміка. Датуецца 11–14 ст.

Селішча-2 за 0,8 км на Пд ад вёскі, на беразе р. Лебяда. У 1975 выявіў і даследаваў М.А.Ткачоў. Пл. каля 1 га. У абрыве берага культ. пласт да 0,5 м. Пры зачыстцы агаленняў выяўлены рэшткі агнішча, фр-ты ляпной штрыхаванай керамікі. У 1978 А.Р.Мітрафанаў раскапаў 105 м². Культ. пласт 0,4–0,5 м. Знойдзены посуд ранняга этапу культуры штрыхаванай керамікі (7–1 ст. да н.э.). Пераважаюць пасудзіны слоікападобнай формы, сустракаюцца экзэмпляры пераходнага тыпу ад слоікавых да рабрыстых. Шмат жал. шлакаў. Датуецца 6 ст. да н.э. – 2 ст. н.э.

Курганны могільнік за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на беразе р. Лебяда. Захавалася 6 насыпаў дыям. 4–6 м, выш. 0,4–0,6 м. У 1955 выявіла Ф.Д.Гурэвіч (было 26 насыпаў – 23 курганы і 3 падоўжаныя). Каля некаторых насыпаў прасочваліся раўкі. У 1975 могільнік абследаваў М.А.Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Митрофанов А.Г. Изучение поселений в бассейнах Немана и Западной Двины // АО 1978. М., 1979. *Я.Г.Звяруга.*

**Я́СТРАБКА**, археалагічны помнік – гарадзішча мілаградскай культуры каля в. Ястрабка Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.

За 1,3 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Бабровіны (Язы), на невысокім пагорку ў забалочанай мясцовасці на водападзеле рэк Брагінка і Пясчанка. Гарадзішча авальнай формы, памерамі 114 × 91,5 м. Умацавана 2 валамі: унутраны выш. 1,5–1,8 м, шыр. 13–20 м і вонкавы выш. 0,5 м, шыр. 6–10 м і ровам шыр. 3–4 м, глыб. 0,3–0,4 м. У 1977 выявіў, у 1978–79 даследаваў 1396 м² М.І.Лашанкоў. Раскопы закладзены па пляцоўцы (1200 м²) і абарончых збудаваннях (196 м²). Унутраны вал будаваўся ў 2 этапы з выкарыстаннем падзолістай глебы, культ. пласта, дрэва і невял. камянёў. Ядро вала шыр. 3,5 м, паміж 2 драўлянымі сценамі і яго схілы насыпаны каля 4 ст. да н.э. (шыр. асновы 10 м, выш. вала 1,2 м). Стромкі вонкавы схіл пераходзіў у роў. Каля 3 ст. да н.э. вал падсыпаны,

павялічаны яго памеры. Знешні вал насыпаны з пяску, супеску, гліны і абкладзены дзярнінай (першапачатковыя шыр. 4,5 м, выш. 0,7 м). Культ. пласт 0,2–0,5 м. Выяўлены чашападобныя гасп. ямы і вертыкальныя слупавыя ямкі, каля асновы гал. вала – агнішча авальнай формы.

Знойдзена 2385 фр-таў керамікі мілаградскай культуры (грубаляпныя венчыкі з зашчыпамі па краі, рэшткі гаршкоў ранняй формы з круглабокім тулавам, адагнутым венчыкам і закругленым дном, шарападобных гаршкоў з вертыкальным венчыкам), аздобленых уціскannямі пальцаў, палачкі, пазногцяў на шыйках, зрэдку пад венчыкам і на плечуках посуду, косці свойскіх і дзікіх жывёл, рыбы, крамянёвыя абломкі сярпа, загатоўка сякеры і сякера, бронзавая цвікападобная шпілька і частка бранзалета, жал. абломкі сярпа, рыбалоўнага кручка, ляза сякеры і кольца з бронзавым пакрыццём, касцяныя ручка нажа і амулет, гліняныя пацеркі, прасліцы, шкляныя пацеркі. Датуецца 4 – пач. 2 ст. ст. да н.э.

*Літ.:* Лошенков М.И., Залашко Г.М. Работы Полесского отряда на Гомельщине // АО 1977. М., 1978; Лошенков М.И. Болотное городище у д. Ястребка // АО 1978. М., 1979; Яго ж. Раскопки болотного городища в бассейне р. Брагинка // АО 1979. М., 1980; Яго ж. О хозяйственных занятиях населения болотных городищ Южной Белоруссии // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; Яго ж. Раскопкі ля вёскі Ястрабка // ПГКБ. 1983. № 4; Яго ж. Укрепление городища Ястребка // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. *М.І.Лашанкоў.*

**ЯСУ́ДАВА**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля б. маёнтка Ясудава Гродзенскага р-на, ва ўр. Капцы (зараз зах. ўскраіна г.п. Сапоцкін). Цяпер не існуе. Вядомы з к. 19 ст. У 1908 С.Крукоўскі раскапаў 15 курганоў: 13 круглых (дыям. 5,6–12,5 м, выш. 1,1–2 м) і 2 падоўжаныя (10,1 × 14,6 м, выш. 2,3 м; 6,7 × 8,5 м, выш. 1,5 м). У 6 курганах на ўзроўні гарызонту выяўлены сляды вогнішчаў. Пахаванні па абраду трупаспалення на грунце і ў розных частках насыпу. Рэшткі спаленняў змешчаны ў спец. гаршках-урнах або ссыпаны ў насып. У 2 курганах на грунце былі каменныя скрыні памерам 3,5 × 3 м, выш. 1,45 м (у падоўжаным) і 1,8 × 1,1 м (у круглым). У адной скрыні, змешчанай паміж рэшткамі вогнішча, знаходзіліся перапаленыя косці, а над ёй было пахаванне ў насыпе. У 2 курганах на вогнішчах кучы камянёў выш. 0,8 і 1 м. Пахавальны інвентар 3 курганоў (2 са скрынямі і 1 з урнай) багаты: бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, шыйныя грыўні, фібулы, падвескі, нажы, наканечнікі коп'яў; у інш. курганах пераважна ганчарная кераміка. У 2 круглых курганах было 3 і 11 пасудзін, у падоўжаным з каменнай скрыняй – 10 пасудзін з прамымі і адагнутымі венчыкамі, упрыгожаных пераважна лінейным арнаментам, часта ў спалучэнні з хваляй, радзей – з насечкамі і штампамі. Могільнік належаў балцкаму насельніцтву, датуецца 10–11 ст.

*Літ.:* Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Krukowski S. Cmentarzysko mogił ciałopalnych w Jasudowie pod Sopockinami w pow. Augustowskim, gub. Suwalskiej // Światowit. 1911. T. 9. *Я.Г.Звяруга.*

**ЯСЯНЕ́Ц**, археалагічны помнік – курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Ясянец Ганцавіцкага р-на Брэсцкай вобл. За 0,5 км на Пд ад вёскі. Захавалася 12 круглых у плане (трапляюцца блізкія да квадрата са зрэзанымі вугламі) курганоў выш. 0,8–1,5 м, асобныя да 2,2–2,5 м, дыям. 7–15 м. У 1955 выявіў і даследаваў 3 насыпы Б.В.Міралюбаў. У 1961 даследаваў 9 насыпаў П.Ф.Лысенка. Пахавальны абрад – трупапалажэнне (трапляецца трупаспаленне) на спіне галавой на З на попеле рытуальнага вогнішча альбо ў ямах глыб. 0,2–0,6 м. У некаторых пахаваннях выяўлены сляды спарахнелага дрэва. У 4 курганах знойдзены пахавальны інвентар – гліняныя ганчарныя гаршкі, жал. і бронзавыя спражкі, нажы, баявыя сякеры і інш. Датуецца 11–13 ст.

За 1 км на Пд ад вёскі размешчаны могільнік з 11 насыпаў выш. 0,8–1,5 м, дыям. 8–12 м, за 2 км на Пд ад вёскі – другі могільнік з 12 курганоў выш. 0,8–1,4 м, дыям. 8–12 м.

*Літ.:* Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. 1961. Вып. Е1–57; Лысенко П.Ф. Ясенецкий курганный могильник // Вопросы истории: (тез. докл. XII конф. молодых учёных Белорусской ССР). Минск, 1969. *П.Ф.Лысенка.*

**ЯСЯНЕ́Ц**, археалагічныя помнікі – гарадзішчы, селішча, стаянка каля в. Ясянец Мазырскага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча-1 ранняга этапу *мілаградскай культуры.* За 1 км на Пд ад вёскі, на забалочаным поплаве р. Прыпяць, ва ўр. Сухалістак. Пляцоўка авальная, памерамі 90 × 60 м, умацавана 2 кальцавымі валамі (унутраны выш. 3 м, шыр. 10 м, вонкавы – адпаведна 0,5 і 3 м). У 1950-я г. выявіў Ю.У.Кухарэнка, у 1964 абследаваў Л.Д.Побаль, у 1979–83 даследаваў 480 м$^2$ Г.М.Залашка. Культ. пласт 0,2–0,3 м. Выяўлены рэшткі агнішчаў і гасп. ямы з фр-тамі керамікі. Знойдзена каля 600 фр-таў груба ляпной керамікі (на асобных венчыках прасочаны жамчужны арнамент), 2 бронзавыя шпількі (з S-падобным завіткам і плоскай галоўкай), фр-т і загатоўка бронзавых бранзалетаў, гліняныя грузікі разнастайнай формы, бронзавы наканечнік скіфскай стралы з рамбічным пяром і шыпам на ўтулцы, сіняя шкляная пацерка, крамянёвы нож. Датуецца 7/6 – 3/2 ст. да н.э.

Гарадзішча-2 ранняга этапу мілаградскай культуры за 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Вал Скрыгалаўскі (Астравок). Пляцоўка авальнай формы, памерамі 170 × 160 м, умацавана 2 кальцавымі валамі (унутраны выш. 2,5 м, шыр. 10 м, вонкавы адпаведна 0,5 і 6 м), ровам. У 1950-я г. выявіў Ю.У.Кухарэнка, у 1964 абследаваў Л.Д.Побаль, у 1979, 1982 даследаваў 148 м$^2$



*Знаходкі мілаградскай культуры з гарадзішча-1 **Ясянец**.*

Г.М.Залашка. Культ. пласт 0,2–0,3 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі з венчыкамі, упрыгожанымі жамчужным арнаментам і наляпным валікам. Датуецца к. 7 – пач. 6 ст. да н.э.

С е л і ш ч а раннефеад. часу за 3 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Селішча. У 1962 выявіў, у 1976 абследаваў У.Ф.Ісаенка. Працягласць 400 м уздоўж правага берага воз. Міхайлаўка. Культ. пласт 0,5 м. Знойдзена ганчарная кераміка.

С т а я н к а эпохі неаліту і бронзавага веку за 1 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Загуменька. У 1962 выявіў, у 1976 даследаваў У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, рэшткі ляпнога посуду.

*Літ.*: З а л а ш к а Г.М. Помнікі ранняга жалезнага веку на правабярэжжы Прыпяці // ВАНБ. 1983. № 2.

*А.А.Егарэйчанка, У.Ф.Ісаенка.*

**ЯЦВЯ́ГІ**, я т в я г і, племя, група плямён заходнябалцкай моўнай групы, раннесярэдневяко-вае адгалінаванне *прусаў*. Археал. спадчыну Я. вывучалі даследчыкі Беларусі (з к. 19 ст., В.А.Шукевіч, А.М.Ляўданскі, Я.Г.Звяруга, А.В.Квяткоўская, А.Ф.Мядзведзеў, С.П.Віцязь), Расіі (М.П. Авенарыус, А.А.Спіцын, Ф.Д.Гурэвіч, Ю.У.Кухарэнка, В.В.Сядоў), Польшчы (Д.Флеры, С.Крукоўскі, Е.Талька-Грынцэвіч, А.Каменскі, Е.Антаневіч, Д.Ясканіс, Е.Ясканіс, Е.Акуліч, М.Качынскі, Л.Лянарчык, Г.Іваноўская), Германіі (К.Энгель, В.Ла Бом), Літвы (І.Басанавічус, Р.К.Валкайтэ-Кулікаўскене, П.Кулікаўскас, А.Таўтавічус, В.Даўтудзіс, О.Кунцэне, А.Астраўскас) і інш.

У к. 1-га тыс. н.э. ад паўвострава Самбія на Пд, па басейнах рэк Прэгаль, Лава, Чорная Ганча ў верхняе Панямонне рушылі перасяленцы-прусы, якія асімілявалі рэшткі карэннага протапрускага насельніцтва (сувалкаўскай групы *заходнябалцкай культуры*). У выніку сфарміраваўся арэал Я.: памежная з прусамі заходняя частка Мазурскага Паазер'я (Судовія, і паўд.-зах. рэгіён – Палексія), басейны сярэдняга і верхняга Панямоння (правабярэжжа – *Дайнова*, левабярэжжа – Яцвягія). Развіццё культуры Я. уключае асноўныя этапы: 1) 9 – к. 11 ст., 2) пач. 12–14 ст. Змены з 1-га на 2-гі этап былі выклікаPны рэлігійным уплывам хрысціянства. Пахавальны абрад 1-га этапа ўключае *каменныя курганы* з крэмацыяй нябожчыкаў (рэшткі пахавальнага вогнішча), інвентар сціплы. 2-і этап – *каменныя магілы* з інгумацыямі. У пераходны перыяд 11 – пач. 12 ст. суіснавалі каменныя курганы і каменныя магілы. Знешні воблік Я. уключаў тыповыя элементы – мужчынскі: фібула падкавападобная, рамень са спражкай, крэсіва, кап'ё альбо нож, сякера; жаночы: скроневыя кольцы пярсцёнкападобныя ці трохпацеркавыя (шматпацеркавыя), налобная павязка, упрыгожаная шматлікімі бляшкамі з цісненнем; бранзалеты, пярсцёнкі.



Аўтар С.П. Віцязь

*Літ.*: С е д о в В.В. Ятвяги // Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987; К в я т к о в с к а я А.В. Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI – XVII вв.). Минск, 1998; З в я р у г а Я.Г. Насельніцтва Панямоння // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т.3. Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII ст.); В і ц я з ь С.П. Помнікі яцвягаў перыяду ранняга сярэднявякоўя ў Верхнім Панямонні // Весці НАН Беларусі. Мінск, 2009. № 2; Я г о ж. Старажытныя прусы: арэалы рассялення (да праблемы паходжання яцвягаў) // Дакл. НАН Беларусі. 2010. Т. 54, № 3.

*С.П.Віцязь.*

# Дадатак

**ВАЙЦЯХÓВІЧ** Андрэй Вячаслававіч (н. 7.3.1972, г. Бабруйск Магілёўскай вобл.). Скончыў Беларускі ун-т культуры (2000). З 2006 у ІГ НАН Беларусі. Вывучае пахавальны абрад насельніцтва Полацкай зямлі. Даследаваў курганныя могільнікі ў Докшыцкім і Лепельскім р-нах Віцебскай вобл., Смалявіцкім р-не Мінскай вобл.

*Тв.*: Тры ўзроўні інгумацыі ў курганах Полацкай зямлі // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; Курганны могільнік каля вёскі Новыя Валосавічы Лепельскага раёна // МАБ. 2006. № 12; Пахавальны абрад курганнага могільніка канца X – XII ст. каля вёскі Вітунічы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці // Там жа. 2006. № 14; Асаблівасці пахавальнага абрада курганнага могільніка Бірулі (Парэчча) Докшыцкага раёна Віцебскай вобл. // Там жа. 2008. № 15.

**ДЗЯРНÓВІЧ** Сяргей Дзмітрыевіч (н. 17.3.1974, г. Беразіно Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Скончыў Беларускі педагагічны ун-т (1996). З 1999 у ІГ НАН Беларусі. Даследуе гісторыка-культурныя ўзаемаадносіны насельніцтва бел. Падзвіння са Скандынавіяй у сярэдневякоўі. Праводзіў археал. раскопкі на гарадзішчах Браслаўскага і Шаркавіцкага р-наў, курганнага могільніка ў Глыбоцкім р-не Віцебскай вобл.

*Тв.*: Вікінгі на Усходзе: Каталог выставы. Мінск, 2002 (у сааўт.); Скандинавские древности эпохи викингов в Беларуси. Минск, 2006; Исландские саги как источник по изучению исторических связей Полоцкой земли со Скандинавией в IX–XIII вв. (к постановке вопроса) // ГАЗ. Мінск, 2000. № 15.

**ЗАЛÁШКА** Георгій Міхайлавіч (н. 8.6.1954, г. Масква, Расія), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1977). У 1979–86 у ІГ НАН Беларусі. Вывучаў гісторыю насельніцтва ўсх. Беларусі ў раннім жал. веку. Даследаваў паселішчы і могільнікі ў Мазырскім р-не Гомельскай вобл., Давід-Гарадоцкім р-не Брэсцкай вобл.

*Тв.*: Помнікі ранняга жалеза на правабярэжжы Прыпяці // Вестн. АН БССР. Сер. грамад. навук. 1983. № 2; Скарбы скіфскіх курганоў // ПГКБ. 1982. № 3; Новый зарубинецкий могильник возле Давид-Городка // Восточные славяне и Киевская Русь. Минск, 1983.

**ЗДАНÓВІЧ** Ніна Іванаўна (н. 1.1.1959, г. Слонім Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг, гісторык. Скончыла БДУ (1981). У 1984–88 у ІГ НАН Беларусі, у 1989–93 у Ін-це «Белспецпраектрэстаўрацыя», з 1994 у Беларускім педагагічным ун-це. Вывучае матэрыяльную культуру Беларусі 16–18 ст. па матэрыялах археал. даследаванняў і пісьмовых крыніц. Прымала ўдзел у археал. раскопках у Мсціславе, Слоніме, Мазыры.

*Тв.*: Кераміка Мсціслава // Беларусь. 1983. № 9; Неполивная посуда Мирского замка // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988.

**КАЗÍМІР**, археалагічны помнік – рэшткі старажытнага горада ў в. Каралеўская Слабада 2 Светлагорскага р-на Гомельскай вобл. Узгадваецца паводле прывілея на магдэбургскае права, пажалаванага ў 1643 разам са статусам горада каралевай і вял. княгіняй Цэцыліяй Рэнатай, жонкай Уладзіслава IV Вазы, уладальніцай Бабруйскага староства. Паселішча называлася Каралеўская Слабада. Мяркуецца, што назву горад Казімір атрымаў у гонар каралевіча Казіміра Жыгімонта Вазы (1640–47). Высветлена, што гарадскі герб – інверсія герба імператарскага аўстрыйскага роду Габсбургаў, з якога паходзіла каралева Цэцылія. Паводле пісьмовых крыніц сярод гараджан пераважалі тыповыя ўсх.-бел. прозвішчы і праваслаўныя імёны. У 1655 горад разам з жыхарамі быў знішчаны казакамі гетмана Залатарэнкі. Але, паводле інвентара 1684, горад, які налічваў усяго 18 жыхароў, не быў пазбаўлены гарадскога статуса і магдэбургскага права. На рубяжы 18 ст. паселішча, якое называлася то Казіміраўскай, то Каралеўскай Слабадой, ператварылася ў вёску.

Помнік размешчаны на тэрасе высокага (10–12 м) правага берага р. Бярэзіна. Тэрасу разразае шырокі яр, які выходзіць на старыцу. З паўн. боку над ярам і старыцай узвышаецца мыс, які мае характэрную назву «Дзяцінец». Менавіта там размяшчаўся храм. Насупраць магла размяшчацца ратуша, якая згадваецца ў прывілеі на магдэбургскае права. Такім чынам, планіроўка Казіміра мярку-

ецца трохвосевай: дзве вуліцы ўздоўж ракі і трэцяя ўздоўж яру павінны былі зыходзіцца каля «Дзяцінца». У 2006–10 С.Я.Рассадзін даследаваў 500 м².

Культ. пласт таўшч. 0,2–1,5 м прасочваецца на пл. каля 5 га. У цэнтр. частцы, ва ур. Дзяцінец, былі выяўлены рэшткі каменнага фундамента храма прамавугольнай формы памерамі 12 × 8 м. Побач з фундаментамі выяўлены рэшткі 3 пахаванняў жыхароў, што загінулі ў 1655.

Знойдзены нажападобныя крамянёвыя пласціны, ляпная кераміка, прасліца і бронзавы бранзалет калочынскай культуры 3-й чв. 1 тыс. Асн. частка знаходак датуецца 17 ст.: кругавы посуд (гаршкі, глякі, макотры, міскі, талеркі, кубкі, келіхі), фр-ты шкляных вырабаў (аконнага шкла, бутэлек, штофаў, кубкаў, шкляніц, келіхаў), люлькі, дахоўка і кафля, жал. вырабы (сякера, серп, цвікі, скобы, падковы, нажы і відэльцы, наканечнікі стрэл), сярэбраныя і бронзавыя ўпрыгажэнні, медныя рыбалоўныя блёсны, свінцовыя грузілы і кулі. Вылучаюцца рэшткі вазы ў форме кветкі, якая была выканана ў іспанскай (каталонскай) тэхніцы 17 ст. і фр-т кубка, маркіраванага літарамі MP.

*Літ.*: Рассадин С.Е. Гербовый привилей 1643 г. на магдебургию городу Казимежу в старостве Бобруйском // Белорусский археографический ежегодник. 2001. Вып. 2; Я г о ж. Историко-археологические открытия последних лет на территории Светлогорского района и города Светлогорска в Беларуси // Пензенский археологический сборник. Пенза, 2010. Вып. 3.

*С.Я.Рассадзін.*

**КАЛО́ДЗЕЦКАЯ**, археалагічны помнік – курганны могільнік каля в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. За 1,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Дзяражня. Першапачаткова было 13 насыпаў (8 разбурана) выш. 1–2 м, дыям. 5–12 м. Адкрыў і даследаваў 1 курган у 1973 Я.Р.Рыер. Выяўлена трупапалажэнне ў насыпе на попельным пласце, вышэй пахавання пласт вогнішча-трызны. У разбураных курганах знойдзены шыфернае прасліца, шкляныя пацеркі, бронзавыя і білонныя 7-прамянёвыя і бранзалетападобныя скроневыя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі, шыйныя грыўні, падвескі ў выглядзе званочкаў і крыжыкаў, літая фігурка з выявай прывязанага да каня чалавека, якая належыць да скандынаўскіх старажытнасцей, і інш. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: Риер Я.Г. Изучение курганов в Могилевском Поднепровье // Советская археология. 1976. № 2.

*Я.Р.Рыер.*

**КЕ́НЬКА** Павел Міхайлавіч (н. 22.12.1981, г. Мінск), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (2004). З 2007 у ІГ НАН Беларусі. Даследуе паселішчы ранняга сярэдневякоўя паўн. Беларусі, паясны набор 1–13 ст.

*Тв.*: Археологические раскопки в Докшицком и Лепельском районах Витебской области // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21; Наборный пояс второй половины X – первой половины XI в. Из деревни Заямочное Минского района // МАБ. 2006. № 12.

## Археалагічныя калекцыі ў музеях Беларусі

**Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь**
220030 г. Мінск, вул. К.Маркса, 12
(nmmrb@tut.by)

**Музей старажытнабеларускай культуры** Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі
220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2
(www.imef.basnet.by)

### БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Баранавіцкі краязнаўчы музей**
225320, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 72

**Бярозаўскі гісторыка-краязнаўчы музей**
225210, г. Бяроза, вул. Леніна, 67

**Брэсцкі абласны краязнаўчы музей**
224646, г. Брэст, вул. К.Маркса, 60
(brest_museum@brest.by)

**Ганцавіцкі краязнаўчы музей**
225432, Ганцавічы, вул. Заслонава, 1
(gantsevichi.museum.by)

**Івацэвіцкі гісторыка-краязнаўчы музей**
225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 18

**Жабінкаўскі гісторыка-краязнаўчы музей**
225110, в. Сяхновічы Жабінкаўскага р-на

**Лунінецкі краязнаўчы музей**
225650, г. Лунінец, вул. Савецкая, 16

**Музей Беларускага Палесся**
225710, г. Пінск, пл. Леніна, 22
(muz13@sis.kultura.by)

**Музей гісторыі горада Брэста**
224005, г. Брэст, вул. Леванеўскага, 3
(bresthistoty@tut.by)

**Столінскі краязнаўчы музей**
225510, г. Столін, парк «Манькавічы»
(muzej-st@mail.ru)

### ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Бешанковіцкі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
211350, г.п. Бешанковічы, вул. Валадарскага, 6

**Віцебскі абласны краязнаўчы музей**
210026, г. Віцебск, вул. Леніна, 36
(vokm2006@rambler.ru)

**Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей**
211800, г. Глыбокае, вул. Энгельса, 24
(www.glubmusej.of.by)

**Гарадоцкі раённы краязнаўчы музей**
211573, г. Гарадок, вул. Вароўскага, 3

**Лепельскі раённы краязнаўчы музей**
211174, г. Лепель, вул. Калініна, 66
(www.lepel.museum.by)

**Лёзненскі ваенна-гістарычны музей**
211220, г. Лёзна, вул. Леніна, 101

**Міёрскі гісторыка-этнаграфічны музей**
211930, г. Міёры, вул. Школьная, 12

**Музейны комплекс гісторыі і культуры**

**Аршаншчыны**
211391, г. Орша, вул. Свярдлова, 11а
(www.orsha.org)

**Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік**
211400, г. Полацк, вул. Ніжнепакроўская, 22
(www.polotsk.museum.by)

**Пастаўскі раённы краязнаўчы музей**
211840, г. Паставы, пл. Леніна, 11/2

**Сеннепскі гісторыка-краязнаўчы музей**
211120, г. Сянно, вул. Савецкая, 13

**Чашніцкі гістарычны музей**
211149, г. Чашнікі, пл. Свабоды, 1

**Шумілінскі гісторыка-краязнаўчы музей**
211260, г.п. Шуміліна, вул. Кароткіна, 12

## ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Гомельскі палацава-паркавы ансамбль**
246050, г. Гомель, пл. Леніна, 4
(www.palacegomel.by)

**Добрушскі раённы краязнаўчы музей**
247050, г. Добруш, вул. Паскевіча, 1
(www.museum.gomel-region.by)

**Ельскі краязнаўчы музей**
247820, г. Ельск, вул. Дзяржынскага, 1
(www.museum.gomel-region.by)

**Жлобінскі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей**
247210, г. Жлобін, вул. Першамайская, 85
(www.museum.gomel-region.by)

**Калінкавіцкі дзяржаўны краязнаўчы музей**
247710, г. Калінкавічы, вул. Інтэрнацыянальная, 11а
(www.museum.gomel-region.by)

**Лельчыцкі краязнаўчы музей**
247840, г.п. Лельчыцы, вул. Чырвонаармейская, 1 (www.museum.gomel-region.by)

**Мазырскі аб'яднаны краязнаўчы музей**
247760, г. Мазыр, вул. Гара Камунараў, 8
(www.museum.gomel-region.by)

**Музей гісторыі г. Светлагорска**
247400, г. Светлагорск, вул. Зялёная, 1
(www.museum.gomel-region.by)

**Петрыкаўскі раённы краязнаўчы музей**
247940, г. Петрыкаў, вул. Гагарына, 15
(www.museum.gomel-region.by).

**Рэчыцкі краязнаўчы музей**
247500, г. Рэчыца, вул. Савецкая, 31

**Тураўскі краязнаўчы музей**
247980, г. Тураў, вул. Кірава, 21
(www.museum.gomel-region.by)

**Хойніцкі краязнаўчы музей**
247600, г. Хойнікі, вул. Савецкая, 43
(www.museum.gomel-region.by)

**Чачэрскі гісторыка-этнаграфічны музей**
247150, г. Чачэрск, вул. Леніна, 2
(www.museum.gomel-region.by)

## ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Ваўкавыскі ваенна-гістарычны музей імя П.І.Баграціёна**
231900, г. Ваўкавыск, вул. Баграціёна, 10

**Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей**
230023, г. Гродна, вул. Замкавая, 20
(grodno_museum@tut.by)

**Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі**
230023, г. Гродна, вул. Савецкая, 8
(www.gosmuzeireligii.grodno.by)

**Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей**
231625, в. Гудзевічы, вул. Цэнтральная, 7
(yandex.gudevichi-muzey.narod.ru)

**Дзятлаўскі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей**
231471, г. Дзятлава, вул. Першамайская, 12
(www.museum.dzyatlava.by)

**Карэліцкі раённы краязнаўчы музей**
231430, г.п. Карэлічы, вул. Савецкая, 19

**Лідскі гісторыка-мастацкі музей**
231300, г. Ліда, вул. Перамогі, 37а
(www.lida.by)

**Навагрудскі гісторыка-краязнаўчы музей**
231400, г. Навагрудак, вул. Гродзенская, 2
(www.nikm.novogrudok.by)

**Ашмянскі краязнаўчы музей імя Ф.К.Багушэвіча**
231100, г. Ашмяны, вул. Савецкая, 128

**Свіслацкі гісторыка-краязнаўчы музей**
231960, г. Свіслач, вул. Леніна, 8

**Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя І.І.Стаброўскага**
231800, г. Слонім, пл. Леніна, 1
(www.museumslonim.grodno.by)

**Смаргонскі гісторыка-краязнаўчы музей**
231000, г. Смаргонь, вул. Кутузава, 23

## МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Асіповіцкі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
213761, г. Асіповічы, вул. Рабоча-Сялянская, 20

**Бабруйскі краязнаўчы музей**
213826, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 56/40

**Бабруйскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
213847, в. Сычкова, вул. Селязнёва, 16

**Быхаўскі раённы краязнаўчы музей**
213350, г. Быхаў, вул. Аскаленкі, 21

**Горацкі раённы гісторыка-этнаграфічны музей**
213404, г. Горкі, зав. Якубоўскага, 2

**Дрыбінскі раённы гісторыка-этнаграфічны музей**
213971, г.п. Дрыбін, вул. Савецкая, 5

**Жыліцкі гістарычны комплекс-музей**
213948, пас. Жылічы, вул. Міру, 5

**Клімавіцкі раённы краязнаўчы музей**
213633, г. Клімавічы, вул. Савецкая, 69

**Клічаўскі краязнаўчы музей**
213910, г.п. Клічаў, вул. Я.Зайца, 21

**Касцюковіцкі краязнаўчы музей**
213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 21

**Краснапольскі гісторыка-этнаграфічны музей**
213560, г.п. Краснаполле, вул. Антонава, 2

**Крычаўскі гісторыка-краязнаўчы музей**
213500, г. Крычаў, вул. Ленінская, 46а

**Круглянскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
213188, г.п. Круглае, вул. Савецкая, 40

**Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Е.Р.Раманава**
212030, г. Магілёў, пл. Савецкая, 1
(www.mogilewmuseum.iatp.by)

**Мсціслаўскі раённы гісторыка-археалагічны музей**
213470, г. Мсціслаў, вул. Калініна, 49

**Музей гісторыі Магілёва**
212030, г. Магілёў, вул. Ленінская, 13
(www.ratusha-mogilev.com)

**Хоцімскі гісторыка-краязнаўчы музей**
213660, г.п. Хоцімск, вул. Дзяржынскага, 13а

**Чавускі раённы краязнаўчы музей**
213206, г. Чавусы, вул. Савецкая, 1

**Чэрыкаўскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
213533, г. Чэрыкаў, вул. Ленінская, 180

**Шклоўскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
213010, г. Шклоў, вул. Савецкая, 46

## МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Барысаўскі аб'яднаны музей**
222120, г. Барысаў, пр. Рэвалюцыі, 67
(bormuseum@tut.by)

**Вілейскі краязнаўчы музей**
222410, г. Вілейка, пл. Свабоды, 1
(vil_museum@mail.ru)

**Дзяржынскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
222720, г. Дзяржынск, вул. Ленінградская, 6

**Жодзінскі краязнаўчы музей**
222160, г. Жодзіна, вул. Купрыянава, 15

**Івянецкі музей традыцыйнай культуры**
222370, г.п. Івянец, вул. Музейная, 2

**Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе»**
223036, г. Заслаўе, вул. Рыначная, 8а
(www.zaslaue.by)

**Капыльскі раённы краязнаўчы музей**
223910, г. Капыль, пл. Леніна, 4
(kopyl_muzey@tut.by)

**Крупскі гісторыка-краязнаўчы музей**
222010, г. Крупкі, вул. Зайцава, 5а

**Мінскі абласны краязнаўчы музей**
222310, г. Маладзечна, вул. Партызанская, 3
(www.mokm.actmol.by)

**Музей гісторыі Клетчыны**
222531, г. Клецк, вул. Гагарына, 6
(muzeikletsk@tut.by)

**Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж»**
222603, г. Нясвіж, вул. Ленінская, 19
(www.nesvizh-zapovednik.by)

**Нясвіжскі гісторыка-краязнаўчы музей**
222603, г. Нясвіж, вул. Ленінская, 96
(muz-nesviq@mail.ru)

**Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей**
222830, в. Блонь, вул. Санаторная, 5

**Слуцкі краязнаўчы музей**
223610, г. Слуцк, вул. Леніна, 171
(museum.slutsk@tut.by)

**Салігорскі дзяржаўны краязнаўчы музей**
223710, г. Салігорск, вул. Леніна, 5а
(kraeved-myzej@yandex.ru)

**Уздзенскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей**
223411, г. Узда, вул. Школьная, 4а
(ukmuseum-uzda@tut.by)

**Чэрвеньскі раённы краязнаўчы музей**
223210, г. Чэрвень, пл. Свабоды, 8
(chervenmuzey@tut.by)

## Спіс скарачэнняў

ААА – Acta Archaeologica Albaruthenica

абл. – абласны

АН – Акадэмія навук

арт. – артыкул

археал. – археалагічны

архіт. – архітэктурны

АСГЭ – Археологический сборник Государственного Эрмитажа, Ленинград

асн. – асноўны

б. – былы

БГЧ – Беларускі гістарычны часопіс

БДУ – Беларускі Дзяржаўны універсітэт

бел. – беларускі

буд. – будаўнічы

в. – вёска (пры назве)

ВАНБ. Сер. грамад. навук – Весці АН Беларусі. Серыя грамадскіх навук

в-аў – востраў (пры назве)

ВКЛ – Вялікае княства Літоўскае

ВНУ – вышэйшая навучальная ўстанова

вобл. – вобласць (пры назве)

воз. – возера (пры назве)

вып. – выпуск

выш. – вышыня (пры лічбе)

вял. – вялікі

г. – горад (пры назве); гады (1950-я г.)

га – гектар

газ. – газета (пры назве)

ГАЗ – Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск

гал. – галоўны

гандл. – гандлёвы

гар. – гарадскі

гасп. – гаспадарчы

геам. – геаметрычны

г.зн. – гэта значыць

гіст. – гістарычны

гл. – глядзі

глыб. – глыбіня (пры лічбе)

г.п. – гарадскі пасёлак

грэч. – грэчаскі

губ. – губерня (пры назве)

даўж. – даўжыня (пры лічбе)

дзярж. – дзяржаўны

д-р – доктар

дыям. – дыяметр

еўрап. – еўрапейскі

ж. – жыхар

жал. – жалезны

З – захад (напрамак свету)

заг. – загадчык

засн. – заснаваны

зах. – заходні

зб. – зборнік (пры назве)

ІГ – інстытут гісторыі

і г.д. – і гэтак далей

іл. – ілюстрацыя

ін-т – інстытут (пры назве)

інш. – іншы

к. – канец

канд. – кандыдат

кг – кілаграм

км – кіламетр

кн. – кніга (пры назве); кн. – князь (пры імені)

КСИА – Краткие сообщения Института археологии АН СССР. Москва

КСИИМК – Краткие сообщения о докладах и исследованиях Института истории материальной культуры. Москва

к-т – камітэт (пры назве)

культ. – культурны

лац. – лацінскі

літ. – літаратура; літоўскі

м – метр

$м^2$ – метр квадратны

МАБ – Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мінск

МИА – Материалы и исследования по археологии СССР. Москва

мін-ва – міністэрства

мяст. – мястэчка

мясц. – мясцовы

н. – нарадзіўся

навук. – навуковы

наз. – называецца

найб. – найбольшы, найбольш

НАН Беларусі – Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі

напр. – напрыклад

нар. – народны

нац. – нацыянальны

н.-д. – навукова-даследчы

НДІ – навукова-даследчы інстытут

н. ст. – новы стыль

н.э. – наша эра

пав. – павет (пры назве)

пал. – палавіна

пас. – пасёлак (пры назве)

пaўд. – паўднёвы

паўн. – паўночны

пач. – пачатак

ПГКБ – помнікі гісторыі і культуры Беларусі

Пд – поўдзень (напрамак свету)

ПдЗ – паўднёвы захад

ПдУ – паўднёвы ўсход

пл. – плошча

Пн – поўнач (напрамак свету)

ПнЗ – паўночны захад

ПнУ – паўночны ўсход

праф. – прафесар

р. – рака (пры назве)

РА – Расійская археалогія. Москва

РАН – Расійская акадэмія навук

р-н – раён (пры назве)

рус. – рускі

с. – сяло

СА – Советская археология. Москва

сав. – савецкі

САИ – Свод археологических источников. Москва

скульпт. – скульптурны

слав. – славянскі

СМ – Савет Міністраў

см – сантыметр

спец. – спецыяльны

ст. – стагоддзе, -і

старaж. – старажытны

сяр. – сярэдзіна

т – тона

таўшч. – таўшчыня (пры лічбе)

т-ва – таварыства

т.зв. – так званы

Тр. IX АС – Труды IX археологического съезда

тыс. – тысяча; тысячагоддзе

тэр. – тэрыторыя

У – усход (напрамак свету)

у т.л. – у тым ліку

укр. – украінскі

ун-т – універсітэт (пры назве)

ур. – урочышча

усх. – усходні

феад. – феадальны

фр-т – фрагмент

ф-т – факультэт

цэнтр. – цэнтральны

чал. – чалавек

час. – часопіс (пры назве)

чл. – член

чл.-кар. – член-карэспандэнт

чыг. – чыгуначны

чыг. ст. – чыгуначная станцыя

шыр. – шырыня

экз. – экзэмпляр

этнагр. – этнаграфічны

Даведачнае выданне

# АРХЕАЛОГІЯ БЕЛАРУСІ

Энцыклапедыя
У 2 тамах

Том 2

**Л – Я**

Складальнік ***Каласоўскі*** *Юрый Уладзіміравіч*

Рэдактары:
*Ю.В. Бажэнаў, В.В. Грынявецкі, В.М. Жук, В.А. Кавальчук, Ю.У. Каласоўскі, Дз.В. Кашавар, С.М. Несцярэнка, В.В. Федзьковіч*

Навукова-літаратурны кантроль: *І.Б. Клепікаў, В.М. Лапцева, М.Г. Нікіцін, Т.І. Ніш*т, *Л.У. Языковіч*

Мастацкае афармленне *Л.У. Ледзянёвай*

Мастацкі рэдактар *І.А. Грынь*

Графічная падрыхтоўка ілюстрацый *І.А. Грынь*

Картограф *А.А. Лукашоў*

Камп'ютэрная вёрстка *М.Э. Малярэвіч*

Карэктары: *Л.В. Кірыленка, В.А. Кульбіцкая, В.М. Лапцева, Д.Дз. Лемехава, С.М. Несцярэнка, А.І. Саламевіч, В.М. Чудакова*



Падпісана да друку 31.01.2011. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Ньютан. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 48,72. Ул.-выд. арк. 58,92.
Тыраж 2500 экз. Заказ 14.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494061 ад 03.02.2009 г. Зав. Калініна, 16,
220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009 г. Вул. Каржанеўскага, 20,
220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

**Археалогія Беларусі :** энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Л–Я / рэдкал. : Т.У. Бялова
A 87 (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. – 464 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0549-2.

У энцыклапедыі асвятляюцца археалагічныя культуры, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі і суседніх краін, археалагічныя помнікі (стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, селішчы, могільнікі, свяцілішчы і інш.), а таксама даследаваныя археолагамі помнікі архітэктуры сярэднявечча (мураваныя храмы, замкі, палацы і інш.), рэчы матэрыяльнай культуры і унікальныя творы першабытнага мастацтва. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, картамі, планамі і схемамі; разлічана на выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў сярэдніх школ і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 902/904(476)(031)**
**ББК 63.4(4Беи)я2**



